

Рэдактар Анатоль Крэйдзіч



ТВОРЧАЯ ГРУПА:
А. М. Крэйдзіч (рэдактар, аўтар праекта, укладальнік), У. М. Сенькавец (навуковы кіраўнік), Г. М. Снітко, В. Я. Ляшук, М. І. Яніцкі, Вяч. М. Смаль, Вал. М. Смаль, В. В. Бурдыка, Л. М. Валасюк.

“Літаратурная карта Берасцейшчыны” – гэта своеасаблівы навігатар па літаратурным “моры Герадота” як у прасторы, так і ў часе, для вучняў, студэнтаў, выкладчыкаў гуманітарных дысцыплін, бібліятэкараў, музейных работнікаў, экскурсаводаў, краязнаўцаў, наогул усіх, каму неабыякавая культура роднага краю і яе набыткі ў галіне слоўнага мастацтва. На сённяшні дзень яна не мае аналагаў у рэспубліцы. Яе старонкі знаёмяць з пісьменнікамі Берасцейшчыны і іх творчасцю, пачынаючы з сярэднявечча да сённяшняга часу, з літаратурнымі аб’яднаннямі і літаратурнымі мясцінамі, у ліку якіх дамы-музеі, мемарыяльныя дошкі, помнікі і да т. п.

Нягледзячы на тое, што творчай групай выканана велізарная работа, некаторыя важныя моманты літаратурнага жыцця маглі выслізнуць з-пад увагі стваральнікаў кнігі. Улічваючы гэтую акалічнасць, рэдакцыйны савет прадугледжвае праз некалькі год перавыданне “ЛКБ” – натуральна, дапоўненае і дапрацаванае.

Выданне шчодра ілюстравана фотаздымкамі. Разлічана на масавага чытача. Для зручнасці карыстальнікаў падзелена па раёнах, мае імянны ўказальнік.

## У ДОБРЫ ШЛЯХ, ЛІТКАРТА!

Перад вамі, шаноўныя чытачы, унікальнае выданне – “Літаратурная карта Берасцейшчыны”. Назва яго гаворыць сама за сябе: тут сабраны найбольш поўныя звесткі пра літаратуру і літаратараў нашай вобласці. Прычым поўныя яку прасторавым, так і часавым вымярэнні. Гэта і наша літаратурная спадчына, і дзень сённяшні.

Каля дзвюх соцень партрэтаў выдатных пісьменнікаў, нарысы літаратурнага жыцця кожнага рэгіёна берасцейскай зямлі, знаёмства з літаратурнымі аб’яднаннямі, расповеды пра літаратурныя мясціны і фотаілюстрацыі гэтых мясцін... Творчай групай прадстаўнікоў абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі і філалагічнага факультэта Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А.С.Пушкіна выканана сапраўды тытанічная работа. Натуральна, падобнага кшталту выданні выходзілі і раней, але такога маштабнага (кніга без перабольшаняя вартая статуса літаратурнай энцыклапедыі) не ведала дасюль ні наша вобласць, ні іншыя рэгёны Беларусі. Таму, калі паўстала пытанне аб стварэнні “Літаратурнай карты Берасцейшчыны”, абласны выканаўчы камітэт прыхільна сустрэў і адназначна падтрымаў гэтую прапанову пісьменнікаў і навукоўцаў-філолагаў.

“Карта” дае магчымасць усім, каму неабыякавая літаратура свайго краю, хто вывучае яе ў навучальных установах альбо займаецца яе даследаваннем, а таксама працуе ў ёй прафесійна, убачыць цэласную і поўную карціну літаратурнага жыцця вобласці ў разрэзе стагоддзяў і рэгіёнаў.

Няхай жа старонкі гэтай кнігі стануць добрымі дарадцамі і натхняльнікамі для як мага большай колькасці чытачоў на шляху да новых не толькі літаратурных, але і наогул духоўных, інтэлектуальных, а таксама матэрыяльных здабыткаў.

*Старшыня Брэсцкага абласнога*
*выканаўчага камітэта* *К. А. Сумар*



**ЗАМЕСТ ПРАДМОВЫ**

*Берасцейскім родным краем*
*Я бязмежна ганаруся.*
*Велічава услаўляю*
*Шлях да зорнай Беларусі.*
*На зямлі і ў паднябессі,*
*На касмічных тых высотах*
*Наша славіцца Палессе*
*Дружбай, песняй і работай.*
*Дзе б ні быў – мілей вяртанне*
*На дамашнюю прапіску,*
*Вокны свецяцца каханнем*
*Ці здалёку, ці то зблізку.*
*Брэсцкіх вуліц і бульвараў*
*Упрыгожаны алеі.*
*Памяць вечная ахвярам*
*Гераічнай цытадэлі.*
*Думкай хуткай акрыляю*
*Край любімы, самабытны;*
*Без цябе жыцця не знаю:*
*Моцны Лунінец гранітны,*
*Пінск – палеская сталіца,*
*І Бяроза, і Пружаны,*
*Камянецкая крыніца,*
*Маларыта, Кобрын, Янаў...*
*Даспадобы кожны звычай*
*У жыццёвай нашай долі.*
*Побач Жабінка, Драгічын,*
*На Гарыні слаўны Столін.*
*Стужкі рэк, азёраў шкельцы*
*“Алімпійкаю” спавіты.*
*Скарбам продак адгукнецца –*
*Белавежай знакамітай.*
*Мне з Баранавіч на вейкі*
*Тапалiным пухам – лета.*
*І пяюць няспынна рэйкі*
*На пяці напрамках свету.*
*Вабяць Ляхавіч прасторы,*
*Ганцавіцкі шум дубровы,*
*Івацэвічаў узоры...*
*Край мой мілы – васільковы,*
*Жытні, вербны, чаратовы...*

*Георгій ТАМАШЭВІЧ*

# БРЭСТ

Амаль тысячу гадоў назад ля сутокаў Заходняга Буга і Мухаўца нашы продкі заснавалі паселішча, якое дало пачатак цяперашняму Брэсту. У час археалагічных раскопак гарадзішча старажытнага Бярэсця, якія вяліся на працягу 1969–1981 гадоў на чале з гісторыкам П.Ф. Лысенка, былі знойдзены цэлы гарадскі драўляны квартал плошчай больш за тысячу квадратных метраў і шмат прадметаў – жаночыя ўпрыгожванні, рэчы хатняга ўжытку, прылады працы і інш. Сярод каштоўных знаходак – самшытавы грабеньчык з азбукай-кірыліцай і пісала. На абодвух баках грабянца выразаны літары алфавіта: на адным баку – ад “а” да “е”, на другім – ад “ж” да “ы”. Відаць, ён служыў своеасаблівым букваром, па якім берасцейцы-гараджане вучыліся грамаце ў канцы XII – XIII стагоддзях.

У сярэдзіне XVI стагоддзя – з 1553 па 1570 год – у горадзе дзейнічала друкарня, заснаваная берасцейскім старастам, некаранаваным уладаром Вялікага княства Літоўскага Мікалаем Радзівілам Чорным. У ёй былі выдадзены каля 40 кніг на польскай і лацінскай мовах, у тым ліку шэдэўр кнігадрукарскага мастацтва Брэсцкая ці, як яе яшчэ называюць, Радзівілаўская Біблія (1563).

Берасцейцам былі вядомы і скарынінскія выданні. Так, у асабістай бібліятэцы нашчадкаў берасцейскага купца і мецэната Івана Гурына ў 1624 годзе налічвалася 18 кніг, тры з якіх – кнігі Ф. Скарыны. Такая колькасць выданняў у доме звычайнага гараджаніна Брэста – дзіўны факт не толькі ў гісторыі Беларусі, але нават у гісторыі Еўропы. Краязнаўца А. Ільін дапускае думку, што Францыск Скарына, выконваючы што-кольвек з даручэнняў бацькі і брата Івана, якія вялі актыўны гандаль з рознымі гарадамі, “у свой час пазнаёміўся з берасцейскім мецэнатам Іванам Гурыным і падараваў яму свае кнігі, якія потым перайшлі да нашчадкаў берасцейца”.

Пасля ўтварэння Рэчы Паспалітай (1569) пачаўся інтэнсіўны наплыў на Беларусь прадстаўнікоў розных каталіцкіх ордэнаў: францысканцаў, бернардзінцаў, дамініканцаў, кармялітаў, езуітаў і інш. Пры падтрымцы ўлад яны параўнальна хутка абжываліся ў краі, спрыялі пашырэнню каталіцызму на нашых землях. Важную ролю ў барацьбе з акаталічваннем мясцовага насельніцтва адыгравалі ў той час праваслаўныя брацтвы. У Брэсце найбольш вядомым было брацтва пры царкве святога Міколы, створанае ў 1591 годзе. У гэтым жа годзе ім была адкрыта першая і самая вялікая ў горадзе брацкая школа. У ёй тры гады, з 1592 па 1595, працаваў настаўнікам царкоўнаславянскай і грэчаскай моў вядомы беларускі педагог-гуманіст, рэлігійны дзеяч, моваведі перакладчык Лаўрэнцій Зізаній. У Брэсце ён падрыхтаваў да выдання дзве вучэбныя кнігі: “Лексис” і “Грамматику словенску съвершеннаго искуства осми частій слова и иных нуждных”, якія пазней убачылі свет у Вільні.

Восенню 1596 года ў Брэсце адбылося абвяшчэнне царкоўнай уніі. Горад стаў адным з цэнтраў рэлігійнай барацьбы паміж праваслаўнымі вернікамі, з аднаго боку, і каталікамі – з другога. Гэта паслужыла галоўнай прычынай з’яў-



лення палемічнай літаратуры. У другой палове XVI – пачатку XVII стагоддзя з Брэстам была звязана грамадска-палітычная, рэлігійная і літаратурная дзейнасць пісьменнікаў-палемістаў Іпацiя Пацея, Ільі Марахоўскага, Афанасія Філіповіча.

Іпацій Пацей (1541–1613, ураджэнец Камянеччыны) прадстаўляў Брэсцкае ваяводства на Люблінскім сейме 1569 года, дзе падпісаў акт уніі Вялікага княства Літоўскага з Польскім каралеўствам. У пачатку 1577 г. атрымаў пасаду брэсцкага суддзі, у 1588 – быў прызначаны брэсцкім кашталянам. Некаторы час падтрымліваў дзейнасць праваслаўных брацтваў, стаў заснавальнікам Брэсцкага брацтва. Пасля смерці ўладзімірска-брэсцкага епіскапа Мялеція Храптовіча Іпацій Пацей узначаліў вакантную кафедру (1593 г.). Быў гарачым прыхільнікам аб'яднання праваслаўнай царквы з каталіцкай, адным з арганізатараў і ўдзельнікаў Брэсцкага царкоўнага сабора. Словам і справай змагаўся за пашырэнне і ўмацаванне уніі. Яго пяру належыць шэраг твораў – "Унія", "Гармонія", "Размова берасцяніна з братчыкам" і інш.

Пасля смерці Іпація Пацея кароль выдаў прывілей на Уладзіміра-Брэсцкае епіскапства Ільі Марахоўскаму (каля 1576–1631, родам з Львова). Як пісьменнік-палеміст ён выступаў у абарону уніі. Даследчыкі мяркуюць, што кнігі "Гармонія" і "Рэляцыя", якія выйшлі ў Вільні ў 1608 і 1609 гадах, напісаны ім у сааўтарстве з Іпаціем Пацеем.

Рэлігійна-палітычная і літаратурная дзейнасць Афанасія Філіповіча была скіравана супраць уніі, у абарону праваслаўнага насельніцтва краю.

Актыўную прапаганду ідэй каталіцызму на заходніх землях Беларусі, асабліва на Палессі, праводзіў ордэн езуітаў. У 1616 годзе езуіты па запрашэнні луцкага епіскапа Паўла Валуцкага ўпершыню наведалі Брэст. У хуткім часе – 1620 г. – брэсцкі ваявода Астафій Валовіч падараваў новай арганізацыі фальварак Адамкова (цяпер частка горада), які стаў рэзідэнцыяй езуітаў. Па ўсёй тэрыторыі Берасцейшчыны яны набывалі фальваркі і маёнткі, а ў Брэсце пабудавалі кляштар, калегіум, бібліятэку і аптэку. Двухпавярховы будынак Брэсцкага езуіцкага калегіума быў пабудаваны ў 1620-х гадах і лічыўся сярэдняй навучальнай установай класічнага тыпу. У ім вучыліся "брэсцкі Джардана Бруна" Казімір Лышчынскі (1634–1689, родам з вёскі Лышчыцы Брэсцкага раёна), а таксама будучыя пісьменнікі Марцін Матушэвіч (1714–1773, радзіма – Камянецкі раён) і Юльян Нямцэвіч (1758–1841, нарадзіўся на тэрыторыі сучаснага Брэсцкага раёна).

У Брэсце пачыналася кар'ера М. Матушэвіча як дзяржаўнага чыноўніка. У дваццаць пяць гадоў ён атрымаў сваю першую пасаду – берасцейскага гарадскога пісара. З часам яму давялося займаць іншыя, больш высокія пасады: у 1752 годзе – стольніка, а ў 1768 – берасцейскага кашталяна і сенатара Рэчы Паспалітай.

У сувязі з вайной 1812 года ў Брэсце апынуліся вядомыя рускія пісьменнікі А.С. Грыбаедаў, А.А. Шахоўскі і Ф.М. Глінка. Апошні з названых – Фёдар Глінка (1786–1880) – у складзе рускіх войск вызваляў сваю радзіму ад французскіх захопнікаў, удзельнічаў у замежным паходзе. У 1813 годзе, вяртаючыся назад,

яго шлях пралёг праз Брэст. Ф. Глінку ўразілі разбурэнні, якія прынесла гораду вайна з Напалеонам. “Брэст вельмі абрабаваны. Усё выяўляе ў ім выгляд беднасці”, – чытаем у дзённіку “Пісьмы рускага афіцэра”. З гэтага ж дзённіка даведваемся, што ў Брэсце Ф. Глінка агледзеў помнікі дойлідства і меў мажлівасць “маліцца ў рускай царкве”.

У 1814 годзе ваенны шлях прывёў у Брэст паэта, дзекабрыста Канстанціна Рылеева (1795–1825). Батарэя, у якой ён служыў, таксама вярталася з-за мяжы і з Брэста накіравалася ў мястэчка Сталавічы, што на Баранавіччыне.

Некалькі кароткіх заўваг пра Брэст пакінуў вядомы рускі паэт П.А. Вяземскі (1792–1878). У час службы ў канцылярыі віднага саноўніка Навасільцава, якая знаходзілася ў Варшаве, Вяземскі не адзін раз праязджаў праз наш горад. У пачатку 1818 года вымушаны быў тут затрымацца – разам з іншымі супрацоўнікамі канцэлярыі выехаў сустракаць цара Аляксандра I, які накіроўваўся ў Варшаву на пасяджэнне польскага сейма. У запісной кніжцы П.А. Вяземскі занатаваў свае ўражанні ад нашага краю, адзначыў, што “Брэст меў адну са старажытных друкарняў. Буг тут вузкі”.

Дакладна вядома пра прыбыванне ў Брэсце В.К. Кюхельбекера і П.Я. Чаадаева. Вільгельм Карлавіч Кюхельбекер (1797–1846) быў адзіным, хто пазбегнуў арышта адразу пасля разгрому паўстання дзекабрыстаў. Яму ўдалося дабрацца да Брэста і з дапамогай аднаго з мясцовых жыхароў пераправіцца праз Буг. Праз некаторы час ён быў апазнаны і арыштаваны ў Варшаве. Паэта-дзекабрыста зноў прывезлі ў Брэст. У рапарце брэсцкага земскага спраўніка гродзенскаму цывільнаму губернатару М. Бабяцінскаму ад 21 студзеня 1826 года паведамлялася, што Кюхельбекер “быў правезены скаваным праз горад Брэст у сталіцу С.-Пецярбург пад строгім канвоем на кур’ерскіх конях... На паштовай станцыі, пры допыце, брэсцкаму гараднічаму паказаў, што ён следаваў да граніцы ніжэй пункта Граннай, пакінуўшы свайго чалавека, сам жа адправіўся ў царства Польскае”.

Летам 1826 года больш за месяц правёў у Брэсце Пётр Якаўлевіч Чаадаеў (1794–1856). Вяртаючыся з замежнага падарожжа ў Расійскую імперыю, у пагранічным горадзе яго затрымалі пры мытным аглядзе. І не дзіўна: П.Я. - Чаадаеў быў асабіста знаёмы з многімі ўдзельнікамі паўстання дзекабрыстаў, і за ім быў устаноўлены тайны паліцэйскі нагляд. У час вобыску ў яго канфіскавалі лісты ад Тургенева, перапісаныя ад рукі вершы А.С. Пушкіна і забароненыя для распаўсюджвання ў Расіі кнігі “Гісторыя французскай рэвалюцыі” Мінье і творы Бенжамена Канстана.

Праз два тыдні ў лісце да свайго брата Чаадаеў пісаў з Брэста: “Са мной тут здарыўся дзівосны выпадак. Калі прыехаў сюды, дык быў агледжаны на мытні даволі строга; між іншым, узяты былі ў мяне паперы як звычайна для прагляду. Да гэтага часу іх мне не вярнулі. Напэўна, паслалі ў другое месца, каб разабралі, а можа быць, знайшоўшы там некалькі пісьмаў ад Тургенева, паслалі іх куды-небудзь на прагляд”.

У Брэсце П. Чаадаеў жыў, відаць, у каго-небудзь з мясцовых жыхароў. 26 жніўня ён даў свае паказанні і праз некалькі дзён пакінуў горад.



Навуковыя зацікаўленні прывялі на Берасцейшчыну вядомага этнографа Паўла Шпілеўскага (1823–1861). Яго экспедыцыя па Беларусі пачалася з Варшавы ў 1853 годзе. За тры гады ён аб'ехаў Гродзенскую, Мінскую, Магілёўскую і Віцебскую губерні. У выніку з'явіўся цыкл нарысаў "Падарожжа па Палессі і Беларускім краі" (заўважым, што пад назвай "Беларускі край" П. Шпілеўскі разумеў толькі тэрыторыю паміж Дняпром і Заходняй Дзвіной – Віцебскую, Мінскую і часткова Смаленскую губерні; астатнюю тэрыторыю Беларусі, у тым ліку Берасцейшчыну, ён выдзяляў у асобны рэгіён, называючы яго Палессем).

"Падарожжа..." складаецца з 13 гісторыка-этнаграфічных і публіцыстычных нарысаў. Адзін з іх, трэці, прысвечаны Брэсту. Усяго дзень вучоны-этнограф правёў тут, аднак горад пакінуў у яго прыемныя ўражанні. У сваім нарысе пра Брэст-Літоўск ён адзначае яго маляўнічыя ваколіцы, згадвае слаўную гісторыю, дае апісанне тагачаснага старога і новага горада, прыводзіць цікавыя звесткі з жыцця і побыту берасцейцаў. Так, даследчык зазначае, што ў горадзе на той час не было ні тэатра, ні якіх-небудзь іншых месц, прызначаных для правядзення народных свят і гарадскіх гулянняў. Традыцыйна яны наладжваліся за шэсць вёрст ад горада, у вёсцы Баравая. У дэталях аўтар расказвае пра сустрэчу з чатырма пінчукамі на Узбярэжнай, апісвае курган на правым беразе Мухаўца – рэшткі старажытнага капішча багіні Мажаны, згадвае пра наведванне яўрэйскай сінагогі.

Бываў у Брэсце і яго ваколіцах кіраўнік нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863–1864 гг. Кастусь Каліноўскі (1838–1864).

К. Каліноўскі выдатна разумеў сілу друкаванага слова, здольнага ўзняць народ на барацьбу. Невыпадкова ён узяўся за выданне першай беларускай газеты "Мужыцкая праўда". Першае знаёмства сялян з нелегальнай газетай адбылося менавіта на Берасцейшчыне. 10 чэрвеня 1862 года селянін Місей Геліч з вёскі Бярозаўка (цяпер тэрыторыя Брэста) знайшоў на сваім полі першы нумар газеты. Праз некаторы час, 27 снежня, чацвёрты нумар "Мужыцкай праўды" быў знойдзены ваенным начальнікам Брэста падпалкоўнікам Вімбергам у самым цэнтры горада – на прыступках касцёла.

Актыўны ўдзел у паўстанні 1863 года прымала вядомая польскамоўная пісьменніца Эліза Ажэшка (1841–1910), якая на той час жыла ў маёнтку Людвінава на Драгічыншчыне. Менавіта яна ўратавала жыццё кіраўніку палескага паўстанцкага атрада Рамуальду Траўгуту – прывезла яго ў Брэст, адкуль той накіраваўся ў Варшаву. У горадзе Эліза затрымалася ў сваякоў на тыдзень, а потым вярнулася ў Людвінава.

У 1867 годзе па дарозе з Дрэздэна ўсвой маёнтак Чырвоны Рог Чарнігаўскай губерні ў Брэст-Літоўску спыніўся Аляксей Канстанцінавіч Талстой (1817–1875). У фондах рукапіснага аддзела Пушкінскага дома ў Пецярбургу знойдзены яго ліст, які быў напісаны ў нашым горадзе і адрасаваны вядомай рускай паэтцы і перакладчыцы Караліне Паўлавай (1807–1893). У гэтым лісце А. Талстой пісаў: "Простите, милостивая государыня, что я не прислал Вам из Варшавы те 100 талеров, которые должны были дополнить сумму, предназначен-

ную для печатания «Дон Жуана». Я пишу в Петербург, чтобы Вам их немедленно выслали или же, чтобы их передали г-ну Булгакову, который в этом случае Вам их доставит…". Вядома, што К. Паўлава перакладала на нямецкую мову творы А. Талстога, а грошы, пра якія згадваў пісьменнік у лісце, неабходны былі для выдання яго твораў у Дрэздэне, дзе на той час жыла перакладчыца.

З 1867 па 1870 год Брэст быў часовым месцам жыхарства і творчасці рускага пісьменніка-разначынца Фёдара Міхайлавіча Рашэтнікава.

Апошнія гады свайго жыцця пражыў у нашым горадзе украінскі пісьменнік Аляксей Пятровіч Старажэнка (1806–1874). У 1868 годзе ён выйшаў у адстаўку ў чыне сапраўднага статскага саветніка і пасяліўся на Трышанскім хутары, які тады знаходзіўся паблізу мястэчка (сёння адзін з раёнаў Брэста). У Брэсце А. Старажэнка выконваў абавязкі павятовага кіраўніка шляхты і старшыні міравых пасрэднікаў. "Па ўспамінах сучаснікаў, – піша У. Замкавец, – ён усёй сваёй паставай нагадваў тых запарожцаў, пра якіх расказваў у сваіх творах. Чалавекам быў энергічным, моцнага здароўя і сілы, але апошнія гады часта напаміналa пра сябе даўняя кантузія. Як і кожны таленавіты чалавек, ён меў шмат захапленняў. Граў на віяланчэлі, маляваў, ляпіў і быў нават узнагароджаны медалём Акадэміі мастацтваў. Любіў таксама садаводства, паляванне, рыбалку. Асеннімі ды зімовымі вечарамі Аляксей Старажэнка часта бываў сярод знаёмых, цікавіўся літаратурнымі навінамі, дзяліўся ўспамінамі пра перажытае".

У Брэсце А.П. Старажэнка завяршыў працу над раманам "Былое, не минувшее" пра паўстанне 1863–1864 гг. (твор быў дасланы ў рэдакцыю маскоўскага часопіса "Русский вестник", дзе згубіўся), а таксама працаваў над паэмаю "Марко Проклятий" (друкавалася ў львоўскім часопісе "Праўда").

6 лістапада 1874 года берасцейцы правялі Аляксея Пятровіча ў апошні шлях. Пахавалі на Трышынскіх могілках, дзе і сёння спачывае вядомы пісьменнік.

Брэст з'яўляецца радзімай Яўгеніі Лінёвай (1853–1919) і Алеся Цвікевіча (1888–1937). Я. Лінёва (у замужстве Панрыц) вядома як фалькларыст, а А. Цвікевіч – як палітычны дзеяч, вучоны, публіцыст. Яго працы "Краткий очерк возникновения Белорусской Народной Республики" (Киев, 1918), "Беларусь. Политический очерк" (Берлин, 1919) і "Западно-руссизм" (1929) сталі каштоўнымі крыніцамі звестак па гісторыі нашай краіны, асабліва пачатку ХХ стагоддзя.

У Брэсце нарадзіліся знакамітыя польскія пісьменнікі Ігар Сікірыцкі, Уладзімір Мацэнг, Х. Джаноўскі. Ігар Сікірыцкі (1920–1985) пасля заканчэння Люблінскага і Лодзінскага універсітэтаў жыў у Лодзі. Працаваў на радыё, а таксама ў тэатрах сатыры і "Арлекін". Друкавацца пачаў з 1944 года. Выдаў некалькі паэтычных зборнікаў: "Кліканне дрэў" (1950), "Забаўкі і эпіграмы" (1959), "Асцярожна, свежанапісанае" (1963), "Начны улоў" (1966). Напісаў аповесць "Сямёра адсутных" (1970). Вядомы яшчэ як дзіцячы пісьменнік і перакладчык. Перакладаў на польскую мову творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, А. Куляшова, У. Жылкі, М. Аўрамчыка, М. Танка, а таксама творы грузінскіх і армянскіх мастакоў слова. Асобныя творы І. Сікірыцкага загучалі па-беларуску, дзякуючы Н. Гілевічу, М. Танку, Р. Барадуліну.



Уладзімір Мацёнг – польскі эсэіст, літаратурны крытык, аўтар шэрагу артыкулаў і кніг пра Беларусь – нарадзіўся ў Брэсце ў 1925 годзе. Х. Джаноўскі жыве ў Варшаве і выступае ў жанры паэзіі.

У час Першай сусветнай вайны ў Брэсце не раз бываў вядомы рускі пісьменнік Канстанцін Паўстоўскі (1892–1968). Ён – спачатку санітар на поездзе, а затым палявы санітар – разам з войскамі апынуўся ў нашым краі, пра што сведчаць раман "Рамантыкі" і "Аповесць пра жыццё". У першым з названых твораў апавядальнікам выступае пісьменнік Максімаў, які з адным з атрадаў земскага саюза трапіў у Брэст. З рэалій горада ў раман увайшлі вакзал, Брэсцкая крэпасць, гарнізонны клуб, старыя пірамідальныя дубы. К. Паўстоўскі паказвае, што рускія войскі ўзрывалі фарты крэпасці, чыгуначны вузел, іншыя важныя аб'екты. Насельніцтва прымусова выганялася ў бежанства. Пісьменнік і яго герой пратэстуюць супраць вайны, якая калечыла лёсы людзей, прыносіла смерць і разбурэнні.

Выразны антываенны характар мае і аўтабіяграфічная "Аповесць пра жыццё". К. Паўстоўскі аддаў герою-апавядальніку сваё імя і прозвішча, сваю біяграфію. Спачатку ён як санітар палявога поезда апынуўся ў Брэсце. У творы ёсць пейзажная замалёўка горада, якая падаецца праз успрыманне героя: "На фронце было зацішша, і таму мы доўга прастаялі ў Брэсце – роўным горадзе сярод сумных раўнінаў. Над гэтымі раўнінамі праходзіла такая самая сумная, як і яны самі, вясна. Толькі дзьмухаўцы цвілі па межах. Сонечнае святло здавалася белаватым, – неба ўвесь час пакрыта туманам".

У Брэсце з К. Паўстоўскім "адбылося дзіўнае здарэнне. Сярод палонных аўстрыйцаў, "ворагаў", ён сустрэў абсалютнага свайго двайніка. Выключна ўсё, нават радзімыя знакі, у іх супадалі. Абодва зніякавелі. Былі ўражаны і іншыя, хто бачыў гэтых аднолькавых двух людзей, якія ваявалі адзін супраць другога" (В. Ляшук).

У рамане "Рамантыкі" і "Аповесць пра жыццё" згадваюцца і іншыя мясціны Берасцейшчыны, з якімі была звязана ваенная біяграфія іх аўтара: Чарнаўчыцы, Кобрын, Пружаны, Ружаны, Баранавічы, Лунінец і інш.

У заходнебеларускі перыяд вязнямі Брэсцкай турмы былі арганізатары і актыўныя ўдзельнікі нацыянальна-вызваленчага руху ў нашым краі, пісьменнікі Аляксандр Гаўрылюк (1911–1941, нар. у в. Забалацце Бела-Падляскага павета – цяпер тэрыторыя Польшчы), Піліп Пестрак (1903–1978, нар. у в. Сакаўцы Івацэвіцкага раёна) і Васіль Ласковіч (нар. у 1914 г. у в. Франопаль Брэсцкага раёна). А. Гаўрылюк напісаў у турме верш "Голова ж ти моя нелегальна...", які стаў папулярнай песняй, гімнам рэвалюцыйнага падполля ў Заходняй Беларусі і на Украіне. На той час паэт прайшоў літаратурную школу сельробаўскай прэсы (супрацоўнічаў з газетамі "Сельроб" і "Сила", часопісам "Вікна", што выдаваліся ў Львове), быў аўтарам шэрагу твораў – верша "Спогади політвязня", апавядання "Прощайте" і інш.

У лютым 1949 года ў брэсцкай турме апынулася беларуская паэтка Ларыса Геніюш (1910–1983). Л. Геніюш арыштавалі ў Чэхаславакіі, дзе яна жыла з сям'ёй – мужам Янкам, лекарам, і сынам Юркам. Даставілі ў Мінск. Судзілі.

Дваццаць пяць гадоў папраўча-працоўных лагераў – такая мера пакарання была адмерана і ёй, і яму Вярхоўным судом БССР. Потым асуджаных адправілі на перасылку ў Брэст. Генюш не ўпершыню трапіла ў пагранічны горад. Яны і раней бывалі тут – гасцявалі ў сваякоў Ларысы. На гэты раз адсюль іх павінны былі адправіць у лагер.

*Крывёй напоўніліся поймы рэк,*
*Бурліць адчаем слёз людскіх разводдзе,*
*Гляджу на свет. Я – лагернік, я – зэк,*
*Засуджаны на мукаў чвэрць стагоддзя.*
*Мяне драты, сабакі сцерагуць,*
*Дзікіх надзораў зграя нада мною,*
*І лоб штодня мой на прыцэл бяруць*
*Навучаныя забіваць канвоі...*

Гэтыя выпрабаванні, страшныя пакуты закончыліся для Ларысы Генюш у 1956 годзе. Яна вярнулася на радзіму – у Зэльву, што на Гродзеншчыне. Не раз прыязджала ў Брэст да сваякоў, сустракалася з У.А. Калеснікам.

У 1939 годзе ў горад трапілі рускія пісьменнікі Аляксандр Твардоўскі (1910–1971) і Яўген Далматоўскі. А. Твардоўскі ў гэты час быў прызваны ў войска і як ваенны карэспандэнт газеты “Часовой Родины” пабываў у многіх кутках Берасцейшчыны. Стаў рэдактарам паэтычнага зборніка “Фронтовые стихи”, які выйшаў у Брэсце ў друкарні М. Таненбаума ў 1939 годзе. У зборнік увайшлі творы С. Кірсанава, І. Фрэнкеля, Я. Далматоўскага, П. Слесарава, С. Фіксіна і самога А. Твардоўскага. У канцы кнігі былі змешчаны беларускія прыпеўкі, якія перадалі паэту дзяўчаты з Івацэвічаў. На рускую мову іх, відаць, пераклаў сам рэдактар.

Яўгена Далматоўскага ваенны лёс прыводзіў у Брэст двойчы – у 1939 і ў 1944 гадах. Гораду ён прысвяціў адзін з вершаў і апісаў наш край у нарысе “Праз балоты і лясы”.

З 1939 года пачала выходзіць брэсцкая абласная газета “Заря”. Загадчыкам аддзела культуры гэтай газеты ў 1939–1940 гг. працавала літаратуразнаўца, метадыст Марына Барсток (1916–1994). Яе намаганнямі было створана і распачало работу пад яе кіраўніцтвам літаратурнае аб’яднанне пісьменнікаў Берасцейшчыны “Заранка”.

У 1940 годзе на службу ў Брэст прыбыў украінскі паэт Іван Чумачэнка (1918–1941). Тут ім былі напісаны многія вершы, якія захаваліся і некаторыя з іх загучалі па-беларуску ў перакладах М. Рудкоўскага, М. Пракаповіча, А. Каско. У адных крыніцах значыцца, што у чэрвені 1941 года І. Чумачэнку ўдалося вырвацца з Брэста, аднак у снежні гэтага ж года ён прапаў без вестак. У другіх – паэт загінуў у першыя дні вайны пры абароне Брэсцкай крэпасці.

У ліпені 1940 года ў час творчай камандзіроўкі горад наведаў А.С. Новікаў-Прыбой (1877–1944). Ён сустракаўся з вайскоўцамі і іх сем’ямі, з маладымі літаратарамі краю і настаўнікамі, чытаў урыўкі з рамана “Цусіма”, расказваў пра знаёмства з Максімам Горкім, дзяліўся творчымі планамі. Праз газету “Заря” А.С. Новікаў-Прыбой вітаў жыхароў Берасцейшчыны, выказаў



ім падзяку за цёплы прыём.

У час Вялікай Айчыннай вайны праз Брэст праляглі франтавыя дарогі Сяргея Бабронка, Яўгена Далматоўскага, Івана Чумачэнка, Алеся Махнача, А. Каландадзе, Ежы Цеслікоўскага, Міколы Засіма. Пералічаныя мастакі слова (за выключэннем Я. Далматоўскага і М. Засіма) былі ўдзельнікамі абароны Брэсцкай крэпасці.

Крэпасці над Бугам і яе абаронцам прысвяцілі свае творы пісьменнікі розных нацыянальнасцей – беларусы, рускія, украінцы, армяне, літоўцы, балгары, грэкі, чэхі і інш. Мастацкі летапіс абароны Брэсцкай крэпасці стварылі К. Чорны, К. Губарэвіч, І. Арабейка, Р. Барадулін, А. Разанаў, А. Махнач, М. Рудкоўскі, А. Грачанікаў, С. Законнікаў, А. Пысін, К. Сіманаў, С. Смірноў, Б. Васільеў, Ю. Друніна, Л. Ашанін, Б. Алейнік, М. Зідараў, С. Паптонеў, А. Парніс, Г. Эльсевар і інш.

Сярод выпускнікоў 1946 года сярэдняй школы №3 горада Брэста была будучы крытык, літаратуразнаўца, метадыст Маргарыта Яфімава (нар. у 1927 г.)

Ужо ў першае пасляваеннае дзесяцігоддзе Брэст стаў адным з цэнтраў літаратурна-культурнага жыцця рэгіёна. У жніўні 1945 года яго наведалі выдатныя беларускія пісьменнікі П. Броўка, П. Глебка, М. Лынькоў і М. Танк. 13 лістапада гэтага ж года спектаклем па п’есе М. Горкага “Мяшчане” распачаў сваю работу Брэсцкі абласны драматычны тэатр. У горадзе двойчы, у маі 1947 і ў лютым 1954 года, адбыліся нарады маладых пісьменнікаў Беларусі.

Літаратурным аб’яднаннем “Заранка”, актыў якога на той час складалі В. Сурская і яе муж тэатральна-мастацкі крытык А. Сурскі, В. Праскураў, З. -Вагер, М. Цялічка, А. Авечкін, адразу пасля вайны кіраваў рускі паэт Міхаіл Луконін (1918–1976). Ён некаторы час яшчэ служыў вайскоўцам у Брэсцкім гарнізоне і гуртаваў літаратурныя таленты. У паэтычнай спадчыне М. Луконіна ёсць толькі адзін верш, прысвечаны гораду, – “В Бресте”. Брэст першага пасляваеннага года апісаны ім таксама ў кнізе артыкулаў “Товарищ поэзия” (1963).

У вызвалены горад з партызанскіх баз прыбылі рэдакцыі дзвюх падпольных газет – органа абкама КПБ “Заря” і органа абласнога антыфашысцкага камітэта “За Родину”. Іх супрацоўнікі фактычна і склалі новую рэдакцыю абласной газеты “Заря”, якая пачала выходзіць на беларускай і рускай мовах, што задавальняла інтарэсы як беларускамоўных, так і рускамоўных пісьменнікаў. У 1948 годзе на працу ў рэдакцыю газеты быў накіраваны Мікола Засім (1908–1957, нар. у в. Шані Пружанскага раёна), які ўзначаліў літаратурнае аб’яднанне і да канца жыцця быў яго душой і нязменным кіраўніком.

У рэдакцыі газеты “Заря” у розны час працавалі Вера Сурская (1899–1952), Аляксандр Авечкін (1913–1980), Уладзімір Ягоўдзік (нар. у 1956 г.) і іншыя літаратары. В. Сурская – паэтка, вядомая дзіцячая пісьменніца, заснавальніца першага ў Беларусі дзіцячага тэатра лялек – прыехала ў Брэст услед за мужам восенню 1945 года і актыўна ўключылася ў літаратурнае жыццё горада. Аляксандр Авечкін у якасці карэспандэнта газеты “Савецкі селянін” апынуўся тут у

1951 годзе. У час працы ў Брэсце напісаў шэраг апавяданняў, якія ўвайшлі ў кнігу прозы для дзяцей “Подзвіг сігналіста” (1958), – “Васька”, “Хлапчуковы песні”, “Подзвіг сігналіста”, “Слова аб юным героі” і інш. З 1955 па 1959 год ён працаваў загадчыкам аддзела культуры Брэсцкай абласной газеты “Заря”, з 1963 па 1976 – старшы рэдактар Брэсцкай абласной студыі тэлебачання.

Пасля вызвалення Заходняй Беларусі некаторы час працавала загадчыкам аддзела культуры Брэсцкай абласной газеты “Заря” Марыя Мікітаўна Барсток. Пісала вершы, выступала як публіцыст.

У 1964 годзе філалагічны факультэт Брэсцкага педінстытута імя А.С.- Пушкіна скончыў вядомы беларускі літаратуразнаўца і літаратурны крытык, празаік Міхась Аляксандравіч Тычына. Пасля ён некаторы час настаўнічаў на Піншчыне.

Уладзімір Ягоўдзік быў карэспандэнтам абласной газеты ў 70-я гады (1978–1979), затым перайшоў на працу на брэсцкую студыю тэлебачання, у гісторыю якой пазней упісалі свае імёны Міхась Рудкоўскі, Сцяпан Крываль, Ніна Загорская, Алесь Каско, Мікола Пракаповіч.

У 50-я гады Брэсцкім дзіцячым домам № 2, які размяшчаўся на былой сядзібе ўкраінскага пісьменніка А. Старажэнкі (цяпер вул. Трышынская, 20), апекаваўся Якуб Колас (1882–1956). Ён вёў перапіску з яго выхаванцамі – захавалася 2 лісты з 14, а таксама ўрыўкі з іншых лістоў, змешчаныя ў артыкуле былога дырэктара дзіцячага дома І.А. Брыкуна “Друг дзяцей” (“Звязда”, 1962, 3 лістапада). Па просьбе дзяцей і са згоды Якуба Коласа ў студзені 1955 года Брэсцкаму дзіцячаму дому № 2 было прысвоена імя пісьменніка. Вядома, што ён падараваў дзіцячаму дому цэлую бібліятэку кніг з даравальнымі надпісамі (кнігі пасля закрыцця дома, на жаль, не захаваліся) і запрасіў групу выхаванцаў да сябе ў Мінск. Тры дні дзеці на чале з І.А. Брыкуном гасцявалі ў пісьменніка – азнаёміліся з яго сядзібай, наведалі балет, сустрэліся з Янкам Маўрам, сфатаграфаваліся на памяць.

Літаратурнае жыццё Брэста актывізавалася з прыездам сюды ў 1954 годзе Уладзіміра Калесніка. Ён пачаў рэгулярна наведваць пасяджэнні абласнога літаратурнага аб’яднання, стаў актыўным яго членам і неўзабаве, з 1956 года, узначаліў літаратурную сябрыну краю. У. Калеснік увайшоў у рэдакцыйную калегію літаратурна-мастацкага альманаха “Брэст”, які выйшаў у 1958 годзе і стаў своеасаблівым падагульненнем творчага жыцця Берасцейшчыны першага пасляваеннага дзесяцігоддзя. У ім былі прадстаўлены лепшыя творы тагачасных літаратараў краю – П. Пестрака, В. Дзінейкі, З. Вагера, В. Праскурава, І. Мельнічука, М. Юркевіча, І. Надзеждзіна, В. Сурскай і інш. Некаторыя творы прысвечаны Брэсту (В. Сурская “Брест”, А. Гарай “Пагранічнікі” і інш.). Асобныя старонкі альманаха апавядаюць пра жыццё і творчасць Міколы Засіма. У выданне ўключаны і адзін літаратуразнаўчы артыкул “Рускія пісьменнікі на Брэстчыне” І. Баса, які стаў першым навуковым даследаваннем сувязей рускіх пісьменнікаў XIX стагоддзя з нашым краем.

Для выдатнага педагога, крытыка і даследчыка літаратуры, пісьменніка У.А. Калесніка родным на ўсё жыццё стаў філалагічны факультэт Брэсцкага



педінстытута імя А.С. Пушкіна (цяпер універсітэта). Родным яго па праву лічылі і лічаць многія літаратары нашага краю, былыя вучні У. Калесніка – тыя, хто, гаворачы словамі Алеся Каско, "апер'іуся з ягонага крыла". Сярод выпускнікоў філалагічнага факультэта Міхась Рудкоўскі, Васіль Жуковіч, Мікола Купрэеў, Алесь Разанаў, Мікола Пракаповіч, Алесь Каско, Мікола Цялічка, Расціслаў Бензярук, Зміцрок Шостак, Алесь Бібіцкі, Ніна Гарагляд, Мікола Трафімчук, Алена Ігнацюк, Ніяна Загарэўская, Мікола Навумчык, Васіль Барысюк, Ярына Дашына, Аляксей Гардзіцкі, Уладзімір Гніламёдаў, Вера Ляшук, Аляксей Майсейчык, Міхась Тычына, Янка Шпакоўскі, Галіна Малажай і іншыя пісьменнікі, літаратуразнаўцы і мовазнаўцы. Выкладчыкамі Брэсцкага педінстытута імя А.С. Пушкіна ў свой час працавалі Сяргей Гусак, Аляксей Рубцоў, Лілія Смальянава, А. Ус, Ісідар Бас, Ядвіга Чарняўская, Аляксей Майсейчык, Іраіда Моладава, Галіна Малажай, Цімох Ліякумовіч, Лілія Асташонак, Вера Емельяновіч і інш. Зараз на філалагічным факультэце БрДУ імя А.С. Пушкіна працуюць навукоўцы – аўтары падручнікаў па беларускай і рускай літаратурах, мовах для агульнаадукацыйных школ і ВНУ: В. Ляшук, С. Рачэўскі, М. Жыгалава, М. Мішчанчук, З. Мельнікава, Г. Ішчанка, У. Сенькавец, Г. Гарадко, К. - Мароз, Г. Праневіч, М. Яніцкі, Г. Снітко, Т. Сянкевіч і інш.

Кафедры факультэта з'яўляюцца арганізатарамі многіх рэгіянальных, рэспубліканскіх і міжнародных канферэнцый лінгвістычнага, літаратуразнаўчага, метадычнага і краязнаўчага характару. У 1997 годзе на філалагічным факультэце быў адкрыты Навукова-асветны цэнтр імя У.А. Калесніка.

Сёння ў Брэсце жывуць і працуюць пісьменнікі Зінаіда Дудзюк, Валянціна Кукса, Мікола Пракаповіч, Васіль Дэбіш, Анатоль Дэбіш, Іван Мельнічук, Алесь Паплаўскі, Кастусь Жмінько, Аляксандр Валюовіч, Мікола Панасюк, Мікола Сянкевіч, Сяргей Цыплюк, Васіль Барысюк, Любоў Красеўская, Георгій Тамашэвіч і інш. У 1981 годзе створана абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі. Яго кіраўнікамі былі К. Калеснік (1981–1983), М. Пракаповіч (1983–1990), А. Каско (1991–2006). У 2006 годзе пісьменніцкую арганізацыю вобласці ўзначаліла Ніна Мацяш (нар. у 1943 г. у в. Нівы Бярозаўскага раёна). Паралельна з 2005 года дзейнічае яшчэ адно абласное аб'яднанне пісьменнікаў, кіруе якім Анатоль Крэйдзіч (нар. у 1965 г. у в. Заверша Драгічынскага раёна).

Для многіх маладых аўтараў горада першай літаратурнай школай з'яўляецца студыя "Спадчына" ў абласным Цэнтры маладзёжнай творчасці, пры якой існуе літаратурны гурток. Яго члены пры падтрымцы старэйшых пісьменнікаў, найперш М. Пракаповіча і М. Сянкевіча, робяць свае першыя крокі ў літаратуры, прымаюць удзел у рэспубліканскім конкурсе "Дэбют". "Спадчына" дала бласлаўленне ў літаратуру Васілю Барысюку, Ірыне Поўх, Максіму Шчуру, Ярыне Дашынай і інш. Менавіта "ім, – як заўважыла кіраўнік народнай студыі "Спадчына" В. Волкава, – тварыць новы дзень у беларускай літаратуры".

## БРЭСЦКАЯ ДРУКАРНЯ

Першая друкарня на тэрыторыі сучаснай Беларусі была адкрыта ў Бя-

рэсці восенню 1553 года. Яе з'яўленне звязана з імем віднага палітычнага, культурнага і рэлігійнага дзеяча Вялікага княства Літоўскага, мясцовага старасты Мікалая Радзівіла Чорнага, які ў сярэдзіне XVI стагоддзя усур'ёз пачаў займацца арганізацыяй кнігавыдавецкай справы, якая і прынесла яму славу князя-асветніка. На пачатку 50-х гадоў ён запрасіў з Кракава майстра кнігадрукарскай справы Бернарда Ваяводку і адкрыў у Бярэсці сваю першую друкарню. "Чаму выбар Радзівіла выпаў іменна на Бярэсце? – разважае кандыдат філалагічных навук І. Сацута. – Тут, відаць, некалькі прычын. Па-першае, Мікалай Чорны, як ужо гаварылася, быў берасцейскім старастам. Дарэчы, другая па ліку друкарня на Беларусі была адкрыта ў Нясвіжы, якім таксама валодаў Мікалай Чорны. Па-другое, да восені 1553 года ў Бярэсці была ўжо моцная пратэстанцкая абшчына. І па-трэцяе, Бярэсце было найбольш блізкім да Кракава, які ў XVI ст. быў асноўным цэнтрам кнігадрукавання ў Польшчы". Б. Ваяводка на сродкі свайго фундатара і пад яго ўласным наглядам выдаў на польскай мове тры кнігі: "Катэхізіс", тэалагічныя творы Крыштафа Імлера "Зборнік дзесяці запаведзяў Божых" і Урбана Рэгіўса "Некаторыя спосабы і звычаі". Калі ў "Катэхізісе" і кнізе К. Імлера прозвішча друкара і час выдання яшчэ не ўказаны, то пад працай У. Рэгіўса імя друкара Ваяводкі пазначана. Датавана яна студзенем 1554 года.

Пасля трагічнай гібелі Б. Ваяводкі ў ліпені таго ж года па просьбе Мікалая Радзівіла Чорнага ў Бярэсце прыбыў выдатны майстра кнігадрукавання Ян Малецкі. Сёння, аднак, невядома ніводнай кнігі, выдадзенай ім у горадзе. Чаму наогул маўчала берасцейская друкарня да 1558 года – загадка. Сваю дзейнасць яна ўзнавіла з пераездам сюды кракаўскага друкара Станіслава Мурмеліуса (Мурмелія), які надрукаваў у Бярэсці 15 кніг. Сярод іх і шэдэўр кнігадрукарскага мастацтва – вялікая ілюстраваная "Біблія", якую прынята называць "Брэсцкай" альбо "Радзівілаўскай". У ліку яе перакладчыкаў называюць Г. -Оршака, П. Статорыўса, Я. Тэнаўдуса, Е. Шомана, Я. Любельчыка. Гэта – другое пасля Ф. Скарыны выданне Бібліі на тэрыторыі этнічнай Беларусі.

Брэсцкая Біблія была разлічана на багатага магната. Яна ўяўляе сабою "вялізную, памерам на аркуш, кнігу таўшчынёй у 10 сантыметраў, у 738 старонак, мае два гравіраваныя тытульныя лісты, 14 гравюр-ілюстрацый, своеасаблівыя застаўкі і віньеткі. Па-мастацку выкананы загалоўныя літары-ініцыялы. Размешчаныя па 2-3 на кожнай старонцы, яны ўдала ажыўляюць набраны ў два слупкі гатычным шрыфтам тэкст.

На першым лісце Бібліі – гравіраваны герб Радзівілаў, далей ідзе прысвячэнне каралю і вялікаму князю Сігізмунду Аўгусту, прадмова, тэксты Старога і Новага запаветаў і каляндар чытанняў. Упершыню за гісторыю выдавецкай справы на Беларусі ў кнізе змешчаны прадметны паказальнік. На адвароце апошняга ліста паведамляецца, што кніга гэтая надрукавана ў Брэсце Літоўскім за кошт князя Нясвіжа, віленскага ваяводы, маршалка і канцлера Вялікага княства Літоўскага Мікалая Радзівіла ў 1563 годзе, месяца верасня чацвёртага дня. Імя выдаўца няма" (В. Нікалаеў).

Доўгі час Беларусь мела адзін (і то няпоўны) экземпляр Бібліі, які захо-



ўваецца ў Цэнтральнай бібліятэцы імя Я. Коласа АН Беларусі. У Брэсцкім краязнаўчым музеі ёсць толькі асобныя фотакопіі старонак гэтай кнігі. У 2003 годзе ў Кракаве па ініцыятыве і пры фінансавай падтрымцы Пятра Кралікоўскага Брэсцкая Біблія (Biblia Brzeska, 1563) была перавыдадзена. З ёю можна пазнаёміцца ўаддзеле краязнаўчай літаратуры і бібліяграфіі Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага.

Пасля смерці Мікалая Радзівіла Чорнага (1565 г.) берасцейская друкарня пачынае выдаваць пераважна працы Цыпрыяна Базыліка – прыдворнага паэта Радзівілаў, таленавітага музыкі і мастака. На той час ён ужо узначальваў друкарню, і пры яго непасрэдным удзеле ў 1566 годзе была перавыдадзена частка Брэсцкай Бібліі. У 1570 годзе друкарня ў Бярэсці спыніла сваю дзейнасць. Сын Радзівіла Чорнага Мікалай Хрыстафор Радзівіл (Сіротка) перавёз друкарскае абсталяванне ў Вільню. Там у 1576 годзе пачала дзейнічаць ужо Радзівілаўская друкарня, якая выдавала ў асноўным сачыненні езуітаў.

Большая частка берасцейскіх старадрукаў была мэтанакіравана знішчана ў 70–80-я гады XVI стагоддзя, калі езуіты публічна спальвалі пратэстанцкія кнігі. Асаблівае стараннe ў гэтай справе праявіў сын Мікалая Чорнага Юрый Радзівіл, мэтай жыцця якога стала знішчэнне кніг, надрукаваных пад апекай бацькі.

## АФАНАСІЙ ФІЛІПОВІЧ

(каля 1597 – 1648)



Афанасій Філіповіч увайшоў у гісторыю літаратуры як аўтар яркіх публіцыстычных артыкулаў, аб'яднаных у адзін твор пад назвай “Дыярыуш”. Яго радзіма – Берасцейшчына, аднак да нашага часу навукоўцам так і не ўдалося вызначыць дакладнае месца нараджэння пісьменніка. “Па-першае, – разважае М. Пятроў, – мы не ведаем імя Афанасія да пастрыгу ў манахі, па-другое, невядома, Філіповіч – гэта яго прозвішча ці імя па бацьку. Такія крыніцы, як “Гістарычныя дакументы Мінскай губерніі і Літоўскай праваслаўнай епархіі”, называюць шмат асоб з дваранства і духавенства з прозвішчам Філіповіч. З упэўненасцю можна канстатаваць: Афанасій паходзіў з сям'і небагатага гарадскога рамесніка. У сваіх творах аўтар неаднаразова зазначае, што ён “нендзный человек, Богам створаны”, “простак”, “гарбарчык” (па-руску – кожевенник), “калугер (манах) убогій”. Як бачым, А. Філіповіч не прылічвае сябе да шляхецкага ці якога іншага, так бы мовіць, больш прыстойнага чыну”.

Вядома, што ён атрымаў бліскучую адукацыю (хутчэй за ўсё вучыўся ў адной з брацкіх школ, а затым – у Віленскай езуіцкай калегіі) і некаторы час працаваў у якасці “инспектора Дмитровичу, яюмусь царевичови московскому”

пры двары літоўскага канцлера, князя Льва Сапегі. Калі А. Філіповіч пераканаўся ў тым, што яго ўзвялі ў зман, дастаўшы асобу, якую толькі выдавалі за царэвіча, ён развітаўся са свецкім жыццём і стаў манахам Віленскага Святадухаўскага манастыра (1627 г.). Тут А. Філіповіч быў узведзены ў сан іераманаха і святара і ў 1633 годзе накіраваны ў якасці намесніка ігумена ў Дубойскі манастыр каля Пінска, а праз тры гады пераехаў у суседні Купяціцкі манастыр. Гэта якраз быў час вострай рэлігійнай барацьбы, у якую ўключыўся і наш зямляк.

У сувязі з тым, што тагачасныя ўлады падтрымлівалі распаўсюджанне каталіцызму ў краі і праваслаўе фактычна было ў загоне, Афанасій Філіповіч робіць крок, які сёння адназначна ацаніць нельга. У лістападзе 1637 года ён пад выглядам збору сродкаў на рэстаўрацыю Купяціцкай царквы едзе ў Маскву да рускага цара. На самой жа справе мэта паездкі была куды больш сур'ёзнай – прасіць у цара дапамогі, каб выправіць становішча, што склалася на нашых землях. А. Філіповіч імкнуўся адрадзіць тут праваслаўе, прычым барацьба за праваслаўную веру спалучалася ў яго з адстойваннем незалежнасці беларускага народа, імкненнем захаваць яго мову і самабытную культуру. З аднаго боку, такія духоўныя памкненні ўзвышаюць асобу Філіповіча, сведчаць пра яго выразныя патрыятычныя пачуцці. Думаецца, аднак, памылковым быў шлях, які ён абраў для рэалізацыі сваіх задум. Стаўку Філіповіч рабіў на сілы і падтрымку збоку, найперш, як бачым, разлічваў на Рускую дзяржаву, якая спрадвеку вяла войны з Вялікім княствам Літоўскім і хацела далучыць гэтыя землі да сваіх уладанняў. Тым самым ён міжвольна даваў Расіі падставы ўмешвацца ў справы нашай краіны. "Як праваслаўны святар, – адзначае С. Асіноўскі, – ён меў рацыю, стараючыся абараніць сваю веру ад, прызнаем гэта, гвалтоўных дзеянняў католікаў і уніятаў. Але ж ён быў яшчэ грамадзянінам сваёй краіны – і заклік да вайны супраць яе і выдача вядомай яму дзяржаўнай тайны... Як ацаніць гэты ўчынак?".

Падарожжа А. Філіповіча ў Маскву з'яўляецца самым спрэчным момантам у яго біяграфіі. Напэўна, усе, хто займаюцца вывучэннем жыцця і творчасці пісьменніка-палеміста, спрабуюць адказаць на пытанні, якія сфармулявалі Л. -Гедзімін і С. Гаранін у артыкуле "А. Філіповіч і яго "Дыярыуш": "Хто быў Афанасій Філіповіч – здраднік, агент тагачаснай Маскоўскай дзяржавы ці патрыёт Беларусі? Няшчасны дзівак ці барацьбіт супраць уніі? Ці не быў ён проста шаленцам, як можна падумаць, параўноўваючы Філіповіча з яго сучаснікамі?". Многія даследчыкі прызнаюць празмерную фанатычнасць ігумена, але лічаць, што менавіта яна дапамагла яму ў ажыццяўленні сваіх задум.

Паездка Афанасія Філіповіча ў Маскву нарадзіла і яго першы мастацка-публіцыстычны твор – "Гісторыю падарожжа ў Маскву". Значная яго частка прысвечана апісанню гісторыі Купяціцкай царквы. Твор яскрава засведчыў пра здольнасці аўтара як таленавітага мастака слова, так і выдатнага рэлігійна-палітычнага дзеяча.

Пазней напісаную публіцыстыку А. Філіповіч аб'яднаў у адзін твор пад



назвай “Дыярыуш”, які, па задуме аўтара, павінен быў даць грунтоўнае тлумачэнне самой сутнасці яго барацьбы і пакут – “для ведомости людем православным хотячим тепер и у потомные часы ведать”.

“Для ўспакаення веры, – як адзначае Уладзімір Калеснік, – Афанасій Філіповіч рабіў усё, напісаў нават верш, які можна лічыць першай іскрынкаю ад берасцейскага паэтычнага вогнішча... Верш Філіповіча – заклінанне і адначасова кліч да уніятаў вяртацца назад да веры і звычаяў бацькоў, да сваёй нацыянальна-культурнай традыцыі, да еднасці”.

Даруй покой Церкви Своей, Христе Боже,
*Терпети болш не вем, если з нас зможе.*
*Дай помощ от печали,*
*Абысмы вцели зостали.*

*В вере святой непорочной в милы лета,*
*Гды ж приходят страшные дни в конец света.*
*Вылучаеш, хто з нас, Пане,*
*По правици Твоей стане.*

*Звитяжай же зрайцов: первей униатов,*
*Препозитов, также и их номинатов,*
*Абы болш не колотили,*
*В покою лет конец жили.*

*Потлуми всех противников и их рады,*
*Абы болшей не чинили гневу и здрады*
*Межы греки и рымляны,*
*Гды ж то люд Твой ест выбраный.*

*Будь же сыном Православным, униате!*
*Ест покута живым людем, милый брате!*
*Христос то тебе взывает*
*И Пречистая чекает...*

Жыццё пісьменніка абарвалася трагічна ў 1648 годзе. Ён быў арыштаваны, абвінавачаны ў “посылании якихсь листов и пороху до козаков” Багдана Хмяльніцкага і ў ноч на 5 верасня (ст. стылю) пасля жорсткіх катаванняў забіты польскай шляхтай у лесе, непадалёку ад вёскі Гершоны. Манахі і братчыкі знайшлі яго труп праз некалькі дзён пасля забойства. Пазналі па зрэбнай кашулі і лыкавым лапці. Праваслаўная царква кананізавала Афанасія Філіповіча як пакутніка за веру.

3 мая 1909 года на месцы яго гібелі па загаду рускага цара была закладзена капліца. У канцы 80-х гадоў яе абнавілі, і вакол капліцы распачалося будаўніцтва Свята-Афанасьеўскага мужчынскага манастыра.

У кастрычніку 2005 года ў Брэсце ля Свята-Сімяонаўскага кафедральнага сабора быў адкрыты помнік святому Афанасію. Малады скульптар Алеся Гуршчанкова і яе сааўтар Павел Герасіменка ўвасобілі вобраз праслаўленага царквой падзвіжніка ў бронзе. Цяпер кожнага, хто падыходзіць да Афанасія Брэсцкага, ігумен бласлаўляе на добрыя ўчынкі і справы.

## АЛЯКСАНДР ГРЫБАЕДАЎ
(1795– 1829)

Вайна 1812 года прывяла на Берасцейшчыну Аляксандра Сяргеевіча Грыбаедава. Ён – тады студэнт Маскоўскага універсітэта – добраахвотна падаў прашэнне аб залічэнні на ваенную службу. “Я быў гатовы да экзаменаў для паступлення ў чын доктара, – пісаў пазней А. Грыбаедаў, – як атрымана было паведамленне аб тым, што вораг уварваўся ў межы нашай Айчыны... Я вырашыў тады пакінуць усе заняткі і паступіць на ваенную службу”.

У маі 1813 года ён прыбыў у Іркуцкі гусарскі полк, які дыслацыраваўся ў Кобрыне. Прабыў тут, аднак, нядоўга: у жніўні таго ж года быў пераведзены ў Брэст. Спачатку служыў звычайным карнетам, і яго жыццё нічым не адрознівалася ад жыцця іншых вайскоўцаў. Затым будучы пісьменнік паступіў на службу ў штаб рэзервнага кавалерыйскага корпуса, які ўзначальваў генерал А.С. Калагрываў. На думку С.В. Свердлінай, Грыбаедаў быў асабістым сакратаром генерала і часта суправаджаў яго ў мясціны, дзе былі раскватараваны кавалерыйскія рэзервы.

У Брэсце А.С. Грыбаедаў пазнаёміўся і пасябраваў з лепшымі прадстаўнікамі рускага афіцэрства, трапіў у асяродзе, якое спрыяла развіццю яго творчых здольнасцей. Вялікі ўплыў на яго аказала сяброўства са Сцяпанам Мікітавічам Бегічавым, які служыў ад’ютантам генерала А.С. Калагрывава. Пра С. Бегічава захавалася мала звестак. Вядома, што ён быў старэйшы за Грыбаедава на дзевяць гадоў. Пасля вайны з Напалеонам выйшаў у адстаўку ў чыне падпалкоўніка і жыў спачатку ў Маскве, затым – Тульскай губерні. Пасля смерці (1857 г.) пакінуў невялікія нататкі пра пісьменніка і ўсе яго лісты.

У Брэсце Сцяпан Бегічаў заўважыў літаратурны талент Грыбаедава. Вядома, што, будучы студэнтам Маскоўскага універсітэта, Аляксандр Сяргеевіч пісаў вершы, але іх не збіраў і не друкаваў. Даследчыкі яго жыцця і творчасці лічаць, што менавіта пад уплывам С. Бегічава з’явіліся першыя публікацыі А.С. Грыбаедава ў друку.

Пры штабе А.С. Калагрывава служыў старэйшы брат Бегічава – Дзмітрый Бегічаў (1786–1855), які захапляўся літаратурай і ўжо тады спрабаваў пісаць. Як пісьменнікам ім створана нямала. Лепшым, аднак, з’яўляецца аповесць пра жыццё і побыт рускага дваранства “Сям’я Холмскіх” (1832).

У час прыбывання А.С. Грыбаедава ў Брэсце тут служыў вядомы рускі грамадскі дзеяч і перакладчык П.А. Каценін (1792–1853). У першай кнізе “Памяць”, прысвечанай Брэсту, В.Р. Купцова сцвярджае, што менавіта ў нашым горадзе Каценін перакладаў “п’есы Ж. Расіна “Эсфір” і “Андрамаха” і П. Кар-



неля “Арыядна”.

У Брэсце А.С. Грыбаедаў пазнаёміўся з чалавекам, які дапамог яму пазнаць жыццё тэатра і садзейнічаў з’яўленню яго першых п’ес. Гэта быў афіцэр-апалчэнец, камандзір невялікага палка, вядомы камедыёграф і тэатральны дзеяч Аляксандр Аляксандравіч Шахоўскі (1771–1846). “Яму было ўжо за трыццаць пяць гадоў, – піша І. Бас. – Высокага росту, з даволі вялізным носам на шырокім выразным твары, ён прыцягваў да сябе ўвагу кожнага, хто з ім сустракаўся. Вочы ў Шахоўскага, паводле ўспамінаў сучаснікаў, былі поўныя жыцця, бляску і праніклівасці, яны глядзелі прама на субяседніка. Так было і калі ўпершыню Шахоўскі сустрэўся з Грыбаедавым у корпусе кавалерыйскіх рэзерваў. Яны сталі добрымі сябрамі, хоць і была паміж імі немалая розніца ва ўзросце”.

А.А. Шахоўскі прапанаваў Грыбаедаву перакласці невялікую п’есу французскага драматурга Крэзэ дэ Лессэра “Сямейная тайна”. Той не проста заняўся яе перакладам, а істотна перапрацаваў. У выніку фактычна атрымаўся новы твор – камедыя “Маладыя муж і жонка”, якая была высока ацэнена А.А. Шахоўскім і пастаўлена на сцэне Александрыйскага тэатра ў Пецярбургу (заўважым: А.А. Шахоўскі перад вайной ведаў рэпертуарнай часткай гэтага тэатра). Для пастаноўкі п’есы ў Пецярбург з Брэста, дзякуючы падтрымцы С. Бегічава, прыязджаў сам аўтар.

Першым друкаваным творам А.С. Грыбаедава лічаць “Письмо из Брест-Литовска к издателю”, дасланае ў Пецярбург з берагоў Буга і змешчанае ў часопісе “Вестник Европы” (№ 15, 1814 г.). Яно прысвечана ўрачыстасці, якую наладзілі афіцэры корпуса генералу Андрэю Сямёнавічу Калагрываму з нагоды яго ўзнагароджання ордэнам св. Уладзіміра I ступені. Твор напісаны вершам і прозай. У ім аўтар апавядае не толькі пра свята, але і аб прыгожых ваколіцах Брэста, аднаўляе легенды пра горад і крэпасць:

*Есть в Буге остров одинокий;*
*Его восточный мыс*
*Горою над рекой навис,*
*Заглох в траве высокой.*
*(Преданья глас такой,*
*Что взрыты нашими отцами*
*Окопы, видные там нынешней*
*порой;*
*Преданье кажется мне сказкой,*
*между нами,*
*Хоть верю набожно я древности*
*седой;*
*Нет, для окопов сих отцы*
*не знали места,*
*Сражались, били, шли вперёд,*
*А впрочем летописи Бреста*
*Пусть Каченовский разберёт);*

*Усадьбы, города и сёла,*
*И возвышенности, и долы*
*С горы рисуются округ,*
*И стелется внизу меж вод прекрасный луг...*

Другім па часе выступленнем будучага аўтара камедыі "Гора ад розуму" быў артыкул "О кавалерийских резервах" ("Вестник Европы", № 22, 1814 г.), які таксама напісаны ў Брэсце. У ім А.С. Грыбаедаў паказаў сябе таленавітым пісьменнікам-публіцыстам. Ён называе рэзервы расаднікам маладых воінаў і робіць спробу даць у артыкуле кароткі агляд падрыхтоўкі "коннікаў выпрабаваных, загартаваных у ваенным рамястве", галоўным чынам, на тэрыторыі Беларусі.

Магчыма, што ў Брэсце ім напісаны верш "Ад Апалона". Апублікаваны ён быў упершыню ў лістападзе 1815 года ў часопісе "Сын отечества", калі Грыбаедаў яшчэ служыў у корпусе кавалерыйскіх рэзерваў. Гэты верш сведчыць, што знаходзячыся ля берагоў Буга, Грыбаедаў уважліва сачыў за барацьбой, якая адбывалася ў літаратурных колах Пецярбурга (восенню 1815 года там разгарэліся спрэчкі паміж прыхільнікамі таленту паэта В. Жукоўскага і тымі літаратарамі, што стаялі на баку драматурга А. Шахоўскага, які ў адным з твораў высмеяў паэта).

Многія з тых, з кім пазнаёміўся Грыбаедаў у Брэсце, пазней увайшлі ў яго камедыю "Гора ад розуму", сталі прататыпамі некаторых герояў. Так, у вобразе Таццяны Юр'еўны Грыбаедаў вывеў Праскоўю Іванаўну Калагрываву – жонку генерала Калагрывава. Для вобраза Скалазуба Грыбаедаў выкарыстаў асобныя рысы брыгаднага генерала Фралова, які прыязджаў у Брэст і быў знаёмы з пісьменнікам. У горадзе Грыбаедаў пазнаёміўся і зблізіўся з афіцэрамі Ільёй Іванавічам Агаравым і гвардзейскім афіцэрам Шацілавым. Пазней у камедыі "Гора ад розуму" Агараў быў выведзены ў вобразе Платона Горыча, а Шацілаў – у вобразе Рэпеціравага.

У Брэсце Аляксандр Сяргеевіч задумаў напісаць драму аб вайне 1812 года. Тут жа ён сабраў найбольш каштоўны матэрыял для твора. Але, нягледзячы на тое, што матэрыялаў для драмы ў яго хапала, яна так і засталася незавершанай, ва ўрыўках.

20 снежня 1815 года А.С. Грыбаедаў падаў рапарт з просьбай аб звальненні яго з арміі і залічэнні на цывільную службу. Амаль тры месяцы чакаў пісьменнік адказу. 17 сакавіка 1816 года ён, нарэшце, атрымаў дазвол на адстаўку і назаўсёды пакінуў Брэст.

## ФЁДАР РАШЭТНІКАЎ
(1841 – 1971)

Брэсцкі перыяд жыцця і творчасці рускага пісьменніка-дэмакрата Фёдара Міхайлавіча Рашэтнікава ахоплівае 1867–1870 гады. Нягледзячы на літаратурнае прызнанне ў Расіі, надрукаваць свае творы, асабліва пасля закрыцця часо-



піса “Современник” (1866), станавілася ўсё складаней. Мізэрных ганарараў не хапала на жыццё ў Пецярбурзе, і Ф. Рашэтнікаў шукаў месца службы ці працы, нават збіраўся ехаць на залатыя прыіскі ў Башкірыю. У гэты час яго жонцы – Серафіме Сямёнаўне, – якая закончыла Пецярбургскі павівальны інстытут, прапанавалі месца павівальнай бабкі ў Брэст-Літоўску. Сюды яна прыехала з сынам у самым канцы 1866 года, а праз некаторы час – 9 студзеня 1867 года – у Брэст пераехаў і Фёдар Міхайлавіч.

Сям’я, якая ў хуткім часе папоўнілася (15 студзеня 1867 года ў Рашэтнікавых нарадзіўся другі сын), пасялілася ў крэпасці ў невялікай двухпакаёвай кватэры. Горад і асяроддзе, у якім яны апынуліся, адразу не спадабаліся пісьменніку. У яго дзённіку ад 18 сакавіка 1867 года чытаем: “Ужо трэці месяц жыву ў Брэсце... Крэпасць за паўтары вярсты. Сум. Акрамя таго, няма з кім пагаварыць ад душы, і хоць ёсць людзі добрыя, але яны забітыя і паняволі падпарадкоўваюцца ўплыву людзей, якія цікавяцца толькі “Русским инвалидом” (газета, орган ваеннага ведамства – Г.С.). Казёншчына, салдацкая форма – надакучылі. Я – адзіны цывільны ў крэпасці... Усё гэта цяжка ўплывае і міжвольна з’яўляецца жаданне вырвацца з гэтага свету... Мне не падабаецца крэпасць і тутэйшая кампанія”.

У Брэсце Рашэтнікавы пазнаёміліся і пасябравалі з інжынерам П.А. Заварзіным і ўрачом А.А. Сыціным. Заварзін, як сведчаць дзённікавыя запісы пісьменніка, крытычна ставіўся да існуючых парадкаў. 31 кастрычніка 1868 года Фёдар Міхайлавіч запісаў у дзённік гутарку з ім. Інжынер падрабязна расказваў пра чыноўнікаў з Пецярбурга і іх справы – “прыехалі русіць тутэйшы край.., наладжваюць пікнікі і нічога не робяць”. Зразумела, чаму камендант крэпасці і іншае ваеннае кіраўніцтва скоса глядзелі на Заварзіна, “яўна выказвалі яму непавагу”.

Захавалася некалькі лістоў Заварзіна да Рашэтнікава, калі апошні выязжаў па справах у Пецярбург (адзначым, што, жывучы ў Брэсце, пісьменнік часта наведваўся ў паўночную сталіцу, бываў у Беластоку і Варшаве). У лісце, датаваным 25 верасня 1867 года, Заварзін пісаў: “Успамінаем Вас я і Сыцін. Ён мне паведаміў, што тут баяцца, каб Вы не надрукавалі чаго-небудзь аб шпіталі, і наводзяць даведкі, адчаго нас часта бачылі разам, гавораць нават, што Вас бачылі ў горадзе са сшыткам (мяркуюць, што сшытак Вы носіце з сабой, каб запісваць, што ўбачыце наогул”.

З Брэста Ф.М. Рашэтнікаў дасылаў лісты М. Някрасаву, В. Курачкіну і іншым пісьменнікам таго часу.

Пад пільным наглядам улад у Брэсце была ўся сям’я Ф.М. Рашэтнікава. Справа дайшла нават да таго, што начальнік гарнізона, калі стала вядома, што жонка пісьменніка не гавела ў вялікі пост, запатрабаваў ад Фёдара Міхайлавіча пісьмовае тлумачэнне такога ўчынку. “Мяне прывёў у шаленства тон гэтай паперы”, – занатаваў ён у дзённіку.

З запісу таксама даведваемся, што ў Брэсце ў Ф. Рашэтнікава не было спрыяльных умоў для творчасці. “Што за чытанне і пісанне, – скардзіўся ён, калі ў пакоях піск, лаянка... па ўсёй кватэры крык”. Разам з тым тут ім былі

закончаны трэцяя частка рамана "Глумавы", раман "Свой хлеб", напісаны некалькі нарысаў і апавяданняў, раман "Дзе лепш?", п'еса "Прагрэс у павятовым горадзе". Думаецца, за тры гады гэта не так і мала.

Мясцовы матэрыял лёг у аснову так званых заходніх нарысаў і апавяданняў – "Ад Брэст-Літоўска да Пецярбурга", "Суткі ў яўрэйскім горадзе", "Будні і святы Янкеля Дворкіна і яго сям'і", "Дарожныя ўражанні", "Кірмаш у яўрэйскім горадзе", "На захадзе" і інш. Ф.М. Рашэтнікава асабліва цікавіла жыццё яўрэйскага насельніцтва. Брэст, у яго ўспрыманні, – яўрэйскі горад, і яўрэй тут "не такі, як у іншых месцах. Гэта – гаспадар, а не раб, які згінаецца ў тры пагібелі... Рэдкі яўрэй не гандляр; здаецца, няма ніводнага яўрэя ці яўрэйкі, якія б не гандлявалі чым-небудзь" (з дзённіка пісьменніка). Падставы для такіх сцвярджэнняў у Фёдара Міхайлавіча былі: у 1865 годзе ў Брэсце налічвалася 22 тысячы жыхароў, з іх – восем з паловай тысяч яўрэяў.

У творах Ф. Рашэтнікава праўдзіва паказана жыццё паўночна-заходняга краю. Пісьменнік спачуваў сялянству і гарадскім раменнікам, якія вымушаны працаваць з ранку да вечара дзеля "сухой скарынкі хлеба". "Край тут вельмі бедны, абскубаны", – чытаем у адным з нарысаў. Тым самым аўтар даў дакладную ацэнку драпежніцкай палітыцы Расійскай імперыі ў адносінах да Беларусі. У Рашэтнікава як пісьменніка рэвалюцыйна-дэмакратычнага лагера выклікала абурэнне мясцовая "знаць" – афіцэры, чыноўнікі, якія запаланілі край і багацеюць за кошт беларусаў. Паказальным у гэтым плане з'яўляецца нарыс "Кірмаш у яўрэйскім горадзе", даюцца замалёўкі брэсцкага кірмашу, што ладзіўся на вялікай плошчы за горадам. Аўтар стварае кантрасныя малюнкі становішча працоўнага насельніцтва, сялян і багатых гараджан, сярод якіх бухгалтарша, унтэр-афіцэрша, квартальны, чыноўнік і інш.

Супраць мясцовага чыноўніцтва скіравана і п'еса "Прагрэс у павятовым горадзе", працу над якой пісьменнік закончыў у канцы 1868 года. Многія яе персанажы нагадваюць берасцейскіх знаёмых Рашэтнікава: жонка міравога пасрэдніка Зінаіда Карлаўна падобна на жонку Сыціна, спраўнік Галубцоў – на каменданта і інш. Галубцоў, напрыклад, дбае толькі пра сябе. Старшыня павятовай земскай управы яшчэ і год не адпрацаваў у горадзе, а ўжо купіў сабе вялікі дом і марыць пра вяртанне прыгону, каб быць абсалютным гаспадаром над сялянамі. Павятовы лекар Бядроў – "пляткар, які нічога не робіць і бадзяецца з дому ў дом"... Вось такія "прагрэсісты" жылі ў Брэсце ў другой палове XIX стагоддзя.

У 1871 годзе з'явілася апавяданне Ф. Рашэтнікава "На захадзе". Напісана яно было ўжо ў Пецярбургу, але ў аснове – сапраўдныя факты з жыцця нашага горада.

Пазіцыя Фёдара Міхайлавіча, ідэйная скіраванасць яго творчасці сталі асноўнай прычынай, якая прывяла да выезду сям'і пісьменніка з Брэста ў красавіку 1870 года. Жонцы Серафіме Сямёнаўне аб'явілі, што яна "пакінута па-за штатам", і Рашэтнікавы вымушаны былі вярнуцца ў Пецярбург.





## УЛАДЗІМІР КАЛЕСНІК
(1922-1994)

Нарадзіўся Уладзімір Андрэевіч Калеснік у 1922 годзе на Гродзеншчыны, у вёсцы Сіняўская Слабада. Жыццёвы лёс, аднак, парадніў яго з нашым краем. Чатыры гады вайны ён ваяваў у складзе Баранавіцкага партызанскага злучэння. У маі 1950 года, працуючы над дысертацыяй, тэма якой была звязана з літаратурай былой Заходняй Беларусі, У. Калеснік зноў трапіў на Берасцейшчыну. Ужо тады ён адчуў, што гэты рэгіён мае вялікую і слаўную гісторыка-літаратурную мінуўшчыну, а таму тут трэба чакаць плёну ў мастацкай творчасці, якая здольна надаць Брэсту ранг не проста адміністрацыйнага абласнога цэнтра, а цэнтра культурнага жыцця. Але не ведаў малады даследчык літаратуры, што менавіта яму наканавана неўзабаве – у 1954 годзе – стала пасяліцца ў гэтым горадзе, працаваць выкладчыкам, а затым на некалькі дзесяцігоддзяў узначаліць кафедру беларускай літаратуры Брэсцкага дзяржаўнага педінстытута імя А.С. Пушкіна, стаць вучоным-літаратарам, пісьменнікам і значна ажывіць літаратурнае жыццё краю.

За гады працы ў Брэсцкім педінстытуце У.А. Калеснік падрыхтаваў тысячы настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры, якія сёння з удзячнасцю згадваюць свайго настаўніка, карыстаюцца яго шматлікімі артыкуламі і манаграфіямі: “Паэзія змагання” (1959), “Час і песні”(1962), “Зорны спеў” (1975), “Ветразі Адысея” (1977), “Максім Танк: нарыс жыцця і творчасці” (1981), “Лёсам пазнанае” (1982), “Тварэнне легенды”(1987), “Янка Брыль: нарыс жыцця і творчасці” (1990), “Усё чалавечае” (1993). Ён – адзін з аўтараў “Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры” і “Гісторыі беларускай савецкай літаратуры”, дакументальнай кнігі “Я з вогненнай вёскі” (1975, з А. Адамовічам і Я. Брылём), падручніка для студэнтаў ВНУ “Вусная мова і выразнае чытанне” (1962, з Ф. Янкоўскім), фотаальбома “Між тых палёў” (1968, з Я. Брылём).

У Брэсце Уладзімір Андрэевіч адразу ўключыўся ў літаратурна-культурнае жыццё горада і вобласці. Пачаткам стала праца ў літаратурным аб’яднанні пры абласной газеце “Заря”, членамі якога на той час былі М. Засім, А. Авечкін, М. Цялічка, В. Праскураў і інш. Неўзабаве У. Калесніку давялося ўзначаліць аб’яднанне і доўгі час кіраваць ім. Менавіта тады ў яго ўзнікла задума напісаць гісторыю берасцейскага вогнішча. Уследза кнігай “Час і песні”, дзе разглядаліся некаторыя аспекты развіцця літаратуры на Берасцейшчыне, з’яўляецца яго невялікі гісторыка-літаратурны нарыс “Наша Брэстчына”, змешчаны ў кнізе “Слова пра Родны кут” (Мн., 1970). Да гэтага былі шматлікія газетныя допісы пра бягучыя справы літаб’яднання, агляды твораў, рэцэнзіі на асобныя кнігі і г.д. У. Калеснік, аднак, разумеў, што гэтыя матэрыялы хутка старэлі, літаратурнае аб’яднанне прыцягвала да сябе новыя сілы і патрэбна была грунтоўная праца, якая б засведчыла, што і за межамі сталіцы могуць жыць сапраўдныя літаратары, якія не чакаюць скідак ад літаратурнага Парнаса. Таму ў наступнай сваёй кнізе “Зорны спеў” ён цэлы раздзел прысвяціў “Берасцейскаму

вогнішчу”. Яго гісторыя, паводле даследчыка, пачынаецца з гарадзішча старажытнага Бярэсця, дзе вучоныя-археолагі знайшлі грабянец з літарамі кірылаўскага алфавіта, які служыў букваром для жыхароў горада ў XII ст. Затым было выданне “Biblia Brzeska”, з’яўленне твораў І. Пацея, А. Філіповіча, К. Лышчынскага. Так у храналагічнай паслядоўнасці вучоны даследаваў літаратурную дзейнасць усіх, хто меў непасрэдныя ці ўскосныя адносіны да Брэста і Берасцейшчыны, у тым ліку польскіх і рускіх літаратараў. “Але якімі б трапнымі ні былі літаратурныя працы, зробленыя праездам, яны не маглі замяніць творчасці мастакоў, што ўзрастаюць і жывуць у самім краі, пішуць не толькі пяром, а ўласным жыццём, сваім чалавечым лёсам”, – зазначаў У. Калеснік. Таму асобныя вялікія раздзелы нарыса прысвечаны П. Пестраку, М. Засіму, Н. Мацяш, А. Разанаву, І. Арабейку, В. Жуковічу і іншым пісьменнікам-землякам. У.А. Калеснік і тут застаўся майстрам літаратурнага партрэта, нарыса, у якіх размова пра індывідуальнасць творцы, яго духоўны і вобразны свет пачынаецца з уласнага ўспрымання твора і міжвольна перастае ў тэарэтычныя абгрунтаванні, з якімі цяжка не пагадзіцца.

Пасля з’яўлення гэтай працы некаторыя калегі-крытыкі папракалі У. Калесніка за “местачковы патрыятызм”. Нягледзячы на гэта, Уладзімір Андрэевіч па-ранейшаму заставаўся настаўнікам мясцовых літаратараў. Ён стаў першым кіраўніком абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў, шукаў маладыя таленты, апекаваўся імі, адгукаўся ў друку на новыя творы, укладаў, пісаў прадмовы да зборнікаў паэтаў-берасцейцаў, якія былі цэлым навукова-літаратуразнаўчым даследаваннем творчасці таго ці іншага мастака слова – В. Таўлая, М. Засіма, М. Рудкоўскага, Н. Мацяш і інш. Яго пяру належаць дакументальна-мастацкія творы “Аповесць пра Таўлая” (1965) і “Пасланец Праметэя” (1984). Апошні з названых твораў прысвечаны публіцысту з Бярозы Анатолю Альшэўскаму.

У наступных кнігах У. Калесніка – “Лёсам пазнанае”, “Тварэнне легенды”, “Усё чалавечае” – таксама знайшлося месца і добрае слова пра літаратараў свайго краю. Гэта сведчыла пра тое, што іх аўтар палюбіў Берасцейшчыну, якая “нездарма даўно лічыцца краем экзатычным, як бы запаведнікам культуры карэннай, славянскай, беларускай”. Невыпадкова ён папулярызаваў гэты рэгіён сярод пісьменнікаў Беларусі і былога СССР, стаяў ля вытокаў літаратурнага краязнаўства на Берасцейшчыне.

Сам Уладзімір Андрэевіч Калеснік сціпла ацэньваў свой уклад у развіццё літаратуры гэтага краю. Ён гаварыў, што “проста працаваў, рабіў сумленна асветніцкую работу, наколькі дазвалялі мае здольнасці...”. Сёння відавочна, што самы каштоўны ўрок з усіх, які даў У. Калеснік літаратарам Берасцейшчыны – гэта прыклад. У народнай педагогіцы прыклад настаўніка, выхавацеля – важнейшы і абавязковы прыём выхавання. У. Калеснік увасабляў у вачах юнакоў і дзяўчат – будучых паэтаў і празаікаў – сапраўднага “жывога” літаратара, які вырас на той жа зямлі, на якой раслі яны, і данёс яе клопаты і радасці да слыху ўсёй шматнацыянальнай краіны.

Пахаваны У.А. Калеснік (1994) на могілках у вёсцы Плоска (цяпер частка



Брэста). На помніку з вялікага валуна змешчаны словы: “Жыві, каб помнілася твая прысутнасць у свеце”.



## АЛЯКСЕЙ ГАРДЗІЦКІ
## (1934-1999)

Аляксей Кузьміч Гардзіцкі нарадзіўся ў 1934 годзе ў сялянскай сям’і ў вёсцы Пугачова Брэсцкага раёна, якая пазней будзе ўключана ў межы Брэста і стане адным з “пісьменніцкіх гняздоўяў” у нашым краі. У верасні 1941 года ён павінен быў пайсці ў першы клас, аднак Вялікая Айчынная вайна азмрочыла гэтую дзіцячую радасць. Сямігадовы хлопчык разам з сябрамі-аднагодкамі замест голасу першай настаўніцы слухаў стрэлы і выбухі, якія даносіліся з Брэсцкай крэпасці, што знаходзілася непадалёку ад роднай вёскі.

У 1952 годзе будучы пісьменнік закончыў сярэднюю школу № 7 горада Брэста і паступіў на аддзяленне беларускай мовы і літаратуры Брэсцкага дзяржаўнага педагагічнага інстытута. Пасля яго заканчэння (1956) лёс закінуў Аляксея Гардзіцкага на Лунінеччыну: спачатку працаваў завучам Мікашэвіцкага дзіцячага дома і адначасова выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Мікашэвіцкай СШ рабочай моладзі, затым быў выбраны другім сакратаром райкома ЛКСМ Беларусі, а ў пачатку 1959 года перайшоў на працу ў рэдакцыю мясцовай раённай газеты “Ленінская праўда”. Восенню таго ж года стаў аспірантам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР і пераехаў у Мінск. У 1962–1966 гадах А. Гардзіцкі – малодшы навуковы супрацоўнік гэтага інстытута. Пасля працяглы час працаваў старшым рэдактарам Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па друку. З 1972 года і амаль да канца жыцця – літаратурны кансультант Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Першая публікацыя Аляксея Гардзіцкага з’явілася ў друку ў 1953 годзе ў брэсцкай абласной газеце “Зара”. На старонках рэспубліканскіх выданняў пісьменнік стаў выступаць з канца 50-х гадоў, калі ў 1959 годзе часопіс “Маладосць” змясціў яго рэцэнзію на зборнік вершаў У. Нядзведскага “Вясновыя баразны”.

А. Гардзіцкага як крытыка і літаратуразнаўца цікавілі праблемы сучаснай беларускай літаратуры і яе ўзаемасувязі з літаратурамі іншых народаў. Вядомасць набылі такія яго даследаванні, як “Дыялогі” (1968), “Пра майстэрства дэталі” (1969), “Творчасць Івана Шамякіна” (1971), “Сустрэчы” (1972), “Вачыма сяброў” (1977), “Зразумець, як сваё”(1977), “Сябрына” (1986), “Гутаркі: інтэрв’ю, дыялогі пра літаратуру” (1988). Асабліва прывабліваля нашага земляка праблема ўзаемасувязей літаратур. Сваю зацікаўленасць гэтым пытаннем ён патлумачыў у прадмове да кнігі “Сябрына”: “З кім бы я не гаварыў – ці то з рускай паэтэсай Рымай Казаковай, ці то з украінцам Раманам Лубкіўскім, літоўцам Эўгеніюсам Матузявічусам, латышом Юліем Ванагам, армянінам Геворгам Эмінам, ці з узбекскімі пісьменнікамі Камілем Яшэнам і Хамідам

Гулямам, – заўсёды прыходзіла адчуванне, што спраўдзіліся словы нашага народнага песняра Янкі Купалы:

*Занімай, Беларусь*
*маладая мая,*
*Свой пачэсны пасад*
*між народамі!”*

Найчасцей Аляксей Гардзіцкі выступаў у жанры дыялогу-інтэрв’ю. Яго “дыялогі”, – як адзначаюць літаратары-навукоўцы, – “даволі рэдкі ў беларускай практыцы вопыт жывой, змястоўнай, насычанай багатым фактычным матэрыялам размовы крытыка і пісьменніка, у ходзе якой высвятляюцца важныя пытанні псіхалогіі мастацкай творчасці, пісьменніцкага майстэрства, творчай гісторыі многіх прыкметных з’яў сучаснай айчыннай і замежнай літаратур” (А. Гурская, А. Майсейчык). Так, у кнізе “Сустрэчы” змешчаны цікавыя, нязмушаныя гутаркі А. Гардзіцкага з пісьменнікамі Берасцейшчыны П. Пестраком і М. Засімам. Аўтар кнігі прыгадвае і сваю сустрэчу з Міколам Засімам восенню 1956 года, перадае ўспрыманне паэта тагачаснымі берасцейцамі: “Наша павага да яго была шматразова памножана, бо гэта быў адзіны паэт на горад. І брастаўчане вельмі ганарыліся, калі Мікола Засім выступаў перад імі разам з Максімам Танкам ці іншым вядомым паэтам, і апладзіравалі свайму земляку не менш, а нават больш чым гасцям...”. Відаць, што М. Засім аказаў вялікі ўплыў і на А. Гардзіцкага як пісьменніка-пачаткоўца.

На літаратурнай ніве Аляксей Кузьміч Гардзіцкі выступаў таксама з навеламі-мініяцюрамі: “Як будзе хутчэй”, “Чые дзеці?”, “Барэйкава рыба”, “Не туды колюць” і інш. Ён з’яўляецца складальнікам зборніка вершаў “Беларускія савецкія паэты” (Тбілісі, 1978) і біяграфічнага даведніка “Пісьменнікі Савецкай Беларусі” (1981). У пісьменніцкім асяроддзі яго ведалі як збіральніка розных бываліц, цікавых гісторый з жыцця калег па пяру.

Памёр у 1999 годзе.

## КАСТУСЬ ЖМІНЬКО



Кастусь (Канстанцін Фёдаравіч) Жмінько нарадзіўся 17 лютага 1941 г. у вёсцы Пугачова (з 1979 г. у межах Брэста) у рабоча-сялянскай сям’і. Закончыў сярэднюю школу № 4 г. Брэста. Працаваў на новабудоўлях электрамантажнікам, служыў электрыкам-падводнікам у ВМФ СССР. Пасля службы працаваў мастаком кінатэатраў горада, мытнікам і вучыўся на факультэце мовы і літаратуры Брэсцкага педагагічнага інстытута імя А.С. Пушкіна, які закончыў у 1967 годзе.

У 1969 г. быў накіраваны на службу ў праваахоўныя органы, дзе даслужыўся да палкоўніка і з пасады начальніка аддзела абласнога ўпраўлення ўнутраных спраў выйшаў на пенсію (лістапад 1994). За гады службы ўзнагароджаны ганаровымі грама-



тамі і дыпломамі на розных узроўнях, шэрагам медалёў, занесены ў “Кнігу Гонару” МУС БССР.

Імя К.Жміньо вядома з 70-х гадоў мінулага стагоддзя па шматлікіх публікацыях у перыёдыцы. Яго паасобныя творы перакладаліся на рускую, украінскую і польскую мову. Больш актыўна аўтар пачаў выступаць у друку з 90-х г.: нізка вершаў была змешчана ў калектыўным зборніку “Берасцейскія карані” (1993); у 1999 годзе выйшаў паэтычны зборнік “Між вамі”; асобныя творы друкаваліся ў калектыўных зборніках паэзіі Берасцейшчыны “Дзядзінец” (1999), “Белавежская пушча ў духоўнай і культурнай спадчыне беларусаў” (2003), “Белой Вежи свет: Поэзия Брестчины в переводах Валерия Гришковца” (2005), а таксама ў часопісах “Полымя” (2000, № 9) і іншых выданнях.

***Край***

*Край надзеі, Край разрухі,*
*І любові, і тугі,*
*Спраў і слоў, і – балбатухі,*
*Край благі, і – не благі.*

*Край Скарыны, Край Купалы*
*І – прыслужніцкай брыды,*
*Край гісторыі апальнай*
*І чарнобыльскай бяды.*

*Прынямоння Край азёрны,*
*Край Калесніка, Брыля...*
*З памяркоўнасцю, з пакорай –*
*Нескароная зямля.*

*Краю наш, жыві вякамі –*
*Волю ўваскрасі наноў!*
*Мы твой попел, мы твой камень –*
*Сціплы грунт для каранёў.*

МІКОЛА ПРАКАПОВІЧ



Родная вёска Міколы Пракаповіча Пугачова прытулілася да спакойнай і паважнай ракі Мухавец, якая аддзяляе яе ад горада Брэста. Сёння Пугачова – мікраараён горада, але ён па-ранейшаму спалучае ў сабе два воблікі – буйнога горада і традыцыйнай вёскі. Менавіта тут у сям’і рабочага нарадзіўся ў 1948 годзе будучы паэт. “Часта ў дзяцінстве здавалася, – прыгадваў ён, – што наша вёска – гэта нейкая правінцыя, якая далёка ад цэнтра і тут нічога ніколі не было і быць не магло. Але гэта не так. Месца, дзе нарадзіўся і

жыў чалавек, назаўсёды застаецца ў сэрцы і памяці як нешта светлае, чыстае, роднае. Горад – гэта іншае і нават чужое, а вёска – гэта сваё...”.

Бацька М. Пракаповіча, Мікалай Ільіч, меў некалькі прафесій: маляр, слесар, экскаватаршчык, трактарыст. Амаль усё яго жыццё было звязана з працай у Брэсцкім рачным порце. Маці, Вольга Паўлаўна, шмат часу праводзіла дома, хоць таксама працавала ў горадзе то гардэробшчыцай, то прыбіральшчыцай. Яна закончыла ўсяго чатыры класы польскай школы, але была эмацыянальнай і тонкай натурай – ведала на памяць шмат вершаў, захаплялася народнай песняй:

*І маці, адарваўшыся ад працы,*
*шчасліва зашчабеча нада мною:*
*“Бегла мышка па ваду*
*І згубіла каляду,*
*Йдзі, Мікола, пазбірай,*
*Будзе табе каравай...”*
(“Радавод”)

Вось чаму Мікола неяк прызнаўся: “Калі гаварыць пра генетычную пераемнасць у адносінах да літаратуры і песні, то яна хутчэй ад маці, хоць і па бацькавай лініі было шмат цікавых людзей... Напрыклад, вясковы скрыпач дзед Ілья...”.

У 1955 годзе М. Пракаповіч пайшоў у першы клас Пугачоўскай васьмігадовай школы. Пасля працягваў вучобу ў СШ № 4 г. Брэста. Вучнем шмат чытаў, ахвотна пісаў сачыненні, нават складаў вершы. Звязваць свой лёс з літаратурай і творчасцю, аднак, не планаваў. Марыў стаць капітанам далёкага плавання ці фізікам-ядзершчыкам, таму ў школьныя гады вельмі захапляўся спачатку гісторыяй, пазней – фізікай і матэматыкай. Да ўласнай літаратурнай творчасці Міколу падахвочваў сусед, кампазітар-аматар і паэт Дзмітрый Васільеў, які ў той час шмат друкаваўся ў абласной газеце “Заря”. Ён пазнаёміў М. Пракаповіча з супрацоўнікамі газеты, паказаў яго вершы Міхасю Рудкоўскаму, які адзначыў, што малады аўтар не пазбаўлены пэўных літаратурных здольнасцей і таленту. Знаёмства з М. Рудкоўскім, яго падтрымка ў многім паўплывалі на выбар Пракаповічам будучай прафесіі – у 1966 годзе ён паступіў на філалагічны факультэт Брэсцкага педінстытута імя А.С. Пушкіна. У гэтым жа годзе ў абласной газеце “Заря” быў надрукаваны яго першы верш “Ранак”.

На першым курсе інстытута Мікола Пракаповіч адчуў сур’ёзную патрэбу пісаць. Спрыяла гэтаму творчае студэнцкае і выкладчыцкае асяроддзе. Група, у якой вучыўся Мікола, аказалася таленавітай – амаль усе пісалі вершы. Паэтаў-пачаткоўцаў падтрымліваў Уладзімір Андрэевіч Калеснік. Ён рабіў усё, каб зацікавіць сваіх выхаванцаў літаратурай, распальваў у іх агеньчык творчасці. Для М. Пракаповіча і яго сяброў – Алеся Каско, Алеся Разанава, Рыгора Сыраваткі, Алеся Зайко, Уладзіміра Гарбарука і іншых – студэнцкія гады былі цікавымі і змястоўнымі. Будаўнічыя атрады, сустрэчы з пісьменнікамі, удзел у ра-



боце абласнога літаб'яднання... "Усе разам мы збіраліся, – расказвае Мікола, – і абмяркоўвалі першыя кніжкі паэтаў-равеснікаў. Аднойчы Алесь Зайко прыехаў з дому і прывёз поўны чамадан паэтычных зборнікаў. Я не бачыў ніколі столькі кніг за сваё жыццё... Потым мы сталі хадзіць па кнігарнях і сачыць за літаратурнымі навінкамі. Заўсёды збіраліся ў пакоі, хвалілі ці крытыкавалі тыя або іншыя творы так, што кніжкі ляцелі праз фортку інтэрната". Па сённяшні дзень любімымі пісьменнікамі, кумірамі ў літаратуры для М. Пракаповіча з'яўляюцца Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч і Уладзімір Караткевіч.

Пасля заканчэння Брэсцкага педінстытута імя А.С. Пушкіна (1970) Мікола паехаў настаўнічаць на Піншчыну, у вёску Асобавічы. Там за год працы ў мясцовай васьмігодцы ім былі напісаны многія вершы, якія пазней склалі падборку "Белая вежа" у калектыўным зборніку "Нашчадкі" (1979). Затым былі служба ў войску (1971–1972) і вяртанне ў родныя мясціны:

*Можна жыць прыстойна і багата*
*У любой, напэўна, старане,*
*Ды няма дабрэй бацькоўскай хаты,*
*За яе няма нідзе радней.*

("Вяртанне дадому")

З 1972 года Мікола Пракаповіч жыве ў Брэсце. Некаторы час працаваў на Брэсцкім абласным радыё, затым перайшоў на Брэсцкую студыю тэлебачання ў рэдакцыю літаратурна-мастацкіх і музычных перадач.

Захапленне паэзіяй, жаданне пісаць ніколі не пакідала яго. Вершы М. Пракаповіча рэгулярна публікаваліся на старонках абласных і рэспубліканскіх перыядычных выданняў, а лепшае з напісанага ён уключыў у тры паэтычныя зборнікі: "Неад'емнае" (1982), "На кругі свае" (1986), "Мяжа надзеі" (1993). Большасць твораў з іх маюць выразнае патрыятычнае гучанне. Аўтар і яго лірычны герой жывуць і вучацца нястомна "сваё і чужое цаніць", бо толькі

*Тады падымаецца крона,*
*калі беражэш карані.*

Вось чаму ў творчасці М. Пракаповіча так абвострана адчуванне ўсяго роднага, пачынаючы з бацькоў, сваёй сям'і і заканчваючы ўсёй Беларуссю, яе хараством і пакутлівай гісторыяй. Як своеасаблівая малітва за Беларусь успрымаецца яго зборнік "Мяжа надзеі". Тэма Радзімы вырашаецца тут шматпланава. Найперш, аднак, адчуваецца глыбокае асэнсаванне паэтам гістарычнага лёсу беларусаў, яго трывога і непакой за будучыню роднага краю. Асаблівае грамадзянскае гучанне набылі вершы з цыклаў "Абрысы" і "Галасы берасцейскага дзядзінца", у якіх аўтар паэтычна ўзнаўляе гісторыю сваёй зямлі, перш за ўсё гісторыю роднага горада – старажытнага Бярэсця ("Мяжа надзеі", "...І нараджалася слова", "Цытадэль" і інш.). З твораў М. Пракаповіча паўстаюць і постаці знакамітых землякоў, чые лёсы непадзельныя ад лёсу Бацькаўшчыны: майстра Алексы, Афанасія Філіповіча, Паўлюка Багрыма, Казіміра Лышчынскага, Усевалада Ігнатоўскага і інш.

"Мяккі лірызм, добразычлівасць да свету, любоў да прыроды роднага краю,

умелае выкарыстанне фальклору – гэтыя якасці паэзіі Міколы Пракаповіча, – як слушна зазначае доктар філалагічных навук Зоя Мельнікава, – ужо даўно высока ацэнены беларускім літаратуразнаўствам. Думаецца, ужо адно гэта давала паэту права кіраваць літаратурным гуртком пры студыі “Спадчына” Брэсцкага абласнога цэнтра маладзёжнай творчасці, па-бацькоўску апекавацца маладымі талентамі краю, быць для паэтаў-пачаткоўцаў сапраўдным настаўнікам у мастацтве слова. Яму пашанцавала з тымі, хто прыйшоў у гурток, – каго знайшоў сам Мікола і хто знайшоў яго. Сярод маладых і перспектыўных выхаванцаў М. Пракаповіча варта вылучыць Максіма Шчура, Ярыну Дашыну, Ірыну Поўх, Васіля Барысюка, Марыю Лагодзіч і інш.

***Туман***

*Які паэтычны туман –*
*ад Брэста да Мінска.*
*Над рэчкай, над пожняй туман,*
*нібыта ў дзяцінстве.*
*А лета на схіле,*
*зажураны верасень блізка.*
*Атручана рэчка,*
*што казкай плыла праз дзяцінства.*
*І вёска,*
*што ў шлях мяне з верай у шчасце*
*паслала,*
*задымленай вуліцай*
*з імем Суворава*
*стала.*
*Мінаюць паўстанкі,*
*гады-гарады пралятаюць.*
*– Куды я лячу? –*
*у чужога світанку спытаю.*
*– Чаго я хачу,*
*калі страціў найлепшае ў свеце?*

*Сплывае туман.*
*Вецер гоніць па вуліцы смецце...*





## ЗІНАІДА ДУДЗЮК
(Нар. у 1950 годзе)

...Мае жыццё было далёка не ідэальным, яно рэальнае, з гаркотаю і радасцямі, аблудамі і разуменнем, самаўпэўненасцю і пакораю.

Як помню сябе, з гадоў трох маімі найлепшымі цацкамі былі кніжкі, а дакладней падручнікі, па якіх вучыўся старэйшы дваюрадны брат. На печы, высокай, як Алімп, выспявала маё нясцерпнае жаданне хутчэй навучыцца чытаць. З падручнікаў я выбрала буквар і пры ўсялякай нагодзе прасіла старэйшых, каб паказалі літары.

Самае ранняе маё маленства прайшло ў дзедавай хаце, якая стаяла на высокім беразе Дняпра ў вёсцы Чаплін. З гары далёка-далёка было відаць сіняе зарэчча, дзе неба злівалася з лесам. Тады мне вельмі хацелася дайсці да небакраю, адтуль – мая нязводная прага падарожжаў.

Продкі мае былі сялянамі, толькі прадзед Рыгор па маці працаваў вясковым настаўнікам. Ён казаў сваім вучням: “Розныя птушкі на свеце жывуць: адны – самі гнёзды ўюць, а другія – гатовае дупло шукаюць”. З-за гэтага дупла ён і атрымаў мянушку Дуплей, якая перайшла на ўвесь род.

Мне ішоў пяты год, калі бацькі пераехалі ў Брэсцкую вобласць. У заходнебеларускай вёсцы застала я незвычайны лад жыцця жанчын, якія пралі і ткалі... На вышках для мяне знайшлася маленькая потась і верацены. У кожнай хаце, дзе стаялі кросны, можна было навіваць цэўкі. Я мэтанакіравана хадзіла па суседзях, глядзела, хто і што робіць, і старалася дапамагаць. Асабліва мне падабалася наведваць вялікіх дзевак, слухаць іхнія размовы, а яны ўспрымалі мяне як малое дзіця, якое яшчэ нічога не разумее... Мне адкрываўся тэатр дарослага жыцця, у якім была я гледачом і ўдзельнікам...

На вячорках жанчыны, занятыя прадзівам, вышываннем, тканнем, спявалі, расказвалі розныя гісторыі. Іншы раз гаспадыніна дачка-падлетак чытала казкі, якія прыносіла са школьнай бібліятэкі. “Канька-гарбунька” Яршова, пачутага на тых вячорках, я праз шмат гадоў пераклала на беларускую мову, калі здарыўся ў маім жыцці крызіс, – адгарадзілася ад злыбеды казкаю, быццам вярнулася ў маленства, і выратавала сябе...

У шэсць гадоў я пайшла ў школу. Настаўнік ацаніў маю настойлівасць і дазволіў хадзіць на заняткі, хоць тады бралі толькі сямігодак. Школа наша была раскіданая па хатах. Зіма выдалася снежная, іншы раз дарогі моцна перамятала, і настаўнік з суседняга сяла не меў магчымасці прыйсці да сваіх першакласнікаў. Мы залазілі на печ да гаспадыні, бабулі Анішчыхі, слухалі яе казкі.

У той год у вёску правялі радыё, якое з дня ў дзень клікала перасяленцаў на цалінныя землі. Вясною мае бацькі вырашылі ехаць на Украіну.

Наша сям’я сумавала па Беларусі. Украінскі клімат не падыходзіў маці. Мы пераехалі на будоўлю ў Белаазёрск. Я пайшла ў чацвёрты клас. У новай

школе мая вучоба сама сабою наладзілася. Выкладанне вялося па-руску, але ў нас былі заняткі беларускай мовы і літаратуры. Я з захапленнем чытала прозу і вершы Якуба Коласа. Не было на свеце цікавейшага пісьменніка! Колас вяртаў мне той час, які быў страчаны на Украіне, і той, калі мяне яшчэ не было на свеце... Пасля пятага класа я напісала першыя тры вершы пра поле, васількі і лес.

Першыя вершыкі, занатаваныя на аркушы, хутка згубіліся. Пазней усё, што рыфмавалася, я пачала запісваць у агульны сшытак. Бадай, гэта былі не вершы, а хутчэй водгук на тыя ці іншыя падзеі, рыфмаваны дзённік душы. Гэты свой занятак я трымала ў сакрэце. Мне здавалася, што вершы пішуць усе... Калі сяброўкі без дазволу пачыталі мае запісы, я спаліла сшытак...

На будаўніцтва Бярозаўскай ДРЭС прыязджала шмат людзей. У шостым класе ў нас з'явіўся новы вучань Віталік Каскевіч. У яго былі тонкія рысы твару, удумлівыя вочы, цёмныя хвалістыя валасы. Ён вучыўся ў музычнай школе, іграў на баяне... Гэтаму хлопчыку я прысвяціла свой першы лірычны верш. Віталік у тую ж зіму цяжка захварэў, да канца года ён з намі больш не вучыўся, а летам сям'я Каскевічаў выехала з гарадка...

Прамінула трыццаць гадоў, я збірала матэрыялы для рамана "Архірэевы скарбы" і сустрэла ў архіўных дакументах звесткі пра шляхціча Каскевіча, які жыў у Магілёве ў 1812 годзе. Сучаснікамі быў апісаны ягоны партрэт. Аказаўся ён вельмі падобным на бацьку Віталіка Каскевіча. Я ўвяла гэтага шляхціча ў раман пад ягоным уласным прозвішчам...

Пасля заканчэння дзесяцігодкі ў 16 гадоў я пайшла працаваць на будоўлю. Мяне накіравалі на курсы тынкоўшчыц у Мінск, а потым на практыку – у Смаленск. Некалькі месяцаў самастойнага жыцця прынеслі шмат уражанняў, надалі мне ўпэўненасці. Я адважылася паслаць свае вершы ў бярозаўскую раёнку "Маяк камунізма". У красавіку 1967 года іх надрукавалі.

Праца на будоўлі здалася мне нецікаваю, таму я паехала вучыцца ў Брэст, дзе набыла прафесію чарцёжніка-канструктара і атрымала накіраванне на работу ў праектны інстытут. Адразу ж паступіла на вячэрні факультэт Брэсцкага інжынерна-будаўнічага інстытута, але хутка зразумела, што мяне зусім не цікавяць ні вышэйшая матэматыка, ні супраціўленне матэрыялаў... Неўзабаве надрукавала першыя падборкі ў газеце "ЛіМ" і часопісе "Работніца і сялянка".

У 1976 годзе мяне запрасілі на семінар у Каралішчавічы. Гэта было некалькі незабыўных дзён, напоўненых цікавымі сустрэчамі з пісьменнікамі і пачаткоўцамі.

Рукапіс першай кніжкі вершаў "Праводзіны птушак" я сабрала праз некалькі гадоў пасля таго, як скончыла інстытут. Яна выйшла ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" ў 1983 годзе.

Тады ж звольнілася з праектнага інстытута і пайшла працаваць інжынерам на вытворчасць, пасля – метадыстам у Бюро падарожжаў і экскурсій, нарэшце – карэспандэнтам-арганізатарам у Бюро прапаганды мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў.

Наступны зборнік вершаў "Абрысы лета" быў выдадзены ў 1988 годзе. У



гэты час я пачала пісаць п’есы-казкі для дзяцей. Яны друкаваліся ў калектыўных зборніках драматургіі. Казка “Сінязорка” была пастаўлена ў Брэсцкім драматычным тэатры, “Дудка-самагудка” – на радыё. Ставіліся мае п’есы і ў самадзейных драматычных калектывах, асабліва плённае супрацоўніцтва ў мяне склалася з тэатрам “Летуценнікі” з Любанскага раёна.

У 1991 годзе, нарэшце, з’явілася ў мяне магчымасць паехаць вучыцца на Вышэйшыя літаратурныя курсы. (Якраз тады сын скончыў дзесяты клас і паступіў у інстытут, адначасова мы сталі студэнтамі).

У пачатку 90-х гадоў былі напісаны п’есы-казкі “Жывая вада”, “Канікулы на астэроідзе”, “Чароўны гадзіннік”, драма “Падданыя кахання”, трагікамедыя “Заложнікі шчасця”. У 1993 годзе выйшаў новы зборнік вершаў “Так і не”, а яшчэ праз чатыры гады – кніжка прозы “Палоннікі жыцця”, у якую ўвайшлі тры аповесці і дзесяць апавяданняў.

Раман “Архірэевы скарбы” быў напісаны ў 1998 годзе і толькі пасля таго, як я звольнілася з газеты “Народная трыбуна”, дзе працавала аглядальнікам, і з пасады загадчыцы літаратурнай часткі ў Брэсцкім тэатры драмы і музыкі. Дзве гэтыя працы я сумяшчала на працягу пяці-шасці гадоў пасля заканчэння Вышэйшых літаратурных курсаў.

І ў жыцці, і ў творчасці мяне найбольш цікавіць чалавек, яго стасункі з дзяржаваю і грамадствам.

(З аўтабіяграфіі З. Дудзюк “Біяграфія душы”, 1999)

З моманту напісання аўтабіяграфіі прайшло некалькі гадоў. Яны былі надзвычай плённымі для Зінаіды Дудзюк, да творчых набыткаў якой дадаліся новыя паэтычныя зборнікі, празаічныя і драматычныя творы, краязнаўчыя нарысы, пераклады і нават кінасцэнарыі і метадычныя дапаможнікі. Асабліва ганарыцца пісьменніца сваімі раманамі – “Год 1812” (2004), “Велясіты” (2005) і “Кола Сварога” (2006). Першы з названых твораў належыць да ліку гістарычна-прыгодніцкіх і апавядае пра падзеі вайны з французамі на тэрыторыі Беларусі і Расіі. Прыгодніцкім з’яўляецца і раман “Велясіты”. “Кола Сварога”, па ўласным вызначэнні аўтара, – раман-рэканструкцыя. У ім чытач пазнаёміцца з язычніцкімі багамі і духамі, даведаецца пра асаблівасці міфалагічнага мыслення старажытных славян, пра этымалогію паходжання асобных назваў раслін і жывёл, атрымае ўяўленне пра асновы грамадскай этыкі і народнай маралі.

На рэспубліканскіх конкурсах дыпломамі і прэміямі не раз адзначаліся драматычныя творы З. Дудзюк (“Лятавіцы” (2003), “Кароль смаўжоў” (2006) і інш.). Па многіх яе п’есах пастаўлены спектаклі ў Мінскім абласным тэатры, Брэсцкім абласным тэатры драмы і музыкі, народным тэатры студыі “Летуценнікі”, Івацэвіцкім і Целяханскім народных тэатрах...

Настаўнікам і кіраўнікам драматычных гурткоў, тэатральных студый адрасаваны кнігі “Чароўнае слова” (2001) і “Зачараванасць тэатрам” (2005), якія выйшлі з грыфам Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.

Такая актыўная творчая праца Зінаіды Дудзюк заўважана і калегамі-пісьменнікамі, і крытыкай. У 2004 годзе яна была прызнана “Пісьменнікам года”.

***Роднасць***

*Памерла б я, напэўна, сіратою,*
*Каб не мае названыя браты,*
*Што агарнулі ласкаю святою,*
*Што затулілі ад сляпой слаты.*

*Яны мяне вярталі да былога,*
*Дзе каляіны горычы і слёз,*
*Яны мяне вялі па тых дарогах,*
*Дзе прывіды паўстанцаў ля бяроз.*

*Дзе селішча Касцюшкава нямее*
*І спіць валун, нібы стары парог,*
*Дзе белы замак між палёў – камеяй,*
*Што і ў руінах прыгажосць збярог.*

*Дзе цела хана пад Гарою Лысай*
*Хавае тайну Залатой Арды.*
*Братоў размовы дзіўнымі здаліся,*
*Не ўсё я зразумець магла тады.*

*Ніхто не павучаў мяне заўзята,*
*Ніхто мне запаветаў не даваў.*
*Ісці мне цяжка, хоць і ўслед за братам,*
*Дзе забыцця высокая трава.*

*Мне болей не патрэбна дапамога.*
*Збіраюся ў нязнаны новы шлях.*
*Калі малюся на якога бога,*
*Дык на цябе, радзімая зямля.*



Браты АНАТОЛЬ І ВАСІЛЬ ДЭБІШЫ

Нарадзіліся 22 ліпеня 1962 года ў в. Шамятоўка Свіслацкага раёна Гродзенскай вобласці. Усё жыццё – разам. У тым ліку ў паэзіі.

Скончыўшы Мсцібаўскую школу, працавалі вадзіцелямі аўтамабіляў у саўгасе “Гнезна” Ваўкавыскага раёна. Пасля службы ў войску (1980-82) вучыліся ў Мінскім інстытуце культуры. Пасля яго заканчэння апынуліся ў Брэсце. Анатоль атрымаў пасаду дырэктара Дома культуры “Хімік”, а Васіль – выхаваццеля ПТВ №229.

Анатоль літаратурную дзейнасць пачаў у 1983 годзе. Друкаваўся ў



часопісах “Маладосць”, “Крыніца”, “Полымя”, “Беларусь”, штотыднёвіку “Літаратура і Мастацтва”, альманаху “Дзень паэзіі”. У 1992 годзе выйшаў зборнік яго вершаў “Калядная вячэра”. Ужо першыя вершы А. Дэбіша вылучаліся ў маладой вершаванай плыні сваёй арыгінальнасцю, тэматыкай і вобразным ладам. Пра што б ні пісаў – далёкія паганскія часы ці трагедыю Курапатаў, пра сваё маленства ці каханне – за кожным радком паўстае жывая душа, не па ўзроту спакутаваная. А. Дэбіш схільны да паяднання гісторыі з сучаснасцю. Шчымлівым болем, гневам і надзеяй прасякнута яго паэма “Курапаты – 57”.

***

*З сябе зрываю скуру, як вярыгі,*
*Што цела апякаюць да касцей.*
*Я прагну – волі, як зямля адлігі,*
*Каб дыхаць і прывольней, і часцей.*

*Хай кроў кіпіць і трэскаюцца жылы,*
*І засцяць вочы слёзы мне і боль.*
*Мне хопіць моцы вырвацца з магілы,*
*Што паланіла Дух мой, як юдоль.*

*Не зойдзецца Сусвет бядой і юрам,*
*Квітнець яшчэ прыродзе і цвісці.*
*З сябе зрываю амярцвення скуру,*
*Каб вольным па жыцці далей ісці.*



Вершы Васіля Дэбіша ўпершыню былі надрукаваны ў 1987 годзе ў часопісе “Маладосць”. Друкаваўся ў штотыднёвіку “Літаратура і Мастацтва”, часопісе “Беларусь”, альманаху “Дзень паэзіі”, зборніках “Матчына слова”, “Берасцейскія карані”, “Паўлюк Багрым”. У 1992 выйшаў зборнік яго вершаў “Белыя птахі”. В. Дэбіш – тонкі і пранікнёны лірык. У яго вершах – пачуццёва-рамантычны свет чалавека, які сумуе па чулых, далікатных, шляхетных адносінах паміж людзьмі, асэнсаванне зямнога побыту і духоўных крыніц жыцця, боль за панявечаную памяць. Звяртаецца ён і да міфалогіі.

***

*Юнацтва... Першы дзень вясны,*
*І нашы школьныя зарніцы.*
*У рэчцы стынуць перуны,*
*Цалуюць дрэва навальніцы.*

*На пожні босыя сляды.*
*Над рэчкаю вясёлка ззяе.*

*Умалацэ густым сады,*
*І ўсё ў садах нам спагадае.*

*І пах сукенкі ільняны,*
*І рук маланкавая повязь.*
*Юнацтва... Першы дзень вясны.*
*Кахання першая аповесць.*

Браты Анатоль і Васіль Дэбішы жывуць і працуюць у Брэсце.

## АЛЯКСАНДР ВАЛКОВІЧ

Аляксандр Міхайлавіч Валковіч нарадзіўся ў Брэсце ў 1950 годзе ў сям'і ваеннаслужачыш. Бацька – Міхаіл Ільіч – удзельнік Вялікай Айчыннай вайны і выпрабаванняў ядзернай зброі на Тоцкім палігоне, памёр у 1975 годзе. Маці Лідзія Іларыёнаўна працавала да выхаду на пенсію бібліятэкарам школьнай бібліятэкі Дамачаўскай СШ.

Аляксандр Міхайлавіч пасля школы адразу пайшоў працаваць сцівідарам Архангельскага лесаэкспартнага марскюга порта. Працаваў на сплаве, лесапавале на Поўначы ў Сібіры.

Закончыў факультэт журналістыкі Львоўскага вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча.

Служыў у армейскім друку. Пасля звальнення ў запас рэдагаваў газету цюменскіх нафтаздабытчыкаў "Нефцянік Кагалыма", быў загадчыкам аддзела прамысловасці рэспубліканскага часопіса "СЭЗ "Брэст".

На момант падрыхтоўкі гэтага выдання да друку – спецкар газеты "Брэсцкі кур'ер".

Аповесці, апавяданні, нарысы А. Валковіча друкаваліся ў часопісах "Советский воин», «Литературная Армения», «Немига литературная», «Неман», «Маладосць», «СЭЗ «Брест», Інтэрнет-часопісе «Русский переплет", газеце "Русская Америка» і іншых.

Аўтар некалькіх кніг прозы і мастацкай публіцыстыкі.

У часопісе "Немига литературная» (№3 за 2006 год) апублікаваў аўтабіяграфічную аповесць "Бяроза чорная, бяроза белая". У 2007 годзе ў выдавецтве "Альтэрнатыва" (г. Брэст) выйшла літаратурная дылогія "Зубр Белавежскі чыгунны", у якой аўтар па матэрыялах архіваў прасачыў лёс статуі чыгуннага зубра, устаноўленага ў Белавежы ў 1860 годзе ў гонар палявання тут Аляксандра II. У дылогіі ўзняты актуальныя пытанні збераджэння рэліктавага лесу, яго флоры і фаўны.

У гэтым жа годзе ў Інтэрнет-часопісе «Русский переплет» (г. Масква) апублікаваны аповесці А. Валковіча "Оберег", «Архангельская Алёнка с шоколадной обёртки», апавяданні, якія атрымалі шырокі розгалас сярод наведнікаў сайта, а таксама літаратурнай грамадскасці бліжняга і дальняга



замежжа. У творы праследжваецца драматычны лёс трох пакаленняў беларускіх працаўніц вёскі, даецца трактоўка беларускіх нацыянальных узораў вышыўкі і ткацтва.

Нарысы аб вяскоўцах, перадавіках прамысловасці рэгулярна публікуюцца на старонках мясцовага і рэспубліканскага друку.

## СЯРГЕЙ ГРЫШКЕВІЧ

Грышкевіч Сяргей Уладзіміравіч нарадзіўся ў 1980 годзе ў Брэсце. У 2002-м скончыў з адзнакай беларускае аддзяленне філалагічнага факультэта БрДУ імя А.С.Пушкіна. Працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў брэсцкай сярэдняй школе № 28. З верасня 2004 года – аглядальнік аддзела маладзёжнай палітыкі Брэсцкай абласной газеты "Народная трыбуна". З сакавіка 2005-га – уласны карэспандэнт "Настаўніцкай газеты" па Брэсцкай вобласці.

У друку дэбютаваў вершам "Я песні спяваў зямлі..." (газета "Заря", 1 снежня 1998 года). Актыўна публікуецца як літаратурны крытык і празаік ("Літаратура і мастацтва", "Маладосць", "Дзеяслоў" і інш.). У артыкулах і рэцэнзіях даследуе бягучы літаратурны працэс у кантэксце сусветнай літаратурнай і палітычнай сітуацыі. Вось некалькі асноўных публікацый Сяргея Грышкевіча ў жанры літаратурнай крытыкі: Літаратурнае ашуканства? [Артыкул аб праблемах сучаснай беларускай літаратуры] // Звязда. 25 верасня. 1999. "Я – чайка з Прыпяці, дачка Палесся" [Рэцэнзія на кнігу Галіны Дашкевіч] // Літаратура і мастацтва. 13 кастрычніка. 2000. Духоўнае балота [Рэцэнзія на аповесць Васіля Быкава] // Літаратура і мастацтва. 27 ліпеня. 2001. Вышыня душы [Рэцэнзія на кнігу Юрыя Паталкова] // Літаратура і мастацтва. 24 жніўня. 2001. Іх прарочы погляд [Артыкул аб творчасці Якуба Коласа і Марыса Метэрлінка] // Літаратура і мастацтва. 1 лістапада. 2002. "Дай мне, доля, дальні бераг..." [Рэцэнзія на кнігу Алеся Каско] // Маладосць. №№ 11-12. 2002. Раздарожаны сучаснік [Рэцэнзія на аповесць Анатоля Казлова] // Літаратура і мастацтва. 7 лютага. 2003. "Акварэлькі" Лявона Валасюка [Рэцэнзія] // Літаратура і мастацтва. 18 красавіка. 2003. "Дзе прынц твой, мілая Марыя?" [Рэцэнзія на кнігу Васіля Дэбіша] // Літаратура і мастацтва. 6 чэрвеня. 2003. І дабрэе душа... [Рэцэнзія на кнігу Анатоля Крэйдзіча] // Літаратура і мастацтва. 18 ліпеня. 2003. Перамагчы ў чалавеку страх: Сучасная Беларусь вачыма Васіля Быкава [Артыкул аб творчасці Васіля Быкава] // Дзеяслоў. № 5. 2003. Знішчаючы ідалаў [Рэцэнзія на аповесць Юры Станкевіча] // Літаратура і мастацтва. 23 студзеня. 2004. З любоўю да чалавека [Рэцэнзія на кнігу Міколы Сянкевіча] // Літаратура і мастацтва. 28 мая. 2004. Калі паэты пішуць прозу... [Рэцэнзія на аповесць Міколы Купрэева] // Літаратура і мастацтва. 9 ліпеня. 2004. За што даюць літаратурны Нобель: Суб'ектыўныя развагі над кнігай аднаго лаўрэата // Маладосць. № 12. 2005. Аб чым гаворым? [Артыкул аб сучаснай беларускай літаратурнай крытыцы] // Літа-

ратура і мастацтва. 13 студзеня. 2006. У палоне містыфікацый [Рэцэнзія на творы, змешчаныя ў тэматычным дадатку часопіса “Маладосць” “Фантаст”] // Літаратура і мастацтва. 20 кастрычніка. 2006. “Салянка” з Багоў, альбо Беларуская “Калевала” [Рэцэнзія на кнігу Зінаіды Дудзюк] // Літаратура і мастацтва. 2 сакавіка. 2007. Дэбют, варты працягу, альбо Далоў каханне па разліку! Спроба “антыжаночай” рэцэнзіі [Рэцэнзія на аповесць Алеся Гайдука “Калі табе не васемнаццаць”] // Настаўніцкая газета. 22 сакавіка. 2007.

## ГЕОРГІЙ ТАМАШЭВІЧ

Георгій Сцяпанавіч Тамашэвіч нарадзіўся ў в. Долкінды паблізу Нясвіжа 14 жніўня 1939 года. Школьнікам удзельнічаў у літаратурных конкурсах, друкаваўся ў раённай газеце “Чырвоны сцяг”, рэспубліканскіх “Піянер Беларусі”, “Чырвоная змена”, “Знамя юности”… У пятнаццацігадовым узросце стаў членам літаратурнага аб’яднання пры райгазеце, у якой літкансультантам быў вядомы беларускі пісьменнік Паўлюк Прануза. У школе рэдагаваў вучнёўскую газету. Пазней, скончыўшы дзесяцігодку, быў адказным сакратаром калгаснай шматтыражкі. Скончыў Калінінградскае медыцынскае вучылішча, служыў у Савецкай Арміі, працаваў памочнікам дырэктара па культурна-выхаваўчай рабоце прафтэхвучылішча ў Данбасе, закончыў факультэт журналістыкі Кіеўскага дзяржаўнага універсітэта імя Т. Шаўчэнкі. 16 год узначальваў шматтыражную газету “Тэкстыльшчык” у Баранавічах. З 1984 па 1991 загадваў сектарам сродкаў масавай інфармацыі абкама КПБ; быў кіраўніком абласнога арганізацыйна-метадычнага цэнтра па выданні кніг “Памяць”. З 1991 па 2002 – начальнік упраўлення па друку Брэсцкага аблвыканкама, цяпер – старшыня Брэсцкай абласной арганізацыі Беларускага саюза журналістаў.

Такім чынам, амаль усё жыццё – кіруючыя пасады. Між тым, Георгій Тамашэвіч не з тых, хто толькі кіруе. Ён – творца. Салідныя калектыўныя зборнікі “Берасцейскія карані”, “Нашчадкам слова застаецца”, “Брэстчына вачыма журналістаў”, “Зямля Берасцейская”, «Брэсцкія ўрокі Машэрава» і многія іншыя – гэта найперш яго клопат, яго вялікі не толькі арганізацыйны, але і творчы ўклад.

Георгій Тамашэвіч – заслужаны журналіст Беларускага саюза журналістаў, лаўрэат прэміі Беларускага саюза журналістаў у намінацыі “За выдатны ўклад у развіццё беларускай журналістыкі”, “Выдатнік друку Беларусі”. У 2007 годзе выдаў паэтычны зборнік “Жытнёвае слова”. Тэматыка вершаў, што складаюць яго, традыцыйная: сыноўнія пачуцці да роднага куточка, пра супярэчлівасці сучаснага жыцця-быцця. Дастойна прадстаўлена тут і грамадзянская лірыка.



## ЛЮБОЎ КРАСЕЎСКАЯ

Любоў Мікалаеўна Красеўская нарадзілася ў 1953 годзе ў в. Маісееўка Краснаярскага краю (Расія). Скончыла Абаканскае педагагічнае вучылішча ў 1972 годзе і ордэна “Знак пашаны” Вышэйшую прафсаюзную школу культуры г. Ленінграда (1990 г.). Працавала ў Палацах культуры горада Чарнагорска і Краснаярска. У 1989 годзе прыехала з Сібіры ў Беларусь. Да 2007 года працавала дырэктарам клуба ААТ “Дываны Брэста”.

Першыя вершы былі апублікаваны на літаратурных старонках газеты “Чарнагорскі рабочы” ў 1982 г. Аўтар паэтычнага зборніка “С любовью о любви” (Брэст, 2004 г.). Вершы публікаваліся ў літаратурна-мастацкіх часопісах: “Немига литературная”, «Братина» (г. Масква), у калектыўным зборніку “Созвучье слов живых”. Лаўрэат літаратурнай прэміі часопіса “новый берег” (Капенгаген, 2007 г.). Член Саюза пісьменнікаў Беларусі, намеснік старшыні Брэсцкага абласнога аддзялення СПБ. Дэлегат Сусветных кангрэсаў суайчыннікаў у Маскве (2001 г.) і ў Санкт-Пецярбургу (2006). Лаўрэат IV Міжнароднага фестывалю народнай творчасці “З Расіяй у сэрцы” (Смаленск, 2007 г.), лаўрэат 1-га Міжнароднага фестывалю расійскіх суайчыннікаў замежжа “Руская песня” (Масква, 2007 г.).Пачынаючы з 2001 года – арганізатар паэтычных святаў у Дні славянскага пісьменства і культуры і фестываляў “Рускай паэзіі ўБеларусі”(2006, 2007 гг.).

***

*Дима (5 лет) закрашивает белый лист черной краской.*

*Я: – Что ты делаешь?*
*Дима: – Рисую счастье.*
*Я: – Но счастье всегда яркое, разноцветное.*
*Дима: – А у меня – черное.*
*Я: – Но почему?*
*Дима: – Потому что ночью – и на земле.*

*Гуляло Счастье ночью по Земле.*
*Оно, конечно, ночью было черное!*
*С ним разойтись легко в кромешной мгле,*
*Легко принять за нечто иллюзорное.*

*В тот странный миг земного бытия,*
*Вступившего в Счастливое затмение.*
*Стал черным Кот и черною Змея –*
*В разъединеньи ищут просветления.*

## МАСТАЦКІ ЛЕТАПІС АБАРОНЫ БРЭСЦКАЙ КРЭПАСЦІ

Мастацкі летапіс абароны Брэсцкай крэпасці пачаў стварацца адразу па гарачых слядах падзей. Ужо ў канцы ліпеня 1941 г. Канстанцін Сіманаў напісаў верш “Маёр прывёз хлапчука на лафеце...”, дзе згадваецца г. Брэст і Брэсцкая крэпасць – “он вёз его из крепости, из Бреста”.

У лісце да аўтара гэтых радкоў Канстанцін Сіманаў пісаў: “У напісаным у канцы ліпеня 41-га года вершы ёсць згадка пра хлопчыка, якога вязуць на лафеце пушкі артылерысты, якія адступалі з-пад Брэста. Як мне помніцца, гэта не з паветра ўзята; дзесьці ў Беларусі я бачыў у тыя дні менавіта такую карціну. Трэба думаць, людзі мне адказалі на маё пытанне, што ідуць з-пад Брэста, можа быць не з самога Брэста, а адкульсьці адтуль. Інакш як бы з’явіцца менавіта слову “Брэст”, яно не дзеля рыфмы ўзялося”. У гэтым вершы абарона крэпасці паўстае найперш у трагічным арэоле. Дзіця, перажыўшы пачатак вайны ў цытадэлі над Бугам, ссівела і асірацела, страціўшы маці. Бацька знайшоў сыну адзінае бяспечнае месца – лафет пушкі. Невыпадкова вобраз ссівелага дзіцяці выклікае ў лірычнага героя прагу помсты фашыстам.

У сакавіцкім нумары газеты “Красное знамя” быў апублікаваны ўрывак з рамана Кузьмы Чорнага “Вялікі дзень”. Над ім пісьменнік пачаў працаваць у 1941 г. Адзін з герояў рамана Уладзімір Вялічка – случак. Вайна яго заспела пад Брэстам на вайсковых зборах. Вялічка да вайны жыў клопатам сваёй сям’і, гаспадаркі, малой радзімы. Ён нецярпліва чакаў таго дня, калі можна будзе вярнуцца да прывычных абавязкаў. Вайна ўцягвае Вялічку ў свой крывавы вір.

Пісьменнік дакладна, з веданнем справы перадае адметнасць баёў у Брэсцкай крэпасці, толькі Кузьма Чорны перанёс іх у горад: адсутнасць агульнага камандавання, асобныя раёны змагання ў горадзе, барацьба за кожны дом, артылерыйскі і авіяцыйныя абстрэлы, прапанова абаронцам здавацца, бо яны акружаны, голад і смага, адсутнасць боепрыпасаў. Пасля дзевяці дзён змагання ў Брэсце Вялічку з Мішурыным удаецца ноччу вырвацца з захопленага фашыстамі горада.

Усё гэта сведчыць пра тое, што Кузьма Чорны чуў з першых вуснаў, што адбывалася ў Брэсцкай крэпасці ў чэрвені 1941 г. А.А. Майсейчык мяркуе, што, кіруючыся пешкі з Мінску на ўсход у пачатку вайны, Кузьма Чорны сустрэўся з вайскоўцамі, якія абараняслі крэпасць, вырваліся з нямецкага акружэння і даганялі воінскія часці, каб зноў стаць у строй. Ад іх ён і мог даведацца пра падзеі ў Брэсцкай крэпасці, лічачы, што горад і крэпасць адно і тое ж.

У першыя пасляваенныя гады з’яўляюцца новыя творы пра змаганне ў Брэсцкай крэпасці: Вершы Льва Ашаніна “Легенда пра абаронцаў Брэста” (1945), Максіма Танка “У Брэсце” (1946), Міколы Засіма “Брэст”, “Памяці Наганава і Горахава” (1950), п’еса Канстанціна Губарэвіча “Брэсцкая крэпасць”. Пісьменнікі ў гэтых творах ішлі ад тых рэальных фактаў, якія пакінула вайна ў самой крэпасці (яе агульны выгляд, надпісы на сценах), ад скупых дакументальных звестак, якія знаходзілі пры разборцы руінаў цытадэлі, успамінаў берасцейцаў і жыхароў навакольных вёсак, іх асэнсавання таго, што адбывалася ў Брэсце ў гады вайны.



У духу свайго часу напісана і п'еса Канстанціна Губарэвіча "Брэсцкая крэпасць" (першапачатковая назва "Цытадэль славы"). Хоць у канцы твора героі гінуць, аднак чытачамі і гледачамі таго часу гэта ўспрымалася як аптымістычная трагедыя. "Брэсцкая крэпасць" Губарэвіча набыла сваю шырокую вядомасць дзякуючы Брэсцкаму драмтэатру. Доўгі час яна не проста не сыходзіла з афішаў тэатра, а была своеасаблівай яго візітоўкай. Менавіта "Брэсцкай крэпасцю" тэатр пачынаў свае гастролі ў розных гарадах былога СССР і за мяжой. Прэм'ера спектакля па п'есе Губарэвіча адбылася 19, 20, 21 сакавіка 1953 г. і апошні раз "Брэсцкая крэпасць" была сыграна тэатрам у другой палове 80-х гг. Усяго было паказана каля 1000 спектакляў. З'ява ўнікальная для правінцыйнага тэатра.

Вядома, што "Брэсцкая крэпасць", якую цяпер ведае чытач, дапрацоўвалася драматургам разам з удзельнікамі першага спектакля. дзяцінства апаліла вайна (Р. Барадулін, Г. Бураўкін, М. Рудкоўскі, Р. Раждзественскі і інш.).

Большасць вершаў, якія прысвечаны Брэсту, услаўляюць подзвіг абаронцаў крэпасці, іх стойкасць і мужнасць, вернасць салдацкай клятве аддаць жыццё за чэсць, гонар, незалежнасць радзімы (П. Броўка "Крэпасць над Бугам", А. Бачыла "Песня пра герояў Брэсцкай крэпасці", Е. Лось "Гавораць бессмяротныя", П. Прануза "Аўтографы мужнасці", Р. Раждзественскі "Калі б каменні маглі гаварыць...", Ашот Грашы "Дрэва над Бугам" і інш.). Асобныя мастакі слова паэтызуюць подзвіг канкрэтных абаронцаў Брэсцкай крэпасці, у тым ліку і С.С. Смірнова, які вяртаў іх подзвіг для людзей (П. Панчанка "Капітан Шаблоўскі", С. Гаўрусёў "Сцяг Брэсцкай крэпасці", М. Дарызо "Вершы пра двух салдатаў", А. Пухаеў "Песня пра Брэсцкую крэпасць" і інш.).

Многія паэты разважаюць пра маральныя ўрокі для наступнікаў, якія далі ім абаронцы крэпасці (Г. Бураўкін "Брэсту", М. Рудкоўскі "Каменні цытадэлі", М. Зідараў "Летам зноў вярнуся...", І. Калеснік "Брэсту" і інш.).

Тэма гераічнай абароны Брэсцкай крэпасці займае значнае месца ў творчасці паэтаў нашага краю. Распачаў яе яшчэ Мікола Засім. Эстафету падхапілі паэты наступных пакаленняў: Міхась Рудкоўскі, Алесь Разанаў, Васіль Жуковіч, Мікола Пракаповіч і інш. Верш Міхася Рудкоўскага "Каменні цытадэлі" належыць да ліку творчых удач паэта. Баладзе належыць адно з пачэсных месцаў у ліку вершаў пра абарону Брэсцкай крэпасці.

Матыў гісторыя і сучаснасць праз памяць пра Брэсцкую крэпасць і яе мемарыял з'яўляецца вызначальным у паэме Алеся Разанава "Назаўжды". Сваю даніну пашаны героям Брэста аддае Іван Арабейка ў паэме "Сцяна".

Сапраўдным творчым набыткам у мастацкім летапісе абароны Брэсцкай крэпасці з'яўляецца раман Б. Васільева "У спісах не значыўся", апублікаваны ў 1974 г.

У творах другой паловы пяцідзесятых гадоў і наступных дзесяцігоддзяў агульнае паняцце гераічнай абароны крэпасці пачало раскрывацца праз непаўторныя лёсы рэальных людзей. Гэтыя лёсы сталі вядомыя дзякуючы пошукам рускага пісьменніка-франтавіка С.С. Смірнова.

Тэмай Брэсцкай крэпасці ён пачаўзаймацца ў 1953 г. Пісьменнік стаўнайперш аднаўляць саму гісторыю абароны крэпасці, вяртаць з нябыту імёны яе абаронцаў, многім і добрае імя воіна-салдата, які не па сваёй віне апынуўся ў нямецкім палоне. Паралельна з пошукамі ён папулярызаваў гэты гераічны эпізод – абарона Брэсцкай крэпасці – у гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. С.С. Смірноў выступаў па радыё і тэлебачанні, публікаваў свае знаходкі ў саюзным друку, звяртаўся за дапамогай да ўсіх, хто гатовы дапамагчы ў пошуках. Пачалі з’яўляцца і кнігі пісьменніка, прысвечаныя Брэсту: “У пошуках герояў Брэсцкай крэпасці”, “Апавяданні пра невядомых герояў”, “Брэсцкая крэпасць” і інш. За другое выданне “Брэсцкай крэпасці” С.С. Смірноў у 1964 г. атрымаў Ленінскую прэмію, самую прэстыжную і ганаровую на той час. Пісьменнік атрымаў прыдумак да свайго прозвішча – Брэсцкі. Сказаўшы тое, што хацеў пра абарону Брэсцкай крэпасці, свой архіў перадаў музею крэпасці. Берасцейцы высока ацанілі зробленае пісьменнікам. Яго назвалі Ганаровым грамадзянінам Брэста, а пасля смерці мастака слова ўшанавалі памяць у назве адной з вуліц горада.

У значнай меры знойдзенае С.С. Смірновым у гісторыі абароны Брэсцкай крэпасці дало падставу для прысуджэння ёй у 1965 г. ганаровага звання “Крэпасць-герой” з уручэннем ордэна Леніна і медаля “Залатая Зорка”. Пачалося ўзвядзенне мемарыяльнага комплекса Брэсцкая крэпасць.

Брэст стаў месцам паломніцтва. Сюды ішлі і ехалі людзі з усіх куткоў былога СССР, наведвалі і замежныя госці. Шмат пабывала ў крэпасці і пісьменнікаў, якія свае ўражанні выказвалі вершамі. Паэтычны вянок гераічнай абароны Брэсцкай крэпасці стваралі беларускія, рускія, украінскія, армянскія, літоўскія паэты і прадстаўнікі іншых народаў СССР. Свае вершы прысвяцілі Брэсту балгарскія мастакі слова Мікола Зідараў і Стэфан Паптонеў, грэк Алексіс Парніс, чэх Уладзіслаў Махуркі і інш. Той вянок складаецца з лірычных і публіцыстычных вершаў, з баладаў і паэмаў. Яго плялі паэты, якія самі прайшлі франтавымі дарогамі (Леў Ашанін, Аляксей Пысін, Пімен Панчанка і інш.).



# БРЭСЦКІ РАЁН

Літаратурнае жыццё краю, што раскінуўся ўздоўж ракі Заходні Буг, ахоплівае не толькі цэнтр – горад Брэст і яго ваколіцы. У пералік мясцін, якія знаходзяцца на тэрыторыі сучаснага Брэсцкага раёна і звязаны з жыццём і дзейнасцю пісьменнікаў, уваходзяць таксама вёскі Блювінічы, Забалацце, Клейнікі, Кустын, Лышчыцы, Марозавічы, Скокі, Сычы, Тамашоўка, Франопаль, Чарнаўчыцы, хутар Малькі, а таксама гарадскі пасёлак Дамачава і пасёлак Мухавец. Большасць з названых населеных пунктаў з’яўляюцца радзімай знакамітых літаратараў, навукоўцаў, грамадскіх дзеячаў. На жаль, імёны некаторых з іх невядомы землякам, не ўшанаваны імі належным чынам і нават не згадваюцца ў кнізе “Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Брэсцкага раёна” (Мн., 1998).

У мястэчку Лышчыцы, за 25 кіламетраў на паўночны захад ад Брэста, нарадзіўся беларускі мысліцель-атэіст, філосаф, педагог, грамадска-палітычны дзеяч XVII стагоддзя Казімір Лышчынскі (1634–1689). Першапачатковую адукацыю атрымаў у мясцовай школе, затым вучыўся ў Брэсцкім езуіцкім калегіуме. Пасля яго заканчэння К. Лышчынскі паступіў на ваенную службу. У 26-гадовым узросце, аднак, вырашыў працягваць вучобу: чатыры гады вывучаў рыторыку, логіку, фізіку, метафізіку ў Калішы. Пасля заняўся педагагічнай дзейнасцю – выкладаў у Львове, а ў 1665 годзе вярнуўся ў родныя мясціны і заняў пасаду памочніка рэктара Брэсцкага езуіцкага калегіума. У наступным годзе ажаніўся з Ядвісяй Жалінхоўскай, атрымаў у спадчыну частку родавага маёнтка Лышчыцы і актыўна ўключыўся ў грамадскае жыццё павета і ваяводства. У вольны час Казімір Лышчынскі займаўся філасофіяй. Свае погляды ён выклаў у трактаце “Аб неіснаванні Бога”, за які па адносе суседа і сябра дзяцінства Яна Казіміра Бжоскі быў зняволены і спалены на кастры ў Варшаве.

Да вобразу вальнадумца звярталіся многія беларускія пісьменнікі (В. Шніп “Маналог Казіміра Лышчынскага”, М. Пракаповіч “Ісціна”, М. Купрэеў “Ноч Казіміра Лышчынскага”, К. Цвірка “Казімір Лышчынскі”, А. Дэбіш “Інквізіцыя”, А. Лойка “Сустрэча з Казімірам Лышчынскім”, У. Арлоў “Місія папскага нунцыя”, Н. Мацяш “Маналог Казіміра Лышчынскага” і інш.).

Да 1972 года ў Лышчыцкім сельсавеце існавала вёска Сычыкі, якая была часовым месцам жыхарства польскага паэта Станіслава Клакоцкага. Сюды да яго прыязджаў паэт, драматург, перакладчык Францішак Князьнін.

Прыбужжа – радзіма вядомага пісьменніка, сябра і паплечніка Т. Касцюшкі Юльяна Урсына Нямцэвіча. Дом, у якім ён нарадзіўся, знаходзіўся непадалёку ад вёскі Скокі і да нашага часу не захаваўся. У цэнтры Скокаў засталіся рэшткі сядзібы Нямцэвічаў (пабудавана ў 1770-я гады), якая пасля смерці бацькі стала ўласнасцю Юльяна.

З вёскай Клейнікі звязана імя выдатнага дзеяча беларускага культурна-грамадскага руху пачатку XX стагоддзя, даследчыка літаратуры Яўгена Хлябцэвіча (1884–1953). У некаторых крыніцах значыцца, што ён тут нарадзіўся (у

другіх – месцам нараджэння называюцца Жыровічы). У Клейніках Я. Хлябцэвіч на сродкі вядомага рускага кнігавыдаўца Фларэнція Паўлёнкава арганізаваў народную бібліятэку, якую ўзначаліў яго бацька Іван Андрэевіч. Адсюль Я. Хлябцэвіч дасылаў свае допісы ў "Нашу ніву".

Адзначым, што адна з першых бясплатных народных бібліятэк-чытальняў у Беларусі была заснавана на сродкі Ф. Паўлёнкава ў вёсцы Астрамечава Брэсцкага раёна ў 1905 годзе. У камплектаванні гэтай бібліятэкі прымалі ўдзел Леў Талстой, Максім Горкі, Янка Купала. Сёння Астрамечаўская сельская бібліятэка носіць імя Ф. Паўлёнкава і лічыцца адной з лепшых у раёне.

Ураджэнцам вёскі Франопаль з'яўляецца Васіль Ласковіч (нар. у 1914 годзе). Доўгае, нялёгкае, але цікавае жыццё падараваў яму лёс. Член КПЗБ, актыўны ўдзельнік нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, ветэран Вялікай Айчыннай вайны, выпускнік Усесаюзнага юрыдычнага завочнага інстытута (1949), савецкі і партыйны работнік (1945–1970), навуковы супрацоўнік мемарыяльнага комплексу "Брэсцкая крэпасць-герой" (1970–1989), Ганаровы грамадзянін горада Брэста (1978). Вядомы Васіль Пятровіч і як пісьменнік-дакументаліст, аўтар кніг "Тайнымі сцежкамі", "У суровыя гады падполля", "У працы і баі", "Гады выпрабаванняў і мужнасці", "Заря над Бугом", «З племені нясконаных» і інш. У 2007 годзе выйшла кніга «Водгук далёкай навальніцы».

З Прыбужскай зямлі прыйшлі ў літаратуру таленавітыя пісьменнікі Уладзімір Стальмашук (в. Забалацце), Клаўдзія Каліна (в. Блювінічы), Іван Мельнічук (в. Сычы), Сямён Кавенька (хутар Малькі). Апошні з названых аўтараў нарадзіўся ў 1938 г. Скончыў Брэсцкае медыцынскае вучылішча і агранамічны факультэт Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Доўгі час быў на камсамольскай і партыйнай рабоце. У літаратурным асяроддзі яго ведаюць як пісьменніка-гумарыста, былога кіраўніка Маларыцкага літаратурнага аб'яднання.

У гэтым краі нарадзіліся вядомыя ў рэспубліцы і за яе межамі навукоўцы – метадыст і краязнаўца Вера Ляшук (в. Марозавічы), мовазнаўца Галіна Малажай (в. Кустын).

Вандруючы па літаратурных мясцінах Брэсцкага раёна, абавязкова трэба наведаць гарадскі пасёлак Дамачава. З ім і навакольнымі вёскамі Ліпінкі, Ляплёўка, Чэрск звязана рэвалюцыйная дзейнасць украінскага паэта Аляксандра Гаўрылюка. У 1933 годзе ён быў сакратаром Дамачаўскага падпольнага рэвалюцыйнага камітэта. Актыўна супрацоўнічаў з легальным украінскім сялянска-рабочым аб'яднаннем "Сельроб" і культурна-асветніцкай арганізацыяй "Просвіта". Гэтыя суполкі ў заходнебеларускі перыяд карысталіся поспехам сярод сялянства Берасцейшчыны, асабліва яе паўднёвай часткі. На тэрыторыі сучаснага Брэсцкага раёна гурткі "Сельроба" існавалі ў вёсках Радванічы, Залессе, Чарнаўчыцы, Франопаль, Рэчыца, Страдзеч, Матыкалы, Лышчыцы, Дамачава і інш. Тут распаўсюджваліся газеты "Сіла", якая выдавалася ў Львове, і "Сель-Роб", а таксама часопіс "Вікна", у якім друкаваліся мастацкія творы ўкраінамоўных аўтараў.

Значную ролю ў падтрыманні нацыянальнага духу адыгрывала "Просвіта". Яе члены "ставілі п'есы ўкраінскіх і беларускіх драматургаў. Асаблівай любо-



ўю ў гледачоў карысталіся п’есы І. Катлярэўскага “Наталка-палтаўка” і Янкі Купалы “Паўлінка”. Пры “Прасвіце” адкрываліся так званыя “рідны хаты” – бібліятэкі, дзе збіраліся для чытання і абмеркавання газет, праводзіліся гутаркі на розныя тэмы” (І. Яленская).

У Дамачаўскай сярэдняй школе ў 1959–1961 гадах працавала педагогам Вера Ляшук. З канца 80-х гадоў тут дзейнічае літаратурны музей, створаны настаўніцай Н.І. Лахей. Яго экспазіцыя знаёміць з асобнымі старонкамі развіцця літаратуры Берасцейшчыны. У музеі захоўваюцца рукапісы некаторых твораў і асабістыя рэчы С. Смірнова і В. Ласковіча, кнігі з аўтографамі А. Адамовіча, Я. Брыля, Н. Гілевіча, Б. Васільева, К. Крапівы, М. Танка, І. Чыгрынава, І. Шамякіна, В. Гардзея, Н. Мацяш, М. Рудкоўскага, Г. Марчука, М. Пракаповіча і іншых пісьменнікаў. Ёсць у фондах музея і прыжыццёвы 10-томны збор твораў Якуба Коласа з даравальным надпісам сына Данілы.

У гісторыю дзіцячага дома ў Тамашоўцы ўпісаны імёны Анатоля Сідарэвіча, Веры Ляшук і Уладзіміра Гніламёдава (нар. у 1937 г. у в. Кругель Камянецкага раёна). Першы з’яўляецца яго выхаванцам; В. Ляшук і У. Гніламёдаў у свой час працавалі завучамі гэтага дзетдома. Уладзімір Васільевіч адначасова выкладаў беларускую і рускую мовы і літаратуры ў Тамашоўскай сямігодцы. Пасля службы ў арміі (1961) ён нядоўгі час настаўнічаў ў Камароўскай сярэдняй школе Брэсцкага раёна.

Вёска Чарнаўчыцы, што непадалёку ад Брэста, вядома найперш сваім Троіцкім касцёлам – унікальным помнікам беларускай архітэктуры XVI стагоддзя, пабудаваным у 1583 (1585?) годзе. Менавіта ён зацікавіў знакамітага беларускага празаіка Уладзіміра Караткевіча (1930–1984), які не раз бываў на Берасцейшчыне. Гісторыя Троіцкага касцёла апісана ім у нарысе “Зямля ў прадонні азёр”.

З літаратурным жыццём Прыбужскага краю непарыўна звязана гісторыя раённай газеты: пачала выходзіць у 1944 годзе пад назвай “Сталинец”, з 1954 г. – “Социалистический путь”, з 1962 г. – “Заря над Бугом”. У ёй рэгулярна змяшчаюцца творы сяброў раённага літаратурнага аб’яднання “Вытокі” (кіраўнік Курэц Аляксандр), а таксама адкрыта шэраг рубрык, якія прапагандуюць мастацтва слова і даюць магчымасць выказацца маладым літаратурным талентам краю. Папулярнасцю ўчытачоў карыстаюцца рубрыкі “Творчество наших читателей”, “Проба пера”, “Любимые стихи”. На старонках газеты друкуюцца як вопытныя пісьменнікі, так і тыя, хто толькі пачынае свой шлях у літаратуру: Аляксей Філатаў (нар. у 1939 годзе на Віцебшчыне, жыве ў пасёлку Мухавец, аўтар зборніка гумарэсак “Ляхавіцкая торба” (1992), кнігі “Жывая зямля” (2001) і інш.), Васіль Капаеў, Пётр Зінчук, Надзея Пучык, Генадзь Пасько, Леанід Капацкевіч і інш.



ЮЛЬЯН УРСЫН НЯМЦЭВІЧ

Сусветную вядомасць старажытнаму шляхецкаму роду Нямцэвічаў прынёс пісьменнік, публіцыст, гісторык, адзін з аўтараў Канстытуцыі ад 3 мая 1791 года, ад'ютант і сакратар Тадэвуша Касцюшкі Юльян Урсын Нямцэвіч. У большасці даведнікаў і літаратуразнаўчых крыніц значыцца, што ён нарадзіўся "дня 16 лютага 1758 года ў сям'і Марцэлія Урсына Нямцэвіча і Ядвігі Сухадольскай у Скоках над рэчкай Лясной у ваяводстве Брэст-Літоўскім". Сёння дзякуючы намаганням краязнаўца-аматара, загадчыка кафедры фізікі Брэсцкага дзяржаўнага тэхнічнага універсітэта Анатоля Гладышчука, які вывучае гісторыю палаца ў Скоках, падтрымлівае сувязь з нашчадкамі Нямцэвічаў, удакладнена месца нараджэння славутага пісьменніка. Невялікі драўляны дом, дзе ён з'явіўся на свет, знаходзіўся за два кіламетры на поўнач ад Скокаў, на ўзвышшы паміж Скокамі і Матыкаламі. На месцы былой сядзібы Нямцэвічаў ацалела толькі цагляная калона вышынёй каля сямі метраў, якая ў 1999 годзе была адноўлена і лічыцца гістарычным помнікам-вежай.

Юльян быў першым дзіцем у сям'і. Пасля ў бацькоў нарадзілася яшчэ 15 дзетак, аднак большасць з іх памерлі немаўлятамі. Выхаваннем хлопчыкаў у сям'і займаўся пераважна бацька. Першую адукацыю будучы пісьменнік атрымаў дома. У якасці настаўніка быў запрошаны студэнт Брэсцкага езуіцкага калегіума Яшчалд. Ён вучыў Нямцэвіча не толькі "скланенню і спражэнню", але і далучаў да творчасці. Пазней пісьменнік успамінаў, што настаўнік "на Новы год, усе вялікія святы, дні нараджэння бацькі і маці складаў для мяне віншаванні. Я іх завучваў на памяць: былі доўгія рэпетыцыі, як іх дэкламаваць, як кланяцца перад выступленнем і пасля яго".

Веды, атрыманыя дома, дазволілі Юльяну Нямцэвічу паступіць у Брэсцкі езуіцкі калегіум. Пасля яго заканчэння 13-гадовы шляхціц накіраваўся ў Варшаву і быў залічаны ў знакаміты кадэцкі корпус, дзе ў свой час прайшоў курс навучання Тадэвуш Касцюшка. Ю. Нямцэвіч вучыўся бліскуча і выклікаў да сябе сімпатыю з боку шэфа корпуса князя Адама Чартарыйскага. У 1777 годзе, пасля заканчэння вучобы, малады афіцэр становіцца яго асабістым сакратаром. Разам з Чартарыйскім пабываў у многіх еўрапейскіх краінах і розных кутках Рэчы Паспалітай. Менавіта тады Нямцэвіч упершыню трапіў у Пінск (1779) і Ружаны (1780), дзе агледзеў рэзідэнцыю Сапегаў, наведаў тэатр.

Ён зацікавіўся грамадска-палітычнымі падзеямі на радзіме, быў абраны паслом у сейм, дзе набыў вядомасць як адзін з самых актыўных барацьбітоў супраць магнацкай вольніцы і бязладдзя ў дзяржаве. Нямцэвіч-дэмакрат стаў рэдагаваць першае палітычнае выданне ў краіне "Нацыянальную газету", выступаў за рэформы, адмену прыгоннага права і канстытуцыю. Сваю пазіцыю пачаў абнародваць і ў літаратурных творах. Папулярнасцю карысталіся яго вершаваныя "байкі", у якіх высмейваліся кансерватыўныя выступоўцы ў сейме. Сапраўдную славу пісьменніка прынесла яму камедыя "Вяртанне пасла" (1790), напісаная ўсяго за тры тыдні.



Калі вясной 1794 года ўспыхнула нацыянальна-вызваленчае паўстанне на чале з Т. Касцюшкам, Ю. Нямцэвіч падтрымаў выступленне, стаў ад'ютантам і памочнікам (сакратаром) кіраўніка. 10 кастрычніка ў бітве пад Мацяёвіцамі (недалёка ад Варшавы) Т. Касцюшка быў паранены і разам з ад'ютантам трапілі ў палон. Два гады яны адбывалі пакаранне ў Петрапаўлаўскай крэпасці. Тут Юльян Нямцэвіч напісаў нізку вершаў пад назвай "Элегіі, напісаныя ў рускай турме" (1795). У лістападзе 1796 года, пасля смерці царыцы Кацярыны II, паўстанцы былі вызвалены. Павел I прапанаваў Т. Касцюшку застацца ў Расійскай імперыі, аднак генерал вырашыў ехаць у Амерыку і прасіў свайго былога ад'ютанта суправаджаць яго ў паездцы. Так Юльян Нямцэвіч апынуўся ў Злучаных Штатах Амерыкі, дзе пражыў з 1797 па 1807 год. Ён пазнаёміўся з першым прэзідэнтам ЗША Джорджам Вашынгтонам і віцэ-прэзідэнтам Томасам Джэферсонам, шмат падарожнічаў. У 1800 годзе Юльян Нямцэвіч ажаніўся са С'юзан Кін, удавой генерала Лівінгстона, былога сябра Т. Касцюшкі па вызваленчай барацьбе. Сям'я жыла ў амерыканскім горадзе Элізабетаўне, і брэсцкі шляхціц вёў жыццё простага гараджаніна, займаўся літаратурнай творчасцю.

У 1802 годзе Юльян Нямцэвіч вярнуўся на радзіму па справах, звязаных са спадчынай пасля смерці бацькі. Вялікая сям'я Нямцэвічаў сабралася тады ў доме стрыечнага брата ў Адамкова (цяпер адзін з мікрараёнаў Брэста). Бацька пакінуў старэйшаму сыну двухпавярховы дом (палац) у Скоках, які быў пабудаваны ў стылі барока па праекце невядомага архітэктара каля 1770 года (сядзібна-паркавы ансамбль Нямцэвічаў у Скоках часткова захаваўся да нашых дзён). Амаль два гады пісьменнік правёў у родным краі, прывёў у парадак фінансавыя справы бацькі, наведаў спадчынныя маёнткі ў Нэплях і Клейніках. Тагачасны Брэст не выклікаў у яго асаблівых уражанняў. Яму балюча было ўсведамляць, што, нягледзячы на выгаднае геаграфічнае размяшчэнне, горад даведзены да заняпаду і тэрытарыяльна не развіваецца. У сакавіку 1804 года Ю. Нямцэвіч зноў вярнуўся ў Амерыку. Пакінуў яе межы ў 1807 годзе, калі паверыў абяцанням Напалеона аднавіць Рэч Паспалітую.

У час вайны 1812 года ён падрыхтаваў зборнік "Літоўскія пісьмы", у 1816 годзе – выдаў "Гістарычныя песні", якія ўяўляюць сабою своеасаблівы вершаваны "курс айчыннай гісторыі". Ён "складаецца з 33 твораў, героямі якіх з'яўляюцца вялікія князі літоўскія Ягайла (яму прысвечана песня пра Грунвальдскую бітву), Аляксандр і Жыгімонт Аўгуст, князь Міхаіл Глінскі, пераможца ў Аршанскай бітве 1514 г., Канстанцін Астрожскі і гетман Вялікага княства Літоўскага Ян Кароль Хадкевіч" (Н. Мазоўка). Пяру Ю. Нямцэвіча таксама належаць раманы "Два паны Сяцехі" (1815) і "Ян з Тэнчына" (1825).

Вярнуўшыся на радзіму, пісьменнік шмат падарожнічаў, у тым ліку па Беларусі. Яго ўражанні склалі кнігі "Дзённікі маіх часоў" (выдадзена ў 1848 годзе) і "Гістарычныя падарожжы па польскіх землях, якія адбыліся ад 1811 да 1828 гадоў" (выданне 1858 года). Гэтыя дзённікі з'яўляюцца каштоўнай і багатай крыніцай звестак аб жыцці і звычаях, паводзінах, адзенні, унутраным і знешнім убранні памяшканняў, палацаў магнатаў і шляхты, культурнага і духоўнага жыцця

тых часоў. Сам Ю. Нямцэвіч мэты сваіх падарожжаў па родным краі тлумачыў так: “Няхай іншыя адпраўляюцца ў араматную і аздобленую цудоўнымі творамі мастацтва Аўзонію (Італію), няхай наведваюць раскошныя Парыжы і багатыя Лонданы, я ж іду паглыбляцца ў літоўскія бары, якія, можа, прыемныя, цікавыя, але жыва мяне кранаюць, бо складаюць частку маёй доўгі час слаўнай і доўгі час няшчаснай айчыны. Сорамна было ў сталым узросце надалей адцягваць маё падарожжа па правінцыі, у якой я сам і продкі мае на свет з’явіліся, а што яшчэ болей важна, які не ўступае польскаму краю ў военначальніках, грамадскіх дзеячах, вучоных...”. “З прыведзенай цытаты, – як слушна заўважае В. Ляшук, – выразна вынікае ліцвінскі патрыятызм Нямцэвіча. Ліцвінскае, беларускае, яму радней, даражэй, чым польскае. Прырода, выдатныя людзі Вялікага княства Літоўскага выклікаюць у пісьменніка асаблівую гордасць”.

На Берасцейшчыне ў час сваіх падарожжаў Ю. Нямцэвіч наведаў Волчын – радзіму апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага, пабываў у Чарнаўчыцах, Кобрыне, Ружанах, Бярозе, Драгічыне і яго ваколіцах (Жабер, Бездзеж), агледзеў замкі Вішнявецкіх у Пінску і Заполлі.

З падарожжаў пісьменнік вяртаўся ў родавы маёнтак у Скокі. Калі пачалося паўстанне 1830–1831 гг. Нямцэвічу было ўжо за 70. Ён, аднак, прымаў у ім актыўны ўдзел. Пасля падаўлення паўстання вымушаны быў эмігрыраваць (1833) і жыў у Парыжы. Там заснаваў Польскую бібліятэку, якой завяшчаў рукапісы сваіх твораў.

Памёр Юльян Урсын Нямцэвіч 21 мая 1841 года. На яго смерць адгукнуўся Адам Міцкевіч, які напісаў: “Ён ішоў наперадзе свайго часу, завяршаў яго бег і памёр апошнім”.

## УЛАДЗІМІР СТАЛЬМАШУК

Пісьменнік, аўтар кнігі дакументальнай прозы “Шумят ели” (1966) Уладзімір Іванавіч Стальмашук нарадзіўся 9 кастрычніка 1922 года ў вёсцы Забалацце Брэсцкага раёна. Пятае дзіця ў сялянскай сям’і, пачаў помніць сябе з пастушковай торбачкай за плячыма і рабенькім кійком у руках. Але ў шматгаліновым родзе Стальмашукоў цанілі навуку, і за маршалка Пілсудскага агораў Валодзя чатыры класы Камяніца-Жыравецкай “паўшэхнай” школы, потым вучыўся ў вячэрняй школе, скончыў у Мінску афіцэрскія курсы Міністэрства ўнутраных спраў СССР.

Асноўныя “універсітэты” праходзіў падлеткам, дапамагаючы члену КПЗБ, падпольшчыку, роднаму дзядзьку Мікіту. На пачатку вайны ўступіў у партызанскі атрад, які ўзначальвалі вядомыя на Брэстчыне рэвалюцыянеры Дзмітрук, Салейка, Купрыянюк. У атрадзе блізка сышоўся з паэтам Міколам Засімам. Больш як два гады партызаніў, у чэрвені 1944 года дабравольцам пайшоў на фронт. Да 1946 года быў разведчыкам 270-й стралковай дывізіі 1-га Прыбалтыйскага фронту. З 1946 г. працаваў у міліцыі на аператыўна-следчай рабоце. Узнагароджаны ордэнамі Чырвонага Сцяга і Чырвонай Зоркі, медалямі “Партызану Вялікай Айчыннай вайны” I ступені, “За адвагу”.



Як запісана ў асабовай справе капітана міліцыі У.І. Стальмашука, “исключен их списков личного состава по причине смерти 10.10.1966 г.”. Не дажыў, цяжка хворы, трох дзён да выхаду асноўнага свайго жыццёвага набытку – кніжкі, аб якой шчыра выказаўся У.А. Калеснік: “...Гэта сумленна зроблены помнік ягоным сябрам па зброі,.. доўг сумлення, адда괜ы ў першую чаргу тым з сяброў-таварышаў, хто пайшоў ад нас незваротна, а таксама тым, хто жывым сціпла маўчыць аб сваім гераічным мінулым. А яно дастойна ўсеагульнай увагі”.

## КЛАЎДЗІЯ КАЛІНА

Невялікая вёска Блювінічы, што ў Чарнаўчыцкім сельсавеце, – радзіма вядомай дзіцячай пісьменніцы Клаўдзіі Каліны (Лукашэвіч, Капелян, дзявоч. Белявец). Нарадзілася яна ў 1925 у сям’і вясковага настаўніка. У бацькоў – Канстанціна Антонавіча і Надзеі Данілаўны – было чацвёра дзяцей: тры сыны і дачка. Двое старэйшых сыноў трагічна загінулі – адзін утапіўся, другога забіў конь.

Да Вялікай Айчыннай вайны Клаўдзія Канстанцінаўна паспела закончыць польскую сямігадовую школу (1932–1939) і Чарнаўчыцкую СШ. У час ваеннага ліхалецця разам з бацькамі жыла ў роднай вёсцы. У Блювінічах немцы, на шчасце, з’яўляліся рэдка і звычайна для таго, каб набраць здаровых людзей на розныя работы ці на працу ў Германію. Маладая дзяўчына магла трапіць у іх лік, аднак кемлівасць і шчаслівы выпадак аднойчы ўратавалі яе. Стрыечны брат К. Каліны, Генадзь Іванавіч Нікіцюк, прыгадвае: “Неяк Клаўдзія назбірала люцікаў, бо ведала, што сок гэтай расліны раз’ядае скуру чалавека. Калі немцы ўчарговы раз прыйшлі ў вёску, яна намазала гэтым сокам ногі. У камісіі, якая адбірала людзей на працу, быў рускі доктар. Ён адразу зразумеў хітрасць дзяўчыны, але, відаць, пашкадаваў яе. Так Клава засталася дома”.

З дзяцінства Клаўдзія захаплялася маляваннем. Яе прываблівалі краявіды родных мясцін, і цудоўныя пейзажы адзін за адным клаліся на паперу. Невыпадкова адразу пасля вайны яна паступіла ў Кіеўскае мастацкае вучылішча, дзе правучылася два гады. З-за цяжкага матэрыяльнага становішча вымушана была пакінуць вучобу і вярнулася на радзіму. Ад маці, якая хораша спявала беларускія народныя песні, шмат іх ведала, Клаўдзіі Канстанцінаўне перадалася любоў да музыкі. Таму выбар Брэсцкага музычнага вучылішча для далейшай вучобы зноў быў свядомы. Пасля яго заканчэння (1953) працавала інструктарам мастацкай самадзейнасці ў Брэсцкім доме афіцэраў і вайсковай часці, настаўніцай спеваў і выкладчыцай тэорыі музыкі ў музычнай школе № 1 г. Кобрына, настаўніцай спеваў у СШ № 3 г. Віцебска. У гэты час выйшла замуж за музыканта Лукашэвіча, нарадзіла дачку Ірыну, якая зараз жыве ў Мінску. Сямейнае жыццё, аднак, не склалася, і ў 1960 годзе Клаўдзія Канстанцінаўна пераехала ў Мінск, працягвала працаваць па спецыяльнасці. Яна цудоўна іграла на гітары і піяніна, хораша спявала, прыгожа малявала і ніхто не думаў, што ў хуткім часе яе захопіць мастацкая творчасць.

Першае апавяданне Клаўдзіі Каліны “Калючы госць” было апублікавана ў часопісе “Вясёлка” ў 1962 годзе. Яе літаратурным настаўнікам стаў вядомы празаік Алесь Пальчэўскі.

Кніга “Хлопчык-пакідайчык” (1969) засведчыла, што пісьменніца добра разумее дзіцячы свет, умее ствараць займальныя сюжэты, гаварыць з дзецьмі на зразумелай для іх мове. З тонкім веданнем дзіцячай псіхалогіі напісаны аповесці “Забароненая песня” (1971), “Світанак” (1983), “Бабуля Насця, дзед Адам, Петрык і каза Рагуля” (1985), кнігі апавяданняў і аповесцей “Маці і сын” (1977), “Крылаты конь” (1989), зборнік казак “Каляровыя месяцы” (1975). Апошнюю з названых кніг з густам аформіў мастак І. Капелян – другі муж Клаўдзіі Канстанцінаўны. Складаныя абставіны жыцця, неўладкаванасць быту разлучылі іх творчы саюз. У цяжкія хвіліны для К. Каліны выратаваннем была творчая праца – яна шмат пісала, малявала. Для многіх сяброў, знаёмых нечаканай была выстава яе карцін і малюнкаў у Доме літаратара. Дачка Ірына ўспамінае: “Мама любіла дарыць сваім блізкім замалёўкі беларускай прыроды і яркія нацюрморты. Бярозку пад ветрам падарыла мне незадоўга да смерці... Яна была ўвасабленнем дабрыні, клапацілася аб чужых, хворых людзях. Мы сябравалі з мамай як сёстры. Магу гаварыць пра яе толькі сэрцам, а не словамі”.

Нечаканая цяжкая хвароба не дазволіла здзейсніць усё задуманае. 25 чэрвеня 1994 года Клаўдзія Канстанцінаўна памерла.

## ГАЛІНА МАЛАЖАЙ
(1938 – 2005)

### З аўтабіяграфіі

...Азірнуцца ў маленства, вызначыць хоць бы асноўныя галінкі радаводу падштурхнула кніга “Русская гимназия в Бресте. 1919 – 1939 гг.” выпускніка гэтай навучальнай установы Міхала Манцвілава, які жыве ў Францыі. У гэтай нечакана трапіўшай у мае рукі кнізе я ўбачыла фотаздымкі, на якіх сярод выкладчыкаў, а таксама з групай гімназістаў-скаўтаў і мой бацька – Васілеўскі Мікалай Сцяпанавіч. Ён меў салідную адукацыю – у 1917 годзе закончыў юрыдычны факультэт Казанскага універсітэта. Юрыстам на такім грамадскім пераломе не стаў і працяглы час выкладаў матэматыку і геаграфію ў Брэсцкай гімназіі.

Мая маці, Ігнацюк Надзея Лукінічна, вырасла ў сям’і псаломшчыка, вучылася ў гімназіі, але не закончыла яе, бо трэба было даць адукацыю братам.

15 сакавіка 1938 года ў сям’і ўжо сталых людзей (бацьку было 43 годы, а маці, няхай яна мне даруе, – каля 32-х) нарадзілася дачка, якая вось цяпер спрабуе асэнсаваць сваю жыццёвую дарогу. Расла ў сям’і адна, больш дзяцей у бацькоў не было.

Калі я закончыла сямігодку, паўстала пытанне, дзе ж вучыцца далей. Найбліжэйшая сярэдняя школа была ў Астрамечаве. Паездзіла я туды на ровары ўсяго два тыдні. Нават школы добра не запомніла, не змагла пазнаёміцца з васьмікласнікамі. Добрым здароўем і спартыўнай загартоўкай з дзяцінства я не вызначалася, таму прыязджала дадому, адолеўшы 10 км, вельмі стомленая. Бацькі прынялі рашэнне – адправіць мяне вучыцца ў горад, уладкаваўшы там на кватэру. Дакументы з Астрамечаўскай школы перадалі ў сярэднюю школу



падтрымкі Ф.М. Янкоўскага, а вось чалавекам, які нешта вартае зрабіў у беларускай філалогіі, без "настаўнікавых рук", якія "паднялі мяне", не стала б. Ды і ці толькі я?!

Праца над кандыдацкай дысертацыяй "Перыфразы ў сучаснай беларускай мове (структурна-семантычная і стылістычная характарыстыка)" па-сапраўднаму захапіла мяне...

Пашанцавала і з першаю кніжкай. Адказваючы на абароне на заўвагу А.І. Жураўскага, што варта было зрабіць дадатак да дысертацыі, я адказала: у мяне ўжо складзены слоўнік перыфраз. Прысутны ў зале Алесь Гардзіцкі прапанаваў падаць заяўку ў "Вышэйшую школу". Яе я афармляла па настойлівай парадзе Ф.М. Янкоўскага на другі дзень пасля абароны. З таго часу праца была заўсёды, быў і вынік гэтай працы.

## ІВАН МЕЛЬНІЧУК

Свой першы ў жыцці глыток паветра Іван Міхайлавіч Мельнічук удыхнуў 15 верасня 1939 года ў сяле Носава, якое знаходзіцца каля Белай Падляскі ў Польшчы, але "гэта было паветра, прынесенае з палеткаў Берасцейска-Камянецкай зямлі. Хоць белы свет праз вакенца сялянскай хаты Іван убачыў таксама за Бугам, але гэта быў родны свет, бо сонца ўзыходзіць на Усходзе, бо на ўсходзе чакала яго зямля дзядоў і прадзедаў" (А. Філатаў).

У 1944 годзе, пасля вызвалення Прыбужжа ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, бацька паэта разам з вялікай сям'ёй, у якой нарадзілася чатыры хлопчыка і тры дзяўчынкі, пераехаў спачатку на Украіну, а затым вярнуўся ў Беларусь і пасяліўся ў вёсцы Сычы Брэсцкага раёна. Тут прайшло дзяцінства Івана Міхайлавіча:

*Ах вы, Сычи, мои Сычи...*
*Вы, разумеется, не Сочи,*
*Здесь не морской в полях песочек...*
*Зато не хуже южных ночи, –*
*Хоть сто поэм о них строчи.*
*Отсюда в свет большой я вышел,*
*Переступив родной порог,*
*Мне ветками махали вишни,*
*«Благослови его, Всевышний», –*
*Молили вербы у дорог.*
*Мне здесь всё дорого и свято:*
*И эти скудные поля,*
*Речушка наша, тополя...*
*Здесь возле низких жилых хаток*
*Осталась молодость моя.*

З неахвотай успамінае паэт цяжкія галодныя пасляваенныя гады. Калі вучыўся ў Волчынскай сярэдняй школе, жыў у цёткі і кожны тыдзень вымушаны быў хадзіць дахаты – за 15 кіламетраў! – за хлебам і бульбай. У пачатковай

школе паспрабаваў пісаць вершы, а ў хуткім часе яго творы пачалі з'яўляцца ў абласным і рэспубліканскім друку. У 1955 годзе Іван Мельнічук стаў пераможцам літаратурнага конкурсу, які праводзіўся газетай "Піянер Беларусі", і быў прэміраваны цэлым стосам кніг. Перамога акрыліла маладога аўтара, і ён з натхненнем узяўся за стварэнне новых вершаў.

Пасля заканчэння школы (1956 г.) І. Мельнічук год адпрацаваў у Брэсцкай раённай машына-трактарнай станцыі, а затым паступіў на філалагічны факультэт Брэсцкага дзяржаўнага педінстытута імя А.С. Пушкіна. Працягваў пісаць, друкаваўся, і невялікія ганарары дапамагалі юнаку пратрымацца ад стыпендыі да стыпендыі. На ўсё жыццё запомніўся Івану Міхайлавічу першы студэнцкі заробак. Пасля першага курса ў час летніх канікул ён паехаў на цаліну, а калі вярнуўся не толькі купіў сабе неабходныя рэчы-абноўкі, але і тысячу рублёў аддаў бацькам. Бацька ўзяў грошы з рук сына і заплакаў ад хвалявання.

У 1961 годзе, калі І. Мельнічук вучыўся на чацвёртым курсе педінстытута, яго запрасілі на працу ў Брэсцкую раённую газету "Социалистический путь" ("Заря над Бугом"). Так пачалася яго журналісцкая кар'ера. Пасля заканчэння інстытута і службы ў войску быў уласным карэспандэнтам газеты "Чырвоная змена" па Брэсцкай вобласці, затым працаваў у партыйных і савецкіх органах, у прыватнасці ў Брэсцкім аблвыканкаме.

Праца ў сур'ёзных арганізацыях не перашкаджала творчай дзейнасці, хоць свае вершы, адрасаваныя ў асноўным дзецям, Іван Міхайлавіч мала каму паказваў. У 1982 годзе ў выдавецтве "Юнацтва" ўбачыў свет яго першы паэтычны зборнік "Кто разбудит солнце", у 1991 – другі, пад назвай "Диво сами сотворим", у 1997 – трэці, "Добрый лучик", у 2003 выйшла яшчэ адна кніга для дзяцей "Как муравьишка Ишка себя наказал". Як адзначаюць даследчыкі літаратуры, "вершы І. Мельнічука вызначаюцца яркай вобразнасцю, даступнай дзіцячаму ўспрыманню, гукавой суладнасцю. Яны дапамагаюць дзецям пазнаць акаляючы іх свет, яго хараство" (А. Майсейчык).

*Я лекарь, я лечу болезни –*
*Психоз, невроз, хронический хандроз.*
*Болезни людям в души поналезли*
*И жалят пуще злющих диких ос.*
*Не прибегаю к средствам иностранным,*
*Да препарат ли тут необходим?*
*Теплом души я исцеляю раны,*
*Снимаю боль участием своим.*
*За благодетель платы мне не надо, –*
*Бог упаси от этаких затей.*
*Мне самая желанная награда –*
*Свет радости на лицах у людей.*

*(І. Мельнічук)*



# БЯРОЗАЎСКІ РАЁН

Першым вядомым літаратарам Бярозаўшчыны можна лічыць Андрэя Карповіча. Нарадзіўся ён у в. Малеч. Падчас першай сусветнай вайны яго сям'я выехала ў Расію, дзе ён атрымаў адукацыю. Напрыканцы 20-х гг. А. Карповіч вярнуўся на Беларусь, а пасля шлюбу ў 1927 г. пераехаў у в. Ціхны, дзе родзічы падаравалі надзел зямлі. У 1935 г. А. Карповіч адправіў у беларускамоўны часопіс "Калоссе" (1935-39), што выдаваўся ў Вільне, свой ліст і чатыры антыпольскіх, антыпрыгонніцкіх верша ("Хто пераможа?", "Маё жыццё", "У нас – жыццё...", "Не баўмася, брацьця, у закуцці глухім..."). З ліста бярозаўскага паэта-самавука відаць, што ён шмат займаўся самаадукацыяй, прасіў рэдакцыю часопіса адказаць з якіх крыніц можна даведацца пра гістарычнае мінулае роднага краю, у прыватнасці тэрыторыі вярхоўя Ясельды, мястэчак Малец, Сялец, Бярозы-Картузскай. Лёс А. Карповіча склаўся трагічна. Ён быў арыштаваны немцамі, звар'яцеў пасля катаванняў і адразу пасля вайны памёр.

Актывізацыя літаратурнага жыцця Бярозаўскага краю звязана з другой паловай XX ст., часам калі моладзь ехала вучыцца ў вялікія гарады, працаваць на будоўлях, у мясцовых раённых газетах. Сярод тых, хто звязаў свой лёс з Бярозаўшчынай на кароткі час, быў паэт Мікола Купрэеў, які пасля вайны разам з бацькам, настаўнікам пачатковай школы, пераехаў з Гомельскай вобласці на Бярозаўшчыну ў в. Пескі, адкуль хуткім часам сям'я перабралася ў суседні Івацэвіцкі раён. У вёсках Міжлессе і Навое некалькі гадоў настаўнічаў паэт з Драгічынскай зямлі Мікола Трафімчук. Святлана Алексіевіч, празаік-дакументаліст, драматург, нарысіст, аўтар кніг "У вайны не жаночы твар", "Апошнія светкі" і інш. пасля заканчэння факультэта журналістыкі БДУ ў 1972 г. была накіравана загадчыкам аддзела лістоў раённай газеты "Маяк камунізма" г. Бярозы, дзе працавала да 1973 г. У гэты час у рэспубліканскіх выданнях "Сельская газета", "Знамя юности" быў апублікаваны шэраг яе нарысаў і артыкулаў, а таксама аповесць "Прадыслава" ў часопісе "Маладосць". С. Алексіевіч актыўна наведвала пасяджэнні мясцовага літаб'яднання "Крыніца".

У 1966-70 гг. у Боркаўскай сярэдняй школе Бярозаўскага раёна пасля заканчэння філалагічнага факультэта БДУ працаваў паэт Уладзімір Ануфрыевіч Лебедзеў. Знаёмыя па універсітэту журналісты мясцовай раённай газеты запрасілі У. Лебедзева да творчага супрацоўніцтва. Спачатку гэта былі інфармацыйныя допісы, нарысы, затым некалькі сціплых вершаў, апошні з якіх называўся "Сонца Беларусі" (1971). Некалькі разоў ён прысутнічаў на пясяджэннях літаб'яднання "Крыніца", чытаў свае паэтычныя творы на адным з літаратурных вечароў "Крыніцы" ў Доме культуры. У 2004 годзе ў брэсцкім выдавецтве "Акадэмія" выйшаў з друку вершаваны зборнік У. Лебедзева "Восеньская ралля", у якім былі змешчаны творы філасофскай тэматыкі (танкі, рубаі, санеты, трыялеты, хоку і інш.).

У Белаазёрску пэўны час жыла Зінаіда Іосіфаўна Дудзюк, паэтэса, празаік, драматург, перакладчык, аўтар зборнікаў вершаў "Праводзіны птушак" (1983), "Абрысы лета" (1988), "Так і не" (1993). У 1959 г. сюды, да сваіх далёкіх родз-

ічаў з в. Нівы, прыехалі яе бацькі Раіса Міхайлаўна і Іосіф Андрэевіч на будаўніцтва Бярозаўскай ДРЭС. Тут яна закончыла ў 1966 г. сярэднюю школу, працавала на будоўлі тынкоўшчыцай (1966-68 гг.). У 1977 г. пасля заканчэння Брэсцкага інжынерна-будаўнічага інстытута працавала інжынерам на Бярозаўскай ДРЭС, метадыстам Бярозаўскага бюро экскурсій і падарожжаў. У 1967 г. дэбютавала першымі вершамі ў газеце "Маяк камунізма". З'яўлялася актыўным удзельнікам літаб'яднання "Крыніца". З'яўляецца аўтарам гістырычных эсэ пра паходжанне некаторых вёсак Бярозаўшчыны.

Ажыўленню літаратурнага жыцця рэгіёна значна паспрыяла мясцовае літаратурнае аб'яднанне "Крыніца". Першапачаткова пры рэдакцыі раённай газеты "Маяк камунізма" згуртавалася некалькі пачынаючых пісьменнікаў (М. Авінаў, М. Чарняеў, А. Мшара, Н. Мацяш, М. Шыманскі), якія зрэдку збіраліся на абмеркаванне сваіх твораў для "Літаратурнай старонкі" выдання. Яны выступілі ініцыятарамі стварэння літаратурнага аб'яднання. У выніку 27 мая 1965 г. было арганізавана аб'яднанне "Крыніца", дзякуючы непасрэдным намаганням першага сакратара Бярозаўскага райкома партыі П.Л. Лебедзева, аўтара кніг "Суровая юность" (1970), "Пути и перепутья" (1971), "Мы – алексеевцы" (1975), "Не развеется с ветром" (1980) і інш. Актыўным заснавальнікам творчага гуртавання літаратараў быў і яго кіраўнік (спачатку з М. Авінавым) намеснік рэдактара раённай газеты Яўген Васільевіч Сяленя. "Крынічанамі", якіх налічвалася некалькі дзесяткаў чалавек, былі людзі розных прафесій і ўзростаў: рабочыя і служачыя, настаўнікі і студэнты, прафесійныя пісьменнікі і журналісты, пенсіянеры і школьнікі. Некаторыя з іх сталі прафесійнымі пісьменнікамі, журналістамі. Свае першыя творчыя крокі, будучы яшчэ школьнікамі, зрабілі тут Ніна Мацяш, Алесь Разанаў, Анатоль Казловіч, Раіса Баравікова, Зінаіда Дудзюк, Марыя Зубель. У розныя гады ў літаб'яднанне ўваходзілі Мікола Трафімчук, Георгій Марзосаў, Мікалай Амялюсік, Васіль Папярэчны, Анатоль Бярнацкі і інш. Мэтай згуртавання было абуджаць у мясцовага насельніцтва цікавасць да літаратуры, выяўляць таленавітую моладзь, дапамагаць ёй у творчым станаўленні, абмяркоўваць творы калег, дапамагаць у друкаванні лепшых матэрыялаў, ладзіць аўтарскія конкурсы, праводзіць сустрэчы з пісьменнікамі і насельніцтвам. Традыцыйна "Крыніца" рабіла творчыя справаздачы перад рабочымі, калгаснікамі, школьнікамі, арганізоўвала вечары паэзіі ў раённым Доме культуры. Рэгулярна, раз у месяц, выдавалася літаратурная старонка "Крыніца" пры раённай газеце.

Згуртаванне "Крыніца" было прыхільна сустрэта пісьменнікамі і журналістамі Беларусі. Ім зацікавіўся галоўны рэдактар часопіса "Нёман" Андрэй Макаёнак. Вядомы драматург адразу камандараваў у Бярозу для кансультацый і падтрымкі маладых літаратараў загадчыка аддзела часопіса паэта Браніслава Спрынчана, а затым – празаіка Аркадзя Савелічава. У выніку хуткім часам у "Нёмане" з'явіліся падборкі вершаў Н. Мацяш, А. Разанава, Р. Баравіковай, А. Пашчанкі У 1972 г. разам з галоўным рэжысёрам Маскоўскага тэатра сатыры Валянцінам Плучакам і загадчыцай літаратурнай часткай гэтага тэатра Мартай Лінецкай А. Макаёнак асабіста наведаў г. Бярозу. Тыдзень яны гасця-



валі ў крынічан: правялі творчы семінар, абмеркавалі творы маладых літаратараў, выказалі свае заўвагі і пажаданні. Гасцяванне ў Бярозе А. Макаёнка дало і творчы плён драматургу, які сабраў матэрыял у мясцовых вёсках для напісання сваёй п'есы "Таблетку пад язык".

Традыцыйна на сустрэчы з крынічанамі прыязджалі вядомыя пісьменнікі: Максім Танк, Янка Брыль, Сяргей Грахоўскі, Анатоль Астрэйка, Артур Вольскі, Станіслаў Шушкевіч, Алесь Ставер, Анатоль Грачанікаў, Уладзімір Калеснік, Язэп Семяжон і інш. Яны выступалі перад маладымі аўтарамі на семінарах і сустрэчах, рэцэнзавалі іх творы, знаёміліся з планамі і задумамі моладзі, адказвалі на пытанні, дзяліліся творчым вопытам, дапамагалі ў выданні твораў. Так, напрыклад, 29 сакавіка 1973 г. у газеце "Чырвоная змена" творы бярозаўскіх аўтараў былі змешчаны на асобнай старонцы пад рубрыкай "Крыніца". Апошняе 77-е пасяджэнне літаб'яднання адбылося 2 жніўня 1986 г.

Некаторыя крынічане прысвячалі свае паэтычныя і празаічныя творы роднаму рэгіёну. Складаная гісторыя малой радзімы і багацце краявідаў бярозаўскай зямлі раскрыты ў апавяданні Андрэя Юдчыца "Ясельда".

Актыўным прапагандатарам мастацтва слова на Бярозаўшчыне з'яўляецца Яўген Васільевіч Сяленя. Нарадзіўся ён 27 лютага 1935 г. у в. Аніцэвічы Бярозаўскага раёна. Пасля вучобы ў Пружанскім педвучылішчы скончыў Ленінградскае ваенна-марское палітычнае вучылішча (1956), аддзяленне журналістыкі БДУ (1966). У 1956-60 гг. служыў на Паўночным флоце. Я. Сяленя працаваў дырэктарам Бярозаўскага дома піянераў і школьнікаў (1960-61), інструктарам Бярозаўскага РК КПБ (1961-62), адказным сакратаром (1962-68), намеснікам рэдактара (1968-83), рэдактарам рэдакцыі Бярозаўскай раённай газеты "Маяк". Член Саюза журналістаў СССР, Беларусі. Лаўрэат рэспубліканскага конкурса журналістаў (1973), лаўрэат конкурса "Берасцейская зорка — 97". Друкаваўся ў часопісах "Нёман", "Беларусь", "Родная прырода", газеце "ЛіМ". У сааўтарстве з М. Сікорыным напісаў гісторыка-эканамічныя даследаванні "Берёза" (1977). Аўтар гісторыка-дакументальнай кнігі пра лётчыкаў-герояў Айчыннай вайны "В суровом небе фронтовом" (1980), краязнаўчай кнігі "Берёза" (1988). Я. Сяленя – член рэдкалегіі і аўтар артыкулаў у гісторыка-дакументальнай хроніцы "Памяць. Бярозаўскі раён" (1987). Адзін з арганізатараў і шматгадовы кіраўнік літаб'яднання "Крыніца". Ганаровы грамадзянін г. Бярозы (2007).

Мікола Аляксандравіч Дубоўскі нарадзіўся ў вёсцы Самойлавічы. Піша нарысы, апавяданні, аповесці на ваенную і даваенную тэматыку. Аўтар кніг "Першая прыступка" і "Шапэн". Большасць твораў М. Дубоўскага мае біяграфічную аснову. Апавяданне "Пасля світанку" мае прысвячэнне "Памяці майго бацькі Аляксандра Пятровіча". Падзеі адбываюцца на Брэстчыне: "сялю Троіцкае, куды чатыры гады назад Сенька з маці прыехаў з-пад Брэста ў бежанцы, два дні назад адбілі ў белапалякаў чырвоныя кавалерысты. Двое з іх пасяліліся ў доме гаспадара, і Сенька адразу пасябраваў з імі. Таму, калі гаспадар ціха паклікаў мяго ў пуню і загадаў весці кабылу ў начное, не хацелася з імі раставацца".

Бярозаўскі раён вядомы на ўсю рэспубліку сваёй народнай творчасцю. Тут праводзіцца славуты фестываль народнага гумару "спораўскія жарты". Сёння на Бярозаўшчыне паспяхова творыць вялікая кагорта літаратараў: Алена Усцілоўская, Кіра Арцішэўская, Віталь Раіцкі, Валянціна Восіпава, Уладзімір Сяпягін і інш. Упрыгожваюць літаратурную карту Берасцейшчыны і паэты старэйшага пакалення Канстанцін Дронь і Маргарыта Гаравая.

## МІКОЛА АРАХОЎСКІ

Нарадзіўся 3 ліпеня 1950 г. у в. Сялец. Пасля заканчэння дзевяці класаў паступіў у Мінскае мастацкае вучылішча, з якога быў выключаны на другім курсе за непаспяховасць па рускай мове, што сталася вынікам невытрыманага ў ідэалагічным плане сачынення. Працаваў у Мінску тынкоўшчыкам на будоўлі. Значны уплыў на М. Арахоўскага зрабіў яго зямляк з Пружанскай вёскі Куплін, студэнт тэатральна-мастацкага інстытута Язэп Крупскі. Пасля сканчэння ВНУ Крупскага накіравалі ў вытворча-мастацкія майстэрні г. Брэста, куды ён прыехаў працаваць разам з М. Арахоўскім. Пасля вайсковай службы ён вярнуўся ў Бярозу, дзе нейкі час працаваў на мясцовым вузле сувязі і ў Доме культуры мастаком-афарміцелем. Я. Крупскі параіў сябру вучыцца далей, з 1974 г. М. Арахоўскі вучыцца ў Мінскім тэатральна-мастацкім інстытуце на аддзяленні манументальна-дэкаратыўнага роспісу ў вядомага мастака Гаўрылы. Пасля траўмы пазваночніка падчас купання ў р. Мухавец М. Арахоўскі страціў здольнасць хадзіць. На лячэнні ў мінскай клінічнай бальніцы ён пазнаёміўся з пісьменнікам Яраславам Пархутам, які на працягу дваццаці дзён вучыў хлопца асновам мастацтва літаратуры. Першыя крокі ў літаратуры пачынаючага літаратара падтрымалі А. Петрашкевіч, А. Разанаў, Н. Мацяш. Вынікам падзвіжніцкай працы М. Арахоўскага сталі п'есы "Напярэдадні", "Лабірынт", "Машэка", "Ку-ку". У сваіх творах драматург закранае вострыя праблемы грамадства: усёдазволенасці чыноўнікаў, здрадніцтва, хабарніцтва і інш.

## РАІСА БАРАВІКОВА

Вытокі свайго таленту яна бачыць у радзінных каранях. "Уся паэтычная спадчына маіх сваякоў, – гаворыць паэтэса – сышлася на мне". Маме, бацьку, дзеду яна прысвяціла шэраг вершаў: "У маці трое... трое нас", "Вечар з братам", "Хмелю расцвіўшага гронка...", "Памяці дзеда", "Трыпціх", "Жалейка", "Ты не глядзі з трывогай на мяне" і інш. Гэта пра іх у вершы "А за вёскай дымяцца снягі!" паэтэса сказала: "Без радні, з прадчуваннем тугі, я жыву, нібы восеньскі люцік!"

Бацька паэтэсы – Баравікоў Андрэй Мікалаевіч нарадзіўся ў 1922 г. у в. Цяхцін Бялыніцкага раёна Магілёўскай вобласці ў сям'і сялян Мікалая Алімпавіча і Марыі Мікітаўны. Дзед Мікола Баравікоў сярод вяскоўцаў слыў асобай паважанай, ведаў мноства цікавых казак і паданняў, быў добрым паэтам-самавукам. Развіць свой талент, аднак, не меў магчымасці: трэба было карміць вя-



лікую сям'ю, сямёра дзяцей. На пачатку Айчыннай вайны з 19-гадовага ўзросту Андрэй Баравікоў партызаніў пад Івацэвічамі і Бярозай-Картузскай. Пасля вайны асеў у гэтых мясцінах, працаваў служачым у бярозаўскім райвыканкаме. Даводзілася шмат ездзіць па тутэйшых вёсках, у адной з якіх пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай.

Маці, Ніна Уладзіміраўна (да замужжа Шыманская) родам з в. Пешкі Бярозаўскага раёна. Была адукаванай, скончыла польскую пачатковую школу і ў дзяцінстве нават спрабавала пісаць уласныя вершы на польскай мове. Пасля шлюбу сям'я асталявалася ў Пешках, дзе 11 мая 1947 г. нарадзілася Раіса Андрэеўна, і дзе прайшло яе маленства. Бярозаўшчына на ўсё жыццё засталася любімай мясцінай паэткі, тым месцам, дзе зрабіла першыя крокі, пачула матчыну калыханку, дзе пачала пісаць вершы, дзе развіталася са школьнымі сябрамі. Р. Баравікова не раз наведвала родныя мясціны ў час летніх канікулаў і пазней, калі пачала працаваць у Мінску. Адной з бярозаўскіх вёсак паэтэса прысвяціла верш "Шлях-Пушча":

*Ён і араў, і паляваў,*
*быў рослы, дужы і відушчы,*
*той чалавек, які назваў*
*мясціну гэтую Шлях-Пушчай.*
*З'явіўся тут упершыню,*
*палюючы за дзікім зверам,*
*упадабаў ён цішыню*
*і пушчы векавой паверыў.*
*Паставіў хату, і ўзяло*
*пачатак свой з сівых стагоддзяў*
*Палесся мілага сяло*
*у харастве лясных разводдзяў.*
*Сюды ідуць на вадапой*
*вышыняў срэбных далягляды,*
*і дрэвы дораць на распой*
*свой сок бярозавым паглядам.*
*А паспрабуй яго, глыні,*
*і назаўжды ўтрымае памяць*
*Шлях-Пушчы мілыя агні.*
*і далі верасовай замець.*
*Азвецца крыкам дзікі птах*
*на дахах, змочаных расою...*
*Пабачу ў небе Млечны Шлях,*
*скажу: "Шлях-Пушча прада мною!"*

Самабытнасць, прыгажосць Палесся адлюстравана ў такіх вершах паэтэсы, як "На Ясельдзе маёй зноў крыгаход", "Наша вёска", "Восень на Палессі", "Знаёмцеся – саўгас "Малеч", "Вясною на бацькаўшчыне", "Мне ліпень прынясе з-пад Брэста", "Прыеду я ў той куток зялёны" і інш.

У 1965 г. сям'я паэтэсы пераехала на радзіму бацькі ў Бялыніцкі раён.

Р. Баравікова прагла ведаў і зрабіла спробу паступіць на філфак БДУ, аднак не хапіла ўсяго аднаго бала. Давялося год працаваць у Быхаўскай газеце "Маяк Прыдняпроўя". Дапамог у гэтым малодшы брат бацькі Якаў Баравікоў, які працаваў інжынерам у сельгастэхніцы. Час працы ў газеце быў перыядам творчага станаўлення Р. Баравіковай. Выпрацоўваліся такія важныя якасці, як сціслацсь, дакладнасць, яснасць думкі. Рэдагаваў у гэты час быхаўскую раёнку Георгій Ерамеевіч Барысаў, чалавек улюбёны ў літаратуру, да якога часта завітвалі мясцовыя пісьменнікі. Аднойчы гасцявалі А. Пысін і В. Матэвушаў, якія жылі ў Магілёве. Па прапанове Г. Барысава, знаёмага з літаратурнымі спробамі Р. Баравіковай, яны запрасілі маладую супрацоўніцу на літаратурны вечар у раённы Дом культуры. На ім прагучалі і ўласныя вершы паэткі, прыхільна сустрэтыя публікай. А. Пысін падтрымаў жаданне Раісы звязаць свой лёс з літаратурай, прапанаваў даслаць вершы на творчы конкурс, параіў паступіць у літінстытут, паклапаціўся аб рэкамендацыі Саюза пісьменнікаў.

Баравікова вучылася на аддзяленні мастацкага перакладу Маскоўскага літінстытута імя М. Горкага, калі яна пасябравала з паэтамі І. Ласковым, С. - Басуматравай, Л. Філімонавай, А. Кабаковіч, з якімі вучылася разам у нешматлікай беларускай групе, якая рыхтавалася для літаратурнай працы ў рэспубліцы. Тут, у Маскве, асабліва востра адчула Р. Баравікова тугу па родным краі, блізкіх. У літінстытуце былі напісаны і першы зборнік "Рамонкавы бераг" (1974), цэнтральнымі ў якім сталі вобразы рамонкавай бацькаўшчыны, матчынай хаты. Яе лірычная гераіня – эмацыйна-рамантычная "дзівачка", "пушынка", "дзяўчынка на шары", для якой зямля – нібыта маленькі мячык, а жыццёвыя праблемы ўяўляліся несур'ёзнымі, дробязнымі, часовымі. Аднак сваёй трапяткой жаночай прыродай яна выразна адчула, што сусвет – гэта стыхія, магутная і не падуладная крохкаму, пяшчотнаму сэрцу. Адсюль і характэрныя мастацкія тропы ранніх вершаў паэткі – высокае бяздонне" неба, "вялікасны" вецер, "агромністае" сонца і інш.

Пасля вучобы Р. Баравікова трапіла на пасаду рэдактара кінастудыі "Беларусьфільм". Тут, у сталіцы, пазнаёмілася са сваім будучым мужам. Праз некаторы час сям'я папоўнілася сынам Яўгенам (1974) і дачкой Аленай (1983), якім пісьменніца прысвяціла шмат паэтычных твораў. Праз год пасля ўступлення паэтэсы ў суполку Саюза пісьменнікаў СССР у свет выйшаў яе зборнік "Слухаю сэрца" (1978). Цэнтральнае месца ў ім займаюць вершы сентыментальна-тужлівай інтанацыі. Лірычная гераіня – былая рамантычна-імпульсіўная дзяўчынка, гатовая імчаць "навыперадкі з часам, злёсам", не задумваючыся, ці чакае гэтага прыходу сусвет, грамадства, нечакана адчула ў сабе сталасць. Прывабным для яе стаў "лёгкі смутак на душы", чымсьці будзёная мітусня і турботы. "Мне цяжка зразумець, чаму на свеце, так мала адзіноты для душы" – канстатуе гераіня Баравіковай. Туга ў яе душы таксама і ад усведамлення хуткаплыннасці, незваротнасці часу і маладосці. У зборніку глыбей раскрываюцца вясковыя, народна-песенныя матывы (нізкі вершаў "З бабуленых песень" і "Заброддзе"). Значнае месца ў зборніку адведзена лірыцы кахання, у якой выяўлены шырокі спектр пачуццяў: меладраматычныя спады, драматызм,



чысціня і святасць, узаемнасць, якая не стасуецца з абразай і прыніжэннем іншага ("А на душы і светла, і шчымліва", "Стракатасць выставачнай залы", "Апошняя сустрэча" і інш.).

У 70-я гг., у сталічным асяроддзі Р. Баравікова пасябравала з мастакамі Яўгенам Коктышам, Аляксеем Марачкіным, кампазітарамі Леанідам Захлеўным, Эдуардам Зарыцкім, Валерыем Івановым. Асабліва цёплыя стасункі склаліся з трыма землякамі: крытыкам Алай Кабаковіч, кінарэжысёрам Міхаілам Пташуком і мастаком Міколам Селяшчуком. Сёння палотны гэтага жывапісца ўпрыгожваюць лепшыя музеі Еўропы і Амерыкі, прыватныя калекцыі. Селяшчук ілюстраваў паэтычныя кнігі Баравіковай "Слухаю сэрца" і "Такое кароткае лета". Зрабіць афармленне зборніка выбраных твораў ён, нажаль, не паспеў – трагічна загінуў у падарожжы па Міжземным моры. Знакам удзячнасці сябру стала вокладка апошняй кнігі паэтэсы "Сад на капялюшыку каханай" у выглядзе фрагмента карціны Селяшчука "Восень". А назва паэтычнага зборніка "Адгукнуся голасам жалейкі" – радкі аднаго з прысвечаных мастаку вершаў, эпіграфам да якога з'яўляецца назва карціны М. Селяшчука "З твайго саду да мяне на агеньчык". Памяці А. Кабаковіч прысвечана нізка вершаў "Пастукайся ў акно маё галінай".

У зборніку "Каханне" адлюстраваны адметны свет душы сучасніцы, якая сваёй прыродай здольная адчуць патаемны рух жыцця, гармонію духа. Лірычная гераіня вершаў пра каханне пераканана, што ў інтымных міжчалавечых зносінах эпіцэнтрам пачуццяў не можа быць цвярозая логіка, прагматызм, эгаізм. На думку паэтэсы, каханне толькі тады здольнае перайначыць, узвысіць чалавека, калі яно асвечана душэўнай шчырасцю. Нават трагізм пачуцця кахання, якое бачыцца лірычнай гераіні ў вобразах "салодкай тугі", "адбалелай мары", "горкай надзеі", гарманічна ўраўнаважаны аптымістычнымі нотамі. Згарманізаванасць эмоцый – ад імкнення аўтаркі спасцігнуць сутнаснае свайго жыццёвага шляху, у выніку якога яна прыходзіць да наступнай высновы "Сказаць не магу, каб была я няшчаснай". Гераіня Баравіковай адчувае душэўны спакой, калі ўзгадвае клапатлівага дзеда, бацьку – дбайнага гаспадара, маму-працаўніцу, вялікую верніцу ("Любоў", "Дзяды", "Маці", "Зіма. Дарога ў Цяхцін" і інш.). Суладдзе пачуццяў гучыць і ў урбаністычных творах. Горад, ва ўяўленні паэтэсы, абавязкова "прыгажун","у бляску электрычнае вясёлкі", у ім "мігцяць санлівых вуліц рыцары-агні" ("Зімовы вечар", "Раніцай на Камароўцы", "А давай, як у даўнішнім").

У 1990 г. у выдавецтве "Мастацкая літаратура" выйшаў зборнік выбранай лірыкі "Пад небам першага спаткання", які аб'яднаў лепшыя творы з папярэдніх кніг. Чарговы зборнік "Люстэрка для самотнай" адзначыў творчы рост паэтэсы. З'явіліся новыя рыфмы, новыя матывы, вершы загучалі больш элегічна, спавядальна:

*Такія балючыя ўскрыліся струны,*
*Як жыць з гэтым будзем і што тварыць,*
*Калі ёсць пакрычаць з кім з высокай трыбуны*
*І няма з кім пагаварыць.*

("О не, – прамоў няма ўрачыстых").

Паэтэсе скрушна прызнаваць, што ў сэрцах беларусаў апошнім часам паменела дабрыні, спагады, чысціні. Споведзь аўтаркі – вынік перажытых асчараванняў, жыццёвых трагедый, непрымання няшчырасці, ілжы, страты духоўнасці ў грамадстве. Р. Баравікова трывожыцца за лёс беларускай нацыі ("Адраджэнне"), журыцца за стан нацыянальнай мовы ("Чаму?, "Пераплятуцца гукі "дж" і "дз"), хвалюецца за лёс без весткі прапаўшых на Афганскай вайне ("На перавале Саланг"), устурбавана наступствамі астрожнага мінулага народа ("Наконт мінулага"), абураецца духоўным спусташэннем сучаснікаў ("Схапіць... Купіць... І кожны ўжо бы п'яны!"). У зборніку "Люстэрка для самотнай" паэтычнае слова Баравіковай загучала больш роздумна. Яна імкнулася асэнсаваць мэты чалавечага існавання, тонкія нюансы сваёй пачуццёвасці ("Ёсць і ў пачуццях нашых межы, – свой час згасання і агню"). У адрозненне ад папярэдніх вершаў у гэтым зборніку заўважны творчы падыход аўтаркі да вопыту класіка. Распрачоўваючы тэму "цяжарнай", якую паэты найчасцей увасаблялі як тэму жанчыны-пакутніцы, Баравікова выявіла свой погляд на жыццё. Цяжарная жанчына ў яе – асоба высокамаральная, сарамлівая, якая нясе ў свет "каханне – шчасце і працяг быцця". За гэтую кнігу паэтэса была ўганаравана Дзяржаўнай прэміяй імя Янкі Купалы.

У 1991 г. была напісана драматычная паэма "Барбара Радзівіл". Па просьбе галоўнага рэжысёра Віцебскага драматычнага тэатра Валерыя Мазынскага яна была перастворана ў п'есу, прэмьера якой адбылася у тэатры-лабараторыі "Вольная сцэна", а ў выніку напрацягу дзесяцігоддзя яна не сыходзіла са сцэн беларускіх тэатраў. У 1996 г. напісаны п'есы "Цётка Маланняз Асаўца" і "Пятля часу". Спектакль па апошняй з п'ес быў пастаўлены ў Магілёве ў народным тэатры пры Палацы чыгуначнікаў, а сам твор на конкурсе Міністэрства культуры пад дэвізам "Гісторыя і сучаснасць" адзначаны другой прэміяй.

У 90-х гг. на старонках "ЛіМа", "Полымя", "Беларусі" былі апублікаваны апавяданні Р. Баравіковай у жанры фэнтэзі, якія пазней былі аб'яднаны ў кнігу "Вячэра манекенаў". У 1990 г. выйшла ў свет кніжка казак і апавяданняў для дзяцей "Галенчына "Я", альбо Планета Цікаўных хлопчыкаў", у 1996 г. – кніга фантастычных аповесцей для дзяцей. Р. Баравікова піша рэцэнзіі, паспяхова выступае ў перыёдыцы з артыкуламі.

Шмат гадоў Р. Баравікова працавала намеснікам рэдактара і рэдактарам часопіса "Алеся". Сёння – рэдактарам часопіса "Маладосць". Р. Баравікова ўваходзіць у склад праўлення Беларускага Саюза жанчын, узначальвае таварыства дружбы і культурных сувязей "Беларусь – Расія", з'яўляецца сакратаром новага Саюза пісьменнікаў Беларусі.

## КАНСТАНЦІН ДРОНЬ

Канстанцін Васільевіч Дронь нарадзіўся 24 мая 1936 г. у в.Ківачына Пружанскага раёна. Дзяцінства і юнацтва К. Дроня прайшло ў в. Белы Лясок, якая знаходзіцца наўскрайку Белавежскай пушчы. Вучыўся ў Адэскім дзяржаўным



універсітэце Імя І. Мечнікава і на гістарычным факультэце БДУ, які скончыў у 1964 г. Працаваў настаўнікам гісторыі ў Здзітаўскай сярэдняй школе, у школах Г. Белаазёрска, узначальваў СШ № 3 г. Бярозы.

К. Дронь піша пра радзіму, дзяцей, прыроду, каханне. Асабліва трапяткія радкі прысвечаны родным мясцінам Пружаншчыны (зборнік "Белы Лясок", Брэст, 2003). У некаторых з рэгіянальных твораў гучыць тонкі, далікатны гумар, як у вершы "Белы Лясок":

*Белы Лясок – зялёны садок.*
*Справа і злева сасновы барок,*
*Сумных бярозак стройны радок.*
*Белы Лясок – казак куток.*
*Толькі як цемра падкрадзецца ціха*
*Крочыць па вуліцы зубр і зубрыха.*
*Крочыць павольна па вёсцы да ранку,*
*Часам заглянуць яны у альтанку.*
*Вось тады жах прабірае дзяўчат.*
*Туляцца дзеўкі мацней да хлапцоў,*
*Дзякуюць хлопцы за гэта зуброў.*
*І юнакі прыгажунь абнімаюць*
*Ды пацалункамі жах выганяюць.*
*Госці лясныя стаяць і маўчаць.*
*Але іх хутка зайздрошчы бяруць,*
*Ў пушчу зубры мілавацца ідуць.*

Вобразы роднага рэгіёна, любімай Ясельды, Бярозы ўвасоблены пісьменнікам у такіх вершах, як "Там, за Ясельдай – ракой", "Жанна", "Першаму выпуску СШ № 3 г. Белаазёрска", "Белы Лясок", "Белаазёрск", "УКівачыне дзеўкі", "У роднай вёсцы рэдкі госць", "Вось і вёсачка Гай", "Васілёва хата", "Вось з поўдня ляцяць жураўлі" і інш.

## АНАТОЛЬ КАЗЛОВІЧ

Анатоль Мікалаевіч Казловіч нарадзіўся 16 верасня 1946 г. у в. Горск. Бацька працаваў трактарыстам, брыгадзірам калгаса, экскаватаршчыкам. Маці, Марыя Іванаўна, таксама працавала ў калгасе. Вучыўся у Горскай пачатковай, Падкраіцкай сямігадовай і Малецкай сярэдняй школах. Працаваў экскаватаршчыкам у Сігневічскім БМУ, у 1964-65 гг. – у рэдакцыі бярозаўскай раённай газеты "Маяк". У 1965-69 гг. вучыўся на факультэце журналістыкі БДУ, уваходзіў ва універсітэцкае літаб'яднанне "Узлёт", быў адным з першых членаў бярозаўскага літаб'яднання "Крыніца". Пазней працаваў карэспандэнтам "Сельскай газеты" (1971-73). Каб паглыбіць свае журналісцкія веды пра жыццё сучаснікаў, уладкаваўся на завод кантралёрам АТК. Працаваў у калгасе памочнікам камбайнёра. З 1973 г. – старшы рэдактар Беларускага тэлебачання, у 1974-77 гг. – рэдактар аддзела часопіса "Нёман", з 1974 г. – загадчык карпункта "Литературной газеты" ў Беларусі, пазней – уласны карэспандэнт гэтай газеты.

У 1981 г. прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі.

З 10 класа пачаў пісаць вершы, якія з 1964 г. друкуюцца ў раённых і рэспубліканскіх (“Полымя”, “Маладосць”, “ЛіМ” і інш.) перыядычных выданнях. Сярод іх – верш “Шчасце”, які засведчыў імкненне пісьменніка завастраць увагу на балючых праблемах сучаснасці:

*Ёсць у гэтым такое шчасце:*
*Летнім днём на траву ўпасці,*
*Мазалямі да неба рукі*
*Параскінуць у стомленых рухах*
*І забыцца так на хвіліну*
*Пад гарачым сонечным ліўнем...*
*За плячыма гудзе планета –*
*Мазалямі яна сагрэта,*
*Да плячэй яна прыкіпела,*
*Да ўзмакрэлага, потнага цела...*
*Ёсць у гэтым такое шчасце:*
*Да зямлі пасля працы прыпасці!*

А. Казловіч піша прозу, публіцыстычныя нататкі (у тым ліку пад псеўданімам А. Барсучок), літаратурна-крытычныя артыкулы. У працы публіцыста арыентаваўся на пасляваеннае пакаленне І. Васільева, Ю. Чарнічэнкі, А. Стрэлянага. Асноўная тэматыка твораў – сучасныя праблемы вёскі, наступствы меліярацыі. А. Казловіч – аўтар кніг “Дыхание” (1977), “Пора идти” (1979), “Далеко впереди” (1981), “Дитя моё золотое” (1984), “Трудно любить” (1985), “На моей ладони линия реки” (1987), “Место под солнцем” (1988), “Красный остров” (1988) і інш. А. Казловіч з’яўляецца Лаўрэатам прэміі часопіса “Нёман” за 1976 г. за нарыс “Я – кантралёр”, Лаўрэатам прэміі прафсаюзаў Беларусі (1991) за кнігу “Уласны карэспандэнт”, першым Лаўрэатам літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча за літаратурную публіцыстыку (1995).

Аб’ектам твораў А. Казловіча з’яўляюцца не толькі негатыўныя тэндэнцыі грамадства, але і станоўчыя героі, перадавыя працаўнікі, такія як, старшыня калгаса Васіль Старавойтаў з кнігі “Рассвет” (1986), партызаны Берасцейшчыны з кнігі “Красный остров” (1988) і інш. Асобным геаграфічным мясцінам ваколіц роднай вёскі Горск і яе жыхарам пісьменнік прысвяціў кнігу нарысаў і навэл “Если бы да кабы”, якую цалкам склалі аўтабіяграфічныя ўспаміны перажытага:

“Два кіламетры па шашы – і тры на мосце праз рэчку Вынэц. Горскія хлопчыкі купаліся пераважна тут, пры шашы каля моста, лежачы на якім саграваліся. Вынэц лічыўся нашай ракою. Здараліся выпадкі, што мы, гарчакі, біліся на травяністым беразе з “чужынцамі” з суседніх вёсак за першаснае права валодання рэчкаю. Бойкі зазвычай заканчваліся перамір’ем, і потым “чужынцы” дазвалялі нам боўтацца ў “іхняй” рэчцы. А тая, іхняя рэчка, была за кіламетр ад Вынца і перасякала шашу такім самым высокім жалезабетонным мостам, была яна трошкі плытчэйшая за нашую. Ды так сабе, ручай. Называлі мы яго Пасталуоўка. Ручай бег з боку прыдарожнае вёскі Пасталова, уліваўся ў Вы-



нэц. Непрыкметны ручаёк, але пад мостам вырыў бездань. Мы называлі яе Пасталуоўская Яма. Вада ў ёй была ледзяная, доўга не накупаешся, таму мы хадзілі туды дзеля разнастайнасці".

## НІНА МАЦЯШ

Ніна Іосіфаўна Мацяш нарадзілася 20 верасня 1943 г. у в. Ніўкі Бярозаўскага раёна (цяпер у межах г. Белаазёрска).

Асноўнай крыніцай фальклору, што арганічна ўвайшоўу творчасць Н. Мацяш, была родная сям'я, у якой трывала жылі паляшуцкія традыцыі. Родная бабуля і мама Ніны Іосіфаўны ведалі мноства народных песень і слылі на вёсцы добрымі песеннікамі. Пачуццё радзіннай узаемадапамогі, асабліва да малодшых сястрычак Ганны і Мані, якім праз цяжкую хваробу даводзілася адно сядзець дома і вышываць аднавяскоўцам прыгожыя строі, у шматдзетнай Мацяшовай сям'і выхоўвалася з малых год. Нават бацькаў дазвол на вучобу ў Мінскім дзяржпедінстытуце замежных моў Н. Мацяш атрымала толькі пасля ўгавораў мамы, якой па сваім уласным вопыце была добра вядома прага сялянскай моладзі да ведаў, яе цяжкія шляхі ў навуку. Сямейнае, па-вясковаму працоўнае выхаванне – пачатак пачаткаў, выток станаўлення чалавечай асобы і самой творчай індывідуальнасці пазней будзе падкрэсліваць Ніна Іосіфаўна і ў сваёй аўтабіяграфіі: "Я даўно зразумела – усё, што ёсць ува мне добрае, – яно ад іх, ад маіх бацькоў. У пэўнай ступені нават вершы ад іх".

Неспатольнае жаданне ўславіць край сваіх продкаў, апець хараство прыроды, душэўную прывабнасць, шчырасць і працавітасць людзей роднай вёскі, Бярозаўшчыны, Палесся, непаўторнымі штрыхамі ўзнавіць перажытае, маладую паўнату асабістага быцця і ўжо ранняга духоўнага самавызначэння, пасталення асобы – адметнасць першай паэтычнай кнігі Н. Мацяш "Агонь" (1970). Адкрываецца яна вершам "Белаазёрск", які выразна акрэслівае адну з цэнтральных праблем дэбютнага зборніка – праблему еднасці чалавека з радзіннымі каранямі, лучнасці асобы з бацькоўскай зямлёй. Лірычная гераіня верша "Белаазёрск" захапляецца чароўнай красою вясковага ўлоння, людзьмі, якія захавалі старажытную гісторыю сваёй зямлі, яе песні, паданні: "Павее казкай ад старых азёр // і пойдуць песні поруч па абсадзе". Вялікім чалавечым шчасцем лічыць маладая паэтэса жыць у краі бацькоў, у адметным этнарэгіёне дрыгавіцкага Палесся. І гэты аптымістычна-незамглёны погляд дзяцінства: "Белаазёрск мой, сон мой залаты, // Мая яшчэ не складзеная песня!" – з першага зборніка своеасаблівай краёвай танальнасцю праляжа праз усю яе творчасць.

На адно з першых месцаў у сістэме асабістых каштоўнасцяў Н. Мацяш ставіць пачуццё сяброўства, якое дапамагала паэтцы адчуць крэўна ўспрынятую прыналежнасць да бацькоўскай зямлі. Урокі роднай сям'і вучылі Н. Мацяш даражыць узаемастасункамі не толькі з роднымі людзьмі, але і з аднавяскоўцамі, аднагодкамі, знаёмымі. Сяброўства, па словах самой паэтэсы, – той сад душы, у якім ёй заўсёды "зіхотка, бесклапотна, жыццярадасна". З глыбокай удзячнасцю Н. Мацяш згадвае М. Аўрамчыка, які падрыхтаваў да друку

яе першы паэтычны зборнік, А. Вярцінскага, які спрыяў дэбюту ў “ЛіМе”, рабіў карысныя заўвагі маладой паэтцы, згадвае яна жыццёвую і творчую падтрымку У. Калесніка, А. Васілевіч, Я. Брыля, Я. Семяжона. Важнай падзеяй у жыцці Н. Мацяш стаў і рэспубліканскі семінар маладых літаратараў у Доме творчасці імя Якуба Коласа ў Каралішчавічах зімой 1967 года, калі паэтэса пазнаёмілася з тымі, хто на доўгі час стаў для яе сапраўднай душэўнай апорай: Ф. - Янкоўскім, Г. Каржанеўскай, Л. Якубовічам, Н. Шкляравай, А. Кірвелем, М. - Баравік, В. Коўтун, са сваім земляком, а пазней добрым сябрам В. Жуковічам. Гэта ім, сваім літаратурным настаўнікам, сябрам, бярозаўскім юнакам і дзяўчатам прысвяціла Н. Мацяш трапяткія радкі пра духоўную каштоўнасць міжчалавечага сумоўя з верша “Калі ўзарве пакоя немату”: “І, як замову, паўтараю зноў: // Без дружбы мне – як без вады і хлеба, // Як птушцы – без глыбінь высокіх неба, – // Мой просты дом не ведае замкоў!” Жыць стрэчамі з сябрамі, “заіскрацца верай” у спаўненне сваёй творчай задумы, “пакуль апошняга сяброўства // Не страчу ў калаўроце год” – у гэтым бачыць сэнс і напоўненасць жыцця лірычная гераіня верша “Калі зусім адмовяць ногі...”. Гэтыя словы звернутыя таксама і да калегаў па літаратурным аб’яднанні “Крыніца” пры раённай газеце, што адыграла “лёсавызначальную” ролю ў станаўленні паэтычнага таленту маладой паэтэсы. З розных куткоў Бярозаўшчыны да намесніка рэдактара раёнкі, цікавага, эрудыраванага чалавека Яўгена Іванавіча Сялені збіралася таленавітая моладзь (Р. Баравікова, А. Разанаў, З. Дудзюк, А. Бакіневіч і інш.), каб паспрачацца, прачытаць свае творы, паслухаць і ацаніць вершы сваіх сяброў. І ці не з тае пары вядзе паэтку па яе незлічоных жыццёвых прадоннях дэвіз: “Разгортвайся лепшым да людзей і да творчасці”.

На пачатку мастацкага шляху фальклорызм быў для Н. Мацяш своеасаблівым этапам творчага станаўлення, запаветнай краінай і крыніцай народных вобразаў, і ў меншай ступені – стылізаваным перайманнем метрыкі, выяўленчых сродкаў. Працэс “увядзення” фальклору ў паэтычную сістэму адбываўся ў яе на генетычным узроўні як падсвядомы зварот да этнічных архетыпаў: правобразаў маці і сваякоў, роднага парога, жыццёвых дарог, пашыранага сімвалу “бярозы”. Архетыповы вобраз шляху – скразны лейтматыў творчасці Н. Мацяш – выразна выяўлены ўжо ў першым паэтычным зборніку (“Маё шчасце”, “Арабіны”, “Душа адчайная бунтуе”, “Якая табе справа да мяне...” і інш.). Так, душэўны стан лірычнай гераіні верша “Агонь у начы”, які і даў назву зборніку, вызначае адчуванне гатоўнасці годна ісці жыццёвымі сцяжынамі, адорваць сяброў душэўным цяплом: “Шыбуй сюды знявераны і стомлены! // Тут рук сяброўскіх шчырае святло”. Стан высокага экзістэнцыявання, разуменне абсалютнай каштоўнасці чалавека, адчуванне сваёй запатрабаванасці і гатоўнасці прыняць дар сардэчнага цяпла сваіх сяброў дапамагаюць лірычнай гераіні пераадолець унутраны драматызм, няўпэўненасць у магчымасці самастойна прайсці гранічныя выпрабаванні, якія судзіў лёс на яе драматычным жыццёвым шляху: “Калі ў сваёй дарозе, часам здрадлівай, // Згублю з-пад ног збалелых цвёрды грунт, // Я так хацела б, каб і мне здагадліва // Агеньчык нечае душы спагадлівай // Выратавальна ў вочы зазірнуў”.



Ранні перыяд вершатворчасці Н. Мацяш супаў з часам меліярацыі Палесся, працэсам узбуйнення гарадоў, інтэнсіўнай урбанізацыі, абязлюджвання многіх вёсак да стану неперспектыўных. Родная вёска Н. Мацяш Нівы напрыканцы 60-х гадоў таксама адчула на сабе гэты ўплыў, трапіўшы ў зону будаўніцтва горада энергетыкаў Белаазёрска. Асабліва пацярпелі флора і фауна Белага і Чорнага азёраў, тутэйшых рачулак, любага з маленства маляўнічага прыроднага наваколля. Вымушаны ад'езд на вучобу ў сталіцу ўзмацняў у паэтэсы абвостраныя пачуцці адарванасці ад роднага кута, адлучанасці ад дарагіх сэрцу рэалій. Так, лірычную гераіню верша "Ля Бярозаўскай ДРЭС" да шчымлівай горычы ў душы хвалюе, што нішчыцца каларыт родных мясцінаў, знікаюць абрысы роднага ўлоння: "Даўно я дома не была // І вось разгубленай буслiхай // Шукаю роднага сяла, // Слядоў свайго маленства ціхага. // Шукаю і ... камяк даўкі // Захрас ва ўсхваляваным горле: // Заместа лешак і ракіт // Мне сонечна смяецца горад!" У Н. Мацяш гэты феномен душэўнага "раздваення" між вёскай і горадам быў сугучны агульнай традыцыі тагачасных літаратараў (М. Стральцоў, А. Грачанікаў, Я. Янішчыц, В. Зуёнакі інш.) і выявіўся, з аднаго боку, у настальгіі па страчанай вясковасці, з другога, – у мажорных інтанацыях, выкліканых урбанізаваным упарадкаваннем роднага кутка: "Даўно я дома не была! // Іду між гмахаў і смяюся."

Аўтабіяграфізм, "следаванне" за жыццёвым фактам выразна праявіліся ў творах, прысвечаных сваякам, калі аўтарскі лірызм набывае сінкрэтычныя рысы, саступае нярэдка месца эпізацыі, каб ужо больш аб'ектывізаваным поглядам на свет паяднаць гэтак дарагія, адвечныя праз этнафальклорныя архетыпы для чуйнага паэтычнага сэрца пласты мінуўшчыны і сучаснасці, па-новаму адкрыць радзінную повязь пакаленняў, у чым знаходзіць творчае выбаўленне ранняя жыццёвая драма паэтэсы, адкуль чэрпаюцца яе экзістэнцыйны аптымізм і духоўныя сілы. Такі паэтычны прыём паглыбленага самаадлюстравання, самасцвярджэння сябе ў сваім родзе сустракаем у вершы "***Бабуля памерла...":

*На тых жа загонах, на тых жа сцяжынках,*
*Адкуль ты вярталася калісь з дажынкаў,*
*Запелі дзяўчаты у прыцемку веснім*
*Пра хлопцаў Расіі, пра дзеўчын Палесся.*
*Я крочу да іх, як на стрэчу з табою,*
*Задумлівай, мудраю і... жывою!*
*Іду да дзяўчат я, а ў думках клянуся:*
*Усе твае песні аддам Беларусі!*
*Я толькі дабаўлю да іх тыя словы,*
*Што сёння лунаюць над краем вясновым...*

Н. Мацяш шчыльна прытрымлівалася ў ранніх зборніках жыццёвых прататыпаў, якіх яна найперш знаходзіла ў роднай сям'і, сярод сваякоў, вяскоўцаў. Паэтэса глыбока ўдзячная бацьку, маці, бабулі, далёкім і блізкім сваякам за тое, што адарылі яе сэрца душэўнай цеплынёй, навучылі адчуваць паўнату і гарманічнасць навакольнага свету ("Галі", "Бацька", "Ніты матуля так перабі-

рала...” і інш.). У творах паэтэсы лірычная гераіня імкнецца аддзячыць сваім родным такім жа душэўным цяплом. Згадаем, бацькі маладой паэтэсы былі тутэйшымі, з роднай вёскі Нівы. Да вайны бацька нарыхтоўваў для адправак у Польшчу панскі лес. На вёсцы быў вядомы сваёй мужнасцю, вызначаўся прыродным аптымізмам і вялікім пачуццём самапавагі. Асабліва шанавалі настаўніцтва Іосіфа Мікалаевіча ў мясцовай сямігодцы. Былі, аднак, і жыццёвыя цяжкасці, моманты скрухі, хваляванне за лёс дзяцей, цяжкая праца на ўласнай гаспадарцы, што выклікала адпаведныя эмоцыі і ў маладой паэтэсы. Так, гераіня верша “Бацька” занепакоена нават нязначнымі зменамі настрою роднага чалавека, якога баіцца пакрыўдзіць нават словамі спагады:

*Тата родны... Не трэба!*
*Як гаротна сашчэплены пальцы,*
*Як бяссільна упалі*
*На мулкія дошкі стала...*

*Мне б прыпасці к табе, –*
*Ды няма ў нас такой завядзёнкі...*
*Ты й мяне прывучыў*
*Быць скупою ў пачуццях услых.*

*Мне б падбегчы к табе*
*І вачэй дапытацца,*
*Што за скруха пакутная*
*На цярплівыя плечы лягла.*

*Асцярожна выношу з пакоя*
*Любві сваёй дзёрзкасць,*
*Каб нічым не абразіць*
*Дум падгледжаных горкіх тваіх.*

Матыў “малой радзімы” знайшоў адлюстраванне і ў паэтычным зборніку Н. Мацяш“Ралля суровая” (1976) (вершы “Тры песні”, “Любе”, “Два дрэвы” і інш.). У гэтай кнізе паэтычная тканіна аўтабіяграфічных твораў, прысвечаных маці, бацьку, сястры, будуецца на яшчэ больш трансфармаваным фальклорным пачатку. Паказальным у гэтым плане з’яўляецца аўтабіяграфічны верш “Два дрэвы”, у якім народна-паэтычныя вобразы дрэў, рабіны і клёна, асацыіруюцца ў лірычнай гераіні з асобамі маці і бацькі. Паэтычная асоба падкрэслівае душэўную пяшчоту і сілу бацькі, матуліну жыццёвую трываласць, здольнасць адолець нягоды. Паэтэса выказвае антрапаморфнае адчуванне знітаванасці свету раслін і чалавечага быцця. Развіваючы матыў плыннасці, незваротнасці часу ў вершы “Два дрэвы”, аўтарка сцвярджае сваю веру ў старажытна-анімістычную паляшуцкую традыцыю падворкавага дрэва-абярога. Вобразы дрэў рабіны і клёна – таксама сімвал генетычнай памяці, напамінак аб духоўнай спадчыне роднай сям’і.

Алена Сымонаўна Мацяш, па ўспамінах дачкі-паэткі, была “працаўніцай, разумніцай і красуняй”. Яна мела прыгожы голас і любіла спяваць народныя песні. Матуліны рысы, яе своеасаблівы паляшуцкі этнатып, эмацыйная чуласць, песенная душа перадаліся і Ніне. У зборніку “Ралля суровая” вершы, прысвечаныя маці, вызначаюцца лірычнай узрушанасцю, духоўнай напоўненасцю, журботна-элегічным настроем – тымі рысамі, якія знайшлі далейшае развіццё ў наступных кнігах. У “маміных” вершах Н. Мацяш выразна выявілася імкненне паэтэсы спалучыць літаратурную традыцыю з наватарскімі пошукамі ў набліжэнні да фальклорнай традыцыі ў галіне формы (выкарыстанне калыханкі, кантамінацыі народнай песні, плачу-галашэння, замовы і інш.). У вершах Н. Мацяш, прысвечаных самаму роднаму чалавеку на зямлі, псіхалагічна заглыблена



передаецца складаны шлях пошуку асобай духоўных арыенціраў. Маральны ідэал у Н. Мацяш у многім звязаны з асобай роднай мамы. У вершы "Калыханка маме" на першае месца ў сістэме духоўных каштоўнасцей паэтэса ставіць працавітасць, дабрыню, даверлівасць, аптымізм, талент спяваць, – усё тое, чым спрадвеку вызначаліся насельнікі роднага краю.

Вершы са зборніка "Ралля суровая" паказалі і тое, што ў працэсе эвалюцыі творчай індывідуальнасці паэтэсы адбывалася больш арганічнае яе ўваходжанне ў народную традыцыю, элементы знешняй фальклорнай стылізацыі пераходзілі ва ўнутраную сутнасць лірычнага "я" аўтара. Н. Мацяш, як правіла, у працэсе апрацоўкі і трансфармацыі фальклорнага матэрыялу імкнулася не парушыць, а часам і ўзбагаціць першатвор пры захаванні адпаведнасці яго народнаму духу. Так, узяўшы сюжэтнай асновай верша "Маналог крыніцы, якую закідалі каменнем" словы з народнай песні "Ой у полі крыніца стаяла...", якія вынесены ў эпіграф твора, паэтэса, не кранаючы традыцыйнай народна-песеннай вобразнасці, яе фальклорнага каларыту, натуральна змяняе форму аповеду. І ўжо лірычны аб'ект – крыніца – становіцца "аўтарам" паэтычнага маналогу, які раскрывае драматычны лёс родных Н. Мацяш мясцінаў, што трапілі ў зону будаўніцтва пасялення энергетыкаў – Белаазёрска:

*А пасля ступіў на поле горад,*
*Ганарыста ўскінуўся між ніў,*
*І ў маё сярэбранае горла*
*Паляцелі слепа камяні!..*

Раннія творы паэтэсы эмацыйна стрыманыя, напеўныя, мілагучныя, многія з іх былі пакладзены на музыку. Аўтарка па-наватарску перапрацоўвала фальклорныя жанры: калыханку ("Калыханка маме"), песню ("Песня матчынай маладосці"), баладу ("Балада мары", "Балада памяці", "Чэрвеньская балада").

Характэрнай асаблівасцю кнігі "Поўны келіх" (1982) з'яўляецца творчае выкарыстанне фальклорнай паэтыкі ("Грамніцы", "Завялікая", "Амаль казка"). Новы этап асваення народнай традыцыі Н. Мацяш на рубяжы 70-80-х гадоў засведчыў імкненне паэтэсы ва ўсёй паўнаце адлюстраваць у мастацкім слове этна-рэгіянальны менталітэт, эпіцэнтрам якога з'яўляецца культ вясковага тыпу мыслення з уласцівымі яму адметнымі адносінамі асобы да традыцый продкаў, працы, прыроднага навакolля. У мастацкім свеце Н. Мацяш выявіўся складаны сінтэз, з аднаго боку, – сэнсава-зместавага плана, у якім прэваліруе арыгінальна-аўтарская думка з узнаўленнем праз генетычны ўспамін спадчыннакрэўных адметнасцей рэгіянальнага характару, з другога боку, – знешне-фармавага плана, у якім вызначальным для аўтаркі з'яўляецца імкненне захаваць аўтэнтычнасць фальклорнай паэтыкі: казачны зачын ("За гарамі, за даламі, // За бяссоннымі начамі, // Жыў ды быў вялікі цар – // Смутак, духу валадар"), анімізацыя вобразаў-сімвалаў ("Як Самота з госцяй Радасцю развітвалася, // Дык усё яе пыталася, дапытвалася..."), своеасаблівая рытміка-інтанацыйная афарбоўка. У "фальклорных" вершах зборніка "Поўны келіх" паэтэсай адлюстраваны духоўны генатып насельнікаў бярозаўскага рэгіёну з асаблівым ак-

цэнтам на сялянскі культ узаемадапамогі (“І адзіным выйсцем будзе // Ў безвыходнай той журбе: // Памагаць чым можаш людзям // І не плакаць аб сабе”), гасціннасці, падкрэслена самакрытычнага экзістэнцыявання (“– Што ж ты, мілая, так мала пагасціла? // Пэўна, нечым я табе не дагадзіла. // Мо няўдалай гаспадыняю была я? // Мо табе мая святліца замалая?”).

У творах 70-80-х гг. паўстае мастацкі вобраз эпохі з дакладнаю акцэнтацыяй у ім аўтарскай асобы, пэўны дакументальны факт (“Гатэль “Мінск”, 374”, “Мінск, 30 студзеня 1980”, “Сухмень, 1979” і інш.). Біяграфічным з’яўляецца і трыпціх “Тры каласкі любові і смутку”, у якім паэтэса адлюстравала этнаспецыфічныя рысы насельнікаў палескага рэгіёну. Аўтарка падкрэслівае прыродны аптымізм, працавітасць, талент спяваць, клопат пра нашчадкаў, непрыйманне любых форм насілля, – усё тое, што генетычна перадалося маці ад продкаў. Важным у духоўным свеце лірычная асоба Н. Мацяш лічыць характар самапачування між людзей, які фарміруецца спадчынным пачуццём сваяцтва (“Свецяць, мамачка, рукі Твае спрацаваныя. // Мама, свеціць трывушчае сэрца Тваё...”), пачуццём удзячнасці і любові да бацькоў (“ Калі мы тут багатыя на ўсмешку, // На шчырасць, на давер, на песню – мы // Багатыя табой, тваёю сцежкай, // Што ты ў вясну тарыла нам з зімы. // Калі на сонцы не шукаем плямаў, // Калі і роспач нас не заграбе, // Калі й надзеі мы не здрадзім, мама, – // Мы гэтым абавязаны табе”.

У зборніку “Шчаслівай долю назаві” (1990) адметнае месца сярод твораў занялі вершы-прысвячэнні: “Ода дзівосна прыгожаму чалавеку” (баранавіцкаму мастаку-габеленшчыку, коўшчыку Сымону Свістуновічу), “Памяці Рамана” (суседу Раману Барычэўскаму), “Тая ўсмешка” (белаазёрскаму доктару Аляксандры Дзмітрыеўне Кушчыной), “Світанне” (бібліятэкарцы з Белаазёрска Тамары Кузняцовай), “Песня ўцярноўніку” (паэту-земляку, сябру па літаратурным аб’яднанні “Крыніца” А. Разанаву) і інш.

Н. Мацяш “адбудоўвае” сваю біяграфію праз зварот да жыцця папярэднікаў ці сучаснікаў, асабліва тых, хто аказаў значны ўплыў на паэтэсу ў фарміраванні ідэйна-эстэтычных поглядаў, яна пераасэнсоўвае сваё жыццё, спрабуючы знайсці ідэал і адлюстраваць яго ў біяграфічным тэксце. У вершы “Песня ў цярноўніку” такой ідэальнай асобай з’яўляецца адрасат паэтычнага выказвання А. Разанаў, які сваёй жыццёвай пазіцыяй аказаў істотны ўплыў на светапогляд аўтаркі. Н. Мацяш захапляецца душэўнай шчырасцю і сілай, мэтанакіраванасцю і талентам людзей, да ліку якіх адносіцца вядомы паэт яе пакалення:

*Усё, што варта нас,*
*Дарогу заступае,*
*Бо шлях адзін: не ўскрай, а толькі праз.*
*І вастрыё стралы*
*Дакладна гэта знае,*
*І руху птах наўзрыд спявае ў нас...*

*Хай з думак ападзе*
*Цярновае калючча.*



*За ўсё, што ёсць – і ў тле, і ў харашбе,*
*За неймаверны дар*
*Прылетаваць да кручы*
*Раскрыймася найлепшым у сабе.*

Новае гучанне ў зборніку "Шчаслівай долю назаві" атрымала фальклорная прастора твораў паэтэсы. Аўтарка дасягнула ў ім дасканалага ўзроўню тонкага "дотыкавага" выкарыстання фальклору. Выразна бачна гэта ў вершах фальклорнага складу ("З-за рэчкі, з-за гаю...", "Але твая сляза", "Просьба", "Баечка", "Воран кружыць", "Зазірні ў сябе"), дзе народны "піэтызм" трымаецца ў большай ступені на знешне песеннай мелодыцы, чым на "чыстым" фальклорным змесце.. Цалкам аўтарская тканіна сучаснага перажывання з'яўляецца таксама і асновай паэтычных замоў – аднаго з улюбёных прыёмаў Н. Мацяш пачынаючы з 90-х гадоў ("Адыходзяць мае беларусачкі", "Студзеньскі ліст", "Любоў мая, укрый мяне...", "А ты жыві, каханы мой, жыві..." і інш.), што сталі пераходным звяном у творчасці паэтэсы да жанру малітвы. Яе замовы вызначаюцца тонкай лірычнай асновай, паўторамі, плачам-прычытаннем, статычнасцю, заклінальнасцю:

*А ты жыві, каханы мой, жыві.*
*Хай сэрцу будзе да каго хіліцца.*
*Хай жураўлём абернецца сініца.*
*Сваю шчаслівай долю назаві.*
*Хай светла збудзецца, што светла сніцца, –*
*Жыві, каханы мой, жыві!*

З цягам часу паэзія Мацяш становіцца больш элегічнай, важным для аўтаркі падаецца ўжо не проста асэнсаванне ўласнага жыццёвага шляху, а менавіта новы віток звароту да "родавай памяці", традыцый і каштоўнасцей сваёй сям'і, "вяртанне" да "бацькавага парогу". Праблеме сям'і і сямейных узаемастасункаў прысвечаны вершы гэтага зборніка "Не ведаю", "Збыліся", "Наўздагон", "Для кожнага" і інш. У самыя скрушлівыя моманты існавання менавіта ў сваёй сям'і шукае духоўную апору лірычная гераіня, драмай лічыць адсутнасць падтрымкі сваіх сямейнікаў, якіх успрымае своеасаблівай звышдадзенай матрыцай, з якой неабходна ўзгадняць свае паводзіны і думкі: "Няма так шмат з маіх сяброў. // Так шмат з радні маёй няма. // Дзе вы, матуля, сёстры, брат? // Хоць знак які падай мне, ма!.."

З гэтай пары на душэўны камфорт, успрыняцце ўсёй паўнаты жыцця ў псіхалагічных станах лірычнай гераіні Н. Мацяш пачынаюць накладвацца экзістэнцыйныя сусветныя вымярэнні, адзіна здольныя перадольваць трагізм страты, адыходу блізкіх людзей у нябыт, што ўрэшце вызначыла мінорны лад і філасофскую элегічнасць яе медытатыўнай па сваім унутраным характары лірыкі.

Вершы Н. Мацяш 90-х гг. увайшлі ў кнігу выбранай лірыкі "Душою з небам гаварыць" (1999). Іх асаблівасць – у звароце да ўласнаперажытага, да патрыятычнай тэматыкі, духоўнай паэзіі.

На новым коле экзістэнцыйных пошукаў сталую лірычную гераіню 90-х гадоў хвалюе этнічны нігілізм суайчыннікаў, заняпад роднай мовы, маральнае

спусташэнне, гуманістычная адчужанасць людзей. Калі на пачатковым этапе вершатворчасці Н. Мацяш выглядала няўрымслівым аптымістам, была захоплена першаадкрыццём чароўнага хараства роднага краю, філасофскім народна-звычаёвым пераадоленнем драматычных жыццёвых калізій, то ўнутраны пафас паэтычнага слова Н. Мацяш пазнейшага часу вызначаюць найперш рэлігійныя матывы, у святле якіх паглыбленне асабістай канцэпцыі роду і радзімы атрымала новы віток экзістэнцыйнага духоўнага ўзыходжання.

Напрыканцы 1994 года рэдакцыя часопіса "Першацвет", да якога Н. Мацяш заўсёды выяўляла творчы інтарэс, папрасіла паэтэсу адказаць на два пытанні: "1. Што ўплывала на Вас, калі Вы пачалі пісаць на беларускай мове? 2. Які свет Вы хацелі б стварыць у сваёй творчасці і якой Вы б хацелі стварыць сябе ў гэтым свеце?" У выніку з'явіліся радкі з верша "Адказ "Першацвету" на ягоную анкету", у якіх паэтэса спрабавала патлумачыць спецыфіку ўласнага мастацкага свету найперш крэўнай лучнасцю з бацькоўскім краем і глыбокім нацыянальным пачуццём:

"Перад істай, бадай, не зграшу, як скажу: змалку ведала цвёрда, што люблю непаўторны свой род і яго анідзе не зракуся, як бы лёс ні падгорчваў мёд прыналежнасці да Беларусі.

Давялося ж бо павандраваць мне й па розных дарогах няблізкіх: свет умее ў палон сэрца браць, і вязніцай не стала калыска майго голасу ў свеце зямным. Дзячу долі за ўсе пуцявіны, дзе й жаўронкавы час, і савіны мяне моцніў вяртаннем маім у ціхмяны мой край, да жытла каля шэрага поля й балота, каб адчуць – зноў і зноў! – я магла наўзвышальную дзею тайноты ўласнай злітнасці з гэтай зямлёй, якой свет шматстайняць і родныя Нівы (мая вёска, мае карані). Гадаванка палескае глебы, я папросту не мела патрэбы з Музай мовай чужой гаманіць".

## АЛЕСЬ РАЗАНАЎ

Аляксандр Сцяпанавіч Разанаў нарадзіўся 5 снежня 1947 г. у в. Сялец у сям'і служачых. Бацька, Сцяпан Іванавіч Разанаў (1910-86 гг.), родам з в. Вялікая Ржакса Тамбоўскай вобласці напярэдадні Вялікай айчыннай вайны прыехаў у Беларусь з геадэзічнай экспедыцыяй. У 1942 г. быў вывезены фашыстамі ў Германію, дзе працаваў на заводзе, знаходзіўся ў канцлагерах Заксенхаўзен і Маўтхаўзен, з якога ў 1945 г. вярнуўся да сям'і на Брэстчыну і застаўся жыць у Сяльцы. Маці, Надзея Іванаўна, працавала медсястрой, фельчарам-акушэрам у мясцовых ФАПе, а пазней бальніцы. Пасля вучобы ў Сялецкай сярэдняй школе (1955-66 гг.) Алесь паступіў на філфак БДУ. Адначасова з вучобай у 1967-68 гг. працаваў ліцейшчыкам на Мінскім заводзе ацяпляльнага абсталявання. У 1969 г. за ўдзел у студэнцкіх хваляваннях (восень 1968 г.), накіраваных на абарону беларускай мовы, быў адлічаны. Пасля персанальнага заступніцтва Максіма Танка перавёўся на філфак Брэсцкага педінстытута, які скончыў у 1970 г. У 1970-71 гг. выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Кругельскай СШ Камянецкага раёна. З 1972 г. працуе літсупрацоўнікам газеты "ЛіМ" і бю-

летэня “Родная прырода”. Праз два гады становіцца рэдактарам, а затым старшым рэдактарам выдавецтва “Мастацкая літаратура”. З 1986 г. на творчай рабоце. Алесь Разанаў вучыўся ў славістычнай школе ў Чэхаславакіі (1988). З 1990 г. старшыня Беларускага рэспубліканскага фонду імя Рэрыхаў і сябра Рады Саюза пісьменнікаў Беларусі, з 1992 г. навуковы супрацоўнік Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны. Віцэ-прэзідэнт Беларускага ПЭН-цэнтра. З 1994 па 2000 гг. А. Разанаў – супрацоўнік часопіса “Крыніца”, які заснаваў з аднадумцамі. З 2001 г. жыве ў Германіі, куды быў запрошаны для творчай працы Міжнародным парламентам пісьменнікаў. За ўдзел у міжнародным літаратурным конкурсе “Сустрэча двух Светаў” узнагароджаны дыпломам ЮНЭСКА. У 2003 г. уганараваны прэстыжнай еўрапейскай літаратурнай прэміяй імя Ёгана Готфрыда Гердэра. Творы Алеся Разанава перакладзены ў 20 краінах свету, яго паэтычныя зборнікі выйшлі ў Германіі, Балгарыі, Грузіі, Польшчы.

Вершы А. Разанаў пачаў пісаць яшчэ ў школе, да гэтага яго падахвоціў настаўнік беларускай літаратуры. Першыя публікацыі з’явіліся ў 1961 г. у піянерскіх газетах. Ужо першыя кнігі паэта “Адраджэнне” (1970), “Назаўжды” (1974), “Каардынаты быцця” (1976), “Шлях – 360” (1981) выразна засведчылі неардынарнасць мысленне аўтара, нечаканасць яго паэтычных асацыяцый, нетрадыцыйную вобразнасць, інтэлектуалізм і духоўнасць вершаванага тэксту. А. Разанаў – аўтар зборнікаў “У горадзе валадарыць Рагвалод” (1992), “Рэчаіснасць” (1998), “Каб мелі шчасце ўваскрасаць і лётаць” (2006), “Дождж: возера ў акупунктуры” (2007). У 2003 г. у Германіі выйшла ў свет кніга “Wortdichte”. За кнігу “Вастрыё стралы” (1988) прысуджана Дзяржаўная прэмія Беларусі імя Янкі Купалы. Разанаў увёў нацыянальную культурную прастору ў кантэкст сусветнай культуры і літаратуры, празаізаваў вершаваны радок, увёў новыя паэтычныя формы ў нацыянальнай літаратуры, як аўтарскія (квантэмы, вершаказы, зномы), так і ўжо вядомыя за мяжой (пункціры і версэты). Творы мастака складаныя для ўспрымання, бо ім уласцівы зашыфраванасць вобраза, прытчавасць, філасафізм.

А. Разанаў надзіва ўдумлівы пісьменнік, які імкнецца адшукаць духоўнае ў матэрыяльных рэчах, які паэтызуе чалавечнасць, усё прыгожае, светлае ў чалавеку і асуджае бездухоўнасць. Свой успамін пра маці, пачуццё вялікага спусташэння, што ўзнікае пры незваротнай страце роднай асобы выказана паэтам у паэме “Упоцемках з ліхтаром”: “Мама – уберагла, маму – не ўберагу... За рамаю – год пярэсты: Пра маму... – адной. З сабой не бярэш – сама: абое – да раздарожжа... Буду чакаць... Няма... Мамы не быць не можа. Мама!.. – яна між стром. Мама!.. – між буралому... Упоцемках, з ліхтаром... Мама, куды?! – да дому”.

Пісьменніка прываблівае мастацкае даследаванне этымалогіі слоў у розных мовах, гістарычная тэматыка, пытанні экалогіі. У шэрагу вершаў А. Разанава асэнсаваны паняцці малой радзімы, гісторыі Бярозаўшчыны, мясцовага фальклору, як, напрыклад, у вершы “Бяроза-Картузская”:

*На рэчцы, дзе ціха шумяць вербалозы,*

*Стаіць гарадок невялікі Бяроза.*
*Аб бераг пляскочуць злянелыя хвалі,*
*Чаму паэтычна так горад назвалі?*
*Мінаюць гады, праплываюць стагоддзі,*
*А слова жывое вандруе ў народзе.*
*– Аднойчы паходам, – легенда гавора, –*
*Тут з войскам ішоў палкаводзец Суворый.*
*Стаміліся крочыць салдаты палямі,*
*Зрабілі прывал на зялёнай паляне.*
*Суворый суніцы збірае па лесе,*
*А пыльны картуз на бярозу павесіў.*
*Ці доўга, ці не на цяністым прывале*
*Салдаты з Суворавым адпачывалі,*
*Затым падаліся далей па дарозе,*
*Застаўся вісець той картуз на бярозе.*
*З тых пор каля ціхае Ясельды-рэчкі*
*Бярозай-Картузскай назвалі мястэчка.*

У творчасці А. Разанава паняцце рэгіянальнага не выступае выразна акрэсленым. У большасці твораў (“Паэма маленства”, “Паэма рыбіны”, “Назаўжды”, “Паэма запаленых свечак” і інш.) яно зводзіцца да згадкі сваіх родных, маці і бацькі, пэўных геаграфічных мясцін (Бярозы, Брэста, Брэсцкай крэпасці, Буга, Белавежы) – усяго, што складае ўяўленне паэта пра бацькаўшчыну ў шырокім сэнсе:

*Радзіма, да цябе з мальбой*
*і нараканнем не скрануся.*
*Я ў весялосці не з табой,*
*з табой у роздуме і ў скрусе.*
*Ты не ўмяшчаешся ў куток,*
*дзе трызніць Буг, дзе Белавежа...*
*Тваё не вызначыць мне межы*
*і не намацаць твой выток.*
*У свет балючы дабяла,*
*у снежны свет, мае усходы*
*ідуць: там ты... там ты была!..*
*Ты ўся наводдалі заўсёды.*

А. Разанаў узнавіў шэраг твораў старажытнай літаратуры, у тым ліку шырокавядомых постацяў (К. Тураўскага, Ф. Скарыны, С. Буднага, В. Цяпінскага, І. Пацея, М. Сматрыцкага, Л. Сапегі) і менш славутых (Я. Руцкага, К. Транквіліёна-Старавецкага і інш.), якія ўвайшлі ў “Кнігу ўзнаўленняў” (2005). Мастак склаў кнігу паэзіі Янкі Купалы “выйдзі з сэрцам, як з паходняй!...” (1982), выступае з артыкуламі па пытаннях сучаснага літаратурнага працэсу, а таксама ў жанры эсэістыкі. У 1994 г. у Беластоку выйшла кніга герменеўтычных распрацовак (каментарыяў) А. Разанава на вершы Надзеі Артымовіч “Дзверы”.



# ВІТАЛЬ РАІЦКІ

Віталь Міхайлавіч Раіцкі нарадзіўся 11 чэрвеня 1974 г. у г. Брэсце ў сям'і служачых. Бацька, Міхаіл Міхайлавіч (1946), які працаваў у брэсцкім райкаме камсамола, і маці, Тамара Яфрэмаўна (1947), эканаміст-аграрый па спецыяльнасці, былі родам з вёскі Белавусаўшчына Пружанскага раёна. У 1976 г. сям'я Раіцкіх пераехала ў Бярозу, куды перавялі бацьку на працу інструктарам у райкам партыі. В. Раіцкі вучыўся ў сярэдняй школе № 2 г. Бярозы. У 1996 г. скончыў Беларускі аграрны тэхнічны універсітэт па спецыяльнасці інжынер-механік. Па накіраванні трапіў у г. Высокае Камянецкага раёна, дзе два гады выкладаў спецдысцыпліны ў вышэйшым прафтэхвучылішчы. У 1998 г. перавёўся на працу ў Бярозаўскую сельгасхімію. З 2003 г. працуе на Бярозаўскім матора-рамонтным заводзе ў аддзеле АТК.

Першы верш на беларускай мове напісаў у 10 класе. У 1999 г. дэбютаваў у раённай газеце "Маяк". Піша на рускай мове інтымную, пейзажную, патрыятычную лірыку. З'яўляецца аўтарам паэтычных зборнікаў "Сезоны" (2003), "Душа, роняющая строки" (2006). Шэраг паэтычных радкоў прысвяціў роднаму краю:

*Я люблю тебя, город ты мой,*
*Город стройных кудрявых берёз,*
*Город детских мечтаний и девичьих грёз,*
*Город маленький, город большой.*

*Город многоголосых дворов*
*И тенистых недремлющих скверов*
*Можешь быть ты унылым и серым,*
*Прячась в россыпе ярких зонтов.*

*Я хотел здесь любовь повстречать,*
*Но увы... не судьба. Не моим*
*Видно страстным стихам о любви*
*В твоих тихих аллеях звучать.*

*Золотыми крестами пронзая*
*Небеса в высь возносятся храмы,*
*Исцеляя душевные раны,*
*Наши души от боли спасая.*

*Здесь так хочется жить и творить,*
*Видеть радость на лицах детишек.*
*И пусть сотни девчонок, мальчишек*
*Здесь научатся жить и любить.*

*Я люблю тебя, город ты мой,*
*Город стройных кудрявых берёз,*
*Город, где я родился и рос,*
*Где я мог повстречаться с тобой.*

## ВАСІЛЬ САХАРЧУК

Васіль Якаўлевіч Сахарчук нарадзіўся ў в. Свадзьбічы 10 ліпеня 1953 г. У 1970 г. скончыў Равяціцкую сярэднюю школу. Вучыўся на філфаку БДУ. Працаваў у школах Любанскага раёна Мінскай вобласці. У 1978 г. працаваў намеснікам дырэктара па выхаваўчай працы і настаўнікам гісторыі у Высокаўскай сярэдняй школе Бярозаўскага раёна. Пасля – адказны сакратар жабінкаўскай раённай газеты “Сельская праўда”. З 1972 г. член літаб’яднання “Крыніца”, член Саюза пісьменнікаў Беларусі. Перакладаў мастацкія творы балгарскай, украінскай, рускай літаратур. В. Сахарчук – аўтар зборнікаў “Зорны мост” (1984), “Даніна” (1988), “Ранішні госць” (1994), “Мой вечны бор” (2004).

Пераважную большасць твораў пісьменніка складае грамадзянская, патрыятычная лірыка. Шэраг твораў прысвяціў роднаму краю, Берасцейшчыне, бацькам. Прасветлы вобраз маці ўвасоблены паэтам у вершы “Калядная сцюжа”:

*Дагарэла свечка, дагарэла...*
*Высахла васковая сляза...*
*Напалоў душа асірацела,*
*боль параніў сэрца без ляза.*
*Час няўмольна прымнажае страты –*
*чым далей, тым на душы гарчэй.*
*Моўчкі слепнуць вокны роднай хаты,*
*цёмна ім без бацькавых вачэй.*
*Дагарэла свечка, дагарэла...*
*Сум васковы выліла да дна...*
*А на золку маці зноў нясмела*
*туліцца да мокрага акна...*

У 2003-м паэта не стала.

## ВІКТАР СУПРУНЧУК

Віктар Пятровіч Супрунчук нарадзіўся у в. Сялец 7 снежня 1949 г. Працаваў грузчыкам на Нова-Бярозаўскім вапнавым заводзе, вучыўся ў Белаазёрскім вучылішчы электратэхнікі (1967-68). Пасля службы ў войску працаваў электрыкам, мантажнікам, зваршчыкам на будаўніцтве Бярозаўскай ДРЭС (1970-71). У час вучобы на факультэце журналістыкі БДУ працаваў літсупрацоўнікам шматтыражнай газеты “Сельскі настаўнік”, дзяжурным электрыкам у Мінскім медінстытуце, у шматтыражнай газеце “Электрон”. У 1977-81 гг. працаваў спец-



карам "Сельскай газеты", рэдактарам літаратурна-драматычнай рэдакцыі Беларускага тэлебачання (1981-83), загадчыкам аддзела нарыса (1983-86), старшым рэдактарам аддзела прозы (1986-90) часопіса "Полымя". З 1990 г. – намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Літаратурнай дзейнасцю займаецца з 1970 г. Першыя абразкі і аповесці "Дошч", "Помнік" і "Хлеб" надрукаваў у 1977 г. у "Сельскай газеце". У часопісах "Полымя" і "Маладосць" надрукаваў аповесці "Трэці сын" (1983) і "Сяргей Сяргеевіч" (1985), якія былі адзначаны рэдакцыйнымі прэміямі года. В. Супрунчук – аўтар празаічных зборнікаў "Страсці" (1983), "Недзе баліць ля сэрца" (1986), "Жыве штолькі раз" (1988), "З плоці і крыві" (1991). Друкуецца ў газеце "ЛіМ", часопісах "Полымя", "Маладосць", "Нёман" і інш.

Асноўныя тэмы твораў В. Супрунчука – гістарычнае мінулае, каханне. Героі яго прозы – родныя, знаёмыя, аднавяскоўцы, калегі па працы. Многія яго творы напісаны на мясцовым матэрыяле Берасцейшчыны. У в. Старыя Пяскі разгортваюцца падзеі ў аповесці "Банальны дэдэктыў", у в. Сэлец – у аповесці "Трэці сын", у Гута-Міхаліне, Сэльцы, Баранавічах, Брэсце – у рамане "З плоці і крыві". У згаданым творы аўтар абапіраўся таксама на дакументальныя факты, рэальныя падзеі і рэальных прататыпаў: "Бацька з сябрамі ўчынілі дыверсію – спалілі ў Гута-Міхаліне тартак. І пачалося. Многа людзей ухапілі, каго забілі цішком, а каго – у лагер Бярозу Картузскую. Грамадоўцаў пахапалі, а камуністы вырашылі ўцякаць цераз граніцу ля Баранавіч..."

Творы В. Супрунчука вызначаюцца дынамізмам у разгортванні падзей, насычанасцю побытавымі рэаліямі, абмалёўкай характараў герояў праз іх учынкі, псіхалагічнай заглыбленасцю зместа. Характэрнае ў гэтым плане апавяданне "Набат": "У вёску ён прыехаў на золаку. Але ўжо, як і многа гадоў, рыпелі вароты, бразгаталі вёдры і чуўся звон малака. Вёска была, здавалася, тая ж што і пяць гадоў назад, калі апошні раз быў тут. Нічога нібыта не змянілася. Макар зайшоў у двор сваёй хаты не з вуліцы, а як звычайна, калі прыязджаў, з агарода. На двары сакаталі куры, дзяўблі ў бляшанцы з-пад кансерваў проса. Ён зазірнуў у адзін хлеў, у другі – яны былі пустыя, пахла мышамі, струхнелай саломай. Бацька пісаў яму, што не трымае свіней, карову даўно збыў...

З могілак яны пайшлі не дахаты, а да рэчкі. Яшчэ здалёк убачыў жоўташэрую паласу, нібыта пляж ля мора. Макар помніў, што там быў лес, які называўся Падверб'е. Ён пачынаўся з невялікай горкі Канторы. За Падверб'ем быў Вялікі Лес, потым – Сапажынскі, Дулі, Дабрахіны, Сімонікі".

## АЛЕНА УСЦІЛОЎСКАЯ

Алена Юр'еўна Усцілоўская нарадзілася 21 верасня 1985 г. у г. Ветка на Гомельшчыне. У 1992 г. сям'я пераехала ў г. Бярозу, бо родны кут апынуўся ў забруджанай радыяцыяй Чарнобыльскай зоне. Бацька, Юрый Барысавіч (1963), былы ваенны марак Паўночнамарскога флота, у Бярозе працаваў у райаддзеле культуры, а пазней – вадзіцелем хуткай дапамогі. Маці, Таццяна Фёдараўна (1965), працавала прадаўцом. Родны дзед Барыс Дзмітрыевіч Усцілоўскі, ро-

дам з Беласточчыны, спрабаваў пісаць вершы і друкаваўся ў армейскіх газетах, а дзяцька Віктар Стрыжак, былы веткаўскі журналіст, нават выдаў паэтычную кнігу “Рэха журбы” на беларускай мове. Алена Усцілоўская вучылася ў СШ № 3 г. Бярозы. Паэтычным дэбютам стала байка, напісаная з дапамогай маці на ўрок беларускай літаратуры. Пазней вучылася ў філалагічным класе СШ № 2 г. Бярозы ў знакамітай настаўніцы Галіны Сямёнаўны Халімончык, якая і накіравала з вершамі ў рэдакцыю раённай газеты “Маяк” да вядучай літаратурнай старонкі Маргарыты Іванаўны Гаравой. Публікавалася ў “ЛіМе”, “Чырвонай змене”, “Бярозцы”. У 10 і 11 класах заняла першае месца на рэспубліканскай алімпіядзе па беларускай мове і літаратуры. Вучылася на філалагічным факультэце Белдзяржуніверсітэта па спецыяльнасці беларускай і польскай філалогіі.

Асобныя вершы былі пакладзены на музыку мінскім кампазітарам Валянцінай Бурмістравай, у выніку чаго з’явіліся на свет песні “Вуліцы Мінска” і “Краіна маленства”. Песня А. Усцілоўскай “Бярозаўскі вальс”, музыку да якой напісала Алена Говін, стала гімнам г. Бярозы. Апошнім часам актыўна працуе на ніве журналістыкі, друкуецца ў газеце “Путешественник”, выступае з аналітычнымі артыкуламі ў дзіцячым часопісе ”Островок”, вядзе ў культурна-рэлігійным часопісе “Дыялог” моладзевую рубрыку “На ты”. А. Усцілоўская перакладае творы польскіх пісьменнікаў (В. Шымборскай, М. Паўлюкоўскай-Яснажэўскай, Я. Твардоўскага і інш.). У перыядычным друку выступае з літаратурна-крытычнымі артыкуламі.



# БАРАНАВІЦКІ РАЁН

Літаратурная Баранавіччына бярэ свой пачатак з XVI ст. ад аўтараў, якія гадаваліся ў шляхецкіх сядзібах, а часам у магнацкіх маёнтках. Ля яе вытокаў – імя Івана Федаровіча, аднаго з заснавальнікаў кнігадрукавання ў Расіі і ва Украіне. Яго сучаснікам быў Андрэй Рымша, паэт і перакладчык. Ад іх можна перакінуць мосцік да Казіміра Несялоўскага (1676 – пасля 1752 гг.), якому належаў адзін з маёнткаў каля вёскі Ясянец. Казімір Несялоўскі найперш вядомы як дзяржаўны і грамадскі дзеяч Вялікага княства Літоўскага. Нечужымі яму былі і заняткі літаратурай. Пяру Казіміра Несялоўскага належаць два зборнікі твораў розных жанраў. Першы з іх – "Публічныя забаўкі" пабачыў свет у 1743 г. у Пінску. Другі – "Хатнія забаўкі" з'явіўся амаль што праз дзесяць гадоў пазней, магчыма, у год смерці пісьменніка. Казімір Несялоўскі пісаў на польскай мове і на латыні. Яго вершы, мемуары, лісты, легенды, сабраныя ў гэтых зборніках, недаступныя пакуль што беларускаму чытачу.

У Ясянцы нарадзіўся ўнук Казіміра Несялоўскага па жончынай лініі – Яўхім Храптовіч (1729 – 1812), дзяржаўны і грамадскі дзеяч Вялікага княства Літоўскага, бібліяфіл, філосаф, асветнік, прыродазнаўца. Яго кіпучая дзейнасць звязана найперш са Шчорсамі на Гарадзеншчыне. Дзіцячыя і падлеткавыя гады прайшлі ў Ясенцы. Тут у маёнтку бабулі, як адзначаюць некаторыя даследчыкі, у Яўхіма Храптовіча нарадзілася цікавасць да літаратуры і імкненне пісаць вершы. Ёсць сведчанні, што карыстаўся ён у сваёй літаратурнай творчасці беларускай, польскай і лацінскай мовамі. Пачынаў з вершаваных радкоў, адрасаваных дзеду і бабцы, з падзякай за клопат пра яго і з абяцаннем помніць пра гэта. У вядомых вершах нашага земляка ўздымаюцца маральныя і эстэтычныя праблемы ("Гімн да прыгажосці", "Дуб і трысцінка", "Аб каханні" і інш.).

Значны след у культурным жыцці Баранавіччыны ў XVIII ст. пакінуў Мацей Радзівіл, які абраў сваёй рэзідэнцыяй – Паланэчку і ператварыў яе ў культурны цэнтр.

Слава пра Паланэчку выйшла за межы Вялікага княства Літоўскага. Рускі драматург Дзяніс Фанвізін, які ехаў з новага маёнтка на Віцебшчыне, што быў адабраны ў аднаго з беларусаў і падараваны яму Кацярынай II пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай, у Заходнюю Еўропу, спыняўся ў Паланэчцы. Аўтар "Недаростка" быў незвычайна ўражаны храаствам палацава-паркавага комплексу, багатай бібліятэкай, культурай выканання музыкальных твораў, раскошай і шчодрасцю гаспадара.

Бацькавы традыцыі імкнуўся падтрымаць яго сын Канстанцін. Ён наладзіў у Паланэчцы выданне часопіса "Люд і мова", у якім збіраўся публікаваць матэрыялы па мове, фальклоры, этнаграфіі Баранавіччыны. На жаль, выйшаў усяго адзін нумар выдання. У Паланэчку наведваўся і Уладзіслаў Сыракомля. Ён таксама быў уражаны і захоплены палацава-паркавым комплексам і апісаў яго ў "Вандроўках па маіх былых ваколіцах" (1853).

Грамадска-палітычная, культурна-асветная і літаратурная дзейнасць Мацея Радзівіла вызначалася патрыятычнай накіраванасцю. Калі Вялікае княства

Літоўскае страціла сваю дзяржаўнасць, яго намаганні былі скіраваны на яе аднаўленне. Гаспадар Паланэчкі прымаў удзел у паўстанні пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі, сцяг якога ў пачатку XIX стагоддзя паднялі і панеслі студэнты і выкладчыкі Віленскага універсітэта. У 1817 г. тут пачалі дзейнічаць студэнцкія арганізацыі. Філаматы і філарэты ставілі сваёй галоўнай задачай слугаванне Айчыне, праз асвету і адукацыю рыхтаваць грамадства да вызвалення Бацькаўшчыны. Асаблівае значэнне яны надавалі вывучэнню роднага краю.

Паказальна, што ў XIX ст. з Баранавіччыны бярэ пачатак генерацыя беларускіх пісьменнікаў, якія гадаваліся пад сялянскімі стрэхамі. Ля вытокаў новай літаратуры стаіць і імя паэта з Крашына, аўтара аднаго вядомага верша Паўлюка Багрыма.

Жорсткая расправа з нашымі землякамі, якія не хацелі мірыцца з паняволеннем краю Расійскай імперыяй, прывяла да запусцення літаратурнай нівы Баранавіччыны. Край па розных прычынах будуць наведваць асобныя постаці творцаў. Пад Мілавідамі акажацца Кастусь Каліноўскі (2.02.1838 – 2.03.1864). Ён пакінуў значны след у розных відах чалавечай дзейнасці, хоць пятля душыцеляў паўстання 1863 – 1864 была зацягнута на маладой шыі, калі яму было ўсяго 26 год. У разнастайнай дзейнасці Кастуся Каліноўскага літаратурнай належыць сціплае месца. Яго паэтычнаму таленту не было калі разгарнуцца. У такім узросце многія толькі пачынаюць, а ён завяршыў.

Кастусь Каліноўскі пасля заканчэння універсітэта вярнуўся на радзіму і пачаў ствараць на ўсёй Гродзенскай губерні (Берасцейшчына ўваходзіла ў яе склад) рэвалюцыйныя арганізацыі, выдаваць і распаўсюджваць “Мужыцкую праўду”, якую рыхтавалі калектыўна, але найбольшая роля належала яму, Каліноўскаму.

Калі ўспыхнула ў Польшчы паўстанне, Кастусь Каліноўскі стаў на чале часовага рэвалюцыйнага ўраду Літвы і Беларусі. Ён усё рабіў для таго, каб шляхецкае паўстанне ператварыць ва ўсенароднае.

Кастусь Каліноўскі дабіваўся, каб паўстанцкія атрады былі гатовыя да вайны з прафесійнымі, добра ўзброенымі войскамі. Гэта прывяло кіраўніка паўстання ў Мілавідскую пушчу, дзе на той час згрупавалася некалькі атрадаў і якімі камандаваў палкоўнік Аляксандр Лінкевіч. Кастуся Каліноўскага цікавілі не толькі ўзбраенне, харчовае забеспячэнне, вайсковая падрыхтоўка атрадаў, але і як ідэі Часовага Рэвалюцыйнага ўраду Літвы і Беларусі даводзяцца сялянам, як апошнімі папаўняюцца атрады.

Паўстанцы пад Мілавідамі атрымалі перамогу над царскімі войскамі. У той бітве палегла шмат воінаў з аднаго і другога бакоў. Удзячныя нашчадкі ў 1933 годзе ўзвялі два помнікі па абодва бакі дарогі. Адзін – паўстанцам, другі – салдатам царскай арміі. Першы – гэта капліца. Чатыры высокія белыя калоны трымаюць адзін купал з крыжом. У гэтым помніку пераважаюць белыя фарбы. Помнік палеглым карнікам – чорны крыж з распяццем на бетоннай пліце. Першы помнік імкне ўвысь, да нябёсаў, другі нізкі, прыземлены. У пасляваенныя гады каплічка была занядбана, крыж звалены. Да 130-годдзя з дня паўстання абодва помнікі былі адноўлены. У гэты самы час з’явіўся і яшчэ адзін помнік –



вялікі валун, на якім на мурмуровай пліце словы: “За вольнасць вашу і нашу. Бітва пад Мілавідамі. 22 мая (3 чэрвеня) 1863 года. Кіраўнік паўстання – беларускі рэвалюцыянер-дэмакрат Кастусь Каліноўскі”.

Рускі паэт-дзекабрыст К.Ф.Рылееў акажацца ў Сталавічах з палком, у якім служыў па вяртанні з Францыі, пасля заканчэння вайны з Напалеонам.

Мастацкае слова ажыве на Баранавіччыне ў наступным стагоддзі. На станцыі Лясная нарадзіўся пісьменнік, актор, рэжысёр з кагорты беларускіх адраджэнцаў Уладзіслаў Галубок (Голуб). Вёска Пастарынне, адкуль родавыя карані шляхціцаў Прушынскіх, акажа выключны ўплыў на творчасць аднаго з прадстаўнікоў гэтага роду, вядомага паэта Алеся Гаруна, які вельмі часта тут бываў, выконваючы са сваякамі ўсю сялянскую працу. Жыццёвыя дарогі прывядуць у Дзеўчаполле ля Горнага Скробава Канстанцыю Буйло. Тут яна працавала хатняй настаўніцай. У 1908 г. Баранавічы наведаў класік габрэйскай літаратуры Шалом Алейхем, выступаў з чытаннем сваіх твораў. Як сведчыць Адам Мальдзіс, пазней ад уражанняў, звязаных з наведваннем краю, напісаў аповесць “Станцыя Баранавічы”.

Вёска Аляксандрава – радзіма польскага паэта Рычарда Красноўскага (1912 – 1977 гг.). У 1939 г. ён эміграваў на захад. Пяру гэтага нашага земляка належаць зборнікі паэзіі “З’езд у Наваградку”, “Туга па радзіме”. У 1914 г. у Баранавічах нарадзіўся паэт і змагар за народную долю і волю Валянцін Таўлай. Пакуты баранавіччукоў у час Першай сусветнай вайны паказаў Канстанцін Паўстоўскі ў аповесці “Неспакойнае юнацтва”, напісанай паводле асабістых уражанняў. Гэты рускі пісьменнік скалясіў раён, кіруючыся з Ружанаў на Слонім, а затым са Слоніма на Ляхавічы. Беларускі празаік, крытык, краязнаўца Язэп Мазуркевіч у гэты ж час працаваў у Бежанскай перасоўнай школе, якая размяшчалася пад Баранавічамі. Лёс яшчэ адзін раз звязаў гэтага пісьменніка з горадам. У 1921 г. ён быў арыштаваны савецкімі ўладамі і заняволены ў баранавіцкую турму. Тады яму ўдалося ўцячы. У 30-я гг. мінулага стагоддзя Язэп Мазуркевіч зноў будзе арыштаваны і расстраляны як нацыяналіст.

Не было спрыяльных умоў для развіцця літаратуры краю ў гады польскай і нямецкай акупацый. Праўда, з горадам Баранавічы звязаны некаторыя старонкі жыцця заходнебеларускага пісьменніка Анатоля Бярозкі. У Другой Рэчы Паспалітай ён вучыўся тут у гімназіі. У гады Вялікай Айчыннай вайны працаваў доктарам у Баранавічах. Тут ажаніўся, тут нарадзілася старэйшая дачка. Каб юнакоў і дзяўчат не вывозілі ў Германію, Анатоль Бярозка арганізаваў медычную школу, у якой сам і выкладаў. З Баранавіччынай звязана педагагічная дзейнасць настаўніцы, якая пазней стане польскай пісьменніцай Веранікай Агарак-Трапчынскай.

У 1940 г. пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР у Баранавічах быў адчынены настаўніцкі інстытут. Сюды выкладаць беларускую мову і літаратуру быў накіраваны крытык і літаратуразнаўца Марк Карпачоў. На гэты час прыпадае яго цікавасць да паэзіі нашага земляка з Сакоўцаў на Івацэвіччыне. У баранавіцкай газеце “Чырвоная звязда” за 30.03.1941 г. апублікаваны артыкул крытыка “Вершы Піліпа Пестрака”.

Трагічныя старонкі ў жыцці паэта Сяргея Новіка-Пеюна, літаратуразнаўцы і крытыка Алеся Макарэвіча таксама звязаны з Баранавічамі. Першы, асуджаны слонімскім гестапа да расстрэлу, быў вывезены ў Калдычэўскі лагер смерці. У 1944 г. яго пагналі на расстрэл, быў паранены, але прыкінуўся мёртвым. Гэта яму ўратавала жыццё. У гэтых нялюдскіх умовах была ім напісана песня “Не гудзе зялёная дуброва”. Пад творам стаіць месца напісання – Калдычэўскі лагер смерці. С.Новіку-Пеюну належаць таксама ўспаміны пра гэтую фашысцкую катоўню на нашай зямлі. Алесь Макарэвіч у 1914 г. у баях пад Ельняй быў цяжка паранены, трапіў у палон, быў заняволены ў Баранавіцкім лагеры для ваеннапалонных.

І тым не менш 1920 – 1930 гг. былі плённымі для літаратурнай нівы Баранавіччыны: у гэты час тут нараджаліся хлопчыкі і дзяўчынкі, якія пазней звяжуць свой лёс з мастацкім словам – Станіслаў Шпонцар, Яша Бурш, Ян Куравіцкі, Іван Курбека, браты Мікола і Анатоль Клышкі, Кастусь Турко, Вананцы Бутрым, Ніна Загорская. З Баранавіччынай звязаны яшчэ адзін прадстаўнік гэтага пакалення – Алесь Шэлег, паэт, празаік, перакладчык, кінадраматург (1936). Ён родам з Гомельшчыны. Сюды прыехаў разам з бацькам, якога накіравалі ў Заходнюю Беларусь для арганізацыі калгасаў. Маці і братоў Алеся жорстка забілі фашысты. У Баранавічах падлетак у 1951 г. закончыў сямігодку і паступіў у Наваградскае рамесніцкае вучылішча. Сюды наведваўся пазней да бацькі. На гэты раз самі Баранавічы, розныя вёскі і вёсачкі раёна пашлюць у літаратуру сваіх прадстаўнікоў, якія прадоўжаць традыцыю, што была закладзена Паўлюком Багрымам. Па-рознаму складуцца іх жыццёвыя і творчыя біяграфіі. Станіслаў Шпонцар нарадзіўся ў 1927 г. у г. Баранавічы. Падлеткам у 1940 г. разам з братам савецкія ўлады выслалі ў Казахстан. У 1947 г. выехаў у Польшчу. Стаў доктарам медыцыны і пісьменнікам. Яму належыць зборнік апавяданняў “Замяць”.

Яша Бурш (сапраўднае прозвішча Анісаровіч Якаў) таксама нарадзіўся ў Баранавічах у 1929 г. Пасля вайны разам з бацькамі выехаў у Польшчу. Мае вышэйшую мастацкую адукацыю. Піша карціны і вершы. Некаторы час працаваў настаўнікам, ладзіў выставы сваіх карцінаў ў Польшчы і за мяжой. Яша Бурш пачаў друкавацца ў 1959 г. у беластоцкім зборніку “Рунь”, а таксама ў такіх беларускіх выданнях Польшчы, як “Мой родны кут”, “Белавежа”, “Літаратурная Беласточчына” і інш. У 1964 г. выйшаў зборнік яго вершаў “Прамень думкі”. Наш зямляк з Баранавічаў належыць да тых паэтаў, хто стварае інтэлектуальную лірыку. Яго цікавіць духоўны свет сучасніка, каштоўнасныя прыярытэты апошняга. Вершы Яшы Бурша вызначаюцца асацыятыўнай вобразнасцю. Напісаныя па-беларуску, яны аказаліся запатрабаваныя і польскамоўным чытачом і перакладзены на польскую мову.

Чымсьці падобны і лёс яшчэ аднаго паэта з Баранавічаў – Яна Куравіцкага (1943 года нараджэння), які пасля вайны разам з бацькамі выехаў у Польшчу. Піша вершы на польскай мове.

Баранавічы з 1939-га па 1954 г. былі цэнтрам вобласці. Тут працавалі тэатр, настаўніцкі інстытут, краязнаўчы музей. Як кандыдат у дэпутаты спачатку па



Панямонскай, а затым па Наваградскай выбарчых акругах Баранавічы наведаў Якуб Колас. У мясцовай газеце працавалі Раман Сабаленка і Алесь Бажко, у настаўніцкім інстытуце вучыўся вядомы заходнебеларускі змагар, мемуарыст і публіцыст Якуб Міско, а таксама Віктар Дайліда, які пазней настаўнічаў у школах раёна. Жыццёвы лёс звязаў з раёнам Ніну Галіноўскую, Юрыя Багданава, Святлану Басуматраву. З 1961 па 1965 гг. журналістам у Гарадзішчы і Баранавічах працаваў Яраслаў Пархута.

Пасля такога дружнага засеву, якое выпала на два папярэднія дзесяцігоддзі, творчая ралля Баранавіччыны запатрабавала адпачынку. Надалей яна не будзе такой плоднай. Толькі амаль праз дваццаць гадоў народзіцца Алесь Жамойцін (1955), які дзіцём пакіне Баранавіччыну. 1962 і 1964 гады нараджэння адпаведна Алесь Бакач і Ян Збажына. Яны заявілі сябе ў рэспубліканскім друку даўно. Аднак на сёння іх набытак складаюць падборкі твораў, якія друкаваліся ў зборніку “Дзядзінец: Паэзія Берасцейшчыны” ды ў альманаху “Святліца”, які выдае творчае аднайменнае згуртаванне. Алесь Бакач апошнім часам знізіў сваю паэтычную актыўнасць. Ён заняты арганізацыйнымі пытаннямі, звязанымі з творчым згуртаваннем “Святліца”, якое ён узначальвае, і з выданнем аднайменнага альманаху.

Ян Збажына (сапраўднае прозвішча Савіцкі) працуе больш актыўна. Ён спрабуе выявіцца ў творах розных жанраў, эксперыментуе і ў паэзіі, шукаючы сябе: піша вершы цвёрдых формаў, хаку, танку, стварае фігурныя творы, а таксама вершы без знакаў прыпынку.

У Баранавічах дзейнічае творчы літаратурна-культурны асяродак людзей, якія любяць роднае слова і Беларусь, імкнуцца выявіць сваё “я” праз творчасць. Доўгі час прыхільнікі мастацкага слова краю групаваліся вакол літаратурнага аб’яднання “Плынь”. Калі яно распалася, у 1996 годзе было створана “Творчае аб’яднанне “Святліца”, якое выдае аднайменны альманах. Чытачы мелі магчымасць пазнаёміцца з трыма яго нумарамі. Ядро творчага аб’яднання складаюць творцы старэйшага пакалення: А.Бакач, Я.Збажына, Я.Корнеў, А.Белы, Р.Равяка і інш., а таксама літаратурная моладзь. Дзякуючы намаганням “Святліцы” і яе кіраўніка А.Бокача сталі выдавацца зборнікі сяброў аб’яднання: “Услед за ластаўкамі”, “Грае раніца зару” А.Коранева, “Вяртанне ў лета” Б.Лапкоўскай, “Боскі вецер правінцыі” А.Белага, “Піліпаўка” І.Лагвіновіча і інш.

Баранавіччыне пашанцавала і ў тым плане, што тут працуюць руплівыя краязнаўцы, якія далучаюць сваіх землякоў да гісторыка-культурных традыцый краю. Калі родавыя карані Міхася Берната на Баранавіччыне, то Алеся Шоцкага і Васіля Дубейку парадніла з раёнам іх працоўная дзейнасць.

Намаганнямі Міхася Берната створаны ў Русінах раённы літаратурна-этнаграфічны комплекс. Дзякуючы краязнаўцу-земляку і пры актыўнай падтрымцы кіраўнікоў раёна і сельскіх саветаў, былі ўзведзены памятныя знакі, адкрыты мемарыяльныя дошкі, названы вуліцы ў гонар выдатных сыноў краю на іх радзіме: У. Галубку, Р. Слізеню, А. Рымшу, Я. Чачоту, П. Багрыму. Шмат сіл і часу аддаў Міхась Бернат падрыхтоўцы да выдання кнігі “Памяць: Баранавічы і Баранавіцкі раён” (2000) як укладальнік і адзін з аўтараў.

Ураджэнец Наваградчыны Алесь Шоцкі (1931 – 1999) з 1965 года жыў і працаваў педагогам у школах Баранавіч. Адным з напрамкаў яго дзейнасці была праца па вывучэнні літаратуры краю. Алеся Шоцкага цікавілі цьмяныя мясціны ў біяграфіях пісьменнікаў, звязаных з раёнам. Намаганнямі краязнаўцы было высветлена, што той вёскай, дзе працавала ў 1930-х гг. Вераніка Трапчынская-Агарак, аўтар аповесці "Лясныя Долы", з'яўляюцца Магільцы Івацэвіцкага раёна. Гэты краязнаўца не проста высветліў, дзе на Баранавіччыне хатняй настаўніцай працавала Канстанцыя Буйло, а вывучыў гэты ў многім вызначальны для паэткі год жыцця ў Дзечаполлі ля Горнага Скробава праз ліставанне з ёю. Дзякуючы намаганням Алеся Шоцкага ў біяграфію Яна Чачота ўпісана Рэпіхава, дзе бацька пісьменніка працаваў эканомам. Алесь Шоцкі актыўна выступаў у раённым, абласным друку, прапагандуючы жыццё і творчасць пісьменнікаў, звязаных з раёнам, з'яўляецца адным з аўтараў кнігі "Памяць: Баранавічы і Баранавіцкі раён".

З 1945 па 1953 год загадчыкам аддзела культуры, пасля намеснікам галоўнага рэдактара Баранавіцкай абласной газеты "Чырвоная звязда" працаваў аўтар кніг паэзіі і прозы Раман Карпавіч Сабаленка.

З 1948 па 1952 год рэдагаваў Баранавіцкую абласную газету "Чырвоная звязда" Дзмітрый Ільіч Уксусаў – аўтар кніг прозы і публіцыстыкі.

У Баранавіцкім настаўніцкім інстытуце вучыўся аўтар многіх зборнікаў прозы Віктар Браніслававіч Дайліда. Атрымаўшы ў 1952 г. дыплом, настаўнічаў у школах Баранавіцкага раёна, быў старшым рэдактарам на Брэсцкай студыі тэлебачання (да 1962 года). У друку выступае з 1953-га.

Васіль Дубейка (1961) з сярэдзіны 80-х гг. мінулага стагоддзя жыве і працуе ў Баранавіцкім раёне. Настаўнічаў у Вялікасваротаўскай школе, у Навамышскім ПТВ-156, выкладаючы гісторыю і геаграфію, быў метадыстам па краязнаўстве раённай дзіцячай турбазы ў Палонцы. З 1995 года ўзначальваў Пастарынкаўскую базавую, а цяпер – Цешаўлянскую сярэднюю школу. В. М. Дубейка належыць да ліку руплівцаў на ніве краязнаўчай працы, сталы ўдзельнік канферэнцый розных рангаў, у тым ліку і міжнародных, адзін з аўтараў кнігі "Памяць: Баранавічы і Баранавіцкі раён". Васіль Дубейка падрыхтаваў рукапісы шасці краязнаўчых кніг, якія чакаюць патрыёта-фундатара, зацікаўленага выдаўца.

У Баранавічах жыве і працуе ўрачом хуткай дапамогі рускамоўны празаік Аляксандр Галькевіч, аўтар раманаў "Прозрение» (друкаваўся ў часопісе "Нёман" і выдадзены асобнай кнігай), «Фанатик» (выдадзены асобнай кнігай) ды іншых.

## ІВАН ФЕДАРОВІЧ (Іван Фёдараў)
## (каля 1510 – 1583)

Вялікае княства Літоўскае ў XVI ст. вызначалася высокай культурай кнігадрукавання, асновы якога заклаў вялікі Францішак Скарына, даўшы ў 1517 г. не толькі беларусам, але і ўсім усходнім славянам першую друкаваную кнігу.



Прадстаўнікі нашага народа, выдаўцы-асветнікі, сталі заснавальнікамі кнігадрукавання і ў Расіі, і ва Украіне. Іван Федаровіч, якога ў Расіі называюць Фёдаравым, і Пётр Мсціславец у 1564 г. надрукавалі ў Маскве першую кнігу – “Апостал”, якая вызначалася высокім мастацкім узроўнем.

Нядаўна было дакладна ўстаноўлена, што Іван Федаровіч – наш зямляк. Ён нарадзіўся каля 1510 года ў вёсцы Петкавічы. Паходзіў са шляхецкага роду Рагозаў. Іван Федаровіч даражыў сваімі каранямі і ва ўсіх сваіх выданнях змяшчаў родавы герб. Кнігавыдавец з Петкавічаў атрымаў добрую адукацыю. Ён вучыўся ў Кракаве ў знакамітым Ягелонскім універсітэце, там, дзе і Францыск Скарына. Імя нашага земляка захавалася ў спісе абітурыентаў, каму ў гэтай навучальнай установе прысуджалася ступень бакалаўра ці магістра. Іван Федаровіч дасканала валодаў грэчаскай і лацінскай мовамі, быў дасведчаны ў еўрапейскай кнігавыдавецкай справе, у мастацкім аздабленні друкаваных выданняў, быў знаёмы з набыткамі айчынных асветнікаў-кнігавыдаўцоў, асабліва Францішка Скарыны. На жаль, пакуль што застаецца фактычна недаследаваным перыяд жыцця Івана Федаровіча ад нараджэння да 1563 г., калі яны з Пятром Мсціслаўцам па даручэнні цара Івана IV Жахлівага і мітрапаліта Макарыя стварылі ў Маскве друкарню. Праз год тут была надрукавана ўпершыню ў Расіі кніга “Апостал” на рускім варыянце стараславянскай мовы. У 1565 з іх друкарні выйшла кніга “Часоўнік”, якая выкарыстоўвалася для навучання і выхавання.

Аднак у хуткім часе сітуацыя ў Маскве для плённай друкарскай працы змянілася ў горшы бок. Нашых землякоў абвінавацілі ў ерасі, і яны, каб застацца жывымі, вярнуліся на радзіму. У Вільні іх чакаў зычлівы прыём з боку вялікага князя і караля, а таксама паноў-рада. Гетман Р.А.Хадкевіч запрасіў іх да сябе ў Заблудава на Беласточчыне і прапанаваў ім выдаць “Евангелле вучыцельнае” па-беларуску. Гэтая задума Р.Хадкевіча не была рэалізавана, бо супраць выступіла артадаксальнае духавенства. Кніга пабачыла свет у 1569 годзе, але на стараславянскай мове. Праз год у Заблудаве была надрукавана “Псалтыр часаслоўцам”. Нечакана захварэў мецэнат і фундатар Івана Федаровіча і Пятра Мсціслаўцава гетман Хадкевіч, пагоршыліся і яго фінансавыя справы. Кнігавыданне ў Заблудаве прыпынілася. Тым не менш гетман не пакінуў нашага земляка без сродкаў, падараваўшы яму вёску Мізякова ва Украіне.

Найхутчэй заняткі сельскай гаспадаркай не былі стыхіяй Івана Федаровіча. Ён пакідае Мізякова і накіроўваецца ў Львоў, там засноўвае першую ва Украіне друкарню. У 1574 г. у ёй выдае зноў “Апостал”. Гэтае, аднак, выданне не было аўтэнтычным маскоўскаму. Яно было дапоўнена ўступам і заключэннем, новым ілюстрацыйным матэрыялам. У львоўскай кнізе былі змешчаны гербы і роду Рагозаў, і былога апекуна Р.А.Хадкевіча, і горада, дзе пабачыла свет кніга “Апостал”.

У Львове Іван Федаровіч надрукаваў яшчэ і “Азбуку” – першы падручнік для дзяцей па навучанні грамаце. У кнізе былі змешчаны тэксты для замацавання ўмення чытаць і пісаць. Імі былі ўрыўкі са Святога пісьма. “Азбука” сведчыла пра гуманістычна-асветныя ідэалы друкара з Петкавічаў.

Высокая культура выданняў кніг Іванам Федаровічам, яго культурна-асветніцкая дзейнасць, якая ішла ў рэчышчы Рэнесансу, робяць нашага земляка вядомым у Вялікім княстве Літоўскім. Ён быў заўважаны Канстанцінам Астрожскім, які ў сваім маёнтку групаваў адукаваных і таленавітых людзей. У Астрогу разгарнулася далейшая выдавецкая дзейнасць Івана Федаровіча. Тут у 1578 г. ён выдае яшчэ раз “Азбуку”, дапоўніўшы яе грэка-славянскімі тэкстамі, каб дапамагчы дзецям авалодаць грэчаскай мовай. Двума гадамі пазней у астрожскай друкарні нашым земляком былі выдадзены “Псалтыр” і “Новы запавет”. У афармленні гэтых кніг надзвычай выразна прасочваюцца скарынаўскія традыцыі. У Астрогу ўпершыню быў выдадзены зборнік афарызмаў і крылатых выразаў, а таксама алфавітна-прадметны паказальнік – “Кніжка, збор рэчаў самых патрэбных...”.

Дзякуючы Івану Федаровічу ў 1580 г. пабачыў свет першы ўсходнеславянскі каляндар і першы асобна выдадзены твор беларускай паэзіі “Храналогія” Андрэя Рымшы. Найхутчэй тут пазнаёміліся землякі з Баранавіччыны Іван Федаровіч і Андрэй Рымша. Паміж Петкавічамі і Пянчынам – месцамі нараджэння творцаў – менш за пяцьдзесят кіламетраў. “Астрожская Біблія” была апошнім выданнем, якое было надрукавана ў друкарні князя. Яно яшчэ раз засведчыла, што друкар з Петкавічаў добра ведаў і высока цаніў кнігавыдавецкія набыткі Францішка Скарыны.

Інтэнсіўная дзейнасць Івана Федаровіча ў Астрогу спыняецца. Ён вяртаецца ў Львоў з намерам адчыніць тут сваю друкарню. Грошы спадзяваўся атрымаць за вынаходства – шматствольную гармату, прамаці знакамітай “Кацюшы” часоў Вялікай Айчыннай вайны. На радзіме пакупнікоў не знайшлося. І кнігавыдавец з Петкавічаў накіраваўся са сваім вынаходствам у Заходнюю Еўропу. Пабываў у Кракаве, у Вене, магчыма, у Дрэздэне. Ці ўдалося Івану Федаровічу выгадна збыць сваю шматствольную гармату і сабраць патрэбную для друкарскай справы суму грошай, невядома. У 1583 г. ён вярнуўся ў Львоў, захварэў і ў тым самым годзе памёр. Тут быў і пахаваны.

Дзейнасць нашага земляка, кнігавыдаўца і асветніка Івана Федаровіча ўшанавана ў Маскве і ва Украіне. Цяпер чарга за намі.

## АНДРЭЙ РЫМША
(каля 1550 – пасля 1599)

Андрэй Рымша належыць да выдатнай плеяды пісьменікаў Беларусі эпохі Адраджэння. У айчынную гісторыю ён увайшоў як паэт і перакладчык канца XVI ст. Сам жа сваю творчасць ацэньваў надзвычай сціпла, больш высокай думкі быў пра свае рыцарскія здольнасці, пра вайсковае майстэрства.

Нарадзіўся ён каля 1550 г. у вёсцы Пянчын у шляхецкай сям’і. Сёння няма адзінадушнай думкі, дзе ён атрымаў адукацыю. Большасць мяркуе, што ўсё ж такі наш зямляк вучыўся ў Астрожскай школе. Як бы там ні было, але ён атрымаў бліскучую адукацыю. Яго “Дзесяцігадовая аповесць” сведчыць, што Андрэй Рымша цудоўна ведаў антычную гісторыю, а таксама міфалогію стара-



жытных Грэцыі і Рыма.

Для беларускай літаратуры эпохі Адраджэння характэрны моўны паліфанізм. Андрэй Рымша ў гэтым плане пераўзышоў іншых аўтараў. Свае творы пісаў па-беларуску і па-польску, перакладаў з латыні. У "Дзесяцігадовай аповесці" і ў "Храналогіі" выкарыстоўваў габрэйскую і расійскую мовы, звяртаўся і да мясцовага дыялекту. На якой бы мове ні пісаў наш зямляк, у яго творах, як адзначаюць даследчыкі, выразна адчуваецца ўплыў роднай – беларускай.

З 1572 г. Андрэй Рымша знаходзіўся на прыдворнай службе ў польнага гетмана Крыштафора Радзівіла. Гэта быў час Лівонскай вайны, якая цягнулася доўгія дзесяць гадоў і ў выніку якой Вялікаму княству Літоўскаму ўдалося вярнуць захопленыя Масковіяй землі і на нейкі час дасягнуць міру і спакою на сваёй зямлі. Андрэй Рымша прымаў удзел у паходзе ў складзе войскаў Крыштафора Радзівіла ў глыб Масковіі. Яго "Дзесяцігадовая аповесць" стракаціць такімі геаграфічнымі назовамі, як Старая Руса, Тарапец, Пскоў, Ловаць і яе прытокі Куня і Сярожа, Каломна, Псож, Рамішова. У гэтых мясцінах Масковіі давялося ваяваць нашаму земляку.

Сёння дакладна невядома, калі Андрэй Рымша пачаў пісаць. Аднак ужо ў 1581 г. у Астрожскай друкарні яго земляком Іванам Федаровічам быў апублікаваны яго верш "Храналогія". Яго месца ў нацыянальнай гісторыі вызначаецца тым, што гэта было першае самастойнае выданне беларускамоўнага твора. У "Храналогіі" сцісла падаюцца біблейскія падзеі, якія адбываліся ў тым ці іншым месяцы, пачынаючы з верасня і канчаючы жніўнем. Даюцца месяцы на беларускай, старагабрэйскай мове і дыялекце.

Удзел Андрэя Рымшы ў паходзе войскаў Вялікага княства Літоўскага супраць Масковіі і іх перамога ляглі ў аснову яго "Дзесяцігадовай аповесці", напісанай па-польску. Гэтая падзея ў гісторыі Вялікага княства Літоўскага знайшла шырокае адлюстраванне ў тагачаснай літаратуры, у творах Ф.Градоўскага, Г.Пельгрымоўска, Я.Каханоўскага. Твору нашага земляка з Пянчына належыць адметная роля. "Дзесяцігадовая вайна" – гэта не панігірык у традыцыйным значэнні гэтага слова ў гонар Крыштафора Радзівіла, а мастацкі твор, у якім натуральна спалучаны ў адзінае цэлае жыццёвая праўда і мастацкая выдумка, хоць Андрэй Рымша настойліва падкрэслівае, што першааснова твора – асабіста перажытае і ўбачанае ім самім як удзельнікам паходу ў складзе войскаў пад кіраўніцтвам польнага гетмана на землях Масковіі:

*Тут пра тое казацьму, што на ўласныя вочы*
*Бачым, бачыць захочам, можа, не аднойчы.*

(Тут і далей пераклад А.У.Бразгунова).

Цэнтральнае месца ў "Дзесяцігадовай аповесці" належыць польнаму гетману Крыштафору Радвіілу. Ён найперш паказаны як воін, як чалавек, які гатовы да выпрабаванняў, да нягодаў паходу: церпіць голад і холад, не імкнецца да асабістага камфорту. Галоўны герой твора характарызуецца мужнасцю, роўнасцю сярод свайго воінства, здольнасцю адольваць няўдачы, знаходзіць з іх выйсце. Для Крыштафора Радзівіла ў паказе Андрэя Рымшы характэрны так званы будзённы гераізм. Ён робіць тое, што вымагаў паход па лясах і балотах.

Галоўны герой таксама раскрываецца праз яго звароты да воінаў, да Бога. Каб падкрэсліць мужнасць польнага гетмана, яго камандзірскія здольнасці, яго гатоўнасць адольваць нягоды, пісьменнік робіць экскурсы ў мінулае, шукае і знаходзіць паралелі ў гісторыі Грэцыі і Рыма.

Крыштафор Радзівіл у творы нашага земляка – гэта хоць і галоўная, але толькі адзінка ў яго воінстве. Рыцары, як і камандзір, мужныя і вынаходлівыя, загартаваныя і гатовыя да цяжкіх выпрабаванняў. Пры неабходнасці працярэбліваюць праход праз непраходны лес, гацяць балота, адольваюць нягоды. Войска Вялікага княства Літоўскага разам са сваім польным гетманам – адзіны калектыў, які здольны перамагчы ворага і пацешыцца сціплымі ўдачамі і канчатковай перамогай.

Воінству Вялікага княства Літоўскага супрацьпастаўлены маскавіты на чале з Іванам Жахлівым. Андрэй Рымша іх не прыніжае, а прымушае прызнаць мужнасць сваіх праціўнікаў, камандзірскія здольнасці Крыштафора Радзівіла, развенчвае іх пыхлівасць і непаможнасць. "Паўтары тысячы мастакалёў" было забіта, многія трапілі ў палон, некаторыя ратаваліся ўцёкамі, у тым ліку і ваявода Васіль Салтыкоў. Захоплены быў ліцвінамі маскоўскі ваявода Пётра Абалінскі. Гэта і прымусіла маскавітаў запрасіць міру.

Як у любым мастацкім творы, у "Дзесяцігадовай аповесці" значнае месца належыць апісанню прыроды. Яна не проста паказвае на час і месца дзеяння, а выяўляе паэтычнае майстэрства аўтара, яго духоўны свет. Пейзажныя малюнкі ствараюцца ярка і вобразна:

*Блізкі час, каб заранка грыву расчасала*
*Ды свае белы косы з мора паказала.*
*Воды ціхіх дрыядаў, як прывід, хаваюць,*
*Німфы разам з Нептуном новы дзень вітаюць.*
*Кожны звер дзікі з поля ў гушчар схаваўся,*
*Ночка склала ўжо крылы, новы дзень пачаўся.*

Мужнасць воінства, нягоды, якія ім давялося перажыць, выкліканы неабходнасцю бараніць вольнасць і незалежнасць краіны, даць усім яе насельнікам мір і спакой, магчымасць жыць натуральнымі для кожнага народа і чалавека клопатамі: дабівацца дабрабыту, уладкоўваць свае сямейныя справы. Жэніцца і галоўны герой "Дзесяцігадовай аповесці". Яе аптымістычны канец сведчыць пра гуманістычную пазіцыю нашага земляка з Пянчына.

Пачынаючы з 1583 г., Андрэй Рымша працаваў падстарастам у адным з маёнткаў Крыштафора Радзівіла. У сваёй творчасці гэтага перыяду карыстаўся беларускай мовай. Як мяркуюць даследчыкі даўняй айчыннай літаратуры, многае з напісанага нашым земляком загінула найхутчэй беззваротна. На сённяшні вядомыя тры яго панегірычныя вершы на гербы Яўстафія Валовіча, Льва Сапегі, Якава Скуміна. Усе яны былі апублікаваны ў Вільні ў друкарні Мамонічаў.

Паказальна, час выдання эпіграмы на герб Сапегаў супадае з датай выхаду трэцяй рэдакцыі Статута Вялікага княства Літоўскага (1588 г.). Як вядома, непасрэдны ўдзел у распрацоўцы зводу юрыдычных дакументаў нашай дзяржавы браў Леў Сапега. Яму належыць і прадмова да Статута, у якім замацо-



ўвалася самастойнасць Вялікага княства Літоўскага і беларускай мовы як дзяржаўнай. Эпіграма была змешчана ў першай рэдакцыі Статута.

У сваім вершы пісьменнік з Пянчына ўслаўляе патрыятызм Сапегаў, іх клопат пра росквіт і незалежнасць дзяржавы. Любоў да Айчыны, на думку аўтара панегірычнага верша, – вызначальная маральная дабрачыннасць прадстаўнікоў гэтага магнацкага ліцвінскага роду, што добра паказана на гербе. Сапегі былі заўсёды гатовыя да абароны бацькаўшчыны, ахвяравалі дзеля яе і сваімі жыццямі, і маёмасцю. Твор заканчваецца ўсхвалявальнымі радкамі ў гонар Сапегаў, верай аўтара, што іх жыццё было і будзе прыкладам для наступнікаў. За любоў да Айчыны, за вернасць веры бацькоў услаўляе Андрэй Рымша і род Скумінаў.

Наш зямляк з Баранавіччыны займаўся таксама і перакладамі. На сёння вядома толькі пераствaрэнне па-польску з латыні твора А.Паляка “Хранаграфія, або тапаграфія, гэта значыць асаблівае і падрабязнае апісанне Святой Зямлі”. Твор скіраваны супраць невуцтва і псеўдаадукацыі тых, хто пахваляецца універсітэцкімі дыпломамі, а сапраўдных ведаў не мае. Пад перакладам стаіць апошняя з дакладна вядомых датаў жыцця і творчасці Андрэя Рымшы – 1595 г. Застаюцца невядомымі год смерці пісьменніка і месца яго вечнага спачыну. Навукоўцы яе пазначаюць прыблізна – пасля 1595 года.

У Гарадзішчы ў гонар Андрэя Рымшы названа яго імем адна з вуліцаў, а таксама адкрыта мемарыяльная дошка.

## МАЦЕЙ РАДЗІВІЛ
(1749 – 1800)

Мацей Радзівіл нарадзіўся ў Нясвіжы. Калі хлопчыку было два гады, яго айчымам стаў Міхал Радзівіл Рыбанька. У рэзідэнцыі магната Мацей атрымаў бліскучую адукацыю, палюбіў тэатр і музыку, быў далучаны да балету, пазнаёміўся з ідэямі французскіх асветнікаў, асабліва захапляўся творамі Русо. Пасля смерці маці Мацей Радзівіл атрымаў спадчынныя маёнткі ў Паланэчцы і Крашыне. Паланэчку зрабіў сваёй рэзідэнцыяй і пераехаў сюды ў 1773 г. на сталае жыццё. Новы ўладальнік Паланэчкі пачаў тут будаваць паркава-палацавы комплекс, які ўражваў сваёй веліччу і незвычайным хараством усіх, хто трапляў сюды. Час і асабліва людзі не пашкадавалі гэтае харство. Яно гіне.

У XVIII стагоддзі Паланэчка была адным з важнейшых асяродкаў культуры на Наваградчыне. Тут збіралася творчая інтэлігенцыя, вучоныя, грамадскія дзеячы. У парку, які маглі наведваць і сяляне, ладзіліся канцэрты, у пакоях палаца вяліся дыскусіі па розных пытаннях жыцця ў Вялікім княстве Літоўскім, гучалі мастацкія творы. У Паланэчцы была багацейшая бібліятэка, а таксама творы жывапісу, вырабы з бронзы, нумізматычныя калекцыі. Мацей Радзівіл вызначаўся незвычайнай гасціннасцю.

Паланезы, санаты, серынады, мазуркі гаспадара Паланэчкі любілі яго сучаснікі. Іх з задавальненнем слухаюць і цяпер і не толькі меламаны. Разам з тым пяру Мацея Радзівіла належыць лібрэта да дзвюх операў: “Агатка, ці пры-

езд пана” (1784) і “Войт альбанскага сяла” (1786). Яны пісаліся для Нясвіжскага тэатра. Музыку да твораў напісаў Я.Д.Голанд. “Агатцы” належыць адметнае месца ў гісторыі музычнай культуры Беларусі як першай оперы. Ды і сцэнічны яе лёс аказаўся шчаслівым. “Агатка” была прыхільна прынята нясвіжскай публікай у час першых спектакляў, якія ставіліся ў гонар прыезду караля Станіслава Панятоўскага. Яе з цікавасцю слухалі варшавяне, дзе опера ішла восем разоў узапар, а таксама ў Любліне, Львове, Вільні. У рэпертуары Варшаўскага тэатра яна пратрымалася да 1820 г., а ў Познані ставілася яшчэ і ў 1826 г. Поспех “Агаткі” быў творчым стымулам Мацею Радзівілу для напісання лібрэта “Войт альбанскага сяла”, адрасаванай К.С.Радзівілу да яго імянінаў, якія святкаваліся ў Альбе пад Нясвіжам.

Галоўнай гераіняй оперы “Агатка” з’яўляецца сялянская дзяўчына-сірата. Падстараста Пяшка насупраць яе волі хоча выдаць Агатку замуж за нялюбага – парабка Антося Гайдука. На шчасце, бяды для закаханых Агаткі і яе абранніка не адбылося: у маёнтак вяртаецца гаспадар, добры і справядлівы пан. Даведаўшыся ад аканома пра намеры Пяшкі, пан вырашае справу на карысць закаханых, а падстарасту выганяе са службы. Як бачым, сюжэтна і ідэйна “Агатка” Мацея Радзівіла пераклікаецца з паэмай В.Дуніна-Марцінкевіча “Гапон”, напісанай у наступным стагоддзі: зло для прыгонных сялянаў сыходзіць не ад паноў, а ад падпанкаў. Праз твор праходзіць думка пра неабходнасць яднання сацыяльных нізоў і вярхоў. Пан заклікае аканома дбаць аб прыгонных сялянах. Гуманістычны пафас твора і цудоўная музыка і забяспечылі оперы “Агатка” доўгае сцэнічнае жыццё.

У 1780-я гг. Мацей Радзівіл узяў шлюб з Альжбетай Хадкевіч. У іх гадавалася двое дзяцей: дачка Антаніна і сын Канстанцін. Іх выхавацелем быў Войцэх Магнушэўскі, той самы, які адкрыў талент Паўлюка Багрыма. Калі Антаніна выйшла замуж за Станіслава Юрагу, то ў пасаг атрымала Крашын. Зяць і сын Мацея Радзівіла справакавалі паўстанне крашынцаў, жорсткую расправу з імі, а падзеі 1828 г. у мястэчку ўвялі ў гісторыю постаць Паўлюка Багрыма як пісьменніка.

Пераезд Мацея Радзівіла на сталае жыццё ў Паланэчку прыпадае на цяжкі для радзімы час. Пачаліся падзелы Рэчы Паспалітай, набліжалася яе дзяржаўная катастрофа. Мацей Радзівіл не мог заняць нейтральную пазіцыю. Ён імкнуўся ўратаваць дзяржаву, не шкадуючы ні сябе, ні свайго здароўя, ні сродкаў. У распараджэнне Вялікага княства Літоўскага аддаваў свае маёнткі і арсеналы, уласную паліцыю, прыняў непасрэдны ўдзел у паўстанні пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі. Прыйшоў у паўстанцкія атрады разам са сваімі сялянамі, якіх вызваліў ад прыгону. Пасля задушэння паўстання выехаў у Галіцыю, дзе пражыў каля года. Вярнуўся на радзіму, атрымаў у спадчыну ад брата яго маёнткі ў Польшчы. Дажываў апошнія гады ў любімай ім Паланэчцы.

## ФІЛАМАТЫ І ФІЛАРЭТЫ

Францішак Багушэвіч пакінуў нам запавет:



Знаць Чачота ўсе павінны
І пра Зана дабрачыннасць,
Пра Касцюшку і Манюшку,
І пра песняроў.

Сцяг Касцюшкі, сцяг барацьбы за аднаўленне дзяржаўнасці паднялі і панеслі студэнты і выкладчыкі Віленскага універсітэта. У 1817 г. тут пачалі дзейнічаць студэнцкія арганізацыі. Філаматы і філарэты ставілі сваёй галоўнай задачай слугаванне Айчыне, праз асвету і адукацыю рыхтаваць грамадства да вызвалення Бацькаўшчыны. Асаблівае значэнне яны надавалі вывучэнню роднага краю.

Большасць удзельнікаў гэтых студэнцкіх аб'яднанняў – беларуская моладзь (ім тады было ад 17 да 35 гадоў). З ліку 135 чалавек, дапытаных камісіяй Навасільцава, з Беларусі было 113, з Каралеўства Польскага – 6, з Украіны – 16 чалавек. Многія з іх – ураджэнцы Наваградчыны альбо там мелі сваіх сваякоў. Некаторых членаў маладзёжных арганізацый Віленскага універсітэта на Берасцейшчыну прывялі сяброўскія кантакты. Трэба думаць, што найчасцей усе філаматы і філарэты групаваліся ў Туганавічах, у маёнтку Верашчакаў.

Справа ў тым, што Тамаш Зан вучыўся ў Мінскай гімназіі з братамі Верашчакамі, асабліва пасябраваў з Міхалам. Верашчакі вызначаліся сваёй гасціннасцю. Міхал жа быў па натуры добры, спагадлівы, кампанейскі. Менавіта з Тамашам Занам Адам Міцкевіч трапіў у Туганавічы і там пазнаёміўся з Марыляй. Ігнат Дамейка быў блізкім сваяком Верашчакаў. Маці Міхала з'яўлялася яго роднай цёткай. Ян Чачот таксама з гэтых мясцінаў. Пазней Туганавічы былі месцам паломніцтва польскіх пісьменнікаў. Вядома, што Эліза Ажэшка і Марыя Канапніцкая знаёміліся з Туганавічамі. Каб папулярызаваць мясціны, звязаныя з жыццём і творчасцю філаматаў і філарэтаў, яны пакідалі тут не толькі свае аўтографы як ганаровыя наведвальнікі, але і творы.

Тамаш Зан бываў у многіх паселішчах Баранавіцкага раёна ў сваіх сяброў і сваякоў. Гэта Туганавічы, Завоссе, Сталавічы, Новая Мыш і інш. да арышту і высылкі на Урал, а таксама і пасля вяртання на радзіму. Многія філарэты сябравалі з Антанінай Юрага. Таму некаторыя з іх бывалі і ў Крашыне, і ў Паланэчцы.. У 1843 годзе Тамаш Зан з'яўляўся адным са сведкаў на вяселлі яе дачкі з Завадскім у Крашыне. Праз тры гады ў час вясельнага падарожжа найпрамяністы зноў наведваўся ў Крашын і быў госцем Юрагаў. Бывалі ў Крашыне Ігнат Дамейка і Антон Адынец.

Нельга не ўлічваць таго, што на тэрыторыі сучаснага Баранавіцкага раёна было шмат сядзібаў, дзе жылі сваякі і сябры філаматаў і філарэтаў, якіх яны часта наведвалі. Гэта вёскі Бортнікі і Вольна, якія належалі Слізеням. З братамі Ота і Рафаілам (пазней вядомым скульптарам, у гонар якога ў Вольна адкрыта мемарыяльная дошка) сябравалі. Тамаш Зан, Ян Чачот, Адам Міцкевіч, нярэдка бавілі тут свой канікулярны час. Наведваліся яны ў Задзвею і Ішкальдзь, дзе служыў святаром сваяк Адама Міцкевіча Павел Грынашкевіч. Заны мелі сваякоў таксама і ў Паланэчцы і часта тут бывалі. Са Сталавічамі звязаны імёны Ігната Дамейкі і Адама Міцкевіча.

Найчасцей усё ж такі віленская моладзь у час летніх канікулаў збіралася ў Туганавічах. Пра гэта сведчыць так званы камень Філарэтаў – велізарны валун, які знаходзіцца ва ўрочышчы за вёскай Карчова непадалёку ад Туганавічаў. І цяпер ён здзіўляе сваёй велічынёю, а гэта ўсяго яго частка, бо ў 30-я гады знайшоўся нейкі шустры прадпрымальнік, які хацеў выкарыстаць яго ў гаспадарчых мэтах. На шчасце, умяшалася грамадскасць, і цяпер гэты велізарны валун не проста помнік прыроды, але і помнік нашай гісторыі і культуры. Жыве ў наваколлі легенда, што менавіта гэты камень быў своеасаблівай трыбунай, з якой юныя патрыёты гаварылі свае палкія прамовы пра неабходнасць маральнага самаўдасканалення, пра асвету народа, вострую патрэбу ведаць свой край, аддаваць яму свае маладыя сілы. Марылі юныя патрыёты-рамантыкі пра час, каб і іх творы ведалі і любілі сяляне. Гэтая думка гучыць у паэме Адама Міцкевіча “Пан Тадэвуш”:

*О, мне дажыць бы да гэткай уцехі,*
*Каб мае трапілі кнігі пад стрэхі...*
*Каб і мае ўзялі кнігі сялянкі,*
*Простыя кнігі, як іх калыханкі.*

Сярод філаматаў і філарэтаў былі людзі розных схільнасцей і зацікаўленняў. Яны ўнеслі значны ўклад у развіццё навукі і культуры. На жаль, даводзіцца гаварыць, што не свайго народа. Ігнат Дамейка – чылійскага, Тамаш Зан, Юзаф Кавалеўскі і інш. – рускага. І мае рацыю Кастусь Цвірка, які гаворыць: “Высылаючы філаматаў і філарэтаў з “акругі Віленскага універсітэта” ў Расію, царскія ўлады хацелі дасягнуць адначасова некалькі мэтаў: першая – гэта, вядома ж, пакаранне маладых людзей за вальнадумства – “в назидание” іншым, другая – знішчэнне ў самым зародку беларускага нацыянальнага руху як часткі агульнапольскага (лепш бы сказаць агульнарэчпаспалітаўскага) руху і трэцяя – рабаванне “мазгоў”, інтэлектуальнага патэнцыялу Беларусі”.

Філаматы і філарэты вылучалі са свайго асяроддзя генія мастацкага слова Адама Міцкевіча. За ім ідуць Ян Чачот, Тамаш Зан, Аляксандр Ходзька, Антон Адынец, Ануфры Петрашкевіч. Аднак і тыя, хто не сталі пісьменнікамі, цудоўна валодалі пяром і пакінулі свае дарожныя нататкі, дзённікі, лісты, якія таксама з’яўляюцца фактам літаратуры.

## АДАМ МІЦКЕВІЧ
(1798 – 1855)

Гісторыя ведае не адзін выпадак, калі за права быць земляком знакамітасці вядуцца гарачыя спрэчкі. Да іх ліку належыць і Адам Міцкевіч. Адны гавораць, што нарадзіўся пісьменнік у карчме на дарозе з Завосся ў Наваградак, другія называюць сам Наваградак, трэція Завоссе, але не Берасцейскае, а Гарадзенскае, хоць паселішча пад такой назвай пакуль што не знайшлі (у гэтай вобласці яно не значыцца) у ліку тых, якія зніклі. Мы будзем трымацца думкі, якая з’яўляецца найбольш устаялай, што 24.12.1798 г. у Мікалая і Барбары Міцкевічаў у Завоссі (цяпер Баранавіцкі раён) нарадзіўся сын, якому далі імя першага



чалавека на зямлі – Адам. Пройдуць гады, і Адам Міцкевіч стане не толькі найвыдатным сынам народаў, што ўваходзілі ў склад Рэчы Паспалітай, – беларусаў, палякаў, летувінаў, а сусветным геніем, паэтам-рамантыкам.

Міцкевічы належалі да беларускай шляхты Наваградчыны. Бацька паэта, аднак, ужо жыў у асноўным з заробку адваката, і сям'я перабралася ў Наваградак. Там Міцкевічы мелі сядзібу, адну з самых прыгожых (як прыгадваюць сучаснікі) камяніц. Тым не менш нельга лічыць, што дзяцінства Адама Міцкевіча прайшло ў былой сталіцы Вялікага княства Літоўскага – Наваградку. У розных вёсках і мястэчках Наваградчыны жыло шмат сваякоў паэта. У пачатку XIX ст. у в. Белая Баранавіцкага раёна быў маёнтак цёткі Адама Міцкевіча Барбары Стыпулкоўскай. Бацькі Адама Міцкевіча з дзецьмі часта наведвалі гэтае паселішча. Некаторыя вучоныя выказваюць меркаванне, што менавіта тут юны Адам Міцкевіч пазнаёміўся з Юзяй, першым сваім юначым захапленнем. Пазней Юзя стала жонкай стрыечнага брата Адама – Феліцыяна Міцкевіча. Менавіта ў Белай адбыўся выпадак, які пакладзены ў аснову верша "Люблю я".

У вёсцы Вольна, якая належала Слізеням, у свайго сябра філарэта Ота часта бываў Адам Міцкевіч з сябрамі па Віленскім універсітэце. Наведваў аўтар "Свіцязянкі" з Тамашам Занам вёску Ішкальдзь, дзе служыў ксяндзом сваяк паэта. Урочышча Кут ля вёскі Карчова таксама асвечана імем Адама Міцкевіча, бо тут знаходзіцца знакаміты камень Філарэтаў, дзе выступалі юныя патрыёты, у тым ліку і Адам Міцкевіч. Не мог абмінуць аўтар "Пана Тадэвуша" і вёску Новая Мыш, дзе некаторы час жыла сям'я Яна Чачота. У стрыечнага брата Тамаша Зана наш зямляк з Завосся бываў з сябрам і ў Паланэчцы. Польскія даследчыкі выказваюць думку, што паэт вучыўся ў Сталавічах у 1804 годзе у парафіяльнай школе. Гэтае мястэчка знаходзіцца за 8 км ад Завосся, дзе на той час жыла сям'я Мікалая Міцкевіча. Усе гэтыя вёскі размешчаны ў Баранавіцкім раёне.

Ёсць яшчэ дзве мясціны на Берасцейшчыне, асвечаныя іменем паэта-генія. Найперш гэта Завоссе. У канцы XIX стагоддзя адзін з фальваркаў у Завоссі належаў роднаму дзядзьку з боку бацькі Адама Базылю Міцкевічу. Пасля яго смерці бацька паэта Мікалай быў апекуном братавага малалетняга сына і адначасна кіраваў фальваркам. Як сведчыць яго сын Аляксандр, Міцкевічы ў снежні 1798 г. выехалі ў Завоссе, і там 24 чысла нарадзіўся Адам Міцкевіч.

Тыя, хто прытрымліваецца версіі, што паэт нарадзіўся ў Навагрудку, сцвярджаюць, што Міцкевічы пераехалі ў Завоссе адразу пасля смерці бацькавага брата Базыля ў лютым 1799 г., калі Адаму быў месяц. Жылі тут Міцкевічы да 1801 г., а затым перабраліся ў Наваградак. Яшчэ пяць гадоў бацька паэта кіраваў завосеўскім маёнткам. Сумяшчаць гэта з працай адваката было цяжка. У 1806 годзе Мікалай Міцкевіч перадаў свае правы на Завоссе мужу сястры Вінцэсю Стыпулкоўскаму.

Сядзіба ў Завоссі складалася з аднапавярховага дома і гаспадарчых забудоваў: аборы, стадолы, свірана, студні з жураўлём. Дом быў пакрыты гонтаю і дзяліўся на дзве палавіны: адна – для гаспадароў, другая – для чэлядзі. Панс-

кая палавіна ўключала сталовую. Было яшчэ два невялічкіх пакоя.

Усе канікулы, пачынаючы з 1801 і аж да 1810 г., Адам Міцкевіч праводзіў у Завоссі і іншых навакольных вёсках, пра якія згадвалася вышэй. Тут, на Баранавіччыне, Адам Міцкевіч далучаўся да фальклору, легендаў і паданняў, якія жывілі яго творчасць, надавалі ёй арыгінальнасць і самабытнасць, выяўлялі яе вытокі як паэта рамантычнага складу. Пазней, чытаючы лекцыі ў Парыжы ў славутым Каледж дэ Франс па славянскіх літаратурах, адзначыў: "У іх (сялянаў Пінскай, часткова Мінскай і Гарадзенскай губерняў – аўт.) казках і песнях ёсць усё". У шматлікіх вёсках Берасцейшчыны Адам Міцкевіч сутыкаўся з рознымі сацыяльнымі слаямі беларускага народа, пазнаваў яго сутнасць, услухоўваўся ў мову, добра ёю валодаў. Усё гэта, а таксама вывучэнне пісьмовых крыніцаў дало паэту падставы сказаць у тых самых лекцыях, што беларусы "захавалі найбольшую колькасць агульнаславянскіх рысаў", што "на беларускай мове, якую называюць русінскай, альбо літоўска-русінскай, размаўляе каля дзесяці мільёнаў чалавек; гэта самая багатая і самая чыстая гаворка, яна ўзнікла даўно і багата распрацавана. У перыяд незалежнасці Літвы вялікія князі карысталіся ёю для сваёй дыпламатычнай перапіскі". Хоць сам Адам Міцкевіч пісаў па-польску, але ён ухваляў і шчыра падтрымліваў творчасць Яна Чачота на роднай мове.

Таму Адам Міцкевіч меў усе падставы сказаць, што яго дзяцінства было вясковым, што менавіта вёска зрабіла яго такім, які ён ёсць. Любіў бываць Адам Міцкевіч у Завоссі, калі вучыўся ў Віленскім універсітэце і працаваў у Коўна. Як прыгадваюць знаёмыя паэта, начаваў найчасцей у свіране. Там быў невялічкі пакойчык, у ім і жыў паэт. З гэтага пакойчыка добра праглядваліся краявіды наваколля, Жарновая гара (самая высокая ў наваколлі) па форме нагадвала велізарныя млыновыя жорны. Сцены гэтага пакойчыка былі распісаны рукой Адама Міцкевіча. Пазней гэты ўзгорак увойдзе ў творы паэта-рамантыка, як вялізарная гара.

Сядзіба ў Завоссі была знішчана ў Першую сусветную вайну. Тут у 1915 годзе якраз праходзіў фронт. Пасля Другой сусветнай вайны былі разбураны ацалелыя гаспадарчыя забудовы. У 50-я гады на месцы былой сядзібы ў Завоссі быў узведзены абеліск, які ўзвышаўся на трох прыступках, з барэльефам паэта і надпісам: "Тут, у Завоссі, 24 снежня 1798 года нарадзіўся вялікі паэт Адам Міцкевіч". Да 200-годдзя з дня нараджэння нашага земляка адноўлена сядзіба паэта ў Завоссі. Гэта, трэба спадзявацца, актывізуе жаданне многіх прыхільнікаў таленту паэта і з Беларусі, і з іншых краінаў, найперш з Польшчы, наведаць Завоссе, каб адчуць той свет, які люляў талент Адама Міцкевіча.

Другім такім месцам на Берасцейшчыне, якое не проста асвечана імем вялікага паэта, але якое жыло ў яго памяці, хвалявала ў выгнанні, з'яўляюцца Туганавічы, маёнтак Верашчакаў. Знаходзячыся ў эміграцыі, Адам Міцкевіч пісаў Дамейку: "Часта нападае смутак па Літве, і ўвесь час бачу ў сне Наваградак і Туганавічы". У 1819 г. Тамаш Зан прывёз сюды на летнія канікулы Міцкевіча. Маёнткам тады ўжо кіравала і вяла гаспадарку ўдава з сынамі Міхалам і Юзафам. З імі і сябраваў Тамаш Зан. Была ў іх і сястра – Марыля.



У той час, калі Адам Міцкевіч упершыню сюды прыехаў, Туганавічы наўрад ці можна было назваць палацам. Сядзібу атуляў вялізны парк з таполяў, ліпаў і грабаў. Каменны дом быў пабелены, меў ганак на чатырох калонах. Побач была афіцына, дзе традыцыйна жылі госці. Непадалёку ад дому знаходзілася аранжарэя. Далей – гаспадарчыя забудовы. Сучаснікам падабаліся Туганавічы. Ігнат Дамейка прыгадваў: “Туганавіцкі двор, які ляжаў сярод маляўнічых ваколіц, быў шырока забудаваны. Над ім узвышаліся мураваныя касцёл і афіцына. Вялізны ліпавы парк, мноства гаспадарчых будоў надавалі двару выгляд сядзібы заможнай шляхты”. У парку, з аднаго боку, былі пракладзены цудоўныя алеі, зроблена шмат кветнікаў, выкапаны маляўнічыя сажалкі, з другога, тут радавалі вока рамонкі, званкі, п’яніў чабаровы пах.

У Туганавічах Адам Міцкевіч сустрэў сваё палкае, рамантычнае каханне – Марылю Верашчаку. Яна разам з братамі сустрэла гасцей, калі паэт упершыню паявіўся ў Туганавічах. Як прыгадваюць сучаснікі, Марыля не была прыгажуняй. Невысокая, светлавалосая, уражвала хіба разумным поглядам вачэй, жывасцю натуры, начытанасцю і мяккасцю характару. Пры першай сустрэчы дзяўчына нават і не спадабалася Міцкевічу. Калі паэт бліжэй пазнаёміўся з Марыляй, то ацаніў яе духоўную прыгажосць. Маладыя людзі пакахалі адзін аднаго. Яны часта рабілі праходкі па алеях туганавіцкага парку, любілі пасядзець у альтанцы з ліпаў (альтанка захавалася да нашага часу, хоць дрэвы, выпаленыя дзікунамі, падаюць), гулялі ў шахматы, шмат гаварылі пра літаратуру. Міцкевіч любіў слухаць, як Марыля іграла на фартэп’яна, спявала беларускія народныя песні. Гэта быў самы шчаслівы час у жыцці Міцкевіча. Пра яго ён будзе ўспамінаць усё сваё жыццё.

Калі Міцкевіч з’явіўся ў Туганавічах, Марыля Верашчака ўжо была нарачонай графа Ваўжынца Путкамера, былога афіцэра напалеонаўскай арміі, багатага шляхціца з Лідчыны. Ён спакойна глядзеў на ўзаемаадносіны Адама і Марылі. Калі на наступнае лета паэт зноў прыехаў з Тамашам Занам да Верашчакаў, яму аб’явілі пра вяселле каханай з Путкамерам. Развітваючыся з ёю і з Туганавічамі, Адам Міцкевіч пасадзіў бярозку “у памяць аб тым, што быў час, калі дзяўчаты выходзілі замуж па каханні”. У лютым 1821 Путкамер і Марыля павянчаліся. І тым не менш летам гэтага года Адам Міцкевіч яшчэ раз наведаў Туганавічы. З Марыляй не сустрэўся. Усё тут было чужым, бо ў 1820 годзе дом перабудавалі. Ва ўяўленні паэта захаваецца той дом, калі ён сюды наведаўся ўпершыню, калі ён кахаў і яго кахалі. Таму тая сядзіба Верашчакаў будзе апісана ў паэме “Пан Тадэвуш” як Сапліцова:

*Калісь між тых палёў пры рэчцы, на пагорку*
*Сярод бярэзніку, за плотам панадворка,*
*Стаяў драўляны панскі дом і з зяляніны*
*Свяціўся, як сувой кужэльнае тканіны,*
*Тынкоўкай белай сцен над dыванамі поля.*
*Ад непагод затулены сцяной таполяў,*
*Ён невялікі быў, але не занядбаны.*

Туганавіцкая сядзіба згарэла ў гады Першай сусветнай вайны. Сам парк

захаваўся. У ім растуць яшчэ два дубы-блізняты, якія ахоўваюцца дзяржавай як помнікі прыроды. Па сённяшні дзень вясной і летам парк радуе разнатраўем, багаццем палявых кветак. Праглядваюцца і былыя алеі, кветнікі і палісаднікі. Можна ўбачыць абрысы сажалкі, стаіць яшчэ падмурак дома, ёсць і прыступкі, па якіх збягала Марыля, калі першы раз Міцкевіч наведаў Туганавічы. У наш час улады вобласці і раёна, музей у Навагрудку імкнуцца зрабіць міцкевіцкія мясціны прывабнымі для турыстаў. Расчышчаецца парк у Туганавічах, ёсць указальнікі і мемарыяльныя дошкі ля альтанкі, дзе сустракаліся Марыля з Міцкевічам, ля каменя Філарэтаў, што надае ім разам з музеем-сядзібай у Завоссі закончаную цэласнасць.

Адам Міцкевіч – адзін з самых яркіх і таленавітых рамантыкаў свету. Асновай рамантызму Адама Міцкевіча, як і іншых філарэтаў, быў найперш беларускі фальклор. Народныя паданні і легенды служылі асновай для сюжэтаў цудоўных баладаў Яна Чачота, Тамаша Зана і Адама Міцкевіча. Разам з тым нельга не пагадзіцца з высновай Кастуся Цвіркі, што “немалаважную, а можа і рашаючую ролю ў пераходзе Адама Міцкевіча да рамантызму, наогул у яго небывалым творчым узлёце адыграла – і гэта не маглі не адзначыць літаратуразнаўцы – каханне паэта да Марылі Верашчакі, якое нібы перавярнула ўсё яго жыццё, укруціла ў вір глыбокіх перажыванняў”.

Да ліку твораў, якія нарадзіліся ў выніку гэтага палкага кахання, належаць “Свіцязянка”, “Рыбка”, “Курганок Марылі” і інш. Перажытае паэтам знойдзе сваё выяўленне ў паэме “Дзяды”. Дарэчы будзе заўважыць, што ў гэтай паэме асэнсаваны вераванні нашых продкаў, да якіх быў далучаны Адам Міцкевіч на Навагрaдчыне. Большасць герояў паэмы “Дзяды” маюць сваіх прататыпаў. Гэта найперш сам паэт. Ён увасоблены ў вобразе Густава. Яго сябры-філарэты выступаюць у паэме ці пад уласнымі імёнамі, ці пад мянушкамі, якія мелі. Маюць сваіх прататыпаў і ксяндзы. Лічаць, што прататыпам ксяндза ў другой частцы паэмы з’яўляецца даўні сваяк Міцкевічаў Павел Грынашкевіч, які служыў у вёсках Задзвея і Ішкальдзь, а прататыпам ксяндза ў чацвёртай частцы твора паслужыў Ян Гарбацэвіч, які працаваў святаром і настаўнікам у Сталавічах. Перажытае Міцкевічам у час апошняга прыезду ў Туганавічы летам 1821 г., калі Марыля была ўжо замужам за Путкамерам, перададзена паэтам свайму герою Густаву. Згадваюцца ў паэме “Дзяды” і шчаслівыя мінуты кахання, і тыя мясціны ў Туганавічах, з якімі яно звязана, і боль, адчай расстання.

Мясцінаў на Берасцейшчыне шмат, якія асвечаны імем Адама Міцкевіча, тым не менш яны амаль што не ўвайшлі ў творчасць паэта. Большасць даследчыкаў лічаць, што ў паэме “Пан Тадэвуш” Сапліцова – гэта Туганавічы. Рэалій Туганавічаў (акрамя дома) нельга акрэсліць у гэтым творы Адама Міцкевіча, хоць вёска пад такой назвай на Баранавіччыне была. Яна размяшчалася недалёка ад Завосся каля Гарадзішча. Але тое паселішча не магло быць правобразам Сапліцова з паэмы “Пан Тадэвуш”, бо гэта занадта далёка ад Міра, каб госці ў замак маглі ісці на вячэру ці абед. Тое ж варта сказаць і пра Туганавічы. У паэме “Пан Тадэвуш” апаэтызавана шляхетная Літва ці вузей Навагрaдчына ўвогуле. Звычаі шляхты, паляванні, застоллі, наезды, традыцыі, гістарычная



памяць, патрыятычныя памкненні, лясы, кветкі, дрэвы, кустарнікі, грыбы, ягады, стравы і многае іншае Літвы, "айчыны маёй", а не Туганавічаў і іх навакольля, хоць у тым ліку і гэтых мясцінаў. Усё, што становіцца аб'ектам аўтарскага асэнсавання, сагрэта любасцю паэта да ўсяго ліцвінскага, народжанага настальгічным пачуццём выгнанніка з роднай зямлі, якая мроілася ў далёкім і чужым Парыжы як рай, дзе ўсё напаўняла існаванне высокім сэнсам.

Тым не менш Адам Міцкевіч лакалізаваў месца дзеяння ў паэме "Пан Тадэвуш", увёў у твор шмат тапонімаў сваёй малой радзімы: Навагрудак, Мыш, Ляхавічы, Крашын, Карэлічы, Мір, Дзятлава, Нёман і інш. Своеасаблівым рэгіянальным арыенцірам у паэме "Пан Тадэвуш" выступаюць прозвішчы яе герояў: Рымша, Зан, Чачот, Верашчака, Дамейка і інш. Такія прозвішчы мела шляхта Баранавіччыны. Не аднойчы згадваюцца ў творы Міцкевічы, апісваецца герб гэтага шляхецкага роду. Не абышоў паэт сваёй увагай і род маці – Маеўскія. Гістарычныя асобы Тадэвуш Касцюшка, Тадэвуш Рэйтан найперш паказваюцца як землякі герояў "Пана Тадэвуша". Тадэвуш Касцюшка нарадзіўся на Івацэвіччыне, а Тадэвуш Рэйтан – у Ляхавічах.

Такім чынам, паэма "Пан Тадэвуш" – гэта гімн і плач, радасць і боль, туга і надзея, звязаныя з малой радзімай паэта, з тымі краявідамі, звычаямі, людзьмі, якія жылі там, дзе Адаму Міцкевічу было суджана нарадзіцца, правесці дзяцінства і юнацтва, страціць усё гэта, стаць эмігрантам. Паэма "Пан Тадэвуш" пісалася ў Парыжы, калі настальгія была асабліва вострай. Кладучы на паперу радкі пра сваю Айчыну, паэту здавалася (аб гэтым ён гаварыў аднаму з сяброў), што ён жыве там, на радзіме, сярод родных краявідаў, дарагіх яму людзей, у прывычнай атмасферы шляхецкіх сядзібаў, корчмаў, кірмашоў:

*Дзяцінства край!*
*У ім, небагатым, цесным, я быў шчаслівы;*
*Як Богу – Божы свет, так мой уласны*
*Дом на радзіме быў шырокім светам*
*Усіх маіх вытокаў –*
*зазначыць паэт у творы.*

## ЯН ЧАЧОТ
(1796 – 1847)

Кастусь Цвірка так ацаніў месца паэта ў гісторыі нацыянальнага мастацкага слова: "Я.Чачот – гэта досвітак беларускай літаратуры, яе першыя крокі, прадвесне нашага нацыянальнага адраджэння".

Хоць Ян Чачот нарадзіўся на Гарадзеншчыне ў вёсцы Малюшычы Карэліцкага раёна 7.07.1796 г., тым не менш родавыя карані Чачотаў па жаночай лініі з Баранавіччыны. Адзін з продкаў пісьменніка у 1545 г. атрымаў права на валоданне маёнткам цесця Яршова (цяпер такое паселішча не знайсці на карце Баранавіцкага раёна, яно знікла ўжо ў другой палове мінулага стагоддзя) каля Моўчадзі. Дзед Яна Чачота гаспадарыў у Гараінаўшчыне, размешчанай у ця-

перашнім Гарадзішчанскім сельсавеце.

Раннія дзіцячыя гады пісьменніка прайшлі на Берасцейшчыне. Справа ў тым, што яго бацька, беззямельны шляхціц, узяў у арэнду маёнтак Рэпіхава (цяпер Ляхавіцкі раён). Улічваючы тое, што Ян Чачот лічыў сваёй малой радзімай Мыш і нават меў мянушку Ян з Мышы, то апошнім часам выказваецца думка, што тут і прайшлі яго дзіцячыя гады. З памятлівага на ўражанні дзяцінства ідзе захапленне Яна Чачота рэчкай Мышанкай, Калдычэўскім возерам, краявідамі Наваградчыны. Тут пісьменнік далучыўся да легендаў і паданняў краю, тут палюбіў яго песні, тут авалодаў мовай свайго народа, тут бачыў, як жыве селянін, і пранікаўся да яго любоўю.

З Мышы падаўся Ян Чачот на вучобу ў Наваградак, дзе вучыўся і Адам Міцкевіч. Яны пасябравалі і сяброўскія пачуцці пранеслі праз усё жыццё. Напэўна, Ян Чачот праводзіў свае школьныя і студэнцкія канікулы, хоць і часткова, бо зарабляў сам сабе на хлеб, на Баранавіччыне. Мы сёння не можам дакладна сказаць, як пазнаёміўся Ян Чачот з Міхалам Верашчакам, аднак пра тое, што яны адзін аднаго добра ведалі, сведчыць балада Яна Чачота “Калдычэўскі шчупак”, прысвечаная Міхалу Верашчаку. Як вядома, паэзія Яна Чачота характарызуецца дыдактызмам. Непазбаўлены і гэты твор павучаняў-заротаў да Міхала, асабліва ва ўступе, каб той пакінуў марнаваць час у нікчэмных забавах і гулянках, каб узяўся за працу, бо прырода надзяліла яго здольнасцю і талентам. Пісьменнік тут выступае як клапатлівы бацька ў адносінах да Верашчакі. Любоў да гаспадара Туганавічаў і ўшчуванне яго паядналіся ў адзінае цэлае. З гэтага вынікае, што Ян Чачот бываў у Туганавічах, добра ведаў сям’ю Верашчакаў, сябраваў з Марыляй. Пасля ссылкі яна падтрымлівала сябра маладосці.

У жыцці і творчасці Яна Чачота выразна вылучаюцца два перыяды: да арышту і ссылкі на Урал і па вяртанні на радзіму. Абодва яны непасрэдна звязаны з Баранавіччынай. Як адзін з арганізатараў і кіраўнікоў згуртаванняў студэнцкай моладзі пры Віленскім універсітэце Ян Чачот прымаў непасрэдны ўдзел ва ўсіх мерапрыемствах філаматаў і філарэтаў, актыўна быў уключаны ў вывучэнне роднага краю, яго песняў, легендаў, паданняў. Ян Чачот пісаў на дзвюх мовах – беларускай і польскай. У першы перыяд філамацкія песні пісаліся пабеларуску, а балады – па-польску. Падзеі ў баладах “Калдычаўскі шчупак”, “Узногі”, “Мышанка” адбываюцца на Баранавіччыне. У іх шырока выяўлены рэгіянальны каларыт.

У баладзе “Мышанка” апавядаецца, як узніклі назовы мястэчка Мыш і рэчкі Мышанка. Пра гэта Ян Чачот чуў у гады свайго малентсва, калі тут жыў. У першай легендзе, асэнсаванай у баладзе, уздымаюцца маральныя праблемы. З аднаго боку, ратаванне дзяўчынай, нават цаной жыцця, сваёй годнасці, з другога – праяўленне сілы, улады, каб задаволіць свае патрэбы юнаком-шляхціцам, тым больш, што найхутчэй дзяўчына – прастачка, і пакарання за ўчыненае зло не будзе. Народ ухваліў учынак прыгажуні і ў яе гонар, дзе тая ўтапілася, назваў безымянную рэчку прозвішчам дзяўчыны – Мышанка. Такой пазіцыі прытрымліваецца і герой-апавядальнік. Юнак-забойца “над тою ракой ціхап-



лыннай Паставіў мястэчка навечна І Мышшу назваў яго – у памяць дзяўчыны, Што так загубіў недарэчна". Бераг Мышанкі, дзе ўтапілася прыгажуня, стаў для вясковай моладзі месцам забаў і адпачынку, месцам, дзе яны выбіраюць сабе суджанага, коцячыся з горкі.

Другое паданне пра паходжанне назоваў ракі і мястэчка больш празаічнае. Той, хто яго закладваў, вырашыў даць такую назву, якую першую істоту сустрэне. І падаўся ў накірунку Цепліводы. Такой істотай аказалася мыш. Адсюль і найменні – Мыш, Мышанка. У канцы балады паэтызуюцца мясціны, дзе прайшло дзяцінства Яна Чачота. Тэкст паэмы дае падставы думаць, што сябрамі шляхецкага хлопчыка маглі быць і сялянскія дзеці, што ў тыя гады Ян не цураўся сялянскіх клопатаў, якія выконвалі яго вясковыя аднагодкі:

*О мілы ўспамін! Дарагая Мышанка!*
*Зноў снішся ты ў барве заранак.*
*Найпершая ў свеце мая ты каханка,*
*Мільгнуў тут жыцця майго ранак.*
*Мае ўсе тут гульні, блуканні, забавы,*
*Высочваў я рыбку тут днямі,*
*Траву нёс кароўкам, рваў кветкі, рухавы*
*Тут "біўся" не раз з "казакамі".*

Менавіта тут, у Мышы, пераконвае чытача аўтар балады "Мышанка", былі сфармаваны яго жыццёвыя і эстэтычныя ідэалы, уяўленне пра дабро і зло, харaство, гармонію, пра высокае і вартаснае, брыдкае і нікчэмнае. І зусім невыпадкова ў Новай Мышы ў 1996 г. Яну Чачоту быў пастаўлены помнік.

Балада "Узногі" таксама бярэ свае вытокі з Берасцейшчыны. Узногі – гэта назва вёскі, якая цяпер знаходзіцца ў Малахавецкім сельсавеце. У аснове гэтай балады – сацыяльны канфлікт: звярыная жорсткасць пана з Узногаў у адносінах да сваіх прыгонных сялянаў. Даведзеныя да голаду людзі вымушаны кідацца шукаць паратунку ў лесе, каб прывезці дроў, сабраць збанок ягад, сарваць жменю арэхаў, хоць лес і быў панскім. Таго, хто парушаў забарону гаспадара, катавалі да смерці. Так была зведзена са свету ўся сялянская сям'я.

Усім мастацкім зместам балады "Узногі" Ян Чачот сцвярджае, што Бог не можа дараваць зло. Яно будзе абавязкова пакарана. Панская сям'я згарэла ў лесе, калі прыехала туды за арэхамі, згарэла ў жудасных пакутах. Страшную расплату паслаў Бог за несправядлівасць, жорсткасць, бесчалавечнасць. Сімпатыі Яна Чачота на баку сялянаў. Узногаўскі пан, на думку паэта, – з'ява тыповая. Пісьменнік пратэстуе супраць паншчыны, раскрывае сваю асветніцкую праграму, каб памешчыкі дазвалялі сялянам карыстацца лесам і адначасова вучылі іх быць яго дбайнымі гаспадарамі, каб бралі паны прыклад з еўрапейскіх краін і выхоўвалі ў прыгонных культуру лесакарыстання.

У аснове балады "Калдычэўскі шчупак" – народнае паданне пра тое, як у Свіцязі злавілі акальцаванага ў Калдычэўскім возеры шчупака. Праз баладу праходзіць думка пра яднанне двух знакамітых на Наваградчыне шляхецкіх родаў – Верашчакаў і Анцутаў. Першыя мелі маёнткі каля возера Свіцязь, другія –

каля Калдычэўскага. Пісьменнік распрацоўвае інтрыгавальны сюжэт. Шчупак незвычайнай велічыні быў злоўлены на свяце ў Анцутаў у гонар нараджэння доўгачаканай дачкі. Тады ён быў акальцаваны і адпушчаны ў раку. Паўторна ж яго вылавілі ўжо ў Свіцязі, калі ў абодвух родаў падраслі дзеці: у Анцутаў – дачка, у Верашчакаў – сын. Гэты незвычайны шчупак – выпадак, каб маладыя людзі сустрэліся, пакахалі адзін аднаго і пабраліся. Гісторыя пра калдычэўскага шчупака – гэта яшчэ адзін урок Міхалу Верашчаку, каб ён не марнаваў часу, каб заводзіў сям'ю. Гэта была б самая радасная вестка для аўтара балады.

Пасля разгрому таварыстваў філаматаў і філарэтаў Ян Чачот быў высланы на Урал. Кізляр, Уфа, пазней Цвер, Таржок – мясціны, дзе давялося пабываць Яну з Мышы. Толькі ў 1833 г. Ян Чачот, цяжка хворы, вярнуўся на радзіму. Нейкі час жыў і працаваў на Віцебшчыне. Там пачаў тытанічную працу – запіс беларускіх народных песняў, іх пераклад на польскую мову. Гэтую працу прадоўжыў, калі нарэшце атрымаў дазвол жыць на Навагрудчыне. Тры гады (1841 – 1844) працаваў у Шчорсах у знакамітай бібліятэцы Я.Храптовіча. Пасля яго смерці аказаўся беспрацоўным, вярнуўся на Баранавіччыну, туляўся па сваяках і знаёмых то ў Вольнай, то ў Бортніках, то ў Далматоўшчыне. На гэты перыяд прыпадае выданне шасці кніг беларускіх народных песняў "Сялянскія песенькі з-пад Нёмана і Дзвіны" не толькі ў перакладзе, але і ў арыгінале. У 1847 г. выехаў на лячэнне ў Друзгенікі (цяпер тэрыторыя Летувы), дзе і памёр.

## ІГНАТ ДАМЕЙКА
(1802 – 1889)

Родавыя карані гэтага выдатнага сына нашага народа з боку маці – на Баранавіччыне. Тая, што нарадзіла Ігната Дамейку, паходзіла з вядомага шляхецкага роду Анцутаў, чый маёнтак знаходзіўся ў вёсцы Сычыўкі. У паланэчкаўскім касцёле знакаміты вучоны і быў ахрышчаны. Ігнат Дамейка вельмі часта бываў у Сычыўках дзіцём, гасцюючы ў бабулі, цудоўна ведаў наваколле вёскі, прыязджаў да маці юнаком, калі тая атрымала ў спадчыну маёнтак з усёй маёмасцю ад свайго брата. Гаспадаром гэтага маёнтка ў Сычыўках маці хацела бачыць найперш Ігната. Лёс, аднак, распарадзіўся па-іншаму.

Пройдуць гады. Ігнат Дамейка як удзельнік студэнцкіх выступленняў апынецца ў выгнанні. Пачнуцца бадзянні па свеце, пакуль не асядзе ў далёкай Чылі, не будзе там уганараваным і ўшанаваным вучоным, не завядзе там сям'ю. Радзіма, аднак, клікала яго да сябе. Нарэшце, калі Ігнату Дамейку будзе 82 гады, ён прыедзе на радзіму, прабудзе тут чатыры гады, з'ездзіць за гэты час яшчэ і ў Італію, Турцыю, Палесціну, вернецца ў Чылі, дзе і застанецца навечна ляжаць у зямлі, якой служыў аддана і пашыраў яе аўтарытэт у свеце.

З Чылі ў 1884 г. Дамейка прыехаў у Варшаву. Хоць там яго сардэчна віталі, але душа яго рвалася ў Літву. Суправаджаць сябра ў гэтай паездцы падахвоціўся Антон Адынец. Яны пабывалі на радзіме Дамейкі ў Мядзвядцы (цяпер Карэліцкі раён), а затым накіраваліся ў Сычыўкі. Праязджалі такія знаёмыя і дарагія мясціны як Сталавічы, Бортнікі, Крашын, Шчару.



Пісьменнік сустрэўся з роднымі і блізкімі, пацешыўся, што спадчынная сядзіба і маёнтак дагледжаныя, што краявіды і цяпер вабяць вока і цешаць душу. Наведаў Дамейка родныя магілы, пакланіўся бацькам і дзядам, якія знайшлі вечны спачын на могілках. Яны ўжо не дзейнічалі на той час і знаходзіліся ў страшным запусценні.

Пабывалі сябры ў Крашыне, каб адслужыць у мясцовым касцёле жалобную імшу па сястры Дамейкі. Мясцовы шляхціц Завадскі, зяць Юрагаў, на заказ якога Паўлюк Багрым каваў сваю знакамітую жарандолю, прапанаваў ім пасадзіць на ўспамін два дубкі. Адзін з іх, кажуць, Дамейкаў, расце і сёння. Адынец напісаў верш “На зямлі ў Крашыне”, у якім апаэтызаваў моц сяброўскіх пачуццяў філаматаў. Камень з гэтым надпісам не захаваўся.

Ігнат Дамейка пра сваю паездку расказаў у кнізе “Мае падарожжы”, дзе дэталёва апісана яго ўражанне ад сустрэчы з радзімай пасля доўгага расстання. Гэтыя мемуары – і проста дакументальнае сведчанне пра людзей, якія пакінулі значны след у гісторыі і культуры роднага краю, і апавяданне пра звычаі нашых продкаў, якіх прытрымліваліся і ў канцы XIX стагоддзя. Яны былі дарагімі Дамейку як сыну гэтай зямлі і як філамату, для каго гэта было ў свой час праграмай дзейнасці. “Вячэра ў гэты вечар была сямейная, – прыгадвае Дамейка. – Мы сядзелі яшчэ за сталом, калі пачулі спевы жней, што вярталіся з поля. Выйшлі на двор, дзе пачыналіся абходзіны дажынак. Там стаяў ужо доўгі стол, накрыты грубым абрусам. Ён быў застаўлены боханамі хлеба грубага памолу, сырам і бутэлькамі гарэлкі. Прыгожая маладая дзяўчына ў вянку з жытніх каласоў на галаве падышла разам з дзвюма паважнымі жанчынамі па баках да мяне і пакланілася. Я зняў, згодна са звычаем, з яе галавы вянок і перадаў гаспадыні дома, пацалаваўшы жней”.

## К.Ф.РЫЛЕЕЎ
(1795 – 1826)

Ваенны лёс паяднаў паэта-дзекабрыста К.Ф.Рылеева з нашым краем. Прапаршчык коннай артылерыі, выпускнік кадэцкага корпуса К.Ф.Рылееў у 1814 годзе прыняў удзел у замежным паходзе рускіх войскаў у Еўропу. Дарога на захад аднаго з самых актыўных і дэмакратычна-настроеных дзекабрыстаў пралягала і праз Брэст. У верасні 1814 г. батарэя, у якой служыў Рылееў, вярнулася з-за мяжы і размясцілася ў мястэчку Сталавічы. Тут батарэя папаўнялася новымі людзьмі і коньмі.

Звестак пра час знаходжання Рылеева ў Беларусі захавалася мала. Шмат што пра жыццё ў Сталавічах дае яго саслужбоўца А.І.Касоўскі. Ён прыгадвае, што Рылееў жыў у звычайнай сялянскай сям’і. Тут, “у мужыцкай хаце з паўсвятлом за простым рабочым сталом, на якім былі нагрувашчаны розныя кнігі, нават на лаўках пакоя, які ён займаў, шмат раскіданых папер, сшыткаў, скруткаў, рознага хламу”, малады афіцэр напружана працаваў. У Сталавічах клаліся на паперу яго думкі пра жыццё, пра грамадскае ўладкаванне Расіі. Тут пісаліся і вершы. Як прыгадвае той самы А.І.Касоўскі, з імі Рылееў знаёміў тых, з кім

давялося дзяліць армейскія нягоды.

Афіцэры ўвесь час былі занятыя муштрой. Рылееў ігнараваў службу. Не заўсёды з'яўляўся на вучэнні. Некаторы час гэта яму даравалася, бо ў яго падпарадкаванні не было салдатаў. Пагарджаў Кандрацій Фёдаравіч і вайсковай формай. Ва ўспамінах А.І.Касоўскага чытаем: "Сам жа ён увесь час насіў арыгінальны двухбортны сюртук светла-карычневага сукна, пад назвай піітычнага, самім ім прыдуманага, даўжыня якога да каленяў, з шырокімі рукавамі, з дзвюмя на грудзях кішэнямі, з некалькімі шнурамі і кутасікамі, а варатнік маленькі, адкладны, які адкрываў усю шыю; панталоны светла-шэрага сукна, але без чырвонай выпушкі і без штрыфаў, у якіх адзін раз па сваёй няўважлівасці выехаў ва фрунт, за што і быў арыштаваны. Шапка чорнага сукна своеасаблівага крою; боты насіў без падбораў, у большасці стаптаныя, нярэдка парваныя; туфляў і калош не меў." Гэтае апісанне сведчыць, што сярод вайсковага салдафонства Рылееў імкнуўся адстаяць права на сваю індывідуальнасць, асабовасць, пратэставаў супраць безаблічча, натоўпнасці.

Слушнасць нашых высноваў падкрэслівае і верш К.Ф.Рылеева той пары жартаўлівага характару:

*Друзья! Прошу спешите:*
*Я ожидаю вас!*
*Мракхаты осветите*
*Весельем в добрый час!*
*В сей хате вы при входе*
*Узрите стол стоит,*
*За коим на свободе*
*Ваш бедный друг сидит*
*В своём светло-кофейном,*
*Для смеха сотворенном*
*И странном сюртуке,*
*В мечтах,*
*С пером в руке!*
*Там кипа книжек рядом,*

*Любимейших лежат;*
*Их переплет не златом,*
*А внутрь добром блестит.*
*Заступа от неволи,*
*Любезные пистоли:*
*Шинелишко, сюртук,*
*Уздечка и муштук;*
*Ружьё – подарок друга,*
*Две сабли, как стекло,*
*Надёжная подпруга*
*И Косовско седло.*
*Вот всё, что прикрывает*



*Стенную черноту;*
*Вот всё, что украшает*
*Сей хаты простоту.*

Пры ўсёй жартаўлівасці з гэтага верша выразна вынікае інтэнсіўнае духоўнае жыццё, якое вёў Рылееў у Сталовічах.

Пасля некалькіх месяцаў жыцця паэта-дзекабрыста ў Парыжы ў апартаментах стрыечнага дзядзькі генерал-маёра, дзе малады афіцэр захапіўся творамі французскіх асветнікаў Русо, Мантэск'ё, Фур'е і інш., К.Ф.Рылееў шмат чытаў і на Баранавіччыне. Кнігі слалі маці і дзядзька. Рускі паэт актыўна ліставаўся з сябрамі і аднадумцамі, пасылаў ім свае вершы, у якіх выказваліся яго вальналюбівыя ідэі. Пачатак творчасці К.Ф.Рылеева даследчыкі звязваюць з 1820 г. Тым не менш выказваецца меркаванне, што ў Сталавічах леглі на паперу наступныя радкі:

*Чтобя младыегоды*
*Ленивым сном убил!*
*Чтоб я не поспешил*
*Под знамёна свободы!*
*Нет, нет, тому вовек*
*Со мною не случиться;*

*Тот жалкий человек,*
*Кто славой не пленится!*
*Кумир младой души,*
*Она меня, трубою*
*Будя в немой глуши,*
*Вслед кличет за собой*
*На берега Невы.*

У пачатку 1815 г. малады афіцэр К.Ф.Рылееў быў пераведзены ў Нясвіж. Нельга не пагадзіцца з С.Букчыным, што перавод у рэзідэнцыю князёў Радзівілаў спрыяў таму, што рускі паэт пачаў вывучаць польскую мову і пазней ведаў яе дасканала. Тут узнікла цікавасць да беларускай гісторыі, да яе вытокаў, да Полацкага княства і лёсу гордай Рагнеды. Ужо вядомым пісьменнікам, ён напіша свае думы "Рагнеда", "Глінскі", "Дзмітрый-самазванец" і інш. Жыццё ў вясковай хаце ў Сталовічах таксама не прайшло бясследна. Ён слухаў і палюбіў мясцовыя песні. Калі сасланы наш зямляк Адам Міцкевіч паявіўся ў паўночнай сталіцы, ён там быў прыхільна сустрэты лепшай часткай расійскага грамадства, у тым ліку і Рылеевым. Баранавіччына – радзіма Адама Міцкевіча. Ён цудоўна ведаў і любіў фальклор роднага краю і ў знакамітых салонах Пецярбурга спяваў песні Наваградчыны. Яму з ахвотаю падпяваў Рылееў. Гэтыя песні, трэба думаць, запалі яму ў душу ў Сталавічах. Невыпадкова К.Ф.Рылееў быў адным з першых перакладчыкаў Міцкевіча на рускую мову. Тыя рэаліі, якія жывілі паэзію нашага земляка, былі яму добра вядомымі і ў нейкай ступені

блізкімі.

Вальналюбства, палкі патрыятызм віленскай моладзі, іх творчасць цікавілі рускага паэта. У 1822 г. выйшаў зборнік вершаў Адама Міцкевіча, Рылееў паспяшаўся пазнаёміцца з ім. Агульнавядома, што, калі апальны паэт быў высланы ў глыб Расіі і яму было забаронена жыць на радзіме, трапіўшы ў паўночную сталіцу Расійскай імперыі, асаблівую падтрымку меў найперш ад А.Бястужава і К.Рылеева. Гэта яны далі нашаму выдатнаму паэту-рамантыку рэкамендацыйны ліст у Адэсу да свайго сябра, каб падтрымаў ссыльных філаматаў. Асаблівы клопат дзекабрыстаў быў пра аўтара "Свіцязянкі". За яго прасіў і А. Бястужаў, але Рылееў палічыў патрэбным дадаць і ад свайго імя: "Палюбі Міцкевіча і яго сяброў, добрыя і слаўныя хлопцы. Пра гэта і пісаць няма патрэбы: па пачуццях і характару іх думак яны ўжо сябры, а Міцкевіч да таго ж паэт – любімца нацыі сваёй...".

## ПАЎЛЮК БАГРЫМ
(1812 – 1891)

Трагічная гісторыя Беларусі, калі яе народ на працягу некалькі стагоддзяў быў пазбаўлены дзяржаўнасці сваёй мовы, нарадзіла вакол постацей многіх дзеячаў культуры шмат легендаў. Урэшце самі яны станавіліся легендамі, сімваламі трагічнага лёсу беларускага народа. Да іх ліку належыць постаць пісьменніка пазамінулага стагоддзя з Крашына – Паўлюка Багрыма.

Пачаў пісаць гэтую легенду зямляк Паўлюка Багрыма адвакат з Навагрудка, удзельнік паўстання 1830 – 1831 гг. на выгнанні Ігнат Яцкоўскі. У 1854 годзе ён апублікаваў у Лондане ўспаміны "Аповесць майго часу, або Літоўскія прыгоды", праз чатыры гады іх перавыдаў.

Сутнасць легенды, звязанай з імем Паўлюка Багрыма, заключалася ў наступным. Калі мясцовы пан Станіслаў Юрага ў 1828 годзе задумаў запрыгоніць крашынцаў, якія спрадвеку былі вольнымі людзьмі, тыя ўзбунтаваліся. У мястэчку з'явіліся вайскоўцы, каб "уціхамірыць" бунтаўшчыкоў. У гэтым паўстанні прымала ўдзел сям'я мясцовага каваля Багрыма. Пачалося следства. Следчыя выйшлі на дзейнасць касцельнай школкі, якая з'яўлялася, на іх думку, рассаднікам бунтарскіх ідэй. Мясцовы ксёндз, каб неяк апраўдацца, што школка найперш далучае дзяцей да прыгожага, папрасіў аднаго свайго вучня, якога асабліва любіў за талент, каб той прачытаў перад следчымі свае вершы. Ім аказаўся Паўлюк Багрым. Ён прынёс з сабою сшытак з вершамі і адзін з іх прачытаў. Следчыя сшытак у падлетка адабралі і ўзялі з яго падпіску, што ніколі больш ні пісаць, ні чытаць вершаў не будзе. У хуткім часе падлетак быў здадзены на 25 гадоў у рэкруты. Вярнуўся на радзіму старым і адзінока, бабылём, дажываў сваё жыццё. Пасля вяртання з салдатчыны Паўлюк Багрым заняўся кавальствам, як і яго бацька. Ён аказаўся таленавітым кавалём-мастаком. Сведчанне таму –выкаваная ім жырандоля ў Крашынскім касцёле незвычайнай красы – на круглай раме жаўрукі ў імклівым палёце і бутоны кветак, якія вось-вось зацвітуць. Так і застаўся ўгісторыі беларускага прыгожага пісьмен-



ства паэт з Крашына аўтарам аднаго верша “Зайграй, зайграй, хлопча малы...”, які па памяці быў адноўлены І.Яцкоўскім.

Постаць самародка з Крашына, паэта і каваля, не магла не цікавіць даследчыкаў літаратуры. Паступова яны ўносілі карэктывы ў гэтую легенду, і постаць Паўлюка Багрыма канкрэтызавалася, набліжаючыся да яго рэальнага жыццяпісу. Істотнае ўдакладненне ва ўспамінах Яцкоўскага ўнёс яшчэ ў 1913 г. А.Янулайціс, апублікаваўшы пра Паўлюка Багрыма артыкул у альманаху “Маладая Беларусь”. Аўтар гаворыць, што ў артыкуле выкарыстаны дакументы пра тое, што адбылося ў Крашыне ў 1828 г. На жаль, А.Янулайціс гэтых дакументаў не называе. На маю думку, асабліва цікавымі ў публікацыі з’яўляюцца звесткі пра ксяндза Войцеха Магнушэўскага. Яны вытлумачваюць цікавасць Паўлюка Багрыма да беларускай літаратуры і жаданне пісаць на роднай мове. Войцех Магнушэўскі быў чалавекам высокай адукацыі і культуры, раз Мацей Радзівіл, аўтар лібрэта першай беларускай оперы “Агатка”, наняў яго настаўнікам для сваіх дзяцей – Канстанціна і Антаніны.

Калі патрэбы ў настаўніку не стала, князь Радзівіл справадзіў Войцеха Магнушэўскага ксяндзом у Крашын – у адну з багатых
на той час парафій. Там адбылося яго збліжэнне з сялянамі.

Вось што пісаў пра Магнушэўскага А.Янулайціс: “Аб сабе ён мала думаў, для сябе многа не вымагаў. Быўшы адзінокім, зжыўся са сваімі людзьмі, звыкся з імі, пераняў мову (тут і далей выдзелена мною – В.З.), спрацеў, як аб ім казалі гарадскія і дворныя паны ды дзіваваліся, што ён гаварыў “мужыцкімі” прыказкамі і прыгаворкамі”.

Новае слова пра Паўлюка Багрыма сказаў І.С.Бас у працы “Літаратурныя пошукі, знаходкі, даследаванні” (1969). На падставе архіўных матэрыялаў пра крашынскі бунт і чытанне вершаў Паўлюка Багрыма, якія захоўваюцца ў Вільні, Гародні і Маскве, ён упершыню вызначыў прыкладную дату нараджэння паэта – 1813 г., увёў у навуковы ўжытак імя яго бацькі – Восіп, пераканальна паказаў, што сям’я мясцовага каваля не прымала ўдзелу ў паўстанні крашынцаў. Гэты даследчык засведчыў, што Павел Багрым у 1828 годзе не быў вучнем мясцовай школы, а ўжо служыў пры Магнушэўскім. І.С.Бас абнародаваў таксама матэрыялы, з якой жорсткасцю было падаўлена выступленне крашынцаў супраць Юрагі царскімі ўладамі: 37 чалавек аддадзена пад суд, 31 з іх быў прысуджаны да прагнання празстрой салдатаў, а кіраўнікі Камінскі, Ермакоўскі, Шышлоўскі былі прыгавораны да пакарання бізуном у 51 удар і ссылкай на катаргу. Гарадзенскі губернатар узмацніў пакаранне, бо і іншых крашынцаў чакала сібірская высылка. Паўлюк Багрым добра ведаў пра настрой сваіх землякоў: асобныя сялянскія кіраўнікі служылі пры касцёле, як і ён сам.

Асабліва выразна паказана І.С.Басам школа ксяндза Войцеха Магнушэўскага: мэты навучання, прыкладны яго змест, асобы настаўнікаў. У школе вучыліся хлопчыкі і дзяўчынкі, вучыліся не проста чытаць і пісаць, лічыць, а былі далучаны да антычнай культуры, ведалі польскую літаратуру, айчынную гісторыю, знаёміліся і з беларускімі творамі, якія распаўсюджваліся вусна. Настаўнікі Мацей Парфімовіч і Георгій Арлоўскі выхоўвалі ў сваіх вучняў дух свабода-

любства, далучалі да літаратуры антыпрыгоннага зместу, знаёмілі з гісторыяй, разважалі пра прывілеі, вольнасць.

І.С.Бас удакладніў уяўленне і пра асобу самога паэта. Развеялася легенда, што Паўлюк Багрым быў звычайным сялянскім хлопчыкам-пастушком. На самой справе падлетак для таго часу належаў да досыць адукаваных людзей. “Мяркуючы па выказваннях Магнушэўскага і Арлоўскага, Багрым многа чытаў, – разважае даследчык. - Акрамя сучасных яму аўтараў, ён ведаў і старагрэчаскіх, у прыватнасці Эзопа, быў знаёмы з творамі Нарушэвіча – выдатнага польскага гісторыка, паэта другой палавіны XVIII стагоддзя”. І.С.Бас апублікаваў матэрыялы, якія пацвярджаюць, што сям’я Багрымаў была незапрыгоненай, што падлетак ведаў на памяць шмат твораў, што меў сшытак з вершамі (праўда, як гаварыў на допытах, чужымі, ім перапісанымі), што сапраўды ад яго ўзялі падпіску не чытаць і не распаўсюджваць вершы. І.С.Бас прыйшоў да высновы, што верш “Зайграй, зайграй, хлопча малы...” быў напісаны паэтам пазней, а не адразу пасля бунту крашынцаў. Усё, што ў ім асэнсавана, мае біяграфічны характар.

Доўгі час так і лічылася, што верш Паўлюка Багрыма “Зайграй, зайграй, хлопча малы...” аўтабіяграфічны, што ён – ілюстрацыя лёсу як самога Багрыма, так і яго сям’і. А.А.Лойка ў “Гісторыі беларускай літаратуры. Дакастрычніцкі перыяд. Частка І“ (1977) упершыню выказаў думку пра тое, што ў аснове верша “Зайграй, зайграй, хлопча малы...” найхутчэй ляжыць мастацкая тыпізацыя, а не асабісты лёс паэта. Падставы для такога вываду ёсць у архіўных знаходках І.С.Баса: пакаралі бізунамі, шпіцрутэнамі, катаргай не толькі дарослых крашынцаў, але і падлетка Казіміра Камінскага, якому вынеслі такі прысуд: “...улічваючы яго малады ўзрост, аддаць у ваенную службу, калі ён акажацца да яе здольным, у адваротным жа выпадку таксама саслаць у Сібір на пасяленне”.

Так і заставаўся Паўлюк Багрым сімвалам трагедыйнага лёсу беларускіх талентаў аж да 1988 года, да публікацыі Язэпа Янушкевіча “Ледзьве здымкі ўратаваў... Новае пра сям’ю Паўлюка Багрыма” (ЛіМ. 1988. 4 лістапада). У ёй на падставе касцельных матэрыялаў дакладна ўстаноўлена дата нараджэння Паўлюка Багрыма – 14 лістапада 1812 года, а з шлюбных царкоўных актаў сталі вядомыя імёны жонкі паэта – Карнэліі Шышлоўскай і блізкіх яму людзей, якія былі сведкамі ў час шлюбу. З’явіліся звесткі пра бацькоў, шырэй – пра сям’ю крашынскага каваля, пра гады іх нараджэння і смерці.

Напярэдадні 180-годдзя з дня нараджэння Паўлюка Багрыма ў Крашыне адбыліся чытанні, прысвечаныя памяці паэта. Вядомыя вучоныя і мясцовыя краязнаўцы ўнеслі некаторыя новыя ўдакладненні ў біяграфію Паўлюка Багрыма. Янушкевіч Язэп пашырыў уяўленне пра той перыяд жыцця паэта, калі ён узяў шлюб з Карнэліяй Шышлоўскай, адзначыўшы, што канчаў сваё жыццё Паўлюк Багрым досыць заможным чалавекам, у якога пазычаў грошы нават мясцовы пан. Сёння вядома, што Паўлюк Багрым не быў самотнікам, не быў занядбаным. Гадаваўся ён у сям’і, дзе было пяцёра хлопцаў і дзве дзяўчынкі. Пасля шлюбу з прыгажуняй Карнэліяй Шышлоўскай былі ў Паўлюка Багрыма і свае дзеці: два сыны і дачка. Яго залатыя рукі, працавітасць і талент давалі



магчымасць жыць прыстойна.

Напярэдадні чытанняў баранавіцкі краязнаўца М.Маліноўскі ў раённай газеце "Наш край" паставіў пад сумненне аўтарства Паўлюка Багрыма верша "Зайграй, зайграй, хлопча малы...", і выявіў свае дэструктыўныя адносіны да набыткаў у багрымазнаўстве. Сваю пазіцыю спрабаваў адстойваць у час чытанняў. Гэтай думкі трымаецца і цяпер, хоць пераканальных аргументаў для яе пацверджання не мае. Навуковыя сумненні патрабуюць салідная аргументацыі. Прасцей за ўсё сказаць, што верш "Зайграй, зайграй, хлопча малы..." не Багрымаў. Ніхто, аднак, у тым ліку і спадар М. Маліноўскі, не зможа даказаць, што твор быў напісаны не крашынцам: у вершы ёсць радкі: "У Крашыне жыць не буду". Тым больш, як пераканальна паказаў настаўнік-краязнаўца Васіль Дубейка ў дакладзе на гэтай самай канферэнцыі, Крашын – гэта не вёска, нават не мястэчка ў звычайным разуменні. У паселішча даўняя гісторыя і свая культурная традыцыя. Яны падрыхтавалі ўрадлівую глебу, на якой закрасаваў такі талент, як аўтар верша "Зайграй, зайграй, хлопча малы...".

Матэрыялы следства аб чытанні Паўлюком Багрымам вершаў бунтарскага зместу пераканальна сведчыць, што толькі ён у Крашыне мог напісаць такі твор. Паўлюк Багрым быў для свайго часу адукаваным чалавекам, ведаў і любіў літаратуру. Нельга сур'ёзна лічыць, што той, хто сам не піша, будзе перапісваць чужыя вершы, завучваць іх на памяць і дэкламаваць. У якасці важкага аргумента на карысць таго, што верш "Зайграй, зайграй, хлопча малы..." Багрымаў, і тое, што ксёндз Войцех Магнушэўскі лічыў падлетка таленавітым і за гэта вельмі любіў.

Падсумоўваючы сказанае, адзначым: на сённяшні дзень больш-менш вывучаны першыя 16 гадоў жыцця (1812 – 1828) таленавітага паэта і каваля, акрэсліваецца дзякуючы намаганням Язэпа Янушкевіча той перыяд, які прынята ўмоўна называць "Пасля вяртання з салдатчыны (1864 – 1891). Патрабуюць удакладненняў і пошукаў 36 гадоў жыцця Паўлюка Багрыма: 1828 – 1864 гг., у тым ліку і рэкруцтва паэта з Крашына, а таксама высвятлення, куды і як знікла сям'я паэта і каваля.

Паўлюк Багрым застаўся ў гісторыі беларускай літаратуры аўтарам аднаго верша "Зайграй, зайграй, хлопча малы...", але верша, які сведчыць пра вялікі мастацкі патэнцыял паэта. Невыпадкова гэты твор на рускую мову перакладалі Дз.Бродскі і В.Уладзіміраў, на ангельскую – Вера Рыч, на ўкраінскую – Р.Лубікоўскі.

Верш "Зайграй, зайграй, хлопча малы..." – гэта лірычны маналог падлетка, прыгоннага пастушка. Ён належыць жорсткаму пану, які закатаваў яго бацьку. Бязрадасная цяпершчына ў героя верша, а яшчэ больш змрочная будучыня: яго чакае рэкрутчына на 20-25 гадоў у далёкай Расіі, сярод чужых. Лірычны герой верша не проста панскі пастушок, а яшчэ і народны музыка. Гэтая характарыстыка не развіта ў творы, але яна намечана выразна – "я зайграю ў дуду" – народны інструмент, на якім выконваліся ўасноўным сумныя мелодыі.

Прыгонны падлетак надумаўся пакінуць сям'ю (маці з сястрою), родны дом, пайсці "ў свет, у бездарожжа", каб пазбегнуць тых страшных выпрабаван-

няў, якія чакаюць яго наперадзе і якія наканаваны яму прыгонам, яго поўнай залежнасцю ад пана і ўладаў. У невядомым свеце чакае таксама шмат цяжкасцей, але і ёсць нейкая кволая надзея на лепшае, якой няма ў рэкрута. 25 гадоў сапраўднай катаргі – гэта ўсе лепшыя гады чалавечага жыцця.

Лірычны герой – не пасіўная натура. Ён спрабуе знайсці выйсце з безвыходнасці і не знаходзіць яго. Падлетак-пастушок нават гатовы стаць ваўкалакам, перавярнуцца ў ваўка,захаваўшы чалавечую душу і чалавечае ўспрыманне навакольнага. Пакуты ваўкалака менш страшныя на радзіме, чым лёс рэкрута на чужыне, дзе не будзе табе нічога роднага і нават знаёмага, ніводнай душы, якая б табе паспачувала.

Лірычнае "я" паэта прыдумвае розныя сітуацыі і варункі, якія б маглі пазбавіць яго такой жудаснай перспектывы: нарадзіцца не чалавекам, а каршуном, навечна застацца недаросткам, калі б у дзяцінстве да яго дакрануўся (згодна з народным паданнем) сваім крылом кажан. І нарэшце, самае страшнае і жахлівае – зусім не нарадзіцца і тым самым вызваліць маці ад тых пакутаў, якія выпадуць на яе долю з-за трагічнага лёсу сына. Такім чынам, для лірычнага героя Паўлюка Багрыма характэрна жаданне супрацьстаяць неспрыяльным абставінам, змагчы іх, не скарыцца лёсу, а шукаць выйсце. Выйсця, аднак, няма, таму лёс лірычнага героя трагічны.

Прамова лірычнага героя Багрыма вызначаецца экспрэсіўнасцю, якая дасягаецца за кошт сродкаў сінтаксічнай выразнасці: паўтораў, зваротаў, воклічаў, рытарычных пытанняў, інверсіі, недамоўленасці. Верш Паўлюка Багрыма сведчыць пра апору аўтара на фальклор, на народную міфалогію. І гэта яднае беларускага паэта з Крашына з Янам Баршчэўскім і філаматамі-землякамі. Мае рацыю Люба Тарасюк, якая гаворыць, што "міфалагічны свет верша пазначаны змрочным каларытам. Да вобразаў ваўкалака і каршуна дадаецца ў заключнай страфе яшчэ і кажан, носьбіт ночы і чорнай сілы, што апаноўвае дзіця і не дае яму расці".

Уплыў песеннага фальклору на Паўлюка Багрыма таксама досыць відавочны ў вершы "Зайграй, зайграй, хлопча малы...". Аўтар выкарыстаў вобразы народных інструментаў (скрыпачкі, цымбалаў, дуды), памяншальна-ласкальныя суфіксы, сталыя звароты (пайсці ў свет, маці міла і інш.), клічны склон. Пра высокі талент Паўлюка Багрыма сведчыць і культура яго версіфікацыі. Верш цячэ плаўна, свабодна, часам толькі збіваецца з зададзенага рытму, што падпарадкавана паказу ўсхваляванасці лірычнага героя.

## УЛАДЗІСЛАЎ ГАЛУБОК

1882 г. даў нашаму народу, нашай літаратуры першага народнага паэта Янку Купалу, першага народнага пісьменніка Якуба Коласа і першага народнага артыста Уладзіслава Галубка. Апошні, на жаль, не так ганаруецца нашым народам, бо ён трапіў пад калясо рэпрэсавальнай машыны, якая дзейнічала ў 30-я гг. мінулага стагоддзя ў Беларусі. А некалі яго імя ведалі ці не ў кожнай глухой вёсцы БССР і ўспрымалі як найвялікшае свята, калі паказваліся вазы з



тэатральным начыненнем, а каля іх крочыў Галубок і яго галубіняты, як любоўна называлі ў народзе калектыў Беларускага вандроўнага тэатра.

Актор і рэжысёр, жывапісец і пісьменнік, грамадскі дзеяч і арганізатар тэатра, унук паўстанца, які стаў пад сцягі Кастуся Каліноўскага і змагаўся пад Мілавідамі, Уладзіслаў Галубок нарадзіўся ў 1882 г. у вёсцы Лясная, якая ў хуткім часе пасля пракладкі Маскоўска-Варшаўскай чыгункі стала станцыяй. Бацька ўладкаваўся на працу памочнікам паравознага машыніста, а дзеці заставаліся пры маці, якая, выконваючы спрадвечную працу сялянкі, спявала дзецям (а іх было шасцёра) песні, расказвала казкі, легенды.

Уладзіслаў найхутчэй не помніў сваю малую радзіму, бо быў немаўлём, калі сям'я Галубка пераехала ў Мінск. Бацька ўладкаваўся на працу слесарам у дэпо. Уладзіслаў вучыўся. Ён спачатку закончыў царкоўна-прыходскае вучылішча, а пазней паступіў у гарадское. Нечакана ў 1895 г. трагічна загінуў бацька. Падлетку патрэбна было не проста ісці на свой хлеб, а дапамагаць маці падымаць на ногі малодшых братоў і сясцёр. Уладзіслаў не цураўся ніякай працы: грузчык на чыгунцы, слесар лакаматыўнага дэпо, прыказчык у гандлёвай лаўцы. Адначасна займаўся самаадукацыяй, каб атрымаць пасведчанне за поўны курс гарадскога вучылішча. Калі Уладзіслаў Галубок працаваў на чыгунцы, ён пазнаёміўся з Альбертам Паўловічам, які служыў бухгалтарам у адным з чыгуначных упраўленняў. Той і ўвёў здольнага юнака ў літаратурнае асяроддзе. Наш зямляк пачынаў пасылаць свае апавяданні ў газету “Наша ніва”. Ён заявіў пра сябе пазней за сваіх аднагодкаў Янку Купалу і Якуба Коласа. Першы твор Уладзіслава Галубка датаваны 1908 г. З гэтага часу яго апавяданні сістэматычна друкуюцца ў гэтым выданні, і ў 1913 г. выходзіць зборнік “Апавяданні”. Імя пісьменніка з Лясной было заўважана тагачаснай крытыкай. Яго творы ў аглядзе беларускага краснага пісьменства за тры гады з 1911 па 1913 сталі аб'ектам ацэнкі Максіма Багдановіча, які адзначыў гумарыстычную прыроду таленту нашага земляка, жывасць мовы і актуальнасць і значнасць тэмаў апавяданняў.

Жыццё ў губернскім горадзе адкрыла юнаку з вёскі Лясная магчымасць пазнаёміцца з тэатрам, з жывапісам, спортам. Нарадзілася моцнае жаданне авалодаць майстэрствам пэндзаля. Уладзіслаў Галубок адкладвае грошы, каб можна было вучыцца маляванню. Юнак бярэ ўрокі ў мінскіх жывапісцаў і пачынае ствараць свае пейзажы. На жаль, на сёння дакладна вядомымі з'яўляюцца нямногія яго карціны: “Раніцай”, “Туман”, “Сож” і інш. Калі ў 1937 г. мастак з Баранавіччыны быў арыштаваны як вораг народа, яго палотны былі забраны і звезены ў НКУС, там запрасілі мастака, якому было загадана імя аўтара зафарбаваць.

Прырода надзяліла Уладзіслава Галубка рознымі талентамі. Іх рэалізаваць цалкам спрыяла такая рыса яго характару, як незвычайная працавітасць. Пачынаючы з 1917 года, галоўнае месца ў жыцці Уладзіслава Галубка пачынае займаць тэатр. Ён становіцца акторам і рэжысёрам Першага беларускага таварыства драмы і камедыі. Недахоп нацыянальнага рэпертуару выклікае неабходнасць самому ўзяцца за напісанне п'есаў. Адна за адной (праўда, у Вільні)

выходзяць п’есы нашага земляка: “Апошняе спатканне” (1919), “Суд” (1924), якая была годам пазней выдадзена і ў Мінску.

Пяру Уладзіслава Галубка належыць сорак драматычных твораў на гістарычныя, гісторыка-рэвалюцыйныя, бытавыя сюжэты. Не ўсе яны сёння вядомыя. У апошнім выданні (1983 г.) выбраных твораў, якое падрыхтаваў і напісаў прадмову Сцяпан Лаўшук, іх значыцца 13. Асаблівай папулярнасцю ў тагачаснага гледача карысталіся п’есы творцы з Лясной “Ганка”, “Пан Сурынта”, “Пісаравы імяніны”, “Культурная цешча”, “Душагубы” і інш. У іх уздымаюцца спрадвечныя праблемы дабра і зла. Гэта былі ці то меладрамы, ці то камедыі, у тым ліку і сатырычнага характару.

Творчая актыўнасць Уладзіслава Галубка як пісьменніка, як аўтара вершаў, апавяданняў, п’есаў прывяла яго ў тагачаснае масавае літаратурнае аб’яднанне “Маладняк”. Атмасфера, якая панавала ў гэтым аб’яднанні, прынцып пралетарскага авангардызму, якога прытрымліваліся маладнякоўцы, іх лозунг “Са старымі – у рожкі” прывялі да расколу гэтай арганізацыі. Уладзіслаў Галубок пакідае “Маладняк” і ўступае ў “Полымя”, сябрамі якога былі Янка Купала, Якуб Колас, Цішка Гартны і інш.

Арганізацыйныя здольнасці нашага земляка, свой погляд на ролю тэатра ў грамадстве, прынцыпы яго дзейнасці былі прычынай таго, што ён стварыў свой тэатральны калектыў – Трупу беларускіх артыстаў пры Беларускім рабочым клубе, які пазней перарос у Беларускі дзяржаўны вандроўны тэатр (1920 – 1932). Праца ў гэтым тэатры была зорным часам Уладзіслава Галубка. Яму ўдалося аб’яднаць калектыў аднадумцаў, якія былі гатовыя да нязручнасцей тэатральнага дзейства і нягодаў побытавага характару, бо ўсё гэта кампенсавалася шчырай захопленасцю, жывой рэакцыяй слухачоў на іх спектаклях і канцэртах. У тэатры працавала ўся сям’я: жонка Ядвіга Браніславаўна і дзеці, а іх у сям’і гадавалася шасцёра (тры дзяўчынкі і тры хлопчыкі). Дарэчы, усе сыны нашага слыннага земляка загінулі ў час Вялікай Айчыннай вайны, абараняючы радзіму. Артыстамі ў тэатры Галубка былі пісьменнікі Васіль Сташэўскі, Міхась Чарот, Алесь Дудар, Іларыён Барашка.

А між тым краіна ўступала ў жахлівы час беззаконня, расправы з нацыянальнай інтэлігенцыяй і сялянамі. Не мінулі яны і Уладзіслава Галубка. Вандроўны тэатр спыняе сваю дзейнасць. Ён быў ператвораны ў БДТ-3 са сталай базай дзейнасці ў Гомелі (1932) і згубіў не толькі сваю спецыфіку, але і гледача. На самога Уладзіслава Галубка пачаліся нападкі ў друку, абвінавачванне ў нацыяналізме, у варожасці да савецкай улады. Ён адхіляецца ад кіраўніцтва трупай, фактычна спыняе сваю дзейнасць паэта, апавядальніка, драматурга і пачынае займацца публіцыстыкай і тэатразнаўствам, піша шэраг артыкулаў, прысвечаных дзесяці- і пятнаццацігоддзю Вандроўнага тэатра. Спрабуе ісці на кампраміс з уладамі, піша артыкулы “Формула рэвалюцыі”, “За аўладанне бальшавізмам” адпаведна адзіныя ў 1936 і 1937 гг. Лёс Уладзіслава Галубка быў ужо прадвырашаны. У 1937 г. яго арыштавалі і расстралялі. Рэабілітаваны ў 1957 г. Каб схаваць масавую гібель людзей, НКУС фальсіфікаваў час і прычыну смерці. У справе нашага земляка значылася, што памёр ад гіпертанічнага крызу ў 1942



годзе. Пазней была ўстаноўлена прычына смерці, хоць месца расстрэлу і сёння невядомае.

Пасля рэабілітацыі пачалося паступовае вяртанне Уладзіслава Галубка ў гісторыю беларускай культуры. Была выдадзеная яго творчая спадчына: вершы, апавяданні, п'есы, публіцыстыка. Пачалі з'яўляцца асобныя працы, прысвечаныя яго жыццю і творчасці. У Мінску ў Траецкім прадмесці адчыняецца грамадская гасцёўня імя Галубка.

Не забылі пра свайго знакамітага земляка і на Баранавіччыне. Намаганнямі кіраўніцтва раёна і сельсавета ў вёсцы Лясная ўстаноўлены памятны знак. На валуне, які ўзвышаецца на пастаменце, на мурмуровай шыльдзе значыцца надпіс:

УЛАДЗІСЛАВУ ГАЛУБКУ

Выдатнаму грамадскаму дзеячу, драматургу, паэту, акцёру, мастаку ад удзячных нашчадкаў

Нарадзіўся
ў в. Лясная
3(15).5.1882 г.
Рэпрэсаваны
ў 1937 г.
7.3.1942 г.

## АЛЕСЬ ГАРУН
## (1887 – 1920)

Алесь Гарун належыць да пісьменнікаў-нашаніўцаў, творцаў адраджэнскага тыпу, якія пакідалі значны след у многіх галінах чалавечай дзейнасці. Алесь Гарун выступаў як паэт, празаік, драматург, быў асветнікам, грамадскім і палітычным дзеячам. Ён памёр ва ўзросце Ісуса Хрыста.

Калі Алесю Гаруну было ўсяго дваццаць гадоў, за ўдзел у рэвалюцыі 1905 – 1907 гг. ён быў арыштаваны і сасланы ў Сібір. Там адпакутаваў дзесяць гадоў свайго жыцця і вярнуўся ў Мінск толькі ў 1917 г. пасля Лютаўскай рэвалюцыі і адразу актыўна ўключыўся ў грамадска-палітычнае і культурна-асветнае жыццё. Алесь Гарун быў адным з тых, хто непасрэдна прычыніўся да аднаўлення дзяржаўнасці Беларусі.

Выдатнаму сыну Бацькаўшчыны час адмераў надзвычай кароткі час пашчыраваць на яе карысць, ды і ва ўсёй красе і сіле не суджана было раскрыцца яго таленту. Пачатак творчасці аўтара зборніка “Матчын дар” прыпадае на 1905 год. Ім датаваны першы вядомы твор Алеся Гаруна паэма “На каляды”. Вершы паэта пачалі з'яўляцца на старонках “Нашай нівы” з 1907 г. З той пары з далёкай Сібіры ў гэтае выданне ішлі творы паэта, якія вызначаліся высокай паэтычнай культурай вершаванага радка, што было заўважана і адзначана Максімам Багдановічам у аглядзе беларускай краснай пісьменнасці за 1913 год.

Алесь Гарун (сапраўднае прозвішча пісьменніка Прушынскі) нарадзіўся ў

1887 г. у вёсцы Новы Двор пад Мінскам, якая даўно ўжо ўвайшла ў межы сталіцы Беларусі, у сям'і чарнарабочых. Калі юнака за ўдзел у рэвалюцыйным змаганні судзілі, то ён працаваў ужо столярам на адной з мінскіх мэблевых фабрык. У ходзе следства высветліўся сапраўдны сацыяльны статус Алеся Гаруна. Яго бацькі – сяляне з Наваградчыны. Бацькава радзіма – вёска Пастарынне. Сучасныя даследчыкі выказваюць меркаванне, што Прушынскія належылі да збяднелай шляхты, але пацвердзіць сваё шляхецтва не здолелі дакументальна, і расійскімі ўладамі былі пераведзены ў сялянскае саслоўе.

Яшчэ Максім Гарэцкі ў першым выданні "Гісторыі беларускай літаратуры" адзначаў, што на фармаванне Алеся Гаруна як пісьменніка выключны ўплыў аказала вёска, дзе ён праводзіў летні час, дзе быў уключаны ва ўсе віды сялянскай працы, дзе далучаўся да духоўнага жыцця беларусаў, іх культуры. У многіх творах паэта праходзіць думка пра яго любоў да вёскі, пра сваю знітаванасць з ёю, згадваюцца сялянскія клопаты, гора і радасць вясковых працаўнікоў. У далёкай Сібіры беларуская вёска паўставала ў паэтавым уяўленні, і на паперу кладіся радкі, у якіх сельскае паселішча малявалася ў дарагіх для аўтара дэталях.

Для вершаў Алеся Гаруна характэрна не проста апісанне вёскі, яе праблемаў, людскіх тыпаў, характараў, але і свет народных паданняў, песняў, казак. Заўважым, што вершы пісаліся ці то ў турме, ці ў далёкай Сібіры. Паэт не мог карыстацца запісамі фалькларыстаў. Легенды, песні, паданні, абрады, вераванні былі ўжо навечна прапісаны ў яго сэрцы, з яго, пераплаўленыя, і выліваліся ў вершах. Варта згадаць такія з іх, як "Бабуля, казку!", "Лябёдачка-дзяўчыначка", "Сірочая песня", "Разваж, чаго зеляненькі", "Смерць Паўлючонка" і інш.

Якая беларуская вёска мела такі вялікі ўплыў на пісьменніка? Большасць даследчыкаў і краязнаўцаў (У.Казбярук, А.Майсейчык, У.Лебедзеў, М.Маліноўскі і аўтар гэтых радкоў) схіляюцца да думкі, што такой вёскай з'яўляецца Пастарынне. Даследчык творчасці аўтара "Матчын дар" Ю.Гарбінскі лічыць, што ёю з'яўляецца вёска Новы Двор, дзе нарадзіўся паэт. Прыняць перакананне апошняга навукоўца нельга па некалькіх прычынах. Няма падстаў ігнараваць думку Максіма Гарэцкага, які адзначаў, што Алесь Гарун на лета выязджаў да сваякоў. З Новага Двара не было патрэбы некуды ехаць: там жылі бацькі паэта, там ён жыў і вучыўся. Паэт не проста апісаў вёску, а пакінуў своеасаблівыя яе арыенціры. Побач ля таго паселішча, якое гадавала талент Алеся Гаруна, былі бор, рэчка, могілкі (вершы "Хатка", "На сяло", "Гэй жа, мая вёска!", "Успаменні"). У апошнім творы ёсць такія радочкі:

А на горцы там па-над вёскаю
Стаіць цэркаўка, ад год шэрая;
А ля цэркаўкі пад бярозамі
Спяць у могілках людзі старыя.

Менавіта недалёка ад вёскі Пастарынне стаіць яшчэ бор, можна ўбачыць і рэчачку, на ўзгорку – могілкі, на якіх значацца магілы з прозвішчам Прушынскія. Напэўна, гэта было досыць распаўсюджанае прозвішча на Баранавіччыне, бо не так даўно на тэрыторыі раёна значылася паселішча – Прушынава. Жы-



вуць яшчэ Прушынскія і ў Пастарынні, і некаторыя нават лічаць сябе сваякамі Алеся Гаруна.

Ёсць яшчэ адзін аргумент на карысць таго, што "роднай вёскай", "мілай вёскай" для паэта было Пастарынне – мова яго твораў. Уладзімір Казбярук падкрэслівае, што "Алесь Гарун выхоўваўся ў заходнім (можа, нават у паўночна-заходнім) беларускім моўным асяроддзі, аб чым сведчаць некаторыя лексічныя і марфалагічныя асаблівасці мовы яго твораў ("ні", "ніхай", "тваеї", "тваёга", "па свіці", "смокчэ", "небо", "прыпарыло, нахмурыло, ударыло"). Гэтыя моўныя асаблівасці якраз і належаць Гродзенска-Баранавіцкай падгрупе паўночна-заходняга дыялекту. Таму ўсё-такі ёсць больш аргументаў на карысць таго, што вясковыя ўражанні Алеся Гаруна з Баранавіччыны.

Пад ранняй паэмай Алеся Гаруна "Мае коляды" стаіць час і месца яе напісання. Уладзімір Казбярук заклікаў краязнаўцаў шукаць вёску, дзе пісаўся твор, і падказваў, як даказаць, што менавіта яна звязана з імем паэта. "З біяграфіяй будучага пісьменніка, – адзначыў вучоны, – звязана яшчэ адна геаграфічная назва. Пад паэмай "Мае коляды", што датуецца студзенем 1905 г., мы знаходзім назву вёскі Капанікі. Задача даследчыкаў сказаць, што гэта за населены пункт і ці не жыў там хто-небудзь з Прушынскіх ці Жывіцаў". (Жывіца – прозвішча маці паэта Соф'і Іванаўны). Гэтае прозвішча выкарыстоўваў пісьменнік у якасці яшчэ аднаго свайго псеўданіма. У Вялікалуцкім сельсавеце ёсць вёсачка з назвай Капані. Яе краязнаўца М.Маліноўскі дэкляруе як тую, што звязана з імем Алеся Гаруна, аднак ніяк не аргументуе, што Капані і Капанікі адна і тая самая вёска і што яна звязана з імем паэта. Да вайны там жыло 63 чалавекі. Фашысты спалілі вёску, загінула 17 чалавек. Сярод іх Жывіц няма, як іх няма сярод жыхароў Баранавіцкага раёна. Затое шмат у вёсцы Пастарынне людзей, якія маюць прозвішча Жывула. Жывіцы і Жывулы – прозвішчы, блізкія адзін да аднаго па сваім значэнні, але не тоесныя. Патрэбны дадатковыя пошукі, каб удакладніць, якія яшчэ мясціны, апрача Пастарыння, асвечаны прысутнасцю Алеся Гаруна, ці звязаны яны з нашым краем. Адназначна, аднак, ёсць усе падставы сцвярджаць, што вёсцы Пастарынне ў паэтычным свеце аўтара кнігі "Матчын дар" належыць значнае месца, як і яе рэгіянальным адметнасцям.

## КАНСТАНЦЫЯ БУЙЛО
(1893 – 1986)

Недалёка ад мястэчка Гарадзішча ёсць вёска Горнае Скробава. Сюды ў 1912 годзе прыехала працаваць хатняй настаўніцай Канстанцыя Буйло. Дзяўчына пісала беларускія вершы, друкавалася на старонках "Нашай нівы", ведала многіх энтузіястаў-адраджэнцаў, сябравала з Уладзіславай Станкевіч.

Пасля заканчэння настаўніцкіх курсаў Канстанцыя Буйло шукала любы заробак і ахвотна прыняла запрашэнне памешчыка Дзеўчапольскага падрыхтаваць сына Толю да паступлення ў гімназію. Памешчык шукаў менавіта дзяўчыну, бо дзіця нядаўна страціла маці. Ён спадзяваўся, што душэўныя раны сына

ў такой сітуацыі будуць гаіцца лягчэй.

У сваёй аўтабіяграфічнай паэме “На траскіх гацях” паэтка раскрывае тое асяроддзе, у якое яна трапіла ў маёнтку. Дзеўчапольскія належалі да беларускай радавітай шляхты. Памяць пра свой род тут высока шанавалася. Дзеўчапольскаму былі характэрны шляхецкая ганарлівасць, пагарда да ўсіх, хто займаў у грамадстве ніжэйшую за яго сацыяльную прыступку, хоць у цэлым ён быў чалавекам нядрэнным. З часам ацаніў педагагічныя здольнасці маладой настаўніцы, якую так палюбіў яго сынок Толя.

У Горным Скробаве Канстанцыя Буйло вучыла не толькі Толю Дзеўчапольскага, але і сыноў панскага эканома. Пазней паэтка тлумачыла гэта педагагічнымі меркаваннямі – “каб зручней было вучыцца” гаспадароваму сыну. У той самы час гаспадар быў перакананы, што роўнасці ў нашчадка радавітай шляхты не можа быць з дзецьмі эканома. Аднойчы ён не вытрымаў і выказаў свае прэтэнзіі да настаўніцы. У лісце да краязнаўцы Алеся Шоцкага, які першы адкрыў сувязь паэткі з Баранавіччынай і ліставаўся з ёю, К.Буйло пісала: “Памешчык Дзеўчапольскі... рабіў мне заўвагу, што я падаю руку яго эканому, швачцы і іншым сялянам, якія прыходзілі да яго па справах і гадзінамі стаялі ля дзвярэй. Я з гордасцю адказвала: я – народная настаўніца і беларускі паэт, я сябрую з народам і працую дзеля яго. Мне было б сорамна ставіць сябе не на роўні з імі”.

Такім чынам, у Горным Скробаве пад адной страхой сышліся людзі розных ідэалаў. Гэта не магло не прывесці да пэўных непаразуменняў. Сутычка, аднак, не перарасла ў такі канфлікт, каб Канстанцыя Буйло пакінула Дзеўчапольскага. Прычынаў было шмат. Найгалоўнейшая – у Горным Скробаве паэтка мела надзейны кавалак хлеба, які губляць было рызыкоўна. З часам дзяўчына зразумела, што і ёй гарачыцца і праяўляць максімалізм нявартa. Была яшчэ адна прычына, з якой нельга было не лічыцца: яна палюбіла свайго выхаванца, адчула адказнасць за яго лёс. Толя плаціў ёй узаемнасцю. Адносіны сына да маладой настаўніцы выразна ўсведамляў і бацька і не мог ігнараваць сынавы пачуцці, які нядаўна перажыў невымернае гора – смерць маці. Яму давялося ўмерыць сваю шляхецкую пыху.

Панскую сядзібу атуляў вялізны стары цяністы парк. Дзяўчыну, аднак, вабіў прастор, які адкрываўся вачам за маёнткам. А.Шоцкі адзначае, што К.Буйло некалькі разоў наведвала радзіму П.Багрыма Крашын, пабывала ў Завоссі, Туганавічах, на Калдычэўскім возеры – у мясцінах, звязаных з жыццём філаматаў і філарэтаў. З перапіскі Алеся Шоцкага з Канстанцыяй Буйло вынікае таксама, што на Баранавіччыне ёй добра працавалася. У адным з лістоў пісала: “А ў Горным Скробаве (толькі не ў вёсцы, а ў маёнтку Дзеўчапольскага) я напісала шмат вершаў, між іншым і п’есу “Сягоннішнія і даўнейшыя” (яна ставілася на сцэне ў Мінску ў той час), і п’есу “Кветка папараці” (яна апублікавана ў маёй кнізе “Курганная кветка”).

Як вынікае з гэтага ліста паэткі, некаторыя вершы, напісаныя ў Дзеўчаполлі, маглі ўвайсці ў зборнік “Курганная кветка”, які выйшаў з друку ў 1914 г. У “Выбраных творах” Канстанцыі Буйло такіх твораў, на нашу думку, няма.



Спынімся на тых, якія паэтка сама аднесла да ліку напісаных на Баранавіччыне. У аснову фантастычнага абразка ў адной дзеі “Кветка папараці” пакладзена народная легенда пра пошукі шчасця ў купальскую ноч. Дзейнымі асобамі твора з’яўляюцца Хам у мужыцкай вопратцы і чатыры русалкі. У кожнай русалкі – свая роля. Прарочыя словы ўкладзены ў вусны чацвёртай русалкі.

Хам у купальскую ноч выйшаў у лес шукаць папараць-кветку, аднак яму не хапіла мужнасці супрастаяць злым сілам. Героем апанаваў страх, ён знямогся, схаваўся ў мох і заснуў. А між тым папараць-кветка была ўжо зусім побач. Пачынаецца працэс буджэння селяніна. Гэта доўжыцца, бо яшчэ не прыйшоў час яго актыўнай дзейнасці, але гэты час ужо не за гарою. Чацвёртая русалка малюе радасную перспектыву, якая чакае радзіму Хама. Яна запэўнівае селяніна, што само сабой гэта не адбудзецца: павінен узляцець свабодны дух чалавека, які будзе выклікаць у яго патрэбу дамагацца долі і воліэ

Сон сярод лесу аказаў уплыў на Хама, ён прачынаецца іншым, чым быў раней. Селянін пачынае бачыць сваё сонца і гатовы супрацьстаяць тым сілам, якіх баяўся раней. Абразок заканчваецца аптымістычна:

Глянь, – месяц бялее,
Глянь, – цемра радзее, –
Ўраз пойдзем ствараць, будаваць!

Такім чынам, Канстанцыя Буйло ў сваім фантастычным абразку паказвала рост нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, абуджэнне іх да актыўнага самастойнага жыцця. Гэты матыў быў блізкі Янку Купалу, які рэдагаваў першы зборнік Канстанцыі Буйло – “Курганная кветка”.

У аснове драмы “Сягоннішнія і даўнейшыя” – спрадвечны канфлікт бацькоў і дзяцей. Шляхецкая моладзь не хоча жыць так, як жылі бацькі. Яна цягнецца да навукі і культуры. Раман, герой драмы, “з мужыком за пан-браты, Ходзе ў мужыцкія хаты”. “Даўнейшыя” вырашаюць, што з такога маладога чалавека сапраўднага гаспадара не будзе. Яму рызыкоўна перадаваць гаспадарку, таму хай лепш будзе ксяндзом. Канфлікт двух пакаленняў паглыбляецца сацыяльным. Раман кахае сялянскую дзяўчыну Ганулю, і гэтае каханне хавае ад людзей свайго асяроддзя. Бацька дамогся свайго. Раман стаў святаром, аднак страціў сэнс жыцця і без пары згас.

На жаль, даводзіцца гаварыць, што абодва канфлікты ў драме “Сённяшнія і даўнейшыя” вырашаны на ўзроўні пісьменніка-пачаткоўца. Учынкі герояў не матываваныя і псіхалагічна не пераканальныя. Не зразумела, чаму ў вырашэнні лёсу сына бацька цалкам давярае сваім суседзям Панкратоўскаму і Саўковічу і зусім не лічыцца з жаданнямі і інтарэсамі сына. Неяк нечакана сялянская дзяўчына Гануля стала міласэрнай сястрой.

Адметнае месца ў творчай біяграфіі Канстанцыі Буйло часу жыцця на Баранавіччыне заключаецца ў тым, што яна паспрабавала сябе ў жанры драматургіі. Хоць яе п’еса “Сягонняшнія і даўнейшыя” ў свой час і ставілася на адной з Мінскіх сцэнаў, пісьменніца зразумела, што драматургія не адпавядае прыродзе яе таленту, і больш п’есаў не пісала. Канстанцыя Буйло ўвайшла ў гісторыю беларускай літаратуры як паэтка.

Перажытае Канстанцыяй Буйло ў Дзеўчаполлі знайшло сваё адлюстраванне ў аўтабіяграфічнай паэме “На траскіх гацях” (1951 г.). На яе ідэйны змест і аўтарскую пазіцыю вялікі ўплыў аказаў час яе напісання. Кладучы на паперу радкі, прысвечаныя духоўнаму станаўленню сваёй гераіні, паэтка помніла пра цэнзуру як знешнюю, так і ўнутраную. Таму цэнтральная праблема твора раскрыта традыцыяналісцкі. Тым не менш важна адзначыць, што ў духоўным узмужненні Косткі, Канстанцыі значнае месца належыць і яе працы ў Дзеўчаполлі.

## ВАЛЯНЦІН ТАЎЛАЙ

Валянцін Таўлай увайшоў у гісторыю літаратуры як рэвалюцыйны рамантык, як чалавек, які прысвяціў сябе і сваю ліру вызваленню народа ад паняволення, па яго ж вобразным выказванні, “пілаванню вершам кратаў”. Яго імя можа заняць годнае месца побач з венграм Ш.Пацёфі, балгарынам Х.Боцевым і інш. Аўтар паэмы “Таварыш” быў і павінен застацца ў памяці нашчадкаў палымяным змагаром і песняром волі, незалежнасці, патрыятызму, сілы духу, адданасці і вернасці сваім перакананням.

Валянцін Таўлай нарадзіўся ў г. Баранавічы ў 1914 г. Бацькі яго працавалі на чыгунцы. У хуткім часе іх перакінулі ў Лунінец. Гэта быў трывожны час. Ішла Першая сусветная вайна. Лунінец станавіўся прыфрантавой станцыяй, і сям’я Таўлаеў падалася бліжэй дадому. На нейкі час аселі ў Зэльве, дзе знайшлося месца працы. Калі Валянціну ішоў шосты гадок, нечакана памерла маці Марыя Антонаўна. Сірот забірае да сябе бабуля, якая жыла ў вёсцы Рудаўка на Слонімшчыне. Бацька Павел Дзям’янавіч застаецца ў Зэльве. Праз некаторы час паўторна жэніцца. Падзеі сусветнага значэння ўмяшаліся ў лёс Таўлаеў. Па Рыжскай дамове заходняя частка Беларусі адышла да Польшчы. Паўла Дзям’янавіча як непаляка звальняюць з працы, і ён вяртаецца ў Рудаўку і актыўна ўключаецца ў нацыянальна-вызвольны рух за права свайго народа на паўнавартаснае дзяржаўнае жыццё, выступае супраць паланізацыі беларусаў.

У хуткім часе і перад Валянцінам паўстае праблема выбару. У 1925 г. падлетак паступіў на падрыхтоўчыя курсы Слонімскай настаўніцкай семінарыі. Каб там вучыцца, трэба было прызнаць сябе палякам і публічна перад усім класам засведчыць, што роднай мовай, мовай, якой карыстаюцца ў сям’і, з’яўляецца польская. Іншыя, беларусы спрадвеку, гэта зрабілі, а ён, Валянцін Таўлай, якому тады было ўсяго адзінаццаць гадоў, застаўся верным самому сабе і свайму народу. За гэта давялося і з курсамі, і з надзеяй стаць настаўнікам развітацца.

Мачыха, настаўніца па адукацыі, любіла сваіх пасынкаў, а тыя плацілі ёй узаемнасцю, пачала рыхтаваць Валянціна і Алеся да паступлення ў гімназію. У 1927 г. Валянцін Таўлай стаў вучнем Віленскай гімназіі. Гэтая навучальная ўстанова як бы падхапіла сцяг Віленскага універсітэта, вальналюбства, патрыятызму, творчых зацікаўленняў філаматаў. Калі Валянцін Таўлай апынуўся ў яе сценах, польскія ўлады распачалі рэпрэсіі супраць Грамады. Моладзь беларускіх



гімназій выказала пратэст. Пачаліся дэманстрацыі і ў Віленскай гімназіі, у якіх прыняў удзел і Валянцін Таўлай. Ён быў выключаны з навучальнай установы, а праз год асуджаны да двух гадоў зняволення. Хлопцу тады было ўсяго чатырнаццаць гадоў. Так пачаліся змагарныя дарогі нашага земляка, якому суджана было нарадзіцца ў Баранавічах.

З дзесяці астатніх гадоў жыцця ў Заходняй Беларусі Валянцін Таўлай адпакутаваў за кратамі сем. У польскіх катоўнях сталеў юнак, набіраўся сілы і моцы яго паэтычны радок. Пачатак творчасці аўтара паэмы "Таварыш" прыпадае таксама на 1928 год, на год першага турэмнага зняволення. Яго вершы рэдка бачылі свет на старонках друку. Паэт іх запісваў і трымаў у памяці, дбайна ставячыся да кожнага слова, да кожнага паэтычнага вобраза. Пазней у адным з вершаў прызнаваўся: "Кайданы тады на мне звінелі, можа, вершы ад таго звіняць". Калі савецкія войскі ў верасні 1939 г. наблізіліся да Гародні, рабочыя вызвалілі вязняў мясцовай катоўні. У іх ліку быў і Валянцін Таўлай, якога польскія ўлады прыгаварылі да расстрэлу.

Паэт падаўся да бацькоў, якія на той час жылі ў Лідзе, і аддаўся творчай працы, аднаўляў з памяці вершы, шліфаваў іх, рыхтуючы да выдання свой зборнік. Творчую працу спыніла Вялікая Айчынная вайна. Валянцін Таўлай зноў уключаецца ў змаганне супраць гітлераўскіх акупантаў. Ён становіцца сувязным, разведчыкам, кіраўніком спецгрупы атрада імя Катоўскага Баранавіцкага злучэння. Прайшоў праз засценкі гестапа. Паэты Н.Тарас і С. Хмара цудам выбавілі Валянціна Таўлая ад вернай смерці. Бацькі засталіся ў фашысцкай катоўні, былі вывезены ў Асвенцым і там згарэлі ў яго печах. Пасля вайны Валянцін Таўлай працаваў у музеі Янкі Купалы ў Мінску і зноў рыхтаваў свае вершы да выдання. Зборнік назваў "Шляхі і краты". Выдадзенай сваю кніжачку паэт так і не пабачыў, бо ў 1947 г. яго не стала.

У вершах і паэмах Валянціна Таўлая створаны вобраз юнака, які змагаўся за сваю Бацькаўшчыну пад сцягамі КПЗБ, чалавека, для якога характэрны такія якасці, што заўсёды цаніліся людской супольнасцю: мужнасць, аптымізм, вернасць сабе і свайму народу, ахвярнасць дзеля высокіх мэтаў, адным словам, хлопца, якому нішто чалавечае не чужое. Лірычны суб'ект Валянціна Таўлая – адданы сын свайго бацькі, ён кахае, захоплены хараством у розных яго праяўленнях. Яму нечужыя скруха, туга, сум, але не адчай. Такім быў аўтар, такім былі сябры і паплечнікі па змаганні, у тым ліку і на Берасцейшчыне ў тыя часы і пазней у нас і ў свеце, дзе ідзе змаганне за волю і долю народа. Невыпадкова яго вершы перакладзены на рускую, англійскую, армянскую, венгерскую, літоўскую, польскую, грузінскую, украінскую, французскую мовы.

У Валянціна Таўлая ёсць адзін твор, які непасрэдна звязаны з нашым рэгіёнам – "Кобрыншчына". Лёс звёў паэта ў турме з адным з удзельнікаў выступлення вёсак Паўлопаль, Дарапеевічы, Навасёлкі Рыгорам Цемашуком. Раней гэтыя вёскі ўваходзілі ў Кобрынскі павет. Цяпер першыя дзве знаходзяцца ў Маларыцкім, а апошняя ў Жабінкаўскім раёне. Паэт не ішоў слепа за апавяданнем таварыша па змаганні, а рабіў адбор матэрыялу, падпарадкоўваючы яго мастацкай задуме – услаўленню подзвігу сялянаў, якія, даведзеныя да ад-

чаю непамернымі падаткамі і жорсткасцю уладаў, бяззбройныя, спадзяваліся ўзняць паўстанне на Берасцейшчыне.

Апавядальнікам у “Кобрыншчыне” з’яўляюцца адзін з удзельнікаў выступлення сялян супраць акупацыйных польскіх улад. Яго вачыма, з яго пазіцыі паказваюцца падзеі той летняй ночы, якія адлюстраваны ў творы. Апавядальнік – прадстаўнік грамады змагароў і гаворыць ад іх імя, ад імя мы ці ад імя хлопцаў. З гэтай мэтай шырока выкарыстоўваецца ў творы і прыналежны займеннік наш. Такая акалічнасць многае тлумачыць у стылёвых адметнасцях вершаванага апавядання.

Герой “Кобрыншчыны” думкамі, пачуццямі вяртаецца ў тую летнюю ноч, калі яны, маючы ўсяго некалькі стрэльбаў і іржавы абрэз, збіраліся рушыць на Дывін, нанова перажывае яе падзеі, прыгадвае асобныя дэталі. Гэта надае яго маўленню эмацыйнасць, экспрэсіўнасць. Камічныя, патэтычныя, трагедыйныя інтанацыі пераплятаюцца адна з адной, аднак выразна абазначана, што пад канец твора дамінуюцца якраз апошнія. З’яўляюцца вобразы смерці зорнае, шляху крывавага. Надзвычай ёмістай з’яўляецца метафара світанне рукі заламала, якая сведчыць пра трагічны фінал: менавіта паліцэйскія заламалі рукі паўстанцам.

Перабіраючы ў памяці падзеі той велічна-трагічнай ночы, герой не надта задумваецца над адборам слоў, галоўным для яго з’яўляецца імкненне як бы выдаліць з сябе перажытае, таму ў яго маналогу чаргуюцца сутнаснае з дробязным. Герой шырока выкарыстоўвае выразна ацэначныя словы і выразы: гадзіна-пятля, сукін сын, гадзіна бязногая, збабочылі кіем, логава гадзюк, падбітыя храпы і інш., якія раскрываюць яго адносіны да паліцэйскіх, асаднікаў, перадаюць яго эмацыйную ўзрушанасць.

Асаблівая ідэйна-мастацкая роля ў “Кобрыншчыне” належыць паэтычным радкам:

Расступіся, далеч, расступіся цёмная:
месяц-дзед з бандураю – за бугром заснуў,
але нам здалося ў шэрасвітым гомане,
што праз сон музыка закрануў струну.

Яны з невялікімі зменамі паўтараюцца ў творы чатыры разы. Паэтыка ўрыўка ідэйна звязана з гераічным народным эпасам. Вобраз месяца – старога бандурыста – належыць да паэтычных знаходак Валянціна Таўлая. Месяц – не староннi назіральнік, а актыўны ўдзельнік сялянскага выступлення. З вобразам месяца – старога бандурыста звязана думка пра ролю мастацтва ў вызваленчай барацьбе народа. У першым выпадку дзед з бандураю спіць, аднак змагарам чуецца, як праз сон музыка закрануў струну. Калі кобрынцы, як ім думалася, хвацка расправіліся з паліцэйскім, і той, як заяц, падмазаў пяты, ім хочацца, каб бандурыст ірвануў казацкую – наша ўзяла. Бандурыст ужо абуджаны да актыўнага ўдзелу ў выступленні. Ён радуецца разам з кобрынцамі, што яны ўдала ўключылі асадніка ў сваю справу, напалохаўшы апошняга да паўсмерці:

Расступіся, далеч, выплывай туманамі,
Месяц-дзед з бандураю з-за балота ўстаў



і бяззубым смехам цешыцца рахманы,
што асаднік просіцца зноў каля куста. (С. 119)

Калі кобрынцам не ўдалося над пастарункам узняць свой сцяг, месяц-бандурыст абныў, і хлопцам пачуўся звон трэснутай струны. Гераічная песня недаспявана, узнікае трагічны вобраз – рэха смерці зорнае.

Героі Валянціна Таўлая, аднак, не скарыліся, яны вераць у перамогу, бо перакананыя, што возьме наша некалі. На гэтай аптымістычнай ноце заканчваецца расказ пра адну гераічна-трагічную ноч. Аптымізм героя-апавядальніка выяўляецца і ў тым, што ён з гумарам падае сутычку паўстанцаў з паліцэйскім і асаднікам. Апісваючы сустрэчу з прадстаўніком улады на дарозе, апавядальнік смяецца не толькі з паліцэйскага, які паляцеў носам у карчы, уцякаў, як заяц, але і з саміх сябе, са сваёй наіўнай недальнабачнасці, бо яны самі далі мажлівасць уцячы свайму ворагу. У той самы час вобраз асадніка Ксенскага намаляваны сатырычнымі фарбамі. Паэт звярнуўся да шаржу і гратэску. Камандзір стральцоў, былы афіцэр – трус, палахлівец, які імкнецца захаваць пыху, хоць і прызнаецца, што слабкі на жывот. Нягледзячы на яго ліслівасць, асаднік супрацьстаіць паўстанцам, што падкрэсліваецца і польскімі словамі ў яго мове. Тут, на гэтай зямлі, ён заваёўнік.

Эпізод, прысвечаны бойцы за пастарунак, вызначаецца іншым інтанацыйным малюнкам. Пастарунак выступае ў творы ўвасабленнем таго зла, якое неслі заваёўнікі на нашу зямлю. Паўстанцамі кіруе жаданне адпомсціць за прычыненыя сваім землякам у гэтым будынку мукі.

З успамінаў заходнебеларускіх падпольшчыкаў можна даведацца, што апавяданне “Кобрыншчына” перадавалі з камеры ў камеру, чыталі і перачытвалі, завучвалі на памяць. Твор быў для палітвязняў своеасаблівым агітатарам і прапагандыстам.

У Баранавічах ушанавана памяць пра паэта, крытыка, перакладчыка, змагара Валянціна Таўлая. Яго імя носяць бібліятэка, адна з вуліцаў і літаратурны музей у школе № 4.

## ІВАН КУРБЕКА
(1934)

Вёска Серабрышча дэлегавала старэйшага сына Вольгі Антонаўны і Сцяпана Андрэевічаў Курбекаў Івана ў сталічны універсітэт на аддзяленне беларускай мовы і літаратуры са спадзяваннем, што вернецца дадому настаўнік высокай кваліфікацыі. У самога юнака былі іншыя намеры. Яшчэ ў час вучобы ў мясцовай школе і пазней у Моўчадскай сярэдняй у Івана Курбекі выявіліся літаратурныя здольнасці гумарыста. Яны найхутчэй ішлі адбацькі, які быў цікавым апавядальнікам, вясёлым чалавекам. Калі выходзіў чарговы нумар школьнай насценгазеты, у падрыхтоўцы якой браў удзел Курбека, то звычайна каля яе тоўпіліся вучні і залівіста смяяліся: зноў нехта трапіў пад вострае пяро Івана.

Літаратурнае асяроддзе БДУ, дзе вучыўся наш зямляк (1953 – 1958 гг.), актывізавала яго жаданне раскрыць сябе на літаратурнай ніве. Атрымаўшы

дыплом філолага, Іван Курбека ўладкоўваецца на працу супрацоўнікам спачатку ў музей Янкі Купалы, а затым Якуба Коласа. У музеі аўтара "Новай зямлі" прапрацаваў да выхада на пенсію. Гэтая дзейнасць нашага земляка і вызначыла адзін з напрамкаў яго творчасці – прапаганда жыцця і творчасці класікаў беларускай літаратуры. Іван Курбека з'яўляецца адным з аўтараў альбомаў для выставак у школе, прысвечаных жыццю і творчасці Янкі Купалы і Якуба Коласа. Як супрацоўнік музея, творца з вёскі Серабрышча даследуе радаводнае дрэва аўтара паэмы "Сымон-музыка", расказвае пра мясціны, асвечаныя імем класіка беларускай літаратуры, раскрывае творчую гісторыю аповесці "Дрыгва".

Паралельна выступае як крытык і як аўтар гумарыстычных твораў. У поле зроку Івана Курбекі як крытыка галоўным чынам траплялі дакументальныя кнігі, прысвечаныя Вялікай Айчыннай вайне, успаміны партызанаў, навукова-папулярныя кнігі В.Вольскага аб прыродзе, выданні мемуарнай літаратуры пра Якуба Коласа, сатырычныя творы М.Скрыпкі і інш.

Разам з тым наш зямляк з вёскі Серабрышча актыўна супрацоўнічае з часопісам "Вожык" і на яго старонках змяшчае свае гумарыстычныя творы. З часам іх сабралася на цэлы зборнічак. У 1979 г. у выдавецтве часопіса "Вожык" з'явілася кніжачка "Абы здароўе: Вершы, мініяцюры, каламбуры". Прадмову да яе напісаў Рыгор Барадулін. Знаны гумарыст і тонкі знаўца магчымасцяў беларускага слова, ён адзначыў талент Івана Курбекі заўважаць у людзях і ў навакольным жыцці смешнае і дасціпна і выразна перадаваць яго словам.

У 1980 – 1990 гг. наш зямляк з Баранавіччыны пачаў актыўна працаваць у галіне займальнага мовазнаўства, распрацоўваючы лінгвістычныя задачы і крыжаванкі. У 1991 г. выйшла яго праца "Хітрыя літары: Шарады, метаграмы, анаграмы".

## КАСТУСЬ ТУРКО
## (1935 – 2000)

Кастусь (па хрышчэнні яго імя Карл) Турко нарадзіўся ў мястэчку Крашын, якое праславіў Паўлюк Багрым. Яго жыццёвая дарога іншая, чым у землякоў-равеснікаў. Пасля заканчэння школы ён таксама падаўся ў Мінск, але ў педагагічны інстытут (1952– 1956). Па яго заканчэнні атрымаў накіраванне на працу настаўнікам у Нясвіжскі раён. Праз два гады перавёўся бліжэй дадому – у Ляхавіцкі раён, а затым уладкаваўся на педагагічную дзейнасць у Ляхавічах. Перад выхадам на пенсію працаваў у мясцовым райвыканкаме спецыялістам па сацыяльнай ахове дзяцінства.

Друкавацца пачаў у студэнцкія гады. Яго вершы змяшчаліся ў рэспубліканскіх, абласных, раённых выданнях: "Маладосць", "Беларусь", "ЛіМ", "Звязда", "Чырвоная змена", "Зара" і інш. На пачатку літаратурнай дзейнасці нашаму земляку з Крашына прабіцца ў друк было нялёгка. Мусіць, ён сам сабе як паэта ацаніць не мог. Шукаў падтрымкі ў Максіма Танка. Слынны паэт раскрыў перад юнаком з Крашына свой погляд на паэтычную творчасць. Думаец-



ца, што тады Кастусь Турко яе прыняць не мог. Парады Максіма Танка будуць асэнсаваны пазней, у сталым веку. У нізцы вершаў "Тварам да ветру", змешчаный у зборніку "Дзядзінец: Паэзія Берасцейшчыны" (Брэст, 1999) ёсць пяцірадкоўе "Парада":

Казаў мне пры сустрэчы так
Мудрэц вялікі шчыры Танк:
– Цярпець, пакутваць
І мучыцца, мой браце.
Перш навучыся, чым пяро ў рукі браць.

Пераехаўшы на Ляхаўшчыну, Кастусь Турко пачаў гуртаваць вакол сябе тых, хто імкнуўся выявіць сябе ў слове. Ён і быў ініцыятарам стварэння літаб'яднання пры раённай газеце, якое сам і ўзначальваў да смерці. Пісаў сам, падахвочваў іншых. Райвыканкам ахвяраваў сродкі, і ў 1995 г. да 60-годдзя паэта быў выдадзены адзіны яго зборнік вершаў "Заўсёды з вамі", які адрэдагавала Зінаіда Дудзюк. Назва зборніка, асобныя вершы сведчаць пра знітаванасць яго аўтара з краем, дзе цячэ Шчара, дзе Паланэчка, Крашын, Рэпіхава, край, родны слыннаму Яну Чачоту і апетаму ім. У адным з вершаў Кастусь Турко прызнаецца:

*У гэты кут навекі ўрос,*
*Як дуб у глебу.*
*Мне шолах траў і шум бяроз,*
*Як хлеб, патрэбен.*

Лірычны герой зборніка "Заўсёды з вамі" па сваім светаўспрыманні – вясковец, натура мяккая, уражлівая, чуйная, здольная бачыць і захапляцца навакольным светам. Ён камфортна сябе адчувае ў кантактах з прыродай. Кастусь Турко ў сваіх вершах абыходзіць вострыя праблемы сучаснасці. Перыферыйнымі ці толькі намечанымі з'яўляюцца ў яго тэмы, звязаныя з роднай мовай, з народнымі звычаямі, з духоўным светам сучаснікаў, якія выразна збядняецца, губляе тое, што спрадвеку адрознівала нас у чалавечай супольнасці.

У першай частцы зборніка "Сваёю дарогаю" дамінантнымі пачуццямі з'яўляюцца адзінота, туга, расчараванне, сум па нечым неспраўджаным. Яго герой не здольны адстаяць сваю пазіцыю, заўсёды шукае кампраміс, які часам ператвараецца ў беспрынцыпнасць. За гэта ён сам сябе сурова судзіць. Лірычны герой першай часткі зборніка выразна адчувае цяжар пражытых гадоў, жыццёвыя памылкі, грэх, але нешта перайначыць "няма ні сілы ўжо, ні волі". Думаецца, што такімі адметнасцямі сваёй асобы можна патлумачыць цікавасць аўтара да мужных жанчын – паэтак, якія ў нечалавечых умовах засталіся вернымі сабе, сваім жыццёвым прынцыпам і перакананням, – Ларысы Геніюш і Ганны Ахматавай. Пакуты першай, на думку аўтара, – гэта яе ахвяра за наш нацыянальны нігілізм ("Сэрца Ларысы Геніюш"). У вобліку рускай паэткі аўтара хвалюе яе здольнасць прайсці праз несправядлівасць,ману і застацца гуманістам.

Другі раздзел зборніка "Заўсёды з вамі" мае паказальную назву, надзвычай рэдкую і характарыстычную ў тагачаснай беларускай паэзіі – "Вялікдзень".

Для Кастуся Турко гэта не дзень уваскрашэння Хрыста, а пачатак вясны, абнаўлення прыроды, дзень душэўнай раўнавагі, веры ў дабро, шчасце, справядлівасць. Паэт з Крашына паэтызуе Вялікдзень як паганскае свята нашых продкаў. У вершах раздзела ёсць дэталі, якія для кожнага беларуса-заходніка асацыіруюцца з Вялікдзенем, як найвялікшым хрысціянскім святам, але гэта зусім не прыкметы, звязаныя з царкоўным ці касцёльным рытуалам: пякуцца пірагі, фарбуюцца яйкі, хаты поўняцца пахам вяндліны, каўбасамі, пракопчанымі на ядлоўцы. Як многа скажа для тых, хто нарадзіўся ў 30-х гг. мінулага стагоддзя ў Заходняй Беларусі, паэтычны радок, як частка іхняга такога дарагога і непаўторнага свету: “Заўзята яйкі хлапчукі зубуюць”.

Лірычнае “я” Кастуся Турко найлепш пачуваецца на памежжы зімы і вясны, калі яна пачынае валадарыць у прыродзе. Гэта, аднак, зусім не значыць, што яму чужымі, непрымальнымі былі іншыя поры года. Прыход вясны ў творцы з Баранавіччыны звязаны не толькі з абнаўленнем прыроды, яе мнагагучнасцю і шматфарбнасцю, але і з духоўным абнаўленнем яго героя, радасным, сцішана-ўрачыстым настроем. Паказальным у гэтым плане з’яўляюцца наступныя радкі:

*Нябёсы ўміг зазіхацелі;*
*І вецер радасці прапах.*
*Галінкі за акном звінелі*
*Ў аквамарынавых слязах.*
*А ранне сонечнае, чыстае*
*Лавінай светлаю плыло,*
*Не гучнае, не галасістае,*
*Але такое ўжо іскрыстае,*
*Нібы зімы і не было.*

## Браты МІХАСЬ і АНАТОЛЬ КЛЫШКІ

Вёска Данейкі дала нашай культуры Міхася і Анатоля Клышкаў – мовазнаўцу і пісьменніка. Міхасю Клышку належыць покуль што адзіны ў беларускай філалогіі “Слоўнік сінонімаў і блізказначных слоў”, у якім сабрана больш за адзінаццаць тысяч слоў. Тут словы асноўнага слоўнікавага саставу, размоўна-бытавая лексіка, фразеалагізмы, устойлівыя злучэнні. Гэты багацейшы матэрыял, сабраны ў выданні, ілюструецца прыкладамі з мастацкай літаратуры, з твораў фальклору, з перыядычнага друку, з навуковых працаў па філалогіі. Выкладчыкі ВНУ, студэнты, настаўнікі, перакладчыкі, усе, хто піша, хто цікавіцца родным словам, мелі вострую патрэбу ў такім слоўніку. Ён вытрымаў ужо чатыры выданні: першае з’явілася ў 1976 годзе.

Міхась Клышка (1925 – 1984) належыць да таго пакалення, якое ці не ўсё палегла ў час Другой сусветнай вайны. Нашаму гэтаму земляку ўдалося ацалець, дзякуючы веданню беларускай мовы. У 1944 ён быў залічаны ў штат



баранавіцкай абласной газеты, дзе на той час не было спецыялістаў, хто б ведаў мову, на якой павінна выходзіць выданне. З таго часу і аж да 1967 года працаваў журналістам, закончыўшы завочна ўжо сталым чалавекам БДУ. Каля пятнаццаці гадоў – рэдактарам у выдавецтве БелСЭ і адначасова рыхтаваў сваю адзіную і адзіную ў нацыянальнай філалогіі кнігу – "Слоўнік сінонімаў і блізказначных слоў".

Анатоль Клышка (1935) вызначаецца шырынёй інтарэсаў: крытык і перакладчык, паэт і празаік, публіцыст і аўтар падручнікаў і кніжак для вучняў пачатковай школы. Пасля заканчэння Заполле-Ятраўскай сямігодкі юнак падаўся на вучобу ў Навагрудскае педвучылішча (1949 – 1952). Пасля яго завяршэння год працаваў карэктарам у мясцовай раённай газеце. З таго часу і будуць поруч ісці гэтыя прыхільнасці нашага земляка – педагогіка і журналістыка, шырэй – літаратурная творчасць. Пасля заканчэння БДУ працаваў у газеце "Літаратура і мастацтва", інструктарам па друку ЦК ЛКСМБ. З 1959 па 1961 займаўся ў аспірантуры пра Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. Затым былі праца старшым рэдактарам сцэнарнага аддзела кінастудыі "Беларусьфільм", літработнікам у часопісе "Полымя". У 1971 годзе стаў супрацоўнікам навукова-даследчага Інстытута педагогікі Міністэрства асветы БССР, нейкі час быў на творчай працы. Праз дзесяць гадоў вярнуўся зноў у выдавецтвы і ў часопіс "Полымя". Апошнім часам працуе ў тым самым навукова-даследчым інстытуце педагогікі.

Дзе б ні працаваў Анатоль Клышка, за які б від творчай працы ні браўся, відавочным з'яўляецца глыбіннае адчуванне мовы. Дзе вытокі гэтай любові ў братоў Клышкаў з Дайнейкаў? Яны бяруць пачатак з сям'і, ад маці Алесі Сцяпанаўны. Яна славілася ў наваколлі як цудоўны знаўца песеннага багацця краю. Ад гэтай жанчыны з Дайнейкаў запісаны вясельны абрад Баранавіччыны. Не апошнюю ролю на моўную культуру братоў Клышкаў аказала і беларускае асяроддзе Баранавіччыны, але галоўным, вызначальным з'яўляецца талент.

Анатоль Клышка заявіў пра сябе ў 1952 г. вершам "Светач". Хутка, аднак, пачаў выступаць як крытык. Гэта ўсяго адзін з напрамкаў яго творчай дзейнасці. Гэтую яго спадчыну не назавеш надта вялікай. Выхад, аднак, зборніка артыкулаў "Права на верш" (1967) стаў з'явай у літаратурным жыцці рэспублікі. На яго адгукнуліся такія майстры крытычнага цэха, як Рыгор Бярозкін, В.Каваленка і інш. Асабліва палюбіліся артыкулы нашага земляка настаўнікам беларускай мовы і літаратуры, бо пры беднасці метадычнай літаратуры давалі ўзоры такога аналізу, які не прыглушаў эмацыйнае ўражанне, што ўзнікла пры чытанні твора, а паглыбляў, узмацняў яго, рабіў асэнсаваным. Да ліку такіх артыкулаў Анатоля Клышкі належаць найперш "Цвяток радзімы васілька", "Пра адзін верш", а таксама аналіз верша "Як ліст дубовы..." Петруся Броўкі, які ўвайшоў у артыкул "Лірычны твор на ўроку". Гэтыя артыкулы нашага земляка і па сённяшні дзень не страцілі сваёй надзённасці і ўключаюцца ў школьныя падручнікі па беларускай літаратуры цяпер ужо як узоры ацэнкі твора для вучняў.

Прыхільнасці Анатоля Клышкі як крытыка звязаны з імёнамі Максіма Багдановіча, Максіма Танка, Паўлюка Труса, Пімена Панчанкі, Анатоля Вялюгіна,

Валянціна Таўлая. Першы і апошні паэты карыстаюцца асаблівай увагай крытыка з вёскі Дайнейкі. Яго цікавяць і творчасць сваіх равеснікаў: Р.Барадуліна, М.Рудкоўскага, А.Наўроцкага, Б.Сачанкі і інш., пераклады сусветнай класікі на родную мову.

Крытычныя артыкулы Анатоля Клышкі вызначаюцца палемічнай завостранасцю, публіцыстычнай палкасцю, эмацыйнасцю, вобразнасцю стылю. Ён, скажам, сам захапляецца вершамі Максіма Багдановіча "Слуцкія ткачыхі" ці "Пагоня", асобай Валянціна Таўлая, і чытач трапляе ў поле яго эмацыйнага стану. У крытыка з Данейкаў натуральна паяднаны канкрэтна-гістарычны аналіз твора з яго нацыянальным і агульначалавечым пафасам. Было б памылкова лічыць, што артыкулы Анатоля Клышкі інтанацыйна аднамерныя. У артыкуле "За мухай – забухам...", прысвечаным тагачаснай байцы, творца іранічны, з'едлівы, саркастычны, бо байка страціла сваю сатырычную завостранасць.

Паказальнай з'яўляецца і такая адметнасць артыкулаў Анатоля Клышкі, як іх выхавальная накіраванасць. Пра гэта сведчаць назвы асобных з іх: "Каб прыгажэць душою", "Мудрэць і прыгажэць душою...". Аўтар у сваіх працах непасрэдна звяртаецца да чытача, вядзе з ім даверлівую размову, пераконвае ў слушнасці сваіх высноў, прыводзячы важкія аргументы. У гэтым выразна выяўляюцца педагагічныя схільнасці крытыка, яго высокая ацэнка ролі мастацкіх твораў у выхаванні чалавека.

Наш зямляк шмат сіл аддае перакладчыцкай дзейнасці. Ён перастварае на роднай мове творы азербайджанскіх, армянскіх, польскіх, нямецкіх, рускіх, украінскіх пісьменнікаў, аўтараў Старажытнай Грэцыі і інш. Яго пяру належыць пераклад на родную мову асобных раздзелаў Новага запавету. Найчасцей перастварае старагрэчаскіх і польскіх пісьменнікаў.

Пачынаючы з другой паловы 1980-х гг. узмацніліся кантакты беларусаў са сваімі суседзямі, у тым ліку і палякамі. Гэта выклікала неабходнасць валодання мовай хоць бы на побытавым узроўні. Гэтую патрэбу выразна адчуў і ўсвядоміў Анатоль Клышка, падрыхтаваў і выдаў "Беларуска-польскі размоўнік" (1992).

У 1971 г. у "Настаўніцкай газеце" за 7 жніўня быў апублікаваны артыкул Анатоля Клышкі "Буквар, пра які я мару". Яму ўдалося рэалізаваць сваю мару. Першае выданне "Буквара", які вытрымаў больш за дваццаць выданняў і быў прызнаны лепшым на ўсёй прасторы СССР, а таксама і ў замежжы і ўзнагароджаны залатым медалём на міжнароднай выставе ў Лейпцыгу, быў апублікаваны ў 1969 г. Наш зямляк распрацаваў цэлы метадычны комплекс, дапоўніўшы "Буквар" "Прописамі", дапаможнікам "Верасок". Пяру Анатоля Клышкі належыць чытанка для 4 класа школ з рускай мовай навучання "Чабарок". У гэты метадычны комплекс уваходзіць і арыгінальнае выданне "Чую, бачу, гавару" – ілюстраваны слоўнік беларускай мовы для дзяцей. Прадстаўлены на кніжныя кірмашы ў Мінску, у Маскве і ў Франкфурце-на-Майне, быў прызнаны лепшым выданнем такога тыпу.

Педагагічныя прыярытэты пісьменніка з Баранавіччыны натуральна прывялі яго ў лік дзіцячых пісьменнікаў. Малодшым школьнікам і падлеткам адра-



саваны яго кнігі "У лясах Белавежы", "Самая лепшая хатка", "Вярэнька загадак", "Францыск Скарына, альбо як да нас кніга прыйшла", "Святло праз стагоддзі". Кнігі Анатоля Клышкі пра беларускага першадрукара вывелі нашага земляка да ангельскага, французскага і нямецкага чытачоў. Дзецям адрасавана кніга "Шыльдбюргеры. Па-нямецку пачуў, па-беларуску збаяў Клышка", твор гумарыстычка-сатырычнага гучання.

Пісьменнік з Баранавіччыны аддае перавагу ці то творам, у аснове якіх фальклор, ці то навукова-папулярным выданням. Творца валодае дарам ярка, вобразна апісваць тую ці іншую з'яву, расказваць пра складаныя рэчы даходліва, цікава, уключаючы свайго патэнцыяльнага чытача ў ход сваіх разважанняў. Праілюструем гэтыя высновы на прыкладзе самай папулярнай кнігі Анатоля Клышкі "Францыск Скарына, альбо як да нас кніжка прыйшла". У пачатку твора аўтар імкнецца зацікавіць чытача постаццю Скарыны і апісвае знакамітую залу сарака ў Падуанскім універсітэце, у якой партрэты самых найвыдатных, хто тут вучыўся, і сярод іх і наш знакаміты палачанін. Каб падлеткі маглі ацаніць веліч ім зробленага, пісьменнік расказвае пра гісторыю кнігадрукавання.

Прасочваючы біяграфію Францыска Скарыны, Анатоль Клышка лічыць неабходным знаёміць падлеткаў як з дакладнымі звесткамі з жыццяпісу першадрукара і асветніка, так і з палемічнымі пытаннямі, пераконваючы ў слушнасці той версіі, якой прытрымліваецца сам, як скажам, у праблеме Францыск ці Георгій. Каб чытач не прапусціў найважнейшае цікавае для яго як пісьменніка і педагога, ён непасрэдна звяртаецца да чытача, вылучае шрыфтам як загаловак: "Запомні гэтую дату – 6 жніўня 1517 г.!" – дата, калі беларусы, а таксама ўсе ўсходнія славяне атрымалі першую друкаваную кнігу на роднай мове.

ВАНАЦЫ БУТРЫМ
(1936 – 2003)

Яе вялікасць паэзія па-рознаму залічвае ў свае шэрагі творцаў. Асобныя бяруцца за пяро і нават выдаюць першыя зборнікі, калі ім далёка да дваццаці. Паэтычны лёс Ванацы Бутрыма па-свойму ўнікальны. Ён дэбютаваў у 40 гадоў адначасова ў паэзіі і прозе ў часопісах "Маладосць" і "Нёман". З таго часу і пісаў на рускай і беларускай мовах, пісаў вершы і прозу. У друку з'яўляліся асобныя яго творы. Першая падборка вершаў нашага земляка з Баранавічаў "Векавечная варта" з'явілася ў 1999 г. у зборніку "Дзядзінец: Паэзія Берасцейшчыны". Сплыве яшчэ некалькі гадоў, калі Ванацы Бутрым змог трымаць у руках сваю першую кніжачку (2001), адрэдагаваную Данутай Бічэль. Быў гатовы і другі зборнік паэта "Паралелі" (2003), падрыхтаваны да друку Л.Драньbig-Майсюком, але ён выйшаў пасля смерці аўтара. У першым зборніку Ванацы Бутрым выказвае падзяку тым, хто спрыяў выхаду кніжкі – Грамадскаму згуртаванню "Святліца" і Грамадскаму аб'яднанню "Агенцтва рэгіянальнага развіцця "Варута". "Святліца" парупілася, каб другая яго кніга пабачыла свет.

Ванацы Бутрым нарадзіўся 9 верасня 1936 г. у г. Баранавічы. Дакладней

ён нарадзіўся ў Новай Мышы, куды маці ездзіла да сваякоў. Але Бутрымы на той час пабудавалі свой дом у Баранавічах і ва ўсіх дакументах гэтае паселішча і значыцца месцам нараджэння Ванацы. Пасля заканчэння школы падаўся ў тэхнічнае вучылішча. Некалькі гадоў працаваў электрыкам. Надзелены мастацкім талентам, паралельна быў і мастаком-афарміцелем у родным горадзе. Праца мастака-аматара юнака не задавальняла, і ён паступіў у Мінскае мастацкае вучылішча (1960), па заканчэнні якога ўжо з жонкай вярнуліся ў Баранавічы. Ванацы Бутрым уладкаваўся на працу настаўнікам чарчэння і малявання ў адной са школаў роднага горада, а затым аж да выхаду на пенсію працаваў у філіяле Брэсцкіх мастацкіх майстэрняў мастацкага фонду.

Мастак і пісьменнік з Баранавічаў належыў да рэдкіх людзей з ліку творчага асяроддзя: ён не імкнуўся да грамадскага прызнання. Ванацы Бутрым пачуваў сябе самадастаткова, выяўляючыся ў жывапісе і літаратуры. Пасланыя Васілю Быкаву творы яшчэ ў 1973 г. слынным майстрам былі ацэнены станоўча: “Вы сталы літаратар, чалавек таленавіты і відавочна разумны. Вам трэба ўсур’ёз засесці за працу і рэалізаваць Вашыя мажлівасці. Яны – у наяўнасці. Вершы цалкам добрыя, іх можна друкаваць, проза – сведчанне таго, што Вы можаце”.

І тым не менш Ванацы Бутрым не прыкладаў належных высілкаў, каб як мага часцей прабівацца ў друк, каб выдаць кніжачку сваіх твораў і ўвайсці ў склад Саюза пісьменнікаў БССР, не рваўся і ў Саюз мастакоў. Гэта, аднак, зусім не значыць, што да напісанага быў абыякавым. Ён выношваў задуму двух зборнікаў, даў ім назвы, сам аформіў, наперад ведаў, якія з тых вершаў, што клаліся на паперу, увойдуць у кожную кніжку. Ванацы Бутрым меў патрэбу ў прафесійным асяроддзі. Ён уваходзіў у раённае літаратурнае аб’яднанне “Плынь”, а калі яно распалася і ў 1996 г. было створана ў Баранавічах “Творчае згуртаванне “Святліца”, стаў яго сябрам, змяшчаў свае творы на старонках аднайменнага альманага аб’яднання. Выхад зборніка “У барвах зямлі” стаў падзеяй у сям’і Бутрымаў, у згуртаванні “Святліца”. Яго аўтар з хваляваннем успрыняў высокую ацэнку сваёй першай кнігі Данутай Бічэль і Леанідам Галубовічам, думкамі якіх даражыў, а густы – высока ацэньваў.

Алесь Бакач, зямляк і сябра Ванацы Бутрыма, так вызначыў асаблівасць зборніка “Барвы зямлі”: “Старонкі кнігі – нібы рассцеленыя палотны мастака, якія барвамі-словамі вядзе чытача па беларускіх краявідах. Яна – як суцэльнае прызнанне ў любові да нашай зямлі”. Жонка паэта, таксама мастак па адукацыі, налічыла 28 колераў і адценняў, якія згадвае паэт 153 разы на старонках зборніка “Барвы зямлі”. Бясспрэчна, праблеме чалавек і прырода ў кнізе “Барвы зямлі” належыць вызначальнае месца. Ёй падпарадкавана і кампазіцыя зборніка, які складаецца з чатырох частак адпаведна порам года, пачынаючы з зімы і канчаючы восенню. Са старонак кнігі паўстае падкрэслена суб’ектывізаваны свет беларускай зямлі, багаты на праявы, шматфарбны і шматгалосы, свет канца XX стагоддзя з грукатам машынаў і цягнікоў, з неонавым светам, лініямі электраперадач, блакітнымі агнямі ў вокнах гараджан. Кожная праява ў наваколлі, убачаная вострым зрокам мастака, выводзіць героя першага зборніка



Ванацы Бутрыма на роздум пра сябе і людзей, спараджае той ці іншы настрой. Паказальна, што пейзажныя малюнкі ў лірычнага суб'екта паэта не статычныя, а зменлівыя, як своеасаблівая плынь свядомасці. Яны не ідэлічныя. Фарбам зямлі характэрны трывожны настрой з кантрастнай зменлівасцю святла і цемені, замілавання і жалю, усмешкі і болю.

І тым не менш сама назва "Барвы зямлі" заключае ў сабе больш шырокае гучанне і ўключае ў сябе розныя ўзаемаадносіны чалавека са светам. Са старонак кнігі паўстае герой пэўнай жыццёвай біяграфіі, якая паказваецца асобнымі мазкамі. Аўтар настойліва падкрэслівае свае адметныя стасункі з вераснем – месяцам свайго нараджэння. Ванацы Бутрым адзначыць, што ён з таго пакалення. дзяцінства якога апаліла вайна ("Я быў малы. Ішла па зямлі вайна..."). Ён дадасць яшчэ адну барву, злавесную і балючую, але дакладную, лаканічную і ёмістую, што вайна нясе людзям:

У грудзі біўся страх і роспачы навала.
Адрына збурана, агню смяротны хрып.
І местачковы журавель вымучваў скрып –
вады на галавешкі не хапала.

Паэт з Баранавіччыны выразна ўсведамляе, што ён жыве, што яго верасень не абарваўся, бо іншыя абаранілі яго, заплаціўшы сваімі жыццямі. Два вершы ён адрасуе прапаўшым без вестак, а таксама маракам Чарнаморскага флоту, акцэнтуючы ўвагу на трагедыйнасці вайны.

Са старонак зборніка "Фарбы зямлі" паўстае асоба не проста чалавека, а бацькі, у якога гадуецца сын Алесь, ён сам грамадзянін сваёй зямлі і чалавецтва, які верыць, што надыдзе час усеагульнага шчасця для людзей:

Каб нехта ўбачыў, слаўны міг ўдачы!
Не сонцам змучаны, здранцвелы лог,
а рай зямны для ўсіх – і не іначай! –
ступіў, дзе я прайсці не змог.

Лірычнае "я" Ванацы Бутрыма – чалавек сталага ўзросту. Ён мае свае перакананні і свае каштоўнасныя арыентацыі. Ён мужчына, які кахае і прагне ўзаемнасці, праходзіць праз боль, скруху, але ніколі не губляе аптымізму, веры ў жыццё для кожнага чалавека на планеце і ў Беларусі. У гэтым плане верш "Змые пыл, жыватворным напоіць..." мог бы заняць годнае месца ў анталогіі не толькі нацыянальнай паэзіі.

Алесь Бакач са слоў аўтара тлумачыць назву другога зборніка Ванацы Бутрыма "Паралелі" так: "...падставаю для напісання кожнага вершаванага твора, былі ці то знакавая асоба, ці то радкі з вершаў, ці то падзея". Яны падаюцца як эпіграфы. Гэта радкі з М.Багдановіча, А.Міцкевіча, А.Разанава, Я.Янішчыц, М.Рубцова, Ф.Лоркі і інш. Адны з іх цікаваць паэта з Баранавічаў як землякі, хвалююць мясціны, асвечаныя іх імем і дарагія таксама і для Ванацы Бутрыма. Другія раскрываюць яго аўтарскія прыярытэты, веліч і трагедыю жыцця іспанскага і беларускага паэтаў. Пісьменнік з Баранавічаў дае сваю версію жыцця і творчасці Цёткі і Паўлюка Багрыма ў паэмах "Фрагменты жыцця Цёткі, Алаізы Пашкевічанкі" і "Ліра і Горан", творча выкарыстоўваючы агульнавядо-

мыя факты. Трыпціх, прысвечаны Максіму Багдановічу, заканчваецца вершам “Варта”, у якім вобраз Пагоні мацуе дух суайчыннікаў.

У 2003 годзе Вананцы бутрыма не стала. Яго творы, напісаныя па-руску, проза, мастацкія палотны пакуль што невядомыя грамадскасці, але ёсць надзея, што гэты час не за гарамі. Сям’я, сябры абяцаюць, што сустрэча чытачоў і гледачоў з гэтымі творамі ў хуткім часе адбудуцца.

## НІНА ЗАГОРСКАЯ

Ніна Загорская – аўтар трох зборнікаў вершаў паэзіі: “Радар” (1975), “Явар” (1982), “Мне добра з вамі” (1989). Адзін з раздзелаў апошняй паэтычнай кнігі прысвечаны роднаму куту, таму і тым, хто люляў яе як асобу, як чалавека, уплываў на фармаванне духоўнага свету, ідэалаў, таленту: “Тут нараджаліся Паўстанцы і Паэты...”. У такім краі 16.07.1940 г. у вёсцы Загор’е ў Сымона і Зінаіды Загорскіх з’явілася трынаццатае дзіця – першая дзяўчынка, жняя.

Сям’я Загорскіх прытрымлівалася беларускай традыцыйнай народнай педагогікі ў выхаванні дзяцей. Яны гадаваліся ў працы, у павазе да бацькоў і Бога, у далучэнні да народнага ўяўлення пра добрае і злое, прыгожае і брыдкае, высокае і нікчэмнае. Пахаваўшы дзесяцёра з чатырнаццаці народжаных, мама была да тых сваіх дзяцей, хто застаўся жывы, строгаю, патрабавальнаю, без лішніх пяшчотаў. Мама, яе песні былі той першай нітачкай, якая пацягнула Ніну да паэзіі.

З дзяцінства дзяўчынку з вёскі Загор’е на Баранавіччыне вабіла неба. Ля хаты Загорскіх расла высокая разгалістая бяроза. Ніна забіралася на яе верхавіну і гайдалася на гнуткім бярозавым голлі. Цяга да неба, да вышыні нарадзіла мару стаць лётчыцай. Уся сям’я не здолела яе пераканаць, што не жаночая гэта справа. І залатая медалістка з Загор’я падае дакументы ў Харкаўскае лётнае вучылішча. У прыёме дзяўчыне адмовілі. Ніна Загорская паступіла ў Беларускі дзяржаўны універсітэт і на пяць гадоў (1957 – 1962) трапіла ў асяроддзе, дзе ці не кожны пісаў вершы. Пісала іх і Ніна Загорская, але вынесці на людскі суд баялася.

Першыя гады працы Ніны Загорскай звязаны з Брэстам. Дзесяць гадоў (1962-1972) жыла ў гэтым прыгранічным горадзе. Працавала на абласным тэлебачанні, лектарам гаркама КПБ. Шмат пісала. Гэта былі нарысы, эсэ пра настаўнікаў, медыкаў, пра вучняў і студэнтаў Брэста і вобласці, пра пагранічнікаў. Менавіта ў гэты час на старонках друку пачалі з’яўляцца і вершы Ніны Загорскай. На іх адгукнуўся У.А. Калеснік, які падкрэсліў іх шчырасць, адкрытасць лірычнай гераіні. Большасць вершаў, якія склалі першы зборнік Ніны Загорскай “Радар”, ляглі на паперу ў Брэсце.

У 1972 г. Ніна Загорская паступае ў Вышэйшую партыйную школу пры ЦК КПБ. З таго часу жыве ў Мінску. Працавала ў рэдакцыі газеты “Зорька”, на Беларускіх радыё і тэлебачанні. У 1982 годзе Н.С. Загорская ўвайшла ў склад рэпертуарна-рэдакцыйнай калегіі Упраўлення культустаноў Міністэрства культуры Беларусі. Час працы паэткі ў Міністэрстве культуры супаў з новым вітком



беларускага адраджэння. Н.С.Загорская шмат робіць, каб далучыць сваіх супляменнікаў да занядбаных святыняў: Лаўрышава, Баркалабава, Крашын... Яна прыклала многа высілкаў, каб годна адзначыць 180-годдзе з дня нараджэння Паўлюка Багрыма.

Выступала Ніна Загорская як публіцыст, крытык і перакладчык. Яна адгукнулася на выхад зборнікаў вершаў Максіма Танка, П.Панчанкі, Г.Бураўкіна, Я.Янішчыц і інш. З апошняй яе звязвалі сяброўскія і творчыя стасункі. Паэтка з Баранавіччыны пераўвасабляла па-беларуску творы рускіх, украінскіх, чэшскіх і нават грузінскіх, татарскіх і іншых мастакоў слова. Яе паэтычны голас гучаў не толькі ў Беларусі і на роднай мове, але і за мяжой. Творы Ніны Загорскай таксама перакладзены на рускую, украінскую, чэшскую мовы. Даводзіцца, аднак, канстатаваць, што, пачынаючы з 1990-х гг., інтэнсіўнасць паэтычнай творчасці Ніны Загорскай рэзка ўпала. Яе імя фактычна знікла са старонак перыядычных выданняў.

Адметнасць біяграфіі паэткі ў многім вызначыла кола тэмаў, праблемаў, матываў, якія з'яўляюцца вызначальнымі ў яе творчасці. Памятлівыя дзіцячыя ўражанні, палітычная сітуацыя ў свеце ў 70-80-я гг. XX стагоддзя, якая вызначылася супрацьстаяннем атамных дзяржаваў – СССР, ЗША, пагроза, якая навісла над чалавецтвам, страх беларусаў перад новай вайной, калі былі вельмі жывымі і балючымі раны ад Другой сусветнай, нарадзілі вершы, прысвечаныя Вялікай Айчыннай вайне. Для паэтычных радкоў Ніны Загорскай на гэтую тэму характэрны дзве інтанацыі – трагедыйная і ўслаўляльна-гераічная з перавагай першай.

Напэўна, ёсць жыццёвая першааснова ў балады "Блакада", бо цяжка ўявіць, што гэта магло быць створана аўтарскай фантазіяй. Пісьменнікі ў сваіх творах увасобілі тысячы трагічных сітуацый з часу Вялікай Айчыннай вайны. Той матыў, што лёг у аснову верша Ніны Загорскай "Блакада", непаўторны:

*– Мама, пчолкі ляцяць?*
*– Дочачка, гэта кулі...*
*– Я налаўлю іх, мама! –*
*І стрымгалоў малое*
*(Маці спыніць не паспела)*
*Кінулася напярэймы*
*Злосным свінцовым восам,*

*Якія з ціўканнем*
*Уядаліся*
*Ў цела граба,*
*Векавечнага мудрага дрэва,*
*Што люляла, гушкала мары*
*Няцямнай свавольніцы.*
*Дрэва не паспела малой затуліць.*

Такі верш магла напісаць толькі жанчына, якая спазнанала шчасце мацярынства і якая адчувала пагрозу сваім дзецям.

Дзеці-ахвяры вайны, ненароджаныя дзеці, бо іх патэнцыяльных бацькоў забрала вайна, – адзін з вызначальных матываў твораў Ніны Загорскай ваеннай тэматыкі. Не паспеўшы нацешыцца радасцю сямейнага жыцця, заўчасна старэлі ўдовы, не зведаўшы шчасця мацярынства. У вершы "Скрозь – абеліскі" паэтка паказвае, якой невымерна дарагой цаной заваяваны мір. Ахвяры – гэта не толькі тыя, каму ўзведзены абеліскі, хоць іх вельмі многа, яны скрозь. Пад гэтымі абеліскамі і ненароджаныя дзеці, бо тым, каму ў вайну было пятнаццаць – васемнаццаць, "ім ніколі ўжо не называцца Шчымліва-радасна – бацькамі". У аснову многіх твораў, прысвечаных Вялікай Айчыннай вайне, кладуцца падзеі, звязаныя з Баранавічамі, Брэстам і яго ваколіцамі: "У Брэсцкай крэпасці", "Ружы з заставы Кіжаватава", "Пасівелі мае бярозы" і інш.

Пафасам многіх вершаў паэткі з'яўляецца апяванне шчырасці, любові, непасрэднасці ў выяўленні пачуццяў, дабрыні найперш. Усім зместам верша "Добрай раніцы!" Ніна Загорская імкнецца пераканаць чытача, што трэба з даверам, з радасцю і шчырасцю ісці да людзей. Сказаныя сустрэчным словы-пажаданні, словы-вітанні не могуць не адгукнуцца у іх сэрцах.

Цэлы раздзел у зборніку "Мне добра з вамі" прысвечаны інтымнай лірыцы. Ёсць вершы пра каханне і ў іншых раздзелах гэтага зборніка. У адных з іх Ён для Яе – ты, а ў другіх – Вы. Ніна Загорская стварыла своеасаблівую паэтычную хроніку ўзаемаадносінаў паміж Ёю і Ім, пачынаючы ад палкай закаханасці і канчаючы разрывам, калі ад былога кахання нічога не засталося. Інтымных вершаў, у якіх лірычная гераіня з Ім на Вы, няшмат. Паміж імі няма кахання. Ёсць Яе парыў да Яго без узаемнасці. Сцежкі іх так і не сышліся, аднак Яна Ніны Загорскай удзячная лёсу, што некалі Ён падараваў, хай і пакутлівае, шчасце:

*Я адышла ад Вас, ад Вашых радасцей.*
*Цяпер цвітуць без Вас мае сады.*
*Але вяртаюся, заўсёды я вяртаюся*
*На пазыўныя Вашае бяды.*

Сям'я, род, родныя мясціны займаюць значнае месца ў творчасці паэткі: "Настаўнікам Сталавіцкай школы", "Да землякоў", "Марусіна хата" і інш. Вершы Загорскай стракацяць тапонімамі і мікратапонімамі Баранавіччыны: Загор'е, Баранавічы, Сталовічы, Крашын, Шчара, Залатая Гара, Вострая Гара, Папова Гара, Сталавіцкая Гара, Выганы, Роў, Лапатаўшчына і інш. Дамінавальнай інтанацыяй вершаў, прысвечаных роднаму куту, з'яўляецца замілаванне яго прыродай, гісторыяй, продкамі.

Ніна Загорская асэнсоўвае надзвычай пашыраны ў беларускай літаратуры 60-70 гг. матыў пра духоўныя страты для грамадства, калі разрываюцца повязі з родным кутом.



МІКОЛА БУСЬКО

Да гэтага пакалення трэба далучыць і Міколу Бусько. Праўда, ён нарадзіўся ў 1940 г. у вёсцы Пагарэльцы Карэліцкага раёна. Але ўсё сваё сталае жыццё пасля службы ў арміі жыве і працуе ў Баранавічах, пачынаючы з 1962 г., калі паступіў у тэхнікум лёгкай прамысловасці. Яшчэ ў школьныя гады выявілася ў Міколы Бусько любоў да малявання. Ён паступае на выяўленчы факультэт Маскоўскага завочнага народнага універсітэта мастацтва (1962 – 1967). Пасля яго заканчэння пачынае працаваць мастаком-афарміцелем у розных установах і на прадпрыемствах г. Баранавічы.

Дэбютаваў вершамі ў 1978 г. у часопісе “Маладосць”. Пазней публікаваўся ў рэспубліканскіх газетах і часопісах, у абласным і раённым друку. Актуальнасць тэматыкі і праблематыкі, шчырасць пачуцця, меладычнасць гучання яго вершаў былі заўважаны крытыкамі. У 1986 г. выйшла першая кніга паэзіі “У Нёмана на плячах”. У 1995 г. з’явілася яшчэ адна паэтычная кніжка Міколы Бусько – “Сузор’е шаляў”. Ён піша ў традыцыйна-класічнай манеры. Найбольш цікавымі з’яўляюцца тыя вершы паэта, у якіх асэнсаваны рэаліі роднага кута: “Аўтобус на Пагарэлку”, “Налібокі” і інш. Міколу Бусько як прафесійнаму мастаку ўдалося стварыць выразныя зрокавыя паэтычныя карціны прыроды: “Акварэль”, “Эцюд”, “Сакавік” і інш.

“На шчыце сваіх гадоў, адплыўшы” ў сталасць, Мікола Бусько цалкам становіцца дзіцячым пісьменнікам. Паказальна, што гэтая адметнасць яго таленту выявілася з самага пачатку. У зборнік “У Нёмана на плячах” была ўключана казка “Ад галінкі да сучка – тэлефон у павучка”, якая пазней выйшла самастойным выданнем. Дзецям адрасаваны такія кніжкі, як “Шасцікрылец Хмарагон”, “Бабрыная навука: Скарагаворкі, каламбуры, загадкі, акравершы, казкі”. Для дзіцячых твораў Міколы Бусько характэрна займальнасць, шчырасць, здольнасць словам стварыць выразную зрокавую карціну, што якраз адпавядае дзіцячаму ўзросту. Паэт з Баранавічаў на канкрэтных, цікавых для дзяцей прыкладах з акаляючага асяроддзя, на прыкладзе звяроў, свойскіх жывёл, казюрак ненавязліва раскрывае спрадвечныя праблемы дабра і зла, прыгожага і брыдкага і дапамагае сваім чытачам зрабіць правільны выбар.

Творы Міколы Бусько для дзяцей вызначаюцца жанравай разнастайнасцю. Галоўнае месца належыць казкам. Ён стварае таксама скарагаворкі, скіраваныя на авалоданне дзецьмі такімі гукамі, якія традыцыйна выклікаюць цяжкасць вымаўлення. Паспрабаваў сябе творца з Баранавічаў і ў жанры п’есы. Імкнучыся разнастаіць сваю паэзію для дзяцей, ён не заўсёды ўлічвае ўзрост тых, каму адрасуе вершы, як скажам каламбуры і акравершы. Наперадзе ў Міколы Бусько і авалоданне майстэрствам драматургічнага дзейства, сцэнічнасці п’есы, што, на жаль, яму не ўдалося ў “Бабрынай навуцы”.

АЛЕСЬ ЖАМОЙЦІН

Алесь Жамойцін паходзіць з патомнай (па лініі маці Веры Язэпаўны) сялянскай сям'і з вёскі Малахоўцы. Яго дзед Язэп Малевіч, па сведчанні паэта, не паверыў савецкім уладам пра калгасны рай, застаўся аднаасобнікам і нават адседзеў у турме па прыгаворы суда "за тунеядство", хоць меў залатыя рукі і славіўся як майстар-пячнік.

Нарадзіўся Алесь Жамойцін 17 жніўня 1955 г. ужо ўсям'і рабочых мясцовага саўгаса. Выключны ўплыў на фармаванне светаўспрымання хлопчыка аказалі дзед з бабай. Дзяцінства і ранняе юнацтва паэта прайшло ў школах-інтэрнатах – спачатку ў Ястрамбельскім побач з роднай вёскай, а апошнія гады школьнага навучання ў Пружанах. Пасля заканчэння дзесяцігодкі (1972 г.) спрабаваў паступіць на гістарычны факультэт Гомельскага універсітэта, але пацярпеў няўдачу.

Адслужыўшы ў войску (1973 – 1975), юнак з Малахоўцаў пачаў шукаць сам сябе: працаваў слесарам на Наваполацкай ТЭЦ, рулявым матарыстам на цеплаходзе "Днепр – Буг". На гэты час прыпадае і пачатак яго літаратурнай дзейнасці. Алесь Жамойцін прыгадвае: "Хадзіў рэйсам ад Брэста да Мазыра. Сады ў квецені над вадою ў раёне Жабінкі і Кобрына абудзілі да сапраўднай творчасці паэтычную натуру. Першы верш напісаў на 21-м годзе жыцця". Наш зямляк падаецца ў БДУ на філалагічны факультэт завочнага навучання. Алесь Жамойцін надзвычай удзячны выкладчыкам сваёй альма-матэр за іх плённы ўплыў на фармванне яго нацыянальнай самасвядомасці, а знаёмства з Нілам Гілевічам лічыць знакавым у сваім жыцці. Юнак з Малахоўцаў пераязджае на Гарадзеншчыну і пачынае працаваць настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў Доцішскай СШ Воранаўскага раёна (1978 – 1985), у мясцінах, асвечаных імем Францішка Багушэвіча.

Гэта быў надзвычай плённы перыяд у творчай біяграфіі нашага земляка. Ён у 1981 г. дэбютаваў у друку як паэт, з'явіліся яго першыя літаратуразнаўчыя артыкулы, звязаныя з жыццём аўтара "Дудкі беларускай". Пасля заканчэння універсітэта паступіў у аспірантуру пры Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору і пачынаў працу над дысертацыяй "Фалькларыстычная дзейнасць Яна Карловіча ў святле беларуска-польскіх культурных сувязяў", меў падтрымку з боку такіх выдатных знаўцаў беларускай літаратуры і культуры XIX ст., як Сцяпан Александровіч і Генадзь Кісялёў.

Даследаванне патрабавала працы ў архівах, найперш Вільні, і Алесь Жамойцін уладкоўваецца на вахтавую працу на Прыбалтыйскай чыгунцы. Ён атрымаў мажлівасць працаваць у архівах былой сталіцы Вялікага княства Літоўскага, зблізіўся з цікавымі беларусамі-патрыётамі. "Гэты час успамінаю вельмі цёпла, – зазначае творца з Малахоўцаў, – бо тады блізка сышоўся з колам старой і маладзейшай беларускай віленскай інтэлігенцыяй: Зоськай Верас, братамі Луцкевічамі (Лявонам і Іванам – сынамі Антона Луцкевіча), Янкам Баргановічам і інш. Часта наведваў старую хатку пад Вільняй, дзе жыла Зоська Верас і дзе збіралася і віленская, і менская, і гарадзенская інтэлігенцыя на імпрэзы". На



гэты час прыпадае і творчая актыўнасць: рыхтуецца да выдання першая паэтычная кніжка, у "ЛіМе", "Беларусі", "Полымі" з'явіліся літаратуразнаўчыя артыкулы.

З 1988 г. Алесь Жамойцін пачынае працаваць дырэктарам музея Францішка Багушэвіча ў Кушлянах. Праз год выходзіць першы і пакуль што адзіны зборнік вершаў паэта "Азірнуўшыся – не скамянею". Прадмову да першай кнігі маладога творцы напісаў Ніл Гілевіч. Свой артыкул знаны пісьменнік назваў характарыстычна – "Удумліва, сур'ёзна і асабіста". Ніл Гілевіч паставіў нашага земляка з Баранавіччыны ў лік самых яркіх маладых талентаў 1980-х гг.

Першы зборнік Алеся Жамойціна фактычна склалі яго чатыры паэмы: "Сцверджанне ісціны", "Дрэвы згоды", "Кастусь Каліноўскі", "Дудка між кайданаў". Іх адметнасць заключаецца ў тым, што кожная з іх уяўляе сабой цыкл вершаў, аб'яднаных ідэйна-тэматычнай сувяззю і аўтарскай пазіцыяй. У гэтых паэмах Алесь Жамойцін асэнсоўвае гістарычны матэрыял, які паэта цікавіць не сам па сабе, а дае магчымасць раскрыць агульначалавечыя і нацыянальныя праблемы. У творах нашага земляка ўчарашні і сённяшні дні паяднаныя.

У паэме "Сцверджанне ісціны" аўтар услаўляе тых вядомых і невядомых гістарычных асобаў, пачынаючы ад Джарджана Бруна і Мікалая Каперніка, хто пайшоў на смерць, але не выракся ісціны, застаўся верным самому сабе і сваім перакананням. Сюжэтную аснову паэмы "Дрэва згоды" склалі ўзаемаадносіны кіеўскіх і драўлянскіх князёў. У творы супрацьпастаўляюцца летапісная і народная памяць пра мінулае на карысць апошняй. На думку аўтара, летапісцы, застрашаныя княгіняй Вольгай, манілі. Алесь Жамойцін уздымае праблему адказнасці творцы перад самім сабой і часам, будучыняй, не толькі перад уладарамі-сучаснікамі, але і наступнікамі. Паэт пратэстуе супраць подласці, жорсткасці, здрадлівасці.

Алесь Жамойцін не мог абысці ў сваёй творчасці тэму Францішка Багушэвіча і Кастуся Каліноўскага, раз лёс звязаў яго з Доцішкамі на Воранаўшчыне. Тут у свой час працаваў настаўнікам і аўтар "Дудкі беларускай". У 1863 годзе адсюль пайшоў у паўстанне, стаў пад змагарныя сцягі за долю і волю на чале з Кастусём Каліноўскім. Таму паэмы "Кастусь Каліноўскі" і "Дудка паміж кайданамі" таксама звязаны паміж сабой не толькі падзеямі і героямі, але і прастора-часавымі вымярэннямі. Гэтымі творамі паэт імкнецца раскрыць свае прыярытэтныя каштоўнасці. У асобе атамана мужыцкай праўды аўтара прываблівае гарманічнае паяднанне любові да радзімы, да каханай, да братоў-аднадумцаў. Алесь Жамойцін пратэстуе супраць духоўнай інертнасці, здрадлівасці, прадажнасці. У паэме "Дудка паміж кайданамі" аўтара хвалюе праблема мастака, яго лёсу і грамадскага прызначэння ў паняволенай краіне.

Кушлянскі перыяд жыцця і творчасці Алеся Жамойціна звязаны з рэстаўрацыяй сядзібы, з арганізацыяй новай экспазіцыі, з наданнем музею сапраўднага мемарыяльнага статуса. У творчым плане наш зямляк пераключыўся на напісанне тэкстаў песняў і музыкі да іх, арганізаваў ансамбль народных інструментаў, з якім гастралюе па раёне і вобласці, карыстаючыся прыхільнасцю слухачоў і прафесійных кампазітараў. Час ад часу ў "Родным слове", "Дзеясло-

ве”, “Нашым слове” з’яўляюцца падборкі яго вершаў, якія нельга аднесці да набыткаў у сучаснай беларускай паэзіі, ды і ў творчасці Алеся Жамойціна таксама.

## АЛЯКСАНДР ГАЛЬКЕВІЧ

Галькевіч Аляксандр Барысавіч нарадзіўся ў 1956 годзе ў г. Баранавічы Брэсцкай вобласці. Пасля заканчэння школы ў 1973 годзе паступіў у Віцебскі дзяржаўны медыцынскі інстытут, які скончыў у 1979-м. Працуе ўрачом хуткай медыцынскай дапамогі ў Баранавічах. З 1976 года - майстар спорту СССР па боксу. Член Саюза пісьменнікаў Беларусі з 2004 года. Публікаваўся ў выдавецтвах «Мастацкая літаратура» (аповесць «Неудачник», 1992 год), «Адукацыя і выхаванне» (раман «Фанатик», 2005), а таксама ў перыядычным друку: часопіс «Нёман», 2003 год - аповесць «Дети до шестнадцати», 2004 год - роман «Прозрение»; газеты «Наш край», «Интекс», «Шаг» - аповесць «Последний», апавяданні «Боксер», «Поминки», «Как сделать праздник».



# ГАНЦАВІЦКІ РАЁН

Напрыканцы 2007 года ў серыі "Беларусь літаратурная" выйшла кніга "Паміж Бобрыкам і Ланню" (Мн.: Мастацкая літаратура, 2007), прысвечаная Ганцавіцкаму раёну. У ёй прадстаўлена "цэлае сузор'е" літаратараў, чый лёс непарыўна звязаны з гэтым краем. "Адкуль жа бяруць яны свае вытокі? – разважае галоўны рэдактар Ганцавіцкай раённай газеты "Савецкае Палессе" Кастусь Мохар. – Не пабаюся сказаць: з глыбінь народных. Яны, несумненна, пачынаюцца з чудзінскіх казачнікаў Данілы Куляша і Дудара, чые казкі "Палешукі і палевікі" і "Пану навука" ўвайшлі ў залатую скарбонку беларускай фалькларыстыкі, сталі неад'емнай часткай нацыянальнай культуры. Яны, урэшце, ад знакамітага беларускага вучонага-этнографа і фалькларыста Аляксандра Сержпутоўскага, які жыў на хутары паблізу Пярэвалак, ад класіка беларускай літаратуры Якуба Коласа, які на пачатку ХХ стагоддзя настаўнічаў у Люсіне. Гэта лішняе сведчанне, што ў літаратараў Ганцаўшчыны моцныя карані, што выраслі яны не на голым месцы, а ў блаславёным краі, асветленым божым дарам і спагадай".

Сапраўды, фальклорнае багацце гэтай часткі Палесся, імёны, прозвішчы, зрэдку мянушкі самабытных мастакоў вуснапаэтычнага слова ўпершыню адкрыў у пачатку ХХ стагоддзя Аляксандр Казіміравіч Сержпутоўскі. Традыцыі славутых апавядальнікаў Рэдкага, Матруны Бохмачыхі, Данілы Куляша і іншых захаваліся да нашага часу, што пацвярджаюць шматлікія фальклорныя экспедыцыі і сучасныя запісы народнай спадчыны, у тым ліку зборнік казак "Чыстага ўсё нячыстае баіцца" (2001), падрыхтаваны пісьменнікам-земляком Алесем Каскю.

Вялікую мудрасць і філасофію жыцця бачыў у беларускіх народных казках, апавяданнях, легендах і паданнях Якуб Колас, пачатак педагагічнай дзейнасці якога звязаны з вёскай Люсіна Ганцавіцкага раёна.

Склалася, аднак, так, што літаратурнае жыццё на Ганцаўшчыне, дзе жылі і працавалі А. Сержпутоўскі і Я. Колас, актывізавалася толькі ў пасляваенны перыяд. Асаблівую заклапочанасць у гэтай справе праяўляў Васіль Фёдаравіч Праскураў, які ў 1950 годзе прыехаў у Ганцавічы і застаўся тут назаўсёды. Звязаўшы свой лёс з раённай газетай "Сялянская праўда" (пасля "Савецкае Палессе"), В. Праскураў стаў не толькі прафесійным журналістам і прызнаным пісьменнікам-нарысістам. Для творчай моладзі ён быў педагогам, літаратурным настаўнікам, які па-бацькоўску – патрабавальна і зычліва – апекаваўся маладымі аўтарамі. Некалькі дзесяцігоддзяў вакол яго гуртаваліся здольныя журналісты і пісьменнікі-пачаткоўцы. Дзякуючы яго падтрымцы прыйшлі ў літаратуру Іван Кірэйчык, Міхась Рудкоўскі, Віктар Гардзей, Кастусь Мохар, Алесь Каско, Уладзімір Марук, Мікола Антаноўскі.

З блаславення Васіля Фёдаравіча філалогія стала справай жыцця Галіны Ішчанка (нар. у 1963 годзе ў в. Будча). Сёння яна – кандыдат філалагічных навук, дацэнт Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А.С. Пушкіна, адзін з аўтараў школьных праграм і падручнікаў па беларускай літаратуры. Актыўна

выступае ў друку як метадыст і літаратуразнавец. Навуковыя зацікаўленні Галіны Мікалаеўны звязаны найперш з даследаваннем жыцця і творчасці У. Караткевіча, іх метадычнай інтэрпрэтацыяй. Ёю напісаны манаграфіі "Каласы адродзяцца ўзерні" (2002) і "Уладзімір Караткевіч у школе" (2002).

Пералічаныя вышэй літаратары, за выключэннем М. Антаноўскага, – ураджэнцы Ганцавіцкай зямлі, вядомыя ў Беларусі паэты, празаікі, навукоўцы. Мікола Антаноўскі родам з вёскі Сташаны Пінскага раёна, але некаторы час працаваў разам з Васілём Праскуравым у рэдакцыі раённай газеты, набіраўся тут вопыту ў журналісцкай і літаратурнай дзейнасці.

У канцы 50-х гадоў наменікам рэдактара "Сялянскай праўды" быў беларускі кнігавыдавец, перакладчык і публіцыст Міхаіл Дубянецкі (1927–1990, нар. у в. Востраў Пінскага раёна). У рэдакцыі газеты "ніхто не здзіўляўся, калі ў праёме пахілых весніц над навіссю жоўтых акацый" (В. Гардзей) з'яўляўся Мікола Купрэеў (1937–2004). Паэт-вандроўнік часта на тыдзень-другі спыняўся ў Ганцавічах. Гэты куток Палесся ён добра ведаў (у свой час настаўнічаў у Чудзінскай і Малькавіцкай сярэдніх школах) і любіў "апантана, з нейкай малавытлумачальнай пяшчотай і сыноўняй замілаванасцю, чаму ў ягонай лірычнай паэзіі, – як адзначае В. Гардзей, – ёсць безліч вартых прыкладаў".

*Мілая бярозка, не бядуй:*
*Мы яшчэ з табою ўстрапянёмся.*
*Толькі заўтра на зары*
*Ў сукенку найбялейшую адзенься.*

*Белую кашулю я і сам*
*на сябе надзену, прычашуся.*
*І пойдзем мы з табою каля рэк*
*нашай добрай роднай Беларусі.*

*Мілая бярозка не бядуй:*
*мы з табой яшчэ пачуем,*
*як прыходзіць вечар на палі,*
*і ў траве ля Начы заначуем.*

*А раніцой ты веццем узмахнеш*
*светла і зялёна, як ніколі.*
*І будзем мы абняўшыся стаяць,*
*слухаць, як расце над намі поле.*

*(М. Купрэеў)*

Да знакамітых літаратараў, якімі сёння ганарыцца Ганцаўшчына, варта дадаць імёны Івана Лагвіновіча і Алеся Кажадуба.

Апошнім часам у параўнанні з іншымі раёнамі Брэсцкай вобласці тут назіраецца цесная пераемнасць літаратурных пакаленняў. Моцна і ўпэўнена на старонках перыядычных выданняў гучаць галасы маладых аўтараў. Некаторыя з іх, як, напрыклад, члены ўзорнага літаратурнага аб'яднання "Верасок"



пры раённым цэнтры дзіцячай і юнацкай творчасці, толькі робяць свае першыя крокі ў літаратуры. Больш вопытныя пісьменнікі-землякі паспелі падрыхтаваць і выдаць асобныя кнігі. Паэтычны зборнік "Летуценніца" выдала Ніна Кавальчук (нар. у 1958 г. у в. Хатынічы). Зямлячка Алеся Касю Ірына Дарафейчук (нар. у 1968 г. у в. Чудзін) з'яўляецца аўтарам кнігі "Сцяблінка на лязе". У зборнік "Цянёты" сабраў свае вершы Віталь Псеўданім (Віталь Чабатарэнка, нар. у 1976 г. у в. Шашкі). Яго равеснік Анатоль Трафімчык з вёскі Вялікія Круговічы – аўтар двух кніг паэзіі: "Ноты цноты" і "Пасведчанне аб нараджэнні" (апошняя выйшла пад псеўданімам В. Толь). Дарэчы, В. Чабатарэнка і А. Трафімчык – выпускнікі філалагічнага факультэта Брэсцкага педінстытута імя А.С. Пушкіна. Па публікацыям у раённым і рэспубліканскім друку чытачы знаёмы з творчасцю Кастуся Мохара (нар. у 1946 г. у г. Ганцавічы), Ніны Таўстын (нар. у 1948 г. у в. Хатынічы). У сярэдзіне першага дзесяцігоддзя новага (дваццаць першага) веку на поўны голас загучала паэтычнае слова Святланы Локтыш. Яна нарадзілася ў 1971 годзе ў в. Люсіна Ганцавіцкага раёна. Праўда, неўзабаве лёс адрывае будучую паэтку ад родных мясцін: падросшы ў Ганцавічах, яна з матуляй апынулася ажно ў далёкай Сібіры. А як надарылася магчымасць на канікулах пасля здачы выпускных экзаменаў у школе вярнуцца, дык ад роднага куточка так і не здолела адарвацца. Ехала пагасцяваць, а засталася на сваёй адвечнай зямлі назаўсёды. Спачатку паступіла на харавое аддзяленне Гродзенскага вучылішча мастацтваў, пасля – на факультэт рэжысуры Мінскага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры, які скончыла ў 2001 годзе. Вось толькі ні па адной з атрыманых спецыяльнасцей працаваць так і не выпала.

Зараз Святлана – адказны сакратар Ганцавіцкай раённай газеты "Савецкае Палессе". Вершы пачала пісаць у юным узросце. Пра што яны? Ды пра ўсё тое, што хвалюе маладую жанчыну, надзеленую даткліваю душою і талентам: пра каханне, сям"ю, дзяцей, продкаў; пра жыццё-быццё, пра сяброў-землякоў… Кожны верш напоўнены ўнутранымі перажываннямі аўтара і лірычнага героя ў адной асобе. Адны з іх задыхаюцца ад роспачы, драпаюць па сэрцы трывогаю і разгубленасцю, іншыя зіхцяць шчасцем матулі і каханай… І ніводзін не пакідае чытача абыякавым.

Літаратурную Ганцаўшчыну прадстаўляюць і тыя, хто па волі лёсу жыве і працуе ў гэтым рэгіёне. Ганцавічы сталі роднымі для Святланы Асаўцовай і Аляксея Галаскока. С. Асаўцова піша на рускай мове як вершы, так і прозу, мае зборнік "Я живу для добра". А. Галаскок – аўтар паэтычнай кнігі "Не шкадуюць мяне мае вершы".

## АЛЯКСАНДР СЕРЖПУТОЎСКІ
(1864 – 1940)

Навуковая дзейнасць выдатнага беларускага этнографа і фалькларыста, нястомнага збіральніка народных казак Аляксандра Казіміравіча Сержпутоўскага звязана пераважна з Палессем. Родам ён з вёскі Бялевічы Слуцкага павета Мінскай губерні (цяпер Слуцкі раён), аднак усё жыццё сваёй радзімай лічыў

Ганцаўшчыну. Тлумачыцца гэта тым, што праз сем месяцаў пасля нараджэння сына сям'я Сержпутоўскіх пераехала на хутар, які знаходзіўся паміж вёскамі Чудзін і Пярэвалакі. Сёння гэта толькі лясное ўрочышча Шарпутоўшчына. Тут, у палескай глушы, на берагах Лані, прайшло дзяцінства і юнацтва будучага вучонага. Спачатку ён як аматар захапіўся вывучэннем мовы, побыту, духоўнай і матэрыяльнай культуры беларусаў-палешукоў. Захапленне, аднак, аказалася такім моцным, што пазней этнаграфія стала справай усяго яго жыцця. З 25 сваіх этнаграфічных экспедыцый восем А. Сержпутоўскі ажыццявіў на Беларусь, прычым першая была арганізавана ў 1906-1907 гг. у родныя мясціны, на Палессе. Толькі ў час гэтай экспедыцыі "ім было сабрана 800 этнаграфічных рэчаў (земляробчыя прылады працы, прадметы жылля, хатняе начынне, адзенне, тканіны, вышыўкі, сродкі транспарту, бандарчыя і цяслярныя вырабы, прылады рыбнай лоўлі і пчалярства, сродкі народнай медыцыны, музычныя інструменты, зроблена звыш 200 фотаздымкаў з быту народа..." (Бандарчык В., Фядосік А.). А. Сержпутоўскі двойчы пабываў у экспедыцыях на Палессі. Кожны раз наведваў і бацькоўскі хутар каля Пярэвалак.

Вынікі першых экспедыцый малады этнограф абагульніў у нарысе "Белорусы-полешуки: Постройки, занятия и поверья крестьян северной половины Мозырского и южной части Слуцкого уездов Минской губернии" (1908). Потым жыццё гэтай часткі Палесся знайшло сваё адлюстраванне ў такіх этнаграфічных працах, як "Нарысы Беларуси" (1907–1909), "Земляробчыя прылады беларускага Палесся" (1910) і "Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў" (1930). Апошняя з'яўляецца вынікам шматгадовай збіральніцкай дзейнасці вучонага. У ёй змешчана 2275 тэкстаў, запісаных пераважна ў вёсцы Чудзін. Дарэчы, ёй прысвечана і грунтоўная моваазнаўчая праца Сержпутоўскага "Граматычны нарыс беларускай гаворкі вёскі Чудзін Слуцкага павета Мінскай губерні" (1911). У Чудзіне і суседняй вёсцы Вялікі Рожан, якая раней адносілася да Ганцавіцкага раёна, ён запісаў нямала народных казак. Пад асобнымі з іх пазначаны і іншыя мясціны Ганцаўшчыны – Бохава, Крыжы, Пешчанка, Пярэвалакі. Некаторыя геаграфічныя назвы гэтага краю ўпамінаюцца ў саміх тэкстах. Напрыклад, вядомы Узбіскі бор, які знаходзіўся між Будчай і Дзяніскавічамі і дзе калісьці ляжаў камень са следам Багародзіцы.

Ад А.К. Сержпутоўскага дайшлі да нас скупыя звесткі пра выдатнага беларускага казачніка Рэдкага. Вучоны не даў інфармацыі, калі нарадзіўся і памёр Рэдкі, не назваў сапраўднае імя гэтага самародка, пакінуў яго ў гісторыі культуры толькі з мянушкаю. Паходзіў казачнік з вёскі Вялікі Рожын. Пражыў ён доўгае жыццё – каля ста гадоў. Да глыбокай старасці вызначаўся "незвычайнай бадзёрасцю, вясёлым характарам, здольнасцю расказваць казкі цэлымі гадзінамі" (Бараг Л.). Быў Рэдкі непісьменны. Займаўся звычайнай сялянскай працай. Ад гэтага непісьменнага народнага мастака А. Сержпутоўскі запісаў і апублікаваў 38 тэкстаў казак: "Музыка-чарадзей", "Музыка і чэрці", "Каваль-багатыр", "Асілак" і інш. Варта адзначыць, што Рэдкі не толькі расказваў, але і сам ствараў казкі. Для казак Рэдкага характэрны псіхалагічная характарыстыка герояў, вялікая ўвага да ўнутранага свету персанажаў. Яго мова паэтычная,



перасыпаная прыказкамі, устойлівымі выразамі. Вось чаму аўтар грунтоўнага нарыса пра казачніка Уладзімір Калеснік адзначае, што гэта быў “самабытны мастак слова, мудры непісьменны пісьменнік”.

Нямала цікавых казак, апавяданняў, паданняў пачуў даследчык з вуснаў Лявона Лебедзіка, Данілы Куляша, Болбата, Дудара, дзеда Савіцкага, Сасноўскага, С. Корчыка, Матруны Бохмачыхі, шляхцянкі Умінскай, якія жылі ў Чудзіне. “Перш чым запісваць народныя творы, – прыгадваў Аляксандр Казіміравіч, – я доўга жыў на вёсцы, знаёміўся, як кажуць, з старымі і малымі, гаварыў з імі пра гаспадарку, пра іх дзеда, пра тую бяду, якая заўжды трапляецца сярод людзей. І толькі тады, як людзі пачнуць гаманіць са мною, як з сваім братам, я распытваю, хто там добра бае казкі. З тым казачнікам я сустракаюся нібы ненарокам і сам расказваю яму якое-небудзь апавяданне. Ён паслухае і сам пачне баяць. Перш я толькі слухаю казку, але не запісваю, а стараюся запомніць яе так. Бо калі адразу запісваць, дык кожны баечнік, саромеючыся, шмат што прапусціць, скамечыць, пачне варочацца назад ды блытаць, і выйдзе штось нікчэмнае, а не мастацкі твор. І толькі тады пачынаю запісваць, як баечнік добра пазнаёміцца і ўдругае пачне расказваць тую байку. Калі байка кароткая і добра запісана, дык я яе так і застаўляю, а калі ж яна даўгая ды блытаная, дык я яе слухаю яшчэ трэці раз ды сачу свой запіс. Тут часамі мастак-баечнік дабаўляе ўсялякія прыказкі, прымаўкі ды жарты, што і робіць яго твор мастацкім”.

У сваіх запісах вучоны імкнуўся захаваць усе асаблівасці дыялектнай мовы палешукоў: “Запісваў я, як толькі мог запісаць у кароткі час і як чула маё вуха, слова ў слова так і тою самаю гаворкаю, якою гаварыў баечнік. Транскрыпцыя запісаў ясна кожнаму, хто толькі чытае па-беларуску, і не патрабуе асаблівага тлумачэння. Усюды паставіў я націск так, як іх стаўляў у жывой гаворцы кожны баечнік. Калі ж адзін і той самы баечнік гаварыў неаднакова, дык там так і застаўлена. Зроблена гэта дзеля таго, каб запісаць на паперы жывую гаворку як можна вярней”.

Сабраныя А.Сержпутоўскім казкі, легенды, паданні склалі два вялікія зборнікі “Казкі і апавяданні беларусаў-палешукоў” (1911) і “Казкі і апавяданні беларусаў з Слуцкага павета” (1926).

Не абышоў даследчык сваёй увагай і народную песню. Захаваўся рукапіс яго зборніка “Беларускія песні”. Фалькларыст напісаў таксама шмат рэцэнзій на тагачасныя зборнікі беларускага народнага меласу. “З яго экспедыцыйных дзённікаў можна бачыць, як жыва цікавіўся ён народнай песнятворчасцю. Гэта пацвярджае і “Сшытак для нататкаў”, які вёў Сержпутоўскі ў час сваёй паездкі ў беларускае Палессе ў лютым 1906 года. Апісваючы вёскі Агарэвічы, Шашкі, Круковічы, Чудзін, Дзяніскавічы, Гаўрыльчыцы, ён адначасова запісваўу гэтых вёсках прыказкі і прымаўкі, замовы, песні” (Пятроўская Г., Цішчанка І.).

Багатая фальклорная і этнаграфічная спадчына А. Сержпутоўскага паступова прыходзіць да сучаснага чытача. Не так даўно выйшлі здруку яго зборнікі “Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў) (1998), “Сказки и рассказы белорусов-полешуков” (1999), “Казкі і апавяданні беларусаў Слуцкага павета” (2000).

ЯКУБ КОЛАС
(1882 – 1956)

“Ваша Люсінская школа была маім першым настаўніцкім месцам, з якога пачалася мая дарога ў жыццё... Я вас любіў чыстым юнацкім сэрцам, хацеў дапамагчы вам знайсці лепшую дарогу ў жыцці, лепшую за тую дарогу, па якой ішлі вашы дзяды і бацькі”, – пісаў Якуб Колас у лісце да люсінцаў у чэрвені 1948 года. У Люсіне (тады Пінскі павет Мінскай губерні, цяпер Ганцавіцкі раён Брэсцкай вобласці) пісьменнік працаваў амаль два гады – з 1 кастрычніка 1902 па 1 верасня 1904. Адзначым, што год разам з ім жыла сястра. Дадзеныя “Памятной книжки Минской дирекции народных училищ за 1902/903 учебный год”, сведчаць, што на той час у Люсінскім вучылішчы (школе) было 37 вучняў – 35 хлопчыкаў і 2 дзяўчынкі, а настаўнікам з аплатай працы 240 руб. тут прызначаны Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч, які закончыў курс Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі. Малады Колас захапіўся педагагічнай дзейнасцю, цэлымі днямі займаўся з дзецьмі ў школе. Адзін з яго вучняў Міхаіл Занька пазней прыгадваў: “...Нялёгка было пачынаць работу ў вёсцы, дзе нават аб газавай лямпе маглі толькі марыць. Нястомна пераконваў малады настаўнік, што сялянам, як святло, патрэбна пісьменнасць. Настаўніка любілі ўсе: і старыя, і дзеці”.

Месца, дзе знаходзілася школа, дакладна апісана ў першай частцы трылогіі “На ростанях” – аповесці “У палескай глушы”, у якой Люсіна фігуруе пад назвай Цельшына: “Цельшынская школа стаяла на рагу дзвюх вуліц. Адна вуліца, прасторная, роўная, шырокая, ішла на чыгунку, другая, невялічкая, бегла ў поле і зараз жа канчалася, перайшоўшы дарогу. На перасеку гэтых вуліц, каля саменькай школы, стаяў высачэзны крыж. Ён заўсёды прыцягваў увагу настаўніка і рабіў на яго моцнае ўражанне. Гэты высокі пануры крыж і гэта закінутая сярод палескіх трушчобін школа стаялі, як сіраты, і, здавалася, цесна туліліся адно да другога, як бы ў іх была адна доля”. У 60-я гады будынак школы, у якой працаваў Якуб Колас разабралі. На месцы былой школы да 120-годдзя з дня нараджэння пісьменніка па рашэнні мясцовых улад быў устаноўлены памятны знак – узведзены новы падмурак і выкладзены вянец з круглых бярвенняў.

У Люсіне Канстанцін Міхайлавіч цікавіўся этнаграфіяй і фальклорам палешукоў. Той самы Міхал Занька успамінаў: “Бывала збярэ нас і пачне распытваць, якія песні ў нас спяваюць, якія гульні бываюць у святы. Усё: і легенды пра татарскае нашэсце, і народныя звычаі і абрады – цікавіла педагога”. Ён наведваў сялянскія хаты, прыглядаўся да посуду і мэблі, іншы раз рабіў дакладныя чарцяжы самабытных рэчаў. У Люсіне Якуб Колас напісаў на рускай мове этнаграфічны нарыс “О крестьянских постройках (деревни Люсина, Минской губернии, Пинского уезда, Хотыничской волости)”. Нарыс быў напісаны ў звычайным вучнёўскім сшытку і дасланы ў Вільню ў Паўночна-Заходні аддзел Рускага геаграфічнага таварыства. Даследчык Г. Кісялёў у кнізе “З жыццяпісу Якуба Коласа: Дакументы і матэрыялы” (Мн., 1982), у якой змешчаны гэты нарыс, адзначае, што ў тэксце рукапісу “ёсць сляды рэдагавання простым алоў-



кам і чырвоным чарнілам... На палях тым жа чырвоным чарнілам прастаўлены тэматычныя рубрыкі, якія раскрываюць змест нарыса: “Местоположение”, “Народные сказания”, “Окрестности”, “Занятия жителей”, “Улица”, “Дворы”, “Хата”, “Хозяйственные постройки”, “Печь”, “Внутреннее убранство”. Магчыма, нарыс рыхтаваўся да друку ў адным з выданняў Геаграфічнага таварыства. Праўда, у пачатку XX стагоддзя гэтая праца Якуба Коласа так і не была апублікавана. Многае з таго, пра што расказвае пісьменнік у ёй, пазней увойдзе ў трылогію “На ростанях”. Найперш гэта легенда пра Яшукову гару. У Люсіне Якуб Колас пачуў і запісаў два паданні пра яе. “Одно предание”, – піша ён у нарысе “О крестьянских постройках”, – говорит, что на этой горе был бой между шведами и князем Яшуком и что последний был убит и похоронен там, отчего и самая гора получила название Яшуковой горы. Другое предание сохранилось подробнее и отзывается большею современностью, захватывая эпоху крепостного права.

Где-то в десяти верстах от Люсина был богатый «двор», т.е. помещичья усадьба, куда и ходили люсинцы отбывать панщину. Никаких остатков от этого двора не сохранилось, если не принимать в расчёт бугра земли да груды камней. В эту усадьбу приезжал какой-то безродный пан Яшук. Этот пан был большой ловелас, ухаживал за «дзевками» и молодыми бабами, что вызвало неудовольствие среди многих парней. Яшук был большой чудак, гуляка, страстный охотник. Он увлёк одну красавицу-крестьянку, на которой хотел жениться панский лакей, а потом бросил её вместе с ребёнком. Та с горя бросилась в речку и потонула. Однажды была охота. На пана Яшука выскочил дикий кабан. Пан выстрелил в него, но промахнулся. А кабан как нарочно бежал медленно, выбирая «прогалины» – места, скудно поросшие кустарником или деревьями. Пан пустился верхом на лошади вдогонку. Долго он бежал, «отбился» от людей, заехал в незнакомый лес. Кабан вдруг пропал, точно провалился в землю. А в это время надвигалась уже ночь. Пан не знал, куда идти. Пробовал трубить и кричать, никто не отзывался. Вдруг ему почудилась песня. Пела девица, заклятая панна, и так очаровала пана, что тот привязал лошадь и пошёл туда, где слышалась песня. Что он там увидел, как провёл ночь, об этом не упоминается. Но когда спохватились и стали искать пана, то его нашли повешенным на дереве. Труп был снят и зарыт в землю. В рассказе также не упоминается, какими судьбами пан очутился на дереве.

У трылогію “На ростанях” уключана толькі частка другога падання, пасля якога Якуб Колас у нарысе дадае: “Рассказ этот характеризует отчасти душевный и умственный склад полешука. Полешук очень хитёр и в то же время чрезвычайно скрытен. Эта скрытность кладёт в некоторой степени печать на его творчество. Нужно ещё добавить к этому рассказу, что поднялась буря в лесу, когда повесился пан Яшук. Это замечание в глазах полешука имеет глубокий смысл: оно доказывает ту мысль, то верование полешука (да кстати и всего простого народа нашего края), что бури происходят оттого, что кто-то умер насильственною смертью – удавился, утонул и т.п.

Пра Яшукову гару Якуб Колас у першы год працы ў Люсіне напісаў вер-

шаваны твор, які, на жаль, не захаваўся. Пад некаторымі іншымі яго вершамі пазначаны 1904 год, аднак на сёння невядома, якія з іх былі напісаны ў Люсіне. Часта творчае натхненне прыходзіла да Канстанціна Міхайлавіча ў час адпачынку ў дуброве на Дубаўскім возеры, што непадалёку ад Люсіна. З таго часу тут захаваліся дзевяць з дзесяці дубоў, пад якімі любіў бываць пісьменнік.

Першае месца працы, убачанае і перажытае тут Якуб Колас па-мастацку ўвасобіў у аповесці "У палескай глушы". У творы шырока прадстаўлены геаграфічныя тапонімы Ганцаўшчыны. З сапраўдных згадваюцца Ганцавічы, Сяльцо, Татарка, Завітанкі, Яшукова гара, Целяшоў дуб. Некаторыя назвы зменены, але лёгка пазнаюцца па гукавому падабенству ці апісанню: Маневічы – Малькавічы, Хатовічы – Хатынічы, Цельшына – Люсіна.

Прататыпамі многіх герояў аповесці сталі тыя, з кім пазнаёміўся Якуб Колас у час настаўніцтва ў Люсіна: Ядвіся – Ядвіга Баранцэвіч, бабка Мар'я, яе сын Рыгор, цельшынскі стараста Раман Круглы і інш. Пісьменнік слушна заўважае, што "...палешукі – людзі паважныя, сталыя, асцярожныя, не адразу і не кожнаму расчыняюць сваю душу, бо ўжо мусіць, сама прырода Палесся налажыла на іх сваю адзнаку. Бясконцыя балоты вучылі іх мудраму развažанню, мора лясоў выхоўвала ў іх засцярогу..."

Рэгіянальны каларыт выявіўся і ў пейзажных замалёўках Палесся. Ёсць у аповесці апісанні позняй восені, зімовага лесу, вясны. Палескія краявіды захаплялі Якуба Коласа, таму іх апісанні вельмі дэталёвыя і шматфарбныя.

Пісьменнік палюбіў гэты край, "бы яго родны сын". Пасля Вялікай Айчыннай вайны ён ліставаўся з жыхарамі Люсіна. У 1948 годзе яны звярнуліся да Коласа з просьбай дапамагчы пабудаваць новую школу. "Мае дарагія сябры-прыяцелі, мае былыя вучні і суседзі-люсінцы, – пісаў ён. – Я ўсё зраблю, што ад мяне залежыць, каб у вас на месцы старой драўлянай школы, ля якой стаяў высачэзны крыж, была пабудавана новая, прасторная, светлая школа". Сваё слова пісьменнік стрымаў. У хуткім часе ў Люсіне быў узведзены новы будынак школы. Канстанцін Міхайлавіч марыў наведаць гэты край, аднак яго планы не ажыццявіліся.

У Люсінскай сярэдняй школе, на якой устаноўлена мемарыяльная дошка ў гонар славутага Песняра, створаны літаратурна-этнаграфічны музей Якуба Коласа. "Гэта, – як апісвае В. Гардзей, – даволі прасторная зала, дзе з вялікай дакладнасцю ўзноўлена атмасфера жыцця і побыту сялян на пачатку мінулага стагоддзя. Вось прыземістая паляшуцкая хата з усёй сваёй няхітрай абстаноўкай. Увагу прыцягваюць кросны і самаробны зэдлік, стол з махрыстым настольнікам, да бэлькі падвешана дзіцячая калыска, і ўсюды: на падслепаватымі вокнамі, на покуці і на лаўках – зачароўваюць позірк прыгожыя вышываныя ручнікі, а мастацкай вышыўкай люсінскія кабеты славіліся даўней, славяцца і сягоння. Уздоўж сцен раскладзены сувеніры, падарункі, кнігі гасцей, у тым ліку і берасцейскіх літаратараў, ды, вядома ж, большасць экспанатаў прысвечана жыццю і творчай дзейнасці Якуба Коласа на люсінскай зямлі. Ганаровае месца ў экспазіцыі займаюць творы Песняра, краязнаўчыя матэрыялы, якія сабраны бібліятэкарамі і ўдзельнікамі вучнёўскага аб'яднання "Юны краязнаўца". Сярод эк-



спанатаў шмат цікавых дакументаў з часу настаўніцкай працы пісьменніка ў Люсіне, ёсць звесткі аб яго вучнях і іх нашчадках. Так, прыкметны след у гісторыі вёскі пакінулі першыя вучні маладога Кастуся Міцкевіча – М.В. Занька, С.І. Цялушка, С.Ф. Сенюковіч, П.В. Цялушка, І.А. Занька. Фотаздымкі былых школьных неслухаў і гарэзнікаў, якія ўдалося адшукаць, змешчаны навідавоку перад партрэтам любімага настаўніка".

ВАСІЛЬ ПРАСКУРАЎ

Я на чатыры гады старэйшая за свайго брата Васю, але, як цяпер, помню час яго нараджэння, бо нарадзіўся ён не ў радзільным доме, а пад сялянскай паветкай роднага двара. Маці наша цэлы дзень брала ў полі лён, а вечарам ледзь паспела прыйсці дадому. Роды прыняла свякроў, Параскоўя Васільеўна, вядомая на ўсю акругу бабка-павітуха. І вось яна ўнесла ў хату маленькага і павіншавала нас з брацікам.

Нарадзіўся Вася 25 жніўня 1926 года ў сям'і лесніка Фёдара Карпавіча Праскурава ў вёсцы Негаціна Дубровенскага раёна Віцебскай вобласці. Нараджэнне яго, першага сына пасля чатырох дачок, было вялікім трыумфам не толькі ў сям'і, але ва ўсёй вёсцы.

Бацька быў добры паляўнічы, пчаляр, земляроб, з любоўю апрацоўваў дзялянкі ў лесе, любаваўся пасевамі. Маці, Саклета Максімаўна, была працавітая і добрая жанчына. Пасля замужжа пражыла ўсё сваё жыццё ў адной сям'і са свёкрам і свякроўю. Гадавала і выхоўвала чацвёра дзяцей.

Бацька больш любіў і цешыўся сынам Васільком. Часта браў з сабою ў лясныя абходы. Ён і прывіў яму любоў да прыроды, птушак, палявання, з якога часам бацька вяртаўся незадаволеным, бо Вася не дазваляў страляць у звера ці птушку, якія таксама хочуць жыць. Яшчэ малым хлапчуком Васіль майстраваў шпакоўні з дапамогай дзядулі Карпа Данілавіча, прымацоўваў іх на дрэвах у садзе. А раніцай, з усходам сонца, выходзіў глядзець, ці пасяліліся ў іх шпакі, слухаў іх спевы, назіраў за паводзінамі птушак, за тым, як малыя вучыліся лятаць.

З ранняга дзяцінства ён вызначаўся выдатнымі здольнасцямі да навукі. У пяцігадовым узросце ўжо сам чытаў кнігі. Вельмі хутка запамінаў вершы, якія вучыла я, дапамагаў мне, калі нешта забывала. З чацвёртага класа ён сам складаў вершы і дасылаў іх у рэдакцыі газет "Піянер Беларусі" і "Піянерская праўда". Там іх друкавалі, а юнаму аўтару прысылалі ганарар.

Вучыўся Вася на "выдатна". Кожны клас заканчваў з пахвальным лістом і падзякай бацькам за выдатнае выхаванне сына. У 1941 годзе ён закончыў Святошыцкую сямігодку і вучоба была спынена Вялікай Айчыннай вайной.

Пачалася працоўная дзейнасць хлебароба, бо памёр наш бацька, а Вася, пятнаццацігадовы хлапчук, застаўся аратым на тры гаспадаркі з адным канём. У гэты час ён зазнаў многа гора. У сям'і было паўгалоднае жыццё: немцы забралі карову, не было і хлеба, на зялёных з травы праснаках трэба было апрацоўваць зямлю, каб на наступны год было што паесці. Сястра маці і братавая

прыносілі нам малако, а Вася араў і засяваў іх зямлю, бо мужчыны былі на фронце.

Васіль сам навучыўся кляпаць касу, сам засяваў і баранаваў загоны, рэзаў і калоў дровы. Гэтай працы ён, як асноўны гаспадар, вучыў і мяне. Разам з ім мы на санках ездзілі ў лес па дровы. Зразалі з пня сухастоіну (брат ніколі не мог і не дазваляў зрэзаць здаровае дрэва), бо ад бацькі яму перадаліся беражлівыя адносіны да лесу.

З вялікай радасцю сустракаў воінаў-вызваліцеляў у 1944 годзе. А ў наступным, 1945, васемнаццацігадовым юнаком быў прызваны ў Савецкую Армію. Праслужыў у арміі амаль шэсць гадоў: спачатку ў Венгрыі, потым у Аўстрыі і Германіі. У арміі ўяго было шмат сяброўрозных нацыянальнасцей. Так, з аднапалчанінам грузінам сяброўства працягвалася ўсё жыццё. Яны перапісваліся, прысылалі адзін аднаму пасылкі, ездзілі ў госці.

У час службы ў арміі Васіль пісаў вершы і нарысы, якія друкаваліся ў армейскіх газетах. Ён вельмі хацеў працягваць вучобу і, калі прыязджаў у адпачынак, браў школьныя падручнікі і ў вольны час рыхтаваўся, каб экстэрнам здаць экзамены за курс сярэдняй школы.

Пасля дэмабілізацыі з арміі (1950) ён прыехаў да мяне ў Ганцавічы, бо маці памерла, а сёстры павыходзілі замуж. Тут і застаўся. Уладкаваўся на работу ў мясцовы райспажыўсаюз. Адначасова ў вячэрняй школе здаў экзамены за сярэднюю школу і экстэрнам закончыў Брэсцкую гандлёва-кааператыўную школу. Паступіў у Мінскі БДУ на факультэт журналістыкі, які закончыў завочна ў 1964 годзе. Атрымаў чырвоны дыплом. Працаваў у ганцавіцкай раённай газеце “Сялянская праўда” (потым “Савецкае Палессе”), быў яе рэдактарам.

Усё сваё жыццё Вася любіў любую працу, любіў і паважаў людзей працы. Ім прысвячаў свае творы. Любіў людзей, з якімі побач жыў і працаваў.

У яго была мара – пабудаваць сваю хату, пасадзіць дрэвы вакол яе, выхаваць добрых дзяцей. Ён змог здзейсніць сваю мару, хоць зрабіць гэта было нялёгка: доўга выплачваў ссуду, узятую на будаўніцтва дома.

Стаіць прыгожая хата, выраслі вакол дрэвы, цвітуць прыгожыя кветкі, толькі няма гаспадароў... Васіль Праскураў памёр у 1987 годзе.

З глыбокім болем у сэрцы прыходжу я ў гэты дом, але боль крыху сціхае, калі ўбачу на ягоным падворку сямёра яго любімых унукаў і чатырох дачок, такіх мілых і працавітых, добрых і міласэрных, якім быў ён сам, дарагі, мой любімы брацік Васенька!

(З успамінаў Ганны Фёдараўны Праходскай –
роднай сястры В. Праскурава, 2001 г.)

У сваёй аўтабіяграфіі Васіль Праскураў зазначыў: “Вельмі люблю пісаць. Проста не магу жыць без гэтага. Некаторыя кнігі маіх нарысаў (асабліва “Людзісуседзі”, “Пакажы чалавеку дарогу”) добра былі сустрэты крытыкай. Што я думаю аб іх? Прызнаюся шчыра, як на споведзі: усё гэта толькі трэніровачныя ўзоры той вышыўкі, якую я хачу, якую павінен зрабіць. Не напісаць, а вышыць на паперы”.



Сёння з упэўненасцю можна гаварыць, што В. Праскураву ўдалося зрабіць не адну “вышыўку” палескага краю і яго краявідаў, стварыць не адзін партрэт палешука-працаўніка. Яго апавяданні, аповесці, нарысы, якія склалі кнігі “Святая сівізна” (1966), “Трое з-за Лані” (1967), “Людзі-суседзі” (1974), “Пакажы чалавеку дарогу” (1979), “Пакланіся зямлі-карміцельцы” (1982, адзначана Дзяржаўнай прэміяй БССР імя П.М. Лепяшынскага), “Чорны хлеб” (1984), “Наўсцяж вясковай вуліцы” (1995), – гэта своеасаблівая мастацкая галерэя Палесся, летапіс гэтага краю. Відаць, на Ганцаўшчыне няма ніводнай вёскі, пра якую не пісаў бы ці якую не згадваў бы ў сваіх творах Васіль Фёдаравіч: Люсіна і Чудзін, Агарэвічы і Круговічы, Мельнікі і Макава, Дзяніскавічы і Лактышы... Ён ведаў не толькі іх дзень сённяшні, але і мінулы: “...І ўсё ж людзі падзяліліся. Адны перайшлі на пясок-сыпун, не збаяўшыся “праз год закукаваць”, другія падаліся на падзол, пэўна, разважаючы, якая розніца, дзе “дуба даваць”, трэція, вядома, засталіся на месцы перадзелу. Вось так і з’явіліся ў лясных нетрах міжрэчча Лані і Цны тры новыя паселішчы – Перадзел, Кукава і Дубнякі”.

Гісторыя кожнай мясціны, панарама яе жыцця раскрыта пісьменнікам праз канкрэтныя чалавечыя лёсы і характары. Героі яго кніг – леснікі і меліяратары, паляводы і жывёлаводы, аграномы і ветэрынарныя ўрачы, настаўнікі і старшыні калгасаў, партыйныя і савецкія работнікі... У кожнага з іх сваё жыццё, але на старонках кніг яно “вышыта” усебакова і псіхалагічна праўдзіва. Творы Васіля Праскурава быццам бы зліваюцца ў адзін вялікі твор пра народнае жыццё на Палессі.

Пісаць гэты твор было нялёгка. Журналісцкая праца забірала шмат сіл і часу. Як прыгадваюць родныя Васіля Фёдаравіча, ён “пісаў начамі. Хадзіў з кутка ў кут, заклаўшы рукі за спіну, і прагаворваў тое, што праз хвіліну-другую клалася на паперу. Ён шліфаваў свой стыль, падоўгу думаючы над кожным сказам, кожным словам, каб яно, як патрон у абойме, заняло сваё і толькі сваё месца. Знаходзіў дакладныя выразы, выказванні, якія да яго ніхто не ўжываў... Ён пісаў узвышана і натхнёна, з вялікай і шчырай любоўю. Ён не проста расказваў, а ўмеў паказаць усё настолькі пераканаўча, што ты бачыш перад сабой гэты малюнак, верыш прачытанаму ад пачатку і да канца” (В. Матвееў, унук пісьменніка).

Невыпадкова даследчыкі і вядомыя літаратары заўсёды падкрэсліваюць майстэрства В. Праскурава як апавядальніка, адзначаюць яго ўменне карыстацца словам, трапна ўжываць народныя прыказкі, прымаўкі, выслоўі. “У чужым краі – не на сваёй лаве, не скажаш: пасунься... Калі прыйдзецца туга, бяжы ў свой край, тут і пад елкай рай...”. Міхась Рудкоўскі аднойчы заўважыў: “Паспрабуйце зрабіць пераклад гэтай мовы юлішніх палешукоў з нарыса “Аповесць пра шчасце”. Зрабіць вы зробіце, але тая зіхатлівасць, той бляск калі не згасне, дык абавязкова пацямнее”.

Журналісцкую і літаратурную школу ў Васіля Фёдаравіча Праскурава ў свой час прайшлі М. Рудкоўскі, С. Алексіевіч, В. Гардзей, І. Кірэйчык, А. Кажадуб, У. Марук, А. Каско, К. Мохар і інш. Яны з цеплынёй і ўдзячнасцю ўспамінаюць свайго Настаўніка. Яго імя носяць Цэнтральная раённая бібліятэка і

адна з вуліц у Ганцавічах. На будынку рэдакцыі газеты “Савецкае Палессе” і доме, дзе жыў В. Праскураў, устаноўлены мемарыяльныя дошкі.

## ІВАН КІРЭЙЧЫК
(1935 – 1996)

Іван Кірэйчык належыць да пакалення пісьменнікаў, дзяцінства якіх абпаліла вайна. Яго бацька, Аляксандр Цімафеевіч, загінуў на фронце ў 1945 годзе. Маці, Лізавеце Герасімаўне, давялося адной выводзіць дзяцей – сына і дачку – у людзі. У вёсцы Гута Ганцавіцкага раёна, дзе жылі Кірэйчыкі, Лізавету Герасімаўну ведалі як таленавітую спявачку, выдатнага знайцу беларускіх народных песень, павер’яў, прыкмет, прыказак і прымавак. Менавіта маці перадала Івану любоў да сваёй зямлі, роднага слова.

Дзіцячыя гады будучага пісьменніка былі нялёгкімі. З васьмігадовага ўзросту ён пасвіў каровы, таму ў школу меў магчымасць хадзіць толькі зімой, калі выпадаў снег. Пазней, згадваючы сваё цяжкае дзяцінства, у нарысе “Дарога” Іван Кірэйчык напіша: “А ноччу мне прысніўся сон. Я– пастушок. Летняе сонца ўжо добра-такі паднялося па-над Ланню, і я адпрасіўся ў такіх жа, як і сам, на снеданне. Бягу па расе, спяшаюся. А дома нязвыклае для раніцы няўтулле: халодная, яшчэ не паленая печ, маўклівая маці. Маці ведае, чаго я прыбег, і яна, паглядзеўшы ўважліва на мяне, уздыхае, падымаецца і ідзе на агарод. І нешта вельмі доўга яе адтуль няма. Я іду паглядзець, што там такое, і бачу: маці трымае ў руках вырваны куст бульбы з дробнай, як пацеркі, завяззю на каранях і плача. Мне становіцца зразумелай прычына яе слёз. І я моўчкі паварочваюся і няспешна вяртаюся на пашу. Бурчыць пусты жывот, а на душы так крыўдна сябе ж, што вось прыйшоў і зрабіў маці балюча...”.

Пасля заканчэння Гуцянскай сярэдняй школы (1955 г.) Іван Кірэйчык быў прызваны ў армію і чатыры гады служыў на Балтыйскім флоце. У гэты час шмат пісаў, праўда, на рускай мове. Яго вершы друкаваліся ў газеце “Страж Балтики” і ў калектыўным зборніку паэтаў-балтыйцаў “Песня, рождённая морем”, які выйшаў у Калінінградзе. На флоце адбылася сустрэча І. Кірэйчыка з паэтамі Г. Бураўкіным, В. Сямерніным, М. Сідарэнкам, якая, як адзначае жонка пісьменніка Вера Кірэйчык, “станоўча паўплывала на развіццё яго літаратурных здольнасцей. Пад уплывам гэтых паэтаў ён стаў вяртацца да роднага слова, асабліва пад уздзеяннем паэта Мікалая Сідарэнкі, які пахваліў Іванавы вершы, але пры гэтым сказаў яму вельмі крыўдныя словы, якія балюча апяклі сэрца. “Вось так у вас, беларусаў, і атрымліваецца: самі пішаце па-руску, а на родную мову пасля перакладаюць вас... іншыя”. Гэтая калючая фраза вельмі ўзрушыла яго свядомасць і заставіла задумацца аб тым, адкуль ён родам, дзе яго карані”. Іван Аляксандравіч змог перайсці на родную мову і ў творчасці, і ў жыцці. У сям’і “паміж сабой, – успамінае В. Кірэйчык, – мы заўсёды размаўлялі па-беларуску, за што нас і паважалі яго вяскоўцы-землякі. “Маладзец, Янак (так звалі Івана ў вёсцы), – гаварыла цётка Гэля, – колькі гадоў жывеш у горадзе, а матчыну мову не забываеш, шануеш яе. Вунь як хораша і ўся сям’я раз-



маўляе па-нашаму”.

Дэмабілізаваўшыся ў 1958 годзе, Іван Кірэйчык вярнуўся ў родныя мясціны, і па запрашэнні тагачаснага рэдактара Ганцавіцкай раённай газеты “Сялянская праўда” Б.С. Лісецкага стаў спачатку яе літсупрацоўнікам, затым загадчыкам аддзела. Праца ў “раёнцы” была добрай школай для пачынаючага журналіста і літаратара. Пад уплывам В. Праскурава ён захапіўся жанрам нарыса. У друку з’явіліся яго “Быль Узбіскага бору”, “Мачаха”, “За возерам Горным” і іншыя нарысы, якія прынеслі вядомасць аўтару-пачаткоўцу.

У хуткім часе ў сувязі з ліквідацыяй Ганцавіцкага раёна як адміністрацыйнай адзінкі рэдакцыя раённай газеты была закрыта. Журналісты былі вымушаны шукаць новае месца працы, і Іван Кірэйчык накіраваўся ў Мінск, уладкаваўся карэспандэнтам на Беларускае радыё. Завочна паступіў на факультэт журналістыкі БДУ. “Праца ў эфіры, – піша В. Гардзей, – яму не спадабалася: як сам казаў, зашмат мітусні, усё, што ні напішаш, вылятае на вецер, не пакінуўшы і следу. А тут любімая “Чырвонка” (газета “Чырвоная змена” – Г.С.) прапанавала пасаду ўласнага карэспандэнта па Гомельскай вобласці з прапіскай і кватэрай у абласным цэнтры. Для даволі ўжо спрактыкаванага журналіста гэта было цудоўнае вырашэнне прафесійных і сямейных праблем. Таму ён адразу даў згоду на пераезд і неўзабаве з маладой жонкай Верай Фёдараўнай (у дзявоцтве Дубянецкай) апынуўся ў незнаёмым і чужым яшчэ Гомелі. Не думаў змушаны вандроўнік, што лёс прапіша яго тут назаўсёды, да самага скону, не гадаў бедачына, што прыгожы горад над Сожам, зрэшты, як і ўся казачная Гомельшчына, стане другой радзімай пісьменніка...”.

На Гомельшчыне Іван Аляксандравіч працаваў уласным карэспандэнтам газеты “Дняпровец”, загадчыкам аддзела пісьмаў газеты “Перамога Кастрычніка” (г. Ветка), намеснікам адказнага сакратара газеты “Гомельская праўда”, рэдактарам абласной студыі тэлебачання. Усюды знаходзіў час для ўласнай творчасці. Часцей за ўсё пісаў уначы. Творы, па ўласным прызнанні, “пісаліся... як песня на адзіноце, споведзь перад самім сабой...”.

Творчая спадчына нашага земляка складаецца з паэтычных зборнікаў “Аснова” (1977) і “З маіх крыніц” (1994), а таксама кніг нарысаў і апавяданняў “Багацце душы – людзям” (1966), “Пялёсткавы бераг” (1969), “Каласам хіліцца долу” (1969), “Калінавая квецень” (1984). Многія яго празаічныя творы друкаваліся ў калектыўных зборніках “Вернутае шчасце”, “Люблю будзённы дзень” і інш. У літаратурным запісе І. Кірэйчыка выйшлі кніга ўспамінаў партызана Р. Лазабаева “Лясныя пабрацімы” і дакументальная аповесць М. Качана “Апалены ранак”.

Свае вершы, апавяданні, нарысы Іван Кірэйчык прысвячаў Брэсцка-Пінскаму і Гомельскаму Палессю. Яго аднолькава вабілі Лань і Сож, Прыпяць і Дняпро, мілая Гута і Гомельскі левабярэжны парк... Прырода і людзі Палесся, якіх напаткала Чарнобыльская бяда, – любімая тэма пісьменніка.

Была, аднак, у яго і свая, уласная бяда. З арміі ў цынкавай дамавіне прывезлі ў Гомель малодшага сына Сяргея, у якім Іван Аляксандравіч бачыў свайго прадаўжальніка. Праз 11 месяцаў не стала і старэйшага – Сашы. Цяжкае

гора падарвала здароўе. Жонка пісьменніка расказвае, што "Іван прадчуваў сваю смерць. Калі памёр Іван Чыгрынаў, ён (І. Кірэйчык) быў цяжка хворы і не мог сам чытаць, таму штодзённа прасіў, каб я чытала ўголас некралогі з усіх газет пра І. Чыгрынава. Аднойчы я запытала: "Навошта так часта чытаць пра гэта? Ты хочаш вывучыць на памяць усё надрукаванае?" Ён адказаў: "Я вельмі любіў і паважаў Івага Чыгрынава. Ведаю, што гэта было ўзаемна. Адчуваю, што ён мяне хутка забярэ". І вось за два дні да смерці ён прачнуўся са словамі: "Бачыў сон, нібы прыйшоў да нас Іван Чыгрынаў і сказаў: "Сёння я заначую ў вас, а заўтра пойдзем з табой, Іван, да мяне". "Гэта ж толькі сон, не хвалюйся, у цябе яшчэ столькі творчых планаў, задум, шмат чаго не дапісана, не закончана, – спрабавала я яго супакоіць, хаця ведала, што будзе так, як яму прыснілася (урачы ўжо мяне папярэдзілі), але ж яшчэ спадзявалася на нешта лепшае. Надзея памірае апошняй.

На жаль, сон спраўдзіўся.

Ён памёр...".

***Дарога дадому***

*Неўпрыкмет адступае знямога,*
*Адпадае сама па сабе,*
*Калі бліжай дадому дарога,*
*Калі мама чакае цябе.*

*І забыты бальшак глухаваты,*
*І праз неруш пратоптаны снег, –*
*Сустракай мяне, крайняя хата,*
*З самым добрым святлом у акне!*

*Недзе ў прыцемках посвіст палоззя*
*Чуйна ловіць абвостраны слых,*
*Мне насустрач двайняткі-бярозы*
*Ужо выбеглі з вёскі ўдваіх.*

*Мне рамонкам запахне прыветна*
*Са стажка, што да долу прымёрз,*
*Нібы сам яго толькі што з лета*
*Я сюды, да сядзібы прывёз.*

*Мяне садзік пазнае здалёку,*
*Што ля хаты прыціх да пары.*
*І слязінку адчуеш на воку,*
*Зачыняючы брамку ў двары.*

*Будзе ў хаце гамонка прыўзнятай,*
*І да пеўняў ніхто не засне...*



*Сустракай мяне, крайняя хата,*
*З самым цёплым святлом у акне.*

## МІХАСЬ РУДКОЎСКІ
(1936 – 1991)

Міхась Рудкоўскі прыйшоў у беларускую літаратуру ў пачатку 60-х гадоў з самай глыбінкі Палесся – з Ганцаўшчыны. Нарадзіўся ён 17 красавіка 1936 года ў вёсцы Востраў у сялянскай сям'і, у якой, па словах паэта, "гультайства і фальш лічыліся самымі вялікімі заганамі ў чалавеку". Пасля заканчэння Астравіцкай васьмігадовай школы М. Рудкоўскі выбірае высакародную прафесію настаўніка і паступае ў Ганцавіцкае педагагічнае вучылішча. Неўзабаве разам з іншымі навучэнцамі быў пераведзены ў Пінскае педвучылішча, і ў 1955 годзе стаў выпускніком гэтай навучальнай установы. Наступныя пяць гадоў давялося спалучаць працу ў Кукаўскай сямігодцы (Ганцавіцкі раён) і вучобу на завочным аддзяленні філалагічнага факультэта Брэсцкага педінстытута імя А.С. - Пушкіна.

Захапленне паэзіяй, жаданне пісаць самому прывяло М. Рудкоўскага ў рэдакцыю ганцавіцкай раённай газеты "Сялянская праўда", якая яшчэ ў 1958 годзе апублікавала яго першыя вершы ("Успаміны, "Восень" і інш). На той час рэдакцыю газеты ўзначальваў вядомы журналіст, пісьменнік Васіль Праскураў. Ён стаў для паэта-пачаткоўца сапраўдным настаўнікам і дарадцам, а праца ў рэдакцыі пад яго кіраўніцтвам – першай літаратурнай школай.

У 1962 годзе Міхась Рудкоўскі пераехаў у Брэст, доўгі час працаваў рэдактарам літаратурна-драматычных і музычных перадач Брэсцкай студыі тэлебачання, пісаў вершы. Яны складалі ўсё новыя і новыя паэтычныя зборнікі, якія з часам станавіліся вядомымі не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі: "Першыя вёрсты" (1963), "Сінія Брады"(1967), "Позвы" (1971), "У краі тым" (1975), "Векавечная Бацькаўшчына" (1976), "Трыгор'е" (1981), "Засцярога" (1984), аднатомнік выбранай лірыкі "Залатазвон" (1986), "Гарынь" (1992). Апошняга з названых зборнікаў паэт, праўда, не дачакаўся. Летам 1991 года яго не стала. Пахаваны ў роднай вёсцы Востраў. На радзіме створаны Літаратурны музей М. Рудкоўскага, Вастраўская сярэдняя школа носіць імя пісьменніка-земляка. На доме ў Брэсце, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка.

Міхась Рудкоўскі – сапраўдны майстра слова. Пра гэта сведчыць не толькі вялікая колькасць напісаных ім кніг, а і той факт, што яму былі падуладны многія жанры: балада, элегія, санет, трыялет і інш. Ён выступаў як перакладчык з рускай, украінскай і польскай моў, пісаў рэцэнзіі і шматлікія артыкулы па пытаннях сучаснай беларускай паэзіі. Праўда, часцей за ўсё з-пад яго пяра з'яўляліся вершы. Яны знешне даступныя і простыя, ім уласцівы тонкі лірызм, яркая вобразнасць, непасрэднасць і шчырасць пачуцця.

Як паэт-лірык Міхась Рудкоўскі быў улюбёны ў Беларусь, у яе працавітых, добрых і мужных людзей, ганарыўся гісторыяй краю, разважаў над праб-

лемамі сучаснасці і будучыні. Крыніцай натхнення для яго найперш з’яўлялася малая *радзіма – Палессе.*

*Край бярозаў і гонкіх соснаў,*
*Край лугоў і заток азёрных...*

Тут усё люба і дарага сэрцу паэта: і горкі пыл дарог, і подых бур, і мядовыя росы, і жытнёвыя ночы, і агні бліскавіц, і нават курганы і абеліскі... У гэты край, у родную вёску ён заўсёды прыязджаў не як госць ці старонні назіральнік, а як чалавек, для якога Палессе стала неад’емнай часткай не толькі жыцця, але і душы:

*Ёсць Востраў у мяне. З нягод і скрух*
*Я да яго лячу, як да святыні:*
*Ён даў дыханне мне, і зрок, і імя*
*І, разамкнуўшы небасхілу круг,*
*“Ідзі, – сказаў і вывеў на разлог, –*
*Перад табой адкрытая дарога.*
*Ідзі і зведай рух жыцця зямнога*
*І мудрым стань, нібы мужычы бог...*

Сімвалічнай назвай роднага палескага краю ў творчасці М. Рудкоўскага сталі Сінія Брады. У іх цячэ казачная жывая вада, якая асвятляе вочы, робіць шчырым сэрца, не дазваляе рукам рабіць брудныя справы. Гэтая мясціна ў свядомасці паэта – своеасаблівы эталон маральнасці і хараства. Вось чаму

*У хвіліну трудную,*
*у хвіліну шчасную,*
*бы кулік з навальнічнага выраю,*
*ты вяртаешся зноўку і зноўку сюды.*
*Сінія Брады,*
*родныя Брады,*
*як замова матулі ад напасці-бяды...*

Каларыт роднага Брэсцка-Пінскага рэгіёна ў большай ці меншай ступені выявіўся ва ўсіх паэтычных кнігах Міхася Рудкоўскага, адбіўся ў многіх яго вершах, якія можна аб’яднаць у своеасаблівыя тэматычныя групы. Першую з іх складаюць творы, у якіх апяваецца экзатычная прырода Палесся, ад Пінскіх балот да цяністых белавежскіх бароў (“Лясная элегія”, “Лось”, “Паядынак аленяў”, “Лясы маленства”, “Зубр-адзінец”, “Сустрэча ў лесе”, “Летняя ідылія” і інш.). У многіх з іх перадаецца не толькі рамантычнае ўспрыманне свету прыроды як храма хараства і духоўнага ачышчэння, але і гучыць трывога за яе сённяшні стан.

*І ціша, і травы, і воды,*
*Альха, і сасна, і кусты...*
*Ты зачараваны прыродай,*
*Прыродай палонены ты.*
*...Усе яна раны залечыць*
*На целе тваім і душы...*
*А мы з ёй “змагаемся” нечага...*

*...Калі ж гэта па-чалавечы*
*Навучымся з ёю мы жыць? –*
задаецца пытаннем аўтар у вершы “Дума на беразе возера”.

У асобную групу можна вылучыць вершы, так званыя прысвячэнні пэўным мясцінам нашага краю, з якімі было звязана жыццё паэта ці якія нечым уразілі яго: “Над Начанкай-ракою...”, “Нараўка”, “Сінія Брады”, “Давыд-Гарадок”, “Гарынь”, “Ганцавічы”, “Брэсту”, “Мой родны Востраў”, “Песня пра вёску Крыніца” і інш. Так, у вершы “Ганцавічы” аўтар шчыра і з удзячнасцю прызнаўся, што было б з ім, каб не такі паэтычны край дзяцінства і ганцавіцкая літаратурная школа ў гады маладосці:

*Ёсць ціхі гарадок над рэчкай Цною,*
*сярод лясоў палескіх і балот...*
*Не знаю, што ў жыцці было б са мною,*
*калі б яго на свеце не было.*
*Відаць, я б жыў, відаць бы, не загінуў,*
*пісаў бы вершы, сена ў копы клаў, –*
*ды толькі не такой была б Айчына*
*і песня б незакончанай была.*

Адрасатамі многіх твораў Міхася Рудкоўскага сталі сваякі, суседзі, аднавяскоўцы ці проста знаёмыя з іх штодзённым жыццём, клопатамі і трывогамі (“Мой дзед быў сельскім кавалём”, “Мая радаўніца”, “Бабіна лета”, “Ляснік”, “Мікола Засім чытае паэтычную пошту газеты “Зара” і інш.). Асаблівай цеплынёй напоўнены вершы, прысвечаныя бацьку і маці. Ва ўспамінах паэта яны найперш засталіся шчырымі працаўнікамі: “Бацька, Міхаіл Іванавіч, сёння паўстае перада мною жывым увасабленнем сялянскай працавітасці, сілы і здатнасці. Звычайна нетаропкі, як сам казаў, цяжкі на пад’ём, ён, калі ўваходзіў у смак работы, станавіўся зусім другім. Араць – дык араць, касіць – дык касіць, весяліцца – дык весяліцца! Сёння мяне здзіўляе тое, што бацька ўмеў рабіць амаль усё. Трэба ў гаспадарцы цабэрак ці бочка – зробіць цабэрак і бочку; трэба нож – зробіць нож; навастрыць нарог – навострыць нарог. Ён умеў пашыць для нас чаравікі ці боты. Нават воз і сані былі ў яго сваёй работы. На паклон да другіх хадзіць ён не любіў, ды ў гэтым не было патрэбы. Калі ж арганізаваўся калгас і пачаліся розныя няўладзіцы жыцця, амаль усе клопаты пра сям’ю ляглі на душу мацеры, Марыі Юльянаўны. Тут ужо, як пчала, шчыравала яна...”. Вось чаму ў вершы “Апошняя дарога” Міхась Рудкоўскі падкрэслівае:

*Сумны я: майго бацькі не стала –*
*Смерць ланцуг яго дзён абарвала,*
*Дзён, што пахлі і сонцам, і потам,*
*А дакладней – работай...*

У вершы “Дома без маці” ад чыстага сэрца прызнаецца, што родная хата, калі б ні прыехаў, заўсёды сустракае гасцінна, толькі

*Чамусьці бацькоўская хата без маці –*
*Што грудзі жывыя без сэрца.*

У шэрагу сваіх вершаў паэт уваскрашае героіку мінуўшчыны, аднаўляе гісторыю роднага краю. Прыкладам такіх вершаў могуць служыць “Смерць Апанаса Філіповіча”, “Берасцейская быліна. Напрыклад, у апошнім з названых твораў, аўтар дае свой паэтычны варыянт легенды пра ўзнікненне Бярэсця:

*На зялёным узгор’і Прыбужжа,*
*ля пушчанскіх зялёных застаў,*
*Берасцея, высокі і дужы,*
*у зямлю першы камень паклаў.*
*– Каб злы дух абмінаў гэта месца,*
*каб не ведаў дарогі сюды!..*
*І тры ночы, тры дні пад Бярэсцем*
*медавухаю пахлі брады.*
*А пасля гаманілі сякеры*
*над вянцамі смалістай сасны...*
*На мяжы той Русі, што калісьці*
*Руссю Белаю наракі,*
*горад рос; у вяках ветравейных*
*гнаў у грунт і ў шыркі карані,*
*і нёс мужна імя Берасцеі*
*нат у самыя трудныя дні...*

Праўда, у сваёй творчасці паэт часцей за ўсё звяртаецца да падзей Вялікай Айчыннай вайны. Многія з яго вершаў гучаць як памяць пра яе ўдзельнікаў і ахвяр. Як слушна заўважыў Віктар Гардзей, “вершы пра мінулую вайну ў творчай спадчыне Міхася Рудкоўскага займаюць увогуле нямнога месца, і хоць сапраўдных удач і знаходак тут даволі шмат, але нават сярод іх моцным, сканцэнтраваным пачуццём усё ж вылучаецца “Балада пра маіх аднагодкаў”. У ёй паэт апавядае пра трагедыю палескай вёскі Красніца, што стаяла непадалёку ад Выганаўскага возера. Сёння на яе месцы расце толькі сасоннік, – “гонкі, балючы сосаннік”, бо сама Красніца стала адной з вогненных вёсак на нашай зямлі:

*Фашысты аддалі вёску,*
*усю, да апошняй хаціны,*
*да апошняга чалавека – чуеш ты? –*
*да апошняга чалавека! –*
*аддалі агню і смерці.*

Вось чаму тут “плакун-травы і сёння плачуць па маіх аднагодках страчаных, што не ў вёсках – у сэрцах жывуць”.

Вершы: “Была ў хлапчука свая казка”, “Балада белых коней”, “Каменні цытадэлі” прысвечаны Брэсцкай крэпасці і яе героям

Было б, аднак, вялікай памылкай думаць, што лірыка Міхася Рудкоўскага абмежавана геаграфіяй Брэсцка-Пінскага Палесся, а фантазія паэта не выходзіць за межы гэтага рэгіёна. Пагартайце старонкі яго паэтычных кніг, і вы знойдзеце вершы пра хараство сонечнага Крыма, пра Байдарскі перавал і Ленінград, даведаецеся пра апошнія хвіліны Архімеда і пра далёкія планеты, што прыходзяць



у снах адважным касманаўтам, прачытаеце “Пісьмо на зямлю каханай...”. Што б ні было прадметам мастацкага асэнсавання Міхася Рудкоўскага, яго думкі пра чалавека, яго духоўны свет, пра сёння і заўтра, пра дабро і зло, пра красу і хараство, пра сутнасць чалавечага жыцця.

Тым не менш менавіта да роднага краю звяртаўся хворы паэт з просьбай адпусціць яму яшчэ хоць крышачку творчых дзён.

***Востраў***

*Што, дружа мой, і ты успомніў Востраў,*
*сяло па-над Начанкай прыгадаў,*
*адкуль мы паляцелі у дарослы,*
*як птушаняты з цёплага гнязда?*

*Мы дзверы інстытутаў адчынялі,*
*а ён паціху жыў –*
*касіў, араў.*
*Усё радзей яго мы ўспаміналі,*
*а ён ніколі з нас не забываў.*

*І слаў лісты нам, слаў кавалкі сала,*
*што браў на дне прасоленых кублоў.*
*Знімаў кажух з плячэй сваіх, бывала,*
*калі каму з нас холадна было.*

*Таму цяпер, саскочыўшы з машыны,*
*мужчыны, што пабачылі ўсяго,*
*нібы зайцы ад пуху канюшыны,*
*п’янеем мы ў ваколіцах яго...*

## ІВАН ЛАГВІНОВІЧ

Іван Лагвіновіч нарадзіўся ў 1940 годзе на хутары Запрапасць, што непадалёку ад Малькавіч. З Ганцаўшчынай былі звязаны толькі першыя семнаццаць гадоў яго жыцця. Затым быў Данбас – вучоба ў горнапрамысловым вучылішчы, праца на вугальных шахтах. Настальгія па родным краі не пакідала нават у снах:

*Я тады толькі бачу*
*каляровыя сны,*
*калі часам прысніцца*
*родны край незабыты –*
*светлай памяці хутар,*
*рай часовы зямны,*
*ручнікамі чаромхаў*
*і бяроз апавіты.*

*Там сунічны, бруснічны*
*ці малінавы дзень*
*і не проста клякоча –*
*Богу моліцца бусел.*
*Для мяне толькі там*
*кветка шчасця цвіце –*
*на грудку неараным,*
*на някошаным лузе...*

(Сны)

У 1991 годзе Іван Лагвіновіч вярнуўся на Берасцейшчыну. Жыве ў Баранавічах. Ён – аўтар трох паэтычных кніг: "Разлукі выраёвыя", "Піліпаўка", "Ляда юдолі".

## ВІКТАР ГАРДЗЕЙ

Віктар Канстанцінавіч Гардзей нарадзіўся ў вёсцы Малыя Круговічы ў першы пасляваенны год. "У жыццё прыйшлі мы ў мірны час", – напіша ён пазней пра сябе і сваіх равеснікаў у адным з вершаў, але свет сустрэў іх "чорнымі асмалкамі бярвення", "вуголлем спаленых дамоў", "часам нават хлеба не хапала". Маленства было галодным і нялёгкім, бо вельмі рана памерла маці. Спагаду, увагу і ласку Віктар знайшоў найперш у сям'і дзеда Сцяпана.

*Мама жыта сваё не дажала...*
*Суцяшала бабуля мяне:*
*– Перапёлкай яна, мабыць, стала,*
*Прыляціць – і палоску дажне...*

Шмат цяпла падаравалі родная цётка Альжбета і настаўнікі Круговіцкай сярэдняй школы, дзе вучыўся будучы пісьменнік. Яшчэ вучнем ён упершыню заявіў пра сябе, апублікаваўшы ў газеце "Піянер Беларусі" апавяданне "Памылка" (1963 г.). У наступным годзе ў рэспубліканскім друку з'явіліся яго вершы. Першы творчы вопыт спатрэбіўся, калі неўзабаве пасля заканчэння школы (1964 г.) Віктар стаў працаваць спачатку ў рэдакцыі ляхавіцкай раённай газеты "Будаўнік камунізму" (1965–1966), а затым – у ганцавіцкай раённай газеце "Савецкае Палессе" (1967–1983 гг.), дзе займаў розныя пасады: загадчык аддзела пісьмаў, адказны сакратар, намеснік рэдактара. Перыяд працы ў "Савецкім Палессі", у многім дзякуючы старэйшаму сябру і літаратурнаму настаўніку В.Ф. Праскураву, быў плённым як у журналістыцы, так і ў літаратуры. Журналісцкія клопаты і ўласную творчасць В. Гардзей спалучаў з завочнай вучобай на факультэце журналістыкі БДУ. У 1983 годзе, за год да заканчэння універсітэта, пераехаў у Мінск, дзе жыве і сёння. Працаваў у часопісах "Беларусь", "Родная прырода", "Маладосць", "Полымя", "Вожык". Цяпер – у выдавецтве "Мастацкая літаратура".

Ва ўсіх сваіх паэтычных зборніках – "Касавіца" (1975), "Верасное палясоўе" (1978), "Засевак Радзімы" (1983), "Незабудкі азёр" (1985), "Узрушэнне"



(1988), “Дзікая пчала” (1994), аднатомніку выбранай лірыкі “Зялёныя дажджы” (1997), “Межань” (1999) – Віктар Гардзей выступае адданым сынам, шчырым патрыётам палескай зямлі. Яна для яго як матуля, якая “атуліла ласкавым крылом”. Вось чаму ў паэта заўсёды “ёсць патрэба родны бачыць дом”.

*Як бы край ні вабіў невядомы,*
*Як бы новы ні дражніў блакіт,*
*Сэрца, там пакінутае дома,*
*Да сябе прыцягне, бы магніт, –*

прызнаецца ён у адным з твораў. Родная зямля, на думку паэта, самая прыгожая і пяшчотная, дзе і жыццё бурліць, “дзе кожны мае клопат свой”. І куды б ні закінуў лёс, ён заўсёды адчувае сваю непарыўную еднасць з бацькоўскім краем: “Я – тут! Я – ваш! Я – ёсць!”

Многія творы Віктара Гардзея напісаны на рэгіянальным матэрыяле Берасцейшчыны. Яны выяўляюць непасрэдныя ўражанні паэта ад убачанага і перажытага. Палескі край, яго непаўторная прырода і людзі, слаўная гісторыя паўстаюць перад чытачом у вершах “Целяшоў дуб”, “Горад над Цною”, “Брэсту”, “У Пушчы”, “Зубры”, “Я дамоў прыеду...”, “Сяўба”, “Белая Вежа”, “Рэха журбы”, “Сусед мой хадзіў у мінёрах”, “Чаго прыціх, лес вераснёвы?” і інш.

Паэта хвалюе, што ў апошні час на родную зямлю абрынулася многа бедаў. Адбываецца духоўнае збядненне людзей (“напіваецца бедна басота”, “зноў забіваюць людзей з-за граша”), рэдка стала гучаць на Палессі матчына мова (“Астравы, дзе мова не памёрла, У тумане бачацца здаля”), яснавокі воблік роднага краю засланяе пыл ад меліярацыйных работ і высокай радыяцыі. Сумна бачыць сёння невясёлыя палескія краявіды – загублена не адна рачулка, зглумлена не адна сенажаць, раніцай ужо не чуваць ляснога салаўя, наўзрыд плачуць чайкі, “стогнуць гаі, – засыхаюць дубровы, Свежыя раны бінтуе туман...”. Паэт, аднак, верыць, што родны край, “перажыўшы войны і чуму”, не прападзе і не счэзне.

“Любоў да адвечных вытокаў надзяляе, адорвае мастака і пачуццём, і словам, – адзначае В. Ярац. – А яно – слова – у Гардзея багатае, не зацяганае. Мова гардзееўскіх вершаў вылучаецца сваёй каляровасцю, у якой рэгіянальныя лексічныя адзінкі не парушаюць устойлівых літаратурна-моўных пластоў, а толькі надаюць ім большы каларыт і адметнасць. Варта спаслацца хоць бы на такія крупінкі-зярняты густога россыпу з палескай гутарковай сяўні: некаш, сутонь, сяйво, плытчэе, асмужны, няздалы, дайніца, нязгорш, зморшчкі, распушыў, пражмо, гарчак, зашэрхлі, лучыцца, прадлецце, мелькам, палятуха, зняверлы, укруга, апаўдні, хмылячыся, вышчэрб, паначы, выжарыны, шанцунак...”.

Віктар Гардзей надзелены талентам не толькі тонкага лірыка, але і цікавага празаіка. Ён – аўтар шэрагу апавяданняў, аповесцяў, раманаў, якія склалі кнігі “Дом з блакітнымі аканіцамі”, “Карані вечнага дрэва”, “Уратуй аднячыстага”. Яго пяру таксама належаць трылогія “Аселіца ў басейне Чорнага мора” і раман “Бедна басота”. Зварот да прозы абумоўлены жаданнем “як мага паўней данесці да чытача ўражанні дзяцінства і вопыт, набыты ў маладосці, у гады сваёй работы ў палескіх “раёнках”, калі абхадзіў і аб’ездзіў усе куточкі не толькі

ганцавіцкай зямлі, але і многія сцежкі-дарожкі і суседніх, і болей далёкіх тэрыторый" (В. Ярац). Кніга "Уратуй ад нячыстага" адзначана Літаратурнай прэміяй Івана Мележа.

Шмат паэтычных кніжак выдаў Віктар Гардзей для дзяцей – "Чырвоны грабеньчык" (1976), "На арэхавай палянцы" (1982), "Коцікі на вярбе" (1988), "Мой тата – трактарыст" (1989), "Зай, які лічыў варон" (1991), "Зайкава балалайка" (1998). "Для дзяцей, – прызнаецца пісьменнік, – звычайна пішу тады, калі хочацца далучыцца да свету дабрыні і шчырасці, па-свойму загадкавага і вабнага, напоўненага пастаяннай таямнічасцю. Тым самым адбываецца свайго роду душэўнае і духоўнае ачышчэнне, пазбаўленне, няхай толькі і на пэўны момант, ад усяго дробязнага, неабавязковага, чаго заўсёды хапала ў нашым паўсядзённым жыцці і, на жаль, сёння не паменьшала, а, наадварот, пабольшала".

Займаецца В. Гардзей і перакладчыцкай дзейнасцю. На беларускую мову ён пераклаў раманы Г. Флабэра "Саламбо" і Р. Стывенсана "Чорная страла", аповесць-казку Э. Гофмана "Шчаўкунчык і мышыны кароль", кнігу казак народаў Еўропы "Хрустальны калодзеж" і інш.

Па сённяшні дзень Віктар Канстанцінавіч жыве клопатамі сваіх землякоў, і тыя плацяць яму любоўю і пашанай. Да 50-годдзя пісьменніка імя Віктара Гардзея ўганаравана ў назве вуліцы, на якой ён нарадзіўся і жыў у Малых Круговічах.

***Целяшоў дуб***

*(урывак)*

*Зарэчны дуб у тры абхваты*
*Здаўна сярод палешукоў,*
*Расхрыстаны і дзікаваты,*
*Завецца ён – Дуб Целяшоў.*

*Дымілі ў ціхай вёсцы печы.*
*Ламалі крылле ветракі.*
*І на яго крутыя плечы*
*Буслы сядалі і вякі.*

*Зямлю свідруе дуб карэннем,*
*Нязломны, быццам паляшук.*
*Ён помніць "шведскае паленне",*
*І як гуляў тут пан Яшук.*

*На моры хвалі змылі бераг.*
*На свеце зніклі гарады.*
*Дуб па-ранейшаму на верас*
*Увосень сыпле жалуды.*

 

*І я праз ціхі тлум вясковы*
*І цягнікоў далёкі гул*
*Бягу да Дуба Целяшова,*
*Спаткацца з Коласам бягу...*

* * *

*Пад высокім светлым небам*
*Родная зямля ляжыць.*
*Пасадзі аглоблю ў глебу, –*
*Дрэва кронай зашуміць!*

*Тут рачулкі не зачахлі,*
*Голле ломіцца ў садах.*
*Тут малодзівам прапахлі*
*Туманы на паплавах.*

*Тут жыццё – на поўны голас!*
*Кожны мае клопат свой:*
*Гоні гоняць гонкі колас,*
*Луг набрак густой травой.*

*Як рацэ яе лілеі,*
*Дораг мне бацькоўскі кут.*
*Тут душою пасвятлееш!*
*Уваскрэснеш тройчы тут!*

АЛЕСЬ КАСКО

Сапраўднае прозвішча – Казка, пра што я не здагадваўся аж да 28-гадовага ўзросту, да 1979-га, калі ўпершыню стаў аўтарам кніжкі, дакладней, адным з аўтараў калектыўнага зборніка "Нашчадкі". Бацька пакруціў яго ў руках, знайшоў маё і з папрокам, а мо і з крыўдаю, спытаў: "Чаму ж ты не падпісаўся сваім прозвішчам?", і я, агалошаны, паўтарыў тое пытанне самому сабе... Ды Бог з ім, з прозвішчам, лепш – пра бацьку і пра маці.

Калі ў даведніках пішуць, што я з "сялянскай сям'і", дык напалову хлусяць. Праўда тое, што Казкі першыя ў Чудзіне атрымалі зямлю і вольніцу пасля адмены прыгоннага права. Тая праўда тут і заканчваецца. Дзедмой Рыгор быў гандляром коньмі, з-за малазямелля нават свіней не трымаў, а купляў сала на базары. З гэтай жа прычыны найстарэйшага сына Кастуся, майго бацьку, аддаў у пастухі, а пасля ўшаўцы ("сапожнікі", так у Чудзіне кажуць). Кім толькі бацька ні быў! Перш за ўсё "сапожнікам", бо шыць боты прыязджалі да яго і з Ганцавіч, і са Слуцка, але ён яшчэ і сталяр, і цясляр, і садоўнік (дасюль бабы Ганны грушы скрыпяць), і пчаляр, і кравец, і ў краме прадавец, і калгасны бры-

гадзір, і шорнік, і нават мастак. Шорнікам і мастаком зрабіўся ў сталінскім лагеры напачатку 50-х гадоў – ён, сын савецкага актывіста-паштара, забітага ў першыя дні вайны паліцаямі, былы партызан і франтавік, кандыдат у члены КПСС... Маці мая Аксеня была таксама не з простых – першаю (з дзвюх) у вёсцы камсамолкаю і трактарысткаю, з-за чаго ўсю вайну хавалася ад немцаў і паліцаяў. Абераглася, нарадзіла пяцярых дачок і чатырох сыноў. Шасцярых дзяцей выгадавала, хоць і жыла ой як цяжка, маючы мужа-лавеласа і атрымліваючы ў калгасе палачкі-“трудадні” за серпавае жніво з калыскаю на плячах, пра што я потым напісаў “Расінкаю для маці быў...”

А што пра сябе? Нарадзіўся ў драўлянай хатцы наўскрайку Чудзіна Ганцавіцкага раёна 10 снежня 1951 года. Усіх уражанняў маленства не апішу, хоць і спрабаваў гэта зрабіць у ганцавіцкім “Савецкім Палессі” ды ў “Бярозцы”. Памятаю дзяцінства гушчэзным, грыбным і ягадным, борам, паводкаю Лані, што ўвесну зрывала маснічыны ў хаце, гульнёю “ў вайну” і футбол, кніжкамі, якія браў у трох бібліятэках, у дзвюх чудзінскіх і адной, за пяць-шэсць кіламетраў, трэвалацкай, “зялёнаю школаю”, у якую ўцякаў ад занудлівых урокаў, завучам Міколам Купрэевым, які напрарочыў мне – “чалавека з цябе не будзе”, дзяўчынкаю-суседкаю, якая нечага хацела ад мяне, а я не ведаў, чаго...

У 1968 годзе паступіў у Брэсцкі педінстытут, пісьмова заявіўшы, што я паэт, бо надрукаваў верш “Пралескі”, дароблены Віктарам Гардзеем, у ганцавіцкай раёнцы. Вучыўся перш за ўсё ў Калесніка, а яшчэ ў Ляшук, Карлава, Малажай, Майсейчыка. Сябраваў з “апальным” Разанавым ды з іншымі цудоўнымі хлопцамі-паэтамі: Пракаповічам, Зайкам, Гарбаруком, Цімошыкам. Пазнаеміўся пазней з Рудкоўскім, Жуковічам, аддаваў нярэдка свой студэнцкі ложак бадзягам Купрэеву, Кірэйчыку і менш вядомым тады. Любіў, як і яны... кніжкі, якія мы чыталі і абмяркоўвалі па начах, бо многія кніжкі былі пад забаронаю, напрыклад, найцудоўнейшая манаграфія пра Максіма Багдановіча рускага Івана Замоціна, рэпрэсіраванага за беларускасць. Здарыўся канфлікт... з прарэктарам Салохам, і я быў аддадзены ў салдаты. Дома не прызнаваўся, што выключаны (часова) з інстытута і працаваў спачатку ў Рагазнянскай васьмігодцы настаўнікам рускай мовы і літаратуры, а потым у Чудзінскай дзесяцігодцы (да і крыху пасля войска) настаўнікам беларускай, рускай і нямецкай моваў (часам казаў так перад класам: “Добры дзень, зэтцэн зі, кто сегодня отсутствует?”).

З войска вярнуўся, здаецца, у 1973-м, папрацаваў у Чудзіне і зразумеў, што завочнае навучанне не для мяне. Зайшоў да рэктара Андраюка, добрага яму здароўя, потым да прарэктара Салохі, светлай яму памяці, і сказаў: або зноў на стацыянар, або ніяк. Дзякуй ім, зразумелі, паверылі, а мо і трошкі павінаваціліся: як жа было мяне, амаль выдатніка, выключаць за “неуспеваемость”?

Пачаў зноў вучыцца, прытым на павышаную стыпендыю. Пачаў друкавацца больш, чым да войска, і ў 74-м Калеснік і Пракаповіч накіравалі мяне на Рэспубліканскі семінар маладых літаратараў. Ах, якія гэта былі дні, дзесяць дзён! Мікола Пракаповіч, Алесь Емяльянаў, Алесь Гаўрон, Люба Турбіна, Таіса Бондар, Іван Стадольнік... Баюся, усіх не згадаць. А над намі! Вядзьмак



Лысагорскі, Ніл Гілевіч, Рыгор Барадулін, Анатоль Вярцінскі. Анатоль Ільіч якраз і падтрымаў нас, хоць пакрытыкаваў мяне за "красывость", аднак аддаў адзін верш з партрэтам у "ЛіМ".

Студэнцкага жыцця далей амаль не памятаю. Закахаўся, на апошнім курсе ажаніўся з Людмілаю. І пісаў вершы.

Пасля заканчэння інстытута, з жонкаю і немаўляткам сынам, прыехаў у Жабінку. Жыў на прыватнай кватэры і працаваў карэспандэнтам "Сельскай праўды". Быў спачатку сакратаром, а пасля старшынёю раённага літаб'яднання "Плынь".

У 1984-м, адмовіўшыся ўступаць у КПСС, пайшоў працаваць на абласное тэлебачанне, у рэдакцыю Міколы Пракаповіча. Быў тэлерэдактарам да 1991-га. З гэтага года стаў выбраным сакратаром Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў, трэцім па пераемнасці: Калеснік, Пракаповіч, Каско...

Сакратаром, або старшынёю, аддзялення тое-сёе зрабіў. Пры мне ўступіла ў Саюз пісьменнікаў не менш чым дзесяць чалавек. З Уладзімірам Базаном, светлай памяці сябрам, мастаком і адным з лідэраў нашай дэлегацыі на 1-м з'ездзе БНФ у Вільні, заснаваў літаратурную серыю "Берасцейскае вогнішча", у якой выйшла ўсяго дзесяць кніжак. Рупіўся і руплюся, каб вартасна была ўшанавана памяць найвыдатнейшых папярэднікаў – Аляксандра Сержпутоўскага, Якуба Коласа, Уладзіміра Калесніка, Васіля Праскурава, Міхася Рудкоўскага... Гэта калі казаць коратка і зважаць на сціпласць або нясціпласць (і першае, і другое – аднолькавая хвароба пісьменнікаў).

Пра ўласную творчасць. Першы верш, які ўжо згадваў, надрукаваў у 1968-м, першы верш, які напісаў у шостым класе, такі:

*Вася круціцца на ўроку,*
*не сядзіць ніяк:*
*то ўшчыпне суседку збоку,*
*то балбоча, як сарока,*
*то падскочыць, бы шчупак...*

Памятаю яшчэ адзін верш, надрукаваны толькі ў студэнцкай насценцы "Станаўленне"... Яго завучвалі студэнткі і парадыравалі хлопцы. А мне ён дарагі.

*Вынырне бліскучы месяц з-за гары,*
*пад пушыстым снегам бор засне стары,*
*і заплюшчаць вочы хаты ўсе, адно*
*доўга не патухне любае акно.*
*Гэта зноў дзяўчына не захоча спаць*
*і самотна будзе ў ночку пазіраць.*
*Да яе прыйду я – о, шчаслівы міг! –*
*прыкіпіць дзяўчына да грудзей маіх.*
*Сэрцы два сальюцца з жарам у адно,*
*вось тады й патухне любае акно.*

Астатняе пра творчасць – у даведніках і артыкулах. Скажу толькі, што галоўнаю кніжкаю сваёю лічу "Час прысутнасці" і ўдзячны Уладзіміру Паўлаву і Саюзу пісьменнікаў, якім ён кіраваў тады разам з Васілём Зуёнкам, што

заўважылі і адзначылі Літаратурнаю прэміяй імя Аркадзя Куляшова – імя Паэта, якога я любіў не меньш, чым Багдановіча або Лермантава.

Чаго няма пакуль што ў даведніках, дык гэта – машынапіс зборніка выбраных вершаў "Кругабег", са скрыпам, марудна здадзены ў выдавецтва "Мастацкая літаратура" і зборнічак запісаных мною народных казак "Чыстага ўсё нячыстае баіцца", які сёлета выйшаў у выдавецтве "Юнацтва". Ім – задаволены!

Што напрыканцы? Ага, сямейнае становішча. Яно банальнае. Жонка тая самая. Мая любоў – дачка Вольга, якая цудоўна чытае верш (як і казкі) "Адпяванне" з прысвячэннем: Волечцы на даросласць. А яшчэ сын Вадзім і ягоная дачка Ганначка, якую маці Таня прарочыць у мае пераемніцы...

(З А. Каско "Першая спроба аўтабіяграфіі", 2001)

Паэтычныя зборнікі Алеся Каско – "Скразная лінія" (1982), "Набліжэнне" (1989), "Час прысутнасці" (1994), "45 вершаў" (1996), «Трохкроп"е» (2001), «Два сонцы» (дзіцячы) (2004) і інш. – уяўляюць сабою своеасаблівыя кнігі-роздумы пра вечнае і мімалётнае, пра сутнасць жыцця і месца чалавека ў вялікім свеце. Многія творы з іх прысвечаны роднаму Палессю, найперш яго непаўторнай прыродзе і працавітым людзям (напрыклад, "Палессе. Паплавы. Паводка.", "Ты, старонка – сама цішыня", "Буслоў не ведаю бяздомных", "Выток", "Палескі трыпціх", "Жанчыны надвячоркам", "Маленства" і інш.). Палескі край – не толькі месца нараджэння паэта, але і выток яго творчасці. Выразна сведчыць пра гэта верш "Роднае", у якім аўтар прызнаецца:

*Мне без радзімы,*
*як чайцы – без мора,*
*шэрай зязюлі –*
*без сіняга бору;*
*як травам без ліўняў,*
*бярозам без соку,*
*як ручаю –*
*без вусця й вытоку.*
*Жыццёвы пачатак:*
*хата,*
*прысады,*
*запознены статак;*
*матчына песня*
*на полі начуе...*
*Вочы заплюшчу –*
*І бачу, і чую.*

Палеская тэма ў Алеся Каско знайшла сваё своеасаблівае вырашэнне. Калі раней гэты край лічыўся краем экзатычным, дзе чалавек жыў у суцэльнай гармоніі з прыродай, то цяпер прыроду тут "пакарылі" і атрымалі ад гэтага незваротныя страты. Экалагічная драма Палесся ў творчасці нашага земляка ўвязана з духоўнай трагедыяй усёй Беларусі, якая пастаянна пазбаўляецца на-



цыянальнай годнасці, роднай мовы і культуры. Вось чаму зямля, якая некалі, гаворачы словамі У. Караткевіча, была "зямлёю пад белымі крыламі", цяпер Алесю Касю здаецца "зямлёй пад чорным крыжам" ("Палессем"). Тым не менш, "які ні ёсць, а родны край – святыня", – лічыць паэт і ў вершы "Зноў я дома, дома..." выказвае сваё самае запаветнае жаданне – навечна супакоіцца ў роднай зямлі.

***Чудзін***

*Ці не ад "цуду" – назва тваёй вёскі?..*
*Прыватнае пытанне*

*Калі не цуд, што мой выток, мой Чудзін –*
*палескіх казак даўні чарадзей,*
*што першы зруб, прагнаўшы ўсіх чарцей,*
*паставіў ён на непадступным грудзе;*

*калі не цуд, што ў самы горкі будзень*
*не адымаў ён зброі ад грудзей –*
*да хат і ніў, да мацярок, дзяцей*
*шлях заказаў не аднаму прыблудзе;*

*калі не цуд – наўкол абсяг зямлі,*
*дзе ў рост мой жыта, травы параслі,*
*дзе лес і рэчка шчодрыя надзіва;*

*калі не цуд уся яго Радзіма,*
*чыёю мовай даражыць дзівоснай, –*
*тады мой Чудзін – проста нават вёска.*

* * *

*Зноў я дома, дома, дома.*
*І паўзмрок, і цішыня.*
*І матуля, як мадонна,*
*ля глыбокага акна.*

*Кола месяца за ёю,*
*задуменнай, маладой,*
*залаціцца чысцінёю,*
*быццам німб над галавой.*

*Цень кідаюць дрэваў шаты,*
*ды з таго яшчэ відней:*
*за сцяною гэтай хаты*
*мне ні трошкі не вальней.*

*Што за воля ў падняволлі*
*грэшных дум і сумятні*
*біцца, бы вятрыска ў голлі,*
*абрываць, як лісце, дні?*

*Адно б доля захацела!*
*Хатузагадзя прашу,*
*каб адвеялі ад цела*
*толькі тут маю душу.*
*Толькі тут ёй будзе добра,*
*дзе паўзмрок і цішыня,*
*дзе матуля, як мадонна,*
*будзе вечна ля акна.*

## АЛЕСЬ КАЖАДУБ

Празаік Алесь Кажадуб (нар. у 1952 годзе) з 1990 года жыве ў Маскве, аднак яго дарога ў вялікі свет пачалася з родных Ганцавіч. Бацькі будучага пісьменніка, Канстанцін Аляксандравіч і Лідзія Адамаўна, былі служачымі. Часта, адпраўляючыся на работу, яны пакідалі сына ў суседзяў-настаўнікаў. Алесь рана авалодаў граматай, амаль самастойна навучыўся чытаць.

Затым была вучоба ў школе і на аддзяленні рускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта. Пасля яго заканчэння (1974) Алесь Канстанцінавіч год адпрацаваў настаўнікам у вёсцы Крайск Лагойскага раёна і перайшоў на пасаду малодшага навуковага супрацоўніка ў Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР. З 1977 па 1981 год працаваў рэдактарам літаратурна-драматычных праграм рэспубліканскага тэлебачання. Потым быў літсупрацоўнікам аддзела публіцыстыкі часопіса “Маладосць” (1981–1983). У 1985 годзе скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве і заняўся творчай працай.

Літаратурны дэбют Алеся Кажадуба адбыўся ў 1976 годзе, калі ў часопісе “Маладосць” было надрукавана яго першае апавяданне “У канцы лета”. Апавяданне і аповесць сталі любімымі жанрамі пісьменніка і склалі кнігі “Гарадок” (1980), “Размова” (1985), “Лесавік” (1987), “Дарога на замчышча” (1990), “Святы калодзеж” (1994) і інш. Першая кніга прозы “Гарадок”, у якую ўвайшлі аднайменная аповесць у навелах і шэсць апавяданняў, была прыхільна сустрэта як чытачамі, так і крытыкамі, і засведчыла, што ў літаратуру прыйшоў малады і перспектыўны аўтар. Ужо ў наступным, 1981 годзе, ён быў прыняты ў члены Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Духоўны свет сучасніка, узаемаадносіны бацькоў і дзяцей, жыццё вёскі і клопаты вяскоўцаў, стан навакольнага асяроддзя – вось асноўныя праблемы, якія сталі ў цэнтры ўвагі пісьменніка. Некаторыя яго творы прысвечаны Палессю – “Мае рэкі”, “Ваўкалак”, “Высока сонейка, высока”, “Лесавік” і інш.



Для Алеся Кажадуба, як і для Лесавіка з аднаіменнай аповесці, "зямля ў атачэнні рэк і балотаў, зямля з дубовымі гаямі і сасновымі барамі, з чыстымі бярэзнікамі і шапатлівымі ельнікамі, з паплавамі на рэках і ўдзірванелымі палянамі – найлепшая...". Празаік заклапочаны тым, што апошнім часам знішчаюцца маляўнічыя краявіды роднага Палесся, парушаецца гармонія чалавека і свету прыроды. Яго, сына Палесся, хвалююць экалагічныя праблемы гэтага рэгіёна. Адна з іх – меліярацыя, якая на першым плане ў аповесці "Высока сонейка, высока". Жыццё, перакана볼 аўтар, прымусіць такіх, як старшыня Кунцэвіч, задумацца над вынікамі сваёй працы.

Апавяданням і аповесцям Алеся Кажадуба ўласцівы, як адзначаюць даследчыкі, "драматызм падзей, прадуманасць сюжэтнага дзеяння, часта нечаканасць канцовак" (Р. Шкраба). Невыпадкова многія яго творы перакладзены на рускую і украінскую мовы.

## УЛАДЗІМІР МАРУК

Вёска Гута – одно з "пісьменніцкіх гняздоўяў" на Ганцаўшчыне. Адсюль прыйшлі ў літаратуру Іван Кірэйчык і Уладзімір Марук.

Уладзімір Антонавіч Марук нарадзіўся 6 студзеня 1954 года ў сялянскай сям'і. Вучыўся спачатку ў Гуцянскай і Нацкай сярэдніх школах, затым – у Маўчадскай сярэдняй санаторанй школе-інтэрнаце Баранавіцкага раёна. Пасля яе заканчэння (1970 г.) паступіў у Магілёўскі бібліятэчны тэхнікум, дзе правучыўся два гады. Гэты перыяд пазначаны выхадам Уладзіміра Марука ў друк. У 1972 годзе яго першыя вершы ("Беларусі", "Працаваць і гаспадарыць...", "Пазаслалі хмары ўсе шляхі...") былі апублікаваны ў газеце "Магілёўская праўда".

Працаваць Уладзімір Антонавіч вярнуўся на родную Ганцаўшчыну. Месцам працы былі раённая, раённая дзіцячая, Шашкоўская сельская бібліятэкі, аўтаклуб у Ганцавічах. Праца з кнігамі заахвочвала да ўласнай творчасці. У 1974 годзе ў часопісе "Маладосць" з'явіўся цыкл яго вершаў, якія вызначаліся лірычнасцю, шчырасцю, сталасцю думкі.

У наступным годзе У. Марук паступіў на філалагічны факультэт БДУ. Працягваў актыўна друкавацца ў газетах "Чырвоная змена", "Мінская праўда", "Знамя юности", часопісе "Маладосць" і іншых выданнях. Атрымаўшы дыплом настаўніка-філолага, застаўся ў сталіцы. Выкладаў беларускую мову і літаратуру ў сярэдняй школе № 106 г. Мінска (1980–1981 гг.), працаваў карэспандэнтам, загадчыкам аддзела літаратуры і мастацтва газеты "Звязда" (1981–1986 гг.), рэдактарам, загадчыкам рэдакцыі выдавецтва "Юнацтва" (1986–1998). Некаторы час быў галоўным рэдактарам выдавецтва "Белфакс", зараз – намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Полымя".

У літаратуры Уладзімір Марук вядомы найперш як паэт. Лірычны герой яго першага зборніка "Зоркі на кронах" (1982) прыкмячае, як "дрыжыць асіны ліст", як "вецер мох скубе", як "лапік... скупой слязою плача", як туман "туліць да вёскі шчаку", як "цяжка снег кладзецца на далонь...". Невыпадкова даслед-

чыкі літаратуры называюць паэзію У. Марука “лірыкай у жывапісе”. Палескія краявіды ажываюць у вершах “Край лясны”, “У лясах палескіх”, “Не, яшчэ не зведана Палессе...”, “Зямля мая...” і інш. Узаемаадносіны чалавека і свету прыроды сталі галоўнай тэмай зборніка:

*Непаслухмяны твой жыхар, Прырода,*
*Я першабытнасць вывучыў даўно.*
*Ці не з тваёй нявыказанай згоды*
*Мне ў Сусвет адкрылася акно...*

Гэтая тэма знайшла сваё далейшае развіццё, мастацка-філасофскае асэнсаванне ў наступных зборніках У. Марука – “Ліст рабіне” (1987) і “Інкрустацыя голасам” (1991). Праз пейзажную дэталь аўтар выяўляе душу чалавека, яго лёс. Для прыкладу спашлемся на верш “Азіраліся дрэвы”, у якім выразна адлюстраваны ўнутраны стан чалавека, стомленага на дарогах жыцця:

*А здарожаны,*
*выгнаны з гэтых шалёных дарог,*
*Я астатняе дрэва*
*на апошняй дарозе спыню,*
*І лісток папрашу,*
*і здзіўлюся (калісьці не мог),*
*І пякучай далонню*
*да голай душы прыхіну.*

Леанід Галубовіч справядліва заўважыў, што “вершы Уладзіміра Марука ў сваёй пераважнай большасці інтымна-спавядальныя. Маючы ў сваёй аснове ірацыянальнае мысленне, падсвядомаснае, касмічна-бязважкае светаўспрыманне, яны трымаюцца на заземленых тропах, на карэнных зломах якіх Нечай няўвіднай рукой раскладваецца пасьянс уласнага лёсу паэта і ўся яго перадгісторыя...”.

Зборнікі “Ехаў Чыж у Парыж” (1994) і “Чыж вярнуўся з-за мяжы” (2004) склалі жартоўныя вершы нашага земляка, адрасаваныя дзецям. Над жыццём вёскі, захаваннем народных традыцый, маральна-этычнымі праблемамі нашага часу У. Марук разважае ў публіцыстычных артыкулах “Паслухайце: спяваюць у Лебедзеве”, “Высокія меркі часу” і інш. Вядомы ён і як перакладчык з рускай, узбекскай, армянскай, туркменскай моў.

*Вёска Гута, скажы мне, Гута...*
*А. Сербантовіч*

* * *

*Гута – крыштальнае дно*
*Самых высокіх нябёсаў.*
*Хаты бацькоўскай акно*
*З дзедавым полем зжылося.*

*Не наглядзяцца яны,*



*Як выпраўляемся ў людзі...*
*Гута.*
*Крышталю званы*
*Песняй напоўнілі грудзі.*

*І немагчыма ступіць*
*Нам за мяжу адчужэння:*
*Цяжка, як цяжка любіць*
*Гуту майго пакалення,*

*Дзе ад яго і відно*
*Тое, што нам засталося –*
*Гэта крыштальнае дно*
*Самых высокіх нябёсаў.*

* * *

*Я – ручай,*
*а ты – выток,*
*Родная мая зямля.*
*Птушкі кожнай кіпцюрок*
*Вымыю –*
*адно крыляй.*

*Хай ніхто не папракне,*
*Што мялеў, а не глыбеў:*
*Дрэўца кожнае ў мяне*
*Гляне з думкай пра цябе.*

*Стану я перад табой,*
*А на сэрцы –*
*светлы след:*
*Мне жанчына чысцінёй*
*Прызаслоніць белы свет.*

*Сонца ранняе ледзь-ледзь*
*Гляне –*
*і вяртацьме зрок...*
*А калі і прыйдзе смерць, –*
*Па ручай,*
*не па выток.*

# ДРАГІЧЫНСКІ РАЁН

Драгічынскі край багаты як на літаратурную спадчыну, так і на літаратурныя постаці. Ёсць тут і ўнікальныя вёскі, якія далі айчыннаму прыгожаму пісьменству не аднаго літаратара. Адна з іх – Гутава. Яна месціцца ў якім дзесятку кіламетраў на поўнач ад Драгічына. Тут нарадзіліся такія вядомыя паэты, як Мікола Федзюковіч, Ала Кабаковіч-Тычына, Уладзімір Сітуха. На паўднёвым захадзе ад Драгічына, амаль на мяжы з Іванаўскім раёнам, стаіць вёсачка Осаўцы – радзіма вядомага перакладчыка мінулага стагоддзя Сяргея Паўловіча, сучаснага беларускага паэта Міколы Трафімчука і маладой паэтэсы Алены Ігнацюк, якая гучна заявіла пра сябе ўжо ў трэцім тысячагоддзі (нар. у 1962 г. у в. Осаўцы Драгічынскага р-на, жыве ў Пінску, працуе ў Палескім дзяржаўным універсітэце, аўтар паэтычных зборнікаў "Нота "Ля" (2000 г.) і "Летаргія" (2006 г.)). Акрамя таго, з Драгічыншчынай звязаны такія гучныя імёны ў літаратуры, як Эліза Ажэшка ды Францішак Віславух.

Другая палова мінулага стагоддзя сталася ці не самай плённай для літаратуры рэгіёна. Яна адкрыла шмат талентаў, што засведчылі пра сябе і пра эпоху значнымі творамі. Тое звязана перш-наперш са стварэннем у

кастрычніку 1961 года пры раённай газеце "Запаветы Леніна" (сёння – "Драгічынскі веснік") літаратурнага аб"яднання "Світанак". Яго арганізатар і першы кіраўнік – Васіль Макаравіч Туркевіч. Ён, педагог па прызванні, вёў у тыя гады ўсю работу з пачаткоўцамі: рыхтаваў літаратурныя куткі і старонкі, пісаў адказы аўтарам, рабіў агляды паэтычнай пошты… Пасля пераехаў на Іванаўшчыну, у в. Моладава, дзе жыў, настаўнічаў, пісаў, шмат публікаваўся ў перыёдыцы, выдаваў кнігі.

Асабліва бурна пачаў развівацца ў раёне літаратурны рух у 1963-1964 гадах. У гэты час да шырокага чытача выйшлі са сваімі вершамі Мікола Панасюк і Мікола Федзюковіч...

Літаратурнае аб"яднанне фактычна з"яўлялася адным з пазаштатных аддзелаў рэдакцыі "раёнкі". У ім налічвалася звыш 20 чалавек. Сярод іх – Пётр Александровіч (нар. у 1933 г. у в. Новыя Клёнкі Іванаўскага раёна, працаваў будаўніком, літсупрацоўнікам Бярозаўскай раённай газеты "Маяк камунізму" і Драгічынскай "Запаветы Леніна"), Яўген Бондар (нар. у 1936 г. у в. Аляксеевічы Драгічынскага раёна, у 1964 скончыў факультэт журналістыкі Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта імя Ламаносава, працаваў у часопісе ЦК КПСС "Агитатор", выдавецтве "Знание", "Строительной газете", шырока друкаваўся ў саюзных, рэспубліканскіх і мясцовых выданнях), Уладзімір Гарбарук (нар. у 1948 годзе ў в. Белін Драгічынскага раёна, скончыўшы Брэсцкі педінстытут імя А. С. Пушкіна, працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў школах Драгічыншчыны, знаходзіўся на савецкай рабоце, выкладаў фізкультуру ў Вавуліцкай СШ), Мікола Герасімік (нар. у в. Хабарышча Ратненскага раёна Валынскай вобласці, пчаляр, жыве ў г. п. Антопаль, у 1998 г. выдаў кнігу вершаў "Полесский мёд"), Сяргей Місавец, (нар. у 1918 годзе на Астаханшчыне, на радзіму, у в. Масткі Драгічынскага раёна вярнуўся з бацькамі ў 1921-м, праца-



ваў у сярэднім звяне сельгасвытворчасці, яго верш на палескім дыялекце “Балада хлібовы” дасюль шырока вядомы на Драгічыншчыне і не толькі), Мікола Шэляговіч (нар. ў 1956 г. у Драгічыне, на прафесійнай аснове займаўся вывучэннем і даследаваннем палескага дыялекту, які дэкляраваў як цалкам самастойную і самадастатковую мову, узначальваў грамадскае аб”яднанне “Полісе”, друкаваў свае творы ў мясцовай, рэспубліканскай і замежнай перыёдыцы на палескім дыялекце), Аляксей Сяргей (нар. у 1948 г. у Ляхавіцкім раёне, з 1984 – рэдактар раённай газеты “Драгічынскі веснік”, з празаічнымі творамі выступае ў мясцовым і рэспубліканскім друку), Анатоль Дзенісейка (нар. у 1946 г. у в. Вулька-Антопальская, працаваў пракурорам у Іванаўскім і Драгічынскім раёнах, выдаў некалькі кніг “Непрыдуманых гісторый”, кнігу “Дни и ночи следователя”, краязнаўчую кнігу “История родного края в зеркале одной деревушки”. Пераможца абласнога конкурсу “Берасцейская зорка – 2002” у намінацыі “Культура”), Аляксандр Крэйдзіч (нарадзіўся ў Драгічыне, выкладчык музыкі і спеваў, апрача паэзіі, захапляецца музыкай і спортам, піша музыку на ўласныя вершы, іграе на гітары), Алена Дунькович (нарадзілася ў 1951 годзе ў Драгічыне, настаўніца, аўтар кнігі вершаў “Тваё акно” (2002 г.)), Ірына Ціман (нар. у 1962 у рэспубліцы Комі, настаўніца англійскай мовы ў гімназіі г. Драгічына), Таццяна Аляксейчык (нар. у 1951-м у в. Імянін, дзе выкладае рускую філалогію), Аляксей Крупко з в. Гумнішчы, Андрэй Кацярыніч (нарадзіўся ў 1929 г. у в. Гута Драгічынскага раёна, педагог-біёлаг, у 2000 годзе выдаў кнігу вершаў “Как я стал поэтом”), Ала Яхімовіч (нар. у 1965 г. у в. Цыбкі Драгічынскага р-на, настаўніца, жыве ў Драгічыне). Яны не толькі рэгулярна збіраліся на свае пасяджэнні ў рэдакцыі, але й былі частымі гасцямі ў працоўных калектывах і школах, выступалі сумесна з работнікамі бібліятэчнай сістэмы раёна ў складзе творчай групы «Натхненне”.

Пры літаб”яднанні доўгі час працавала студыя школьнікаў “Верасок”.

Цягам амаль усяго часу існавання літаратурнага аб”яднання кіраваў ім паэт і журналіст Мікола Трафімчук.

У раёне дзейнічае даволі шырокая сетка бібліятэк, з якіх 57 сельскіх, адна цэнтральная ды адна гарпасялковая.

У в. Людвінова ўстаноўлены памятны камень у гонар Элізы Ажэшка.

## ЭЛІЗА АЖЭШКА

Эліза Ажэшка (Паўлоўская) нарадзілася ў 1841 г. у маёнтку Мілкаўшчына, што ля Гродна. Яе бацька быў перадавым для свайго часу дваранінам. Будучая пісьменніца атрымала нядрэннае выхаванне. У 1857 г. яна вярнулася ў Гродна, дзе часта прысутнічала на вечарах і балях. Там яна і пазнаёмілася з Пятром Ажэшкам, якому належаў маёнтак Людвінова. Жадаючы хутчэй стаць самастойнай, шаснаццацігадовая дзяўчына дала згоду выйсці за яго замуж. Потым Эліза будзе шкадаваць аб гэтым. На схіле год сваіх яна запіша ў мемуарах, што выйшла замуж за Пятра Ажэшку толькі па легкадумнасці. «На будучае жыццё я глядзела як на забаву. І будучае мне здавалася забавай».

У пачатку 1858 г., у адзін з марозных лютаўскіх дзён, Эліза Ажэшка разам з мужам прыехала ў Людвінова. Гэтая мясцовасць будучай пісьменніцы вельмі спадабалася. Элізу ўразіла чароўная прыгажосць палескіх лясоў і балот, маляўнічасць беларускіх вёсак. Прыйшоўся ёй даспадобы і дом у Людвінове. Праўда, ён быў драўляны, але акуратна выбелены, прасторны і выгодны. Эліза любіла выходзіць на ганак з калонамі, з якога можна было прайсці ў каштанавую алею. Далей знаходзіліся вялікі сад і парк з маляўнічымі альтанкамі і ставам. Неўзабаве ў Людвінова былі прывезены з Мілкаўшчыны старадаўнія карціны, біблі-ятэка, люстры, мэбля.

У пачатку свайго знаходжання ў Людвінове Эліза Ажэшка працягвала весці лёгкі, бестурботны лад жыцця. Яна любіла танцаваць, ездзіць у госці. Трэба сказаць, што маладая жанчына трапіла ў культурнае для свайго часу асяроддзе. Яна часта наведвала Жукоў у Папіне, Русецкіх у Грудковічах і іншых. Там можна было паспрачацца аб апошніх грамадскіх падзеях, аб літаратурных навінах. Асаблівай прагрэсіўнасцю вызначалася сям'я Русецкіх. Чатыры сыны старога Русецкага мелі універсітэцкую адукацыю і цяпер пашыралі свой кругагляд вучэннем рэвалюцыйных дэмакратаў Чарнышэўскага і Дабралюбава. Ян Жук быў членам дваранскага камітэта ў Гродна, дзе ішло абмеркаванне сялянскага пытання. Спрэчкі аб вызваленні сялян ад прыгоннай залежнасці працягваліся і ў яго доме, які знаходзіўся ў Папіне. Адны з дваран, такія, як браты Русецкія, Жук, Калікст Ажэшка, гаварылі, што трэба даць сялянам зямлю, ІНШЫЯ, у тым ліку і Пётр Ажэшка, пярэчылі гэтаму і сцвярджалі, што прыгоннае права адмяняць не трэба. Спачатку Эліза не ўмешвалася ў такія спрэчкі. Але, прыглядаючыся да побыту беларускіх сялян, яна пачынала разумець, што чалавек павінен не толькі весяліцца, але і мець грамадскія ідэалы, змагацца за іх здзяйсненне, што сяляне — гэта таксама людзі, якім патрэбна свабода, асвета.

У сваіх мемуарах, прызначаных для літаратуразнаўцы Мейе, Ажэшка пісала: «Нават і ў тыя гады, калі я была найбольш легкадумнай і вяла вясёлае бесклапотнае жыццё, мне кожны раз, калі я, выйшаўшы за вароты дома, бачыла ў тумане сялян, якія ішлі па полі за сахою, і чула іх працяжнае пакрыкванне на валоў, — мне рабілася так сумна і так было шкада гэтых людзей, што я не магла ўтрымацца ад слёз».

На гэтай глебе ў Элізы Ажэшка пачаліся першыя спрэчкі з мужам. Пётр Ажэшка аказаўся чэрствым, абмежаваным чалавекам, які не любіў кніг, музыкі і ўвесь час праводзіў за гульнёй у карты або ў паляваннях.

Першая сур'ёзная сварка адбылася з-за таго, што Пётр Ажэшка ледзь не забіў экано-ма, які паведаміў яму аб паморку пародзістай кабылы. Колькі ні плакала і ні прасіла Эліза — уся віна была ўзвалена на прыгоннага пастуха, якога прымусілі аплаціць кошт жывёлы.

У сваіх мемуарах яна ўспамінае, што «ведала па імені і прозвішчы многіх жыхароў людвіноўскай вёскі». Пісьменніца хадзіла на сялянскія вяселлі, дапамагала сялянам збожжам, заступалася за іх, калі вясковая жывёла заходзіла на дворскія пасевы. Трэба сказаць, што 1858 — 1860 гады былі выключна неўрад-



лівымі. У вёсках пачаўся голад, пачалі паміраць дзеці. І тады Эліза канчаткова зразумела, што палавінчатых мер недастаткова, што адной дабрачыннасцю не выратуеш сялян, што патрэбны рашучыя сацыяльныя пераўтварэнні.

Ад ідэалістычных заблуджэнняў пісьменніца ў значнай ступені вызвалілася дзякуючы ўплыву Фларэнта Ажэшкі, малодшага брата Пятра. У 1860 г. ён скончыў Пецяр-бургскі універсітэт і з дыпломам урача вярнуўся ў Людвінова. Тут ён, як і браты Русецкія, пачаў распаўсюджваць ідэі рускіх рэвалюцыянераў-дэмакратаў. Фларэнт часта расказваў аб сваіх сувязях з рэвалюцыйнай рускай моладдзю, аб перасоўных студэнцкіх бібліятэках, у якіх была нелегальная літаратура. Ад яго Эліза ўпершыню даведалася, што Герцэн і Чарнышэўскі звязваюць справу барацьбы з царызмам са справай вызвалення яе айчыны. Многа год пасля пісьменніца стварыла прывабны вобраз рэвалюцыйнага дэмакрата, прататыпам якога служыў Фларэнт. У апавяданні «Яны» яна пісала: «З універсітэта ён прывёз з сабой гарачы і непахісны дэмакратызм, які ў думках, сэрцы і словах дыктаваў, як малітву, адно і тое ж слова — народ».

Разам з Фларэнтам Эліза наведвала хворых сялян. А ў 1862 годзе, за год да паўс-тання, яны арганізавалі ў Людвінове сельскую школу, у якой вучылася 20 хлопчыкаў. Пісьменніца за свае сродкі наняла для іх настаўніка, купіла школьныя прылады.

У 1863 г. пачалося беларуска-польскае і літоўскае нацыянальна-вызваленчае паўс-танне. На беларускіх землях яно дапаўнялася моцным сялянскім рухам, што мела вялікае прагрэсіўнае значэнне. Але шляхта, якая ўзначальвала паўстанне, у цэлым слаба была звязана з народам, з сялянскімі масамі, нацыянальнае пытанне адрывалася ад сацыяльнага. Гэтым і тлумачыла паражэнне паўстанцаў.

У сваіх мемуарах Эліза Ажэшка не гаворыць аб удзеле ў паўстанні з-за цэнзурных меркаванняў. Яна толькі зазначае, што ўвесь 1863 год быў «пражыты не асабістым жыццём». Больш падрабязна аб сувязях пісьменніцы з паўстанцамі расказвае польская даследчыца творчасці Ажэшка Габрыеля Паўшэр-Кляноўская ў сваёй кнізе «Пані Эліза». Там падкрэсліваецца, што 19 лістапада 1862 г. з выпадку імянін пісьменніцы ў Людвінова сабралася навакольная шляхта. Яна горача абмяркоўвала праграмы «белых» і «чырвоных», дэкламавала вершы Сыракомлі аб вызваленні сялян, выконвала патрыятыч-ныя песні, абмяркоўвала кандыдатуры кіраўнікоў паўстання. «Пры гуках імя Канстанціна Каліноўскага, — адзначае Паўшэр-Кляноўская, — моладзь гатова была апладзіра-ваць». Былі адобраны дзеянні ўладальніка маёнтка ў Шастакове Апалона Гафмейсцера, паслядоўніка рэвалюцыйных дэмакратаў, які першы ў акрузе вызваліў сялян ад прыгону і бясплатна надзяліў іх зямлёй.

Праз два месяцы амаль усе члены паўстанчых арганізацый некалькіх палескіх па-ветаў сабраліся ў маёнтку Жукоў у Папіне. Прыбылі сюды таксама Эліза Ажэшка і яе муж. Абмяркоўвалася пытанне, каму даверыць кіраўніцтва паўстаннем. Была названа кандыдатура Рамуальда Траўгута, які жыў непадалёку, у Востраве. Той згадзіўся і ў сваёй палымянай прамове паставіў перад прысутнымі бліжэйшыя мэты.

— Калі мы выйграем, — сказаў ён, — то наш выйгрыш будзс выратаваннем для на-рода, а калі прайграем, то ракой пралітай намі крыві да свабоды даплывуць іншыя.

І вось у лясным гушчары над рэчкай Цемрай, прытокам Ясельды, Рамуальд Траўгут пачаў навучаць палескіх паўстанцаў ваеннаму майстэрству. Пісьменніца не раз дастаўляла ў лагср паўстанцаў сакрэтныя звесткі аб дыслакацыі царскіх войск, прывозіла сюды хлеб, мяса, бялізну. Па дарозе ў Дзеткавічы, дзс быў зборны пункт паўстанцаў, Элізу часта затрымлівалі казакі, але яна заўсёды знаходзіла спосаб выратавацца.

Пасля першых баёў паўстанцаў з арміяй царскага генерала Эгера ў атрадзе паявілася многа раненых. Для іх Эліза разам са сваёй сяброўкай Стэфаніяй Жук арганізуе ў маёнтку Божыдар часовы шпіталь. Быў паранены і Траўгут. Некалькі дзён ён праляжаў у Людвінове, а потым зноў вярнуўся ў атрад. Для канспірацыі Траўгут неаднаразова рабіў свае інспекцыйныя паездкі ў суправаджэнні Элізы. Па дарозе яны бачылі, з якой сімпатыяй ставяцца да паўстанцаў сяляне вёсак.

Баі з царскімі войскамі праходзілі з пераменным поспехам. Пасля перамогі пад Воронямі прыйшло паражэнне ля Калоднага. Траўгут зразумеў, што лёс паўстання залежыць ад правільнага кіраўніцтва ім з боку Народнага ўрада, які размяшчаўся ў Вар-шаве. Гафмейсцер дастаў Траўгуту пашпарт на імя Таўкага, і Эліза, рызыкуючы жыццём, давезла яго ў карэце да граніцы польскіх зямель. Пазней Рамуальд Траўгут быў адным з самых рашучых кіраўнікоў паўстання, за што царскі ўрад пакараў яго смерцю.

Вярнуўшыся ў Людвінова, Эліза Ажэшка застала там спусташэнне. У час некалькіх рэвізій царскія жандармы перавярнулі ўсё ўверх дном. Былі арыштаваны Пётр і Фларэнт Ажэшкі. Першы з іх быў сасланы ў Перм. Пісьменніца разумела, што яс мужа праследавалі толькі з-за яе, бо сам ён дзейнага ўдзелу ў паўстанні не прымаў. Маёнтак Людвінова быў канфіскаваны. Але паступова асабістае гора адступала на задні план перад горам народа. Ажэшка бачыла, як каля Дзеткавіч казакі спалілі ўсю вёску толькі за тое, што частка сялян дапамагала паўстанцам. Папялішча перааралі, а сялян саслалі ў СІбір. Туды ж быў сасланы і Ян Жук з Папіны. Следам за ім, паўтарыўшы подзвіг дзекабрыстак, паехала жонка Стэфанія. На развітанне Эліза Ажэшка прачытала ёй свой верш «Мара», які заканчваўся радкамі:

Плывіце хутка, шэрыя хмары.
З сабой нясіцс жаль мой пануры
У недасяжную даль.

У лютым 1864 г. Эліза Ажэшка пакінула Людвінова, якое ёй цяпер не належала, і вярнулася ў родную Мілкаўшчыну, каб пачаць літаратурную дзейнасць. Шэсць гадоў таму назад яна прыехала сюды ў багатай карэце, у вясёлым акружэнні. Пакідала ж Людвінова на сціплым вазку, адзінокая, сумная ад кандальнага звону, які раздаваўся па навакольных дарогах. Прыехала яна сюды шаснаццацігадовым легкадумным падлеткам. Ад'ехала ж сталай, мудрай, мыслячай жанчынай, для якой гора народа стала і яе асабістым горам.



Людвінова з’явілася для пісьменніцы універсітэтам жыцця.

І сапраўды, калі мы звяртаемся да творчасці Ажэшка, то бачым, што ў аснову многіх яе твораў ляглі назіранні 1858 — 1863 гадоў. Убачанае ў час няўродзіцы лягло затым у аснову першага апавядання «Малюнак з галодных год». Няўдалы шлюб з Пятром Ажэшкам, затым развод з ім паслужылі штуршком для напісання рамана «Пан Граба». Хто ведае, ці не ў Людвінове бачыла Ажэшка прататыпаў і народнай умеліцы Пятрусі з рамана «Дзюрдзі», і гаротнай батрачкі Хрысціны з рамана «Нізіны», і беларускага селяніна Паўла Кабыцкага з рамана «Хам»? Варта адзначыць, што пісаць Эліза Ажэшка пачала яшчэ ў Людвінове. У сваіх мемуарах яна зазначыла: «У зімовыя вечары, калі не было гасцей, я пісала то адно, то другое (…), тое, чаго я ніколі і нікому не магла б сказаць». Тут жа пісьменніца перакладала творы Байрана, канспектавала гісторыю напалеонаўскіх паходаў. На жаль, людвіноўскія рукапісы да нас не дайшлі. Яны, відаць, былі спалены самой пісьменніцай у Міневічах.

Пакінуўшы Людвінова, Эліза Ажэшка пайшла нялёгкім шляхам народнай пісьменніцы-рэалісткі. Яе творчасць трывала ўвайшла ў скарбонку ўсіх славянскіх літаратур, у тым ліку і беларускай. Ажэшка выказала спадзяванне народных мас таго часу, клікала іх да лепшай будучыні.

Памерла Эліза Ажэшка ў 1910 годзе.

## ФРАНЦІШАК ВІСЛАВУХ

Францішак Віславух нарадзіўся 24 верасня 1896 года ў в. Пярковічы. У Варшаве скончыў сярэднюю школу і акадэмію мастацтваў. У 1914 годзе царскія ўлады маладога вольналюбівага чалавека саслалі ў Вятку. Праўда, Францішак прабыў там нядоўга – уцёк на радзіму. У час грамадзянскай вайны ён уступіў у Польскі легіён. Потым быў выкладчыкам вышэйшага вайсковага каледжа. У канцы 20-х гадоў яго накіроўваюць у корпус памежнай аховы. Праходзячы ў ім службу, ён аб’ездзіў усю Заходнюю Беларусь.

Другую сусветную вайну Ф. Віславух сустрэў у чыне маёра ў г. Гродна. Польшча не вытрымала маланкавага ўдару немцаў і неўзабаве капітулявала. Разам з рэшткамі польскай арміі Францішак праз Швецыю накіроўваецца ў Францыю. Тут ён уступае ў Польскі армейскі корпус і прымае ўдзел у вайне Францыі з фашысцкай Германіяй. Але і гэтая барацьба хутка скончылася паражэннем французаў.

Пасля гэтага наш зямляк апынуўся ў Англіі. Неўзабаве саюзнікі распачалі баявыя дзеянні ў Афрыцы. Францішка Віславуха прызначылі начальнікам штаба цэнтра падрыхтоўкі запасу корпуса генерала Андэрса. Калі пачаліся цяжкія баі ў Італіі пад Мотэ-Касіна, генерал Андэрс кінуў у гэтае пекла ўсе рэзервы. Разам са сваімі жаўнерамі Віславух прайшоў франтавымі дарогамі Італіі да самай Перамогі.

Пасля вайны пасяліўся ў Англіі. Некаторы час быў палкоўнікам Брытанскіх Узброеных Сіл. Пасля выхаду на пенсію займаўся сваёй любімай справай - маляваў карціны і пісаў апавяданні.

Памёр Ф.Віславух 23 сакавіка 1978 года. Пахаваны ў Лондане. Пры жыцці ён выдаў дзве кнігі: “Палескія апавяданні» (1968 г.) і «Па сцежках Палесся» (1976 г.). Апошняя кніга «Рэха Палесся» пабачыла свет ужо пасля смерці аўтара ў 1979 годзе.

Аб чым жа пісаў у сваіх апавяданнях Францішак Віславух? У першую чаргу аб раслінным і жывёльным свеце роднага краю. Ён сам з’яўляўся добрым паляўнічым, для якога нашы лясы, балоты, вёскі і іх жыхары сталі героямі для яго мастацкіх сюжэтаў. Аб гэтым, напрыклад, яскрава сведчаць назвы такіх апавяданняў, як «Ваўкі», «Дзікія гусі», «Князь балотаў», «Зубры», «Пушча», «Спораўскае возера» і г.д. Асабліва добра ён апісвае ў сваіх творах працавітых і кемлівых палешукоў - тых, хто жыў у лясной пушчы. Усё гэта знайшло адлюстраванне ў апавяданнях «Кандрат», «Таямніца пушчы», «Браканьер», «Адступнік» і іншых.

Але, мусіць, самым цікавым апавяданнем з’яўляецца «Прафесар». Галоўны герой яго – бацька аўтара, стары прафесар з Пяркові.

## СЯРГЕЙ ПАЎЛОВІЧ

Паўловіч Сяргей (1875-1940), праваслаўны свецкі і культурна-асветны дзеяч міжваеннага дваццацігоддзя ў Заходняй Беларусі, багаслоў, удзельнік беларускага хрысціянскага руху 20 ст., педагог, пісьменнік, публіцыст і выдавец. У беларускім перыядычным друку выступаў пад псеўданімам Паляшук (Palashuk).

Сяргей Паўловіч нарадзіўся 13 (25) верасня 1875 года ў вёсцы Восаўцы (цяпер Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці) у сям’і праваслаўнага святара Канстанціна Паўловіча. Вучыўся спачатку ў Літоўскай духоўнай семінарыі ў Вільні, а ў 1899 годзе скончыў Кіеўскую духоўную акадэмію са званнем кандыдата багаслоўя. У 1909-1912 гадах ён выкладаў Закон Божы ў настаўніцкай семінарыі і жаночай гімназіі ў Рагачове. З 1913 года — інспектар народных вучылішчаў у Ваўкавыску. У час Першай сусветнай вайны быў у бежанстве, служыў у Калужскім губернскім аддзеле народнай асветы.

Вярнуўшыся на радзіму, С. Паўловіч жыў у Вільні, працаваў у Віленскай беларускай гімназіі інспектарам, выкладчыкам Закона Божага, а ў 1927/28 навучальным годзе займаў пасаду дырэктара гэтай установы. Ён знаходзіўся сярод найбольш актыўных працаўнікоў на ніве адукацыі на роднай мове, змагароў супраць паланізацыі школы. Педагагічная і грамадская дзейнасць Паўловіча была цесна звязана з Таварыствам беларускай школы (1921-1937). Ён уваходзіў у склад кіраўніцтва гэтай культурна-асветніцкай арганізацыі, рэдагаваў часопісы “Летапіс Таварыства беларускае школы” (з 1936 года — “Беларускі летапіс”) і “Беларускі каляндар”. Разам з іншымі сябрамі ТБШ у 1930 і 1933 гадах арыштоўваўся, нейкі час сядзеў на Лукішках.

Асабліва цікавай з’яўляецца постаць С. Паўловіча як багаслова-асветніка. Працуючы ў Віленскай беларускай гімназіі, ён на практыцы рэалізоўваў выс-

новы аб рэлігійным выхаванні як неабходнай частцы навучальнага працэсу, што не згубіла актуальнасці і ў канцы XX ст.

У 1926 г. была надрукавана падрыхтаваная ім "Свяшчэнная гісторыя Старога Завету. Для беларускіх пачатковых школ і малодшых класаў гімназій". Варшаўскі сінод дазволіў увесці гэты падручнік у навучальны працэс. Пад рэдакцыяй Сяргея Паўловіча ў 1933 г. быў выдадзены "Праваслаўны малітваслоў на царкоўнаславянскай і беларускай мовах", які часова быў дапушчаны да ўжывання ў беларускіх пачатковых школах Віленскай акругі. З рэкамендацыі Віленскай камісіі па беларускіх падручніках Закона Божага выйшла ў свет апрацаваная Паўловічам "Першая навука Закону Божага. Падручнік для пачатковай школы (I-V аддзелы)" (Варшава, 1935) і "Свяшчэнная гісторыя Новага Завету. Падручнік для беларускіх школаў і самаадукацыі" (Вільня, 1936).

Царкоўна-асветніцкая і перакладчыцкая праца Паўловіча вялася ў рэчышчы традыцыі перакладу Свяшчэннага Пісання на сучасную беларускую мову, якая была закладзена ў пач. 20 ст. Яна прадстаўлена работамі дзеячоў розных канфесій: каталікоў В. Гадлеўскага, Я. Пятроўскага, А. і Я. Станкевічаў, П. Татарыновіча, уніята Л. Гарошкі, пратэстанта Л. Дзекуць-Малея. Асаблівасцямі перакладу С. Паўловіча з'яўляюцца ашчадныя адносіны да царкоўнаславянізмаў, што дапамагло яму захаваць узнёсласць і глыбіню сэнсу свяшчэнных тэкстаў. Трапары святаў, Запаведзі блажэнстваў даюцца паралельна на царкоўнаславянскай і беларускай мовах з захаваннем суадноснай арфаграфіі. Падручнікі і малітваслоў Сяргея Паўловіча напісаны літаратурнай мовай, зразумелай для простага народа, але не перагружанай дыялектызмамі і простамоўем.

Падручнікі Свяшчэннай гісторыі Сяргея Паўловіча разлічаны ў асноўным на дзяцей. Даюцца тлумачэнні (з улікам святаайцоўскай традыцыі) пэўных эпізодаў Свяшчэннай гісторыі, яна падаецца ў простай, даступнай і цікавай для дзяцей форме. У якасці падручнікаў Свяшчэннай гісторыі кнігі Паўловіча пакуль што не маюць аналагаў. Пры пэўнай дапрацоўцы з мэтай набліжэння да сучаснай літаратурнай мовы яны маглі б выкарыстоўвацца ў беларускіх нядзельных школах і сярэдніх навучальных установах і цяпер.

Багаслоўска-педагагічная спадчына Сяргея Паўловіча даволі вялікая: 6 падручнікаў, 3 брашуры, шэраг артыкулаў у часопісах Таварыства беларускай школы. Але сёння гэтыя выданні з'яўляюцца бібліяграфічнай рэдкасцю. Некаторыя работы Паўловіча не друкаваліся, напрыклад, праца аб гісторыі нацыянальнай школы ў Заходняй Беларусі.

Памёр Сяргей Паўловіч у 1940 годзе і быў пахаваны на Літоўскіх могілках у Вільні.

## МІКОЛА ФЕДЗЮКОВІЧ

«Блаславёная вёска Гутава,
мне з табою спяваць і гутарыць,
і заўсёды цябе любіць».

Так заканчваецца верш вядомага беларускага паэта Міколы (Мікалая Міка-

лаевіча) Федзюковіча, прысвечаны роднай вёсцы, што ў Драгічынскім раёне. Тут 22 мая 1943 г. ён нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Бацька Мікалай Іванавіч загінуў на фронце ў вялікую айчынную вайну; маці Ксенія Пракопаўна працавала ў калгасе.

Мікола Федзюковіч пасля заканчэння ў 1960 годзе сярэдняй школы ў Гутаве таксама працаваў у калгасе, затым быў літсупрацоўнікам Драгічынскай раённай газеты, фотакарэспандэнтам лунінецкай газеты «Ленінскі шлях». З 1962 па 1965 служыў у Савецкай Арміі. У 1970 г. скончыў Літаратурны інстытут імя А.М.Горкага ў Маскве. Працаваў у выдавецтве «Народная асвета», у 1971—73 гг. у рэдакцыі газеты «Чырвоная змена», у 1975 — 76 гг. — у рэдакцыі бюлетэня «Служба быту Беларусі». З 1976 г. на творчай рабоце. З 1993 г. літаратурны кансультант газеты «Беларуская ніва».

Першыя вершы паэта з'явіліся ў друку ў 1960 г. ў Лунінецкай раённай газеце "Ленінскі шлях". У рэспубліканскім друку выступае з 1964-га. Друкаваўся ў калектыўных зборніках "Слава Арміі Савецкай", "Сэрцам загадана", "Песня любові", "Дзень паэзіі". М.Федзюковіч – член Саюза пісьменнікаў Беларусі з 1972 года. Апрача вершаў, пісаў нарысы і артыкулы пра вёску, перакладаў з іншых моў. Творы паэта перакладаліся на ўкраінскую, літоўскую і рускую мовы, а ён сам перакладаў з балгарскай, грузінскай, казахскай, кіргізскай, малдаўскай, рускай, таджыкскай, татарскай, украінскай, французскай літаратур.

Мікола Федзюковіч – аўтар паэтычных зборнікаў «Зямля-магніт» (1968 г.), «Мілавіца» (1971 г.), «Птушыны грай» (1976 г.), «Макаў цвет» (1979 г.). Выдаў у 1976 г. ў Маскве ў выдавецтве «Маладая гвардыя» кнігу лірыкі «Птичье дерево».

«Чыстай, светлай і абаяльнай паказалася мне кніга М.Федзюковіча «Зямля-магніт», — пісаўу часопісе «Дружба народов» пра першы паэтычны зборнік паэта Ніл Гілевіч. — Лепшыя вершы ў яго тыя, дзе ён ідзе ад асабістых уражанняў, ад пражытага самім і прачулага... Рытмічна і інтанацыйна верш М.Федзюковіча не шаблонны. Наогул, гэта паэт даволі высокай прафесійнай вывучкі».

Чысцінёй пачуццяў, навізной успрыняцця наваюльнага свету, свежасцю думкі і вобразнасцю хвалюе яго паэзія.

М.Федзюковіч належаў да таго пакалення паэтаў, дзяцінства якіх прыпала на ваенныя і пасляваенныя гады. Вось чаму тэма вайны не магла не хваляваць яго. Ён піша пра гора, што прынесла вайна, галоднае і халоднае дзяцінства:

Я стаяў нерухома на чорным дзядзінцы.  
Праляталі буслы, бяссільна кружыліся  
над маім трохгадовым пякельным дзяцінствам.

Антываенныя матывы вызначаюць змест такіх вершаў М.Федзюковіча, як «Жывыя цені», «Чужая магіла» і іншыя.

У прадмове да зборніка «Птичье дерево» перакладчык вершаў паэта на рускую мову Іван Бурсаў адзначыў імклівы прафесійны рост М.Федзюковіча ў пачатку яго творчага шляху. Расло яго майстэрства, пашыраўся тэматычны дыяпазон яго творчасці. Але заставаўся нязменным «зямны» пачатак яго паэзіі.

Памёр Мікола Федзюковіч 8 студзеня 1997 года.



***Вёска Гутава***
*Вёску Гутава ў снег захуталі*
*давідна свежакі-вятры.*
*Сустракае нас вёска Гутава*
*крыкам пеўняў, сталёвым грукатам.*
*ВёскаГутава - тры вярсты!*
*Замятуха-завея сцелецца*
*за аўтобусам наўздагон...*
*Людна, гоманна за аселіцай –*
*хлебаробнае ўсё насельніцтва*
*ў прадчуванні адліжных дзён.*
*З неба дожджык лагодны капае,*
*з поўдня хмары плывуць гусцей...*
*Старшыня Уладзімір Карпавіч*
*задуменна дыміць цыгаркаю,*
*пазіраючы на гасцей:*
*— Малайцы, што праведалі,*
*Доўга ехалі? Ці абедалі?...*
*Эх, як рэзалі – як зарэзалі,*
*як смалілімы вепрука!*
*У суседа Міхала - хрэсьбіны,*
*у дзяўчат - галасы гарэзныя...*
*Завітаем да земляка!*
*Хата новая — шклянка — звон,*
*Свет далёка з акон відзён.*
*Пахваляецца дзядзька, выпіўшы:*
*— Чуеш, Косця, што гавару?*
*Хоць сягоння нарад мне выпішы,*
*я любую дэталь... звару!*
*Ну, а сват і сватаў зяць*
*хочуць жартам дзядзьку ўзяць:*
*Хведар - токар і манцёр,*
*ды, як Зміцер той, хіцёр!*
*Але й самімы з вусамі,*
*выхадзі - станцуеш з намі!*
*Гэй, вус налева, вус направа –*
*закруціўся кучарава!*
*Не раскучаравіцца, —*
*хоць скачы да раніцы...*
*Вус направа,*
*вус налева,*
*танцуй з намі, каралева!*
*Каралева — цётка Клава,*

*сват — налева, Хведар — справа.*
*Як пераначуеш, — стомы не пачуеш...*
*А ўгары цішынёй ахутаны,*
*цьмяны месяц*
*ледзь-ледзь ліпіць...*
*Блаславёная вёска Гутава,*
*мне з табою спяваць і гутарыць,*
*і заўседы цябе любіць.*

## АЛА КАБАКОВІЧ-ТЫЧЫНА

Беларуская пісьменніца, перакладчыца, кандыдат філалагічных навук Ала Канстанцінаўна Кабаковіч-Тычына нарадзілася 7 сакавіка 1943 г. ў в. Гутава Драгічынскага р-на. У 1959 г. з залатым медалём скончыла Гутаўскую сярэднюю школу. У 1964 г. з адзнакай скончыла факультэт журналістыкі Бел-дзяржуніверсітэта. Два гады працавала ў сістэме Дзяржкамітэта БССР па радыёвяшчанні і тэлебачанні. У 1966—71 гг. вучылася ў Літаратурным інстытуце імя Горкага ў Маскве на перакладчыцкім факультэце. Адначасова з вучобай працавала ў рэдакцыі часопіса «Дружба народов», дзе публікавала свае пераклады з беларускай мовы вершаў У. Караткевіча, А. Вярцінскага. З 1971 г. навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР. У 1976 г. абараніла кандыдацкую дысертацыю, выдала кнігі «Паэзія Максіма Багдановіча» (1978), «Беларускі свабодны верш» (1984). Адзін з аўтараў манаграфіі «Паэзія абнаўлення свету» (1981). Пасля смерці (памерла А.К.Кабаковіч-Тычына 11 лютага 1985 г.) выйшла яе навуковая праца «Фальклорныя і анталагічныя традыцыі ў беларускай паэзіі» (1989). У кнізе выбранага «Пасеянае ўзыдзе» (1991) апублікаваны яе вершы (друкаваліся ў часопісах «Нёман» і «Полымя»), пераклады, шматлікія артыкулы і рэцэнзіі, у якіх даследуецца творчасць Максіма Танка, Янкі Сіпакова, Міхася Стральцова, Рыгора Барадуліна, Петруся Макаля, Алеся Разанава, Раісы Баравіковай.

***Святло Радзімы***

*Над Гутавам маім*
*Стаяла Мілавіца,*
*Цвіў белым цветам бэз,*
*А месяц — бляскам рос,*
*Каб маладосць мая*
*Паспела надзівіцца*
*На прыгажосць крыла,*
*Што ахінула лёс.*

***Поле***

*Гайдае вецер палыны,*



*Гайдае жыта.*
*Не ўсё зроблена яшчэ, -*
*Не ўсё пражыта.*
*А як паспееш за жыццё*
*Напрацавацца,*
*То не паспееш на жыццё*
*Налюбавацца.*
*Паснулі дзеці давідна,*
*Прыснула маці.*
*А мне не спіцца дапазна*
*У роднай хаце.*
*Што доўжыць дзень,*
*Як баразну,*
*-Як пожня коле?*
*Калі я ведаю здавён,*
*Што мне за доля.*
*І немінучае маё*
*Мяне чакае.*
*Гайдае вецер палыны,*
*Жыты гайдае.*

## МІКОЛА ТРАФІМЧУК

Мікалай Мікалаевіч Трафімчук нарадзіўся 3 студзеня 1950 г. ў в. Осаўцы Драгічынскага раёна ў сялянскай сям'і. Скончыў Белінскую сярэднюю школу, Брэсцкае ГПТВ-65 будаўнікоў, філалагічны факультэт Брэсцкага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А.С.Пушкіна. Працаваў у школах Драгічынскага і Бярозаўскага раёнаў выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры. З 1975-га – у рэдакцыях раённых газет «Чырвоная звязда» (г. Іванава), «Запаветы Леніна» (г. Драгічын), на Брэсцкім тэлебачанні, у газетах «Звязда» і «Мінская праўда», карэспандэнтам-арганізатарам Бюро прапаганды мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў Беларусі. З 1994 года ў рэдакцыі газеты "Наша доля".

Літаратурную працу распачаў у 1970-м.

У 2005 годзе пачаў выдаваць літаратурны альманах "Гоман", які хутка набыў шырокую папулярнасць ва ўсіх рэгіёнах краіны.

Першыя вершы былі надрукаваны ў 1973 г. ў драгічынскай раённай газеце «Запаветы Леніна», затым друкаваўся ў газетах «Заря», «Чырвоная змена», «Знамя юности», «Літаратура і мастацтва», «Звязда», часопісах «Маладосць», «Полымя», «Нёман». У 1979 г. ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшаў зборнік паэзіі маладых «Нашчадкі», у 1987 г. — дзіцячы зборнік «Цвіце верас» з падборкамі вершаў М.Трафімчука. Аўтар паэтычных зборнікаў «Трыванне» (1990 г.), «Траекторыя» (1992 г.) і «Фэст» (1993 г.).

Паэзія Міколы Трафімчука цэласная, заснаваная на зямных рэаліях, часам суровых, але заўсёды чалавечных. Паэту ўласціва ўдумлівае стаўленне да

жыцця, глыбокае асэнсаванне прызначэння чалавека на зямлі. Аўтар сцвярджае, што мы павінны вярнуцца да сваіх вытокаў, да народнай маралі, да вечных духоўных каштоўнасцей – вернасці, сумленнасці, працавітасці (“Жыццё берагчы першаіснае”).

М. Трафімчука вабіць інтэлектуальна-філасофская лірыка. Тут ён застаецца верны традыцыям А. Разанава, слушна лічыць ядром паэзіі драматызм пазнання і самапазнання (“Балада пазнання”).

Жыве ў Мінску.

*А на Палессі спякота,*
*У полі да поту работа.*
*Поймы і плёсы сухія...*
*Ой і нябёсы ліхія!*

*А на Палессі балотным*
*І баламутна й грукотна,*
*Тэле-радыё-актыўна,*
*Мелі-яра-тыўна...*

*А на Палессі радзіны*
*на ўсё ваколле адзіныя.*
*Тры дні зноў неба плача*
*Па паляшучках, няйначай...*

*А на Палессі малебен.*
*Як абразы – хмаркі ў небе.*
*О, барані, Божа, нішчыць*
*Храм светлы Жэні Янішчыц!*

## МІКОЛА ПАНАСЮК

Беларускі пісьменнік-дакументаліст Мікалай Васільевіч Панасюк нарадзіўся 9 сакавіка 1947 г. на хутары непадалёк ад в. Галоўчыцы Драгічынскага раёна ў сям’і селяніна.

Яшчэ некранутая ў той час меліяратарамі прырода аказвала на фарміраванне светапогляду, характар хлопчыка надзвычай станоўчы ўплыў: сваё захапленне ён з ранніх гадоў спрабаваў выказаць мовай малюнкаў, у школьныя гады пачаў пісаць вершы. Многія з іх ён друкаваў у «Чырвонай змене», «Селскай газеце», часопісе «Маладосць», але сваё прызванне знайшоў у далейшым у дакумен-тальнай прозе.

З 1965 г. працаваў літсупрацоўнікам, а потым адказным сакратаром іванаўскай раённай газеты «Чырвоная звязда». Тут ён заснаваў літаратурнае аб’яднанне «Ясельда». Некаторы час працаваў у драгічынскай раённай газеце «Запаветы Леніна», у брэсцкай абласной «Заря».



У тым жа годзе, калі пачаў працаваць у перыядычным друку, стаў вучыцца завочна на факультэце журналістыкі Белдзяржуніверсітэта. У кастрычніку 1969 г. яго нарыс «Барозны ніколі не канчаюцца» пра сельскага механізатара П. Л. Пернача надрукавала старэйшая беларуская газета «Звязда». А за нарыс «Кароль кавальскай справы», дасланы на конкурс «Звязды» і Белсаўпрофа, Мікола Панасюк быў удастоены другой прэміі. Менавіта гэтыя, а таксама іншыя публікацыі ў рэспубліканскай прэсе і вызначылі яго далейшы лёс: з чэрвеня 1970 г. ён — уласны карэспандзнт «Звязды» па Брэсцкай вобласці.

З гэтага часу і пачынаецца плённы перыяд у яго творчасці. У 1975 г. ён выдае адразу дзве кнігі — у выдавецтве «Народная асвета» зборнік дакументальных апавяданняў пра піянераў-падпольшчыкаў Заходняй Беларусі «Мужнелі ў барацьбе», а ў выдавецтве «Беларусь» — пра лётчыка-касманаўта СССР Пятра Клімука «Арыенцір — сузор'е Арыён». У 1977 г. ў тым жа выдавецтве ўба-чыла свет дапрацаванае і перакладзенае Уладзімірам Жыжэнкам на рускую мову другое выданне аповесці «К созвездням». У ім апавядаецца не толькі пра першы (з Валянцінам Лебедзевым), але і пра другі, на гэты раз працяглы, касмічны палёт П. Клімука з Віталем Севасцьянавым на каляземнай арбіце. Урыўкі з гэтай аповесці («Чула маё сэрца», «Мітынг у калгасе», «У роднай хаце», «Ізноў у палёце») увайшлі ў двухтомнік «Беларускі савецкі нарыс», вы-пушчаны выдавецтвам «Мастацкая літаратура» ў 1977 г.

Затым разам з Васілём Татунам і Сцяпанам Літвінчуком наш зямляк напісаў кнігу нарысаў пра даўгалетніх жыхароў рэспублікі — «Шчодрае даўгалецце» (1980), разам з Васілём Татунам — «Крона вечного дерева» (1987) — пра дружбу беларусаў і палякаў, іх прыгранічныя сувязі.

Адна за адной выходзяць кнігі Міколы Панасюка, у якіх ён апавядае пра сваіх землякоў — людзях палескай вёскі: «Полесская целина» (1982), «Світальныя зоркі» (1987), «Зоркі над Бугам» (1990).

Плённай была ў яго праца і ў часопісе «Коммунист Белоруссии» са студзеня 1987 г. У гэты перыяд творчасці ўжо сталы аўтар многіх дакументальных твораў змяшчае на старонках часопіса шэраг матэрыялаў пра людзей удмурцкай нацыянальнасці, якія воляй лёсу былі закінуты ў Беларусь. Невялічкая дакументальная аповесць «Двое у родничка» змешчана ў калектыўным зборніку «Вчера, сегодня, завтра Советсюй Удмуртии», выдавецтва «Удмуртия» (1990).

З 1991 г. Мікола Панасюк – уласны карэспандэнт часопіса «Беларуская думка» па Брэсцкай вобласці.

Стыль Міколы Панасюка характарызуецца сціслацю, уменнем уключаць у твор шмат паказальных фактаў, своеасаблівай добразычлівасцю да чытача, уменнем выклікаць у яго ўзаемны давер і сімпатыю.

***Я родам з хутара***

*Я родам з хутара. Балота*
*Чаротам стукала ў акно.*
*Бяроз і клёнаў пазалота,*
*І сінь нябёс, і броду дно...*

*Цяпер ні хаты той, ні кладкі*
*Да вольх, аеру, ручая...*
*І не пячэ даўно аладкі*
*Больш маці любая мая.*

*Між град за горадам балотца*
*Капаю я на схіле дня.*
*Тут побач – бульба, мох і лотаць,*
*Нібыта блізкая радня.*

*Не трэба церам. Хатка – з дахам!..*
*Тут ні асфальту, ні трывог.*
*Сюды лячу з дзяцінства птахам,*
*З унукам падаю на мох.*

*Шалею з ім між траў ад шчасця,*
*Сыходзіць з сэрца смутку цень.*
*У снах мой хутар, - як прычасце*
*Між гарадскіх і даўкіх сцен.*

ВАСІЛЬ ЛІТВІНЧУК

Васіль Андрыянавіч Літвінчук нарадзіўся 1 ліпеня 1930 года ў сялянскай сям"і ў вёсачцы Галік, што прыціснулася да Дняпроўска-Бугскага канала на яго паўднёвым баку. Бацька – арганізатар партызанскай групы – загінуў у сутычцы з фашыстамі ў 1944 годзе, маці памерла ў партызанскім атрадзе імя Шыша ў 1943-м.

У 1939 годзе скончыў два класы польскай школы, а ў 1941-м – тры класы савецкай.

З 1943-га – у партызанскім атрадзе. Узнагароджаны медалём "За баявыя заслугі".

Пасля вызвалення вучыўся ў Драгічынскай СШ №1. З верасня 1949 па 1950 – літсупрацоўнік радыёвяшчання ў Драгічыне. Затым – сакратар Антопальскай райгазеты, рэдактар газеты пры палітаддзеле Антопальскай МТС, з 1954 па 1959 – намеснік рэдактара Драгічынскай райгазеты, з 1960-га – яе рэдактар. У 1960 скончыў факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта імя Леніна. У 1962-м узначаліў Лунінецкую "раёнку". З 1970-га – другі сакратар Лунінецкага РК КПБ, а з 74-га – старшыня Лунінецкага райвыканкама. З 1983 па 1991 – начальнік упраўлення Брэсцкага аблвыканкама па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. З гэтай пасады выйшаў на пенсію.

Узнагароджаны многімі ордэнамі і медалямі СССР, Ганаровымі граматамі Савета Міністраў БССР.

У 1992 годзе выдаў дакументальна-мастацкую кнігу пра партызанскі



рух на Брэстчыне “Там, за Днепра-Бугам”. Другое, дапрацаванае выданне гэтай жа кнігі ўбачыла свет у 2005 годзе.

## МІКОЛА СЯНКЕВІЧ

Мікалай Іванавіч Сянкевіч нарадзіўся ў 1957 годзе на хутары паблізу вёскі Асіпавічы. Скончыў мясцовую сярэднюю школу, Пінскае вучылішча механізацыі меліярацыйных работ, Брэсцкі дзяржаўны педінстытут імя Пушкіна.

З 1982 года настаўнічаў у школах горада Брэста, а цяпер працуе выкладчыкам абласнога педагагічнага універсітэта.

Свой шлях у літаратуру М.Сянкевіч пачынаў з паэзіі. Першы яго верш быў апублі-каваны ў 1982 годзе ў газеце «Заря». Потым вершы друкаваліся ў абласных і рэспубліканскіх выданнях, у зборніках «Дзень паэзіі», «Берасцейскія карані», «Паэзія Берасцейшчыны» і іншых. У іх аўтар ідзе ад уласнага, зведанага, перажытага і ўзнімае важныя надзённыя праблемы сучаснага жыцця.

Цяпер Мікола Сянкевіч аддае перавагу прозе. У 1997 годзе выйшла ў свет яго пер-шая кніга «Усё як было». У яе ўвайшлі мініяцюры і апавяданні, якія закранаюць няпростыя маральна-этычныя праблемы, звязаныя пераважна са школьным жыццём. А мініяцюры «Мудрасць зямлі», Гасціннасць», Мясцовая славутасць» і іншыя прысвечаны бацькоўскай зямлі, вёсцы, родным і знаёмым. Аўтара найперш хвалююць духоўнае багацце чалавека, яго ўнутраны свет і жыццёвыя пошукі. Менавіта гэта і з’яўляецца найбольш прыцягальным у прозе М.Сянкевіча, што заўважыў і высока ацаніў вядомы беларускі пісьменнік Я.Брыль. У 2002 годзе выйшла другая кніга аўтара «Хутар Паянтрый». Так звалася мясціна, дзе нарадзіўся празаік. На жаль, яе сёння нельга знайсці на самай падрабязнай карце Беларусі. Апе яна ніколі не знікала у памяці і ў сэрцы пісьменніка, а праз 45 гадоў стала назвай цікавай і змястоўнай кнігі.

Малая радзіма, дзяцінства, бацькі і дзеці, школа і настаўнікі - асноўныя тэмы твораў, што склалі змест кнігі «Хутар Паянтрый». У яе ўвайшлі аповесць «Мае та-полі, «Лялька на дрэве», «Добра сядзім», «Жыццё, яго вялікасць».

Пісьменніка хвалюе праб-лема марнавання сучаснікамі жыцця, імкненне палепшыць свой дабрабыт за кошт іншых, адчужэнне бацькоў I дзяцей. Аіюшнія нв хочуць зразумець, што стары чалаэек не можа быць шчаслівым, калі ён толькі накормлены, дагледжаны, жыве ў цяпле - яму трэба быць запатрабаваным, уклю-чаным у сямейныя клопаты, праблемы і радасці блізкіх людзей.

Перагортваючы старонку за старонкай, зноў і зноў адчуваеш патрэбу сказаць аб асобе апавядальніка. Ён гаворыць ад імя свайго пакалення хлопцаў, якія атрымалі прыстойную адукацыю і выехалі з вёскі ў горад. Ад імя гэтага пакалення аўтар у сваіх творах нібы просіць прабачэння ў вёскі і яе рупліўцаў.

Творы Міколы Сянкевіча - гэта сустрэчы з цікавымі героямі, глыбокімі і мудрымі людскімі характарамі, у якіх жыве чыстае сакавітае беларускае слова. Крынічаць, бруяць жывыя словы ў яго творах. Хай жа не перасыхае крыніца, з якой яны бяруць свой пачатак.

***Сялянка***

*З маленства так вадзілася,*
*Што ў працы не адступіць.*
*Усё жыццё круцілася,*
*Цяпер суставы круціць.*

*Не прыйдзе сон да раніцы.*
*І чым далей, тым болей*
*Былое адгукаецца*
*Ў руках пякучым болем.*

*Чэ два гады – і пенсія*
*За працаю застане.*
*У сяле – наймаладзейшая,*
*А ўсё цяжэй світанні.*

## АНАТОЛЬ КРЭЙДЗІЧ

Анатоль Мікалаевіч Крэйдзіч нарадзіўся 27 чэрвеня 1965 года ў в. Заверша Драгічынскага раёна. Да 1978 года жыў у в. Заверша, вучыўся ў Завершскай васьмігадовай школе. У 1978 годзе разам з маці пераехаў у в. Рудск Іванаўскага раёна. Тут пайшоў у 8 клас Рудскай школы.

Праз год паступіў у Ржэўскі саўгас-тэхнікум на агранамічны факультэт, які скончыў у 1984 годзе.

З 1984 па 1986 – на вайсковай службе ў гарадах Люберцы і Падольск Маскоўскай вобласці. Быў мастаком-афарміцелем.

У 1986 годзе паступіў у Беларускі дзяржаўны універсітэт на факультэт журналістыкі.

У тым жа 1986 годзе паступіў на працу ў калгас “Светлы шлях” (в. Рудск) інструктарам па спорце і быў абраны сакратаром камітэта камсамолу.

У 1987 годзе прыняты на працу карэктарам Іванаўскай райгазеты “Чырвоная звязда”. Хутка пераведзены на пасаду карэспандэнта газеты. Затым – загадчык аддзела, рэдактар раённага радыё, зноў загадчык аддзела газеты. Адначасова публікаваў свае творы – паэзію і прозу – у рэспубліканскай маладзёжнай газеце “Чырвоная змена”, літаратурных часопісах. У 1994 годзе ўбачыў свет у бібліятэчцы часопіса “Маладосць” празаічны зборнік “Права на ўсмешку”. У першай палове 90-х працу ў райгазеце сумяшчаў з працаю ў часопісе маладых літаратараў Беларусі “Першацвет”, у якім курыраваў Брэсцкую, Гомельскую і Гродзенскую вобласці, пасля быў пераведзены ў газету “Народная воля” на пасаду ўласнага карэспандэнта па Брэсцкай вобласці.

У 1991 годзе заснаваў і некаторы час рэдагаваў газету “Іванаўскі гандлёвы веснік”.

У 1992 годзе атрымаў дыплом журналіста ў БДУ.



Лаўрэат часопіса “Маладосць” (1992), прэміі БСМ у галіне журналістыкі і літаратуры (1995) і прэміі часопіса “Беларуская думка” (2005).

З 1996 года – уласны карэспандэнт рэспубліканскай маладзёжнай газеты “Чырвоная змена” па Брэсцкай вобласці і аглядальнік Брэсцкай абласной газеты “Заря”.

У 2003 годзе некаторы час папрацаваў намеснікам галоўнага рэдактара абласной газеты “Народная трыбуна” і зноў вярнуўся на ранейшае месца ў “Зарю”.

У 2001 годзе ў выдавецтве “Мастацкая літаратура” выйшаў зборнік прозы “Палескі Напалеон”. У 2002-м – зборнік прозы “Параненыя мары”. У 2005-м – дакументальная кніга “Анатоль Клімец. Жыццё і лёс”.

У студзені 2006-га абраны старшынёй Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі. З 18 мая 2006 года – рэдактар Брэсцкай раённай газеты “Заря над Бугом”.

З 1 лютага 2007 года – вызвалены старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Гэтую працу сумяшчае з працаю літкансультанта, вядучага літстаронкі “Зараніца” і аднайменнага літаб’яднання Брэсцкай абласной газеты “Заря”.

«Добрая проза» - так назваў сваю рэцэнзію на кнігу Анатоля Крэйдзіча «Палескі Напалеон» (Мінск, Мастацкая літаратура, 2001), апублікаваную ў 2003 годзе ў штотыднёвіку «Літаратура і Мастацтва», берасцейскі крытык Сяргей Грышкевіч. Чаму «добрая»? «Што да назвы артыкула, то менавіта да такога вываду я прыйшоў, загарнуўшы апошнюю старонку кнігі, якая стала, па словах А. Казлова, што напісаў да яе прадмову, - «творчай удачай аўтара».

Аповесць «Шчасце ў падарунак: Гісторыя адной меланхоліі», якая адкрывае кнігу, - твор надзвычай светлы і чысты. Нібы неба пасля дажджу, ён дорыць асалоду душы, якая скідвае з сябе ўсё наноснае, несапраўднае, тое, што пастаянна накладвае на яе тлум нашага жыцця.

У нечым галоўны герой аповесці нагадвае селінджэраўскага Холдэна Колфілда, толькі ўжо больш сталага, у момант канфлікту з цэлым светам, на фінішнай прамой, так бы мовіць.

Тэма крушэння ілюзій ад сутыкнення з жорсткай рэальнасцю - не новая для літаратуры. Але ў А. Крэйдзіча яна вырашаецца адметна. Герой твора не апусціў рукі, не прыстасаваўся да абставін, як робяць многія, а здолеў, няхай і запознена, ажыццявіць сваю запаветну. мару, рашуча пайшоў на разрыў з прагматычнай «ідэалогіяй» часу.

Не менш цікавай атрымалася і «малая» проза пісьменніка, прадстаўленая living рознатэмнымі апавяданнямі.

Творы А. Крэйдзіча псіхалагічна заглыбленыя, яны патрабуюць настойлівай працы думкі і недылетанцкага падыходу ў ацэнцы паводзінаў герояў. Чытаючы іх, у кожным знаходзіш нераўнадушны погляд «апошняга праведніка», тых дзівакоў, якімі напоўнены апавяданні Васіля Шукшына. Тое добрае, запамінальна яркае, вечнае. Яно і ў каларытнай, вобразнай мове, і ўвыразнай лірычнай плыні, і ў духоўна чыстым каханні, псіхалагічна дакладным партрэце, рамантычна-

нястомным пошуку спрадвечных ісцін. І нічога лішняга, усё да месца. Аповед цячэ спакойна, даверліва. Як і павінна быць у добрай прозе, ад якой і душа дабрэе...»

***

*Вёска мая – Заверша*
*Стагі па ўсёй струзе вершыць.*
*З двара твайго крок мой першы...*
*Да гонкіх тваіх алешын*
*Я сэрцам прырос, Заверша.*

*Песня мая, Заверша!*
*На золку як сэрца – сонца.*
*А неба чысцей і вышай,*
*Пяшчотней гараць ваконцы,*
*Чым дзе, у маім Завершы.*

*Я – сцежка твая, Заверша,*
*Хмурынка над роднаю хатай,*
*Што з цёплага коміна выйшла.*
*Да скону я твой араты*
*І зерне тваё, Заверша.*

## АЛЕНА ІГНАЦЮК

Ігнацюк Алена Аляксандраўна, паэтэса, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў з 2002 г. (рэкамендавалі: Р.Барадулін, Л. Галубовіч, М. Скобла). Даследчыца літаратуры, кандыдат філалагічных навук (1999). Нарадзілася ў 1962 г. у в. Асаўцы Драгічынскага раёна. У 1983 г. скончыла філалагічны факультэт Брэсцкага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. С. Пушкіна, працавала настаўніцай у Белінскай СШ Драгічынскага раёна, пасля - выкладчыкам ў Брэсцкім дзяржаўным універсітэце. З 1999 па 2004 гг. –старшы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны (г. Мінск). Цяпер выкладае культуралогію і эстэтыку ў Палескім універсітэце(г.Пінск).

Алена Ігнацюк – аўтар кніг паэзіі: “Нота Ля”(2000 г.),”Летаргія”(2006г.), шэрагу літаратуразнаўчых артыкулаў ўчасопісах “ Роднае слова”, “Мастацтва”. Пачынала пісаць вершы на рускай мове, цяпер яе вершаваная мова - толькі беларуская. Вершы друкаваліся ў часопісах “Крыніца”, ”Бярозка”, “Нёман”, ”Маладосць”, “Беларусь”, “Дзеяслоў”, ”Полымя”, тыднёвіку “ЛіМ” і інш.

Паэмы “ Вербны коцік , альбо сцэны з жыцця майго і жоўтага ката”, “ Кветкі для майго інтэрната, альбо жыццё надварот”, якія былі надрукаваны ў газеце “Голас Радзімы”, асабліва сведчаць пра багаты фантазійны свет паэткі Алены Ігнацюк.



***Асавенія***
*З Людвінова пайду праз лугі, дзе дуброва*
*пачынае свой спеўны акорд.*
*Макавее трава і блішчыць паркалёва.*
*Ручнікова пасцелена сцежка.Узорам асот…*

*А ў дуброве жыў дух Асавеніі дзіўнай...*
*А ў дуброве і ўзрос Асавеніі лёс.*
*Жоўты жолуд анёлам злятае з галіны.*
*Нібы хоча паспець на вяселле нябёс.*

*Ля дубровы – маёнтак...*
*Як востраў мілоскі.*
*З Валяр'янам Гутоўскім я ў сне ...*
*Надакучыла жыць*
*пры двары Якубоўскіх.*
*Я паеду вучыцца ў Парыж па вясне.*

*Паміж явай і сном,*
*на мяжы ля дубровы*
*залатыя дажджы*
*прыпынілі свой звон.*
*Цераз жыта ідзе*
*разам з ветрам зялёным*
*у каптанчыку новым*
*Якубоўскі Антон...*

*З Людвінова*
*пайду праз лугі*
*і нанова –*
*з маіх Осаўцоў выйду ў сусвет.*
*За спіною, як востраў мілоскі,*
*жаўцее дуброва.*
*Жоўты жолуд ,*
*як сонца, асветліў мой след.*

УЛАДЗІМІР СІТУХА

Уладзімір Мікалаевіч Сітуха нарадзіўся ў вёсцы Гутава Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці 16 чэрвеня 1950 года.

Друкавацца пачаў у школьныя гады. Гэта і вызначыла далейшы лёс: адразу пасля заканчэння дзесяцігодкі быў запрошаны на працу ў раённую газету. А

дыпломную работу ў Белдзяржуніверсітэце на «выдатна» абараніў сваёй першай, толькі што выйшаўшай з друку кніжкай.

Шырокай аўдыторыі чытачоў Уладзімір Сітуха знаёмы і спадабаўся як аўтар аповесцей «Сваты», «Чужы крыж», «Мафія», «Шабашнікі», «Бацькава поле», рамана «Дзікі анёл», паэм «Прызнанне», «Час», «Споведзь пра Бядулю», «Скакуны» (аднайменнай вершаванай трылогіі), «Генералы Зямлі», «Званы над Шкловам», “Аб веры, вернасці і вечнасці”, шматлікіх апавяданняў і вершаў, многія з якіх пакладзены на музыку прафесійнымі кампазітарамі і загучалі песнямі.

Дарэчы, сам Уладзімір Сітуха паспяхова выступаў некалі ў складзе сталічнага вакальна—інструментальнага ансамбля. Іграе на многіх музычных інструментах.

Яго кнігі «Аўтограф на ніве», «Сваты», «Акрылены верай», «Каму арэхі?», «Акорды душы», «Споведзь пра Бядулю», «Скакуны», «Генералы Зямлі», «Званы над Шкловам» і іншыя кранулі сэрцы многіх людзей.

Член-карэспандэнт Міжнароднай Акадэміі нфармацыйных Тэхналогій (МАIТ), доктар філасофіі, пісьменнік, лаўрэат прэміі СЖ Беларусі Уладзімір Сітуха зараз жыве і працуе ў Брэсце.

***Ля Гутава***

*На нашым выгане*
*няма кароў,*
*Няма карчоў...*
*дый выгана таксама;*
*Даўно тут поле палавініць роў,*
*Дзядзінец-шлях пераараны.*

*Няма тых ліп*
*і тых бяроз,*
*Дзе статку ў спёку*
*быў прытулак.*
*Няма...*
*А месца гэта ўсё ж*
*Душу ўспамінамі*
*расчуліць.*

*Яны цяпер – бы ў сэрца нож,*
*І я ўжо сам, нібы падранак:*
*На выгане,*
*дзе бегаў басанож,*
*Апошні дуб...*
*недаламаны.*



# ЖАБІНКАЎСКІ РАЁН

Жабінкаўшчына – край самабытны, багаты на таленты, у тым ліку літаратурныя. Тут нарадзіўся вядомы этнограф і фалькларыст Ю.Ф. Крачкоўскі. Адсюль у Вільню ў рэдакцыю “Нашай нівы” дасылалі свае паведамленні і артыкулы пра мясцовыя падзеі “Нэма”, “N”, “NN”, “Н” і “Халімон з-пад Пушчы”. На жаль, вядомы толькі псеўданімы землякоў-карэспандэнтаў. З гэтага рэгіёна прыйшлі ў літаратуру А. Дзяконскі, У. Кітаеўскі, І. Арабейка, Р. Бензярук, В. - Гадулька, А. Жабінкаўская (Ахматава).

У канцы кастрычніка 1944 года пачала выходзіць раённая газета “Ленинский путь” (з сярэдзіны 50-х гадоў яна называлася “Коммунистический путь”, з 1966 г. – “Сельская праўда”). Некаторы час у рэдакцыі раёнкі працаваў пісьменнік І. Аношкін. У чэрвені 1967 года па ініцыятыве супрацоўнікаў газеты было створана літаратурнае аб’яднанне “Плынь”. Узначаліў яго Аляксандр Паўлавіч Гогалеў (1909–1987, нар. у сяле Заплаўнае Валгаградскай вобласці). У час Вялікай Айчыннай вайны трапіў у Беларусь, якая стала для яго другой радзімай. Пасля ваеннага ліхалецця А.П. Гогалеў вучыўся на гістарычным факультэце Пінскага настаўніцкага інстытута, затым настаўнічаў у Дзівіне (Кобрынскі раён), Вежкаўскай васьмігадовай школе на Жабінкаўшчыне і сярэдняй школе № 1 г. Жабінка. У раённай газеце, з якой актыўна супрацоўнічаў да канца жыцця, друкаваў свае вершы, казкі, апавяданні. У 1978 годзе ў часопісе “Волга” быў апублікаваны раман А.П. Гогалева “Ахтубінскі стэп”.

Жыццё літаратурнага аб’яднання прыкметна ажывілася з пераездам у Жабінку паэтаў Алеся Каско (нар. у 1951 г. у в. Чудзін Ганцавіцкага раёна) і Васіля Сахарчука (1953–2003, родам з в. Свадзьбічы Бярозаўскага раёна). А. Каско з 1976 па 1984 год працаваў карэспандэнтам раённай газеты, быў старшынёй “Плыні”. Жыццё В. Сахарчука з 1979 года і да канца жыцця таксама было звязана з “Сельскай праўдай”, у рэдакцыі якой ён займаў пасаду адказнага сакратара. Доўгі час кіраваў раённым літаратурным аб’яднаннем.

Актыўнымі членамі “Плыні” ў свой час былі Васіль Давідчык, Іван Кускевіч, Васіль Гадулька.

Васіль Давідчык (1924–1995) нарадзіўся ў вёсцы Сенькавічы на Жабінкаўшчыне ў сялянскай сям’і. Пасля вайны ён абраў прафесію настаўніка і трыццаць пяць гадоў працаваў у раёне, большасць часу – у вёсцы Залуззе, дзе і жыў.

В. Давідчык меў шмат захапленняў – хораша маляваў, займаўся разьбой па дрэве, іграў на розных музычных інструментах, быў арганізатарам мастацкай самадзейнасці. Для фальклорнага калектыву в. Залуззе складаў аднаактавыя п’есы, сцэнкі, інтэрмедыі і песні. Пісаў вершы, байкі на рускай і беларускай мовах, а таксама на мясцовым дыялекце. Выдаў два зборнікі сваіх твораў – “Уйми боль сердца моего” (1990, на рускай мове) і “Пошкодуй нас, наша доля” (1992, на мясцовым дыялекце). Для настаўнікаў на беларускай мове падрыхтаваў рукапіс кніжкі-малышкі “Алфавіт у малюнках і вершах” для дзяцей дашкольнага ўзросту.

Сябры, знаёмыя ведалі Васіля Гаўрылавіча і яго жонку Анэлю Іосіфаўну

як тонкіх аматараў прыроды. Іх сядзіба, размешчаная на беразе Мухаўца, – гэта мініяцюрны батанічны сад, а адзін з пакояў у хаце нагадвае музей прыроды. Гаспадар выдатна вырабляў чучалы звяроў і птушак, але ні адзін з "экспанатаў" не быў упаляваны ім. Любоў да прыроды і паэтычны дар у асобе В. Давідчыка зліліся ў адно:

*Все оркестры мира*
*Вы себе возьмите, –*
*Музыку природы*
*Детям сохраните.*

Больш за 17 гадоў супрацоўнічаў з газетай "Сельская праўда", публікаваў у ёй свае вершы на рускай мове Іван Кускевіч (1930–1996). Яго радзіма – вёска Жыцін Жабінкаўскага раёна. Выпускнік філалагічнага факультэта Брэсцкага настаўніцкага інстытута праз сем месяцаў працы ў школе ўвёсцы Холмін Брэсцкага раёна быў арыштаваны органамі МДБ і трапіў у Галодны стэп на самую мяжу з Кызылкумскімі пяскамі. У 1960 годзе ён вярнуўся ў Беларусь. Жыў у г. Высокае Камянецкага раёна, пісаў вершы, якія змяшчаліся на старонках абласнога і рэспубліканскага друку.

У раённай газеце рэгулярна з'яўляюцца творы Івана Дацкевіча (нар. у 1939 годзе ў в. Навасады на Беласточчыне). У 1943 годзе каля ўласнага дома, на агародзе, нямецкі снайпер застрэліў бацьку. Пасля яго страты сям'я пераехала на Жабінкаўшчыну ў Палубачкі – хутар, які знаходзіўся непадалёку ад вёскі Шчэглікі на беразе Мухаўца (цяпер на тым месцы растуць толькі здзічэлыя яблыні). Крыху больш за 10 гадоў пражыў тут Іван Трафімавіч. Пасля смерці маці накіраваўся на Урал. У пермскай газеце "Большая Кама" ў 1955 годзе з'явіўся яго першы верш. Лёс склаўся так, што І. Дацкевіч вярнуўся на Жабінкаўшчыну, уладкаваўся на працу ў гідравузел № 9.

*Боже мой, полжизни растратил*
*Всё разыскивал птицу свою.*
*А она так легко и крылато*
*Чертит воздух в родимом краю.*

Чытачы раёнкі знаёмы з вершамі І. Дацкевіча, а таксама з гумарыстычнымі і сатырычнымі творамі, якія ён падпісвае псеўданімам Трафім Вясёлы. "Калі лёгка на душы, – прызнаўся паэт, – з-пад пяра выходзяць лірычныя вершы, калі цяжка, горка ці млосна, пішу сатыру. Лірыка і сатыра – гэта два мае крылы, якія нясуць мяне да вялікай мэты". Аўтарам падрыхтавана кніга вершаў "Вяртанне".

Рэгулярна ў "Сельскай праўдзе" друкуюцца новыя творы Расціслава і Анатоля Бензерукоў, Аляксея Ганчука, Івана Арабейкі, Алены Жабінкаўскай, пераклады з украінскай мовы Івана Міцковіча. У літаратурнай старонцы "Плынь" з'яўляюцца творы маладых аўтараў – Ірыны Поўх, Кацярыны Клочка і інш. Некаторыя з іх – члены раённага літаратурнага аб'яднання, якое сёння налічвае больш за дваццаць сяброў. Кіруе ім Расціслаў Бензярук. "Плынь" часта запрашаюць на творчыя сустрэчы ў чытацкі клуб "Суразмоўнік", у школы і бібліятэкі раёна.



Часта на Жабінкаўшчыне – у гасцях у чытачоў ці ў творчых камандзіроўках – бываюць пісьменнікі з іншых рэгіёнаў Беларусі. Працуючы над кнігамі “Брэсцкая крэпасць” і “Героі Брэсцкай крэпасці”, у Жабінку прыязджаў Сяргей Смірноў. Тут ён запісаў успаміны удзельніка абароны крэпасці Я.І. Каламійца, сустракаўся з жонкай і дзецьмі капітана І.М. Зубачова, сабраў матэрыялы пра мясцовую жыхарку Ф. Будзішэўскую, якая ў час Вялікай Айчыннай вайны ўратавала ад расстрэлу яўрэйскага хлопчыка – будучага рускага пісьменніка Рамана Левіна.

У 50-я гады ў Жабінцы працавала культработнікам сястра Івана Мележа Лілія. Аўтар “Палескай хронікі” наведваў яе, сустракаўся з моладдзю.

Дэпутацкія абавязкі не раз прыводзілі на Жабінкаўшчыну вядомага паэта Максіма Танка. У 1947–1951 гг. і ў 1970–1974 гг. ён выбіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР ад Кобрынскай выбарчай акругі і прыязджаў у Жабінку, вёскі Чыжэўшчына і Рагозна на сустрэчу з выбаршчыкамі.

У 1969–1970 гг. электрыкам на Жабінкаўскім цукровым заводзе працаваў паэт Леанід Галубовіч.

Выступалі ў раёне Янка Сіпакоў, Пятрусь Макаль, Аляксей Карпюк, Мікола Чарняўскі, Алесь Махнач, Уладзімір Дамашэвіч, Леанід Левановіч, Васіль Жуковіч, Аляксей Гардзіцкі, Міхась Рудкоўскі, Уладзімір Калеснік, Мікола Купрэеў, Зінаіда Дудзюк, Мікола Пракаповіч, Уладзімір Ліпскі, Раман Левін, Анатоль Зэкаў, Алесь Наварыч, Навум Гальпяровіч, Хведар Чэрня і іншыя пісьменнікі.

## ЮЛЬЯН КРАЧКОЎСКІ

Юльян Фаміч Крачкоўскі вядомы як педагог, вучоны, фальклpoints і этнограф. Нарадзіўся ён у 1840 годзе ў в. Азяты Жабінкаўскага раёна (тады Кобрынскага павета Гродзенскай губерні) у сям’і арганіста мясцовай уніяцкай царквы. Бацька Юльяна паходзіў з сялян і стараўся рана далучыць дзяцей да працы па гаспадарцы. Усе ўмелі касіць, араць, жаць.

Заўчасная смерць бацькі прымусіла дзяцей самім рабіць свой жыццёвы выбар. За малога Юлю гэта зрабіла маці, уладкаваўшы сямігадовага хлопчыка ў панамарскую школу в. Тараканы. Аднак неўзабаве забрала адтуль сына і аддала на вучобу ў Жыровіцкае духоўнае вучылішча. А праз год – ён навучэнец духоўнага вучылішча ў Вільні, чаму паспрыяў выпадак. У Жыровічы неяк прыехаў рэгент мітрапаліцкага хору з мэтай знайсці галасістых спевакоў, а ў хлопчыка было цудоўнае сапрана.

Як здольнага вучня Крачкоўскага прызначаюць на вучобу ў духоўную семінарыю. Будучы святар праяўляе асаблівую цікавасць да небагаслоўскіх дысцыплін – вывучае багатую літаратуру па агульнай гісторыі, філасофіі, прыродазнаўстве, самастойна авалодвае некалькімі замежнымі мовамі. Сярод семінарыстаў Крачкоўскі вылучаўся не толькі шырынёй кругагляду – яго любімым заняткам была музыка. Валодаючы выдатнымі музыкальнымі і вакальнымі здольнасцямі, ён стаў рэгентам семінарскага хору. Таленавітага і працавітага

выпускніка семінарыі накіроўваюць для далейшага ўдасканалення ў багаслоўі на вучобу ў Пецярбургскую духоўную акадэмію. Але Крачкоўскага вабілі іншыя далі. Кола яго інтарэсаў выходзіла далёка за межы схаластычнай багаслоўскай акадэмічнай праграмы.

Пры садзеянні прафесара акадэміі М.А. Каяловіча Крачкоўскі ўвайшоў у гурток М.І. Кастамарава, сустракаўся з І.С. Аксакавым, што дало імпульс яго фальклорна-этнаграфічным захапленням.

Акадэмічны курс духоўнага навучання Крачкоўскі закончыў паспяхова. Нечаканым аказалася іншае: самая вялікая надзея і гонар М.А. Каяловіча адмаўляецца ад духоўнага сану і выбірае мірную і высакародную прафесію настаўніка. Адміністрацыя Пецярбургскай духоўнай акадэміі, пераканаўшыся ў немагчымасці вярнуць "блуднага сына" ў ранейшае лона, рэагавала ваяўніча, пагражаючы спагнаць з яго грошы, патрачаныя на навучанне.

Педагагічная дзейнасць Ю.Ф. Крачкоўскага працягвалася каля 30 гадоў. Пачыналася яна ў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі, дзе малады настаўнік паралельна з выкладаннем рускай мовы вядзе заняткі па царкоўных спевах, кіруе семінарскім хорам. Крачкоўскага ўсё болей прываблівае народная песня і наогул вусна-паэтычная творчасць свайго народа. На Маладзечаншчыне ён пачынае займацца зборам беларускіх народных песень, запісам звычаяў і абрадаў. Да збірання фальклору Крачкоўскі прыцягнуў сваіх выхаванцаў. На падставе сабраных матэрыялаў піша шэраг артыкулаў, якія змяшчае ў газеце "Виленский вестник".

Неўзабаве Ю.Ф. Крачкоўскі пакідае Маладзечна і выязджае ў Тульскую губерню, дзе працуе на педагагічных курсах у Навасілаве. Праз год зноў вяртаецца на радзіму. Некаторы час ён займае пасаду інспектара народных вучылішчаў Віленскай вучэбнай акругі, а ў 1872 г. прызначаецца дырэктарам толькі што адкрытай Полацкай настаўніцкай семінарыі. Наладжванне вучэбнай і гаспадарчай работы ў новай навучальнай установе патрабавала ад маладога кіраўніка немалых намаганняў і ведаў. З мэтай вывучэння вопыту арганізацыі вучэбнага працэсу ў 1877 г. Крачкоўскі выязджае ў Германію. Вынікі сваёй службовай камандзіроўкі ён падаў у аб'ёмістай запісцы "Да пытання аб вучэбных праграмах настаўніцкіх семінарый", надрукаванай у "Циркуляре округа" за той жа год.

Прызнаныя ў вучэбнай акрузе педагагічныя поспехі Крачкоўскага спрыялі хуткаму ўзыходжанню яго па службовай лесвіцы. Ужо ў наступным годзе яму даручаюць пасаду дырэктара Віленскага хрысціянскага настаўніцкага інстытута. Па яго ўласнай ініцыятыве ў інстытуце наладжваюцца літаратурныя і музычныя вечары з удзелам студэнцкай моладзі. Культурныя мерапрыемствы, прапанаваныя і распрацаваныя Крачкоўскім, былі навінкай у навучальнай сістэме Паўночна-Заходняга краю, чым аўтар заваяваў павагу і сімпатыі мясцовага грамадства.

Праціўнікі ўсяго новага, перадавога паклапаціліся хутчэй пазбавіцца ад педагога-наватара. Крачкоўскі пакідае дырэктарскую пасаду і выязджае з Вільні ў Сярэднюю Азію. Там у 1884 г., не без дапамогі галоўнага інспектара вучылі-



шчаў Туркестанскага краю В. Забеліна, які ў час настаўніцтва Крачкоўскага ў Маладзечна працаваў дырэктарам семінарыі, узначальвае настаўніцкую семінарыю ў Ташкенце.

Праз чатыры гады Крачкоўскі зноў вяртаецца ў Вільню. У 1888 г. ён займае пасаду старшыні Віленскай археаграфічнай камісіі. Пад яго рэдакцыяй выйшла некалькі тамоў археаграфічнага зборніка дакументаў. Матэрыялы да 16-га і 20-га тамоў сабраны і сістэматызаваны ім асабіста, напісаны прадмовы да 12, 13 і 25-га тамоў. Адначасова ў Віленскіх перыядычных выданнях, асабліва ў "Литовских епархиальных ведомостях", Ю. Крачкоўскі друкуе шэраг артыкулаў і водгукаў ("Гістарычны нарыс стану праваслаўнай царквы ў Літоўскай епархіі за час з 1839 па 1889 гг." і інш.). Некаторы час Крачкоўскі працаваў старшынёй часовай камісіі па наладжванні і кіраванні Віленскай публічнай бібліятэкай і этнаграфічным музеем. Ён падрыхтаваў і археаграфічны з'езд, які праходзіў у Вільні ў 1893 г. За старанную службу Ю.Ф. Крачкоўскі атрымаў тытул стацкага саветніка і ордэн Станіслава першай ступені.

Апошняе дзесяцігоддзе жыцця Крачкоўскага адзначана інтэнсіўнай творчай дзейнасцю. Ён выпускае кнігу "Старая Вільня да канца XVII стагоддзя" – аб'ёмісты нарыс, створаны на багатым гістарычным матэрыяле: летапісах, хроніках, актах, напісаных на розных славянскіх і еўрапейскіх мовах, у тым ліку на латыні. "Старая Вільня..." – гэта не толькі гісторыя горада, гэта ў пэўнай ступені гісторыя ўкаранення каталіцтва на землях Беларусі і Літвы. У гэты час з'яўляюцца і фальклорна-этнаграфічныя працы Крачкоўскага. Першай з іх стаў "Зборнік рускіх народных гімнаў і песень...", складзены разам з А.І. Садковым. Кніга прызначалася як дапаможнік для народных вучылішчаў і настаўніцкіх семінарый і ўключала 54 папулярныя песенныя тэксты з нотамі. Сур'ёзным даследчыкам народных звычаяў і абрадаў выявіў сябе Крачкоўскі ў асноўных сваіх этнаграфічных працах "Нарысы быту заходнярускага сялянства" і "Быт заходнярускага селяніна".

Такім чынам, працы Ю.Ф. Крачкоўскага знаёмілі шырокія колы чытачоў з багаццем і разнастайнасцю бытавых рыс беларусаў, іх скарбніцай – вусна-паэтычнай творчасцю і, такім чынам, абвяргалі антынавуковыя тэорыі аб нібыта першабытным узроўні яго свядомасці. Яго даследаванні не страцілі сваёй надзённасці ў гісторыі этнаграфіі і фалькларыстыкі і сёння. Ужо перад самай смерцю Крачкоўскі выдаў грунтоўны зборнік дакументаў аб гісторыі Віленскай вучэбнай акругі, які прысвячаўся стагоддзю яе заснавання і ахопліваў першы перыяд дзейнасці – з 1803 па 1833 год. Памёр Ю.Ф. Крачкоўскі раптоўна, ад паралічу сэрца, 25 ліпеня 1903 года. Пахавалі яго сціпла: без працэсіі, вянкоў і прамоў. Такая была воля нябожчыка, бо ўсё сваё жыццё ён заставаўся сціплым і простым...

Таленавітасць, здольнасць да навуковай дзейнасці праявілася і ў наступным пакаленні Крачкоўскіх. Старэйшы сын Ю.Ф. Крачкоўскага Мікалай Юльянавіч закончыў Пецярбургскую ваенна-медыцынскую акадэмію і лічыўся здольным ваенным хірургам. Малодшы сын Ігнат Юльянавіч Крачкоўскі стаў вядомы як буйнейшы вучоны-ўсходазнавец, заснавальнік арабістыкі ў Савецкім

Саюзе. Ён скончыў усходні факультэт Пецярбургскага універсітэта. Амаль тры гады вывучаў у Сірыі і Егіпце жывыя арабскія дыялекты і арабскую літаратуру. У 1915 годзе атрымаў ступень магістра арабскай літаратуры. З 1918 па 1951 г. працаваў у Пецярбургскім (Ленінградскім) універсітэце, стаў прафесарам, акадэмікам АН СССР. За выдатныя дасягненні ў навуцы І.Ю. Крачкоўскаму было прысвоена званне Лаўрэата Дзяржайнай прэміі СССР.

## АЛЬБІН ДЗЯКОНСКІ

Нарадзіўся Альбін Дзяконскі 28 красавіка 1892 года ў маёнтку Пятровічы Кобрынскага павета (цяпер Жабінкаўскі раён) у сям’і памешчыка. Яго бацька – таксама Альбін – не толькі валодаў Пятровічамі, але і быў маршалкам дваранства Кобрынскага павета. Маці будучага паэта – Ядвіга (дзявочае прозвішча Ажэшка) – даводзілася далёкай родзічкай вядомай польскамоўнай пісьменніцы Элізе Ажэшка.

У 1910 годзе маёнтак Пятровічы наведалі родзічы па бацькоўскай лініі Казімір і Стэфанія Дзяконскія. Не маючы сваіх дзяцей, яны ўсынавілі здольнага, дапытлівага Альбіна і забралі ў свой родавы маёнтак Магілёўцы, што на Пружаншчыне. Казімір і Стэфанія клапаціліся, каб іх прыёмны сын вырас чалавекам высокаадукаваным і інтэлігентным. Таму спачатку Альбіну давялося вучыцца ў Варшаве, потым у Рыжскай гімназіі, затым у Лазанскім універсітэце на факультэце раманістыкі і нават у Бельгіі, дзе ён вывучаў сельскую гаспадарку. Пад час вучобы ў Лазані Альбін пазнаёміўся з дачкой віленскага адваката Максімільяна Малінскага Соф’яй, якая пазней стала яго жонкай.

Падзеі Першай сусветнай вайны прымусілі Дзяконскіх выехаць у Расію, аднак нават служба Альбіна ў царскай арміі ў якасці штабнога афіцэра надоўга іх там не затрымала. Адразу пасля ваеннага ліхалецця сям’я Дзяконскіх пасяляецца ў Варшаве, а ў 1920 годзе назаўсёды пераязджае ў Магілёўцы. Так склалася, што Альбін становіцца іх апошнім уладальнікам.

Менавіта тут, у Магілёўцах, Альбін Дзяконскі пачаў займацца літаратурнай творчасцю. Праўда, на працягу амаль дваццаці гадоў у тагачасным перыядычным друку сустракаецца толькі некалькі вершаў паэта (“Ясная цішыня”, “Вечар перад бурай”, “Смерць”, “Страх жыцця”, “Дом і капліца” і інш.). Магчыма таму, пра творчасць Дзяконскага захавалася мала водгукаў, але яны ёсць.

“Дзяконскі і яго цудоўная паэзія знаходзіліся на тым самым генеалагічным дрэве, што і паэзія Мірона Белашэўскага: ён быў паэтам самабытным, які вырас у палескай глушы. Адкуль з’явілася мая зацікаўленасць Дзяконскім? З расказаў і пахвал паэта з боку прафесара Кржыжакоўскага”, – так гаварыў пра Альбіна Дзяконскага прафесар Казімір Выка.

Жонка паэта – Соф’я Дзяконская – прыгадвала: “Мой муж... ніколі не шукаў славы і папулярнасці, але чула, што яго вершы не пазбаўлены каштоўнасці і што ў іх утрымліваецца паэтычнае зярнятка. Лічу некаторыя яго творы дзіўнымі, часам нават незразумелымі. Іншыя ж занадта прымітыўныя, сентыменталь-



ныя...”

Сапраўдную ацэнку паэзіі Дзяконскага можна даць толькі тады, калі будуць дэталёва вывучаны і прааналізаваны ўсё зборнікі паэта. А іх у яго восем – “Байкі” (1920), “Байкі, сатыра, лірыка” (1926), “Элегія” (1929), “Гарадскія матывы” (1931), “На захад” (1931), “Два галасы” (1933), “Драма Люцэфера” (1934), “Зялёныя Магілёўцы” (1939). Апошні з названых зборнікаў якраз і прысвечаны Магілёўцам, у якіх жыў паэт на Берасцейшчыне. На жаль, з польскай мовы на беларускую перакладзены толькі асобныя вершы Дзяконскага. Гэта ўскладняе і адначасова падштурхоўвае да больш дэталёвага вывучэння творчасці нашага земляка.

Біяграфічныя звесткі пра яго абрываюцца 1939 годам, калі Дзяконскі разам са сваім сябрам Станіславам Вічфінскім былі арыштаваны і адпраўлены ў Мінск. Далейшы лёс паэта невядомы. Мажліва, яго напаткала тая ж трагедыя 30-х гадоў, калі шмат таленавітых людзей – вучоных, мастакоў, скульптараў, музыкаў, пісьменнікаў – загінулі, так да канца і не выявіўшы сябе. Даводзіцца толькі пашкадаваць разам з Якубам Коласам:

Колькі талентаў звялося,
Колькі іх і дзе ляжыць,
Невядомых, непрызнаных,
Не аплаканых нікім,
Толькі ў полі адспяваных
Ветру посвістам пустым!..

А, можа, Альбіну Дзяконскаму і пашчасціла застацца ў жывых... Настаўніца з Пружаншчыны Вера Церахава, якая збірае звесткі пра жыццё і творчасць А. Дзяконскага, адзначае, што пра яго “ходзіць шмат чутак. Напрыклад, многія казалі, што ён працаваў у Архангельскім краі, потым трапіў у Ізраіль, быў у складзе арміі Андэрса і загінуў у Монтэ-Касіно ў Італіі...”

### ***Сіла і спакой***
### ***Байка***

*Сівы мудрэц, вялікі мараліст,*
*Так гаварыў, бы словы натаваў на ліст:*
*“Як хочаш на зямлі мець славу,*
*Пашану ад людзей і Бога,*
*Не зыч другім благога,*
*Выконвай як належыць справу:*
*Заўжды – ад рання да змяркання –*
*У працы праяўляй старанне.*
*Пакрыўдзіць хто – ты ж усміхніся міла, –*
*Крыўдзіцель зразумее тваю сілу.*
*Не думай пра бязладдзе, войны –*
*І спі спакойна...”*
*Прыняўшы словы як папрок,*
*Яму сказаў: “Без кія не абыдзешся, прарок!..”*

*Мудрэц далей дарогу мераў*
*У зрэбнай вопратцы і без абновы,*
*Без кія – толькі з мудрым словам,*
*Быў так упэўнены, што я яму паверыў,*
*Знайшоўшы для сябе заспакаенне.*

* * *

*Будзь ты працяк ці геній,*
*Калі не грэбуеш тэорыяй такой,*
*У ёй пачэрпнеш сілу і спакой.*
*(З польскай пераклаў Р. Бензярук)*

***Камар***

*Як леў сканаў, хто перамог?*
*Камар.*
*"Ну вось і ён памёр, – гудзеў "званар". –*
*Драпежнік дужы быў, а зараз нерухомы,*
*Хоць жыў бы, каб не вёў вайны*
*са мной, вядома.*
*Казаў жа слухацца і не кідацца*
*ў зваду...*
*Дык хто ў мяне сягоння вырве*
*ўладу?.."*
*Мяркуйце самі:*
*Як мруць ільвы,*
*дык ці не камароў мы выбіраем каралямі.*
(З польскай пераклаў Р. Бензярук)

## УЛАДЗІМІР КІТАЕЎСКІ

Імя Уладзіміра Кітаеўскага не значыцца ў энцыклапедыях і бібліяграфічных даведніках. Аднак знаёмства з творамі гэтага паэта сведчыць, што ад прыроды ён быў надзелены чулым, спагадлівым сэрцам і ўражлівай душой сапраўднага мастака слова.

Як сведчыць архіўны запіс, зроблены ў царкве в. Вежкі, Уладзімір Ігнатавіч Кітаеўскі нарадзіўся 3 чэрвеня 1896 г. у в. Стаўпы Жабінкаўскага раёна ў сям'і ўнтэр-афіцэра. Яго бацькі Ігнат Іванавіч Кітаеўскі і Ганна Васільеўна Кіскевіч родам з Камянца.

У 1915 годзе ён быў прызваны ў царскую армію. Першая сусветная вайна прымусіла сям'ю Кітаеўскіх эвакуіравацца ў Херсонскую губерню. Малодшы сын апынуўся на фронце, дзе атрымаў чын афіцэра 17-га фінляндскага палка. Двойчы быў цяжка паранены, лячыўся ў шпіталі. Менавіта тым часам датуюцца першыя выступленні Уладзіміра Кітаеўскага як паэта ў друку. Яго вершы ("Місто", "Безробітні", "Тартак", "Жнива", "Завод", "Перший сніг" і інш.) змяшчаў украінскі часопіс "Вікна", што выходзіў у Львове. Свае творы Уладзімір



пісаў пераважна на ўкраінскай мове і толькі асобныя – на рускай (напрыклад, "Сегодня страстная суббота").

Вяртанне Кітаеўскіх у родныя мясціны пасля ваеннага ліхалецця асаблівай радасці не прынесла: на чужыне памёр бацька, ад былой сядзібы засталося толькі папялішча. У Стаўпах Кітаеўскія пражылі да 1938 г. Затым сям'я пераехала ў Тэўлі, дзе Уладзімір як чалавек адукаваны і дасведчаны служыў войтам гміны. Неўзабаве за абарону інтарэсаў землякоў у польскіх інстанцыях і дазвол адкрыць для сялянскіх дзяцей украінскую школу ён быў звольнены з гэтай пасады. Некаторы час Кітаеўскі выконваў абавязкі дарожнага майстра, а потым вырашыў стаць настаўнікам. Пасля заканчэння месячных курсаў па падрыхтоўцы настаўнікаў атрымаў месца ў школе ў в. Свішчы (таксама на Жабінкаўшчыне), куды неўзабаве пераехаў з сям'ёй. Настаўнічаць, аднак, доўга не прыйшлося.

Верасень 1939-га прынёс неспакой і трывогу. Пачалося вышукванне і выкрыццё "ворагаў народа", і Кітаеўскі па даносе, што быў войтам пры польскай уладзе, зноў быў звольнены з працы. Гэта страшна ўзрушыла і расчаравала яго ў жыцці. Адзінай падтрымкай заставаліся сям'я і сябры, члены "Просвіти" і іншых украінскіх грамадскіх арганізацый, якія дзейнічалі ў краі.

Памёр У.І. Кітаеўскі 31 лістапада 1940 года.

Пасля смерці У.І. Кітаеўскага сям'я атрымала афіцыйную паперу, у якой паведамлялася, што ён прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. На жаль, са спадчыны Кітаеўскага мала што ўцалела. У час Вялікай Айчыннай вайны жонка Ульяна, каб зберагчы, усё створанае мужам закапала ў зямлю. Зразумела, многае загінула, а тое, што засталося, захоўваецца сёння ў Кіеве ў Цэнтральным дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва Украіны.

***Батьківщина***

*Згадайте, згадайте минуле, селяне,*
*Було то давненько – тринадцять, май', літ,*
*Як рідні оселі сво? оставляли,*
*свій власний пожиток, та й рушили в світ.*
*Ішли ми зі смутком в далеку Росію,*
*Здавалось, навіки свій край залишив…*
*А наші оселі свічками горіли…*
*Гармати ревіли – бій страшний кипів.*
*Думки в нас роїлись: то кара Господня,*
*Нам тяжкої долі, мабуть, не знести,*
*Спіткае нас болість, спіткае голодна,*
*На ланах далеких прийдеться вмерти…*
*Та ось незабаром назад повернули*
*На ті пожарища нам рідних хаток,*
*Де лишень кропива свій лист розвинула*
*І смутно вітала той наш поворот.*
*Та праця, охота, любов і старання,*

*Як той переможець, всміхнулися нам,*
*Ми знов збудувались і маем убрання,*
*Худобинку маем уже по дворах.*
*Хоч скрутно нам жити, ми все переможем,*
*Бо любим Полісся та й мову свою,*
*Ми душу і тіло за край свій положим,*
*Чи в праці... науці... Чи, може, в бою?*
*Здалека, здалека ми всі повернули,*
*Хоч там десь далеко ми всі обжились,*
*Та серце нудьгою чогось огорнуло,*
*Шептало нам тихо: вертайсь, не барись...*
*Бач – ждуть тебе з смутком ріднесенькі лани,*
*Ліса віковічні, зелені гаї...*
*Бач – тут твої літа дитячі зостали*

*І все твое щасця, любов взагалі!..*
*Кохайте ж, любіте ви, добрі селяне,*
*Це миле Полісся та й мову свою.*
*Працюйте, учітесь... Ума набирайтесь,*
*Хай промінь освіти засяе в краю!..*

## ІВАН АРАБЕЙКА

“Найдарожшы куток на зямлі” для Івана Сяргеевіча Арабейкі – вёска Хмелева, дзе ён з’явіўся на свет у мнагадзетнай сям’і. Маці была непісьменнай, але ўласным прыкладам перадавала дзецям вялікую сялянскую мудрасць – любіць працу, вучыцца, цярпліва і мужна пераносіць нягоды жыцця. Бацька меў сямігадовую адукацыю, ведаў шмат мясцовых паданняў, легендаў, казак, чытаў на памяць вершы А. Пушкіна, байкі І. Крылова.

З 1949 года Іван Арабейка вучыўся ў Хмелеўскай сярэдняй школе. Па ўласным прызнанні, недзе з чацвёртага класа пачаў пісаць вершы, спачатку на рускай мове. Падштурхнула да творчасці, запаліла іскрынку ў душы настаўніца Ганна Мікалаеўна Брашчук. У 1957 годзе ў “Піянерскай праўдзе” быў аб’яўлены конкурс твораў пра Вялікую Айчынную вайну, і Іван асмеліўся паслаць у газету верш “Магіла партызан”. Неўзабаве атрымаў адказ з адмоўнай ацэнкай твора за подпісам Хведара Жычкі. Гэта на некаторы час прыглушыла цікавасць да літаратуры, адбіла жаданне пісаць.

Пасля заканчэння школы І. Арабейка паступіў на хіміка-тэхналагічны факультэт Беларускага палітэхнічнага інстытута. Будучы студэнтам старэйшых курсаў, наведваў пасяджэнні літаратурнага аб’яднання пры газеце “Чырвоная змена”, у якой у 1963 годзе быў надрукаваны першы верш паэта “Клён”. З таго часу пачаў сур’ёзна думаць пра літаратуру, шмат чытаць, пісаць.

Пасля заканчэння інстытута (1964), атрымаўшы дыплом інжынера-тэхнолага салікатнай прамысловасці, Іван Сяргеевіч трапіў па размеркаванні на шкло-



завод “Нёман”, што на Гродзеншчыне – у пасёлку Бярозаўка Лідскага раёна. У 1968 годзе вярнуўся ў Брэст. Працаваў на заводах зборнага жалезабетону і газавай апаратуры, выкладчыкам кафедры ачысткі прыродных і сцёкавых вод Брэсцкага інжынерна-будаўнічага інстытута, інжынерам камбіната па добраўпарадкаванню горада, экспертам у Брэсцкім аддзяленні Гандлёва-прамысловай палаты БССР.

Вершы І. Арабейкі рэгулярна з’яўляліся ў абласным і рэспубліканскім друку. Маладога паэта па-бацькоўску і па-сяброўску падтрымалі М. Аўрамчык, А. Асіпенка, П. Панчанка і іншыя літаратары. У 1972 годзе ў выдавецтве “Мастацкая літаратура” выйшаў першы паэтычны зборнік І. Арабейкі “Услед за сонцам”, неўзабаве – другі “Асенні ранак” (1978). Іх аўтар быў прыняты ў члены Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Выхад зборнікаў засведчыў, што “ў асобе Івана Арабейкі спалучыліся два пачаткі – паэтычны і утылітарна-практычны. Кожны з іх меў свае жыццёвыя вытокі” (А.Майсейчык). Развіццю паэтычнага пачатку спрыялі маляўнічыя краявіды роднага краю, сямейнае выхаванне, успаміны пра маленства і юнацтва. Невыпадкова вясковая тэма доўгі час была вядучай у творчасці паэта. Лірычны герой яго твораў – чалавек з вясковай душой, якога хвалюе пах хмелю, лекавых зёлак пад смольнай кроквай, вабяць песні начлежнікаў, грыбы на восеньскіх палянах... Нават цуды тэхнікі ім успрымаюцца праз прызму сялянскіх уяўленняў: “У небе далёкім, блакітным, Самалёт, як Мікула, арэ”.

Выразны рэгіянальны каларыт маюць вершы “Хмелева”, “У хаце сонечна было”, “Маці”, “Я зтых мясцін...”, “Белая вежа”, “Якая раніца ў сяле!...” і інш. Асобныя творы са зборнікаў “Услед за сонцам” і “Асенні ранак” вяртаюць да гісторыі роднага краю – паэма “Сцяна”, вершы “У Брэсцкай крэпасці”, “Драмлёва” і інш. Паэма “Сцяна”, напрыклад, прысвечана абаронцам Брэсцкай крэпасці. Яна, як слушна заўважыў А. Каско, “не пазбаўлена рыторыкі і ўстаялага аптымістычнага пафасу, якімі напоўнены творы аб Брэсцкай крэпасці многіх іншых паэтаў”. Трагедыя вёскі Драмлёва, якая стала вогненнай вёскай на Жабінкаўшчыне, узноўлена ў аднайменным вершы:

*Цяпер ні свят, ні хат, ні мовы.*
*Цяпер тут памяць і трава.*
*Не ўстаць табе, сяло Драмлёва.*
*Не ўстаць – цяжкая галава.*

*А там за выжарам – калоссе.*
*А там за помнікам – палі.*
*Няма сяла, і вецер носіць.*
*Маю трывогу па зямлі...*

У 1981–1983 гадах Іван Арабейка вучыўся ў Маскве на Вышэйшых літаратурных курсах. Гэта быў час, насычаны цікавымі падарожжамі па літаратурных мясцінах і сустрэчамі з многімі пісьменнікамі. Склалася, аднак, так, што, вярнуўшыся на радзіму, Іван Сяргеевіч замаўчаў амаль на 20 гадоў. Фактычна знік з літаратуры, зрэдку адорваў чытача невялікімі вершамі ці перакладамі з

украінскай мовы. Як гэта здарылася, расказвае пісьменнік Аляксей Філатаў: “А сярэдзіне 80-х Іван даслаў нізку вершаў у часопіс “Полымя”. Там адобрылі творы, папрасілі даслаць яшчэ. Паслаў і стаў чакаць, каб убачыць іх надрукаванымі. Больш як праз год у “Полымі” з’явіўся адзін-адзіны верш. Гэта пакрыўдзіла Арабейку: “Значыць, можна абыходзіцца без маіх вершаў?” Паэт поўнасцю адышоў ад літаратурнай творчасці – заняўся толькі вытворчымі справамі...”.

Душэўны дыскамфорт адчуваўся і ў творах паэта. Так, у вершы “Па дарозе мяце лістапад...” І. Арабейка пісаў:

*Хай душа ў цішы адпачне.*
*Пасля свят пачынаецца будзень.*
*Адпяваеце рана мяне,*
*Нецярплівыя, строгія людзі.*
*Адчужэнне – каб жыць і любіць.*
*Каб вяртацца да вас і да слова.*
*Трэба нешта адкінуць, забыць.*
*І складаць сваю долю нанова.*

Першая спроба вяртання Івана Арабейкі ў літаратуру адбылася ў 2005 годзе вершам “І зноў вясна, і зноў цвітуць сады”. А ў пачатку 2007 года ён прынёс у рэдакцыю жабінкаўскай раённай газеты “Сельская праўда” звыш двух дзесяткаў твораў, якія напісаны ў апошні час (“Даўняе”, “Ліда”, “Маліны”, “Быў” і інш.).

– Амаль усю зіму пражыў бязвыезна на дачы ў вёсцы Жыцін, што ў васьмі кіламетрах ад Жабінкі, – расказваў Іван Сяргеевіч. – Адзін, хоць ваўком вый! А вершы пішуцца...

***Хмелева***

*За вёскай, пад хмаркай барвовай –*
*Зялёнага хмелю настой.*
*Тут сонца, як колішні бровар,*
*Зноў варыць пітво пад кустом.*
*Іду і дзяцінства гукаю*
*На гэтай, мне мілай зямлі.*
*Тут хмель белапенны вянкамі*
*Мы з гаю на поплаў няслі.*
*Пасля навальніц дурасліва*
*Сушылі яго на лаўжы,*
*Сцякалі нябродджаным півам*
*Па лісці касыя дажджы.*
*Бярозкі, як шаферкі ў белі,*
*Зноў бачу – стаяць, нібы ў сне.*
*І хмель – завадатар вяселля –*
*Па-свойму хвалюе мяне.*



## РАСЦІСЛАЎ БЕНЗЯРУК

У асобе Расціслава Бензерука гарманічна спалучыўся талент педагога і журналіста, пісьменніка і перакладчыка. Нарадзіўся ён "на парозе вясны, сярод жорсткай вайны" 27 лютага 1944 года ў вёсцы Стрыганец Жабінкаўскага раёна ў сялянскай сям'і. Бацька Мацвей Усцінавіч загінуў у баях за Польшчу незадоўга да Перамогі. Таму, як успамінае пісьменнік, "усе клопаты пра нялёгкія сямейныя справы ляглі на плечы маці Кацярыны Усцінаўны. Усё жыццё працавала яна на зямлі – сваёй, калгаснай, саўгаснай. Выконвала і жаночую, і мужчынскую работу, але знаходзіла хвіліны, каб пачытаць кнігу". Заахвочвала да чытання і вучобы сыноў – Паўла і Расціслава.

Р. Бензярук з удзячнасцю ўспамінае сваіх школьных настаўнікаў – Антаніну Сафронаўну Фядыніч, якая выкладала рускую мову і літаратуру, і беларусаведа Зінаіду Аляксееўну Маразевіч. Менавіта А.С. Фядыніч заўважыла ў свайго выхаванца схільнасці да творчасці, цікавасць да літаратуры і клапацілася пра яго кругагляд – часта прыносіла для чытання кнігі з уласнай бібліятэкі. Аднак нават яна не ведала, што Расціслаў употай пісаў вершы, якія з-за сваёй сціпласці нікому не паказваў.

У 1961 годзе пасля заканчэння Ракітніцкай сярэдняй школы Р. Бензярук паступіў на філалагічны факультэт Брэсцкага педінстытута імя А.С. Пушкіна. Атмасфера на факультэце, падтрымка многіх выкладчыкаў, асабліва У.А. Калесніка, спрыялі мастацка-творчаму ўздыму. У студэнцкія гады Расціслаў Мацвеевіч напісаў невялікую аповесць на рускай мове "Судьба одинокой птицы", шэраг вершаў, некалькі апавяданняў для дзяцей. Частку з напісанага, у тым ліку аповесць, малады аўтар асмеліўся даслаць Янку Брылю. Неўзабаве атрымаў адказ. Іван Антонавіч вершы раскрытыкаваў, у аповесці знайшоў "парасткі мастацкасці", затое станоўча ацаніў апавяданні. Адно з іх – "Ленкин характер" – параіў даслаць у газету "Зорька", дзе яно было апублікавана ў красавіку 1970 года. На той час Р. Бензярук закончыў педінстытут і працаваў настаўнікам беларускай і рускай мовы і літаратуры ў Бастынскай сярэдняй школе Лунінецкага раёна.

Апавяданні, казкі, гумарэскі Р. Бензерука сталі часта з'яўляцца на старонках розных перыядычных выданняў – "Вясёлка", "Піянер Беларусі", "Работніца і сялянка", "Вожык", "Чырвоная змена". Пісьменнік меў падтрымку ад такіх прызнаных майстроў дзіцячай літаратуры, як В. Вітка, А. Пальчэўскі, А. Васілевіч, М. Чарняўскі і інш. Творы нашага земляка былі хутка заўважаны, і неўзабаве яго запрасілі на рэспубліканскую нараду маладых літаратараў у Каралішчавічы (адзначым, Р. Бензярук тройчы браў удзел у такіх семінарах). Пасля першай нарады ў яго ўмацавалася перакананне, што трэба пісаць па-беларуску.

У 1971 годзе Расціслаў Мацвеевіч разам з сям'ёй – жонкай Вольгай Рыгораўнай і сынам Анатолем – вярнуўся на Жабінкаўшчыну. Некаторы час настаўнічаў у Азяцкай дзесяцігодцы, а з 1974 года па сённяшні дзень працуе ў рэдакцыі раённай газеты "Сельская праўда". У журналістыцы, можна сказаць, апынуўся выпадкова. Калі перабраўся з сям'ёй у Жабінку, уладкавацца на пра-

цу ў школе ўдалося толькі жонцы. Супрацоўніцтва з мясцовай раённай газетай садзейнічала таму, што Р. Бензерука з задавальненнем залічылі ў штат рэдакцыі. Спачатку, па ўласным прызнанні пісьменніка, цяжка было спалучаць журналістыку і літаратуру: “Дзень пішаш у рэдакцыі, а пасля немагчыма прымусіць сябе сесці за пісьмовы стол дома. Альбо пачынаеш пісаць тым жа газетным стылем”. Між тым, праца ў рэдакцыі, шматлікія паездкі і сустрэчы з людзьмі давалі цікавы матэрыял для літаратурнай творчасці.

У 1975 годзе ў выдавецтве “Мастацкая літаратура” ўбачыла свет першая кніга апавяданняў і казак для дзяцей “Вавёрчына дзякуй”. Да гэтага часу Р. - Бензярук быў ужо прызнаны як таленавіты і перспектыўны дзіцячы пісьменнік. У 1973 годзе яго казка “Зайцаў кажушок” увайшла ў чытанку “Роднае слова” для першага класа агульнаадукацыйных школ, пазней у чытанку для дзіцячых садкоў было ўключана апавяданне “Новы зуб”. На сённяшні дзень 13 казак пісьменніка змешчаны ў школьных падручніках.

У літаратуры Расціслаў Мацвеевіч працуе някідка, але плённа. У 1986 годзе ў часопісе “Бярозка” з’явілася і мела поспех у чытача яго аповесць “Цвёрды арэшак”. У 1991 годзе шэраг твораў пісьменніка былі надрукаваны ў калектыўнай кнізе для дзяцей “Птушка шчасця”. Плённым у творчым плане стаў 1997 год – выйшлі два зборнікі “Чаму сонца рана ўстала?” (казкі) і “Тры свечкі” (вершы). У хуткім часе Расціслаў Бензярук папоўніў Саюз беларускіх пісьменнікаў (1998).

Вяртанне да паэзіі ў пачатку 90-х гадоў было невыпадковым. Адраджэнскі час патрабаваў аператыўнасці і эмацыянальнасці. Лёс Беларусі, яе гісторыя і культура хвалююць Р. Бензерука і яго лірычнага героя. Многія вершы ў зборніку “Тры свечкі” напісаны на гісторыка-культурным матэрыяле Берасцейшчыны – “Думкі ў Крошыне”, “На вуліцы Крачкоўскага”, “Да назвы вёскі Хмелева”, “У Картуз-Бярозе”, “Паэтаў востраў”, “Ля Берасцейскага вогнішча” і іншыя. Так, апошні з названых вершаў прысвечаны памяці У. Калесніка, які, як вядома, для многіх пісьменнікаў краю быў першым літаратурным настаўнікам і дарадцам. Аўтар выразна гэта ўсведамляе і прызнаецца:

*Побач з Вамі, любімым Настаўнікам,*
*Нам жылося лягчэй на зямлі.*

*І далей зазначае:*

*...Сёння слёзна, сцюдзёна і воблачна,*
*Раставанне прыспешвае час...*
*Век гарэць Берасцейскаму вогнішчу –*
*Гэта нашая памяць пра Вас.*

Паэзія Р. Бензярука напоўнена не толькі ўспамінамі і клопатамі пра сваю сям’ю, родную Берасцейшчыну, але і трывогай за лёс усёй краіны. Паказальным у гэтым плане з’яўляецца верш, які даў назву зборніку, – “Тры свечкі”:

*Адкінем сёння мішуру і хлам,*
*Паверыўшы, што цяжкасці не вечна,*
*І разам зойдзем у Гасподні храм,*
*Перад амвонам тры паставім свечкі.*



*Перш – за здароўе ворагаў сваіх,*
*Каб дабрыня адолела ў іх злобу;*
*Яшчэ дзве – за сям'ю, за нас саміх,*
*Каб абышлі няшчасці і хваробы.*
*Гарыць агонь, і растапляе воск,*
*Цяпер усе памкненнямі адзіны:*
*І верым, што за нас цярпеў Хрыстос,*
*І памятаем продкаў і Радзіму.*
*Спадае з сэрцаў неймаверны груз,*
*Сыходзіць мір, святое прасвятленне.*
*...Маліцеся часцей за Беларусь –*
*Яе багацце, Славу, Адраджэнне.*

Не так даўно, у 2004 годзе, выйшаў яшчэ адзін зборнік казак Р. Бензерука – "Зайцаў кажушок". Жанр казкі стаў любімым для пісьменніка. Асабліва прываблівае яго казка-загадка, якая мае не толькі пазнавальны характар, але і вучыць дзяцей кемлівасці, удумлівасці. Нездарма дзве з іх – "Брат і сястра" і "Хмарчын ручнік" – былі перакладзены на чэшскую мову. Як перакладчык з рускай, украінскай, польскай моў вядомы і сам Расціслаў Бензярук.

У апошні час убачылі свет зборнік вершаў і перакладаў "Вясёлка сяміколерная" (2005), кніга апавяданняў і аповесцей "Добры звычай" (2005), дакументальная аповесць "Колодец памяти" (2006, напісана ў сааўтарстве з сынам Анатолем), абразкі пра В. Вітку "Жыў на свеце дзед Васіль" (2006, у сааўтарстве з В. Крысько). У яго творчых планах – аповесць пра родную вёску Стрыганец. Як прызнаецца сам пісьменнік, у яго ніколі не было шкадавання за тое, што вось мог нешта зрабіць раней, ды не зрабіў: "Дзякуй Богу за тое, што маю...".

Любоўда роднага слова, цікавасць да гісторыі, культуры Беларусі, цягу да творчасці Расціслаў Мацвеевіч і Вольга Рыгораўна перадалі сваім дзецям – Анатолю і Наталлі. Анатоль Расціслававіч – вядомы гісторык, краязнаўца, аўтар некалькіх кніг пра Жабінкаўшчыну. Спрабуе свае сілы і ў літаратуры – у адным з нумароў часопіса "Вясёлка" ў 2002 годзе была надрукавана яго казка "Куды блінок закаціўся?", а дзве легенды ўвайшлі ў школьны падручнік для першага класа "Беларусачка". Дачка Наталля абрала прафесію настаўніка, працуе з вучнямі пачатковых класаў у СШ № 1 г. Жабінка.

***На вуліцы Крачкоўскага***

*Адсюль, з падслепаватай і драўлянай хаты,*
*З палескай вёскі, што з назоваю Азяты,*
*Пайшоў юнак у дзіўны свет, вялікі,*
*Імя яго – між слаўных, нешматлікіх...*
*Хаця даўно няма той самай хаты,*
*Але ёсць вуліца Крачкоўскага ў Азятах.*
*Іду па ёй няспешна. Мне здаецца,*
*Напеў гучыць і напаўняе сэрца:*
*"Зямля мая, о колькі для чужыны*

*Сыноў сваіх ты ўзгадавала слынных,*
*Узлёт якіх святы, высакародны –*
*Цябе навек праславіў, краю родны!*
*Няхай не ўсе жылі на Беларусі –*
*Я імі ганаруся... Табою ганаруся!”*

## АНАТОЛЬ БЕНЗЯРУК

Анатоль Расціслававіч Бензярук нарадзіўся 4 студзеня 1969 года ў вёсцы Бастынь Лунінецкага раёна ў сям’і настаўнікаў. З 1975 года жыве ў Жабінцы. Скончыў Гродзенскі дзяржаўны універсітэт імя Я. Купалы (1994). На працягу 1991 – 1998 гадоў працаваў настаўнікам гісторыі Якаўчыцкай СШ Жабінкаўскага раёна, з 1998 года – спецыяліст і вядучы метадыст па ахове гісторыка-культурнай спадчыны аддзела культуры Жабінкаўскага райвыканкама.

Аўтар кніг *“Наш край – Жабінкаўшчына: Дапаможнік па гісторыі Беларусі”* (1996), *“Памяць нашае зямлі: Гісторыка-культурныя мясціны Жабінкаўскага раёна”* (2002), *“Касцюшкі-Сяхновіцкія: Гісторыя старадаўняга роду”* (2006), *“Колодец памяти”* (2006), *“Сорак дарог”* (2007, дзве апошнія ў сааўтарстве з Расціславам Бензеруком), *“Крупчыцы. 1794 год: Падзеі і памяць роднай гісторыі”* (2007).

Адзін са стваральнікаў гісторыка-дакументальнай хронікі *“Памяць Жабінкаўскага раёна”* (1999), турыстычных даведнікаў *“По родным местам Тадеуша Костюшко”, “Дарогамі роднага краю: Турыстычныя маршруты Жабінкаўскага раёна”* (2007).

Першыя публікацыі Анатоля Бензерука пачалі з’яўляцца ў перыядычных выданнях з 1985 года, друкаваўся ў калектыўных зборніках, падручніках для агульадукацыйных школ, часопісах “Беларуская мінуўшчына”, “Вясёлка”, “Бярозка” (усе Мінск), “Голас часу” (Лондан), “Пшэглёнд праваслаўны” (Беласток), “Бельскі гостінэць” (Бельск-Падляскі), “Падляскі квартальнік культуральны” (Бяла-Падляска), Сьвіцязь (Гродна), Гістарычная Брама, Радавод (Брэст).

За працы па краязнаўстве і ахове гісторыка-культурнай спадчыны Анатоль Бензярук узнагароджваўся прэміяй Брэсцкага фонду Тадэвуша Касцюшкі (1996), Ганаровай граматай Брэсцкага абласнога выканаўчага камітэта (1998), Граматай Міністэрства культуры (2003).

## ВАСІЛЬ ГАДУЛЬКА

Таленавіты творца, сціплы, нават сарамлівы паэтычны руплівец, вясковы інтэлігент, ранімы і далікатны, шчыры, пазбаўлены зайздрасці і сквапнасці, чысты ў думках, памкненнях і ўчынках, цярплівы і безабаронны, сапраўдны і надзейны сябар... Такім запомніўся Васіль Гадулька тым, хто асабіста яго ведаў.

Нарадзіўся Васіль Уладзіміравіч 17 мая 1946 года ў вёсцы Федзькавічы



Жабінкаўскага раёна ў сялянскай сям'і. Вучыўся спачатку ў Рагазнянскай сямігодцы, якую скончыў на выдатна, затым – у сярэдняй школе ў Жабінцы. Аднакласнік Уладзімір Падлескі ўспамінаў, што "Гадулька змалку быў вельмі сур'ёзным і стрыманым, рэдка ўдзельнічаў у хлапечых свавольствах, а больш часу аддаваў вучобе, кнігам. Асабліва захапляўся ён нямецкай мовай. Калі ў старэйшых класах вучням хацелася, каб сёння настаўнік не апытваў іх, усе прасілі Васіля, каб ён задаў пытанне. Той задаваў, і яны з выкладчыкам гадзіну гаварылі па-нямецку, а ўсе сядзелі і лыпалі вачамі: пра што яны гавораць?.."

Пасля заканчэння школы Васіль Гадулька паступіў у Дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моў. Вучыўся паспяхова, дасканала авалодаў нямецкай мовай, захапіўся вывучэннем англійскай, італьянскай, французскай, польскай, на якіх мог свабодна гаварыць. На апошнім курсе вымушаны быў перарваць вучобу з-за небяскрыўднага для таго часу выпадку: праходзячы практыку, Васіль засядзеўся ў рэстаране з грамадзянінам ГДР, які запрасіў маладога перакладчыка на вячэру за цудоўнае веданне ім яго роднай мовы. Праз некаторы час В. Гадульку ўдалося аднавіць вучобу, але інстытут ён так і не закончыў. Па ўласным жаданні пайшоў з апошняга курса. Пазней у аўтабіяграфіі, напісанай па просьбе жабінкаўскіх бібліятэкараў, Васіль назаве прычыну такога рашэння – расчараваўся ў прафесіі настаўніка.

Атрымаўшы даведку аб незакончанай вышэйшай адукацыі, В. Гадулька адслужыў у войску і вярнуўся на радзіму, у родныя Федзькавічы. Паспрабаваў выкладаць замежную мову ў Азяцкай і Арэпіцкай школах, аднак педагагічная дзейнасць так і не захапіла яго. У жыцці Васіля Уладзіміравіча наступіў складаны перыяд – пад коламі трактара на яго вачах загінуў брат Пятро, смерць якога ён перажываў доўга і балюча, пачаліся непаразуменні з каханай. Душу ратавалі вершы, але да 1986 года ён нікому іх не паказваў. У згаданай вышэй аўтабіяграфіі ёсць прызнанне: "Вершы на расейскай мове пачаў пісаць яшчэ ў школе. Друкавацца не спрабаваў, лічачы гэтае сваё захапленне паэзіяй, як пазней замежнымі мовамі... – толькі асабістым сваім хобі. Прыкладна з 1985 года пачаў пісаць па-беларуску".

У 1986 годзе Васіль Гадулька праз дырэктара Пятровіцкага клуба Раісу Шпакаву даверыў свае творы Васілю Сахарчуку, які ў той час працаваў у рэдакцыі "Сельскай праўды". Неўзабаве паэты пазнаёміліся, пасябравалі. В. Сахарчук як мог падтрымліваў Гадульку, запрашаў на літаратурныя святы, што ладзілі члены літаб'яднання "Плынь". У тым жа годзе ў жыцці Васіля адбыліся дзве важныя падзеі – у жабінкаўскай раённай газеце ўпершыню былі надрукаваны яго вершы, а ў снежні ён стаў удзельнікам рэспубліканскай літаратурнай нарады, якая праходзіла ў Доме творчасці "Іслач".

Паэзія Васіля Гадулькі была заўважана і высока ацэнена Рыгорам Барадуліным. "Такія вершы можа пісаць толькі сапраўдны вясковы інтэлігент, – сказаў тады ён і з прыцмокам працытаваў: "Крывяню сабе вусны калінавай ягадай спелаю...". – Як ярка! Хораша! Зрокава!" Талент і здольнасці невядомага паэта з Жабінкаўшчыны кранулі і вядомага беларускага пісьменніка Івана Навуменку, з якім Васіль апынуўся за адным сталом у іслачскай сталоўцы. І.Наву-

менка прапанаваў яму паступаць на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта, абяцаў падтрымку і дапамогу. Па вяртанні дамоў В. Гадулька засеў за школьныя падручнікі, пачаў рыхтавацца да ўступных экзаменаў.

У наступным, 1987 годзе, вершы паэта з'явіліся не толькі ў абласным, але і рэспубліканскім друку: часопісе "Нёман", пазней у газеце "Літаратура і мастацтва", альманаху "Дзень паэзіі", часопісе "Полымя". З-за сялянскіх клопатаў, а найперш з-за слабога здароўя маці пастýпаць на філфак Гадулька перадумаў. Доўгі час працаваў на будоўлі, потым – паляводам у мясцовым саўгасе. Пасля смерці маці замкнуўся ў сабе. Шмат пісаў, перакладаў на беларускую мову творы Ш. Петэфі, М. Забалоцкага і іншых аўтараў. Аднойчы на хвалі расчаравання знішчыў усё напісанае ім у агні, але адумаўся і па памяці аднавіў спаленыя вершы. В. Сахарчук прыгадваў: "Хаця сам Васіль Гадулька прынцыпова, верны сваёй пазіцыі, нікуды вершаў не адсылаў, яны друкаваліся. Іх з яго маўклівай згоды пасылаў я альбо Алесь Каско. Паказаць альбо прачытаць новы твор Васіль Гадулька мог толькі тады, калі ўсё да драбніц вывяраў у ім, аднак часта і пасля апублікавання правіў асобныя радкі".

У 1992 годзе В. Гадулька падрыхтаваў рукапіс зборніка, якому даў назву "Кропелька сонца". Каля ста вершаў на беларускай і рускай мовах, вянок санетаў "Зорка радасці" і чатыры паэмы паэт палічыў нявартымі ўвагі чытача. Яны так і засталіся ў яго архіве. Рукапіс В. Сахарчук адаслаў у бібліятэчку часопіса "Маладосць". Напрыканцы гэтага года В. Гадулька напісаў аўтабіяграфію, якую закончыў іранічным сказам: "Рыхтаваў зборнік вершаў і баек, але надрукаваць яго не паспеў: зімой 1992 года ў страшэннай галечы і без сродкаў для існавання, незразуметы, расчараваны і пакінуты ўсімі трагічна памёр і пахаваны на могілках в. Федзькавічы Жабінкаўскага раёна". Ён у многім аказаўся прарочым. Зборнік пры жыцці паэта не выйшаў. Зімой 1992 года Васіль трапіў у бальніцу з моцным абмаражэннем рук, якое прывяло да частковай страты працаздольнасці. Уладкаваць асабістае жыццё таксама не ўдалося. На світанні 15 чэрвеня 1993 года Васіль Гадулька раптоўна памёр.

За некалькі дзён да смерці прынёс у рэдакцыю "Сельскай праўды" тры вершы, прысвечаныя каханай, імя якой хаваў за ініцыяламі А.У.П. Ёй ён прысвяціў некалькі дзесяткаў вершаў, сярод якіх ёсць і верш на англійскай мове. Апошні твор, адрасаваны А.У.П., Гадулька назваў "Развітанне", як бы прадчуваючы сваю хуткую смерць.

У 2004 годзе пры фінансавай падтрымцы Алеся Разанава і фірмы "БЕЛПІ", каардынатарам якой быў знакаміты беларускі пісьменнік Леанід Дайнека, убачыў свет зборнік паэзіі Васіля Гадулькі "Голас". Выхад кнігі стаў прыкметнай з'явай у беларускай літаратуры. На яе адгукнуліся Леанід Галубовіч, Казімір Камейша, Алесь Каско, Юрый Сапажкоў і інш.

***Маё паходжанне***

*Клады мінуўшчыны раскопваць не бяруся,*
*а радаслоўнай продак мой не ведаў.*



*След прашчураў маіх згубіўся ў завірусе*
*імклівых дзён – пяску сівых вякоў.*

*Мае не ў замках тых выхоўваліся продкі,*
*што на касцях узведзены людскіх.*
*Музейныя рэліквіі, знаходкі*
*не шмат чаго паведаюць аб іх.*

*Не чуў я калыханкі ў роднай хаце.*
*Узімку засыпаў пад шэпт верацяна.*
*Не помню песень тых, што зрэдку пела маці*
*За працай ад цямна і да цямна.*

*Не за бацькоў мне сорам вочы коле –*
*што ўпотай ашчаджалі кожны грош,*
*а іхні сын, пяцёрачнік у школе,*
*да першых замаразкаў бегаў басанож, –*

*за час, які яму на долю выпаў потым*
*І даў адну магчымасць юнаку:*
*каб той засведчыў мазалём сваім і потам,*
*хто ён такі і на чыім баку;*

*каб ён сярод пыхлівай сытай знаці*
*славутай не шукаў сабе радні,*
*часцей лёс бацькі ўспамінаў, лёс маці,*
*і хто яны, і дзе іх карані,*

*што ўсе яны з тае галоты беднай,*
*чый продак на сабе*
*заўжды крыж рабства нёс,*
*што і яму наканавана – адпаведна –*
*быць вартым іх і паўтарыць іх лёс.*

* * *

*Свет адмовіў паэту ў каханні.*
*Проста так, без усякіх падстаў.*
*Той пакрыўдзіўся, засумаваў,*
*захварэў і памёр на світанні.*

*Але вершы, якія ён склаў,*
*мар яго ных чароўныя здані,*
*летуценні свае, спадзяванні*
*у магілу з сабой не забраў.*

*Нехта іх у сталіцу паслаў.*
*Неўзабаве ў прыгожым выданні*
*яго шчырага сэрца прызнанні*
*цэлы свет з заміраннем чытаў.*
*Свет адмовіў паэту ў каханні,*
*а самога ўсё роўна прызнаў.*

## АЛЕНА ЖАБІНКАЎСКАЯ

У Алены Міхайлаўны дзве радзімы: Жабінка, што непадалёку ад Брэста, дзе прайшлі яе дзяцінства і юнацтва, і Санкт-Пецярбург – горад на Няве, з якім яна звязала свой лёс з 18 гадоў і дзе жыве сёння. У творчым асяроддзі Пецярбурга нашу зямлячку добра ведаюць як цікавую і арыгінальную паэтку (яна – член Саюза пісьменнікаў Расіі), як кніжнага графіка і літаратурнага рэдактара. На Берасцейшчыне яе імя, на жаль, вядома нямногім.

Нарадзілася Алена Жабінкаўская 8 снежня 1961 года ў мястэчку Сакалова Жабінкаўскага раёна Брэсцкай вобласці. У хуткім часе сям’я пераехала ў Жабінку. Бацька – Міхаіл Ігнацьевіч Кавальчук – уладкаваўся працаваць на цукровы завод, маці – Ніна Іванаўна – у мясцовую школу-інтэрнат. Яна ўспамінае, што Лена рана пачала хадзіць, гаварыць, нават гук “р” хораша вымаўляла ўжо ў 11 месяцаў. У год і сем месяцаў часта прамаўляла ў рыфму адну-дзве фразы, што заўсёды выклікала ў дарослых здзіўленне, іншы раз – смех, а ў тры-чатыры гады стала складаць чатырохрадкоўі, якіх было шмат.

Пасля заканчэння сярэдняй школы Алена Кавальчук накіравалася ў Ленінград. Тройчы спрабавала паступіць у Ленінградскае вышэйшае мастацка-прамысловае вучылішча імя Мухінай, аднак падрыхтоўка аказалася недастатковай. Год працавала на камбікормавым заводзе, затым – на пошце. У 1981 годзе паступіла на факультэт журналістыкі Ленінградскага дзяржаўнага універсітэта. На трэцім курсе выйшла замуж, нарадзіла сына Арсена.

Мама Ніна Іванаўна прыгадвае: “У школьныя гады я ні разу не заўважала, каб Лена пісала вершы. Даведалася пра гэта толькі тады, калі ў яе ў 1984 годзе нарадзіўся сынок. Яна вучылася на апошнім курсе універсітэта, а я даглядала Арсена, займалася хатнімі клопатамі. І аднойчы на паліцы, дзе стаялі кнігі, знайшла тоўсты сшытак з вершамі. Запытала Лену: “Чые гэта творы?”

– Гэта мае вершы, – спакойна прамовіла яна.

Я ад здзіўлення нават не ведала, што адказаць.

– Як твае?! Няўжо ты пішаш вершы?

– Так, мама. Я пішу”.

Для Ніны Іванаўны гэта было сапраўдным адкрыццём, і яна без ведама дачкі перапісала сабе ўвесь сшытак. А неўзабаве ў ленінградскіх газетах з’явілася новае паэтычнае імя: Алена Якімчук. Упершыню падборку яе вершаў у снежні 1986 года змясціла газета “На трудовой вахте”. З гэтага часу Алена Міхайлаўна стала рэгулярна наведваць літаратурныя гурткі ў горадзе, друка-



ваца ў ленінградскіх перыядычных выданнях – «Литературный Петербург» («Литературный Ленинград»), «Адмиралтейская игла», «Смена», «Нева» і інш. Спачатку друкавалася пад прозвішчам першага мужа – Алена Якімчук, затым другога – Ахматава, аднак вырашыла, што гэта некарэктна і ўзяла сабе псеўданім Жабінкаўская – па назве горада, які лічыць сваёй малой радзімай і якому прысвечана шэраг вершаў («Провинция», «Дождь в Жабинке», «Приснилась Жабинка» і інш.).

Сёння Алена Жабінкаўская – аўтар чатырох паэтычных зборнікаў: «Улитка – слеза» (СПб: «Петрополь», 1993), «Сердечная юдоль» (СПб: «Дума», 1998), «Отсвет любви небес» (Болгария, Бургас: «Демараж», 1999), «Свет мой, зеркало» (СПб: «Петрополь», 2005). Першы зборнік Алена Міхайлаўна выдала за ўласныя сродкі, а наступныя – з дапамогай і падтрымкай вядомых людзей, сярод якіх Міхаіл Баярскі, Аляксандр Дольскі, Юрый Шаўчук, Вячаслаў Бутусаў і інш.

Алене Жабінкаўскай удалося стварыць свой уласны, непаўторны свет паэзіі. Яе лірычная гераіня – жанчына-дачка, жанчына-жонка, жанчына-маці – не спрабуе схавацца, суцешыцца і задаволіцца прыватным жыццём, жаночай “обыденкой”, за якімі як бы і не адчуваюцца пранізлівыя вятры часу.

***Дождь в Жабинке***

*Белый ливень,*
*Шум о крышу.*
*Бульканье зелёных луж.*
*Липа листьями колышет,*
*Глушь.*
*Шум ушел.*
*На листьях липы*
*Льётся белая луна.*
*Шаткого крылечка всхлипы.*
*Тишина.*

***Приснилась Жабинка***

*Поднялся ветер за окном,*
*Скулит и воет – ты послушай…*
*А мне вчера приснился дом,*
*Скамейка старая под грушей.*

*Калитка. Липа у ворот,*
*По ним бродил мой взгляд без цели,*
*Как солнце сквозь забора щели*
*По кругу медленно идёт.*

*Не снились ни отец, ни мать,*
*И что-то в сердце так заныло!*

*Зачем? К чему всё это было?*
*Весь день пытаюсь я понять…*

## РАМАН ЛЕВІН

У час Вялікай Айчыннай вайны фашысцкія захопнікі расстралялі больш за 20000 брэсцкіх яўрэяў. У жывых засталося толькі 19 чалавек. Адзін з іх – Раман Левін – пазней стаў вядомым рускім пісьменнікам, членам СП Украіны. Пра яго ўпершыню расказаў Сяргей Смірноў у сваёй кнізе “Брэсцкая крэпасць”.

Левіны не былі ўраджэнцамі нашага краю. “…Я нарадзіўся ў 1930-м на Палтаўшчыне ў гарадку Лубны і пражыў там толькі адзін год, – прыгадваў Раман Аляксандравіч. – Тата быў ваенны, і мы хутка з’ехалі. Мне потым шмат разоў выпадала ездзіць па розных куточках свету, а на зямлі, адкуль пачыналася мая доўгая жыццёвая дарога, не бываў”. Пасля верасня 1939 года вялікая сям’я Левіных – дзед, бабуля Рахіль, бацька, маці Серафіма Маісееўна, маленькі Раман і яго шаснаццацігадовая сястра Тамара – пераехалі ў Брэст, куды бацьку перавялі на новае месца працы.

Лета 1941 года пачалося для Рамана ў піянерскім летніку, які знаходзіўся непадалёку ад горада, і абяцала быць вясёлым і цікавым. Раніца 22 чэрвеня парушыла ўсе планы. У першы дзень вайны дзяцей яшчэ паспелі прывезці ў Брэст. Бацька адразу накіраваўся на службу і сустрэўся з сынам толькі пасля вызвалення Беларусі. Сям’я разам з іншымі сем’ямі вайскоўцаў паспрабавала рушыць на Усход. Эвакуіравацца, аднак, не ўдалося. На Маскоўскім шасэ машына трапіла пад кулі гітлераўцаў. У час абстрэлу загінуў дзед. Левіны вымушаны былі вярнуцца ў горад. Жылі ў знаёмых, бо кватэру занялі немцы.

Неўзабаве Раман Левін пакінуў Берасцейшчыну. У ліпені 1944 года ў Казані яму пашчасціла сустрэцца з бацькам. У 1948 годзе яны наведалі Пятровічы, аднак адшукаць магілу маці тады не ўдалося.

Пасля Раман Аляксандравіч стаў знакамітым пісьменнікам, аўтарам 32 кніг паэзіі і прозы. Не раз прыязджаў у Брэст, Жабінку, Пятровічы (апошні раз быў у гэтых мясцінах у чэрвені 2001 года). Дзякуючы яго намаганням на месцы расстрэлу яўрэяў у Пятровічах вясной 1970 года з’явіўся сціплы абеліск. А памяць увесь час вяртае пісьменніка на Берасцейшчыну. “На гэтай зямлі я заўжды ў сорак першым”, – скажа ён у адным са сваіх вершаў. Перажытае тут у гады вайны знайшло сваё адлюстраванне ў аўтабіяграфічнай аповесці “За неимением гербовой печати”, паэме “Просветление”, кнізе ўспамінаў “Мальчик из гетто”, шэрагу вершаў – “Петровичи”, “Медальон”, “Анкеты”, “Здесь ни надгробья, ни креста…” і інш. Пра жабінкаўскі перыяд жыцця, пра сваю польскую маму Флорыю Будзішэўскую Раман Левін напісаў аповесць “У Вас доброе сердце, мадам”, якая выйшла ў Харкаве (дзе сёння жыве пісьменнік) у 2003 годзе. Два гады аповесць праляжала ў рукапісе. Аўтару цяжка было яе апублікаваць: “В этом отношении я не слишком предприимчив. Но это мой долг перед спасительницей. Времени остаётся немного…”



***Петровичи***

*Как пули навылет, как память навырост,*
*На годы и годы, до самой кончины –*
*Всё то, что я видел, всё то, что я вынес,*
*Во мне так пронзительно неизлечимо.*
*Село белорусское, синие дали,*
*В прохладу лугов и лесов облаченных...*
*Меня здесь каратели недосчитались,*
*Меня одного из двухсот обреченных.*
*И только один в этих зарослях мокрых*
*От частых дождей, где ходил я в подпасках,*
*Я помню ещё и живых, а не мертвых*
*За сутки, за день и за час до развязки.*
*Всю жизнь я в Петровичи к ним приезжаю,*
*Был молод, состарился – время не почерк.*
*Все те же деревья река отражает,*
*А путь мой сюда то длинней, то короче.*

## ІВАН АНОШКІН

Вядомы беларускі празаік Іван Аношкін (нарадзіўся ў 1928 годзе ў вёсцы Антонаўка Чаўскага раёна Магілёўскай вобласці) неяк шчыра прызнаваўся: “Нічога знамянальнага, вартага асаблівай увагі, у маім жыцці не было”. Між тым, асобнай старонкай у яго жыццёвым і творчым лёсе можна лічыць працу на Берасцейшчыне.

Будучы пісьменнік прыехаў сюды ў 1948 годзе, маючы дыплом выпускніка Суражскага педагагічнага вучылішча, што на Браншчыне, і невялікі вопыт працы спачатку ў Далісіцкім дзіцячым доме, затым у рэдакцыі суражскай раённай газеты “Маяк коммуны”. Першым месцам яго працы на Берасцейшчыне стала невялікая вёска Мышчыцы ў Жабінкаўскім раёне, дзе Іван Архіпавіч заняў пасаду загадчыка мясцовай пачатковай школы.

Значна пазней Мышчыцы стануць асноўным месцам дзеяння ў адной з аповесцей Івана Аношкіна “Чырвоная каліна стаяла...”, якая ўбачыла свет у 1985 годзе. Галоўным героем твора з’яўляецца журналіст, які трапіў у Мышчыцы.

У першыя пасляваенныя гады ў Беларусі адчувалася вострая патрэба не толькі ў настаўніках, але і ў журналістах. Вось чаму І.Аношкіна, які крыху паспрабаваў газетнага хлеба і, працуючы настаўнікам, рэгулярна змяшчаў у друку свае рэпартажы, замалёўкі, гумарэскі, неўзабаве выклікалі ў Жабінкаўскі райкам партыі і накіравалі адказным сакратаром раённай газеты, якая тады мела назву “Ленинский путь”.

Затым запрасілі ў абласную газету. У брэсцкай “Зары” Іван Архіпавіч сустрэў першага ў сваім жыцці пісьменніка. Ім аказаўся Мікола Засім. Прыгадваючы сустрэчу, І. Аношкін падкрэсліваў: “Помню яго прыветлівыя шэрыя вочы,

добрую ўсмешку на рабацiнiстым ад воспы твары. Калi падняўся з крэсла, стол перад iм здаўся малюсенькiм, а пакойчык – цесным. Працягнуў шырокую моцную руку:

– Будзем знаёмы: Мiкола Засiм!”

Неўзабаве тое знаёмства перарасло ў сяброўства. Здаралася часам разам ездзiць i ў камандзiроўкi. Так паступова з Берасцейшчыны пачынаўся шлях Iвана Аношкiна ў лiтаратуру.



## ІВАНАЎСКІ РАЁН

У гістарычным плане літаратурная Іванаўшчына выглядае, на першы погляд, не дужа багатай на постаці. Імёнаў, якімі асабліва ганарацца жыхары раёна, сапраўды няшмат, але што гэта за імёны: Ян Пратасовіч, Фёдар Дастаеўскі, Напалеон Орда! Усе – сусветна вядомыя. Праўда, калі Пратасовіч ды Орда нарадзіліся на гэтай зямлі (першы – у в. Магільна, якая даўно злілася з горадам Іванава, а другі – у в. Варацэвічы, у 15 км ад Іванава), дык для Дастаеўскага Іванаўшчына з'яўляецца прарадзімай – тут жылі яго далёкія продкі. Акрамя таго, вёсцы Дастоева вялікі рускі пісьменнік і гуманіст абавязаны сваім прозвішчам.

Яшчэ адно прозвішча хоць і непрыемна згадваць, але ж… Родам з Іванаўшчыны, з в. Шчакоцк, і такая адыёзная постаць у літаратуры, дакладней, у літаратурнай крытыцы і публіцыстыцы, як Лукаш Бэндэ (гэтае прозвішча і па сёння ў гэтай вёсачцы досыць распаўсюджанае, адно што пішацца крыху іначай – Бенда). Сваімі даносамі на выдатных беларускіх пісьменнікаў ды паклёпніцкімі артыкуламі ён заслужыў славу наглядчыка за беларускай літаратурай. Працуючы ў Інстытуце літаратуры і мастацтва Акадэміі навук БССР, Лукаш Бэндэ напрыканцы 20-х – пачатку 30-х гадоў XX стагоддзя ў сваіх крытычных нарысах імкнуўся палітычна дыскрэдытаваць многіх таленавітых пісьменнікаў, у тым ліку і нашых класікаў. Максіма Багдановіча называў выразнікам беларускай буржуазіі. Шмат бруду выліў на творчасць Янкі Купалы, Якуба Коласа, Змітрака Бядулі… Яго нарысы дужа нагадвалі паклёпніцкія даносы. Пасля такой "крытыкі" нямала аўтараў аказваліся ў турэмных засценках, скончылі жыццё ў ГУЛАГаўскіх лагерах. Да замаху на самагубства быў даведзены народны паэт Беларусі Янка Купала. Памёр Лукаш Бэндэ ў Ленінградзе, дзе працаваў на розных выкладчыцкіх пасадах, у 1961 годзе.

З 1972 па 1976 году Іванаве жыў празаік Алесь Крыга (Аляксандр Аляксандравіч Асіпенка). Быў літсупрацоўнікам Іванаўскай райгазеты "Чырвоная звязда", пасля карэспандэнтам рэспубліканскай маладзёжнай газеты "Чырвоная змена".

Пасляваенны час (уся другая палова XX стагоддзя) стаўся найбольш прыдатным для развіцця літаратуры ў рэгіёне. Значна паспрыяла гэтаму і тая акалічнасць, што пачынаючы з 1 красавіка 1965 года ў аднооўленым Іванаўскім раёне (нейкі час ён быў далучаны да Драгічынскага) пачала выходзіць раённая газета "Чырвоная звязда", якую ўзначаліў не хто іншы, як пісьменнік, выдатны настаўнік моладзі Аляксей Трафімавіч Каўко. Невыпадкова ў першым жа нумары мясцовага перыядычнага выдання быў змешчаны літаратурны твор – верш настаўніка з Моладава Васіля Макаравіча Туркевіча.

Неўзабаве пры газеце ствараецца літаратурнае аб"яднанне "Ясельда". Узначаліць яго было даверана тады зусім юнаму супрацоўніку рэдакцыі, а цяпер вядомаму пісьменніку-дакументалісту Міколу Панасюку. Ля вытокаў творчай суполкі стаяў выдатны беларускі паэт Мікола Фндзюковіч. У розны час кіра-

валі “Ясельдай” пісьменнікі Мікола Трафімчук і Уладзімір Сітуха.

I сёння “Ясельда” – адна з найбольш вядомых літаратурных сябрын на Берасцейшчыне. На яе рахунку незлічоная колькасць сустрэч у школах, бібліятэках і клубах, працоўных калектывах, на вечарынах паэзіі і да т.п. Творы членаў суполкі гучалі па радыё і тэлебачанні, выдадзены асобнымі зборнікамі, рэгулярна з”яўляюцца ў абласным і рэспубліканскім друку, а таксама ў адмысловых выпусках раённай газеты з аднайменнаю назваю “Ясельда”.

У розны час актыўна выходзілі да чытача на старонках мясцовай і абласной газет, рэспубліканскіх перыядычных (у тым ліку літаратурных) выданняў і падчас выступленняў Мікола Мінзер (працуе ў рэдакцыйна-выдавецкай установе “Літаратура і Мастацтва”), Галіна Пахолка, якая пасля ўзяла сабе псеўданім Гала Гара і пад ім публікавалася ў разнастайных літаратурных выданнях, у тым ліку часопісе “Дзеяслоў”, жыла ў Мінску, затым вярнулася на радзіму ў Іванава…

Гала ГАРА
**Інсургенцкі матыў**
Сьветлай памяці змагароў 1861-63 гг.
і В.Ластоўскаму прысьвячаецца

*Зьдзірванела мая валока,*
*Абабіліся поршні,*
*Аборка больш не трымае*
*Стамлёнай нагі...*
*Адпачыць бы*
*Пад сухою адрынай*
*Зліву перачакаць*
*У бок далёка адкінуўшы доўбень.*

*Як барвяная квецень*
*Лоб паранены жычка апавіла*

*Як барвяная вера*
*Закажанела*
*Казыча нервы і гонар*
*Закапёршчыка*
*Завадатара*
*Інсургента*
*Бунтаўшчыка*

*Чуеш*
*Гудзе віруе*
*Сьпявае*
*Закалат*



*Як закалец*

*У хлебе*
*У лёсе*
*У сэрцы*

*Мажны праснак*
*Ды путра*
*Наедак*
*Беднага*
*Інсургента*
*Рыззё*
*Яго шаты ілаты*

*Зняў*
*Абшмуляны*
*Сурдут*
*У стадоле*
*Каня*
*Прывязаў*

*Заляскалі*
*Падковы*
*Па лядзе*
*Мільганула*
*Кучомка.*

Прыкладна ў той жа час – нехта крыху раней, нехта пазней – прыйшлі Ала Каткавец, якая працавала ў райгазеце, а пасля – сакратар Мотальскага сельвыканкама, Леаніла Масюк – вядучая раённага радыё, Мікола Давыдзюк (трагічна загінуў 6 мая 2000 г., на той час працаваў уласным карэспандэнтам газеты "Рэспубліка" па Брэсцкай вобласці), Галіна Лагодзіч з в. Крытышын і яе таленавітая дачушка Марыля Лагодзіч, якая жыве і працуе ў Мінску, Мікола Налівайка з в. Моладава, Васіль Брыль з в. Сухі Бор, які піша на беларускай і рускай мовах, а таксама на палескім дыялекце (жыве ў Мінску), гумарам і пародыямі весялілі чытачоў Васіль Гедзька і Алена Парфеявец; пазней прыйшлі маладзейшыя: выкладчыца Іванаўскай музычнай школы імя Н. Орды з в. Радаўня Алена Утыра, Наталля Літвінюк з Варацэвіч і іншыя. Касцяком жа творчай сябрыны доўгі час з"яўляюцца паэты Уладзімір Гетманчук (працуе эканамістам у райсельгасхарчы, выдаў кнігу паэзіі "Зараніца"), Надзея Белавус, якая з 1982 па 2002 год узначальвала ў раёне Перарубскую школу, а таксама ўзорны дзіцячы паэтычны тэатр "Крынічка", які сама ж і стварыла пры школе; зараз – кіраўнік паэтычнага клуба "Ветразь", які дзейнічае пры раённым Цэнтры куль-

туры і народных традыцый і касцяком якога з”яўляюцца школьнікі Аляксандр Паліўка, Вольга Давідовіч, Сяргей Літвінчук, Вольга Варанчак, Аксана Філіпава, Каця Крэйдзіч, Аксана Філіпава, Аляксей Пінькоўскі і іншыя; уласныя вершы публікавала, акрамя мясцовай перыёдыкі, у часопісах “Першацвет”, “Роднае слова”, “Настаўніцкай газеце”, Ірына Сінкевіч, якая выкладала беларускую філалогію ў Варацэвіцкай СШ, вяла тут дзіцячы паэтычны гурток, пасля (у 2007-м) узначаліла Узорны тэатр паэзіі і прозы “Крынічка” у Цэнтры дзіцячай творчасці; шмат друкавалася, у тым ліку ў літаратурных выданнях, настаўніца філалогіі Лізавета Саханчук з в. Яечкавічы, журналіст і паэт Віктар Каўко, пісьменнік-натураліст Васіль Жушма, паэт і празаік Валерый Кухарчук, які ўжо цягам больш чым двух дзесяткаў гадоў нязменна ўзначальвае літаб”яднанне “Ясельда”.

У Іванаве распачаў сваю літаратурную дзейнасць празаік Анатоль Крэйдзіч, які ў 1978 годзе пераехаў у гэты раён, у в. Рудск, разам з маці з Драгічыншчыны, а пасля доўгі час працаваў у мясцовай раённай газеце «Чырвоная звязда», напісаў тут амаль усе свае творы. Стварыўшы ў 1986-м сям”ю, праз некалькі год перасяліўся ў райцэнтр, дзе жыве дасюль, хоць і ўзначальвае з пачатку 2006-га абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі.

На працягу ўсяго існавання творчай суполкі маладзейшыя аўтары пастаянна адчуваюць падтрымку з боку першага рэдактара “Чырвонай звязды”, заслужанага дзеяча культуры Беларусі Аляксея Трафімавіча Каўко. А сілкуецца “Ясельда” з такіх па-сапраўднаму невычэрпных ручайкоў, як Узорны тэатр паэзіі і прозы “Крынічка”, што дзейнічае пры раённым Цэнтры дзіцячай творчасці, літгурткі “Роднае слова”, “Проба пяра” і інш.

Да 40-годдзя літаб’яднання ў 2005 годзе на адным з пасяджэнняў “ясяльдзяне” вырашылі стварыць юбілейны зборнік. Такую прапанову зрабіў аўтарытэтны ў раёне педагог, выкладчык беларускай філалогіі, выдатны знаўца айчыннай, у тым ліку і рэгіянальнай, літаратуры Рыгор Рыгоравіч Сыраватка. Яго высілкамі ў 2006 годзе кніга “Ясельда” убачыла свет. У ёй знайшлося месца не толькі біяграфіям ды творам паўсотні аўтараў, але й крытычным артыкулам, пародыям на іх, фотаздымкам, а таксама інтэрв’ю з першым старшынёй літаб’яднання Аляксеем Каўко і з сённяшнім Валерыем Кухарчуком.

Дастоеўская СШ носіць імя Ф. Дастаеўскага, пры ёй дзейнічае літаратурна-краязнаўчы музей, які таксама носіць імя вялікага пісьменніка, а ў двары навучальнай установы ўстаноўлены помнік класіку рускай і сусветнай літаратуры. Імя Напалеона Орды прысвоена раённай музычнай школе і адной з вуліц г. Іванава, помнік яму ўпрыгожвае цэнтр горада, памятныя знакі ўстаноўлены ў двары СШ №3, на павароце з трасы Кобрын-Гомель на в. Варацэвічы, ва ўрочышчы Красны Двор каля Варацэвіч на месцы былой сядзібы Ордаў, а ў саміх Варацэвічах узводзіцца грандыёзны сядзібна-паркавы комплекс Н. Орды з музеем, гасцініцай і ўсім неабходным для пастаяннага наведвання гэтага куточка турыстамі.

У Іванаўскай бібліятэцы дзейнічае пакойчык-музей Фёдара Панфёрава, аўтара рамана “Брускі”, які ў 50-х гадах XX ст. узначальваў літаратурны ча-



сопіс "Октябрь" і тады ж наведаў Іванаўшчыну.

## ЯН ПРАТАСОВІЧ

Беларускі шляхціц з-пад Пінска Ян Пратасовіч, аўтар шасці паэтычных кніг на польскай мове, выдадзеных у Вільні ў канцы XVI - пачатку XVII ст. Сёння імя паэта ў Беларусі практычна невядома, няма пра яго артыкула ў біблiяграфічным слоўніку „Беларускія пісьменнікі», не з'явілася ніводнай публікацыі ў друку пра яго творчасць.

Нарадзіўся Ян Пратасовіч у в. Магільна (сёння яна злілася з г. Іванава). Ён быў чалавекам адукаваным, ведаў лацінскую, грэчаскую і заходнееўрапейскія мовы, творы свае пісаў па-польску. Найбольш верагодна, што атрымаў адукацыю ў якім-небудзь заходнееўрапейскім універсітэце дзякуючы падтрымцы багатых мецэнатаў (магчыма, Радзівілаў або Скуміных). У 1570—80-я гады займаў пасаду віленскага гарадскога суддзі. Мяркуюць, што з канца 1580-х і да сярэдзіны 1590-х гадоў ён жыў у сваёй вёсцы на Піншчыне.

Тут былі задуманы і напісаны яго маральна-павучальныя і навуковыя творы, для публкацыі якіх ён прыязджаў «у слаўнае места Віленскае». У час сваёй службовай дзейнасці Ян Пратасовіч найбольш бываў у асяроддзі чыноўнікаў гарадскога самакіравання і служылай шляхты. Стаўшы аўтарам кнігі, ён увайшоў у гуманістычны гурток разначыннай інтэлігенцыі, што групавалася вакол друкарні і выдавецтва «віленскага Альда» Яна Карцана.

Ян Пратасовіч не належаў да тае катэгорыі засцянковае шляхты, якую ў XIX ст.таленавіта апісаў у сваёй камедыі „Пінская шляхта» В. Дунін-Марцінкевіч. Бацька паэта, Бенедыкт Пратасовіч, паводле перапісу 1567 г., выстаўляў у войска 9 вершнікаў і 7 пешых жаўнераў, сваім сынам - Яну і Мацею - пакінуў у спадчыну маёнтак Магільна паблізу Пінска. Маці паэта, Марына, паходзіла з княскага роду Палубінскіх, даводзілася сястрою наваградскаму кашталяну Аляксандру Палубінскаму. У жонкі Ян Пратасовіч узяў сабе дачку берасцейскага кашталяна Рыгора Войны, парадніўшыся такім чынам з вядомым у княстве магнацкім родам. Заможнасць і дастаткова высокую сацыяльную пазіцыю Я. Пратасовіча пацвярджаюць не толькі яго сямейныя сувязі, але і прыяцельскія з падвіленскім друкаром Янам Карцанам. Бацькі паэта былі праваслаўныя, сам Ян хутчэй за ўсё перайшоў пасля 1596 г. ва ўніяцтва альбо адразу ў каталіцтва. З паходжання і месца жыхарства Я. Пратасовіча зусім не вынікаў факт адарванасці яго ад культурных цэнтраў краіны ды ізаляванасць ад грамадска-палітычнага жыцця. Тое, што Я. Пратасовіч не займаў, наколькі нам вядома, ніякай дзяржаўнай пасады (у некаторых працах згадваецца, што паэт выконваў абавязкі віленскага суддзі, але насамрэч гэтую пасаду займаў дзядзька паэта, таксама ж Пратасовіч), не шукаў шчасця пры двары Хадкевічаў ці Радзівілаў, валодаў усімі асаблівасцямі характару палескага шляхціца, схільнасцю да спакойнага сямейнага жыцця, да чытання кніг па філасофіі, геаграфіі, гісторыі і, вядома, да напісання вершаў. Час надзіва літасціва абышоўся са спадчынай Я. Пратасовіча: да нас дайшло ажно шэсць кніг паэта - значна больш, чым

ведаў К. Эстрэйхер і іншыя польскія бібліёграфы XIX - пачатку XX ст. Калі зыходзіць з колькасці выдадзеных кніг, можна падумаць, што Я. Пратасовіч быў адным з самых пладавітых паэтаў княства эпохі Рэнесансу. Але насамрэч аб'ём ягонай друкаванай спадчыны невялікі: каля 120 старонак (прыкладна, як вершаваны трактат М. Стрыйкоўскага „Ганец Цноты»). Храналогія выдання ягоных твораў выглядае наступным чынам: 1595 - першы, 1597 - чатыры наступныя, 1608 - апошні.

Наколькі нам вядома, ніводнаму з калегаў Я. Пратасовіча не ўдавалася на працягу году выдаць ажно чатыры кнігі; гэта ўвогуле выключны выпадак у тагачаснай літаратурна-выдавецкай практыцы. Чым тлумачыцца творчы выбух 1597 г. - нечаканым збегам акалічнасцяў, падтрымкай прыяцеляў-мецэнатаў, добразычлівасцю друкара Я. Карцана, - невядома. Яшчэ больш дзіўна выглядае дзесяцігадовае маўчанне паэта пасля такога выдавецкага поспеху.

Дэбютаваў Я. Пратасовіч сціплым віншавальным вершам з нагоды шлюбу Януша Скуміна з Барбарай Нарушэвіч: „Paranymphus» (Вільня, 1595). Як сведчыць назва верша, паэт выконваў на вяселлі пачэсную ролю свата (гр. „paranymphus» - сват, дружка). У ягоныя абавязкі ўваходзіць кіраваць парадкам цырымоніі і першаму прамаўляць віншавальнае слова. Калі б Я. Пратасовіч не быў сватам, ён мусіў бы выдаць верш ананімна: так вымагала традыцыя напісання матрыманіяльных твораў.

Вершаваная прамова Я. Пратасовіча вылучаецца прадуманай кампазіцыяй і прыгожым, хоць і простым, стылем, адпавядае важнейшаму патрабаванню рыторыкі: спалучае ў сабе яснасць, выразнасць і змястоўнасць. Нагадаўшы ў невялічкай прадмове пра сваю ролю і абавязкі, аўтар-прамоўца просіць гасцей з прыхільнасцю выслухаць ягоныя словы і па чарзе звяртаецца да бацькоў маладых (просіць іх блаславіць сына і дачку), да жаніха з нявестай (жадае ім дачакацца не толькі дзяцей, але ўнукаў ды праўнукаў) і да прысутнай на вяселлі моладзі (тлумачыць мэты хрысціянскага шлюбу і заклікае хлопцаў хутчэй узяць прыклад з Януша).

У адрозненне ад Я. Кахаоўскага, які свой верш „Сват» насыціў антычнымі вобразамі і алюзіямі, Я. Пратасовіч абапіраецца ў асноўным на біблейскія матывы: напрыклад, параўноўвае Фёдара Скуміна, які аддаў свайго сына ў рукі Барбары, з ... Аўраамам, які збіраўся ахвяраваць свайго сына Богу. Толькі ў фінальнай частцы верша, запрашаючы гасцей заспяваць і патанчыць, Я. Пратасовіч згадвае бога Апалона і іншых міфалагічных персанажаў, але заклік узняць келіхі за здароўе маладых падмацоўвае не згадкаю пра Бахуса, а спасылкаю на аўтарытэт Саламона:

Пры гэтым трунак умеркаваны не пашкодзіць, Бо і мудры Саламон яго ўжываць раіў.

Таму і мне пасля працы віна дайце чашу, якую я ахвотна вып'ю за здароўе вашае.

Праз год Я. Пратасовічу давялося прысутнічаць яшчэ на адной сямейнай цырымоніі, гэтым разам жалобнай: у ма-ладым узросце памерла швагерка паэ-



та, жонка наваградскага шляхціца Яна Калантая Маруся. Паэт адгукнуўся на яе смерць невялікай паэмай „Epicedium» (Вільня, 1597), адрасаванай бацьку нябожчыцы, берасцейскаму кашталяну Рыгору Войну. На адвароце тытульнай старонкі кнігі змешчаны герб Войнаў і верш, у якім тлумачыцца мэта: суцешыць няшчаснага бацьку ў ягоным горы.

Першая частка „Эпіцэдыума» - суцяшэнне філасофіяй, выказваньнямі Геракліта, Дэмакрыта, Салата, Сенекі, Цыцэ-рона і іншых антычных мысляроў пра нетрываласць чалаве-чага існавання і непазбежнасць смерці, пра неабходнасць падрыхтоўкі да скону яшчэ пры жыцці, пра неразумнасць скрухі па нябожчыку і г. д. Паэт не можа схаваць свайго захаплення мудрасцю старажытных філосафаў:

Але ж ёсць тут чаму дзівіцца, што людзі паганскія, хоць на усё сумняваліся і не мелі паняцця пра Бога, а да сутнасці кожнай рэчы даходзіць умелі.

Другая частка твора - суцяшэнне рэлігіяй, прыкладамі з Бібліі, выказваннямі пракрокаў і святых айцоў пра маральнасць усяго зямнога, пра смерць як пачатак вечнага жыцця і г. д. Набожнасць перамагае ў паэце прыхільніка антычнай мудрасці, ён падкрэслівае перавагу хрысціянскіх тэолагаў над паганскімі філосафамі і салідарызуецца з думкаю святога Ера-німа, што Арыстоцель з ягонай мудрасцю трапіў у пекла, бо не ведаў Бога.

Як і папярэдні твор паэта, „Эпіцэдыум» уяўляе сабой вершаваную прамову, больш разгорнутую і аргументаваную, але менш эмацыянальную і вобразную за „Паранімфус». Немагчыма ўявіць сабе, каб гэтую доўгую прамову сапраўды чыталі над магілай нябожчыцы. Здзіўляе, што аўтар адрасуе свае суцяшэнні выключна бацьку Марусі і нават не згадвае пра яе мужа ды іншых блізкіх людзей. Адсутнічае ў паэме і ўсхва-ленне цнатлівага жыцця гераіні, чаго вымагала традыцыя на-пісання падобных твораў. Фунэральная паэма Я. Пратасовіча паводле некаторых крытэрыяў саступае не толькі славутым

„Трэнам» Я. Каханоўскага, але і „Апісанню смерці й паха-вання княгіні Альжбеты Радзівіл» Ц. Базыліка. У „Эпіцэдыуме» Я. Пратасовіч зарэкамендаваў сябе не як чуллівы лірык, але як эрудыраваны Мараліст, што выявіўся таксама і ў ягоных наступных творах.

Роля суцяшальніка спадабалася паэту, наступнае вершаванае суцяшэнне ён адрасаваў свайму дзядзьку, наваградскаму кашталяну А. Палубінскаму. Праўда, ніхто з блізкіх А. Палубінскага не памёр, але ў сувязі з тым, што князь дасягнуў сталага ўзросту, пляменнік вырашыў маральна падтрымаць дзядзьку і пераканаць яго ў прывабнасці старасці. “Вобраз старога чалавека” (Вільня, 1597) - лепшы маральна-дыдактычны твор Я. Пратасовіча; паэт патрапіў спалучыць тут сваю багатую эрудыцыю з творчымі здольнасцямі, знайсці для рэлігійна-філасофскіх аргументаў адпаведную літаратурную форму.

Кампазіцыя „Вобразу старога чалавека» вылучаецца строгай прадуманасцю, цалкам падпарадкаванай аўтарскай задуме. Пасля эпіграмы на герб Палубінскіх і вершаванага прысвячэння князю ў кнізе змешчана гравюра з выявою нямоглага старца на мыліцах. Ад імя гэтага Старца і вядзецца аповед у першай частцы твора, якую аўтар у вершы-прысвячэнні слушна называе , “Ля-

мантам». З ляманту Старца паўстае непрывабны малюнак гаротнага існавання чалавека на схіле ягоных дзён, ва ўладзе цяжкіх хвароб і маркотных думак перад аблiччам хуткай смерці. Герой наракае не толькі на фізічныя, але й на маральныя пакуты. З прычыны старасці жаліцца на адзіноту і на пагардлівае стаўленне да яга з боку грамадства:

*Нават ва ўласнай жонкі і ў сваіх дзяцей*
*Не маю я такой любові, як то ва ўсіх людзей.*
*Бо дзеці радыя былі б мяне пазбыцца,*
*Каб як хутчэй маім дабром разжыцца.*

Выпрабаванні і цуды, якія выпалі на долю Старца, прыводзяць яго да расчаравання ў сэнсе жыцця наогул, да песімістычнага погляду на чалавечае існаванне як на паступовы працэс распаду і гніення арганізму. Ці ж не лепей у такім разе як мага хутчэй памерці і далучыцца да вечнага жыцця на нябёсах; без пакут і бедаў? У разважаннях Старца чуюцца галасы і антычных філосафаўскептыкаў, і сярэднявечных хрысціянскіх аскетаў, але ў значнай ступені яны адлюстроўваюць рэальныя настроі, што агортваюць чалавека на схіле ягоных дзён.

На шчасце Старца-песіміста і чытачоў кнігі з'яўляецца Старац-аптыміст, які на просьбу аўтара абараняе старасць ад несправядлівых абвінавачанняў і ўслаўляе яе прывабныя рысы. Сустрэча двух герояў паказана на гравюры, змешчанай перад пачаткам другой часткі твора. Розніцу маральна-філасофскіх паставаў старцаў адлюстроўвае розніца ў іх фізічным выглядзе: Старац-аптыміст абапіраецца не на мыліцы, а толькі на кій, трымаецца бадзёра і ўпэўнена. Спасылаючыся на ўласны жыццёвы досвед, Старац з кіем лёгка разбівае аргументы Старца на мыліцах: 1) здароўе залежыць не толькі ад узросту, бо неразумны чалавек падрывае яго сабе яшчэ ў маладосці заганным ладам жыцця; 2) павага да старых бацькоў у дзяцей не знікае, калі яна выхавана з маленства; 3) сівога чалавека людзі паважаюць за мудрасць, яму належыць першае слова ў грамадзе; 4) доўгае жыццё дае магчымасць пазбыцца грахоўных страсцей і падрыхтавацца да сустрэчы з Богам і г. д. Свае разважанні другі Старац падмацоўвае выказваннямі біблейскіх прарокаў (Давіда, Саламона...), прыкладамі з жыцця патрыярхаў (Аўраама, Ісака, Ноя і іншых), а потым сягае і да антычнае мудрасці: да выказванняў і прыкладаў з жыцця Платона, Салена, Сафокла (дзіўна, аднак, што Я. Пратасовіч ні разу не спасылаецца на знакамітае сачыненне Цыцэрона „Пра старасць», выдадзенае ў 1595 г. па-польску ў той самай друкарні, што і „Вобраз старога чалавека»).

Наступнае сачыненне Я. Пратасовіча – "Узор сумленнай белагаловай» (Вільня, 1597) - таксама можна разглядаць як

своеасаблівае суцяшэнне: „суцяшэнне» у няпростай долі жанчыны. Паэт засяроджваецца на ўслаўленні цнотаў „белагаловай», малюе ідэальны ўзор тагачаснае пані - жонкі, маці, гаспадыні; падмацоўвае свае ўласныя ўяўленні выказваннямі пра жанчын Саламона і Эклезіяста, прыкладамі з цнатлівага жыцця



біблейскіх і антычных гераінь.

Прысвечаны „Узор сумленнай белагаловай» Кацярыне з Ласкіх, жонцы Фёдара Скуміна і матцы Януша Скуміна - прыяцеляў і добразычліўцаў паэта (з нагоды вяселля Януша, як мы памятаем, напісаны „Паранімфус»). На адвароце тытульнай старонкі кнігі змешчаны герб Ласкіх і эпіграма на яго, а перад асноўнаю часткаю твора - дэдыкацыйны верш, у якім аўтар звяртаецца да жонкі наваградскага ваяводы як да сваёй „Міласцівай сястрыг».

У беларускай літаратуры XVI - XVII стст. не шмат твораў, прысвечаных жанчыне (згадваюцца „Румяны для аздобы дзя-вочага твару» Радагляда Гладкатварскага ды „Вобраз белага-ловай... Соф'і Зяновічаўны Слуцкай» Баніфацыя і Казіміра Пацаў), таму вершаваны трактат Я. Пратасовіча „Узор сумленнай белагаловай» мае асаблівае значэнне як крынца звестак пра ўяўленні нашых продкаў аб прадстаўніцах слабога полу.

З выдадзеных Я. Пратасовічам у 1597 г. твораў самы вялікі па аб'ёму і найменш цікавы зместам - „Ахвярадаўца». Гэта вершаваная перапрацоўка сачынення італійскага вучонага Юлія Фолька (лацінаю арыгінал пабачыў свет у 1574 г. у Рыме, пасля неаднаразова перавыдаваўся). Праўда, Я. Пратасовіч не трымаўся блізка лацінскага першаўзору і дадаў у свой твор яшчэ мноства іншых разумных выказванняў - пра ахвяраванні, міласэрнасць, любоў да бліжняга і да Бога - узятых з Бібліі і з працаў антычных мысляроў: Дэмакрыта, Арыстоцеля, Піфагора, Геракліта, Цыцэрона ды іншых. Як і ў папярэдніх творах Я. Пратасовіча, тэарэтычныя аргументы падмацаваны ў „Ахвярадаўцы» прыкладам з жыцця славутых асоб (паганцаў і хрысціян), традыцыйна выглядае кампазіцыя кнігі: 1) выказванні біблейскіх аўтараў і сярэднявечных тэолагаў; 2) прыклады з жыцця біблейскіх герояў і хрысціянскіх святых; 3) выказванні антычных філосафаў і гісторыкаў; 4) прыклады з жыцця старажытных грэкаў і рымлянаў.

„Inventoresrerum, альбо Кароткае апісанне, хто што вы-найшаў і даў людзям для ўжытку» прысвечана пісару княства, браслаўскаму старасту Янушу Скуміну- герою першага твора паэта, „Паранімфуса».

Некаторыя артыкулы у “Inventores rerum...» можна разгля-даць як самастойныя вершы сатырычнага характару: „Пацалункі», „Запрагаць чатырох коней», „Рушніца», „Страляць з прашчы». У вершы „Пацалункі” аўтар спрабуе высветліць, адкуль паходзіць звычай цалавацца; ці то ад старажытных габ-

рэяў, ці то ад уцекачоў з Троі (паводле легенды траянскія жанчыны так упадабалі Італію, што вырашылі не плыць далей, спалілі караблі сваіх мужоў і потым суцішвалі іхні гнеў пацалункамі), ці то ад рымлянаў (Плутарх апісвае звычай рымскіх патрыцыяў па вяртанні дадому цалаваць сваіх жонак, каб даведацца, ці не пілі віна тыя падчас іхняй адсутнасці). Уявіўшы на месцы старажытных рымлянак сучасных шляхцянак, паэт з сарказмам заўважае:

*Але ж у нас хутчэй гарэлку,чым віно, адчуеш,*
*Бо процьму знойдзеш такіх белагаловых,*
*Якія гарэлкай так начастуюцца,*
*Што ледзьве мужоў сваіх перад сабою бачаць.*
*Таму такіх зусім не трэба цалаваць,*

*Але хутчэй ім добрага кія даць,*
*Перацягнуць па хрыбце, каб не піла,*
*А гаспадарку сваю пільнавала.*

У вершы „Запрагаць чатырох коней» паэт кпіць з тых шляхціцаў, якія замест чацверкі коней запрагаюць у вазок шасцёрку.

Творчасць Я. Пратасовіча - паэта, філосафа, энцыклапедыста - яскрава сведчыць пра змены, якія адбыліся ў жанравай сістэме і ў тэматыцы шматмоўнае паэзіі Беларусі напрыканцы XVI ст., калі замест героіка-эпічнай паэзіі, якая ўслаўляла подзвігі “Аяксаў і Гектараў», на першы план выйшлі такія паэзіі, як сямейна-рытуальная і маральна-дыдактычная, прысвечаныя падзеям штодзённага жыцця чалавека, праблемам маральнага ўдасканалення і пазнання Сусвету.

Развіццё паэзіі дакладна адлюстроўвала парадыгму настрояў шляхоцкага грамадства Рэчы Паспалітай пасля заканчэння Лівонскае вайны, на сутыку дзвюх эпох: Рэнесансу і Барока.

## НАПАЛЕОН ОРДА

Нарадзіўся Напалеон Орда 11 лютага 1807 г. у радавым маёнтку Варацэвічы Пінскага павета Мінскай губерні (цяпер веска ў Іванаўскім раёне Брэсцкай вобласці) у сям’і маршалка шляхты Кобрынскага павета, інжынера-фартыфікатара Міхаіла Орды.

Атрымаўшы пачатковую адукацыю дома ад бацькоў, Орда далейшую вучобу працягваў у Свіслацкай гімназіі, якую паспяхова скончыў у 1823 г.

У тыя часы буйнейшым адукацыйным цэнтрам, асяродкам вольнай дэмакратычнай думкі з’яўляўся славуты Віленскі універсітэт, куды адразу пасля гімназіі паступае Орда на фізіка-матэматычны факультэт. Навучанне давалася лёгка, выкладчыкі адзначалі яго выдатныя здольнасці. Але універсітэт здольны студэнт не скончыў — у 1827 г. быў адлічаны за прыналежнасць да тайнага студэнцкага таварыства «Заране», члены якога марылі аб незалежнасці Рэчы Паспалітай, і тым самым падзяліў лёс з Адамам Міцкевічам, Томашам Занам, Янам Начетам, Ігнатам Дамейкам. Пасля арышту і 15-месячнага турэмнага зняволення вяртаецца ў родныя Варацэвічы, але застаецца пад наглядам паліцыі і самастойна завяршае сваю адукацыю.

Сфарміраваная ва універсітэце рэвалюцыйна-вызваленчая палітычная арыентацыя Орды да аднаўлення Рэчы Паспалітай рэалізавалася ў час паўстання 1830-1831 гг. Ён прымае ў ім актыўны ўдзел як стралок чацвёртага палка коннай гвардыі Літоўскага корпуса ў Каралеўстве Польскім і нават вызначаецца ў бітве пад Коцкем і атрымлівае вышэйшую ўзнагароду — ордэн Залатога крыжа (Virtuti Militari) і чын капітана паўстанцкай арміі. Пасля падаўлення паўстання ў 1831 г. вымушаны эмігрыраваць і накіроўваецца праз Аўстрыю і Швейцарыю ў Італію. У 1833 г. пераязджае ў Парыж — тагачасны цэнтр рэвалюцыйна-дэмакратычнай эміграцыі.

Атмасфера Парыжа з яго бурлівым культурным жыццём, мастацкай і на-



вуковай багемай паўплывала на развіццё шматбаковых здольнасцей творчай натуры Напалеона Орды, які ўжо вызначыў для сябе прафесійную цікавасць і арыентацыю да музыкі і жывапісу. Музычнае майстэрсгва ўдасканальваў у Фрэдэрыка Шапэна. Дасягнуў у гэтай галіне грунтоўных поспехаў. Яго музычныя творы (паланэзы, вальсы, серэнады, мазуркі), якія вызначаюцца меладычнасцю, драматызмам, віртуозным стылем, багаццем фактуры, лірычнасцю, былі ўхвалены Ф. Шапэнам, Ф. Лістам і С. Манюшкам. Н. Орда ствараў рамансы і песні на словы С. Вітніцкага і А. Плуга, выдаў «Альбом твораў польскіх кампазітараў» (1838), «Граматыку музыкі» (Варшава, 1873). У сярэдзіне 1840-х гг. быў дырэктарам Італьянскай оперы ў Парыжы.

Вызначыўся Орда і ў галіне літаратурнай дзейнасці: пісаў артыкулы пра выдатных людзей і цікавыя мясціны, у 1856 г. выдаў польска-французскі падручнік. У 1839 г. Н. Орда прыняты членам Польскага гістарычна-літаратурнага таварыства.

У Парыжы Орда атрымоўвае мастацкую адукацыю ў студыі вядомага майстра архітэктурнага пейзажа П'ера Жэрара, які і вызначыў яго мастацкі жанр. Сферай яго мастацкай зацікаўленасці становіцца археалогія і архітэктура. Малюнак для Орды з'яўляецца не толькі творам мастацтва, але і гістарычным дакументам, у якім фіксуюцца каштоўныя архітэктурныя помнікі. Таму свае малюнкі суправаджае гістарычнай анатацыяй, імкнецца зафіксаваць уладальнікаў сядзіб і палацаў, прыналежнасць культавых будынкаў адпаведнай канфесіі, гады будаўніцтва, фундацыі і інш. У яго творах яскрава прасочваецца жаданне данесці свае знаходкі і ўражанні ад вандраванняў да гледача.

У 1856 г. пасля абвяшчэння царскім урадам амністыі палітычным эмігрантам, Напалеон Орда ў 49-гадовым узросце вяртаецца ў родныя Варацэвічы. У 1862-1863 гг. жыве ў Гродна, потым на некаторы час пасяляецца ў Пінску. Каб забяспечыць сваё матэрыяльнае становішча, працуе хатнім настаўнікам музыкі ў генерала Адама Ржавускага на Валыні.

У вольныя ад працы месяцы Н. Орда шмат падарожнічае па Беларусі, Літве, Польшчы і Украіне. У час сваіх вандровак робіць замалёўкі архітэктурных і гістарычных помнікаў, гарадоў і мястэчак, славутых мясцін, звязаных з жыццём і дзейнасцю знакамітых людзей. Вынікам гэтых вандраванняў з'явіўся аграмадны збор мастацкіх твораў, гэта больш за 1150 малюнкаў, з якіх каля 200 прысвечаны менавіта Беларусі.

Для сваёй творчасці Н. Орда выбраў тэхніку алоўкавага малюнка, падмаляванага акварэллю, гуашшу ці сепіяй, якой дасканала валодаў. Менавіта гэта тэхніка малявання дазваляла аператыўна і найбольш дакладна адлюстраваць натурны архітэктурны краявід ва ўмовах падарожжа. Краязнаўцам быў выбраны адзіны фармат паперы (даўжыня каля 30 см), наклеенай на планшэтку.

Асаблівую ўвагу Орда надае адлюстраванню на сваіх малюнках шэрагу сядзіб і памятных мясцін, якія звязаны з імёнамі славутых дзеячоў культуры: А. Міцкевіча (сядзібы ў Завоссі, Туганавічах), М. Агінскага (палац у Рэтавасе на Літве), С. Манюшкі (сядзіба ў в. Убель), І. Ходзькі (сядзіба ў в. Дзевятня на Літве), У. Сыракомлі (сядзіба ў Смольгаве), А. Плуга (сядзіба ў в. Жу-каў

Барок) і інш.

Двойчы ў 1860 г. замаляваў Орда і месца свайго нараджэння, родную сядзібу Варацэвічы.

Серыя малюнкаў Н. Орды з’яўляецца абагульненай ілюстрацыяй беларускай вёскі сярэдзіны XIX ст., на якой народнае драўлянае дойлідства перададзена мастаком з вялікай трапнасцю і захаваннем нацыянальнага каларыту. Перад намі паўстаюць маляўніча раскінутыя ўздоўж рэк і азёр беларускія паселішчы з хатамі, накрытымі саламянымі стрэхамі, з драўлянымі храмамі і званіцамі, млынамі і ветракамі, калодзежамі-жураўлямі і іншымі вясковымі збудаваннямі.

Але найбольш шырока ў творчасці мастака прадстаўлена гарадская архітэктура. Па шэрагу гарадоў створана шырокая панарама шматстылёвай мураванай забудовы XIX ст. У гэтай серыі малюнкі гарадоў Гродна, Віцебска, Мінска, Магілёва, Полацка, Пінска, Навагрудка, Нясвіжа, Турава, Свіслачы і інш.

З 1873 г. Напалеон Орда распачаў не менш манументальную справу — выданне ўласным коштам «Альбома відаў гістарычных польскіх» («Album Widokow Historycznych Polski»). Аднак было выдадзена толькі 260 малюнкаў-літаграфій у васьмі серыях (каля 120 па беларускіх губернях), гравіраваных на камені Алаізам Місеровічам у літаграфічным камбінаце Максімільяна Фаянса ў Варшаве.

Большасць малюнкаў Орды (977 планшэтаў) знаходзіцца ў Народным музеі ў Кракаве, куды яны трапілі ў 1886 г. як ахвяраванне родных памёршага мастака (1883). Частка малюнкаў маецца ў Народным музеі ў Варшаве, альбом акварэляў захоўваецца ў бібліятэцы імя В. Стэфаніка ў Львове. Вялікая калекцыя літаграфій з малюнкаў Н. Орды захоўваецца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

Дзякуючы гэтым малюнкам Орды мы і цяпер уяўляем, як выглядалі многія архітэктурныя помнікі і мясціны, што знішчыліся або непазнавальна змяніліся. Няма ўжо цудоўных старасвецкіх сядзіб і палацаў у Моладаве, Асвеі, Беніцы, Варончы, Закозелі, Дзярэчыне, Лагойску, Дубаі, зруйнаваны кляштары і касцёлы — шэдэўры архітэктуры барока — картэзіянцаў у Бярозе, базыльян у Беразвеччы, кармелітаў у Бялынічах, дамініканцаў у Валынцах і шмат іншых. Беларусь у малюнках Напалеона Орды паўстае як фенікс з попелу, вырастае светлымі абрысамі архітэктурных святыняў.

Жыццё і творчая дзейнасць Напалеона Орды - яскравая старонка гісторыі нацыянальнай культуры. Сціпласць і бескарыслівасць, разнастайнасць высакародных інтарэсаў, незвычайная шматгранная таленавітасць, няспынная цікавасць да лёсу роднага краю — усё гэта якасці чалавечай постаці буйнога асветніка і мысліцеля Беларусі XIX ст. У 1997 г. у г. Іванава яму ўстаноўлены помнік, выкананы скульптарам І. Голубевым. У гэтым жа гарадку яго імем названы адна з вуліц і школа мастацтваў.



# АЛЯКСАНДР СКІРМУНТ: НАРЫС ЖЫЦЦЯ І ДЗЕЙНАСЦІ (урывак з нарыса Н. Орды ў Варшаўскім "Тыгодніку ілюстраваным" за 6 мая 1871 года)

Няма патрэбы даводзіць моцную залежнасць асветніцкага руху ад матэрыяльнага становішча пэўнага краю або яго ваколіц. Заслуга Скірмунта ва ўмацаванні апошняга была тым большая, што полем дзейнасці ён абраў для сябе перыферыю, цалкам пазбаўленую прамысловага руху, зацягнутую руцінаю і нядбальствам. На працягу трыццаці з лішнім год ягонай працы, якая з'яўлялася прыкладам для іншых, Мінская губерня ў прамысловым плане адносілася да найбольш занядбалых. Колькасць фабрык у цэлай губерні, якая займала прастору ў 1000 міль квадратных, г. зн. не меншай па плошчы за некаторыя краіны Еўропы, не дасягала і дзевяноста; колькасць жа працуючых на ты фабрыках не на шмат перавышала 800 асоб (і гэта пры тым, што насельніцтва губерні налічвала 1 мільён 65 тысяч чалавек). А якія ж то яшчэ фабрыкі! Да іх ліку аднесены цагельні, аляярні, літаграфіі і нават фотапрадпрыемствы. Піншчына, якая стала полем дзейнасці Скірмунта, нават сярод такога прамысловага ўбоства выглядала найгорш. Выработніца зялёнага шкла ў Плотніцы, ганчарня ў Гародні, варштат паркетны ў Пакосці, гарбарні ў Століне ды Рэчыцы – вось і ўсё, што было да прыходу Скірмунта і што можна з вялікаю цяжкаю назваць фабрычным промыслам. У тым жа, што неўзабаве на Піншчыне выраслі буйныя фабрыкі цукру і сукна ў Парэччы, свечаў ды мыла ў Альбрэхтаве, паравы млын у Пінску, фабрыка сельскагаспадарчых прылад у Дастоеве, найпершая заслуга менавіта Скірмунта.

Аляксандр Скірмунт нарадзіўся ў 1798 годзе ў Моладаве Гродзенскай губерні Кобрынскага павету (цяпер Іванаўскі раён – А. К.). Бацьку яго звалі Сымон, маці – Эльжбета. Яна – з сям'і Ажэшкаў.

Род Скірмунтаў вельмі старажытны. Даўно пусціў ён на Піншчыне сваё карэнне, умацаваўся тут, вырас.

У 1818 годзе Аляксандр скончыў Віленскі ўніверсітэт, дзе вучыўся на фізіка-матэматычным факультэце, і атрымаў ступень магістра. Для таго, каб сын мог прадоўжыць вучобу, бацькі адправілі яго спачатку на нямеччыну, а пасля ў Францыю, дзе здольны і працавіты юнак на свае вочы ўбачыў, як там кожны чалавек прысвячае сябе ўзвядзенню гмаха цывілізацыі. Праз некалькі год, праведзеных за мяжою, ён вярнуўся дамоў з невыказнаю прагай працы. Бацька, чалавек немаладых гадоў, аддаў капітал і маёнтак у сынавыя рукі і Аляксандр, будучы яшчэ досыць маладым, прыступіў да наладжвання прамысловасці.

Узяўшы на ўзбраенне хімію – адну з тых дакладных навук, у якую ён быў улюбёны, заснаваў у 1830 годзе ў Моладаве фабрыку па перапрацоўцы буракаў на цукар. Але з-за таго, што кіраваць прадпрыемствам быў пастаўлены чалавек, які слаба арыентаваўся ў вытворчасці, цалкам новай у тых мясцінах, і які, да ўсяго, быў абраны неўзабаве маршалакам Пінскага павету, не было каму надаваць належную ўвагу рабоце прадпрыемства. І як вынік – цукаварня ўскладзеных на яе спадзяванняў не апраўдала, а ў 1835 наогул была знішчана пажарам.

Чалавек працавіты і багаты заўсёды ўзбуджае ў іншых зайздрасць. Дык вось зайздросныя людзі глядзелі з недаверам і перасцярогай на ўсё новае, нязвыклае, і папярэджвалі Скірмунта, маўляў, колькі б ён ні будаваў цукраварняў, усе яны ператворацца ў руіны.

Аднак падобныя пагрозы не спынілі Аляксандра, і ў 1836 годзе ён у тым жа Парэччы (у трох мілях ад Пінска) заснаваў суконную фабрыку. Напачатку магутнасць прадпрыемства была невялікая, але хутка яна вырасла да ста механічных варштатаў.

Думка першапраходцы, здавалася, не ведала адпачынку. Не гледзячы на тое, што фабрыка сукна працавала выдатна, яму ўсё здавалася, што гэта замала, што патрэбна нешта новае. Вось чаму ён

вярнуўся да найпершай сваёй задумы і ў 1860 годзе пабудаваў новую цукараварню, толькі ўжо не на ранейшым месцы, а ў тым жа Парэччы. Апошняя за адзін толькі дзень перарабляла 1000 цэнтнераў буракоў, што стала магчымым дзякуючы прымяненню такой тэхнічнай навінкі, як цэнтрыфуга. Абодва гэтыя прадпрыемствы разам з механічным варштатам далі занятак і заробак шасцістам работнікам, дапамагал гаспадару падтрымліваць матэрыяльна збяднелых сваякоў, а таксама дазвалялі вывучыцца немаёмнай моладзі на добрых майстроў і рамеснікаў. Здольнейшых спадар Скірмунт пасылаў на іншыя фабрыкі ў сваім краі і за мяжу вучыцца (расходы за гэта ён браў на сябе), а пасля вяртання ў Парэчча яны доўгія гады заставаліся пад бацькоўскаю апекай уладальніка прадпрыемстваў. З такіх, між іншым, і сам дырэктар фабрыкі сукна, які пачынаў простым фарбавальшчыкам, а дзякуючы сваім здольнасцям і працавітасці, дасягуў пасады ўправіцеля цэлага прадпрыемства.

Апроч таго цукроўня нямала паўплывала на ўмацаванне пазіцый дробных навакольных землеўладальнікаў, сялян, што займаліся буракаводствам. Скірмунт замяніў чынш у выглядзе гатовай прадукцыі альбо паншчыны на іншы, які прадугледжваў утрыманне з кожнага “дыму” па дваццаць бочак буракоў. А ў тых мясцінах з кожнага морга ворыва атрымлівалі па 60 бочак караняплодаў. Фыбрыка цукру ўжо ў 1862 годзе мела чатыры паравыя машыны агульнай магутнасцю 62 конскія сілы, вырабляла на працягу года каля чатырох тысяч паставаў агульным коштам 300000 рублёў.

Скірмунт яшчэ задоўга да пачатку рэформаў разумеў, што настане час, калі прамысловая вытворчасць будзе прыносіць значна больш карысці, чым чыста сельскагаспадарчая.

У 1864 годзе Скірмунт выехаў за мяжу, каб паправіць падарванае здароўе. Смерць застала яго 22 ліпеня 1870 года на нямеччыне, дзе і спачыў у 72-гадовым ўзросце.

Сыны, якія атрымалі багатую спадчыну, працягвалі распачатую бацькам справу. А фабрыкамі завалодаў сын Аляксандр – чалавек вялікіх магчымасцяў і зайзроснага характару.

## ДЗМІТРЫЙ СЕРГІЕВІЧ (Змітро Віталін)

Лёс рускамоўнага не па сваёй волі пісьменніка Дзмітрыя Сергіевіча (псеўданім Змітро Віталін), прынамсі, даваенны перыяд жыцця, аказаўся ў многім пакутніцкім. Нарадзіўся ён 8 жніўня 1912 года ў вёсцы Сухое Бродніцкай воласці Пінскага павета Мінскай губерні (цяпер Іванаўскага раёна Брэсцкай вобл.). Бацька Рыгор Паўлавіч у той час ужо працаваў на чыгунцы (ст. Іванава). Маці, Ульяна Васільеўна, — дачка сельскага старасты Васіля Шурхая.

На сваёй малой радзіме Змітро амаль і не жыў. Калі ўлетку 1915 года пачалося нямецкае наступленне, сям’я эвакуіравалася ўглыб Расіі. Спачатку жылі ў Бранску, потым пераехалі ў Мелекес, у Заволжа. Гады бежанства падрабязна апісаны ў аўтабіяграфічнай аповесці «Даўнія гады» (кніга «Нет последних рубежей»). Улетку 1919 года вярнуліся ў Беларусь. Спыніліся на ст. Калінкавічы, дзе бацька пачаў працаваць стрэлачнікам. Потым была польская акупацыя, якая працягвалася нядоўга — прыйшлі палякі недзе ў красавіку 1920 года, а ўжо ў ліпені іх пагналі на захад.

Увосень 1920 года паступіў у першы клас Вышэйшага пачатковага вучылішча. Потым гэтае вучылішча стала называцца сямігодкай, якая да пачатку трыццатых гадоў была ператворана ў сярэднюю школу.

У 1929 годзе Змітро скончыў 8 класаў і паехаў у Мінск паступаць у палі-



тэхнікум. На жаль, не паступіў, зрэзаўся на экзаменах, падвяла матэматыка. Дамоў не вярнуўся, застаўся ў Мінску, пачаў працаваць на будоўлі на пад-собных работах, а пасля ўзяў кельму і тынкоўшчыка. Затым паступіў на 5-месячныя курсы радыёманцёраў, якія закончыў паспяхова і пачаў працаваць у радыёмайстэрні Белрадыёцэнтра. А праз нейкі час ужо перайшоў на працу ў рэдакцыю радыёвяшчання ў якасці літсупрацоўніка. Да таго часу адносяцца і публікацыі вершаў у «Чырвонай змене». Ранняй вясной паехаў працаваць у крычаўскую раённую газету ў якасці адказнага сакратара.

Увосень таго ж года развітаўся з Крычавам, вярнуўся ў Мінск і паступіў на творчае аддзяленне Мінскага Вышэйшага педінстытута. Адначасова працаваў і ў часопісе «Шляхі калектывізацыі» у якасці адказнага сакратара. На пачатку 30-х гадоў жыў у Мінску, пісаў вершы, шырока друкаваўся ў рэспубліканскіх выданнях. Працаваў у газеце “Бальшавік Палесся”. З восені 1943 года – карэспандэнт дывізійнай газеты «Вперед, за Родину!». Пасля працаваў у штодзённай газеце «За честь Родины» Франтавыя дарогі правялі яго праз Наўгародчыну, Пскоўшчыну, Латвію, Літву, Польшчу, Германію, Чэхаславакію. Вызваляў ад акупантаў Венгрыю і Аўстрыю.

Вясной 1950 года ў якасці ваеннага журналіста пераведзены ў Адэсу, у акружную газету «Защитник Родины». Тут адпрацаваў паўтары гады і быў накіраваны на вучобу ў Ленінград – на вышэйшыя курсы ўдасканалення палітсаставу Савецкай Арміі (1951 –1952). Па заканчэнні курсаў вярнуўся ў Адэсу, дзе заставалася сям’я – жонка і дзве дачкі,

З пачаткам венгерскіх падзей 1956 года яго накіроўваюць у Будапешт. Аб гэтых падзеях напісаў раман «Гроза на рассвете». У Будапешце праслужыў да 1961 года. Затым вярнуўся ў Адэсу і звольніўся ў запас па выслузе гадоў у званні маёра...

З гэтага часу цалкам аддае сябе творчай працы. З-пад яго пяра з’яўляюцца раманы, аповесці, апавяданні і калі-нікалі вершы. Усе яны звязаны з барацьбой нашага народа з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Пра гэта сведчаць ужо самі назвы яго кніг, якія выходзілі ў Маскве, Кіеве, Адэсе, — «Маршевая рота», «Товарищи по оружию», «Нет последних рубежей», «Гроза на рассвете», «Сосны среди поля», «От Волхова до Вены», «Солдат — всегда солдат», «Высокий Борок» і іншыя. Усяго ж напісаў 17 кніг.

## Камень кахання

Летні суботні вечар… З глыбіні мінулых гадоў ён усплывае ў маёй памяці так выразна, нібы гэта было толькі ўчора. Пасля кіно мы пайшлі па цэнтральнай вуліцы мястэчка і не заўважылі, як апынуліся ў полі. Навокал ціха шапацела калоссе. І быў палкім усхваляваны шэпт дзяўчыны… Мы доўга блукалі па вузенькіх палявых сцяжынках. А потым вярнуліся ў мястэчка. Развітваючыся, дамовіліся сустрэцца зноў. Але жыццё распарадзілася інакш. Вайна нечакана змяніла накірункі нашых шляхоў…

Яе імя захаваў я ў памяці як самую светлую згадку майго юнацтва. І зараз я пазнаў бы тую незвычайную дзяўчыну сярод тысячы іншых.

- Нестар-летапісец! Дружа!

Я азірнуўся. Непадалёк стаяў Мартын Шаліма, сябра маёй маладосці.

Я ступіў насустрач, і ён моцна мяне абняў.

- Колькі ж гадоў мы с табой не бачыліся, даоагі мой Нестар!

Голас яго па-ранейшаму быў моцны, грымлівы. І гэта забытая мною мянушка, некалі прыдуманая Мартынам, прагучала, як і раней, па-маладому задзірыста.

-Згорбіўся! Пасівеў!..

Я адмахнуўся – якое гэта мае значэнне!

- Скуль ты ўзяўся? Якім вападкам?

- Дывось захацелася паглядзець на знаёмыя мясціны, - адказаўя, сумеўшыся, бо гэта было не зусім так.

- Дзе ты зараз, як ты – раскажы!

Я збольшага распавёў сябру пра свае шляхі-дарогі.

- Дык чаму ж мы стаім! Хадзем да мяне – гэта недалёка, тут, у прыгарадным калгасе!

Збочыўшы з дарогі, мы абмінулі ўзгорак і скіравалі да хмызняку.

Адразу за ручаём узвышалася каменная агароджа. Праз расчыненыя веснічкі мы хвайшліў цяністы парк. Тут, на палянцы, што навакола зарасла густым маліннікам, ляжаў вялізны камень - абымшэлы, урослы ў зямлю.

Мартын спыніўся.

- Камень кахання – так яго называюць… - Прысеўшы на камень, Мартын дастаў пачак папярос.

- Закурым, Нестар! – строгая паважлівасць на яго твары раптам змянілася на ўсмешку. – І ўскурым, як кажуць, фіміям самай старажытнай з навук – Гісторыі! Людзі яшчэ нават і не думалі пра пісьменства, але яны ўжо ведалі Гісторыю, памяталі пра ўчарашні дзень!

Мартын адчуў сябе ў роднай стыхіі. Яшчэ студэнтам ён выказаў думку, што гісторыя – гэта зусім не застыглы, нібы вулканічная лава, а вечна гаручы матэрыял.

-Вось камень. Я сяджу на ім. Можа, таксама сядзеў тут Самазванец,чакаючы марыну Мнішак. Ты ж ведаеш,што тут гадоў чатырыста таму жылі князі Вішнявецкія. І вал, іруіны замка, і роўвакол яго– усё гэта можна разгледзець і зараз у калгасным садзе…

Пасля невялікай дыскусііаб паходжанні каменя,якая вялася ўжо па дарозе,мы пайшлі да Мартына на кватэру. Пакуль я гартаў нейкую кнігу, на стале з”явіўся графін з вішнёўкай, агуркі, памідоры ды іншае ежыва. Мы селі і выпілі па чарцы за сустрэчу,за добрае здароўе. Закусілі, і я зноў, каб разгаварыць Мартына, узгадаў пра камень.

- Добра, - сказаў ён, я распавяду гісторыю найноўшага часу. У гэтай самай школе, дзе я цяпер выкладаю, працавала да вайны настаўніцай нямецкай мовы Люцына Залеўская. Што гэта была за настаўніца! Мы, маладыя настаўнікі, забытыя Богам і людзьмі ў сваіх глухіх вёсачках, з нецярплівасцю чакалі заканчэння чвэрцяў, каб, прыехаўшы на канферэнцыю, убачыць яе, паразмаўляць з ёю …

- Скажы, - перарваў я Мартына, - Лесяй яе называлі?

- Не, яе імя Люцына. Я не памятаю, каб хто-небудзь зваў яе інакш. Але, можа, дзеля цябе яна зрабіла выключэнне і назвалася Лесяй, паколькі ў тыя гады быў ты хлопец што трэба?.. дык врсь, калі я пайшоў на вайну, яна заставалася тут. Выходзячы з гуриам салдат з акружэння, я трапіў да партызанаў. І застаўся ў іх. Не важна дзе ваяваць – абы толькі была магчымасць біць ворага!.. Калі я даведаўся, што Люцына знаходзіцца на службе ў фашыстаў, узненавідзеў яе. Узненавідзеў да пэўных дня і гадзіны, калі мне было даручана тайна перадаць ёй нейкую кадобачку з мёдам. Нянавісць саступіла месца захапленню ейнай вытрымкай і адчайнай мужнасцю.

На сустрэчу з Люцынай я прыехаў у нядзелю на кірмаш, апрануты ў звачайнага селяніна, з сякім-



такім таварам. Чакаць не давялося. Яна з"явілася амаль адразу са старой жанчынай.

Не ведаю, ці пазнала яна мяне як колішняга Мартына Шаліму… Але тое, што я – пасланы партызанамі чалавек, вызначыла адразу. Яна ласкава патрапала майго каня па загрыўку.

"Па чым бульба, гаспадар?" – уважліва паглядзела мне ў вочы.

Я назваў умоўную цану.

Паслухаўшы, як я занадта нахвальваю свой тавар, незадаволена загадала: "Добра ўжо! Хопіць задавацца! Бульбу купляем. Вязіце мяшкі да нас дамоў!"

Ах, сябра, дарагі мой Нестар-летапісец! Калі б ты бачыў Люцыну ў тыя гады! Ёсць такія дзяўчаты, якія выклікаюць усеагульнае пакланенне. Люцына была з іх ліку. Аднак я не будаваў паветраных замкаў.

Я пакінуў у Люцыны ўвесь свой тавар, у тым ліку і кадоўбак мёду з двайным дном…

Прыкладна ў той жа час немцам давала канцэрт нейкая залётная тэатральная акторка. У першым радзе калгаснага клуба сядзелі штурмбанфюрэр Кольвіц з Люцынай. Кольвіц даўно прызнаўся ёй у каханні, нават прапанаваў руку і сэрца. У цяжкім становішчы апынулася Люцына. Але яе ратавала тое, што эсэсавец больш клапаціўся пра кар"еру, чым пра каханне. Аднак ён быў гэтак зачараваны Люцынаю, што страціў галаву. Раз-пораз схіляўся да яе і нашэптваў толькі адну фразу:

"Фрэйлен Люцыя, сёння вы павінны сказаць нарэшце мне – так або не…"

Трэба было прымаць рашэнне.

"Добра, гер маёр! Я кажу вам папярэдне "так". А ле канчатковы адказ вы пачуеце заўтра апоўначы ля Каменя кахання. Толькі прашу вас, каб пра наша спатканне не ведала ні адна душа".

І вось – настала абяцанае "Заўтра". Люцына дапазна затрымалася ў камендатуры. За паўгадзіны да прызначанага часу яна выйшла са свайго пакоя і знікла ў цёмнай алеі парку. Неўзабаве ўслед за ёю падаўся і Кольвіц. Пайшоў і больш не вярнуўся. Раптоўны выбух страсянуў начную цішу. Гэта спрацавала супрацьпяхотная міна, якую ўстанавіла Люцына ля Каменя кахання. З Колбвіцам было скончана…

Мартын кінуў у папяльніцу даўно патухлую папяросу і прапанаваў выпіць за старую і новую гісторыю роднага краю.

- Што было далей з Люцынай?

- У тую ж ноч яна пайшла ў лес.

- Як жа склаўся яе лёс?

- А што? Адваявалі – і дадому..

Адчыніліся дзверы. У пакой увайшла жанчына.

- Вось і жонка. Знаёмцеся… Мой даўні сябра.

- Люцына Казіміраўна. Яна шчыра пацiснула мне руку і ўсміхнулася так, быццам толькі ўчора мы развіталіся ля нізенькай хаткі на ўскрайку мястэчка, і не было ні разлукі, ні вайны, ні доўгага верацяна гадоў. – Калі хочаце, Леся…

Я машынальна назваў сваё імя. Гэта была Леся! Яна пазнала мяне, і я таксама пазнаў яе адразу. Мартын здзіўлена глядзеў на нас абодвух.

- Мяркую, - хутка знайшоўся ён, - з такога выпадку трэба тое-сёе дадаць да стала! – і хацеў быў высці з пакоя. Але Люцына затрымала яго ў дзвярах:

- Гэта, прабач, ужо абавязак гаспадыні!

Яна заўважыла маю збянтэжанасць і вырашыла даць мне супакоіцца.

Мартын ляпгуў па плячы:

- Ну, чаго замаркоціўся? Глядзі весялей!

Я пакутліва вышукваў прычыну, каб хутчэй развітацца.

- Яна засталася такою, якою была, - прамовіў я нібы ў сне. – Ты самы шчаслівы чалавек, Мартын!

- Я ж і казаў… Але й табе грэх скардзіцца! Леся… Такое імя! Паглядзі! – Мартын узняў галаву, указваючы пальцам на сцяну за маёй спінаю. Я павярнуўся – над кніжнай шафай вісеў партрэт Лесі Украінкі.

- Люцыніна любоў! Усю вайну не развітвалася з яе кніжачкай! І вось столькі гадоў для аднаго цябе захоўвала гэта дзіўнае імя! Хацеў бы і я таксама запасці некаму ў сэрца!..

Люцына ўвайшла ў пакой з падносам, поўным закускі. З мальбою зірнуў я на Мартына: маўчы, сябра, маўчы!..

Пераклад з рускай мовы Алеся Давыдава.

## АЛЯКСЕЙ КАЎКО

Каўко Аляксей Трафімавіч нарадзіўся 28 сакавіка 1922 года ў вёсцы Міраслаўка Бярэзінскага раёна Мінскай вобласці. У 1940-1941 навучальным годзе скончыў 10 класаў Сялібскай сярэдняй школы. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны – ваяваў з фашысцкімі захопнікамі ў складзе 208-га партызанскага палка. За баявыя заслугі ўзнагароджаны ордэнамі баявога Чырвонага сцяга і Вялікай Айчыннай вайны 2 ступені, медалямі “Партызан Вялікай Айчыннай вайны 1 ступені”, “За перамогу над Германіяй у 1941-1945 гг.”

З 1944 года, пасля заканчэння курсаў партыйна-савецкага актыву ў г. Мінску – на журналісцкай рабоце. Працаваў рэдактарам Жабчыцкай райгазеты, газеты палітаддзела Лагішынскай МТС, Лунінецкай раённай газеты, уласным карэспандэнтам газеты “Заря”. З 1965 года і да выхаду на пенсію працаваў рэдактарам Іванаўскай райгазеты “Чырвоная звязда”. Завочна атрымаў вышэйшую адукацыю – скончыў ВПШ пры ЦК КПСС. За дасягненні ў працы ў 1971 годзе прысвоена званне “Заслужаны дзеяч культуры Беларусі”.

Літаратурную працу пачаў яшчэ ў час вучобы ў школе. Калі вучыўся ў 7 класе, часопіс “Іскры Ільіча” надрукаваў апавяданне “Вавёрачка”. Працягваў літаратурны занятак, працуючы ў газетах. Удзельнічаў у першай пасляваеннай рэспубліканскай нарадзе маладых пісьменнікаў. Там было абмеркавана апавяданне “Піянер”, якое друкавалася ў часопісе “Бярозка”, а потым было ўключана ў хрэстаматыю для 4 класа “Роднае слова”. За апавяданне “Васіль прыехаў” у 1952 годзе атрымаў другую прэмію на конкурсе газеты “Чырвоная змена”. Яно было ўключана і ў альманах “На сонечных сцежках”. У свой час высокую ацэнку калег-літаратараў атрымала апавяданне “Я і мая мама”, змешчанае ў часопісе “Работніца і сялянка”.

Апавяданні, гумарэскі, байкі рэгулярна на працягу ўсяго жыцця друкаваліся ў часопісах “Маладосць”, “Работніца і сялянка”, “Вожык”, “Родная прырода”, у газетах “Літаратура і Мастацтва”, “Звязда”, “Беларуская ніва”, “Чырвоная змена”, “Заря”, “Народная трыбуна” і іншых, а таксама ў калектыўных зборніках “На сонечных сцежках”, “Вожык смяецца”.

Асобнымі выданнямі выйшлі кнігі “Смех не грэх”, “Пад гоман вогнішча”. Аповесць “На крутых паваротах” друкавалася ў газеце “Заря”.



Член Саюза пісьменнікаў Беларусі, член Беларускага саюза журналістаў.

## Землякі па розныя бакі

...Пракацілася ўтую восень чутка, што грыбнікі ледзь не вазамі возяць са шчакоцкага лесу апенькі. Нацэліўся і я са сваімі сямейнікамі пашукаць шчасця. Толькі ж лес вялікі, і дзе тая грыбная мясціна — хто ведае? Узгадаў, што родам з вёскі Шчакоцк мой знаёмы Валодзя Гетманчук — эканаміст, паэт, а яшчэ і заядлы грыбнік. Хто ж, як не ён, дапаможа нам? Па тэлефоне дамовіўся, што Валодзя пакажа тую мясціну.

Стаяў цёплы верасьнёвы дзень. Па-летняму ярка свяціла сонца. Пакідаючы за сабой клубы пылу, наша легкавушка пятляла палявой дарогай у бок сінеючай грады лесу. Не агледзеліся, як дасягнулі мэты. Лес сустрэў нас ва ўсёй сваёй асенняй прыгажосці. Бярозы ўжо ўплялі ў зялёныя чупрыны жоўтыя каснікі, аздобіліся чырвонымі каралямі рабіны, у маўклівым задуменні стаялі волаты-дубы. А травяністы дол і сапраўды ўсеялі апенькі.

Даволі хутка мы напоўнілі свае кошыкі, але пакідаць лясную прыгажосць не спяшаліся: прыселі на паляне, завялі гамонку пра розную бывальшчыну. Валодзя гаворыць пра клопаты вяскоўцаў, пра сваіх бацькоў, якія хоць і на пенсіі, а ўсё яшчэ шчыруюць і ў полі, і ў агародзе. Зайшла гаворка і пра літаратуру.

- А ці ведаеш ты, Валодзя, што родам з вашай вёскі сумна вядомы літаратурны крытык , Лукаш Бэндэ?- пытаюся я.

- Чытаў, - ківае галавой Ва¬лодзя, - нават распытваў старажылаў вёскі пра яго карані, Але ніхто нічога не ведае, а можа і не хоча ведаць... Ён жа, бачыш, І прозвішча сваё перайначыў – не Бенда, якіх нямала ў вёсцы, а Бэндэ.

- А мне вось давялося бачыць яго... Было гэта летам 1947 года. У Мінску праходзіла нарада маладых пісьменнікаў. Якраз пачалося абмеркаванне твораў пачаткоўцаў, калі ў залу зайшоў кашчавы брытагаловы чалавек у камсаставаўскім галіфэ, у гімнасцёрцы без пагонаў і ў ботах. Гэта і быў Лукаш Бэндэ.

Тады, у першыя пасляваенныя гады, мы яшчэ не ўсё ведалі пра гэтага чалавека. Толькі значна пазней даведаліся, якую злавесную ролю адыграў ён у жыццёвым і творчым лёсе многіх выдатных дзеячоў нацыянальнай культуры і навукі, літаратуры і мастацтва. Як прыгадваў паэт Сяргей Грахоўскі, які перанёс усе мукі гулагаўскага пекла, ідэйны куратар і наглядчык за беларускай літаратурай Лукаш Бэндэ, у гімнасцёрцы-сталінцы, з пісталетам на папрузе, наводзіў жах на літаратараў. Працуючы ў Іституце літаратуры і мастацтва Акадэміі навук БССР, ён у канцы 20-х - пачатку 30-х гадоў мінулага стагоддзя ў сваіх крытычных нарысах імкнуўся палітычна дыскрэдытаваць многіх таленавітых пісьменнікаў, у тым ліку і нашых класікаў. Максіма Багдановіча называў выразнікам беларускай буржуазіі. Многа бруду выліў гэты «крытык» на творчасць Янкі Купалы, Якуба Коласа, Змітрака Бядулі. Яго нарысы больш за ўсё нагадвалі паклёпніцкія даносы. Пасля такой« крытыкі" нямала аўтараў аказвалася ў турэмных засценках, скончылі жыццё ў гулагаўскіх лагерах. Да замаху на самагубства быў даведзены на¬родны паэт Беларусі геніяльны Янка Купала.

І на той, згаданай мной нарадзе у Мінску уладальнік літаратурнай даўбні з непрыхаванай злосцю накінуўся на вядомых пісьменнікаў, што добрым сло¬вам падтрымалі маладога паэта. Надоўга запомніўся мне яго рыпучы голас. Праўда, у пасля сталінскі перыяд Лукаш Бэндэ адчувау сябе ў Беларусі не вельмі ўтульна, з'ехаў у Ленінград, дзе памёр у 1961 годзе.

- Што ж, бываюць і такія зем¬лякі, - задумліва гаворыць Ва¬лодзя. - Толькі людзі не вельмі ахвотна хочуць іх успамінаць...

Справядлівая выснова. У гэтым я лішні раз пераканаўся, калі гутарыў з людзьмі не толькі ў Шчакоц-

ку, а і ў іншых вёсках. Добрую памяць заслужыць трэба. Народ не забывае тых, хто пакінуў слаўны след у жыцці. Ім ставяць помнікі, іх імёнамі называюць вуліцы. У цэнтры Іванава, напрыклад, стаіць помнік выдатнаму мастаку і музыканту Напалеону Ордзе, які нарадзіўся ў вёсцы Варацэвічы амаль два стагоддзі таму. Ні адно энцыклапедычнае выданне рэспублікі па пытаннях гісторыі культуры, архітэктуры, краязнаўства, выяўленчага мастацтва не выходзіць сёння без літаграфій Орды, а яго музычныя творы і зараз гучаць у канцэртных залах.

У Дастоеве ўзведзены помнік вялікаму пісьменніку Фёдару Дастаеўскаму, продкі якога жылі ў гэтай вёсцы. Ды ці толькі дзеячам літаратуры і мастацтва такое шанаванне? Адна з вуліц сяла Махро названа ў гонар слаўнага земляка, адважнага партызанскага камандзіра ў га¬ды Вялікай Айчыннай вайны Аляксандра Самуйліка. Імя заслужанага меліяратара рэспублікі Героя Сацыялістычнай Працы Івана Паліўкі носіць саўгас у Тышкавічах.

У кожнай вёсцы вам з гонарам могуць пералічыць дастойных пахвалы землякоў. Тут і героі вайны, і выдатныя навукоўцы, і заслужаныя хлебаробы. Валодзя Гетманчук ганарыцца працалюбівымі людзьмі сваёй вёскі, дзе ён упершыню « праз халадок раллі ўзаранай адчуў цяпло сваёй зямлі”’. Цяпер ён жыве ў горадзе, але часта бывае ў родным Шчакоцку.

« Не хапае мне ў горадзе неба,  
І па неба я еду ў сяло» .

У сваёй кнізе « Заранiца» аўтар апявае прыгажосць роднага краю, яго працаўнікоў. Не абавязкова герояў, а простых, але паважаных вяскоўцаў. Жыў, напрыклад, у Шчакоцку селянін па мянушцы Лебедзь. « Не любіў ён што рабіць як-небудзь, справа абы з рук не па яму» , « быў « на ты» з пілою і сякерай» . А яшчэ ён вельмі добра спяваў народныя песні, быў жаданым госцем амаль што ў кожнай хаце:

« Бо хіба закрыеш песням дзверы?.  
Бо хіба зачыніш ім акно?..  
Ён спяваў, ён словам песні верыў:  
« За туманам гора не відно» ...  
Лес асенні чырванню пажараў  
Запаліў зялёнае лісцё.  
Зноў, здаецца, чую: « Туман ярам...»  
Кружыць песня птушкай над жыццём.  
Кожны раз у вёску еду грэбляй.  
Поўніцца ад думак галава.  
Нібыта спявае, чую, Лебедзь,  
І самому хочацца спяваць» .

Прачулыя вершы паэта пра маці, пра родную Беларусь, пра ветэранаў Вялікай Айчыннай хо¬чацца цытаваць і цытаваць. Колькі пранізліва-задушэўнай цеплыні ў гэтых, напрыклад, радках:

« Абялiскі ля палявой дарогі.  
Ля падножжа – кветкавы агонь.  
Сцежкаю з маўклiваю трывогай  
Ветеран прыходзіць да яго.  
Пастаіць маўкліва ля пагорка,  
Прыгадае ў сорак пятым май...  
А на абеліску ззяе зорка  
І яму, і тым, каго няма.  
І стаіць у змроку прадвячэрнім



З галавой пад снегам сівізны.
Быццам бы ён просіць прабачэння
У тых, што не вярнуліся з вайны».

Кожны верш паэта напоўнены любоўю да роднай старонкі, павагай да яе працавітых людзей. Шчакоцкія вяскоўцы маюць права ганарыцца сеаім земля¬ком - паэтам Уладзімірам Гетманчуком. Ну а такія, як Лукаш Бэндэ, сапраўды не варты памяці.

## ВАЛЯНЦІНА КУКСА

Валянціна Міхайлаўна Кукса нарадзілася 3 студзеня 1951 года ў в. Гнеўчыцы Іванаўскага раёна.

Бацька працаваў манцёрам сувязі рачнога транспарту Пінскага параходства. Дзяцінства прайшло на беразе Днепра-Бугскага канала.

Пераехаўшы ў Брэст, спачатку ўладкавалася на працу, а пасля ўжо паступіла ў Брэсцкае педвучылішча. Тады ж надрукавала першае апавяданне “Калінавая слёзка” у абласной газеце “Заря”. Праўда, яго пераклалі на рускую мову. Затое колькі было радасці, калі наступны празаічны твор – “Вясковыя малюнкі” – рэдакцыя змясціла на мове арыгіналу, г. зн. на беларускай. Потым – першае пасяджэнне літаратурнай серады, сустрэча з Міколам Пракаповічам, Зінаідай Дудзюк, Алесем Касю, і нейкім недасягальным тады Уладзімірам Калеснікам, які мяне заўважыў і ацаніў.

Пасля вучылішча паступіла ў Брэсцкі падінстытут на дашкольны факультэт, працавала ў дзіцячым садку. Вучылася ў аспірантуры, здала два кандыдацкіх экзамены і рыхтавалася да напісання дысертацыі, як памерла старэйшая дачушка – ад радыяцыі.

Замест дысертацыі ў 1998 годзе ў выдавецтве “Полымя” выдала дапаможнік для выхаваццеляў “Вучымся гаварыць па-беларуску “Колеры вясёлкі”. У гэты ж час у часопісе “Народная асвета”, а крыху пазней у “Пралесцы” друкавала “Заняткі па развіццю маўлення ў дзяцей дашкольнага ўзросту”.

Празаічныя творы пачала друкаваць у перыядычных выданнях з 1982 года. Апавяданні публікаваліі альманахі “Берасцейскія карані-93” (“Паляванне ў запаведніку”) і “Карані” (“Счарнелая восень”, Мінск, 1994). У невялічкім калектыўным зборніку “Чый бэз?” яго ўкладальнік Леанід Галубовіч змясціў два апавяданні – “Сцяжыначка” і “Дудачка”.

У 1999 годзе ў бібліятэчцы часопіса “Маладосць”, які да гэтага друкаваў практычна ўсе дасланыя творы, выйшла кніга прозы “І верыла ў цуд…”, а ў 2005-м у выдавецтве “Мастацкая літаратура” – кніга прозы “Кнігаўка”, а таксама кніга палемічных нататкаў “Створым прастору любові”.

Самы значны твор В. Куксы – аповесць “І верыла ў цуд…”. Як зазначыў у прадмове да аднайменнай кнігі былы рэдактар часопіса “Маладосць” Генрых Далідовіч, “…напісана яна праўдзіва, псіхалагічна заглыблена, а з гэтым і на належным мастацкім узроўні”. Галоўная гераіня твора – не проста жанчына, не проста маці. Яна – грамадзянін, патрыёт Айчыны. Яе непакоіць не толькі невылечная хвароба дачкі, але й шмат якія хваробы грамадства: грубасць, чэр-

ствасць, абмежаванасць, адсутнасць у большасці нацыянальнай свядомасці, жабрацкае становішча існага інтэлігента…

Піша таксама творы для дзяцей.

## Бабіна лета
Апавяданне

Сход скончыўся, але людзі не разыходзіліся. Пятро Іванавіч узначальваў гэты невялічкі жаночы калектыў гадоў пятнаццаць. Цякучкі ў яго не было. На вачах, як кажуць, раслі яго супрацоўніцы, гадавалі дзяцей, жанілі, станавіліся бабулямі. Да ўсіх жанчын ён быў аднолькава ўважлівы і прыветны, нікога не вылучаў. Ліда ў яго – адзіная. Вось ужо дзедам стаў, маладым дзедам – што там сорак два гады! А акрамя Ліды – цяпер яе завуць Лідзія Кандратаўна – у яго нікога не было. Жылі яны душа ў душу, што не часта бывае. Было, праўда, што злыя языкі зайдросніц-суседак спрабавалі сплесці павуціну, каб пасварыць іх.

- Ох, Іванавіч, надта ты верыш свай Лідзе. Пакажа яна табе хвост.

Але Пятро адказваў так:

- Няма ў мяне такога каўпака, пад які я пасадзіў бы сваю Ліду. І кругом жа мужчыны. Я пры ёй не ваотаўнік. Як з кім і пойдзе, то гэта не яе віна, а перш за ўсё мая. Так што глядзі, каб твайго хто не ўкраў.

Тады перакідаліся плёткамі на Пятра. Марыя, нячыстая на язык і руку, з самага рання неяк прыбегла да Ліды.

- Дзе твой Пятро?

- Яшчэ з начной не прыйшоў.

- То і не чакай. Забралі яго. П”янюсенькі ляжаў пад плотам…

- Не п”е столькі, каб валяцца. Ды яшчэ й раніцай.

… Жанчыны пачалі разыходзіцца са сходу. Нехта адчыніў акно, і з двара павеяла водарам чаромхі.

- Ох, бабачкі! Квецень якая! Вясна з лецейкам вянчаецца, - выгукнула адна з іх і стрэльнула вачыма ў Пятра.

Апусцеў чырвоны куток, дзе праходзіў сход. Пятро складаў у папку паперы, калі да яго падышла Надзея. Паўнаватая, уся ў рабацінках, яна ўсміхалася. Праменьчыкі маршчынак, танюсенькіх, як павуцінка ўсейвалі твар. Іванавіч паглядзеў на яе. Глядзеў, як заўсёды, проста, нібыта і не жанчына перад ім стаяла. Завязаў матузкі ў шапцы. Надзя глядзела на яго дужыя рукі, маўчала. Яна ведала яго сям”ю, заходзіла да іх у хату. Быў час, калі яе сын праводзіў са школьных вечароў яго дачку. Надзея ціхенька марыла пра тое, што яны парадняцца, ды лёс вырашыў інакш. Дачка Іванавіча выйшла замуж, дзіцятка ўжо нарадзілася. А Надзін сын таксама вось жаніцца надумаўся. Трэба папрасіць у Іванавіча некалькі дзён, каб справіць вяселле. Стаяла яна моўчкі, не ведала, як пачаць гаворку.

- Як твой Аркадзь? – спытаўся Іванавіч.

- Так, як і быў. Задушыў тою работаю і мяне, і дзяцей. То свіней трымаў, то цяпер на нутрый перакінуўся. Днём гарод, карміць жывёлу трэба, а ўначы шапкі шые з нутрыевых шкурак. Усё яму мала. Мой Антон жаніцца надумаў, Іванавіч. Хачу прасіць, каб ты адпусціў мяне на дні тры. Адпрацую пасля.

- Ну што табе тыя тры дні? Бяры пяць. Слухай, Надзя, ты ж маладзейшая за мяне?

- Ты ўжо дзед, а я толькі жаніць буду. Сорак мне на каляды споўнілася. Ну, то дзякуй, Іванавіч.

* * *

Праз тыдзень у Іванавіча зазваніў тэлефон.



- Слухаю. А, Надзя. Ну, як вяселле? Няхай жывуць шчасліва. Што там у цябе здарылася?

- Нешта сістэма не працуе. Мо б пад"ехаў? Званіла ў слясарню – няма ўжо нікога. Наперадзе ноч.

- Добра, пад"еду.

Адчыніў дзверы ў пакойчык да Надзеі і адразу зразумеў, што сістэма працуе выдатна, убачыў стол, засланы чыстай вышыванай сурвэткай.

- Добры вечар, - прывітаўся Іванавіч.

- Добры, - адказала Надзея. Неяк па-мацярынску паглядзела на яго. Проста і чыста. Ніякіх лішніх рухаў і слоў. Блакітны халацік з кароткімі рукавамі, неглыбокі выраз каля шыі адкрываў грудзі, тугія і высокія.

- Калі не спяшаешся, то прысядзь. Не – вазьміз сабою. – Надзя паставіла на стол бутэльку каньяку. – Ліда твая дзе?

- Да маці паехала. Хварэе цешча. Заўтра я таксама туды паеду.

- Не спяшаешся, значыць, раз заўтра туды паедзеш.

Іванавіч падумаў: "Што там рабіць дома?"

- Пасяджу трохі. Так і быць. Вясельнага пакаштую.

- Вось каўбаса, пірог, вяндліна, - гаварыла Надзя і спрытна падавала на стол. Паставіла дзве шкляначкі: адну большую, другую меншую.

- Я ведаю, што ты п"еш мала. Вось чарку-другую, дый пойдзеш.

- Ну, то няхай жывуць шчасліва твае маладыя. Бацькоў хай не забываюць.

Закусілі, разгаварыліся. Было пра што ўспомніць. Працавалі ўжо колькі гадоў разам. Надзя была па-сяброўску простая. За размовай час ляцеў хутка, а спяшацца не было куды, таму Іванавіч і не заўважыў, як у пляшцы засталося амаль што нічога.

- От як, ніколі і не падумаў бы, што ўдваіх вып"ем пляшку. А часу то ўжо… дзве гадзіны ночы. Пайду я. Надзейка.

- Іванавіч, не пакідай зла ў хаце. Давай ужо і гэтую кроплю на дваіх.

Выпілі.

- Ты ведаеш, Іванавіч, што ў цябе амаль усе жанчыны закаханыя? І я таксама. Калі ты гаворыш, ад цябе ж вачэй не адарваць.

- Ну і жартаўніца ты, Надзя. Так ужо – усе?

- Не, я не жартую, - гаварыла Надзя проста, шчыра, а вочы сумныя-сумныя. – Не бачыла я оадасці ў сваім жыцці. Але маё жыццё – маё. Каму якая справа да мяне: шчаслівая я ці няшчасная.

- Хто яго ведае, якре яно, тое шчасце. Увачавідкі яго, можа, ніхто і не бачыў. А ты не бядуй, - супакойваў Іванавіч Надзю. Якія тут словы знойдзеш, каб суцешыць?

За акном цёплая свежая ноч. Яны ўдваіх у пакоі. Іванавіч глядзеў на Надзін твар, заружавелы ад выпітага, пасля агледзеў усю яе. Дакрануўся да рукі.

- Пайду я…

Устаў, памкнуўся ступіць да дззвярэй, працягнуў руку на развітанне. Надзя працягнула абедзве. Ступіла крок уперад і абняла яго. Прытулілася галавой да грудзей. Слізганула рукамі пад кашулю і адчула яго дрыготкае напружанае цела. Правяла далонямі па спіне. Ён скалануўся ўвесь, сцішыўся. Раптоўна закалацілася сэрца, ды так моцна, што залажыла вушы. Ціхенька зазвінела ў галаве. У гэты маленькі пакойчык нібы ўварвалася завіруха з чаромхавага водару, закружыла, адабрала розум, захапіла пачуццямі, якія яны не думалі спазнаць. Ён прыціснуў яе да сябе, моцна пацалаваў у вусны. Яна адштурхнула яго.

- Надзя! Ой, Надзейка! Што ты са мною робіш? – прастагнаў Пятро.

Правёў па гузіках халата, і той лёгка расхінуўся.

Грудзі! Якія ў яе грудзі!

…Зняможаныя, ляжалі яны на падлозе. “Адкуль тут пасцель?” – падумаў Пятро.

- Зімой на канапе прылягаю, а ўлетку на падлозе. Не так горача, - нібыта ўгадала, пра што ён думае, Надзя.

Ён засаромеўся свайго голага цела, але Надзя, зноў угадаўшы яго думкі, прыціснулася да яго сваім п”янкім целам. Цалавала вусны, шыю, грудзі. Правяла рукой па жываце… У Пятра зноў закалацілася сэрца. Яшчэ мацней, чым першы раз…

- Надзейка, я думаў, што я святы. Значыць, няма святых.

- Ці яны трэба, Пятро? Я ж цябе не забіраю. Жыві, як жыў.

Вільготнымі вачыма паглядзела на яго, ціхенька сказала:

-А я вось зведала, нарэшце, што такое бабіна шчасце… Дзякуй табе. Не грэх гэта. Не…

Золкі ранак заглядаў у акенца. Пятро падзівіваўся, як хутка апранулася Надзя. Стала зноў звыклая і будзёная. Нібыта і не было нічога. Зашпіліў апошні гузік і не ведаў, што сказаць.

- Ты ідзі. Лічы, што сон табе прысніўся, - проста сказала Надзя. Так проста зачаравала і яшчэ прасцей зняла тыя чары.

Надыходзіла лета. А да бабінага было яшчэ далёка.

## ВАЛЕРЫЙ КУХАРЧУК

Кухарчук Валерый Анатольевіч нарадзіўся 23 чэрвеня 1961 года ў пасёлку Індустрыяльны Нурынскага раёна Карагандзінскай вобласці Казахстана, куды бацькі па пуцёўцы камсамола паехалі на асваенне цалінных зямель. Беларус. Дзяцінства прайшло ў вёсцы Ляхавічы Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці.

Служыў у арміі. Закончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Член Беларускага саюза журналістаў. У 2006 годзе прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі.

Першая нізка вершаў Валерыя Кухарчука была надрукавана ў Іванаўскай раённай газеце “Чырвоная звязда”, калі юны аўтар яшчэ вучыўся ў гарадской сярэдняй школе №2. Гэта паўплывала на выбар будучай прафесіі. У 1979 годзе яго, нядаўняга дзесяцікласніка, запрасілі на штатную працу ў мясцовую “раёнку”, дзе пазней асвоіў усе пасады: ад карэспандэнта да намесніка рэдактара.

Журналісцкая дзейнасць не шкодзіла яго станаўленню і як паэта, літаратара. Гэтаму спрыялі пастаянныя творчыя кантакты з больш сталымі пісьменнікамі, актыўная работа ў мясцовай літаратурнай сябрыне “Ясельда”, цеснае супрацоўніцтва з многімі перыядычнымі выданнямі рэспублікі. Двойчы быў удзельнікам семінараў творчай моладзі ў Каралішчавічах і Іслачы.

Вершы, апавяданні Валерыя Кухарчука друкаваліся і друкуюцца на старонках абласных газет “Заря”, “Народная трыбуна”, рэспубліканскіх “Чырвоная змена”, “Звязда”, “Белорусская нива”, “Настаўніцкая газета”, штотыднёвіка “Літаратура і Мастацтва”, часопісаў “Першацвет” і “Маладосць”, літаратурнага альманаха “Гоман”, гучалі па абласным і рэспубліканскім радыё і тэлебачанні, перакладзены на рускую (калектыўны зборнік “Белой вежи свет”) і украінскую мовы (любяшоўская газета “Нове життя”). Творы змешчаны так-



сама ўкалектыўных зборніках “Дзень паэзіі”, “Анталогія беларускай пародыі”, “Берасцейскія карані”, “Дзядзінец”, “Добрыя словы кажыце”, “З калядным падарункам”.

Зараз Валерый Кухарчук жыве ў горадзе Іванава на Брэстчыне. Ён – бацька трох дачок і сына. Узначальвае Іванаўскае літаратурнае аб’яднанне “Ясельда”. Аўтар кніг паэзіі “Снежаньскі гром” і “Галактыка верлібра”. Падрыхтаваў да друку зборнік дзіцячай прозы “Каратысты мышак не баяцца. Сямейныя чытанкі”. А на рабочым стале пісьменніка даводзіцца да ладу новая кніжка вершаў “Вясёлка ў тумане”.

***

Напраcткі
праз Вербную нядзелю
я дайду
да ўваскрашэння сноў
пра святую веру і надзею,
пра любоў.
І Хрыста
няскораныя лікі
з абразоў
паўстануць уначы.
І малітва
за народ вялікі
прагучыць.
Наўздагон
апошняе надзеі,
на спачын
знясіленай душы
воску аблачынка палымнее.
Памаўчым...

## АНДРЭЙ МАЗЬКО

Мазько Андрэй Іванавіч нарадзіўся 20 сакавіка 1955 года ў в. Упірава. Тут хадзіў у школу, разам з аднагодкамі да драбніц даследавалі Мотальскае возера і лёгкаплынную Ясельду, слухаў вершы дзеда Каляскі як нейкі дзівосны, казачны дадатак да шумлівых пасядзелак былых партызан.

Сямейныя трагедыі прывялі яго спачатку ў Гарадзецкую школу-інтэрнат, што на Кобрыншчыне, затым у Жабінкаўскую школу-інтэрнат. Сярэднюю адукацыю атрымліваў у вядомай тады на Берасцейшчыне агульнаадукацыйнай політэхнічнай працоўнай школе-інтэрнаце г. Пружаны.

Тады ж, у школьныя гады, адкрыліся таямніцы паэзіі, разуменне таго, што вартасць чалавека вымяраецца станам яго душы.

У 1972 годзе, пасля заканчэння школы, паступіў у Беларускі інстытут ме-

ханізацыі сельскай гаспадаркі (г. Мінск), вытворчую практыку праходзіў у Чэхаславакіі. Потым скончыў на выдатна і аспірантуру, а ў 1996 годзе – яшчэ й Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь.

Працаваў галоўным інжынерам калгаса “Кастрычнік”, загадчыкам арганізацыйнага аддзела райкама партыі, загадчыкам аддзела па эканоміцы і рыначных адносінах, начальнікам упраўлення жыллёва-камунальнай гаспадаркі, будаўніцтва і архітэктуры Іванаўскага райвыканкама. Зараз – намеснік старшыні Лунінецкага райвыканкама.

Першыя вялікія паэтычныя падборкі з’явіліся ў другой палове 90-х у газетах “Чырвоная змена” і “Заря”.

Творы публікаваліся ў штотыднёвіку “Літаратура і Мастацтва”, газетах “Народная трыбуна”, “Брестский курьер”, “Народная газета”, часопісах “Беларусь”, “Родная прырода”, “Вожык”, “Крыніца”, “Маладосць”, “Полымя”. Выдаў зборнікі вершаў “Жывы калодзеж”, “Дні і ночы мае”, з’яўляецца адным з аўтараў калектыўных зборнікаў “Дзядзінец. Паэзія Берасцейшчыны”, “Добрыя словы кажыце”.

**На месцы магілы**
**Напалеона Орды**

Ці было гэта помстай, ці карай,
Ці сівой рытуальнасцю ўсё ж...
Яго косці святою ахвярай
Кінуў лёс пад бульдозерны нож...
І магілу яго зруйнавалі
Не гады – чалавек-ліхадзей.
Прах ягоны ў светлыя далі
Вецер вольны панёс ад людзей.
Мо вітае над лесам, над полем
І прытулку шукае свайго...
Бач, сасна з пакалечаным голлем
Зноўку моліць святых за яго.
Мабыць, быў сапраўды ён Вялікі –
І тварыў, і грашыў ад душы.
Суравеюць апосталаў лікі,
І малітва гучыць у цішы...

ВАСІЛЬ ЖУШМА

Жушма Васіль Пятровіч нарадзіўся 16 мая 1952 года ў вёсцы Хамічава Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці.

Закончыў Хамічаўскую васьмігадовую, Махроўскую сярэднюю школы, факультэт фізічнага выхавання Брэсцкага педінстытута, аддзяленне журналістыкі Мінскай вышэйшай партыйнай школы.



Работу ў прэсе пачынаў няштатным карэспандэнтам абласной газеты “Заря”, Іванаўскай раённай газеты “Чырвоная звязда”, рэспубліканскіх газет “Физкультурник Беларуси” і “Знамя юности”. З 1978 года – супрацоўнік газеты “Чырвоная звязда”. Аўтар зборніка “Папараць-кветка”. Аповесць “Гарэза”, цыкл апавяданняў, рэцэнзіі на кнігі беларускіх пісьменнікаў апублікаваны ў часопісах “Маладосць” і “Першацвет”, газеце “Літаратура і мастацтва”, абласных і рэспубліканскіх газетах. Лаўрэат дзяржаўнай літаратурнай стыпендыі за 2004 год. Творы на працягу некалькіх гадоў змяшчаюцца ў школьным падручніку “Роднае слова”. Нарыс “Як “папялушка” стала “прынцэсай” прызнаны лепшым у рэспубліканскім конкурсе сярод твораў на экалагічную тэматыку. Лаўрэат многіх рэспубліканскіх і міжнароднага фотаконкурсаў, аўтар персанальных фотавыставаў у Брэсце, Пінску, Іванаве, пераможца фота-інфармацыйнага конкурсу, прысвечанага Алімпіядзе ў Маскве. Член Саюза пісьменнікаў Беларусі, Беларускага саюза журналістаў. Нарыс пра Васіля Жушму пад загалоўкам “Гарэза” Васіля Жушмы” апублікаваны ў кнізе Уладзіміра Саламахі “Сусвет дабрыні” (Мінск, “Мастацкая літаратура”, 2005).

## Скарбы кастрычніцкага лесу

Кастрычнік. Месяц лісцёвых завей, халодных, нудных і дробных дажджоў. Ён крануў жоўтай фарбаю бярозавыя сукенкі, дабавіў чырвані ў адзенне клёнаў і асін, сінечу ў ваду азёр.

Калі ж вецер разгоніць цяжкія хмары, а сонца высвеціць усю квяцістасць восені, неба здаецца высокім-высокім, сінім-сінім. Тады ў ціхай вадзе, нібы ў гіганцкім люстэрку, адбіваюцца зусім бязважкія аблачынкі, што спяшаюцца некуды ўдалячынь. Здаецца, яны імкнуцца збегчы ад няўмольнай зімы. У такія дні ў бездані неба праплываюць апошнія касякі гусей, жураваў, таропкімі чародкамі спяшаюцца ў вырай кулікі, чайкі, дразды.

У лясных маладняках высыпалі познія асеннія грыбы – зялёнкі ды падзялёнкі. Доўга чакалі яны сваёй чаргі і толькі ў кастрычніку паказалі з-пад моху ці тоўстага пласта ігліцы прыгожыя шапачкі.

Сёння нядзеля. Выхадны. Таму з самага ранку, як толькі пачало святлець неба, вяскоўцам не спіцца. То там, то тут стукаюць дзверы. Людзі рыхтуюцца да паходу ў лес.

-Сцяпан!- чуваць на суседнім двары. – Ты па зялёнкі сёння пойдзеш ці паедзеш?

-І не адзін, - гучыць адказ. – З горада дачка з зяцем прыехалі. Разам на матацыкле махнём.

-А я ўчора за Асмоляй была, - даносіцца ад другога суседа. – Зялёнак да падзялёнак там – касой касі.

-А мы з унукам на Завышша пададзімся. Там іх таксама хапае.

У кожнага свае любімыя мясціны. І вось, хто пешшу, хто на матацыкле або машыне, а хто і на веласіпедзе спяшаюцца мае аднавяскоўцы ў лес, на “свае” паляначкі, у маладнячкі.

Тут важна не праспаць. А то больш раннія пройдуць, пазбіраюць самыя прыгожыя грыбы. Але і то не бяда. Іх тут яшчэ шмат. Засталіся тыя, што ўмела замаскіраваліся. Каб угледзець іх шапачкі, што ледзь-ледзь відаць з-пад моху, трэба добра прыглядацца, а галоўнае – не спяшацца.

-Го-го-го-о-о! – то там, то тут чуваць галасы. У такіх лясах, ды яшчэ на золку, можна лёгка і рызысціся. Вось і пераклікаюцца людзі. Гуртам весялей. Асабліва любяць перагуквацца дзеці, паслухаць, як носіцца па барах ды гушчарах, адбіваючыся ад дрэў, няўлоўнае рэха.

Дахаты ўсе ідуць з поўнымі, пад самыя дужкі, кашамі.

-От, Верачка, і цяжэнны ж у мяне кош скардзіцца сяброўка сяброўцы. – Здаецца, у лесе, калі збіраеш, і вагі не адчуваеш. Усё больш нарэзаць хочацца. А цяпер – хоць адсыпай.

-Вось дзякую, сыночак, - з палёгкай уздыхаюць, калі нехта маладзейшы нагоніць з веласіпедам і забярэ кашы, каб падвезці.

-А я сёння два баравічкі знайшла. – хваліцца равесніцам суседка-першакласніца. – Такія прыгожанькія!

Знаходка ў гэтую пару сапраўды рэдкая. Не любяць баравікі халодных кастрычніцкіх начэй. Калі і паяўляюцца на свет, то ў самых лепшых мясцінах. Але затое чыстыя, крэпкія.

Пад вечар у вёсцы натужліва скрыпяць калодзежы. Грэецца вада для марынавання зялёнак. А чысцяць іх звычайна ўсёй сям'ёю, пасеўшы цесным колам ля кашоў. Жарты, смех, успаміны пра цікавыя лясныя сустрэчы. А яны нярэдкія. То зайчык з-пад ног успуджана выскачыць. То вавёрачка на высокай сасне зацокае. А іншы раз нават прыгажунь казуль ці магутных ласёў сустрэць можна. Ёсць яны яшчэ ў старажытным Завышанскім лесе.

Так звычайна працягваецца да таго часу, пакуль начныя замаразкі не прыхопяць зямлю, і грыбы паступова знікаюць. Затое на паліцах склепаў і кладовак пацеюць цэлыя батарэі слоікаў з марынаванымі або салёнымі дарамі лесу.



# ІВАЦЭВІЦКІ РАЁН

Івацэвіччыну найперш ведаюць у свеце як месца нараджэння выдатнага беларуса, ганаровага грамадзяніна Францыі, нацыянальнага героя Злучаных Штатаў Амерыкі, Польшчы і Беларусі Андрэя Тадэвуша Бенавентура Касцюшкі. Гэты край увайшоў таксама ў жыццёвы і творчы лёс многіх літаратараў, якія ў большай ці меншай ступені праславілі яго.

Пяць гадоў, з 1879 па 1884, працаваў настаўнікам у мястэчку Косава вядомы пісьменнік Кандрат Лейка (1860–1921). Даследчыкі мяркуюць, што менавіта тут пачалася яго літаратурная творчасць – былі напісаны першыя вершы на беларускай мове. Некаторыя з іх датаваны 1883 годам. Сёння яны, аднак, недаступны шырокаму колу чытачоў. У сувязі з хваробай урачы рэкамендавалі Кандрату Тодаравічу змяніць клімат на больш сухі. У 1884 годзе ён пакінуў Берасцейшчыну і пераехаў на Украіну, на Харкаўшчыну, дзе пражыў большую частку жыцця.

Косаўшчына з’яўляецца радзімай фальклармста, гісторыка, члена Віленскай археалагічнай камісіі, доктара медыцыны Міхала Гамаліцкага (1791–1861, родам з вёскі Бялавічы) і польскага паэта, празаіка, драматурга, публіцыста, перакладчыка Багдана Драздоўскага (нар. у 1931 г. у Косаве, з 1949 г. жыве ў Польшчы).

З Косаўшчынай цесна звязана рэвалюцыйна-падпольная дзейнасць Піліпа Пестрака, ураджэнца вёскі Сакоўцы, які прыйшоў у беларускую літаратуру як пясняр заходнебеларускіх барыкад, заняў у ёй адметнае месца як паэт і празаік. Невыпадкова Івацэвіцкая раённая бібліятэка з гонарам носіць імя пісьменніка-земляка.

На Івацэвіччыне ўперыяд Заходняй Беларусі, калі ўрад Польшчы для “павышэння” адукацыі і культуры мясцовага насельніцтва адкрываў польскамоўныя школы, прысылаў сваіх настаўнікаў, апынулася вядомая польская пісьменніца Вераніка Трапачынская-Агарак (1908–1957). У 1927 годзе (па іншых звестках у 1925 г.) яна была накіравана на пасаду настаўніцы Магіліцкай школы Баранавіцкага павета (цяпер тэрыторыя Івацэвіцкага раёна). Адсюль адзін з псеўданімаў пісьменніцы – Крыстка з Магіліцы. Былы вучань В. Трапачынскай-Агарак Фама Іванавіч Падгорны расказвае: “Памятаю, як у нашай вёсцы Магіліцы ў 1923 годзе была адкрыта школка. Яна размясцілася ў невялічкай хатцы насупраць могілак. У школе жыў і вучыў настаўнік Якубоўскі, родам з Дзятлава. Праз два гады, у 1925 годзе, яго замяніла Вераніка Трапачынская. Яна ў нас працавала чатыры гады. Вучылі ўсё на польскай мове. Займаліся ў дзве змены. Дзяцей тады ў вёсцы было многа.

Вераніка Трапачынская была добраю настаўніцай, добрым чалавекам, але што мне найбольш запомнілася – гэта яе малюнкі. Яна была выдатным мастаком, хадзіла з дзецьмі на Шчару і там на прыродзе малявала і нас вучыла. Памятаю, у яе пакойчыку пры школе вісела карціна “Ноч і дзень”. Ноч – чорны конь імчыцца, толькі іскры ляцяць з-пад капытаў, дзень – белы конь. Яны даганяюць адзін аднаго. Гэту карціну яна малявала сама”.

Тыя, каго вучыла В. Трапачынская-Агарак – Ф.І. Падгорны, Я.А. Гягеня, А.Ф. Гарбач і іншыя, з радасцю ўспаміналі і ўспамінаюць пра любімую настаўніцу. Усе прадметы яна выкладала па-польску, аднак далучылася да прагрэсіўнага гуртка беларускай моладзі, займалася арганізацыяй мастацкай самадзейнасці ў вёсцы, па-чалавечы спачувала беларусам, разумела іх становішча і апраўдвала нацыянальна-вызваленчы рух нашага народа.

Жыццё ў Магіліцы дало пісьменніцы багаты матэрыял для твораў. Найбольш значнымі з іх з'яўляюцца аўтабіяграфічны раман "Лясныя Долы" (1954), за які В. Трапачынская-Агарак атрымала Дзяржаўную прэмію, і гістарычная аповесць "Салдаты Касцюшкі" (1952–1956). Першы з названых твораў – раман Лясныя Долы – у 1958 годзе пераклаў на беларускую мову Максім Лужанін. Лясныя Долы – гэта вёска, у якой настаўнічае гераіня рамана Браніслава Пятроўская. Па апісаннях вёска ў многім нагадвае Магіліцы, а маладая настаўніца – самую аўтарку. Цалкам супадаюць ці сугучны з сапраўднымі і геаграфічныя назвы, што сустракаюцца ў рамане: вёска Чамялоў – Чатыркі, Даманава – Долнава, Мілавіды – Малахвеі, Дабрынёва – Дабрычнёва, маёнткі Рэгінова – Ратулы, Рудня – Рандзіны, рэчкі Шчара, Грыўда і інш.

Прататыпамі герояў твора ў асноўным з'яўляюцца жыхары Магіліцы і былыя вучні В. Трапачынскай-Агарак. Многім з іх пакінуты сапраўдныя прозвішчы: Падгорны, Гарбач і інш. Нашы землякі падкрэсліваюць, што пісьменніца дакладная ў стварэнні іх партрэтаў і характараў.

У рамане В. Трапачынскай-Агарак "Лясныя Долы" таксама ўпамінаюцца Варанцовы, якія жылі ў Югаліне. Адзначым, што Варанцовы-Вельямінавы – гэта нашчадкі Аляксандра Пушкіна (1799–1837). Тут, у вёсцы Югалін Івацэвіцкага раёна, у 1926 годзе нарадзіўся прапраўнук А.С. Пушкіна Георгій. У 1939 годзе сям'я была выселена ў Казахстан. Ад былой югалінскай сядзібы да нашых дзён захаваўся толькі стары парк.

У 1939 годзе бываў у Івацэвічах вядомы рускі паэт Аляксандр Твардоўскі. Яго – тады карэспандэнта армейскай газеты "Часовой Родины" – прыводзілі ў горад газетныя справы. Дзяўчаты з Івацэвіч перадалі паэту прыпеўкі, якія ён пераклаў на рускую мову і ўключыў у зборнік "Франтавыя вершы" (Брэст, 1939).

Свой крывавы след на Івацэвіччыне пакінула Вялікая Айчынная вайна. "Вогненнымі вёскамі" у краі сталі Вяда, Бабровічы, Зацішша, Зыбайлы, Красніца, Тупічыцы. Відавочна, што Алесь Адамовіч, Янка Брыль і Уладзімір Калеснік, працуючы над дакументальнай кнігай "Я з вогненнай вёскі", не маглі пакінуць па-за увагай гэты рэгіён. Першы раздзел кнігі "Барбарка" якраз і напісаны са слоў Барбары Адамаўны Слесарчук – жыхаркі Івацэвіцкага раёна.

Сёння нямногім вядома імя партызанскага паэта Віктара Галаднова (1926–1944, ураджэнец Краснадарскага краю). У 1943 годзе ён разам з бацькамі апынуўся ў мястэчку Быцень, дзе далучыўся да падпольнай барацьбы супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У партызанскіх выданнях пад псеўданімам Ёрш друкаваў свае творы. Напісанае – вершы і нават аповесць – малады аўтар занатоўваў у тоўсты чорны сшытак, які быў канфіскаваны ў час арышту і знік у гестапаўскім засценку. Васемнаццацігадовы паэт В. Галаднош быў расстра-



ляны ў 1944 годзе на ўскраіне Слоніма. Захаваліся толькі два яго паэтычныя творы “Погорье” і “Свидание утром”, якія, дзякуючы клопатам М. Грынчыка, змешчаны ў кнізе “Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Івацэвіцкага раёна” (Мн., 1997. С. 236–237).

Праз Івацэвічы пралеглі ваенныя дарогі беларускага паэта Алеся Зарыцкага (1911–1987). Пазней ён напісаў верш “Спатканне ў Івацэвічах”, у якім ёсць наступныя радкі:

Сяголета ў дзень лістападны
Капрызны лёс, вайсковы лёс,
Мяне па справах неадкладных
Да Івацэвічаў занёс...

Адразу пасля Вялікай Айчыннай вайны, у 1945–1946 гг., настаўнікам сярэдняй школы ў Івацэвічах працаваў крытык, літаратуразнавец Антон Семяновіч (нар. у 1917 годзе).

У пасляваенны перыяд з Івацэвіцкага раёна прыйшлі ў літаратуру і пакінулі ў ёй прыкметны след Яраслаў Пархута, Сцяпан Крываль, Аляксей Майсейчык. Любоўю да роднай зямлі, бацькоўскай хаты заўсёды поўнілася сэрца Міколы Грынчыка. Яго дом у Быцені часта наведвалі многія мастакі слова, у тым ліку Уладзімір Караткевіч (1930–1984).

Сярод пісьменнікаў, якія асабліва часта бывалі на Івацэвіччыне, варта назваць Міколу Купрэева (1937–2004). Нарадзіўся ён у вёсцы Ямнае Рагачоўскага раёна Гомельскай вобласці, аднак пасля Вялікай Айчыннай вайны сям’я пераехала на Берасцейшчыну, у Івацэвічы. Тут М. Купрэеў закончыў дзесяцігодку (1957), адсюль падаўся ў самастойнае жыццё, але не раз вяртаўся да бацькі і сястры Валянціны, да шматлікіх сяброў і знаёмых. Мікола Сымонавіч быў частым госцем Івацэвіцкай цэнтральнай бібліятэкі, ніколі не абмінаў рэдакцыю раённай газеты “Кастрычнік” (цяпер “Івацэвіцкі веснік”), у якой не толькі друкаваў свае творы, але і некаторы час працаваў. Неаднойчы М. Купрэеў наведваў свайго настаўніка рускай мовы і літаратуры па Івацэвіцкай сярэдняй школе Якава Дзмітрыевіча Янчанку, які шмат гадоў жыў у Косаве. Ім, захопленым літаратурай, было пра што пагаварыць, што абмеркаваць. Так склалася, што свой апошні прытулак Мікола Купрэеў знайшоў таксама на Івацэвіцкай зямлі. Пахаваны паэт на могілках у вёсцы Міхнавічы.

Сучасную літаратуру краю цяжка ўявіць без творчасці Уладзіміра Мароза, Аляксея Белага, Міколы Папекі, Віктара Слінко. Актыўна і плённа працуюць В. Гапееў, М.Гаравая, С. Кухарчук, В. Рэчыц, В. Вашэка, Я. Янчанка, П. - Валінскі, І. Белы, В. Пагуда і інш. Іх творы часта друкуюцца ў раённай газеце, літаратурная старонка якой мае назву “Узлёт”. Паспяховага ўзлёту хочацца пажадаць усім пісьменнікам гэтага рэгіёна.

## ПІЛІП ПЕСТРАК

Тая хатка заўсёды стаіць перад вачыма, хоць яе ўжо даўно няма. Яна была не толькі старая, бо адразу будавалася з старога бярвення, але і на дзіва

малая. Цяпер, з перспектывы часу, дзівуешся, як магло мясціцца, жыць у ёй адзінаццаць душ сям'і. Але неяк жылося – вядома, больш з бядою. Вось у такой хатцы са сляпымі вокнамі давялося з'явіцца на свет і мне – і якраз у марозную ноч – 14 лістапада ст. стылю (27 па новаму) 1903 года.

Памяць сягае недзе да пятага года свайго жыцця, калі бацька мой служыў на чыгунцы на станцыі Масты, недалёка ад Гродна, і разам з ім жылі і мы – маці і дзеці...

Пражылі мы ў Мастах тры гады і потым вярнуліся ў сваю родную вёску Сакоўцы – тады Гродзенскай губерні, Слонімскага павета, Косаўскай воласці, а цяпер Брэсцкай вобласці, Івацэвіцкага раёна.

Ад роднай вёскі да Слонімскага шляху пралягала і цяпер пралягае палявая дарога. Гэта – дарога маіх школьных год. Нешта каля трох вёрст трэба было хадзіць па ёй аж за шлях у школу, якая стаяла ў полі, недалёка ад рэчкі, – адна – з хлявом і агародам. Кіламетр ад школы – сяло Бусяж... З ім звязана нямала прыгожага, радаснага. Тут адбываліся фэсты з шумлівымі кірмашамі, над якімі пахла яблыкамі, грушамі, і прад вачыма шумелі натоўпы дзяўчат, жанчын у святочных уборах. Многа тады радасці было на тварах людзей, фыркалі коні, дзядзькі курылі люлькі, хлопцы з дзяўчатамі ішлі пад гармонік. У Бусяжы жыў наш настаўнік, і мы, ужо старшакласнікі, бывалі ў яго ў гасціне.

Усё гэта найпрыемнейшыя ўспаміны з тых год, калі давялося скончыць у Бусяжскай школе пяць класаў. Школа была зрэфармавана з царкоўнапрыходскай у "2-класнае Мін.Нар.Асветы вучылішча". У адным класе было тры аддзяленні, у другім – два. У апошнім, пятым, аддзяленні вывучалася ўжо алгебра.

У 1915 годзе атрымаў "свидетельство" аб сканчэнні школы, а з ім ужо давялося пакінуць вёску і, як гаворыцца ў Гогаля, "і ўсё і ўсё...". Вайна выгнала нас з радзімы, і нашы вёскі рушылі на сваіх коніках з будамі на ўсход. Позняй восенню нас у Бабруйску пагрузілі ў таварныя вагоны (цяплушкі), і праз месяца паўтара мы спыніліся ў самарскіх пушыстых снягах. Гэта была станцыя "Богатое", пры ёй сяло Паўлаўка, дзе давялося адбываць двухтыднёвы каранцін. А потым на санях-розвальнях завезлі нас рускія барадатыя сяляне за дваццаць вёрст таксама ў вялікае сяло Максімаўку, Самарскай губерні, Бузулукскага павета, а цяпер Куйбышаўскай вобласці, Багатаўскага раёна.

Добра было апынуцца ўсценах такой жа, як у Бусяжы, школе, у яе апошнім класе, і правучыцца ў ім яшчэ раз, бо іншага выхаду не знайшлося. А потым, праз год, быў адкрыты яшчэ адзін – вышэйшы клас. Пасля сканчэння школы працаваў у крэдытовым таварыстве памочнікам рахункавода.

Працуючы пасля крэдытовага таварыства ў прадуктовым аддзеле валаснога праўлення, многа рабіў па перапісу гаспадарак, ходзячы з хаты ў хату. Недзе ў жніўні 1918 года скончыў бібліятэчныя курсы, пасля чаго паехаў у Бузулук і паступіў у гімназію. Правучыўся год – гімназію закрылі з выпадку эпідэміі тыфусу. Праца ў Максімаўцы ў валасным выканкоме памочнікам бухгалтара. Вучоба на рабфаку, ва універсітэце ў Самары, на сацыяльна-гістарычным факультэце (эканамічнае аддзяленне).

У пачатку зімы 1921 года рушылі ехаць дахаты ў Заходнюю Беларусь, бо



на Паволжы выбухнуў голад, а нас, бежанцаў, адправілі на радзіму.

Вярнуліся ў голад, сцюжу, смерць – у вялікае бяздолле. На працягу двух тыдняў паміраюць бацька, сястра і брат. Я таксама ледзь выратаваўся ад тыфусу. Стаўшы на ногі, пайшоў на лесапільны завод грузіць бярвенні.

Пачалася новая цяжкая паласа жыцця. Лесапільны завод. Праца лесарубам. І на зямлі дома. 1922–1923 гады служыў леснікам у купцоў-лесапрамыслоўцаў пад Слонімам. Жыў у лесніко ўскай хаце ў лесе. У 1924 годзе пайшоў на ваенную службу, у цяжкую артылерыю. Там скончыў падафіцэрскую школу і вярнуўся з войска ў чыне капрала.

Пасля звароту з арміі – новы перыяд у жыцці. Быў 1926 год. Стваралася Грамада, якая потым на працягу года, як вядома, вырасла ў магутную арганізацыю, налічвала сто тысяч членаў. Называлася яна "Беларуская сялянска-работніцкая Грамада".

Увосень 1926 года я ўступіў у Камуністычную партыю Заходняй Беларусі, якая працавала ў падполлі, праследавалася польскай буржуазнай уладай. Хутка пасля ўступлення ў КПЗБ стаў членам павятовага камітэта Грамады ў нашым мястэчку Косава...

Праца ў камітэце Грамады стала для мяне вялікай аддушынай пасля пусткі і смутку ва ўмовах прыгнёту.

3 лютага 1927 года ў нашым Косаве адбылася камуністычная масавая дэманстрацыя... Пры разгоне дэманстрацыі наш камітэт быў арыштаваны. Гэта быў мой першы паход у турму. Спярша ў Пружаны, а потым перапраўка ў Гродна. З таго часу ўсё жыццё аж да вызвалення (1939 г.) запоўнена было працаю ў падполлі, арыштамі і турмамі. Адзіным самым большым перапынкам паміж прабываннем у турме былі другая палавіна 1927 года і ўвесь 1928 год, бо другі арышт адбыўся 14 студзеня 1929 года. У гэтым "вялікім" перапынку давялося быць і сакратаром падпольнага раённага камітэта партыі, адначасова працаваў сакратаром акруговай управы Таварыства беларускай школы ў Косаве. Так называлася масавая культурная арганізацыя, якая пасля ліквідацыі Грамады захоўвала яшчэ пэўныя пазіцыі для легальнай працы ў народзе. Працуючы ў гэтай управе, зрабіў пачынанні ў справе стварэння беларускага спажывецкага кааператыву ў Косаве.

Другі арышт прывёў да суда. Выязная сесія Гродзенскага акруговага суда ў Косаве засудзіла на тры гады турмы. Апеляцыйны суд дадаў яшчэ два. Так і давялося прабыць у Гродзенскай турме да 14 верасня 1933 года.

Па выхадзе – зноў праца ў падполлі, нават без адпачынку. Недзе ў лістападзе 1933 года Слонімскім акруговым камітэтам КПЗБ быў пасланы ў ЦК КПЗБ у Варшаву, адкуль у якасці інструктара паехаў у Пінскую акругу для працы. Там удалося папрацаваць да сакавіка 1934 года. Быў арыштаваны ў Пінску па правакацыі. Прабыў пад следствам у пінскай турме да восені 1935 года, пакуль не адвезлі мяне ў Вільню на суд. Гэта быў суд над беларускай інтэлігенцыяй. Там я сустрэўся з Валянцінам Таўлаем, з Пятром Радзюком – рэдактарам беларускага часопіса гумару і сатыры "Асва" і іншымі нашымі культурнымі дзеячамі. На гэтым судзе далі, як панесці: засудзілі на шэсць год. А за

выступленне з апошнім словам апеляцыйны суд дадаў яшчэ два гады. Добра, што хутка надышла амністыя, і два гады зляцелі. Год пражыў у віленскай турме "Лукішкі". Там упершыню ў нелегальным нашым часопісе "Краты" быў надрукаваны, вядома, ад рукі, мой верш "Паэзія", "напісаны" ў памяці на этапных дарогах. (У пінскай турме не было паперы і нават кніг).

З "Лукішак" у 1936 годзе ў вялікім транспарце палітзняволеных прыехаў у гродзенскую турму, адкуль ужо не вывозілі нікуды аж да 22 верасня 1939 года, – гэта значыць, да вызвалення.

Апошнія гады турмы, пачынаючы ад 1934–1935 гг., былі вельмі цяжкімі. Гэта гады ўвядзення ў турмах фашысцкага рэгламенту. Што гэта азначала? Абмежаванне прагулкі да 15-10 мінут, абмежаванне пасылак з дому, пазбаўленне магчымасці карыстацца палітычнай і мастацкай літаратурай, не толькі рускай, беларускай, але і польскай, абмежаванне перапіскі з раднёю, пазбаўленне газет, пісьмовых прылад, турэмная вопратка, катаванні ў карцэрах, звядзенне медыцынскай абслугі да рэшты, замуроўванне вокан да палавіны і навешванне на іх бляшаных чахлоў, хамскія, разбойніцкія адносіны, кары абы за што, вобыскі не толькі ўдзень, але і начамі, недапушчэнне сустрэч з раднёю, холад зімою ў дзіночках і г.д.

...Пасля стабілізацыі ўлады на выбарах у Народны сход Заходняй Беларусі і я быў абраны дэпутатам. Сход сабраўся ў Беластоку. Там была вылучана паўнамоцная камісія на сесію Вярхоўнага Савета СССР у Маскву. У складзе гэтай камісіі быў і я.

Калі па Гродзенскай акрузе праходзілі выбары ў Вярхоўны Савет СССР, дэпутатам ад гэтай акругі выбралі мяне. Працаваў у Гродне на пасадзе старшыні гаркома МОПРа, а потым старшынёю Беластоцкага аддзялення Саюза пісьменнікаў БССР.

Пачалася Айчынная вайна. Пехатою адступаў на ўсход. Дайшоў да Лельчыцкага раёна былой Палескай вобласці і там спыніўся, бо ісці далей было ўжо немагчыма. Пайшоў у партызаны (злучэнне Жытомірскай вобласці пад камандаваннем генерал-маёра Сабурава). Там прабыў сем месяцаў, працаваў у рэдакцыі партызанскай газеты, рэдактарам партызанскага часопіса.

Па запатрабаванню ЦК КП(б)Б вылецеў у Маскву і быў прызначаны начальнікам Упраўлення па справах мастацтва БССР.

З 1946 па 1948 год працаваў у Інстытуце літаратуры Акадэміі навук БССР у якасці старшага навуковага супрацоўніка, а потым тры гады ў Саюзе пісьменнікаў БССР літкансультантам па прозе. З 1951 года займаюся толькі літаратурнай працай.

(З аўтабіяграфічных нататкаў "Праз жыццё", 1962)

П. Пестрак – аўтар паэтычных зборнікаў "На варце" (1940), "За сваю Айчыну" (1946), "Падарожнае" (1962), паэмы "Слова пра Мінск" (1968), зборнікаў апавяданняў "Першыя ўсходы" (1951), "Неспадзяванак" (1957), "Лясная песня" (1958), "Сярод чаротаў" (1964), "Апавяданні" (1970), раманаў "Сустрэнемся на барыкадах" (1954), "Серадзібор" (1963). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Бе-



ларусі імя Я. Коласа (1964, за раман "Серадзібор"). Заслужаны дзеяч культуры Беларусі (1968).

Памёр у 1978 годзе.

МІКОЛА ГРЫНЧЫК

Нарадзіўся я 1 жніўня 1923 г. у Быцені ў вялікай па тым часе патрыярхальнай сям'і (усяго было 11 душ, а зямлі – 2,2 гектара). Жылося, хоць і не заўсёды сытна, але затое весела, цікава, дружна. Пасля трэцяга вяселля засталіся без каровы – прыйшлося мне пасвіць малое цялятка, пакуль выгадавалі з яе маладую кароўку Лысуху.

Пачатковую адукацыю атрымаў у польскай школе – вучоба ў чужой акупацыйнай школе была нуднай, нецікавай, цяжкай. Прыход нашых у верасні 1939 г. віталі ўсе з радасцю, не ведаючы, што гэта быў па сутнасці пачатак другой сусветнай вайны. Гэтыя два няпоўныя гады вучыўся ў Слонімскай беларускай школе № 1, а затым перавёўся ў Косаўскую сярэднюю школу (там жыла мая цётка Марыя). 19 чэрвеня 1941 г. праводзілі свайго дырэктара ў артылерыйскі полк, які стаяў у Мерачоўшчыне ў замку Пуслоўскіх. 22 чэрвеня 1941 г. у 12.00 дня я паспеў завезці свайму дзядзьку Паўлу Ануфрыевічу Філіповічу бохан хлеба і кавалак сала ў той жа замак. Полк разгортваўся ў баявы паход супраць танкаў Гудэрыяна пад Бярозай-Картузскай. З-пад Бярозы дзядзька Паўлуша выйшаў жывым, а загінуў пазней ва Усходняй Прусіі пры абароне штаба генерала Чарняхоўскага.

Партызанская барацьба, актыўнае супраціўленне ворагу на Брэстчыне, асабліва ў Белавежскай і Ружанскай пушчах, разгарнулася з першых дзён вайны – салдаты-акружэнцы пачалі змагацца задоўга да афіцыйных дырэктыў – гэта быў часта стыхійны патрыятычны рух, абуджаны сваёй нацыянальнай свядомасцю, сваім асабістым гонарам чалавека і грамадзяніна. Да адной з іх (груп) прымкнуў я восенню 1942 г., выконваў яе даручэнні па зборы трафейнай зброі на берагах Шчары, зборы інфармацыі, агітацыйнай рабоце сярод насельніцтва... Узначальваў групу Саленік Мікалай Аляксандравіч, які пазней стаў сакратаром раённага антыфашысцкага камітэта. Камандаваннем атрада "Савецкая Беларусь", што дыслацыраваўся ў Воўчых Норах, я быў скіраваны на разведвальную работу і выконваў канкрэтныя баявыя даручэнні па нашай партызанскай зоне (Слонім – Баранавічы – Косава).

Пасля вызвалення ў ліпені 1944 г. быў абраны сакратаром Быценскага сельскага Савета, а затым добраахвотна пайшоў на фронт, баяўся, каб без мяне, без майго ўдзелу не скончылася вайна. Паспеў у час, але пад Варшавай атрымаў цяжкае раненне ў галаву і вярнуўся інвалідам I групы. Асколкі нямецкага "фердынанда" нашу і цяпер у галаве... У канцы 1945 г. працаваў пэўны час загадчыкам аддзела сацыяльнага забеспячэння Быценскага райвыканкама, затым здаў экстэрнам выпускныя экзамены ў СШ і паступіў на філфак Гродзенскага педінстытута (1948). Пасля заканчэння яго атрымаў рэкамендацыю ў аспірантуру, аднак па матэрыяльных прычынах два гады працаваў у Вяліка-

Бераставіцкай СШ Гродзенскай вобласці.

У 1954 г. паступіў у аспірантуру Інстытута літаратуры АН БССР, а ў канцы 1958 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю. Па матэрыялах дысертацыі ў 1963 г. выйшла манаграфія "Максім Багдановіч і народная паэзія"...

(З аўтабіяграфіі Міколы Грынчыка)

Кніга "Максім Багдановіч і народная паэзія" стала першым сур'ёзным даследаваннем Мікалая Міхайлавіча. Навуковая дзейнасць захапіла маладога крытыка і літаратуразнаўца. Будучы навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР (1957–1970), затым працуючы загадчыкам кафедры беларускай літаратуры Гомельскага універсітэта (з 1970) і загадчыкам кафедры літаратуры Мінскага інстытута культуры (з 1980), адначасова – галоўным рэдактарам міжведамаснага зборніка "Беларуская літаратура" (1973–1985), М.М. Грынчык актыўна выступаў у друку, займаўся праблемамі народнасці літаратуры, яе ўзаемасувязі з фальклорам, вывучаў творчасць Янкі Купалы, Якуба Коласа, М. Багдановіча, А. Куляшова, П. Глебкі і іншых пісьменнікаў. Вынікам працы сталі кнігі "Аркадзь Куляшоў: Крытыка-біяграфічны нарыс" (1964), "Фальклорныя традыцыі ў беларускай дакастрычніцкай паэзіі" (1969), "Шляхі беларускага вершаскладання" (1973). М. Грынчык – адзін з аўтараў "Гісторыі беларускай савецкай літаратуры" (1966), "Истории белорусской дооктябрьской литературы" (1977), падручнікаў для студэнтаў філалагічных факультэтаў педінстытутаў "Гісторыя беларускай савецкай літаратуры 1917–1940 гг." (1981), "Гісторыя беларускай літаратуры. XIX – пачатак XX ст." (1982) і "Гісторыі беларускай літаратуры. Старажытны перыяд" (1985).

Плённая навуковая дзейнасць нашага земляка была высока ацэнена ў рэспубліцы. Мікалай Міхайлавіч Грынчык – доктар філалагічных навук (1970), прафесар, член Саюза пісьменнікаў Беларусі (з 1971), заслужаны дзеяч навукі Беларусі (1977).

Памёр у 1999 годзе.

## ЯРАСЛАЎ ПАРХУТА
(1930 – 1996)

Імя журналіста, пісьменніка, літаратара-краязнаўца Яраслава Пархуты добра знаёма беларускаму чытачу. Жыццё Яраслава Сільвестравіча пачалося ў вёсцы Мілейкі Івацэвіцкага раёна і было звязана з Ружанамі, дзе ён вучыўся ў мясцовай дзесяцігодцы і пазней, з 1959 па 1961 год, працаваў намеснікам рэдактара раённай газеты "Заветы Леніна"; з Поразаўскім раёнам і рэдакцыямі газет "Сталинская молодёжь", "Сцяг камунізма" і "Ленінскі шлях" (праўда, журналісцкая праца ўіх мела перапынак, звязаны з армейскай службай (1953–1956)); з гарадскім пасёлкам Гарадзішча, Баранавічамі і Маларытай, дзе адпаведна выходзілі газеты "Советская Родина", "Знамя коммунизма" і "Сельскае жыццё", у рэдакцыях якіх Я. Пархута займаў розныя пасады – загадчыка аддзела, намесніка рэдактара, рэдактара; з Брэстам, дзе ў 1965 годзе быў супрацоўнікам



абласной студыі тэлебачання; з Мінскам – у канцы саракавых – пачатку пяцідзесятых гадоў ён вучыўся на аддзяленні журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, з трэцяга курса якога ў сувязі з цяжкім матэрыяльным становішчам вымушаны быў перайсці на рэдакцыйны хлеб. У 1969–1973 гадах Яраслаў Сільвестравіч – слухач Мінскай вышэйшай партыйнай школы, затым – намеснік рэдактара і рэдактар сталічных часопісаў "Вожык" і "Родная прырода".

Заўважым, што паступаць у БДУ Яраслаў Пархута прыехаў ужо з надрукаванымі ў Брэсцкай абласной газеце "Заря" сваімі першымі вершамі. У хуткім часе яго паэтычныя творы, гумарэскі, казкі, апавяданні, лірычныя навелы і аповесці, нарысы, краязнаўчыя матэрыялы сталі часта з'яўляцца на старонках перыядычных выданняў – у часопісах "Беларусь", "Полымя", "Маладосць", "Вясёлка", "Работніца і сялянка", "Родная прырода", газетах "Чырвоная змена", "Літаратура і мастацтва", "Звязда" і інш. З вялікай любоўю і клопатам пра чалавека, пра родную зямлю і прыроду напісаны кнігі "Казка зялёнай дубровы" (1960), "Ты пайшла ў сонца" (1973), "Мудрая цялушка" (1976), "Там, дзе жыве Юлька" (1978), "Перапёлачка" (1979), "Жаваранак над полем" (1985), "Зямля бацькоў нашых" (1988), "Пад высокім сонцам" (1988), "Дарогамі надзеі і трывог" (1989), "Крыніца ёсць у родным краі" (1992), "Жальба жытняга коласа" (1993), "Сустрэча з іншапланецянкай" (1994). За кнігу "Зямля бацькоў нашых" Яраслаў Пархута быў удастоены Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя К. Каліноўскага. Высокае прызнанне найперш атрымала краязнаўча-публіцыстычнай праца нашага земляка, якая стала для яго не проста захапленнем, а свядомым жыццёвым выбарам. Вось як расказваў пра гэта сам пісьменнік:

– Ёсць выразная руская прымаўка: "Не было бы счастья – да несчастье помогло". Так і са мною здарылася. Праўда, тут трэба пачаць здалёк. З маіх журналісцкіх гадоў. Дзе я толькі не працаваў. У раённых газетах, на тэлебачанні, у абласной газеце. У "Сталинской молодёжи". Нават у ваеннай акруговай. "Суворовский натиск" называлася. У Хабараўску.

Журналістыка, заўважу, дала вельмі шмат. Нібы нюх для арыентацыі з'явіўся ў мяне. Дастаткова чалавеку два-тры словы сказаць – я ўжо магу шмат што ўявіць, стварыць і яго партрэт, і карціну пэўнай дзеі. Паралельна займаўся і літаратурай. Пісаў казкі, лірычныя навелы. Выходзілі яны і ў перакладзе на рускую мову. Але ж была і праца ў аддзеле фельетонаў часопіса "Вожык". Перагрузкі здараліся неймаверныя. Кожная тэма праходзіла праз сэрца.

На рабоце і хапіў мяне інсульт. Страціў зрок, адняло мову, паралізавала. Ледзьве ачуняў... Словам, у бальніцы ў мяне хапіла часу падумаць. Задаўся пытаннем: "Усё, што раблю, – каму гэта трэба?" Людзям, якія станавіліся ў цэнтры таго ці іншага пытання? Наўрад ці. Поўнай справядлівасці рэдка можна было дамагчыся і праз фельетон, нават у "Вожыку". Хутчэй наша праца была падначалена аднаму: каб як не пакрыўдзіць чынуш. Каб больш лісліва задаць адно толькі пытанне: "Что угодно, господа?" Я ж і тады не мог мірыцца з дурнотай, фальшу. Непакоіла ўсё гэта, раздвойвалася душа.

На бальнічным ложку і задаўся пытаннем: "А што ты мог бы зрабіць за гэтыя страчаныя гады?.." Тым больш што Беларусь я ведаў не звонку. Шмат

да гэтага паездзіў, ведаў трагедыю Бацькаўшчыны, нашага народа. Калі падумаў, то наважыўся – зраблю серыю кніжак пра Беларусь. Так нарадзілася мая першая вандроўная “манаграфія” – “Жаваранак над полем”.

“У Пархуты, – як дакладна заўважыў А. Карлюкевіч, – была адмысловая “творчая лабараторыя краязнаўца”. Бярэ чалавеку рукі кавеньку ды і – пешшу, нагамі сваімі вымярае, адпісвае вёрсты. А вочы ды слых, чуйная душа тым часам занатоўваюць старонкі будучых кніг. Тыя старонкі, адкрываючы каторыя, будзе пасля перажываць, пакутаваць, разважаць з трывогай малады і сталы чытач.” Вось чаму краязнаўча-дакументальныя кнігі Яраслава Пархуты, як правіла, уяўляюць сабою дарожныя запісы пра знакамітыя і маляўнічыя мясціны Беларусі, асабліва тыя, дзе нарадзіліся, жылі, працавалі нашы славутыя землякі – Ф. Скарына, А. Пашкевіч, К. Каліноўскі, Я. Карскі, Ф. Багушэвіч, А. Міцкевіч, І. Мележ... Многія эцюды, эсэ, нарысы пісьменніка прысвечаны малой радзіме – Брэсцка-Пінскаму Палессю і яго людзям, прычым не толькі такім славутасцям, як, напрыклад, Паўлюк Багрым ці Тадэвуш Касцюшка, але і простым, сціплым працаўнікам, якія штодзённай працай памнажаюць дабрабыт і славу роднай зямлі – егеру Паўлу Мяліку, былому настаўніку Уладзіміру Баярану і інш.

Яраслава Пархуту трывожыла, што беларускае Палессе паступова ператвараецца ў край экалагічных катастроф. Пра іх з болем апавядае пісьменнік у сваім палескім дзённіку “Дарогамі надзеі і трывог”. Напісаны ён быў пад час навуковай комплекснай экспедыцыі па Палессі, якая адбылася летам 1987 года па маршруту Пінск – Мікашэвічы – Тураў – Петрыкаў – Мазыр – Нароўля – Чарнобыль – Лоеў – Гомель. Яе ўдзельнікам быў і аўтар названага дзённіка. “Да якой пары прырода можа вытрымліваць такое? Калі і які аўтарытэтны “дзядзька” ці навуковая ўстанова набярэцца смеласці сказаць: “Стоп!” заводам, што працуюць без эфектыўных ачышчальных збудаванняў, браканьерам розных рангаў, меліяратарам, што асушаюць апошняе балота і не хочуць ведаць яго ролі ў жыцці чалавека і прыроды. Хто павінен задумацца над гэтым?” – вось пытанне якое найбольш хвалюе Я. Пархуту. І сумнай атрымалася адна з высноў “Палескага дзённіка”: “...чалавек не цар прыроды, якому дазволена ўсё, а маленькая часцінка яе. І калі гэтая часцінка належным чынам будзе адпавядаць свайму прызначэнню, то ўсё астатняе ў прыродзе будзе адпавядаць сваёй існасці”.

Гераіня навелы “Сустрэча з іншапланецянкай” таксама дакарае нас, зямлян: “Вы, людзі, зашмат нарабілі шкоды. Супыніце прагнасць сваю. Не будзьце самазабойцамі. Шануйце ўсё жывое і нежывое. Інакш Блакітная планета ператворыцца ў Чорную. Павер, такое здаралася ў Сусвеце”. Далей герой кнігі расказвае: “Я кінуўся туды, дзе толькі што стаяла загадкавая істота і ўбачыў у дарожным пыле крыж. Вялікі. Счарнелы. Чамусьці падняў яго і панёс...” Пра тое, які крыж выпала несці па жыцці сучаснікам пісьменніка, чым яны жывуць, на што спадзяюцца, што іх трывожыць, якія радасці дорыць ім лёс якраз і расказваў у сваіх творах Яраслаў Пархута.

У адну з яго апошніх кніг – “Жальба жытняга коласа” – уключана апо-



весць “Адзінец”, так званая “Аповесць пра палескага рабінзона”, якую даследчыкі літаратуры лічаць “вяршыняй, да каторай пісьменнік прыйшоў праз дзесяткі і сотні сустрэч з землякамі, праз многія вёрсты вандровак” (А. Карлюкевіч). Твор гэты – пра цяжкія выпрабаванні, што выпалі на долю Івана Васільевіча Бушылы, жыхара вёскі Бастынь Лунінецкага раёна, які, каб не трапіць у рукі сталінскіх памагатых, не стаць вечным вязнем ГУЛАГа, доўгія сорак два гады жыў у глухім лесе ў поўнай адзіноце. Аповесць цікава тым, што расказваючы пра жыццё Івана, уводзячы ў кнігу матэрыялы архіўных дакументаў і ўспаміны вяскоўцаў, аўтар здолеў стварыць шырокую панараму народнага жыцця на Палессі той пары. Перад намі паўстаюць вобразы працавітых, разважлівых і мудрых палешукоў. Ёсць у творы і народны лячэбнік, і рэцэпты некаторых страў, і трапныя прыказкі, і народныя прыкметы, і дэталёвае апісанне палескай флоры і фауны... Усё гэта дае падставы называць аповесць “Адзінец” своеасаблівай палескай энцыклапедыяй.

**Мілейкаўскія эцюды**

## Вяртанне ў дзяцінства

Насоўваецца на сяло навальніца, а ты не бяжыш у хату – стаіш пасярод панадворка і чакаеш, пакуль вогненнай пугаю не захвошча па чорнай хмары пярун. Шалёны вецер трэпле на табе сарочку, блытае валасы, б’е па твары тугімі вадзянымі ніткамі, а ты чамусьці і не захінаешся. Нарэшце ліне, як з цабэрка, а ты ідзеш да парога паволі, несучы ў сэрцы невымоўную радасць.

Твая прывычка не пакідае цябе і з гадамі. Вось і апошні раз непагадзь запыніла перад саменькай вёсачкай. І ты не кідаешся да крайняй хаты, не шукаеш паратунку ля цёплай сцяны, а стаіш пасярод дарогі, нібы хочаш навек захаваць у памяці тыя незабыўныя імгненні.

Маладзіца, што прабягала міма з дзіцём на руках, спачувальна кінула:

– Дзівак чалавек! Мала што прамок, – яму яшчэ трэба і ўсміхацца гэтай навале!..

Маладзіца не разумела галоўнага: у тую хвіліну я вяртаўся ў дзяцінства.

## Прытча пра кубак

Пакідаў родную вёску, а з галавы не выходзіла прытча, якую расказаў мне дзядзька Сцяпан:

– Чалавек прыдумаў кубак падносіць пілігрымам рознае пітво. Крынічную ваду – каб наталялі з дарогі смагу. Салодкі мёд – каб маглі адзначыць свята душы. Цёплы сырадой – каб хоць зрэдзь успаміналі, што недзе ў іх была матчына хата...

Але наша вар’яцкае жыццё часцей падае ў кубку адзін і той жа напой – горкі палын. І даводзіцца піць яго, думаючы, што гэта нешта іншае.

Толькі я і цяпер цешу сябе думкай: усё ж на дне кубка жыве надзея, што з яго хоць разочак яшчэ паспытаю і цёплага сырадою, і духмянага мёду, і крынічнай вады.

Але калі тое будзе!?..

І ці будзе?

## СЦЯПАН КРЫВАЛЬ

Ёсць на Івацэвіччыне невялікая вёска Гутка. Для пісьменніка-парадыста Сцяпана Крываля гэта была тая кропка зямнога шара, з якой "пачынаецца Радзіма". Тут 1 ліпеня 1935 года ён нарадзіўся, тут прайшло яго дзяцінства. Родныя мясціны на ўсё жыццё засталіся ў памяці, вабілі да сябе. "...Калі пачынаю што пісаць, – прызнаваўся С. Крываль, – то ўсе мае героі жывуць звычайна ў тых мясцінах, дзе жыў і я. Нават урочышчы сустракаюцца з тымі ж назвамі, якія ёсць у наваколлі нашай вёскі".

Бацькі пісьменніка – Антон Рыгоравіч і Кацярына Дзмітрыеўна – сяляне, вялікай граматы не мелі, аднак аказалі вялікі ўплыў на сына, спрыялі фарміраванню яго творчай асобы. Антон Рыгоравіч часта гаварыў у рыфму, спрабаваў складаць вершы, а маці ведала шмат казак і ўмела цікава іх расказваць. Творчыя здольнасці выявіліся ў Сцяпана рана. Па ўласным яго прызнанні, вершы пачаў пісаць недзе ў трэцім класе, будучы вучнем Крайскай сярэдняй школы. У школьныя гады яго допісы не раз з'яўляліся ў "раёнцы", некалькі публікацый было змешчана ў абласной газеце "Пінская праўда".

Пасля службы ў войску Сцяпан Крываль вярнуўся ў родную школу, працаваў настаўнікам фізкультуры і дапрызыўной падрыхтоўкі (1958–1960). У пачатку шасцідзесятых гадоў перайшоў на працу ў Маларыцкую раённую газету "Сельскае жыццё", рэдакцыя якой на той час аб'яднала Міколу Купрэева, Аляксея Філатава і Яраслава Пархуту. З успамінаў А. Філатава: "Яскрава помніцца, як у адноўленным раёне выйшлі першыя нумары газеты. Хоць і невялічкая, раёнка бадзёрыла малады калектыў рэдакцыі, і болей за ўсіх радаваўся ёй надзвычай калючы, хуткі на з'едлівы жарт, праўду-матку ў вочы Сцяпан Крываль. У адной руцэ ён трымаў толькі-толькі спечаную, яшчэ вільготную газетку, другою папраўляў спадаючыя з носа акуляры, шпарыў амаль вершам: і гэта ж на нашым Палессі, і гэта на матчынай мове.

Урывалі час ад сну, спынялі імгненні існасці на зямлі, натавалі іх, узводзілі падмуркі сваім першым кніжкам: "Непазбежнасць" (М. Купрэеў, паэзія), "Ты пайшла ў сонца" (Я. Пархута, проза), "Пехатою на Парнас" (С. Крываль, літаратурныя пародыі). Пародыі атрымаліся трапныя, сакавіта-ядавітыя, праўдзівыя, падхапіліся не толькі беларускай літаратурнай братвою, пайшлі ў доўгае літаратурнае жыццё, даўшы прачуханку і класікам, і пачаткоўцам...". Менавіта з пародый, баек, гумарыстычных вершаў і мініяцюр пачынаў свой шлях у літаратуру Сцяпан Крываль.

Працу ў рэдакцыі газеты ён спалучаў з завочнай вучобай на факультэце журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. У сталіцы пазнаёміўся з Сяргеем Дзяргаем, які на той час працаваў у "Вожыку" і падтрымаў маладога аўтара – змясціў у часопісе яго творы. На трэцім курсе С. Крываль вымушаны быў перапыніць вучобу. Па стану здароўя (інваліднасць другой групы па зроку) даводзілася часта мяняць месца працы: старшы рэдактар на Брэсцкай абласной тэлестудыі і абласным радыё, карэспандэнт-арганізатар Жабінкаўскага радыё, рабочы на чыгунцы ў Брэсце, супрацоўнік рэдакцыі Талачынскай



газеты “Сцяг Ільіча” і інш. Нягледзячы на гэта, пісьменнік шмат пісаў і актыўна друкаваўся ў часопісах “Полымя”, “Маладосць”, “Беларусь”, “Вожык”, газеце “Літаратура і мастацтва”. Яго творы публікаваліся ў калектыўных зборніках “Перасветы”, “Осёл на именинах”, у “Днях паэзіі”, часта гучалі па рэспубліканскім радыё.

У Брэсце Сцяпан Крываль рэгулярна наведваў пасяджэнні абласнога літаратурнага аб’яднання. На адным з іх Уладзімір Андрэевіч Калеснік заўважыў: “Тваё прызванне, Сцяпан, – проза, ты станеш неблагім майстрам кароткага апавядання, вось і працуй”. Прыслухаўшыся да парады вядомага крытыка, Сцяпан Антонавіч захапіўся прозай, стаў пісаць апавяданні, навелы. Пазней яны былі аб’яднаны ў два зборнікі – “Аднойчы летам” (1990) і “Чмяліная вясна” (1996). У іх пераважаюць творы пра вясковае жыццё, каханне, пра лёс тых, каму выпала прайсці праз суровыя гады ваенных выпрабаванняў.

Першая кніга апавяданняў “Аднойчы летам” была заўважана крытыкай (на яе адгукнуліся І. Калянковіч, А. Майсейчык, М. Тычына і інш.) і прыхільна сустрэта чытачамі, прычым не толькі ў Беларусі. Пасля яе выхаду, у 1991 годзе, пісьменнік атрымаў ліст ад супрацоўніка Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук Украіны з просьбай даслаць некалькі экземпляраў сваёй кнігі для выкладчыкаў і студэнтаў Кіеўскага універсітэта, якія вывучаюць беларускую мову і літаратуру. Сцяпан Антонавіч не мог адмовіць у такой просьбе і выслаў украінскім сябрам 12 кніг.

Другога зборніка апавяданняў “Чмяліная вясна” пісьменнік, на жаль, не ўбачыў. У 1996 годзе кніга рыхтавалася да выдання ў “Мастацкай літаратуры”. 5 верасня гэтага года Сцяпан Крываль памёр.

## АЛЯКСЕЙ МАЙСЕЙЧЫК
(1936 – 2002)

На Івацэвіччыне, у вёсцы Гошчава, пачалася жыццёвая дарога Аляксея Антонавіча Майсейчыка. “Нарадзіўся я ў звычайнай сям’і вяскоўцаў, – расказваў ён у інтэрв’ю газеце “Народная трыбуна”, – на скрыжаванні двух родаў, якія па незразумелых для мяне прычынах маюць прозвішчы біблейскага паходжання – Майсейчыкі і Самсановічы. У родзе майго бацькі ніхто не быў прарокам, усе былі пакутнікі: гінулі ў войнах, у падполлі, цягнулі ярэмца хлебаробаў. У родзе Самсановічаў – па маме – не было асаблівых асілкаў. Яны толькі лёгка перакідвалі з баразны ў баразну плуг...”

Дзяцінства А. Майсейчыка прыпала на суровыя ваенныя гады. Яго памяць выразна захавала першы дзень вайны, калі бацьку, Антона Данілавіча, разам з іншымі аднавяскоўцамі праводзілі на фронт: “Нехта іграў марш. Вялікі натоўп па брукаванай вуліцы ішоў на Косава. Па абочыне ішлі малыя... А вярнуўшыся дадому, мне захацелася піць. Але на месцы не было кубка. Мама доўга ўгаворвала мяне піць нагбом. Ужо потым (ад Барадуліна) я даведаўся: літаратурна нагбом”.

Ва ўспамінах Аляксея Антонавіча пра ваеннае ліхалецце ёсць і іншыя эпі-

зоды. У згаданым вышэй інтэрв'ю ён расказваў, як двойчы апынуўся пад дулам фашысцкіх аўтаматаў. Першы раз немцы ўварваліся ў Гошчава апоўдні, "сагналі ўсіх людзей у канец вёскі, за школу. Я і цяпер, здаецца, бачу тое поле, пакрытае калючай жытняй палянай, за дарогай – недабудаваны дом з забітымі дошкамі вокнамі. Усім загадалі сесці. На каленях у мамы – я. Чую, як гучным голасам гаворыць нейкі тоўсты невысокага росту дзядзька. Крыху наводдаль, за яго плячыма, салдаты з аўтаматамі. Мама дрыжыць, моцна прыціскае мяне да сваіх грудзей. Я нічога не разумею. Заварожана гляджу на аўтаматы. Сапраўдныя, а не рагачы, з якімі мы гулялі ў вайну. Наіўная зайздрасць дзяцінства". Другі раз, у 1943 годзе, "вяскоўцаў сагналі ў басейн, які летам перасох. На вуліцы перад ім паставілі ў адну шарэнгу мужчын, многіх з якіх я добра ведаў. Усіх папярэдзілі: паявяцца партызаны – з мужчын ніхто не застанецца жыць. Мужа маёй цёткі Ганны расстралялі каля тоўстага ствала векавога дуба. Я чуў той стрэл...".

Вялікая Айчынная вайна перашкодзіла Аляксею і яго равеснікам своечасова пачаць вучобу. У верасні 1945 года ўжо пераросткам (ішоў дзевяты год) ён пайшоў у першы клас Гошчаўскай сярэдняй школы. Пасляваенныя гады аказаліся не менш складанымі. Бацька вярнуўся з вайны інвалідам, цяжка хварэў. Усе клопаты па дому і гаспадарцы леглі на плечы маці, Вольгі Мікалаеўны. Антон Данілавіч, відаць, адчуваў блізкасць смерці і спяшаўся перадаць дзецям сакрэты сялянскай працы. "На пачатку трагічнай для сям'і восені 1947 года ён узяў мяне ў поле, куды ехаў араць, – прыгадваў Аляксей Антонавіч. – Добра помню, што гэта было ўрочышча з цікавай назвай Крывуля. З цяжкасцю прайшоўшы адну-другую баразну, тата аддаў плуг мне. Хоць было і цяжка, я павёў баразну, а ён стаяў і глядзеў, як я аддаляюся ад яго... Радасць і засмучэнне былі на яго твары... Баразну я вёў роўна: меў ад роду ўжо дзесяць гадоў".

Пасля заканчэння сярэдняй школы (1955) А. Майсейчык паступіў на філалагічны факультэт Брэсцкага дзяржаўнага педінстытута імя А.С. Пушкіна. Ён актыўна ўключыўся ў грамадска-культурнае жыццё інстытута і факультэта, выявіў свае здольнасці да навукі – часта выступаў на студэнцкіх навуковых канферэнцыях, сустрэчах з пісьменнікамі і г.д. Таленавіты і творчы студэнт меў падтрымку ад сваіх выкладчыкаў, найперш ад Уладзіміра Калесніка, які раіў яму ў далейшым займацца навуковай дзейнасцю.

Атрымаўшы дыплом з адзнакай, Аляксей Майсейчык вярнуўся на Івацэвіччыну і два гады – з 1960 па 1962 – працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў роднай школе, адначасова выкладаў рускую мову і літаратуру ў Няхачаўскай васьмігадовай школе рабочай моладзі. У 1962 годзе ён паступіў у аспірантуру Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР, пасля заканчэння якой быў накіраваны на працу ў Брэсцкі педінстытут. З 1966 года жыццё Аляксея Антонавіча было звязана з кафедрай беларускай літаратуры гэтай навучальнай установы. Тут ён прайшоў шлях ад выкладчыка да прафесара, стаў вядомым у рэспубліцы крытыкам і літаратуразнаўцам, метадыстам. З пачатку 60-х гадоў яго артыкулы па гісторыі і тэорыі беларускай літаратуры, літаратурным краязнаўстве, пытаннях выкладання літаратуры ў сярэдняй і вышэйшай



школах рэгулярна з'яўляліся ў абласным і рэспубліканскім друку. А.А. Майсейчык – аўтар дапаможнікаў "Творчасць маладых паэтаў Брэстчыны" (1974), "Практыкум па ўводзінах у літаратуразнаўства" (1980), "Тэорыя літаратуры" (1990), адзін з аўтараў "Гісторыі беларускай савецкай літаратуры, 1917–1940" (1981), "Гісторыі беларускай савецкай літаратуры, 1941–1980" (1983), "Методыкі выкладання беларускай літаратуры" (1986), падручнікаў "Родная літаратура" для 6 класа (1988) і 7 класа (1989), "Беларуская літаратура" для 10 класа (1997) і 11 класа (1999, 2001), вучэбна-метадычнага дапаможніка для настаўнікаў "Родная літаратура ў 7 класе" (1992, 1997).

## УЛАДЗІМІР МАРОЗ

...Я нарадзіўся 11 чэрвеня 1953 года. У гарадок Косава бацькі мае Вікенцій Іванавіч і Дзіна Канстанцінаўна трапілі пасля Нясвіжскай педагагічнай вучэльні, якую скончылі ў 1948 годзе. Настаўнічалі яны спачатку ў недалёкай вёсачцы Скураты, дзе пабраліся шлюбам. Неўзабаве перабраліся ў самое мястэчка. Маці выкладала беларускую мову і літаратуру ў Косаўскай школе, а бацька працаваў у дзетдоме завучам, пэўны час нават дырэктарам.

Дык вось гэты самы дзетдом – ці не першы мой косаўскі ўспамін. Была ў нас ужо палова хаты побач з ім, былі ў нас са старэйшым амаль на два гады братам Алегам нават нянькі і, натуральна, – ніякіх цяжкасцей у жыцці... Нашае маленства цякло нязмушана, як таму і патрэбна быць. Сапраўды маленства, бо пражыў я ў Косаве ад нараджэння роўна сем гадоў.

Наогул з месцамі нараджэння мне пашанцавала. Кажу "месцамі", таму што з груднога ўзросту мы з братам кожнае лета, а то і ў іншы час, гадаваліся то ў адной бабы, то ў другой. Бацькі вучыліся завочна ва універсітэце і, прыкладам, на сесію ну аніяк не маглі ўзяць нас у Мінск. Мама мая родам з Мікалаеўшчыны, а папа – з вёскі Цякалаўшчына, што кіламетраў за чатырнаццаць ад Нясвіжа.

Так і атрымлівалася: Касцюшка – зямляк, найбліжэйшы зямляк і Якуб Колас. Мікалаеўцы патрыятычна лічаць, што нарадзіўся наш вялікі пясняр якраз тут, а не ў недалёкіх Акінчыцах, як прынята лічыць афіцыйна. Хаця гэта ўжо зусім не прынцыпова. Да таго ж і дзявочае прозвішча маці – Міцкевіч. Да Нясвіжа таксама каментарыі не патрэбны – пра Радзівілаў чулі ўсе...

Але вернемся ў Косава. Там яшчэ паспеў нарадзіцца трэці сын у сям'і, мой малодшы брат Коля. Летам 60-га мы пераехалі ў вёску Даманава таго ж Івацэвіцкага раёна. Тут я пайшоў у першы клас, тут жа правучыўся ўсе дзесяць гадоў. Бацька працаваў завучам у школе, мама настаўніцай. Жылі мы гадоў восем проста ў будынку школы, мелі два пакойчыкі і кухню. Таму можна сказаць, што я не толькі вучыўся, але і вырас у школе.

...Свядомым штуршком да выбару прафесійнага шляху пасля школы быў набор паштовак з выявамі помнікаў дойлідства. Нешта я ўжо бачыў на свае вочы, астатняе толькі на гэтых картках. Рамантызм занядбання, але разам з тым прыгажосці і велічы нараджаў жаданне самому пабудаваць хоць калі такое

ж прыгожае і каб на вякі. Я вырашыў стаць архітэктарам. Напэўна, перадумовы для гэтага былі – нядрэнна маляваў. З другога боку, на пачатку дзевятага класа я стаў весці дзённік, вольны запіс сваіх думак даваў мне вялікае задавальненне.

На жаль, тыя тры тоўстыя агульныя сшыткі школьных запісаў згарэлі з хатай у Мікалаеўшчыне, студэнтам я іх хаваў там. А як цікава было б сёння сустрэцца з сабою 16–17-гадовым!

Спрабаваў я пісаць і вершы. Да поўнай карціны засталося дадаць, што скончыў яшчэ і музычную школу ў Івацэвічах па класу баяна. А Даманаўскую дзесяцігодку закончыў з залатым медалём.

Зрэшты, планы мае так і спраўдзіліся – скончыў архітэктурны факультэт БПІ і стаў архітэктарам, працаваў у праектным інстытуце. Праўда, праз два гады паступіў на завочнае аддзяленне Літаратурнага інстытута ў Маскве, літаратура пакрысе перамагла. Таму на заканчэнне гэтага інстытута я ўжо працаваў рэдактарам у Дзяржкіно БССР. Паварот да кіно бачыўся на той час выпадковым, але сёння ўсё выглядае інакш, думаецца, што мая праца рэдактарам студыі "Летапіс" кінастудыі "Беларусьфільм" (пасля Дзяржкіно) – заканамернае ўвасабленне тых знакаў гісторыі, што ўвайшлі ў свядомасць з дзяцінства. Перадусім маю тут на ўвазе аўтарскую работу – практычна ўсе мае сцэнарыі дакументальных фільмаў звернуты да гісторыі Беларусі. Ды і вершы ў большасці сваёй таксама неад'емныя ад гэтага. ( Уладзімір Мароз – член Саюза пісьменнікаў Беларусі, аўтар нізкі вершаў "Пяшчотны дотык" у калектыўным зборніку "Крыло" (1984), паэтычных кніг "Голас" (1993), "Рэй" (1993), "Хутаранская зорка" (2003), кніг эсэ "Мінск старадаўні і малады" (2002), "Беларускі храм", "Мінск. Верхні горад", "За брамай забытых мелодый" (2004), а таксама сцэнарыяў каля 40 дакументальных, навукова-папулярных і вучэбных кінафільмаў, сярод якіх "Кірыла Тураўскі", "Роздум ля палітры", "Уз'яднанне" (1990), "Іван Насовіч", "Філамат Тамаш Зан" (1991), "Беларусь. Свята праваслаўя", "Леў Сапега, канцлер", "Рэха збройнага чыну" (1992), "Браты Ермаловічы", "Успамін пра Міколу Равенскага" (1993), "За брамай забытых мелодый", "Крыж ля дарогі" (1994), "Сымон Будны. Паэма" (1995), "Крэва" (1996) і інш. – Г.С.).

Паглядзіце наўкола – і вы самі знойдзеце шмат знакаў гісторыі, толькі трэба ўспомніць, што мы беларусы, і адкрыць душу. І тады адчуеце непарыўную повязь падзей, часоў і людзей, тады адчуеце сапраўдную адказнасць за нашу дзяржаву, за мінулае і будучыню цудоўнага куточка зямлі, які завецца Беларуссю.

(З аўтабіяграфічнага эсэ Уладзіміра Мароза "Знакі гісторыі")

***Згадкі малой радзімы***

*Час у руху зваротным кране –*
*На шалёным сарвешся адхоне.*
*Як свайго, сустракае мяне*
*Лес Літва і балота Пагоня.*



*Я папраўдзе тутэйшы і свой,*
*Я на гэтай зямлі нарадзіўся,*
*Дзе мой продак збіраўся на бой,*
*На каня варанога садзіўся.*

*Гэта тут, ты вакол паглядзі:*
*Як ад Шчары – на захад і поўдзень.*
*Лес такі, што загінеш адзін,*
*А балота – не згледзіш, не пройдзеш.*

*Падзяляе іх Грыўда-рака,*
*Каля Гнойнага ў Шчару ўпадае.*
*З похваў меч вынімае рука,*
*За дзяржальна без страху трымае.*

*У Заводны заблытаны лес*
*Вої коней нястомных заводзяць.*
*Старажоўшчына знак падае,*
*Калі вораг знянацку прыходзіць.*

*А прыпрэцца на голаў сваю –*
*У Магіліцах знойдзе магілу.*
*За свабоду адчайна ваюй,*
*На ахвярнік кладзі сваю сілу.*

*Занатуе трывожная вязь,*
*Камень скажа, што ўрос ва ўзбярэжжа.*
*Гэта Выгані-возера князь*
*Гнаў пагоняй чужынцаў за межы.*

*Кроплі поту і кроплі расы,*
*Слёзы смутку, вясёлка над светам.*
*Я літвін-беларус, волі сын, –*
*Волька-вольная сведчыць аб гэтым.*

*Перамога ў надзейных руках,*
*Прагне любасці ўзброены вершнік.*
*Дык вяртайся хутчэй пад свой дах*
*У Загор'е, Залессе, Заверш'е.*

*Ці на баль да Сапегі патрап*
*У палац у Ружанах шыкоўны,*
*Дзе аркада прытупвае ў такт,*
*Пераможныя келіхі поўны.*

*А ў Жыровічах клічуць званы*
*За Айчыну малітву прынесці.*
*Звоняць поклічна й сёння яны,*
*Будзяць памяць сваім Дабравесцем.*

*Мо і сыдзе на нас Дабрадаць,*
*І пачуемся ўрэшце народам.*
*Больш не будзем у скрусе пытаць:*
*Хто мы, што мы, адкуль будзем родам.*

## АЛЯКСЕЙ БЕЛЫ

У 1993 годзе лаўрэатам рэспубліканскага конкурсу на лепшы твор, прысвечаны Паўлюку Багрыму, стаў наш зямляк Аляксей Белы. На той час аўтар прадстаўленага на конкурс верша "Крашын" яшчэ не меў асобных паэтычных зборнікаў, але часта выступаў у друку і быў добра вядомы сярод літаратараў краю.

Нарадзіўся ён 2 студзеня 1953 года ўвёсцы Міхнавічы Івацэвіцкага раёна. У роднай вёсцы атрымаў пачатковую адукацыю, а затым вучыўся ў Івацэвічах – у СШ № 1 і СШ № 2. Бацькі – Ілья Мікалаевіч і Любоў Рыгораўна – не чакалі, што іх шаснаццацігадовы сын паедзе на Поўнач, паступаць там у ПТВ і будзе працаваць матросам. Краявіды Карэліі, Салавецкіх астравоў, белыя ночы Запаляр'я, рыбацкія пасёлкі на ўсё жыццё засталіся ў памяці Аляксея. Там жа ён адважыўся вынесці на суд чытачоў свае вершы – першая публікацыя з'явілася ў 1971 годзе ў газеце "Вперёд" (г. Мядзведзегорск).

Пасля службы ў войску А. Белы вярнуўся на радзіму, у Беларусь, і ўладкаваўся памочнікам капітана цеплахода. З 1977 года звязаў свой лёс з Баранавічамі. Быў слесарам, майстрам, карэспандэнтам, апошнім часам – рэдактар газеты "Текстильщик". Жыццё Аляксея Ільіча – "гэта няўтольная прага, неадольная цяга да ведаў. Ён скончыў Гомельскі політэхнікум, Гродзенскі дзяржаўны універсітэт (у гэтым цудоўным і старажытным горадзе пазнаёміўся з цікавым чалавекам і таленавітым паэтам Юркам Голубам, які шмат што даў яму ў працы над вершамі), Кіеўскі інстытут паліталогіі і сацыяльнага кіравання" (М. Маліноўскі).

На нялёгкай жыццёвай дарозе Аляксей Белы заўсёды знаходзіць час для мастацкай творчасці, піша вершы. Перамога ў конкурсе акрыліла яго, і ў наступным, 1994 годзе, убачыў свет першы зборнік А.Белага "Тридцать второе августа". У кнігу таксама ўвайшла нізка вершаў на беларускай мове пад назвай "Валошкавы вецер". Праз некаторы час з'явіліся новыя зборнікі паэта – "Невольничьи песни" (1997), "Каляровыя сны" (1999), "Боскі вецер правінцыі" (2003). Асобныя творы Аляксея Белага перакладзены на ўкраінскую мову, да некаторых – напісана музыка.



**Радзіма**

*Колькі дзеля цябе*
*і адплакана, і пераражыта.*
*Зноў прыехаў дадому,*
*каб статак адпасвіць “на ранкі”...*
*І – нічога ж такога. А проста –*
*сцяжынка праз жыта,*
*Ды валошкавы вецер, што гойдае*
*лёгка фіранкі.*
*І – нічога... Ну, можа кружэнне буслоў*
*напрадвесні,*
*Ды ў ліпеньскі дзень*
*пацалункі з каханай ля стога...*
*Ды крыжы на пагосце,*
*ды шчырыя матчыны песні...*
*Ну, а што ў чалавека*
*яшчэ застаецца святога?*

**Крашын**

*Паўлюку Багрыму*

*Восень. На каменнях кветкі стынуць.*
*Могілкі. Крыжы. Малліннік. Пуста...*
*Верш пасля сябе адзін пакінуць,*
*Выкаваць карункавую люстру.*
*І павольна пойдуць век за векам,*
*Як заўжды – чаканнем лепшай долі...*
*А карункам – Лёсу Чалавека –*
*Месца бог пазначыць у касцёле.*
*Тут – аб Вечным думы. І аб Хлебе.*
*Тут і сум, і шчасце – як ніколі!..*
*Птушкі, што спяваюць толькі ў небе,*
*Гнёзды павілі на жырандолі.*

**Лясная**

*Ды што там адметнага ў гэтай вёсцы.*

*Гэта вёска нібыта плыве на плыце,*
*І няма тут ужо аніякіх сакрэтаў...*
*На трынаццатай ад Мілавідаў вярсце*
*Два гады па загаду знішчалі ракеты.*
*А яшчэ сотні год сон-трава тут цвіце*
*На трынаццатай ад Мілавідаў вярсце.*
*І па той бок калючага дроту цвіце,*
*І па гэты...*

МІКОЛА ПАПЕКА
(Нар. у 1961 годзе)

М.Купрэеў неяк заўважыў: "Мікола Папека – чалавек... парадаксальны. Вырас ён у глыбіннай палескай вёсцы Турная, што ля Целяханаў, а скончыў сельскагаспадарчую акадэмію ў Кіеве па спецыяльнасці заатэхніка-пчаляра. Маці жыве ў Мінску – сталіцы, а сам з сям'ёю (жонка і два сыны) назаўжды павязаўся – зноў – з глыбокай правінцыяй (вёска Лінава на Пружаншчыне). Ён выдатна ведае мастацкую літаратуру, філасофію, гісторыю і – трактар, аўтамашыну. Пчаляр, ён мала есць мёду і любіць параны бурак. Стварае-збірае свой, хатні, музей сялянскай побытавай культуры і піша вершы. А вершы яго – часам постмадэрнісцкага гатунку, але найбольш – гатунку свайго, папекаўскага".

***Рэчка Шчара***
*Рэчка Шчара,*
*рэчка Шчара –*
*ненапоўненая чара,*
*страта шчырасьці і чараў.*
*Над табою*
*ўсё радзей і радзей*
*чары дзіўныя чаруе*
*чарадзей...*
*Боль рачулкі*
*вецер чуе, –*
*чарацяначка начуе....*

Да сказанага вышэй варта дадаць: перш, чым стаць студэнтам Украінскай сельскагаспадарчай акадэміі, Мікола Папека закончыў Аляхновіцкую сярэднюю школу (Маладзечанскі раён) і Смілавіцкі саўгас-тэхнікум. У 1986 годзе ён вярнуўся з Кіева на Берасцейшчыну і пасяліўся ў вёсцы Лінава Пружанскага раёна. Спачатку працаваў пчаляром у мясцовым лясніцтве, цяпер – на ўласнай гаспадарцы.

Першыя вершы М. Папека напісаў у школьныя гады. Зацікаўлены чытач знаёмы з яго творамі па публікацыях у абласным і рэспубліканскім друку. У 1999 годзе ў серыі "Берасцейскае вогнішча" выйшаў першы зборнік паэта-земляка "Чарнавікі..."

А яшчэ... для літаратараў краю Мікола Папека заснаваў сваю, арыгінальную штогадовую прэмію за лепшы твор – пуд мёду.

ВАЛЕРЫЙ ГАПЕЕЎ

Валерый Мікалаевіч Гапееў нарадзіўся на Гомельшчыне, у пасёлку Осава ў 1963 годзе, у вясковай сям'і.



Вучыўся ў Балатнянскай сярэдняй школе. Потым - у Мінскім электратэхнікуме сувязі (цяпер - каледж сувязі). Працаваў майстрам у вучылішчы ў Казахстане, служыў у арміі. Пасля - работа на мінскім «Інтэграле».

У 1992 годзе пераехаў з сям'ёй у Івацэвічы. Тут працаваў на заводзе.

У гэты час стаў пісаць прозу. Першае сур'ёзнае апавяданне надрукавала «Маладосць» - «Абсалютнае жаданне». Часопіс «Крыніца» надрукаваў дэтэктыў на рускай мове «...Рі два в остатке». Невялікія карацелькі друкаваліся ў газетах.

Стаў супрацоўнічаць з раённай газетай як пазаштатны карэспандэнт.

У 1995 годзе быў запрошаны на працу карэспандэнтам у новаствораную «Газету Уладзіміра Кудзінава» (цяпер - «Газета для вас»). У 1997 годзе перайшоў на працу ў раённую газету «Івацэвіцкі веснік».

Кнігу апавяданняў для дзяцей і падлеткаў падрыхтаваў у 2001 годзе. Праз год яна выйшла ў выдавецтве «Юнацтва». Частка апавяданняў з гэтай кнігі пабачыла раней свет у часопісах «Першацвет», «Бярозка».

Працуе ў рэдакцыі раённай газеты адказным сакратаром.

Жанаты, сын нарадзіўся ў 1989, а дачка - ў 1998 годзе.

На пытанне, чаму пачаў пісаць для дзяцей, адказаў: "Можа і таму, што не надта для іх хочуць пісаць. Крыўдна бачыць праз чвэрць стагоддзя ў школьных падручніках тыя ж творы беларускай літаратуры для дзяцей і юнацтва. І ў планах на пазашкольнае чытанне - усё тыя ж аўтары. Як быццам час спыніўся. Ці літаратура спынілася. Тая ж ідэалогія, тыя ж прынцыпы і тая ж вера...

Яшчэ цвёрда перакананы, што няма дзіцячых праблем. Ёсць праблемы ў нашых дзяцей. І яны перажываюцца імі настолькі ж балюча, як і мы перажываем свае. Гэта і хачу данесці да чытача: і юнага, і сталага."

Лаўрэат абласной літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Калесніка за кнігу "Пастка на рыцара" (2007); у гэтым жа годзе ў часопісе "Маладосць" убачыла свет выдатная аповесць Гапеева "Ведзьміна тоня", якую крытыкі адразу ж далучылі да ліку лепшых празаічных твораў апошніх гадоў.

ВІКТАР СЛІНКО

Усё часцей і часцей даводзіцца чуць пра Віктара Слінко як таленавітага і перспектыўнага аўтара, які, нягледзячы на малады ўзрост, цікава і сур'ёзна заявіў пра сябе ў літаратуры. Нарадзіўся ён у Івацэвічах у 1972 годзе, аднак жыве і працуе ў Мінску. У сталіцы Віктар закончыў СШ № 53, педагагічны універсітэт і займаецца перакладчыцкай дзейнасцю.

Мастацкай творчасцю захапіўся ў школе. Пісаў спачатку на рускай мове, потым перайшоў на беларускую. Вершы В. Слінко друкуюцца ў альманаху "Дзень паэзіі", у "ЛіМе", "Чырвонай змене", "Першацвеце", "Маладосці", "Дзеяслове" і іншых перыядычных выданнях. У 1995 годзе ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" выйшаў яго першы паэтычны зборнік "Апошні снег". Аўтар карыстаецца нетрадыцыйнымі формамі верша, аддае перавагу версэтам і верлібрам. Форма твораў, іх зашыфраванасць і вялікая філасофская напоўненасць

нагадваюць ускладненую паэзію Алеся Разанава. Некаторыя нават называюць Віктара Слінко яго “пераймальнікам”.

*Узнёслы – шукаю прыгажосць,*
*прыгнечаны – вострае лязо.*
*Усё патрабуе выйсця –*
*натхненне і самота,*
*словы і кроў... Ім бывае цесна,*
*калі я адзін.*
*Усё патрабуе выйсця –*
*вельмі хуткага,*
*часам бязлітаснага і безнадзейнага.*
*Супакойваю сябе: “Пачакай трохі”.*
*І тут разумею: я*
*і на гэты раз не паспеў.*

(“Адзін”)

## ВІНЦЭСЬ ВАШЭКА

Вячаслаў Васільевіч Вашэка нарадзіўся 28 сакавіка 1966 года ў в. Сенькавічы Івацэвіцкага раёна. У 1983 годзе скончыў СШ №3 г. Івацэвічы. Вучыўся ў беларускім політэхнічным інстытуце, служыў у Афганістане, займаўся спортам.

Пасля службы ў войску працаваў токарам. Скончыўшы завочна Брэсцкі педінстытут імя Пушкіна, выкладаў беларускую філалогію ў школе вёскі Альба Івацэвіцкага раёна. Пасля – дырэктар беларускага ліцэя ў Брэсцкім педінстытуце, які ў 1994 годзе быў зачынены. 6 гадоў адпрацаваў на мытні “Заходні Буг”. З 2000 года – на журналісцкай рабоце.

Друкаваўся са школьных гадоў. Вершы змешчаны ў альманахах “Берасцейскія карані”, “Дзядзінец” і іншых выданнях. Лаўрэат прэміі газеты “Чырвоная змена” 1992 года за апавяданне “Дзень нараджэння”.



# КАМЯНЕЦКІ РАЁН

Калі мы згадваем пра Камянец, Камянеччыну, у нашым уяўленні ўзнікае найперш Белавежская пушча, зубрыны статак ды помнік дойлідства глыбокай даўніны – "слуп каменны". Усё разам узятае сведчыць пра старажытнасць нашай культуры. Народ не даў згінуць тром сімвалам не толькі раёна, нават не вобласці, а Беларусі. Каменчукі прайшлі праз невымерныя выпрабаванні, галадалі, мелі пільную патрэбу ў дрэве і цэгле, але не дапусцілі згубы, не знішчылі, не знявечылі, не зруйнавалі, а зберaглі, перадаючы ў спадчыну ад пакалення ў пакаленне і пушчу, і зуброў, і вежу, і гэтым вядомыя ў свеце як народ, каму належыць такое багацце, вядомы і невялічкі, утульны і дагледжаны гарадок на рацэ Лясной.

Нашы далёкія продкі з сівой даўніны данеслі да нас праз стагоддзі звесткі пра "мужа хітрага і вопытнага градаруба" Алексу, які валодаў не толькі майстэрствам дойліда, а меў і эстэтычны густ, бо ўдала выбраў месца для пабудовы непрыступнай крэпасці, узвёў яе, ярка-чырвоную, з вянком крэпасных зубцоў, якія лунaлі ў нябеснай высі і радавалі вока на фоне бяскрайняй зеляніны пушчанскіх лясоў. Ён, Камянецкі слуп, прымушаў чалавека часцей адрываць свой погляд ад грэшнай зямлі і скіроўваць яго да неба, да высокага і неабсяжнага.

А манах, чыё імя не захавала гісторыя, у цеснай келлі старанна выводзіў літару да літары, каб пакінуць продкам сведчанне пра заснаванне Камянца, пра тых людзей, якія закладвалі тут пачаткі пісанай гісторыі краю. Не толькі, аднак... Летапісец быў не бясстрасным перапісчыкам. У тое, пра што паведамляў, ён укладваў душу і сэрца, выявіў свае адносіны і да Алексы, і да валынскага князя Уладзіміра Васількавіча, і да самой вежы праз ацэначныя эпітэты, праз гіпербалу – "подобенъ удивлению всем зрящим на нь». Невядомы сёння нам летапісец растлумачыў сутнасць тапоніма – Камянец: зямля тут аказалася вельмі каменная.

Манах, які пакінуў нам звесткі пра заснаванне горада, пра збудаванне вежы, фактычна быў першым пісьменнікам Камянеччыны. Застаецца толькі шкадаваць, што цяпер не ведаем, адкуль ён родам, ці быў прыпушчанскі край яго малой радзімай. У той самы час можам катэгарычна сцвярджаць, што невядомы летапісец быў у Камянцы, любаваўся вежай і пакінуў нам сваё захапленне тварэннем рук таленавітага дойліда. Алекса абессмяроціў сябе, узвёўшы Камянецкі слуп, а невядомы нам другі творца – у радках пра майстрадойліда, пра справу яго таленту, пра князя-будаўніка Уладзіміра Васількавіча, напомніў у каторы раз пра тое, што напісанае застаецца, як і зберагаецца навечна ў людской памяці і аўтар, хоць і безымянны.

Пройдуць стагоддзі, калі на літаратурнай карце Камянеччыны з'явіцца новае імя – Іпацій Пацей, адзін з прадстаўнікоў знакамітых у Вялікім княстве Літоўскім родаў Тышкевічаў. Ён рана пакінуў прыпушчанскі край: Камянец не быў цэнтрам, дзе групаваліся дзеячы літаратуры і культуры.

Значным літаратурным асяродкам Камянеччыны ў XVIII ст. быў Воў-

чын, які належаў Чартарыйскім і Панятоўскім. Цудоўны палацава-паркавы комплекс з выдатным Троіцкім касцёлам у стылі позняга барока, багатая бібліятэка прываблівалі ў Воўчын мясцовых магнатаў і шляхту. Захавалася сведчанне, што тут пабываў з бацькамі Юльян Нямцэвіч. Апошні кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Панятоўскі, якому апошнім часам належаў Воўчын, добра ведаў літаратуру, захапляўся паэзіяй, перакладаў У. Шэкспіра, гуртаваў у сваіх маёнтках творчых людзей. У Воўчыне жыў польскі паэт, драматург, перакладчык Ігнацій Быкоўскі. Сюды наведваўся з Віцебска паэт Францішак Князьнін. Самому Станіславу Панятоўскаму належыць вялікая мемуарная спадчына.

У гэтае стагоддзе прыпушчанскі край пашле ў літаратуру яшчэ і такіх сваіх прадстаўнікоў, якімі з'яўляюцца Міхал Карповіч, Марцін Матушэвіч. Яны пісалі на польскай мове, бо яна на той час была дзяржаўнай ў Рэчы Паспалітай. Праўда, яшчэ цалкам не страціла свае пазіцыі і лаціна, таму гэтыя творцы карысталіся дзвюма мовамі.

Камянеччына пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай стала часткай Расійскай імперыі. Тыя ці іншыя жыццёвыя варункі прыводзілі ў наш край беларускіх, рускіх, польскіх пісьменнікаў. Ратуючыся ад арышту пасля выступлення на Сенацкай плошчы, калясіў па краі рускі паэт-дзекабрыст В.К. Кюхельбекер. Яго шлях пралёг праз Высокае і Камянец.

Некаторыя мясціны Камянеччыны асвечаны прысутнасцю ў краі Кастуся Каліноўскага, знаходкамі асобных нумароў яго "Мужыцкай праўды". У вёсцы Відамля жыла стрыечная сястра кіраўніка паўстання. Многія даследчыкі згадваюць сам факт наведвання К. Каліноўскім сястры, аднак пакуль невядома, што яднала выдатнага сына беларускага народа з гэтай жанчынай: ці былі то толькі крэўныя сувязі, ці двух сваякоў вабілі адзін да аднаго яшчэ і духоўныя інтарэсы. Атаман мужыцкай праўды сам любіў распаўсюджваць выдаваемую ім сумесна з В. Урублеўскім і Ф.Ражанскім. газету. У канцы 1863 г. у вёсцы Такары аказаўся адзін яе нумар. Праз нейкі час мясцовыя дзеці знайшлі ажно восем экземпляраў сёмага яе нумара. Як "Мужыцкая праўда" трапіла ў гэтую вёску, па сёння невядома. Некаторымі навукоўцамі выказваецца меркаванне, што газета магла друкавацца ў Белавежскай пушчы. Прымем яго ўсяго як навуковую гіпотэзу ці нават легенду, якая пакуль што нічым не пацвярджаецца, хіба толькі тым, што на Берасцейшчыне былі выяўлены першыя нумары выдання, што тут знаходзілі больш яго экземпляраў, чым у іншых мясцінах Беларусі.

Напярэдадні паўстання 1863 – 1864 гг. у суправаджэнні беларуска-польскамоўнага пісьменніка наведаў Белавежскую пушчу класік рускай літаратуры М.С.Ляскоў. Менавіта з XIX ст. бярэ пачатак этнаграфічная, гістарычная і мастацкая літаратура пра Камянецкі слуп і Белавежскую пушчу. Прыпушчанскі край за цэлае стагоддзе даў літаратуры трох пісьменнікаў: Плакіда Янкоўскага, Эдварда Пузыну, Усевалада Ігнатоўскага. Пачатак XX ст. быў у літаратурных адносінах бясплодны для краю. Праўда, у 1910 г. у вёсцы Бушмічы нарадзіўся драматург, тэатральны дзеяч Уладзімір Стэльмах.

У пасляваенныя гады на доўгі час звязала сваё жыццё з Камянцом Свят-



лана Курылёва. Пісала па-руску. Яе як настаўніцу найперш хвалявалі праблемы моладзі. У сваіх апавяданнях пісьменніца паказвала складаны працэс сталення юнакоў, а таксама жыццё вёскі. З 1956 па 1958 гг. у Воўчынскай і Малазводскай школах выкладаў беларускую мову і літаратуру крытык і літаратуразнаўца Сяргей Гусак. Пасля ён на працягу года загадваў Высокаўскім аддзелам народнай адукацыі. На доўгую палову 1950-х гг. прыпадае праца Анатоля Вярцінскага ў камянецкай раённай газеце. У Кругелі пасля заканчэння Брэсцкага педінстытута настаўнікам беларускай мовы і літаратуры працаваў Алесь Разанаў. Тым не менш літаратурнае асяроддзе на Камянеччыне тады і пазней не было створана. Тыя таленты, якія тут нараджаліся, пакідалі сваю малую радзіму і падаваліся спачатку ў Брэст на вучобу, а пазней – у сталіцу нашай краіны (У.Гніламёдаў, В.Жуковіч). Праўда, пэўныя выселкі ў плане стварэння літаратурнага асяроддзя былі зроблены Алесем Разанавым. Ён імкнуўся актывізаваць творчыя задаткі сваіх вучняў, арганізаваў у школе літаратурны гурток, члены якога заявілі пра сябе ў друку. Пасля прызыву паэта ў войска цікавасць да творчасці ў кругельскіх вучняў згасла. У 1939 г. у вёсцы Навасёлкі нарадзіўся Міхась Песенка. Пасля заканчэння службы ў войску больш на радзіму не вярнуўся. Пасля смерці бацькі туды падалася і маці. Сувязі з Навасёлкамі не губляў, ліставаўся са сваёй хроснай, распытваў пра сваякоў і равеснікаў. Вельмі хацеў прывезці на радзіму сваіх дзяцей. Мікола Песенка стаў рускамоўным пісьменнікам. Ён аўтар некалькіх паэтычных кніжак. Родам з Высокага польскі пісьменнік Яраслаў Маркевіч. Адразу пасля заканчэння Другой сусветнай вайны сям'я Маркевічаў пакінула Беларусь.

З 1974 г. у камянецкай раённай газеце "Навіны Камянеччыны" працуе ўраджэнка Піншчыны Ніна Гарагляд, аўтар некалькіх падборак і зборніка паэзіі. Хоць больш за трыццаць гадоў пісьменніца жыве на Камянеччыне, яе пясняркай не стала. Ніну Гарагляд найперш хвалююць праблемы Палесся: вынішчэнне яго флоры і фаўны, выміранне вёсак, маральная дэградацыя землякоў, калі нават на памінках прысутныя паводзяць сябе неадэкватна:

*Прыйшоў хто языком мянціць,*
*А хто – напіцца.*
*І за сталамі гамана,*
*Ужо ледзь не песня...*

Нельга назваць асабліва ўраджайнай літаратурную ніву прыпушчанскага краю і ў другой палове ХХ ст. У 1980-х гг. заявіла пра сябе даследаваннем беларуска-рускіх літаратурных узаемасувязей Т.В.Сянкевіч. Да ліку перспектыўных паэтычных талентаў можна аднесці Ярыну Дашыну, народжаную ў в. Ставы ў 1978 г. Цікавасць да літаратуры, імкненне выявіцца ў паэтычнай творчасці ўзнікла рана. Ужо ў школьныя гады ў вёсцы Клейнікі Брэсцкага раёна стала наведваць студыю "Спадчына", якой кіраваў Мікола Пракаповіч. Пасля атрымання сярэдняй адукацыі Ярына Дашына паступіла на філфак Брэсцкага універсітэта. Літаратурнае асяроддзе актывізавала яе творчыя памкненні. Яна прымае ўдзел у рэспубліканскім конкурсе маладых літаратараў "Дэбют", на якім атрымала гран-пры імя Яўгеніі Янішчыц. Непасрэдныя кантакты з літара-

турнай моладдзю ў час творчых семінараў на радзіме, ва Украіне і ў Польшчы развівалі цікавасць да здабыткаў сучаснай сусветнай паэзіі, да вызначэння ў ёй свайго месца. На час вучобы ва універсітэце (1996 – 2001) прыпадае і выхад у абласны друк. У 1999 г. у калектыўным зборніку "Дзядзінец: Паэзія Берасцейшчыны" была змешчана падборка вершаў Ярыны Дашынай "Тая, што з вамі – не я...". Спектр праблемаў, якія цікавяць паэтку, шырокі. Яе хвалюе лёс Бацькаўшчыны, захапленні маладосці, маральныя ідэалы сучаснікаў. Асабліва ўражвае негатыўнае ўспрыманне Ярынай Дашынай духоўнага стану сучаснага грамадства:

*Голыя рукі, голыя твары,*
*Голыя цені на тратуары.*
*Там, дзе крыжуюць голыя мары,*
*Дым цыгарэтаў і гукі гітары,*
*Голыя вокны, п'яныя людзі,*
*Тыя, што нас за маўчанне асудзяць.*
*І мітусіцца, і стогне да ранку*
*Голы ліхтар за маёю фіранкай.*

Радуе тое, што захапленне паэзіяй у маладога творцы, якое жывілася філалагічным асяроддзем у студэнцкія гады, літаратурнымі ўзаемаадносінамі ў студыі "Спадчына" абласнога Цэнтра творчасці моладзі, не знікла. Яна піша і цяпер, працуючы ў краязнаўчым аддзеле абласной бібліятэкі г. Брэста. Яе апошнія творы надрукавалі аўтарытэтны і высокапатрабавальны часопіс "Дзеяслоў" і іншыя рэспубліканскія выданні, падборка вершаў выйшла ў Аўстрыі, дзе імя нашай зямлячкі значылася побач з такім мэтрам у беларускай паэзіі, як Алесь Разанаў. Вершы Ярыны Дашынай перакладзены таксама на рускую, балгарскую мовы. Цяпер паэтка з Камянеччыны рыхтуе да выдання першы свой зборнік.

На старонках раённай газеты "Навіны Камянеччыны" змяшчалі свае творы і новыя аўтары. Георгій Мусевіч з вёскі Дмітравічы захоплены гісторыяй роднага краю. Яго пяру належыць кніга "Мой горад". Краязнаўца вылучае сваю версію назвы горада, уступаючы ў палеміку з аўтарам Іпацьеўскага летапісу: "Я звязваю назву горада таксама з каменем, але тым, які быў мерай вагі. Камянец узведзены на скрыжаванні воднага і сухапутнага шляхоў, у тым ліку і з бурштынавым шляхам, які спалучаў Валынь з Балтыкай".

На старонках раённай газеты выступаюць са сваімі вершамі журналістка Новік Галіна, родам з в. Доўбізна, Лойкуц Людміла, настаўніца з в. Пелішча, і яе калега з г. Камянца Жук Галіна, Харэвіч Сцяпан, работнік культуры з Пелішчаў.

Белавежская пушча з'яўляецца на Камянеччыне тым магнітам, які вабіць сюды творцаў. Яны хочуць выявіць свае адносіны да запаветнага кутка Беларусі. Літаратурны вянок Белавежы пачаў складацца яшчэ ў XIX ст. Свае кветкі ў гэты вянок уносілі падарожнікі, але выключная роля належыць пісьменнікам. Творы пра запаветны лес, пра Камянецкі слуп гучаць на беларускай, рускай, польскай, украінскай мовах. Да ліку першых належыць Павел Шпілеўскі, які ў



сваёй працы "Падарожжа па Палессі і беларускім краі" аддаў належнае Белавежскай пушчы. Адам Кіркюр расказаў чытачам пра ўзвядзенне Камянецкага слупа і заснаванне горада, абапіраючыся на летапісныя крыніцы. Георгій Краўцоў стварае грунтоўную, прыгожа выдадзеную працу "Белавежская пушча" (1903, С.-П.)

Першыя кветкі ў літаратурна-мастацкі вянок Белавежскай пушчы ўплялі Эліза Ажэшка і Генрых Сянкевіч. Наведаўшы гэты цуд прыроды, першая напісала кнігу "Ad astra", другі – навелу "З Белавежскай пушчы". Багацець і расквечвацца паэтычны вянок двум выдатным помнікам Камянеччыны пачаў пасля Другой сусветнай вайны. Справа ў тым, што ў гэты час ці не ўсе літаратурныя мерапрыемствы ў Брэсце, а многія і ў сталіцы Беларусі завяршаліся паездкамі ў Камянец і Белавежскую пушчу. Тут пабывалі пісьменнікі з розных рэспублік былога СССР. Многіх з іх пракаветны лес і помнік дойлідства XIII ст. Камянецкі слуп натхнілі на стварэнне вершаў. Белавежскай пушчы і вежы над ракой Лясной прысвячаюць свае творы рускія паэты Я.Смелякоў, У.Лугаўскі, А.Вазнясенскі, М.Дабранраваў, украінскі паэт М.Рыльскі і інш. Верш М.Дабранравава быў пакладзены на музыку А.Пахмутавай. Гэтая песня набыла асаблівую папулярнасць у выкананні ансамбля "Песняры" пад кіраўніцтвам У.Мулявіна, стала вядомая і любімая не толькі ў Беларусі, але і за межамі. Н.Арсеннева, захопленая хараством гучання гэтай песні, пераклала верш М.Дабранравава на родную мову, і амерыканскія беларусы "Белавежскую пушчу" спявалі па-беларуску.

Свае кветкі ў паэтычны вянок Камянецкаму слупу і Белавежскай пушчы ўплялі беларускія паэты: Максім Танк і А.Куляшоў, П.Панчанка і А.Вялюгін, Л.Геніюш і У.Караткевіч, П.Броўка і А.Лойка, В.Шніп і Д.Бічэль і мн., мн. іншыя. І кожнай з гэтых кветак, сплеценых беларускімі паэтамі Камянецкаму слупу і Белавежскай пушчы, належыць адметнае месца. Язэп Пушча ў вершы "Белавежа" раскрывае веліч, хараство лесу, захапляецца багаццем яго фаўны, ганарыцца, што гэты скарб належыць нашаму народу. Аналагічная думка раскрываецца і ў вершы П.Броўкі, што падкрэсліваецца назвай твора – "Ода зубру". Для лірычных герояў А.Вялюгіна, Х.Чэрні, К.Камейшы Белавежская пушча – неад'емная частка іх патрыятычнага пачуцця. У.Караткевіч у вершы "Белавежскі алень" выступае абаронцам фаўны запаветнага лесу, звяртаючыся да сучаснікаў з просьбай-маленнем аберагаць, а не вынішчаць жывёльны свет краю. Іншы гуманістычны пафас заключае верш Г.Пашкова "Ад стогадовых сосен вешчы шум...". Для яго лірычнага героя з'яўляецца непрымальным паняволенне пушчанскіх звяроў у вальерах, каб задавальняць патрэбы шматлікіх турыстаў.

Зубры ў аднайменным вершы Л.Геніюш выступаюць увасабленнем трагічнай гісторыі беларускага народа і ў той самы час сімвалам яго неўміручасці. Для В.Шніпа Белая вежа – гэта сведчанне даўняй нашай прысутнасці на гэтай зямлі ("Балада Белай вежы"). А.Лойка ўспрымае збудаванне як помнік беларускага абарончага дойлідства, а таксама пратэстуе супраць вынішчэння гістарычнай памяці народа. Наведванне Белавежы А.Куляшовым навяло яго на роз-

дум пра эстэтычныя праблемы, пра запатрабавальнасць яго твораў наступнікамі. Вестка пра смерць дуба Ягелы была для Максіма Танка стымулам выявіць свае адносіны да тых, хто здольны служыць іншым і дбаць пра наступнікаў.

Свае барвы ў паэтычны вянок Камянеччыны ўнеслі творцы з Берасцейшчыны. Боль, трывога за маральны стан сучаснага грамадства гучыць у вершах Я.Янішчыц, прысвечаных Белавежскай пушчы. Неабходнасць быць вартымі спаткаемцамі мужнасці, годнасці, вальналюбства, любові да сваёй радзімы сваіх папярэнікаў – пафас вершаў М.Пракаповіча “Белая вежа” і “Вяртанне пушчанскага Ваўка”. А.Каско праз вобразы тарпанаў у вальеры ўздымае агульначалавечую праблему здрады самому сабе, няздольнасці адчуць пагрозу з боку чужынцаў сваёй волі і незалежнасці і заплаціць за гэта дарагую цану (“Легенда пра тарпанаў”). Для лірычнага героя М.Рудкоўскага наведванне пушчы звязана з вяртаннем душэўнай раўнавагі, адчуваннем прыліву маладых сіл, з патрэбай кахаць і ўслаўляць каханне (“А снег ідзе...”, “Лясная элегія”, “Паядынак аленяў” і інш.).

## ІПАЦІЙ ПАЦЕЙ

У нацыянальную гісторыю Іпацій Пацей увайшоў як царкоўны і дзяржаўны дзеяч, як мысляр і пісьменнік. На працягу некалькіх стагоддзяў яго асоба ў цэнтры ўвагі тэолагаў, даследчыкаў філасофскай думкі, грамадзянскай гісторыі і літаратуразнаўцаў. Яму даюць самыя палярныя ацэнкі пра месца ў гісторыі, але ўсе адзінадушныя ў тым, што гэта неардынарная асоба. У апошнія гады дамінавальным з’яўляецца меркаванне, што ў асобе Іпацiя Пацея, у яго дзейнасці і светапоглядзе выявіўся пераломны для дзвюх культурна-гістарычных эпохаў час, калі на змену Адраджэнню ішло Барока, заваёўвала свае пазіцыі, калі Рэфармацыя змянялася Контррэфармацыяй.

Іпацій Пацей належыць двум народам – беларусам і ўкраінцам. У яго творах не выяўлена нацыянальная самаідэфікацыя, затое выразнай з’яўляецца рэлігійная. Многае звязвае творцу з Украінай, не менш, а можа і больш – з Беларуссю. Іпацій Пацей нарадзіўся ў 1541 г. у праваслаўнай шляхецкай сям’і ў паселішчы Ражанка, якое належала бацьку пісьменніка. Родавыя карані іх – таксама на Камянеччыне ў вёсцы Каранёва. Ні першага, ні другога паселішча цяпер на карце раёна няма.

Бацька Адама (свецкае імя Пацея) служыў пры двары вялікіх князёў і каралёў, займаючы высокія пасады, але рана памёр: пісьменніку тады ішоў дзевяты гадок. Маці паўторна выйшла замуж, а сына аддала пад апеку Мікалая Радзівіла Чорнага. Адам пачаў жыць і вучыцца пры княскім двары ў Нясвіжы. Перад падлеткам адкрылася бліскучая мажлівасць атрымаць выдатную адукацыю, і гэтую мажлівасць Пацей выкарыстаў напоўніцу. У хуткім часе ён пачынае працаваць сакратаром у свайго апекуна і пераходзіць у пратэстанцкую веру – кальвінізм, якой на той час прытрымліваўся не толькі Мікалай Радзівіл Чорны, але такія ўплывовыя ў Вялікім княстве Літоўскім роды, як Сапегі, Вішня-



віцкія, Хадкевічы, Войны і інш. Адам Пацей будзе доўгі час спавядаць кальвінізм.

Пасля смерці бацькі за Адамам Пацеем засталася спадчынная Ражанка. У 20-гадовым узросце ён ажаніўся з дачкой праваслаўнага князя Фёдара Галаўні-Астрожскага. Сваяцтва спрыяла асабістым кантактам з Сапегамі, у тым ліку і з Канстанцінам Астрожскім, героем знакамітай бітвы пад Оршай. Пачынаецца бліскучая кар'ера маладога Адама. Гэтаму спрыялі не толькі выдатная адукацыя, прыродны розум, але і ўплывовыя сваякі. Наш зямляк спачатку атрымаў пасаду сакратара Берасцейскага ваяводства, затым інспектара і, нарэшце, кашталяна, што давала права Адаму Пацею прымаць удзел у працы Сената як прадстаўніку Пабужжа.

У 1574 г. Іпацій Пацей вяртаецца ў праваслаўе. Паказальна, што былыя кальвіністы пераходзілі галоўным чынам у каталіцтва. Аб яго дзяржаўнай дзейнасці і месцы ў тагачаснай палітыцы краіны сведчаць такія факты, што імя нашага земляка значыцца ў ліку тых, хто падпісаў Люблінскую унію, а таксама і пад дакументам аб роўнасці веравызнанняў у Рэчы Паспалітай. Вярнуўшыся ў праваслаўе, Іпацій Пацей актыўна ўключаецца ў культурна-рэлігійнае жыццё на Беларусі і Украіне. Ён становіцца фундатарам Берасцейскага брацтва, апекуном яго школы, з'яўляючыся свецкім чалавекам, прымае ўдзел у паседжаннях і працы праваслаўных Сабораў.

Другая палова XVI ст. пазначана крызісам праваслаўя ў Вялікім княстве Літоўскім. Як адзначалася вышэй, уплывовыя роды пераходзяць у каталіцызм. Праваслаўе губляе сваіх багатых мецэнатаў. У асяроддзі духавенства масавай з'явай становіцца карупцыя, распуста, сваволле. Праваслаўныя святары – людзі нізкай культуры, пазбаўленыя прамоўніцкага дару. Адам Пацей асабістым прыкладам і сродкамі падтрымлівае праваслаўныя брацтвы і пачынае выразна ўсведамляць, што трэба шукаць іншае выйсце. Яно яму бачыцца ва ўніі. Гэтай сваёй пазіцыяй збліжаецца з Канстанцінам Астрожскім, які імкнуўся да ўніверсальнага аб'яднання ўсяго хрысціянскага свету. Князь у асобе Іпація Пацея бачыць свайго аднадумцу і саратніка і пачынае прасоўваць на высокія духоўныя пасады.

Пасля смерці жонкі Пацей пастрыгаецца ў манахі і прымае імя Іпацій. Канстанцін Астрожскі рэкамендуе нашага земляка на пасаду ўладыкі на Уладзіміра-Берасцейскую епіскапскую кафедру. Князь яшчэ не ведаў, што Іпацій Пацей быў прыхільнікам не ўніверсальнай, а рэгіянальнай уніі і патаемна вёў працу, каб схіліць як мага больш праваслаўнага кліру на свой бок. Гэта яму ўдаецца, была нават падпісана тайная дамова – згода на беларуска-ўкраінскую ўнію. У той самы час К.Астрожскі бачыў у асобе Іпація Пацея як чалавека адукаванага, бліскучага аратара галоўнага пасланца для перамоў з Масквой. Тое, што доўгі час было тайным, стала вядомым. Узнік канфлікт з князем-апекуном Берасцейска-Уладзімірскага ўладыкі. Навукоўцы гэты канфлікт паміж двума выдатнымі дзеячамі тлумачаць тым, што Іпацій Пацей бачыў пагрозу для нацыянальнай царквы Беларусі і Украіны з боку праваслаўя Масковіі, якое набірала сілу, займеўшы сваю патрыярхію.

Разам з тым і рэгіянальная унія не адлюстроўвала інтарэсаў насельніцтва

Вялікага княства Літоўскага, а спрыяла яго расколу: сацыяльныя вярхі не прынялі ўнію, а сталі пераходзіць у каталіцкую веру. Большасць праваслаўных стала шукаць падтрымку ў Масквы, пачалася сапраўдная вайна паміж прыхільнікамі і праціўнікамі ўніі, у тым ліку і ў літаратуры, якая атрымала назову палемічнай.

А між тым кіпучая дзейнасць Іпація Пацея закончылася поспехам. У 1596 г. у Брэсце была падпісана ўнія, якую зацвердзіў кароль. Уладыка пачынае яе ўкараняць у сваёй епархіі, не грэбуючы ніякімі спосабамі, у тым ліку самымі жорсткімі, вытанчанымі. Пры падтрымцы караля Берасцейска-Уладзімірскі ўладыка прызначаецца архімандрыдам Кіева-Пячорскай Лаўры, а потым становіцца Кіеўскім мітрапалітам. Уніяцкі вярхоўны кіраўнік пачынае планамерны захоп праваслаўнай маёмасці. Ідэя яднання хрысціянскіх цэркваў сама па сабе не выклікае пярэчання. Актуальнай з'яўляецца яна і сёння, сродкі, якімі насаджаў яе Іпацій Пацей, непрымальныя.

У аснове дзейнасці ўніяцкага мітрапаліта было імкненне да самастойнасці духоўнага жыцця на беларуска-ўкраінскіх землях і ішло ў рэчышчы мясцовых духоўна-культурных традыцый. Ён выразна ўсведамляў мяжу паміж народам маскоўскім, у сучасным разуменні расійскім, і русінскім, беларуска-ўкраінскім. У многіх творах Іпація Пацея шмат разоў паўтараецца выраз "наш єзык рускій". Выкарыстоўваючы яго, аўтар меў на ўвазе беларускую мову, на якой пісаў свае выдатныя творы пісьменнік з Камянеччыны. Ён стаяў ля вытокаў уніяцкай адукацыі на Беларусі, з выразна выяўленымі нацыянальнымі тэндэнцыямі, шмат зрабіў для развіцця беларускага кнігадрукавання. Уніяцкі мітрапаліт апекаваўся знакамітай друкарняй Мамонічаў у Вільні.

Іпацій Пацей з'яўляецца выдатным беларускім пісьменнікам-публіцыстам. Ён дэбютаваў сваім палемічным творам "Унія". Да літаратурных набыткаў пісьменніка варта аднесці і лісты да Канстанціна Астрожскага. Другім выдатным яго творам з'яўляецца "Гармонія". Таленавіты аратар Іпацій Пацей пакінуў вялікую колькасць казанняў, у якіх таксама выявіўся яго пісьменніцкі дар. Прапаведніцкія творы ўладыкі Іпація ўражваюць эрудыцыяй і адукаванасцю іх аўтара. У сваіх казаннях ён абапіраўся на думкі прызнаных аўтарытэтаў, але выбіраў галоўнае, надзённае, неабходнае яму для сцверджання сваёй той ці іншай думкі.

Для твораў пісьменніка характэрны прастата і яснасць выкладу думак, лагічнасць і аргументаванасць выказвання і ў той самы час эмацыйнасць, палемічнасць, яркая вобразнасць. Яго творы характарызуюцца багаццем інтанацый, высокай культурай мовы. Сучасныя даследчыкі творчай спадчыны Іпація Пацея адзначаюць, што ён дасканала валодаў роднай мовай. У творах пісьменніка суседнічае патэтыка з іроніяй, лагоднасць, памяркоўнасць з сарказмам і акадэмічнай строгасцю. Каб сказаць, што ў ідэі уніі – глыбокія карані, Іпацій Пацей выявіў і ўвёў у навуковы ўжытак некаторыя раней невядомыя тэксты.

Пісьменнік з Камянеччыны пакінуў наступнікам сваю волю, дзе па смерці яго пахаваць. Дарагімі творцу, грамадскаму і рэлігійнаму дзеячу аказаліся Уладзімір-Валынскі, Вільня, Наваградак і Берасце. Усе яны знакавыя ў біяг-



рафіі Іпація Пацея, а апошнія тры такімі з'яўляюцца для гісторыі нашага народа. Так склалася, што Уладзімір-Валынскі – месца вечнага спачыну нашага земляка, які памёр у 1613 г.

## МАРЦІН МАТУШЭВІЧ

Прырода надзяліла Марціна Матушэвіча талентам пісьменніка, невычэрпнай энергіяй, добрым веданнем псіхалогіі людзей. Яго актыўная дзейнасць прыпадае на час, калі Рэч Паспалітая ўжо выразна губляла сваю сілу і веліч, калі ўсё больш адчувальнай станавілася пагроза страты дзяржаўнай незалежнасці, калі ў нацыянальных вярхах слабелі грамадскія інтарэсы, а набывалі гіпертрафіраванае выражэнне прыватныя, карыслівыя, звязаныя з жаданнем любой цаной задаволіць сваё славалюбства, займець уладу, каб атрымліваць мажлівасць багацець.

Марцін Матушэвіч нарадзіўся ў Елінскім Бары (цяпер вёска Ельня) у 1714 г. у сям'і шляхціца. Атмасферу, якая панавала паміж сваякамі, цяжка назваць цёплай і сардэчнай. Маці вызначалася ўладарнасцю, жорсткасцю і саслоўнай пыхлівасцю. Перад дасягненнем сваіх карыслівых мэтаў не спынялася ні перад чым. Пазней пісьменнік прыгадае, што па яе загадзе ў адной са сваіх гаспадарак за нейкую дробязную правіннасць загадала пакараць так бізунамі свайго эканома, што той праз некалькі дзён памёр. Баючыся, што будзе сама прыцягнута да адказнасці, жанчына на нейкі час схавалася ў клештары, а потым пачала дамагацца, каб даказаць, што той эканом не быў шляхціцам, а ўсяго халопам. За забойства прыгоннага гаспадары адказнасці не неслі. Не менш жорсткай маці была і ў сям'і. Яна дамаглася бізунамі згоды ад дачок на замуства адной за такога бедака, які не меў магчымасці, на чым забраць маладую жонку да сябе, а другую – за старога, каб толькі мець падтрымку ў трыбунале.

Марцін Матушэвіч атрымаў добрую адукацыю ў вучэльнях езуітаў спачатку ў Камянцы, затым у Брэсце, Драгічыне і Варшаве. Суровы рэжым гэтых навучальных устаноў фармаваў у юнака стойкасць, гатоўнасць да пераадолення цяжкасцей. Прыродны розум, узбагачаны адукацыяй, музычныя і вакальныя здольнасці, мэтаімкнёнасць, фізічная загартоўка спрыялі таму, што Марцін Матушэвіч паспяхова прасоўваўся па службовай лесвіцы, займаючы хоць не такія высокія, але надзвычай уплывовыя пасады. Каб іх займець, наш зямляк не адчуваў дакору сумлення: у ход ішлі хабар, інтрыгі, пратэкцыянізм. У 1739 г. ён займеў у Брэсце пасаду пісара, затым быў брэсцка-літоўскім падстольнікам. Праслужыўшы на гэтай пасадзе больш дзесяці гадоў, становіцца стольнікам у горадзе над Бугам, а затым у 1765 г. – земскім суддзёй.

Поле дзейнасці брэст-літоўскага суддзі і кашталяна было шырокім. Яно ахоплівала Вільню, Наваградак, Пінск, але найчасцей – Брэст і яго ваколіцы: Камянец, Цярэспаль, Высокае, Расну, Чамяры, Чарнаўчыцы, Матыкалы, Воўчын, Трасцяніцу, Мінькавічы, Вярхі і інш.

З Раснай пісьменніка звязвалі не толькі службовыя абавязкі. Справа ў тым, што ў 1722 г. мястэчка Расна, дзе ладзілася па некалькі гадавых кірмашоў, якое

належала Сапегам, было аддадзена пад залог Юру Матушэвічу, бацьку Марціна. Сапегам своечасова сплаціць даўгі не ўдалося, і Расна адышла да Матушэвічаў. Марцін тут асабліва часта любіў бываць, будучы шкаляром. Наведваўся ён да бацькоў і з сям'ёй. Брэст-Літоўскі суддзя, па яго сведчанні, ажаніўся калі не па каханні, то па сімпатыі да сваёй жонкі, меў вялікую сям'ю. Калі ў 1753 г. памёр бацька пісьменніка, то пакінуў Марціну ў спадчыну Расну, Войнаўку, Рагачы, Чымяры. Сюды і пераехала сям'я пісьменніка. Тут нарадзіўся сын Тадэвуш (1765 – 1819), які, па сведчанні Адама Мальдзіса, таксама меў літаратурны талент і вядомы як паэт, перакладчык, публіцыст.

Літаратурная спадчына Марціна Матушэвіча складаецца з мемуараў, перакладаў, вершаў на польскай і лацінскай мовах. Літаратурныя здольнасці ў Марціна выявіліся вельмі рана. Яшчэ дзіцём ён складаў панегірычныя вершы, прысвечаныя ўплывовым асобам, якія выкарыстоўваў яго бацька, каб вырашыць нейкае практычнае пытанне. Вершаскладаннем пісьменнік займаўся і пазней, аднак яго паэтычныя творы пакуль што недаступныя шырокаму колу беларускамоўных чытачоў.

Адметнае месца ў гісторыі літаратуры, грамадскай думкі і грамадзянскай гісторыі належыць мемуарам Марціна Матушэвіча, у якіх выразна выявілася асоба аўтара, што дало падставу некаторым польскім даследчыкам назваць іх аповесцю. Успаміны нашага земляка – гэта зрэз грамадска-палітычнага, духоўнага жыцця, маральных ідэалаў сацыяльных вярхоў Рэчы Паспалітай у другой палове XVIII ст., гэта погляды Марціна Матушэвіча на прычыны дзяржаўнай катастрофы краіны, метастазы якіх выразна бачыў брэсцка-літоўскі суддзя і кашталян. Яму давялося быць сведкам першага падзелу Рэчы Паспалітай.

Мемуары Марціна Матушэвіча ахопліваюць 1714 – 1764 гг. і пісаліся на працягу доўгага часу. Польскай грамадскасці яны сталі вядомыя праз тры гады пасля смерці іх аўтара. Мемуары былі выдадзены А.Павінскім. Яму належыць і грунтоўны ўступны артыкул пра жыццё і творчасць нашага земляка. Цяпер яго мемуары сталі часткова даступныя і беларускамоўнаму чытачу. Часопіс "Спадчына" (1996, № 5 і 1997, №№ 1 і 2) апублікаваў іх у перакладзе Вацлава Арэжкі пад назовай "Дыярыуш майго жыцця".

Асаблівасць мемуараў Марціна Матушэвіча заключаецца ў тым, што ім характэрна выключная шчырасць, імкненне аўтара да справядлівасці і праўдзівасці. Ён не баяўся прынізіць сябе ў вачах чытача і нашчадкаў. Наш зямляк гаворыць пра сябе, што браў і даваў хабар, галасаваў і сведчыў па няпраўдзе. У мемуарах іх аўтар прадстае перад чытачом як тыповы прадстаўнік драматычнага часу ў гісторыі дзяржавы, калі рушыліся спрадвечныя маральныя законы, калі вернікі грэбавалі Божымі запаведзямі ў імя карыслівых сіюмінутных інтарэсаў. Успамінам Марціна Матушэвіча характэрна яшчэ і бясстраснасць. Пісьменнік апісвае падзеі і людзей, што добра ведаў, не ацэньваючы іх. Аўтарская пазіцыя выяўляецца найперш праз адбор матэрыялу. Стрыманасць і ўяўная бясстраснасць Марціна Матушэвіча тлумачыліся страхам, каб яго запіскі не былі скрадзены дзеля карыслівых мэтаў, скіраваных супраць аўтара. Гэта



было на той час у асяроддзі шляхты тыповай з’явай. Перадавалася ад пакалення ў пакаленне і трагедыя земляка Марціна Матушэвіча Казіміра Лышчынскага.

Як прадстаўнік шляхецкага саслоўя, Марцін Матушэвіч расказвае найперш пра сацыяльныя вярхі Вялікага княства Літоўскага. Ён стварыў пераканальныя вобразы магнатаў Міхала і Караля Радзівіла, Міхала Чартарыйскага, Людвіга Пацея і інш. Сацыяльнае і службовае становішча пісьменніка вымагала ўслаўлення тых, ад каго ён залежыў. Таму ўспаміны Марціна Матушэвіча не пазбаўлены панегірычных інтанацый. Аўтар услаўляе шчодрасць, набожнасць, дабрыню сваіх мецэнатаў. У той самы час іх учынкі, іх патаемныя і ўяўныя намеры выразна сведчаць, што яго патроны вызначаліся самадурствам, эгаізмам, двурушніцтвам, маральнай разбэшчанасцю. Так, брэсцкі падкаморны Людвік Пацей жыў па прынцыпе: “Калі ў мяне кінуць каменем, я яго схаваю, кінуць другім, трэцім – я іх таксама схаваю, але калі прыйдзе час, то, кінуўшы адразу тры камяні, абавязкова пападу ў свайго праціўніка”.

Не вызначаюцца дзяржаўнай мудрасцю, духоўным і фізічным здароўем і многія прадстаўнікі роду Радзівілаў, хоць, як іраней, займаюць высокія пасады ў дзяржаве. Кароль Радзівіл, у якога дарадчыкам служыў мемуарыст, выступае са старонак твора як авантурыст, скандаліст, п’яніца. Марцін Радзівіл, які валодаў Чарнаўчыцамі, паказаны распуснікам і садыстам.

Шляхта сярэдняга дастатку, не гаворачы ўжо пра шарачковую, у паказе Марціна Матушэвіча цалкам пазбаўлена самастойнасці і маральных ідэалаў. Яна служыць і падтрымлівае таго магната, хто больш плаціць і, не шкадуючы, частуе. За гэта прадаецца гонар і годнасць, галасы на сеймах і сейміках, на паседжаннях трыбуналаў, а значыць, прадаюцца і дзяржаўныя інтарэсы.

У канцы 60 гг. Марцін Матушэвіч пакідае службу і стала жыве ў Расне. У гэты перыяд ён займаецца перакладамі ці дакладней перастварэннем сатыраў рымскага паэта Антычнасці Гарацыя. Гэта актывізавала і яго сатырычную творчасць. Марцін Матушэвіч напісаў тры арыгінальныя “Дадаткі”. Як вядома, Гарацый гнеўна выступаў супраць тыраніі, паэтызаваў рэспубліканскае дзяржаўнае ўладкаванне і гэтым быў блізкі нашаму земляку. У той самы час эпікурэйства рымскага паэта было непрымальным для Марціна Матушэвіча. Ён добра ведаў, у што ператварылася яно ў магнацка-шляхецкім асяроддзі, нярэдка заканчвалася крывавымі сутычкамі. У “Дадатках” Марціна Матушэвіча паказваецца і такі бок жыцця магнатаў, як распуста, стварэнне ў сваіх маёнтках сапраўдных гарэмаў.

Творчасць нашага земляка з Ельні мае не толькі канкрэтна-гістарычнае, але і агульначалавечае значэнне. З мемуараў пісьменніка вынікае выснова пра трагічны лёс дзяржавы і народа, калі сацыяльныя вярхі ігнаруюць і грэбуюць спрадвечнымі духоўнымі набыткамі, у тым ліку і ў сферы грамадскага ўладкавання, калі няма ў кожным гарманічнага паяднання асабістых і грамадскіх інтарэсаў.

Памёр М. Матушэвіч у 1773 годзе.

# МІХАЛ КАРПОВІЧ

Жыццё і дзейнасць Міхала Карповіча прыпадае на другую палову XVIII ст., на час бурлівых палітычных падзей, якія прывялі да страты Вялікім княствам Літоўскім і Рэччу Паспалітай сваёй дзяржаўнасці. У гэтых падзеях прымаў непасрэдны ўдзел Міхал Карповіч. Ён нарадзіўся ў г. Камянцы ў 1744 г. у дробнашляхецкай сям'і. Дзіцём яго аддалі на вучобу ў Берасцейскую езуіцкую калегію. Гэтая навучальная ўстанова доўгі час была цэнтрам навучання і адукацыі ў краі. З яе пачыналася дарога ў свет для сцверджання сябе ў розных галінах чалавечай дзейнасці для многіх юнакоў Пабужжа. Варта згадаць, што ў свой час у Берасцейскай езуіцкай калегіі вучыліся нашы землякі Марцін Матушэвіч і Юльян Нямцэвіч. У сямігадовым узросце хлопчык з Камянца пераступіўпарог гэтай навучальнай установы і пакінуў яе сцены семнаццацігадовым юнаком. Тут ён атрымаў бліскучую адукацыю, тут сфармаваліся яго погляды, тут акрэслілася поле дзейнасці, якому прысвяціў свае сілы і талент.

Пасля заканчэння навучання ў Берасці юнак падаецца ў Варшаву, уступае ў аб'яднанне Крыжа Місіянерскага. У час навучання выявіў выключныя аратарскія здольнасці ў прамаўленні казанняў. Нашаму земляку дазваляюць праводзіць казанні ў якасці клерка ў касцёле Святога Крыжа (1766 г.), а ўжо праз год Міхал Карповіч змог заняць пасаду прафесара філасофіі ў Варшаўскай духоўнай семінарыі. Чатыры гады малады прафесар быў звязаны з гэтай навучальнай установай, у якой шліфаваўся яго талент прамоўцы. І ў 1771 г. пераехаў у Кракаў і там выкладаў багаслоўе.

Палітычныя падзеі ў краіне пачалі развівацца такім чынам, што Міхал Карповіч палічыў неабходным вярнуцца ў Літву: у 1772 г. адбыўся першы падзел Рэчы Паспалітай. Прафесар з Камянца пачынае выкладаць царкоўную гісторыю і багаслоўе ў Віленскай епархіяльнай семінарыі (1772 – 1774). Гэта ўжо быў чалавек з выразнымі дэмакратычнымі ідэаламі і цвёрдымі жыццёвымі прынцыпамі. Міхал Карповіч з'яўляецца шчырым прыхільнікам французскіх асветнікаў і прапагандыстам іхніх ідэяў. Ён выступае палкім абаронцам прыгоннага сялянства і бясстрашным абвінаваўцам шляхецка-магнацкай тыраніі.

На гэты час прыпадае збліжэнне Міхала Карповіча з біскупам Масальскім, апеку і дапамогу якога будзе адчуваць усё сваё жыццё. Ад біскупа наш зямляк атрымаў Грыжашкі на Сувалаўшчыне, якія стануць любімым месцам адпачынку, супакаення і раўнавагі нашага земляка. Тут ён пачне збіраць сваю бібліятэку, у якой належнае месца зоймуць творы на французскай мове. Па вяртанні ў Вільню Міхал Карповіч актыўна ўключаецца ў грамадска-палітычную дзейнасць. У 1774 г. ён выбіраецца дэлегатам правінцыйнага канвента ў Варшаве, які акрэсліваў падыходы да стварэння Канстытуцыі Рэчы Паспалітай. Багаслоў-асветнік і патрыёт быў перакананы, што наступіў крытычны час у жыцці Айчыны, калі яна можа знікнуць з гістарычнага быцця як самастойная дзяржава.

Літаратурная творчасць Міхала Карповіча была скіравана на актывізацыю патрыятычных пачуццяў сучаснікаў, на іх маральнае ўдасканаленне. Ён пісаў



панегірычныя вершы, аднак асаблівым паэтычным талентам не вызначаўся Захавалася чатыры вершы нашага земляка, прысвечаныя ўплывовым асобам у Вялікім княстве Літоўскім, і прамоўленыя перад імі ў час нейкіх для апошніх урачыстых падзей.

Славу Міхалу Карповічу як пісьменніку прынеслі трыбунальскія і юбілейныя казанні, якія ён пачаў прамаўляць у Гародні ў рэзідэнцыі караля з 1775 г. і аж да 1784 года. Яго казанні былі апублікаваны пад паказальнай назовай "Грамадскія пропаведзі", бо ў іх раскрываліся не столькі тэалагічныя праблемы, а дзяржаўнае ўладкаванне, лёс Айчыны, набліжэнне яе да дзяржаўнай катастрофы. У сваіх казаннях Міхал Карповіч заўсёды падымаў надзённыя грамадска-палітычныя праблемы. Штогадовай была яго пропаведзь "Аб любові да Айчыны". Ён выступаў у абарону прыгонных, дабіваўся замены паншчыны чыншам, спрыяў адкрыццю парафіяльных школаў. Пафас большасці казанняў пісьменніка з Камянца – пратэст супраць бяспраўя і беспарадкаў, свавольства і амаральнасці сацыяльных вярхоў. Як прыхільнік гуманістычных ідэалаў, ён вылучыў ідэю, у рэалізацыю якой і сам мала верыў: стварыць калектыўную жытніцу і касу дапамогі для ўсіх, хто па нейкіх прычынах трапляў у безвыходнае становішча.

Стрыжнявой думкай яго казанняў з'яўляецца патрыятычная. Так, у "Казанні на пяты чацвер посту ў калегіуме Святога Яна ў Варшаве 1775 года 30 сакавіка" ў вусны свайго антыпода ўклаў словы, якія асабліва выразна раскрываюць маральна-патрыятычныя ідэалы іх аўтара: "Навошта вам прытрымлівацца запаветаў Божых, правілаў дабрачыннасці, пільнавацца загадаў касцельных і цнотаў? Навошта вам вернасць у прысягах, надзейнасць у абяцаннях, захаванне чысціні сумнення?.. Падымайце свае маёнткі, прадаючы сумленне і дабрачыннасць, будуйце свае дамы на разбурэнні Айчыны і незалежнасці краю; кіруйцеся сквапнасцю і самалюбствам, пагарджаючы справядлівасцю і верай; няхай вашым правам будзе гвалт, няхай вашым шчасцем будуць багацце і раскоша, няхай вашай дабрачыннасцю будуць дастатак і пыха, няхай вашай справядлівасцю будуць уласныя інтарэсы".

Казанні Міхала Карповіча мелі не толькі сваіх прыхільнікаў. Яны не прымаліся рэакцыйнай часткай шляхты і кліру. Выдатнага прамоўцу і патрыёта абвінавачвалі ў варожасці да рэлігіі. Абарону і падтрымку ён заўсёды знаходзіў у біскупа Масальскага і нават у самога караля. Яны высока цанілі талент нашага земляка, яго патрыятычную дзейнасць. За асобыя заслугі ў прапагандзе духоўных каштоўнасцяў яму былі нададзены званні архідзьякана Смаленскага, каноніка Пазнанскага. Кароль узнагародзіў Міхала Карповіча медалём. Каб пазбегнуць беспадстаўных абвінавачванняў, тэксты яго казанняў вывешваліся на дзвярах касцёлаў, а ў абвестцы паведамлялася, што яны аўтэнтычныя тым, што будуць прамоўлены іх аўтарам.

У 1783 г. Міхал Карповіч пачаў працаваць прафесарам тэалогіі ў Галоўнай літоўскай школе Вільні. У яго не складаліся ўзаемаадносіны з яе рэктарам і яго прыхільнікамі. Справа дайшла да таго, што свае казанні прафесар вымушаны быў даваць для азнаямлення каралю, якія тым былі ацэнены надзвычай высо-

ка, а іх аўтар параўнаны з Пятром Скаргам. Кароль нават выдаў прывілей на іх друкаванне, якім наш зямляк не пакарыстаўся.

Міхал Карповіч вітаў Канстытуцыю ад 3 траўня 1791 года, верыў, што яе прынцыпы зліквідуюць магнацкую і шляхецкую анархію, будуць спрыяць палітычнаму і эканамічнаму ўмацаванню дзяржавы. Асветнік і рэлігійна-палітычны дзеяч XVIII ст. з Камянца належыў да ліку тых, у каго словы не разыходзіліся са справамі. Калі ўспыхнула паўстанне пад кіраўніцтвам другога нашага земляка Тадэвуша Касцюшкі, у яго шэрагі ў 1794 г. стаў і Міхал Карповіч. Ён быў аднадумцам кіраўніка змагання за аднаўленне дзяржаўнасці краіны ў межах да 1772 г., па сялянскім пытанні, уваходзіў у паўстанцкі ўрад. Казанні Міхала Карповіча, у якіх ён вітаў Канстытуцыю, а таксама па палеглых у змаганні за Айчыну, агучаныя па-польску і па-беларуску ў Вільні, распаўсюджваліся на тэрыторыі краю як улёткі.

Расейскія ўлады не маглі дараваць Міхалу Карповічу яго патрыятычную дзейнасць. Быў выдадзены загад аб яго арышце. Нашаму земляку ўдалося патаемна пераправіцца ў Варшаву, а адтуль – у свае Грыжашкі. Пазней яму было вернута прафесарскае званне. Нягледзячы на свае сціплыя заробкі, заняўся рамонтам мясцовага касцёла, арганізаваў капітулу, заснаваў духоўную семінарыю, у якой сам выкладаў. Працаваў нястомна і з клопатам пра будучыню радзімы. Міхал Карповіч памёр у 1803 г. у Баржніках і пахаваны ў Віграх.

Плацыд Янкоўскі

Плацыд Янкоўскі належыць да тых пісьменнікаў, хто ў складаных грамадска-палітычных і рэлігійных варунках у Беларусі пасля паўстання 1830 – 1831 гг. не здолеў застацца самім сабой, хто хістаўся, мяняў веру, прымыкаў да варожага лагеру, але ў ім не стаў сваім. Пісьменнік фактычна становіцца ізгоем, які страціў цікавасць да жыцця і які, як ён сам прызнаецца, свае таямніцы панёс у магілу.

Плацыд Янкоўскі паходзіў з беднай патрыятычна настроенай шляхецкай уніяцкай сям'і. Яго бацька прымаў удзел у паўстанні 1794 г. у атрадах Т.Касцюшкі. Пазней прыняў духоўны сан, атрымаў ад касцёла прыход у вёсцы Вайская. Тут у 1810 г. і нарадзіўся пісьменнік. З часоў, калі на Камянеччыне жылі Янкоўскія, стаіць драўляная царква, узведзеная яшчэ ў 1587 г., з прыбудаванай у XIX ст. званіцай. Інтэр'ер храма, іканастас і царскія вароты, упрыгожаны арыгінальнай драўлянай разьбой.

Плацыд Янкоўскі атрымаў добрую адукацыю. З 1818 па 1826 гг. вучыўся спачатку ў Свіслацкай гімназіі, затым у Берасцейскай школе базыльянаў. У гімназіі панаваў дух патрыятызму і вальналюбства. Яго навучэнцы мелі магчымасць быць добра дасведчанымі ў літаратуры і мастацтве. Некаторы час Свіслацкай гімназіяй апекаваўся Францішак Карпінскі і перадаў у дар яе навучэнцам сваю багатую бібліятэку. Тут наш зямляк зацікавіўся літаратурай.

У 1826 г. Плацыд Янкоўскі становіцца студэнтам тэалагічнага аддзялення Віленскага універсітэта. Сюды пайшоў вучыцца без асаблівай ахвоты. Зусім нядаўна царскімі ўладамі былі выкрыты таварыствы філаматаў, філарэтаў і прамяністых. Юныя патрыёты і землякі Плацыда Янкоўскага былі жорстка



пакараны. Усіх іх выслалі за межы роднага краю, а некаторых – у Сібір і на рускую Поўнач. Гады навучання Плацыда Янкоўскага ва універсітэце адыгралі выключную ролю ў яго літаратурным лёсе. Пісьменнік авалодаў некаторымі замежнымі мовамі, шмат чытаў, у тым ліку і еўрапейскіх пісьменнікаў.

Пасля заканчэння універсітэта і абароны на званне магістра багаслоўя (1830 г.) атрымаў пасаду прафесара ў Жыровіцкай уніяцкай духоўнай семінарыі, дзе выкладаў Святое пісьмо і лацінскую мову. Паўстанне 1830 – 1831 гг., эпідэмія халеры прымусілі Плацыда Янкоўскага пакінуць Жыровічы і вярнуцца ў Вільню. Некаторы час працаваў тут хатнім настаўнікам. Праз год, аднак, вярнуўся ў Жыровічы і пачаў рыхтавацца да здачы экзамена на доктара тэалогіі. Іспыты паспяхова вытрымаў у Рымска-каталіцкай духоўнай акадэміі. Кіраўніцтва праваслаўнай царквы не прызнала дыплом Плацыда Янкоўскага і ва ўсіх дакументах не пазначала яго навуковай ступені.

У 1833 г. наш зямляк узяў шлюб з Геленай Тупальскай, дачкой прэзідэнта Літоўскай кансісторыі. Гэтае сваяцтва адкрывала Плацыду Янкоўскаму перспектыву для кар’еры ва ўніяцкай царкве. Такога не здарылася, бо пачалося задушэнне ўніяцтва, якое на той час стала нацыянальнай рэлігіяй беларусаў. Перавод у праваслаўе праводзіўся надзвычай жорсткімі метадамі. Хто трымаўся веры бацькоў, залічвалі ў лік дзяржаўных злачынцаў. У 1837 г. малады доктар тэалогіі з Вайской згаджаецца памяняць веру. Ён быў у ліку тых, хто падпісаў акт аб скасаванні Уніі (1839 г.). Гэтая пазіцыя нашага земляка была ўхвалена і заахвочана расійскімі ўладамі і праваслаўнай царквой новымі пасадамі. Ён быў адзначаны таксама залатым наперснам крыжам і ўзнагароджаны ордэнам святой Ганны.

На 1830 г. прыпадае пачатак літаратурнай дзейнасці Плацыда Янкоўскага. Ён выступае ў творах розных жанраў, піша вершы, байкі, апавяданні, аповесці, п’есы, анекдоты і займаецца перакладамі. Плацыд Янкоўскі не акрэсліваў магістральны шлях развіцця польскамоўнай літаратуры Беларусі, хоць і вызначаўся выразнай творчай індывідуальнасцю. Гэта праяўлялася ў творах розных жанраў. У вершах, апавяданнях гумарыстычнага і сатырычнага гучання Плацыд Янкоўскі абапіраўся на традыцыі англійскіх пісьменнікаў. У сваіх вершах і байках наш зямляк уздымаў спрадвечныя агульначалавечыя праблемы шчасця, сэнсу жыцця, чалавека і яго сутнасці (“Шчасце”, “Шчыпцы і свечка”, “Наіўнасць” і інш.). Так, для аўтара шчасце – катэгорыя прывідная, недасяжная:

*Кожны з нас кліча шчасце і пра шчасце марыць,*
*Калі ж сустракаем яго на жыццёвых абшарах,*
*Утрымаць не можам. І потым да зморы*
*Зацята шукаем мінулае “учора”.*
*І цешым сябе недасяжным чароўным “заўтра”,*
*Якое мо прынясе незабыўнае свята.*

(Пераклад З.Дудзюк)

Найбольшая творчая актыўнасць Плацыда Янкоўскага прыпадае на 1840-я гг. Гэтаму спрыяла тая акалічнасць,што ў яго наладзіліся добрыя кантакты з такімі пісьменнікамі, як І.Шыдлоўскі, І.Ходзька, К.Тышкевіч, Ю.Крашэўскі і

інш. Да гэтага перыяду належыць задума выдаць часопіс “Ліцвіны” (1842 г.), каб у ім змяшчаць творы, прысвечаныя беларускім тыпам. На жаль, яна не знайшла падтрымкі сярод іншых польскамоўных пісьменнікаў Беларусі, якія спачатку далі згоду, а пазней адмовіліся супрацоўнічаць у выданні. Плённы ўплыў на пісьменніка з Камянеччыны мела сяброўства з Ю.Крашэўскім. Яны не толькі актыўна ліставаліся, але і сумесна напісалі “Складзеную аповесць”. Адна за адной выходзяць кнігі празаічных твораў Плацыда Янкоўскага: “Засценак” (1841), “Хвіля” (1842), “Апавяданні” (1843), “Універсітэцкія ўспаміны” (1849) і інш. У сваіх творах ён апісвае незвычайныя падзеі, якія адбываюцца з яго героямі. Яны існуюць у нейкім ірэальным свеце, у снах, уступаюць у стасункі з прывідамі. У напісаным творцам даецца згрэз тагачаснага грамадскага жыцця. Шляхта ў паказе творцы не можа адыгрываць якую б там ні было грамадскую ролю. Яна дэградавала разумова і маральна. У апавяданні “Тры браты дзедзічы” героі жывуць бабылямі разам з плоймай сабакаў, п’юць, гуляюць у карты, дзе ў якасці грашовых ставак выступаюць прыгонныя то Харытон, то Ульяна, без дай прычыны ўступаюць у бойкі адзін з адным.

Матэрыяльнае становішча Плацыда Янкоўскага год ад году станавілася ўсё больш цяжкім. Расла сям’я. У яго гадавалася ўжо пяцёра дзяцей. Пісьменнік вяртаецца ў Вільню і пачынае працаваць праваслаўным святаром у царкве святога Мікалая, аднак надоўга тут не затрымліваецца і праз два гады ў 1847 г. зноў вяртаецца ў правінцыю. На гэты раз святаром ў вёску Белавічы Івацэвіцкага раёна. Каб зарабіць лішнюю капейку, вучыць яшчэ і мясцовых дзяцей. Белавіцкія ўражанні Плацыда Янкоўскага знайшлі сваё адлюстраванне ў апавяданні “Ніхто, як Бог”. Сюжэтную аснову твора склала гісторыя белавіцкага хлопчыка Іванькі, які заблудзіўся ў лесе, правёў галодны сем дзён і застаўся жывым, здаровым і паўнавартасным дзіцём. У апавяданні з сімпатыяй намаляваны сяляне, родны дзядзька хлопчыка Лука, яго бацькі, аднавяскоўцы, ляснік, які знайшоў і выратаваў дзіця. Яны жывуць, трымаючыся спрадвечных маральных законаў. Назва твора падкрэслівае, што толькі воля Божая ўратавала жыццё Іванькі: ён не памёр з голаду, яго не загрызлі дзікія звяры, ён раніцай прачнуўся вясёлым, здаровым, спакойным, хоць перад гэтым яму далі з’есці столькі, колькі ён мог.

Хоць Плацыд Янкоўскі сумленна выконваў свае абавязкі праваслаўнага святара, аднак выразна адчуваў, што даверу да яго з боку свецкіх і духоўных уладаў няма. Таму і паспяшаўся на пенсію (1858 г.), купіў у Жыровічах дом і тут дажыў апошнія гады свайго жыцця. Пасля задушэння паўстання 1863 – 1864 гг. творчая актыўнасць Плацыда Янкоўскага згасае. Ён перастае пісаць мастацкія творы, выступае галоўным чынам у жанры публіцыстыкі на рускай мове ў «Литовских эпархиальных ведомостях» і «Виленским вестнику». Памёр у 1872 г. у Жыровічах у поўнай ізаляцыі ад людзей і свету. Творчасць Плацыда Янкоўскага супярэчлівая, аднак бясспрэчным з’яўляецца факт, што ён належыў да польскамоўных беларускіх пісьменнікаў. Яму ніколі не былі чужымі Беларусь і яе народ.



## М.С.ЛЯСКОЎ

Жыццё і творчасць таленавітага рускага пісьменніка-рэаліста XIX ст. Мікалая Сымонавіча Ляскова (1831 – 1895 гг.) звязана з нашым краем. У сярэдзіне пазамінулага стагоддзя ў Пецярбургу бушавалі пажары. Віноўнікамі называлі рэвалюцыйна настроеную моладзь. Ляскоў напісаў артыкул, у якім патрабаваў, каб улады назвалі сапраўдных віноўнікаў пажараў, дапусціўшы думку, што імі маглі быць і падпольшчыкі. Гэта выклікала рэзкую крытыку пісьменніка з боку рэвалюцыйна-дэмакратычнага лагеру рускай грамадскасці. Ляскоў М.С. намерыўся з’ехаць на час за граніцу, аднак не атрымаў падтрымкі з боку ўладаў. Пісьменніку ў якасці карэспандэнта “Паўночнай пчалы” дазволілі паездку ў Беларусь. Гэта ў нейкай меры задавальняла М.С.Ляскова. Ён неаднойчы падкрэсліваў, што на станаўленне яго як мастака слова вялікі ўплыў аказала польская літаратура, а найперш беларуска-польскі пісьменнік Уладзімір Сыракомля. Рускі пісьменнік спадзяваўся, што ў выніку гэтай паездкі ён асабіста пазнаёміцца з Сыракомлем. Творца з Пецярбургу прыехаў у Вільню ў 1862 годзе ў дзень пахавання “вясковага лірніка”.

У пахаванні Сыракомлі актыўны ўдзел прыняў беларуска-польскі паэт і публіцыст, ураджэнец Гарадзеншчыны Вінцэсь Каратынскі (1831 – 1891), для якога першы быў яго духоўным бацькам. Трэба думаць, што любоў Ляскова да Сыракомлі была асноўнай прычынай, па якой В.Каратынскі згадзіўся суправаджаць рускага пісьменніка па Беларусі. Уражанні В.Каратынскага ад нашага краю пакуль што невядомыя. Канстатуецца сам факт сувязі польска-беларускага пісьменніка з нашым краем, а М.С.Ляскоў пачаў пасылаць у “Паўночную пчалу” свае дарожныя нататкі, якія друкаваліся пад назвай “З аднаго дарожнага дзённіка”.

З Вільні падарожнікі накіраваліся ў Гародню, адтуль – у Беласток, затым былі Белавежская пушча, Пружаны, Антопаль, Пінск. Апісанні Лясковым нашага краю досыць лаканічныя. Больш разгорнутыя яны пра Белавежскую пушчу і Пінск. У Пружанах пісьменніка ўразілі хіба што брукавныя дарогі, якіх нельга параўнаць ні з рускімі, ні з палескімі. У Пінску Ляскоў з Каратынскім затрымаліся ажно на 5 дзён. Рускага пісьменніка ўразілі выдатныя помнікі дойлідства як разбураныя, так і ўцалелыя, іх высокае мастацкае аздабленне. На руінах замка Вішнявецкіх М.С.Ляскоў любаваўся фрэскамі, якія цудам захаваліся.

Сваё падарожжа па Беларусі М.С.Ляскоў рабіў напярэдадні паўстання 1863 – 1864 гг. “Тады, – пазней скажа пісьменнік, – час быў ціхі, і нават у паветры не пахла падзеямі, якія разгорнуцца праз паўгода. Прадчуванне блізкай рэвалюцыі на ўсёй Літве мне выказаў толькі адзін чалавек, гэта быў стары селянін, які падахвоціўся падвесці мяне з маім таварышам, польскім паэтам В.Каратынскім, з Пінска ў Дамбровіцу”. Наш зямляк скардзіўся сваім пасажырам, што на Палессе нагналі казакаў, што тыя рабуюць сялянаў, забіраючы апошняе парася і нават курыцу. У цэлым жа, па меркаванні рускага падарожніка, сяляне настроены лаяльна із перспектывай глядзяць ў будучыню. “Польскасць, – піша М.С.Ляскоў, – пінчукамі не ўспрымаецца адасоблена ад панства, а панства –

ад польскасці". Выснова рускага пісьменніка зводзілася да таго, што ідэя аднаўлення Рэчы Паспалітай не можа знайсці падтрымкі ў палешукоў.

Калі ўспыхнула паўстанне 1863 – 1864 гг., М.С.Ляскоў у той час працаваў над раманам "Няма куды". Ён пільна сачыў за падзеямі, якія разгортваліся ў Польшчы і Беларусі. Да паўстання паставіўся рэзка адмоўна і быў перакананы, што яно асуджана на паражэнне. У рамане "Няма куды" выведзены некаторыя ўдзельнікі паўстання, прататыпамі якіх былі знаёмыя пісьменніка. У прыватнасці ў вобразе Райнера (Кулі) увасоблены рысы Артура Беніні, з якім быў знаёмы М.С.Ляскоў у Пецярбургу. У ліку паўстанцаў 1863 – 1864 гг. акажуцца і іншыя героі рамана "Няма куды" Ліза і Памада. Ратуючыся ад пагоні карнікаў, апошні і Райнер апынуцца ў Белавежскай пушчы. Памада загінуў у яе нетрах, застрэлены рускімі салдатамі. Райнер быў захоплены ў палон і прыгавораны да расстрэлу, які прыводзіўся ў выкананне ў Пружанах. Ліза Бахерава, закаханая ў Райнера, паляціць у Пружаны, каб развітацца з ім. Як бачым, пісьменнік прывёў героеў рамана "Няма куды" ў тыя мясціны на Берасцейшчыне, якія наведаў сам.

У рамане "Няма куды" ёсць два раздзелы, прысвечаныя нашаму краю: "У Белавежы" і "Што прадказвалі стары зубр, пугач і сабака". Негатыўнае стаўленне М.С.Ляскова да беларуска-польска-літоўскага паўстання выразна выяўляецца ў гэтых раздзелах. Пісьменнік называе паўстанцкія атрады шайкамі. Яны складаюцца з прадстаўнікоў розных нацыянальнасцей. Ёсць тут французы, італьянцы, галандцы, негры. На сёння няма такіх звестак, каб у паўстанні прымалі ўдзел прадстаўнікі гэтых народаў. У тым, што М.С.Ляскоў увёў у твор чужынцаў і зрабіў іх змагарамі супраць паняволення Рэчы Паспалітай Расійскай імперыяй, выявіў сваю негатыўную пазіцыю да паўстання.

М.С.Ляскоў паказвае, што ў атрадах шмат падлеткаў, якія па сваёй нявопытнасці і бяздумнасці кінуліся ў барацьбу. Паміж кіраўнікамі атрадаў і імі, шараговымі паўстанцамі, – прорва. Першыя, хоць і атрад апынуўся ў цяжкіх умовах, забяспечваюць сабе пэўны камфорт. Яны ўратаваны ад мяцеліцы ў хаце стражніка пушчы, калі ўсе астатнія гібеюць на лютым сіверы. Кіраўнік атрада, напіўшыся цёплага чаю з ромам, ухутаўшыся цёплым мядзвежым футрам, пайшоў спаць. У той самы час маладзенькі хлопчык з пушком на губах, які толькі-толькі прабіваецца, прызнаецца, што памрэ з голаду, што пакіне атрад. Пра голад гавораць француз з італьянцам, якія гібеюць на лютым ветры.

Асаблівая роля ў раздзелах рамана "Няма куды", прысвечаных нашаму краю, належыць Белавежскай пушчы. Яна як бы ажыццяўляе прысуд паўстанцам і выяўляе ідэал аўтара твора. Палова атрада была перабіта ў яе нетрах, другая кінулася ратавацца ў той бок, дзе была непралазная дрыгва. Спрадвечны лес упусціў у сябе "шайку бандытаў", але не выпусціў іх назад.

Для рамана "Няма куды" характэрна тое, што ў ім няма разгорнутых пейзажных замалёвак. Выключэнне складае якраз апісанне Белавежскай пушчы. У гэтым апісанні выявіліся асабістыя ўражанні М.С.Ляскова: "Убачыўшы адзін раз пушчу, усё жыццё нельга забыць таго ціхага, але незвычайнага глыбо-



кага ўражання, якое яна аказвае на чалавека, які згубіўся ў ёй”. Аўтар знаёміць чытача з фаунай запаветнага лесу, імкнецца разгадаць гісторыю яго назвы, паказвае яго веліч і цэльнасць. Пушча жыве сваім жыццём. Яна не дазваляе тут уладарыць чалавеку. “Вёсак у пушчы няшмат, і тыя, акрамя паселішча Белавежа, размешчаны на ўскрайках, а сярэдзіна нетраў абсалютна бязлюдная. Толькі ў некалькіх пунктах можна наткнуцца на адзінокую хату адзінокага стражніка, а то звер ды дрэва. Хто ўрываецца ў яе, той гіне”.

У рамане М.С.Ляскова “Няма куды” выявіліся кансерватыўна-дэмакратычныя ідэалы аўтара, непрыманне ім рэвалюцыйных пераўтварэнняў у Расіі. Што датычыцца беларускіх раздзелаў гэтага твора, то яны засведчылі імперскія прыярытэты пісьменніка. Пазней сам аўтар з горыччу прызнаваўся: “Вялікая памылка была ўжаданні спыніць бурны парыў, які цяпер мне здаецца натуральнай з’явай... Я быў малады і не падазраваў у “высакародным кансерватызме” ўсёй яго подласці і себялюбства. У гэтым мая памылка; яна шчырая, г.зн. без дрэнных намераў, але я яе сабе не дарую і не магу даравацьˮ.

## ЭДВАРД ПУЗЫНА

Недалёка ад Воўчына размяшчаўся маёнтак Грымяча, уладальнікам якога ў другой палавіне XIX стагоддзя быў Юзаф Пузына, прадстаўнік аднаго са старажытных родаў Вялікага княства Літоўскага. Сядзіба ўражвала сваім хараством. Невялікі, але вытрыманы ў класічных формах дом акаляў цудоўны парк. Тут у 1878 г. нарадзіўся хлопчык, якога назвалі Эдвардам. Ён з часам стане вядомым гісторыкам і пісьменнікам. У Грымячай прайшлі дзіцячыя гады Эдварда Пузыны. Сюды спяшаўся на канікулы, калі вучыўся ў Варшаве, дзе атрымаў сярэднюю адукацыю, закончыўшы ў 1898 г. гімназію. На гэты час Эдуард Пузына быў ужо ўладальнікам Грымячай, якая яму адышла пасля бацькавай смерці.

На перыяд навучання ў гімназіі прыпадае цікавасць Эдуарда Пузыны да гісторыі і літаратуры. Для паглыблення сваіх ведаў у гэтых галінах культуры ён паехаў у Швейцарыю. Тут прайшло каля дваццаці гадоў жыцця нашага земляка з Грымячай. Спачатку вучыўся ў Фрынбурскім універсітэце, дзе атрымаў вучоную ступень доктара філасофіі. У Швейцарыі Эдвард Пузына ажаніўся. У яго гадавалася чацвёра дзяцей.

Навуковыя зацікаўленні нашага земляка звязаны з геральдыкай. Ён даследаваў паходжанне і палітычную ролю князёў Вялікага княства Літоўскага. Навуковая гіпотэза Эдварда Пузыны выклікала шырокі розгалас сярод вучоных і прынесла яму еўрапейскую вядомасць. На пачатак XX ст. прыпадае і актыўная літаратурная творчасць пісьменніка з Грымячай. Яго першыя вершы былі апублікаваны ў год заканчэння гімназіі (1898) ў розных варшаўскіх выданнях. Пазней звяртаўся і да прозы. У 1905 г. выйшаў першы зборнік Эдварда Пузыны “Агні”, у якім дамінавалі тыповыя праблемы, характэрныя для юнацтва. Праўда, у выданні было змешчана некалькі сатырычных вершаў.

У час Першай сусветнай вайны, застаючыся ў Швейцарыі, працаваў у

Цэнтральным польскім агенцтве ў Лазанне, а пазней – у Польскім Народным Камітэце, які фактычна дэкляраваў аднаўленне дзяржаўнасці Польшчы. Пад гэтым актам стаіць імя нашага земляка. Вайна актывізавала творчую дзейнасць пісьменніка з Грымячай. Выходзяць яго творы: “Паэма сённяшняга дня”, “З пылам брацкая кроў”, “Кракаўскае вяселле” і інш.1 Іх пафас патрыятычны. Эдвард Пузына прадоўжыў класічныя традыцыі польскай рамантычнай паэзіі. З сучаснікаў яму асабліва быў блізкім Станіслаў Выспянскі. Да яго “Вызвалення” непасрэдна далучаецца твор нашага земляка “Конрад (Народная трагедыя ў трох актах)”.

У 1919 г. Эдвард Пузына вяртаецца на радзіму, пасяляецца ў Варшаве і працуе ў Міністэрстве замежных спраў. Кар’ера чыноўніка яго не задавальняла. Пісьменнік пачынае выдаваць напоўафіцыйны часопіс “Messager Polonais” (1925), з’яўляючыся яго рэдактарам. Вяртаецца да навуковай дзейнасці, становіцца членам рэдкалегіі “Геральдычнага штомесячніка”, працягвае працу, звязаную з вывучэннем гісторыі Вялікага княства Літоўскага. У 1922 г. апублікаваў у Варшаве том сваіх вершаў “Па дарозе”, у які ўвайшлі творы, напісаныя ў 1895 – 1921 гг. У гэтай кнізе асаблівай лірычнасцю, незвычайнай паэтычнасцю вылучаецца цыкл “З літоўскіх струнаў”, у аснове якога ўражанні паэта, звязаныя з Грымячай, яе наваколлем, са звычаямі краю, з блізкімі і дарагімі аўтару людзьмі.

У пачатку 1930-х гг. Эдвард Пузына вырашае прадаць маёнтак у Грымячай з усімі землямі ў 731 дзесяціну. Ён у 1933 г. звальняецца з працы і пераязджае ў Вялікую Бераставіцу на Гарадзеншчыне і цалкам аддаецца навуковай і літаратурнай дзейнасці: пісаў вершы і прозу, шмат перакладаў, асабліва французскіх аўтараў, а таксама п’есы Г.Ібсена.

Другая сусветная вайна застала пісьменніка ў Варшаве. Тут ён перажыў нямецкую акупацыю, і толькі пасля паўстання 1944 г. вывезены са сталіцы ў Чанхстахоў. З 1945 г. узначальваў аддзел культуры ў гарадскім мясцовым магістраце. Перажытае ў час акупацыі патрабавала выйсця. Эдвард Пузына ўзяўся за напісанне мемуараў, прысвечаных Марыі Радзевіч, фактычна сваёй зямлячкі. Аўтарка “Давайціса” амаль усё жыццё пражыла на Берасцейшчыне. Кніга пісьменніка з Грымячай “Мае ўспаміны пра Радзівічуўну” была апошняй у творчай яго біяграфіі. З гэтай пісьменніцай Эдвард Пузына пазнаёміўся ў Варшаве ў 1942 годзе.

Наш зямляк памёр у 1949 г. у Чанхстахове, там і пахаваны.

## УСЕВАЛАД ІГНАТОЎСКІ

Выдатны вучоны-гісторык, грамадска-палітычны дзеяч, педагог і асветнік, арганізатар навукі і адукацыі, першы прэзідэнт АН Беларусі Усевалад Макаравіч Ігнатоўскі быў яшчэ і літаратурным крытыкам. Ён нарадзіўся 19 красавіка 1881 г. у в. Такары. Яго бацька быў на той час настаўнікам Такарскага народнага вучылішча.

Макар Іванавіч Ігнатоўскі паходзіў са старадаўняга шляхецкага роду, але



ўжо ў XIX стагоддзі Ігнатоўскія былі сялянамі мястэчка Антопаль на Кобрыншчыне. Такім чынам, родавыя карані першага прэзідэнта АН Беларусі на Берасцейшчыне. Пасля заканчэння Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі яго бацька працаваў у Матыкальскай, а затым Такарскай школах. Тут у яго і нарадзіліся два сыны – Усевалад і Мікола. У Такарах прайшло іх ранняе дзяцінства. Тут бацька арганізаваў хор, у якім спявала ўся сям'я, у тым ліку і маленькія дзеці. Пазней абодва сыны Ігнатоўскіх вылучаліся добрымі здольнасцямі ў спевах, што фіксавалі дакументы пра заканчэнне той ці іншай вучэльні. Макар Іванавіч працаваў старанна, да сваіх абавязкаў ставіўся сумленна, пра што сведчаць шматлікія прэміі Гродзенскай дырэкцыі народных вучылішчаў. Першай такой прэміяй была адзначана арганізацыя вясковага хору. Затым Макара Іванавіча пераводзяць працаваць на Пружаншчыну ў Дубінскую школу. Ён у хуткім часе становіцца псаломшчыкам у мясцовай царкве. З Дубінска сям'я Ігнатоўскіх пераязджае ў Бытэнь, дзе Макар Іванавіч пачынае працаваць святаром у Свята-Успенскай царкве. Маці пісьменніка Софья Вікенцьеўна таксама належала да шляхецкага роду Смольскіх. Яна ў асноўным і займалася выхаваннем дзяцей.

Сям'я Ігнатоўскіх жыла дружана і небязбедна. Бацька карыстаўся павагай сваёй паствы, аўтарытэтам у дзяржаўных чыноўнікаў. За ўдзел у перапісе насельніцтва Расійскай імперыі ў 1897 годзе быў узнагароджаны бронзавым медалём. Матэрыяльны стан дазваляў сям'і Ігнатоўскіх вучыць дзяцей. Абодва сыны спачатку пайшлі дарогай бацькі, паканчаўшы духоўныя семінарыі, а затым – універсіэты. Дачка закончыла настаўніцкую семінарыю.

З 1896 г. Усевалад Ігнатоўскі паступае на вучобу ў Літоўскую духоўную семінарыю. Затым былі Магілёўская духоўная семінарыя, Пецярбургскі педінстытут і Юр'еўскі (Тарту – Эстонія) універсітэт. Канікулы праводзіліся дома. Навучанне было платным. Пакуль быў жывы бацька, у Ігнатоўскіх былі сродкі вучыць сваіх дзяцей. Пасля яго смерці матэрыяльнае становішча братоў Ігнатоўскіх рэзка мяняецца. Яны самі шукаюць сродкаў для існавання. Усевалад нават вымушаны быў на нейкі час спыніць навучанне (не было чым заплаціць) і выехаў на рускую Поўнач. Тут ён і ажаніўся з Марыяй Севасцьянаўнай Арэф'евай. У студэнцкія гады Усевалад Ігнатоўскі ўключыўся ў рэвалюцыйную дзейнасць, уступіў у партыю эсэраў. Партыйную мянушку выбраў сабе Воўк, чым падкрэсліваў і пераемнасць з Усяславам Чарадзеем, і сваю повязь з месцам нараджэння – з прыпушчанскім краем.

Пасля смерці бацькі маці найхутчэй жыла дзесьці на Івацэвіччыне, магчыма, у той самай Бытэні. У студзені 1909 года У.М.Ігнатоўскі вяртаецца з сям'ёй на Берасцейшчыну. Два гады маладая сям'я жыла ў маёнтку Загрыдава каля Косава. Такое найменне сярод паселішчаў Івацэвіцкага раёна цяпер не значыцца. Прыблізна, аднак, яго можна вызначыць. Сябру па Юр'еўскім універсітэце Усевалад Ігнатоўскі паведамляў свой адрас – паштовая станцыя Косава Гродзенскай губерніі Слонімскага павета, урочышча Загрыдава.

Можна дапусціць, што У.М.Ігнатоўскі працаваў у памешчыка ў Загрыдаве. Сабраліся такія-сякія сродкі, падрос першынец Міхась, які нарадзіўся ле-

там 1909 года, і У.М.Ігнатоўскі зноў збірае адпаведныя дакументы, каб аднавіць свае заняткі ў Юр'еўскім універсітэце. У Загрыдаве за У.М.Ігнатоўскім вялася слежка. Мясцовае начальства даносіла ў адпаведныя інстанцыі: "У час пражывання ў Слонімскім павеце ні ў чым дрэнным як у маральным, так і палітычным сэнсе заўважаны не быў". З 1911 г. У.М.Ігнатоўскі – зноў студэнт Юр'еўскага універсітэта. Як сведчыць Г.Каханоўскі, сям'і ў час вучобы У.М-.Ігнатоўскага ва універсітэце жылося нялёгка. Яна вандравала з Юр'ева на Івацэвіччыну. Некаторы час Ігнатоўскія жылі ў в. Яглевічы. Адсюль прасіў Усевалад Макаравіч, каб прыслалі з Юр'ева пашпарт на жыхарства.

Пасля заканчэння універсітэта У.М.Ігнатоўскі працуе выкладчыкам гісторыі ў Вільні, а затым пераязджае ў 1914 г. у Мінск і пачынае выкладаць гісторыю і геаграфію ў Мінскім настаўніцкім інстытуце, які толькі што быў адчынены. Тут ён разгарнуў грамадска-палітычную дзейнасць сярод студэнтаў, стварыў моладзевую арганізацыю "Наш край", дзейнасць якой была скіравана на адраджэнне дзяржаўнасці Беларусі. У 1915 г. у час Першай сусветнай вайны разам з інстытутам выехаў у Яраслаўль. Погляды У.М.Ігнатоўскага эвалюцыянавалі на вырашэнне нацыянальнага лёсу свайго народа. Гэтай задачы была падпарадкавана і дзейнасць кіруемай ім моладзевай арганізацыі. "Маладая Беларусь" – такое найменне яна атрымала.

Па вяртанні з эвакуацыі ў 1918 г. У.М.Ігнатоўскі актыўна працаваў найперш як вучоны-гісторык, аднак не чужымі яму былі заняткі і літаратуразнаўствам. Наш зямляк з Такароў займаў відныя пасады ў дзяржаўных і партыйных установах, шмат сіл аддаваў адкрыццю Беларускага дзяржаўнага універсітэта, акадэміі навук, стварэнню беларускіх школаў і шырэй – наданню нацыянальнага аблічча культурна-навуковай дзейнасці ў рэспубліцы.

У пачатку 30-х гг. мінулага стагоддзя У.М.Ігнатоўскі трапляе пад калясо рэпрэсавальнай машыны бальшавікоў, скіраванай супраць нацыянальнай інтэлігенцыі і сялянства. Каб не даць катам зламаць сябе, 4 лютага 1931 г. ён скончыў жыццё самагубствам. Трагічны лёс напаткаў і яго сям'ю. Два сыны былі расстраляны як ворагі народа, жонка Марыя Севасцьянаўна атрымала восем гадоў лагераў і жывой адтуль не вярнулася. Ацалеў толькі адзін сын, якога ў той страшны час не было ў Беларусі. Яго дачка цяпер жыве ў Мінску, марыць і верыць, што прыйдзе час, калі народ аддасць належнае яе дзеду.

Найхутчэй пасля 1914 г., калі Берасцейшчына стала арэнай Першай сусветнай ваны, і пазней У.М.Ігнатоўскі ў нашым краі не бываў. Згодна з Рыжскім дагаворам Берасцейшчына адышла да Польшчы. Лёс маці і сястры на сёння невядомы.

Удзячныя землякі ўшанавалі памяць свайго выдатнага сына, хоць і не так, як ён таго заслугоўвае. У в. Такары Камянецкага раёна адкрыта мемарыяльная дошка. У правым кутку зверху – партрэт пісьменніка на фоне раскрытай кнігі і паходні. Дэталі надзвычай сімвалічныя: яны падкрэсліваюць яго навуковую і асветна-культурную дзейнасць. Злева тэкст: "У вёсцы Такары нарадзіўся першы прэзідэнт Беларускай Акадэміі навук акадэмік АН БССР". Ніжэй буйнымі літарамі пасярэдзіне: ІГНАТОЎСКІ УСЕВАЛАД МАКАРАВІЧ 1881 –



1931.

У.М.Ігнатоўскі – найперш вучоны-гісторык. Яго ўклад у развіццё гэтай галіны навукі цяжка перааацаніць, бо ён належыць да ліку першапраходцаў. Як гісторык У.М.Ігнатоўскі асэнсоўваў і пытанні развіцця культуры, у тым ліку і літаратуры. Так, у "Кароткай гісторыі Беларусі" аналізуецца творчасць В.І.Дуніна-Марцінкевіча і Ф.Багушэвіча і інш. Разам з тым пяру У.М.Ігнатоўскага належыць звыш дзесяці працаў, прысвечаных праблемам літаратуры. Найбольш значнымі сярод іх з'уляюцца "Кароткі нарыс нацыянальна-культурнага жыцця" і "Матывы лірыкі беларускага песняра Міхася Чарота". У.І.Ігнатоўскі адгукаўся на творчасць Якуба Коласа, пісьменнікаў-маладнякоўцаў, напісаў пасляслоўе да паэмы Міхася Чарота "Босыя на вогнішчы" і прадмову да зборніка апавяданняў Леапольда Родзевіча, асэнсоўваў матывы лірыкі Янкі Журбы. Паказальна, што ацэнка творчасці пісьменнікаў У.М.Ігнатоўскім вялася ўасноўным не з партыйна-класавых, а агульначалавечых пазіцый.

## УЛАДЗІМІР СТЭЛЬМАХ

Уладзімір Стэльмах увайшоў у гісторыю беларускай культуры як тэатральны дзеяч і тэатразнаўца, драматург і актор. Ён узначальваў вядучыя тэатры нашай краіны: БДТ-1 (тэатр імя Янкі Купалы), БДТ-2 (тэатр імя Якуба Коласа), Тэатр оперы і балету, Тэатр юнага гледача.

Уладзімір Стэльмах нарадзіўся ў вёсцы Бушмічы ў вялікай сялянскай сям'і. Ён быў апошнім, а значыць і пестуном бацькоў і сёстраў. У сваёй аўтабіяграфіі "Старонкі жыцця" пісьменнік называе дату свайго нараджэння – 11 снежня 1907 г. У той самы час у розных даведніках, у тым ліку і ў "Біябібліяграфічным слоўніку" значыцца, што Уладзімір Стэльмах нарадзіўся 28.07.1910 г. Сваякі Стэльмахаў па лініі маці Маланні Андронаўны вызначаліся вальналюбствам і пратэстам супраць уціску. Заўдзел у рэвалюцыйных выступленнях 1905 г. яны былі высланы ў Сібір.

Дзяцінства Уладзіміра Стэльмаха прыпадае на цяжкія ваенныя гады, на рэвалюцыю з усімі негатыўнымі наступствамі, якія нясуць гэтыя падзеі. Калі царскія ўлады ў 1915 г. выганялі беларусаў у бежанства, Стэльмахі з Бушмічаў падаліся на Табольшчыну да матчыных братоў. Спачатку аселі на станцыі Ішым. Калі пачалося рэвалюцыйнае бязладдзе, падаліся ў вёску Далёкае да старэйшага брата са спадзяваннем, што там будзе спакайней і лягчэй зарабіць кавалак хлеба. У далёкай Сібіры Валодзя Стэльмах пачаў вучыцца ў школе. Спадзяванні на лепшае для нашых землякоў з Бушмічаў не спраўдзіліся, і яны ў 1919 г. наважыліся вяртацца, як і сотні іншых беларусаў, на радзіму. Дарога дадому была доўгай і цяжкай, але трапіць на Камянеччыну Стэльмахам не ўдалося: Берасцейшчына была акупавана чужынцамі. Нашы землякі спыняюцца пад Мінскам, жывуць і працуюць спачатку ў Пятроўшчыне, а затым у Зарэччы.

Цікавасць у падлетка з Бушмічаў да тэатра ўзнікла рана. Яна бярэ пачатак з тэатральных дзействаў, звязаных з каляндарна-абрадавымі святамі. Ма-

савая культурна-асветная праца, якая праводзілася ў 1920-х гг. у Беларусі, паспрыяла таму, што Валодзя Стэльмах стаў актыўным членам драматычных гурткоў. Сваю ролю адыгралі і гады навучання ў Белпедтэхнікуме, куды ён паступіў у 1926 г. Нацыянальны ўздым, творчая атмасфера, кіпучае літаратурна-культурнае жыццё, выдатныя педагогі, сустрэчы з пісьменнікамі, якія не ігнаравалі запрашэнні студэнтаў і выкладчыкаў і былі частымі гасцямі навучэнцаў, сістэматычнае наведванне тэатра актывізавалі творчы патэнцыял Уладзіміра Стэльмаха, яго імкненне стаць акторам. Вырашальную ролю ў яго лёсе адыграў рэжысёр БДТ-2 М.А.Міцкевіч, які прапанаваў юнаку з Камянеччыны паступіць у студыю пры гэтым тэатры. Пасля яе заканчэння Уладзіміра Стэльмаха перавялі ў Мінскі тэатр моладзі (1930 г.). Тут малады актор працаваў да пачатку Вялікай Айчыннай вайны.

Уладзімір Стэльмах спачатку служыў у войску, а ў 1943 г. яму даручылі ўзначаліць БДТ-2, які знаходзіўся ў эвакуацыі некаторы час на Урале, а затым ў Падмаскоўі. З гэтым тэатрам наш зямляк вярнуўся ў Віцебск і прапрацаваў тут адзін тэатральны сезон, а затым быў пераведзены ў Мінск на пасаду дырэктара тэатра оперы і балету. З той пары і да канца жыцця жыў і працаваў у сталіцы рэспублікі, займаючы высокія пасады ва ўстановах культуры.

Пачатак літаратурнай творчасці Уладзіміра Стэльмаха прыпадае на 1930 гг., калі былі напісаны п'есы "Шляхі", "Тры крыжыкі", "Фантан" і "Канец маскарада" (апошняя ў сааўтарстве з Ю.Рудзько).

Заслуга Уладзіміра Стэльмаха як пісьменніка заключаецца і ў тым, што ён напісаў творчыя партрэты такіх майстроў беларускай сцэны, якімі з'яўляюцца К.Саннікаў, У.Крыловіч, Л.Мазалеўская, П.Малчанаў, А.Ільінскі, М.Міцкевіч і інш., а Г.Глебаву прысвечана асобнае выданне – "Народны артыст СССР Г.П.Глебаў" (1954 г.). Уладзімір Стэльмах і сам стаяў ля вытокаў савецкага тэатра, ведаў яго праблемы знутры. Таму яго працы "Кранаючы чуткія струны душы", "Тэатр і час. Запіскі дырэктара тэатра" (1973 г.), успаміны пра дзейнасць Мінскага тэатра моладзі і пра стварэнне Тэатра юнага гледача – значны ўнёсак у гісторыю беларускага тэатра. Выхад прац, прысвечаных гэтай праблеме, іншых аўтараў станавіўся аб'ектам ацэнак Уладзіміра Стэльмаха. Яму належаць рэцэнзіі на манаграфіі У.Няфёда, прысвечаныя гісторыі беларускага тэатра, Я.Рамановіча "Рэкі цякуць з барагоў", на "Тэатральную энцыклапедыю".

Памёр у 1974 годзе.

## УЛАДЗІМІР ГНІЛАМЁДАЎ

Уладзімір Гніламёдаў нарадзіўся 26 снежня 1937 г. у сялянскай сям'і вёскі Кругель. На фармаванне яго духоўнага свету вялікі ўплыў аказаў дзед па матчынай лініі Сцепанюк Лявон Міхайлавіч, які паездзіў па свеце, шмат пабачыў і пераніжыў і меў дар апавядальніка. Валодзя быў гадаванцам бабы і дзеда. Калі бацькі пабудаваліся і жылі самастойна, калі пазней перабраліся ў Брэст, старэйшы ўнук Сцепанюкоў заставаўся са старымі, аж покуль не закончыў мясцовую дзесяцігодку. На шчасце, жахлівае крыло вайны неяк абмінула сям'ю Сцепа-



нюкоў-Гніламёдавых, ацалелі ўсе, хоць бацьку давялося двойчы пабываць у гестапа, цудам выжыць.

Кругельская школа выводзіла Уладзіміра Гніламёдава ў свет. З першага класа і да яе заканчэння ў 1954 г. вучыўся з цікавасцю і дзесяцігодку закончыў са срэбным медалём. Юнак з Кругеля марыў стаць геолагам, але атэстат аб заканчэнні сярэдняй школы выдалі не ў час. Уладзімір Гніламёдаў спазніўся на камісію па суразмове ў БДУ, па выніках якой тады залічвалі медалістаў. Кругельскі выпускнік падаў дакументы на факультэт мовы і літаратуры Брэсцкага педінстытута. Выбар гэтага факультэта не быў выпадковым. Уладзімір з дзяцінства любіў мастацкае слова, яго багаты і чароўны свет. Настаўніцы рускай мовы і літаратуры Іванова Валерыя Міхайлаўна і Яраслаўцава Лідзія Іванаўна развівалі і паглыблялі гэтую цікавасць у свайго здольнага вучня.

Студэнцкія гады Уладзіміра Гніламёдава (1954 – 1959) прыпалі на бурлівы час, звязаны з вяртаннем у літаратуру рэпрэсаваных пісьменнікаў, а таксама тых, хто на доўгі час быў выключаны з вывучэння ў школах і вну па ідэалагічных прычынах, у тым ліку Ф.Дастаеўскага, С.Ясеніна, А.Блока і мн. інш. На той час можна было бачыць юнака з Кругеля ў студэнцкіх аўдыторыях, на калідоры інстытута з томікам у руках то Мусы Джаліля, то У.Хадыкі. Актывізацыі цікавасці да літаратуры, да яе велічных і трагічных старонак спрыялі такія любімыя студэнтамі тых гадоў выкладчыкі, як А.Б.Рубцоў, У.А.Калеснік, Л.П.Смальянава. Прыхільнасцю студэнтаў і нават папулярнасцю ў горадзе карыстаўся драматычны гурток інстытута, якім кіраваў артыст Брэсцкага тэатра А.М.Самараў. Уладзімір Гніламёдаў у гэтым самадзейным калектыве быў вядучым артыстам. На факультэце часта наладжваліся сустрэчы студэнтаў з пісьменнікамі, праводзіліся дыспуты і канферэнцыі, арганізоўваліся літаратурныя вечарыны. Ва ўсіх гэтых мерапрыемствах Уладзімір Гніламёдаў прымаў непасрэдны ўдзел.

Пасля заканчэння педінстытута малады спецыяліст быў накіраваны на працу завучам Тамашоўскага дзіцячага дома і настаўнікам беларускай і рускай моў і літаратур мясцовай сямігодкі Брэсцкага раёна. Па-сапраўднаму разгарнуцца на гэтых пасадах маладому педагогу не ўдалося: ён быў прызваны ў войска. Пасля дэмабілізацыі ў 1961 г. пачаў працаваць настаўнікам у Камароўскай сярэдняй школе гэтага ж раёна, актыўна ўключыўся ў культурна-асветную працу вёскі, хараша заявіў сябе ў якасці рэжысёра і актора ў Купалавай “Паўлінцы”.

З 1962 г. жыве і працуе ў Мінску, звязаўшы свой лёс з Інстытутам літаратуры НАН: аспірант, малодшы навуковы супрацоўнік, загадчык аддзела тэорыі літаратуры, намеснік дырэктара, дырэктар... Праўда, з 1969 па 1976 год працаваў у апараце ЦК КПБ спачатку інструктарам аддзела культуры, затым загадчыкам сектара мастацкай літаратуры.

Першыя публікацыі Уладзіміра Гніламёдава ў друку з’явіліся ў 1963 г. Паказальна, што свой дэбют як літаратурны крытык знаны цяпер вучоны пачынаў з рэцэнзіі “Крытык становіцца пісьменнікам” (“Зара”, 16 июня) на кнігу свайго настаўніка У.А.Калесніка “Час і песні”. Пройдуць дзесяцігоддзі, не стане Улад-

зіміра Андрэевіча, у краіне будзе ўстаноўлена літаратурная рэспубліканская прэмія яго імя. Першым гэтай прэміяй уганаруецца Уладзімір Гніламёдаў за манаграфію “Янка Купала: Новы погляд”.

На пачатку літаратурнай творчасці аспірант Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы правяраў сам сябе, рэакцыю чытачоў на свае публікацыі ў Брэсцкай абласной газеце “Зара”, адгукаючыся на творы сваіх землякоў. Першая навуковая тэма Уладзіміра Гніламёдава была прысвечана сучаснай беларускай паэзіі. Гэтаму жанру вучоны застаўся верны і па сёння. Ён аўтар больш дзесяці манаграфій і зборнікаў літаратурна-крытычных артыкулаў: “Традыцыі і наватарства” (1972), “Упоравень з векам” (1976), “Як само жыццё” (1980), “Сучасная беларуская паэзія: Творчая індывідуальнасць” (1983), “Ля аднаго вогнішча” (1984), “Пафас жыццесцверджання: Вобраз чалавека актыўнай жыццёвай пазіцыі ў сучаснай беларускай паэзіі” (1985), “Класікі і сучаснікі” (1987) і інш. Пяру Уладзіміра Гніламёдава належаць творчыя партрэты Васіля Зуёнка, Пімена Панчанкі і інш. Гэтым даследчыкам перачытана творчасць Янкі Купалы, перачытана свежа, мудра і мужна. Як бачым, пераважная большасць яго працаў прысвечана паэтам. Выключэнне складае манаграфія “Іван Мележ: Нарыс жыцця і творчасці” (1984).

У.В.Гніламёдаў ніколі не быў вольным літаратарам. Высокія пасады, якія ён займаў, забіралі шмат сіл і часу. Тым не менш гэта ніколі не выбівала даследчыка з творчага стану: пісаў і піша рэцэнзіі, літаратуразнаўчыя артыкулы, манаграфіі, уваходзіць у склад аўтарскіх калектываў па тэмах, якія распрацоўваюць навукоўцы Інстытута літаратуры.

На працягу ўсяго творчага шляху Уладзіміру Гніламёдаву характэрна ўвага да маладых, хто толькі пачынае сваю дарогу ў літаратуры. Ён імкнецца падтрымаць, сказаць найперш добрае слова, пасеяць упэўненасць. Гэта зусім не азначае, што яго ўвагай былі абыдзены класікі літаратуры, пісьменнікі старэйшага пакалення: Максім Танк і А.Куляшоў, А.Пысін і С.Грахоўскі, М.Лужанін і С.Дзяргай, плеяда паэтаў пакалення, да якога належыць і сам: Р.Барадулін, Г.Бураўкін, П.Макаль, А.Грачанікаў і інш.

Пачынаючы з 2000 г., Уладзімір Гніламёдаў пачаў выступаць як празаік. Яго пяру належыць трылогія “Сямейная хроніка ў духу барока”. Першая кніга “Уліс з Прускі” выйшла асобным выданнем. Гэты раман вызначаецца выразным рэгіянальным каларытам. Сюжэтную аснову аповесці складаюць жыццёвыя перыпітыі Лявонція Міхайлавіча Сцепанюка, дзеда аўтара. Галоўны герой аповесці ў многім паўтарае жыццёвы шлях свайго прататыпа. Яны прыкладна аднагодкі, гадаваліся ў такіх самых сем’ях, рана асірацелі, ездзілі на заробкі ў ЗША. Пісьменнік пакінуў герою імя свайго дзеда – Лявонька. Маюць сваіх прататыпаў і іншыя вобразы-персанажы, якія выступаюць пад уласнымі ці выдуманымі пісьменнікам прозвішчамі: бацькі галоўнага героя, яго сёстры, дзед, мясцовы памешчык, яўрэй, у якога кватараваў Лявонька ў час навучання ў Камянцы, і інш.

Надзвычай каларытным атрымаўся ў пісьменніка вобраз Кузёмкі, своеасаблівага тагачаснага інфарматара, які замяняў непісьменнай вёсцы пачатку



мінулага стагоддзя газеты і радыё. Кузёмку чакалі ў сялянскіх хатах, спадзеючыся пачуць навіны, якія адбываліся ў наваколлі і свеце. За гэта аддзячвалі гасціннасцю. Яшчэ і цяпер на Камянеччыне помняць двух братоў з Падбрадзянаў, якія жылі бабылямі і зараблялі на жыццё адзін у якасці гарманіста, другі – разносчыка навінаў па суседніх вёсках. Апошні імкнуўся неяк выдзеліцца з сялянскага асяроддзя, надаць сабе асаблівую значнасць, трымаючыся пэўнага форсу ў адзенні.

Падзеі ў аповесці разгортваюцца ў вёсцы Пруска і яе ваколіцах, хоць з кантэксту твора відавочна, што гэта родная вёска аўтара, пра што сведчаць назвы суседніх паселішчаў, якія згадваюцца ў рамане: Трасцяніца, Свішчова, Бучамле, Камянец і інш. Ля раённага цэнтра размешчана некалькі вёсак пад такой назвай – Пруска Вілейская, Пруска Багуслаўская, Пруска Валгунова. Хоць іх назвы мясцовыя жыхары звязваюць з прусамі, хутчэй за ўсё яны атрымалі свае тапонімы ад першага ўладальніка, які, магчыма, і быў прусам, што падкрэсліваецца іх прыдумкамі. У твор увайшла галоўная рака Камянеччыны Лясная пад назвай Лёсна, дэталёва апісана дарога з Кругеля ў Камянец з адметнымі навакольнымі пейзажамі, якія маюць выразны рэгіянальны каларыт. Такім чынам, Уладзімір Гніламёдаў зрабіў першую спробу ўзвесці свой кут на Парнас.

У цэнтры другога рамана “Усход”, які пакуль што вядомы па часопісным варыянце ў “Полымі”, – падзеі Першай сусветнай вайны, бежанства прускаўцаў на ўсход. Пісьменнік паказвае, што расстанне з родным краем яго героям даецца нялёгка. Яны імкнуцца пакінуць тут нешта такое, каб не стаць чужынцамі. Прускаўцы ўзводзяць крыж, які будзе іх клікаць да родных магілаў. Не забываюць яны і пра мяшэчак з роднай зямлёю, які спрадвечна бралі з сабой беларусы, пакідаючы родныя селішчы.

Калі ў першым рамане “Уліс з Прускі” ўвага пісьменніка канцэнтравалася на вобразе Лявонькі, то ў кнізе “Усход” аўтар стварае калектыўны вобраз сваіх землякоў. Прускаўцы – ахвяры вайны, выканаўцы чужой волі, якая супрацьстаіць іх інтарэсам і жаданням, якая выгнала іх з дому ў глыб Расіі ажно ў Самарскую губерню. Гэта расшырыла іх гарызонты, дало магчымасць усвядоміць сябе часткай сусветнай супольнасці, суаднесці свой прыпушчанскі мікракосмас да жыцця тых людзей, куды закінуў іх лёс, адчуць духоўную з імі роднасць.

Трэці раман “Сямейнай хронікі ў духу барока” названы “Вяртанне”. Прускаўцы зноў пусціліся ў дарогу – на радзіму. Вяртанне іх, аднак, было нярадасным. Родны край быў паняволены чужынцамі. Героям пісьменніка патрэбна будзе прывесці да ладу родныя гнёзды, каб пачаць новае жыццё, каб было яно годным чалавека.

## ВАСІЛЬ ЖУКОВІЧ

Васіль Жуковіч нарадзіўся ў 1939 (па некаторых звестках у 1940) годзе на самым ускрайку Белавежскай пушчы на хутары Забалацце ў вялікай сялянскай

сям'і. Гэтая блытаніна звязана з тым, што хлопчыка ў свой час і не пахрысцілі, і не запісалі ў грамадзянскіх актах Ён быў апошнім, восьмым дзіцём, у Аляксея Іванавіча і Аўгіні Дзянісаўны. Цяпер гэтага хутара няма на карце раёна. Забалацце знікла, як тысячы неперспектыўных, на думку ўладаў, паселішчаў па ўсёй Беларусі, але яно жыве ў памяці, ва ўяўленні паэта і паўстае ў вершах, у аповесці "Як адна вясна...".

Хараство навакольных краявідаў, маміны песні і казкі, дзедавы і бацькавы паказкі пра гісторыю краю, хрысціянскія запаветы і паганскія адносіны да ўсяго жывога, якіх цвёрда трымаліся ў сям'і Жуковічаў, фармавалі духоўны свет Васіля. Гэты свет пазней пяройдзе ў яго творы.

На шчасце, ваеннае ліхалецце абмінула сям'ю Жуковічаў. Даліся, аднак, у знакі пасляваенныя гады. Беспадстаўна быў арыштаваны і высланы на рускую Поўнач бацька. Старэйшы брат, які застаўся за гаспадара, не мог пакінуць сям'ю без мужчыны ў хаце і не выявіў жадання падацца на край свету, таксама быў асуджаны. Фактычна Васіль рос безбацькавічам.

Калі хлопчыку споўнілася сем гадоў, пайшоў вучыцца ў Дзмітравіцкую школу. Туды з часам перабралася і сям'я. Калгаснае бясхлеб'е паглыблялася для Жуковічаў бяспраўем, якое набывала гіпертрафіраваныя формы для сям'і, дзе двое было асуджаных, двое ворагаў народа. Пасля заканчэння дзесяцігодкі юнак з Забалацця падаўся на свой хлеб, уладкаваўся на працу рабочым на Брэсцкім заводзе будаўнічых дэталяў. Развітацца з літаратурай, з жаданнем выкласці свае пачуцці, думкі на паперы ўжо не мог, тым больш, што яшчэ школьнікам перажыў радасць пабачыць у друку сваё імя.

У 1959 г. Васіль Жуковіч паступае на факультэт мовы і літаратуры Брэсцкага педінстытута і трапляе ў клапатлівыя і патрабавальныя рукі У.А.Калесніка. Юнак пачынае наведваць літаратурнае аб'яднанне пры абласной газеце "Зара", якім кіраваў яго настаўнік, актыўна выходзіць у друк са сваімі вершамі. Нацешыцца шчасцем быць студэнтам Васілю Жуковічу ў поўнай меры не ўдалося. Нечакана памірае мама. Хоць сябры, сваякі і куратар (а ім быў У.А.Калеснік) імкнуліся дапамагчы перажыць невымернае гора, але боль страты быў такім вялікім, такім пякучым, што, здавалася, яго не перажыць. Юнаку з-пад Белавежскай пушчы давялося перавесціся на аддзяленне завочнага навучання і зноў ісці на свой хлеб. Васіль Жуковіч уладкоўваецца на працу ў газету Брэсцкага раёна "Зара над Бугам". Яго паэтычны голас актыўна гучаў на старонках абласнога і рэспубліканскага друку. Да гэтага часу выявіліся прыхільнасці і аўтарытэты ў паэзіі – С.Ясенін, Максім Танк, М.Багдановіч. Апошні застаўся любімым на ўсё жыццё. На гэты час прыпадае сяброўства і ліставанне Васіля Жуковіча з Жэняй Янішчыц.

Вершы маладога паэта былі заўважаны ў сталіцы. Яго запрашаюць на працу ў рэдакцыю газеты "Знамя юности". Хоць прапанова была пачэснай і заманлівай, але Васілю Жуковічу было нялёгка сарвацца і ехаць у невядомасць і няпэўнасць. Тут, на Берасцейшчыне, заставаліся родныя магілы, жылі шматлікія сваякі, нарадзілася сям'я, дачакаўся дзетак, нарэшце займелі сваю кватэру. Можа, Васіль і адмовіўся б ад ганаровай прапановы, але тут сваё рашучае



слова сказаў У.А.Калеснік і фактычна блаславіў на пераезд у Мінск.

Праз год Васіль Жуковіч пераходзіць на працу ў выдавецтва "Мастацкая літаратура", а затым – у "Юнацтва" на пасаду намесніка рэдактара. Уладкаваны побыт, шчасце бацькоўства, сталічная творчая атмасфера спрыялі актывізацыі таленту пісьменніка. Ён піша для дарослых і дзяцей, выступае ў жанры паэзіі, прозы, хораша раскрываецца як творца-гумарыст. Адзін за адным выходзяць зборнікі вершаў Васіля Жуковіча, аповесць "Як адна вясна...". Асабліва ўрадлівым для яго быў 1976 г., калі ў друку з'явілася ажно чатыры самастойныя выданні. Пісьменнік выразна ўсвядоміў, што рэалізаваць свае задумы, працуючы чыноўнікам у выдавецтве, яму не ўдасца, і ён робіць выбар на карысць творчай працы. З 1982 г. Васіль Жуковіч – вольны літаратар.

Муза Васіля Жуковіча не ведае збояў. Ён працуе актыўна. Адзін за адным выходзяць яго зборнікі: "Паклон", "Мелодыя святла", "Суседства", "Цана цішыні" і інш. Наш зямляк з прыпушчанскага краю хораша заявіў пра сябе і як паэт-песеннік. Выйшла некалькі зборнікаў яго песняў, у тым ліку і для дзяцей: "Дарога ля жыта", "Свята", "Дзіўны горад". На вершы Васіля Жуковіча напісаны песні У.Буднікам, Э.Зарыцкім, Л.Захлеўным і інш. Паэт і сам піша музыку і хораша спявае пад гітару.

Значнае месца ў творчасці Васіля Жуковіча заўсёды належала перакладам. Ён пераствmanagedарыў на родную мову вершы літоўскіх, украінскіх, рускіх паэтаў. Быў час, калі Васіль Жуковіч збіраўся стаць перакладчыкам паэтаў Усходу, нават стажыраваўся ва Узбекістане і вывучаў мову гэтага народа. Апошнім часам прыхільнасці творцы як перакладчыка звязаны з імёнамі Адама Міцкевіча ("Мой Міцкевіч", 2001), Лесі Украінскі, Івана Франко, Тараса Шаўчэнкі ("Энергія запаветаў", 2006).

Без перабольшання Васіля Жуковіча можна назваць песняром роднага кута і Радзімы, сям'і, кахання. З родным кутом яго лучыць не толькі тое, што тут жывуць яго крэўныя, што тут магілы продкаў, але і тое асяроддзе, людзі, якія фармавалі яго мастацкі свет. Ужо ў адным з ранніх вершаў Васіль Жуковіч дэкляраваў:

*Я родам з тых мясцін лясных,*
*Дзе і раку завуць Лясною,*
*Дзе у бярозы і сасны*
*Аблокаў пух над галавою.*

Гэтыя паэтычныя радкі сведчаць, што вытокі таленту творцы ў Камянеччыне. Тут фармаваліся яго маральныя і эстэтычныя ідэалы. У Васіля Жуковіча не так шмат вершаў, якія б стракацелі тапонімамі Камянеччыны. Згадваюцца Белавежа, Забалацце, Дмітравічы, Камянец, вёскі Селішчы, Радасць, Падбрадзяны. Галоўнае заключаецца ў тым, што паэту ўдалося стварыць індывідуалізаваны воблік краю, увесці ў свае творы такія вобразы, якія з'яўляюцца вызначальнымі, характарыстычнымі для яго.

Ад зборніка да зборніка пражытыя гады зрабілі лірычны суб'ект Васіля Жуковіча мудрым. Ён разумее незваротнасць плыні часу, калі на змену маладосці прыходзіць сталасць, а затым і старасць і, нарэшце, дарога туды, адкуль

вяртання няма. “Што цвіце – адцвіце”, - так лаканічна выказана гэтае перакананне. Таму кожнаму трэба спяшацца наталяцца прыгажосцю зямлі, буяннем веснавой прыроды, плоднасцю лета і восені, багаццем фарбаў родных краявідаў, духоўным харастом чалавека, яго талентам, які знаходзіць сваё выяўленне ў розных галінах дзейнсці, веліччу зробленага і пакінутага ў спадчыну наступнікам. Лірычны герой паэта ведае цану існавання на грэшнай, але такой прывабнай зямлі. Пражытыя гады нарадзілі перакананне:

*За няўдачай прыйдзе ўдача,*
*Што балела – адбаліць...*

Вызначальны ўплыў на Васіля Жуковіча аказала яго мама. Яе маральны кодэкс, яе духоўны свет сталі сынавымі:

*Тваёй душы красу,*
*матуля дарагая;*
*я па зямлі нясу,*
*яе аберагаю.*

Можна скласці цэлы зборнік вершаў паэта, прысвечаных маці: “Маміна дарога”, “Хвілінаю адчаю”, “Зноў за крыжам акна...”, “Мая мама верыла ў Бога...”, “У куточку, дзе змоўклі сосны...” і інш. Мама, якой даўно няма, і цяпер для лірычнага героя – найвышэйшы аўтарытэт.

На старонках яго зборнікаў аднаўляецца ці не ўся радаслоўная Жуковічаў: прадзед Піліп, дзед Іван, бацька Аляксей, сыны Васіль і Мікалай, Максім і Алесь як прадаўжальнікі роду. Увогуле лірычны герой нашага земляка багаты на крэўную і духоўную радню. Яго вабяць людзі з адкрытай душой, чыстыя сумленнем, гордыя і годныя, здольныя не падаць духам у час выпрабаванняў і нягодаў. Лірычнае “я” паэта захапляецца натурамі стойкімі, высакароднымі, якія здольны адужаць жыццёвыя цяжкасці і нават у гэты скрушны час дапамагаць тым, хто трапіў у бяду. Як бачым, лірычны герой Васіля Жуковіча максімальна набліжаны да аўтара і сваёй біяграфіяй і тым асяроддзем, у якім жыве. Паэт шкадуе тых, у каго “малая душа”, каму “недададзена святла”, хто няўдзячны, злосны, хто здольны на здраду, нагадвае ўсім і кожнаму пра memento mori.

Лірычны суб’ект творцы перакананы, что чалавеку неабходна займаць актыўную жыццёвую пазіцыю, быць стваральнікам, “каб дабро не звялося”, а не толькі “скардзіцца на белы свет, на час”, абвінавачваць бліжніх, быць самакрытычным і здольным да пакаяння:

*Можа, пакрыўдзіў кагосьці,*
*то прабачэння прашу.*
*Ад усялякае злосці*
*сам вызваляю душу.*

Гэта, аднак, не азначае, што лірычны герой не бачыць ці не хоча бачыць балючых праблемаў сучаснай Беларусі. Яго асабліва трывожыць праблема ператварэння народа ў насельніцтва. Для апошняга вызначальнымі з’яўляюцца матэрыяльны дабрабыт і відовішчы. У той самы час народ – паняцце ёмістае.

Лірычнае “я” Васіля Жуковіча раскрываецца яшчэ і праз інтымныя перажыванні. У 2004 г. выйшаў зборнік яго вершаў “Кахання радасці й пакуты”.

## ЯРЫНА ДАШЫНА

Нарадзілася 4 кастрычніка 1978 года ў в. ставы Камянецкага раёна.

Імя паэткі даўно вядомае аматарам сучаснага прыгожага пісьменства па шматлікіх публікацыях у такіх выданнях, як «Літаратура і мастацтва», «Першацвет», «Полымя», «Маладосць», «Правінцыя», «Тэрмапілы» і многіх іншых. Акрамя таго, што вершы Ярыны перакладаліся на нямецкую і балгарскую мовы, яна мае на сваім творчым рахунку гран-пры Рэспубліканскага літаратурнага конкурсу «Дэбют» імя Янішчыц, літаратурную прэмію імя Уладзіміра Калесніка, а таксама удзелы у самых розных літаратурных семінарах і сустрэчах, у тым ліку і замежных.

Калі ж трохі заглыбіцца ў вывучэнне біяграфіі Ярыны (без чаго, канечне, немагчыма глыбока зразумець яе творчасць і ўвогуле творчасць пісьменніка як такога), то можна даведацца, што паэтка нарадзілася на Брэстчыне і атрымала філалагічную адукацыю. Скончыла Брэсцкі дзяржаўны універсітэт. Дарэчы, нельга не заўважыць у інтэлектуальнай плыні паэзіі Дашынай абазнанасць аўтаркі ў набытках сусветнай літаратуры. Тры гады пісьменніца настаўнічала ў Брэсцкім раёне, потым засвоіла практычную псіхалогію ў Брэсцкім інстытуце павышэння кваліфікацыі, цяпер працуе ў краязнаўчым аддзеле Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага. У студэнцкія гады Ярына займалася ў літаратурнай студыі «Спадчына» (пад кіраўніцтвам Міколы Пракаповіча), якую наведвалі таленавітыя і перспектыўныя маладыя творцы Марыля Лагодзіч, Ірына Поух, Васіль Барысюк і іншыя.

Ярына Дашына — паэт стыхійны, які паддаецца імгненнаму водблску пачуцця, але ў той жа час і не забываецца на слоўную гульню, на адкрыта рацыянальны прынцып у вымалёўцы вобразаў. Калі чытаеш ейныя вершы, міжволі адчуваеш сябе лішнім у мастацкай прасторы: творы Ярыны глыбока самасныя, не прызначаныя для шырокай аўдыторыі, яны самадастатковыя, яны нібыта не прадугледжваюць іншай інтэрпрэтацыі. Зрэшты, гэта і ёсць адзнака сучаснасці, мадэрновасць — паэт дэманстратыўна адасабляе сябе ад навакольнага свету, падкрэсліваючы ў той жа час тое, што ён фактычна нічым не адрозніваецца ад натоўпу, ён пратэстуе супраць сваёй уласнай шараговасці:

***Калодзеж***

*Ён быў бяздонны і пусты,*
*абвіты павутой і пылам.*
*Яго адвечнай слепаты*
*на тысячы сляпых хапіла б.*

*Парослы цвіллю ды іржой -*
*там кожны гук здаваўся ГУКАМ...*
*А я была ячго душой,*
*калодзежным вярхоўным Духам.*

*Страх нараджаецца нутром,*
*углядваючыся раскоса*
*у перавернуты ўверх дном*
*аскепак сонечных нябёсаў.*

ЯРАСЛАЎ МАРКЕВІЧ

Паэт, празаік, жывапісец Яраслаў Маркевіч нарадзіўся ў 1942 годзе ў г. Высокім у час Вялікай Айчыннай вайны. Пасля яе заканчэння сям'я Маркевічаў выехала ў Польшчу. Яны абсталяваліся на Вроцлаўшчыне ў Новай Вялікай вёсцы, дзе атрымалі зямлю для заняткаў сельскай гаспадаркай. Яраслаў Маркевіч пачатковую адукацыю атрымаў у мясцовай школе. Пасля яе заканчэння вучыўся ў паселішчы Дзіві, а ў 1956 г. паступіў у лясны тэхнікум у Жэпіне. Лясная гаспадарка не цікавіла юнака, і праз два гады ён падаўся ў 22 агульнаадукацыйны ліцэй у Любранцы. На гэты час прыпадае пачатак заняткаў літаратурай. Дэбютаваў вершамі "Пытанне", "Вызнанне", апублікаваных у "?yciu Literackim".

Поспех акрыліў юнака, і ён пераязджае ў Варшаву, паступае ў сталічны універсітэт. Яраслаў Маркевіч спачатку вучыўся на філасофскім, а затым на гістарычным факультэтах. Ён адразу ж актыўна ўключыўся ў літаратурнае жыццё. Пісьменнік з Высокага ўвайшоў у аб'яднанне "Гібрыды" (1960 – 1971 гг.), належыў да лодзьска-варшаўскай групоўкі "Кола". Адзін за адным выходзяць зборнікі яго вершаў і твораў іншых жанраў: "Сонечны стадыён", "Забойцы прыйдуць паслязаўтра", "Прыйшоў запытаць пра ўласнае імя, каторае ўношу", "Паміж голымі ідуць голыя" і інш.

Творчасць Яраслава Маркевіча ішла ў рэчышчы тагачаснай польскай моладзевай паэзіі. Яму не чужым было эксперыментатарства, але яно не выходзіла за межы самой паэзіі. У творчасці нашага земляка выявіліся элементы неакласіцызму і авангардызму. У героя твораў паэта раскрыты настроі польскай моладзі 1960-х гг. На жаль, беларускамоўны чытач мае магчымасць пазнаёміцца ўсяго з некалькімі вершамі пісьменніка з Высокага ў "Анталогіі польскай паэзіі XX стагоддзя. Напярэймы: ад Буга да Варты" (Мн., 2003. Т. 2) у перакладзе Алега Лойкі. Па гэтых адзінкавых творах цяжка скласці больш дакладнае ўяўленне пра творчасць Яраслава Маркевіча.

Жывучы ў Варшаве, наш зямляк працаваў у розных выдавецтвах і выданнях, у якіх змяшчаў і свае творы. Ён не абмяжоўваўся толькі літаратурнай дзейнасцю. Яшчэ і маляваў, наладжваў выставы сваіх твораў у Польшчы і Германіі. Яраслаў Маркевіч здзіўляў сучаснікаў шырынёй інтарэсаў, кіпучай энергіяй і выключнай працавітасцю. Ён арганізаваў тэатр, акрэсліваў яго рэпертуар. Імя нашага земляка стаяла пад вершамі, прозай, п'есамі, артыкуламі і рэцэнзіямі.

Калі літаратурнае аб'яднанне "Гібрыды" ператварылася ў "паэтычную легенду для літаратурнай моладзі" (Алег Лойка) 80-90 гг. мінулага стагоддзя, Ярас-



лаў Маркевіч заняўся незалежнай выдавецкай дзейнасцю (1982 – 1990), дапрацоўваў раней напісанае і рыхтаваў да перавыдання, пісаў новыя вершы і прозу, якія ўвайшлі ў кнігі: “Выбраныя вершы”, “Усюды ёсць зямля”, “Папяровы бубен” і інш.

Пачынаючы з другой паловы 1990 гг., Яраслаў Маркевіч адышоў ад актыўнай культурнай і літаратурна-выдавецкай дзейнасці. Ён захапіўся праблемамі вегетарыянскага харчавання і пачаў супрацоўнічаць са штомесячнікам “Вегетарыянскі свет”.

# КОБРЫНСКІ РАЁН

Кобрыншчына, на жаль, не можа пахваліцца асабліва багатымі літаратурнымі традыцыямі, гісторыя гэтага ўвогуле таленавітага краю не вельмі насычана славутымі імёнамі пісьменнікаў. Аднак і тут ёсць свае вядомыя паэты і празаікі, актыўна віруе літаратурнае жыццё.

ДЗМІТРЫЙ ФАЛЬКОЎСКІ

Найбольш прыкметнае месца ў ім займае Дзмітрый Нікіфаравіч ФАЛЬКОЎСКІ (Ляўчук). Ён нарадзіўся 3 кастрычніка 1898 года ў вёсцы Вялікія Лепясы (цяпер гэты населены пункт знаходзіцца ў межах горада Кобрына) у сям'і рабочага цагельнага завода. Пачатковую адукацыю атрымаў у Кобрынскім гарадскім вучылішчы, а з 1912 года вучыўся ў Брэсцкай рускай гімназіі. Неўзабаве пачалася Першая сусветная вайна, жыццё Дзмітрыя прыняло іншы характар. І хаця ён захапляўся чытаннем і пісаннем вершаў, абставіны дыктавалі неабходнасць рэвалюцыйнай барацьбы. У верасні 1918 года ён становіцца адным з кіраўнікоў падпольнай ячэйкі РКП (б), а ў лістападзе – партызанскага атрада. Змагаючыся з інтэрвентамі, Дз. Ляўчук пераходзіць на нелегальнае становішча, а з прыходам у Кобрын Чырвонай арміі (20 ліпеня 1920 г.) уваходзіць у склад павятовага аддзялення губчэка. У верасні 1920 г. разам з адступаючымі часцямі Чырвонай арміі пакінуў родныя мясціны. У 1923 годзе пастане здароўя яго камісавалі. З гэтага часу ён жыве ў Кіеве, дзе і пачынае прафесійна займацца паэзіяй, зрабіўшыся вядомым паэтам Фалькоўскім.

Гэта быў таленавіты чалавек, які дасканала валодаў пяццю мовамі, іграў на фартэпіяна, пісаў музыку. Але найбольш ярка яго талент раскрыўся ў паэзіі. У гісторыі ён застаўся як украінскі паэт.

Дзмітрый Фалькоўскі загінуў у час палітычных рэпрэсій 1930-х гадоў. 13-15 снежня 1934 года яго ў ліку 28 дзеячоў украінскай культуры абвінавацілі ў «арганізацыі падрыхтоўкі тэрарыстычных актаў супраць савецкай улады». Прыгавор выязной сесіі Ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР быў безапеляцыйны: расстрэл. 17 снежня 1934 года яго не стала. Рэабілітавалі пасмяротна ў 1957 г. У Лепясах ёсць вуліца Фалькоўскага, а на месцы, дзе некалі стаяла яго родная хата, – мемарыяльны знак.

Бацька паэта Нікіфар Васільевіч Ляўчук памёр у 1951 годзе, маці Марыя Герасімаўна – у 1954-м. Яны так і не даведаліся аб трагічным лёсе сына.

На жаль, пры жыцці паэт паспеў выдаць толькі чатыры паэтычныя зборнікі. Поўны збор твораў Фалькоўскага, выдадзены нядаўна ўкраінцамі Славакіі, складае 8 тамоў.

Першае знаёмства з яго паэзіяй, асабліва з лірыкай, уражвае чытача прыгажосцю, меладычнасцю і тонкім успрыняццем прыроды Палескага краю, гарачай любоўю да роднай зямлі.

Вось, напрыклад, такія радкі з верша «Мае далёкія, родныя вёскі»:



*Чарот для мяне быў калыскаю -*
*У балоце я нарадзіўся і рос.*
*Але люблю сваю хату палескую*
*І люблю свой зажураны лес.*

*Што там тропікі, што там пампасы –*
*Зазірніце ў пушчу да нас.*
*Я аддаў бы за яе адразу*
*І Цібет, і Урал, і Каўказ...*

*А палескае балота хмурнае? –*
*Паў-Палесся вада заліла...*
*Дзе-нідзе толькі хутар самотны,*
*Дзе-нідзе толькі лапік сяла.*

*Хоць у злыднях жывеш, у брудзе,*
*Аднак радуешся кожнай вясне,*
*Калі падставіш пад вецер грудзі*
*І ляціш, ляціш на чаўне!*

* * *
*Ах, кахаць! – ды позна...*
*Восень – без кахання*
*Варанымі коньмі імчыць удалячынь...*
*Што было – не будзе...*
*Што прайшло – не зловіш,*
*Як ніколі ўласны ты не зловіш цень...*
1926.
Пераклад з украінскай Вячаслава Бурдыкі.

***

Калі гаварыць пра мінулае літаратурнага жыцця Кобрыншчыны і літаратурныя традыцыі, якія аказалі пэўны ўплыў на развіццё сучаснага пісьменніцкага асяродку, варта адзначыць, што ў 1813 – 1816 годах у Кобрыне служыў ад'ютантам камандзіра рэзервнага палка будучы пісьменнік і дыпламат ***А.С.Грыбаедаў.*** Верагодна, што вобразы некаторых сваіх герояў знакамітага «Горе от ума» ён узяў з назіранняў, жывучы ў Кобрыне.

У гады Першай сусветнай вайны разам з адступаючай рускай арміяй у Кобрыне пабываў вядомы рускі пісьменнік ***Канстанцін Паустоўскі***. Аб сваіх уражаннях у час знаходжання ў разбураным горадзе пісьменнік расказаў у апавяданні «Местечко Кобрин».

У верасні-лістападзе 1939 года у горадзе Кобрыне жылі паэт ***А.Т.Твардоўскі*** і пісьменнік ***Б.Л.Гарбатаў***, якія супрацоўнічалі ў той час з газетай «Ча-

совой Родины». У іх гонар на доме №1 па вул. Суворава ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

Аб адносінах кабрынчан да знакамітых пісьменнікаў і паэтаў-класікаў гавораць сённяшнія назвы вуліц: Янкі Купалы, Якуба Коласа, Мележа, Тургенева, Маякоўскага, Ясеніна, Астроўскага, Шолахава, Чэхава, Талстога, а ў самым цэнтры горада – вуліца Пушкіна.

## ІГАР СІДАРУК

Сярод сучасных літаратараў найбольш вядомым з'яўляецца Ігар Фёдаравіч СІДАРУК. Нарадзіўся ён у Кобрыне. 23 ліпеня 1964 года. Закончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта імя У.І.Леніна ў 1986 годзе. Настаўнічаў на Салігоршчыне (Мінская вобласць). Затым працаваў рабочым на Кобрынскім рамонтным заводзе, карэспандэнтам у газетах «Кобрынскі веснік» і «Брэсцкі кур'ер». З 1993 года – загадчык літаратурна-драматычнай часткі ў Брэсцкім абласным тэатры лялек. Першыя літаратурныя вопыты Сідарука друкаваліся ў выданнях «Студенческий меридиан», «Маладосць», «Чырвоная змена», «Дзень паэзіі-90». У 1992 годзе у калектыўным зборніку «Драўляны рыцар» (выд. «Юнацтва») была апублікавана яго п'еса для дзяцей «Кветкі пад ліўнем». У гэтым жа годзе выдае кнігу вершаў «Чарнабел», у 1994 г. – паэтычны зборнік «Сатана Арганата» і дзіцячую кніжку «Павучальныя гісторыі дзядзечкі Сіда Рука».

Асноўны накірунак літаратурнай творчасці – драматургія. Аўтар п'ес «Галава» (сцэнічны дэбют у 1992 годзе ў тэатры-лабараторыі нацыянальнай драматургіі «Вольная сцэна»), «Прыгоды Люстрынкі», «Меч Анёла», «Збавіцель», «Дрэва багоў», «Плач, саксафон!..», «Янка-зух і нячысты дух», «Штукары», «Белая дама» і іншых, пастаўленых у розных тэатрах Беларусі. За сцэнарый спектакля «Залатая табакерка» атрымаў Гран-пры на міжнародным тэатральным фестывалі «Белая вежа-2001» у Брэсце.

З вершаў Ігара Сідарука:

* * *

*На саламяны дах*
*закацілася кола.*
*Я не мог адгадаць, чый смех,*
*бы самотнік,*
*хаваўся ўвесь ранак*
*у студні...*

*Радыё перадало:*
*«У копах*
*кандэнсуецца памяць.*
*Таму працэс нараджэння цяляці*



*немагчыма зняць*
*з касмічнага спадарожніка».*

*І ўспыхнула згаслая дзедава люлька,*
*закурэў зарослы падворак,*
*і пайшоў пазалеташні снег...*
9.05.1991 г.

## ІВАН ЧАРОТА

Яшчэ адно імя звязана з літаратурнай Кобрыншчынай. Гэта вядомы беларускі літаратуразнаўца, перакладчык, крытык Іван Аляксеевіч ЧАРОТА. Ён нарадзіўся 16 верасня 1952 г. у в. Лышчыкі. Сярэднюю адукацыю атрымаў у СШ №2 г.Кобрына. З 1969 па 1974 г. вучыўся на аддзяленні рускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта імя У.І.Леніна. Пасля заканчэння яго працаваў настаўнікам у Палякцішскай сярэдняй школе Воранаўскага раёна. З 1977 года ў Белдзяржуніверсітэце, выкладчык, старшы выладчык, дацэнт, загадчык кафедры славянскіх літаратур. Кандыдацкую дысертацыю абараніў у Ленінградзе ў 1987 г., доктарскую – «Беларуская літаратура ХХ стагоддзя і працэсы нацыянальнага самавызначэння» - у Мінску ў 1998 г. Кола навуковых інтарэсаў І.А.Чароты ўключае пытанні літаратуры і культуры славянскіх народаў. Вядучы югаславіст Беларусі. Займаецца перакладам з сербскай, харвацкай, славенскай, македонскай, польскай і іншых моў на беларускую і рускую, а таксама з беларускай на сербскую. Актыўна выступае ў друку як літаратуразнаўца, крытык, эсэіст, публіцыст. Аўтар звыш 250 навуковых, навукова-метадычных і літаратурных прац, сярод якіх «Беларуская савецкая літаратура за мяжой» (1988), «Савецкая літаратура ў сувязях і ўзаемадзеяннях. Пачаткі параўнальнага і сістэмнага аналізу» (1989). Аўтар «Анталогіі беларускай паэзіі», выдадзенай у 1993 г. у Югаславіі, укладальнік зборнікаў «Сербская паэзія» (1987) і «Сербская Првраслаўная Царква» (1998), выдадзеных у Мінску. Мае таксама больш за 600 друкаваных перакладаў. З’яўляецца сакратарам Біблейскай камісіі Беларускага экзархата Рускай праваслаўнай царквы і выканаўчым рэдактарам часопіса «Праваслаўе». Лаўрэат міжнароднай прэміі імя К.Астрожскага (Польшча) за 1999 год, прэміі Саюза пісьменнікаў Сербіі за 2000 г. Узнагароджаны ордэнам Прападобнага Сергія Раданежскага (2002).

## АЛЕСЬ ПАПЛАЎСКІ

Алесь Паплаўскі нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Мазуры Кобрынскага раёна. Пасля заканчэння ў 1975 годзе Шамятоўскай сярэдняй школы, вучыўся ў Полацкім лясным тэхнікуме. У 1988г скончыў Беларускі тэхналагічны інстытут па спецыяльнасці “Лясная гаспадарка”. Працаваў у лясгасах Гарадзеншчыны і Берасцейшчыны. Паэтычныя і празаічныя творы змяшчалі часопісы “Першацвет”, “Маладосць” і “Тэрмапілы”. Аўтар двух паэтычных кніжак: “Спы-

неныліstапад" (1987) і "Незваротнасць" (2001), а таксама кніжкі прозы "Тэрыторыя скразнякоў" (2004). Жыве і працуе ў г. Брэсце.

ЛЯВОН ВАЛАСЮК

І яшчэ адно імя на літаратурнай карце сучаснай Кобрыншчыны – Лявон (Леанід) Фёдаравіч Валасюк. Нарадзіўся ён у вёсцы Песцянькі Тэвельскага сельсавета 13 снежня 1955 года. З 1963 года жыве ў Брэсце, аднак з роднымі мясцінамі не парывае, часта прыязджае ў вёску, многія мясцовыя людзі і падзеі адлюстроўваюцца потым у яго літаратурных творах.

Лявон Валасюк у 1973 годзе скончыў СШ №16 г. Брэста, працаваў слесарам на заводзе, служыў у арміі, у групе савецкіх войск у Венгрыі. У 1981 годзе скончыў архітэктурны факультэт Брэсцкага інжынерна-будаўнічага інстытута. Працаваў на розных пасадах у абласным навукова-метадычным цэнтры культасветработы і народнай творчасці ўпраўлення культуры Брэсцкага аблвыканкама, мастаком-дызайнерам на розных прадпрыемствах горада Брэста.

Вершы пачаў пісаць яшчэ ў пятым класе школы. Першы апублікаваны твор з'явіўся ў абласной газеце «Заря» 22 кастрычніка 1982 года – верш «Озеро Гать» на рускай мове. Потым друкаваўся ў тыднёвіку «Літаратура і мастацтва», газетах «Народная трыбуна», «Заря», «Настаўніцкая газета», у калектыўным зборніку «Дзень паэзіі-2005», часопісе «Маладосць». Аўтар зборнікаў вершаў «Блики дня» (1999), «Краски душы» (2000), «Под знаком Стрельца» (2001), «Леаниды» (2003), «Чырвоная вежа» (2004), «Познія сны» (2006).

Член грамадскіх аб'яднанняў «Беларускі саюз мастакоў» і «Саюз беларускіх пісьменнікаў». Галоўная тэма яго творчасці – малая радзіма, родная зямля, адносіны чалавека да прыроды.

Цяпер жыве ў Брэсце, працуе мастаком-дызайнерам у ААТ «Брэсцкі цэнтральны універмаг».

Вершы Лявона Валасюка

***Палітра***

*Ад палітры старой*
*Каляровыя пахі.*
*Бы вясёлыя птахі*
*Заляцелі ў пакой.*
*На мальберце партрэт*
*Гожай дзеўчыны мілай,*
*Што пакой адчыніла,*
*Разгадаўчы сакрэт*
*Тонкіх струнаў душы,*
*І з сабою прынесла*
*Нізкі лісцяў і песняў,*
*Яблык жоўтых кашы...*
*Ад палітры старой*



*Каляровыя пахі...*
*Зранку дзіўныя птахі*
*Заляцелі ў пакой.*

*Чырвоная вежа*
*Вежа – слуп,*
*Магутны мур*
*З чырвонай цэглы,*
*Я адчуваю –*
*Ледзьве памяць закране, -*
*Як волат – зубр*
*З сівой выходзіць цемры*
*І трэцца бокам*
*Аб мяне.*

*І пад сабой,*
*І над сабою*
*Я чую крык.*
*Лаўлю стралу,*
*Адказваю стралою*
*І станаўлюся зноў былою,*
*Я не двайнік,*
*Я – гэтых даляў вартаўнік.*

*...Ачуюся з дарог.*
*«Хто ж гаварыў са мною?»*
*Нікога побач.*
*Толькі ноч з савою...*

У Кобрыне жывуць празаікі, члены Саюза пісьменнікаў Беларусі НАТАЛЛЯ КАСЦЮК (нар. 28 сакавіка 1954 г.) і ВЯЧАСЛАЎ БУРДЫКА (нар. 19 лістапада 1955 г.).

Наталля Веніямінаўна - аўтар цыклу «Детдомовских рассказов», а таксама іншых празаічных творчаў, якія публікаваліся ў абласных і рэспубліканскіх выданнях, у тым ліку ў часопісе «Нёман». А працуе яна выхавальніцай Кобрынскага дзіцячага дома.

Вячаслаў Віктаравіч выступае ў друку з апавяданнямі. Ён - аўтар кнігі «Яхта смерці» (дэтэктыўны раман). Працуе адказным сакратаром Брэсцкай абласной газеты «Народная трыбуна».

# ЛУНІНЕЦКІ РАЁН

Лунінеччына не вызначаецца шматлікасцю сваіх пісьменнікаў, хоць літаратурная яе ніва пачала засявацца ў глыбокай старажытнасці. Паводле легенды, лёс сюды закінуў рымскага паэта Публія Авідзія. Быццам бы на Палессі ён захварэў і памёр. Пахаваны ў Кажан-Гарадку на Відуш-гары. Легенда пра Авідзія і яго сувязь з Палессем яшчэ ў XIX ст. усхвалявала Уладзіслава Сыракомлю, і ён напісаў верш "Авідзій на Палессі". Зазначым, што ў гэтым творы беларуска-польскі паэт месцам пахавання старажытнарымскага творцы называе Давыд-Гарадок на Століншчыне. Па мастацкай версіі Уладзіслава Сыракомлі, Авідзій быў высланы сюды ў якасці пакарання, бо "асмеліўся" пакахаць дачку ўладара. Легенда пра сувязь антычнага паэта з Палессем усхвалявала сучаснага пісьменніка Браніслава Спрынчана. У вершы "Легенда" месцам пахавання Авідзія значыцца Кажан-Гарадок на Лунінеччыне.

Рэальныя звесткі пра літаратурныя помнікі краю бяруць пачатак у XVII – XVIII стст. з Дзяцелавіцкага манастыра, у якім была багатая бібліятэка духоўнай літаратуры. Асаблівую цікавасць мае тое, што ў Дзяцелавічах быў створаны мясцовы паменнік – помнік палескай рукапіснай кніжнай культуры.

XVIII ст. на Лунінеччыне адзначана наведваннем Лахвы Саламеяй Пільштыновай (Русецкай) (1718 – пасля 1760). Яна родам з Наваградчыны, ці то з берасцейскай, ці то з гарадзенскай яе часткі, аўтар рамана "Авантуры майго жыцця" (1760), напісанага па-польску і перакладзенага на беларускую мову Міколам Хаўстовічам. Саламея Пільштынова – вядомая ў XVIII ст. лекарка, паслугамі якой карысталіся нават венцаносцы. У Турцыі яна выкупіла аўстрыйскага афіцэра Юзафа Пільштына, які стаў яе другім мужам. Па вяртанні на радзіму пісьменніцы ён пачаў служыць у Міхала Радзівіла харунжым. Сям'я пасялілася ў Нясвіжы.

Дабіўшыся ад магната права выехаць у Расію, лекарка там наблізілася да царыцы Ганны Іванаўны. У гэты час Юзафа Пільштына Радзвіл, якому належалі вялікія ўладанні на Лунінеччыне, накіраваў на службу ў Лахву. Сюды з Масковіі і вярнулася Саламея. У рамане "Авантуры майго жыцця" яна піша: "Тут, на Палессі, нідзе ні пацехі, ні забавы, ні заробкаў не маю".

У 1816 г. у маёнтку Лахва нарадзіўся пісьменнік і даследчык Мар'ян Чапскі, аўтар твораў "Гісторыя каня", "Даследаванне пра пчалу".

У другой палове гэтага ж стагоддзя ў Лунінe ў Барысаглебскай царкве працаваў святаром асветнік, патрыёт Беларусі Платон Максімавіч Ціхановіч (1838 – 1922). Ён прыехаў на Лунінеччыну адразу пасля заканчэння Мінскай духоўнай семінарыі ў 1861 годзе. Яму давялося працаваць святаром у цяжкі для беларускага народа час. Свецкія і царкоўныя ўлады пільна сачылі за ажыццяўленнем праграмы Мураўёва-вешальніка, які патапіў у крыві паўстанне 1863 – 1864 гг. пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага, па русіфікацыі Беларусі. Царкве і школе ў рэалізацыі гэтай праграмы надавалася выключная роля. У гэты час святар-патрыёт у Луніне працуе над стварэннем "Беларускай граматыкі", якую завяршыў у студзені 1875 г.



У XX ст. літаратурная ніва Лунінеччыны была больш урадлівай. Праўда, спачатку і ў гэтым стагоддзі яе засявалі ў сваёй большасці не гадаванцы краю, а тыя, хто так ці інначай сюды трапіў. У 1901 г. святаром у Лунінецкую царкву быў прызначаны а. Мікола (Мікалай Прорвіч). У 20-х – 30-х гг. мінулага стагоддзя яго жонка Соф'я (1860 – каля 1937) стала аўтаркай духоўных твораў, вершаў і прозы. Пісьменніца сістэматычна публікавалася на старонках часопіса "Воскресное чтение", уваходзіла ў склад яго рэдкалегіі. С.Ф.Прорвіч належыла да праваслаўнай канфесіі, пісала па-руску. Аўтарская пазіцыя пісьменніцы спалучае агульначалавечыя духоўныя прыярытэты з глыбокай верай у неабвержаную і справядлівую волю Госпада Бога. Кожнай маці, якая згубіла сваё дзіця, зразумелы пачуцці лірычнай гераіні верша "Тоска матери":

*Где же ты, сын мой, и что с тобой сталось?*
*Как по тебе я душой исстрадалась!..*
*Боже! Прости мне, что сетую я…*
*Пусть будет воля Твоя.*
*Сын мой, мне страшно… одна я старушка,*
*Брошена властной судьбе, как игрушка,*
*Нет, не ропщу я, страданья тая…*
*Господи. Пусть будет воля Твоя.*
*Сын мой, приди ко мне хоть на минуточку,*
*И приласкай свою маму хоть чуточку!..*
*Нет, не грущу я, надежду тая…*
*Боже мой, пусть будет воля Твоя.*
*Грёзы и слёзы в тиши беспросветные, –*
*Всё о тебе, – мой любимый, заветные…*
*Помнишь, последняя фраза твоя:*
*Господи! Пусть будет воля Твоя!*

У 1903 г. прафесар Варшаўскага універсітэта Я.Ф.Карскі (1861 – 1931) атрымаў грошы на правядзенне экспедыцыі па вывучэнні беларускай мовы. Маршрут ахопліваў у тым ліку і Лунінецкі раён – Лахву, Лунін, Лунінец, Дзятлавічы. У выніку сабранага матэрыялу вучоны прыйшоў да высновы, што тут функцыянуе беларуская мова. Украінізмам належыць сціплае месца. У той самы час мова жыхароў станцыі Лунінец вызначаецца пэўнай стракатасцю, што можна растлумачыць уплывам будаўнікоў чыгункі, якія з'ехаліся сюды з розных куткоў Расійскай імперыі.

Фальклорна-этнаграфічная дзейнасць А.К.Сержпутоўскага (1864 – 1940) таксама звязана з Лунінеччынай. Пасля заканчэння Пецярбургскага археалагічнага інстытута аўтар працы "Казкі і апавяданні беларусаў-палешукоў" уладкаваўся на працу ў паўночнай сталіцы Расійскай імперыі ў Рускім музеі як рэгістратар этнаграфічнага аддзелу. У 1910 г. А.К.Сержпутоўскі выязджае на Мазырскае Палессе і трапляе ў вёску Вялікія Чучавічы Лунінецкага раёна. Тут вучоны зрабіў некалькі здымкаў: Пакроўскай царквы, гаспадарчых вясковых

забудоваў, групавых выяваў жанчын і дзяцей у святочнай і паўсядзённай вопратцы, драўлянага крыжа пасярод вёскі. Арыгіналы здымкаў А.К.Сержпутоўскага знаходзяцца ў Санкт-Пецярбургскім этнаграфічным музеі. На Лунінеччыне выдатны фалькларыст запісаў чатыры казкі.

Значнае месца ў літаратуры краю належыць Якубу Коласу. Ён жыў і працаваў некалькі месяцаў 1911 – 1912 гг. у Лунінцы. У 1947 г. зрабіў прадвыбарную паездку па Палессі як кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР. Наведаў Мікашэвічы, Сінкевічы, дзе сустракаўся з выбаршчыкамі.

Хоць Валянцін Таўлай, удзельнік і пясняр заходнебеларускіх барыкадаў, і нарадзіўся ў Баранавічах, але самыя раннія дзіцячыя гады паэта прайшлі ў Лунінцы. Сюды яго бацькоў-чыгуначнікаў перакінулі на працу, як толькі разгарэлася полымя Першай сусветнай вайны.

Пачынаючы з 1914 г. Лунінеччына стала ці то прыфрантавой тэрыторыяй, ці арэнай баёў, рэвалюцыйных выступленняў. Край быў акупаваны немцамі. Бальшавікі распачалі змаганне за чыгунку, якая спалучала Палессе з рэвалюцыйнымі цэнтрамі Расіі. Перажыла Лунінеччына барацьбу Чырвонай Арміі з палякамі, з войскамі Пятлюры, Булак-Булаховіча і з атрадамі сялянскай партыі "Зялёны дуб". З гэтымі падзеямі звязана сувязь некаторых пісьменнікаў з краем.

Падзеі Першай сусветнай вайны прывялі на Палессе А.А.Блока (1880 – 1921). Праз гэты край ехаў выдатны рускі паэт да месца службы, у адпачынак і зноў у дружыну. Праз Лунінеччыну таксама назаўсёды пакідаў Палессе. Паязды тады хадзілі да станцыі Лоўча. Адсюль ён дабіраўся ў вёску Камень (цяпер Пінскі раён), дзе было размешчана кіраўніцтва дружыны. Менавіта ў Лоўчы А.А.Блок адчуў, што ён апынуўся на прыфрантавой тэрыторыі: сюды даносіліся гукі кананады. Яны добра запомніліся паэту. Пра іх будзе згадваць не аднойчы, пакінуўшы Палессе і вярнуўшыся ў Пецярбург. Калі кіраўніцтва дружыны асталявалася ў Парахонску, аўтар "Незнаёмкі" выязджаў у Лунінец, каб адправіць лісты родным, блізкім, калегам па творчай працы. У лістах А.А.Блока з Палесся можна сустрэць згадкі, што сюды ён наведваўся некалькі разоў, каб купіць сёе-тое: кажух, туалетныя прыналежнасці і інш. Усе лісты, якія не перадаваліся з аказіямі, ішлі праз Лунінец. Паведамляючы свой адрас, паэт нязменна называў станцыю гэтага палескага гарадка.

Як бачым, сувязь Блока з Лунінеччынай эпізадычная. Тым не менш тут шырока і шматгранна ўшанавана і ўганароўваецца памяць пра выдатнага рускага паэта. Ёсць мемарыяльныя дошкі на станцыйным будынку ў Лоўчы і на будынку музея ў Лунінцы, традыцыйнымі сталі літаратурныя дні, прысвечаныя паэту. Лунінчукі адгукаюцца на правядзенне блокаўскіх мерапрыемстваў на Палессі і ў Расіі.

У кастрычніку – лістападзе 1920 г. Лунінец быў адной з базаў "Народнай добраахвотнай арміі" С.Н.Булак-Балаховіча. Ядвігін Ш. (1869 – 1922) прыняў самы непасрэдны ўдзел у барацьбе за набыццё Беларуссю сапраўднага суверэнітэту. Хоць у канцы 1920-х гг. быў ужо немалады і часта хварэў, тым не менш актыўна змагаўся супраць бальшавікоў і іх палітыкі ў адносінах да Бела-



русі ў складзе ўзброеных сіл "Зялёны дуб". Гэта зблізіла пісьменніка з генералам С.Н.Булак-Булаховічам. Разам з яго штабам пісьменнік нейкі час знаходзіўся ў Лунінцы. Адсюль па вайсковых справах наведваў Пінск.

У 1920 г. у Мікашэвічах у вялікай габрэйскай сям'і нарадзіўся пісьменнік Шыман Гарадзецкі. Хлопчыку было ўсяго гадок, калі памёр бацька, таму нашаму земляку рана давялося зарабляць на хлеб. У пачатку Вялікай Айчыннай вайны сям'і Гарадзецкіх удалося эвакуявацца ў глыбокі тыл. Там яны з братам запісаліся ў армію Андэрса. З 1942 г. жыве ў Хайфе. Шыман Гарадзецкі – аўтар шматлікіх вершаў, якія чакаюць публікацыі, аповесці "Эхіэль-герой" (1996), прысвечанай нашаму земляку з Пінска Ехіэлю Хагібору. У 1999 г. Шымон Гарадзецкі наведаў сваю радзіму, аддаў належнае памяці сваіх землякоў, якія загінулі ў гады Другой сусветнай вайны.

У 1934 г. у Мікашэвічах у сям'і бухгалтара і настаўніцы нарадзіўся польскі празаік Багдан Мадэй. Тут прайшлі першыя два гады жыцця пісьменніка. Затым сям'я Мадэяў пераехала ў Гародню, а з пачаткам Другой сусветнай вайны – у Польшчу. Пяру Багдана Мадэя належыць некалькі зборнікаў апавяданняў, аповесці: "Маладыя дарослыя людзі", "Баль", "Сузор'е" і інш. Выступае таксама як перакладчык з англійскай мовы.

З Лунінцом звязана жыццё польскай пісьменніцы Марыі-Алены Тавянска-Міхальскай (1929), якая з сям'ёй пакінула Палессе ў 1945 г., але помніць той край, дзе прайшло дзяцінства, называе яго сваёй Атлантыдай. У 1995 г. Марыя-Алена Тавянска-Міхальская прыязджала ў Лунінец, сустракалася з аматарамі літаратуры.

З 1945 па 1950 гг. выхоўваўся ў Мікашэвіцкім дзіцячым доме і год працаваў піянерважатым, заканчваючы сярэднюю школу, Уладзіслаў Нядзведскі. На 1949 – 1958 гады прыпадае праца дырэктарам спачатку Сінкевіцкай, а затым Мікашэвіцкай сярэдніх школаў вядомага беларускага фальклорыста, даследчыка народнай сатыры, аднаго з аўтараў падручнікаў і навучальных дапаможнікаў па фальклоры для ВНУ рэспублікі А.С.Фядосіка (1926).

З 1940-х гг. літаратурная ніва краю пачала рунець сваімі пісьменнікамі, якія выяўлялі сябе ў розных відах творчай дзейнасці: празаік Іван Макаловіч (1940) з вёскі Дубаўка, фалькларыст, паэт, празаік Сцяпан Нефідовіч (1941) з вёскі Лахаўка. У 1946 г. у вёсцы Сасноўка нарадзіўся паэт Уладзімір Харкевіч. Пасля заканчэння Лунінецкай сярэдняй школы паступіў на геалагічны факультэт Львоўскага універсітэта. Першыя гады працы прайшлі на радзіме: наш зямляк даследаваў Жыткавіцка-Мікашэвіцкі рэгіён, а пасля пераехаў да жонкі ў Львоў, там стаў кандыдатам геалагічных навук. Паэзіяй захапляецца з дзяцінства, піша на беларускай, рускай, украінскай мовах. Уладзімір Харкевіч – аўтар зборнікаў вершаў "З радзімай у сэрцы" (Львоў, 1998), "Радзіме", "Радзіма любая мая". Для многіх яго вершаў характэрна настальгія па Сасноўцы, родным Палессі. Сувязі з Лунінеччынай не парывае. З Луніна празаік і краязнаўца Мікола Елянеўскі (1948). У вёсцы Цна нарадзіліся Іван Калянковіч (1947) і Мікола Калінковіч (1950). З Вічына празаік і гумарыст Максім Казун (1952), з Кажан-Гарадка паэт Васіль Гусціновіч, фалькларыст і краязнаўца Васіль Туміловіч

(1953). Фактычна, усё жыццё прайшло ў Лунінцы паэта, гумарыста Віктара Філатава (Карповіча) (1954). Вёска Багданаўка пашле ў літаратурную творчасць Вольгу Грыдзюшка (1954) і праз дванаццаць гадоў яшчэ і Міколу Ільючыка (1966).

У 1956 г. на працу ў тагачасны Ленінскі раён быў накіраваны выпускнік Брэсцкага педінстытута Аляксей Гардзіцкі (1934 – 1999). Завуч Мікашэвіцкага дзіцячага дома, другі сакратар Ленінскага райкама камсамола, супрацоўнік раённай газеты – месцы працы крытыка на Лунінеччыне на працягу трох гадоў. Тым не менш у нейкай меры яны сталі вызначальнымі для Аляксея Гардзіцкага як пісьменніка. Пачынаючы з 1959 г. яго імя сістэматычна паяўляецца на старонках абласнога і рэспубліканскага друку. Паказальна, што спачатку ў цэнтры ўвагі Аляксея Гардзіцкага была Лунінеччына. Ён адгукнуўся ў "Маладосці" на выхад першай кнігі Уладзіслава Нядзведскага "Вясновыя барозны", апублікаваў матэрыял пра ўзрыў фашысцкіх карнікаў мікашэвіцкім кінамеханікам І.Б.Канапацкім пасля знішчэння імі вёскі Сітніцкі Двор. Аляксей Гардзіцкі ўзнімаў у рэспубліканскім друку пытанне, каб надаць Сінкевіцкай школе імя Якуба Коласа.

Некалі ў Журовіцкай дзесяцігодцы на Рагачоўшчыне вучыліся два юнакі: Андрэй Макаёнак і Уладзімір Сцепчанка, сябравалі. Пазней іх дарогі разышліся, хоць сувязь не перарывалася. Іх многае яднала: аднагодкі, удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны, слухачы ВПШ, камсамольскія і партыйныя работнікі. Калі з 1959 г. У.А.Сцепчанка ўзначаліў калгас "Новае Палессе", цэнтрам якога з'яўляецца вёска Любань, на Лунінеччыну да сябра ўсе гэтыя гады прыязджаў Андрэй Макаёнак. Тут затрымліваўся надоўга, тут пісаў камедыю "Таблетку пад язык", пра што сведчыць і мемарыяльная дошка на Любанскім СДК.

На 60-ыя – 70-я гг. ХХ ст. прыпадае новы прыліў пісьменнікаў, якія нарадзіліся на Лунінеччыне: Лілія Віктарава (1962) з вёскі Перунова, Вадзім Жылко (1967) і Аксана Спрынчан (1973) з Лунінца, Таццяна Чумак (1979) з Бродніцы і інш. З Лунінца даследчык краязнаўства ў Заходняй Беларусі Ігар Цітовіч. З гэтым перыядам звязана праца фотакарэспандэнтам у раённай газеце пісьменнікаў Міколы Федзюковіча і настаўнікам у Бастыні Расціслава Бензерука.

У пасляваенны перыяд Віталь Вольскі (1901 – 1988) пачаў свае падарожжы па Беларусі, у выніку якіх ствараліся краязнаўчыя нарысы. У цэнтры ўвагі былі запаветныя мясціны краю: Белавежская і Налібоцкая пушчы, Браслаўскія азёры, возера-мора Нарач, Бярэзінскі запаведнік. У другой палове 1960-х гг. наступіла чарга для знаёмства з Палессем. Гэта і прывяло Віталя Вольскага на Лунінеччыну. Ён наведаў Лунінец, Лунін, Вульку, Лахву, Кажан-Гарадок. У краязнаўчай кнізе "Палессе" (Мн., 1971) Лунінеччыне прысвечаны другі раздзел "Па дарогах Палесся".

Пасля заканчэння БДУ Сцяпан Лаўшук (1944), вядомы даследчык нацыянальнай драматургіі, на працягу некалькіх гадоў (1967 – 1970) працаваў у Дзятлавіцкай, Лахвенскай, Бродніцкай школах, загадваў аддзелам у Лунінецкім райкаме камсамола. Адсюль падаўся ў Мінск і паступіў у аспірантуру Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы.



Уладзімір Караткевіч (1930 – 1984) да апошніх дзён свайго жыцця наталяў прагу пазнання Беларусі. Няма такога ў яе куточка, дзе б ён не пабываў. Асабліва, аднак, любіў Палессе. Быў тут не аднойчы. І для апошняй сваёй вандроўкі ў каторы раз выбраў гэты край. На Лунінеччыне Уладзімір Караткевіч быў у 1969 г., калі здзяйсняў падарожжа па Прыпяці па заданні часопіса "Маладосць". У гэты час пісьменнік працаваў над кнігай "Зямля пад белымі крыламі" для ўкраінскага чытача. У 1971 г. кніга была закончана. У ёй ёсць захапляльныя радкі, прысвечаныя вёсцы Лахва і рэчцы Смердзь: "Другі край рэспублікі. Паўдзённы. Лахва Лунінецкага раёна Брэсцкай вобласці. Рака з непрыгожаю назваю Смердзь, аднак адна з найпрыгажэйшых рэчак, якія мне даводзілася бачыць у маім жыцці. Недзе кіламетраў за дзесяць да ўпадзення ў Прыпяць рака пачынае драбіцца на рукавы. Атрымоўваецца некалькі астравоў, злучаных драўлянымі мастамі. На гэтых астравах хаты, што патанаюць у садах. Вада рукавоў цёмна-зялёная, з сонечнымі плямамі, бо над імі вербы ўтвараюць суцэльныя тунелі. У гэтых тунелях, у імгле, цэлыя чароды чаўноў. Тут цудоўныя новыя пабудовы. У прыватнасці, школа. І нібы вакол мала вады, тут яшчэ і шмат сажалак, дзе разводзяць карпаў".

Прадвыбарныя паездкі кандыдата ў дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР па Мікашэвіцкай выбарчай акрузе Максіма Лужаніна і кандыдата ў дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР па Пінскай выбарчай акрузе Максіма Танка прывялі іх адпаведна ў Мікашэвічы і Лунінец, дзе яны сустракаліся са сваімі выбаршчыкамі.

З Лунінеччынай звязана пісьменніцкая сям'я Спрынчанаў – Браніслава, Вадзіма і Аксаны. У студэнцкія гады Вадзім Спрынчан закахаўся ў Насцю Паўлюкавец. Дзяўчына з Лунінца адказала ўзаемнасцю. Тут у 1973 г. у Лунінцы ў іх нарадзілася дачка, якую назвалі Аксанай. З тых ужо далёкіх сямідзесятых гадоў мінулага стагоддзя Спрынчаны наведваюцца на Лунінеччыну. Паэт і перакладчык Браніслаў Спрынчан (1928) родам з Украіны. З пачатку 1950-х гг. жыве ў Беларусі. Піша па-руску, перастварае вершы беларускіх пісьменнікаў на мову Л.М.Талстога. Палескія ўражанні Браніслава Спрынчана раскрыты ў вершах "Блок на Полесье", "Легенда", "Припять" і інш. Як прыгадвае ўнучка паэта Аксана, наведваючы Лунінец, дзед выступаў з чытаннем сваіх вершаў у школах, на прадпрыемствах горада.

Вадзім Спрынчан (1950) пайшоў следам за бацькам, з'яўляецца таксама рускамоўным паэтам. Асабліва плённа працуе як перакладчык беларускіх твораў на рускую мову. Сярэдні з паэтычнай сям'і Спрынчанаў Вадзім асабліва часта наведваўся ў Лунінец. Тут у жончыных бацькоў часта гасціла дачушка Аксана. Ён уключаўся ў розныя віды сялянскай працы, дапамагаючы сваякам: касіў на Прыпяці сена, зграбаў, упарадкоўваў на зіму, восенню зрубваў капусту, перавозіў бульбу. Лунінецкі вопыт непасрэдна і апасродкавана выявіўся ў многіх яго творах. Зусім зразумела, што лунінецкія ўражанні знайшлі сваё выяўленне ў вершах "По тёплой пашне босиком…", "Иду на поле… Весело рублю…", "Звёзды умирают…", "Божественен яблоневый сад…", "Весна" і інш.

У маі 2004 г. літаратурная сям'я Спрынчанаў прыехала ў Лунінец. Адбы-

лася іх сустрэча з аматарамі паэзіі. Чыталі свае вершы Браніслаў Спрынчан, яго сын Вадзім і ўнучка Аксана. Лунінчукі ўсіх сустракалі прыветна, але ў цэнтры была іх зямлячка – Аксана Спрынчан. Ды і нагода ў яе была цудоўная: паэтка прэзентавала сваю першую кніжку – “Вершы ад А.”. Усе трое не абмежаваліся толькі наведваннем Лунінца, завіталі таксама ў Кажан-Гарадок, памаліліся ў мясцовым храме, а адтуль падаліся ў Мелясніцу: пакланіцца магіле стрыечнай бабулі па маці, якая загінула ў трагічным 1943 г. ад карнікаў. У Мелясніцы, аказалася, жывуць іншыя сваякі Спрычанаў. Знаёмства было цёплым, сардэчным і радасна-шчаслівым.

Пачынаючы з 1980-х гг., Яраслаў Пархута (1934 – 1996) пачаў працу над краязнаўчымі нарысамі пра знакамітыя мясціны Беларусі. Тады грымела слава пра Мікашэвіцкае вытворчае аб’яднанне “Граніт”, і пісьменнік падаўся на Лунінеччыну. У кнізе “Зямля бацькоў нашых” (Мн., 1988) ёсць нарыс “Граніт Палесся”. А крыху пазней грамадскасць краіны ўскалыхнула новая вестка, звязаная з краем. З лесу выйшаў селянін з вёскі Бастынь Іван Васільевіч Бушыла, які 42 гады хаваўся ад уладаў. Падзея ўсхвалявала Яраслава Пархуту. Узнікла жаданне сустрэцца з гэтым чалавекам. Ён зноў накіраваўся на Лунінеччыну. Пачалася праца над аповесцю “Адзінец (Аповесць пра палескага рабінзона)”.

На працягу 1983 г. у Мікашэвічах працаваў муляром Андрэй Федарэнка (1964).

З 1956 года пры мясцовай газеце існуе літаратурнае аб’яднанне “Палессе”. На працягу многіх гадоў яно гуртавала і падтрымлівала тых, хто імкнуўся і імкнецца выявіць сябе ў мастацкім слове. У 1995 годзе пры Лунінецкім гарадскім доме культуры распачаў сваю дзейнасць творчы клуб “Муза”, якім кіруе Віктар Філатаў (В.П.Карповіч). Ён заснаваў серыю выданняў “Лунінецкая муза”, невялікіх па аб’ёме брашурак. На іх старонках пачалі публікавацца мясцовыя творцы: В.Жылко, В.Філатаў, В.Туміловіч, М.Ільючык, С.Нефідовіч, В.Грыдзюшка, Р.Жук і інш.

У 2004 г. літаратурная сябрына Лунінеччыны папоўнілася яшчэ адным пісьменнікам – Андрэем Мазько, які быў прызначаны сюды на пасаду намесніка старшыні райвыканкама. Яго намаганнямі ў цэнтры Лунінца ўстаноўлены помнік Якубу Коласу.

На Лунінеччыне заклапочаны, каб жыхары краю ведалі яго, ганарыліся яго набыткамі, імкнуліся іх узбагаціць. Тут надаецца вялікая ўвага ўшанаванню памяці пісьменнікаў: узвядзенню помнікаў, адкрыццю мемарыяльных дошак, наданню імёнаў вуліцам, навучальным установам (Якуба Коласа, Аляксандра Блока, Уладзіслава Нядзведскага, Міколы Калінковіча, Андрэя Макаёнка). У гэтым плане кіраўніцтва раёна магло бы быць прыкладам для іншых.

Адным з цэнтраў дзейнасці па вывучэнні прыроды, гісторыі, мовы, культуры, літаратуры раёна з’яўляецца Лунінецкі краязнаўчы музей, асабліва ў часы, калі ім кіравалі Наталля Казанкова і Святлана Гарда. З 2001 года ў музеі пачалі ладзіцца Лунінецкія краязнаўчыя чытанні. У іх арганізацыі прымаў непасрэдны ўдзел і клуб “Муза”. Для таго, каб распачаць іх і зрабіць штогадовымі, тут былі важкія падставы: да гэтага часу вылучыліся энтузіясты-краязнаўцы, якія мелі



публікацыі не толькі ў раённым, але і рэспубліканскім друку, удзельнічалі ў навуковых канферэнцыях розных рангаў, у тым ліку і міжнародных. Матэрыялы Лунінецкіх краязнаўчых канферэнцый публікуюцца ў невялічкіх зборнічках "Лунінецкі сшытак". На сёння іх выйшла шэсць (адзін здвоены). На старонках "Лунінецкіх сшыткаў" змяшчаюцца працы як аўтараў, што заявілі пра сябе раней, так і новых: В.Жылко, С.Нефідовіч, В.Туміловіч, Я.Хвастоў, І.Цітовіч і інш. Паказальна, што ў пачатку кожнага сшытка падводзяцца вынікі зробленага па вывучэнні краю за ранейшы год. Гэтыя артыкулы належаць Вадзіму Жылко і зроблены яны прафесійна. З ліку краязнаўцаў Лунінеччыны літаратурнымі праблемамі, фальклорам краю цікавяцца В.Жылко, В.Туміловіч, С.Нефідовіч. Свае краязнаўчыя набыткі мае і журналіст Т.Канапацкая.

Лунінеччына ў той ці іншай меры знайшла сваё адлюстраванне ў мемуарнай і дакументальнай літаратуры, прысвечанай К.Арлоўскаму, В.Каржу, партызанскай барацьбе ўкраі, яго вызваленню ад нямецкай акупацыі ў 1944, грамадзянскай вайне, трагедыі яўрэяў. Дакументальная і мемуарная літаратура ў тым ліку выдаецца ў Расіі, Ізраілі.

## ЯКУБ КОЛАС
## (1882 – 1956)

У 1911 годзе пісьменнік выйшаў з Мінскага астрогу з так званым "воўчым білетам", які забараняў працаваць у дзяржаўных школах. Трэба зразумець мастака слова, як цяжка яму было садзіцца на карак дзядзькі Антося: едакоў і без яго ў хаце хапала. Адпраўляючы Кастуся ў навуку, сям'я спадзявалася, што не толькі ён сам будзе мець надзейны кавалак хлеба, але падтрымае некага з братоў і сясцёр. Якуб Колас, з аднаго боку, прыкладае намаганні і хадайнічае пра пасведчанне аб палітычнай благанадзейнасці, якое адкрывала дарогу ў дзяржаўную школу, што абяцала сціплы, але сталы заробак, з другога боку, пошукі хоць нейкай працы. Выручылі сябры. Былы аднакурснік па Нясвіжскай семінарыі Вінцук Філіповіч, з якім Якуб Колас сядзеў на адной лаўцы, запрасіў да сябе ў Лунінец і ўступіў частку сваіх прыватных урокаў. У гэтым палескім мястэчку Якуб Колас жыў з лістапада 1911 па люты 1912 г. Зразумела, што тут пісьменнік не быў у ізаляцыі. Ён найперш кантактаваў са сваім сябрам Вінцуком Філіповічам і яго сям'ёй. Як высветліў Васіль Туміловіч, жонка лунінецкага настаўніка была дачкой мясцовага святара Мікалая Прорвіча. Яе маці Соф'я Прорвіч была чалавекам адукаваным. Жанчына закончыла, як сведчаць мясцовыя краязнаўцы, Пецярбургскі універсітэт. У Прорвічаў было ў той час яшчэ дзве дарослыя дачкі і сын. Усе атрымалі адукацыю. Якуб Колас ніякіх звестак пра сям'ю Прорвічаў і пра свае кантакты з імі не пакінуў. Апавядаючы Максіму Лужаніну пра сваё жыццё ў Лунінцы, аўтар "Новай зямлі" нічога не расказвае пра далейшыя свае стасункі і з Вінцуком Філіповічам. З пошукаў Генадзя Кісялёва вядома, што былыя сябры сустракаліся ў Мінску ў 1920-х гг.

Лунінец пакінуў дваістае ўражанне ў жыцці і творчасці Якуба Коласа. З аднаго боку, пісьменнік у гэты час перажываў творчы ўздым. Ён шмат і плённа

пісаў. На паперу клаліся вершы, апавяданні. Тут была распачата праца над паэмай “Сымон-музыка”. Вершаў было напісана ўсяго некалькі. Дакладна можна назваць “Песню п’янага” (5.01.12 г.) і “Эх, скажы мне, небарача” (28/II, 1912 г.). Апошні верш выяўляе патрыятычныя пачуцці беларускага селяніна і аптымістычны погляд яго на жыццё.

*Дык няхай свет хоць трасецца, –*
*Я тут вырас, я тут згіну,*
*А разорак тых не кіну,*
*Дзе мне шчасце не даецца,*
*Дзе мой смутак, жаль снуецца,*
*Бо я цвёрда веру ў тое,*
*Што наш засеў у полі дзікім*
*Гневам вырасце вялікім*
*І затопіць усё злое,*
*Усё няшчасце векавое.*

Дакладна можна сказаць, зыходзячы з тэрміну жыцця Якуба Коласа ў Лунінцы, што тут быў напісаны такі класічны твор, як “Нёманаў дар” і яшчэ два апавяданні, у аснове якіх камічныя, а ў першым гучаць нават і драматычныя сітуацыі: “Трывога” і “Недаступны”. Пісаўся ў гэтым палескім мястэчку трэці раздзел паэмы “Новая зямля”.

Асноўным творчым клопатам Якуба Коласа ў Лунінцы была паэма “Сымон-музыка”. Пісаць яе пачаў 22 лістапада і напружана працаваў цэлы месяц. Гэта ратавала ад духоўнага спусташэння. М.Лужаніну Якуб Колас прыгадаў: “Накідаўшы з большага замалёўку, зразумеў, што гэтая работа для мяне будзе стрыжнем. Утрымаюся за яго, – значыць не звар’яцею, не сап’юся, наогул, не пайду на ніз, у падонкі, у паслугачы”. У выніку была напісана першая частка твора. Пра тое, што ўсе духоўныя сілы пісьменніка былі скіраваны на паэму “Сымон-музыка”, сведчыць і такое аўтарскае прызнанне, што ён збіраецца хутка закончыць твор, а рэч будзе дужа вялікая.

Ёсць яшчэ адзін бок творчай працы Якуба Коласа ў Лунінцы. Гэта падрыхтоўка раней напісаных твораў да друку. Як вынікае з ліста Я.Коласа А.А.Грыневічу, у Лунінцы ён дапрацоўваў апавяданне “Тоўстае палена”: “Праз нядзелю вышлю Вам першы расказ у прозе “Тоўстае палена”. Ён яшчэ не скончаны: усё не маю часу. Але цяпер вазьмуся за яго.” З гэтага палескага мястэчка пасылаў таксама ўрывак з паэмы “Новая зямля”, смешнае і вясёлае (па вызначэнні аўтара) апавяданне вершам “Як Янка збагацеў”. З Лунінца было адпраўлена А.М.Уласаву напісанае тут апавяданне “Трывога”.

Такая творчая актыўнасць Якуба Коласа, на наш погляд, тлумачыцца двума акалічнасцямі. Трэба мець на ўвазе, што пісьменнік быў незвычайна працавітым чалавекам. Вялікую ролю адыграла і тое, што, адбыўшы тэрмін турэмнага зняволення, пісьменнік быў, нарэшце, вольны, а гэта ўжо само па сабе было шчасцем. З напісаных у Лунінцы твораў вынікае, што мастак слова акцэнтаваў сваю ўвагу на побытавых з’явах, узнімаючы, галоўным чынам, маральныя праблемы, асуджаючы такое сацыяльнае зло, якім было п’янства, не-



адукаванасць вяскоўцаў.

З другога боку, у Лунінцы пісьменніку жылося нялёгка. Тут ён быў адарваны ад свету, ад літаратурнага і культурнага асяроддзя. Нават газеты і тыя не траплялі ў гэтае мястэчка. Таму пісьменнік так радаваўся лістам, якія прыходзілі сюды ад сяброў. Яшчэ больш даймала безграшоўе. "Заработак дрэнны: маю ўсяго адзін урок, – піша Якуб Колас А.А.Грыневічу. – Можа хіба далей палепшае". Надзеі, аднак, не спраўдзіліся. Уласаву А.М. пісьменнік паведамляе: "Жыву тут з таго, што займаюся ўрокамі. Дрэнная гэтая работа, і няма з яе ніякай карысці, абы не дома тырчаць. Маю ўрокаў руб. на 25, да і тыя няпэўныя". Пазней Якуб Колас удакладняў, што вучыў ён тут "дзяцей чыгуначнікаў. Я пачаў рэпеціраваць іх. Плата слабаватая: два руб. на месяц з галавы. Добра, калі галава кемлівая, а ў другую табліцу множання калом не ўваб'еш. Нават у Люсіна плацілі мне на рубель больш. У Філіповічавым пакоі зрабіў я школку. Займалася ў мяне 20 чалавек».

У сваіх успамінах Якуб Колас Вікенція Філіповіча называе "добрай душою". Падставы для такой ацэнкі, як бачым, былі. Трэба мець на ўвазе, што пасля выхаду пісьменніка з турмы многія да яго ставіліся насцярожана, ды і сам ён адчуваў сябе чалавекам, "выкінутым з жыцця. Дзверы на работу былі замкнуты, падтрымкі няма, кожны агінаецца пры сустрэчы, каб і самому не падпасці пад падазрэнне. Тут я і пачуў, нібыта трапіў у новае кола, нічым не лепшае за астрог". Калі А.М.Уласаў запрасіў пісьменніка прыехаць у Вільню, той адказаў, што "ўкішэні тонка", нават папрасіў, каб прыслалі грошы на дарогу і ўдакладніў, што білет каштуе ў адзін канец 3 руб. 64 кап.

Прыгнятаў Якуба Коласа яшчэ адзін клопат. Адразу па выхадзе з турмы пісьменнік стаў атрымліваць позвы для службы ў войску. Выходзіла, што пісьменнік трапляў з агню ды ў полымя. Вызваліцца ад войска можна было адным спосабам – працаваць настаўнікам у казённай школе. Педагогі ад службы ў арміі вызваляліся. Атрымаць пасведчанне пра палітычную благанадзейнасць не ўдавалася. На прашэнні настаўніка-бунтара губернатар напісаў: "Адмовіць". Трэба было як найхутчэй пакідаць Лунінец, каб не быць забрытым у салдаты. Спачатку Якуб Колас меркаваў гэта зрабіць пасля Вялікадня, аднак падзеі развіваліся такім чынам, што з'ехаў у канцы лютага 1912 г.

У Лунінцы на доме, у якім жылі Якуб Колас і яго сябар Вінцук Філіповіч, дзе клаліся на паперу неўміручыя радкі паэмаў "Сымон-музыка", "Новая зямля" і іншыя творы, сёння ёсць мемарыяльная дошка, як і на раённым краязнаўчым музеі, дзе існуе адпаведны раздзел экспазіцыі. Яго работнікі падтрымліваюць кантакты з музеем аўтара паэмы "Сымон-музыка" ў Мінску, удзельнічаюць у "Каласавінах". Па аналогіі і ў раёне праводзяцца "Лунінецкія Каласавіны". У 1996 г. для ўдзелу ў іх прыязджалі сын Якуба Коласа Міхась Канстанцінавіч, а таксама ўдава і дачка Данілы Канстанцінавіча. У верасні 2005 г. у Лунінцы ўзведзены помнік народнаму паэту.

Сплыве шмат гадоў, як Якуб Колас пакінуў Лунінец, дзе знайшоў прытулак у цяжкі для сябе час, дзе плённа пісалася, дзе былы сябар Вінцук Філіповіч не даў зняверыцца, падтрымаў, паступіўся сваімі выгодамі і інтарэсамі.

Пісьменнік набудзе сусветную вядомасць, ацалее ў жахлівыя 1930-я гг., ззаду застанецца нямецкая навала з яе балючымі народнымі і асабістымі стратамі: без вестак прапаў на фронце сын Юрка, пайшла на той свет любая Марыя Дзмітраўна. У 1947 годзе Якуб Колас зноў апынецца на Лунінеччыне. На гэты раз як кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР па Ленінскай выбарчай акрузе. Пісьменнік выбраўся ў нялёгкую дарогу на Палессе. Ён сустракаўся са сваімі выбаршчыкамі ў Мікашэвічах, Сінкевічах, Сцяблевічах. Свае ўражанні ад паездкі занатаваў у дзённіку "На схіле дзён". У Мікашэвічах Якуба Коласа віталі дарослыя і дзеці. На сустрэчы з выбаршчыкамі пісьменнік сваё выступленне пачаў так: "Дарагія таварышы! Я прыехаў да вас, каб прынесці вам самую шчырую, самую глыбокую падзяку за тое, што вы вылучылі мяне кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР. Я абяцаю быць вашым верным слугою, дапамагаць ва ўсім, апраўдаць ваш давер". Пісьменнік пазнаёміўся з ваколіцамі мястэчка, наведаў мясцовыя могілкі.

На наступны дзень Якуб Колас накіраваўся на машыне ў Сінкевічы. Настаўніца геаграфіі гэтай школы І.М.Салтыкова прыгадвае, што сустракалі пісьменніка кветкамі – зрэзанай геранню. Быў ён у цёмна-сінім паліто з каракулевым каўнерам і ў каракулевай шапцы. Гэтая настаўніца і вітала свайго дэпутата. Пісьменнік і педагог звярнуўся да вучняў з такімі словамі: "Мне радасна глядзець на маладое пакаленне. Вы – наша будучыня. Любіце Радзіму, жывіце дзеля яе, услаўляйце родную старонку стараннай вучобай – цяпер, а потым не меншстараннай працай".

Настаўнікі Сінкевіцкай школы прыгадваюць таксама, што Якуб Колас на гэтай сустрэчы абяцаў дапамагчы пабудаваць школу, што абяцанне сваё стрымаў, пра што напісаў у школу. На жаль, ліст Якуба Коласа ў Сінкевічах не захаваўся. Якуба Коласа радавала, што ўсюды яго сустракалі прыветна. Балела сэрца пра Палессе ў час гэтай паездкі, бо вайна пакінула тут свае жахлівыя адмеціны: "Усюды відаць сляды разбурэння, – занатоўвае пісьменнік у дзённіку. – Асабліва разбурана мястэчка Леніна. Яго фактычна няма. Народ абнасіўся, асунуўся, але цвёрда, мужна і свядома ставіцца да жыцця".

Якуб Колас да дэпутацкіх абавязкаў ставіўся выключна адказна, імкнучыся дапамагчы сваім выбаршчыкам. 22 сакавіка 1948 года на імя П.К.Панамарэнкі ён шле ліст як дэпутат Вярхоўных Саветаў БССР і СССР. Прыводзім яго цалкам. "У Мікашэвіцкім дзіцячым доме (Ленінскі раён Пінскай вобласці) выхоўваецца 100 дзяцей-сірот, бацькі якіх загінулі на франтах Айчыннай вайны. Гэты дзіцячы дом працуе ў кепскіх умовах: размешчаны ён у старых будынках, якія патрабуюць неадкладнага рамонту, лазні зусім няма, для перавозак служыць адзін конь, усё патрэбнае для дзіцячага дома вучні вымушаны прывозіць з Пінска цягніком, на што ідзе шмат часу і сродкаў. Нават шэф дзіцячага дома – Мікашэвіцкі фанерны завод – не дапамагае яму патрэбнаю для рамонту драўнінаю. Прашу вас даць адпаведным установам указанне аб вылучэнні грузавой аўтамашыны для патрэб дзіцячага дома і аб водпуску 30 кубаметраў піламатэрыялаў на рамонт памяшкання. Гэта дапаможа карэнным чынам палепшыць умовы жыцця і выхавання дзяцей. Ліст выхаванцаў дзіцячага дома прыкла-



даю”.

У маі 1947 года Якуб Колас клапаціўся па скарзе аднаго палешука. Пра гэта пісьменнік піша ў сваім дзённіку “На схіле дня”. Праз месяц быў ужо ў К.В.Кісялёва старшыні Вярхоўнага Савета БССР, “прасіў ад імя маіх выбаршчыкаў Ленінскага раёна Пінскай вобласці падкінуць ім трохі адзення. Мне таксама радасна, калі ўдаецца штокольвечы зрабіць на карысць людзям”.

## УЛАДЗІСЛАЎ НЯДЗВЕДСКІ

У аўтабіяграфіі, напісанай аўтарам аповесці “Хлопцы з другога корпуса” ў 1965 годзе, чытаем: “Нарадзіўся я 24 ліпеня 1929 года на адным з Рахавіцкіх хутароў Лунінецкага раёна Брэсцкай вобласці”. З таго часу адбыліся змены ў адміністрацыйным дзяленні рэспублікі. Частка Палесся адышла да Міншчыны. Там, у Салігорскім раёне, апынуліся і Рахавіцкія хутары. Уладзіслаў Нядзведскі перастаў быць нашым земляком. Тым не менш Лунінеччыне ў жыцці і творчасці пісьменніка належыць значнае, калі не сказаць, вызначальнае месца.

У гады Вялікай Айчыннай вайны Рахавіцкія хутары ўваходзілі ў партызанскую зону, дзе доўгі час жахлівы подых вайны не адчуваўся. Людзі жылі спрадвечнымі клопатамі, дзеці вучыліся ў школе, у тым ліку і Уладзіслаў Нядзведскі. У 1943 годзе немцы пачалі блакаду гэтай зоны: забівалі, палілі ўсё і ўсіх. Людзі ратаваліся ў лесе. Немцы высачылі вялікую сям’ю Нядзведскіх. Удалося ўратавацца двум дзецям – Уладзіславу і Віні. Сіротам даў прытулак матчын брат. Пасля вызвалення Лунінеччыны Уладзіслаў Нядзведскі падаўся на вучобу ў Мікашэвічы. Жыў за кошт таго, што атрымліваў ад уладаў дапамогу як сірата забітых немцамі бацькоў, здымаючы прыватную кватэру.

Калі ў 1945 годзе ў мястэчку быў адчынены дзіцячы дом, райкам камсамола накіраваў туды Уладзіслава Нядзведскага, даручыўшы ўзначаліць камсамольскую арганізацыю. Тут юнак пражыў да 1950 г., да часу заканчэння дзесяцігодкі. Калі пасля восьмага класа быць выхаванцам было ўжо нельга, працаваў піянерважатым. Адсюль падаўся ўМінск, на філалагічны факультэт БДУ. У Мікашэвічах пачаўся яго шлях у літаратуру. Першы верш Уладзіслава Нядзведскага быў апублікаваны ў пінскай абласной газеце ў 1949 годзе. Сістэматычна пачаў выступаць у рэспубліканскім друку ў студэнцкія гады.

Пераехаўшы ў сталіцу, доўгі час сувязі з Мікашэвічамі не губляў, меў унутраную патрэбу тут бываць сярод сваіх “пабрацімаў і сястрычак”. Гэта быў дом Уладзіслава Нядзведскага, іншага ў яго проста не было. Перажытае ў гады вайны ў значнай меры вызначала яго духоўны і паэтычны свет. Пісьменнік з Рахавіцкіх хутароў меў усе падставы вынесці свой прысуд вайне. “На маю долю, як і на долю маіх аднагодкаў, выпала шмат горкага і трагічнага, – піша ён у аўтабіяграфіі. – Няхай тое, што перажылі мы ў мінулую вайну, не паўторыцца болей ні з кім – ні з тымі, каму сёння год ад нараджэння, ні з тымі, каму пяць, ні з тымі, каму шаснаццаць. Няхай ніколі не паўторыцца такое і з дзецьмі іх дзяцей і ўнукаў. На чалавечы век хопіць таго, што фашызм поўнай мерай адмераў нам, адмераў агнём і свінцом”. Таму трагедыя сям’і і свайго пасляваеннага

ранняга юнацтва, діцячы дом, мікашэвіцкія ўражанні ўвайшлі так ці іначай ў творы Уладзіслава Нядзведскага: "Балада пра дзве рукі", "Дома", "Кінамеханік" і інш.

Найбольш поўна і пераканальна трагедыя ўкрадзенага дзяцінства раскрыта ў паэме "Хай пустуюць падножкі". Хоць гэты твор не належыць да мастацкіх здабыткаў у творчасці Уладзіслава Нядзведскага, але ў ім узняты свежы жыццёвы матэрыял, які раскрывае адзін з бакоў тэмы "Дзеці і вайна". Паэма "Каб не было падножак" з'яўляецца своеасаблівым пралогам да аповесці пісьменніка "Хлопцы з другога корпуса", якую зпоўным правам можна аднесці да здабыткаў беларускай дзіцячай літаратуры 60-х гг. мінулага стагоддзя. Яна была апублікавана спачатку ўчасопісе "Маладосць" (1963), а праз год выйшла асобным выданнем.

Аповесць "Хлопцы з другога корпуса" ў многім твор аўтабіяграфічны. За Кірмашэвіцкім дзіцячым домам лёгка ўгадваецца Мікашэвіцкі, дзе выхоўваўся і працаваў аўтар. Ён увёў у аповесць сапраўдныя тапонімы, якія з'яўляюцца падказкай, дзе знаходзіцца Кірмашэвіцкі дзіцячы дом: згадваюцца Пінск, Лунінец, Калінкавічы як бліжэйшыя ад Кірмашэвічаў чыгуначныя станцыі. Ёсць шмат агульнага ў лёсе Уладзіслава Нядзведскага і аднаго з "хлопцаў з другога корпуса" – Віці Ляўковіча. У абодвух у час блакады партызанскай зоны немцамі былі забіты бацькі, абодва некаторы час жылі ў сваякоў, пазней – у мястэчку на прыватнай кватэры. Маюць сваіх прататыпаў і іншыя героі аповесці "Хлопцы з другога корпуса". Многія на Берасцейшчыне ведаюць былога выхаванца Мікашэвіцкага дзіцячага дома А.П.Чашу, які таксама, як і герой Уладзіслава Нядзведскага Арсень Зайцаў, не меў абедзвюх рук. Пазней юнак атрымаў педагагічную адукацыю і працаваў завучам у сваім дзіцячым доме, а затым дырэктарам школы ў Мікашэвічах. Дырэктару дзетдома аўтар пакінуў яго сапраўднае імя і бацькоўства – Мікалай Пятровіч.

Разам з тым у аповесці створаны вобразы – тыпы. Яны цалкам не паўтараюць біяграфію сваіх прататыпаў. Скажам, у Віці Ляўковіча жыве ў вёсцы дзед, чаго не было ў аўтара твора. Як большасць выхаванцаў дзіцячых дамоў, пасля восьмага класа гэты герой едзе паступаць у Ленінградскае рамесніцкае вучылішча. У той самы час, як гаварылася вышэй, Уладзіслаў Нядзведскі застаўся ў Мікашэвічах, працаваў у дзіцячым доме і адначасна вучыўся ў школе.

У аповесці даецца зрэз жыцця народа ў першыя пасляваенныя гады без прыхарошвання. Кірмашэвіцкі дзіцячы дом функцыянуе ў цяжкі час пасля вайны. Паўсюль яе жахлівыя сляды: разбураны гарады, спалены вёскі. Паязды праз станцыю, дзе знаходзіцца дом, ходзяць нерэгулярна: няма вадакачак, няма дроў і вугалю. Вагоны перапоўнены, людзі вісяць на падножках, а беспрытульныя дзеці прымошчваюцца на дахах вагонаў. Асірацелых дзяцей дзяржава не можа забяспечыць харчаваннем, вопраткай. Нешта падкідвае Чырвоны Крыж, але вопратка і абутак паступаюць па вагах. Тое, што ў аповесці адлюстравана суровая рэальнасць у жыцці Кірмашэвіцкага дома, пацвярджаецца дзённікавымі запісамі і лістамі ў дзяржаўныя структуры Якуба Коласа. Пра іх гаварылася вышэй.



Пісьменнік пераканальна паказвае, што ў пасляваенныя гады прыкладалася шмат намаганняў, каб вярнуць дзяцей, абяздоленых вайной, да нармальнага жыцця. Іх, галодных, абшарпаных, здзічэлых і знявераных, лавілі на кірмашах, здымалі з дахаў вагонаў, знаходзілі ў падвалах разбураных дамоў. Хоць іх і палохалі дзіцячым домам і ў сваім асяроддзі, і дарослыя, якія выкарыстоўвалі дзяцей і падлеткаў у карыслівых ганебных справах, некаторыя самі шукалі паратунку ў Кірмашэвіцкім дзіцячым доме. Былі сярод іх і такія, хто не ведаў сваіх сапраўдных імёнаў і прозвішчаў.

Пісьменнік падае характары герояў у развіцці. Пад уплывам умоў жыцця ў дзіцячым доме, педагогаў, дзякуючы клопатам райкама камсамола, міліцыі, падлеткі набываюць раўнавагу, пачынаюць цаніць і прытрымлівацца спрадвечнай народнай маралі, распазнаюць праўду і крывадушша, дабро і зло. У хлопцаў фармуецца пачуццё годнасці. Ім ужо неабыякава, што падумаюць пра кожнага з іх месцачкоўцы і як гэта паўплывае на грамадскую думку пра іх дзетдом, пра іх вялікую сям'ю. Разам з тым у гэтай сям'і не нівелюецца асоба кожнага. Хлопцы паказаны адметнымі асобамі: працавіты, чулы, спагадлівы Віця Ляўковіч, кемлівы, не па гадах сур'ёзны, добры арганізатар Федзя Жаўнерчык, упарты шукальнік прыгодаў Апанас Кныш, вынаходлівы весялун і жартаўнік Алёша Парэчкін, удумлівы і справядлівы Арсень Зайцаў, гаваркі і прыслужлівы Барыс Цыган і інш. Меншудаліся пісьменніку вобразы дарослых, тых, хто спрыяў духоўнаму сталенню абяздоленых дзяцей. Выключэннем у гэтым плане з'яўляецца вобраз шаўца Шлёмы Майсеевіча, якому ў творы адведзена сціплае месца.

Памёр у 1973 годзе.

У Мікашэвічах шануюць памяць пра Уладзіслава Нядзведскага. Яго імем названа гімназія горада, у якой дзейнічае музей, прысвечаны пісьменніку.

## СЦЯПАН НЕФІДОВІЧ
(1941)

Сялянскі сын з вёскі Лахаўка Сцяпан Нефідовіч прайшоў тыповы для выхадца з былой Заходняй Беларусі шлях інтэлігента ў першым калене. Яго дзяцінства прыпала на час Другой сусветнай вайны і пасляваенныя нягоды, звязаныя не толькі з тым, што яна пасля сябе пакінула, але з калгаснай бясхлебіцай. Вайна ўсё яшчэ не пакідае творцу з Лахаўкі, а "крычыць маленькім хлапчуком на раздарожжы". Ён рана пайшоў на свой хлеб. Прайшоў інстытут вясковага пастушка, працаваў паляводам і рахункаводам у калгасе "Новае Палессе", масавіком і бібліятэкарам у Любанскім клубе, адначасова вучачыся ў вячэрняй школе. Юнака, аднак, як і герояў камедыі Андрэя Макаёнка "Таблетку пад язык" маніў горад. У 1963 г. Сцяпан Нефідовіч падаецца ў Пінск і паступае ў педвучылішча. Пасля яго заканчэння вяртаецца на радзіму і да выхаду на пенсію працуе спачатку настаўнікам пачатковай школы, а пасля заканчэння завочнай формы навучання філфака БДУ настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў Любані.

Літаратурныя схільнасці ў Сцяпана Нефідовіча выявіліся рана. Яшчэ пас-

тушком у полі і лесе з каровамі складаў вершы. Гэтаму спрыялі найперш сям'я і хараство навакольных краявідаў. Пісьменнік прыгадвае, што яго бацькі любілі народную песню, і ў іх хаце часта гучалі іх галасы, а бабуля расказвала шмат паданняў, даўніх гісторый.

*Дзесь за акном зімы іграла скрыпачка,*
*Глядзеўся месяц-поўня ў акно.*
*І песні маці, бы з кудзелі ніточка,*
*Усё слаліся па хаце валакном.*
*І тых мелодый чары небывалыя,*

І слоў сяйво запалі мне ў душу, – пазней піша паэта з Лахаўкі ў вершы "Матчыны песні". З маладосці цягнуўся да тых, хто займаўся творчасцю, і стаў сябрам літаратурнага аб'яднання ў Мікашэвічах, якім кіраваў Аляксей Гардзіцкі. Туды час ад часу наведваўся і Уладзіслаў Нядзведскі. Там абмяркоўваліся паэтычныя спробы Сцяпана Нефідовіча. У час вучобы ў Пінскім педвучылішчы ўваходзіў у суполку творцаў, якія гуртаваліся пры "Палескай праўдзе", была сярод іх і маладзенькая Жэня Янішчыц.

Сям'я, праца ў школе, гаспадарка, без якой вясковаму настаўніку цяжка пражыць, адсунулі на задні план літаратурную творчасць. Нельга сказаць, што настаўнік з Любані зусім не пісаў, але гэта былі толькі карэспандэнцыі ў раённы, а часам і рэспубліканскі друк. Актыўна да творчай дзейнасці вярнуўся ў шаноўным узросце. У вершы "Равеснікам" Сцяпан Нефідовіч так вызначыў сваё цяперашняе светаадчуванне:

*Яшчэ не складзены ў стагі*
*Натхненне, справы і турботы.*

На яго рахунку зборнічкі паэзіі і прозы, выдадзеныя ў Лунінцы: "Дзень добры", "Парушынкі ў воку" (у сааўтарстве), "Святло бяроз", "Спеў берасцянкі", "Сувой жыцця", шэраг артыкулаў па фальклоры краю, запісы заклёнаў, прыказак, рэкруцкіх песняў. У планах на бліжэйшы час краязнаўчыя артыкулы па тапаніміцы і гісторыі, гідраніміі, а таксама творы для дзяцей і ўспаміны пра пісьменнікаў, з кім сутыкнуў творцу жыццёвы лёс: Уладзіслава Нядзведскага, Аляксея Гардзіцкага, Андрэя Макаёнка, Міколу Федзюковіча ды інш.

З вершаў Сцяпана Нефідовіча паўстае чалавек сталага веку, які яшчэ не наталіў прагу жыць, захапляцца хараством роднай зямлі, любавацца разнастайнасцю праяў прыроды ў розныя поры года, бачыць яе ў дэталях, якія ўсе разам ствараюць паэтычны вобраз, цэласную карціну:

*На лісце ўселася расіначка,*
*Такая светлая, празрыстая,*
*Нібы дзіцячая слязіначка,*
*Бязвінная, крыштальна чыстая.*
*У ёй ружовы ранак месціцца,*
*І неба сіняе, бяздоннае.*
*У першых промнях сонца песціцца,*
*І лашчыць ціша ранне соннае.*

Для лірычнага "я" паэта характэрна трывога за лёс радзімы і народа, боль



з прычыны бяспамяцтва некаторых яе сыноў, негатыўных адносінаў асобных яе прадстаўнікоў да мовы. Разам з тым паэт аптымістычна глядзіць у будучыню:

*...Ды толькі бессмяроцце мае мова,*
*Яна народу дадзена навек.*
*Яе, бы на сцяжынцы той трыпутнік,*
*Знявечылі, стапталі да знямог.*
*Ды як бы ні тапталі падарожнік,*
*Ён лісце выпрамляе зноў, цвіце.*

Лірычнаму суб'екту вершаў Сцяпана Нефідовіча не чужым з'яўляецца пачуццё кахання. У вершах гэтай тэматыкі ён не маладзіцца, раскрываючы свае інтымныя перажыванні. Для ўзаемаадносінаў Яе і Яго характэрны давер, вернасць, цнатлівасць, шчасце быць разам, адчуваць і праз гады свежасць пачуцця. Разам з тым лірычнаму герою характэрна вяртанне ў маладосць, ён прыгадвае і палкасць закаханасці, і боль разлукі і здрады. Палессе, Цна, Прыпяць, родная зямля – вось тое вызначальнае, што акрэслівае яго душэўны стан, напаўняе жыццё глыбокім сэнсам:

*Зноў я пад родным асмужаным небам.*
*Выйшаў, стаю і лаўлю цішыню.*
*Чую, як ласкава дыхае глеба,*
*Чую, як луг аддае цеплыню.*
*Кожны расточак умыты расіцаю,*
*Поле шчаслівіцца, вечар пяе.*
*Я нахілюся над цёплай зямліцаю.*
*Сэрца, бы ў мацеры, б'ецца ў яе.*
*Я парадніўся з ёй, роднаю, блізкаю,*
*Зросся карэннем да скону жыцця,*
*Дык пакланюся ёй нізенька – нізка я*
*І прыпаду, бы да маці дзіця.*

Сцяпан Нефідовіч – аўтар пейзажных мініяцюр, замалёвак, сабраных у зборнічках "Святло бяроз", "Спеў берасцянкі". У іх выявіўся талент пісьменніка эстэтычна ўспрымаць наваколле, бачыць і чуць яго ў разнастайнасці праяў. Для творцы ўсе поры года маюць сваё хараство, толькі трэба не шкадаваць часу, часцей бываць у полі і лесе, на балоце, на берагах рэчак і азёраў, углядацца і ўслухоўвацца ў родныя краявіды, і тады адкрыецца чароўнасць, незвычайная іх разнастайнасць. Пісьменнік з Лахаўкі выступае цудоўным знаўцам палескай флоры, пярнатых. У яго кантактах з прыродай няма матэрыяльнай карыслівасці. Яна заўсёды саступае наталенню хараством і жаданню, каб нехта таксама перажыў такое ж пачуццё ("Суніцы", "Смаржкі" і інш.).

Сцяпану Нефідовічу належаць працы па фалькларыстыцы: "Смех і пацеха ў жартоўных песнях Лунінеччыны", "Мудрыя словы", "Чумацкія песні", "Краса і сіла чарадзейных слоў". Яны напісаны на аснове песняў, замоў, прыказак роднага краю, у сваёй большасці сабраных аўтарам.

# ІВАН КАЛЯНКОВІЧ
(1947 – 1996)

Вёска Цна дала літаратуры двух даследчыкаў мастацкага слова, крыты-каў Івана Калянковіча і Міколу Калінковіча. Дзяцінства першага прайшло ў род-най вёсцы. Дзесяцігодку юнак заканчваў у Кажан-Гарадку. Тут праляцелі шчас-лівыя школьныя гады, тут нарадзілася цікавасць да літаратуры. Гэта і прывяло юнака з Лунінеччыны на філалагічны факультэт Брэсцкага педінстытута (1963 – 1968). Тут сялянскі хлопец трапіў у цікавае студэнцкае асяроддзе. Імкненне пісаць падтрымліваў пісьменнік, загадчык кафедры беларускай літаратуры У.А.Калеснік. У Івана Калянковіча творчы патэнцыял пакуль што выяўляўся толькі ў працах на конкурс навуковых студэнцкіх даследаванняў, дзе яны высо-ка адзначаліся.

Пасля заканчэння Брэсцкага педінстытута вярнуўся на радзіму і да пры-зыву ў войска настаўнічаў у Ракітнянскай школе. Пасля завяршэння службы ў арміі на працягу пяці гадоў (1970 – 1975) працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры і намеснікам дырэктара Любанскай сярэдняй школы ў сваім раёне. На гэты час прыпадае яго выхад у друк. На адной з канферэнцыяў у сталіцы (1973 г.) яму прапанавалі паступіць у аспірантуру на аддзяленне завочнага навучання пры Мінскім педінстытуце. Для даследавання была акрэслена тэма па прозе Платона Галавача. На той час творчасць гэтага грамадска-палітыч-нага дзеяча і пісьменніка не была прадметам спецыяльнага вывучэння. Пасля рэпрэсій 1930-х гг. імя Платона Галавача толькі вярталася ў літаратуру. Усе публікацыі Івана Калянковіча часу навучання ў аспірантуры былі звязаны з ідэй-на-стылёвымі адметнасцямі прозы аўтара рамана “Спалох на загонах”.

У 1975 годзе Іван Калянковіч быў абраны па конкурсе на пасаду старшага выкладчыка кафедры беларускай літаратуры Брэсцкага педінстытута і на дзе-сяць гадоў звязаў сваю дзейнасць з роднай альма-матар. Творчая актыўнасць Івана Калянковіча знізілася ў сувязі з распрацоўкай курсаў, якія яму былі дару-чаны кафедрай, і з завяршэннем працы над дысертацыяй, якую паспяхова аба-раніў. У 1980 г. за даследаванне “Творчасць Платона Галавача: Жанрава-сты-лёвыя асаблівасці” маладому даследчыку беларускай літаратуры была пры-суджана вучоная ступень кандыдата філалагічных навук.

У наступнае дзесяцігоддзе Іван Калянковіч вывучаў сучасную вясковую прозу, выступаў як крытык, не абыходзіў сваёй увагай творчасць пісьменнікаў-землякоў, краязнаўчыя выданні, пісаў артыкулы для энцыклапедычнага давед-ніка “Янка Купала”.

Апошнія гады свайго жыцця крытык і даследчык з Цны працаваў настаў-нікам беларускай мовы і літаратуры ў школах Брэсцкага раёна. У той самы час з’яўляўся сумяшчальнікам на кафедры беларусазнаўства Брэсцкага універсі-тэта, увайшоў у склад аўтарскага калектыву па напісанні падручнікаў па бела-рускай літаратуры пад кіраўніцтвам В.Я.Ляшук для сярэдняй агульнаадукацый-най школы. У падручніку “Беларуская літаратура” для Х класа (Мн., 1997) змеш-чаны яго раздзельчыкі “Літаратура 60 – 70 гг. ХІХ ст.” і “Літаратура 80 – 90 гг.



XIX ст.”. Гэта былі апошнія публікацыі Івана Калянковіча. На жаль, ён іх не ўбачыў. У гэтым падручніку яго імя значыцца ўжо ў чорнай рамцы.

## МІКОЛА ЕЛЯНЕЎСКІ

Празаік, сябар Саюза пісьменнікаў Расіі і Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікола Елянеўскі нарадзіўся ў вёсцы Лунін 5 красавіка 1948 года. Бацька працаваў бухгалтарам, а маці пасля яго заўчаснай смерці была калгасніцай. Юнак пасля заканчэння сярэдняй школы ў роднай вёсцы (1966) паступіў у Мінскае паліграфічнае вучылішча. Практыку праходзіў у лунінецкай раённай газеце і аднучасова працаваў у ёй фотакарэспандэнтам. У час службы ў войску (1969 – 1970) пісаў у армейскую газету. Здольнага салдата з Палесся заўважылі ў яе рэдакцыі і прапанавалі паступіць на журналісцкі факультэт Львоўскага вышэйшага вайскова-палітычнага вучылішча. Пасля яго заканчэння каля 25 гадоў працаваў у армейскіх газетах у Расіі, Германіі і Ташкенце.

Пасля распаду СССР Мікола Елянеўскі быў дэмабілізаваны і вярнуўся на радзіму. У расійскім вайсковым гарадку пад Баранавічамі атрымаў кватэру і жыў з сям’ёй з выпадковых заробкаў. У 1999 г. пераехаў у Пінск і ўзначаліў раённую газету “Полесская правда”. Наш зямляк з Луніна – аўтар кніг аповесцяў і нарысаў “Старший сын”, “Небесный штурмовик”, “Пушки в небо”.

Жывучы ўдалечыні ад радзімы, сувязі з ёю не губляў. Большасць адпачынкаў праводзіў у Луніне ў роднай хаце. Тут ён сябраваў з вядомым на Лунінеччыне кавалём і краязнаўцам Васілём Карпцом. Той зацікавіў вайсковага журналіста былым святаром Лунінскай царквы, аўтарам першай беларускай граматыкі Платонам Ціхановічам. Пачаліся пошукі самой граматыкі, першая частка якой была завершана ў 1875 годзе, а таксама раскрыццё біяграфіі П.М.Ціхановіча. Гэта і складае змест рамана-хронікі (такое жанравае вызначэнне даў твору аўтар) “Время пастыря”, апублікаванага ў часопісе “Нёман” (2007, № 4).

Значную частку рамана-хронікі Міколы Елянеўскага складае апісанне пошукаў “Беларускай граматыкі” Платона Ціхановіча, хоць на той час яна была ўжо вядомая. У Вільні з рукапісам пазнаёміўся Генадзь Каханоўскі, якога Ціхановічам зацікавіў таксама Васіль Карпец. Артыкул краязнаўцы пра працу святара з Луніна змешчаны ў яго кнізе “Адчыніся, таямніца часу…”. Была ўжо і ў лунінецкім раённым музеі першая беларуская граматыка. Тым не менш урыўкі з яе, уключаныя Міколам Елянеўскім у свой твор, чытаюцца з цікавасцю.

Другую палову кнігі складае апісанне Міколам Елянеўскім звестак з біяграфіі лунінскага святара. Гэтая частка твора таксама чытаецца не з меншай цікавасцю, бо сведчыць, якія цяжкасці ўдалося пераадолець аўтару раманахронікі, каб дасягнуць мэты. У выніку доўгіх пошукаў высветлілася, што Платон Ціхановіч нарадзіўся ў 1838 годзе ў ваколіцах Вылазаў на Піншчыне. У Лунін святар быў накіраваны адразу пасля заканчэння Мінскай духоўнай семінарыі. Мікола Елянеўскі раскрывае асветную, царкоўна-пастырскую дзейнасць свайго героя, паказвае яго чалавекам адукаваным, цікавай шматграннай асо-

бай, які добра ведаў і мову роднага краю і расійскую, выступіў арыгінальным перакладчыкам.

Для твора "Время пастыря" характэрны экскурсы ў даўнюю і пасляваенную гісторыю, устаўкі пра выдатных тагачасных святароў, уключэнне ўрыўкаў з царкоўных кніг, са святарскіх артыкулаў, скажам, пра ацэнкі твораў Максіма Горкага, паведамленне асобных фактаў сваёй біяграфіі. З гэтых кампанентаў твора Мікола Елянеўскі паўстае вернікам, які перакананы, што бездухоўнасць сучаснага грамадства бярэ пачатак з часоў, калі вялася барацьба з рэлігіяй, калі вынішчаўся такі вызначальны пласт духоўнага жыцця народа, як вера ў Бога і багацейшая духоўная літаратура, калі знішчаліся храмы.

Выразна выяўляецца і патрыятычная пазіцыя аўтара рамана-хронікі "Время пастыря". Вось герой у чарговы раз вяртаецца дадому. На станцыі Лоўча яму кідаецца ў вочы мемарыяльная дошка ў гонар А.А.Блока. "Нічым асаблівым гэты вялікі рускі паэт на Палескай зямлі не вызначыўся. Але палешукі ўсё роўна выказалі яму сваю ўдзячнасць нават за тое, што воляй лёсу ён некалі пражываў тут некалькі месяцаў, стварыўшы ў яго гонар музей у вёсцы Лапаціне і прысвяціўшы яму штогадовае літаратурнае свята "Блокаўскія чытанні", – іранізуе пісьменнік з Лунінца. – Крыху іншы лёс выпаў Максіму Гарэцкаму, які служыў у той самы час на той самай станцыі Парахонск". Максім Гарэцкі сапраўды ваяваў. Праўда, з акопаў быў адкліканы для службы па рэвізіцыі сена ў палешукоў. Доўга, аднак, гэтай працай не займаўся і папрасіўся зноў у акопы.

Міколу Елянеўскага абурае імкненне некаторых гісторыкаў, краязнаўцаў паказаць беларусаў цёмнымі, забітымі, якія жылі ў галечы, пазбаўленымі сваёй культуры, абыякавымі да гісторыі, што асабліва відавочна ў экспазіцыях як дзяржаўных, так і школьных музеяў, дзе дэманструюцца лапці, сохі, брудная жаночая і мужчынская вопратка і інш.

Выразна праяўляецца аўтарская пазіцыя і ў тым, што пісьменнік не абышоў увагай такі факт: нашы землякі насуперак патрабаванням уладаў па-хрысціянску пахавалі паўстанцаў Кастуся Каліноўскага, якія загінулі ў бітве з расійскімі карнікамі недалёка ад вёскі Хатынічы ў Ганцавіцкім раёне. Мікола Елянеўскі радуецца, што на яго радзіме адноўлены той храм, у якім працаваў П.Ціхановіч, а вучні Лунінскай школы ў 2006 годзе наладзілі свята ў гонар "170-годдзя чалавека, які адным з першых зрабіў крок да роднай мовы, на гэтай зямлі і ў гэтым храме", да юбілею аўтара першай "Беларускай граматыкі".

## МІКОЛА КАЛІНКОВІЧ

Напэўна, у гісторыі сусветнай літаратуры знойдзецца не так і многа пісьменнікаў, якіх бы так ушаноўвалі землякі. Зазначым адразу, што Міколу Калінковічу ў гісторыі беларускай літаратуры належыць сціплае месца. І тым не менш… Яму ўзведзены помнік у Лунінцы, названы вуліцы ў раённым цэнтры і на радзіме пісьменніка ў вёсцы Цна, адчынена мемарыяльная дошка на будынку мясцовай школы, дзе вучыўся аўтар кнігі "Палескія дні Аляксандра Блока". У ра-



ёне праводзяцца, хай і нерэгулярна, шахматныя і футбольныя турніры імя Міколы Калінковіча. Традыцыйнымі сталі літаратурныя дні А.А.Блока і М.М.Калінковіча. Дзіўнае спалучэнне – выдатны рускі паэт і адзін з даследчыкаў і аўтар белетрызаванай кнігі пра службу А.А.Блока на Палессі. А ў 2005 годзе была праведзена першая літаратурна-краязнаўчая навукова-практычная канферэнцыя памяці пісьменніка Мікалая Калінковіча. Па яе выніках была выдадзена кніга "Лунінецкая памяць. Дадатак I" (Мн., 2006). Парадаксальным у гэтым выданні з'яўляецца тое, што сярод яго матэрыялаў няма артыкулаў, прысвечаных аналізу літаратурнай творчасці таго пісьменніка, у гонар якога праведзена канферэнцыя.

Мікола Калінковіч нарадзіўся ў снежні 1950 г. у вёсцы Цна ў сялянскай сям'і. Бацька пісьменніка ў хуткім часе падаўся ў Казахстан. За ім следам рушыла з сынам і маці. Там у г. Усць-Каменягорску Мікола пайшоў у школу. Напэўна, спадзяванні Калінковіча-старэйшага на лепшае жыццё на чужыне не спраўдзіліся, і сям'я вярнулася на Палессе. Тут пісьменнік закончыў Цнянскую васьмігодку. Апошнія тры класы школьнага навучання заканчваў у Лунінцы. Мікола з удзячнасцю ўспамінаў сваіх настаўнікаў-славеснікаў Н.М.Рэзнік, М.Е.-Каліўка, гісторыка Л.І.Сіманаву. Зазначым, што і пазней ён быў надзвычай удзячны сваім настаўнікам па жыцці. Гэта стрыжнявая думка, якая праходзіць праз яго аўтабіяграфію, напісаную па просьбе дырэктара Лунінецкага краязнаўчага музея Н.М.Казанковай.

Пасля заканчэння сярэдняй школы была няўдалая спроба паступіць на факультэт журналістыкі БДУ. Вярнуўся на радзіму і падаўся ў настаўнікі. Год да прызыву ў войска працаваў у глыбіннай вёсцы раёна Гаўрыльчыцы, выкладаў замежную мову. Вучні, вяскоўцы палюбілі маладога настаўніка. Ён ім плаціў узаемнасцю. З 1968 года пачаў друкавацца ў раённай лунінецкай газеце.

На 1969 – 1971 гг. прыпадае служба Міколы Калінковіча ў Ленінградскай вайсковай акрузе ў ракетнай часці. З пяром ужо не развітваўся, пасылаў свае матэрыялы ў акружную газету "На страже Родины". Пасля заканчэння службы ў арміі была спакуса паступіць у Ленінградскі універсітэт, але, цвяроза ўзважыўшы свае шанцы, вярнуўся на радзіму. Другая спроба стаць студэнтам БДУ была ўдалай. Навучанне ва універсітэце (1971 – 1976) спалучаў з працай у "Сельскай газеце", нават хацеў перайсці ў штат выдання, але ў дэканаце не далі на гэта згоды. Для дыпломнай працы ўзяў тэму, звязаную са службай А.А.Блока на Палессі. Праддыпломную практыку праходзіў у брэсцкай абласной газеце "Зара". Яго запрашалі сюды на працу, але ён вярнуўся на Лунінеччыну ў раённую газету ў якасці намесніка рэдактара.

У гэты час выступае як публіцыст, крытык, літаратуразнаўца. Актыўна друкуецца ў раённых, абласных, рэспубліканскіх выданнях. Свае публіцыстычныя артыкулы прысвячае гісторыка-рэвалюцыйнай праблематыцы краязнаўчага характару. Мікола Калінковіч пісаў рэцэнзіі на творы В.Быкава, С.Грахоўскага, Н.Мацяш, працягваў працу па асэнсаванні палескіх дзён Блока, распачаў – пра сувязь А.С.Грыбаедава з Берасцейшчынай. Для публікацый нашага земляка гэтай тэматыкі характэрна імкненне выйсці за межы дакумента, факта, а

дамысліць, сфантазаваць, як гэта, на думку аўтара, магло быць. Яго працы пра А.А.Блока і А.С.Грыбаедава вызначаюцца белетрыстычнай адметнасцю. Шмат сіл і энергіі Мікола Калінковіч аддаваў адкрыццю краязнаўчага музея ў Лунінцы.

У 1978 г. Мікола Калінковіч пераходзіць на працу ў КДБ. Служыў у Туркменістане. Заняткі літаратурай не спыняў. Яго публікацыі вызначаюцца двухпланавай тэматыкай. Першы мае краязнаўчы характар: "Лунінец" (1981, 1990), "Палескія дні Аляксандра Блока", "Якуб Колас у Лунінцы". Другая – гісторыка-рэвалюцыйныя падзеі ў Туркменістане. Пісьменнік з вёскі Цна актыўна выступае ў друку гэтай рэспублікі. Адна за адной у Ашхабаце выходзяць кнігі беларускага пісьменніка. Паказальна, што ў сваёй большасці Мікола Калінковіч выступае пад псеўданімамі, якія так ці іначай падкрэсліваюць яго сувязь з любай Лунінеччынай: В.Лунин, Н.Лунинецкий, А.Полесский, Н.Цнянский.

У 1983 г. наш зямляк паступае ў аспірантуру вышэйшай школы КДБ і з сям'ёй пераязджае ў Маскву, становіцца членам Саюза пісьменнікаў СССР, аднак сувязі з Беларуссю і Лунінеччынай не губляе: часта наведваецца ў Мінск, дзе рыхтаваліся да выдання і перавыдання яго кнігі. Гэты ж клопат быў у яго і ў Ашхабаце. Пасля заканчэння аспірантуры быў накіраваны на працу ў Грузію. У 1990 годзе загінуў. Пахаваны ў Лунінцы.

У літаратурна-краязнаўчай спадчыне Міколы Калінковіча адметнае месца належыць працы пра сувязь А.А.Блока з Палессем. Яна была доўгія гады клопатам пісьменніка з Цны. Яшчэ ў час службы ў войску ў газеце "На страже Родины" апублікаваў артыкул "Жизнь обгоняет легенду" пра службу аўтара "Незнаёмкі" на Палессі. Затым было дыпломнае даследаванне і яго абарона, шматлікія артыкулы ў абласным, рэспубліканскім, саюзным друку. У 1985 годзе выйшаў нарыс нашага земляка "Палескія дні Аляксандра Блока". У адпаведнасці з жанравымі адметнасцямі персанажы кнігі маюць рэальных прататыпаў, якія выступаюць пад сваімі прозвішчамі: А.А.Блок, К.А.Глінка, Н.І.Ідэльсон, А.М.Талстой і інш. У ім апісаны падзеі, якія сапраўды адбываліся і ў якіх прымаў удзел рускі паэт. Разам з тым у працы Міколы Калінковіча выразныя прыкметы даследавання. Ён цытуе лісты, дзённікі паэта, яго жонкі і маці, звяртаецца да архіўных матэрыялаў, да мемуараў, карыстаецца навуковым апаратам, указвае крыніцы, адкуль узяты цытаты.

Кніга "Палескія дні Аляксандра Блока" складаецца з 18 раздзелаў, кожны з якіх мае сваю назву. Дапаўняецца ўступам "Ад аўтара". А ў канцы змяшчаецца выкарыстаная і працытаваная літаратура. Некаторыя з гэтых раздзелаў з'яўляюцца навуковымі артыкуламі, як, скажам, "Гісторыя аднаго знаёмства", прысвечанага кантактам А.А.Блока і Уладзіміра Самойлы. Да ліку даследчых пошукаў належаць і апошнія чатыры раздзельчыкі выдання пра саслужбоўцаў паэта па дружніне: Л.І.Катоніна, Н.І.Ідэльсона, К.А.Глінку, Ягорава і інш. Дарэчы, варта адзначыць, што гэтыя апошнія раздзелы парушаюць цэльнасць нарыса, акрэсленага назвай кнігі "Палескія дні Аляксандра Блока". Пра апошнія дні паэта на Берасцейшчыне гаворыцца ў 14 раздзеле "Бывай, Палессе…".

Для кнігі нашага земляка пра сувязь А.А.Блока з Палессем характэрна



белетрызацыя, імкненне ўвесці дыялогі рэальных персанажаў, з кім жыццё сутыкала паэта ў 13 дружыне. Яны выдуманы аўтарам кнігі, хоць у нейкай ступені вынікаюць з пазіцый рэальных асобаў. Варта спаслацца на дыялогі Блока і Талстога, Блока і Катоніна, на гутаркі ў хаце Лемяшэўскіх у Калбах пра будучыню Расіі і інш.

Для літаратурна-краязнаўчых працаў Міколы Калінковіча характэрна імкненне пашырыць межы Лунінеччыны на ўсё Палессе, прыпісаць тое, што не было створана на тэрыторыі сучаснага раёна. Думаецца, што аўтар у некаторых выпадках не здолеў пераадолець мясцовы патрыятызм, заняць аб'ектыўную пазіцыю.

## ВАСІЛЬ ТУМІЛОВІЧ
(1953)

Васіль Туміловіч належыць да ліку тых людзей, якія ўвесь час шукаюць і знаходзяць невывучаную духоўную спадчыну Палесся, што дае даследчыку мажлівасць найпаўней рэалізавацца яму як творчай асобе. Ён нарадзіўся ў Кажан-Гарадку ў вялікай сям'і, дзе гадавалася пяцёра дзяцей. Бацька на той час працаваў будаўніком у Лунінцы, маці вяла хатнюю гаспадарку. У Кажан-Гарадку Васіль Туміловіч у 1971 годзе закончыў сярэднюю школу. Пасля вяртання з войска некаторы час працаваў, як і бацька, будаўніком і рыхтаваўся да паступлення ў Ленінградскую духоўную семінарыю, хоць юнак з дзяцінства любіў гісторыю. Аднак школа вынесла яму суровы прысуд, які зачыніў Васілю Туміловічу дарогу ў свецкія тагачасныя ўстановы. У характарыстыцы значылася: "Вельмі любіць гісторыю, але наведвае царкву". Гэта і акрэсліла выбар юнака.

Пасля заканчэння Ленінградскай духоўнай семінарыі працаваў святаром у розных прыходах Берасцейшчыны (1980 – 1988 гг.). Кар'ера рэлігійнага дзеяча не склалася, і Васіль Туміловіч пакідае святарскую дзейнасць. Спачатку быў рознарабочым, а затым вярнуўся ў Лунінец і ўладкаваўся на працу ў школу ў якасці гісторыка, адначасна вучачыся на гістарычным факультэце Магілёўскага універсітэта. Васіль Туміловіч удзячны выкладчыкам сваёй альма-матар за грунтоўную гістарычную падрыхтоўку.

Праца ў школе адкрыла нашаму земляку з Кажан-Гарадка перспектыву заявіць пра сябе як краязнаўцу і фальклярыста, чым ён займаўся адразу пасля заканчэння семінарыі. Настаўнік гісторыі з Лунінца стаў актыўна выступаць у друку, удзельнічаць у навукова-практычных канферэнцыях розных рангаў, у тым ліку і міжнародных. Гэта патрабавала частых камандзіровак, што не вельмі падабалася кіраўніцтву рана. Мажліва, усё неяк абышлося б і без канфлікту, але былі іншыя спадзяванні і планы.

У гэты час была завершана і надрукавана ў Лунінцы праца "Возрождение забытого имени. Жизнь и деятельность Софьи Прорвич (1860 – около 1937)". Ішла актыўная праца па падрыхтоўцы да выдання твораў гэтай пісьменніцы. Клопаты пра іх друк узяў на сябе Беларускі экзархат. Думалася пра навуковую

духоўную кар'еру. Здавалася, для гэтага былі важкія падставы. І ў 2002 годзе Васіль Туміловіч пакідае працу ў школе і зноў вяртаецца да святарскай дзейнасці. І на гэты раз спадзяванні не спраўдзіліся. Цяпер ён мае сціплы прыход Шышова на Камянеччыне. Як і раней, займаецца краязнаўчай дзейнасцю, пераважна запісвае фальклор.

Васіль Туміловіч належыць да краязнаўцаў шырокага профілю. Літаратура Лунінеччыны і запіс фальклору краю – усяго адзін з напрамкаў яго дзейнасці. Да важнейшых набыткаў пісьменніка з Кажан-Гарадка належаць вышэй названыя працы, прысвечаныя пісьменніцы Соф'і Прорвіч. У выданні "Возрождение забытого имени" (Лунінец, 2001) раскрываецца біяграфія пісьменніцы, паказваецца працэс пошукаў яе родавых каранёў, часу і месца нараджэння. Аўтар працы высветліў, што Соф'я Прорвіч нарадзілася на Століншчыне, атрымала добрую адукацыю, але да літаратурнай творчасці звярнулася ў шаноўным узросце, жывучы ў Лунінцы. Ён сабраў значную частку творчай спадчыны гэтай пісьменніцы, параскіданай па розных перыядычных рэлігійных праваслаўных выданнях міжваеннай Польшчы і выступіў укладальнікам зборніка яе твораў "Любили отцы наши Бога" (2004).

Усё жыццё Соф'і Прорвіч прайшло на Палессі. Героямі яе твораў былі нашы землякі. Даследчык адзначае, што іх мова не пазбаўлена адметнасцей палескага дыялекту: "З іх вуснаў часта гучыць палеская гаворка: мамонько; ходземо на грэблю; набожно; зоставайся лепей дома; завіруха; зусім; куплю тобе сукеночку чырвону; ось продам ленок, – гэтыя і іншыя вобразы надаюць выразнасць і рэгіянальны каларыт апавяданням Соф'і Фёдараўны".

Васіль Туміловіч упершыню ў коласазнаўстве паказаў тое асяроддзе, у якое трапіў аўтар паэмы "Новая зямля" ў Лунінцы, пазнаёміў з людзьмі, з якімі так ці іначай давялося яму кантактаваць. Гэта была не толькі сям'я Вінцука Філіповіча, але і айца Мікалая Прорвіча, цесця сябра, які даў Якубу Коласу прытулак і хоць невялікі заробак у цяжкі час.

Зборам фальклору наш зямляк з Кажан-Гарадка займаецца даўно. Ім запісана ў Лунінецкім раёне 397 адзінак тэкстаў вуснай народнай творчасці. Краязнаўцу цікавяць творы розных жанраў: каляндарна-абрадавая, сямейна-абрадавая паэзія, лірычныя песні, легенды, паданні, фацэцыі. Сярод фальклорных жанраў аддае перавагу легендам і паданням. У іх ліку шмат невядомых беларускай фалькларыстыцы. Сам краязнаўца лічыць сваім набыткам легенды пра Грыневічаў вір і пра Юдаліху. Адасланыя Васілём Туміловічам фальклорныя запісы ў Беларускую акадэмію мастацтва атрымалі там высокую ацэнку. Кандыдат філалагічных навук Янка Крук у сваім водгуку на зборнік "З фальклорных крыніц Кажан-Гарадка" піша: "Выключнае месца ў зборніку займаюць калядныя (шчадроўскія) песні, асабліва хрысціянізаваныя, а таксама раздзел паданняў і легенд (гэты раздзел увогуле фантастычна цікавы). Для мяне ўнікальным з'яўляецца блок маргінальнай пагранічнай культуры – праклёны". Унутраны стымул запісу фальклору краязнаўца вызначыў так: "Я не хачу, каб легенды і песні маіх продкаў памерлі. Я не абмяжоўваюся сваімі службовымі абавязкамі, бо не магу цалкам рэалізаваць сябе ў іх, будучы творчай асобаю. Перш за ўсё я займаю



актыўную жыццёвую пазіцыю, далёкі ад кансерватызму. Я – даследчык Палесся, гісторык-краязнаўца, літаратар. І такім буду. І я нясу поўную адказнасць за гэтыя словы".

Васіль Туміловіч актыўна прапагандуе свае набыткі ў раённым, абласным, рэспубліканскім друку, выступае на рэгіянальных, рэспубліканскіх, міжнародных канферэнцыях. У яго 60 навуковых артыкулаў, некалькі брашураў.

МІКОЛА ІЛЬЮЧЫК
(1966)

У апошнія гады ўсё больш і больш творцаў пішуць вершы, лірычны герой якіх спавядае хрысціянскія ідэалы як адзін з галоўных агульначалавечых духоўных набыткаў. Гэтыя пісьменнікі звязваюць маральнае ўдасканаленне грамадства, матэрыяльны дабрабыт народа, лёс Айчыны з Богам, яго помысламі. Гэта даўняя традыцыя беларускай літаратуры. Многія яе прадстаўнікі былі святарамі, духоўнікамі: Кірыла Тураўскі, Іпацій Пацей, Казімір Сваяк і мн., мн. інш. Пратэстанцкую царкву на Лунінеччыне прадстаўляе і Мікола Ільючык. Ён нарадзіўся ў вёсцы Багданаўка ў вялікай сялянскай сям'і. Закончыў мясцовую школу.

Пасля атрымання атэстата аб сярэдняй адукацыі былі ў Міколы Ільючыка гады навучання ў Беларускай сельгасакадэміі, праца інжынерам калгаса "Гігант", а з 1995 г. пісьменнік з Багданаўкі ўзначальвае аварыйна-выратавальны пост у Лунінецкім раённым аддзеле па надзвычайных сітуацыях.

Цяга да літаратурнай творчасці ў Міколы Ільючыка выявілася ў дзіцячыя гады. Па-сур'ёзнаму звярнуўся да напісання вершаў і прозы з пачатку бягучага стагоддзя, займаўся таксама перакладамі з рускай і ўкраінскай моваў для беларускай дыяспары ў Амерыцы. На сёння ў набытку творцы зборнікі вершаў "Дзе жыве душа" (Лунінец, 2004), "Шматкроп'е кропель" (Мінск, 2006), "Роспач і надзея" (Лунінец, 2007). Першыя два выданні змяшчаюць вершы, апошняе – прозу. Жыццёвае крэда герояў твораў Міколы Ільючыка выражана ў яго радках:

Перад Госпадам трэба мець страх,
Жыць у праўдзе, быць шчырым і годным,
Мець вагу ў Ягоных вачах
І да спраў толькі добрых быць спорым.

Лірычнае "я" паэта жыве багатым шматмерным жыццём і выяўляецца як вернік, як сын свайго краю і Беларусі, як сем'янін, як чалавек свайго часу. У сваіх стасунках з людзьмі і прыродай ён кіруецца Божымі запаветамі. На яго думку, толькі вера ў Госпада пазбаўляе чалавека тугі, адчаю, вяртае раўнавагу, аптымізм, здольнасць бачыць хараство наваколля і наталяцца ім ("Дождж", "Каляндар", "Толькі з Хрыстом знаходзім адказы…", "Да свята жніва" і інш.).

Лірычны герой вершаў Міколы Ільючыка – сын свайго краю і радзімы.

ВАДЗІМ ЖЫЛКО

Усё сваё жыццё Вадзім Жылко звязаў з родным краем. У аўтабіяграфіі чытаем: "Нарадзіўся 31 кастрычніка 1967 года ў горадзе Лунінец Брэсцкай вобласці, дзе жыву і дагэтуль. Продкі пераехалі сюды ў час Першай сусветнай вайны з Гарадзеншчыны, дзе прозвішча наша вымаўлялася з націскам на першым складзе. На Палессі, недалёка ад Украіны, яно паступова стала вымаўляцца ўжо з націскам на другім складзе.

У Лунінцы скончыў у 1984 годзе сярэднюю школу № 1 і ў тым жа годзе паступіў на гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Вучыўся завочна, скончыў БДУ ў 1990 годзе, атрымаўшы спецыяльнасць "гісторык, выкладчык гісторыі і грамадазнаўства". Адначасова працаваў тэхнікам ў аддзеле архітэктуры Лунінецкага райвыканкама (1984 – 1991), потым – кіраўніком гуртка ў Доме дзіцяча-юнацкай творчасці (1991 – 1993), навуковым супрацоўнікам Лунінецкага раённага краязнаўчага музея (1993 – 2006). Выступаў на рэспубліканскіх канферэнцыях па гісторыі, краязнаўству, друкаваўся ў зборніках па іх выніках. Паралельна працаваў у раённай газеце "Лунінецкія навіны" (1994 – 1999), а з 1999 года – пазаштатным аглядальнікам недзяржаўнага лунінецкага штотыднёвіка "Информ-прогулка". З пачатку 2007 года працую ўштаце гэтай газеты".

Вадзім Жылко пачаў друкавацца ў 1984 годзе. Свае матэрыялы змяшчаў у раённым, абласным, рэспубліканскім друку. У 1998 г. стаў сябрам Беларускай асацыяцыі журналістаў, а ў 2007 – Саюза Беларускіх пісьменнікаў. Творца з Лунінца вызначаецца выключнай актыўнасцю і працавітасцю. Ён мае, па яго словах, каля 5000 публікацый. Вадзім Жылко – чалавек шырокіх творчых зацікаўленняў: паэт і празаік, гумарыст і сатырык, краязнаўца і гісторык, крытык і рэдактар. Да ўсяго гэтага ён яшчэ і шахматыст, аўтар шахматных кампазіцый, задач і эцюдаў, рэдактар адзінага ў Беларусі шахматнага бюлетэня "Альбіно" і дадатку да яго – "Альбіно-плюс", у якім друкуюцца і матэрыялы пра шахматы як з'яву культуры, пра шахматы ў беларускай і сусветнай літаратуры.

Раннія паэтычныя творы Вадзіма Жылко сабраны ў зборнічку "Ассорти" (Лунінец, 1995).

У 2006 г. выйшаў другі зборнік Вадзіма Жылко "Оборванная нить" (вершы і проза), які засведчыў творчы рост аўтара, што заўважыла Ніна Мацяш.

Пяру В. Жылко належыць таксама праца "Размова з прысутнымі. Уладзіслаў Нядзведскі: старонкі жыцця і творчасці" (Лунінец, 2001), у якой чытач знойдзе новыя звесткі пра жыццё аўтара аповесці "Хлопцы з другога корпуса", пра тое акружэнне, якое спрыяла развіццю літаратурных здольнасцей падлетка, калі ён быў выхаванцам Мікашэвіцкага дзіцячага дома. Аўтар працы шырока цытуе дзённік Уладзіслава Нядзведскага, які не знаходзіўся да гэтага ў навуковым ужытку. Вадзім Жылко – адзін з сааўтараў кніг "Памяць. Лунінецкі раён" (Мн., 1995), "Лунинетчина – край мой родной" (Мн, 2004), "Родная мая Лунінеччына" (Мн., 2005).



Разам з калегамі-аднадумцамі па творчым клубе "Муза" ў 1996 – 1999 гадах выдаў 9 альманахаў з творамі лунінецкіх аўтараў у серыі "Галасы Лунінеччыны", з 2000 года – 28 альманахаў ў серыі "Лунінецкая муза" і значную колькасць дадаткаў да іх, у 2001 – 2007 гадах – 7 нумароў краязнаўчага альманаха "Лунінецкі сшытак" і 2 спецвыпускі яго. У 1998 годзе быў укладальнікам анталогіі вершаў лунінецкіх паэтаў "Азбука поэзии".

## АНДРЭЙ МАКАЁНАК
(1920 – 1982)

У інтэрв'ю "Литературной газете" (7.04.1971), расказваючы пра свае творчыя планы, драматург пазнаёміў чытачоў з працай над чарговай п'есай: "У мяне нарадзілася задума камедыі, галоўным персанажам якой будзе энергічны, напорысты і разам з тым дасціпны старшыня калгаса. Прататыпам галоўнага героя паслужыў адзін мой добры знаёмы, а дакладней сябра дзяцінства, а зараз Герой Сацыялістычнай Працы. Я часта бываю ў яго, ён – у мяне. Вось толькі, пакуль ён сам не дазволіць, прозвішча яго не назаву". Размова ішла пра п'есу "Таблетку пад язык", якая была завершана ў 1972 годзе.

У аснову камедыі былі пакладзены назіранні Андрэя Макаёнка, вынесеныя ім з калгаса "Новае Палессе", сядзіба якога размяшчалася ў вёсцы Любань Лунінецкага раёна і якім кіраваў сябар дзяцінства драматурга У.А.Сцепчанка. На той час гэты калгас належаў да ліку заможных гаспадарак. Невыпадкова яго старшыня ў 1966 годзе стаў Героем Сацыялістычнай Працы. Ён і з'яўляецца прататыпам Каравая ў п'есе "Таблетку пад язык". Аўтарская пазіцыя, выяўленая ў гэтай п'есе, фармавалася ў пісьменніка не без уплыву У.А.Сцепчанкі, пра што апошні гаварыў сам: "Творчасць Андрэя Макаёнка я ведаю даволі добра. Больш таго, са мною, як са сваім былым аднакласнікам і земляком, драматург іншы раз дзеліцца творчымі планамі. Пры стварэнні, напрыклад, п'есы "Таблетку пад язык" ён па многіх момантах раіўся, зачытваў чарнавыя накіды і варыянты".

Андрэй Макаёнак вуснамі свайго персанажа дзеда Цыбулькі агаласіў дарагую для тагачасных і сучасных кіраўнікоў сельскай гаспадаркі, пачынаючы ад нізавога звяна і да самага вышэйшага, думку, што зямля нікому непатрэбная, што ні адзін вясковец яе не возьме для апрацоўкі. Хоць жыццё засведчыла, што гэта не так, тым не менш нярэдка такое меркаванне гучыць з экранаў тэлевізараў, змяшчаецца на газетных старонках. Вось што ў далёкія 1970 гг. сказаў старшыні Цыбулька: "Вот паспрабуй – прапануй любому калгасніку зараз дзесяць, пятнаццаць дзесяцін зямлі. Думаеш возьме. Нават задарма. За так. Не-е! Дудкі! Зразумеў мужык – не ў зямлі шчасце!"

Відавочным з'яўляецца факт, што Андрэй Макаёнак разам са сваім сябрам У.М.Сцепчанкам цвяроза ацэньвалі калгасную сістэму, адміністрацыйна-камандныя і цэнтралізаваныя спосабы кіраўніцтва эканомікай краіны, што міжвольна адкрывала перспектывы для кумаўства, хабарніцтва. Гэта і знайшло адлюстраванне ў п'есе драматурга "Таблетку пад язык".

АКСАНА СПРЫНЧАН

Аксана Спрынчан прадоўжыла сямейную паэтычную традыцыю і ў той самы час парушыла яе. Бацька і дзед паэткі належаць да рускамоўнай плыні ў беларускай літаратуры. Праўда, і беларуская мова ім нечужая: дзякуючы Браніславу і Вадзіму Спрынчанам і наша мастацкае слова гучыць на іншых мовах свету. Аксана Спрынчан нарадзілася ў 1973 годзе ў Лунінцы, заканчвала сярэднюю школу ў Мінску ў час новага вітка беларускага адраджэння і ўздыму нацыянальнай самасвядомасці. Таму зусім не дзіўна, што яна паступіла на аддзяленне беларускай філалогіі БДУ.

Разам з тым у гэтым выбары нашай зямлячкі, трэба думаць, не апошнюю ролю адыгралі яе палескія карані. Усе канікулы, па прызнанні Аксаны Спрынчан, яна праводзіла ў Лунінцы ў дзеда з бабай. Немалаважна і тое, што іх хата знаходзілася на яго ўскраіне, на вуліцы, дзе жыццё яе насельнікаў нічым не адрознівалася ад вясковага. Падлеткам паэтка была ўключана ў заняткі, якія былі клопатам яе сваякоў: палола грады, капала бульбу, пасвіла кароў.

Студэнцкія гады Аксаны Спрынчан (1990 – 1995) прыпалі на выключны перыяд у гісторыі Беларусі – вяртанне дзяржаўнага сувернітэту. На гэты час яе сувязь з Лунінцом слабее.

Пасля заканчэння універсітэта і аспірантуры Аксана Спрынчан стала працаваць у выдавецтве “Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі”. Часта бывае на лецішчы на Лысай Гары, якая стала вядомай, дзякуючы Нілу Гілевічу і яго сатырычнай паэме. Тут паэтка знайшла штосьці блізкае да таго, што ўвайшло ў яе жыццё ў Лунінцы.

Аксана Спрынчан у 2000 г. заявіла пра сябе як паэтка. Вершы яе друкаваліся ў розных выданнях. Наша зямлячка становіцца сябрам суполкі маладых пісьменнікаў “Літаратурнае прадмесце”. У 2004 г. выйшаў яе першы зборнік “Вершы ад А.”, які быў прыхільна сустрэты чытачамі. У друку з’явілася некалькі на яго рэцэнзій. Праз год Аксана Спрынчан уступае ў Саюз беларускіх пісьменнікаў. Сімптаматычна, што білет ёй уручаў паэт і бард намеснік старшыні аб’яднання Эдуард Акулін у Лунінцы. У зборніку “Лунінецкая памяць” (Мн., 2006) змешчана цэлая нізка вершаў “Як лёгка мне над Лунінцам лятаць…”.

Нельга сказаць, што ў яе вершах не праглядваюцца ўплывы і наследаванні. Яны ёсць, і іх паэтка з Лунінца не хавае, часам ствараецца ўражанне, што яна іх знарок падкрэслівае – Л.Дранько-Майсюк, У.Караткевіч, М.Шагал. Сваю грамадзянскую пазіцыю да лёсу Радзімы, мовы свайго народа яна раскрывае ў вершах “Я чытаю камяні…”, “Вялікае княства любові”. Напэўна, не дзеля прыгожага слова наша зямлячка адзначыла: “У многіх маіх вершах прама ці апасродкавана прысутнічае Лунінец – ціхі горад майго дзяцінства”.

Спынімся на вершах Аксаны Спрынчан, дзе горад яе нараджэння прысутнічае прама. Ён не проста ўзводзіцца на паэтычны п’едэстал. А выступае ўвасабленнем гармоніі, натуральнасці, загадкавасці, цудоўнай таямнічасці:



*Я нарадзілася*
*ў маленькім паўднёвым горадзе,*
*дзе растуць бурштынавыя абрыкосы,*
*і вінаград колеру закаханых вачэй,*
*дзе чырвоныя купалы вяргіняў*
*упрыгожваюць чырвоную царкву,*
*дзе грушы падаюць у жніўні, як знічкі.*

У нізцы "Хоку на Царкоўнай вуліцы" (Ранейшая назва цяперашняй вуліцы Гагарына, якая вяла некалі Аксану з чыгуначнага вакзала да роднай хаты) паўстае той колішні свет лірычнага суб'екта Аксаны Спрынчан з выразнай праекцыяй на сучаснасць. З аднаго боку, царква, дзедавы грушы, вышыванкі крыжыкам, кроп у агародзе, букет васількоў, лупленне старой бульбы, а з другога – зоркі, знічка, надзея, жыццё, памяць, смерць, слёзы. Праз гэтыя вобразы раскрываецца лірычны суб'ект, усведамленне ім бегу часу, адчуванне страты, нечага вельмі важнага і дарагога ў жыцці:

*З далоні ў далонь*
*перасыпаю пясок.*
*Цяплей і меней.*

Гэтым настроем пранізаны вершы "Сведкі", "Мама просіць…"

У творы "А Віцебск зараз…" Аксана Спрынчан праводзіць прамую паралель паміж роляй Віцебска ў жыцці і творчасці Марка Шагала і Лунінцом у сваім. Яе жыццёвае крэда сфармулявана ў гэтым вершы так:

*… гучаць,*
*як Прыпяць,*
*у палескім слове.*
*У гэтым слове*
*вымавіць цябе,*
*у гэты слове*
*вымаліць цябе,*
*у гэтым слове*
*вымаўчаць цябе*
*і лёсна,*
*і балесна, і нябёсна.*

# ЛЯХАВІЦКІ РАЁН

Ляхавіцкі раён мае адметнае геаграфічнае размяшчэнне – знаходзіцца на мяжы цэнтральнабеларускага і палескага рэгіёнаў. Гэтым найперш абумоўлены непаўторны каларыт мясцовага фальклору, які здаўна прыцягваў увагу збіральнікаў духоўнай спадчыны. Запісам і вывучэннем фальклорных твораў "з-пад Ляхавіч" займаліся Я. Чачот, З. Даленга-Хадакоўскі, Л. Бохвіц, М. Федароўскі, Э. Ажэшка, С. Малевіч, І. Сербаў, Н. Чарноцкі, К. Крагельская, Г. Цітовіч, Г. Барташэвіч і інш. З апублікаваных іх матэрыялаў вынікае, што вядучым фальклорным жанрам тут спрадвеку была песня. Песенныя традыцыі добра захаваліся да нашых дзён, пра што сведчыць існаванне ў раёне шматлікіх фальклорна-этнаграфічных калектываў.

Ляхаўшчына, аднак, славіцца не толькі сваімі спевакамі і музыкамі. Багата яна і на літаратурныя таленты. На тэрыторыі краю можна вылучыць цэлыя "пісьменніцкія гняздоўі" – горад Ляхавічы, вёскі Нача і Жарабковічы. У Ляхавічах нарадзіліся першы беларускі мемуарыст Федар Еўлашоўскі (Еўлашэўскі) і вядомы польскамоўны пісьменнік Сяргей Пясецкі. Вёска Нача – радзіма публіцыстаў, перакладчыкаў Напалеона Чарноцкага і Янкі Сваяка (Марыяна Фальскага). З вёскі Жарабковічы родам паэт Анатоль Станкевіч і крытык, літаратуразнавец з чулай паэтычнай душой Генадзь Праневіч.

Ляхавіцкая зямля дала нашай літаратуры паэтаў Янку Чабора (в. Рачканы) і Анатоля Бярозку (в. Вялікае Падлессе). Даўно прызнаным майстрам слова з'яўляецца празаік Уладзімір Дамашэвіч – ураджэнец вёскі Вадзяціна (Вадзеціна). Трывала занялі свае месцы ў сучаснай літаратуры Леанід Пранчак (в. Пранчакі) і Алесь Бадак (в. Туркі). У вёсцы Навасёлкі нарадзілася метадыст, адзін з аўтараў школьных праграм і падручнікаў па беларускай літаратуры Галіна Гарадко.

Зацікаўлены чытач добра ведае імёны Сцяпана Сяргея і Веры Дыдышкі, якія ў апошні час цікава і сур'ёзна заявілі пра сябе ў літаратуры. Першы з названых аўтараў родам з вёскі Шавялі. С. Сяргей – "фізік" па адукацыі (закончыў Беларускі політэхнічны інстытут і працуе інжынерам-будаўніком у Мінску), але з маленства ўлюбёны ў мастацкае слова. Піша вершы і прозу. У 1999 годзе ён выдаў паэтычны зборнік "Буслы на ржышчы".

Рана выявіўся літаратурны талент і ў Веры Дыдышкі (нар. у 1940 годзе ў вёсцы Ліпск). Першыя вершы напісала ў школьныя гады. Паэзія не адпускала ад сябе і тады, калі вучылася ў Мінскім педінстытуце, і калі працавала педагогам у дзіцячым доме і ў школах Ляхавіцкага раёна. Часта выступала ў абласным і рэспубліканскім друку, аднак толькі нядаўна сабрала свае творы ў адну кнігу – "Святло душы" (2003). Уся творчасць В. Дыдышкі "прасякнута любоўю да роднага палескага краю, дабрынёй і шчырасцю да людзей. На яе думку, – адзначае А. Верабей, – сёння, у выніку гвалтоўнага рушэння маральных асноў грамадства, як ніколі, патрэбна даражыць Радзімай:

*Як нахабна і як настойліва*
*Ад беларускасці нас адвучваюць:*



*Падліваюць чужое атрутнае пойла*
*І піць бяздумна яго прымушваюць".*

Літаратары Ляхаўшчыны падтрымліваюць цесныя сувязі з раённай газетай "Ляхавіцкі веснік", у якой у свой час працавалі такія вядомыя пісьменнікі, як Васіль Праскураў, Віктар Гардзей, Алесь Бадак. Частым госцем у рэдакцыі газеты быў паэт Мікола Купрэеў, які, дарэчы, некаторы час настаўнічаў у Пранчакоўскай сярэдняй школе Ляхавіцкага раёна. Літаратурная старонка "Крыніца", рубрыкі "Творчасць нашых чытачоў" і "На паэтычнай хвалі", якія адкрыты ў "раёнцы", заўсёды чакаюць новых твораў пісьменнікаў-землякоў.

## ЭКСКУРС У ЛІТАРАТУРНАЕ МІНУЛАЕ

Распавядаючы пра літаратурную Ляхаўшчыну, нельга абысці ўвагай Яна Чачота, Элізу Ажэшку, Паўліну Мядзёлку – тых, каго нялёгкія жыццёвыя дарогі прыводзілі ў гэты край.

Ян Чачот (1796–1847) нарадзіўся ў вёсцы Малюшычы Наваградскага павета. У хуткім часе яго бацька Тадэвуш Чачот, беззямельны шляхціц, наняўся да пана Тызенгаўза служыць аканомам у маёнтку Рэпіхава Навамышскай парафіі таго ж Наваградскага павета (цяпер Ляхавіцкі раён). Тут і "прамільгнуў ранак жыцця" будучага паэта.

Калі ўважліва прыгледзецца да творчасці Яна Чачота, то "няцяжка ўбачыць, што ў былым Навагрудскім павеце, на Ляхаўшчыне, у Рэпіхаве, у ваколіцах сённяшніх Баранавіч яе самыя глыбокія карані" (К. Цвірка). Мясцовы матэрыял найперш пакладзены ў аснову яго балад. Так, у баладзе "Звон на горцы ў Пазяневічах" паэт упамінае нейкага Антосіка, "чары" якога былі вядомы многім, і:

*Што кожны, хто на розум хворы,*
*У Дарава золата насіў.*

Як сцвярджаюць даследчыкі, Я. Чачот называе тут рэальную асобу – непісьменнага пастуха з вёскі Дарава, што ў Ляхавіцкім раёне, Антося Голеца. Даследчыкі жыцця і творчасці Яна Чачота лічаць, што пра незвычайнага лекара паэт ведаў яшчэ да публікацый у друку, бо той быў з мясцін, якія Я. Чачот лічыў сваёй малой радзімай.

З мястэчкам Флер'янова (Фларыянаў, Фларыянава), што за пяць кіламетраў ад Ляхавіч, звязана імя вядомай польскамоўнай пісьменніцы Элізы Ажэшка (1842–1910). Вясной 1908 года яна шукала месца для летняга адпачынку і спынілася на флер'яноўскай сядзібе Бохвіцаў, дзе быў невялікі пансіянат, які гаспадары ўлетку здавалі гасцям за памяркоўную плату. Сюды ў канцы чэрвеня 1908 года і прыехала Эліза Ажэшка са сваёй блізкай сяброўкай і былой сакратаркай Марыняй Абрэмбскай. Флер'янова і яго ваколіцы спадабаліся пісьменніцы. Яна вяла актыўны адпачынак – час быў запоўнены цікавымі гутаркамі, прагулкамі пехатою і на лінейцы "з мілым вазаком" па наваколлі, зборам мясцовых раслін для гербарыяў, запісам фальклору Ляхаўшчыны. Пра апошняе сведчыць "Беларуская легенда", апублікаваная ў кракаўскай газеце "Czas". Леген-

да расказвала пра тое, адкуль у ваколіцах Флер’янова паявіліся паны, у тым ліку Бохвіцы.

Паміж Элізай Ажэшка і гаспадаром пансіяната Тадэвушам Бохвіцам – “прыгожым і прыстойным з выгляду, добра выхаваным” – узнікла сімпатыя, шчырае сяброўства. Ужо ў флер’яноўскім доме яны распачалі перапіску. У спадчыне пісьменніцы лісты да Т. Бохвіца складаюць цэлы том, і, як адзначаюць даследчыкі, “яны выйшлі за межы асабістай перапіскі і сталі фактам літаратуры” (В. Гапава). Перапіска працягвалася, калі Э. Ажэшка пакінула Ляхаўшчыну і вярнулася ў Гродна.

Яна прапагандавала пансіянат Бохвіцаў сярод польскай інтэлігенцыі, з нецярпеннем чакала свайго другога флер’яноўскага адпачынку. Летам наступнага, 1909 года, у Флер’янове сабраліся знакаміты польскі празаік Уладзіслаў Рэймант, будучы прафесар Варшаўскага універсітэта Генрык Нусбаум, тэатральны дзеяч і крытык Юзаф Катарбінскі з жонкай Люцынай, віленская піяністка Асеміцкая і будучы артыст Страхоцкі. Кожны з запрошаных Элізай гасцей знайшоў тут сабе занятак па душы, а вечарам усе збіраліся на літаратурна-музычныя вечарыны, на якіх гучала музыка Шапэна, Бетховена, Грыга, чыталіся мастацкія творы. Госці пансіяната, як паведамлялася ў тагачасным перыядычным друку, прымалі ўдзел у традыцыйных земляробчых абрадах беларусаў. На памяць аб сваім прыбыванні ў Флер’янова польскія літаратары пасадзілі дрэўцы. Дуб Элізы Ажэшка расце і сёння.

У верасні 1909 года пісьменніца пакінула Ляхаўшчыну. Расстанне з Флер’яновым было для яе цяжкім. Здароўе пагаршалася, і ў маі 1910 года Э. Ажэшка не стала.

Вёска Мядзведзічы Слуцкага павета (цяпер тэрыторыя Ляхавіцкага раёна) увайшла ў жыццё выдатнага грамадскага і культурнага дзеяча, пісьменніцы Паўліны Мядзёлкі (1893–1974). Летам 1918 года сям’я Мядзёлкі вярнулася з Паволжа, і Паўліна Вікенцьеўна шукала месца працы. У акупаваным немцамі Мінску ўладкавацца было немагчыма, і яна прыняла прапанову настаўнічаць у беларускай школе, якая ў гэты час адкрывалася ў Мядзведзічах.

У хуткім часе Ляхаўшчыну акупавалі палякі. Працаваць з кожным днём станавілася ўсё складаней, і вясной 1919 года Паўліна Мядзёлка пакінула гэты край. У яе кнізе ўспамінаў “Сцежкамі жыцця” (1974) ёсць раздзел, прысвечаны працы ў Мядзведзічах.

## ФЁДАР ЕЎЛАШОЎСКІ (ЕЎЛАШЭЎСКІ)
## (1546 – пасля 1616?)

У 1603 годзе навагрудскі падсудак Фёдар Еўлашоўскі ўзяўся за пяро і пачаў пісаць успаміны. Яны дайшлі да нашага часу ў арыгінале (праўда, не цалкам) і з’яўляюцца асноўнай крыніцай біяграфічных звестак пра іх аўтара.

Пачатак мемуараў, дзе расказвалася пра бацькоў Еўлашоўскага, Міхаіла і Фядору, не захаваўся. Вядома, аднак, што бацька быў праваслаўным, паходзіў з даўняга баярскага роду, які з часам збяднеў, але пры фарміраванні шляхецка-



га саслоўя здолеў атрымаць набілітацыю і карыстаўся ўласным гербам. Далей чытаем: "...я, Федор Евлашовский, уродилэмсе от вышэйпомененых родичов моих в Ляховичах в року от нароженя сына божого тисеча пятьсот сорок шостого, месяца февраля сеемого дня в неделю ночи пришлое около полночи. И дано ми име ведлуч свята руского, которое было на он час в понеделок месяца февраля осмого дня..."

На пятым годзе жыцця Фёдар Еўлашоўскі пачаў вывучаць асновы беларускай, польскай і яўрэйскай грамат. Шляхам самаадукацыі набыў глыбокія веды па матэматыцы, справаводству і юрыспрудэнцыі. Адукаваны і кемлівы юнак хутка звярнуў на сябе ўвагу такіх вядомых магнатаў, як Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка, Ян Хадкевіч, Канстанцін Астрожскі і інш. Яны часта звярталіся да яго паслуг – даручалі збор падаткаў, інвентарызацыю маёнткаў, вядзенне важных судовых спраў ва ўсіх інстанцыях, нават сеймавым каралеўскім судзе. Наш зямляк вельмі ганарыўся гэтым, не раз падкрэсліваў, што быў даверанай асобай знатных людзей.

У сярэдзіне 60-х гадоў Ф. Еўлашоўскі стаў прыхільнікам папулярнага ў той час пратэстантызму – пакінуў праваслаўе і перайшоў у кальвінізм. "Але, – як заўважае У. Свяжынскі, – ён быў верацярплівы, іншае веравызнанне не было перашкодай у сяброўстве. Як сведка вострай рэлігійнай барацьбы канца XVI стагоддзя Еўлашоўскі ўспамінаў пра мінулыя "залатыя часы", калі рознасць вер не выклікала варожасці "межи свецкими станы".

У 1577 годзе Фёдар Міхайлавіч атрымаў пасаду пінскага і сервецкага мастаўнічага. У гэтым жа годзе ажаніўся з Ганнай Балатоўнай, якая нарадзіла яму 14 дзяцей – 9 сыноў і 5 дачок. Праваслаўнае веравызнанне жонкі не стала перашкодай для доўгага і шчаслівага сямейнага жыцця.

Двойчы – у 1569 і 1579 гг. – навагрудская шляхта выбірала Ф. Еўлашоўскага сваім павятовым паслом на Гродзенскі і Варшаўскі сеймы. Як дзяржаўнаму чыноўніку яму было даручана прыняць удзел у выпрацоўцы тэксту "Трыбунала Вялікага княства Літоўскага". У 1592 годзе у навагрудскім земскім судзе вызвалілася месца падсудка, і з чатырох прэтэндэнтаў на гэтую пасаду Сігізмунд III Ваза выбраў менавіта Еўлашоўскага.

У гэты перыяд выявіўся яго літаратурны талент. Ва ўспамінах, якія пісаліся ў 1603–1604 гг., аўтар не праявіў асаблівай цікавасці да грамадска-палітычных падзей таго часу – Люблінскай уніі 1569 года, Лівонскай вайне і інш. "Пытанні вялікай палітыкі, – піша А. Коршунаў, – ён адносіў да кампетэнцыі вялікіх паноў, выбраных дзеля гэтага самім богам. Вось чаму, нават закранаючы некаторыя падзеі палітычнага жыцця, сваю абыякавасць да іх ён тлумачыў тым, што не мае намеру паўтараць сказанае іншымі людзьмі, абмяжоўваўся заўвагай: "Опускаю то, яко ведуючы, достаточне то от иншых выписано".

Мемуары Фёдара Еўлашоўскага носяць пераважна аўтабіяграфічны характар. Падзеі пададзены ў строга храналагічнай паслядоўнасці, што дало падставу даследчыкам назваць іх "Дзённікам". Твор фактычна ўяўляе сабою зборнік цікавых, часам даволі разгорнутых бытавых навел, у цэнтры якіх – падзеі з жыцця канкрэтных людзей. Так, Ф. Еўлашоўскі апавядае пра смерць маці і роз-

ныя сямейныя клопаты, якія не дазволілі яму паехаць вучыцца за мяжу – “зведать инше краины далеке, научитьсе ремесел розных”; расказвае пра жонку Ганну, ляхавіцкага старасту Уладзіміра Забалоцкага, успамінае гарадскога пісара Фёдара Зянкевіча, мядзведзіцкага ўрадніка Васіля Рагачоўскага і інш.

На жаль, пісьменнік не пакінуў нам падрабязнага апісання тагачасных Ляхавіч, затое паведаміў пра вялікую паводку 1576 года і прыгоду, што адбылася з млынаром Янушам. Вада магла пашкодзіць новы млын, толькі што пабудаваны ў горадзе, і людзі вырашылі збіваць вакол яго лёд. Януш стаяў на крайняй бэльцы і адбіваў пешняй ледзяную крыгу. За ім, з моста, адбівалі бервяном лёд двое парабкаў. Знянацку яны ўпусцілі бервяно, і яно ўдарыла Януша ў патыліцу. Ад моцнага ўдара той упаў у ваду, але нечакана для прысутных выплыў і застаўся жывым.

Як адзначаюць даследчыкі, успаміны Ф. Еўлашоўскага з’яўляюцца самым раннім помнікам з усіх вядомых твораў мемуарнага жанру ў беларускай літаратуры. А. Коршунаў у артыкуле “Лепшыя здабыткі старажытнай беларускай мемуарыстыкі” так акрэсліў значэнне гэтага твора: “Само сабой зразумела, што ва ўсёй паўнаце паказаць разнастайныя праявы жыцця свайго сацыяльнага асяроддзя аднаму Еўлашоўскаму было не пад сілу... Але аўтар здолеў жыва і маляўніча расказаць аб убачаным, пачутым і перажытым. Якраз у гэтым і заключаецца адна з галоўных вартасцей яго ўспамінаў як помніка гістарычна-мемуарнай літаратуры канца XVI – пачатку XVII ст.”.

У 1604 годзе Фёдар Еўлашоўскі зрабіў апошні запіс у сваіх успамінах, і доўга гэты год лічыўся датай смерці пісьменніка. Дакументы, знойдзеныя ў апошні час, сведчаць, што Еўлашоўскі яшчэ жыў у 1616 годзе і быў крэдыторам Радзівілаў.

Яго ўспаміны ўпершыню былі апублікаваны ў перакладзе на польскую мову ў 1860 годзе. У 1886 і 1896 гг. украінскі гісторык У.Б. Антановіч надрукаваў іх па рукапіснай копіі з арыгінала. Сёння фотакопія рукапісу мемуараў нашага земляка захоўваецца ў Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа ў Мінску.

## НАПАЛЕОН ЧАРНОЦКІ

Беларуска- і польскамоўны публіцыст, перакладчык Напалеон Ежы Якуб Казіміравіч Чарноцкі нарадзіўся 13 ліпеня 1866 года ў маёнтку Нач-Брындзоўская (цяпер вёска Нача Ляхавіцкага раёна) ў шляхецкай сям’і, якая прытрымлівалася дэмакратычных і патрыятычных прынцыпаў выхавання. Невыпадкова ў час вучобы ў Слуцкай гімназіі, затым у Маскоўскім універсітэце Напалеон далучыўся да рэвалюцыйнага студэнцкага руху. У Слуцкай гімназіі ён уваходзіў у самаадукацыйны гурток, у якім пазнаёміўся з рускай рэвалюцыйнай літаратурай і польскім сацыялістычным друкам. Да гэтага часу адносіцца і першая літаратурна-творчая праца Н. Чарноцкага. У 1885 годзе разам з іншымі гуртkoўцамі Слуцкай гімназіі ён пераклаў на беларускую мову папулярную тады сацыялістычную брашуру “Дзядзька Антон”, якая была выдадзена гектаграфічным спосабам спачатку ў Слуцку (выданне да нашага часу не выяўлена), а потым –



у 1892 годзе – у Тыльзіце.

Пасля заканчэння гімназіі (1887 г.) Напалеон Казіміравіч два гады працаваў школьным бібліятэкарам і стварыў аналагічны слуцкаму гурток самаадукацыі. У 1889 годзе ён паступіў на медыцынскі факультэт Маскоўскага універсітэта, стаў членам нелегальных студэнцкіх гурткоў сацыялістычнай накіраванасці, прымаў актыўны ўдзел у рэвалюцыйным студэнцкім руху. За падтрымку студэнцкіх хваляванняў у 1890 годзе яго часова выключылі з універсітэта і саслалі пад нагляд паліцыі на радзіму, на Ляхаўшчыну, у маёнтак бацькі.

Атрымаўшы ў 1895 годзе дыплом урача, Напалеон Чарноцкі працаваў лекарам у Ліпнішках і Міры. Устанавіў і падтрымліваў сувязь з тайнай друкарняй сацыялістаў. У 1907 годзе ў Пецярбурзе выйшла яго брашура "Як будзе з зямлёю?", у якой аўтар палемізаваў з кнігай "Ці будзе для ўсіх зямля?" (выданне "Грамады"). Н. Чарноцкі пагаджаўся з тым, што ўрад не ўсё зрабіў для справядлівага размеркавання зямлі паміж сялянамі. Адначасова ён асуджаў тых, хто падбухторваў людзей да бунту. "Па праўдзе ды справядлівасці, – пісаў Н. - Чарноцкі, – працуючая вясковая бедната павінна падняцца за сваю агульную справу ды адабраць зямлю ад паноў-памешчыкаў, ад духавенства, усю зямлю ўдзельную, казённую дый аддаць яе для карыстання ўсяму працуючаму народу. Усё ж цяперашнія ўладзельцы самі на зямлі не працуюць, значыцца – вон іх". Наш зямляк быў прыхільнікам мірнага вырашэння аграрнага пытання, бо "як мільёны людзей на мільёны будуць далей гукаць "Вон!", то казна і далей будзе іх гадзіць без канца стражнікамі ды войскамі".

У наступным, 1908 годзе, у газеце "Минский курьер" (№ 64) Напалеон Чарноцкі апублікаваў вялікі артыкул "Да пытання пра беларускую народную школу", у якім выступіў у абарону беларускай мовы, абгрунтаваў права нашага народа на развіццё нацыянальнай культуры і школы, выказаў думку, што прыйшла пара заснаваць легальнае "Таварыства сяброў беларускай школы".

У гэтым жа годзе ён эмігрыраваў у Канаду, дзе правёў чатыры гады. Адтуль у маі 1912 года Н. Чарноцкі даслаў ліст у рэдакцыю газеты "Наша ніва". У ім пісаў: "...Коратка мы з Вамі зналіся... Аднак Вас я мог лепш пазнаць па Вашай рабоце. Вы патрапілі на сваю простую дарогу ды ідзіцё тою дарогаю не першы год, хоць і ваша дарога не вельмі гладкая... Едучы сюды, я меўся да Вас пісаць – ды прызнаючы, да гэтай пары не пісаў ні разу. Спачатку меў свайго клопату не мала. Далей не ведаў, чым жыве "Наша Ніва", якая яна... Далей думаў сабе, ды і цяпер думаю: можа Вы ў Вільні тое самае аб Канадзе ведаеце, што я тут блізю таго, што на адном месцы седзячы 4 гады. Ужэ б пэўне напісаў, каб хоць аднаго беларуса спаткаў, але хоць шукаў я іх сют-тут па дарозе ды каля сябе – ні папаў ні на воднага.

Пісаў я да сваіх не раз, каб мне "Нашу Ніву" прыслалі, калі жыва. Ды цяпер не ведаю, хто аба мне спамянуў ды прыслаў Н.Н. і Беларускі каляндар. Вельмі я ўсцешыўся, што жыва і здарова, здаецца моцныя карэньчыкі ў родную зямлю пушчае, дзе-нідзе кветкаю шчырай песні зацвіце, а ўжэ пэўне шчыра стараецца ў кожнай патрэбе даць народу добрую раду. А Вы мяне і пазнаць не маеце з чаго. Можа я не горш за вас зычу беларускаму народу, не аб сабе

адно я думаў едучы сюды. Можа і трапіў на сваю дарогу, дзе не для мяне аднаго месца е, толькі па той дарозе я нікуды яшчэ не дайшоў, ды следу маёй работы пакуль што німа...". Гэты допіс быў надрукаваны ў газеце 21 чэрвеня 1912 года.

Перад Першай сусветнай вайной Напалеон Чарноцкі вярнуўся на радзіму, быў прызваны на вайсковую лекарскую службу. У 1918 годзе пераехаў у Варшаву, працаваў кватэрным інспектарам, уступіў у Польскую сацыялістычную партыю. Потым жыў у Вільні, у Крамянцы на Валыні, а з 1931 года – у Лідзе. У 1936 годзе ён пакінуў лекарскую практыку і пераехаў у вёску Вялікая Лябёдка (цяпер Шчучынскі раён Гродзенскай вобласці), дзе жыў да канца жыцця (памёр у 1937-м) і займаўся вырошчваннем зёлак. Заўважым, што гэтай справай наш зямляк захапіўся яшчэ ў Канадзе.

З публіцыстычнай спадчыны Н. Чарноцкага вядомы карэспандэнцыя "З Слуцкага ўезду" (1907, пад крыпт. Н.Ч., "Наша ніва"), артыкулы "Што значыць пан, што мужык, а што хам" (1918, "Вольная Беларусь"), "Przyczynki do historii PPS' (1923), "Marian Abramowicz: Wspomnienie po?miertne" (1925) і нарыс "Аб адбудове гістарычнай Літвы" (не выяўлены).

Актыўна займаўся Напалеон Казіміравіч перакладчыцкай дзейнасцю. Ім зроблены пераклады на беларускую мову п'ес А. Чэхава "Сватанне" і М. Крапіўніцкага "Пашыліся ў дурні", на польскую мову – апавядання У. Караленкі "У дрэннай кампаніі". Дарэчы, Напалеон Чарноцкі перапісваўся з У. Караленкам – захавалася некалькі яго лістоў да знакамітага рускага пісьменніка.

Н. Чарноцкі быў таксама добрым знаўцам беларускага фальклору, пра што сведчыць апісанне батлеечнага прадстаўлення "Батлейкі з ваколіц Начы", якое ўключана ў кнігу "Народны тэатр" (Мн., 1983).

## ЯНКА СВАЯК
(1881 – 1974)

Прыкметны след у гісторыі беларускага друку пачатку XX стагоддзя пакінуў Янка Сваяк. Пад такім псеўданімам выступаў Марыян (Мар'ян) Фальскі – ураджэнец вёскі Нача Слуцкага павета Мінскай губерні (цяпер Ляхавіцкі раён). Вядома, што вучыўся ён у Варшаве – спачатку ў гімназіі, потым у тэхналагічным інстытуце. Быў актыўным членам нелегальных вучнёўскіх і студэнцкіх гурткоў. У 1903 годзе ўступіў у ППС, пасля 1906 года ўвайшоў у склад ППС-лявіцы – левага крыла ППС. Улетку ён жыў на радзіме, ладзіў і падтрымліваў цесныя сувязі з мясцовымі рэвалюцыйнымі арганізацыямі, у тым ліку Беларускай сацыялістычнай грамадой. Не раз прывозіў у Мінск і Гродна забароненую для распаўсюджвання тут літаратуру – беларускія пракламацыі і свае пераклады твораў польскіх аўтараў.

За рэвалюцыйную дзейнасць Марыян Фальскі быў арыштаваны (1907 г.) і трапіў у Варшаўскую цытадэль. Пасля вызвалення накіраваўся ў Кракаў і паступіў у знакаміты Ягелонскі універсітэт. У гэты час захапіўся педагогікай – падрыхтаваў і выдаў у 1910 годзе польскі лемантар "Nauka czytania I pisania",



якi аб'ядноўваў лепшыя элементы літара-гукавога метаду і метаду навучання слову і вызначаўся передавой методыкай. У далейшым лемантар некалькі разоў дапрацоўваўся аўтарам і на працягу 60 гадоў быў абавязковым падручнікам у польскіх школах.

У 1919-1939 гг. М. Фальскі працаваў у Міністэрстве асветы Польшчы, займаўся навуковымі даследаваннямі ў галіне арганізацыі школьнага навучання і школьнай статыстыкі. Быў экспертам Лігі нацый у Кітаі па пытаннях рэарганізацыі асветы (1931). Пад псеўданімам Praski публікаваў артыкулы, у якіх выступаў супраць фашысцкіх тэндэнцый у галіне асветы.

У пасляваенны час Марыян Фальскі – прафесар гісторыі педагогікі, кіраўнік аддзела арганізацыі асветы Польскай Акадэміі навук. Навуковай дзейнасцю займаўся да канца жыцця – яго пяру належаць шматлікія працы па гісторыі і методыцы навучання і выхавання школьнікаў.

Пісьменнік і літаратуразнавец Сцяпан Александровіч, якому давялося сустракацца і перапісвацца з нашым земляком, са шкадаваннем адзначаў, што "М. Фальскі толькі ў студэнцкія гады заняўся выданнем кнігі на беларускай мове, а пасля ён адышоў ад беларускага нацыянальна-вызваленчага руху і цалкам аддаўся педагагічнай і навуковай працы на карысць польскай культуры".

Перакладчыцкую і выдавецкую дзейнасць Янка Сваяк распачаў ў Варшаве ў пачатку 1903 года. Першым перакладзеным і выдадзеным літаграфічным спосабам лацінкай стала апавяданне М. Жыха (С. Жаромскага) "Да свайго бога". У пачатку наступнага, 1904 года, у кракаўскай друкарні Уладзіслава Тэадарчука ўбачылі свет яшчэ два пераклады Янкі Сваяка – па-беларуску загучала апавяданне Генрыка Сянкевіча "Янка-музыкант" і аповесць невядомага аўтара "Ведзьма". У лісце да С. Александровіча ад 19 лютага 1969 года Марыян Фальскі так растлумачыў, чаму былі перакладзены і выдадзены менавіта гэтыя творы: "Я выбраў "Янку-музыканта" як выяўленне класавай крыўды, "Да свайго бога" як пратэст супраць рэпрэсій за рэлігійныя перакананні, а "Ведзьму" (аўтара не памятаю) як жарт з забабонаў".

Марыян Фальскі не толькі перакладаў мастацкія творы, але пісаў і выдаваў беларускія пракламацыі рэвалюцыйнага зместу. Найбольш вядомымі з іх з'яўляецца "Царская гаспадарка" (у сааўтарстве з Францішкам Завадскім) і "Прызыўныя". У згаданым вышэй лісце да С. Александровіча ёсць цікавыя ўспаміны, звязаныя з выданнем і распаўсюджваннем пракламацый. Так, летам 1906 года М. Фальскі арганізаваў непадалёку ад маёнтка Мазуркі пана Аляксандра Крагельскага, у глухой леснічоўцы ля Шчары падпольную друкарню. У ёй пад выглядам хворых на сухоты пасяліліся студэнты-друкары Камінскі і Каменскі. Яны выдалі некалькі беларускіх і польскіх адозваў, напісаных М. Фальскім. Актыўным іх распаўсюджвальнікам сярод мясцовага насельніцтва быў жыхар вёскі Яўхімавічы Павел Васілеўскі.

Пракламацыі, падрыхтаваныя М. Фальскім і яго сябрамі, "закраналі толькі асобныя і прыватныя моманты нацыянальна-вызваленчага руху на Беларусі і... цікавы сёння як сведчанне культурна-асветніцкай дзейнасці Марыяна Фальскага, які пачынаў як беларускі публіцыст і перакладчык" (С. Александровіч).

СЯРГЕЙ ПЯСЕЦКІ
(1901 – 1964)

Сяргей Пясецкі... Польскі пісьменнік беларускага паходжання, пра якога на радзіме доўгі час мала хто ведаў. Першаадкрывальнікамі таленавітага земляка сталі браты Фелікс і Язэп Янушкевічы. У газеце “Голас Радзімы” яны апублікавалі матэрыял пра асобу пісьменніка і ўрыўкі з уласнага перакладу яго рамана “Каханак Вялікай Мядзведзіцы”. Шмат намаганняў для папулярызацыі творчасці С. Пясецкага ў Беларусі прыклаў даследчык Пятро Рагойша. Вось што ён распавядае пра жыццё пісьменніка: “Нарадзіўся Сяргей Пясецкі 1 красавіка 1901 года ў Ляхавічах як пазашлюбнае дзіця начальніка мясцовай пошты і яго служанкі. Маці сваю ён ніколі не бачыў, бацька асаблівай увагай не песціў. У час Першай сусветнай вайны апынуўся ў бежанстве ажно ва Уладзіміры, потым – у Пакрове. За напад на гімназічнага інспектара трапіў у турму, адкуль уцёк і акунуўся ў вір рэвалюцыйных маскоўскіх падзей. Служыў у Чырвонай Арміі, але, не прыняўшы бальшавіцкага “чырвонага тэрору”, вярнуўся ў 1918 годзе ў Мінск. Пэўны час ваяваў з бальшавікамі ў партызанскіх атрадах “Зялёнага Дуба”, фармаваннях генерала Булак-Балаховіча, легіёнах Пілсудскага. Усюды і ва ўсім расчароўваўся. Пасля таго, як Рыжскі дагавор распалавініў Беларусь, трапіў у 1922 годзе ў памежны Ракаў і пачаў займацца кантрабандай, паралельна выконваючы даручэнні польскай ваеннай разведкі. Але з часам мяжа становіцца непраходнай, кантрабандысцкі промысел заканчваецца, а маладое жаданне рызыкаваць даводзіць да турмы. У 1927 годзе польскі суд за рабаўніцтва асуджае Пясецкага на 15 гадоў. Неверагодна, але якраз турма нарадзіла пісьменніка. У турме па Бібліі і перыёдыцы ён дасканала авалодаў польскай мовай (з якой, па ўласным прызнанні, ён увогуле не быў знаёмы да дваццаці гадоў), а ў 1937 годзе, прачытаўшы ў адной з газет пра літаратурны конкурс, за некалькі месяцаў напісаў раман “Каханак Вялікай Мядзведзіцы” і ...атрымаў першую прэмію! Гэта, урэшце, прадвызначыла ягоны далейшы лёс. Раман, які за два перадваенныя гады быў перакладзены на 11 моваў свету і прынёс пісьменніку-пачаткоўцу сусветную вядомасць, прычыніўся да датэрміновага звальнення Пясецкага з турмы, набыцця прыстойных умоў пісьменніцкай працы. На жаль, другая сусветная вайна неўзабаве перапыніла гэтую працу, і рызыкоўная натура знайшла сваё прымяненне ў шэрагаг віленскіх падпольшчыкаў Арміі Краёвай. У 1946 годзе, не прыняўшы ўлады прасавецкай Польшчы, Пясецкі эмігрыраваў на Захад, жыў спачатку ў Італіі, потым асеў у Лондане. Усюды нястомна пісаў. Яго пяру належаць звыш 10 раманаў і аповесцяў, навелы, кінасцэнарыі. Памёр у 1964 годзе. На яго мармуровай надмагільнай пліце, што на Гангстынскіх могілках, выбіта сузор’е Вялікай Мядзведзіцы...”.

Праз пяць гадоў пасля смерці пісьменніка, у 1969 годзе, крытык Януш Кавалеўскі заўважыў: “Мы не дагледзелі Пясецкага, не дапамаглі выспеліць ягоны талент, падобны да хэмінгуэеўскага, ён мог бы, увабраўшыся ў сілу, прынесці нам да ўсеагульнага нашага гонару нават Нобелеўскую ўзнагароду”. Справа ў тым, што пры жыцці Сяргея Пясецкага яго творы (“Ніхто не дасць



нам вызвалення”, “Яблычка”, “Гляну ў акно” і інш.) не атрымалі належнай ацэнкі ў польскай крытыцы і нават былі забаронены ў краіне амаль 50 гадоў. Вярнуліся яны да чытача ў канцы XX стагоддзя, калі з нагоды 100-гадовага юбілею С. Пясецкага ў Польшчы было арганізавана выданне поўнага збору яго твораў.

## ЯНКА ЧАБОР
## (1911 – 1941?)

У працах У.А.Калесніка, прысвечаных літаратурнаму жыццю ў былой Заходняй Беларусі, не раз згадваецца імя паэта, публіцыста, рэвалюцыянера Янкі Чабора. Скупыя звесткі пра яго, змешчаныя ў біябібліяграфічным слоўніку “Беларускія пісьменнікі”, адсутнасць у гэтым даведніку фотаздымка паэта сведчаць, што вялікай славутасцю ён стаць не паспеў. Невядомы шырокаму колу чытачоўён, аднак, “заслугоўвае таго, каб людзі пра яго ведалі і памяталі” (Я.Міско).

Сапраўднае імя Янкі Чабора – Іван Сцяпанавіч Патаповіч. Нарадзіўся ён 29 чэрвеня (11 ліпеня па новым стылі) 1911 года ў вёсцы Рачканы Слуцкага павета Мінскай губерні (цяпер Ляхавіцкі раён Брэсцкай вобласці) у сялянскай сям’і. Сям’я Патаповічаў была вялікая, дружная, патрыярхальная. У адной хаце жылі дваццаць тры чалавекі: стары Патаповіч з жонкаю і трое іх сыноў з сем’ямі, у тым ліку Сцяпан, у якога акрамя Янкі было яшчэ чацвёра дзяцей – тры сыны і дачка. Мяркуючы па ўспамінах Аляксандры Сцяпанаўны Болтуць, роднай сястры Я.Чабора, жылі не бедна. Мелі ўласную зямлю, мельніцу, конную малацілку, карову, разводзілі пчол. За выкарыстанне мельніцы і малацілкі аднавяскоўцы плацілі хто збожжам, хто грашыма. Тым не менш працаваць даводзілася многа. Дзеці змалку прывучыліся да працы, дапамагалі па гаспадарцы. Бацькі, аднак, падтрымлівалі іх імкненне да вучобы.

Першапачатковую адукацыю Янка Чабор атрымаў у польскай школе ў роднай вёсцы. Потым паступіў у чацвёрты клас Віленскай беларускай гімназіі. Яго сябар па гімназіі Якуб Міско, з якім пазней Янку давялося сядзець поруч на лаве падсудных і дзяліць скупы астрожны хлеб, успамінаў: “Жыў ён, як і многія іншыя вучні з вёскі, у інтэрнаце, які знаходзіўся ў будынку таго ж базыліянскага манастыра, што і гімназія. Добра памятаю гэтага высокага хлопца, хударлявага, з адкрытым тварам, у рагавых акулярах. Ён быў прыветлівы, вучыўся старанна, асабліва любіў літаратуру. Ужо ў пятым класе стаў камсамольцам. Прымаў актыўны ўдзел у выпуску вучнёўскага часопіса “Золак”, дзе друкаваліся яго вершы і артыкулы, якія ён падпісваў псеўданімам Янка Чабор. Разам з іншымі вучнямі-камсамольцамі насіў перадачы-падаянкі палітвязням на “Лукішкі”, раскідваў па горадзе нелегальныя лістоўкі”.

У гімназіі Янка Чабор захапіўся беларускай літаратурай, асабліва любіў вершы Янкі Купалы і Якуба Коласа. Многія з іх ведаў на памяць, часта дэкламаваў. Настрой коласаўскіх радкоў

*Багачы і панства,*

*Нашы дабрадзеі,*
*Мы на суд вас клічам,*
*Каты вы, зладзеі,..* –

быў сугучны юнацкім парыванням Янкі. Не выключана, што менавіта пад уплывам твораў беларускіх паэтаў ён і сам узяўся за пяро. Першыя яго вершы "Васілёк" і "Мы арлы", якія былі змешчаны ў рукапісным часопісе падпольнай камсамольскай ячэйкі Віленскай беларускай гімназіі, датуюцца 1928 годам.

У 1931 годзе пасля заканчэння гімназіі Янка Чабор паступіў у Віленскі універсітэт. У гэтым жа годзе надрукаваў "Адкрыты ліст" з заклікам да заходнебеларускіх пісьменнікаў аб'яднацца ў адну творчую арганізацыю. У час вучобы ва універсітэце Я.Чабор стаў членам КПЗБ, падтрымліваў сувязь з Цэнтрам нацыянальна-вызваленчага руху ўЗаходняй Беларусі, вёўпрапагандысцкую работу сярод студэнтаў-беларусаў, займаўся літаратурнай дзейнасцю. Пры яго непасрэдным удзеле ў канцы 1933 года быў створаны Літаратурны фронт сялянска-рабочых пісьменнікаўЗаходняй Беларусі. На першым іх з'ездзе (Вільня, 10 снежня 1933 года) была зацверджана праграма Літаратурнага фронту, прынята рашэнне аб выданні часопіса "Літаратурная старонка", які павінен быў стаць афіцыйным друкаваным органам новай пісьменніцкай арганізацыі і выходзіць як дадатак да "Беларускай газеты", якую ўзначальваў Валянцін Таўлай. Рэдактарам-выдаўцом "Літаратурнай старонкі" быў абраны Янка Чабор. Першы і адзіны нумар гэтага выдання выйшаў з друку 25 студзеня 1934 года. У ім быў апублікаваны зварот групы паэтаў-рэвалюцыянераў да ўсіх пісьменнікаў Заходняй Беларусі, у якім, у прыватнасці, гаварылася: "Кідаючы гэты адкрыты выклік барацьбы на літаратурна-мастацкім фронце ў нацыянальна-вызваленчым руху, мы кідаем заклік да ўсяго, што ёсць разумнага, свядомага, да працоўных у нашай краіне, да пісьменнікаў, што выйшлі з асяроддзя сярмяжнага люду, да пісьменнікаў ад варштата і плуга зразумець адказнасць сучаснага стану... Мы клічам на творчую працу для народа і разам з ім. Мы разумеем умовы, разумеем, што перад намі цяжкасці і перашкоды, але тым з большым запалам бяромся за працу, за ажыццяўленне даўно наспелай думкі аб стварэнні каля часопіса свае ўласнае сялянска-работніцкай кагорты-арганізацыі...

Мы клічам вас і маем нязломную надзею, што заклік наш будзе вамі сустрэты актыўнымі ўчынкамі, гарачым удзелам у нашым часопісе "Літаратурная старонка". Маем надзею, крочым наперад, пэўныя ў сваёй перамозе!".

Сярод тых, хто падпісаў зварот, быў і Янка Чабор. У часопісе ён змясціў таксама два свае вершы "Заклік" і "Гэй, арліна мая сіла...". Напісаны яны ў духу таго часу, пераважна як заклікі да рэвалюцыйнай барацьбы. Для прыкладу спашлёмся на верш "Гэй, арліна мая сіла...", у якім ёсць наступныя радкі:

*...Заспяваю песню люду,*
*Каб пакінуў ён цярпець.*
*Заклікаці моцна буду,*
*Што даволі ўжо галець.*
*Буду клікаць люд рабочы*
*З хатаў, вёсак, гарадоў,*



*Каб скідалі цемру ночы,*
*Што лягла ў цягу гадоў.*
*Каб жыццё тварылі самі,*
*Каб збіраліся ў паход.*
*– Гэй, я знаю, лопнуць тамы,*
*Зварухнецца наш народ!*
*Пойдзе рэчышчам ён новым*
*Да дабра ўсіх людзей,*
*Створыць розумам здаровым*
*Дабро людскасці ўсей!*

Першы нумар “Літаратурнай старонкі” адразу быў канфіскаваны ўладамі і забаронены разам з “Беларускай газетай”. Рэдактары і найбольш актыўныя супрацоўнікі гэтых выданняў – В.Таўлай, Я.Чабор, П.Пестрак, Я.Міско, А.Рэдзька і інш. – апынуліся ў Лукішскай турме. Маладыя літаратары-палітвязні працягвалі выпускаць нелегальны рукапісны часопіс “Краты”, заснаваны Максімам Танкам. У ім змяшчалі свае вершы, апавяданні, публіцыстычныя артыкулы. На жаль, у архівах не захаваліся нумары гэтага часопіса, таму напісанае Янкам Чаборам у турме застаецца невядомым.

Следства па справе “Беларускай газеты” і “Літаратурнай старонкі” цягнулася 26 месяцаў. Судовы працэс адбыўся толькі ў сакавіку 1936 года і ўвайшоў у гісторыю як працэс “Малой Грамады”. З успамінаў Якуба Міско: “На лаве абвінавачаных сядзела 16 чалавек, сярод іх В.Таўлай, П.Пестрак, Я.Чабор, П.Радзюк, А.Карповіч. Падсудныя ператварылі лаву абвінавачаных віленскага акруговага суда ў лаву абвінавачвання. У сваіх прамовах яны выкрывалі сутнасць пілсудчыны, гаварылі аб жахлівым становішчы працоўнага люду, асабліва на гэтак званых “крэсах усходніх”. Выступаў з прамоваю і Янка Чабор. Ён гаварыў, што вінаватым сябе не прызнае, што вінаватыя тыя, хто прынёс у Заходнюю Беларусь галечу і няволю – польскія паны.

Прыгавор быў жорсткі. В.Таўлай, П.Пестрак і я атрымалі па восем гадоў цяжкага зняволення, П.Радзюк і А.Карповіч – па шэсць, Янка Чабор – пяць. Прысуд мы сустрэлі маўклівай пагардай, таму што ласкі ад паноў не чакалі”.

Сядзець у турме Янку Чабору доўга не прыйшлося. У верасні 1936 года ён выйшаў з турмы па амністыі, аб’яўленай у сувязі са смерцю Пілсудскага. Вярнуўся на радзіму і нейкі час займаўся арганізацыяй кааператываў у вёсках сваёй ваколіцы. Пасля верасня 1939 года прымаў удзел ва ўстанаўленні савецкай улады і ў рабоце першых савецкіх установ у родным раёне. Якую пасаду займаў Янка Чабор – сказаць цяжка, але, па словах яго сястры, “улічваючы той факт, што ездзіў Янка на матацыкле (у той час як начальнік раённай міліцыі на кані), то займаў ён высокую пасаду, хутчэй за ўсё па партыйнай лініі”. А.С.Болтуць згадвае, што “у сям’і яго не адзін раз прасілі не звязвацца з партыяй, бо да дабра гэта не прывядзе. Аднак адзіным адказам Янкі былі словы: “Я хачу дабіцца праўды і роўнасці для ўсіх. Чаму ў нас ёсць з чаго жыць, а ў іншых няма? І не адну бочку мёду (а мёд быў заўсёды дома ў запасе) раздаў ён бяднейшым...”.

Дата, месца і абставіны смерці Янкі Чабора невысветленыя. Сястра помніць, што “за ім прыехалі ўвечары. То быў 1941 год. Сказалі, што тэрмінова трэба ехаць у Баранавічы. Янка хацеў дачакацца раніцы. Не дазволілі. Загадалі, каб ехаў зараз жа. Мне стала страшна. Такога раней ніколі не было. Заныла сэрца, учула штосьці нядобрае. Але ён паехаў. Доўга было чуваць, як шумеў матацыкл...

А ноччу прыйшлі за намі. Завезлі ў Рэйтанава (чыгунка ў в. Русінавічы), пагрузілі ў вагоны...”. Усе родныя Янкі Чабора былі рэпрэсаваны і адпраўлены ў Сібір.

Пасля вайны сям’я была рэабілітавана, атрымала дазвол вярнуцца на радзіму. “Пачынаць даводзілася з нуля, – гаворыць Аляксандра Сцяпанаўна. – Вялікая наша хата была перабудавана пад школу, мельніца і ўся астатняя маёмасць належалі дзяржаве. Жылі вельмі бедна. Пайшлі працаваць у калгас... Што сталася з самім Янкам – сям’я не ведае. Больш мы яго не бачылі і не чулі пра яго. А сэрца іцяпер баліць... “.

АНАТОЛЬ БЯРОЗКА

У “Лістках календара” Максіма Танка ёсць запіс, зроблены 28 мая 1936 года: “У рэдакцыі “Калоссе” Я. Шутовіч паказаў мне некалькі вершаў А. Бярозкі. Мне здаецца, з яго вырас бы цікавы і сур’ёзны паэт, калі б мог вызваліцца з-пад апекі сваіх духоўных айцоў”. Аднак, як слушна заўважае даследчык А. Марціновіч, “зусім не “духоўныя айцы” вінаваты ў тым, што А. Бярозка належным чынам не сцвердзіўся як паэт. Справа ў тых умовах, у якіх пачынаў рунецца ягоны талент, але так і не змог заквітнець дружнай зялянінай на палетку нацыянальнай культуры. Каб упэўніцца ў гэтым, неабходна вярнуцца на дзесяцігоддзі назад, калі Мацвей Рэпкаў-Смаршчок яшчэ не паспеў стаць Анатолем Бярозкам”.

Нарадзіўся ён 19 лютага 1915 года ў вёсцы Вялікае Падлессе Ляхавіцкага раёна ў сялянскай сям’і. Нягледзячы на цяжкасці, бацькі – Васіль і Ганна – зрабілі ўсё, каб сын змог атрымаць прыстойную адукацыю. Спачатку Мацвей вучыўся ў пачатковай школе ў роднай вёсцы, затым – у Ляхавіцкай школе і Баранавіцкай гімназіі. Вучнем упершыню выступіў са сваімі творамі пад уласным прозвішчам у друку. Вершы М. Смаршчка тады былі надрукаваны ў часопісе для дзяцей “Заранка”, які выдавала Зоська Верас. Але не паэзія і літаратура вызначылі яго далейшы лёс. Справай жыцця для Мацвея Васільевіча стала медыцына. Ён паспяхова вучыўся на медыцынскім факультэце Віленскага універсітэта і адначасова працаваў, а затым і застаўся асістэнтам прафесара на кафедры фізіялогіі. Пры гэтым знаходзіў час для творчасці. Антон Шукелойць – сябра Анатоля, які жыў з ім у адным пакоі ў Вільні, – прыгадваў: “У гэтым пакоі Бярозка пасля лекцыяў і працы рэдагаваў часопіс “Шлях моладзі”, бо фактычны рэдактар Язэп Найдзюк выконваў адміністрацыйную работу. Сюдыж прыносіў Бярозка на разгляд і пераапрацоўку матар’ялы з часопіса “Калосьсе”, сябрам рэдкалегіі якога ён быў. Тут ноччу ён пісаў свае вершы. У гэтым



жа паю і выдаваўся і рукапісны, гумарыстычны часопіс "З-за плоту", у выпуску якога прыймалі ўдзел Анатоль Бярозка як рэдактар, Ян Жэдзік, які тэхнічна афармляў часопіс і я".

У 30-я гады вершы А. Бярозкі друкаваліся ў згаданых вышэй віленскіх перыядычных выданнях – "Заранка", "Шлях моладзі", "Калоссе", "З-за плоту". У апошнім з іх, часопісе "З-за плоту", была змешчана сатыра на Сталіна. А. Бярозка, які меў непасрэднае дачыненне да публікацыі, паспяшаўся пакінуць Вільню. Вярнуўся на Берасцейшчыну і некаторы час жыў у Івацэвічах, Іванаве, Пінску. У час Вялікай Айчыннай вайны працаваў лекарам у Баранавічах і ўзначальваў тут медыцынскую школу. Затым пераехаў у Познань, дзе меў блізкіх сваякоў. Адтуль трапіў у фашысцкі канцлагер Нордгаўзен. Пасля вызвалення застаўся ў Германіі (баяўся вярнуцца на радзіму, каб не апынуцца ўжо ў савецкім лагеры), а з першай ваеннай хваляй эміграцыі выехаў у Злучаныя Штаты Амерыкі, у горад Мантысела, штат Мінесота. У ЗША М. Смаршчок праславіўся як выдатны спецыяліст-медык. За сваю адданасць медыцыне – на чужыне ён працаваў лекарам да выхаду на пенсію – і высокі прафесіяналізм наш зямляк атрымаў ступень Заслужанага доктара. Яго імем названы адзін з карпусоў медыцынскага комплекса ў г. Мантысела.

У эміграцыі Мацвей (Мітрафан) Смаршчок цалкам аддаўся лекарскай практыцы і вершаў амаль не пісаў. Толькі ў 1989 годзе ён вярнуўся да свайго даўняга захаплення і вырашыў выдаць кнігу за ўласны кошт. Так з'явіўся яго зборнік "Адзінаццаць вершаў", у якім змешчаны творы як у арыгінале, такі ў аўтарскім перакладзе на англійскую мову. Такое суседства ўспрымалася натуральна, бо аўтар "Адзінаццаці вершаў" – амерыканскі грамадзянін беларускага паходжання. За акіянам, у далечыні ад радзімы, ён не забыў родны кут і матчыну мову, на якой прамаўляў шчырыя словы, напоўненыя любоўю да бацькоўскай зямлі, настальгіяй па ёй і пакорным змірэннем з лёсам... Невыпадкова Янка Запруднік у рэцэнзіі на кнігу падкрэсліў, што "мінорныя, журботныя настроі многіх вершаў Бярозкі сведчаць не пра кволасць душы, а пра ейную чуласць, спагадлівасць да родных хатаў, што "векавою тугою набраклі".

Ёсць у А. Бярозкі і свой рахунак мінулай вайне. У 1943 годзе пры абароне Мурманска загінуў яго адзіны брат. Са спазненнем даведаўшыся пра яго смерць, Анатоль Васільевіч пачаў пісаць верш "Эпіграф". Доўгі час твор заставаўся незакончаным. Да яго аўтар вярнуўся толькі ў 1988 годзе, калі сам перанёс цяжкую аперацыю і апынуўся на мяжы жыцця і смерці. У якасці эпіграфа ўзяў радкі з беларускай народнай песні:

*Бяжы, коню, дарогаю,*
*Бяжы, коню, шырокаю –*
*к майму сялу, к майму двару,*
*к вароцікам цісовенькім.*
*Выйдзе цябе сустракаці*
*сястра мая й старамаці...*
*Не кажы, коню, што ўбіт ляжу.*

Далей па-мастацку ўвасобіў лёс таго, хто знайшоў свой вечны спачын

далёка ад роднай зямлі:

*Я з дарогаў далёкіх а горкіх*
*аніколі к табе не вярнуся,*
*дарагая матуля-зямля,*
*У чужым, няведаным полі*
*мае косці збуцвеюць,*
*Не аплача мяне Яраслаўна*
*ў Падлессі, родным сяле.*

“Эпіграф” не ўвайшоў у зборнік “Адзінаццаць вершаў”, але стаў вядомы дзякуючы А. Беламу, які апублікаваў яго ў штотыднёвіку “Літаратура і мастацтва”.

У 2004 годзе ў выдавецтве “Тэхнапрынт” убачыла свет кніга А. Бярозкі “Выбранае”, у якой сабраны багаты матэрыял, у тым ліку фотадакументальны, пра жыццё і творчасць паэта. У сядзібе Музея выяўленчага мастацтва ў г. Старыя Дарогі (Фонд Анатоля Белага) устаноўлены помнік нашаму земляку (скульптар Ул. Лятун, бронза, 2001 г.).

***Ліст да маці***

*На схіле восені дзён*
*к табе я імкнуся у думах –*
*а думы ня знаюць запыняў.*
*Хочаш – абое ў сутоньні вячэрнім*
*ў вусьмешку твар*
*як у бэзу пукі*
*ахінем...*

*Ты там, у вёсцы маёй убогай*
*дзе восень залоціць кляны*
*а ў раньні туман*
*засьцілае лугі ды папары;*
*ты прадзеш сваё горкае зрэб’е,*
*ўспамінаеш падзеі а дні*
*калі выпіла горычы чару –*
*і мо плачаш. Ня вернецца сын*
*з далёкай дарогі...*

*А я тут, у месьце чужым і далёкім*
*пад хмарным восені небам*
*ў мітусьні парожняга дня*
*ды зьнясільлі дарэмных узьлётаў –*
*адзін, бязмоўна стаю*
*а ўдыхаю павевы зімы*
*і гляджу на лісьцё што пад вокнамі гіне*
*і веру*



*што вусьмешку маю*
*данясуць табе хмары.*

***Эпілёг***

*А ці думы горкія прыйшлі*
*Аб краіне, ворагам забранай?*
*Знаю – сьніцца расьцвітаньне ліп*
*У ружовы летні ранак.*
*(“Узвышша”)*

*Абяздолены мой стромы шлях*
*аніколі не давёў мяне да шчасця –*
*і трывога тоіцца ўгрудзях*
*каб бясследна не прапасці.*

*І кляну я горкі лёс ліхі*
*і напружваю ў зьнямозе сілы...*
*Ці ж вядуць мае самотныя шляхі*
*да забытае, бяскрыжае магілы?*

## УЛАДЗІМІР ДАМАШЭВІЧ
(Нар. у 1928 годзе)

Светлы сум – так двумя словамі можна перадаць тое пачуццё, якое ўзнікае ў мяне, калі я думаю пра свае родныя мясціны, дзе нарадзіўся і рос да дзесяці гадоў – невялікую лясную вёску Вадзеціна за дзесяць кіламетраў ад Ляхавіч – з яе хутарамі, што схаваліся сярод лесу і пазіралі невялікімі вокнамі невялікіх хат на поле – некалі раскарчаваны яшчэ прадзедамі лес, што быў спачатку копанню, а потым стаў звычайным полем.

У нашай сям’і было трое дзяцей, мае сёстры Марыя і Ніна – адна старэйшая за мяне, другая маладзейшая. Яны з малых год памагалі матцы, а я бацьку. Недзе з шасці-сямі год бацька даручаў мне паводзіць каня, баранаваць.

Зусім новае і нечаканае ў жыцці сельскага дзіцяці – гэта школа. З вялікай радасцю і ахвотай я бегаў у суседнюю вёску Гасцілавічы ў пачатковую, па-польску “паўшэхную” школу. Што яна была на польскай мове, адразу не здалося дзіўным, бо тады ўсе беларускія дзеці вучыліся па-польску.

Праўда, школа, у якую я хадзіў, была “тупіковай” – з яе ўжо нікуды вучань не мог пайсці вучыцца далей, бо два гады трэба было адседзець у трэцім класе і тры ў чацвёртым. Першы і другі “рочнік” мелі сваю, розную праграму, для другога і трэцяга даваліся цяжэйшыя задачкі і г.д., але ўсё роўна, скончыўшы чатыры класы, ты ўжо быў пераростак, якога потым нікуды не прымалі вучыцца.

Але новыя павевы часу даходзілі ў самыя глухія куткі нашага краю. Дайшлі

яны і да нашай Вадзеціны, хутчэй, да мяне. З вёскі Якшыцы, адкуль родам была мая маці (суседняя Клецкая гміна), прыехаў мой дзядзька Павел Пальчык, матчын родны брат. Ён прывёз з сабою дагэтуль нябачанае дзіва – радыё... Недзе трохі пазней прывёз мне дзядзька Павел кніжку, якая была для мяне другім букваром, толькі ўжо нашым, беларускім. Называлася яна “Першыя зерняткі”. Дзядзька мне сказаў, каб я навучыўся чытаць па-беларуску, бо па іроніі лёсу мы спачатку павінны вывучаць чужы буквар, а свой – пасля, хоць і маем сваю граматыку.

...Мне здаецца, што “Першыя зерняткі” адкрылі мне вочы на свет, я зразумеў, што ён не такі вузкі, не такі малы, як быў дагэтуль, што і за светам, далёка ад нас, жывуць людзі...

Летам 1938 года мы пераехалі ў Якшыцы на радзіму мае маткі. Мне было роўна дзесяць гадоў.

На сваім матэрыяле з маленства я напісаў усяго некалькі невялікіх апавяданняў (“Першыя зерняткі”, “Сівы конік”, “Абуджэнне”, “Начныя страхі” і інш.). Што яны не сталі шэдэўрамі, вінаваты я сам, а не жыццё, якое я бачыў сваімі дзіцячымі вачыма і якое перажыў. Жыццё ўсё ж багатае, трэба толькі ўмець гэтае багацце перадаць на паперы – у фарбах, вобразах. У гэтым увесь сакрэт літаратурнай і ўсякай іншай творчасці: умець выявіць, умець паказаць – шырока і глыбока.

...У падзейным плане мае другое дзесяцігоддзе жыцця было ўжо трывожным, поўным небяспекі, чакання перамен: вызваленне ў 1939 годзе, хуткая вайна і акупацыя, зноў вызваленне, вучоба ў школе, а пасля ў Мінску...

Аднак цяпер я ўжо не магу ўявіць сабе свайго жыцця без тых дзесяці год, якія я пражыў у лясной глушы на радзіме свайго бацькі, дзеда Тамаша, прадзеда Лявона.

Азірнуўшыся, іншы раз думаю: хто я, рэдактар ці пісьменнік? І прыходжу да вываду, што я больш рэдактар, чым пісьменнік. Рэдактарскай рабоце (У. Дамашэвіч працаваў у Вучэбна-педагагічным выдавецтве БССР (1953–1957), у рэдакцыі мастацкай літаратуры Дзяржаўнага выдавецтва БССР (1957–1965), быў рэдактарам выдавецтваў “Народная асвета” (1965–1967), “Мастацкая літаратура” (1978–1988), літработнікам у часопісе “Полымя” (1967–1972), загадчыкам аддзела прозы часопіса “Маладосць” (1973–1977) – Г.С.) я аддаў больш сілы і працы, увагі і часу. Яна сфармавала мяне і як чалавека, а я ўседлівы, павольны, цяжкі на пад’ём, мяне цяжка сагітаваць куды-небудзь з’ездзіць – нават у цікавае падарожжа. У мяне тады ўзнікае пытанне: а хто за мяне зробіць маю работу? Рэдактарская работа такая, што яе ніхто за цябе не зробіць – яна цябе чакае, як цярплівы сабака гаспадара.

Як пісьменнік я працаваў налётамі, наскокамі, за кошт сваіх выхадных, адпачынкаў... Напісаў я не так і шмат, мог бы напісаць больш, каб... А вось што за гэтым загадкавым “каб”, і сказаць цяжка. Што зроблена, то зроблена – не буду каяцца і наракаць на лёс. У мяне на рахунку каля дзесяці аповесцей (разам з неапублікаванымі), з іх адна вялікая па аб’ёму. Ёсць і раман... Называецца ён “Камень з гары”, а напісаны на матэрыяле з майго жыцця і працы ў



выдавецтве...

(З успамінаў У. Дамашэвіча "Родным мясцінам паклон")

Творчы дэбют Уладзіміра Дамашэвіча адбыўся ў 1958 годзе ў часопісе "Маладосць" апавяданнем "Трэці лішні". Неўзабаве ўбачыў свет і першы зборнік яго апавяданняў "Заклінаю ад кулі" (1960). Затым адна за адной з'явіліся кнігі "Між двух агнёў" (1963), "Абуджэнне" (1968), "Каб радзіла зямля" (1972, нарыс), "Порахам пахла зямля" (1975, аповесць-хроніка), "У лабірынце вуліц" (1979), "Першым заўсёды цяжка" (1986, дакументальная аповесць, сааўт. У. Сазановіч), "Камень з гары" (1990), "Кожны чацвёрты" (1991). У гэтых творах, як справядліва падкрэсліваюць даследчыкі, няма пастаяннай геаграфічнай прымацаванасці да аднаго кутка, да адной тэмы ці праблемы. Між тым Уладзімір Дамашэвіч аддае перавагу апісанню падзей, звязаных з Вялікай Айчыннай вайной. Вышэйшым дасягненнем яго творчасці ў гэтым плане лічыцца аповесць "Кожны чацвёрты", якая раскрывае ўсю складанасць і супярэчлівасць партызанскай вайны ў Беларусі. Сам пісьменнік у адным з інтэрв'ю прызнаўся: "Я ўсё сваё жыццё пратэставаў супраць няпраўды і несправядлівасці, гэтую рысу я перадаваў і героям сваіх апавяданняў і аповесцяў".

## АНАТОЛЬ СТАНКЕВІЧ

Анатоль Станкевіч нарадзіўся 2 сакавіка 1937 года ў вёсцы Жарабковічы ў сялянскай сям'і. Калі хлопчыку споўнілася два гады, памерла маці. Праз тры гады не стала і бацькі. Сірочы лёс і жыццёвыя цяжкасці не зламалі Анатоля. Ён змог закончыць Слонімскае рамеснае вучылішча (1955) і атрымаць прафесію столяра. Затым два гады працаваў у Архангельскай вобласці, а пасля службы ў арміі (1957–1959), вярнуўся на радзіму. З 1959 года стала жыў у Баранавічах і працаваў на станкабудаўнічым заводзе "Атлант".

Доўгі час – з 1972 па 1980 год – Анатоль Станкевіч узначальваў Баранавіцкае раённае літаратурнае аб'яднанне. Сам выступаў у друку як паэт. У 1983 годзе ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" выйшаў калектыўны зборнік "Добрыми глазами", у які была ўключана нізка вершаў А. Станкевіча пад назвай "Билет до станции "Счастье". Другая вялікая падборка яго твораў "Верю в трудное счастье" таксама была апублікавана ў калектыўным зборніку "Годы как реки" (1988). Асобным выданнем вершы нашага земляка выйшлі ў Варшаве. Там у 1996 годзе ўбачыла свет яго паэтычная кніга "На крыльях страдающей совести". Неўзабаве, у 1999 годзе, яе аўтар быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. У гэтым жа годзе Анатоль Станкевіч трагічна загінуў.

***Жаўрукі Багрыма***

*Застаўся адзін толькі верш*
*Аб цяжкай, гаротнай долі.*
*Але і цяпер ён жыве,*
*Як дуб векавечны ў полі...*

*Паданнямі пройдуць вякі,*
*і памяць не згіне ніколі.*
*Праз тысячу год жаўрукі*
*Спяваць будуць на жырандолі...*

ЛЕАНІД ПРАНЧАК

Назва роднай вёскі Леаніда Пранчака сугучна яго прозвішчу – Пранчакі. Менавіта тут 12 лістапада 1958 года ў працавітай сялянскай сям'і Івана Пранчака нарадзіўся будучы паэт і публіцыст. Здольнасці да мастацкай творчасці выявіліся ў хлапчука рана. Яшчэ вучнем Пранчакоўскай сярэдняй школы ён быў селькорам Ляхавіцкай раённай газеты і брэсцкай абласной газеты "Заря". Журналісцкая праца вабіла юнака, і працягваць вучобу ён накіраваўся на факультэт журналістыкі БДУ. Пасля яго заканчэння (1981 г.) Леанід Пранчак працаваў малодшым рэдактарам Магілёўскага абласнога радыё, адначасова вёў на Беларускім тэлебачанні праграму "Вецер вандраванняў".

У 1983 годзе пераехаў у сталіцу, дзе некаторы час працаваў у Рэспубліканскім штабе студэнцкіх атрадаў. Прымаў удзел у будаўніцтве БАМа. Потым паступіў у аспірантуру Інстытута сусветнай літаратуры АН СССР (1988–1991). Навуковыя зацікаўленні Леаніда Іванавіча былі звязаны з даследаваннем беларускай эмігранцкай літаратуры. Ён шмат падарожнічаў па рэспубліках былога СССР і розных краінах. Працуючы вядучым рэдактарам у тэатры-студыі В. -Раінчыка "Верасы" і ў Дзяржаўным канцэртным аркестры Беларусі (1991–1993), ён падрыхтаваў і апублікаваў у "ЛіМе" серыю артыкулаў пра беларускіх пісьменнікаў-эмігрантаў.

Набытыя веды і вопыт вандровак спатрэбіліся, калі ў сярэдзіне 90-х гадоў Леанід Пранчак прадстаўляў інтарэсы газеты "Рэспубліка" у Злучаных Штатах Амерыкі. За акіянам, жывучы ў Нью-Джэрсі, ён сустрэў свайго земляка, ураджэнца Ляхаўшчыны, паэта Мацея Рэпкава-Смаршчка (Анатоля Бярозку), з якім пазней завязалася сяброўская перапіска. У ЗША Л. Пранчак сабраў шмат дакументальных матэрыялаў аб жыцці і лёсе нашых суайчыннікаў за мяжой, на аснове якіх напісаў кнігу "Беларуская Амерыка" (1994). Вярнуўшыся ў 1995 годзе ў Беларусь, заняўся творчай працай. З 1997 года – мастацкі кіраўнік Тэатра-студыі беларускай эстрады.

Літаратурны дэбют Л. Пранчака адбыўся ў 1972 годзе, калі газета "Піянер Беларусі" апублікавала яго верш "Белыя аблокі". У час вучобы ў БДУ Леанід далучыўся да работы літаратурнага аб'яднання "Узлёт", удзельнічаў у падрыхтоўцы студэнцкага калектыўнага зборніка вершаў "Вёсны". З таго часу паэзіяй займаецца сур'ёзна, пра што сведчаць зборнікі "Першапутак" (1988), "Ясаклюбові" (1988), "Вольныптах" (1998), "Біблія для каханай" (1998) і інш. Кнігі "Дзяўчынка Беларуска", "Мама, тата і Агатка", "Цік-так, ходзікі!", "Пра дзядулю, пра бабулю і пра іх унучку Юлю" адрасаваны дзецям.

Для каго б ні пісаў Леанід Пранчак – для маленькага ці дарослага чытача, – яго творы напоўнены шчырым пачуццём любові да роднай зямлі, яе людзей.



Аўтар стварае мастацкі свет хараства і гармоніі, да якіх павінен імкнуцца кожны чалавек. Сімвалічным у гэтым плане бачыцца прыметнік “чысты”, які так часта сустракаецца ў яго творах, – “чыстая вада”, “чыстая сляза”, “чыстая душа” і г.д. За чысціню пачуццяў, учынкаў і дзеянняў выступае Л. Пранчак. Адметнасцю яго стылёвага почырку “з’яўляецца, – як адзначаюць даследчыкі, – уменне выказацца задушэўна-проста, пранікнёна, роздумна і... напеўна – мілагучна, паяднаўшы ў вершаваным радку музыку і пластыку” (А. Андруковіч).

Невыпадкова шмат вершаў нашага земляка (больш за 200!) пакладзены на музыку. Многія песні на яго словы даўно сталі шлягерамі. Дастаткова прыгадаць “Каля Чырвонага касцёла” (муз. Л. Захлеўнага), “Даставай, Язэп, гармонік!” (муз. З. Еўтуховіча), “Паклонніца” (муз. Э. Ханка), “Цёмнавокая пані” (муз. І. Паліводы), “Каханая” (муз. В. Іванова) і інш. У сувязі з гэтым Віктар Гардзей аднойчы заўважыў: “Той, хто хоць раз пабываў у Ляхавіцкім раёне, на радзіме паэта, здзіўляцца не будзе. Вёска Пранчакі і ўся прылеглая мясцовасць спакон веку славяцца багатымі песеннымі традыцыямі, паэтычнымі натурамі, беражлівымі адносінамі людзей да памяці продкаў. Тут дасюль гучаць галасы і падгалоскі народнага хору, створанага калісьці славутым маэстрам Генадзем Цітовічам. Вось адкуль у Леаніда Пранчака выток яго шчырых і пяшчотных, беларускіх па духу і настрою песень, вось адкуль непадробная напеўнасць і меладычнасць яго лірычных вершаў”.

Дадамо, што Леанід Пранчак – аўтар лібрэта рок-опер “Максім” (паводле М. Багдановіча) і “Беларушчына” (паводле Я. Купалы).

Мастацкія і музычныя творы паэта з Ляхаўшчыны вядомы не толькі ў Беларусі. Дыскі з запісамі яго песень і вершы ў перакладзе на рускую і англійскую мовы гучаць у Расіі, Польшчы, Злучаных Штатах Амерыкі і іншых краінах.

***У зацішку алешын***

*Прылячу, нібы з выраю птах.*
*Усміхнуся матулі прыветна.*
*У маленькіх маіх Пранчаках*
*Мне заўсёды самотна і светла.*

*Толькі тут сэрцу хораша так.*
*У зацішку журботных алешын*
*У маленькіх маіх Пранчаках*
*Я прысню свае лепшыя вершы...*

## АЛЕСЬ БАДАК
(Нар. у 1966 годзе)

Туркі, Федзюкі, Ляхавічы, Мінск... Гэтыя мясціны блізкія і дарагія сэрцу Алеся Бадака, бо з імі непарыўна звязаны яго жыццёвы лёс. У невялічкай вёсцы Туркі, што на Ляхаўшчыне, яму было наканавана з’явіцца на свет 28 лютага

1966 года. У суседняй вёсцы Федзюкі вучыўся ў сярэдняй школе. Пасля яе заканчэння (1983) падаўся з роднай Ляхаўшчыны ў Мінск і стаў студэнтам філалагічнага факультэта БДУ. Гады вучобы былі перапынены службай у войску (1984–1986), аднак пасля дэмабілізацыі А. Бадак вярнуўся на гэты ж факультэт і стаў адным з яго выпускнікоў. Пасля заканчэння універсітэта (1990) застаўся ў Мінску, дзе жыве і працуе сёння.

Пачаткам літаратурнай творчасці Алеся Бадака лічыцца 1982 год. Тады ў газеце “Чырвоная змена” з’явілася яго першая публікацыя – верш “Буслы”. З таго часу паэт стаў актыўна друкавацца ў розных перыядычных выданнях, яго творы змяшчаліся ў калектыўных зборніках “Маладыя галасы”, “Вусны”, “Дзень паэзіі”, “Тутэйшыя”, а таксама гучалі ў радыёперадачах “Жывое слова”, “Рамантыкі” і інш.

У 1989 годзе выйшаў першы зборнік паэта “Будзень”. Паступова новыя творы складалі і новыя кнігі – “За ценем самотнага сонца” (1995), “Маленькі чалавек у вялікім свеце” (1995), “Мы купілі кракадзіла” (1995, у сааўтарстве з В. Шніпам), “Верабей з рагаткай” (1999), “Незвычайнае падарожжа ў Краіну ведзьмаў” (2001), “Маланкавы посах” (2004). Іх выхад сведчыў, што ў асобе Алеся Бадака беларуская літаратура набыла таленавітага паэта і дзіцячага пісьменніка. А яшчэ ён – публіцыст, перакладчык, сур’ёзны крытык. У 2007 годзе ў часопісе «Маладосць» апублікаваў выдатную аповесць «Адзінокі васьмікласнік жадае пазнаёміцца».

***Ляхавічы***

*Раённы, ды ўсё-такі – цэнтр.*
*Сінюткае, сціплае неба*
*Нагадвае сёння мне невад*
*Не ў нейкай маленькай рацэ –*
*Жыццёвым*
*Самім*
*Акіяне.*
*Люблю неўсвядомлена мо*
*Я прысмак паветра гаркавы,*
*А мо гэта толькі ўява?*
*І ўсё-ткі – уночы –*
*ён мой.*
*(Няхай сабе хвілю!)*
*Удзень, гараджане, ён ваш.*
*Я ўтлумным райцэнтры часова.*
*І ўвогуле, сам я – вясковы...*
*Ды хораша часам бываць*
*У горадзе сціплым,*
*Калі галасы прыстаюць*
*Смяяцца,*



*маўчаць*
*і пытацца,*
*Машыны ўсе спатыкацца*
*На вуліцах перастаюць.*
*І вечны салдат у граніце,*
*Здаецца, акрыліў свой крок.*
*О думкі, цішэй гаварыце,*
*Вы ж знаеце, спіць гарадок.*
*Не трэба трывожыць...*

# МАЛАРЫЦКІ РАЁН

Маларыцкі раён самы невялікі па памеры і адзін з самых маладых ў Брэсцкай вобласці: утвораны 15 студзеня 1940 года. Раённы цэнтр толькі незадоўга да Вялікай Айчыннай вайны стаў гарадскім пасёлкам, а статус горада ён набыў 23 снежня 1970 года. Сення гэты маляўнічы куток палескай зямлі інтэнсіўна развіваецца матэрыяльна і духоўна. Усё гэта дзякуючы самаму галоўнаму скарбу Маларытчыны – руплівым, нястомным, таленавітым і багатым душою людзям, якія заўсёды былі патрыётамі сваёй маленькай радзімы. Ураджэнцы гэтай зямлі дасягнулі значных поспехаў у літаратуры, мастацтве, спорце, розных галінах навукі.

У Маларыцкім раёне моцныя фальклорныя традыцыі. Іх прапагандуюць фальклорны калектыў “Хацiслаўчаначка” Хацiслаўскага сельскага Дома культуры, створаны ў 1988 годзе, ансабль народнай песні “Чарняначка” Чарнянскага сельскага Дома культуры, створаны ў 1987 годве, і аркестр народных інструментаў Маларыцкага гарадскога Дома культуры, створаны ў 1979 годзе. Усе яны ў розныя часы атрымалі званне народных калектываў.

У Маларыцкім раёне, у вёсцы Макраны нарадзіўся Зянковіч Фелікс Паўлавіч (2.11.1842–25.3.1910) – удзельнік паўстання падкіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага, аўтар мемуараў пра падзеі 1863 года і марскую экспедыцыю паўстанцаў з Англіі ў Літву.

Родам з Велікарыты сусветна вядомы мастак, жывапісец Мікалай Селяшчук(4.08.1947–24.09.1996) – лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1993), дыпламант многіх айчынных і міжнародных выставак. Яго малюнкі ўпрыгожваюць шэраг кніг беларускіх мастакоў слова, у тым ліку “Як агонь, як вада” А. Лойкі (1982), “Пара любові і жалю” Я. Янішчыц (1983), кнігу казак “Бацькаў дар” (1984), “Сымон-музыка” Якуба Коласа (1991) і іншыя. Ён быў адзін з заснавальнікаў грамадскай Беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва (1995). За нястомную працу быў двойчы ўганараваны тытулам “Чалавек года ў мастацтве”. Карціны М. Селяшчука выдатна перадаюць жыццёвую філасофію і духоўную сутнасць сучаснага чалавека: “Наведванне сядзібы Агінскага ў Залессі” (1978), “Хроніка аднаго вечара” (1980), “Канец сезона туманаў” (1985), “Занесеная да яго” (1990), “Развітанне з хутарам” (1990), “Ноч. Аэрапорт Анталья” (1992). Ён быў шчыра заклапочаны гісторыяй і культурай роднага краю. Гэта пацвярджаюць карціны, прысвечаныя славутым сынам Беларусі: “Ценям Касцюшкі”, “Памяці Максіма Багдановіча”, “З душою пра Радзіму. М. Гусоўскі ў Італіі”.

Літаратурная спадчына рэгіёна прадстаўлена ў тым ліку шэрагам імёнаў творцаў, якія не нарадзіліся на Маларыцкай зямлі, але жыццём, прафесійнай дзейнасцю, творчасцю звязаны з ёю.

Канстанцін Іванавіч Зноска (1865–1943) – святар, педагог, літаратар, сваю пастырскую дзейнасць пачынаў у вёсцы Вялікарыта, куды ён быў накіраваны настаяцелем 17 кастрычніка 1901 года. На працягу некалькіх гадоў ён быў настаяцелем мясцовага храма і выкладаў Закон Божы ў народным вучылішчы, быў назіральнікам царкоўна-прыходскіх школ Кобрынскага павета. Яго пяру



належацаць наступныя гісторыка-багаслоўскія і агіяграфічныя працы: "Житие и страдания святого преподобномученика Афанасия, игумена Брестского (1595–1648)" (Варшава, 1931), "Житие преподобного Иова, игумена и чудотворца Почаевского" (1550–1651) (Варшава, 1932), "Житие и страдания святых Виленских мучеников Антония, Иоанна и Евстафия (1347)" (Варшава, 1933), "Исторический очерк церковной унии: её происхождение и характер" (Варшава, 1933; перавыдадена ў Маскве, 1993), "Князь Константин Константинович Острожский и его деятельность в пользу Православия" (Варшава, 1933), "Римская неправда о главе Вселенской Церкви. Разбор католического учения о папском примате в связи с книгой И.А. Забужского "Православие и католичество" (Варшава, 1932). За самаадданую пастарскую дзейнасць Канстанціну Зноска неаднойчы прапаноўвалі прыняць манашаскі пострыг і хіратонію ў епіскапа, але ён заўсёды сціпла адмаўляўся.

Пэўная частка жыцця польскага пісьменніка і мастака, які даследаваў Палессе, Францішка Віславуха (1896–1978) была звязана з Маларыцкай зямлёй. Ён жыў у маёнтку непадалёк ад вёскі Чарняны і бываў у размешчаных побач населенных пунктах Горы, Звозы, Лясавец, Субаты, Шарашэўцы.

Ля вытокаў літаратурнага жыцця раёна стаяў Сцяпан Антонавіч Крываль (1935–1997). У 1960–62 гг. ён працаваў літсупрацоўнікам газеты "Сцяг перамогі". Затым доўгія гады ён жыў і займаўся творчасцю ў г. Маларыта.

Працоўную дзейнасць на Маларытчыне пачынаў літаратуразнавец Барыс Паўлавіч Міцкевіч (20.8.1925–22.7.1983). Пасля вяртання з фронту ў 1945–1947 гг. будучы даследчык замежнай літаратуры і метадыст працаваў у аддзеле кадраў Маларыцкага РК КПБ.

Іван Сцяпанавіч Шпакоўскі (нар. 14.8.1936 г.) – літаратуразнавец і крытык працаваў у г. Маларыта з 1960 па 1964 год. Спачатку была праца літсупрацоўнікам ўраённай газеце "Сцяг перамогі" (1960–1961), затым настаўнікам мясцовай СШ (1961–1962), дырэктарам і настаўнікам Маларыцкай вячэрняй школы (1962–1964). Менавіта на Маларыцкай зямлі з'явілася першая публікацыя вучонага – 29 сакавіка 1961 года ў газеце "Сцяг перамогі" быў надрукаваны артыкул "Кнігу – у масы".

У 1965–1969 гадах у раённай газеце "Сельскае жыццё" працаваў загадчыкам аддзела і намеснікам рэдактара Яраслаў Сільвестравіч Пархута (нар. 8.3.1930–1996). На маларыцкай зямлі вядомы брэсцкі пісьменнік напісаў творы "Цар-дуб", "Сувораўскія студні", "Пажэжынскія ельнікі", якія ўвайшлі ў кнігу падарожжаў "Зямля бацькоў нашых", адзначаную Дзяржаўнай прэміяй Беларусі імя К. Каліноўскага (1992).

Станаўленне творчай індывідуальнасці Міколы Сымонавіча Купрэева (25.5.1937–17.09.2004) адбывалася на маларыцкай зямлі, дзе ён працаваў настаўнікам у вёсцы Радзеж. Мастак нарадзіўся на Гомельшчыне, але лічыў сваёй радзімай менавіта берасцейскае Палессе.

Шасцідзесятыя гады, калі з Маларыччынай была звязана творчасць Я. Пархуты, М. Купрэева, Л. Філатава, С. Крываля, можна назваць залатым часам для літаратуры гэтага рэгіёну.

У пасляваеннны час у Маларыце выдавалася газета “Знамя Победы” на рускай мове, затым яна называлася “Сельскае жыццё”, а з 1991 года яна выходзіць пад назвай “Голас часу”. Менавіта з гэтым перыядычным выданнем у многім звязана літаратурнае жыццё рэгіёна. Дзякуючы А. Філатаву, С. Кавеньку і С. Крывалю ажывілася творчае жыццё на Маларыччыне. Пры раёнцы дзякуючы падтрымцы яе рэдактара Уладзіміра Захарэвіча і адказнага сакратара Паўла Цуніка 3 верасня 1988 года створана літаратурнае аб’яднанне “Над рэчанькай Рытай”, назву якому далі радкі з твора мясцовага паэта і кіраўніка суполкі Сямёна Кавенькі. Спачатку кіраўніком літаб’яднання абралі С. Крываля, аднак яму было больш да спадобы займацца ўласнай творчасцю. Доўгі час кіраваў літаб’яднаннем С. Кавенька, апошнія гады гэтую нялёгкую працу выконвае А. Мажароўская.

У 1984 годзе ў в. Арэхава намаганнямі настаўніка-метадыста рускай мовы і літаратуры М.П. Жыгалавай пры мясцовай школе адкрыты літаратурны музей, прысвечаны жыццю і літаратурнай творчасці Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна. У 12 раздзелах музея налічваецца больш за 600 экспанатаў асноўнага і дапаможнага фондаў, дзе прадстаўлены дакументы, архіўныя матэрыялы, перапіска вучняў з праўнукам паэта С.С. Кліменкам і іншае. Тут жа можна знайсці ўсе творы А.С. Пушкіна. Зараз кіруе музеем Вітаноўская Святлана Васільеўна.

Маларыччыну лічыць сваёй радзімай Аляксей (Леанід Георгіевіч) Філатаў, хоць і нарадзіўся на Віцібшчыне: “...Менавіта ў Ляхаўцах мая першая радзіма. Я яе помню, я яе люблю. Яна мяне сагравае. Яна дае мне сілы нешта пісаць, тварыць”. На сённяшні дзень ён самы вядомы пісьменнік Маларытчыны, у якога ў актыве не адзін зборнік твораў.

Нездарма аўтар “Ляхавецкай торбы” паэтызуе свае родныя Ляхаўцы і падкрэслівае непаўторнасць духоўнага свету сваіх землякоў: гэтая вёска дала Маларытчыне яшчэ аднаго паэта – Мікалая Пацяюка.

Мікалай Іванавіч Пацяюк нарадзіўся 24 снежня 1938 года ў звычайнай сялянскай сям’і. Пасля заканчэння сярэдняй школы вучыўся ў Гродзенскім музычна-педагагічным вучылішчы. Працаваў настаўнікам у Высокаўскай школе-інтэрнаце. Закончыў рускае аддзяленне філалагічнага факультэта Брэсцкага дзяржаўнага педагагічнага інстытута і да пенсіі працаваў настаўнікам рускай мовы і літаратуры ў Ляхавецкай сярэдняй школе. Друкаваўся на старонках раённай газеты “Голас часу”.

Паэт не абыякавы да актуальных праблем грамадства, у прыватнасці, яму балюча бачыць, як у Беларусі з’явілася столькі сірот пры жывых бацьках. Аўтар верша “Роздум пад белымі крыламі” перакананы, што сіроцтва ў мірны час – для грамадства гэта дыягназ бездухоўнасці:

*“Нібы ўчора яшчэ над жытамі плыла*
*Лёгкім ветразем белым хусцінка –*
*Гэта маці пад вечар ішла да сяла*
*Напрасткі палявою сцяжынкай.*
*Я чакаў, калі схіліць яна да каша*



*За вайну пасівеўшыя скроні –*
*І скарынкай бязмежнага шчасця ляжаў*
*“Зайцаў” хлеб на дзіцячай далоні.*
*Час ішоў, пакідалі мы родны парог,*
*І з гарачай малітваю маці*
*Нам у Бога прасіла шчаслівых дарог,*
*У самотнай застаўшыся хаце.*
*Зноў успомніў я матчын тужлівы пагляд,*
*Калі ўбачыў на ўласныя вочы:*
*Аддала маладзіца сваіх птушанят*
*У казённы прытулак сірочы...*

Услаўленне красы і маладосці гучыць у вершы М. Пацяюка “Ах, якая бездань – у Марылі вочы!” Гэта сапраўдны гімн каханню, якое дае жыццё людзям:

*“Ах, якая бездань – у Марылі вочы!*
*Паглядзіш – і сніцца будуць кожнай ноччу.*
*Па прычыне гэткай у госці да Марылі*
*Да вясны штовечар жаніхі хадзілі.*
*А як заквітнеюць вішні ў садочку,*
*Забяруць у Ганны прыгажуню-дочку.*
*Па-над хатай буслы закружылі нізка –*
*Значыць, трэба хутка рыхтаваць калыску...*
*Ах, якая бездань – вочы ў Марылі!*
*Маладому хлопцу шчасце падарылі”.*

З вёскай Ляхаўцы звязаны жыццёвыя дарогі яшчэ аднаго маларыцкага паэта – Генадзя Пятровіча Мішчука, які вучыўся ў мясцовай школе. Нарадзіўся ён 25 студзеня 1970 года ў вёсцы Вотчына Маларыцкага раёна. Пасля атрымання сярэдняй адукацыі ў 1987 годзе праходзіў тэрміновую службу ў Ваенна-Паветраных Сілах. Пасля звальнення ў запас, у маі 1990 года, паступіў на курсы мастакоў-афарміцеляў. Затым працаваў у мясцовым калгасе “Новы шлях”. З 1995 года нясе службу на пажарна-аварыйным пасту в. Макраны. У 2003 годзе атрымаў трэцюю прэмію штогадовага літаратурнага конкурсу, які праводзіць газета “Звязда” і Саюз беларускіх пісьменнікаў.

Яго вершы можна сустрэць на старонках газет “Звязда”, “Савецкая Беларусія”. У творчасці Г. Мішчука моцныя грамадзянска-патрыятычныя матывы (вершы “Радзіма”, “Я жыву ў бацькоўскай хаце” і іншыя). Герой яго вершаў лічыць найбольшым шчасцем жыць на бацькавай зямлі, якая, нягледзячы на многія выпрабаванні, засталася самым прывабным кутком на Зямлі:

*“На скрыжаванні часоў і дарог*
*Край наш радзімы, у свеце адзіны,*
*Гонар і годнасць спрадвеку бярог,*
*Сябра вітаў караваем гасцінна.*

*Зведаў навалы драпежніцкіх зграй,*
*Атамны подых прынёс табе гора,*

*Выстаяў, вынес тугу і адчай,*
*Жытам рунеюць Айчыны прасторы.*

*Потам і кроўю паліта зямля,*
*Здрадзіць табе нас ніхто не прымусіць,*
*Пушчам, азёрам і родным палям –*
*Слава і гонар навек Беларусі!”*

90-я гады XX стагоддзя былі спрыяльнымі для шматлікіх проб на літаратурнай ніве непрафесійных пісьменнікаў. У 1995 годзе Вячаслаў Дамброўскі выдаў зборнік лірыкі “Листья на траве”. Гэты аўтар родам з вёскі Замшаны Маларыцкага раёна. Нарадзіўся Вячаслаў Іванавіч 17 кастрычніка 1957 года ў сям’і служачых. Закончыў факультэт фізічнага выхавання БрДПІ імя А.С. Пушкіна ў 1982 годзе, затым аспірантуру Акадэміі фізічнага выхавання і спорту Рэспублікі Беларусь. Працуе на пасадзе дацэнта кафедры фізічнага культуры БрДУ імя А.С. Пушкіна, кіруе навукова-даследчыцкай лабараторыяй гэтай кафедры. Жыве ў Брэсце.

Лірычны герой вершаў Вячаслава Дамброўскага пакутліва разважае над сэнсам свайго жыцця. Родныя Прырыцкія мясціны даюць духоўныя сілы герою-патрыёту сваёй радзімы:

*«Разложить патроны по карманам,*
*Старое ружьишко за плечо,*
*Раствориться в утреннем тумане –*
*Что для счастья нужно мне ещё?*
*В небе крик услышать журавлиный,*
*Посмотреть, как Рита в даль течёт».*
*«Разложить патроны по карманам...»*

Роздум лірычнага героя – гэта тыповы роздум мужчыны, які перажывае крызіс сярэдняга ўзросту:

*«Это дело простое – жить,*
*Раз в неделю цветы полить,*
*Раз в неделю сходить в кино*
*И подолгу смотреть в окно,*
*Это дело святое – жить,*
*Сыновей, дочерей растить*
*Ненавидеть, любить, страдать,*
*Богу душу свою отдать».*
*«Это дело простое – жить...»*

Значнае месца ў зборніку Вячаслава Дамброўскага займае інтымная лірыка. Найчасцей каханне лірычнага героя з адценнем смутку, які звязаны з неразздзеленым пачуццём або каханнем да замужняй жанчыны:

*«Я жить хочу в том городе, где ты,*
*Не будем мы при встречах целоваться,*
*Не буду я дарить цветы,*



*Я жить хочу в том городе, где ты.*
*Ни в чём не буду я тебе мешать,*
*Других люби, другим детей рожай,*
*Одно прошу, молясь на образа:*
*При встрече посмотри в мои глаза».*
*«Я жить хочу в том городе, где ты...»*

У вёсцы Чарняны Маларыцкага раёна 19 мая 1948 года прыйшоў на свет паэт Уладзімір Данілюк. Пасля заканчэння сярэдняй школы працаваў у родным калгасе трактарыстам, электрыкам, зараз працуе вадзіцелем у пажарнай ахове. Яшчэ ў школе пачаў пісаць вершы. Друкаваўся ў газеце "Піянер Беларусі", часопісе "Вожык", раённай газеце "Голас часу". Піша вершы як на беларускай, так і на рускай мове. Маларыцкая раённая бібліятэка ў 1996 годзе саматужным спосабам выдала яго кнігу паэзіі "Сярод людзей". Гэты зборнік вершаў адкрывае серыю "Маларытчына паэтычная".

У паэтычны зборнік Уладзіміра Данілюка ўвайшлі пейзажныя вершы, творы, прысвечаныя Вялікай Айчыннай вайне, патрыятычная лірыка, а таксама паэтычныя роздумы аб заўтрашнім дні. Неабходна адзначыць наступныя вершы гэтага зборніка: "Сутракай мяне шторанку", "Іванава кветка", "Прамень будучага", "Недасяжнасць", "З надыходам восені", "Заюн прыроды", "Вяртанне", "У блізкім і далёкім", "Рэха", "Гэта хата мая", "Сярод людзей", "Пошук", "Хлебароб". Роднай весцы прысвечаны яго верш "Я не проста іду":

*"Нетаропка па вуліцы крочу.*
*Хаткі ладзяць начны адпачынак.*
*Я іх будучы сон не азмрочу,*
*Не прыбаўлю на сцены маршчынак.*
*Ціха, ціха, нячуйна ступаю,*
*Бо накінуўшы вечар духмяны*
*Я не проста іду, я люляю*
*Маю родную вёску, Чарняны".*

Адносіны да роднага краю і яго краявідаў у паэта на ўзроўні сакральных. Таму ў вершы "У лесе" лес параўноўваецца з храмам божым:

*"У лесе, што ў царкве, усё святое*
*І таямнічае заўжды.*
*Паветра ў лесе не прастое,*
*Ручэй у лесе не прасты.*
*Ніколі лес не зачыняецца,*
*Не патрабуе лес граша.*
*Там цела сілы набіраецца,*
*Там ачышчаецца душа".*

Натуральна, што паэта-грамадзяніна, патрыёта сваёй радзімы клапоціць лёс роднай мовы. У вершы "Наша мова" аўтар услаўляе прыгажосць і мілагучнасць матчынай мовы:

*"Беларуская мова –*
*цудадзейная мова.*

*Што ні сказ – аксаміт,*
*як і гук, як і слова.*
*Бо не з вуснаў сухіх,*
*а з вытокаў гаючых,*
*Прарастала, расла,*
*узнялася над кручамі.*
*Ледзь спазнаў – і не зганьбіш,*
*ужо і не зганіш.*
*Без яе аніяк беларусам*
*не станеш".*

Інтымная лірыка паэта прадстаўлена вершам "Сустрэча". У ім паэтызуецца непаўторнае першае каханне, якое вытрывала выпрабаванне гадамі:

*"Дзеці выраслі ладнымі, сталымі.*
*Снег не той і не так зіхаціць,*
*Ды яна для мяне не растала –*
*У вачах і да гэтуль стаіць".*

У вершы "Вяртанне" гучыць матыў вяртання блуднага сына, які сэрцам і душою прырос да бацькоўскага краю:

*"Даўно я ад бацькоўскага*
*жытла,*
*Ад касавіц і ворыва*
*адбіўся.*
*У рублях шукаў*
*жаданага цяпла,*
*Матаў клубкі шляхоў,*
*ды памыліўся.*
*Спяшаюся назад.*
*Хутчэй, хутчэй!*
*Туды, дзе сарамлівыя бярозы*
*За шэрымі фіранкамі начэй,*
*Прыгнуўшыся, вятрамі чэшуць косы.*
*Туды, дзе пугам спадчыны вякі*
*Сцякаюцца у драўляныя даёнкі,*
*Туды, дзе валашковыя вянкі,*
*Туды, дзе берасцяныя пярсцёнкі".*

Паэт з Чарнян добра ведае кошт хлеба, таму ўслаўленню працы хлебароба прысвечаны шэраг вершаў, у тым ліку і "Хлебароб". Лірычны герой твора атрымлівае задавальненне ад нелёгкай сялянскай працы:

*"Прыпылены, прысолены ад поту,*
*З шурпатымі рукамі, зноў і зноў,*
*Пачэсную закончыўшы работу,*
*Прытомлены вяртаюся дамоў.*
*<...>*
*Таму што ты ад рання і да*



*змяркання*
*Ў турботах за краіну, за народ...*
*Няма на свеце даражэй прызвання,*
*Чым простае прызванне –*
*хлебароб".*

Спрабаваў свае сілы на літаратурнай ніве і Пятро Яўгенавіч Чагайда (нар. 10.07.1943 года ў в. Макраны) – аўтар зборніка "О любви я писать не устану". Першы верш яго быў надрукаваны ў 1962 годзе ў абласной газеце "Заря", потым яго творы неаднаразова змяшчаліся на старонках газет "Чырвоная змена" і "Голас часу"

Горад Маларыта – радзіма Аляксандра Іванавіча Ізбіцкага (нар. 28.08.1952) – аўтара зборніка вершаў "Пером и сердцем". Друкавацца пачаў у 1982 годзе ў кобрынскай газеце "Камуністычная праўда",

Дзякуючы выкладчыцы беларускай мовы і літаратуры Маларыцкага ПТВ–155 Любові Фамінічне Зубоўскай у 90-я гады ў Маларыце наладжваліся літаратурныя вечары, дзе моладзь магла многаму павучыцца ў старэйшага пакалення. Вось як апісвае адну з такіх сустрэч Сяргей Мошчык: "Сярод нас, маладых раённых пачаткоўцаў, быў вядомы ўжо пісьменнік Сцяпан Крываль. Доўга і цікава чытаў ён толькі што надрукаванае ў "Звяздзе" апавяданне, дасланае ім на літаратурны конкурс. Чытаў, як заўсёды, вельмі выразна, з рознымі інтанацыямі ўсіх яго галоўных герояў. То са злосцю, напружваючы твар, і амаль з крыкам, то з лагоднасцю і пяшчотай. У зале больш за гадзіну панавала поўная цішыня".

У Маларыце жывуць бацькі і старэйшы брат Алеся Аляксандравіча Пашкевіча (нар. 11.09.1972 на Случчыне) – паэта, празаіка, старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі аўтара паэтычнага зборніка "Нябесная сірвента", рамана "Пляц волі", кнігі "Зваротныя дарогі. Проза беларускай эміграцыі XX стагоддзя".

У апошняе дзесяцігоддзе на літаратурны Парнас актыўна стала прабівацца моладзь Сяргей Мошчык, Алена Мажароўская, Таццяна Трыханюк, Вячаслаў Варанюк, Кацярына Бягеза, Валянціна Астапук і іншыя.

## МАРЫЯ ЖЫГАЛАВА

Жыгалава Марыя Пятроўна – літаратуразнавец, метадыст, навуковец, Заслужаны настаўнік Беларусі, якога ведаюць не толькі ў Беларусі, але і далёка за яе межамі, нарадзілася ў вёсцы Збураж Маларыцкага раёна ў сялянскай сям'і 10 лютага 1951 года. У адным з інтэрвью яна з удзячнасцю раскрыла ролю сямейнага выхавання ў станаўленні яе як чалавека, як вучонага: "Мая маці была бясконца мудрым і цярплівым чалавекам, і, напэўна, не было такой працы, якую яна не рабіла па-сапраўднаму таленавіта. Менавіта маці навучыла мяне таму, чым павінна валодаць сапраўдная жанчына. Ад бацькі ж я ўзяла бясконцую энергію і жыццярадаснасць, а таксама чыста "мужчынскія таленты". Калі бацька ў свой час першым на ўсю акругу стаў валодаць трактарам, то я атры-

мала пасведчанне вадзіцеля яшчэ ў 1976 годзе. Дзякуючы свайму дзядулю, няўмеючы яшчэ нават чытаць, даведалася, што зямля круглая. Менавіта ад яго пераняла бязмежную цікавасць да пазнання свету. І ў першую чаргу да авалодання ведамі. А пра Плутарха, Арыстоцеля, Сенэку я ўпершыню пачула ад дзядзькі, які цытаваў іх па памяці". Марыя закончыла Збуражскую сярэднюю школу ў 1967 годзе. Пасля вучылася на філалагічным факультэце Брэсцкага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А.С. Пушкіна, які паспяхова закончыла ў 1973 годзе. З 1967 па 1993 год працавала піянерважатай, настаўніцай рускай мовы і літаратуры, намеснікам дырэктара па пазакласнай рабоце ў розных школах Маларыцкага раёна: Вялікарыцкай СШ, Чарнянскай СШ, Збуражскай СШ, Высокаўскай БШ, Арэхаўскай СШ. У гэты час настаўніца пачынае сур'ёзна займацца навукова-даследчай працай, вынікам якой на той перыяд стала адкрыццё 29 студзеня 1984 года ў Арэхаўскай СШ літаратурнага музея прысвечанага А.С. Пушкіну, які ў 1988 годзе атрымаў званне "Выдатны школьны музей".

З 1993 года яна пачынае працаваць у Брэсцкім дзяржаўным педагагічным інстытуце імя А.С. Пушкіна на кафедры літаратуры народаў свету (зараз гэта кафедра тэорыі і гісторыі рускай літаратуры), дзе прайшла шлях ад асістэнта да прафесара. Менавіта тады стаў на поўную моц рэалізоўвацца навуковы патэнцыял гэтага таленавітага вучонага.

У 1995 годзе М.П. Жыгалава  паспяхова абараніла кандыдацкую дысертацыю "Краязнаўства пры вывучэнні славянскіх пісьменнікаў у беларускай школе" у Інстытуце нацыянальных праблем адукацыі Расійскай Федэрацыі (г. - Масква). У 2002 годзе ёй нададзена званне Члена-карэспандэнта Акадэміі педагагічных і сацыяльных навук Расійскай Федэрацыі за плённую навуковую працу і значны ўклад у развіццё методыкі выкладання рускай літаратуры ў Беларусі. У 2005 годзе М.П. Жыгалава абараніла доктарскую дысертацыю "Тыпалогія аналізу твораў рускай літаратуры ў школах РБ (10-11 класы)" у Расійскай Акадэміі Адукацыі (г. Масква).

Асноўнай задачай літаратуразнаўчай і метадычнай дзейнасці М.П. Жыгалавай з'яўляецца клопат аб рэальнай школьнай практыцы, таму сферай яе навуковых інтарэсаў з'яўляецца руская літаратура і яе выкладанне на постсавецкай прасторы, а таксама антычная літаратура і методыка яе выкладання. Вынікам навукова-метадычнай працы гэтага вучонага сталі звыш 100 публікацый, сярод іх вучэбныя дапаможнікі, метадычныя дапаможнікі для настаўнікаў. Найбольш значнымі яе працамі з'яўляюцца "Выкарыстанне матэрыялаў літаратурнага краязнаўства пры вывучэнні славянскіх пісьменнікаў" (Брэст, 1994), "Жанравыя ўрокі  літаратуры ў старэйшых класах" (Брэст, 1995), "Метадалогія пазнання замежнай класікі" (Брэст, 1999), "Вывучэнне сучаснай літаратуры ў старэйшых класах" (Брэст, 1999), "Антычная літаратура ў сярэдняй школе" (Мінск. 2000), "Русская літаратура XX стагоддзя ў старэйшых класах" (Мінск, 2003), "Боскія гукі антычнасці" (Брэст, 2003), "Практыкум па методыцы выкладання рускай літаратуры" (Брэст, 2003).

У адным з лістоў з нагоды юбілею доктар навук Ц. Ліякумовіч, які зараз



жыве ў Чыкага, напісаў радкі, да якіх без роздумаў далучацца ўсе, хто ведае Марыю Пятроўну: “Зайздрошчу тым, хто па-ранейшаму застаецца побач з Вамі: Вы ўмееце ўзняць настрой, валодаеце талентам жыватворнага ўздзеяння на чалавека, запальваючы яго сваім аптымізмам, перадаючы частку сваёй энергіі. На Вас можна спадзявацца, ведаючы, што Вы не падзвядзеце, не сфальшывіце... Няхай трывала стаіць Ваш маларыцкі дом, дзе так цудоўна пахне бэзам, клубнікай і лясною мятаю”.

Жыве таленавіты педагог і вучоны ў г. Маларыта.

## СЯМЕН КАВЕНЬКА

“Прырыцкі край – жыцця выток,
Радзімы любае куток!
Тут акрыяў, у палёт узняўся,
За хлеб і ласку дзякуй шчырае сказаў
І назаўжды застаўся...”
Л. Філатаў “Прырыцкі край – жыцця выток..”

Словы верша Л. Філатава “Прырыцкі край – жыцця выток...” дакладна характарызуюць жыццёвы шлях паэта Кавенькі Сямёна Іванавіча. Нарадзіуся ён 11 ліпеня 1938 года на хутары Малькі Брэсцкага раена ў сялянскай сям’і. Вучыўся ў Тэльмаўскай сярэдняй школе, якую закончыў у 1952 годзе. У школьныя гады захапіўся літаратурай і ў шостым класе напісаў свой першы верш, прысвечаны Зоі Касмадзем’янскай. Пасля заканчэння сямігодкі ў 1952 годзе працягваў вучобу ў Брэсцкім медыцынскім вучылішчы. Са жніўня 1956 года па кастрычнік 1961 года працаваў фельчарам у медыцынскіх установах на Брэстчыне і ў Казахстане, служыу ў радах Савецкай Арміі. З гадамі цікавасць да літаратуры ўзрастала, і ў 1960 годзе ў друку з’явіўся верш “Першы снег”.

Сямён Кавенька ў 1961 годзе перайшоў на касамольскую работу. Працаваў вызваленым сакратаром камітэта камсамола саўгаса “Брэсцкі”, інструктарам камітэта камсамола Брэсцкага калгасна-саўгаснага ўпраулення, вызваленым сакратаром камітэта камсамола Маларыцкага сельскага прафтэхвучылішча. У 1965 годзе быў прызначаны першым сакратаром Маларыцкага РК ЛКСМБ. Выбіраўся кандыдатам у члены ЦК ЛКСМ Беларусі. У снежні 1969 года быў абраны вызваленым сакратаром партарганізацыі калгаса імя Кірава Маларыцкага раёна, а з чэрвеня 1971 года пераведзены на пасаду галоўнага агранома гэтай гаспадаркі.

Пасля заканчэння агранамічнага факультэта Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў 1973 годзе таленавітага арганізатара прызначылі старшынёй калгаса “Шлях да камунізма” Маларыцкага раёна. Затым з 1977 года па 1981 год ён быў інструктарам Маларыцкага РК КПБ, загадчыкам аддзела культуры Маларыцкага райвыканкама. З 1981 года да выхаду на пенсію выкладаў прадметы агранамічнага цыкла, быў майстрам вытворчага навучання Маларыцкага прафесійна-тэхнічнага вучылішча № 155. З 1988 года да нядаўняга часу быў кіраўніком літаратурнага аб’яднання “Над рэчанькай Рытай”, назву якому далі

радкі з яго твора. Яго праца як кіраўніка раённага літаб'яднання найперш накіравана на рост прафесіяналізму маладых аўтараў, выхаванне ў іх патрыятычнай самаадданасці. Яго слова, яго парада спрыялі літаратурнаму росту многіх паэтаў-пачаткюўцаў з Прырыцкага краю.

За шматгадовую, самаадданую працу Сямён Кавенька ўзнагароджаны медалямі "За працоўную адзнаку", "За доблесную працу. У гонар 100-годдзя з дня нараджэння У.І. Леніна", "Ветэран працы", Ганаровай Граматай Вярхоўнага Савета БССР, шматлікімі граматамі і Дыпломамі.

Артыкулы і вершы гэтага аўтара друкаваліся ў газетах "Зара", "Зара над Бугам", "Голас часу". Вершы С. Кавенькі друкаваліся ў зборніку твораў беларускамоўных паэтаў Берасцейшчыны "Дзядзінец". Выбраныя яго творы ўключаны ў зборнік абласнога конкурса-агляда самадзейных паэтаў і кампазітараў Брэсцкай вобласці. Абласным навукова-метадычным цэнтрам управлення адукацыі рыхтуецца да выдання яго грунтоўны вучэбны дапаможнік па "Асновах агранаміі" для ПТВ.

Прызнаннем несумненнага таленту паэта з'яўляецца і той факт, што на вершы С. Кавенькі напісана шэсць цудоўных песень. Музыку да песні "Табе, Маларытчына", прысвечанай зямлі, дзе жыве паэт, напісаў вядомы беларускі кампазітар Л. Захлеўны.

Моцная духоўная сувязь з роднай зямлёю натхніла паэта на стварэнне шэрагу таленавітых глыбока патрыятычных вершаў, у якіх любоў да Радзімы сапраўды шчырая і пераканальная. Напрыклад, у вершы "Слова да Маларытчыны" праз канкрэтныя зрокавыя вобразы выяўляецца высокае паэтычнае хараство Прырыцкага краю:

*"Мне шчасця большага не трэба*
*На ўсё жыццё, на ўсе гады –*
*Мне б толькі бачыць твае неба,*
*Мой край цудоўны, малады.*
*Твае азёры, што ўвабралі*
*І слёз палын, і песень звон,*
*Тваіх аратых, што аралі*
*Тваю зямлю вякоў спакон.*
*Мне б толькі піць з тае крыніцы,*
*Што Рытай славіла цябе,*
*Мне б толькі сэрцам прытуліцца*
*Калі, мо, зойдзецца ? журбе.*
*Не мару я аб іншай долі*
*(З маленства я яе нясу) –*
*Мне б толькі бачыць твае поле,*
*Яго жытнёвую красу".*

Добрае веданне жыцця ў раённай глыбінцы выпрацавалі ў паэта ўменне заўважыць самае істотнае ў людзях. Яго клапоцяць звычайныя бытавыя праявы жыцця, дзе часта не хапае павагі і ўвагі да чалавека, добрых слоў тым, хто заслужыў іх. Так, у вершы "Жанчыне-Маці" гучыць шчырае пачуццё ўдзяч-



насці жанчыне-маці за яе клопат і за працу, за дабрыню і пяшчоту:

*“Жанчыне кланяюся нізка…*
*Дзе словы мне такія ўзяць,*
*Каб аб усім, што ад калыскі*
*Ляжыць на сэрцы, расказаць?*
*Як выказаць падзяку тую,*
*Што заслужыла за свой век*
*Свяшчэннае імя – Матуля,*
*Чый сын на свеце – Чалавек.*

*Усё аб’яднала, усё ўвабрала*
*У сэрца: радасць, боль, тугу,*
*Зямлю цяплом абагравала,*
*Цярпела мукі і кахала,*
*Ляжала ніц і паўставала,*
*Сыноў Айчыне гадавала,*
*А трэба – у рукі зброю брала,*
*І не казала: “Не магу!”*

Рамантычнай узнёсласцю і адначасова сумам ад хуткаплыннасці жыцця прасякнуты верш “Бягуць цягнікі”:

*“Іскрыначкі сонейка ў расінках купаюцца,*
*Над рэчанькай Рытай – задумлівы гай.*
*Бягуць цягнікі – усё кудысьці спяшаюцца,*
*Бягуць цягнікі ў зялёную даль.*
*А мне ўжо сягоння спяшацца няма куды:*
*Стаю ў задуменні – гляжу ім услед…*
*Жытнёвае поле на сонечным захадзе*
*Дзяцінству вітанне далёкае шле”.*

Той жа лірычна-журботны настрой пануе і ў вершы С. Кавенькі “Ляцяць гады”. Усё часцей і часцей ў думках лірычны герой верша вяртаецца ў край дзяцінства, дзе засталося самае дарагое і мілае сэрцу:

*“Ляцяць гады таропкай чарадою –*
*Спяшаюцца, бы ў вырай журавы,*
*А ў сэрцы адклікаюцца тугою*
*Далёкага дзяцінства паплавы.*
*Ляцяць гады… Ужо сівізна крадзецца*
*Па здрадніцку па скронях – неўпрыкмет,*
*А мне ў сэрца ўспомінам б’ецца*
*Далёкага дзяцінства першацвет”.*

Маларыцкая раённая бібліятэка рыхтуе да выдання паэтычны зборнік Сямёна Кавенькі “Над рэчанькай Рытай”.

Алена МАЖАРОЎСКАЯ

Нарадзілася 17 кастрычніка 1983 г. у в. Падлабы Емільчыскага раёна Жытомірскай вобласці на Украіне ў сям'і ваеннага. Бацьку па службе перавялі ў 1996 годзе ў Беларусь, так сям'я Мажароўскіх аказалася ў Маларыце. Яшчэ ў школе Алена пачала пісаць вершы. Прыехаўшы на Берасцейшчыну будучая паэтэса зусім не ведала беларускай мовы, таму першыя літаратурныя пробы былі на рускай мове. Кіраўнік літаратурнага аб'яднання "Над рэчанькай Рытай" Сямён Кавенька заўважыў таленавітую дзяўчыну і ўзяў яе ў маладзёжную групу. Яе першыя вершы друкаваліся ў раённай газеце "Голас часу" ў 2000 годзе. За школьныя гады яна вывучыла беларускую мову так, што ведала яе лепш за карэнных жыхароў Прырыцкага краю. Таму ў 2001 годзе яна становіцца студэнткай Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А.С. Пушкіна. У час вучобы на філалагічны факультэце на аддзяленні "Беларуская мова і літаратура з гісторыяй" Алена пачала пісаць творы на беларускай мове. У 2005 годзе яна атрымала перамогу ў конкурсе "Лепшы малады пісьменнік факультэта". У 2001 і 2002 гадах яе вершы друкаваліся ў калектыўных зборніках "Народзіны дня" і "Ад Буга да Надзвіння" (ЦМТ, Брэст). У 2002 годзе яна стала пераможцам абласнога конкурсу паэзіі "Дэбют" сярод дзяцей і моладзі. Узначальваў журы конкурса Мікола Пракаповіч, які заўважыў бясспрэчны талент юнай паэтэсы. Яго падтрымка і парады спрыялі творчаму станаўленню Алены Мажароўскай. У 2001 годзе старэйшы калега зняў фільм пра паэтэсу з Маларыты "Партрэт на фоне кахання". Знаёмства з берасцейскім пісьменнікам Васілём Аляксеевічам Жуковічам таксама паспрыяла літаратурнаму росту пачынаючай паэтэсы. Менавіта з яго лёгкай рукі ў 2003 годзе верш паэткі "Падзея" быў змешчаны ў зборніку "Анталогія беларускага санета" ("Ураджай", Мінск).

У 2006 годзе – Алена Мажароўская кіраўнік студыі мастацкага слова "Спектр" Маларыцкага раённага агульнаадукацыйнага ліцэя.

У 2007 годзе – настаўніца беларускай мовы і літаратуры, спецыяліст па ідэалагічнай працы Лукаўскай СШ Маларыцкага раёна Брэсцкай вобласці.

Сёння таленавтая паэтэса жыве і працуе ў Маларыце. Яна з'яўляецца і кіраўніком літаратурнага аб'яднання "Над рэчанькай Рытай".

Ужо ў першых вершах Алены Мажароўскай заўважаецца не па гадах сталы погляд на жыццё. У вершы "Бараўляны" адлюстравана адна з самых балючых праблем грамадства, якое пакутуе ад наступстваў радыяцыйнай забруджанасці Беларусі:

*"Ад жалю сэрца перакуліцца,*
*Калі даверліва й нясмела*
*Хлапчук да доктаркі прытуліцца,*
*Нібы яе халацік, белы.*
*А рукі – кволыя галіначкі!*
*А вочы – як з царкоўных фрэсак!*
*Не вартая й адной слязіначкі*
*Пыхлівасць нашага прагрэсу,*



*Калі з хваробаю знясілена*
*Змагаецца хлапчынка – сонейка*
*З вачамі, як азёры, сінімі,*
*З цікаўным, як дзяцінства, позіркам".*

Цэнтральнай у творчасці маларыцкай паэтэсы з'яўляецца інтымная лірыка. Лірычная гераіня яе вершаў шчырая і адкрытая, нярэдка ёй уласцівы спавядальныя інтанацыі, як у вершы "Успамін":

*"Такой шчаслівай не была ніколі!*
*Ніколі больш не пахла так трава!*
*Ніколі ўжо цяпер у чыстым полі*
*Маіх вачэй табе не чараваць.*

*Сама перад сабой прызнацца мушу –*
*Я тую памяць страціць не магу.*
*Мне тая поўня свеціць проста ў душу*
*Скрозь смутак, скрозь адчай і скрозь тугу".*

## АЛЯКСЕЙ ФІЛАТАЎ

Нарадзіўся Аляксей (Леаднід) Георгіевіч Філатаў 13 мая 1939 года ў вёсцы Бабінічы Віцебскага раёна. Сям'я Філатавых прыехала на Брэстчыну пасля вераснёўскіх падзей 1939 года. Маці будучага пісьменніка, Фядора Восіпаўна, пасля заканчэння Віцебскага педагагічнага інстытута працавала ў Брэсцкім педвучылішчы. Бацька яго, Георгій Фёдаравіч, атрымліваў вышэйшую адукацыю ў Маскве, адкуль і трапіў на фронт. Лёня з сям'ёю жылі ў Маларыце, у цёткі Марыі Восіпаўны, якая працавала завучам Маларыцкай СШ № 1. У першы ж дзень вайны будучы пісьменнік асірацеў: маці загінала ад першага нямецкага снарада, які разарваўся ў Маларыце. Маленькі Леанід паранены ў галаву, пакалечаныя дзеці, бабуля з выбітымі аскалкамі вачыма трапілі ў мясцовы шпіталь, які ў хуткім часе захапілі немцы. "Трымаліся толькі тым, чаго не шкадавалі нам шчырыя маларыцкія людзі, кладучы яйкі, бутэльку малака, бохан хлеба, кусок сала мне ў рукі", – з удзячнасцю ўсапінаў пісьменнік дабрыню і спагадлівасць маларытчан у аўтабіяграфіі "Зуб мудрасці". Усынавіў хлопца Аляксей Нічыпаравіч Афанасьеў – дырэктар Ляхавецкай школы. Многае прыйшлося перажыць хлопцу ў дзяцінстве, у тым ліку фашысцкі канцлагер (матэрыяльная кампенсацыя за знаходжанне ў канцлагеры дапамагла выдаць у 2000 годзе кнігу "Адарваць ад сэрца").

Найлепшыя чалавечыя якасці ў Леаніда Філатава былі выхаваны ў сям'і, якую ён заўсёды ўспамінае з пяшчотай: "У верасні года Перамогі пайшоў шасцігадовым у школу за прыёмным бацькам – настаўнікам Аляксеем Нічыпаравічам Афанасьевым, каторага і па сей дзень добрым словам успамінае ўсё наша вялікае лясное сяло Ляхаўцы. Калі адплыло ў Прырыцкім краі галоднае, ды ўсё ж залатое дзяцінства, пайшла цяжкая жыццёвая проза. Не стала бацькі

– разумнага, найвышэйшай культуры чалавека, памерла маці, Ларыса Мяфодзіеўна – бясконцай дабрыні жанчына, што аддала ўсе свае сілы, каб вывесці мяне ў людзі”.

ЛеанідГеоргіевіч пасля школы закончыў Брэсцкі чыгуначны тэхнікум. Вучыўся завочна на філагічным факультэце Брэсцкага педагагічнага інстытута, які закончыў у 1971 годзе. У інстытуце завязалася шчырае сяброўства з Уладзімірам Калеснікам і Аляксеем Майсечыкам, першы з якіх стаў літаратурным настаўнікам, а другі – сябрам. Працаваў пісьменнік майстрам у дарожным будаўніцтве, галоўным інжынерам на чыгунцы, журналістам і настаўнікам – гэта дало багаты жыццёвы вопыт і матэрыял для многіх твораў. У цыкле “З пуцейскага юначага” Л. Філатаў выявіў рамантычнае светаадчуванне маладога працаўніка-пуцейца, які захапляецца жыццём і шчаслівы ад усведамлення неабходнасці яго працы: “Рэйкі і шпалы, колькі вас,

*Цяжкіх, гарачых,*
*Пакінула след на нашых руках?*
*І людзі нам шчыра ўдзячны*
*За нашу работу:*
*Збудавалі мы працы гмах.*
*Праз нівы, лясы і горы*
*Праз рэкі да мораў*
*І вецер шалёны*
*Сталёвы праклалі мы шлях.*
*Машыніст, паціхіньку “трогай”:*
*“зялёны”*
*Гарыць на “галоўных пуцях”.*

У творы “Творчага палёту!” пісьменнік з гумарам апісаў, як яго жыццё закінула з Маларыцкай раёнкі на працу ў газету “Зара над Бугам”: “Трапіў я ў брэсцкую “раёнку”, як мы тады называлі, “маленькую Зару”, калі яна была 14-гадовым падлеткам, а я быў роўна ў два разы старэйшы за яе. Па папярэдняй дамоленасці пераходзіў у Брэсцкі раён з пасады загадчыка аддзела Маларыцкага “сельскага жыцця”, як планавалася на пасаду інструктара райкама партыі. Ды здейснілася выснова слыннага палескага гумарыста, журналіста і пісьменніка Сцяпана Крываля: “Туды, хлопцы, бяруць чалавека толькі тады, калі ён больш ні на што не здатны”.

З цеплынёй і ўдзячнасцю маларыцкі мастак слова ўспамінае літаратурныя “чацвяргі” – пасяджэнні літаратурнага аб’яднання ў Брэсце, дзе вучыліся адзін у аднаго М. Засім, У. Калеснік, М. Рудкоўскі (напісаў паэму “Успамін пра “Літаратурны чацвер”), М. Купрэеў, В. Жуковіч, І. Мельнічук і іншыя: “Гэта быў пачатак пачатку. Нам было хараша разам. Маладыя паважалі старэйшых, іхні ратны подзвіг, глядзелі на іх ва ўсе вочы, слухалі ва ўсе вушы. А было чаго паслухаць, на каго паглядзець. Што ні чалавек, то асоба, у кожнага так шмат перажытага і адчутага ў перапоўненай душы, што маўчаць ён ужо не можа”.

Мастак даўно жыве ў пасёлку Мухавец Брэсцкага раёна, дзе працаваў настаўнікам да выхаду на пенсію, але душа яго належыць Прырыцкаму краю.



Аўтабіяграфічны верш “Іскрыстыя жарынкі” Леаніда Філатава выяўляе духоўную сувязь з Маларыцкай зямлёй чалавека, які абавязаны маленькай радзіме і жыццём, і выхаваннем, і станаўленнем таленту творцы:

*“Нарадзіўся я на Дзвіне,*
*Ды не бачыў яе.*
*Ты прабач мне, Дзвіна,*
*Не мая ў тым віна.*
*Мне ніколі ў жыцці не забыці*
*Каламутнай вадзіцы ў Рыце.*
*Як жаўрук у блакіце*
*Заспяваў для мяне*
*У палескай маёй старане.*
*Яе гонкія сосны*
*Ды бабуліны кросны,*
*Ды юнацкія вёсны,*
*І той шлях, шлях вузенькі і*
*стромкі,*
*Што павёў мяне з роднай старонкі.*
*І той дзень, дзень празрысты і звонкі,*
*Калі зноў я убачыў бусла.*
*Невядомая сіла якога несла*
*Да старога на бабулінай клуні гнязда”.*

Пра родныя Ляхаўцы пісьменнік гаворыць, што “гэта была не проста вёска, а нейкі цуд. Нешта першароднае і непаўторнае. ... Мае ўрочышчы, брады, сажалкі... Каб вы ведалі, якое мне гэта дарагое. Без перабольшвання, калі я еду з Мухаўца і пад’язджаю да Маларыты, здаецца пахне нечым родным. Словам гэтага нельга перадаць”. Менавіта таму галоўным аб’ектам творчасці пісьменніка сталі родныя мясціны і землякі-маларытчане. Уся біяграфія мастака змешчана на старонках яго кніг.

Першыя творы гэтага мастака слова былі надрукаваны на старонках маларыцкай раённай газеты “Сельскае жыццё” ў 1958 годзе – апавяданне “Зышліся” і апрацаваныя народныя легенды “Рыта” і “Лукава”.

Кніга “Ляхавецкая торба” (1992) зрабіла ляхаўчан падобнымі да сусветна вядомых габроўцаў. Пісьменнік апісвае сваіх землякоў як людзей з дасціпным гумарам, што жывуць па прыказцы “Няхай лепш чэрава лопне, чым дабро прападзе”. Яны вясёлыя, непасрэдныя, таму маюць незвычайную прыцягальнасць. У сваіх творах, блізкіх да анекдотаў, пісьменнік натуральна выкарыстоўвае жывую гутарковую мову.

Кніга аповесцяў “Дарога” (1997) – удзячнае слова сапраўдным настаўнікам, якія сустракаліся пісьменніку на жыццёвым шляху, ім прысвечана гэта кніга. Зборнік складаецца з трох аповесцяў, адна з якіх і дала назву кнізе. Творы аб’яднаны адной сюжэтнай лініяй і складанымі лёсамі герояў, якія прайшлі праз вайну і сталінскія рэпрэсіі. Яго творы кранаюць жыццёвай праўдай і невыдуманым драматызмам, як напрыклад аповесць “Канёздрыкі”, у якой расказваецца

пра трагедыю селяніна, прымусова загнанага ў калгас. Леаніда Філатава цікавяць героі найперш духоўна багатыя з адкрытым сэрцам.

Зборнік “Адарваць ад сэрца” (2000) справядліва ўганараваны прэміяй “Берасцейская зорка – 2000”. Ён прасякнуты шчымлівымі ўспамінамі пра маці, якой пісьменнік абавязаны многім, таму эпіграфам да аднаіменнай аповесці ўзяты радкі з твора М. Купрэева “Ты не кліч мяне, мама, не кліч. Я знаю, што была ты і была вайна...” У пралогу “Азірніся, сынок” найбольш ярка выяўляецца ўдзячнасць сына за бясконцую дабрыню і пяшчоту маці: “З той першай пасляваеннай, мірнай дарогі, што не забудзецца да скону, кожнае падарожжа хвалюе. Не надта любіла сядзець  на месцы мама. Ды выбрацца ёй у шлях заўсёды была вялікая турбота: доўга пакавалася, ладкавала гасцінцы, лічыла пералічвала рублі і капейкі, пасля змяркання бегала па вёсцы, шукала да першых  пеўняў вазніцу”.

Кніга “Жывая зямля” (2001) складаецца з лірычных мініяцюр “Сляза на рамонку”, “Ода скарынцы” і вясёлых апавяданняў з жыцця землякоў – “Ляхавецкая торба”, якая становіцца ўсё большай і большай. Надзвычайная назіральнасць за жыццём і людзьмі характарызуе і апавяданні гэтага зборніка. Сам аўтар так вызначыў змест кнігі: “Гэта праўда, паўсядзённая і настолькі сёння горкая, каб лягчэй ад яе станавілася дыхаць пасля выклятай паўвекавой, каторай я равеснік, бессаромна-салодкай маны”.

Зборнік “Страла жыцця” (2007) адзначаны літаратурна-мядовай прэміяй “Паўпуду мёду”, якая ўручаецца па ініцыятыве ўпраўлення культуры Брэсцкага аблвыканкама і пчаляром паэтам Міколам Папекам. Кніга складаецца з мініяцюр, апавяданняў, гумарэсак (“У “ляхавецкую торбу”), аповесці “Ад напасці-бяды”, і ў раздзеле “Іскрыстыя жарынкі” змешчаны вершы. Асаблівую цікавасць выклікае раздзел “Не забуду вас, хлопцы”, у якім шмат аповедаў пра сяброў-пісьменнікаў, многія з якіх ўжо пайшлі з жыцця, таму ў іх пераважае лірычна-тужлівы настрой.

Дакументальнасць у мастацкай прозе Л. Філатава – станоўчая характарыстыка яго творчай манеры. Таму героі яго твораў жывыя, непрыдуманыя людзі, падгледжаныя і ўзятыя з жыцця, якія жывуць і працуюць побач з намі. Напрыклад, Капшук з “Ляхавецкай торбы” мае рэальнага прататыпа, і гэта робіць яго яшчэ больш блізкім і цікавым чытачу. Адпаведна і мова такіх герояў: беларуская мова спалучаецца з палескімі гаворкамі, дзе можна сустрэць рускія, украінскія і польскія словы.

Бачачы, што адбываецца з роднай мовай у краіне, аўтар “Ляхавецай торбы” выказвае шчырую заклапочанасць яе далейшым лёсам: “Кожны жыве на зямлі ў трох вымярэннях: учора, сёння, заўтра. Знявеч хоць адно звяно ў гэтым ланцугу – усё, бяда, катастрофа. А мы знявечылі мову, памяць нашу, звычаі спрадвечныя, і няма нам даравання”. Праз усе зборнікі твораў Л. Філатава лейтматывам праходзіць заклапочанасць лёсам роднай мовы, напрыклад, апавяданне “Што Богам дадзена”, у якім ярка выяўляецца грамадзянская пазіцыя аўтара. Прыкладам мовы сваіх герояў пісьменнік вучыць чытача любіць беларускую мову. Таму нельга не пагадзіцца з М. Сянкевічам, які заклікае настаўнікаў выкарыстоўваць у сваё практыцы творы аўтара зборніка “Страла жыцця”:



“Адкладзіце на час у бок акадэмічныя (яны вам ужо надакучылі) зборнікі дыктовак і папрасіце вучняў запісаць некалькі сказаў з “Вяртання”, паназірайце разам з імі за вобразаўтваральнай функцыяй дзеясловаў і прыметнікаў...”

Асаблівасці творчай манеры Л. Філатава дакладна вызначыў Уладзімір Калеснік у водгуку на яго кнігу: “Талент Лявона (Аляксея) Філатава эксцэнтрычны, і гэта надае пэўную дзіўнасць яго апавядальнай манеры: эпічны распавед перамяжоўваецца з лірычнымі ўсплёскамі і адступленнямі, эмацыянальная напружанасць канфліктуе з фатаграфічнымі апісаннямі матэрыяльных прадметаў, акія абкружаюць чалавека, але і характарызуюць яго. Вострае бачанне знешняга выгляду дзеючых асоб і паводзін у матэрыяльна-побытавай прасторы становіцца антыномай глыбокаму пранікненню ў духоўны свет і псіхіку людзей. Усё гэта аддаляе яго манеру ад стандартнай эпікі: стрыманай, роўнай, паслядоўнай, лагічнай і звязнай у сюжэтавядзенні”.

Неабыякавы пісьменнік і да праблем дзяцей, аб чым гаворыць апавяданне “Чый бэз?”, якое дало назву калектыўнаму зборніку твораў для дзяцей, выдадзеным у 1993 годзе.

Сёння пісьменнік жыве ў пасёлку Мухавец Брэсцкага раёна.

# ПРУЖАНСКІ РАЁН

Пружанскі край, як і ўся Берасцейшчына, надзвычай багаты на таленавітых майстроў слова. На гэтай незвычайна маляўнічай зямлі на працягу шэрагу стагоддзяў нараджаліся самародкі, якія потым зрабілі значны ўнёсак не толькі ў беларускае мастацтва слова і айчынную культуру, але іх творчасць стала часткай сусветнай культурнай скарбніцы. Іх таленавітыя мастацкія, навуковыя і навукова-папулярныя творы абагацілі не толькі літаратуру, але і гісторыю, філасофію, тэалогію, музыку і іншыя віды мастацтва. Незвычайная прыгажосць гэтага куточка Палесся натуральна абуджала жаданне займацца творчасцю і тых, хто нарадзіўся тут, і тых хто па волі лёсу апынуўся на гэтай зямлі. Напрыклад, сусветнавядомы рускі мастак Іван Іванавіч Шышкін па рэкамендацыі імператара Аляксандра III спецыяльна прыязджаў у Белавежскую пушчу, якая займае сорак працэнтаў тэрыторыі раёна, маляваць яе цудоўныя пейзажы.

Зямля, дзе бярэ пачатак палеская рэчка Мухавец, з’яўляецца радзімай славутых сыноў Беларусі С. Старавольскага, братоў Крашэўскіх, С. Ягадынскага, Л. Зянковіча, А. Дуніна-Гаркавіча, Р. Шырмы, М. Забэйды-Суміцкага, К. Львовай, В. Сёмухі, М. Засіма, М. Гаравой, А. Альшэўскага, В. Рэчыца, Н. Радзивончык. На гэтай спрадвеку гасціннай зямлі жылі і жывуць такія творцы, для якіх Пружаншчына стала другой радзімай: М. Федароўскі, Ф. Карпінскі, М. Купрэеў, М. Антаноўскі, М. Папека, У. Чэрник.

Радавыя карані гісторыка Польшчы, Беларусі, Украіны, славіста і літаратара Платона Мікалаевіча Жуковіча таксама знаходзяцца на гэтай зямлі. Ён нарадзіўся 8 кастрычніка 1857 года ў Пружанах у сям’і святара. Пасля заканчэння Пецярбургскай духоўнай акадэміі ў 1881 годзе выкладаў у Полацкім, а затым Віленскім духоўным вучылішчы. З 1891 года з’яўляўся выкладчыкам Пецярбургскай духоўнай акадэміі. У 1914 годзе ён стаў прафесарам, а ў 1918 годзе – членам-карэспандэнтам Расійскай АН. У творчую спадчыну Платона Жуковіча ўваходзяць кнігі “Кардинал Гозий и польская церковь его времени” (1882), “Об основании и устройстве главной духовной семинарии при Виленском университете (1802-1832)” (1887), “О русском землевладении в Северо-Западном крае со времени присоединения его к России” (1895) і іншыя. Памёр гісторык і літаратар 12 снежня 1919 года ў Петраградзе.

На працягу стагоддзяў Пружаншчына не была ізалявана ад культурнага жыцця Беларусі: тут цікавіліся літаратурай і беражліва захоўвалі каштоўныя мастацкія і навуковыя творы. Так, у Ружанах у знакамітым палацавым комплексе да 1786 года захоўвалася бібліятэка Льва Сапегі, у якой знаходзіліся рэдкія і унікальныя кнігі, у тым ліку “Хроніка Скандэнберга” (1657) у перакладзе А. Волана і Ц. Базыліка. У вёсцы Магілёўцы ў бібліятэцы Аляксандра Быхаўца пэўны час знаходзіўся адзін з найбольш поўных агульнадзяржаўных летапісных зводаў “Хроніка Быхаўца”. Яна была перададзена гісторыку Тэадору Нарбуту ў 1834 годзе і захоўвалася Шаўрах Лідскага павета, дзе яна і была згублена. Як вядома, гэтую гістарычную крыніцу выкарыстоўвалі пры напісанні сваіх твораў Адам Міцкевіч, Уладзімір Караткевіч і іншыя.



У Прачысценскай царкве мястэчка Шарашова (зараз гарадскі пасёлак) на прастоле доўгі час знаходзіўся беларускі рукапісны помнік XVI стагоддзя – Шарашоўскае Евангелле, якое аздоблена чатырма мініяцюрамі з выявамі евангелістаў і пяццю застаўкамі, малюнкамі на палях. Сёння яно захоўваецца ў Дзяржаўным мастацкім музеі РБ.

Пісьменнік і гісторык Сымон Старавольскі нарадзіўся на Пружаншчыне ў вёсцы Стараволя ў 1588 годзе. У юныя гады меў блізкія стасункі з маладымі князямі Астрожскімі, Сапегамі, Патоцкімі, Канецпольскімі. Ён атрымаў па тым часе бліскучую адукацыю: вучыўся ў Галандыі ў Лёвенскім універсітэце, у Польшчы – у Кракаўскім універсітэце і ў цыстэрцыянскім кляштары ў Вонхацку. Нездарма ў 1620–1921 гадах ён быў сакратаром і гістарыёграфам вялікага гетмана ВкЛ Я.К. Хадкевіча (у 1622 годзенапісаў “Прамову на смерць Яна Караля Хадкевіча”). У 1639 годзе наш славуты зямляк атрымаў духоўны сан.

Творчая спадчына Сымона Старавольскага складаецца з кніг на польскай і лацінскай мовах па тэалогіі, гісторыі, музыцы і палітыцы. Гісторыі роднага краю і яе вайсковай славе: барацьбе з крыжакамі і Аршанскай бітве 1514 года прысвечана кніга “Пра дзеянні Жыгімонта I” (1616). Кніга “Гістарычная страва, або Трактат пра сапраўдны і карысны спосаб чытання гісторыі” (1620) з’яўляецца дапаможнікам для студэнтаў па метадалогіі гісторыі.

Найбольш значнай працай Сымона Старавольскага з’яўляецца кніга “Сотня польскіх пісьменнікаў” (1625), у якой давалася інфармацыя пра біяграфіі і працы гісторыкаў, філосафаў, тэолагаў і іншых выдатных людзей. У другім выданні кнігі, якая з’явілася ў 1627 годзе, было змешчана 232 біяграфіі. Працягам гэтай працы з’явіліся кнігі “Пра знакамітых сармацкіх прамоўцаў” (1628) і “Сармацкія ваяры” (1631). У гэтых кнігах можна знайсці інфармацыю пра вялікага князя Вітаўта, Хадкевічаў, К. Астрожскага і іншых тагачасных славутых постацяў, звязаных з Беларуссю. Пазней, у 1654 годзе, ён выдаў працу “Жыцці кракаўскіх біскупаў”.

У кнізе “Польшча” (1632) Старавольскі апісаў геаграфію, архітэктуру, этнаграфію, быт, рэлігію, менталітэт, грамадска-палітычны стан розных рэгіёнаў Польшчы і суседніх краін, у тым ліку Беларусі. У шэрагу кніг гэты пісьменнік таленавіта апісаў грамадска-палітычную сітуацыю ў Рэчы Паспалітай, куды ў той час уваходзіла і Вялікае княства Літоўскае: “Польскі шляхціц” (1628), “Правы рыцар” (1648), “Рэфармацыя звычаяў” (1650) і іншыя.

Унікальнай працай Сымона Старавольскага з’яўляецца кніга “Надмагіллі сарматаў” (1655), у якой сабраны эпітафіі з усёй Рэчы Паспалітай.

Па волі лёсу на апошнія 15 гадоў жыцця ў мястэчку Шарашова аказаўся Міхаіл Кірылавіч Баброўскі – славіст, філосаф, тэолаг. Ён нарадзіўся 19 лістапада 1784 года у вёсцы Вулька Бельска-Падляскага ваяводства ў сям’і уніяцкага святара. У 1812 годзе закончыў Галоўную духоўную семінарыю пры Віленскім універсітэце. Быў прафесарам Віленскага універсітэта ў 1822–1833 гадах, з перапынкам на ссылку ў Жыровіцкі базыльянскі манастыр (1824–1826). У 1833 годзе М. Баброўскі быў назначаны настаяцелем Прачысценскай царквы. 3 лістапада 1848 года ён памёр ад халеры і быў быў пахаваны на мясцовых могілках

у Шарашова. Сферай навуковых зацікаўленняў гэтага вучонага была гісторыя славянскага кнігадрукавання, у тым ліку ён даследаваў жыццё і дзейнасць Ф. Скарыны. Ён змясціў звесткі пра дзейнасць беларускага першадрукара ў працы “Гісторыя славянскіх друкарняў у Літве”, якая так і не была надрукавана. У бібліятэцы М. Баброўскага захоўваўся багаты збор помнікаў беларускай старадрукаванай кнігі, якія ў большасці былі знішчаны ў час пажараў 1939 і 1944 гадоў у Варшаве. Частова бібліятэка знаходзіцца ў сховішчах Вільні, Масквы і Санкт-Пецярбурга.

Імя Леана Зянковіча да нядаўняга часу мала, што гаварыла нават тым, хто сур’ёзна займаецца літаратурай. Паэт, публіцыст, гісторык, мемуарыст нарадзіўся ў вёсцы Ляхі паблізу Пружан 11 красавіка 1808 года. Ён быў сапраўдным патрыётам сваёй радзімы, таму заўсёды падкрэсліваў, што ён паляшук. Ён атрымаў добрую адукацыю: скончыў Свіслацкую гімназію і з 1827 года працягнуў вучобу ў Варшаўскім універсітэце. Леан Зянковіч, як і многія тагачасныя патрыёты, марыў аб аднаўленні Рэчы Паспалітай у межах 1772 года і адпаведна ВкЛ у яе складзе, таму прыняў актыўны ўдзел у нацыянальна-вызваленчым паўстанні 1830–1831 года. Ён быў ад’ютантам камандзіра ганаровай гвардыі кіраўніка паўстання, потым паручнікам 9-га палка ўланаў. Як вядома, паўстанне пацярпела паражэнне і Зянковіч эмігрыраваў у Францыю.

Былы інсургент нават за мяжою не пакідаў надзеі ўбачыць сваю радзіму незалежнай, таму разам з другімі эмігрантамі безвынікова спрабаваў арганізаваць узброеныя паўстанскія атрады супраць войск імператара Мікалая І. Пасля няўдалай спробы вярнуцца на радзіму ў Кракаве разам з Л. Лукашэвічам і С. Гашчынскім стварыў тайную арганізацыю “Саюз польскага народу”. Там жа выдаваў часопіс “Powszechny pamietnik nauk i umiejetnosci” (“Усеагульны часопіс навук і рамёстваў”).

У 1836 годзе Леан Зянковіч зноў едзе ў Францыю, дзе ў хуткім часе далучаецца да Польскага дэмакратычнага таварыства і ўваходзіць ў яго кіраўніцтва. У 40-я і 50-я гады неаднаразова патаемна наведваў радзіму, дзе сустракаўся з патрыятычнымі сіламі. Паралельна ён займаўся рэдактарска-выдавецкай дзейнасцю і ў 1839–1944 гадах выдаваў у Страсбургу і Парыжы сатырычна-палітычны часопіс “Pszonka” (“Пшонка”). Патрыёт і інтэрнацыяналіст Леан Зянковіч заўсёды быў гатовы падтрымаць іншыя народы ў нацыянальна-вызваленчай барацьбе таму, калі ў Аўстыйскай імперыі ў 1848 годзе ўспыхвае буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя, ён едзе дапамагаць братам-славянам у Галіцыю. Ён удзельнічае ў барацьбе украінскага народа за свае правы і нават узначальваў аддзел унутраных спраў у кракаўскім нацыянальным камітэце – органе рэвалюцыйнай улады ў горадзе. Рэвалюцыя была падаўлена і ён зноў становіцца вандроўнікам: жыў у Англіі і Францыі. Яго зямны шлях закончыўся 12 снежня 1870 года.

Творчая спадчына Леана Зянковіча складаецца з твораў на польскай мове, многія з якіх прасякнуты прагрэсіўнымі ідэямі для таго часу: адмена прыгоннага ладу і пашырэнне асветы сярод простага народу. Асаблівую цікавасць для краязнаўства ўяўляе твор “Вечары ляха з Ляхаў ці гутаркі пры каміне старога



польскага літаратара", у якім можна знайсці ўспаміны пісьменніка аб Пружаншчыне і аб гадах вучобы яго ў Свіслацкай гімназіі, тут жа змяшчаюцца развАжанні пра адукацыю і выхаванне моладзі. У этнаграфічнай працы "Польскі народ, або Дакладнае апісанне яго звычаяў, нораваў, адзення" (1842) ёсць цікавыя апісанні побыту палешукоў. Акрамя гэтага пяру Леана Зянковіча належаць вершаваныя творы "Узнагарода за нявернасць", "Роздум", літаратуразнаўчыя працы "Палітычны агляд пісьменства польскай эміграцы" (1848), "Палітычны агляд гісторыі польскай літаратуры" (1867) у двух тамах, гісторыка-краязнаўчай працы "Палітычны агляд гісторыі Польскай дзяржавы" (1864–1865) і шэраг іншых твораў.

З Пружаншчынай звязана жыццёі дзейнасць знакамітага этнографа і фалькларыста Міхала Адольфавіча Федароўскага. Ён нарадзіўся 1 верасня 1853 года ў Варшаве ў сям'і мешчаніна па нацыянальнасці кашуба (народнасць блізкая да палякаў, якая жыве ў Польскім Прымор'і) Адольфа Федароўскага і полькі Элеаноры Гансовіч. Першапачатковую адукацыю атрымаў дома, затым закончыў чатыры класы Варшаўскай мужчынскай прагімназіі (1870), дзе навучанне вялося на рускай мове, але сухоты прымушалі юнака ў большасці займацца самаадукацыяй. У 1873–1874 гадах ён вучыўся на агранамічным факультэце Пятроўска-Разумоўскай акадэміі, але хвароба прымусіла яго пакінуць вучобу. У 1875–1877 гадах М. Федароўскі ўдзельнічае ў фальклорна-этнаграфічнай экспедыцыі з З. Глогерам. У выніку ён захапіўся вывучэннем фальклору і археалогіі, што стала асноўным навуковым зацікаўленнем яго жыцця. Паспрыяла гэтаму і праца Яна Карловіча "Дапаможнік для збіральнікаў народных твораў". Плёнам першых гадоў вывучэння польскага фальклору і этнаграфіі сталі два тамы працы "Люд ваколіц Жарак, Севежа і Піліцы..." (1888–1889).

З 1877 года Міхал Федароўскі пераяжджае жыць на Пружаншчыну і гады, праведзеныя на гэтай зямлі, сталі часам вышэйшых здабыткаў таленавітага вучонага. У розных паветах Заходняй Беларусі ён старанна вывучаў матэрыяльную і духоўную культуру беларусаў: даследаваў побыт, мову, фальклор, збіраў кнігі, дакументы, творы мастацтва, займаўся раскопкамі курганоў, старажытных паселішч і могільнікаў. Як вынік адзін за адным выходзяць тамы кнігі "Люд беларускі" (1 т. – 1897; 2 т. – 1902; 3 т. – 1903). У 1904 годзе М. Федароўскі з-за сямейных праблем вымушаны пераехаць у Варшаву, дзе працягвалася праца над "Людам беларускім" у Варшаўскім інстытуце антрапалагічных навук. Усяго выйшла восем тамоў працы, апошні з якіх надрукаваны быў толькі ў наш час, у 1981 годзе. Неапублікаваныя рукапісы фалькларыста знаходзяцца ў бібліятэцы Варшаўскага універсітэта і Навуковым архіве Польскага этнаграфічнага таварыства ў Вроцлаве. М. Федароўскі ўсяго занатаваў каля пяці тысяч народных песень (каляндарных, сямейна-абрадавых і пазаабрадавых – рэкруцкіх і салдацкіх), каля 10 тысяч прыказак, сотні казак, легенд, паданняў, павер'ях, прымхаў, забабонаў, гумарэсак, анекдотаў, жартаў і іншых цікавых матэрыялаў. Даследчык не толькі сам запісваў фальклор ад розных колаў грамадства, але і выкарыстоўваў памочнікаў, напрыклад, Я. Карловіч, І. Трачык, Л. Патул для яго запісалі больш за 1500 тысячы песенных і танцавальных мелодый. У

працах М. Федароўскага можна знайсці не толькі шмат прыкладаў фальклору Пружаншчыны, але і цікавыя апісанні розных відаў дзейнасці насельнікаў гэтага краю. Напрыклад, у артыкуле "Пружаны і ваколіцы" мы знаходзім апісанні унікальнай калекцыі раслін аранжарэі пружанскага маршалка (захаваўся будынак аранжарэі побач з "палацыкам", дзе зараз месцяцца мастацкія майстэрні).

Міхал Адольфавіч з 1896 года быў членам Львоўскага этнаграфічнага таварыства, з 1899 года – Антрапалагічнай камісіі Акадэміі ведаў у Кракаве, а таксама быў у складзе Польскага краязнаўчага таварыства, Кракаўскага нумізматычна-археалагічнага таварыства, Віленскага таварыства сяброў навук і іншых. Памёр выдатны польскі і беларускі вучоны 10 жніўня 1923 года і пахаваны ў Варшаве.

Родам з Пружаншчыны і Аляксандр Дунін-Гаркавіч. Імя гэтага таленавітага берасцейца амаль невядома яго землякам. Пра першую палову яго жыцця захавалася мала звестак: выхадзец з дваранскага роду нарадзіўся ў Ружанах 9 мая 1854 года, вучыўся ў Гродзенскай класічнай гімназіі, затым у Лісінскім сярэднім прафесіянальным вучылішчы, пасля больш дзесятка гадоў працаваў у лясніцтвах Разаншчыны. З 1890 года пачынаецца яго сібірскі перыяд жыцця, у які Дунін-Гаркавіч і выявіўся, як вучоны і творца ў галіне гісторыі, геаграфіі і этнаграфіі. Ён становіцца галоўным ляснічым Самарскага лясніцтва. У гэты ж час ён пачынае даследаваць этнаграфію карэнных народаў Сібіры. У 1895 годзе праца па збіранні калекцыі прадметаў хатняга побыту і прылад промыслу насельнікаў Поўначы наш зямляк на Курганскай сельскагаспадарчай выставе ўзнагароджваецца Вялікім сярэбраным медалём. У 1896 годзе А. Дунін-Гаркавіч атрымлівае дыплом на Усерасійскай мастацка-прамысловай выставе ў Ніжнім Ноўгарадзе, дзе была прадстаўлена яго экспазіцыя Паўночнага аддзела. Разам з тым таленавіты вучоны пачынае выступаць у друку з публікацыямі па гісторыка-краязнаўчай рабоце. Шматгадовая праца па вывучэнні жыцця народаў Поўначы была абагульнена ў трохтомным выданні "Табольская Поўнач: агляд краіны, яе натуральных багаццяў і прамысловай дзейнасці насельніцтва", першы з якіх выйшаў у 1904 годзе ў Санкт-Пецярбургу (ў 90-я гады трохтомнік быў перавыдадзены). У 1908 годзе галоўны ляснічы Табольскай губерні на Міжнародным кангрэсе па судаходстве ў Санкт-Пецярбурзе прадставіў гістарычныя, этнаграфічеыя і лінгвістычныя карты губерні, у якой працаваў. У наступным годзе выхадзец з Пружаншчыны становіцца членам-карэспандэнтам Музея антрапалогіі і этнаграфіі імя Пятра Вялікага Расійскай акадэміі навук. Краязнаўчая дзейнасць Аляксандра Дуніна-Гаркавіча была адзначана Малым залатым медалём і Вялікім сярэбраным медалём імя М. Пржавальскага. Акрамя гэтага яго праца была адзначана чынам стацкага саветніка і ордэнамі Святой Ганны, Святога Уладзіміра, Святога Станіслава розных ступеняў. Памёр таленавіты вучоны 9 студзеня 1927 года. Яго імем у Табольску названа вуліца і музейна-даследчыцкая установа, якая месціцца ў доме, дзе жыў наш зямляк, а для студэнтаў Ханты-Мансійскага універсітэта ў гонар Аляксандра Дуніна-Гаркавіча ў 2005 годзе была заснавана стыпендыя.

У ХХ стагоддзі, да прыходу савецкай улады пісьменніку Альбіну Дзяконс-



каму належалі Магілёўцы. Дзяконскія атрымалі Магілёўцы ў спадчыну ў 1886 годзе ад старажытнага дваранскага роду Быхаўцоў. Паэт Альбін Дзяконскі жыў у Магілёўцах з 1920 па 1939 год. Менавіта ў час жыцця на Пружаншчыне былі створаны зборнікі вершаў “Байкі” (1920), “Байкі, сатыра, лірыка” (1926), “Элегія” (1929), “Гарадскія матывы” (1931), “На захад” (1932), “Два галасы” (1933), “Драма Люцыфера” (1934), “Зялёныя Магілёўцы” (1939). Асаблівую цікавасць выклікае зборнік на польскай мове “Зялёныя Магілёўцы” (1939), у якім А. Дзяконскі вершамі апісаў людзей і прыроду Магілёўцаў.

У Пружанах 20 жніўня 1897 года нарадзілася руская пісьменніца Ксенія Сяргееўна Львова. Сталае жыццё яе звязана з Расіяй, дзе яна актыўна прапагандавала савецкую уладу і працавала карэспандэнтам самарскай газеты ”Волжская коммуна“. Агітацыйны характар меў першы яе зборнік нарысаў “Сила стали” (1930), прысвечаны калгаснаму будаўніцтву. Пераважная большасць яе твораў мела заідэалагізаваны характар, напрыклад, у аповесці “Будни” і рамане “Высокий ветер” паказваецца класавая барацьба ў вёсцы. У 1949 годзе яна атрымала дзяржаўную прэмію СССР за аповесць “На лесной полосе”. Ксенія Львова працавала ў жанры апавядання, нарыса, аповесці, рамана, драмы і камедыі.

Мала звестак захавалася пра рускага пісьменніка Мікалая Пружанскага (Ліноўскага, Трафімава), які быў родам з Пружаншчыны. Вядома толькі, што яго сын Аляксандр Паморскі (1891 г.н.) таксама быў пісьменнікам.

Публіцыст Анатоль Адамавіч Альшэўскі нарадзіўся ў горадзе Бяроза-Картузская (да 1940 года так называўся горад Бяроза), які ў Расійскай імперыі адносіўся да Пружанскага павета. З’явіўся на свет заходнебеларускі падпольшчык, вядомы пад мянушкай Юрка Пружанскі, 4 ліпеня 1904 года ў сям’і пісара міравога суда Адама Іванавіча Альшэўскага. Анатоль быў палымяным патрыётам свайго роднага краю, нездарма ён у час падпольнай рэвалюцыйнай дзейнасці карыстаўся псеўданімам, якому даў назву горад Пружаны. Патрыятычныя пачуцці гэтага дзеяча рэвалюцыйнага руху ўЗаходняй Беларусі добра выяўлены ў адным з лістоў да бацькоў: “...Родныя, мілыя карціны... Як часта пераносішся думкамі, марамі, усёй істотай да цябе, мая радзіма, да тваіх палёў, да тваіх глухіх, нязведаных лясных гушчараў, да тужлівых прастораў балот, да раскіданых то тут, то там саламяных вёсачак...”

Дзяцінства публіцыста было апалена пажарышчам першай сусветнай вайны. Сям’я Альшэўскіх летам 1915 года вымушана была падацца ў бежанства. Так яны апынуліся ў горадзе Арзамасе Ніжагародскай губерні, дзе ў падлетка завязалася шчырае сяброўства з Аркадзем Голікавым (стаў вядомым пісьменнікам Аркадзем Гайдарам), Аляксандрам Пляскю (будучы журналіст, рэдактар газеты “Авангард”) і яшчэ больш памацнела сяброўства з земляком Паўлам Горыным-Калядой (1900–1939) – гісторыкам, прэзідэнтам АН БССР (1931–1936). Усе яны вучыліся ў рэальным вучылішчы ў Арзамасе, потым сталі актыўнымі абаронцамі рэвалюцыйных ідэй.

Анатоль Альшэўскі пасля рэвалюцыі 1917 года прыняў актыўны ўдзел ва ўстанаўленні Савецкай улады ў Расіі, а потым і на тэрыторыі Брэстчыны. Быў

на камсамольскай рабоце на Пружаншчыне, супрацоўнічаў з членам Пружанскага рэўкома Міколам Засімам. У 1925 годзе камсамолам быў накіраваны ў Заходнюю Беларусь, уступіў у КПЗБ і там узяў падпольную мянушку Юрка Пружанскі. У гэты час ён выявіў сябе як таленавіты журналіст: быў рэдактарам часопіса "Бальшавік" і газеты "Чырвоны сцяг" – рупараў ідэй КПЗБ. У публіцыстычных артыкулах Анатоль Альшэўскі выкрываў нацыяналістычную палітыку Польшчы ў дачыненні беларусаў. У 1927 годзе быў арыштаваны і ў 1928 годзе па абмену палітвязьняў паміж Польшчай і СССР апынуўся на свабодзе. Аднак у Савецкім Саюзе, як і многіх іншых заходнебеларускіх падпольшчыкаў, яго чакаў незайздросны лёс – у час рэпрэсій ён быў безпадстаўна арыштаваны і 1937 годзе закатаваны. Пасмяротна рэабілітаваны ў 1956 годзе.

Анатолю Альшэўскаму прысвяціў сваю дакументальную аповесць "Пасланец Праметэя" Уладзімір Калеснік, якая выйшла ў свет у 1984 годзе. Яна адрасавана старэйшаму школьнаму ўзросту і расказвае пра жыццё і дзейнасць паплечніка Веры Харужай. На жаль, значная частка біяграфічных звестак пра публіцыста цэнзура не прапусціла, у прыватнасці пра тое, што ён быў рэпрэсаваны. Таму ў эпілогу замест інфармацыі пра трагічны лёс Анатоля Альшэўскага можна прачытаць пра яго дачку, якая стала жонкай вядомага беларускага пісьменніка Аляксея Карпюка.

Імя Анатоля Альшэўскага носіць пружанская школа-інтэрнат.

У вёсцы Лінова Пружанскага раёна жыве паэт Мікалай Папека. Ён нарадзіўся ў Івацэвіцкім раёне, але пасля вучобы ў Украінскай сельскагаспадарчай акадэміі ў 1986 годзе прыехаў на сталае жыхарства на Пружаншчыну. Працаваў паэт пчаляром у лясніцтве, затым заняўся ўласнай гаспадаркай. Шчыра зацікаўлены этнаграфіяй роднага краю ён стварае свой музей сялянскай побытавай культуры, займаецца творчасцю. Дзякуючы яму ўручаецца літаратурнамядовая прэмія "Паўпуду мёду". Тыповым для яго постмадэрнісцкай творчасці з'яўляецца верш "Пчальнік ля Ружана":

*"Мы едзем на трактары, ноччу,*
*удвух з Валерам Прыступам,*
*вязем пчаляніну*
*на медадайную агрыку, –*
*так на ружанскай зямлі*
*льцівінскі люд называе грэчку.*
*Белае поле, як сырадой,*
*разлілося сярод пагоркаў.*
*На небаскраі*
*над упаўшымі ў сон Ружанамі*
*з'явілася чырвоная поўня".*

Родам з вёсцы Доўгае Пружанскага раёна Гетман Ігар Уладзіміравіч – даследчык творчасці Уладзіміра Андрэевіча Калесніка. Ён нарадзіўся 25 мая 1974 года ў сям'і вясковых інтэлігентаў. У 1978 годзе сям'я Гетманаў пераджджае на сталае жыхарства ў горад Пружаны. Пасля заканчэння СШ № 1 раённага цэнтра ён у 1991 годзе паступае на філалагічны факультэт Брэсцкага дзяр-



жаўнага педагагічны інстытут імя А.С. Пушкіна. Пасля завяршэння вучобы на аддзяленні беларуская мова і літаратура з гісторыяй І. Гетман застаецца працаваць на кафедры беларускага літаратуразнаўства БрДУ імя А.С. Пушкіна і паступае ў аспірантуру пры Інстытуце літаратуры АН Беларусі. У гады вучобы ў аспірантуры ў з 1996 па 1999 год пад кіраўніцтвам акадэміка, доктара філалагічных навук У. В. Гніламёдава займаўся даследаваннем навуковай спадчыны У.А. Калесніка. З 1999 года працаваў на кафедры беларускага літаратуразнаўства ў БрДУ імя А.С. Пушкіна на пасадах асістэнта, старшага выкладчыка і дацэнта. У 2002 годзе ў БрДУ імя А.С. Пушкіна абараніў дысертацыйнае даследаванне "Уладзімір Калеснік – гісторык літаратуры". Апублікаваў шэраг публікацый, у якіх даследаваў заходнебеларускую літаратуру 20-30-х гадоў XX стагоддзя і беларускім нацыянальным руху 1941–1944 года. Зараз І.У. Гетман працуе галоўным спецыялістам аддзела па рабоце са сродкамі масавай інфармацыі ўпраўлення ідэалагічнай работы аблвыканкама.

Хоць пры мясцовай раённай газеце не прыпыняла сваю дзейнасць літаратурнае аб'яднанне, мясцовыя "самародкі" толькі зрэдзь прабіваліся на старонкі абласной прэсы, ужо не кажучы аб рэспубліканскіх друкаваных выданнях. Праўда, дабратворны ўплыў творчага клімату, які ўсё ж такі стварала суполка аматараў прыгожага пісьменства, давала нейкі плён, і хутка пра сябе заявілі, хай сабе і не ў поўны голас і не так гучна, паэтка Ніна Радзівончык (нарадзілася ў вёсцы Ляхі) і публіцыст і паэт Віктар Шуткевіч (родам з вёскі Чахец). Абодва займелі ўласныя паэтычныя зборнікі, жывучы ўжо, праўда, не на сваёй малой радзіме: Н.Радзівончык у Мінску, а В.Шуткевіч – ажно ў Маскве. Цікава, што, працуючы ў расійскім друку, Віктар Шуткевіч пісаў вершы на беларускай і польскай мовах. Яго паэтычны зборнік "Сімвал веры", выдадзены ў 1994 годзе ў "Мастацкай літаратуры", быў заўважаны і чытачамі, і крытыкай. Некалькі вершаў з яго адразу перакачавалі ў "Анталогію беларускай паэзіі XX стагоддзя". Папулярны польскі літаратурна-мастацкі часопіс "Месенчнік" апублікаваў эсэ В.Шуткевіча "Дарога з Масквы ў Чанстахову" і цыкл вершаў "Пілігрымы".На вялікі жаль, гэтага таленавітага чалавека ў 2007 годзе не стала. Нібы прадчуваючы хуткую смерць, ён паспеў засведчыць сваю непамерную любоў да роднай старонкі ў кнізе публіцыстыкі "Деревня Париж" (Масква, 2006 г.).

У гады, калі павеялі вятры перабудовы, якія прынеслі свежасць думкі і расшкуматалі хмары зашоранасці, больш актыўным стала і літаратурнае жыццё. У нейкай ступені гэтаму паспрыяла і прызначэнне на пасаду рэдактара раённай газеты Міколы Антаноўскага, які, прайшоўшы добрую журналісцкую школу ў знакамітага рэдактара і нарысіста Васіля Праскурава, ведаў, любіў і цаніў высокамастацкае слова: сам пісаў нарысы, апавяданні і вершы. Менавіта тут, у Пружанах, раскрыліся яго паэтычныя здольнасці, а змяшчаемыя на старонках "раёнкі" лірычныя вершы сталі своеасаблівым камертонам, па якім вызначаліся мастацкія вартасці дасылаемых і прыносімых у рэдакцыю твораў іншых аўтараў. Частыя літаратурныя сустрэчы, якія наладжваліся ў бібліятэках і школах, з удзелам не толькі мясцовых талентаў, але і больш знакамітых гасцей з Брэста і Мінска, рабілі сваю добрую справу, надавалі імпэту як моладзі, так і

тым, хто ўжо даўно зведаў слодыч слоў. Літаратурныя старонкі сталі пастаяннай з'явай у раённай газеце, трапіць куды, аднак, было не проста: шэрасці і графаманству тут не знаходзілася месца. Па-маладому загучалі паэтычныя галасы настаўніка-пенсіянера Мікалая Пянко з пушчанскай вёсачкі Клепачы, Емяльяна Вароніча – таксама былога настаўніка з вёскі Харава, прыахвоцілася да паэзіі і на той час дырэктар Старавольскай базавай школы Валянціна Слабада. Творамі менавіта трох гэтых аўтараў была прадстаўлена паэзія Пружаншчыны ў адным з нумароў галоўнай рэспубліканскай пісьменніцкай газеты "Літаратура і мастацтва".

З нецярпеннем чакалі чытачы раённай газеты працягу аповесці жыхара Пружан, былога вязня сталінскіх лагераў Мікалая Дудзейкі, аповесці ў многім аўтабіяграфічнай. Аўтар марыў выдаць яе асобнай кніжкай. На жаль, мара гэтая так і не ажыццявілася: дзеці ды яшчэ жывыя сябры цяпер час ад часу перабіраюць пажаўцелыя ўжо старонкі "раёнкі" з урыўкамі гэтага хвалюючага твора.

Што ж датычацца творчасці Міколы Антаноўскага, то нарадзіўся ён на Піншчыне ў 1952 годзе, жыве ў Пружанах з 1982 года. Спачатку працаваў у раённай газеце загадчыкам аддзела пісьмаў, а з 1984 года стаў рэдактарам раёнкі. У 1993 годзе ў серыі "Бібліятэка часопіса "Маладосць" пабачыў свет яго паэтычны зборнік "Святаяннік", які стаў падставай для прыняцця аўтара ў Саюз беларускіх пісьменнікаў (1995 г.). Праз чатыры гады пасля першага да чытача прыйшоў другі зборнік М. Антаноўскага – "Падсочаны бор", які адрэдагаваў Мікола Купрэеў. У прадмове, якую напісаў лаўрэат Літаратурнай прэміі імя І.Мележа Віктар Гардзей, сказана: "Назва кнігі даволі ўдалая і ёмкая, не пазбаўлена разумнага сэнсу. Вядома, што хваёвыя дрэвы, калі з іх выкачаць жывіцу на каніфоль і шкіпінар, пакуль акрыяюць, доўга кволяцца, хварэюць, а то і сохнуць. Вобраз падсочанага бору,маючы сімвалічнае значэнне, праходзіць у той ці іншай афарбоўцы праз многія вершы зборніка. Гвалтам знявечаны бор – гэта ж наша бязладнае і апустошанае жыццё, з якога, здаецца, высмактаны ўжо апошнія кроплі жыватворных сокаў".

Гэты зборнік быў вельмі прыхільна сустрэты беларускай крытыкай, нягледзячы на тое, што не патрапіў у сталічныя кнігарні, паколькі пабачыў свет у Брэсцкай абласной друкарні, а выдаўцом стала рэдакцыя газеты "Раённыя будні". Добрым словам пра творчасць паэта з Пружаншчыны адгукнуліся ў рэспубліканскім друку крытыкі Алесь Карлюкевіч, Уладзімір Саламаха, Леанід Галубовіч. Апошні, дарэчы, з задавальненнем зазначыў, што і на правінцыйным узроўні, аказваецца, можна рабіць прыстойную літаратуру, далёкую па сваім змесце адправінцыйнасці.

Варта нагадаць, што на той час Пружаншчына стала аб'ектам асаблівай увагі для шэрагу беларускіх літаратараў. І галоўнай прычынай гэтай цікаўнасці, безумоўна, з'явілася творчасць Міколы Купрэева, які ўпачатку 90-х гадоў трывала асеў у пушчанскім краі. Большасць з тых, хто працуе на паэтычнай ніве Пружаншчыне, аддае перавагу традыцыйнаму, класічнаму вершу. Сярод іх, напрыклад, Уладзімір Чэрнік – былы настаўнік, які цяпер жыве ў вёсцы Клепачы,



настаўніца роднай мовы і літаратуры пружанскай СШ № 4 Ірына Астапчук, былая журналістка Людміла Ананіч. Кожны з іх, безумоўна, па-свойму адметны. Уладзімір Чэрнік – глыбокі знаўца рускай класічнай літаратуры і вялікі прыхільнік любоўнай лірыкі: нават у свае семдзесят умее расчуліць жаночае сэрца: вечнай тэме адведзена значная частка яго рускамоўнага зборніка вершаў “Закатные сполохи”( 2004 г.). У Брэсцкай друкарні рыхтуецца да выдання яшчэ адна яго кніга лірыкі.

На цяперашні час, як сведчыць практыка, аўтару не проста выйсці да чытача з уласнай кніжкай, выдадзенай у прэстыжным выдавецтве. Тым больш аўтару з правінцыі. На жаль, у выдавецкай справе ўсё пастаўлена зараз , як кажуць, з ног на галаву: аўтар сам павінен клапаціцца і пра сродкі на выданне кнігі, і пра распаўсюджанне яе сярод чытачоў. Ці не таму ўсё часцей і часцей з’яўляюцца кніжкі, зробленыя, так бы мовіць, саматужным спосабам? Не абмінула гэтая з’ява і Пружаншчыну. Напрыклад, Емяльяну Варонічу выдаць зборнік санетаў дапамагла пружанская гімназія, Валянціне Слабадзе кніжку лірыкі “Наўпрост да святла” – цэнтральная раённая бібліятэка. Наклад іх, вядома, мізэрны. Але і гэта радуе: напісанае застаецца!

## ФРАНЦІШАК КАРПІНСКІ
(4.10.1741–16.9.1825)

Значны перыяд жыцця і дзейнасці польскага паэта Францішка Карпінскага звязаны з Пружаншчынай. Адзін з пачынальнікаў польскага сентыменталізму нарадзіўся на Украіне, у вёсцы Галаскоў Івана-Франкоўскай вобласці. Набыўшы першапачатковую адукацыю дома, будучы пісьменнік вучыўся ў езуіцкай школе г. Івана-Франкоўска. Затым ён закончыў Львоўскую езуіцкую акадэмію ў 1762 годзе, атрымаўшы званне выкладчыка філалогіі і ступень доктара філасофіі. Жыццёвыя дарогі Ф. Карпінскага звязаны з Украінай, Польшчай, Аўстрыяй і Беларуссю. У Львове ён працаваў адвакатам, у Хацімску быў гувернёрам у шляхціцаў Папінскіх, у Вене наведваў універсітэцкія лекцыі.

У 80-я гады XIX стагоддзя ў Львове пад псеўданімам Дзед Сакольскі выходзіць першы зборнік вершаў Ф. Карпінскага. Пасля гэтага да паэта прыйшла вядомасць і папулярнасць. Папулярнасць паэту прынес і рэлігійны цыкл “Набожныя песні”. Гэтыя творы, прысвечаныя простаму народу, карысталіся поспехам як у вясковых, так і гарадскіх дамах. З князем Анджэем Чартарыйскім Ф. Карпінскі наведаў каралеўскі двор у Варшаве, дзе быў прадстаўлены каралю Станіславу Аўгусту Панятоўскаму. Пазней кароль выдаў паэту прывілей на ўладанне “Суха Далін” (Сухопаль) Пружанскага павета. Гэта быў час плённай творчай дзейнасці гэтага мастака слова: на працягу 1782–1787 гадоў ён выдаў сем тамоў “Забавак вершам і прозай”, куды ўвайшлі ідыліі, лірычныя вершы, абразкі і пераклады.

З 1793 года паэт пасяліўся ў маёнтку Краснік Пружанскага павета. Даўно ў Карпінскага выспела жаданне мець свой куток падалей ад прыдворных інтрыг. Так у 1784 годзе ён напісаў верш “Вяртанне з Варшавы ўвёску”, у якім перака-

нальна паказваецца перавага сціплага сялянскага побыту над разбэшчаным сталічным жыццём. Зараз сядзіба Краснік не існуе, а тады яна размяшчалася побач з каналам Тызенгаўза. Удзячныя сяляне хацелі перайменаваць фальварак. але назва Карпін не прыжылася. Карпінскі быў дбайным гаспадаром: ён пабудаваў фальварак, карчму, некалькі сялянскіх хат, пасадзіў сад. Для павышэння агульнай культуры сялян у сваім маёнтку Ф. Карпінскі наладжваў чытанні для сялян і дзяцей. Паэт збіраў і запісваў фальклор, на аснове якога былі напісаны “Лаура і Філон”, “Успамін нядаўняга кахання”, “Песня Сакольскага дзеда”, “Мазурская песня”, песня “Калі рана ўстала зорка”. У цыкле “Свецкія песні” вершы-эротыкі “Пайшла маладая Маруся па рaкі”, “Да мяне, да мяне, хлопцы”, “Песня Марысі да Янкі” за аснову былі ўзяты беларускія народныя песні любоўнага зместу.

Пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у 1794 годзе ўспыхвае паўстанне пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі, у час яго падаўлення царскія войскі амаль поўнасцю знішчылі Краснік (уладар маёнтка вымушаны быў хавацца ў Белавежскай пушчы). Гэта падзея вельмі негатыўна паўплывала на настрой паэта: ён паддаўся меланхоліі і пісаў мала, а напісанае часта спальваў.

Калі пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай (1795) Беларусь апынулася пад уладай Расійскай Імперыі, то Ф. Карпінскі, як іншыя мясцовыя жыхары, вымушаны быў у пружанскай царкве прынесці прысягу на вернасць расійскай імператрыцы Кацярыне II. Страта Польшчай і Беларуссю незалежнасці пакінулі ў душы патрыятычна настроенага паэта глыбокі след, і ён адгукнуўся на гэтыя падзеі творамі “Да Станіслава Малахоўскага”, “На дзень 3 мая 1791 г.”, “Плач Сармата над магілай Жыгімонта Аўгуста”, “Юдзіф”.

Таленавітаму мастаку слова з багатым жыццёвым вопытам царскія ўлады неаднаразова прапаноўвалі заняць розныя пасады і ў пружанскім земскім судзе, і ў Віленскім універсітэце, і на папячыцельскіх пасадах навучальнай акругі, але толькі ў 1805 годзе ён даў згоду стаць папячыцелем Свіслацкай гімназіі. Паэт перадаў у гімназію значную частку сваёй бібліятэкі (другую частку кніг Ф. Карпінскі падараваў Сухапальскай царкве).

Гэта быў час стабільнасці ў жыцці мастака слова і ён паддаўся філасофскім роздумам, якія былі ўвасоблены ў кнігах “Пра красамоўства ў прозе і вершах” і “Пра шчасце чалавека”. Кніга “Размовы Платона са сваімі вучнямі” (1802), у якім выяўляецца дэмакратычеа-асветніцкі светапогляд аўтара, была прысвечана імператару з прагрэсіўнямі поглядамі Аляксандру I, за гэты падарунак рускі цар падараваў аўтару залатую табакерку.

Вайна 1812 года зноў прынесла пісьменніку новыя няшчасці. Напалеонаўскія войскі поўнасцю знішчылі Краснік, а сам пісьменнік быў абрабаваны і збіты салдатамі. Пасля гэтага пэўны час Ф. Карпінскі жыў у Мураве, пакуль за 100 тысяч злотых не купіў у Вінцэнта Ажахоўскага маёнтак Хараўшчызну ў Ваўкавыскім павеце (зараз Свіслацкі раён). Праца на ўласным кавалку зямлі прыносіла паэту радасць. Ён з павагай адносіўся да сялян: разам з імі працаваў у полі, адкрыў школу для дзяцей, дзе сам выкладаў прадметы. Карпінскі Ф. нават збіраўся вызваліць сялян ад прыгону, дзеля гэтага ён прапаноўваў гродзен-



скаму губернатару Д. Кошалеву праекты сацыяльных рэформ і ўдасканалення землекарыстання.

У Хараўшчызне завязаліся прыяцельскія адносіны з цаніцелем творчасці паэта, уладальнікам Свіслачы магнатам Вінцэнтам Тышкевічам, які так апісаў характар Ф. Карпінскага: "Карпінскі быў свабодалюбівы, любіў пахвалу і фіміям, любіў прымаць знакі пахвалы і пакланення". Амбітнасць (у лепшым сенсе) дапамагла Ф. Карпінскаму дасягнуць значных поспехаў на літаратурнай ніве.

Апошняй кнігай Ф. Карпінскага стала кніга "Дзецям для забавы і навукі" (-Вільня, 1820), у якой былі змешчаны забаўляльныя гісторыі. У гэтую кнігу ўвайшло і сачыненне "Падарожжа па зачараванай краіне", дзе апісваецца паездка на Валынь у маёнтак Тэафіліі Сапегі. У творы "Падарожжа па зачараванай краіне", як і ў "Свецкіх песнях", аўтар выкарыстаў матывы беларускага фальклору, у прыватнасці змест беларускіх народных казак і загадак.

На працягу ўсяго жыцця мастак вёў дзённік, які быў выдадзены ў 1822 годзе пад назвай "Гісторыя майго стагоддзя і людзей, з якімі жыў" (потым ён 6 разоў перавыдаваўся). У "Дзённіку" можна знайсці шмат цікавых апісанняў жыцця на Беларусі.

Талент Ф. Карпінскага справядліва ахарактарызаваў Адам Міцкевіч: "Ён адзіны літаратар таго часу, які мог лічыць сябе паэтам славянскім". Некаторыя папулярныя ў народзе творы Францішка Карпінскага фалькларыст М. Федароўскі запісаў і змясціў у шостым томе "Люду беларускага" як народныя. Творчасць гэтага паэта мела вялікі ўплыў на станаўленне творчай індывідуальнасці Дуніна-Марцінкевіча, таму ў "Ідыліі" героі спяваюць песню на верш Ф. -Карпінскага "Лаура і Філон".

На беларускай мове творы Францішка Карпінскага загучалі толькі ў 90-я гады XX стагоддзя, калі былі перакладзены некаторыя вершы паэта і камедыя "Чынш". Найбольш значнае месца ў творчай спадчыне гэтага мастака слова займае драматычны твор "Чынш". Гэтая камедыя праблемна-тэматычна пераклікаецца з лібрэта оперы "Сялянка" В. Дуніна-Марцінкевіча. У "Чыншы" аўтар не толькі ўзнімае маральную праблематыку і разглядае вострыя грамадска-палітычныя пытанні, але і асуджае беларускую шляхту за адмаўленне ад нацыянальнай культуры.

Памёр выдатны пісьменнік 16 верасня 1825 года і пахаваны ў Хараўшчызне. У 1844 годзе яго рэшткі былі перазахаваны каля касцёла ў вёсцы Лыскава. У гэтай вёсцы жыў сябар Ф. Карпінскага і яго біёграф і настаўнік літаратуры Антон Карніловіч, у якога захоўваліся літаратурныя рукапіса выдатнага пісьменніка. У 80-я гады XIX стагоддзя ў Лыскаве быў пастаўлены помнік таленавітаму паэту. Яго імем была названа школа ў Лыскаве, зараз гэта памяшканне мясцовай бальніцы. 26 верасня 1993 года на магіле паэта быў адноўлены помнік, на якім напісаны радок з верша "Вяртанне з Варшавы ў вёску" – "Вось мой дом убогі", там жа змешчаны надпіс на беларускай і польскай мовах: "Францішак Карпінскі, польскі паэт-драматург 4.X.1741–16.IX.1825". Помнік Ф. Карпінскаму ўяўляе сабой стылізаваную хатку, крытую дахоўкай, з крыжам на версе і партрэтам славутага паэта на франтоне. У Хараўшызне захаваліся рэшткі

парку, склеп, флігель і падмуркі сядзібнага дома Ф. Карпінскага. Пасля смерці архівы паэта захоўваліся ў К. Прозара ў Хойніках, а затым часткова ў А. Ельскага ў Замосці (цяпер Пухавіцкі раён).

ЮЗАФ ІГНАЦІ КРАШЭЎСКІ
(28.07.1812–19. 03.1887)

Пружанскі край – радзіма іслынных сыноў Беларусі – братоў Крашэўскіх. Старадаўні шляхетны род Крашэўскіх валодаў маёнткамі на Берасцейшчыны, у тым ліку і на Пружаншчыне. Бацька знакамітых братоў быў пружанскім харунжым і яму належаў маёнтак у Доўгім каля Пружанаў. У гэтай вёсцы і прайшло дзяцінства старэйшага з братоў – Юзафа, які нарадзіўся 28 ліпеня 1812 года ў Варшаве. Адукацыю будучы беларускі польскамоўны пісьменнік набываў спачатку ў бацькоўскім доме, гэтаму спрыяла магчымасць карыстацца багатай бібліятэкай сяброў сям'і Швыкоўскіх (да гэтага часу захаваўся іх дом – так званы пружанскі палацак). Затым Юзаф вучыўся ў Свіслацкай гімназіі (1827–1829), а потым – у Віленскім універсітэце (1829–1830). Дух свабодалюбства, які вітаў у сценах галоўнай навучальнай установы Беларусі, накіраваў студэнта Крашэўскага на змагарскія сцежкі. Як патрыёт сваёй радзімы, ён уступіў у тайны гурток, дзейнасць якога была накіравана супраць імперскай палітыкі расійскага царызму. Агітацыйная дзейнасць сярод моладзі стала прычынай турэмнага зняволення Юзафа ў 1830–1832 гадах. Пасля вызвалення Доўгае фактычна стала месцам ссылкі пачынальніка польскай рэалістычнай прозы: там ён пражыў да 1853 года. У гэты час ён шмат падарожнічаў на брычцы па Пружаншчыне, Піншчыне, Драгічыншчыне, Кобрыншчыне і іншых мясцінах Брэстчыны. Юзаф Крашэўскі быў зачараваны маляўнічасцю роднага краю, што натхніла яго на стварэнне жывапісных палотнаў пра Палессе: ён маляваў пейзажы, сялянскія забудовы і саміх палешукоў. Асноўную ж ўвагу ён засяроджваў на апісанні прыроды, гісторыі, этнаграфіі, фальклору Беларускага краю. Напрыклад, вось як апісвае краязнаўца Пінск, які ён называе "літоўскім Ліверпулем": "Старонка гэтая, маючы ўласны гандаль і прамысловасць, мае і сваю адметную паэзію. Не кожны, магчыма, спасцігае яе, але я бачыў яе паўсюль: у гэтых лозах і чаротах, у песнях кнігаўкі, у дзыньканні камароў, у разлітых, як мора, балотах, дзе, нібы астраўкі, сустракаюцца параскіданыя там-сям вёскі". Такія радкі мог напісаць толькі чалавек, які па-сапраўднаму любіў свой родны край.

На Палессі Юзаф Крашэўскі знайшоў і сваё каханне. Ён часта бываў у Гарадцы на Кобрыншчыне ў доме Антона Урбаноўскага, у якога была багатая бібліятэка з 20 тысяч тамоў кніг. Там ён пазнаёміўся з пляменніцай гаспадара Зосяй Вароніч, якая стала яго жонкай.

Шчодра адораны рознымі талентамі Юзаф Крашэўскі з поспехам рэдагаваў у 1841–1851 гадах віленскі часопіс "Athenaeum" ("Атэнэум"), у якім размяшчаў працы па фалькларыстыцы, этнаграфіі, археалогіі Беларусі, а ў 60-я гады ён быў рэдактарам варшаўскай газеты "Gazeta polska" ("Польская газе-



та”). Акрамя гэтага ў 1872 годзе ён быў уганараваны званнем акадэміка Акадэміі ведаў у Кракаве. За навуковыя дасягненні ў вывучэнні народнай культуры Юзэфа Крашэўскага абіралі ганаровым доктарам навук ва універсітэтах Кракава і Франкфурта-на-Майне.

Не стала выдатнага пісьменніка і вучонага 19 сакавіка 1887 года. У Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі знаходзіцца медальён Юзафа Крашэўскага, выпушчаны да 50-гадовага юбілею творчай дзейнасці пісьменніка ў 1879 годзе (знайшлі медальён вучні Круглянскай школы).

Уражвае незвычайная адоранасць і працавітасць гэтага пісьменніка, публіцыста, гісторыка, краязнаўца, фалькларыста, мастака і грамадскага дзеяча, творчая спадчына якога складае 600 тамоў кніг, з іх 232 аповесці і рамана. Прозай ён пачаў займацца ў 1831 годзе, карыстаўся псеўданімамі Б. Балеславіта, Др. Амега, К. Пастарнак і іншымі. Для вывучэння культуры і літаратуры Брэсцка-Пінскага Палесся найбольшую цікавасць уяўляюць кнігі “Пінск і Піншчына” (1837), “Успаміны пра Палессе, Валынь і Літву” (1840), “Адзенне сялян і мяшчан з ваколіц Брэста, Кобрына і Пружан” (1860). Кніга “Анафеляс” (1840–1845) з’яўляецца паэтычнай трылогіяй гісторыі Літвы (рэцэнзентам яе быў Ян Чачот), “Некалькі замалёвак з жыцця сельскага насельніцтва Кобрынскага павета” (1850).

Сярод празаічнай спадчыны польскамоўнага пісьменніка асобна можна выдзеліць цыкл твораў з 29 твораў пра гісторыю Польшчы і Вялікага княства Літоўскага: ”Старое паданне” (1876), “Кугінас. Раман з літоўскіх паданняў” (1882), “Пан Твардоўскі” (1839), “Апошнія з слуцкіх князёў” (1841), “Кароль ў Нясвіжы. 1784” (1887), “Апошнія хвіліны князя ваяводы (Пане каханку)” (1875) і іншыя. Юзаф Крашэўскі па сутнасці стаў першым з мастакоў слова, хто ў польскай літаратуры звярнуўся да напісання рэалістычнага гістарычнага рамана. Добра вывучыўшы жыццё розных колаў грамадства, ён быў пераканаваны ў неабходнасці адмены прыгоннага ладу, таму ў сваіх творах часта звяртаўся да адлюстравання невыносных умоў жыцця прыгонных беларускіх і украінскіх сялян: “Гісторыя Саўкі” (1842), “Уляна” (1843), “Астап Бандарчук” (1847), “Хата за вёскай” (1853–1854), “Ярмола” (1856) і іншыя.

Сярэдні з братоў Крашэўскіх Люцыян – мастак і фатограф нарадзіўся 24 ліпеня 1820 года ў Пружанах. Закончыў Свіслацкую гімназію, затым жыў і працаваў у Доўгім. Для пошукаў ідэй, тэм і ўдасканалення творчых здольнасцей шмат падарожнічаў па Бельгіі, Галандыі, Германіі. Прыняў удзел у паўстанні пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага, за што быў сасланы ў Сібір. Пасля вяртання ў родныя мясціны працягваў займацца творчасцю, працаваў у жанры рысунка, графікі, акварэлі, нават афармляў творы брата Юзафа. Памёр Люцыян Крашэўскі 2 лютага 1892 года.

Каятан Крашэўскі самы малодшы з братоў таксама займаўся літаратурнай дзейнасцю. Ён нарадзіўся ў вёсцы Доўгае 11 сакавіка 1827 года. У навуку ішоў па сцежцы, пратаптанай старэйшымі братамі: закончыў Свіслацкую гімназію. Як мастак слова ён вядомы па гістарычных аповесцях, абразках і мемуарах “Брэсцкі канюшыц” (1875), “З паданняў і нататак” (1892), “Патурчэн-

цы" (1895), "З успамінаў кашталяніца" (1896) і іншыя творы. Каятан Крашэўскі выявіў сябе і як таленавіты музыкант (пісаў музыку, канцэрты, санаты, мініяцюры для фартэпіяна) і астраном-аматар (у вёсцы Доўгае заснаваў астранамічную абсерваторыю). Жыццёвая сцежка гэтага нашага славутага земляка абарвалася 1 ліпеня 1896 года.

## РЫГОР ШЫРМА
(20.02.1892–23.03.1978)

Рыгор Раманавіч Шырма, можна сказаць упэўнена, быў народжаны для песні. Як натура цэласная і мэтанакіраваная, ён зрабіў усё магчымае і немагчымае, каб беларуская песенная культура стала часткай еўрапейскага кантэксту. Рыгор Раманавіч вядомы ў свеце як харавы дырыжор, фалькларыст, грамадскі і музычны дзеяч, публіцыст і літаратуразнавец. Яго жыццёвая дарога пачалася ў вёсцы Шакуны Пружанскага павета 20 студзеня 1892 года. Бацькі будучага дырыжора былі звычайнымі руплівымі сялянамі, якія шанавалі песенныя традыцыі народа. Бацька і маці Рыгора ведалі шмат песень і спявалі, але сапраўднай майстрыцай-пявуннняй была яго цётка Захвея Хвораст (ад яе потым фалькларыст запісаў 150 народных песень). З дзяцінства ў душы Р. Шырмы запрадзілася незвычайная любоў да песні, якую падтрымалі хатні настаўнік Салук і выкладчык літаратуры Пружанскага гарадскога вучылішча Манцэвіч (вучыцца ў Пружаны хлопец збег употай ад бацькі). Вялізарнае уражанне на пятнаццацігадовага Рыгора аказаў хор Упраўлення імператарскіх удзелаў пад кіраўніцтвам рэгента Рутава, які ён пачуў у Гайнаўцы.

Паступова юнак пачынае занатоўваць беларускія народныя песні. Далейшы жыццёвы шлях нашага славутага земляка – паступовае набліжэнне да запаветнай мары. Пасля вучылішча замест паступлення ў юнкерскае вучылішча Рыгор Шырма паступае на двухгадовыя педагагічныя курсы ў Свянцянах, дзе рыхтавалі настаўнікаў пачатковай двухкласнай школы. Прадвызначыла выбар юнак не толькі жаданне вучыць дзяцей, але і тое, што там шмат увагі надавалася спевам і ігры на скрыпцы. Пасля вучобы на курсах ён пачынае настаўнічаць у Свянцянскім павеце, адначасова арганізоўвае хор і збірае песенны фальклор. Аднак Рыгора Шырму не пакідае жаданне самаўдасканальвацца і ён паступае ў Седльцы на літаратурны факультэт настаўніцкага інстытута. У час першай сусветанй вайны ён разам з інстытутам эвакутраваўся ў Яраслаўль, затым лёс прывёў яго ў Маскву, а потым у Варонеж. У гэты час ён арганізаваў хор і сам стаў яго дырыжорам, што дало магчымасць даваць канцэрты (грошы ішлі ў фонд дапамогі дзецям беларускіх бежанцаў). Шырма сутыкнуўся з адсутнасцю музычных апрацовак беларускіх народных песень.

У 1918 годзе Шырма становіцца байцом Чырвонай Арміі, але служыць яму прыйшлося нядоўга: ён быў дэмабілізаваны як настаўнік. Далей патрыяр[ беларускай музыкі быў накіраваны ў Нова-Хапёрскі павет Варонежскай губерні вучыць вясковых дзяцей. Аднак Рыгор Раманавіч не толькі займаецца настаўніцкай дзейнасцю, а яшчэ і арганізоўвае аматарскі хор, народны тэатр,



ставіць п’есы, выступае перад вяскоўцамі – па сутнасці гэта была прыступка ў стварэнні прафесійнага хору, які мог існаваць толькі на нацыянальнай глебе.

У 1922 годзе ён вяртаецца ў родныя мясціны, якія знаходзіліся на той час пад уладай Польшчы. Прыйшлося нават папрацаваць лесарубам на лесанарыхтоўках, пакуль не з’вілася магчымасць заняцца любімай справай. У Вільні на прыватныя сродкі адкрылася беларуская гімназія, у якой Р. Шырма ўладкаваўся настаўнікам беларускай мовы і спеваў. Шчыры патрыёт сваёй радзімы, улюбёны ў беларускую песню, робіць усё магчымае каб песня стала сродкам абуджэння нацыянальнай свядомасці. Ён пешшу падарожнічае па Заходняй Беларусі, збірае фальклорныя песні і мелодыі да іх. Рэпертуар хора Р. Шырмы ва ўмовах нацыянальнагу ўціску карыстаецца незвычайным поспехам. Шэраг твораў з рэпертуару хору пад кіраўніцтвам нястомнага прапагандыста беларускай песні “сцягам” нацыянальна-вызваленчага руху на “крэсах усходніх”. Такі асяродак беларускага адраджэння шавіністычныя ўлады Польшчы цярпець не маглі і настаўнік Шырма ў 1928 годзе быў звольнены з працы. Далей былі яшчэ большыя нападкі на актыўнага грамадскага дзеяча, які быў адным з кіраўнікоў Таварыства беларускай школы. Ён апынуўся за кратамі ў Лукішках па абвінавачванні ў камуністычный дзейнасці. Аднак гэта не спыніла нястомнага змагара з апалячваннем беларусаў і ён па-ранейшаму праводзіць канцэрты і спектаклі, якія прапагандуюць беларускаю культуру.

Акрамя гэтага Р. Шырма чытае лекцыі, піша артыкулы, у якіх горача адстойвае права беларусаў на мову, культуру, літаратуру і на нацыянальную школу: “Чаму мы дамагаемся роднае школы?”, “Ідэя волі ў паэзіі Якуба коласа”, “Матывы творчасці Максіма Танка”, “Мастацкая песня ў Заходняй Беларусі”, “Міхась Забэйда-Суміцкі і беларуская песня” і іншыя. У 1933 годзе Рыгор Раманавіч разам з Ф. Стацкевічам арганізаваў выданне часопіса “Летапіс ТБШ” (потым ён выходзіў пад назвай “Беларускі летапіс”). Ён падтрымліваў беларускіх мастакоў слова і дапамагаў ім выдаваць творы: быў рэдактарам і выдаўцом зборнікаў “Шум баравы” (1927), “З сялянскіх ніў” (1936) М. Васілька і “На этапах” (1936), “Журавіны цвет” (1937), “Падмачтай” (1938) М. Танка. Рыгор Шырма вельмі высока цаніў талент песняра заходнебеларускіх барыкад – Максіма Танка, пра якога ён у артыкуле “Дзве стыхіі” (1937) адзначыў: “Год таму назад прыйшоў ён у беларускую літаратуру “з сонечнай песняй гарачай”, “з сэрцам пявучым” іззаваніў сваімі вершамі на старонках беларускіх выданняў. Прыйшоў і заняў пачэснае месца ў грамадстве і адно з першых у нашай паэзіі. Прычына гэткага небывалага поспеху крыецца ў самабытнасці натуры паэта. Ён жыве радасцямі свайго народа, балюча адчувае ўсе яго нягоды, абураецца, кіпіць, кліча да барацьбы за долю, кляйміць няпраўду, будзіць надзеі”. Для школьных і самадзейных хораў Р. Шырма выдаў зборнікі “Беларускія народныя песні” (1929) і “Наша песня” (1938).

Уся гэта кіпучая дзейнасць была для Р. Шырмы толькі дапаўненнем да асноўнай працы жыцця – праца з хорам. У Вільні ён арганізаваў вучнёўскі хор пры беларускай гімназіі і студэнцкі хор пры Віленскім універсітэце. У рэпертур свайго хору маэстра ўключаў фальклорныя творы ў апрацоўках А. Грачаніна-

ва, М. Гайваронскага, К. Галоўскага і песні на словы беларускіх паэтаў “Лета” (муз. М. Аладава, сл. Я. Купалы), “Вечар” (муз. А. Таранкова, сл. М. Багдановіча), “Над раюю” (муз. М.Чуркіна, сл. Я. Коласа), “Песня батрака” (муз. А. Таранкова, сл. Я. Журбы). Намаганнямі Р. Шырмы беларускія песні загучалі на польскім радыё: у 1934 годзе слухачы Польскага радыё пачулі песні ў выкананні хору Р. Шырмы. У 1935 годзе з Італіі на радзіму вярнуўся М. Забэйда-Суміцкі і тады адбылося знаёмства і супрацоўніцтва таленавітых музыкантаў-землякоў. 15 сакавіка 1936 года ў Вільні ў рамках вечара беларускай паэзіі і песні адбыўся першы сумесны канцэрт М. Забэйды-Суміцкага і хору Р. Шырмы.

Нялёгкія выпрабаванні чакалі Рыгора Раманавіча пасля ўз’яднання ў 1939 годзе Заходняй Беларусі і БССР. У 1940 годзе ён арганізаваў ансамбль песні і танца, з якім у час Вялікай Айчыннай вайны падтрымліваў патрыятычны дух савецкай арміі. Аднак у 1942 годзе выдатны музыкант прайшоў праз катаванні на Лубянцы, дзе ён апынуўся па абвінавачанні ў нацыяналізме. Але і тут ён выстаяў. З 1944 года ён са сваім калектывам жыў і працаваў у Гродна, а ў 1952 годзе пераехаў на сталае жыхарства ў Мінск. У 1950 годзе яго ансамбль стаў Дзяржаўным хорам БССР, а ў 1957 – Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлай БССР. Ён таксама доўгі час узначальваў Саюз кампазітараў рэспублікі, з’яўляўся сакратаром Саюза кампазітараў СССР, быў старшынёй Беларускага аддзялення таварыства па культурных сувязях з суачыннікамі за мяжой, выбіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР. Падсумавала дзейнасць Шырмы-фалькларыста чатырохтомнае выданне “Беларускія народныя песні” (1959–1976).

У пасляваенны час Рыгор Шырма таксама звяртаўся да літаратуразнаўчага аналізу беларускага мастацтва слова, дзе вызначалася грамадская роля песні і літаратуры. Гэтыя артыкулы можна знайсці ў кнізе “Песня – душа народа” (1993) Пра дзейнасць Рыгора Шырмы на ніве літаратуразнаўства трапна выказаўся У. Калеснік: “У пасляваенных артыкулах і прамовах выступаў пасрэднікам паміж паэзіяй і музыкай, змагаўся за больш шырокае выкарыстанне кампазітарамі высокамастацкіх твораў беларускіх паэтаў дзеля ўзбагачэння нацыянальнай музычнай скарбніцы. Ад інтэнсіўнасці і змястоўнасці гэтага працэсу залежала, на яго думку, само існаванне беларускай культуры, захаванне нацыянальнай тоеснасці беларусаў, што апынуўшыся ва ўмовах аўтарытарызму на цывілізацыйных сутыках і пагранiччы паміж славянскім усходам і захадам, “размываліся” этнічна і духоўна”.

Памёр Рыгор Раманавіч Шырма 23 сакавіка 1978 года. Сёння Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла Беларусі з гонарам носіць імя Рыгора Шырмы. Памяць славутага земляка ўшанавалі і на радзіме, у Пружанах: у мясцовай музычнай школе адкрыты музей, прысвечаны яму. У Мінску на Усходніх могілках, дзе пахаваны народны пясняр, устаноўлены бронзавы бюст работы скульптара І. Місько.



## МІКОЛА ЗАСІМ

У вёсцы Шэні Пружанскага раёна 19 снежня 1908 года з’явіўся на свет паэт Мікола Арцёмавіч Засім. Няўмольны лёс адмераў таленавітаму творцу няпоўных 49 гадоў, але гэта былі гады надзвычай насычаныя падзеямі, як радаснымі, так і трагічнымі.

Зямлі ў сялянскай сям’і Засімаў было мала, таму бацьку будучага паэта прыходзілася часта наймацца грабаром. Калі пачалася першая сусветная вайна, то бацька ў рабочым батальёне вымушаны быў капаць акопы і бліндажы пад Бельскам. З набліжэннем да Пружанаў фронту сям’я Засімаў пакідае родныя мясціны і адпраўляецца ў бежанства. Прытулак яны знайшлі ў Расіі, каля Саратава: спачатку ў вёсцы Сасноўка, а потым у суседняй Злобаўцы. Матэрыяльна Засімам жылося нялёгка, таму Мікола не толькі вучыўся ў пачатковай школе ў вёсцы Папоўка, але нярэдка і зарабляў для сям’і капейку на зборы гародніны ў памешчыка Карбутоўскага. У школе з’явілася цікавасць да літаратуры, асабліва любімымі былі творы Крылова і Кальцова. Пад ўплывам іх і з’явіліся першыя пераймальныя творы. У 1921 годзе сям’я Засімаў, як і многія беларусы, вяртаецца ў зруйнаваныя вайной родныя мясціны, там падлетак пайшоў вучыцца ў польскую сямігодку (Пружаншчына пасля Рыжскага мірнага дагавору 1921 года адышла Польшчы). Міколу, як і многім яго суайчыннікам, прыйшлося перажыць не толькі галечу, але нацыянальны ўціск. Пратэст супраць гвалту над родным краем прывёў будучага мастака слова на заходнебеларускія барыкады і ён стаў актыўным змагаром за вызваленне радзімы. Шаснаццацігадовы юнак актыўна ўключыўся ў падпольную барацьбу: ён прымаў удзел у рэвалюцыйнай дзейнасці Шэнеўскай камсамольскай ячэйкі, якая праводзіла працу пад шыльдай легальнага гуртка Сялянска-рабочай Грамады. У 1925 годзе разам з камсамольцам Ляўковічам ён вывесіў у вёсцы на дрэве чырвоны сцяг. Тады ж адбыўся першы арышт, пасля якога Мікола на год апынуўся ў Пружанскай турме. Потым арышты ў жыцці Засіма сталі звычайнай з’явай. Пра той час паэт напіша ва ў спамінах: “Мяне часта арыштоўвалі, білі ў пастарунках і засценках дэфензівы, пагардліва называлі “Максіма Горкім”. За турэмнымі кратамі нарадзіўся першы верш мастака-самавука “Нас не зломіць турма!”

Моладзь Грамады не толькі займалася рэвалюцыйнай дзейнасцю, але ставіла перад сабой і асветніцкія мэты. Мікола разам з перадавой моладдзю Шэняў наладжваў спектаклі, якія з трыумфам праходзілі не толькі ў роднай і ў суседніх вёсках, а таксама і ў Пружанах (з 1930 па 1932 гады было праведзена 10 спектакляў). Ён таленавіта спяваў, выконваў камедыйныя ролі, іграў на балалайцы ў вясковым аркестры. Як загадчык вясковай бібліятэкі Таварыства беларускай школы (фонд налічваў паўтысячы кніг), Мікола Засім меў добрую магчымасць займацца самаадукацыяй. Ад сяброў і знаёмых юнак даставаў кнігі Я. Купалы, Я. Коласа, З. Бядулі, Цёткі, Крапівы, Чарота, трапіў яму ў рукі таксама і канфіскаваны зборнік М Танка “На этапах”.

Знаёмства з творчасцю гэтых мастакоў слова падштурхнула М. Засіма да

актыўнага асваення літаратурнай нівы. Першыя спробы пяра выявілі ў юнака здольнасці да літаратурнай творчасці. Літаратурны дэбют Міколы Засіма адбыўся ў 1928 годзе на старонках віленскага сатырычнага часопіса "Маланка" вершам "Ні кароўкі ні мандата", у якім высмейваўся пан-хітрэц, які хацеў падкупіць выбаршчыкаў, каб трапіць у польскі сейм. Друкаваўся паэт пад псеўданімамі Хлопец, Агонь, Ацот, М. Асот, Міз, Крывіцкі ў часопісах "Маланка", "Літаратурная старонка", "Асва", у газеце "Наша воля". Хутка яго творы сталі папулярнымі на "крэсах усходніх". Тэматыка вершаў заходнебеларускага перыяду была звязана з тымі падзеямі, якія адбываліся ў вёсцы і ваколіцах, таму яго творы падобны на допісы. Яго герой – гэта звычайны мужык-бунтар з дасціпным розумам і іранічным поглядам на падзеі, таму востры на слова. Творы паэта адрасаваліся прадстаўнікам сацыяльніх нізоў – заходнебеларускім сялянам. У гэты перыяд Мікола Засім выразна выявіў талент паэта-сатырыка, які шырока карыстаўся сатырычнымі прыёмамі адлюстравання рэчаіснасці. Нярэдка радкі яго твораў станавіліся афарызмамі:

*"Наша школа – мур за кратай,*
*Наш тэатр – то секвестратар,*
*Кіно наша – у шынку,*
*Воля наша – на шнурку".*
*"Пры панскай польшчы"*

Паэт-патрыёт заўсёды падкрэсліваў сынам якой зямлі ён з'яўляецца, як, напрыклад, у вершы "На з'езд заходніх беларускіх пісьменнікаў у горад Вільна ў 1932 г.": "Гэй, паэты вёскі й поля, // Я ваш сябра – Засім Коля, // З-пад Пружанаў, з вёскі Шэні". М. Засім на ўласным вопыце ведаў пакутлівую долю працоўнага чалавека, таму большасць яго твораў выкрываюць сацыяльныя супярэчнасці жыцця ў Польскай дзяржаве: "Налёт", "Парагвай", "Секвестратар", "Пры панскай Польшчы" і іншыя. Асэнсаванню свайго творчага крэда мастак прысвяціў вершы: "Паэту", "Дзе ні глянь..", "Не для тых пяю". У 30-я гады М. Засім рыхтаваў у друк зборнік паэзіі "Палын", які з-за цэнзурных перашкод так і не ўбачыў свет.

Аўтарытэт 
заваёваны на змагарскіх дарогах Заходняй Беларусі дазволіў Міколу Засіму пасля верасня 1939 года стаць старшынёй Шэнеўскага сельсавета. Паэт прыняў актыўны ўдзел у станаўленні савецкай улады на Пружаншчыне.

Вайна прымусіла Міколу Засіма зноў стаць на дарогу змагання. Змагаўся з ворагам ён не толькі зброяй паэзіі, аб чым і прагучала ў вершы "Паэту":

*"Пісаць пра волю – гэта мала,*
*Без справы слова – гэта грош,*
*Трэ, каб адна рука трымала*
*Пяро, другая – востры нож".*

Паэт з першых дзён вайны становіцца падпольшчыкам, а вершы той пары нагадваюць палітычныя лістоўкі. У сакавіку 1942 года Мікола Засім уступае ў адзін з першых партызанскіх атрадаў на Пружаншчыне. У снежні 1943 года ён быў назначаны інструктарам Антыфашысцкага камітэта Брэсцкай вобласці. Яго



антываенная паэзія прадстаўлена вершамі “1941”, “Пад ворагам”. Вайна адабрала ў паэта бацькоў, родных, блізкіх людзей, таму ў творчасці Міколы Засіма з’яўляюцца вершы-эпітафіі: “Светлай памяці бацькоў”, “Памяці партызана”, “На магілу партызану Аляксею Купрыянюку” і іншыя. У творах ваеннай пары адлюстроўваецца пераемнасць баявых традыцый на “крэсах усходніх” і змаганнем з фашыстамі. Яго вершы друкуюцца ў падпольных газетах “Зара” і “За Родину”. Па сутнасці М. Засім стаў партызанскім летапісцам свайго краю.

У 1944 годзе нястомны змагар быў назначаны намеснікам старшыні Пружанскага райвыканкама і на гэтай пасадзе ён быў да 1946 года. Затым была вучоба ў Рэспубліканскай партыйнай школе пры ЦК КПБ, пасля якой ён стаў працаваць у 1948 годзе ў брэсцкай абласной газеце “Зара”, а потым і ўраённай газеце “Заря над Бугом”.

У Брэсце паэт ўзначальвае абласное літаратурнае аб’яднанне і дапамагае многім маладым літаратарам стаць на ногі. Пра гэты перыяд яго жыцця скажа даследчык творчасці Міколы Засіма У. Калеснік: “Самы каштоўны ўрок з усіх, якія даваў Мікола Засім літаратурнай моладзі на Брэстчыне, – гэта прыклад. Мікола Засім увасабляў у вачах юнакоў і дзяўчат прыклад сапраўднага “жывога” паэта, які вырас на той жа зямлі, на якой раслі яны, і данёс яе клопаты і радасці да слыху ўсёй шматнацыянальнай краіны. Засім быў тутэйшым паэтам, якога хвалілі не толькі па-зямляцку Піліп Пястрак, але і Максім Танк і Аркадзь Куляшоў, а перакладаў і друкаваў у “Новом мире” Аляксандр Твардоўскі”.

Пры жыцці паэта выйшла толькі два яго зборнікі: у 1947 годзе – “Адшчырага сэрца” і ў 1954 годзе – “Вершы”. У пасляваеннай лірыцы гэтага аўтара ў пераважнай большасці славіцца гераізм беларускага народа ў гады ваеннага ліхалецця (“Дачка Радзімы”, “Масква з намі” і іншыя) і паэтызуецца мірная стваральная праца (“Герой працы”, “Касавіца”, “Думкі аб Волга-Доне” і іншыя).

Мікола Засім любіў прагульвацца па ціхіх вулачках горада над Бугам, у такія хвіліны добра думалася і натуральна ўзнікалі радкі вершаў, якія паэтызавалі прыгажосць абласнога цэнтра і яго гераічнае мінулае (вершы “На беразе Буга”, “Паглянь на Буг”, “Брэст”, “У Брэсце”, “На вуліцах Брэста”). Напрыклад, верш “На вуліцах Брэста” перадае радасна-узнёслыя пачуцці сапраўднага патрыёта, які душою адчувае еднасць з гэтым цудоўным горадам:

*“Ёсць у Брэсце вуліцы,*
*Дзе каштаны туляцца*
*Да дамоў дабротных кожнаю*
*вясной.*
*Калі белацветам*
*Сонейкам сагрэтым*
*Прыбяруцца, быццам снежнаю*
*фатой.*
*Колькі на тых вуліцах*
*Песняў мілых чуецца,*
*Калі дзеці ў школы рушаць*
*раніцой.*

*І праходзіш рады,*
*Бы зялёным садам,*
*Ды і сам падпеў-бы:*
*“Брэст, любімы мой...”*

Аднаку апошнія гады жыцця мацнела жаданне вярнуцца ў Пружанскі край, таму ў 1957 годзе Мікола Засім нават напісаў заяву ў літфонд з просьбай матэрыяльнай дапамогі для пабудовы дома ў вёсцы. Настальгія па родных мясцінах, па знаёмых з маленства сцежках і нарадзіла верш “Родная зямліца”:

“*Мая Пружанская зямліца!*
*Твае палі і сінь нябёс*
*Мне будуць бачыцца і сніцца,*
*Куды б мяне не кінуў лёс.*
*І хоць мне добра жыць у Брэсце, –*
*Ад працы й тут я не ўбаку, –*
*Ды дум маіх мне не адвесці –*
*Яны ў “Ленінскім шляху”...*
*Павер мне, мой бацькоўскі краю,*
*Як песні пра цябе пяю,*
*Здаецца мне – я засяваю*
*Насеннем родную зямлю”.*

Не стала па-свойму арыгінальнага і цікавага Пружанскага паэта 19 ліпеня 1957 года.

## ВІКТАР РЭЧЫЦ

З Пружанскага краю родам сатырык Віктар Трафімавіч Рэчыц. Яго жыццёвы шлях пачаўся з вёскі Альшаны 30 студзеня 1947 года. Дзякуючы сямейнаму выхаванню Віктар з маленства зразумеў што праца з’яўляецца жыццёвай неабходнасцю і яна ж можа прыносіць задавальненне. Яго бацька быў таленавітым майстрам-цесляром, які ставіў хаты, рабіў колы да вазоў. Будучы пісьменнік з задавальненнем дапамагаў бацьку: круціў спецыяльна змайстраваны станок.

Як і ўсе яго равеснікі-падлеткі кожнае лета Віктар Рэчыц пасвіў кароў і коз, што было заняткам нярэдка нудным, таму, каб час ішоў хутчэй, ён узяў з сабой нетыповыя для пастушка “цацкі”. У аўтабіяграфіі Віктар Трафімавіч потым напіша: “,,,Узяў з сабой аўтаручку і паперу і пачаў рыфмаваць словы. Вестка пра мой новы, не зусім звычайны занятак нейкім чынам дайшла да майго швагра. “А ты ў рэдакцыю верш пашлі, то яшчэ ганарар атрымаеш,” – параіў ён. Адкуль просты вясковы жыхар ведаў пра існаванне і выплату ганарару – загадка. Я паслухаўся швагра, даслаў у рэдакцыю пружанскай раённай газеты “Зара камунізму” нешта сатырычнае пра непарадкі ў нашай хаце-чытальні. Мой твор надрукавалі, што мяне моцна ўзрадавала. То была падзея, і яна стала паваротнай у маім жыцці”.

Захапленне паэзіяй прадвызначыла далейшы жыццёвы шлях і Віктар вы-



рашае паступаць на філалагічны факультэт, каб у далейшым стаць журналістам. Пасля заканчэння Ліноўскай сярэдняй школы ў 1965 годзе ён паступае на філалагічны факультэт Брэсцкага педінстыта. У час вучобы таленавіты юнак зарэкамендаваў сябе, як творчая асоба. Таму на першым курсе В. Рэчыц стаў намесніка рэдактара факультэцкай насценгазеты, а на другім – рэдактарам. Супрацоўніцтва з перыядычным друкам, у прыватнасці з часопісам "Вожык", пераканала маладога літарата, што для прафесійнага росту неабходна добра ведаць мому. З удзячнасцю пісьменнік-сатырык успамінае інстытуціх выкладчыкаў Карлава і Малажай, якія дапамагалі спасцігаць таямніцы беларускай мовы.

Талент Віктара быў заўважаны і яму на другім курсе Івацэвіцкі райкам партыі прапаноўвае працу ў рэдакцыі раённай газеты "Кастрычнік". Мара Віктара Рэчыца збылася, ён пераводзіцца на завочнае аддзяленне (закончыў вучобу ў інстытуце ў 1970 годзе) і поўнасцю аддаецца журналісцкай рабоце.

Праца ў рэдакцыі газеты "Кастрычнік" (потым была перайменавана ў "Івацэвіцкі веснік") была цікавай і дапамагала вывучаць жыццё, што для творчага чалавека вельмі важна. Акрамя гэтага малады журналіст актыўна ўключаецца ў камсамольскае жыццё: становіцца пазаштатным сакратаром райкама камсамола, начальнікам раённага штаба "Камсамольскага пражэктара". Яму нават прапаноўвалі перайсці на працу ў камсамол, але Віктар застаўся верны абранай прафесіі. Сорак гадоў ён аддаў журналістыцы і ніколі не шкадаваў аб абраным шляху. Пры рэдакцыі раённай газеты ён стварыў літаратурнае аб'яднанне "Узлёт", рыхтаваў выпускі, якімі цікавіліся не толькі літаратары, настаўнікі і вучні, але іашырокія колы чытачоў. Віктар рэчыц разам з іншымі івацэвіцкімі мастакамі слова выступаў на раённых мерапрыемствах, у школах, у прафтэхвучылішчы, прымаў удзел у рэспубліканскім семінары навуковай і творчай моладзі ў Светлагорску і ў семінары сатырыкаў і гумарыстаў у Магілёве.

Вершы, байкі, гумарэскі гэтага сатырыка рэгулярна радавалі чатачоў часопіса "Вожык", газет "Літаратура і мастацтва", "Чырвоная змена", "Сельская газета". Яраслаў Пархута настойліва раіў паэту-сатырыку выдаваць кніжку, але прыродная сціпласць доўгі час не давала яму гэтага зрабіць. Віктар Рэчыц вырашыў паказаць напісанае Уладзіміру Калесніку, але не паспеў. Толькі ў 1998 годзе выходзіць першы паэтычны зборнік сатыры і гумару "Залаты тавар". У 2004 годзе ўбачыў свет другі зборнік паэта "Свой метад". У 2007 годзе выйшаў зборнік "Далей ад граху", куды ўвайшлі як паэтычныя, так і празаічныя сатырычныя творы.

Смех гэтага аўтара мяккі, які не прыніжае годнасці чалавека, але ў той жа час ён бязлітасны ў дачыненні нячыстых на руку людзей. Сродкамі сатыры мастак змагаецца са злодзеямі (верш "Асечка", махлярамі (вершы "Метамамарфоза", "Зрошчванне"), хапугамі (верш "Родзтць бульба ў брыгадзіра"), уладалюбцамі ( верш "Кандыдатура") і аматарамі чужой славы (верш "Сааўтар"), падхалімамі (верш "Пачастунак")

Неяк Цыркуля спаткала
Прамакта і спытала:
– Кнігу Ручкіну чытаў ты?

Ну, то ведай: я – сааўтар.

– Ты пісаць дапамагала?

– Не, увесь час я прамакала.

В. Рэчыц неабыякавы да праблем у грамадскім жыцці, да таго, што перашкджае эфектыўна працаваць, таму ў сваіх творах высмейвае бюракратызм (верш “Пісулька за шклом”), лень, безгаспадарлівасць і няўменне эфектыўна працаваць (вершы “Цвёрды лоб”, “Падлога”, байка “Дзіця”). Напрыклад, мараль байкі “Дзіця” ляжыць на паверхні:

*“Дзіця – дзіцём... Ды ўсё ж, зазначу,*
*Дарослага я падабенства бачу,*
*Сёй-той з кіраўнікоў*
*Даць указанняў шмат гатоў,*
*А каб стварыць умовы выканаўцам,*
*Не паварушыць пальцам”.*

Для масавага чытача найбольш блізкімі будуць вершы і байкі на бытавыя канфлікты, дзе часта з гумарам паказваюцца сямейныя ўзаемаадносіны (вершы“Жончына вета”, “Аднадзённае каханне”, “Сямейны конкурс”, “Хітрая жонка” і іншыя).

***“Цыцэронія”***

*У знаёмай мне Агаты*
*Слоў у роце – ой, багата.*
*Каля кожнага слупочка*
*Гаварыла б аж да ночкі.*
*Вешае ўсім ярлыкі:*
*Той – такі, той – не такі...*
*...*
*Толькі ... слухаюць не ўсе,*
*Мо таму яе й трасе.*
*“Цыцэрону да Агаты –*
*Ой, далёка”, – кажуць жартам.*

Сучаснае жыццё, дзе на кожным корку мы бачым адхіленне ад спрадвечных норм маралі, у творах В. Рэчыца заслугоўвае найбольшай увагі. У сатырычным вершы “Астраном” высмейваюцца тыя, хто бяздумна давяраюць астралагічным прагнозам, а ў вершах “Як я стаў палiглотам”, “Герой праграмы” і “Усе шматсерыйныя” выкрываецца антымараль тэлебачання.

У многіх вершах Віктара Трафімавіча сатыра накіравана на сапраўдны біч нашага грамадства – п’янства (“Безадказны”, “Аддзячыла”, “У каго баліць галава”, “Выгада” і іншыя):

*– Вось ты гараж пабудаваў,*
*А дзе карысць, скажы, суседзе?*
*Бензіну маеш грам ці два,*
*Дык ці ж далёка ты заедзеш?*

*– Хачу паведаміць табе,*

 

*Што выгаду сваю мы маем.*
*Гараж – нібы кафэ цяпер:*
*Мы там раз-пораз выпіваем.*
*“Выгада”*

Некаторыя радкі яго вершаў могуць стаць сапраўдымі афарызмамі, як двухрадкоў’е “Стратэг”: “Ніколі Клім не памыляўся: // Заўжды з усімі ён згаджаўся”.

ІРЫНА АСТАПЧУК

Нарадзілася будучая паэтэса 15 снежня 1967 года ў вёсцы Бабінец Пружанскага раёна ў сялянскай сям’і. Жыццёвая дарога таленавітай дзяўчынкі пачалася ў вёсцы, якую, мабыць, не знойдзеш ні на адной карце Пружаншчыны, бо складалася яна з дзевяці хат, што прытуліліся да самай Белавежскай пушчы. У сем гадоў Ірына пайшла вучыцца ў Роўбіцкую сярэднюю школу, што знаходзілася за чатыры кіламетры ад Бабінца. Зімой кватаравала, а вясной і восенню хадзіла пехатой. Любімым прадметам у школе была літаратура. Цікавасць да мастацкага слова абудзіла настаўніца беларускай мовы і літаратуры, класны кіраўнік Мартысевіч Яўгенія Мікалаеўна. Першыя вершы, напісаныя на рускай мове і дасланыя ў “Зорьку”, у друку не з’явіліся.

У 1981 годзе газета “Піянер Беларусі” аб’явіла конкурс дзіцячых вершаў “Адрас сябра”. Ірына тады напісала верш на беларускай мове, які заняў першае месца ў конкурсе, і яе талент быў адзначаны двухтомнікам вершаў А. Пысіна. Гэтая перамога акрыліла. У 1982 годзе да 100-годдзя з дня нараджэння Я. Коласа і Я. Купалы быў напісаны верш “Песнярам Беларусі”, які таксама быў адзначаны ў раённым конкурсе юных паэтаў. У школьныя гады яе вершы часта з’яўляліся на старонках газет “Зорька” і “Піянер Беларусі”. Тады ж нечакана прыйшло захапленне фальклорам. Паэтэса працягнула традыцыі Р. Шырмы: яна збірала і запісвала беларускія народныя песні, і ў раённай газеце з’явіліся нататкі “Песня-душа народа”.

У 1985 годзе пасля заканчэння сярэдняй школы паступіла ў Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя М. Горкага на філалагічны факультэт. Там захапленне вершамі падтрымаў выкладчык методыкі выкладання беларускай літаратуры Мікалай Іванавіч Мішчанчук. З 1995 года і да цяперашняга часу яна працуе настаўніцай беларускай мовы і літаратуры ў СШ № 4 горада Пружаны. Вершы паэтэсы друкуюцца ў Пружанскай газеце “Раённыя будні”.

Ірына Астапчук па-сапраўднаму любіць сваю прафесію, яна не бачыць сябе без педагагічнай дзейнасці, пра гэта яна гаворыць у вершах “Азёры вачэй”, “Маім першым выпускнікам” і іншых.

Цэлая нізка вершаў паэтэсы прысвечана тэме кахання: “Неба дрыготкімі свечкамі...”, “Каханы мой, не папракай мяне...”, “Ліпень п’яніў нас сваёю духмянаю шчодрасцю...” Для паэтэсы каханне гэта Божы дар, які не кожнаму даступны чалавеку, таму ў пераважнай большасці твораў каханне не толькі акрыляе лірычную гераіню, але і дае адчуванне адзіноты і непаразумення.

Ірына Астапчук пішf для таго, каб аддаць даніну любові бацькам і зямлі, якія яе згадавалі. Патрыятычная лірыка яе прадстаўлена вершамі “Бацькам”, “Яшчэ...”, “Ступаю зноў на родны двор...”, “Прайшло, мінулася, як светлы сон...”, “Хворай маці”, “Шчыруе жнівень, якруплівы гаспадар...” Большасць яе вершаў, прысвечаны малой радзіме, вобраз якой непарыўна звязаны з бацькамі. У вершах гэтай аўтаркі найчасцей радасць сустрэчы з бацькоўскім домам цесна пераплятаеца з пачуццём настальгіі па маладосці.

*“Ступаю зноў на родны двор,*
*Зноў лашчыцца трава пад босымі нагамі,*
*Устрапянецца груша вэлюмам-галлём,*
*І ластаўкі на правадах вітаюць галасамі.*

*Я п’ю ўзахлёб забыты, родны пах,*
*Зноў заскрыпіць маснічына знаёма.*
*Хлеб на стале, збаночак з малаком,*
*Глядзіць пад ручніком старэнькая ікона .*

*Пайду сцяжынкай вузкай да хлява,*
*Пачую звонкае цурканне сырадою,*
*Убачу постаць маміну здалёк,*
*І здасца мне яна*
*такою маладою...*

*Да болю роднае,*
*знаёмае, сваё.*
*Яно душу трывожыць,*
*цепліць сэрца...*
*Калі ступаю я*
*на родны двор,*
*Ізноў жыву ўспамінамі*
*маленства”.*

Ірына Уладзіміраўна Астапчук жыве ў горадзе Пружаны.

## МІКОЛА КУПРЭЕЎ
(25.05.1937–17.09.2004)

Для Міколы Сымонавіча Купрэева – сына Гомельшчыны, Пружаншчына стала другой радзімай. Ён нарадзіўся ў вёсцы Ямнае Рагачоўскага раёна Гомельскай вобласці ў сям’і настаўніка пачатковай школы. Вайна апаліла дзяцінства будучага паэта і забрала маці, і гэтыя трагічныя старонкі біяграфіі неаднойчы знойдуць адлюстраванне ў яго творах. Пасля вайны Купрэевыпераяжджаюць жыць на Брэстчыну. У вёску Старыя Пяскі Бярозаўскага раёна, дзе Мікола пайшоў у школу. У школьныя гады у М. Купрэева пачалі выяўляцца літаратурныя здольнасці, ён у пятым класе напісаў верш пра Першамай і адправіў



у “Піянер Беларусі”. Верш не быў надрукаваны, але затое падлетак атрымаў ліст за подпісам Анатоля Астрэйкі. У гады вучобы ў школе яго вельмі ўразіла і захапіла паэзія А. Блока і М. Багдановіча, што паспрыяла творчаму росту. А ў 9 класе ён ўдзельнічаў ў абласной нарадзе маладых пісьменнікаў. Мініяцюры юнака атрымалі станоўчы водкуг ад самога Янкі Брыля – прызнанага майстра гэтага жанру. Падтрымка старэйшага калегі стымулявала далейшыя пошукі на літаратурнай ніве і ў хуткім часе на старонках альманаха “Советская Отчизна” (зараз часопіс “Нёман”) з’явіліся абразкі пачаткоўца. У 1957 годзе ён пачынае актыўна займацца творчасцю. Вершы пісаў ён беларускай мове, а прозу – на рускай, за што прызнаваўся пазней было сорамна. У гэтым жа годзе юны паэт заканчвае Івацэвіцкую сярэднюю школу.

Захапленне літаратурай прывяло Купрэева на філалагічны факультэт Брэсцкага педінстытута. Вучоба ў інстытуце была нядоўгай: малады паэт пакідае вучобу і едзе да цёткі ў Растоўскую вобласць, дзе працуе каменячосам. Пасля вяртання на Брэстчыну паэт пэўны час працаваў рабочым у геолагавышуковай партыі, пакуль не аднавіўся на першым курсе інстытута. У студэцтве ён напісаў аповесць “Бродят на рассвете юные”, якую чыталі Янка Брыль і Барыс Бур’ян і ў цэлым ухвалілі, але аўтар яе потым знішчыў.

У 1962 годзе, атрымаўшы дыплом педагога, М. Купрэеў едзе працаваць на Палессе. Ён далучаў дзяцей да чароўнага свету літаратуры ў Ляхавіцкім, Ганцавіцкім, Пінскім раёнах. Яму заўсёды шанцавала на таленавітых вучняў, для якіх ён стаў не толькі школьным, але і літаратурным настаўнікам. Так, у Чудзінскай сярэдняй школе, дзе ён працаваў завучам і выкладаў літаратуру, вучнем быў Алесь Каско, які потым стаў вядомым паэтам. У Пінскай вёсцы Сташаны паэту давялося вучыць Міколу Антаноўскага і Анатоля Шушко – сёння аўтараў шэрагу зборнікаў паэзіі, а тады менавіта прыклад настаўніка падштурхнуў іх да першых літаратурных проб.

У шасцідзесятыя гады М. Купрэеў плённа асвойваў літаратурную ніву і ў 1967 годзе выходзіць зборнік паэзіі “Непазбежнасць”. Яго паэзія выгадна вылучалася сярод твораў з публіцыстычнай рыторыкай, якія ў пераважнай большасці ўслаўлялі сацыялістычны лад і партыю. У паэзіі гэтага аўтара заўсёды пераважалі медытатыўныя лірычныя маналогі са спавядальнымі інтанацыямі. Вершы аўтара зборніка “Непазбежнасць” агаляюць праўду жыцця, раскрываюць патаемныя куточкі душы лірычнага героя, які з’яўляецца патрыётам і ў той жа час адкрыты сусвету.

Не без дапамогі Міколы Антаноўскага ўдалося ўладкаваць паэта і вечнага вандроўніка на пасаду настаўніка Папялёўскай сярэдняй школы – у вёсцы на самай мяжы з Белавежскай пушчай. Тут, на другім паверсе прасторнага, пабудаванага яшчэ за польскім часам са смольнай пушчанскай сасны дома, сядзеў Мікола Купрэеў над рукапісам сваёй другой кнігі вершаў “Правінцыйныя фантазіі”. Яна пабачыла свет у 1995 годзе ў выдавецтве “Мастацкая літаратура” і стала прыкметнай з’явай у беларускай паэзіі. Настолькі прыкметнай, што Саюз беларускіх пісьменнікаў адразу ж вылучыў зборнік на атрыманне Дзяржаўнай прэміі імя Я.Купалы. На жаль, насуперак рашэнню камітэта па прысуджэнні

дзяржпрэмій у галіне літаратуры "добразычліўцы" ў вышэйшых юлах улады не дазволілі ўганараваць беднага правінцыйнага паэта: ці не ўпершыню за ўсю гісторыю ў той год самая прэстыжная пісьменніцкая прэмія так і не была ўручана. Саюзу пісьменнікаў нічога не заставалася, як прысудзіць Мікол у Купрэеву Літаратурную прэмію імя А.Куляшова.

Пасля жыцця ў вёсцы Папяліна Пружанскага раёна паэт пераехаў у Пружаны. У раённым цэнтры М. Купрэеў адчуваў сябе вельмі няўтульна ў параўнанні з маляўнічымі мясцінамі на ўскрайку Белавежскай пушчы. Тым больш, што шмат часу з-за зяжкай хваробы прыходзілася праводзіць у тубдыспансеры ў Вярховічах. Жыццёвы шлях таленавітага мастака слова абарваўся 17 верасня 2004 года ў вёсцы Лясная каля Баранавічаў, дзе ён дажываў свой век у доме састарэлых. Пахаваны Мікола Сымонавіч у прыгарадзе Івацэвічаў у Міхневічах. На магіле яго сябры паставілі помнік, на якім ружанскі мастак Юрый Малышэўскі выбіў барэльеф Міколы Купрэева і словы яго верша: "О, як я многа хацеў вам сказаць..."

На Берасцейскім Палессі Мікола Купрэеў сфарміраваўся як паэт-грамадзянін. У развітальным слове з сябрам Аляксей Філатаў шчыра адзначыў: "У першым сваім зборніку "Непазбежнасць" ён звяртаўся да чытача са словамі "Я хацеў вам сказаць. О, як многа я хацеў вам сказаць..." І сказаў – абвострана-пачуццёва, арыгінальна, філасофскі-заглыблена, лірычна-ўлюблёна ў родны кут, у Беларусь". У вершы "Ці будзе ноч апошняй элегіі" аўтар выразна акрэсліў сваё творчае крэда:

*"О ноч маіх вершаў!*
*Гімнаў не будзе.*
*Шэптам грымне элегія.*
*Нікога яна – не хвалюйцеся – не разбудзіць:*
*на тое – элегія...*

*Людзі ніколі тугі не шукалі,*
*людзі шукалі радасць.*
*Калі ж вочы людскія засумавалі,*
*значыць, туга – не*
*нечаканасць".*

Верш "Роднае поле падступіць да горла" раскрывае ўсю глыбіню пранікнёнасці мастака ў сутнасць чалавечага быцця, у якім жыццё без радзімы не можа быць паўнавартасным:

*"Роднае поле падступіць да горла,*
*родным вось-вось захлынешся паветрам,*
*веццем бярозы завяжуць дарогу*
*на апошнім тваім кіламетры –*
*тады стань на калені*
*на доле зялёным*
*і ў радзімы прасі, як у Бога:*
*"Не трэба мне больш нічога*



*дзякуй за поле.*
*І ў далях далёкіх,*
*куды адвязуць мяне ціха,*
*мне цяжка не будзе*
*будзе вечна і лёгка*
*тваё зерне ў зямлі свяціцца"*

Патрыятычная лірыка гэтага паэта пазбаўлена штучнай пафаснасці, але ў ёй выразна акрэсліваецца пазіцыя патрыёта, які неабыякавы да мінулага сваёй радзімы і пакутліва разважае аб яе будучыні (вершы "Вяртанне аблудных сыноў (1772–1992)", "Чэрап Каліноўскага", "Летувіскі хутарок", "1864" і іншыя). У вершах пра гістарычнае мінулае, у тым ліку і пра падзеі Вялікай Айчыннай вайны, на першым плане самаахвярны герой-патрыёт. Не важна гэта вядомы правадыр ці звычайны воін, але яго вобразам аўтар сцвярджае гуманістычныя прынцыпы – самакаштоўнасць чалавечага жыцця, адмаўленне насілля, права кожнага чалавека на асабістае шчасце:

*"Ішлі над Дняпром партызаны*
*і больш ісці не маглі.*
*Балюча смылелі раны,*
*Гарэнілі мазалі.*
*<…>*
*Пад маладымі сасёнкамі селі,*
*Прыціхлі былыя раны.*
*І на ўвесь свет засапелі*
*соладка партызаны.*
*Быў сон іх трагічны, апошні.*
*Ў іх кінулі тры гранаты.*
*З шасцярых толькі самы малодшы*
*Расплюшчыць паспеў вачаняты".*
*Верш "Балада пра партызанскія чаравікі".*

Шмат часу М. Купрэеў праводзіў у вандроўках па Палессі. Таму прырода для гэтага арыгінальнага паэта стала крыніцай не толькі паэтычнага, але і жыццёвага натхнення, і нярэдка лірычны герой вершаў М. Купрэева зліваецца з прыродай, становіцца арганічнай яе часткай. Напрыклад, у вершы "Воўк" выразна прасочваецца тоеснасць вандроўнага і адзінока жыцця ляснога звера з духоўнай адзінотай і адчужанасцю, характэрнай многім таленавітым творцам:

*"Акно вечарэе. Каліна цвіце.*
*Хмара над хатай расце.*
*Ліпа трывожна шуміць.*
*Нехта пад ліпай стаіць.*
*Вочы гараць. Можа ў хату пусціць?*
*Хай у кутку паляжыць?*
*Нехта шкрабецца паціху ў акно.*
*Пытаюся: "Хто?"*
*Шэпча: "Я – воўк. Пусці.*

*Холадна спаць у трысці”.*
*Я хату яму адчыніў.*
*Старэнькі кажух пасцяліў.*
*Панюхаў кажух ён, сказаў:*
*“Пахне авечкай маёй.*
*Авечка была маладой –*
*не здужаў яе, не ўзяў”.*
*Мы разам з ваўком ляглі*
*на харошай авечай зямлі.*
*І чуў я ўсю ноч праз сон:*
*па-чалавечы плача ён.*
*... світае акно. І каліне цвіце.*
*Воўк па дарозе ў пушчу брыдзе.*

Плённа працаваў М. Купрэеў у галіне прозы, яго пяру належаць наступныя аповесці: “Дзіцячыя гульні пасля вайны” (1995), “Імгненне светлае” (1996), “Па вуліцы Карла Маркса з Паэтам” (1997), “Палеская элегія” (1998), “Рэчкаю плывём. Плывём...” (1999), “Пастух у Космасе” (2002), “Лісты з млына” (2004).

І вось толькі нядаўна, напрыканцы 2007 года, дзякуючы намаганням найперш Леаніда Галубовіча, у Мінску асобнай кніжкай выйшлі пяць першых аповесцей М.Купрэева пад агульнай назвай “Палеская элегія”.

Творчы партрэт Міколы Купрэева, напэўна, будзе няпоўным, калі не ўзгадаць пра шматлікія публікацыі яго вершаў у маскоўскай “Литературной газете”, часопісе “Дружба народов”, перакладаў паэзіі і прозы на балгарскай мове…

## МАРГАРЫТА ГАРАВАЯ

Паэтэса Маргарыта Іванаўна Гаравая (дзявочае прозвішча Казловіч) нарадзілася ў горадзе Пружаны 28 красавіка 1955 года ў сям'і служачых. Бацька, Казловіч Іван Данілавіч, працаваў старшынёю Пружанскага гарсавета; маці, Аляўціна Захараўна, – спецыялістам райсельгасаддзела. У 1956 годзе бацьку будучай паэтэсы назначаюць другім сакратаром Бярозаўскага райкама КПБ і сям'я Казловічаў пераяжджае на сталае жыхарства ў горад Бяроза. З дзяцінства Маргарыта навучылася па-сапраўднаму цаніць высокамастацкую літаратуру. Яшчэ ў пяцігадовым узросце з дапамогай бабулі Клаўдзіі Аляксандраўны і старэйшай сястры Ларысы яна навучылася чытаць, таму ў дзяцінстве яна чытала вельмі шмат. У гады вучобы ў СШ № 1 г. Бярозы (1962–1972) дзяўчыну ўсё больш і больш захопліваў незвычайны свет мастацкай літаратуры. Да дзесяцігадовага ўзросту яна пазнаёмілася з кнігамі Ж. Верна, Ф. Купера, М. -Рыда, М. Прышвіна, Л. Касіля, Э.-Л. Войніч, Р. Джаваньёлі і іншых аўтараў. Аднак самымі любімымі сталі паэтычныя творы А. Пушкіна. Чытаючы адну за другой казкі і паэмы гэтага мастака слова, яна паступова спасцігала гармонію паэтычнага слова і пад уплывам творчасці аўтара “Казкі пра цара Салтана” пачала пісаць вершаваныя казкі. Да 8 класа Маргарыта стала прызнаным школьным паэтам. Літаратурны талент пачынаючай паэтэсы падтрымала настаўніца



беларускай мовы і літаратуры Ганна Канстанцінаўна Жыжко, якая арганізавала літаратурны гурток для таленавітых старшакласнікаў. Члены гуртка выпускалі літаратурны альманах "Узлёт", дзе друкаваліся і вершы Маргарыты. Менавіта Г.К. Жыжко параіла дзевяцікласніцы прапанаваць падборку вершаў у літаратурную старонку "Крыніца" Бярозаўскай раённай газеты "Маяк камунізма". Так маладая паэтэса прыйшла ў літаратурнае аб'яднанне "Крыніца". Арганізатарам і кіраўніком гэтага літаратурнага аб'яднання быў таленавіты журналіст Яўген Васільевіч Сяленя. З "Крыніцы" выйшлі такія знакамітыя мастакі слова як Алесь Разанаў, Раіса Баравікова, Ніна Мацяш, Віктар Супрунчук, Зінаіда Дудзюк і іншыя. Літаратурнаму росту Маргарыты Казловіч спрыялі творчыя сустрэчы ў калектывах вучэбных установ, прадпрыемстваў і арганізацый раёна, абмен літаратурным вопытам з літаб'яднаннямі суседніх раёнаў. На ўсё жыццё членам літаб'яднання запомніліся сустрэчы з вядомымі пісьменнікамі Максімам Танкам, Янкам Брылём, Сяргеем Грахоўскім, Уладзімірам Калеснікам, Анатолем Грачанікавым, Язэпам Семяжонам, якія арганізоўваў першы сакратар Бярозаўскага райкама КПБ П.Л. Лебедзеў – чалавек мудры, таленавіты і ўлюбёны ў літаратуру.

У 1971 годзе адбыўся літаратурны дэбют маладой паэтэсы: у выпуску "Крыніцы" быў надрукаваны верш "Гимн осени". На працягу наступных 1971–1973 гадоў там жа былі надрукаваны шэраг вершаў Маргарыты Казловіч "Красная песня", "Выпускнику", "Если во льдах вдруг огонь разожжешь…", "Разве есть прекраснее слова!" і іншыя, якія вельмі прыхільна былі сустрэты чытачамі.

Восенню 1972 года Маргарыта разам з маладым журналістам газеты "Маяк коммунизма" Святланай Алексіевіч (сёння гэта сусветнавядомая пісьменніца – аўтарка "Чарнобыльскай малітвы", "Цынкавых хлопчыкаў" і іншых твораў) прадстаўляла Бярозаўскі раён на абласной літаратурнай канферэнцыі, дзе яе вершы атрымалі высокую ацэнку ад вядомых паэтаў.

У 1973 годзе М. Казловіч паступае на гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Францыска Скарыны. У 1978 годзе яна паспяхова закончыла вну і атрымала дыплом па спецыяльнасці "гісторык, настаўнік гісторыі і грамадазнаўства". Аднак, нягледзячы тое, што яе дыпломная праца была ацэнена на "выдатна" і рэкамендавана ў друк, Маргарыта Гаравая не была размеркавана на працу. Дэкан факультэта вырашыў, што выпускніца, якая выйшла замуж за гамельчаніна (1974), сама знойдзе працу. Таму маладому спецыялісту прыйшлося папрацаваць і піянерважатай у школе, і выхавацелем дзіцячага сада. Супрацоўніцтва з мнагатыражнай газетай Гомельскага радыёзавода "Ударный труд" (заснавана ў 1980 годзе) дапамагло Маргарыце Іванаўне знайсці працу па душы. Яе артыкулы і вершы былі заўважаны і ў чэрвені 1982 года М. Гаравая пачынае працаваць карэспандэнтам завадской радыёгазеты, а ў 1988 годзе становіцца яе рэдактарам. Увесь гэты час яна актыўна друкуецца ў завадской мнагатыражцы не толькі як журналіст, але і як паэт. У 1989 годзе тэматычная перадача завадскога радыё "О перестройке в полный голос", падрыхтаваная М. Гаравой, заняла першае месца на рэспублі-

канскім радыёконкурсе СМІ прадпрыемств радыёэлектронікі. У 1995 годзе яна была назначана рэдактарам аб'яднанай рэдакцыі мнагатыражнай газеты "Голос" і завадскюга радыёвяшчання Гомельскага радыёзавода. У кастрычніку 1996 года Маргарыту Іванаўну назначаюць галоўным спецыялістам па інфармацыі Адміністрацыі савецкага раёна горада Гомеля. У гэты перыяд яе вершы друкаваліся ўмясцовых газетах "Советский район", "Гомельская правда" і гісторыка-культурным і літаратурна-мастацкім часопісе "Палессе".

У кастрычніку 1977 года Маргарыта Гаравая вяртаецца на Брэстчыну, у горад Бяроза. Яна пачынае працаваць галоўным спецыялістам райаддзела статыстыкі і аналізу па перапісу насельніцтва і ўзнаўляе супрацоўніцтва з раённай газетай "Маяк". У выпусках "Крыніцы" зноў пачынаюць друкавацца яе творы. З 1999 года яна становіцца штатным супрацоўнікам рэдакцыі раённай газеты "Маяк", дзе да гэтага часу працу загадчыцай аддзела сацыяльных праблем. Вершы Маргарыты Гаравой рэгулярна з'яўляюцца на старонках часопіса "Гаспадыня" і газет "Вечерний Брест", "Брестский курьер". У 2001 годзе пабачыў свет зборнік вершаў паэтэсы "Ареал любви".

Гэтая таленавітая паэтэса з Палесся аддае перавагу вершам і паэмам. Дзве паэмы – "Почаевский дневник" (2006) і "Снова в Феодосии" (2007) былі апублікаваныў газеце "Маяк". Рыхтуецца да выхаду новы зборнік вершаў М. - Гаравой "Dum spiro…" ("Пока дышу…").

Скразной тэмай паэзіі Маргарыты Гаравой з'яўляецца тэма любві. Любоў у яе творах – пачуццё ўсеабдымнае, без якога чалавек страчвае ўсякі сэнс жыцця. Менавіта таму ў вершах гэтай паэтэсы гучаць хрысціянскія матывы, а творы на біблейскія сюжэты абуджаюць у чалавека жаданне духоўнага ачышчэння.

## ВІКТАР ЛЮКЕВІЧ

Віктар Васільевіч Люкевіч - кандыдат філалагічных навук, прафесар кафедры рускай і замежнай літаратуры Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта імя А.А. Куляшова. Нарадзіўся будучы даследчык літаратуры 16 студзеня 1937 года ў вёсцы Непамацынаўка. Назва вёскі паходзіць ад імя святога, які ўшаноўваецца каталікамі, аднак род Люкевічаў быў праваслаўным і ніякіх адносін да шляхты не меў. Продкі Віктара Васільевіча былі звычайнымі сялянамі-працаўнікамі. З маленства Віктар далучаўся ў сям'і да кніжнай навукі. Ужо ў 3 гады яго маці навучыла дэкламаваць вершы рускіх паэтаў. Яшчэ да школы хлопец асвоіў грамату і чытаў творы А. Пушкіна, аўтараў пачатку XX стагоддзя, кнігі на польскай мове, якія былі ў хатняй бібліятэцы. Дзяцінства В. Люкевіча было азмрочана вайной: ужо ў першы год яго родная хата была спалена фашыстамі, таму прыйшлося пераехаць жыць у суседнюю вёску Сухопаль (вярнуліся ў родную вёску ў 1946 годзе, калі на папялішчы адбудавалі хату). На ўласныя вочы ён бачыў, што значыць славуты нямецкі парадак. У апошні ваенны год хлопец пайшоў у школу, дзе найбольш уразілі ўрокі роднай літаратуры, настаўніца цудоўна ведала беларускую літаратуру і прывівала любоў да яе дзецям. У школь-



ныя гады шмат чытаў твораў рускай, беларускай, перакладной украінскай літаратуры: усё што было ў фондах Сухопальскай бібліятэкі і часопісах “Новый мир” і “Полымя”, што выпісваліся там. Віктар, як і многія маладыя людзі пачаў пісаць вершы, але гэты занятак не стаў сур’ёзным захапленнем жыцця.

Пасля заканчэння школы юнак вырашае забяспечыць сабе матэрыяльную базу, каб яго далейшая вучоба не залежала ад дапамогі бацькоў. Таму Віктар Люкевіч стаў студэнтам Брэсцкага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А.С. Пушкіна ў 1955 годзе пасля гадовай працы на Мінскім трактарным заводзе. Здольнасці абітурыента з вёскі Непамацынаўка адзначыў У.А. Калеснік і юнак паступіў на аддзяленне беларускай мовы і літаратуры. З удзячнасцю ўспамінае прафесар таленавітыя і цікавыя лекцыі У. Калесніка і А. Рубцова. Першы ўражваў філасофскай і эстэтычнай глыбінёй аналізу літаратурных тэкстаў, жыццёвай мудрасцю і грунтоўнасцю разважанняў па самых розных праблемах. Другі – лектарскім артыстызмам, дэмакратызмам, нетрадыцыйнай інтэрпрэтацыяй тэкстаў рускай літаратуры XIX–пачатку XX стагоддзяў.

Пасля атрымання дыплома настаўніка Віктар Васільевіч выкладаў рускую і беларускую мовы і літаратуры ў школах Лунінецкага, Пружанскага і Бярозаўскага раёнаў з перапынкам на службу ў войску. У 1964 годзе ён становіцца аспірантам БДУ, аднак давучваўся ў аспірантуры Віленскага універсітэта. У 1975 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю.

З 1967 года В. Люкевіч выкладаў літаратуру ў Мазырскім педінстытуце. У 1977 годзе перайшоў на працу ў Магілёўскі педінстытут (сёння гэта універсітэт), дзе працуе і да гэтага часу. Зараз ён займае пасаду прафесара кафедры рускай і замежнай літаратуры Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта імя А.А. Куляшова (пэўны час ўзначальваў гэтую кафедру). В. Люкевіч аўтар 140 навуковых публікацый на рускай, беларускай і літоўскай мовах. Ён аўтар дапаможнікаў “Очерки по истории русской литературы XIX–XX веков (1999)”, “Проблемы реализма в русской литературе рубежа XIX–XX веков” (2002). Віктар Васільевіч даследуе рускую літаратуру Сарэбранага стагоддзя, руска-беларускія і беларуска-літоўскія літаратурныя ўзаемасувязі.

## УЛАДЗІМІР ЧЭРНІК

Уладзімір Рыгоравіч Чэрнік – таленавіты паэт, які лічыць Пружаншчыну сваёй радзімай, выдае ўжо трэці зборнік паэзіі. У прадмове да зборніка “Вы...” Анатоль Крэйдзіч справядліва акрэсліў, чым прыцягнуць увагу творы гэтага мастака слова нават самага патрабавальнага чытача: “Вытанчанасць рыфмы, рытма, вастрыня пачуццяў, сталасць і выразнасць думкі – вызначальныя асаблівасці паэзіі Уладзіміра Чэрніка. Большасць яго твораў – аб Жанчыне, аб Каханні, многія ўваскрашаюць старажытныя легенды трагічнай Элады”.

З’явіўся на свет будучы паэт 5 лютага 1935 года ў вёсцы Вялічкавічы (зараз гэта Кобрынскі раён) у беднай заходнебеларускай сялянскай сям’і. Талент мастака слова Уладзір атрымаў у спадчыну ад сваіх бацькоў. Бацька будучага паэта быў па тым часе добра адукаваным чалавекам: ён закончыў 4

класы народнага вучылішча і валодаў майстэрствам разказчыка. Нярэдка ў доме Чэрнікаў збіраліся аднавяскоўцы, каб паслухаць, як Рыгор Іванавіч памайстэрску чытае творы М. Гогаля або Г. Сянкевіча. Добрай разказчыцай была і непісьменная маці Уладзіміра Рыгоравіча – Надзея Трафімаўна. Пружанскі паэт з удзячнасцю ўспамінае бацьку і яго брата Фёдара, якія ўжо ў чатыры гады навучылі Валодзю чытаць і прывілі любоў да літаратуры.

У 1953 годзе Уладзімір Чэрнік паступае на філалагічны факультэт Брэсцкага педагагічнага інстытута, дзе авалодваў прафесіяй настаўніка рускай мовы і літаратуры, а потым затрымаўся яшчэ на адзін год у гэтай навучальнай установе, каб стаць яшчэ і настаўнікам беларускай мовы і літаратуры. У студэнцкія гады завязалася шчырае сяброўства з выкладчыкам біялогіі і хіміі Міхалам Якаўлевічам Асам, які любіў літаратуру, і пазнаёміў юнака з еўрапейскай класікай: творамі Кафкі, Рыльке, Майренге і іншых мастакоў слова. У студэнцыя гады юнак Чэрнік прыймаў актыўны ўдзел у інстытуцкім драмкружку, дзе іграў ролю Хлестакова ў Гогалеўскім “Рэвізоры”. На сцэну разам з ім выходзілі студэнты Уладзімір Гніламёдаў (потым стане акадэмікам, доктарам філалагічных навук) і Вера Ляшук (стане прафесарам, кандыдатам педагагічных навук).

Пасля атрымання вышэйшай адукацыі ў 1958 годзе Уладзімір Рыгоравіч выкладаў дысцыпліны філалагічнага профілю ў розных куточках Палесся на Івацэвіччыне і Піншчыне. У 1967 годзе малады педагог трапляе на Пружанчыну, дзе і пачалося яго ўзыходжанне на літаратурны Парнас. Дзесяць год У. Чэрнік працаваў дырэктарам у в. Галены Пружанскага раёна, затым быў завучам у школе в. Клепачы і далучаў моладзь да літаратуры да выхаду на пенсію ў 2000 годзе у Мараўскай школе.

Для станаўлення Уладзіміра Чэрніка як паэта многае дало сяброўства з рэдактарам Пружанскай раённай газеты “Раённыя будні” М. Антаноўскім. Уладзімір Рыгоравіч нават пераклаў 19 вершаў з беларускай на рускую мову са зборніка паэзіі сябра “Падсочаны бор”. Першы зборнік паэзіі паэта з вёскі Клепачы выйшаў толькі 1998 годзе і называўся ён “Оборванные струны”. У 2005 годзе быў надрукаваны зборнік У. Чэрніка “Закатные сполохи”, а ў 2007 годзе пабачыў свет зборнік “Вы...” У апошнюю кнігу паэзіі ўвайшлі лепшыя творы розных гадоў і тыя, што яшчэ нідзе не публікаваліся.

Цэнтральнай і самай галоўнай ў творчасці аўтара зборніка “Закатные сполохи” выступае тэма кахання – усеабдымнага і высокага пачуцця. Уладзімір Рыгоравіч апявае фізічную і духоўную прыгажосць Жанчыны, якая стала для паэта музай і сэнсам жыцця:

*“Повально удивляя свет*
*Своим волшебным даром,*
*Восславил Женщину Поэт,*
*Подвластный женским чарам.*
*Была прекрасная пора...*
*Забыв расчёт взаимный,*
*Из-под гусиного пера*
*Вонзались в небо гимны.*



*И как Давидовы псалмы*
*Потомкам в назиданье,*
*Хранят грузинские холмы*
*Поэтово признанье”. <...>*
*“Повально удивляя свет…”*

Для У. Чэрніка як у каханні, так і ва ўсіх праявах жыцця самае галоўнае – шчырасць пачуццяў, бо без гэтага жыццё чалавека страчвае ўсякі сэнс.

# ПІНСК І ПІНШЧЫНА

*Вось разрываецца роўнядзь, і ўдалечыні – Пінск, і ўжо няма калі думаць аб іншым, бо сэрца ўладна ўваходзіць у яго, ён запаланяе сэрца сваімі мурамі і старымі вежамі, каштанамі і ліпамі на цяснінах вуліц, усёй вялізнай сваёй прыгажосцю, да якой ніколі не здолее звыкнуць душа.*

***У. Караткевіч*** (З нарысу "Званы ў прадонні нябёс")

У 2007 годзе адзін з самых старажытных беларускіх і ўвогуле славянскіх гарадоў святкаваў сваю 910-ую гадавіну на падставе таго факту, што першае летапіснае ўпамінанне пра Пінск ці Пінеск адносіцца да 1097 года. Старажытна летапіс "Повесть временных лет", складзены ў пачатку XII стагоддзя Нестарам, змяшчае звесткі пра падзеі згаданага года, пэўным чынам звязаныя з гісторыяй "дзядулі гарадоў Палесся

Да культурных здабыткаў старажытнай Піншчыны, бясспрэчна, адносіцца развіццё пісьменнасці, аб чым сведчаць эпіграфічныя надпісы на прадметах з раскопак. Па надпісах можна меркаваць, што ў Пінску ў XII ст. былі распаўсюджаны адукаванасць і пісьменнасць. Кніга прыйшла на Піншчыну разам з хрысціянствам. Сярод чытальных рукапісных кніг устойлівай папулярнасцю ў краі карысталіся творы манаха ***Яфрэма Сірына*** – дагматычна-палемічныя, маральныя і аскетычныя, напісаныя ў форме песень і вершаў. Змест павучэнняў вядомага пісьменніка і спавядальніка ўтрымлівае аналіз розных станаў праведнасці і грахоўнасці і спосабаў хрысціянскага выпраўлення і самаўдасканальвання. Выразна (за тры стагоддзі да з'яўлення скарынінскіх шэдэўраў!) у самым старажытным усходнеславянскім рукапісе "Парэнэсіс" Яфрэма Сірына прагучала думка аб неабходнасці павагі да кнігі, да ведаў: "Муж мудры, які не мае кніг, падобны да агароджы, якая стаіць без апораў: калі будзе вецер, то паваліцца. Гэтак і мудрыя: падзьме на іх вецер грахоўны, і ўпадзе той, хто не мае апоры слявес кніжных". Пісьменнік таксама звязвае з кнігай магчымасць маральнага ачышчэння, духоўнай дасканаласці.

Значна больш звестак пра літаратурна-культурныя традыцыі Піншчыны XV – XVI стст., калі самастойным Пінскім княствам кіравалі жанчыны: княжна Марыя і яе дачка Алена з роду Гедымінаў, а таксама каралева Бона, жонка вялікага князя ВКЛ Сігізмунда I Старога. Яны праводзілі палітыку асваення краю, актыўна засяляючы малаабжытыя землі. Грамадска-палітычнае і культурнае жыццё Піншчыны шмат у чым вызначала супрацьстаянне каталіцкай і праваслаўнай царквы. Асабліва моцна яно выявілася пасля заключэння Брэскай царкоўнай уніі ў 1596 годзе, паводле якой адбылося аб'яднанне каталіцкай і праваслаўнай цэркваў. Унія прывяла да ўзмацнення пазіцый каталіцызму.

Актыўнымі абаронцамі праваслаўя сталі брацтвы і манастыры. Пачынаючы з пачатку XVII і да сярэдзіны XVIII стст. апірышчам праваслаўнай веры на Піншчыне з'яўляўся Купяціцкі манастыр. Амаль з часоў заснавання храма ў ім служыў вядомы палітычны і царкоўны дзеяч, пісьменнік-палеміст Афанасій Філіповіч.



Большую частку свайго жыцця аддааў змаганню з прыхільнікамі уніяцтва і ***Лявонцій Карповіч (1580 – 1620***), сын святара з Піншчыны. Мяркуецца, што пачатковую адукацыю Лонгін (яго свецкае імя) атрымаў у адной з брацкіх школ князя Астрожскага на Валыні. Быў першым архімандрытам Віленскага Свята-Духаўскага манастыра, там жа выконваў абавязкі карэктара і рэдактара друкарні, што знаходзілася пры брацкай школе. Гэта давала яму магчымасць не толькі самаму займацца актыўнай літаратурнай дзейнасцю, але і спрыяць у выданні твораў вядомых тагачасных рэфарматараў. Так, Лявонцій Карповіч садзейнічаў выданню "Трэнаса" і "Граматыкі" М. Сматрыцкага, за што па загаду польскага караля быў асуджаны на два гады турэмнага зняволення. Пяру аднаго з абаронцаў праваслаўя на Берасцейшчыне Лявонція Карповіча належаць такія пашыраныя на той час жанры, як казанні, лісты і прадмовы да рэлігійных кніг. Творы пісьменніка-палеміста вылучаюцца глыбокай эмацыйнасцю, праваслаўнай патэтыкай і катэхізіснай формай выкладу. Безумоўна, яны прасякнутыя царкоўнай ідэалогіяй, антыуніяцкім пафасам і ў той жа час выклікаюць у чытача роздум аб сутнасці чалавечага жыцця.

Справу А. Філіповіча і Л. Карповіча годна працягваў іх зямляк, вучоны-асветнік, пісьменнік і перакладчык ***Епіфаній Славінецкі (16 – 1675).*** Атрымаўшы выдатную адукацыю: спачатку ў Кіеўскай брацкай школе, а потым у Кракаўскім універсітэце, – Епіфаній жыў у Кіева-Пячорскай лаўры і ў Брацкім манастыры. Асабліва плённымі выдаліся для Славінецкага гады, праведзеныя ў Маскве. Ён апынуўся ў Чудавым манастыры ў Крамлі па запрашэнні расійскіх святароў. У Маскве Е. Славінецкі займаўся не толькі выкладаннем лацінскай і грэчаскай моў, але і навуковай, перакладчыцкай дзейнасцю. Ён перакладаў як царкоўную літаратуру, так і навуковую. Дзякуючы намаганням нашага земляка рускія медыкі атрымалі магчымасць пазнаёміцца з даследаваннямі вядомага анатома заходнееўрапейскай навукі Андрэя Везалія. Е. Славінецкі зрабіў таксама пераклады на славянскую мову навуковых прац вядомага польскага вучонага Мікалая Каперніка, а таксама чэшскага педагога Яна Каменскага. У гісторыю ўсходнеславянскай пісьменнасці пінчук увайшоў і як складальнік лаціна-, і грэка-славенскага слоўнікаў.

Варта заўважыць, што ў перыяд Рэчы Паспалітай Пінск і яго ваколіцы бурна развіваліся як у палітычных, эканамічных, так і культурных адносінах. Адным з першых беларускіх гарадоў Пінск атрымаў магдэбургскае права. Гэта здарылася ў 1558 годзе. Экспансія каталіцызму на тэрыторыі палескага краю спрыяла будаўніцтву касцёлаў прадстаўнікамі розных ордэнаў заходняга веравызнання. Пры касцёлах звычайна фунцыянавалі навучальныя ўстановы – калегіумы. У калегіумах дзейнічалі так званыя школьныя тэатры, у якіх на вялікія святы пасля пастоў ставіліся спектаклі рэлігійнага зместу на лацінскай ці польскай мовах. Для сучаснага літаратуразнаўства пэўную цікавасць уяўляюць інтэрмедыі, кароткія тэатральныя камедыйныя сцэнкі, якія ставіліся ў антракце, паміж актамі п'есы. Часта аўтарамі інтэрмедый станавіліся мясцовыя выкладчыкі альбо таленавітя вучні калегіумаў. Інтэрмеды ўяўлялі сабой кароткія сцэны камедыйна-выкрывальнага характару, якія ўсё больш набывалі свецкі

харакар і спрыялі станаўленню жанра камедыі ў беларускай літаратуры. Вядома, што інтэрмедыі значыліся ў праграмах Пінскага і Лагішынскага школьных тэатраў.

Значную ролю ў духоўным жыцці палешукоў адыграў Пінскі езуіцкі калегіум (будынак захаваўся да нашых дзён), які стаў для многіх палешукоў першай прыступкай на шляху набыцця далейшай адукацыі ў еўрапейскіх універсітэтах і акадэміях. Сярод мачымых выхаванцаў навуковай установы Пінска можна назваць І. Нагурчэўскага, А. Нарушэвіча, К. Вырвіча, Я. Пратасовіча, К. Жэру і інш.

Сярод названых асоб, бясспрэчна, вылучаецца ***Адам Тадэвуш Станіслаў Нарушэвіч (1773 – 1796)***, вядомы царкоўны дзеяч, гісторык, паэт і перакладчык. Ён нарадзіўся бліз Пінска ў шляхецкай сям'і. Пасля заканчэння езуіцкага калегіума вучыўся ў Францыі ў Ліонскай езуіцкай акадэміі, а таксама ў іншых навучальных установах Італіі і Германіі. Атрыманыя веды дазволілі нашаму земляку займацца выкладчыцкай дзейнасцю спачатку ў Віленскай акадэміі, а потым у Варшаўскім езуіцкім калегіуме. Творчасць А. Нарушэвіча, якую ён распачаў каля 1749 года, паклала пачатак польскай асветніцкай паэзіі. Сучаснікі з цікавасцю знаёміліся з панегірыкамі, одамі і сатырамі пісьменніка, напісанымі па заказу каралеўскага двара ці з мэтаю прапаганды ідэалогіі каталіцкага ордэна. Шмат асветнік займаўся і перакладамі на польскую мову грэчаскіх і лацінскіх твораўГарацыя, Тацыта і М. Сарбеўскага, якога ў Еўропе называлі "хрысціянскім Гарацыем".

Асаблівую значнасць для беларусаў маюць гісторыка-літаратурныя працы А. Нарушэвіча, у якіх ён вывучае мінулае Польшчы і Вялікага княства Літоўскага. Да іх ліку адносяцца "Палітычная гісторыя старажытных дзяржаў…" (1772), "Жыццё Яна Караля Хадкевіча, віленскага ваяводы, вялікага гетмана Вялікага княства Літоўскага" (1781) і інш. Але найбольш А. Нарушэвіч выявіў свой талент даследчыка-гісторыёграфа пры напісанні фундаментальнай працы "Гісторыя польскага народа", у якой выкарыстаў каля 230 тамоў дакументальных матэрыялаў. Упершыню ў славянскай навуцы ён адыйшоў ад тэлагічных канонаў выкладу "Гісторыі…", надаўшы працы свецкае гучанне і і выразна акрэсліўшы яе пазнавальныя мэты. У якасці дапаможных гістарычных даследчык выкарыстоўваў летапісы, хронікі, архіўныя дакументы, а таксама абрады, звычаі і іншыя фальклорныя крыніц. Пад польскім народам А. Нарушэвіч меў на ўвазе ўсе народы, якія ўваходзілі ў склад Рэчы Паспалітай. Асобныя старонкі "Гісторыі…" прысвечаны Пінску і яго жыхарам.

З Піншчынай звязаныя жыццё і творчасць яшчэ аднаго прадстаўніка славянскага прыгожага пісьменства XVIII ст. ***Караля Жэры (1749 – 1798).*** Атрымаўшы адукацыю ў Драгічынскім езуіцкім калегіуме, ён у Пінску ўступіў ó î ðäÿí францысканцаў, а выкладаў у канвенце бернардынцаў у горадзе Сянно. Нягледзячы на шчыльныя стасункі з каталіцызмам, Караль Жэра стварыў цудоўную кнігу асветніцкага зместу, дзе занатаваў шматлікія і разнастайныя фальклорныя творы Пінскага Палесся. Кніга мае доўгую, у традыцыях барочнага мастацтва, назву, але сучаснымі літаратуразнаўцамі згадваецца як



“Торба смеху”. У яе ўвайшло больш як 230 фацэцый-показак, якія нагадваюць такія пашыраныя на Беларусі фальклорныя жанры, як прыказкі і прымаўкі, загадкі, казкі і анекдоты. Польскамоўны рукапіс (некаторыя фацэцыі напісаны на беларускай мове) Караля Жэры карыстаўся вялікай папулярнасцю ў сучаснікаў пісьменніка, а пазней быў двойчы перавыданы ў Польшчы ў 1893 і 1980 гг.

У выніку 2-га падзелу годзе Рэчы Паспалітай у 1793 Пінскі павет быў далучаны да Расіі, а пасля 3-га падзелу да царскай імперыі былі далучаны і лагішынскія землі. Змест літаратуры краю згаданага перыяду найперш вызначала русіфікатарская палітыка царскага ўраду, якую, натуральна, негатыўна ўспрыняла патрыятычна настроеная краёвая шляхта. Яркім прадстаўніком дэмакратычна-рэвалюцыйнага накірунку ў нацыянальнай паэзіі і публіцыстыцы пачатку XIX ст. з’яўляецца нараджэнец Піншчыны Франц Савіч, які годна працягваў распачатую папярэднікамі, студэнтамі Віленскага універсітэта, нацыянальна-вызваленчую і асветніцкую дзейнасць.

У сваю чаргу, вялікі ўплыў на станаўленне прагрэсіўных поглядаў філаматаў і філарэтаў аказаў яшчэ адзін прадстаўнік Піншчыны, выкладчык адзінай на тэрыторыі тагачаснай Беларусі вышэйшай навучальнай установы ***Лявон Бароўскі (1784 – 1846).*** Ён нарадзіўся на Піншчыне ў 1784 годзе. Першапачатковую адукацыю атрымаў у Пастаўскай гімназіі, адкуль накіраваўся працягваць вучобу ў Віленскім універсітэце. Там ён атрымаў вучоную ступень кандыдата філасофскіх навук і некаторы час працаваў сакратаром і бухгалтарам гэтай навучальнай установы. Праца чыноўніка не задавальняла Л Бароўскага, чалавека творчага і няўрымслівага, і ў 1807 годзе ён уладкоўваецца на пасаду настаўніка рыторыкі і паэзіі Свіслацкай гімназіі. Педагагічная дзейнасць і захапленне літаратурай прадвызначылі жыццёвы шлях Л. Бароўскага. Папрацаваўшы яшчэ некаторы час у Віленскай гімназіі, з 1814 года ён выкладае літаратуразнаўства і красамоўства ва ўніверсітэце. Ён з захапленнем расказваў на лекцыях студэнтам пра асноўныя прынцыпы філасофіі французскіх асветнікаў Вальтэра, Дзідро і Русо. Які настаўнік, яго лепшыя вучні А. Міцкевіч, Я. Чачот, Э. Славацкі, Я. Баршчэўскі і многія іншыя верылі ў свабоду і роўнасць усіх людзей. Асноўныя філасофскія палажэнні еўрпейскага Асветніцтва Л. Бароўскі трансфармаваў у законы мастацтва. Ён выступаў супраць строгіх, адарваных ад жыцця і не адпавядаючых часу законаў класіцызму ў літаратуры і акцэнтаваў увагу творцаў на імкненні да фантазіі і выяўленні індывідуальна-аўтарскай пазіцыі. У той жа час літаратуразнаўца папярэджваў сучаснікаў аб небяспечнасці ï ðàçì åðí àãà çàõàï ëåí í ÿ ðàì àí òû çì àì , çàêë³êàÿ у сваёй творчасці абапірацца на розум і прыроду, вусную народную творчасць. Пяру айчыннага тэарэтыка мастацтва належыць вядомая кніга “Заўвагі пра паэзію і рыторыку ў сэнсе іх падабенства і адрознення” Згаданыя вышэй яго паслядоўнікі з поспехам ажыццявілі эстэтычную праграму вучонага, стварыўшы першыя ў айчыннай літаратуры ўзоры рамантычнай і рэалістычнай літаратуры.

Прафесар быў не толькі бліскучым лектарам, але і аўтарам шэрагу работ па літратуразнаўстве і педагогіцы. Ён напісаў падручнік “Рыторыка ў пытаннях

і адказах для павятовых школ", пераклаў на польскую мову камедыі Мальера "Скупы" і "Жанчыны-філосафы", а таксама фрагменты з твораў знакамітых пісьменнікаў Еўропы Шэкспіра, Байрана і Мільтана.

Гарачым прыхільнікам нацыянальна-вызваленчага руху на тэрыторыі сучаснай Беларусі выступіў ***Юзаф Копаць (1794 – 1827)***, пінчук па месцы нараджэння, прадстаўнік старажытнага шляхецкага роду. Яго бацька, ротмістр войска Вялікага княства Літоўскага, хацеў, каб і сын працягваў ваенную справу, а таму аддаў Язэпа з юных гадоў на службу ў пінскую Панцырную (кавалерыйскую) брыгаду радавым. Хлопец годна вытрымаў бацькоўскі экзамен, дaслужыўшыся да вышэйшага афіцэрскага чыну брыгадзіра. Мужнасць і патрыятызм Я. Копаця выявіліся падчас удзелу ім у паўстанні пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі. За выключную смеласць ён быў адзначаны асабістай узнагародай палкаводца – залатым пярсцёнкам з надпісам "Айчына – свайму абаронцу". Пасля падаўленя паўстання імперскіміт войскамі блізкі паплечнік Касцюшкі быў асуджаны да пажыццёвай ссылкі на Далёкім Усходзе. Ён апынуўся ў Ніжнекамчацку, дзе пазнаёміўся з мясцовымі жыхарамі паўвострава – камчадаламі, ці ітэльменамі. Пра свае ўражанні аб прыродзе краю і яго шматлікіх этнічных прадстаўніках: чукчах, буратах, якутах, па сутнасці зліўшыхся з рускімі, – былы ваеначальнік расказаў у "Дзённіку падарожніка Юзафа Копаця праз усю Азію", які быў надрукаваны на рускай мове ў часопісе "Исторический вестник" у 1896 годзе ў Пецярбургу. Ссыльны літвін з цеплынёй і ўдзячнасцю прыгадвае мясцовых жыхароў, якія чым маглі дапамагалі яму выжыць у цяжкіх умовах паўночнай катаргі. Публікацыя мела незвычайны поспех у рускіх чытачоў; вядома, што і А. Міцкевіч высока ацаніў дакументальна-мастацкія ўспаміны земляка. Пасля вяртання на радзіму па аб'яўленай Паўлам I амністыі былы ссыльны пасяляецца ў Беларусі. Па парадзе вядомага польскага пісьменніка Ю. Нямцэвіча, таксама нараджэнца Берасцейшчыны, Ю. Копаць перакладае свае ўспаміны на польскую мову. Цікавасць да жыцця, побыту, асаблівасцях ментальнасці незнаёмага еўрапейцам паўночнага народу і, безумоўна, назіральнасць пісьменніка, яго цікавыя высновы, дзённікавая форма аповеду абумовілі папулярнасць успамінаў Я. Копаця. Кніга выдавлася ў многіх краінах Еўропы: у Парыжы, Берліне, Вроцлаве, Львове і ншых гарадах.

У рэчышчы асветніцкага светапогляду выявілі сябе і ншыя сучаснікі, землякі Л. Бароўскага і Я. Копаця. Да іх ліку адносіцца вядомы даследчык духоўнай спадчыны славянскіх народаў ***Лукаш Галамбёўскі (1773 – 1849).*** Будучы гісторык і этнограф нарадзіўся ў вёсцы Пагост Пінскага павета. З яго далейшай біяграфіі вядома, што пінчук вучыўся ў адной з манаскіх школ Ровеншчыны на Украіне, багатай сваімі праваслаўнымі традыцыямі. Пасля працаваў бібліятэкарам у вядомага гісторыка Т. Чацкага. Відаць, ужо ў той час Лукаш захапіўся цікавай і багатай культурай усходнеславянскіх народаў. З'яўляючыся чалавекам патрыятычна настроеным, ён прыняў актыўны ўдзел у антыімперскім паўстанні 1794 г. пад кіраўніцтвам легендарнага Т. Касцюшкі. Пасля жорсткага падаўлення паўстання і цяжкай кантузіі Л. Галамбёўскі



працягвае сваю любімую справу – вывучэнне кніжнай спадчыны. Дзеля гэтага ён едзе ў г. Пулавы (сучасная Польшча), у бібліятэку Чартырыйскага, дзе займаецца навуковай дзейнасцю. Л. Галамбёўскі наладзіў цесныя сувязі з замежнымі вучонымі-архівістамі і ў хуткім часе быў абраны членам Таварыства сяброў навук. Даследчыцкая праца захапіла яго, і вучоны пераязджае ў Варшаву, дзе спалучае абавязкі сакратара таварыства з выкладчыцкай дзейнасцю прафесара мясцовага педагагічнага інстытута.

Карпатлівае вывучэнне архіўных дакументаў, выкарыстанне прац З. Даленгі–Хадакоўскага, М. Чарноўскай і інш. даследчыкаў народнай культуры, асабістыя веды ўрэшце далі свой плён: на працягу 1830 – 31 гг. вучоны выдае дзве кнігі запар этнаграфічнага характару – “Людпольскі, яго звычаі, забабоны” і “Гульні і забавы розных саслоўяў ва ўсім краі або ў некаторых толькі правінцыях”. У другім выданні Л. Галамбёўскі дэталёва апісаў побыт, народныя абрады, святы, фальклор розных этнічных груп, што насялялі Рэч Паспалітую. Значнае месца ў кнізе адводзіцца даследаванню асаблівасцей побыту і культуры насельнікаў малой радзімы аўтара – палешукоў, якіх ён называе, як і большасць сучаснікаў, вучонага, літвінамі. Так, упершыню ў этнаграфічных працах дакладна апісаны пашыраны на Піншчыне унікальны абрад “куста”. Варта заўважыць, што Л. Галамбёўскі з вялікай любоўю адносіўся да сваёй малой радзімы і суайчыннікаў, ён ганарыўся літвінскім паходжаннем і хацеў, каб і яго дзеці шанавалі палескі край. У лісце да сына ён шчыра прызнаецца: “Як мяне цешыць, што ты маю радзімую старонку знайшоў такой жа, якой яна ў маіх успамінах, у маім сэрцы, бо калі ты кароняж, то я літвін, да касцей літвін, а да таго ж пінчук. І на бога бацькоў маіх спадзяюся, што пакуль свет будзе светам, там побач з вышэйшай адукацыяй захаваецца нейкая высакародная прастата, нейкая сумленнасць, гасціннасць, ветлівасць, дабрадушнасць”.

У апошнія гады жыцця Л. Галамбёўскі выдаў шэраг кніг па гісторыі польскай дзяржавы: “Гісторыя Польшчы” (1848), “Кабінет польскіх медалёў з часу панавання Станіслава Аўгуста” (1843), “Гісторыя польскай ваеннай справы” і інш. На жаль, многія рукапісы таленавітага гісторыка і этнографа з Палесся засталіся ненадрукаванымі.

У XIX стагоддзі наогул назіраўся ўсплёск цікавасці вучоных да духоўных набыткаў беларусаў. Айчынныя і замежныя гісторыкі, этнографы і фалькларысты імкнуліся давесці свету, а найперш самім беларусам, наколькі багаты, разнастайны і цікавы духоўны свет іх продкаў, які захоўваўся пераважна ў вуснай народнай творчасці. Працяглае знаходжанне на Піншчыне ***Дзмітрыя Булгакоўскага*** ў якасці святара аднаго з вясковых прыходаў праз 20 гадоў натхніла яго на напісанне фальклорна-этнаграфічнага зборніка “Пінчукі”, які быў надрукаваны ў 1890 годзе ў Санкт-Пецярбургу на рускай мове. Дз. Булгакоўскі нарадзіўся ў Расіі, на Арлоўшчыне, у 1845 годзе, але па волі лёсу адукацыю атрымаў у Мінскай духоўнай семінарыі, пасля якой служыў свяшчэннікам у Пінскім павеце. Ужо ўсталым узросце, асоба духоўна сфарміраваная, з багатым жыццёвым вопытам, Дз. Булгакоўскі адмаўляецца ад кар’еры свяшчэнніка і

цалкам аддае сябе служэнню навукі, а, дакладней, вывучэнню гісторыі краю, народнай культуры і побыту беларусаў. Плён яго даследчыцкай працы выявіўся ў шматлікіх краязнаўчых артыкулах і больш чым 30 фальклорна-этнаграфічных зборніках. Сярод іх – унікальная кніга "Пінчукі" – найкаштоўнейшая і па сённяшні дзень крыніца даследавання багатых духоўных набыткаў Пінскага Палесся. Менавіта маладаследаванасць цікавага ў этнаграфічным аспекце палескага рэгіёна, які на той час лічыўся глухім, адарваным ад цывілізацыі куточкам зямлі, падштурхнуў Дз. Булгакоўскага на шматаспектнае і глыбокае вывучэнне матэрыяльнага і духоўнага жыцця жыхароў Піншчыны.

Даследчык высока ацэньвае ў сваёй кнізе самабытнасць і арыгінальную багатую культуру палешукоў ("пінчукі цалкам захавалі старажытнаславянскі тып; шырокае развіццё іх фантазіі"), але ў той жа час звяртае ўвагу на іх неадукаванасць, векавую адсталасць і кансерватыўнасць светапогляду, наіўную веру ў сілы прыроды ("ствараецца шмат разнастайных абрадаў, павер'яў, забабонаў, што напамінаюць эпоху паганшчыны"). Тлумачыць гэта Дз. Булгакоўскі асаблівасцямі цнатлівай, амаль дзікай на той час прыроды Палесся ("цемра і таямнічасць лясоў, неабсяжныя і непраходныя балоты, мноства птушак і звяроў"), якая фактычна адарвала яе насельнікаў ад прагрэсу тагачаснай цывілізацыі.

Каштоўнасць кнігі выяўляецца найперш тым, што ўёй змешчана больш за 530 пераважна аўтэнтычных твораў розных жанраў палескага фальклору, сабраных аўтарам. Значную частку сярод іх, натуральна, складаюць песні – найбольш пашыраны ў славян фальклорны жанр. У зборніку не толькі змешчаны змест песень, але і даецца іх класіфікацыя па жанрава-тэматычным прынцыпе і іх функцыянальным прызначэнні, а таксама аўтар дае навуковую характарыстыку кожнай групе песень з улікам іх моўных асаблівасцей. Самую вялікую групу складаюць *каляндарна-абрадавыя* песні, сярод якіх, у сваю чаргу, збіральнік фальклору Піншчыны вылучае *калядныя, веснавыя, траецкія* (пераходныя ад веснавых да летніх), *летнія.* У асобныя раздзелы вылучаны *любоўныя, вясельныя, сямейныя, песні-калыханкі, салдацкія і жартоўныя* песні.

Акрамя песень, Дз. Булгакоўскі ўключыў у зборнік прыказкі, прымаўкі, загадкі, а таксама прывёў апісанні многіх мясцовых абрадаў, звычаяў, прыкмет, варожбаў. Кніга разлічана на шырокую аўдыторыя, таму ў канцы зборніка прыводзіцца тлумачэнне незразумелых дыялектных слоў Пінскага рэгіёна.

Выклікала Піншчына цікавасць і ў украінскага гісторыка ***Аляксандра Грушэўскага***, сучасніка вышэй згаданых даследчыкаў Палесся. Сярод шматлікікіх выдадзеных прац вучонага вылучаецца манаграфія "Пінскае Палессе" (1903), у якой А Грушэўскі аналізуе летапісныя звесткі і шматлікія дакументальныя матэрыялы пра гарады і князёў Турава-Пінскай зямлі, пачынаючы з XI і да XVI стст. Праца Грушэўскага ўяўляе сабой вялікую каштоўнасць, таму што ўтрымлівае шмат звестак пра паходжанне і гісторыю населеных пунктаў Піншчыны.

І, наадварот, многія ўраджэнцы Піншчыны па волі лёсу апынуліся за



межамі сваёй малой радзімы, але сваім жыццём, учынкамі, актыўнай грамадзянскай пазіцыяй, творамі праслаўлялі Айчыну. Шырокую вядомасць сярод расійскай інтэлігенцыі ў пачатку XX ст. мелі Генрых Тэадаровіч і Ілья Мадзалеўскі. ***Г.А. Тэадаровіч (1864 – 1917)*** нарадзіўся ў Пінску. Вучыўся ў Маскоўскім універсітэце на юрыдычным факультэце, куды паступіў у 1881 годзе. Пасля яго заканчэння на доўгі час пасяліўся ў Віцебску, дзе займаўся адвакацкай дзейнасцю. Высокі прафесіяналізм і пільная ўвага да праблемаў кліентаў, жаданне дапамагчы ім абумовілі запатрабаванасць у паслугах Г. Тэадаровіча. Па сваіх палітычных поглядах адвакат быў праціўнікам царскай імперыі і прыхільнікам дэмакратычных пераўтварэнняў у краіне, а таму ўсё часцей выступаў абаронцам рэвалюцыянераў на шматлікіх судовых працэсах, што патрабавала ад яго пэўнай мужнасці. Г. Тэадаровіч змагаўся за сваіх падабаронных не толькі ў Віцебску, але і ўзалах суда розных гарадоў тагачаснай Расійскай імперыі: у Маскве і Смаленску, Пецярбургу і Кіеве, Смаленску і Рызе.

Актыўную прафесійную дзейнасць адвакат спалучаў з грамадскай работай, публіцыстыкай, літаратурнай творчасцю. Вядома, што сяродзнаёмых і сяброў Г. Тэадаровіча былі А. Купрын, І. Рэпін і інш.

Захавалася і разнастайная ў жанравых адносінах літаратурная спадчына пісьменніка: Яго проза і два зборнікі вершаў, а таксама фельетоны і гумарэскі. Для твораў Г. Тэадаровіча характэрныя высокі грамадзянскі пафас і сатырычная накіраванасць. Добра ведаючы царскую судовую сістэму, пісьменнік-адвакат асуджаў яе прадажнасць і беззаконне, дэспатызм і гвалтоўнасць тагачаснага рэжыму.

Жыццё ***Ільі Мадзалеўскага (1888 – 1970)*** таксама прайшло пераважна за межамі роднага горада. Нарадзіўся будучы паэт у Пінску ў сям'і чыгуначніка, але яго род паходзіць ад італьянскіх карбанарыяў, што ў свой час вымушаны былі эмігрыраваць у Польшчу. У віхуру рэвалюцыйных падзеяў 1905 года Ілья быў навучэнцам Пінскага рэальнага вучылішча і, нягледзячы на малады ўзрост, узначальваў страйкавы камітэт рабочых суконных фабрык. Для падаўлення рэвалюцыйна настроеных пінчукоў была выклікана карацельная экспедыцыя генерала Арлова. Даведаўшыся пра тое, што яго завочна прыгаварылі да павешання, Ілья Мадзалеўскі ўцёк у Сібір. З гэтага часу займаўся прафесійнай рэвалюцыйнай дзейнасцю: скончыў у Омску завочную падпольную школу агітатараў-прапагандыстаў, валодаў еўрапейскімі замежнымі мовамі, быў палітычным арыштантам турмаў многіх расійскіх гарадоў. Лёс закідваў пінчука і пасля рэвалюцыі 1917 года ў розныя мясціны СССР, але большую частку жыцця ён правёў у Алтайскім краі. Менавіта тут, працуючы ў рэдакцыі мясцовай газеты, Ілья Мадзалеўскі напісаў свае першыя вершы, якія былі прыхільна ацэнены крытыкай, у прыватнасці, вядомым сібірскім пісьменнікам В. Шышковым. У далейшым І. Мадзалеўскі рэдагаваў савецкія газеты і часопісы, займаючыся адначасова літаратурнай дзейнасцю. У 1923 годзе ў Семіпалацінску выйшаў паэтычны зборнік пісьменніка на рускай мове "По новому руслу".

З Піншчынай знітаваны лёсы многіх беларускіх адраджэнцаў, пісьменнікаў, якія па розных прычынах апынуліся на яе тэрыторыі ў XIX – пачатку

XX стст. На Палессі настаўнічаў у маладосці Якуб Колас. Лёс звязаў яго з вёскай Пінкавічы і самім Пінскам. Тут класік нацыянальнай літаратуры напісаў шмат якія апавяданні, многае з пражытага лягло ў аснову трылогіі “На ростанях”. Сваё юнацтва правёў у Пінску, дзе скончыў духоўную семінарыю, грамадскі дзеяч, гісторык-эканаміст, адзін з заснавальнікаў першага беларускамоўнага выдання “Наша Ніва” Аляксандр Мікітавіч Уласаў.

У час Першай Сусветнай вайны з канца 1916 па люты 1917 года недалёка ад станцыі Парахонск праходзіў вайсквую службу ў Пінскіх балотах адзін з пачынальнікаў беларускай рэалістычнай прозы, змагар за нацыянальнае адраджэнне ***Максім Гарэцкі***. Бясспрэчна, многія з уражанняў франтавога супрацьстаяння царскіх і кайзераўскіх войск пазней леглі ў аснову рознажанравых празаічных твораў пісьменніка антываеннага пафасу.

Праз Пінск і яго ваколіцы ў розныя часы пралягалі шляхі рускіх пісьменнікаў Ф. Глінкі, М. Гумілёва, А. Блока, М. Ляскова, А. Талстога. У 1814 годзе тут пабываў дзекабрыст, паэт Фёдар Глінка, які свае ўражанні ад Палесся выклаў у кнізе “Письма русского офицера”. У адрозненне ад многіх іншых расіян, Глінка змог належным чынам ацаніць прыгажосць беларускага Палесся, убачыць перспектывы эканамічнага і культурнага развіцця гэтага унікальнага ў геаграфічных адносінах рэгіёна:

*Чудесный Пинск! Твои раздолья*
*Достойны лучших мастеров.*
*Нигде не видел я привольней*
*Таких раскидистых лесов.*

У верасні 1915 года ў Лагішыне ў складзе уланскага палка царскай арміі апынуўся Мікалай Гумілёў, вялікі рускі паэта, а на той час унтэр-афіцэр з добраахвотнікаў эскадрона Яе Вялікасці. На Піншчыне ён прабыў усяго некалькі тыдняў, пасля чаго быў камандзіраваны ў школу прапаршчыкаў. Свае карэспандэнцыі ў форме дзённікавых запісаў “Запіскі кавалерыста” з франтоў імперыялістычнай вайны паэт друкаваў у газеце “Биржевые ведомости”.

Пабывалі на Піншчыне і польскія творцы Юзаф Крашэўскі і Марыя Канапніцкая. У часы, калі Беларускае Палессе ўваходзіла ў склад Рэчы Паспалітай, некаторы час жыў тут і вядомы паэт, змагар за нацыянальнае вызваленне Піліп Пестрак.

Асабліва плённа і ярка заявілі пра сябе пісьменнікі Піншчыны ў другой палове XX стагоддзя. Станаўленню талентаў у значнай ступені садзейнічала стварэнне пры раённай газеце “Полесская правда” літаб’яднання “Орбита”, якое аб’ядноўвала ўсіх, каго прываблівала мастацкае слова. Гэта было новае пакаленне пісьменнікаў, якія ўсваёй творчасці, дзякуючы “хрушчоўскай адлізі”, змаглі часткова вызваліцца з ідэалагічных абмежаванняў таталітарнага рэжыму. Сярод іх былі і пісьменнікі, што зазналі трагедыю Другой сусветнай вайны, і тыя, хто нарадзіўся пасля 1945 года. Сярод прадстаўнікоў старэйшага пакалення варта адзначыць паэтаў З. Вагера, А. Альфяровіча, А. Бібіцкага, В. Каратышэўскага, Ф. Туманава, А. Сасевіча, С. Талкачова, А. Якушава, М. Рогаля і інш.



Бясспрэчна, яшчэ гучней і мацней загучаў голас маладой генерацыі паэтаў, якія годна ўліліся ў магутную лірычную плынь беларускай паэзіі. У іх ліку Я. Янішчыц, В. Коўтун, Л. Тарасюк, В. Грышкавец, А. Шушко, М. Антаноўскі, Н. Гарагляд, Я. Міклашэўскі, У. Кубышкін, М. Ляшук, Л. Дзікавіцкая, Н. Прыступа, М. Лаўровіч, М. Аляхновіч, Т. Лазнюха і інш. Сярод празаікаў Піншчыны варта вылучыць З. Прыгодзіча, М. Самуйліка, У. Равіцкага, І. Дзяжурка, М. Елянеўскага, Ю. Саланевіча, М. Ляшук, У. Цмыга, П. Ляхновіча. За межамі роднага горада займаліся ці займаюцца літаратурнай творчасцю ўраджэнцы Піншчыны: сусветна вядомы польскі пісьменнік і журналіст Р. Капусцінскі, руская паэтэса Т. Цяценькіна, украінскі пісьменнік Ф. Одрач, яўрэйскія пісьменнікі Ф. Чэчык, Н. Шомер, Х. Чамярынскі, Л. Маргентой і інш.

Апошнім часам з'явілася шмат новых імёнаў палескіх мастакоў слова, якія ўсё настойлівей заяўляюць пра сябе: М. Жукаў, Л. Крывецкі, В. Панасюк, Н. Енбулаева, Г. Белякоў, А. Андрабайла, А. Мірчук, А. Качан, С. Шаламіцкая, В. Курдзюмава і інш.

## ФРАНЦ САВІЧ
(1815 – 1845)

Вядомы ў першай палове XIX ст. грамадскі дзеяч Беларусі, самаахвярны змагар за нацыянальную свабоду і сацыяльную справядлівасць, шчыры патрыёт палескага краю, пісьменнік Франц Савіч нарадзіўся ў вёсцы Веляцічы ў сям'і уніяцкага святара. Хлопчык рана страціў бацьку, а таму цяжар хатняй гаспадаркі лёг на яго дзіцячыя плечы. Тым не менш ён настойліва авалодваў ведамі: спачатку дома, пазней – у Пінскім павятовым вучылішчы.

На выхаванне Савіча ў духу асветніцкіх традыцый моцна паўплываў Францішак Махцінскі, наглядчык вучылішча. Ён пачаў апекавацца хлопчыкам, вучыў і выхоўваў яго, прывіваў любоў да хрысціянства, гісторыі. Францішак рос юнаком смелым, сумленным, спагадлівым. З дзяцінства ў яго выпрацаваліся пачуцці справядлівасці і спагадлівасці, клопат пра чалавека, любоў да працы. Пасля паспяховага заканчэння вучылішча Ф. Савіч паступае ў Віленскую медыка-хірургічную акадэмію, якая ўзнікла на фундаменце расфарміраванага царызмам "цэнтра студэнцкага вальнадумства" Віленскага універсітэта. Тут ён разам з сябрамі арганізоўвае "Дэмакратычнае таварыства", задача якога заключалася ў асвеце і разняволенні народа, барацьбе з дэспатызмам і падрыхтоўцы рэвалюцыйнага выступлення супраць царызму. Ф. Савіч быў адным з аўтараў статута "Прынцыпы дэмакратызму", напісаў адозву-пракламацыю "Заўвагі аб маральнай вайне народа з дэспатызмам".

У 1838 годзе "Дэмакратычнае таварыства" было выкрыта, а Францішка Савіча з яго сябрамі арыштавалі і пасля судовага следства выслалі на Каўказ у салдаты. Разам з выкананнем салдацкіх абавязкаў Ф. Савіч займаецца лекарскай справай, зближаецца з мясцовым насельніцтвам, вывучае яго мову. Некалькі разоў спрабуе ўцячы. Нарэшце, пасля інсцэніравання самагубства ён

пакінуў Каўказ. Але ўцёкі не аблегчылі яго жыццё: хвароба, арышты, вызваленне, лекарская праца, змена месца жыхарства і прозвішча нанізваліся на біяграфію, як пацеркі на нітку. Апошняе прыстанішча паэт-рэвалюцыянер знайшоў у невялічкім мястэчку Янішпаль на Жытоміршчыне, дзе ён вывіхнуў нагу і не здолеў ісці далей да жаданай мяжы. У мястэчку Ф. Савіч праславіўся як выдатны лекар і нават заслужыў давер улад, атрымаў замежны пашпарт і збіраўся прадоўжыць свой доўгі шлях да мэты. Але пачалася эпідэмія халеры, і Савіч застаўся выконваць свой прафесійны абавязак, заразіўся сам і ў 1845 годзе памёр. Ён з'яўляецца таксама аўтарам адзіна вядомага нам верша "Там, блізка Пінска, на шырокім полі...", напісанага з выкарыстаннем роднай паэту лексікі пінскіх гаворак. Аўтар малюе ў вершы рэальную карціну жыцця прыгнечаных людзей, якія пазбаўлены шчасця, волі, праліваюць слёзы. Ён заклікае ўвесь нявольны люд паўстаць грамадой супраць царызму:

*Ліцвін, валынец, падайце ж мне рукі,*
*Так прысягаем на Госпада-бога,*
*Царам — на згубу, панам — для навукі,*
*Што на той зямлі не паўстане і нога —*
*Ані гэта паганска, ані гэта тыранска,*
*Хоць укараніцца, як сіла шатанска!*

Паэт ганьбіць і праклінае тых людзей, якія ўхіляюцца ад барацьбы, хто няшчыры ў сваіх учынках:

*А хто няшчыры, хто несправядлівы,*
*Няхай прападзе з родам і з насеннем,*
*Няхай чорт зрэжа з чадам, з пакаленнем!*

Барацьба, на думку аўтара, прывядзе да здзяйснення запаветнай мары:

*А сонца свеціць і вецер не гудзе,*
*Бо здзівіліся, што ты вольны, людзе!*

Невялікі жыццёвы шлях паэта-барацьбіта стаў своеасаблівым прадвеснікам справы К. Каліноўскага, а яго верш — адным з першых беларускамоўных твораў, у якім гучаў заклік да сацыяльнага разнявлення чалавека, гуртавання прадстаўнікоў розных народаў у пошуках сваёй шчаслівай долі.

## АЛЯКСАНДР БЛОК

Ішоў трэці год Першай сусветнай вайны, гэтай крывавай бойні, у якую бессэнсоўна (а хіба ёсць нейкі сэнс для чалавецтва ўвогуле ад вайны?) і безнадзейна ўвязлі царскія войскі. Можна толькі меркаваць, які настрой панаваў на перадавой, якая ў той час знаходзілася ў раёне Пінскіх балот, у асяроддзі рускіх салдат і афіцэраў. У Пецярбургу ж у ліпені 1916 года амаль нічога не напаміналa пра вайну: у звыклым рэжыме працавалі прадпрыемствы сталіцы, дзеці і студэнты грызлі граніт навукі, а паэтычны бамонд душнымі летнімі вечарамі не менш горача і страсна асуджаў імперыялістычную палітыку царскага ўраду. Не быў выключэннем у гэтым шэрагу і ўжо папулярны тады расійскі



паэт Аляксандр Блок, які праводзіў неспакойны і трывожны час у асяроддзі паэтычнай эліты, чакаючы прызыву ў армію. Ніхто з калег-паэтаў не мог уявіць сабе прыгожага, з дзявочымі рысамі твару, з смалістымі кучаравымі валасамі, тонкімі музычнымі рукамі А. Блока ў вайсковай форме, тым больш на перадавой. Ганна Ахматава жартавала "Адправіць Блока на фронт – гэта тое ж самае, што засмажыць салаўя на патэльні".

Тым не менш 7 ліпеня паэт пісаў маці ў Шахматава: "Сегодня я, как ты знаешь, призван. Вместе с тем я уже сегодня зачислен в организацию Земских и Городских Союзов: звание моё – табельщик 13-й инженерно-строительной дружины, которая строит укрепления; обязанности – приблизительно – учёт работы чернорабочих..." І ўжо 29 ліпеня А. Блок у натоўпе ваеннага люду сышоў на станцыі Лунінец, каб па вузкалейцы накіравацца на месца прызначэння службы – ў вёску Камень. Не паспеўшы як след абжыцца ў Камені, табельшчык царскай арміі вымушана пераязджае ў Парахонск і пасяляецца там у шыкоўным на той час двухпавярховым будынку, маёнтку князя Друцка-Любецкага. Зноў жа пра службу ў Парахонску мы можам меркаваць з ліставанняў паэта, на гэты раз – да жонкі Любові Дзмітрыеўне Мендзелеевай: "Я живу в главном доме... За три версты – станция Парохонск на реке Бобрик. Это последняя станция, куда доходят этапные поезда (из Лунинца), дальше идут уже только военные. Часто слышна канонада, в ясную погоду, утром и вечером нас навещает аэроплан, который бросает бомбы главным образом на мост возле Парохонска и в станцию Лунинец..."

11 жніўня паэт выязджае на поўдзень Піншчыны ў складзе атрада, што дыслацыруецца ў вёсках Калбы і Лапаціна, у наваколлі якіх вялося інтэнсіўнае будаўніцтва абарончых збудаванняў (запасных пазіцый) рускіх войскаў. Работы былі ў літаральным сэнсе знясільваючымі і вяліся ўручную рабочымі, большая частка якіх, як прыгадвае паэт, былі непрацаздольнымі рэзервістамі ці наогул калекамі. У Калбах А. Блок кватараваў у хаце Лемяшэўскіх і правёў там каля двух тыдняў. Нягледзячы на тое, што А. Блок моцна стамляўся на службе, ён знаходзіў час, каб належным чынам ацаніць у лістах прыгажосць і некаторую экзотыку для жыхара паўночнай сталіцы палескіх краявідаў: "...С поля виднеется Пинск, вроде града Китежа, – приподнятый над туманом белый собор, красный костёл, а посередине – поменьше семинария. Один день – жара, так что не просыхаешь ни на минуту, особенно верхом. Другой день – сильная гроза, потом холодно, потом сыро. Очень крупные звёзды. Большая медведица довольно низко над горизонтом, справа – Юпитер... Стоит бабье лето, прохладные безоблачные дни, паутина, жёлтого ещё почти нет..."

У Калбах А. Блок жыў са сваімі таварышамі-табельшчыкамі Ягоравым, Глінкай, Удэльсонам, Паповым і інш. Да сённяшняга дня ў вёсцы захавалася невялічкая каплічка, графічны малюнак якой паэт занатаваў у асабісты блакнот. Праз некаторы час А. Блок перабіраецца ў суседнюю вёску Лапаціна. І тут Муза не наведала паэта. Хутчэй за ўсё, А. Блок лічыў франтавыя будні і асяроддзе вайскоўцаў неспрыяльнымі фактарамі для творчасці, ды і настрой не адпавядаў паэтычнаму натхненню. Калі ў пісьменніка з'явілася магчымасць

наведаць Пецярбург, ён з задавальненнем накіраваўся туды ў месячны адпачынак. Але рэалізаваць свае творчыя планы ў сталіцы не ўдалося: пастаноўка драмы “Роза і крыж” адкладвалася на невядомы тэрмін, не пісаліся і вершы.

2 лістапада 1916 года А. Блок у другі раз наведаў Палессе, спыніўшыся ў Парахонску. У пачатку 1917 года паэт сустрэўся ў палескай глушы з блізкімі сябрамі – пісьменнікам Аляксеем Талстым і гісторыкам, кіраўніком пецярбуржскага “Цэха паэтаў” Дзмітрыем Кузьміным-Караваевым, якія апынуліся на Піншчыне ў складзе групы інспектараў інжэнерна-будаўнічай дружыны. Пісьменнік А. Талстой не чакаў на ўскраіне Расіскай імперыі, у невялікай палескай вёсцы, сустрэць вядомага расійскага паэта, а яшчэ больш яго ўразіла арганізаванасць А. Блока, тое, як ён змог адаптавацца ў цяжкіх франтавых умовах: “…Через несколько минут вошёл заведующий, худой, рослый, красивый человек, с румяным от мороза лицом, с заиндевевшими веками. Всё, что хотите, но я никак не мог ожидать, что этот заведующий – Александр Блок. Он рассказал мне о том, как тут хорошо жить, как он из десятников дослужился до заведующего работами, сколько времени он проводит верхом…” Паэт, хутчэй за ўсё, не хітраваў перад А. Талстым і не прыхарошваў сваю службу на Палессі.

Прабыўшы тут да 17 сакавіка 1917 года, пазней, у сталым узросце паэт не аднойчы думкамі вяртаўся на Палессе, з прыемнасцю згадваючы свае франтавыя гады, аб чым сведчыць запіс у асабістым дзённіку А. Блока ад 4 верасня 1917 года: “По вечерам иногда на меня находят эти грубые, сильные, тяжёлые и здоровые воспоминания о дружине – об этих русских людях, пышной осени, жестокой зиме, гатях, вышке, полянах за фольварком Лопатино, белом пароходе, что прозрачным утром плывёт среди рощи, дубах, соснах, ольхах, Пинске вдали… Хорошо!” Гады службы на Палессі, безумоўна, загартавалі характар рафінанаванага дагэтуль паэта, жыхара сталіцы, значна абагацілі яго жыццёвы вопыт, што знайшло ў далейшым мастацкае выяўленне ў яго творчасці савецкага перыяду.

Пінчукі ўшанавалі памяць пра вялікага рускага паэта. У 1982 годзе ў вёсцы Лапаціна быў створаны блокаўскі музей, у якім сабрана шмат экспанатаў. У савецкія часы ў вёсцы Калбы ў першую нядзелю жніўня праводзілася Блокаўскае свята паэзіі, на якое з’язджаліся паэты і літаратуразнаўцы, аматары творчасці А. Блока.



ЗІНОВІЙ ВАГЕР

Зіновій Маркавіч Вагер нарадзіўся ў Тураве 16 лістапада 1916 года (памёр у 2004 у Пінску), але большую частку свядомага мірнага жыцця, напоўненага стваральнай працай, педагагічнай дзейнасцю і творчым паэтычным натхненнем, правёў у Пінску. Пакручасты лёс Зіновія Маркавіча багаты на падзеі, як і гісторыя краіны, у якой ён нарадзіўся і жыў. За плячыма З. Вагера – Тураўская школа на славутай Замкавай гары, гады вучобы ў Віцебскім мастацкім вучылішчы, праца настаўнікам малявання і чарчэння ў Талочынскай сярэдняй школе на Віцебшчыне. Гады, праведзеныя ў Віцебску, падаравалі ўражліваму і здольнаму студэнту мастацкага вучылішча сустрэчу, якая перарасла ў блізкае знаёмства, з вядомым у краіне мастаком Юрыем Пэнам, вучнем вялікага рускага мастака Рэпіна і настаўнікам не менш вялікага і вядомага мастака на Захадзе Марка Шагала. Прафесійныя парады, а болей жыццёвыя ўрокі Ю. Пэна З. Вагер пранёс праз усё жыццё.

А потым была вайна, якая пакінула незагойны след у памяці Зіновія Маркавіча і пазней выпакутаванымі думкамі і пачуццямі клалася паэтычнымі радкамі на паперу. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, З. Вагер прайшоў яе трагічнымі пуцявінамі ад пачатку да канца – быў прызваны ў армію ў 1939 годзе і праслужыў да 1947. Быў двойчы паранены: першы раз у 1943 пад Сталінградам, другі – у 1945 пад Будапештам. Скончыўшы Куйбышаўскае ваеннае вучылішча, у якасці камандзіра палкавой разведкі ўдзельнічаў у баях на тэрыторыі Венгрыі і Аўстрыі. Дзень Перамогі сустрэў на Дунаі пасля ўзяцця Вены. За баявыя заслугі перад Радзімай узнагароджаны трыма ордэнамі і шэрагам медалёў.

З 1947 па 1977 гады З. Вагер працаваў выкладчыкам выяўленчага малявання і методыкі ў Пінскім педагагічным вучылішчы імя А.С. Пушкіна. Выдатнік народнай асветы БССР.

У розныя гады выйшлі з друку зборнікі песенных тэкстаў “роднае Палессе” і “Зямля палеская”. Многія творы пакладзены на музыку беларускімі кампазітарамі М. Аладавым, Ю. Семянякам, М. Чорным і інш. Маюцца грамзапісы асобных твораў: “Над Пінай”, “Як у нас на Палессі”, “Роднае Палессе”. У 2002 годзе выйшла кніга паэзіі “Бераг жураўліны”, аснову якой складаюць вершы, што друкаваліся ў папярэдніх зборніках, а таксама ў рэспубліканскай і мясцовай перыёдыцы. Большасць твораў З. Вагера напісаны на беларускай мове. Разам з тым Зіновій Маркавіч не забываецца сваёй яўрэйскасці і ганарыцца ёю. У 1994 годзе паэт здзейсніў падарожжа ў Ізраіль, пабываў у святынях Іерасуліма і іншых мясцінах. Цыкл вершаў аб Святой зямлі З. Вагера былі надрукаваны на старонках газеты “Пінскі веснік”.

Назвы паэтычных зборнікаў выяўляюць іх скразную тэму – Палессе, родная зямля. Своеасаблівым сімвалам родных вытокаў, паяднання чалавечага жыцця і прыроды, вышэйшай маральнай субстанцыі ў творчасці паэта выступае вобраз жыта: *Я нізка кланяюся жыту, Як жыта кланяецца мне*... З. Вагеру аднолькава блізкія і дарагія сэрцу родны Тураў, з якога пачыналася вялікая дарога

ў жыццё, і горад-прыгажун Пінск, які на доўгія гады стаў прытулкам для паэта. У вершы з красамоўна-асацыятыўнай назвай "Родны кут" (дарэчы, З. Вагер меў шчасце сустрэцца з Якубам Коласам) паэт з удзячнасцю прыгадвае сваю малую радзіму – старажытны слаўны Тураў:

*Дарагія сэрцу рыскі,*
*Любай Прыпяці спакой,*
*Паляшуцкі човен хісткі,*
*І кашары над ракой.*

Тут на Замкавай гары прайшло яго дзяцінства, тут ён закончыў сямігодку, тут упершыню пачуў беларускую гаворку з непаўторным палескім дыялектам:

*Тут асаблівае цвіценне.*
*І неба дзіўны тут блакіт,*
*Тут з пакалення ў пакаленне*
*Замест а "кот" гавораць "кіт".*

Паэзія З. Вагера асабліва кранае чытача, калі аўтар давярае яму самае патаемнае, асабіста перажытае, адкрывае выпакутаваныя думкі і пачуцці. Асабліва гэта тычыцца вершаў-успамінаў пра вайну, якая пакінула незагойны след у свядомасці яе непасрэднага ўдзельніка. Ужо ў назвах вершаў прасочваецца франтавая біяграфія паэта: ""Франтавы бальшак", "Ідуць салдаты", "Перад атакаю", "Бліндаж", "Махорка", "Цана Перамогі" і інш. Вайна і пасля яе заканчэння не пакідае салдатаў, мроіцца ім ў яве і прыходзіць у снах: *Калі я сню перадавую, То студзіць лоб халодны пот...*

Пінск і Піншчына сталі другой радзімай для З. Вагера. Менавіта гэтым мясцінам і яго слаўным жыхарам прысвечана большасць твораў паэта, напрыклад такія, як "О, Прыпяць – і ў лютым, і ў маі", "Куток мой тысячагадовы", "Рэчка Ясельда", "Над Пінай", "Педвучылішчу", "Балада аб Пінскім гета" і інш. Мастак па адукацыі, З. Вагер часта звяртае ўвагу чытачоў на маляўнічыя краявіды прыроды Піншчыны, якія так і просяцца ў карціны. Палескія пейзажы хвалююць уражлівае сэрца паэта, абуджаюць у ім адпаведную настраёвасць:

*Летні вечар песняй салаўінай*
*Абудзіў у сэрцы неспакой.*
*Мы стаім шчаслівыя над Пінай,*
*Над любімай нашаю ракой.*

Для творчасці З. Вагера характэрны лаканізм, глыбокая змястоўная напоўненасць паэтычнага радка, выразная аўтарская пазіцыя. Творчасць і жыццёвы лёс паэта – паняцці шмат у чым тоесныя, аб чым сведчыць верш З. Вагера "Паэзія". Ён параўноўвае паэзію з *музыкай слоў і вобразаў, з шыпамі калючымі ў целе, з зорамі начэй, з іскрамі вачэй, адданасцю, сумленнем і згодай*, сцвярджаючы тым самым касмічны свет мастацкага слова і думкі, глыбіню і невымернасць паэтычнага радка.



***Бераг жураўліны***

*Ты для сэрца, Піна,*
*Бы матулі ласка;*
*Бераг жураўліны,*
*Восеньскія краскі.*

*На блакітнай хвалі*
*Залатое лісце*
*Ты нясеш удалеч,*
*Як чаўны калісьці.*

*Мілагучны, хуткі,*
*Згрузам аж да краю,*
*Цеплаход бялюткі*
*На сабе гайдаеш.*

*Ён. Бы горды лебедзь*
*Паміж вод, няйначай,*
*Прыгажэй і лепей*
*Гэткага не бачыў.*

*Піна, рэчка Піна,*
*Восеньскія чары,*
*Бераг жураўліны,*
*Бераг нашай мары.*

Пасля смерці вядомага кнігавыдаўца і перакладчыка ў часопісе "Полымя" былі апублікаваны дакументальна-публіцыстычнае эсэ пісьменніка "Злое вогнішча. Да гісторыі выдання аповесці Васіля Быкава "Мёртвым не баліць", а таксама мемуары "Трэба рызыкаваць…"

М.Ф. Дубянецкі вылучаўся актыўнай грамадзянскай пазіцыяй, заўсёды быў асобай з выразным пачуццём нацыянальнай самасвядомасці. Ён быў старшынёй гісторыка-мемарыяльнай камісіі Беларускага фонду культуры, адным з заснавальнікаў гісторыка-асветнага таварыства памяці ахвяр сталінізму "Мартыралаг Беларусі".

М. Ф. Дубянецкі памёр 3 верасня 1990 года і пахаваны на Паўночных могілках у Мінску.

## АЛЕСЬ БІБІЦКІ

Алесь Бібіцкі нарадзіўся 13 жніўня 1931 года на Гомельшчыне ў вясковай сям'і. Толькі пасля вайны змог закончыць на радзіме спачатку сямігодку, а потым – і дзесяцігодку. У 1950 годзе паступіў у Мазырскі настаўніцкі інстытут. Пасля

заканчэння навучальнай установы жыццё А. Бібіцкага цесна звязана з Піншчынай, куды ён прыехаў працаваць настаўнікам роднай мовы і літаратуры. Па чэрвень 1954 года выкладаў у Лапацінскай сямігодцы, там, дзе ў свой час праходзіў службу А. Блок.

Затым быў самы працяглы і значны перыяд (1954 – 1989 гг.) як у жыццёвым, так і ў творчым лёсе А. Бібіцкага, – праца на пасадзе дырэктара Плошчаўскай школы. Ён пачынаў работу ў адной з маляўнічых вёсак Піншчыны, што месцілася на самым беразе Прыпяці, калі ў школе налічвалася каля 300 вучняў і закончыў, калі вёска практычна вымірала, – аж да закрыцця школы. У 1984 годзе завочна закончыў філалагічны факультэт Брэсцкага педінстытута.

В. Грышкавец у эсэ “Пинский литературный Пантеон” згадвае Алеся Іванавіча як чалавека разумнага і руплівага: “Хацеў, умеў і любіў працаваць. Трымаў уласную гаспадарку, рыбачыў, паляваў… Як і кожны вясковец, быў сапраўдным працаўніком, сем’янінам. Выхаваў, вырасціў, вывеў у людзі трох дзяцей…”

Педагагічная дзейнасць, любоў да дзяцей, штодзённыя клопаты пра іх не былі адзіным захапленнем А. Бібіцкага. З дзяцінства яго вабіла паэзія. Вершаскладаннем А. Бібіцкі пачаў займацца з 7 класа, але пачаткам літаратурнай дзейнасці сам паэт лічыць 1955 год, калі яго вершы з’явіліся ў часопісе “Маладосць”. Пазней яны рэгулярна з’яўляліся на старонках калектыўных зборнікаў паэзіі, альманахаў, мясцовай і рэспубліканскай перыёдыкі: у раённай газеце “Полесская правда”, абласной – “Заря”, часопісах “Полымя”, “Беларусь”, штотыднёвіку “ЛіМ” і інш. У 1979 годзе лепшае з напісанага А. Бібіцкім увайшло ў кнігу “Зоры над Пінай”, якая з’явілася ў выдавецтве “Мастацкая літаратура”. У 1994 годзе выдаў паэтычны зборнік для дзяцей “Міхалкавагара”, які выйшаў у калектыўнай кніжцы “Дзе начуе апетыт”. Вершы паэта змяшчаліся у падручніках для вучняў пачатковых і малодшых класаў.

А.І. Бібіцкі з’яўляўся членам Пінскага літратурнага аб’яднання “Арбіта”, доўгі час кіраваў ім. Быў прыняты ў рады Саюзы пісьменнікаў Беларусі.

Месца нараджэння паэта – Гомельшчына і месца яго жыцця, станаўлення і росквіту паэтычнага таленту – Піншчына – з’яўляюцца неад’емнымі часткамі беларускага Палесся. Можа, таму А. Бібіцкі так многа вершаў прысвячае гэтаму маляўнічаму куточку Радзімы. Напрыклад, у вершы “Родная старонка” паэт заахапляецца палескімі краявідамі, пры дапамозе трапных метафар ствараючы дакладную запамінальную карціну летняга досвітку:

*У маім палескім краі*
*Досыць рэчак і азёр.*
*Асцярожна ноч збірае*
*Касякі далёкіх зор.*

*Сонца ўранні мые косы,*
*Студзіць рэчкі маладзік,*



*І нясецца шматгалосы*
*над Палессем чаек крык.*

Непаўторны каларыт прыроды вёскі Плошчава, "адарванай" ад цывілізацыі шырокай судаходнай Прыпяццю, берагі якой танулі ў высокай траве, хмызняках і кветкавых дыванах, сам уклад жыцця палешукоў з іх адметнай, кансерватыўна-патрыярхальнай ментальнасцю натхнялі Алеся Бібіцкага на напісанне паэтычных твораў:

*Мой стол пісьмовы –*
*Луг мурожны.*
*Ды бераг Ясельды пусты,*
*Дзе долу росы асцярожна*
*Раняюць раніцай кусты.*
*Тут не спяваць*
*Ніхто не ўможа,*
*Тут не маўчыцца салаўю.*
*Мясціне*
*Казачна прыгожай*
*Сваю даніну аддаю.*

Паэт не памыляецца, згадваючы ў вершы "Мой стол" рэчку Ясельда, а не Прыпяць, бо адчувае сябе жыхаром не нейкай лакальнай геаграфічнай мясціны, а пінчуком, чым і ганарыцца. У вершы "Маё двухрэчча" А. Бібіцкі выяўляе свае патрыятычныя пачуцці праз разгорнутае параўнанне: яго не прываблiваюць вядомыя ўсяму свету Тыгр і Еўфрат, паміж якімі велічна спачываюць-узвышаюцца старажытныя пірамiды з грабніцамі; сэрца паэта саграве двухрэчча паміж Прыпяццю і Ясельдай, дзе *летам сонца Шчодра свеціць хатам, Тчэ снежны вэлюм звонкая зіма.* Менавіта тут, на думку паэта, жывуць самыя працавітыя і мужныя людзі, якія *ведаюць цану нялёгкім стратам За светлы дзень, За сённяшні пакой.*

А. Бібіцкі не ідэалізуе жыццё палешукоў, яго паэтычны голас бывае не толькі ўзрушана-захаплялым, але і глыбока разважлівым, аналітычным. Паэта хвалююць праблемы сучаснага жыцця ўвогуле і беларускай вёскі ў прыватнасці. Яго непакоіць, што *ідзе разбой за ўладу на планеце* і *што ў горад вёска ўся бяжыць.* Яго не можа не хваляваць стан маральна-этычнага здароўя нацыі, а таксама асобнага індывіда. Лірычны герой верша "Буду маліцца" выяўляе жыццёвыя прынцыпы аўтара, якія грунтуюцца на шчырасці ў паводзінах і пачуццях:

*У жыцці няцяжка памыліцца,*
*Перад ім да скону я ў даўгу.*
*Буду век свой*
*Тым багам маліцца,*
*Што душу ад зману зберагуць.*

Для многіх вершаў згаданай тэматыкі ўласцівыя дыдактычнае гучанне, аўтарскія філасофскія высновы-рэцэпты. Так, у вершы "Еднасць" паэт заклікае

суайчыннікаў не сядзець у хатах, *як пацукі ў глыбокіх норах,* а шукаць сваё шчасце ў калектыўнай працы – *будзіць на досвітку лугі.*

Шмат вершаў прысвяціў паэт тэме кахання, якое, на яго думку, у любым узросце чуйна хвалюе сэрца. Лірычны герой верша “Крылы”, згадваючы шчаслівыя хвіліны мінулых гадоў, не хавае сваіх інтымных перажыванняў: *І ў даль я сам лячу, лячу, бы крылы за плячамі.* Праз усё жыццё А. Бібіцкі пранёс гэтае светлае пачуццё да сваёй жонкі, Антаніны Макараўны. Пяшчотай і шчырым клопатам-спадзяваннем пра здароўе жонкі напоўнены адзін з апошніх вершаў Алеся Іванавіча – ліст да Антаніны Макараўны ў санаторый:

Можа, сон твой стаў спакойны,
Прыгалубіў новы дах,
Атуляе пошум хвойны,
Бы дзяцей анёлак-птах.

Пінск і яго насельнікі заўсёды выклікалі ў А. Бібіцкага станоўчыя эмоцыі, а таму і вершы, прысвечаныя любімаму гораду і пінчукам, напоўненыя любоўю, пяшчотай і жыццёвым аптымізмам. У вершы “Пінчанка” паэт захапляецца прыгажосцю паляшучкі, параўноўваючы яе твар са *змаладзелымі снягамі*, ножкі – з *верацёнцамі*, а яе паходку называе *лебядзінаю*. У вобразе пінчанкі аўтар падкрэслівае і яе духоўную прыгажосць: дзяўчына *ідзе ў промнях сонца*, ад яе ўсмешкі *свет мілее*, з такой прыгажуняй хацелася б *ісці з адзінай праз усё жыццё*.

Памёр А. Бібіцкі ў 1998 годзе.



## РЫШАРД КАПУСЦІНСКІ

*У Афрыцы, Азіі і Лацінскай Амерыцы я заўжды шукаў сваё Палессе.*

***(З інтэрв'ю Р. Капусцінскага)***

Рышард Капусцінскі нарадзіўся 4 сакавіка 1932 года ў Пінску, які ўваходзіў на той час у склад Польшчы. Яго бацькі Марыя Бабю і Юзаф Капусцінскі былі настаўнікамі польскай пачатковай школы правінцыйнага ў эканамічным плане, але багатага культурнымі традыцыямі горада. Да сённяшняга дня захаваўся дом, дзе з'явіўся на свет будучы сусветна вядомы публіцыст, аўтар цікавых рэпартажаў з розных куточкаў Зямлі, вядомы пісьменнік і паэт. У 2007 годзе на доме, дзе жыў знакаміты пінчук, была ўстаноўлена мемарыяльная дошка ў яго гонар.

Капусцінскі заўсёды з цеплынёй згадваў горад свайго дзяцінства – своеасаблівы палескі Вавілон, заселены беларусамі, палякамі, яўрэямі, украінцамі і рускімі. Ён любіў паразважаць пра драматычны лёс Пінска, у якім часта мянялася ўлада. Спачуванне землякам, што апынуліся ў палоне складаных сацыяльна-палітычных падзей часу, перарасло ў свядомую грамадзянскую пазіцыю пісьменніка – умець прыслухоўвацца да праблемаў жыхароў розных куточкаў планеты, якія аказаліся ахвярамі падобных канфліктаў. Р. Капусцінскі заслужыў павагу і аўтарытэт у прагрэсіўных колах чалавецтва найперш за свае гуманістычныя погляды, за здольнасць адкрыта, нягледзячы на неспрыяльныя для працы журналіста ўмовы розных рэжымаў, выказваць свае думкі.

Так было ў Польшчы, калі ў краіне набіраў сілу рух "Салідарнасці", так было ў многіх іншых гарачых кропках свету. Для журналісцкіх вандровак Р. Капусцінскі выбіраў не цывілізаваныя краіны Еўропы ці Амерыкі, а пераважна дзяржавы "трэцяга свету". Яны напаміналі аўтару Палессе далёкіх трыццатых гадоў. Яго артыкулы з Конга, Анголы, Эфіопіі і іншых краін прынеслі польскаму журналісту заслужанае званне "кароль рэпартажу". Сусветную славу Р. Капусцінскаму прынеслі кнігі "Яшчэ адзін дзень жыцця" (1976), "Цар" (1978), "Шах ін шах" (1982), "Футбольная вайна". Ён прызнаны лепшым польскім журналістам XX стагоддзя, узнагароджаны прэміяй Прынца Астурыйскага "За творчасць, якая садзейнічае збліжэнню розных народаў і культур". Пісьменнік двойчы намінаваўся на суісканне Нобелеўскай прэміі.

У 1989 – 91 гг. наш зямляк атрымлівае магчымасць здзейсніць даўно задуманае – ажыццявіць вандроўку па адной з магутнейшых імперый свету – СССР. Вынікам плённага журналісцкага падарожжа даўжынёю больш чым у 60 тысяч кіламетраў стала з'яўленне папулярнай кнігі "Імперыя", якая перавыдавалася ў Еўропе каля 20 разоў. Адкрываецца журналісцкі бестселер Р. Капусцінскага раздзелам, прысвечаным гісторыі горада дзяцінства пачатку Другой сусветнай вайны – "Пінск, 39".

Апрача журналісцкіх рэпартажаў і кніг-хронік, Р. Капусцінскі паспяхова асвоіў і іншыя мастацкія жанры. У Польшчы выдадзены два яго паэтычных зборнікі. Па яго сцэнарыях ажыццявілі пастаноўкі п'ес тэатры Польшчы, Канады,

Нарвегіі, Галандыі і іншых краін. Наш зямляк зарэкамендаваў сябе і як адмысловы фатограф. Яго фотавыставы з поспехам прайшлі як на радзіме, так і ў Венгрыі, Балгарыі. Сваім багатым вопытам і ведамі па гісторыі і культуры краін Афрыкі, Акеаніі і Амерыкі Р. Капусцінскі дзяліўся са студэнтамі універсітэтаў Варшавы, ЗША, Англіі, Індыі, Венесуэлы.

Пісьменнік некалькі разоў наведваў сваю малую радзіму. У Пінску здымаліся многія кадры дакументальнага фільма Занусі "Паэт на лініі фронту". Тут ён сустракаўся з землякамі-журналістамі, пісьменнікамі, з якімі дзяліўся сваёй даўняй марай – напісаць кнігу пра горад Пінск. Ён сабраў даволі грунтоўны і разнастайны матэрыял пра горад свайго дзяцінства: фотаздымкі і архіўныя дакументы, газетныя публікацыі і ўспаміны землякоў. На жаль, Р. Капусцінскі не паспеў ажыццявіць свае творчыя намеры – захаваліся толькі накіды, невялікія нататкі да будучай кнігі пра Палессе.

У 2007 годзе у выдавецтве "Мастацтва" выйшаў зборнік вершаў паэта з сімвалічнай назвай "Вяртанне". У кнізе змешчаны лепшыя творы Р. Капусцінскага ў перакладах на беларускую мову А. Шушко, на рускую – В. Грышкаўца.

Верлібры паэта ўражваюць чытача ўласцівым для геніяльных людзей спалучэннем мудрасці і прастаты. У яго паэтычных творах арганічна паядноўваюцца дэмакратызм светапогляду прадстаўніка цывілізаванай Еўропы і мяккі, уласцівы палешукам, гуманізм, спачувальнасць.

Памёр Рышард Капусцінскі ў 2007 годзе.

## МІКАЛАЙ ЛАЎРОВІЧ

Мікалай Аляксандравіч Лаўровіч нарадзіўся ў 1942 годзе на Наваградчыне ў вёсцы Баярскай. Як згадвае паэт пра сябе, "Я вырас ў звычайнай сялянскай сям'і, магчыма, таму родныя мясціны Наваградчыны – гэта не толькі бацькоўская сядзіба, якая стала для мяне крыніцай творчасці, гэта і рэчка, што журчыць за агародамі, гэта і паўнаводны Нёман, які вякамі нясе свае воды, гэта і ваколічныя палі, лугі, пералескі, нізіны". Тут жа скончыў Коса-Дворскую сямігодку. Экстэрнам у Ваўкавыску здаў экзамены за курс адзінаццаці класаў. Пасля арміі звязаў свой лёс з вайсковай службай. Закончыў Благавешчанскае вышэйшае танкавае вучылішча, Львоўскае палітычнае вучылішча. Служыў на Далёкім Усходзе, на Украіне, у Чэхаславакіі, у Туркменіі. З 1991 года – афіцэр запасу; стала пасяліўся ў Пінску, дзе займаецца адміністрацыйнай працай.

Пачаў друкавацца, яшчэ знаходзячыся на вайсковай службе, у ваенных газетах і часопісах. Асабліва плённа яго паэтычная творчасць разгарнулася ў горадзе над Пінай. Вершы М. Лаўровіча друкаваліся ў шматлікіх перыядычных выданнях, калектыўных зборніках і альманах паэзіі ў Беларусі ("Нёман", "Маладосць", ЛіМ", Гаспадыня" і інш) і за мяжой "Руссюе эхо", "Чёрное море" (Феадосія, Украіна) і інш.

На пачатку трэцяга тысячагоддзя адзін за другім з друку выходзяць яго



паэтычныя зборнікі, напісаныя на рускай мове: “Берег памяти” (2000), “Вечерние колокола” (2001), “Поздние звёзды” (2005), кніга вершаў і апавяданняў “Высокий полдень” (2006). Творчасць М. Лаўровіча разнастайная па тэматыцы: чалавек з багатым жыццёвы вопытам, ён імкнецца ахапіць сваім паэтычным бачаннем даволі значную прастору жыцця. Здаецца, найбольш удаюцца яму пейзажныя вершы, у якіх паэт шчыруе трапнымі эпітэтамі і метафарамі, па-новаму адкрываючы для чытача такі знаёмы свет простага і ў той жа час незвычайнага ў сваёй красе беларускага краю. У апошнім зборніку аўтар прысвячае любімай тэме раздзел пад красамоўнай назвай “Чистый звон родников”. Большасць вершаў паэта з гэтай нізкі – запамінальныя лірычныя эцюды пра розныя поры года. Нават цяжка вызначыць, лету, восені, зіме, ці лету аддае перавагу, сімпатыю М. Лаўровіч, што, хутчэй, сведчыць

пра аптымізм пісьменніка, яго жыццялюбства, здольнасць суперажываць прыродзе, разумець яе, жыць з ёю ў суладдзі. Так, у вершы “Апрель” паэт перадае магутную энергію жыццесярджальнай сілы вясны і чалавечага захаплення гэтай моцай і прыгажосцю:

М. Лаўровіч – паэт з выразнай патрыятычнай пазіцыяй, таму яго лірыка напоўнена шматлікімі вершамі, прысвечанымі Беларусі. І хоць аўтар не заўсёды пазбягае некаторай пафаснасці ў творах згаданай тэматыкі, адчуваецца, што яго пачуцці шчырыя і трывалыя, як, напрыклад, у вершы “Пинщина”.

*Над Полесьем раздолье ветрам,*
*Травы мягки и пышны по-лисьи.*
*И рождаются здесь по утрам*
*Сном омытые чистые мысли.*

*Я иду между рек и пою,*
*Шумный пляж беспечален и ярок.*
*Каждый день в этом добром краю*
*Для меня – словно друга подарок.*

*Я хочу плыть на быстрой волне*
*И бродить по траве предрассветной,*
*Чтобы край свой увидеть полней,*
*И воспеть, и любить беззаветней.*

## ЗІНОВІЙ ПРЫГОДЗІЧ

Нарадзіўся Зіновій Прыгодзіч 15 кастрычніка 1944 года ў вёсцы Лышча (на той час Лагішынскага раёна Пінскай вобласці) ў звычайнай сялянскай сям’і. Вучыўся ў мясцовай сярэдняй школе. Пасля яе заканчэння ў 1960 годзе стаў працаваць у лагішынскай газеце “Калгасная праўда”. Спрабаваў свае журналісцкія здольнасці і ў іншым накірунку СМІ – працаваў карэспандэнтам-арганізатарам мясцовага радыёвяшчання. Менавіта тут, на малой радзіме, у яго з’явілася мара – выпускаць выданне па сваім гусце, якое б радавала чытачоў

і прыносіла асабістае задавальненне. Малады журналіст разумеў, што для ажыццяўлення мары трэба ўдасканальваць свае прафесійныя якасці, а таму паступіў вучыцца на факультэт журналістыкі БДУ, які закончыў у 1967 годзе. Падчас вучобы не расставаўся са сваёй марай: пісаў дзённік, які пазней лёг у аснову аповесці "Журавы на далёкай пойме".

Пасля сканчэння факультэта журналістыкі Зіновій Прыгодзіч быў накіраваны на работу ў газету "Звязда" літсупрацоўнікам, затым працаваў загадчыкам аддзела. Вывучэнне геаграфіі Беларусі, паўсядзённага жыцця суайчыннікаў не па карце і падручнікам шліфавалі прафесійныя якасці журналіста, загартоўвалі яго характар. З 1977 года З.К. Прыгодзіч пачынае партыйную кар'еру, працуючы інструктарам аддзела культуры ЦК КПБ, памочнікам сакратара, у апараце ЦК КПБ. Работу ў партыйных органах ён спалучаў з вучобай у аспірантуры ў Маскве. Вынікам трохгадовай вучобы стала абарона кандыдацкай дысертацыі. З 1984 года З.К. Прыгодзіч загадваў кафедрай журналістыкі, мовы і літтаратуры ВПШ у Мінску.

Потым было ўсё: ізноў партыйная работа, журналісцкая дзейнасць у якасці галоўнага рэдактара газеты "Звязда". Яму пашчасціла сустрэцца з многімі вядомымі людзьмі сучаснасці. З.К. Прыгодзіч браў інтэрв'ю ў Васіля Быкава, мітрапаліта Філарэта, Уладзіміра Платонава, Міхаіла Савіцкага і многіх іншых. З 1992 года рэдагуе часопіс "Гаспадыня", канцэпцыя якога эвалюцыянавала з часу стварэння і да сучаснасці: ад імкнення выдаўцоў дапамагчы сям'і, жанчыне, падтрымаць яе маральна ў складаныя 90-ыя да жадання разнастаіць быт і адпачынак беларускай сям'і, далучыць яе да сусветных матэрыяльных і культурных здабыткаў сучаснай цывілізацыі. З 1986 года З. Прыгодзіч з'яўляецца членам СП Беларусі.

Першае апавяданне на рускай мове "Деньги» было надрукавана ў раённай газеце "Полесская правда". Спробы маладога журналіста ў жанры малой прозы прадвызначылі яго творчыя зацікаўленні. І надалей З. Прыгодзіч захаваў прыхільнасць да такіх жанраў, як апавяданне, нарыс, навела, дакументальная аповесць, лірычная мініяцюра. Творы пісьменніка-публіцыста, натуральна, вылучаюцца вастранадзённасцю праблематыкі: ён прысвячае іх працаўнікам вёскі, разважае аб праблемах сучаснай моладзі, захапляецца маральнымі якасцямі і багатай духоўнай культурай старэйшага пакалення. Гэтыя і іншыя тэмы пераважна сучаснага жыцця беларусаў знайшлі адлюстраванне ў наступных кнігах З. Прыгодзіча: "На палях рэспублікі" (публіцыстыка, 1968), "Добры дзень, сад!" (1974), "На сельских просторах" (1976), "Жменя зярнят" (1979) – нарысы і публіцыстыка, дакументальныя аповесці "Строгая доброта" (1976) і "Крылы дужэюць у палёце" (1977). У 80-ыя гады пісьменнік звярнуўся да мастацкай творчасці: ім былі напісаны аповесці "Журавы на далёкай пойме" (1984) і "Ноч перад нядзеляю" (1986), якая змешчана ў кнізе разам з вялікім раздзелам лірычных мініяцюр і абразкоў.

Першая аповесць З. Прыгодзіча пра студэнцкае жыццё шмат у чым працягвала яго папярэдні літаратурны вопыт, нагадваючы публіцыстычны стыль



дзённікавай формай аповеду і строгай фактаграфічнасцю.

У аповесці “Ноч перад нядзеляю” аўтар звярнуўся да традыцыйнай на той час “вясковай” тэмы ў беларускай літаратуры. Праблемы сялянскага жыцця цікавілі З. Прыгодзіча і па той простай прычыне, што былі добра знаёмыя пісьменніку: ён ішоў у сваёй творчасці ад уласна пераж ытага: “Чаму я так часта – і думкамі, і сэрцам – вяртаюся ў вёску? Напэўна, таму што там – мае карані, там – свет маіх казак, залатых сноў, здзейсненых і няздзейсненых мар. І яшчэ, напэўна, таму, што засталіся, жывуць у маёй душы, як малітва, як ачышчэнне, саборная цішыня бароў, шэпт спелай збажыны, пах свежага сена, смак глытка крынічнай вады ў спякотлівы дзень…” Аўтара аповесці непакоіць праблема захавання нават не столькі народных традыцый, звычаяў і мовы (так пашыраная ў сучаснай літаратуры!), колькі праблема парушэння пераемнасці маральна-этычных нормаў паміж пакаленнямі сучаснага грамадства. У З. Прыгодзіча, як і ў галоўнай гераіні аповесці старое Марылі, трывожны роздум выклікаюць эгаізм маладых людзей, прага да нажывы, нядольнасць супраціўляцца негатыўным тэндэнцыям сацыяльных рэалій, сляпое захапленне ўяўнымі каштоўнасцямі жыцця. Жанчына не можа знайсці паразумення са свамі дзецьмі: сын Янак не вытрымаў выпрабаванняў сямейнай неўладкаванасці і спіўся; другі сын, Алесь, якога вывучылі бацькі, жыве ў горадзе і непрыкметна чарсцвее душой; дачка Саня з зяцем Віктарам забралі маці ў горад з патаемным жаданнем прадаць яе хату і купіць сабе аўтамабіль. Адзіным паратункам для жанчыны сталася бацькоўская хата-прытулак, вобраз якой набывае ў творы сімвалічнае значэнне родных вытокаў, спрадвечных каранёў, ад якіх не варта адмаўляцца.

Характарызуючы мастацкі стыль прозы З. Прыгодзіча, літаратурны крытык Л. Савік адзначае ў ім “прыкметы індывідуальнай манеры празаіка – схільнасць да публіцыстычнага завастрэння думкі, аб’ектыўна-цвярозага жыцця герояў без настальгічна-сентыментальнай замілаванасці іх цэльнасцю, высокамаральнасцю, блізкасцю да зямлі, прыроды, што часта назіраецца ў маладых аўтараў”.

Акрамя прозы і публіцыстыкі, З. Прыгодзіч піша вершы, з якімі выступае ў перыядычным рэспубліканскім друку і калектыўных зборніках паэзіі. Апошнім часам ім апублікаваны нізкі вершаў у часопісх, паэма “Кукавала зязюля”, а таксама выйшаў зборнік вершаў “Калі б не ты” (2002).

## ВАЛЯНЦІНА ЛОКУН

Локун Валянціна Іванаўна, нарадзілася ў 1946 годзе ў вёсцы Цепянец Пінскага раёна. Скончыла Цепянецкую пачатковую школу, вучылася ў Малоткавіцкай сярэдняй школе, а з сёмага класа перайшла ў Пінскую завочную школу, якую і скончыла ў 1966 годзе з залатым медалём. У тым жа годзе паступіла на філалагічны факультэт (рускае аддзяленне) Брэсцкага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А.С.Пушкіна.

У 1974 годзе разам з сям’ёй пераехала ў г.Пінск. Вучылася ў

аспірантуры пры Беларускім дзяржаўным універсітэце імя У.І. Леніна. У 1984 годзе абараніла кандыдацкую дысертацыю па тэме “Праблемы стылю беларускай ваеннай прозы” (на матэрыяле творчасці В.Быкава, Б.Сачанкі, І.Чыгрынава). Працавала загадчыкам Цепянецкай бібліятэкі, старшым выкладчыкам Брэсцкага педінстытута ім. А.С. Пушкіна (1985 – 1998). З 1987 па 2007 год – старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Я.Купалы Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі, з 1987 па 1998 год сумяшчаючы працу ў Інстытуце літаратуры з працай ў педінстытуце.

В.І. Локун з’яўляецца членам Саюза беларускіх пісьменнікаў (1998), з 2006 года – член Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Лаўрэат прэміі Прэзідэнтаў Акадэміі навук Украіны, Беларусі і Малдовы (2004) – “за выполнение научно-исследовательской работы “Культурно-исторические белорусско-украинские связи: литературно-языковой аспект”. Двойчы лаўрэат прэміі часопіса “Полымя”: 1993, № 6 – за артыкул “У пошуках маральнага ідэалу. Проза Уладзіміра Караткевіча”; 2001, № 5 – за артыкул “Узняцца да лёсу агульначалавечага”. (Талстоўскія традыцыі ў развіцці беларускай ваеннай прозы.)

Узнагароджана медалём Святой Еўфрасінні Полацкай – ад ГА “Міжнародны Фонд Святой Еўфрасінні Полацкай” – за актыўны ўдзел у рабоце Фонда з мэтай распаўсюджання ідэй хрысціянскага высокага духу, хрысціянскай маралі, заснаванай на дабрыні і міласэрнасці, вялікую асветніцкую дзейнасць.

Першая публікацыя В. Локун з’явілася ў 1973 годзе ў раённай газеце “Полесская правда”.

Галоўным клопатам свайго творчага жыцця Валянціна Іванаўна лічыць кампаратывістыку, ці параўнальнае літаратуразнаўства. Пры гэтым “паралелі” ўвесь час шырыліся. Спачатку былі ўзаемасувязі і ўзаемаўплывы беларуска-рускай, беларуска-руска-украінскай літаратур. Пасля была беларуска-польская, беларуска-чэшская, беларуска-балгарская “паралель”. І нарэшце – беларуская проза ў кантэксце сусветнай літаратуры: нямецкай, англійскай, французскай, амерыканскай… Тыпалагічныя сувязі паглыбляліся генетычнымі, агульналітаратурныя метады і накірункі дапаўняліся індывідуальна-нацыянальнымі асаблівасцямі і традыцыямі – працэс развіцця літаратуры паўставаў як жывы, шматфункцыянальны арганізм.

В. Локун надзвычай плённа працуе ў галіне літаратуразнаўства. Піша на беларускай і рускай мовах. Яна з’яўляецца аўтарам наступных манаграфічных даследаванняў:

“**Да новых вышынь**”. (Зб. літ.-крыт. артыкулаў. Мн.: Мастацкая літаратура, 1991). У кнізе разглядаюцца ідэйна-мастацкія асаблівасці творчасці В. Быкава, І. Чыгрынава, І. Шамякіна, В. Казько, В. Карамазава, Ю. Бондарава, В. Астаф’ева, В. Бялова і інш.

“**Маральна-філасофскія пошукі беларускай ваеннай і гістарычнай прозы. 50 – 60 гады**”. (Манаграфія. Мн.: Навука і тэхніка, 1995). У цэнтры даследавання беларуская ваенная і гістарычная проза. Вызначаюцца маральна-



філасофскія аспекты твораў Я. Брыля, В. Быкава, А. Адамовіча, І. Навуменкі, І. Шамякіна – у суаднесенасці з развіццём эстэтычнай думкі рускай літаратуры (Ю. Бондараў, Р. Бакланаў, К. Сіманаў, В. Кандрацьеў, Б. Васільеў і інш.). У кнізе падкрэсліваецца філасофская шматспектнасць гістарычнай прозы У. Караткевіча.

"**Кругі жыцця, кругі літаратуры**". (Зборн кліт.-крыт. артыкулаў. Мн.: ГА БАК, 2002). У кнізе разглядаюцца асаблівасці творчага працэсу асобных беларускіх пісьменнікаў (А. Асіпенка, У. Дамашэвіч, І. Мележ), закранаюцца актуальныя праблемы развіцця нацыянальнай прозы (на матэрыяле творчасці І.Мележа). Змешчаны аглядны артыкул "Проза – 96" – з мэтай выявіць асноўныя накірункі развіцця сучаснай беларускай прозы. Аналізуюцца асобныя творы В. Казько, В. Карамазава, А. Жука, А. Масарэнкі, В. Коўтун і інш. – у кантэксце развіцця беларускай літаратуры канца XX стагоддзя.

"**Васіль Быкаў у кантэксце сусветнай літаратуры**". (Манаграфія. Мн.: УП "Тэхнапрынт", 2005). Упершыню творчасць В.Быкава (увогуле беларуская ваенная проза) аўтар даследуе ў такім шырокім сусветным кантэксце. Творы В.Быкава разглядаюцца ў параўнанні і супастаўленні з літаратурай "згубленага пакалення" – Э. Рэмарк, Э. Хэмінгуэй, Р. Олдзінгтон, У. Фолкнер. Выяўляюцца тыпалагічныя сувязі твораў В. Быкава з экзістэнцыяльнай літаратурай – Ф. Дастаеўскі, А. Камю, Ж.-П. Сартр і інш.

У сааўтарстве з іншымі вядомымі літаратуразнаўцамі Валянціна Іванаўна прымала ўдзел у напісанні кніг: "**Нарысы беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей**" (Мн. Беларуская навука. 2002.), "**Беларуская літаратура ў кантэксце славянскіх літаратур XIX – XX ст.ст**." (Мн.: Беларуская навука, 2006).

Акрамя таго, В.І. Локун – адна з аўтараў "**Гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя**". У 4-х тамах. (Мн.: Беларуская навука, 1999 – 2002) і больш за 100 навуковых артыкулаў па праблемах развіцця беларускай літаратуры ў кантэксце сусветнай літаратуры.

Валянціна Іванаўна пражывае ў Пінску, падтрымлівае цесныя кантакты з літаратурным асяроддзем горада. Яна адна з першых на навуковым узроўні зрабіла спробу прасачыць гісторыю літаратуры краю, асабліва дэталёва аналізуючы творчасць сучасных пісьменнікаў Піншчыны. В. Локун шчыра і прафесійна падтрымлівае паэтаў і пісьменнікаў краю, адгукаючыся аб'ектыўнай, часцей спагадлівай рэцэнзіяй на тую ці іншую кнігу пісьменнікаў-землякоў.

## ВАЛЯНЦІНА КОЎТУН (НОВІК)

Нарадзілася я на Гомельшчыне ў 1946 годзе ў вёсцы Дземяхі, але ўсё маленства і юнацтва правяла на Піншчыне. Бацькі, першыя настаўнікі Піншчыны Міхаіл Фядосавіч і Ганна Раманаўна Коўтун, сустрэліся ў Хрысцібалавіцкай школе яшчэ ў 1945 годзе.

Дземяхі акружалі магутныя, прапахлыя суніцамі і баравікамі,

пракаветныя лясы, куды маці адносіла сабраную хлопцамі-аднавяскоўцамі інфармацыю пра рух на станцыі. Вось гэтыя лясы, але ўжо ў пяцідзесятых, так часта згадвала і я, калі жыла разам. з бацькамі на Піншчыне. І Ведрыч з Ясельдаю, і сунічныя лясы, і залатыя хрушчы над акацыямі, і веснавыя паводкі ў Сушыцку на Піншчыне – усё гэта пазней увайшло, уляцела ўсімі гукамі і пахамі ў мае першыя вершы і апавяданні – “Стары бубен”, “Перайсці раку”, “Пацеркі для Веры”, “Тарба”, “Малінавае шчасце”... Усё – з маленства, з жывой памяці...

Мая Піншчына – гэта і веснавыя бяскрайнія паводкі, калі разліў падыходзіў да самага парога, і даўжэзныя вясковыя вуліцы, і густыя высачэзныя маліннікі, і торфараспрацоўкі... І ўся жывая, агучаная небам і зямлёю, невераемна дзікая, анімістычна ўспрынятая прырода, магма палескага сусвету. Але найперш быў гэта жывы адбітак Боскага Помыслу. Гэта, пэўна, вялікі шанец, што ў вясковых бібліятэках і на паліцах нашай хатняй этажэркі я, пэўна, яшчэ толькі сямі – альбо васьмікласніца, знайшла багацейшае па тым часе “чціва”. І не толькі расейскую класіку, але найперш Фейхтвангера. І нават японскую і кітайскую літаратуру. Беларуская літаратура, на жаль, прыходзіла толькі ў межах школьнай праграмы. І пашырыць яе не змагла нават Малоткавіцкая адзінаццацігодка, дзе я пачала вучыцца пасля пераезду бацькоў на працу ў весачку Жабчыцы. Нарэшце – школа за плячыма. Затое у першай працоўнай кніжцы з’явіўся запіс аб тым, што 1.09.63 г. я была прызначана старшай піянерважатай Паршавіцкай ся-рэдняй школы (цяпер – вёска Бярозавічы). А яшчэ праз год з’явіўся запіс і аб пачатку маёй вучобы на філалагічным факультэце Львоўскага дзяржаўнага універсітэта імя Івана Франка.

Наколькі помніцца, мае першыя вершы, у перакладзе на украінскую мову, былі надрукаваны ў львоўскай газеце “Ленінська молодь” вясною 1967 г., калі была студэнткаю філалагічнага факультэта Львоўскага дзяржаўнага універсітэта і жыла ў тым самым доме, дзе ў пачатку ХХ ст. жыла знакамітая беларуская паэтэса-рэвалюцыянерка і асветніца Алаіза Пашкевіч (Цётка). Пасля першых публікацый у “Маладосці” і “ЛіМе”, і дзякуючы клопатам Еўдакіі Лось, змагла перавесціся са Львова у Белдзяржуніверсітэт. Увесь гэты час маю ўвагу не адпускала ад сябе тытанічная постаць Алаізы Пашкевічанкі, лёс якой з цягам часу стане і маім уласным... Спачатку былі напісаны паэмы і п’есы, прысвечаныя Цётцы, што добра су-седзілі з вершамі аб роднай Беларусі, Ясельдзе, матчынай песні. Піншчына стала асновай самых трапяткіх маіх твораў. Наколькі помніцца, нават першая паэма “Аблога Пінска” была прысвечана гістарычнай тэматыцы – абароне Пінска ад татара-манголаў. Хацелася б назваць тут і іншыя паэтычныя зборнікі і кнігі прозы: “Каляровыя вёслы” (1966), “На ўзлёце дня” (1977), “На зломе маланкі” (1981), “Калінавая кронка залатая” (1988), “Метраном” (1985), “Лісты да цябе” (1988), “Белый гром” (1987). Найбольш вагомае празаічнае выданне – дылогія “Крыж міласэрнасц” (1996), паводле якой быў створаны чатырохсерыйны мастацкі фільм (рэжысёр Дыямара Ніжнікоўская).



Дарэчы, кніга паэзіі “Метраном” была адзначана Літаратурнай прэміяй імя Аркадзя Куляшова. Згадаю і выданні для дзяцей: “Мы робім казку” і “Вяселы заасад”, кнігі літаратурнай крытыкі і навуковыя даследаванні “Святло народнага слова” (1984), “Стала песняю ў народзе” (1999) і інш.

Калі мяне пытаюць пра пачатак творчага шляху, то згадваю найперш годныя і велічныя постаці такіх пісьменнікаў, як Іван Мележ, Анатоль Вярцінскі, Вера Палтаран, Анатоль Вялюгін, Пімен Панчанка... Хіба можна забыць, як падчас прыёму мяне ў Саюз пісьменнікаў, а маладзенькую “львавянку” яшчэ не зусім добра ведалі, Пімен Амяльянавіч падчас абмеркавання падняўся і прачытаў сваім прыглушаным голасам маё...

*“Сцяную лес, гусцее вецце і раптам гэты, з трэскам, гук, Як быццам напароўся вецер Грудзьмі на самы востры сук... І ўпаў у цень з глыбокай ранай, А лес трывожна анямеў. Напэўна, гінуць ад маланак Найлепшыя з высокіх дрэў”.*

Прачытаныя Піменам Панчанкам перад шаноўнай аўдыторыяй літаратурных мэтраў радкі зрабілі сваю справу і маладзенькая студэнтка стала членам Саюза беларускіх пісьменнікаў (1975). Пасля заканчэння Белдзяржуніверсітэта трапіла на Астравеччыну – настаўніцай Варнянскай сярэдняй школы, аб чым з цеплынёю ўспамінаю і сёння. Не забуду і пра дапамогу Янкі Брыля, які, па-сутнасці, выцягнуў мяне з далёкай Гродзеншчыны ў “Сельскую газету”, даўшы магчымасць творча кантактаваць з Жэняй Янішчыц, Святланай Алексіевіч, якая, дарэчы, займае першы радок рэцэнзентаў мае тагачаснай паэзіі. Аўтабіяграфія – не раман, не паэма, не песня. Гэта твор асаблівага жанру: гісторыя душы і лёсу. Для мяне гэта найперш гісторыя тых, хто прыйшоў у літаратуру з пакалення “высокіх дрэў”. Знарок не кранаю складанасцей Цётчынай тэмы ў маёй творчасці. Усе, што асэнсавала, думала, перажыла – у радках і старонках паэм і дылогіі “Крыж міласэрнасці”. Асаблівая тэма для мяне – паэтыка нашай незвычайнай народнай песні. Менавіта гэта і стала асновай кандыдацкай дысертацыі, абароненай у Інстытуце мастацвазнаўства, этнаграфіі і фальклору ў 1980 годзе.

У 1993 годзе разам са сваім калегамі і сяброўкамі, сярод якіх народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч, кампазітар Галіна Гарэлава, урач-афтальмолаг, прафесар Тамара Бірыч, стварыла Усебеларускі (цяпер Міжнародны) жаночы фонд Ефрасінні Полацкай. І прызнаюся, што ўзялася за гэтую справу адразу ж пасля Першага з’езду беларусаў свету. Самы важны набытак гэтага перыяду – заснаванне новай нацыянальнай традыцыі, што адбылося пры падтрымцы Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Экзарха усёй Беларусі Філарэта. Маю на ўвазе Агульнанародны дзень Святой Ефрасінні Полацкай – 5 чэрвеня.

За плячыма больш 1000 публікацый у беларускай, рускай, украінскай, нямецкай, літоўскай перыёдыцы, у дзесятках міжнародных зборнікаў, выданнях Арганізацыі Аб’яднаных Нацый. У творчым актыве таксама шэраг пастановак народных тэатраў, радыёперадач. За пераклады твораў знакамітых украінскіх

паэтаў Рамана Лубкіўскага, Ліны Кастэнка, Івана Драча і іншых была прынята ў Саюз пісьменнікаў Украіны.

*(З аўтабіяграфіі)*

Ніколі В. Коўтун не парывала духоўнай сувязі з Піншчынай, якая асацыіруецца ў вершах паэтэсы з любымі сэрцу вобразамі маленства і юнацтва: загадкавай Ясельды і шырокай, імклівай Прыпяці, цёплай бацькоўскай хаты і зялёнага саду, гордага палешука і нястомнай бабулі-жніцы. Узорам філасофскай змястоўнасці, выяўлення шчырых патрыятычных пачуццяў, глыбокай насычанасці вобразаў-сімвалаў з'яўляецца верш В. Коўтун "Трыпціх". Кожная з трох частак твора ("Ручнік з пеўнямі", "Песня" і "Кросны"), напісанага ў блізкай да эпічнай, баладнай форме, нясе свой сэнс, які вырастае ў мастацкую верыфікацыю гістарычнага шляху бацькаўшчыны. Паэтка на ўласным пачуццёвым узроўні разважае аб сваіх і нацыянальных вытоках, метафарычна ўслаўляючы паяднанасць, гармонію чалавека і прыроды, творчасць – як вышэйшае выяўленне духоўных памкненняў асобы:

*Спеў уваходзіў з добрых дзён,*
*Дзе маладосць і шчасце блізка,*
*Дзе хата, светлая, як лён,*
*З буслíхай белай над калыскай.*

В. Коўтун часта звяртаецца ў сваіх творах да слаўнай мінуўшчыны беларусаў не толькі з высакароднаю мэтаю яе пазнання, але і спадзеючыся адшукаць там духоўнае апірышча, моц і перакананасць у абраным беларусамі шляху. І яна знаходзіць іх: у вобразах нескароных гордых палешукоў ("У якіх суровых вёснаў…"), у сімвалічных вобразах *крамяністых дрэваў*, якіх у беларускім краі *ўсё болей і болей*, у гераічных постацях самаахвярных беларускіх жанчын Ефрасінні Полацкай (Свята-Ефрасініеўскі раман "Пакліканыя") і Алаізы Пашкевіч (раман "Крыжміласэрнасці". Паэма "На зломе маланкі" і цыкл вершаў "У вянок Цётцы"):

*Мы з кніг зямных, мы з цвёрдага рабра,*
*За дух змагання сплачваем сурова.*
*І кожны з нас гарыць на тых кастрах,*
*Дзе ўжо былі Народы, Кнігі, Словы…*

Сваю першую паэму "А Прыпяць не спіць…" (1973) В. Коўтун таксама прысвяціла гістарычным падзеям, а дакладней, гераічнай абароне Айчыны, роднага Пінска нашымі землякамі ад мангола-татарскага нашэсця ў 1240 годзе.

Як слушна заўважае большасць крытыкаў, сярод якіх У. Гніламёдаў, А. Бельскі, А. Марціновіч, В. Локун і іншыя, для творчасці В. Коўтун характэрныя метафарычнасць і асацыятыўнасць мыслення, непарыўная сувязь з духоўнымі і маральнымі традыцыямі народа, імкненне да эпічнай шырыні, маштабнасці ў адлюстраванні гістарычных падзей.



Міхаіл Фёдаравіч Дубянецкі нарадзіўся 4 сакавіка 1927 года ў вёсцы Востраў Пінскага раёна ў шматдзетнай сялянскай сям'і. Вёска была даволі вялікая: з'яўлялася цэнтрам вялікай парафіі ў ваколіцы, з пасляўніяцкаю царквою (гэта быў заходнебеларускі перыяд у гісторыі Піншчыны), з некалькімі крамамі і млынамі, малатарнямі і кузнямі. А галоўнае – ў вёсцы была польская сямігодка, у якой і навучаўся М. Дубянецкі. Ён быў сярод лепшых вучняў школы. Як прыгадвае ў аўтабіяграфіі Міхаіл Фёдаравіч, нягледзячы на значную паланізацыю школьнай адукацыі, ён ніколі не лічыў сябе "тутэйшым" – заўсёды пачуваўся нашчадкам палешукоў. Між тым з павагаю і цікавасцю адносіўся да польскай культуры, захапленне якой не страціў і ў сталым узросце: "Я і цяпер не ўяўляю свайго жыцця без паэзіі Міцкевіча, Славацкага, Канапніцкай і Сыракомлі, без раманаў Крашэўскага, Сянкевіча, Рэйманта, Пруса, Ажэшкі".

І ўсё ж захапленне родным словам, імкненне спасцігаць іх сэнс, паходжанне дамінавала ў свядомасці палескага юнака, выклікала ў М. Дубянецкага неадольнае жаданне вывучаць беларускую літаратуру. Такую магчымасць ён атрымаў толькі пасля вызвалення Заходняй Беларусі ад польскай акупацыі ў 1939 годзе, навучаючыся спачатку ўжо ў беларускай школе, а потым – завочна ў Пінскім педагагічным вучылішчы. Пасля яго заканчэння ў 1944 годзе некаторы час працаваў у вёсцы Лемяшэвічы настаўнікам пачатковых класаў. Пазней была служба ў арміі, дэмабілізацыя, партыйная вучоба і праца на адказных пасадах у Пінску і Ганцавічах.

З 1958 года пачынаецца журналісцкая кар'ера М. Дубянецкага, які за кароткі чатырохгадовы тэрмін прайшоў прафесійны шлях ад намесніка рэдактара ганцавіцкай газеты "Сялянская праўда" да галоўнага рэдактара рэспубліканскага выдавецтва "Ураджай". І ў 70-ыя гады Міхаіл Фёдаравіч працягваў актыўна займацца выдавецкай дзейнасцю, рэдагуючы спачатку Беларускую Савецкую Энцыклапедыю, а потым узначальваючы "мастацкую літаратуру".

Нягледзячы на тое, што адказная праца займала шмат сілаў і часу, М. Дубянецкі не забываўся і на творчасць. З 1964 года ён плённа займаецца мастацкімі перакладамі з польскай, рускай і ўкраінскай моў. Варта заўважыць, што наш зямляк быў вельмі разборлівы ў выбары аб'екту перакладаў, прапануючы беларускаму чытачу кнігі прагрэсіўнага гуманістычнага гучання: творы, В. Распуціна, С. Жаромскага, "Блакадную кнігу" Д. Граніна і А. Адамовіча і іншых папулярных пісьменнікаў другой паловы 80-ых.

## ЯЎГЕНІЯ ЯНІШЧЫЦ

Яўгенія Іосіфаўна Янішчыц нарадзілася 20.11.1948 года ў вёсцы Рудка Пінскага раёна ў сялянскай сям'і. Вучылася спачатку ў мясцовай пачатковай школе, потым – у Мерчыцкай, а закончыла 9, 10 класы ў Парэцкай.

Яе паэтычны талент выявіўся даволі рана, яшчэ ў 7 класе, калі Жэня, не знайшоўшы ў вясковай бібліятэцы вершаў-прысвячэнняў Якубу Коласу, падрыхтавала да ўрока літаратуры самастойна напісаны твор. Але невядома, як бы далей склаўся лёс таленавітай дзяўчынкі з Палесся, калі б на яе шляху не сустрэліся людзі, настаўнікі, якія не толькі змаглі разгледзець, ацаніць яе паэтычныя здольнасці, але і падтрымаць яе, пераканаць у неабходнасці працягваць літаратурныя пошукі. Першым Жэню (так называлі паэтку і родныя, і землякі, і калегі па пяру) заўважыў і натхніў на напісанне новых паэтычных твораў настаўнік рускай мовы і літаратуры Парэцкай сярэдняй школы Фёдар Фёдаравіч Цудзіла, які прафесійна вылучаў і беражліва пеставаў і ахоўваў творчыя намаганні сваіх навучэнцаў. Прачытаўшы ў школьным рукапісным альманаху "Ясельда" верш Жэні, настаўнік зразумеў, што ў дзяўчынкі незвычайны Божы дар і рабіў усё магчымае, каб ён хутчэй і паўнавартасней раскрыўся.

І, сапраўды, зорка Я. Янішчыц, Ясяльдзянкі, як яна падпісвала напачатку свае вершы, узыйшла імкліва і ярка зазіхацела на паэтычным небасхіле Беларусі. У 1964 годзе ў раённай газеце "Палеская праўда" быў апублікаваны яе першы верш "Голуб", а ўжо праз год выпускніца Парэцкай школы Жэня Янішчыц прымала цёплыя і шчырыя віншаванні землякоў з перамогай у рэспубліканскім конкурсе юных паэтаў, аб'яўленым беларускай радыёстанцыяй "Арляняты". У тым жа 1965 годзе яе вершы зрабілі сапраўдны фурор у рэдакцыі штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва", і адзін з супрацоўнікаў газеты Сяргей Панізнік, будучы муж Я. Янішчыц, тэрмінова выехаў у палескую вёсачку Велясніца за творамі таленавітай дзяўчыны. Варта, заўважыць, што на той час Жэня ліставалася з вядомымі пісьменнікамі, якіх падкупала натуральнасць і шчырасць Жэнінага светаўспрымання, цікавыя і арыгінальныя мастацкія пошукі юнай паэткі. Асабліва шанавала і з нецярпеннем чакала Жэня крытычныя словы Ніла Гілевіча, які, па словах яе маці, Марыі Андрэеўны, стаў для Янішчыц сапраўдным паэтычным бацькам.

У 1965 годзе паступіла на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. Жэня адразу ж прычынілася, як і многія іншыя яе сакурснікі, да неабдымнага свету прыгожага пісьменства і ўзвышанасці душы. Лекцыі, семінарскія заняткі, якія праводзілі высокакваліфікаваныя выкладчыкі (многія з іх займаліся адначасна і літаратурнай творчасцю: А. Лойка, Ніл Гілевіч, Дз. Бугаёў, Р. Семашкевіч, М. Ларчанка і інш.), клікалі да разняволенасці думак, іх мастацкай рэалізацыі і выяўлення шчырых юнацкіх пачуццяў. Станаўленню творчай асобы Я. Янішчыц спрыяла і незвычайна адоранае студэнцкае асяроддзе, "самабытна творчы і вірлівы ад талентаў



паэтычны кацёл" (паводле ўспамінаў аднакурсніка Жэні А. Бутэвіча), у якім "варыліся" будучыя вядомыя беларускія паэты, празаікі, крытыкі, публіцысты А. Разанаў, В. Ярац, Т. Шамякіна, Г. Пашкоў, С. Законнікаў, М. Дукса, Г. Далідовіч, Л. Дайнека і многія іншыя. Жэня стала адметнай фігурай у дзейнасці філалагічнага літаб'яднання "Узлёт".

У 1970 годзе, калі Я. Янішчыц вучылася на пятым курсе, убачыў свет яе першы зборнік "Снежныя грамніцы". Даверлівыя вершы паэткі, імкненне да ўсё большай мастацкай дасканаласці, уменне пранікнуцца чужым болем і светаўспрыманнем дружна вітала тагачасная крытыка, а, бадай, самы аўтарытэтны літаратуразнаўца ў галіне паэзіі Рыгор Бярозкін напісаў грунтоўную і абнадзейваючую рэцэнзію на зборнік. Акрамя таго, Жэня актыўна друкавалася ў рэспубліканскай перыёдыцы. Яшчэ студэнткай Я. Янішчыц прымаюць у Саюз пісьменнікаў Беларусі. Творчасць цалкам захапіла паэтэсу. Адзін за другім выходзяць паўнавартасныя кнігі паэзіі "Ясельда" (1978), "На беразе пляча" (1980), "Каліна зімы" (1987), "У шуме жытняга святла" (1988), "Выбранае" (1988). За зборнік вершаў "Дзень вечаровы" ёй была прысуджана прэмія Ленінскага камсамола Беларусі, а за кнігу "Пара любові і жалю" – Дзяржаўная прэмія Беларусі імя Я. Купалы (1986).

Пасля заканчэння універсітэта Я. Янішчыц некаторы час працавала загадчыцай бібліятэкі ў ЦК ЛКСМБ (1971), з 1976 года – літкансультантам "Сельской газеты". У 1983 – 1988 гг. загадвала аддзелам паэзіі часопіса "Маладосць". У 1981 годзе Я. Янішчыц у якасці члена дэлегацыі БССР прымала ўдзел у рабоце чарговай сесіі Генеральнай Асамблеі ААН.

Жэня вельмі любіла сваю малую радзіму. Яна так і не змагла адаптавацца да імклівага рытму сталічнага жыцця: яе душа ірвалася ў родную Велясніцу, на Ясельду: *"Ёсць у мяне глыбінная туга Па далавых і ціхіх берагах..."* З удзячнасцю Жэня прыгадвае ў сваіх вершах не толькі самых блізкіх людзей, родных – бацьку, якога яна страціла яшчэ маленькай дзяўчынкай, маці, бабулю і дзядулю, але і многіх землякоў, сціплых і працавітых вяскоўцаў. Я. Янішчыц мела надзвычай чулае сэрца, якое спагадліва адгукалася пранікнёнымі, шчымлівымі вершамі на чужыя боль ці гора. Паэтэса спачувае шматлікім жанчынам, "*з вайной заручаным удовам",* якіх у вёсцы ці не паўсяла. Лёсы землякоў, так падобныя сваім трагізмам да жаночых выпрабаванняў ваеннага і пасляваеннага ліхалеццяў, што перажыла і яе маці, сталі сюжэтнай асновай лірычных прысвячэнняў аднавяскоўцам: "Балада вернасці", "Дзед Сымон", "Цётка Матрона", "Салдаткі", "Сава і Марына", "Марыся" і інш. Хрэстаматыйным стаў верш паэтэсы "У бабулі Паланеі", невыказнае гора якой – пяць загінуўшых у вайну сыноў – Я. Янішчыц змагла перадаць эмацыйна дакладна, скупа-лаканічнымі, але чуллівымі словамі спрычыніўшы і чытача да трагічных абставін сямейнага лёсу вясковай жанчыны:

*А чаму – пытаць не смею.*
*Для бабулі свет не міл –*
*У бабулі Паланеі*
*Пяць сыноў і пяць магіл.*

Тэмай малой радзімы, знаёмых сэрцу мясцінаў і іх насельнікаў, паэтэса, бясспрэчна, не абмяжоўваецца; яна ўсведамляе сябе дачкой вялікага, працавітага і мужнага народа Беларусі, з яго непаўторнай культурай, багатай духоўнай спадчынай, драматычным гістарычным лёсам:

*Стагоддзяў вехі за плячыма...*
*І ворагаў найноўшых злосць?*
*Мой вечны шлях, мая Айчына,*
*Люблю цябе такой, як ёсць!*

Я. Янішчыц прысвячае свае творы не толькі вядомым землякам, мастакам слова, народжаным на Палессі, сваім школьным і універсітэцкім настаўнікам, але і знакамітым постацям Беларусі: Янку Купале, Якубу Коласу, Максіму Багдановічу, Ф. Багушэвічу, Васілю Быкаву, Нілу Гілевічу, Р. Барадуліну і інш. Цікавяць дапытлівую ясяльдзянку і тыя факты з гісторыі яе краю, што звязаныя з жыццём і творчасцю рускіх пісьменнікаў Ф. Дастаеўскага і А. Блока: "Па дарозе ў Дастоева" і "Гамаюн на Палессі" адпаведна.

Пра творчую манеру пісьма Я. Янішчыц, адметнасць яе мастацкага таленту дакладна сказаў У. Гніламёдаў, вядомы даследчык паэзіі з Берасцейшчыны: "Яўгенія Янішчыц – лірык перш за ўсё, цалкам і поўнасцю". А гэта значыць, што ў яе паэзіі, як ні ў каго з іншых прадстаўнікоў прыгожага пісьменства думка падпарадкоўваецца пачуццю. Асновай творчасці, найвялікшым пачуццём і найвялікшым шчасцем для чалавека, як сцвяржае ў сваіх вершах паэтэса, з'яўляюцца ўсеабдымная ў сваіх праявах *любоў* і інтымны востраў *кахання*. ***"Пачынаецца ўсё з любві, А інакш і жыць немагчыма"*** – гэтыя радкі з верша "Ты пакліч мяне, пазаві..." сталі своеасаблівай візітоўкай паэтэсы, хранатопна-пачуццёвай квінтэсэнцыяй яе творчасці. Любоў, у разуменні Я. Янішчыц, паняцце шматмернае, якое атаясамліваецца з вядомым пастулатам хрысціянскай маралі і скіраванае ці не на ўсё жыццё чалавека:

*"Я вас люблю" – няма каму сказаць?*
*А мне ў любві да скону не змыліцца:*
*Я вас люблю, лясы і сенажаць,*
*Старая вёска, новая сталіца.*

Янішчыц навечна адляцела ў іншасвет у 1988 годзе.

На мемарыяльнай дошцы, што сціпла пазірае з бацькоўскай хаты на яркія фарбы асенніх кветак, прынесеных сюды прыхільнікамі таленту Я. Янішчыц з нагоды свята беларускай паэзіі, выгравіраваны геніяльныя прарочыя радкі Паэта, напоўненыя аптымізмам вечнага паяднання з радзімай:

*Рукавочкам – да рукі,*
*Паяском да пояса,*
*З вамі разам, землякі,*
*І ў зямлі не боязна.*

Пінчукі годна адплацілі таленавітай зямлячцы незабыўнай памяццю, увагай і клопатам пра яе асобу: у Парэцкай школе створаны музей знакамітай выпускніцы, раённай бібліятэцы прысвоена імя Я. Янішчыц, адна з вуліц г. Пінска



таксама носіць яе імя.

## ТАМАРА ЛАЗНЮХА

Тамара Пятроўна Лазнюха нарадзілася 1 лістапада 1948 года ў вёсцы Дамашыцы на Піншчыне. Пасля школы закончыла Мінскі тэхналагічны тэхнікум. Працавала на Пінскай фабрыцы мастацкіх вырабаў.

У пачатку кастрычніка 1980 года цяжка захварэла, у выніку чаго стала інвалідам 1 групы (фізічная нерухомасць). Сілы Тамары Пятроўне надаюць дзеці, унукі і творчасць. Піша пераважна на рускай мове.

Проба пяра адбылася яшчэ ў школьныя гады, але першыя публікацыі паэткі з'явіліся значна пазней. Паэтэса друкавалася як у айчынных, так і замежных перыядычных выданнях: "Літаратура і мастацтва", "Советская Белоруссия", "Голас Радзімы", "Беларуская ніва", "Наша доля", "Віцьбічы", "Заря", "Белые снегири" (Москва) і інш., а таксама ў калектыўных зборніках і альманахах паэзіі "Вначале было слово" (Москва), "Ды ўваскрэсне любоў", "Гоман", "Пішчына літаратурная" і інш.

Т. Лазнюха – аўтар паэтычных зборнікаў "Цветом рубина" (1998), "Незамерзающий причал" (2002), "Зов дорог" (2004), "Сиреневое пламя" (2007 у сааўтарстве з Вольгай Курдзюмавай). Назвы кніг паэзіі Т. Лазнюхі сведчаць не толькі пра яе выразна лірычнае светаадчуванне, але і пра моцны характар чалавека, які здольны дапамагчы і паспачуваць іншаму. Фізічны стан паэткі навучыў яе цаніць кожную хвіліну жыцця, радавацца нават самай нязначнай прыемнай падзеі, выпадку, яна бясконца ўдзячная тым, хто можа зразумець яе, хто натхняе на вершы, не дае спакутаванай душы ўпасці ў адчай. Можа, таму ў творчасці паэтэсы шмат вершаў-прысвячэнняў. Яна адрасуе іх сваім родным, настаўнікам, паэтам-землякам Н. Прыступе, В. Грышкаўцу, Я. Янішчыц, М. Лаўровічу, класікам паэзіі Я. Купале, Я. Коласу, А. Блоку, знаёмым і сябрам, якія дапамагаюць ёй пераадольваць жыццёвыя цяжкасці. Па-чалавечы шчырымі і шчымлівымі ўспрымаюцца радкі Т. Лазнюхі пра лёс Я. Янішчыц:

*Узляцець змагла да зор!*
*Творчы чалавек!*
*Зачароўвала б прастор,*
*Ды кароткі век...*

Шмат вершаў Тамара Пятроўна прысвяціла роднай Піншчыне – ад урачыстага "Гімну гораду Пінску" да пранікнёных лірычных замалёвак пра родныя краявіды.

## НІНА ГАРАГЛЯД

Ніна Васільеўна Гарагляд нарадзілася 20 лютага 1952 года на хутары Паўлінава Пінскага раёна. Сярэднюю адукацыю атрымала ў Целяханскім дзіцячым доме. Закончыла беларускае аддзяленне Брэсцкага педінстытута. Прафесійныя варункі вымушалі яе пераязджаць з месца на месца, пакуль

Н. Гарагляд стала не затрымалася ў Камянцы. Тут яна працавала на розных пасадах у раённай газеце, якая спачатку называлася “Ленінец”, а потым – “Навіны Камянеччыны”. Цяпер з’яўляецца галоўным рэдактарам гэтага перыядычнага выдання.

Свае першыя вершы паэтка надрукавала ў зборніку беларускай паэзіі “Нашчадкі” ў 1979 годзе. Пазней яе творы з’явіліся ў калектыўным зборніку “Паэзія Берасцейшчыны. Дзядзінец”. Часта друкавала свае вершы ў абласной газеце “Заря”, газетах “ЛіМ”, “Звязда”, часопісах “Маладосць”, “Нёман”, а таксама ў нумарах беларускамоўнага альманаха “Дзень паэзіі”. Выдала ўласны зборнік паэзіі “Матчына песня”. Ніна Васільеўна з’яўляецца членам Саюза журналістаў Беларусі. Акрамя захаплення паэзіяй, Н. Гарагляд шмат займаецца журналісцкай дзейнасцю. Яе арыгінальныя і цікавыя публіцыстычныя замалёўкі, эсе, інтэрв’ю пра культуру рэгіёну беларускай Белавежы, пра вядомых людзей краю можна часта ўбачыць на старонках раённай газеты. Доўгі час Ніна Васільеўна ўзначальвала мясцовае літаб’яднанне “Пушчанка”.

Лірыка Н. Гарагляд вылучаецца асаблівай даверлівасцю, прастатой выказвання, і гэтым прываблівае шматлікіх прыхільнікаў яе таленту. Адметнасці паэтычнага светаўспрымання акрэсліілі і асноўны тэматычны абсяг яе Любові – да маці, да каханага, да радзімы. Ці не кожны з паэтаў прысвячаў вершы самаму блізкаму чалавеку, ды не кожны змог так проста, пяшчотна і так чулліва-пазнаваема выявіць свае пачуцці да маці. Да глыбіні душы кранаюць радкі паэткі з верша “Памяці маці”, у якіх яна змагла паказаць боль негаючай страты:

*Першыя жмені жвіру*
*Застукалі па труне так гулка.*
*Хай пухам будзе табе зямля,*
*А не пасцеллю мулкай.*
*Я лепшыя кветкі табе прынясу,*
*Зайдуся ў горкі плачы.*
*Ні белых рамонак,*
*Ні сініх валошак*
*Ты, мамачка, не ўбачыш.*

Шмат вершаў Н. Гарагляд напісаны аб каханні. Яе лірычная гераіня розная ў выяўленні сваіх пачуццяў: ад шчаслівай дзяўчыны, якая жыве светлымі спадзяваннямі чыстага і светлага кахання – *Мне цалаваў далоні І твар, як святую ікону. Спляталіся рук, як травы, Пярсцёнкі на нашых правых…* – да сталай жанчыны, што зазнала боль разлукі ці нават страты з каханым:

*…Пасалю слязой падушку.*
*Ранак пад акном імжыць…*
*Азірнуся. Дзе ты, любы?*
*Побач чалавек чужы.*

Хоць Камянеччына з часам і стала для паэткі другой радзімай, для Ніны Гарагляд на ўсё жыццё засталіся самымі роднымі і блізкімі мясціны дзяцінства – хутар Паўлінава, Піншчына… Ім яна прысвяціла свае лепшыя вершы: “Хутарок”, “Хутарок ты мой саламяны”, “На Піншчыне”. У апошнім



вершы аўтарка трапна перадае пачуццё настальгіі па малой радзіме:

*Усё часцей сняцца мне паплавы*
*Ў рыжых купінах мокрай травы,*
*І адбіткаў сонечных кротасць –*
*Сніцца лотаць мне, жоўтая лотаць.*
*Па вадзе дзяўчуком брыду,*
*Кветкі рву. У прыпол кладу.*
*Пільна бусел за мною сочыць,*
*Сніцца Піншчына кожнай ноччу.*

## ГАЛІНА НЯФАГІНА (ЛАБАЦЭВІЧ)

Галіна Львоўна Няфагіна (Лабацэвіч) нарадзілася 4 ліпеня 1952 года ў Пінску.

Скончыла сярэднюю школу № 1. У 14 год надрукавала першы верш у раённай газеце "Полесская правда". Друкавалася ў часопісе "Юность", газетах "Заря" і "Знамя юности". У 1970 годзе паступіла на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта, які закончыла з адзнакай. З 1975 па 1978 гг. навучалася ў аспірантуры. У 1980 годзе ў Маскоўскім дзяржаўным універсітэце імя М.В. Ламаносава Г. Няфагіна абараніла кандыдацкую дысертацыю "Русская советская повесть 60-х – 70-х годов. Драматизация жанра". З 1978 года працавала на кафедры рускай літаратуры Белдзяржуніверсітэта спачатку выкладчыкам, потым дацэнтам. У 1999 годзе абараніла дысертацыю "Динамика стилевых течений в русской прозе второй половины 1980 – начала 90-х годов" на атрыманне ступені доктара філалагічных навук.

Галіна Львоўна чытала лекцыі ва універсітэтах Кубы, Германіі, Польшчы. Навуковыя інтарэсы Г. Няфагінай звязаны найперш з даследаваннем рускай прозы XX ст. (У. Набокаў, А. Платонаў, Я.Замяцін, А. Грын, Я. Чырыкаў), сістэмным вывучэннем стылявых плыняў сучаснай рускай прозы, драматургіі XX ст. (В. Хлебнікаў, Л. Лунц, Д. Хармс, А. Вампілаў).

На сённяшні дзень Г. Няфагіна – аўтар больш чым 150 навуковых артыкулаў, некалькіх манаграфій і вучэбных дапаможнікаў, сярод якіх найбольш значныя: "Нравственно-философские проблемы прозы 70-х – 80-х годов", Мн., 1989 (у сааўтарстве з Д.В. Фёдаравым); "Современная драматургия (вторая половина 80-х – 90-е годы)», Мн., 1994 (у сааўтарстве з С.Я. Ганчаровай-Грабоўскай); "Пособие по русской литературе для поступающих в вузы", Мн., 1-е изд-е, 1997, 2-е изд-е, 1998, 3-е доп. изд-е, 2001; "Русская проза второй половины 80-х – начала 90-х годов XX века", Мн., 1998; "Динамика стилевых течениий в русской прозе 1980 – 90х годов", Мн., 1998; "Поэтика русской модернистской прозы (типология стилей начала и конца XX века)", Мн., 1999. ; "Русская проза конца XX века", М., 2003.

У сферу навуковых зацікаўленняў Г. Няфагінай уваходзіць і даследаванне беларускай літаратуры, па праблемах якой апубликаваны артыкулы ў

рэспубліканскай перыёдыцы.

Прыярытэтным накірункам літаратуразнаўчай працы Г. Няфагінай з'яўляецца сістэмнае даследаванне рускай прозы канца XX стагоддзя. Яе кніга "Русская проза второй половины 80-х – начала 90-х годов XX века" – грунтоўная комплексная работа, у якой разгледжана ў дынаміцы ўзаемадзеянне розных эстэтычных сістэм (рэалізма, мадэрнізма, постмадэрнізма), стылявых плыняў, маргінальных форм. Даследаванне навукоўцы стала шырока вядомым за мяжой і атрымала прызнанне сярод літаратуразнаўцаў Расіі, Літвы, Польшчы, Славакіі, Германіі, Велікабрытаніі, ЗША, што было адзначана у рэцэнзіях вядучых навуковых часопісаў згаданых краін.

Работы прафесара Г.М. Няфагінай высока адзначаны славістамі Гарвардскага універсітэта, а яе імя занесена ў энцыклапедыю "500 Great Minds of the early 21 century". Навукоўца з'яшляецца членам-карэспандэнтам Міжнароднай акадэміі інфармацыйных тэхналогій (МАIТ).

## МІКОЛА АНТАНОЎСКІ

Мікалай Дзмітрыевіч Антаноўскі нарадзіўся ў вёсцы Сташаны 6 студзеня 1952 года, у той самай вёсцы, дзе прайшло маленства і другога будучага пісьменніка Піншчыны – Анатоля Шушко. Мікола на два гады ўсяго старэйшы за свайго суседа-земляка, і яны сябруюць з дзяцінства. Арыгінальны і самабытны паэт Берасцейшчыны Мікола Купрэеў, які некаторы час настаўнічаў у Сташанскай школе, прыгадвае, што хоць абодва хлапчукі былі схільнымі да напісання вершаў, але былі рознымі па характару і знешнасці: "Высокі, кучаравы прыгажун і, самае адметнае, заўсёды задуменны і неякне па ўзросце ітэлігентны Коля Антаноўскі. І – "жыўчык", весялун Толя Шушко".

М. Антаноўскі пасля заканчэння мясцовай сярэдняй школы ў 1969 годзе працаваў некаторы час у калгасе "Камунар" Пінскага раёна, а з 1972 года – літсупрацоўнікам ганцавіцкай раённай газеты "Савецкае Палессе". Журналісцкая праца захапіла М. Антаноўскага, і ён вырашае працягнуць сваё прафесійнае удасканальванне на факультэце журналістыкі БДУ, які закончыў у 1978 годзе. Пасля працаваў на Віцебшчыне загадчыкам аддзела раённай газеты "Браслаўская звязда". У пачатку 80-х гадоў пераязджае на родную Берасцейшчыну: з 1982 года і па сённяшні дзень працуе на розных пасадах у пружанскай газеце "Раённыя будні", спачатку загадчыкам аддзела, а з 1984 года – рэдактарам.

Імя Міколы Антаноўскага, магчыма, не настолькі вядома масаваму беларускаму чытачу, затое яго вершы добры ведаюць берасцейскія аматары паэзіі. Творы паэта часта можна сустрэць на старонках абласной перыёдыкі і ў альманах, а таксама іх друкавалі часопісы "Маладосць" і "Полымя", штотыднёвік "Літаратура і мастацтва". На творчым рахунку М. Антаноўскага – два зборнікі паэзіі – "Святаяннік" (1993), які выйшаў у бібліятэцы часопіса "Маладосць", і "Падсочаны бор" (1997).



Цікава тлумачыць назву першай кнігі ўжо згаданы вышэй настаўнік паэта М. Купрэеў, які аказаў значны ўплыў на самавызначэнне палескага хлапчука: “Дарога ўСташаны з Лагішынскага тракта ідзе праз бор – тады ўжо падсочаны. На ўскрайку, лядарогі, спыняюся – бо раптам, не бачачы яго, чую той сасновы, колішні пах самай мудрай на свеце травы (хаця ўсе травы мудрыя) – пах святаянніку… Россып яго – высокія травіны ў жоўтым квеце. Святаяннік – так нашыя продкі казалі. Гэта цяпер амаль паўсюдна кажуць: зверабой, хаця ніякага звера гэтая трава не забівае, болей таго – дапамагае людзям у іх немачах. А цвіце ўсё лета, і цвіценне гэтае ш найбольшай маладой сіле падчас Святога Яна – на Купалле”. Вершы зборніка выразна акрэсліваюць аўтарскае прызначэнне – ціхае прызнанне-роздум у любові і вечнай адданасці роднай зямлі. Скразнымі вобразамі зборніка, як, дарэчы, і ўсёй творчасці М. Антаноўскага праходзяць вобразы поля, бору, жыта. Перад імі схіляе галаву паэт, наведваючы час ад часу сваю малую радзіму:

*…Тры бярозы за сялом*
*Даражэй за лес, за пушчу…*
*Калі-небудзь мы памром,*
*Толькі ці адпусцяць*
*Тры бярозы за сялом?*

Вось такое прызнанне ў любові да роднай зямлі ў паэта: без высокай патэтыкі і гучных слоў – праз знаёмыя з дзяцінства вобразы трох бяроз, буслянят, палеткаў, нават праз прыземленыя вобразы абгоранай бульбы ці сучкаватых смалякоў. Наогул лірыка М. Антаноўскага наколькі простая, настолькі і глыбінная. Дыялектыку жыцця, барацьбу супрацьлегласцяў, супрацьстаянне дабра і зла ў складаным свеце сучаснай цывілізацыі паэт выяўляе праз простую і зразумелую ўсім фальклорна-фларыстычную разгорнутую антытэзу – *мудрых кветак-траў* і *палыну*:

*І аднойчы патруцяцца кветкі*
*У згарчэлым сівым палыне –*
*Упадзе Божы гнеў на палеткі,*
*А сядзібу маю абміне.*

Тонкае адчуванне прыроды і здольнасць лаканічна, але дакладна перадаць унутраны свет чалавека як адметнасці паэтычнага светаадчування М. Антаноўскага заўважыў у яго другім зборніку Віктар Гардзей. Вядомы паэт і пісьменнік наступным чынам ахарактызаваў кнігу земляка: “Вобраз падсочанага бору, маючы сімвалічнае значэнне, праходзіць у той ці іншай афарбоўцы праз многія вершы зборніка. Гвалтам знявечаны бор – гэта ж наша бязладнае і апустошанае жыццё, з якога, здаецца, высмактаны ўжо апошнія кроплі жыватворных сокаў”. Сапраўды, большасць вершаў зборніка нясуць у сваім ідэйным змесце публіцыстычную завострансць: аўтара хвалююць экалагічныя праблемы, непакоіць тэндэнцыя вымірання маленькіх беларускіх вёсак, як яго Сташаны на Піншчыне. З сумам, болем і трывогай паэт канстатуе гэтую прыкрую сацыяльную з’яву: *“Знікаюць, быццам Атлантыды, вёскі…*

*На родных котлішчах – палын-трава”.*

Цэлы раздзел зборніка пад лірычнай назвай “Цяпло вачэй” прысвечаны тэме кахання, якая, дарэчы, з’яўляецца адной з асноўных на працягу ўсёй творчасці М. Антаноўскага. Інтымная лірыка паэта прываблівае шчырасцю пачуццяў, мужчынскім высакародствам, здольнасцю лірычнага героя да пакаяння, непадробнага шкадавання аб страчаным па ўласнай віне каханні:

*Пяшчот не шкадавалі да зары,*
*Нібы перад апошняй згубай.*
*Цябе ў сабе, сябе ў табе адкрыў –*
*І не назваў каханкай-любай.*

## АНАТОЛЬ ШУШКО

Анатоль Іванавіч Шушко нарадзіўся 19 ліпеня 1954 года ў вёсцы Сташаны Пінскага раёна. У сваёй аўтабіяграфіі пісьменнік удакладняе: “Аднак, тое значыцца толькі ў метрыках ды ў пашпарце. На самай справе: тым жа днём і годам, але ў мястэчку Чырвоная Слабада на Случчыне, дзе больш месяца ў вёсцы Белае Балота “калыхаўся я ў рэшаце-калысцы». Маленства будучага паэта прайшло ў вышэй памянёнай вёсцы Сташаны, дзе ён напаткаў юнацтва і скончыў мясцовую дзесяцігодку. Сваімі першымі настаўнікамі Анатоль Іванавіч лічыць маці Ганну Рыгораўну, настаўніцу гісторыі і геаграфіі і бацьку Івана Канстанцінавіча, працаўніка мясцовага рыбгасу. Цікавасць да літаратуры, да творчага самавыяўлення асабліва абвастрылася ў свядомасці сташанскага падлетка, калі ў школе ўрокі славеснасці выкладаў Мікалай Купрэеў, таленавіты беларускі пісьменнік.

У 1971 годзе паступіў на беларускае аддзяленне філалагічнага факультэта БДУ. Пасля заканчэння галоўнай АНУ рэспублікі спасцігаў варункі педагагічнай працы на малой радзіме, у Ласіцкай сярэдняй школе на Піншчыне. Далей лёс закінуў паэта на Гродзеншчыну, дзе ён выкладаў родную мову і літаратуру і выконваў абавязкі выхавацеля ў Поразаўскай спецшколе-інтэрнаце для слабачуючых дзяцей, якая знаходзілася ў маляўнічых мясцінах Свіслаччыны. Былі і Міншчына, і Гомельшчына – будаўніцтва, журналістыка… Зараз жыве і працуе ў Пінску, падтрымлівае цесныя творчыя стасункі з пісьменніцкім асяроддзем не толькі Піншчыны, але і Берасцейшчыны ўвогуле. З 1997 года член Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Першы верш Анатоля Шушко быў апублікаваны ў газеце “Піянер Беларусі” ў 1969 годзе. Школьнікам друкаваўся ў часопісе “Бярозка”, газеце “Чырвоная змена”. Пачаткам жа сапраўднага паэтычнага мастацтва сам А. Шушко лічыць публікацыю падборкі вершаў у штотыднёвіку “Літаратура і мастацтва”. Першыя, яшчэ са школьнай лаўкі, вершы пачынаючага паэта заўважыў і падтрымаў вядомы беларускі крытык Варлен Бечык: “Не забываецца мне ўсё адзін паэтычны дэбют. У жніўні 1971 года газета”ЛіМ” надрукавала вершы Анатоля Шушко, семнаццацігадовага выпускніка-школьніка



з палескай вёскі Сташаны. Якой важкай і цікавай творчай заяўкай здаліся вершы гэтага юнака! Былі ў іх і маладая ўсхваляванасць жыццём, і разважлівая дапытлівасць, і назіральнасць, і псіхалагічная чуйнасць. Праглядваліся даволі выразныя рысы асабістасці, уласнага светаадчування”.

З таго часу прайшло нямала гадоў, але, на жаль, паэт не часта выносіў на суд чытача свае творы. Яго вершы друкаваліся ў часопісах “Полымя”, “Беларусь”, “Нёман”, “Маладосць”, калектыўных паэтычных зборніках “Маладыя галасы” (1985), “Галасы вёснаў” (1997), “Дзень паэзіі” (1991, 2005), у расійскім альманаху “Масква” (у перакладзе В. Грышкаўца), а таксама ў цэнтральнай і мясцовай перыёдыцы. Творчаму станаўленню, па словах паэта, шмат у чым спрыяла вядомая беларуская паэтка Данута Бічэль-Загнетава. У 1994 годзе пры бібліятэцы часопіса “Маладосць” убачыла свет пакуль адзіная кніга А. Шушко “Выток і прычасце”. Ужо ў назве зборніка паэт выяўляе сваё крэда – інтэлектуальныя пошукі асэнсавання чалавечага жыцця, месца паэта ў ім. Філасофскія разважанні характэрны большасці творам паэта.

Ужо напачатку творчага шляху аўтар, разумеючы дыялектычную сутнасць чалавека – “*ён – свет дабра і злыбяды”,* — імкнецца знайсці сваю дарогу не толькі ў паўсядзённым жыцці, але і ў намаганнях мастака слова: *“сцвярджаць сябе святлом дабра, Бо ў жыцці так многа Двурушнасці, што дакараць Рыхтуй сябе самога”.* Высокая патрабавальнасць да сябе, да кожнага радка, кожнага слова ў паэтычнай страфе дазваліллі ўжо сталаму майстру слова сцвердзіць думку, што *“ніхто не ўмее плакаць, як паэт. Ніхто, як ён, удзячна ўсміхацца”.* Можа, таму А. Шушко з асаблівай цеплынёй і любоўю згадвае ў сваіх вершах-прысвечаннях, прадмовах да зборнікаў землякоў-паэтаў. Яўгенія Янішчыц у гэтым мастакоўскім шэрагу стаіць асобна: першыя сур’ёзныя лімаўскія публікацыі пачынаючага паэта былі надрукаваны разам звершамі “палескай ластаўкі”, з “зямлячкай-шчырунняй” ён меўтворчыя стасункі, і адольваючы філалагічныя навукі ў БДУ. Праніклівым болем, шчырай горыччу незаменнай страты прасякнуты радкі верша “Вера”, прысвечанай Жэні Янішчыц:

*Грудка белая ў ластаўкі...*
*Крылы рэжуць паветра...*
*На асфальце распластана*
*Немагчыміцай вера...*

Шмат вершаў А. Шушко прысвяціў сваёй малой радзіме, землякам, сярод якіх лірычная паэма “Сто шан для сташан”, “О, Пінск”, “Тут, Пінску-юбіляру ад тутэйшага”, “Вячэрняму Пінску” і інш.

Творчасць А. Шушко развіваецца ў шматвектарным накірунку: ёй уласцівы касмічная неабдымнасць і зямная канкрэтыка, філасофскія пошукі і шчырыя выяўленні чалавечых пачуццяў, зварот да мінуўшчыны і разважанні пра рэаліі сучаснага жыцця. Паэт не абмінае ў сваёй мастацкай палітры пейзажных матываў Палесся і хвалюючых радкоў пра каханне. У выяўленні інтымных пачуццяў аўтар імкнецца перадаць самыя разнастайныя нюансы

найвялікшага чалавечага шчасця: сумненні лірычнага героя ў нялёгкім выбары той адзінай, як у студэнцкіх вершах "У блакнот" і "Яднанасць", ці ўзвышэнне "святога кахання грэшнасці" ў вершы "Манашка", ці ціхае трымценне-захапленне "непрыкметным шчасцейкам", аздобленае стылізацыяй народных песень, у вершы "На купалле". У больш позніх вершах на інтымную тэму аўтар прыходзіць да высновы, што шчаслівым хвілінам кахання ён найперш абавязаны роднаму куточку: *"Любоў, ты ёсць! Дык будзь бясконцай, Ўратаваная Палессем."* ("Дыфірамб", 2004). Ці, напрыклад, у вершы "Дыялог у Пінску" паэт параўноўвае ўнутраную прыгажосць, моц пачуццяў закаханых з хуткаплыннымі водамі Струменя і Піны:

…Сплыліся плыні ў глыбіні,
Таму й расплесціся
не ў стане.

Усёй сваёй творчасцю А. Шушко сцвярджае, што мастацкая шматмернасць, беражліва вынашаная паэтычнай годнасцю аўтарскага "я", трывала грунтуецца на ўнутранай сіле акаляючага свету малой радзімы, якая робіць гэты свет жывым і дасканалым.

## ВАЛЕРЫЙ ГРЫШКАВЕЦ

Валерый Фёдаравіч Грышкавец нарадзіўся 23 снежня 1953 года ў Пінску ў сям'і рабочых. Бацька працаваў на самым буйным на той час прадпрыемстве горада – фабрыцы па апрацоўцы дрэва, якая выпускала фанеру і запалкі. Як прыгадвае паэт, яго дзяцінства першых гадоў хрушчоўскай "адлігі" не адрознівалася ад дзяцінства равеснікаў рабочай ускраіны палескага гарадка. Адно з яркіх уражанняў тых гадоў – смачныя булачкі-"птушкі" (яны, сапраўды, нагадвалі замёрзлых птушак з ізюмінкай на канцы абрубленага носа-дзюбы), якія ён заядаў зімою снегам. Толькі такім ласункам мог парадаваць бацька падлетка за сваю мізэрную зарплату.

Валерый рос хлопчыкам жвавым, непаседлівым і ў той жа час уражлівым. У сутычках з равеснікамі, а, часцей, са старшакласнікамі, гартаваўся яго няўступлівы характар: нездарма Валерый наведваў секцыю бокса мясцовай спартыўнай школы. Прыкладна ў гэты час, у дзевяцігадовым узросце, у яго "цнатлівую душу прыйшлі першыя вершы", а ўжо ў восьмым класе падлетак атрымаў свой першы ганарар за апублікаваны ў "Полесской правде" верш.

Далучэнне да дарослага жыцця у В. Грышкаўца было імклівым: пасля васьмігодкі пайшоў на завод, вучыўся у вячэрняй школе, працаваў на вінаградніках у Крыму, матросам на Прыпяці, геолагам у далёкай Іркуцкай вобласці, будаўніком у Бураціі і Літве.

У верасні 1968 года васьмікласнікам стаў членам раённага літаратурнага аб'яднання. Яшчэ юнаком Валерый захапіўся творчасцю паэта-земляка Міхася Рудкоўскага: "Рудковский как поэт был мне настолько близок, что я переводил его просто стихийно – безо всякого садился и переписывал его стихи по-



русски…” Гэта дало штуршок перакладчыцкай працы В. Грышкаўца, што стала адным з накірункаў яго творчасці. Пачынаючы паэт асабіста пазнаёміўся з М. Рудкоўскім, тады ўжо вядомым пісьменнікам, які працаваў рэдактарам музычна-літаратурных праграм на Брэсцкай студыі тэлебачання. Іх сяброўства доўжылася дваццаць гадоў – з 1971 па 1991 гг., аж да апошніх дзён жыцця М. Рудкоўскага, “старэйшага таварыша, сабрата, настаўніка”. З удзячнасцю і цеплынёй прыгадвае В. Грышкавец ліставанне з паэтам падчас службы ў далёкай глушы Семіпалацінскай вобласці.

Пасля дэмабілізацыі В. Грышкавец вяртаецца ў родны Пінск, уладкоўваецца на працу ў рэдакцыю газеты “Полесская правда”. Пасля былі Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве пры Літаратурным інстытуце імя Горкага і жыццё-мітусня паміж родным Пінскам і Першапрастольнай. У гэты час В. Грышкавец актыўна друкаваўся ў расійскіх і беларускіх часопісах і газетах: пісаў вершы на рускай мове і рабіў пераклады твораў беларускіх паэтаў. Аўтар паэтычных зборнікаў “Время отправления” (1981) и “Круг аистиный” (1991), а таксама кніг “Белые мосты” (2004) і “Белая вежа” (2005, переводы). Валерый Фёдаравіч з’яўляецца членам Саюза пісьменнікаў Беларусі (1992) і Саюза пісьменнікаў Расіі (1996). У 1999 годзе В. Грышкавец атрымаў Міжнародную літаратурную прэмію імя Андрэя Платонава, лаурэатамі якой у розныя гады былі такія прызнаныя майстры слова, як В. Распуцін, В. Бялоў, П. Праскурын, Г. Гарбоўскі і інш. Ён - лаўрэат прэмій “Залатое пяро Расіі” і імя Уладзіміра Калесніка (Брэст).

В. Грышкавец – паэт з выразным індывідуальна-аўтарскім стылем. На думку В. Локун, лірыка яе земляка ўяўляе “так званы ясенінаўскі накірунак у паэзіі, яго герой– вандроўнік, падарожнік, а часцей – адзіночка з нявдзейсненым лёсам, адхінуты грамадствам. Ён не столькі бунтар, колькі чалавек, які страціў веру”. Гэтая адметнасць аўтарскага светаадчування асабліва выяўляецца ў зборніку “Белые мосты” ў такіх вершах, як “Приходил, а дверь не открывали…”, “Млечный путь”, “Прощание белоруса с Кремлём”, “Ветер”, “По жизни шёл я, словно через реку…” і многіх іншых. Лірычны герой пакутуе ад душэўных сумяціцы и бязладдзя; яго эмацыйныя маналогі захаплення рамантыкай бадзяжніцтва змяняюцца шчымлівай настальгіяй па радзіме, самасуцяшальны гонар за сваю ўяўную незалежнасць – глыбокім роздумам-пакаяннем аб пражытым:

*Чахнет свет, разливаясь по жилам,*
*Никуда неохота идти…*
*Жил ли? Жив ли? Отжил ли?*
*Боже милостивый, прости.*

*Я слыл непутёвым, отчаянным,*
*От жён уходил и детей,*
*Мол, что мне? Да вот же нечаянно –*
*Церквушка.*

*И стал у дверей…*

З Ясеніным В. Грышкаўца збліжае і матыў сыноўняй любві да маці, даволі значны ў яго творчых прыярытэтах. З далёкіх дарог шлях паэта-вандроўніка *с думой о прощенье, о тепле* ляжыць да бацькоўскага парога, дзе заўсёды адчынены дзверы хаты і *Хлеб нарежет, вскипятит водицу, И посмотрит – как с иконы – мать.* Маці для паэта не толькі самы родны і блізкі чалавек, маці – яго выратаванне, апора, спадзеў, яна надае сілы стомленаму сыну і аптымізм яго неспакойнай, зняверанай душы:

*Потому легка была дорога*
*И по сути – жизнь не тяжела.*
*И пока жива мать – слава Богу! –*
*Хватит мне и хлеба, и тепла.*

Духоўны свет лірычнага героя паэзіі В. Грышкаўца багаты і супярэчлівы, аднак у ім дамінуе бязмежная шчырасць, высокая патрабавальнасць да сябе і іншых, а адсюль – нецярпімасць да фальшы, ілжы, здрадніцтва. Паэта непакоіць маральная дэградацыя грамадства, пакланенне ўяўным каштоўнасцям. У такой атмасферы, на думку В. Грышкаўца, на паверхню жыцця ўсплываюць людзі нікчэмныя і нахабныя, і, наадварот, пакутуюць асобы сумленныя і таленавітыя:

*Безбожный век! Жестокий, беспощадный,*
*Обмолвок, недомолвок круговерть.*
*В почёте лесть, где с донца – мат площадный,*
*А с правдой приходила только смерть.*

Аналізуючы рускамоўную творчасць паэта, нельга ўпікнуць яго ў адсутнасці патрыятызму, празмерным захапленні рускай гісторыяй і культурай, хоць В. Грышкавец не хавае сваіх адносінаў да Расіі. У адным з “непрыдуманых àï àâÿäàí í ÿ¢” ç ï ðàçà³÷í àãà öû êëó ì àñòàöêàé мемуарыстыкі “Бюро находок” пісьменнік, які актыўна асвойвае сакрэты лірычнай публіцыстыкі, шчыра прызнаецца: “Самому себе не хочется признаваться: люблю всё русское…” Але гэта не перашкаджае паэту горача любіць сваю родную зямлю, сваё Палессе. Пінску і яго ваколіцам, Брэсту, Прыпяці і Піне, улюбёным мясцінам свайго дзяцінства, юнацтва і маладосці, В. Грышкавец прысвяціў шмат сваіх твораў – як вершаў, так і нарысаў, эсэ. Ён не ўяўляе свайго жыцця без Радзімы, па сутнасці яна і ёсць само жыццё – з яго супярэчнасцямі, радасцямі і горыччу, надзеямі і расчараваннямі:

*Горше родимой – полыни не сыщешь.*
*Слаще беды, чем любовь, не узнать.*
*Родина – сад мой, моё пепелище.*
*Здесь расцветал я. И здесь мне сгорать.*

Шчырасць аўтара і яго паэтычнае майстэрства прадвызначылі поспех тэксту В. Грышкаўца ў гарадскім конкурсе па стварэнні гімна Пінска. Музыку да слоў напісаў кампазітар Алег Венгер.

Из полесских глубин вытекая,
Пина в Припять привольно течёт.



Здесь, из дальних времён вырастая,
Величаво мой город встаёт.

*Припев:*
Город мой, гордость края и слава,
Древний Пинск, ты всегда молодой,
Стал навек, говорю я по праву,
Ты – моей, я – твоею судьбой.

Помним все, никогда не забудем
Огневые, лихие года.
Не забудем – и сильными будем
Мы с тобой – на века, навсегда!

*Припев.*

## ЛЮБА ТАРАСЮК

Любоў Канстанцінаўна Тарасюк нарадзілася 7 студзеня 1953 года ў вёсцы Пінкавічы, дзе ў свій час у мясцовай школе выкладаў Якуб Колас. Закончыла Пінкавіцкую сярэднюю школу, якая носіць імя класіка беларускай літаратуры. Свае першыя вершы (рыфмаваць Люба пачала ўжо з 9-гадовага ўзросту) школьніца прысвяціла малой радзіме і, зразумела, вялікаму песняру: “Палессе”, “Мне любы…”, “На радзіме Коласа”. Вершы пачынаючай паэткі былі надрукаваны ў 1966 годзе ў газеце “Піянер Беларусі”. Любоў да роднага слова, захапленне паэзіяй прадвызначылі далейшы лёс Любы Тарасюк. У 1975 годзе яна паспяхова закончыла філалагічны факультэт БДУ ў Мінску. З гэтай навучальнай установай звязана педагагічная і навуковая дзейнасць Любові Канстанцінаўны. Тут яна закончыла аспірантуру пры кафедры беларускай літаратуры (1978), абараніла кандыдацкую дысертацыю і выладае гісторыю беларускай літаратуры.

Л. Тарасюк выступае ў друку пераважна як літаратурны крытык і літаратуразнаўца. У аснову яе першай манаграфіі “Вернасць вытокам. Фальклорныя традыцыі ў сучаснай беларускай паэзіі” (1985) пакладзена дысертацыйнае даследаванне. Сёння на яе рахунку каля 200 літаратуразнаўчых і метадычных прац. Л.К. Тарасюк – адзін з аўтарытэтных даследчыкаў гісторыі і эвалюцыі мастацкіх напрамкаў нацыянальнага паэтычнага слова. Плёнам вывучэння згаданай праблемы стала кніга літратуразнаўцы “Мастацкія кірункі і плыні ў беларускай паэзіі XIX – пачатку XX ст.” (1999). Акрамя таго, Л. Тарасюк з’яўляецца аўтарам і сааўтарам шматлікіх метадычных прац, дапаможнікаў, артыкулаў па беларускай літаратуры для настаўнікаў, студэнтаў, вучняў, навучэнцаў гімназій і ліцэяў. Найбольш значныя з іх – “Беларуская літаратура. XI – XX стст.” (1999), “Беларуская літаратура: 10 клас” (2001),

“Новыя аспекты праграмы па гісторыі беларускай літаратуры XVIII – XIX стагоддзяў” і інш.

Падчас вучобы ва ўніверсітэце прыпадае найбольш плённы і актыўны перыяду творчасці Л. Тарасюк. Вядомасць ёй прынесла апублікаваная ў 1972 годзе ў часопісе “Маладосць” нізка вершаў. Годам раней вершы палескай паэткі былі апублікаваныя ў анталогіі “Універсітэт паэтычны”. З 1981 года Л. Тарасюк з’яўляецца членам Саюза пісьменнікаў Беларусі. І, нарэшце, у 1983 годзе ўбачыў свет яе паэтычны зборнік “Смага ракі”. Надалей Л. Тарасюк аддавала перавагу літаратуразнаўчай працы, зрэдку напамінаючы пра свой паэтычны талент у беларускай перыёдыцы і неакаторых кнігах-зборніках беларускай паэзіі.

Алесь Бельскі наступным чынам сфармуляваў своеасаблівасць мастацкага светаўспрымання і паэтычнага самавыяўлення Л. Тарасюк: “…Гэта яскравы адбітак духоўнага жыцця асобы, якая ўсё галоўнае і сутнаснае ўмее высветліць і вызначыць сэрцам. Пачуццёвы пафас у яе творах шчыры і спавядальны”. Варта адзначыць высокую філалагічную культуру паэтычнага радка Л. Тарасюк: яго багатую вобразную палітру, бездакорны выбар камазіцыйнай і сінтаксінай будовы верша. Таіса Бондар галоўнай адметнасцю стылю паэтэсы называе пачуццё меры: “Мера – ва ўсім. Ашчаднае стаўленне да слова, да выяўленчых сродкаў”. Л. Тарасюк наўмысна адмаўляецца ад паэтычных штампаў і трафарэтаў, пакутліва і натхнёна шукаючы новыя. свежыя мастацкія прыёмы і формы для выяўлення свайго інтэлектуальна-пачуццёвага свету.

Лірыка паэтэсы ў тэматычным плане традыцыйная для літаратуры свайго часу: Л. Тарасюк захапляецца прыгажосцю прыроды роднага Палесся, яго слаўнай і багатай на падзеі гісторыяй. Яе, як і іншых сучаснікаў, хвалююць праблемы экалагічнага стану беларускай зямлі, паэтэса заклікае беражліва адносіцца да фальклорнай спадчыны. Гэта надае творам Л. Тарасюк патрыятычны вектар гучання. Але, як слушна заўважыў А. Бельскі, “у характары лірычнага выяўлення паэткі – сцішанасць, самазасяроджанасць, роздумнасць”. Свае пачуцці да Радзімы паэтэса змагла выказаць натуральна, прачула і даверліва, без гучнай пафаснасці і рыторыкі, як, напрыклад, у вершы “Імя Айчыны”:

*Давеку я, напэўна, не збяру*
*Усю яе ў праявах разнастайных.*
*Маленькая, як сэрца, Беларусь*
*Адданаю любоўю вырастае.*

Падмуркам патрыятычнай свядомасці лірычнага героя вершаў Л. Тарасюк з’яўляецца яго цікавасць да гераічнага мінулага беларускага народа, імкненне спасцігнуць, пазнаць духоўны свет і матывы адраджэнскага мыслення і асветніцкай дзейнасці славутых землякоў. Аўтарцы аднолькава блізкія і зразумелыя памкненні, учынкі, творчасць такіх асоб, як Ефрасіння Полацкая, Кастусь Каліноўскі, Максім Багдановіч, Уладзімір Караткевіч. Асобны верш, “Іншасвет Напалеона Орды”, паэтка прысвяціла славутаму земляку, вядомамму



ў Еўропе кампазітару і мастаку-графіку. Яна ганарыцца велічнай постаццю Орды, які крэйдай і пэндзлем адкрыў свету беларускі іншасвет – *шляхецтва гнёзды, гожыя капліцы.* Пранікнёна і шчыра гучаць радкі верша аб драматычным лёсе таленавітага земляка: *Яшчэ гучаў расстання паланэз – Як лёс выгнанца пры жывой айчыне.* Сама востра і свядома ўспрымаючы духоўную повязь часоў, Л. Тарасюк выяўляе клопат і пра выхаванне нацыянальнай самасвядомасці народа, які не павінен *пачувацца збродам:*

*Там, ля святынь, куды ідуць і едуць,*
*Ля збудаваных продкаў камяніц*
*Прыходзіць час аднойчы пасці ніц,*
*Схаваўшы вочы болю ад суседзяў.*

Большасць вершаў паэтэсы напоўнены філасофскім зместам: нават звычайныя, будзёныя рэаліі і праблемы чалавечага жыцця яна імкнецца глыбока асэнсаваць, суаднесці з уласнымі вопытам і перажываннямі. Лірычны герой твораў Л. Тарасюк – асоба, якая вылучаецца высокай ступенню патрабавальнасці да сябе і да акаляючых. Адным з асноўных крытэрыяў высокай маральнасці, духоўнасці чалавека паэтэса лічыць неабыякавасць, напружаныя пошукі самапазнання і самаўдасканалення: *Яшчэ душа баліць – і тым яна жывая.*

Жывучы ў сталіцы, Л. Тарасюк часта звяртаецца ў сваіх вершах да роднага Палесся, людзей, якія жывуць на знаёмай з дзяцінства зямлі. У вершы-прысвячэнні маме "Astra" паэтка, як трапна заўважае А. Бельскі, стварае *велічны ў "храме зямлі і вады"* вобраз маці. Яна параўноўвае блізкага чалавека са жрыцай, а кветкі, узгадаваныя працавітымі рукамі мамы, – з зоркамі. Тым самым Л. Тарасюк сцвярджае канцэптуальную думку ўсёй сваёй творчасці пра спрадвечную лучнасць жыцця і вечнасці, зямлі і неба, космасу: *і злучаецца з небам такое зямное жыццё.*

*Раўнінная палеская душа*
*Раўніва ловіць неабсяжны клёкат.*
*Злятае дзень з разгорнутых аблокаў,*
*Святло спявае ў горле гладыша.*

*І да яе на ясную зару*
*Яшчэ ідуць святыя нашы рэкі,*
*Яшчэ плывуць. І паўтарае рэха*
*У сіняй далечы, якую як завуць.*

*Яна пводкай вольнаю імкне*
*Размыць усе апрыклыя аковы.*
*Але ў пасажным куфры, што з Агова,*
*Ад злыдня скарб вясны сваёй замкне.*

*Яна знарок адкажа неўпапад*
*Ці пазаве да высненых галактык...*
*Яшчэ й таму ніводнае з граматык*
*Непадуладны нашай мовы лад.*

МІКОЛА АЛЯХНОВІЧ

Аляхновіч Мікалай Мікалаевіч нарадзіўся 14 студзеня 1953г. ў в.Валішча Пінскага раёна.

У 1970г. скончыў дзесяць класаў сярэдняй школы ў в. Валішча, у тым самым годзе паступіў на філалагічны факультэт Брэсцкага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А.С.Пушкіна. У 1974 г. пасля атрымання дыплома па размеркаванні пачаў пра-цаваць на пасадзе асістэнта кафедры беларускай мовы названай навучаль-най установы. З восені 1974 па восень 1975 г. служыў у арміі, пасля службы прадоўжыў працу на кафедры. У 1977 г. абраны на пасаду старшага выкладчы-ка; з наступнага года паступіў у аспірантуру пры кафедры беларускага мовазнаўства Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя М.Горкага. У 1983 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю «Фразеалогія беларускай літаратурнай мовы XIX – пачатку XX стст.»(навуковы кіраўнік – прафесар Ф.М.Ян-коўскі). Кандыдат філалагічных навук (спецыяльнасць 10.02.01 - «Беларуская мова»), з 26.03.1986 г. – дацэнт.

Працаваў намеснікам дэкана, а з 1987 па 1993г. – дэканам філалагічнага факультэта, з 1993 па 1995 г. працаваў на кафедры ўсходнеславянскай і балтыйскай філалогіі факультэта гуманітарных навук Будапешцкага універсітэта імя Лоранда Этвеша (Венгрыя), з 1994 г. узначальвае кафедру гісторыі беларускай мовы і дыялекталогіі Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А.С.Пушкіна.

Аўтар каля 100 навуковых прац, у тым ліку 6 слоўнікаў і вучэбных дапаможнікаў.

Вершы пачаў пісаць яшчэ ў школьныі узросце, аднак першыя публікацыі з’явіліся ў 1976 годзе ў часопісе “Полымя”. У 2006 годзе М. Аляхновіч выдаў зборнік вершаў “Жыццёвае верыпрадзіва”. Яго лірыка – сінтэз выключнай увагі і павагі да слова і шчырасць, шырыня палескай душы.

МАРЫЯ ЛЯШУК

Марыя Іванаўна Ляшук нарадзілася 27 верасня 1955 года ў вёсцы Табулкі Пінскага раёна. Там жа скончыла сярэднюю школу. Вучылася на факультэце журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. Пасля яго заканчэння працуе рэдактарам гарадской газеты “Пінскі веснік”. Журналісцкую працу спалучае з літаратурнай творчасцю. Піша прозу і вершы на рускай і беларускай мовах. Друкавалася ў часопісах “Гаспадыня”, “Нёман”, “Алеся”, “Маладосць”, газетах “7 дней”, “Рэспубліка”, у мясцовай перыёдыцы. У 2007



годзе выдала кнігу прозы і паэзіі "Благославенные небом". Першую і значную частку зборніка складаюць "непрыдуманыя гісторыі М. Ляшук – навелы, нарысы, невялікія лірычныя замалёўкі ўпрозе. "У цэнтры "гісторый", – як піша ў прадмове да кнігі пісьменніцы Валянціна Локун – лёс чалавека, галоўным чынам жанчыны. Але лёсы гераінь кнігі асаблівыя, часцей падкрэслена драматычныя. На першым плане ў навелах маральна-этычныя праблемы, складаныя варункі чалавечых узаемаадносін, паводзіны чалавека, які ўцягнуты ў цяжка вырашальны маральны канфлікт". М.І. Ляшук з'яўляецца Лаўрэатам прэміі Беларускага саюза жанчын.

Лірычны аповед, які даў назву кнізе і якім яна пачынаецца, у значнай ступені выяўляюць светаадчуванне аўтара, стратэгічную канцэпцыю зборніка. Навела "Благословенная небом" уяўляе сабой філасофскую прытчу, у якой паэтызуецца важнейшая каштоўнасць чалавечага жыцця – любоў. М. Ляшук шчыра верыць ва ўсёперамагальную сілу любові, якую не дадзена прынізіць ні людской абыякавасці, ні жорсткасці, ні здрадніцтву. Гэтая светлая і простая ў сваёй вышэйшай мудрасці думка пісьменніцы саграває сваім цяплом ці не ўсе наступныя творы кнігі.

Часта М. Ляшук згадвае толькі імёны персанажаў, малюючы сапраўдныя мастацкія вобразы-тыпы, запамінальныя і каларытныя. У першую чаргу гэта жанчыны, якія трапляюць у складаныя калізіі сямейных узаемаадносінаў. Пісьменніца захапляецца душэўнай стойкасцю, цярпеннем і высакароднасцю тых, для каго нормы хрысціянскай і народнай маралі не з'яўляюцца пустым гукам. Менавіта такім ўяўляецца вобраз Вольгі з навелы "Улыбка ясного утра", якая праз пакуты-роздумы, штодзённыя малітвы змагла прайсці шлях маральнага ачышчэння і дараваць сваёй дачушцы Насцечцы *апраметлівы* ўчынак маладосці; ці вобраз вясковай прыгажуні Марынкі з аповеду "Судьбы перевороты", якая ўсё жыццё самахвярна чакала свайго каханага і малілася не толькі за Андрэя, але і за боскае дараванне грэшнай душы яго жонкі.

Другая частка кнігі, паэтычная, у якой М. Ляшук у новых жанравых формах развівае сваю гуманістычную пазіцыю, мае сімвалічную назву "Рапсодия любви". Які сэнс укладвае аўтарка ў стрыжнявое слова назвы, сведчаць першыя вершы паэтычнага цыклу, напісаныя на беларускай мове: "Жыта-жыцейка – ў рост…", "Палессе", "Вясна прыйшла малым падснежнікам…" і інш. Лірычная гераіня найперш прызнаецца ўлюбові да родных мясцін, дзе *"лашчыць ветрык зямлю, хлебам пахне так смачна"*. Сэрцу паэткі ўсё міла на роднай старонцы, яна не скупіцца на вобразныя сродкі выразнасці, захапляючыся маляўнічымі фарбамі палескай прыроды:

*Пажаўцела тонкая бяроза*
*Восень упрыгожыла яе:*
*Залатыя пасмачкі ў косах,*
*Ранак дорыць пацеркі свае.*

Лірычная гераіня вершаў М. Ляшук адчувае сваю еднасць, непарыўнасць

з Палессем: яе эмацыйны настрой, душэўныя перажыванні і хваляванні і стан прыроды ўзаемаабумоўлены:

**Палессе**

*Тут танканогія аўсы*
*У пояс кланяюцца ветру*
*І залатыя каласы*
*Смакуюць чыстае паветра.*

*Ваду жывучую з крыніц*
*П'юць нават зоркі вечарамі...*
*Для сінявокіх чараўніц –*
*Чароды хлопцаў кучаравых...*

*Мне перашкоды па плячы*
*Яшчэ з бацькоўскага парога,*
*Але за шчасце – палічы*
*Прайсці чаромхавай дарогай.*

*Да лесу сцежачка вядзе*
*Праз луг, дзе я хадзіла босай.*
*І па калені ў вадзе*
*Брыдуць насустрач мне бярозы.*

## АЛЯКСЕЙ НЕНАДАВЕЦ

Аляксей Міхайлавіч Ненадавец нарадзіўся 12 лютага 1958 года ў вёсцы Чухава Пінскага раёна.

Скончыў Чухаўскую сярэднюю школу і паступіў на гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф.Скарыны, поўны курс якога, па спецыяльнасці "Філолаг-выкладчык", завяршыў у 1980 годзе. Пасля размеркавання А. Ненадавец застаўся асістэнтам на кафедры рускай літаратуры гэтай жа навучальнай установы. У тым жа годзе паступіў у аспірантуру Інстытута літаратуры імя Я.Купалы АН БССР, адкуль прызвалі ў войска. Служыў у Туркестанскай ваеннай акрузе, быў у камандзіроўках у Афганістане. Вясною 1982 года А. Ненадавец дэмабілізаваўся і аднавіўся ў аспірантуры, якую паспяхова закончыў у 1985г. З 1985 па 1989 гг. – асістэнт, дацэнт кафедры рускай літаратуры ГДУ імя Скарыны. З лютага 1989 года – дактарант Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К.Крапівы АН БССР. З 1992 года Аляксей Міхайлавіч на пасадзе старшага навуковага, а потым вядучага навуковага супрацоўніка гэтай навукова-даследчай установы рэспублікі. З 2000 года – загадчык кафедры "Дзяржаўных і замежных моў"



Бабруйскага філіяла Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта.

Кандыдацкую дысертацыю абараніў у 1985 годзе па тэме “Дакастрычніцкая творчасць Я. Коласа і фальклор”, доктарскую – у 1995 годзе.

Аўтар больш за 720 навуковых і навукова-папулярных публікацый у айчынным і замежным друку.

Займаецца даследаваннем міфалогіі і фальклору беларусаў, узаемасувяззю літаратуры і фальклору, краязнаўствам.

НАТАЛЛЯ ПРЫСТУПА
(1959– 2006)

Наталля Уладзіміраўна Прыступа нарадзілася ў вёсцы Малоткавічы Пінскага раёна. Вучылася ў Рэчыцкай спецшколе-інтэрнаце (яна інвалід з дзяцінства).

Свой першы зборнік з сімвалічнай назваю “Попытка” выдала ў 1996 годзе. Спроба на самай справе аказалася ўдалай і з інтэрваламі ў год-два ў розных выдавецтвах Берасцейшчыны выходзяць яшчэ 6 зборнікаў паэтэсы: “Кленовые листья” (1997), “Быль” (1998, у сааўтарстве з Лізай Палеес”), “С любовью”(1999), “Белый взмах”(2001, у сааўтарстве з А. Мірчук), “Два крыла” (2004), “В объятиях судьбы” (2006, у сааўтарстве з У. Казакевічам). Н. Прыступа друкавала свае вершы ў калектыўных зборніках “Надзея”, “Памяць аб крылах”, “Лёгкіх карункаў чароўная чарада”, “Берасцейскія карані”, “Берагі Таўрыды”, “Сустрэча” (Барнаул), а таксама ў часопісах “Акно”, “Нёман”, “Белыя снегіры” (Масква) і інш.

Наталля Прыступа – з’ява адметная ў сучаснай берасцейскай паэзіі, яна паэтка з выразным індывідуальна-аўтарскім стылем. Даследчыца мастакоў слова Піншчыны В. Локун лічыць, што паэзія Н. Прыступы “балансуе на сумежжы рэалізма і мадэрнізма, лірыкі і “інтэлектуалізма”. Яе вершы метафарычныя і асацыятыўныя”.

*Душа залечится участьем.*
*Ещё поговори со мной.*
*Ассоциируется счастье*
*С залётом птицы голубой.*

Тэма адзіноты, неўладкаванасці чалавечага жыцця таксама займае значнае месца ў паэтычнай спадчыне Н. Прыступы.

Духоўным апірышчам і маральнай падтрымкай у нялёгкім лёсе паэтэсы былі яе маці, сябры, непаўторная прырода Піншчыны; яны ж і натхнялі Н. Прыступу на паэтычную творчасць. З цеплынёю і нават некаторай настальгіяй згадвае аўтар верша “В память о детском доме” пра свае дзіцячыя, шчырыя і светлыя ў праявах-успамінах гады. Сваю крэўную і духоўную паяднанасць з маці паэтка асацыіруе з самім жыццём, з зямной надзеяй и найвялікшым шчасцем: *Пока жива любовь, пока со мною мама, я ни за что судьбу не*

*упрекну.*

У творчасці Н. Прыступы цяжка адшукаць вершаў выключна пейзажнай лірыкі: стан прыроды часцей за ўсё яна суадносіць з уласнымі перажываннямі і пачуццямі:

*Сердце стремилось к простору и дали…*
*Даже надежды любви не оставил.*
*Всё, чем жила, схоронила метель.*
*А за окном торжествует апрель*
*Редким стараньем растущих проталин,*
*Щебетом первой вернувшейся стаи…*
*Прочен сиянием солнечный день!*
*Мыслится в новом цветеньи сирень…*

“Творчасць паэтэсы, – слушна заўважае В. Локун, – як і яе жыццё, успыхнула нечакана ярка і непаўторна, каб у самым росквіце нечакана абарвацца…”

## ЮРЫЙ САЛАНЕВІЧ

Саланевіч Юрый Лявонцьевіч нарадзіўся 17 верасня 1955 года ў г. Пінску ў сям’і рабочых. У 1973 годзе скончыў СШ №4 г. Пінска. У 1978-м скончыў Днепрапятроўскі хіміка-тэхналагічны інстытут, факультэт тэхналогіі высокамалекулярных злучэнняў; інжынер-хімік.

Пасля інстытута працаваў майстрам на цэментна-шыферным камбінаце ў г. Балаклея Харкаўскай вобл. У 1980 годзе быў удзельнікам семінара пачынаючых пісьменнікаў у г. Харкаве..

У 1982 годзе вярнуўся ў Пінск, працаваў выкладчыкам хіміі ў СГПТВ-137, старшым тэхнікам-электрыкам у в/ч 99066. Пасля расфармавання 1-га вучэбнага атрада Балтыйскага флота працаваў намеснікам дырэктара ў клубе воінаў-афганцаў. З 1991 года працаваў на пасадах галоўнага інжынера, дырэктара ў камерцыйных структурах.

У 1987 годзе апублікаваў апавяданне ў часопісе “Крыніца”, у 2003 – аповесць “Лепшыя з лепшых” у часопісе “Нёман”, якую ў 2004 годзе перадрукаваў часопіс “Наш Современник” (Масква), у 2005 годзе ў часопісе “Нёман” (№ 9, 10) апублікаваў раман “Зона тени”, у 2007 годзе таксама ў “Нёмане” (№8) апублікаваў раман “Юродивый и смерть”.

## ЛЮБОЎ ДЗІКАВІЦКАЯ

Дзікавіцкая Любоў Сямёнаўна (Будзько) нарадзілася 8 кастрычніка 1962 года ў в. Востраў Пінскага раёна Брэсцкага вобласці. Працавала настаўніцай рускай мовы і літаратуры Вастраўскай школы (1980-1981 гг.), настаўніцай нямецкай мовы Жолкінскай школы (1981-1983 гг.). З 1983 года жыве ў Пінску. З гэтага ж года па 1993 – карэктар спецвыпуску “Звязда на



меліярацыі Палесся". З 1996-га – загадчыца аддзела сацыяльных праблем Пінскай гарадской газеты "Пінскі веснік", з 1999-га – карэктар Пінскай газеты "Варяг-Пресс" унітарнага масмедыяпрадпрыемства М.У.Жылюка "Варяг".

Неаднойчы з'яўлялася ўдзельніцай літаратурных семінараў у Караліш-чавічах. Творы друкаваліся ў літаратурных альманахах "Дзень паэзіі", рэс-публіканскіх часопісах "Маладосць", "Нёман", штотыднёвіку "Літаратура і Мастацтва", у абласным і мясцовым друку, рэгіянальных літаратурных зборніках "Піншчына літаратурная", пераклады вершаў на рускую мову неаднаразова друкавалася ў часопісе "Нёман", а таксама ў зборніку перакла-даў "Белой вежи свет".

# СТОЛІНСКІ РАЁН

Століншчына ў літаратурных адносінах даволі своеасаблівы куточак Беларусі. Доўгі час літаратурна-мастацкая творчасць на яе тэрыторыі не давала вялікіх усходаў, хоць сама зямля, яе людзі прыцягвалі ўвагу знакамітых мастакоў слова: гэты непаўторны край цягнуў і цягне да сябе прадстаўнікоў розных відаў мастацтва, дзе яны напаўняюць сваю творчую валіску новымі ўражаннямі, свежымі вобразамі, гарманічна-арыгінальным падборам фарбаў і сугуччам тропаў. На Століншчыне пабывалі В.І.Дунін-Марцінкевіч, М.Купрын, Л.Абухава, Ул.Караткевіч, Янка Брыль, М.Танк, У.Калеснік, Ніл Гілевіч, Я.Янішчыц, М.Рудкоўскі, А.Вярцінскі... Уражанні, атрыманыя ад наведвання нашага краю, яны паклалі ў аснову некаторых сваіх твораў. Так, вядома, што ў першай палове мая 1849 года Дунін-Марцінкевіч пабываў у вёсцы Альпень. Гэта быў вясновы час, прырода абуджалася ад зімовага сну. Прыгажосць краю ўзрушыла душу ўражлівага паэта: ён піша два вершы “Вясна” і “Прыпяць”, пад якімі ставіць дату і ўказвае месца напісання: Ольпень, мая 12 дня 1849 года; На водах Прыпяці, мая 13 дня 1849 года. У вершы “Прыпяць” Дунін-Марцінкевіч, выкарыстоўваючы прыём паралелізму, выказвае думку наконт суаднесенасці з‘яў прыроды, іх дынамікі, жыцця і смерці. Прыпяць, гаворыць паэт, існуе дзеля радасці сустрэчы з Дняпром, якому яна аддае не толькі свае воды, але і сваю сутнасць. Рух прыроды, на думку аўтара, няспынны. Але прыродныя з‘явы – гэта толькі абразок, падсветка, прыклад, на падставе якіх Дунін-Марцінкевіч даследуе душу чалавека, узаемаадносіны паміж закаханымі:

Вось так і ў дзяўчыны бракуе стрымання,
Як сэрца ў юнацтве агорне каханне.

Палескія краявіды будзілі ў паэта не толькі пачуцці здзіўлення, замілаванасці, але настройвалі і на роздум аб сутнасці жыцця, яго шматграннасці і каштоўнасці. Аўтар цешыцца багаццем палескай прыроды і, супастаўляючы яе з праявамі грамадскімі, не разумеючы іх, выкліквае:

О божа! бясконцы дабра крыніцы,
Калі твой люд, што цябе абражае,
Заместа кары з тваёй жа дзясніцы
Такое багацце мае.

Са Століншчынай звязана і напісанне В.І.Дуніным-Марцінкевічам камедыі “Пінская шляхта”, якая была створана на палескім дыялекце ў 1866 годзе. Сам пісьменнік арыентуе чытача на месца дзеяння п‘есы: “Рэч адбываецца ў ваколіцах О... паміж балотаў, у глушы Пінскага павета. Сцэна паказвае шляхецкую ваколіцу”. Цэнтрам гэтай ваколіцы, як сцвярджае пісьменнік і даследчык У.Ліпскі, з‘яўляецца вёска Альпень. І на сённяшні дзень у гэтай мясцовасці жывуць людзі са знакамітымі прозвішчамі Цюхай-Ліпскі, Альпенскі, Пратасавіцкі.

У канцы 90-х гадоў XIX стагоддзя недалёка ад Століна, у вёсцы Пераброды, якая ў той час уваходзіла ў Пінскі павет, пражываў вядомы рускі пісьменнік А.І.Купрын. У гэты перыяд ён стварыў сваю знакамітую аповесць “Алеся”.



Яна, як вядома, з'яўляецца гімнам не толькі шчыраму, узвышанаму, таямнічаму каханню, але і самому палескаму краю – яго першароднай прыродзе, народным паданням і легендам.

Са Століншчынай звязана жыццё знакамітага легендарнага англійскага генерала Адрыяна Картана дэ Віарта, які ў 1921 годзе прыехаў да свайго сябра і ад'ютанта ксяндза Кароля Радзівіла – ён пражываў у Манькавічах. Заўзяты паляўнічы так упадабаў незвычайна прыгожыя мясціны Палесся, што вырашыў ужо не развітвацца з імі ніколі. Ксёндз падарыў яму невялікую леснічоўку ва ўрочышчы Прастынь, што раскінулася на поўдзень ад Давыд-Гарадка сярод балот на беразе чароўнай лясной рэчкі Льва. У леснічоўцы Адрыян Картан пражыў да 1939 года, выязджаючы на радзіму толькі ў зімовы час.

Генерал ператварыў Прыстынь у маленькі англійскі дворык са скошанай акуратна травой вакол і кветнікамі. На сценах старожкі віселі паляўнічыя трафеі Адрыяна Картана, яго баявыя ўзнагароды, стрэльбы.

У 1939 годзе, калі Чырвоная Армія заняла тэрыторыю Заходняй Беларусі, генерал пакінуў Прастынь і выехаў у Англію, дзе напісаў цікавую кнігу пра свае мірныя і ваенныя гады "Шчаслівая Адысея", у якой з вялікай любоўю і настальгіяй распавядае і пра Столінскае Палессе.

На Століншчыне на хутары ля вёскі Варані ў 1928 годзе нарадзіўся знакаміты сёння ў Польшчы пісьменнік Раман Гарынь (Рамуальд Свёнтэк). Яго бацька меў свой дом, сорак гектараў зямлі і вёў вялікую гаспадарку. Сям'я Свёнтэкаў была немалая: шасцёра дзяцей. 10 лютага 1940 года Раман разам з бацькамі, братам і чатырма сёстрамі быў высланы ў Архангельскую вобласць. У 1941 годзе сям'я Свёнтэкаў была амніціравана і вывезена спачатку на Сярэдні Усход, а потым у Англію. У 1949 годзе 21-гадовы Рамуальд вырашыў вярнуцца на радзіму, але ў Ленінградзе, куды ён прыбыў на цеплаходзе, мясцовыя ўлады прынялі яго за англійскага шпіёна, арыштавалі і выслалі ў Варкуту, дзе ён знаходзіўся аж да кастрычніка 1956 года. Пасля вызвалення Рамуальд быў рэпатрыяваны ў Польшчу. У 1963 годзе поўнасцю рэабілітаваны.

Пра свае жыццёвыя пакуты Раман Гарынь напісаў у аўтабіяграфічнай аповесці "Перад чырвоным трыбуналам", пераклад якой быў зроблены на рускую мову і ў 2007 годзе выдадзены ў Брэсцкім выдавецтве "Альтэрнатыва".

Увогуле Раман Гарынь мае пяць кніжак, сярод якіх асабліва вылучаецца "Алтайская княжна", таксама перакладзеная на рускую мову.

Сёння Раман Гарынь жыве ў Польшчы, але сувязяў з родным краем не перапыняе.

Століншчына цікавіла і цікавіць сучасных пісьменнікаў і краязнаўцаў. Вельмі любілі нашы мясціны Уладзімір Караткевіч, Уладзімір Калеснік, Янка Брыль, руская пісьменніца Лідзія Абухава.

У выніку падарожжаў па Століншчыне Янка Брыль напісаў свой знакаміты твор "Скрыпка пяе". Уладзімір Караткевіч упершыню пабываў на Століншчыне ў чэрвені 1969 года. "Перад упадзеннем у Прыпяць Гарыні пацягнуўся дагістарычны лес, – дзівацаўся Уладзімір Караткевіч. – Каравыя вербы з дзвюма-трыма буслянкамі, як душы змерлых у пекле вялікага тасканца. І ма-

ленькія маладыя вербы, што толькі падкрэслівалі трагічнасць пейзажу. А над усім гэтым, над буслінымі крыламі, першабытнае неба, нібы ў час стварэння Сусвету".

Уражанні ад паездкі Караткевіча па Століншчыне ляглі ў аснову яго эсэ "Званы ў прадоннях азёр". Сем раздзелаў твора прысвечаны нашаму краю. Пісьменнік быў настолькі захоплены незвычайнай прыгажосцю гэтай зямлі, што пазней з натхненнем напісаў: "Хаты стаялі пад знакам сонца. А вакол іх хісталіся густазялёныя каноплі. І цвіло ці збіралася зацвітаць... такое мора кветак, якога я не бачыў у жыцці. Півоні ўсіх колераў, руты, аксамітна-стракатыя браткі, мацыёлы, флоксы, зарасці вяргінь, канаў, пахучага гарошку, пантофелькаў маці божай і залатога бэрла..."

Уладзімір Караткевіч стаў сведкам незвычайнай падзеі, якая адбылася на Гарыні ў Давыд-Гарадку. Сюды з'язджаліся цыганы з усяе Беларусі, каб адзначыць гадавіну смерці свайго суддзі Герасіма Базылевіча, які ўтапіўся ў рацэ, ратуючы беларускую дзяўчынку. Гэтае здарэнне стала асновай для напісання Караткевічам апавядання "Краіна Цыганія", у якім пісьменнік крыху змяніў добра вядомыя нам геаграфічныя назвы: Стрынь – Гарынь, Завід-Гарадок – Давыд-Гарадок.

Руская пісьменніца Лідзія Абухава прыехала на Століншчыну пасля заканчэння ў Маскве Літаратурнага інстытута імя А.М.Горкага. Напачатку ўбачанае і перажытае яна адлюстравала ў нарысе "Аб людзях Палесся", які стаў асновай для напісання рамана "Глыбінь-гарадок" (1958). У яго назве нам бачыцца старажытны Давыд-Гарадок. Апошнюю сваю паездку ў наш край Лідзія Абухава здзейсніла ў 1974 годзе, у выніку чаго напісала нарыс "Сялянскія дзеці". У час гэтай паездкі яна сустрэлася з пачынаючымі ў той час паэтамі і празаікамі - нараджэнцамі Столінскай зямлі. Яна пазнаёмілася з іх творамі і параіла некаторым пісаць на роднай беларускай мове.

Столінская зямля багатая не толькі пісьменнікамі-творцамі, але і вучонымі-філолагамі, якія даследуюць слова як з'яву мастацкую, лінгвістычную і народна-песенную. Будзе дарэчы назваць імя Васіля Дзмітрыевіча Ліцьвінкі, знакамітага беларускага фалькларыста, кандыдата філалагічных навук, былога дацэнта Беларускага дзяржаўнага універсітэта, загадчыка навукова-даследчай лабараторыі беларускага фальклору. Будучы нястомны збіральнік нацыянальнага мастацкага слова Васіль Дзмітрыевіч нарадзіўся ў 1941 годзе ў вёсцы Верхні Церабяжоў. Ён аўтар шматлікіх кніг па фальклоры і этнаграфіі: "Зімовыя святкі", "Веснавя святы і абрады", "Святы і абрады беларусаў" і інш. На жаль, выдатны знаўца народнага слова, нязменны вядучы тэлепраграмы "Запрашаем на вячоркі" ў 2007 годзе заўчасна памёр.

У 1940 годзе ў вёсцы Калоднае нарадзіўся вядомы ў будучым даследчык беларускага мастацкага слова Ксенафонт Іванавіч Лецка. Пасля заканчэння мясцовай семігодкі ён вучыўся ў Рухчанскай сярэдняй школе. У 1959 годзе паступіў на філалагічны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя М.Горкага. Настаўнічаў, служыў у войску. Завочна вучыўся ў аспірантуры пры кафедры рускай і замежнай літаратуры роднага інстытута. Абараніў кандыдац-



кую дысертацыю па тэме “Романтизм А.И. Полежаева”. З 1979 года і да апошніх дзён жыцця працаваў у Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы спачатку старшым выкладчыкам, потым дацэнтам, з 1985 па 1996 гады загадваў кафедрай беларускай літаратуры. Мае шэраг навуковых прац па праблемах беларускага рамантызму XIX стагоддзя. З 1956 года пасля заканчэння факультэта журналістыкі Белдзяржуніверсітэта ў рэдакцыях газет Давыд-Гарадка і Камянца працаваў вядомы беларускі паэт, драматург, перакладчык Анатоль Ільіч Вярцінскі.

Пяюць песні Столінскай зямлі, выказваюць словы захаплення і падзякі і тыя з мастакоў, каго выпеставала і ўзгадавала яна. “Родная палеская зямля... Зялёныя ўрочышчы, купчастыя дубровы сярод сенажацяў, адвечныя белыя плёсы па суседству з утравелымі стромамі, пясчаныя водмелі, што на зваротку вябягаюць ледзь не да сярэдзіны ракі... Вечная задуменнасць лазняковага краю, закалыханага шэптам спелае нівы, зямля, дзе буслы ладуюць свае буслянкі на дрэвах-волатах і дзе птушыны клёкат з узнесеных высока над зямлёй гнёздаў спадае ўніз, каб вольна і нязмушана ўліцца ў працоўную мелодыю раніцы на абноўленай зямлі...”

Першыя творы пісьменнікаў, якіх нарадзіла і выпеставала Століншчына, з‘явіліся ў канцы шасцідзесятых гадоў XX ст. у мясцовым друку – газеце “Навіны Палесся”.

## ГЕОРГІЙ МАРЧУК

Георгій Васільевіч Марчук нарадзіўся 1 студзеня 1947 года ў г. Давыд-Гарадок. Бацькі будучага празаіка і драматурга рана памерлі і пакінулі сына на выхаванне бабулі і дзядулі. Георгій вучыўся ў сярэдный школе № 2, пасля заканчэння якой зрабіў спробу паступіць ва Усесаюзны інстытут кінематаграфіі. Але спроба была няўдалая. Ён вяртаецца на радзіму і працуе кіраўніком драматычнага гуртка пры Давыд-гарадоцкім доме культуры, потым - два гады інструктарам Столінскага РДК, мастацкім кіраўніком ансамбля пры парку культуры і адпачынку ў горадзе Століне.

У гэты час на старонках газеты “Навіны Палесся” з‘яўляюцца першыя гумарэскі, рэцэнзіі і апавяданні Георгія Марчука. У 1973 годзе на старонках газет “ЛіМ” і “Чырвоная змена” пісьменнік друкуе свае творы “На шляху да самастойнасці” і “Знаходка”.

У 1969 годзе Георгій Васільевіч пераязджае ў Мінск і ўладкоўваецца на працу спачатку адміністратарам кінастудыі “Беларусьфільм”, а потым асістэнтам рэжысёра аб‘яднання тэлефільмаў названай кінастудыі. Паралельна з працай, Георгій Марчук паступае на завочную форму навучання аддзялення тэатразнаўства Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута, а таксама працягвае свае творчыя спробы: у 1974 годзе ён друкуе чарговыя апавяданні і гумарэскі, працягвае аналізаваць тэатральныя пастаноўкі і паступова сам пераходзіць да стварэння невялікіх аднаактавых п‘ес.

Як бачым, шлях Георгія Марчука ў літаратуру пачынаўся даволі асцярож-

на, ад практычнага пазнання сакрэтаў мастацкай творчасці да ўласных твораў. Невялічкі мастацкі жанр, гумарыстычна-тэматычная аснова, канфліктна-дынамічны імпульс сюжэта – вось тыя творча-эстэтычныя адметнасці, якія былі характэрны для пачатковага этапу творчай біяграфіі Георгія Марчука. Многія з іх захаваліся і ў далейшай творчасці пісьменніка. Праўда, на змену жанравым мініяцюрам прыйшлі вялікія эпічныя палотны. Пісьменнік працаваў вельмі хутка і натхнёна. Ён зацікавіўся праблемамі, аб‘яднанымі вакол тэмы роднага краю, яго гісторыі і сучаснасці. Адзін за адным спачатку на старонках часопісаў, а потым і самастойнымі выданнямі выйшлі кнігі “Крык на хутары”, “Кветкі правінцыі”, “Прызнанне ў забойстве”, “Паляшук”, “Без ангелаў”, “Сава Дым і яго палюбоўніцы”, “Вочы і сон”, “Год дэманаў”, “Хаос”, “Казкі”.

“Крык на хутары”, “Прызнанне ў забойстве” і “Кветкі правінцыі” складаюць своеасаблівы палескі цыкл твораў Г.Марчука, які ахоплівае вялікі гістарычны перыяд, пачынаючы ад старонак заходнебеларускага жыцця і заканчваючы праблемамі пасляваеннай рэчаіснасці. Аб‘ядноўваючым стрыжнем раманаў з‘яўляецца невялікае палескае мястэчка Нырча, у якім даволі празрыста акрэсліваецца родны пісьменніку Давыд-Гарадок. Суадносна з ім згадваюцца іншыя мясціны Століншчыны: Хорск, Альшаны, Рамель, Белавуша, Дубай.

Георгій Марчук вельмі любіць свой край, любіць яго хуткаплынную Гарынь і працавітых людзей: “Дбайныя, руплівыя, працавітыя, кемлівыя і хітрыя... гарадчукі невядома з якіх часоў навучыліся дубіць скуры, шыць кажухі, касцюмы, плацці, спадніцы, рабілі граблі, бочкі, плялі кашы, сеткі, жакі, кавалі падковы, цвікі, капаніцы, завесы, нажы, доўгія ключы, шылі зімовыя шапкі, паліто і чобаты. Кажуць, што ўсе польскія каралі заказвалі хромавыя боты толькі ў гарадоцкіх шаўцоў”.

Для твораў Георгія Марчука характэрна напружанасць сюжэта, глыбіня псіхалагічнага даследавання герояў, часам дэтэктыўнасць у разгортванні падзей. Герой рамана “Вочы і сон” Іван Чачырка падазрае жонку ў здрадзе і ўцякае з турмы, каб адпомсціць Авяр‘яну Ліхадзею, якога лічыць палюбоўнікам жонкі. Падазрэнні Чачыркі не пацвердзіліся, аднак выпадкова ён стаў сведкам замаху на жыццё Ліхадзея. Замах рабіў сляпы музыкант Казік Батура. Ён і расказаў Чачырку пра загадкавае мінулае Ліхадзея.

Такая невялікая анатацыя да рамана “Вочы і сон”. Твор, як бачым, прыцягвае чытача, інтрыгуе яго, бярэ ў палон.

Сапраўдным гонарам пісьменніка з‘яўляецца яго зборнік “Хаос”, выдадзены ў 1997 годзе ў перакладзе на рускую мову. Гэта своеасаблівыя абразкі, малюнкі, зробленыя з натуры, падгледзеныя ў жыцці і асэнсаваныя на старонках кнігі. У ёй пераплятаюцца вострыя сюжэты і праўда жыцця, трагедыя і гумар. Знаходзячыся на мяжы паміж хаосам і гармоніяй, толькі сам чалавек мае права зрабіць свой выбар: ці ён будзе, як раб, служыць граху, грашам, ці здолее ўзвысіцца над абставінамі. Такі лейтматыў усёй кнігі.

У 2003 годзе Георгій Марчук выдаў кнігу “Урсула”, у якой змясціў навэлы кахання і Давыд-гарадоцкія каноны.

Па кнігах Гергія Марчука напісаны сцэнарыі, пастаўлены фільмы. За фільм



“Кветкі правінцыі” пісьменнік разам з творчым калектывам кінафільма атрымаў Дзяржаўную прэмію Беларусі.

У апошнія гады Георгій Марчук працуе над кнігай уласных афарызмаў. У жанравым сэнсе мы назіраем вяртанне пісьменніка да малых мастацкіх твораў. Апошнія, як вядома, вымагаюць канцэнтрацыі думкі героя, яго філасофскага погляду на жыццё, яго здольнасці цераз малое выказаць вялікае, у будзённым, звычайным убачыць незвычайнае, узвышанае, сутнаснае.

Доўгі час Геогій Васільевіч узначальваў Дзяржаўнае выдавецтва “Мастацкая літаратура”, цяпер працуе на кінастудыі “Беларусьфільм”.

## УЛАДЗІМІР ГЛУШАКОЎ

Давыд-Гарадок даў беларускай літаратуры яшчэ аднаго таленавітага празаіка – Уладзіміра Сцяпанавіча Глушакова. Ён нарадзіўся 7 красавіка 1952 года ў сялянскай сям’і. Бацька будучага пісьменніка, Сцяпан Іванавіч, быў інвалідам Вялікай Айчыннай вайны. Як пазней напіша сам У.Глушакоў у аповесці “Насенне”, “Бацька не тутэйшы, родам з Магілёўшчыны. Маці і браты клічуць яго магілёўцам. Калі вярнуўся з фронту па цяжкім раненні, бацька напаткаў на месцы зялёнага, шумнага хутара на радзіме папялішча... Браты загінулі на вайне, сёстры не вярнуліся з Германіі”. У 1950 годзе Сцяпан Іванавіч трапіў у Давыд-Гарадок, дзе ажаніўся з мясцовай дзяўчынай Надзеяй Пятроўнай – маці будучага пісьменніка.

У 1969 годзе Уладзімір скончыў мясцовую сярэднюю школу № 1.

З 1973 па 1976 гады Глушакоў працаваў слесарам-зборшчыкам на галоўным канвееры Мінскага трактарнага завода, потым свідравальшчыкам, электракаршчыкам на маторным заводзе. Пасля цяжкога і манатоннага працоўнага дня Уладзімір усё часцей і часцей стаў наведваць бібліятэку інтэрната, у якім жыў. Акрамя чытання, прыгадвалася дзяцінства, родныя мясціны, Давыд-Гарадок. Захацелася выкласці яркія вобразы, адноўленыя памяццю, на паперу. Адна замалёўка змяняла другую. Глушакоў пачаў наведваць літаратурнае аб’яднанне “Полымя” пры завадской шматтыражцы, якім кіраваў у той час паэт Анатоль Вярцінскі.

Працу і літаратурную творчасць Уладзімір Сцяпанавіч чаргаваў з завочнай вучобай на факультэце журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Амаль дзесяць гадоў Глушакоў працаваў рэдактарам аддзела прозы часопіса “Неман”, доўгі час супрацоўнічаў з часопісам “Беларуская думка”, быў намеснікам Старшыні Камітэта па друку Рэспублікі Беларусь, намеснікам галоўнага рэдактара “Народнай газеты”, адкуль звольніўся ў2003 годзе. З гэтага часу працуе ў Інфармацыйна-аналітычным цэнтры пры Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Літаратурнае жыццё Уладзіміра Глушакова пачалося напрадвесні 1973 года, калі на старонках рэспубліканскай газеты “Літаратура і мастацтва” быў надрукаваны публіцыстычны цыкл “А я люблю таварышаў маіх”. “Яны, – як піша

Мілена Галубіцкая, – сталіся добрым знакам, запрашэннем маладога палескага пісьменніка ў літаратуру". Першыя публікацыі выклікалі цікавасць не толькі ў чытачоў, але і мастакоў слова, крытыкаў. Нездарма яго летам гэтага ж года запрасілі на Усесаюзную нараду маладых літаратараў, якая праходзіла ў Маскве. У 1976 годзе паступіў на вучобу (завочна) у Маскоўскі Літаратурны інстытут імя М.Горкага, які скончыў у 1982 годзе.

Уладзімір Глушакоў уваходзіў у літаратуру як пісьменнік-нарысіст, аўтар своеасаблівага жанра, у якім спалучаецца дакументальны пачатак і мастацкая творчасць. Гэтыя дзве адметнасці сталі асноўнымі прыкметамі эстэтычнай стылістыкі пісьменніка і ў наступных творах. Героямі нарысаў былі людзі моцныя, яркія, адметныя. Уладзімір Глушакоў - з таго шэрагу мастакоў слова, хто ў сваёй творчасці ўмела спалучае дакументальнае з багатай фантазіяй, каго цікавяць праблемы вытворчасці, лёсу канкрэтных людзей і хто шугае ў сваіх думках у далёкае мінулае і марыць аб будучым. "Яго творы, – піша М.Галубіцкая, – вызначаюцца сапраўды жывымі, глыбокімі і размаітымі ў сваіх адценнях адносінамі да рэчаіснасці, што адбываецца толькі, калі прадметам мастацтва служыць жыццё, яго хуткаплынныя праявы, імпульсы, хвалі".

Акрамя заняткаў публіцыстыкай, У.Глушакоў пісаў і мастацкую прозу. Ідучы ўслед за Іванам Мележам, Глушакоў узбагаціў яе незвычайным лірызмам, перамежаваным з рэальнасцю, публіцыстычнасцю, дакументальнасцю. У 1977 годзе ў часопісе "Неман" было надрукавана апавяданне "Колдобіна", праз два гады на старонках гэтага ж выдання была змешчана аповесць "Семена", якую некалі яшчэ ў чарнавым варыянце Уладзімір Глушакоў вазіў на Усесаюзную нараду ў Маскву. Там, дарэчы, аповесць была абмеркавана на семінары і станоўча ацэнена дацэнтам Літаратурнага інстытута імя А.М.Горкага Аляксандрам Мікітавічам Уласенкам, які запрасіў маладога пісьменніка на вучобу ў названую ВНУ.

Пасля выхаду аповесці землякі пісьменніка літаральна закідалі яго пагрозамі, а афіцыйныя ўстановы скаргамі. Сам Глушакоў, успамінаючы той час, піша: "Рэзананс на месцы... быў як цэбар ледзяной вады на галаву: хто – аўтар? Дзе рос і вучыўся? Як асмеліўся сачыніць такі брудны пасквіль на сваіх людзей?..

На маю грэшную галаву, як град на жыта ў пару красавання, пасыпаліся лісты, тэлеграмы, паштоўкі... Пра званкі і не кажу. Было ад чаго разгубіцца!"

Уладзімір Глушакоў не ведаў, як рэагаваць на такую бурн-адмоўную рэакцыю землякоў. Але, на шчасце, яму пашанцавала сустрэцца з Уладзімірам Караткевічам, які, як знарок, зайшоў у той час у рэдакцыю "Немана". Ён здолеў не толькі суцешыць пакрыўджанага маладога пісьменніка, але і настроіць яго на будучую мастацка-творчую працу: "Я часцяком, асабліва ў маладыя гады, заседжваўся на зялёных кручах Гарыні разам з тваімі дзядзькамі, але... Старажытныя людзі. Твары часоў Ефрасініі Полацкай і Кірылы Тураўскага! Цяпер такіх не стрэнеш нідзе, акрамя Пагарыння. Не губляй іх з поля зроку. Твае гарадчукі, Бог дасць, яшчэ выведуць цябе на сапраўдную дарогу, калі ўсё гэта ў цябе сур'ёзна.." Літаратурная дзейнасць для Уладзіміра Глушакова сапраўды



стала справай сур'ёзнай. І дапамагла яму ў гэтым зямля, дзе нарадзіўся, людзі, якія на ёй жывуць. Пісьменнік не толькі любіць Пагарынне, але і спрабуе захаваць яго прыгажосць, чысціню, першароднасць: "А вясною ці ўвосень тут стаяць нечакана поўныя, што карэц вады, балацявіны ды западзінкі. І калі сыдзе снег, а ў паветры над борам пачынае трымцець шаравата-блакітная смуга, здаецца, спяць нерухома ўсваіх берагах, парослых лазой ды чаротам, самыя светлыя і чыстыя ў свеце палескія рэкі».

Гэтую спакойную замілаванасць да свайго роднага краю выказвае Уладзімір Глушакоў у нарысе "Гарынская падкова". Але спакой гэты падманлівы – ён чыста знешні. Аўтара хвалююць праблемы палескай зямлі, звязаныя з меліярацыяй і абязвожваннем рэк, зменай іх рэчышчаў: "І такая цішыня стаіць сёння, пасля чарнобыльскай бяды, над Прыпяццю, што аж перацінае дых: здаецца, пазірае ў неба сінявокая палеская зямля, як некалі я, малы белявы хлапчук пасярод выгану, глядзеў на размыта-белы след, пакінуты ледзь бачным самалётам у недасяжнай вышыні блакіту...

Глушакоў імкнецца самастойна перагарнуць нябачныя старонкі шматтомнай палескай гісторыі. Найперш яго цікавіць родны Давыд-Гарадок.

Чытаючы творы Уладзіміра Глушакова, верыш у праўдзівасць адлюстраваных у іх падзей. Адначасова наталяешся прыгожай сакавітай з мясцовым каларытам мовай. Героі пісьменніка быццам ажываюць, размаўляюць з табой, перадаюць табе свой настрой, свой боль, сваё шчасце. Менавіта гэтая сукупнасць творчай спецыфікі Уладзіміра Глушакова садзейнічала таму, што ён, як адзін з аўтараў кнігі "Беларусь маладая", быў узнагароджаны Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь.

## ЛЯВОН НЕЎДАХ
### З аўтабіяграфіі

Калі ехаць па шашы ад Пінска на Столін, праз 40 км леваруч будзе вёска Радчыцк. Вялікая. Двароў чатырыста. З царквою. Па-мясцоваму завецца сялом. У метрыках запісана, што я нарадзіўся менавіта тут 7 жніўня 1947 года. У тутэйшай царкве хрышчоны ў праваслаўныя.

Калісь з паўднёва-ўсходняга боку Радчыцка месціліся непадалёку адно ад аднаго ўтульныя, з 5 - 7 хат, радавыя паселішчы і называліся яны агульна хутарам Дабрыні. Я з'явіўся на гэты грэшны свет чацвёртым сынам Неўдаха Пётры ў паселішчы Андрыйчыкаў (майго дзеда па бацькавым радаводзе звалі папаляшуцку Андрыем), у хаце, адзіна ўцалелай у 1943 годзе з усяго спаленага фашыстамі хутара. І ўцалелая хата стала пасярод лютай зімы прытулкам для амаль сотні хутаран. Потым яна стала і хатай маіх народзінаў.

Дабрыні!.. Гэта мой дзіцячы свет, маё малое Палессе. З невялікімі палямі і неабсяжнымі заліўнымі лугамі з хмарамі птушак над імі, з касавіцамі і жнівом. З грэблямі і поўнымі рыбай затокамі. Меліярацыя зраўняла гэта багацце ў адно вялізнае поле, не пашкадавала і радавыя паселішчы. І дабрынцы мусілі пераехаць адсюль у навакольныя вёскі.

Звычайна перыяд свайго жыцця з 1957-га па 1962-гі год для біяграфічных звестак я апісваю надта казённа: вучыўся ў Пагост-Загародскай і Малазводскай сярэдніх школах. Калі мне было дзевяць гадоў, памёрла маці; цяжка хварэў бацька, і мяне адвезлі ў дзіцячы дом. Спачатку – у Пагост-Загародск, што на Піншчыне. Гэтае маляўнічае мястэчка можна ўзгадаць у маёй аповесці "Бумеранг". Другі мой казённы прытулак месціўся у былым панскім фальварку, побач з вёскаю Малыя Зводы, што у Высокаўскім раёне. Адсюль праз станцыю Лышчыцы, потым Брэст, я юнаком паехаў на вучобу ў Мінск. Не ведаў тады, што вяртацца на Брэстчыну буду ўжо толькі госцем.

Мінск – гэта горад майго юнацтва і вучобы ў політэхнікуме і Белдзяржуніверсітэце.

Улетку 1963-га ў складзе дзвух навучальных груп я пераехаў у Полацк, дзе быў адкрыты нафтавы тэхнікум і рыхтаваліся спецыялісты для нафтаперапрацоўкі. З гэтага часу мой лёс звязаны з Наваполацкам, Полаччынай. Тут я працаваў на нафтаперапрацоўчым заводзе аператарам тэхналагічных установак, журналістам у гарадской газеце "Химик", дарэчы, на ўсіх пасадах, у тым ліку і галоўнага рэдактара. У 37-й Рэчыцкай гвардзейскай танкавай дывізіі, якая дыслацыравалася ў Полацку, я праходзіў наводчыкам гармат сярэдніх танкаў вайсковую службу, таксама і афіцэрам запасу. У Наваполацку, які вось-вось сальецца з Полацкам, нарадзіліся мая жонка Галіна і мой сын Андрэй.

Сваім далучэннем да прыгожага пісьменства я абавязаны нафтаперапрацоўшчыку Анатолю Духовічу –заўзятаму аматару паэзіі "шасцідзесятнікаў". Мы працавалі разам у тэхналагічнай брыгадзе і сябравалі, і яго захапленне паэтычным словам перадалося і мне. Першыя мае вершы прачытаў менавіта ён. А потым былі літаб'яднанне "Крыніцы", семінары маладых літаратараў, таксама і рэспубліканскае ў Каралішчавічах (1983), творы ў часопісах і калектыўных зборніках, кнігі "Формула дабрыні", "Чорнае святло", "Бумеранг". Маімі "хроснымі бацькамі" ў беларускай літаратуры з'яўляюцца Уладзімір Дамашэвіч (проза) і Генадзь Бураўкін (паэзія). Я вельмі ўдзячны гэтым вядомым майстрам слова за іх удзел у маім станаўленні як прафесійнага літаратара.

У мяне ўжо няма часу пісаць прозу, але ёсць час пісаць вершы, вартыя адметных раманаў. Паэзія і вершаскладанне – з'явы розныя. Як відавочна і тое, што паэтаў адзінкі і безліч вершатворцаў. Я імкнуся стаць ўсё-ткі паэтам, хоць і адчуваю, што самая сапраўдная паэзія – толькі ў пацерах мацярок.

Паўднёвае Палессе і паўночнае Прыдзвінне, Брэстчына і Віцебшчына для мяне – палюсы Беларусі. Я добра спазнаў іх, і яны натхняюць мяне ў літаратурнай творчасці.

28.07.2008 г., Лявон Неўдах.

Зборнік прозы "Формула дабрыні" распачынае аповесць "Мяжа магчымага". У ёй на прыкладзе вытворчай тэматыкі падымаюцца маральныя стасункі паміж людзьмі. Дзеянне ў творы адбываецца на нафтаперапрацоўчым камбінаце.

Аповесць "Мяжа магчымага" – твор аб выключных абставінах, у якіх вып-



рабоўваюцца людскія характары, прафесійная кампетэнтнасць, стойкасць. Гэта твор з драматычным зместам, у якім раскрываюцца праблемы савецкага часу з яго кар'ерызмам і паказухай.

Другім празаічным зборнікам Лявона Неўдаха стала кніга пад назвай "Бумеранг", якая выйшла ў свет у 2003 годзе. Яна складаецца з трох аповесцяў: "Бумеранг", "Паланез Агінскага" і "Гарнітур "Алеся". Кожны з названых твораў вызначаецца вастрынёй узнятых праблем, асаблівай дынамікай сюжэтнага развіцця, тонкім паказам аўтарам псіхалогіі герояў.

У цэнтры аповесці "Бумеранг" няпростыя адносіны, якія склаліся паміж сям'ёй дырэктара рыбгаса Сцяпана Васільевіча Стральцова і некаторай часткай жыхароў мястэчка Загародскае.

У паэзіі Лявон Неўдах выявіўся як аўтар з вельмі абвостраным адчуваннем часу. Аб'ектам яго мастацка-паэтычнага асэнсавання сталі 90-ыя гады XX стагоддзя. Атмасфера часу з палітычнымі калізіямі, чалавек ў гэтай атмасферы, яго роздум і пачуцці; адносіны да грамадства і сябе самога – лейтматыў першай паэтычнай кнігі Лявона Неўдаха "Чорнае святло". Аксюмаранная назва зборніка вельмі дакладна перадае яго ўнутраны змест – гэта сутыкненне кантрастаў, барацьба розуму і духу, любові і нянавісці, дабра і зла, спадзявання і расчаравання, у шырокім сімвалічным, сэнсе – белага і чорнага. Лявон Неўдах паспрабаваў у кнізе даследаваць дух часу. Адносна невялікія па аб'ёму вершы з моцна сціснутымі ў іх канцэнтраванымі рэмінісцэнцыямі ўяўляюць своеасаблівыя метафарызаваныя нервы эпохі барацьбы рэакцыйнага і эвалюцыйнага, новага і старога, дэмакратычнага і монапалізаванага, агульналюдскага і ўласнаіндывідуальнага, прагрэсіўнага і застыглага. Боль – пачуццёвая дамінанта кнігі. Неабыякавасць – грамадзянская пазіцыя аўтара. Метафарычна-вобразная сістэма – асноўная стылёвая адметнасць зборніка.

У кампазіцыйным сэнсе вершы кнігі згрупаваны па вельмі добра прадуманай аўтарам схеме: рэальная карціна часу (разбурэнне былых духоўных каштоўнасцяў), чалавек у часе (духаўна пакалечаны), пошукі выйсця з крызіснай сітуацыі (рух наперад, павярнуўшыся спіной да мэты – сімвал адзінокага рыбака, які грабе вёсламі, пільна ўглядаючыся ў карму лодкі – ці духоўнае адраджэнне нацыі, пошукі выратавання душу Боскай міласці, у веры, надзеі і любові). Развязка, ці хутчэй эпілог, у кампазіцыйнай тканіне зборніка – экскізы, чарнавыя накіды да паэмы пад аб'яднанай назвай Дом. Аўтар спадзяецца на сваіх нашчадкаў, жыццё якіх будзе азорана дабром і шчасцем.

Лірычны герой зборніка – гэта выгнаннік, які адчувае сябе адзінокім на роднай зямлі.

**Гарынь**
Уладзіміру Сарокіну

Вадой Гарыніі любіць Бог умыцца.
Без праўды ўсёй не будзе мудраца:
Мне і ў магіле зоркай засвіціцца

Святло радзімы з прыгаршчаў Тварца.

Аб нараджэнні выраблю я метрыку
І прыбяру ў Дзяды пагост радні...
Мяне па шчасце не сарве ў Амерыку –
Гарыньскія трымаюць карані.

Я не маню, што сэрцу майму любая
І дзедава, і бацькава рака,
Дзераніцою Бог умыцца любіць,
Калышучы чаўны палешука.

## АЛЕСЬ ШАЎЦОЎ

У канцы шасцідзесятых гадоў мінулага стагоддзя ў рэспубліканскім і саюзным друку з'явіліся першыя творы маладога і вельмі таленавітага празаіка Алеся Шаўцова. Пятнаццацігадовы юнак выклікаў да сябе ўвагу чытачоў вастрынёй і злабадзённасцю ўзнятых у апавяданнях і гумарэсках пытанняў, тонкай назіральнасцю за жыццём, здольнасцю ўлавіць у адзінкавым факце тыповыя праяўленні тагачасных грамадскіх хібаў.

Нарадзіўся Аляксандр Пятровіч у Давід-Гарадку ў 1954 годзе. Пасля заканчэння школы № 1 паступіў у Мінскі медыцынскі інстытут. Вучоба не шкодзіла маладому творцу – наадварот: студэнцкае жыццё давала добры матэрыял для з'яўлення новых і новых апавяданняў, замалёвак, мініяцюр. У 1981 годзе Алесь Шаўцоў падрыхтаваў да выдання першую кнігу сваёй прозы, пад вокладкай якой змясціў трыццаць дзевяць твораў. Прадмова да кнігі была напісана Народным пісьменнікам Беларусі Іванам Шамякіным, які вельмі высока ацаніў як творы, так і талент маладога мастака слова: “Асобныя творы Алеся Шаўцова я перачытваў па два-тры разы, што пры нашай паўсядзённай занятасці мы, пісьменнікі, не заўсёды можам сабе дазволіць. Але ў дадзеным выпадку маё жаданне чытаць і перачытваць залежала не ад мяне – яно аказалася ў палоне таленту Алеся Шаўцова”.

Асаблівую цікавасць выклікае цыкл апавяданняў “Как я боролся с грипом…”, які даў назву ўсёй кнізе. Ён напісаны ад імя першай асобы, што надае яму асаблівую лірычнасць, шчырасць. Фабула апавяданняў вельмі простая: студэнтаў выпускнога курса медыцынскага інстытута запрасілі дапамагчы гораду змагацца з эпідэміяй грыпа. Галоўны герой апавяданняў, пад вобразам якога выразна ўгадваецца сам пісьменнік, распавядае чытачам пра свае сустрэчы з рознымі людзьмі. Адны з іх сапраўды хворыя, другія ад адзіноты і суму выклікаюць доктара ў якасці субяседніка, трэція спрабуюць спакусіць маладога медыка да супрацьзаконных дзеянняў. Кожная канкрэтная сітуацыя падаецца аўтарам як своеасаблівы экзамен на выпрабаванне прафесійных і маральных якасцяў героя. Паказальна, што студэнт-практыкант з годнасцю вытрымлівае ўсе павароты лёсу.



Частка апавяданняў кнігі напісана Алесем Шаўцовым з гумарыстычным і, нават, сатырычным падтэкстам. Аўтар дасціпна смяецца з тых герояў, якія трапілі ўкамічныя сітуацыі (“Средство похудеть”, “Телефон”, “Именины”), іранізуе з лайдакоў, злодзеяў, людзей нахабных і зайздросных (“Рацпредложение”, “Копейка”, “Я у телефона”). Як піша Іван Шамякін, Алесь Шаўцоў “любіць людзей і, раскрываючы іх слабасці, смяецца з адной мэтай: вылечыць будучых чытачоў ад некаторых маральных “хвароб”.

Алесь Шаўцоў праявіў сябе як майстра кароткай эпічнай формы. У васьмідзесятыя гады ў беларускай літаратуры творы-мініяцюры былі вельмі папулярнымі. Абразкі, эцюды, замалёўкі, анектадычныя апісанні, жарты можна знайсці ў творчасці многіх мастакоў слова. Гэтыя жанры даюць магчымасць канцэнтравана выкласці аўтару сваю задуму, аператыўна перадаць заўважаны ў жыцці цікавы выпадак.

Адметнасць “маленькай прозы” Алеся Шаўцова – у сінкрэтычнасці эпічнага і лірычнага пачаткаў. Часам аўтар выкарыстоўвае ў творах незвычайную развязку, якая быццам пярэчыць логіцы папярэдніх разважанняў. Гэты кампазіцыйны прыём накіраваны на тое, каб выклікаць у чытача лёгкі смех. Прыкладам сказанаму з’яўляецца абразок “Любовь”: “Он любил ее давно. Любил страстно, безропотно, до самозабвения. Каждый день встречался и каждый раз открывал в ней все новое и новое. Сердце его принадлежало ей, но она была холодна. Он отдавал ей лучшие свои дни, месяцы, годы, и она молча принимала его жертвы, оставаясь непреклонной. Она была красива, строга, величественна, великолепна, всесторонне развита, необходима и даже желанна. Он знал, что его любовь – без взаимности, что ее любви добиться невозможно, но ничего не мог с этим поделать.

Так они и жили. Он – безуспешно влюбленный, она – холодно-величественная. Ее звали “Анатомия”, его – студент-медик Григорий Резус”.

Некаторыя мініяцюры Алеся Шаўцова нагадваюць байкі ў прозе: у іх прысутнічае сюжэтная частка і мараль – выснова ўсіх аўтарскіх разважанняў. Пісьменнік выкарыстоўвае для перадачы ідэйнага зместу традыцыйныя для еўрапейскай байкі алегарычныя вобразы з уласцівымі для іх маральнымі і інтэлектуальнымі якасцямі. Так, у мініяцюры “Не развешивай уши” заяц паказваецца як істота бясхітрасная, хцівая на пахвалу, ліса ж – наадварот: хітрая, падманлівая, здольная цераз амаральныя ўчынкі дабіцца сваёй мэты.

Кніга “Як я змагаўся з грыпам…” сведчыць аб вялікім творчым патэнцыяле аўтара, які, на жаль, не рэалізаваўся поўнасцю ў будучай мастакоўскай дзейнасці. Напэўна, Аляксандр Пятровіч накіраваў свой талент у бок прафесійнай практыкі.

## ЛЕАНІД ДРАНЬКО-МАЙСЮК
### З аўтабіяграфіі

Край свайго нараджэння называю гарынскім, бо гадаваўся на беразе Гарыні. Быў час, калі па Гарыні хадзілі белыя параходы. Калі той час успамінаю

– заўсёды душу агортвае дзіцячая цеплыня. Нават хочацца плакаць.

А яшчэ свой край называю агародным, і сябе лічу агародным палешуком, таму – пэўна што невыпадкова! – з'явіліся ў мяне такія спеўныя радкі:

На Гарыні – параходы,
Лодак – поўны плёс,
А навокал – агароды,
Агароды скрозь...

На жаль, Гарынь ужо не тая, яна малажывая, параходаў даўно няма і лодак зусім мала; агароды ж, дзякуй Богу, засталіся...

Агарод (у мясцовым вымаўленні: город), у якім поўна кветак – гэта нібыта яшчэ адзін герб Давыд-Гарадка, яшчэ адна ягоная яркая адметнасць.

Давыд-Гарадок дыхае агародным паветрам, жывіцца ім, таму сапраўды "... да той пары Давыд-Гарадок застанецца Давыд-Гарадком, пакуль будуць гароды, а ў гародах, як вокам кінуць, грады, а на градах, як душой абняць, – кветкі, а над кветкамі – нябесныя постаці гаспадынь.

Нашы гароды – гэта й ёсць выратавальныя музеі, поўныя чалавекаадраджэнскага хараства.

І тады яшчэ будзе Давыд-Гарадок, калі застанецца адзін гарод, а ў ім – адна града, з адной кветкай, з апошняй гаспадыняй..."

Дух Давыд-Гарадка жыве ва ўсіх маіх надрукаваных і ненадрукаваных кніжках, і ў маёй апошняй па часе апублікавання прозе, якую можна прачытаць на старонках часопіса "Дзеяслоў", а таксама ж у маёй песні "Полька беларуская".

Таму той, хто называе мяне давыд-гарадоцкім паэтам – мае рацыю...

Я нарадзіўся 10 кастрычніка 1957 года, рос у "Кодаку" (гэта давыд-гарадоцкая вуліца, якая мае савецкую назву – вуліца педагога Макаранкі), скончыў школу № 2 (у школу № 1 мяне не ўзялі), працаваў на Хабішчах (мясцовы заводзік слясарна-мантажнага інструменту), служыў у Савецкім войску, вучыўся ў Літаратурным інстытуце...

Найбольшай радасцю жыцця лічу спакой, бо спакой спрыяе творчасці, а першай прыгажосцю для мяне з'яўляецца беларуская мова.

Нарадзіўся Леанід у рабочай сям'і. Пазней пра сваё з'яўленне на свет ён напіша: "У маім выпадку вяршэнства месца нараджэння відавочна, бо год майго з'яўлення на свет гэтак жа небагата што значыць у параўнанні з Давыд-Гарадком, як небагата што значу і сам я ў параўнанні з тым жа Давыд-Гарадком".

Ці не праявілася ў гэтых словах своеасаблівая сціпласць даволі знакамітага сёння паэта? Думаецца, што не, бо ўжо само параўнанне ўласнай значнасці са славай старажытнага гарадка вымагае пэўнай раскаванасці, належнай самаацэнкі – і далёка не сціплай.

Чым я горшы за іншых, а ці не здолею я зрабіць так, як іншыя, а можа, лепш? Выпрабаванне сваіх здольнасцяў, упартая праца ў сэнсе тэхнікі, пошуку вобразаў, тэм і паэтычных формаў далі свой плён. Аднойчы хлапчуком, стоячы



ў калейцы па цукар, Леанід пачуў, як адна гарадчанка вельмі складна чытала ўласны верш. Усе ўважліва слухалі яе, а потым шчыра смяяліся. Хлопчыку стала зайздросна, і ён потым доўга карцеў над сталом, складаючы вершы: “Да ночы, як спаць класціся, я такі агораў радкоў з дваццаць у рыфму. А назаўтра – яшчэ дваццаць, а паслязаўтра – дак зусім распісаўся. Недзе праз месяц у школе мяне ўжо клікалі паэтам. Як тая вясёлая цётка,.. я ўжо дамогся свайго – мае вершы падабаліся, і мяне прасілі іх чытаць і чытаць...”

У гэтых радках Леанід Дранько-Майсюк, безумоўна, спрашчае працэс свайго прыходу ў літаратуру: адной працы для вершатворчасцаў недастаткова – павінен быць яшчэ і талент, адчуванне і разуменне спецыфікі мастацкага слова, здольнасць эстэтычнага ўспрымання свету. Усім гэтым прырода і адарыла юнака. Паэтамі, як сведчыць вядомы афарызм, становяцца. Талент павінен развівацца, падтрымлівацца працай і вучобай. Ад маці Леанід яшчэ да школы пачуў вершы Я.Купалы, Я.Коласа, М.Багдановіча, а таксама творы рускіх класікаў. Немалую ролю на паэта аказаў і бацька, “завадовы цясляр і завадовы ж вяснянік”.

Неадольнаму жаданню пісаць, згадвае Л.Дранько-Майсюк, паспрыялі яго настаўнікі: Надзея Дзмітрыеўна Васільева, Вера Пятроўна Кузьміч і Міхаіл Уладзіміравіч Шэлехаў: “Надзея Дзмітрыеўна навучыла мяне літаратурнай беларускай мове, а Вера Пятроўна і Міхаіл Уладзіміравіч у лютым 1974 года пазнаёмілі з маскоўскай пісьменніцай Лідзіяй Абухавай...”

Л.Абухава прачытала вершы пачынаючага паэта, напісаныя ім на рускай мове, і параіла пісаць далей, толькі па-беларуску.

Да выхаду ў 1984 годзе першага зборніка пад раматычнай назвай “Вандроўнік” паэт друкаваўся на старонках часопісаў “Полымя”, “Маладосць”, “Юность”, газеты “Літаратура і мастацтва”, зборнікаў “Дзень паэзіі”, “Тверской бульвар, 25”.

Выхад асобнага зборніка – гэта падзея не толькі ў жыцці паэта, гэта радасць і яго чытачоў, найперш – землякоў, якім аўтар прысвячае многія свае вершы: “Гарадчанка”, “Увесну грады капаць...”, “Настаўнік”, “Сусед” і інш. Змест першай кнігі Леаніда Дранько-Майсюка склалі вершы пра родны край і яго гісторыю, сяброўства і працу. Паэт сцвярджае, што свет маленькай вёскі, як і свет вялікага горада, заўсёды будзе хвалююча блізкім чалавечай душы.

Для раскрыцця ідэйнай задумы твора аўтар карыстаецца арыгінальнымі мастацкімі вобразамі, паэмычнымі сродкамі:

Гэта цень мой вярнуўся дамоў,
Выпіў кварту халоднай вады,
Узышоў на вяршыні дубоў,
Абтрасаючы жалуды.

У гэтых радках разам з палётам аўтарскай фантазіі, рамантычным поглядам на жыццё, адчуваецца паэтычная школа: страфа верша выверана, рыфма дакладная з перакрыжаванай рыфмоўкай.

Для паэта вельмі важна ўмець не толькі асэнсоўваць пэўныя з’явы, кандэнсаваць іх і рабіць высновы – для яго першачарговае значэнне маюць здоль-

насці ўмець назіраць жыццё, у звычайным бачыць незвычайнае, адметнае: “Плаваць або лавіць рыбу я не любіў; любіў стаяць і слухаць”. Слухаць прыроду, людзей, сваё сэрца – паэт творыць у цішыні. Дранько-Майсюк любіць і ўмее слухаць цішыню:

Я чуў салоўку зблізку,
Я дзякаваў вясне,
Што прылятала пліска
На ганак да мяне,

Што гром услед ёй дыхаў,
Рака, як бор, гула
І ў клетку майго слыху
Залётвала пчала.

Зборнік “Вандроўнік” уяўляе сабой своеасаблівыя замалёўкі з натуры, паэтычныя старонкі роднага гарадка. Аўтар як бы вандруе па знаёмых куточках малой радзімы і пераносіць іх у свае вершы: “Хата мая, дзе павоі цвітуць...”, “Змярканне, спакой і трывога. Да возера Чаква дарога...”, “Як дотык да поўсці воўчай, Ля ганка вада плюскоча...”, “На лежаку зімуе кот...”, “Ручай на ўзлеску замшэлым – Дзве жмені вады...” і г.д.

Другі зборнік з даволі своеасаблівай назвай “Над пляцам” выйшаў у 1986 годзе. У ім паэт у многім працягваў уласныя традыцыі: асноўным прынцыпам адлюстравання жыцця ўсё яшчэ была рэпрадукцыя. Паэт шукаў новыя вобразы, мастацкія сродкі. Лейтматывам усяго зборніка стала родная хата, падворак, сямейны быт і звязаныя з усім гэтым эстэтычныя асацыяцыі. Пляц – гэта тое месца, на якім будуецца новая хата, да якога збягаюцца ўсе сцяжынкі – рэальныя і духоўныя. Праўда, маці лірычнага героя з невялікай ахвотай перабіраецца ў новую хату:

Вось і ён, начны і неабжыты,
За ракою, як за лёсам, дом,
Але ж нешта гэты дом набыты
Думкі твае студзіць скразняком.

Будоўля хаты ў многім успрымаецца як мастацкая алегорыя, паэтычны сімвал. Адносна да самога паэта – гэта і ўзвядзенне свайго ўласнага паэтычнага дома. Дранько-Майсюк сапраўды спрабуе аднавіць у многім свой паэтычны свет: ён даследуе не толькі новыя тэмы, але культывуе і новыя для сябе формы: белы верш, мініпаэма, верш з элементамі дыялагічнай мовы, эпічны верш.

У зборніку “Над пляцам” аўтар упершыню ўсур‘ёз “дакранаецца” да інтымнага верша. Праўда, гэта пакуль толькі разважанні на тэму, без выяўлення адпаведных пачуццяў і вобраза каханай:

А хараство кахання ў тым,
Што навальніцы, снегапады
Прымаеш сэрцам маладым
Як спеў пяшчоты і спагады.



Разважанні паэта на тэму кахання зараджалі ў творчасцў Дранько-Мпйсюка філасофскі падыход да асэнсавання рэчаіснасці. Ён развіўся ў пазнейшых зборніках, але пачатак быў зроблены менавіта ў "Над пляцам".

У названым зборніку з'явілася і яшчэ адна тэма, звязаная з гісторыяй нашай зямлі. Яна падымаецца ў такіх вершах як "Кола", "Разводдзе на Гарыні ў 1933 годзе", "Віцебск. 1922", "Пляц волі".

У першых збоніках Леаніда Дранько-Майсюка абазначыўся адзін з вельмі характэрных элементаў яго аўтарскай стылістыкі: лёгкі, дасціпны гумар, заснаваны на апісанні незвычайнай падзеі ці здарэння, суадноснасці камічных вобразаў. Для чытачоў, якія не ведаюць прыродных і сацыяльных асаблівасцяў краю, апісаныя паэтам малюнкі могуць падацца не столькі гумарыстычнымі, колькі трагічнымі. Уявіце сабе, што ў час разводдзя Гарынь зносіла не толькі платы і лёгкія збудаванні, але і хаты, хлявы, адміністратыўныя будынкі. І гэта ў паэта выклікае лёгкі смех:

Як дотык да поўсці воўчай,
Ля ганка вада плюскоча,
Суседняя хата плыве,
А ў хаце суседка жыве.

У 1990 годзе Леанід Дранько-Майсюк выдаў трэцюю кнігу пад кароткай назвай "Тут". Аўтар мяркуе, што паэзія пачынаецца з адчаю, відавочнага ці схаванага, калі паэт пераконваецца ў дасканаласці сусвету, адчуваючы ўласную недасканаласць. Гэтага адчування дастаткова, каб паэт жыў як мастак слова.

У зборніку, акрамя вершаў, змешчаны паэмы і эсэ.

Лірычны герой зборніка – гэта не пачынаючы юнак-паэт, а ўжо вопытны, спакушаны творчасцю эстэт, які здольны не толькі адметна ўспрымаць свет, але і прааналізаваць яго і нават зрабіць філасофскія абагульненні. "Паэт – эгаіст у той меры, у якой гэта неабходна, каб з гранічнай шчырасцю заявіць свету пра сябе".

Вершы, паэмы, эстэтычныя мініяцюры аб'ядноўвае дамінанта аўтарскага інтэлекту. Рацыянальнае і эмацыянальнае ў творах не проста суседнічаюць – яны часта спаборнічаюць паміж сабой: там, дзе перамагае інтэлект – верш набывае філасофскі накірунак, дзе ўладараць эмоцыі – паэзія ператвараецца ў лірычна-трапяткое адлюстраванне душы:

Не здолееш спакусу зваяваць,
Паквапішся на рай і панаванне,
І давядзецца ўсім ахвяраваць –
І мовай беларускай, і каханнем.

Леаніда Дранько-Майсюка цікавяць такія эстэтычныя катэгорыі, як харацтво і прыгажосць. У іх трактоўцы паэт набліжаецца да мастацкага разумення гэтых паняццяў Максімам Багдановічам, Уладзімірам Жылкам, Міхасём Стральцовым:

Багдановіч, ратуй,
Ад знікнення ратуй, ад нямоты.

Пачуццём тым пяючым ратуй,
Праз якое ты быў не самотны.

У зборніку “Тут” паэт болей, чым у папярэдніх, эксперыментыуе над формай. Ён выказвае свае погляды на жыццё праз традыцыйны верш і з дапамогай празаічнай мініяцюры, лірычнай замалёўкі і паэмы. Цыкл “Хараство раптоўнасці” не арганізаваны па форме класічнага верша, але рытмічны лад у ім выразна заўважаецца. Тут Дранько-Майсюк хутчэй арыентуецца на творчую стылістыку Алеся Разанава, у якога адсутнічае вершаваны радок, але твор, тым не менш, гучыць, як паэтычнае стварэнне. Тэмы для цыкла Дранько-Майсюк знаходзіць, не выходзячы з кватэры- імпэт іх заключаецца ў незвычайным сюжэтным павароце, поглядзе на звыклыя рэчы праз прызму свайго паэтычнага бачання: “Акцёру, які закашляўся, падам вады і выключу тэлевізар”, “О, гэта няпростая навука – пакахаць Ружу”, “Я ведаю – хутка з‘явяцца тэлевізары ў выглядзе масак”, “З Богам не пасварышся, нават не паспрачаешся”, “Раніцай у двары разгружаюць фургон з мясам... Вось вам і сцэнарый для фільма-мініяцюры пад назваю “Мяса і скрыпка”. Пра скрыпку я не забыў – яна падае свой незразумелы голас з ледзянога акна кансерваторыі...”

Зборнік “Акропаль” быў выдадзены ў 1994 годзе і стаў своеасаблівай вяршыняй рамантычнай творчасці Леаніда Дранько-Майсюка. Лірычны герой зборніка – незвычайны летуценнік, які ў думках падымаецца над зямлёю, назірае жыццё, суадносіць мінулае і сучаснае. Аўтар, працягваючы традыцыі класіцыстаў, сцвярджае, што антычная Грэцыя з яе Акропалем – своеасаблівы эталон чалавечай цывілізацыі, у якой дамінантай грамадскага існавання была высокая культура, паэзія, музыка, архітэктура: “Як малое лашчыцца да маці, шукае абароны і цеплыні, так будзённая Еўропа – гэта езвышцывілізаванае дзіця – туліцца да святой Грэцыі, да яе прыцягальнай даўніны, ратуючыся ад духоўнай пагібелі”.

Леанід Дранько-Майсюк спалучае ў “Акропалі” творчы вымысел і рэальныя малюнкі жыцця, узвышанае і будзённае. Яго філасофскія высновы грунтуюцца на паэтычнай фантазіі: лірычны герой, ператвараючыся ў незвычайную птушку, заключае, што “чалавек на зямлі і чалавек у небе – розныя істоты; на зямлі – ён гаспадар, у небе госць”. Яго хвалюе, што помнікі старажытнай культуры разбураюцца пад уплывам сучаснай індустрыялізацыі, што ў калысцы еўрапейскай цывілізацыі не нараджаюцца знакамітыя філосафы і паэты: “Пані Грэцыя, а дзе твае сённяшнія выдатныя філосафы і паэты?” “Дык вось яны”, – пажартуе пані Грэцыя і пакажа на гандляроў”.

Прынцып пабудовы зборніка “Стомленасць Парыжам” (1995 год) аналагічны кампазіцыйнаму ладу “Акропаля” – ён складаецца з дзвюх формаўтваральных частак: паэтычнай і празаічнай. Паэтычны раздзел мае назву “Вершы да А.”, назва празаічнай часткі ідэнтычная назве ўсяго зборніка. Два раздзелы паяднаны паміж сабою асобай лірычнага героя і загадкавай постаццю нейкай “А”. Паэт, як і ў папарэднім зборніку, кліча на дапамогу фантазію і аддаецца ва ўладу яе палёту: “Выдумка – асноўная мая дарадчыца”. Яна здольная рабіць з паэтам розныя дзівосы: перанесці яго ў даваенны Менск, наладзіць



сустрэчу са Змітраком Бядулем, вярнуць у сучасны Мінск, перакінуць у Парыж ці Львоў, Лондан ці Варшаву, Давыд-Гарадок ці Баранавічы. Кожнае з такіх фантастычных імгненняў суправаджаецца вытанчаным сюжэтам ці асацыятыўнавобразнай рэмінісцэнцыяй.

Дранько-Майсюк ставіць праблему ўзаемаадносін паэта і святара, разважае аб роднасці паэзіі і набажэнства, лічыць Хрыста першым мастаком слова. Вяртаючыся да свайго роднага Давыд-Гарадка, аўтар даводзіць да чытачоў думку, што гарадоцкія "цікеткі" – своеасаблівы, аўтэнтычны від мастацкага жывапісу, які зарадзіўся і развіўся на падставе практычна-гандлёвай неабходнасці. У гэтай праекцыі чаму нікому невядомыя давыд-гарадоцкія мастакі Сыса, Тукін, Цубер не могуць стаяць у адзіным радзе з сусветназнакамітымі Ільёй Машковым, Паўлам Кузняцёвым, Марцірорсам Сар'янам?

Загадкава-уяўны вобраз "А" хутчэй палігамны, чым монафанічны. Да яго звяртаецца лірычны герой як да каханай і жаданай жанчыны, як да сяброўкі і сястры, як да маці і проста жанчыны.

Амаль кожную старонку зборніка ўпрыгожваюць вобразы кветак. Яны надаюць вершам адметную рамантычнасць, ствараюць шматколерны кветнік, у якім цячэ жыццё, рэальнае і фантастычна-уяўнае.

У 1998 годзе ў "Залатой серыі" выйшаў зборнік выбранага Леаніда Дранько-Майсюка "Гаспода". У анатацыі да яго паведамляецца: "Узвысіцца над будзённасцю, звыкласцю – вось да чаго імкнецца Леанід Дранько-Майсюк, складаючы вершы для першых сваіх зборнікаў. Гэтае імкненне засталося з паэтам назаўсёды. Яно прывяло да важнай тэмы хараства, да акропальскага ўзвышэння, да радаснай трагедыі жыць у гасподзе беларускай паэзіі".

АЛЕСЬ НАВАРЫЧ (Алесь Іванавіч Трушко)
З аўтабіяграфіі

Нарадзіўся 2 лістапада 1960 года на Століншчыне ў старасвецкім сяле Відзібор. Сяле, а не вёсцы таму, што Відзібор мае ўласны невялічкі, так званы прыпісны храм пачатку XX стагоддзя, схаваны на могліцах пасярод стогадовых дубоў і бяроз-векавух.

Лясістая прыбалочаная раўніна, далёкія альховыя лясы на небакраі, маладыя дубровы, бярозавыя гаёчкі, балотцы на ўскрайках палеткаў – так званая марочня, вілюгастыя рэчкі-канавы з аднаго балотца ў другое – мілы з дзяцінства краявід Прыпяцкага Палесся.

Відзібор упершыню спамінаецца ў пісьмовых крыніцах у 1503 г., але пэўна, што людзі ў гэтай мясціне жылі і раней, пра што сведчаць вучоныя-археолагі, якія выявілі (некаторыя і раскапалі) вакол Відзібора каля 40 дрыгавіцкіх курганных могільнікаў XI-XII стст.

Бацькі мае, Іван Купрыянавіч і Мар'я Лукашаўна, былі з незаможных сялян, абодва сіроты, таму сямігодку змог скончыць толькі бацька. Але адразу пасля вайны ці вучылі іначай, ці бацька меў схільнасць да кніжнага слова, любоў да літаратуры, родны "таточко" пранёс праз усё сваё жыццё. У цеснай, на адзін

пакой, хатцы-паляшуцы чытаў на сон уголас "Вечера на хуторе близ Диканьки", "Тараса Бульбу", што несумненна прышчапіла і мне мілату да друкаванага слова.

Пасля школы рынуўся я на заваяванне сталіцы, паступаў ва універсітэт на звышмодную на той час сярод, як цяпер кажуць, "прадзьвінутых", маладзёнаў спецыяльнасць біяхімія, але не прайшоў па конкурсе. Што ж, давялося ісці на свой хлеб – працаваў цесляром у Столінскай вытворча-механізаванай калоне, лабарантам у роднай школе. Зноў паступаў, і паступіў у Мінскі мединстытут. Правучыўся там два гады, зразумеў, што цягі да літаратуры не перабароць. Не столькі хацелася пісаць, як чытаць мастацкія кнігі, у асноўным класіку. На агульных пачатках мусіў паступаць у 1980 г. на філфак белдзяжуніверсітэта.

Ва універсітэце, у філфакаўскай бібліятэцы, зрабіў для сябе і зусім нечаканае адкрыццё. Аказваецца, той мой край, дзе я нарадзіўся, і тыя людзі, у якім яны жывуць, і тая мова, на якой яны гавораць, ёсць паўнацэнная, паўнавартасная, годная ўласнай долі, павагі, пашаны, любові, праява універсальнай прыроды чалавека. І гэтую ўласна праяву і варта рэалізаваць.

Задумкі ішлі сваім шляхам, жыццё – сваім. Пасля ўніверсітэта настаўнічаў у Скірмантаўскай сярэдняй школе на Дзяржыншчыне, у Малюшыцкай сярэдняй школе ў Карэліцкім раёне. Нешта пісаў, нешта друкавалася.

У 1988 г. мяне заўважылі, стаў працаваць літрэдактарам у часопісе "Вожык", з 1990 г. – метадыстам Рэспубліканскага цэнітра эстэтычнага выхавання дзяцей. На хвалі грамадскіх перамен удзельнічаў у стварэнні Грамадаска-культурніцкага згуртавання "Палісьсе", з 1992 г. па 1995 г. быў галоўным (зрэшты і адзіным) рэдактарам асветніцкай газеты гэтай арганізацыі "Збудіньне".

З 1995 г. стаў працаваць у штаце часопіса для дзяцей і падлеткаў "Бярозка", з 2004 – займаў пасаду намесніка галоўнага рэдактара выдавецтва "Выдавецкі цэнтр БДУ", з 2005 – загадчык аддзела прозы часопіса "Полымя", з 2007 – намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Маладосць" і ў гэтым жа годзе ўзначаліў часопіс "Всемирная литература".

У Саюз пісьменнікаў быў прыняты ў 1988 г.

Што да творчай біяграфіі, то першыя апавяданні з'явіліся ў 1983 г. ў часопісе "Маладосць". Выйшлі асобныя кнігі: зборнік апавяданняў "Рабкова ноч" (1988), "Ноч пацалункаў незалежнасці" (1989), гістарычны раман "Літоўскі воўк" (2004), апавяданні для дзяцей пра прыроду "Звяры" (2005).

18.10.2007

Свой шлях у літаратуру Алесь Наварыч пачаў з апавяданняў-абразкоў, падборка якіх была надрукавана ў часопісе "Маладосць" пад назвай "Рабкова ноч". Пазней гэты ж часопіс змяшчае яго аповесць "Цкаванне вялікага звера", а ў 1988 годзе названыя апавяданні і аповесць сталі асновай першай кнігі аўтара.

Зборнік прыцягвае ўвагу неардынарнасцю мыслення пісьменніка, арыгінальнасцю мастацкіх вобразаў, яго здольнасцю бачыць незвычайную прыгажосць прыроды. А ўсяму гэтаму навучыла пісьменніка яго зямля, такая ж ка-



зачная, некранутая, на дзіва прыцягальная і вельмі багатая: “У гэтым святым кавалачку зямлі між Стырам, Гарынню і Прыпяццю чаго толькі можна не натварыць? Гэта ж столькі тут дубу, вязу, ясеню. Гэта, лічы, – золата. Каб даражыць кожнай дошчачкай, кожным гарбылём,.. дык гэта сапраўды - золата...”. Бачым, як непакоіцца аўтар за багацце зямлі бацькоўскай, як клапоціцца за яе рацыянальнае выкарыстанне: “Ці ж мала ў нас залежаў торфу? І не паліва гэта, а хімічная сыравіна! Ці не Мендзелееў казаў, што нафтай або вугалем паліць усё роўна, што асігнацыямі. З торфу лякарства робяць! З торфу пластмасы робяць, а з пластмасы і дамы будаваць можна! Толькі трэба энтузіязм, вера ў светлае ўсё”. Мары пісьменніка кансалідуюць у сабе разумнае сужыванне чалавека з прыродай, якое павінна дасягнуць урэшце сваёй ідылічнай мернасці: “А перад вачамі ўстала карціна адбудаванага краю. З высакаствольных альховых лясоў высяцца алюмініева-шкляныя грамады. На бязлесых пасторах – роўнаўпарадкаваныя сажалкі, а на астатніх балотах разлягаюцца неабсяжныя журавінныя плантацыі. Ягады ўбіраюць спецыяльныя балотныя камбайны. А на сушэйшым месцы – фабрыка па апрацоўцы гэтых каштоўных ягад...”. Безумоўна, што героі Наварыча - гэта найперш рамантыкі, якія ўмеюць тонка адчуваць прыроду, усведамляць сябе часцінкай яе. Яны думаюць, кахаюць, змагаюцца, некуды імкнуцца. Ёсць сярод іх і супярэчлівыя натуры, у душы якіх часта змагаюцца супрацьлеглыя пачуцці. Пісьменнік спрабуе раскрыць не толькі іх багаты духоўны свет - ён імкнецца паказаць і шматгранныя інтэлектуальныя каштоўнасці герояў, развітыя народнай філасофіяй жыцця, сялянскай працай, еднасцю з прыродай. Такі, напрыклад, Міхал з аповесці «Забівец», які пасябраваў з даволі палахлівым і дзікім звяркм бабром. “Некалькі разоў бабёр пужаўся яго, але Міхал не праяўляў ніякіх ваяўнічых намераў. І мала-памалу звер перастаў хавацца пад ваду і ляжаў на паверхні, разглядаў чалавека, і Міхал разглядаў яго, намагаючыся ўсё бліжэй і бліжэй падысці да вады. Яны абодва маўчалі, так зацята, быццам гулялі ў маўчанку, – хто першы парушыць цішыню, той прайграе нешта неверагодна для сябе каштоўнае. Навокал была чутна бурлівая летне-веснавая калатня жыцця, а яны ўсё маўчалі, што, здавалася, зараз ні адзін, ні другі не вытрымаюць і закрычаць кожны на сваёй мове... Але стаялі яны, усё маўчалі, а Міхаіл быў побач з бабром, і бабёр не баяўся яго, і яны абодва былі, мабыць,задаволены тым, што бачаць адзін аднаго. Бабёр вылазіў на сушу, сушыўся, міргаў вочкамі-пацеркамі, нават чмыхаў, нават кашляў зусім як чалавек...”.

Любоў дзікага звера да чалавека перарасла межы адносін, вызначананыя самой прыродай: ён давераўся чалавеку, перастаў баяцца яго. Чым болей мацнелі сяброўскія адносіны Міхала і бабра, тым болей разгараўся ў душы юнака старажытны інстынкт яго продкаў: «Ён можа ўпаляваць гэтага звера...– Здабыча,– мармыталі ягоныя вусны, – салодкасць, – і амаль рыкаў, бы раз‘юшаны драпежнік перад недасягальнай, але блізкай здабычай. Слых, чуйнасць у Міхала ўзраслі і служылі, як яго продку...». Псіхалагічны стан героя ў час палявання раскрыты пісьменнікам настолькі выразна, што міжволі адчуваеш і сябе сярод зарослага хмызняком і кветкамі балота, улоўліваеш кожны ўдых героя, бачыш

пукатыя вочы здабычы. “Наўкола пела жыццё, але ён не зважаў. Не азмрочваў сябе той хвілінны забойскі занятак, што прыдумаў сабе на пацеху новага, маладога, але з камбінацыі генаў, якім тысячы, тысячы і сто разоў тысячы год...”.

Сяброўства з чалавекам закончылася трагічна для звера. Апантаны імгненнай радасцю, Міхал раптам усведамляе, што зрабіў непапраўнае: забіў свайго малодшага брата, які несумненна “пазнаўяго, Міхала...– чалавека з тога, небагатага, але ўстойлівага вобраза чалавека - небяспечнага, узнік і існаваў да канца яго бляску жывых вачэй і другі вобраз: адзіны ў яго, звера, вобраз - чалавека-сябра, чалавека - датыкальнага бога...і вобраз гэты, адлюстраваны ў зрэнках бабра, быў Міхал. І страшэнная трагедыя свету гэтага нізвяргалася на іх, адзіных і непаўторных пад небам”.

Незвычайным, амаль фантастычным, на першы погляд, прыгодам сваіх герояў Наварыч надае рэальны характар, абумоўлены часам і абставінамі. Пісьменнік ставіць задачу не толькі захапіць чытача, для яго важна раскрыць трагедыйнасць чалавечага лёсу. У цэнтры аповесці “Цкаванне вялікага звера” – чалавек з даволі супярэчлівым лёсам, які моцна любіў людзей, але потым пад уплывам абставін узненавідзеў іх, які ўхіліўся, каб не ісці на фронт і затым знаходзіўся ў партызанскім атрадзе, які ненавідзеў фашыстаў, што забілі яго бацьку, і дапамагаў гітлераўскім недабіткам пасля вайны. Такі супярэчлівы лёс і прывёў урэшце яго да адзінокага ляснога жыцця.

Грамадскі працэс даў матэрыял для нараджэння многіх іншых твораў Наварыча, якія склалі частку другой кнігі пісьменніка “Ноч пацалункаў незалежнасці”. Асноўны пафас зборніка – асэнсаванне аўтарам адметных рыс сваіх землякоў і іх звычак, характараў, заняткаў, мовы, адносін з прыродай. Яшчэ ў першай сваёй кнізе Наварыч дзе-нідзе паспрабаваў перадаць каларытную своеасаблівасць вуснай мовы заходнебеларускіх палешукоў, мовы, на якой гаворыць яго маці, і пісаў невялічкія літаратурныя замалёўкі з вясковага жыцця яго бацькі. Думаю, у гэтым плане цікавая адна з такіх замалёвак, якая называецца “Поворит”.

Цяга да роднай зямлі, яе каранёвы сок, слова бацькі ўрэшце схілілі Алеся Наварыча да літаратурнай творчасці на заходнепалескім беларускім дыялекце. Другі зборнік пісьменнік, можна сказаць, напалову напісаў па-заходнепалеску. Наварыч выдзяляе палешукоў не толькі па іх мове, характару, звычках, але нават спрабуе паразважаць над фізіялагічнымі асаблівасцямі сваіх землякоў. Часам такія назіранні пісьменніка не вельмі пераканальныя, нават прымітыўныя, але яны выказаныя вуснамі мясцовага народнага інтэлектуала, падобнага мележаўскаму Рудому, успрымаюцца як сур‘ёзная заяўка аўтара выдзеліць палешукоў сярод беларусаў. Такая спроба назіраецца, пачынаючы з першага апавядання, якое дало назву ўсяму зборніку.

Героі Наварыча могуць здацца, на першы погляд, людзьмі крышку дзіўнымі, са сваім незвычайным складам думак, прызямлёнай фантазіяй, верай у язычнічніцкія звышсілы. Думаецца, што гэта ідзе ад неад‘емна цеснай спалучанасці палешукоў з прыродай, якая карміла і корміць гэтых незвычайных людзей, крыху дзікаваных і асцярожных, разважлівых і беражлівых, сур‘ёзных у працы, у



адносінах да зямлі.

Цікавым творам зборніка з‘яўляецца апавяданне “У цягніку”, дзе пісьменнік у метафарычнай форме спрабуе асэнсаваць праблему адраджэння беларускага народа, абуджэння яго нацыянальнай самасвядомасці. Алегарычны вобраз цягніка сімвалізуе сабой наш край у мінулым, праз які едуць людзі розных нацыянальнасцей. Цягнік бесперапынна рухаецца наперад, не дазваляючы пасажырам азірнуцца як назад, так і агледзець мясціны, якія праязджаюць. Паступова пасажыры губляюць свае нацыянальныя рысы і становяцца агульнай масай. Трое юнакоў, якія нейкім чынам апынуліся ў цягніку, спрабуюць знайсці сярод людзей сваіх суайчыннікаў і не знаходзяць, а калі і знаходзяць падобных, то тыя толькі пасміхаюцца ўслед юнакам.

Алесь Навары́ч з‘яўляецца аўтарам шэрагу маральна-этычных апавяданняў, у якіх раскрываюцца ўзаемаадносіны паміж людзьмі ў розных жыццёвых калізіях. Творы гэтыя вызначаюцца сваім глыбокім псіхалагізмам, адметным сюжэтам, завостранай маральнай канцэптуальнасцю.

Выдатным узорам такіх твораў з‘яўляецца апавяданне “Антонік”. Яго галоўны герой царкоўны стараста Антон Шахрай, чалавек пажылога ўзросту, які жыве з дзвюма ўнучкамі і добрасумленна выконвае свае абавязкі.

Увесь сюжэт апавядання грунтуецца на тым, што ў вёсцы памірае паралізаваны мужчына, стары Базыль, і Антоніку патрэбна “па-людску” пахаваць нябожчыка. Звыклая справа навявае на старасту цэлы шэраг думак: а што калі і ён памрэ, як яго пахаваюць, хто стане абшчынным?.. Антонік – своеасаблівы вымяральнік і прыклад чалавечай маралі: “...Быў ён, як казалі, правільны. Не бачылі п‘яным, не паліў тытуню, мацюкоў ці проста слова брыдкага ад яго не чулі – як і ёсць богапаслухмяны чалавек, якімі былі ўсе калісь”. Менавіта па гэтаму праву аўтар вуснамі і думкамі Антоніка ацэньвае другіх герояў твора.

Творы Алеся Навары́ча, як бачым, лаканічныя, займальныя, адметныя сваёй вастрынёй, філасафічнасцю, надзённасцю.

## МІХАІЛ ШЭЛЕХАЎ

Прозвішча Шэлехаў добра знаёма на Століншчыне. Міхаіл Уладзіміравіч Шэлехаў, былы выкладчык гісторыі і дырэктар Давыд-Гарадоцкай школы №2, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, партызан, гісторык і краязнаўца, аўтар гістарычнага даследавання, прысвечанага роднаму краю, – «Давыд-Гарадок: час і людзі», шматлікіх публікацый у прэсе; яго жонка Ніна Аляксандраўна Шэлехава, Заслужаная настаўніца Беларусі. У сям’і Міхаіла Уладзіміравіча і Ніны Аляксандраўны 1 лістапада 1954 года ў вёсцы Плотніца, дзе ў той час настаўнічалі Шэлехавы, нарадзіўся сын, які ўнаследаваў ад бацькі не толькі прозвішча, але і імя – Міхаіл Міхайлавіч Шэлехаў. Пра сваю родную вёску ён пазней з цёплым гумарам напісаў:

*І я аднойчы ў лістападзе*
*Між журавінавых балот*
*У вёсцы Плотніца, мой браце,*

*Упершыню залез на плот!*

У 1971 годзе Міхась закончыў Давыд-Гарадоцкую школу і паступіў на першы курс факультэта журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, быў асабістым карэспандэнтам газеты “Знамя юности” на студенческой стройке” па Брэсцкай і Гомельскай абласцях. Пасля атрымання дыплома на працягу чатырох гадоў працаваў літаратурным кансультантам у часопісе “Рабочая смена” (потым “Парус”). З 1980 года Міхась Шэлехаў звязаў свой лёс з кінематаграфіяй. Спачатку ён быў рэдактарам студыі навукова-дакументальных фільмаў вытворча-тэлевізійнага аб’яднання “Летапіс” кінастудыі “Беларусьфільм”, затым, пасля заканчэння ў 1984 годзе Вышэйшых курсаў сцэнарыстаў і рэжысёраў, працаваў у Маскве на кінастудыях “Саюзмультфільм”, студыі імя М.Горкага, Цэнтральнай сцэнарнай студыі, у часопісах. У 1987 годзе Міхаім Шэлехаў вярнуўся ў Мінск. У 1988–1993 гг. ён галоўны рэдактар студыі “Кадр” В. Нікіфарава, вядучы рэдактар аб’яднання мастацкіх фільмаў, кіраўнік майстэрні драматургіі пры Універсітэце культуры Беларусі (разам са славутым рэжысёрам В. Туравым).

У 1993–1996 гг. Міхась Шэлехаў – галоўны рэдактар кінастудыі “Беларусьфільм”, член экспертнай рады Міністэрства культуры Беларусі.

У 2001 годзе Міхаіл Міхайлавіч закончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы пры Літінсціту це імя А. Горкага ў Маскве (аддзяленне крытыкі В. Гусева), два гады працаваў нарысістам папулярнага расійскага часопіса «Сельская новь».

З 2002 па 2007 гг. ён з’яўляўся намеснікам галоўнага рэдактара і рэдактарам аддзела філасофіі, гісторыі і міжнароднага жыцця часопіса Адміністрацыі Прэзідэнта РБ “Беларуская думка”. Адзін з майстроў беларускага нарыса, шмат працаваў як сур’ёзны палітолаг, аналітык міжнародных адносін. У друку выйшлі яго грунтоўныя эсэ пра жыццё Індыі, В’етнама, Ірана, Кітая.

Акадэмік Міжнароднай акадэміі арганізацыйных і кіраўнічых навук. Заслужаны журналіст Беларусі. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя А.Горкага (1988), прэміі Саюза пісьменнікаў Расіі “Традыцыя” (2001), прэміі Беларускага саюза журналістаў (2002), трох прэмій Міністэрства культуры Беларусі за дзіцячыя п’есы (2002), трох прэмій Міністэрства культуры Беларусі за ваенныя п’есы(2004), спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (2004), некалькіх прэмій часопісаў Расіі і Беларусі (“Новый мир”, “Москва”, “Волга”, “Наш современник”, “Нёман” і інш.). Мае ўзнагароды некалькіх кінафестываляў. Міхась Шэлехаў узнагароджаны залатым медалём Дзяржкіно і Саюза кінематаграфістаў СССР імя А.Даўжэнкі (1990).

Творчыя здольнасці будучага пісьменніка праявіліся яшчэ ў школьныя гады. У 1968 годзе ў Столінскай раённай газеце “Навіны Палесся” ён надрукаваў свой першы верш. Праз дзесяць гадоў на старонках газет “Знамя юности” і “Комсомольская правда” Шэлехаў апублікаваў свае вершы на рускай мове: “Я по старым иду адресам…”, “Когда стою над сумерками вод…”, “Мерцание пунктира журавлей…”, “Припять” і іншыя.

У 1987 годзе Шэлехаў выдае ў Маскве першы зборнік вершаў “Слово



ненастное, слово лазурное”. У 1990 і 1991 гадах паэт выдае адразу па два зборнікі: “Песни родильного отделения” і “Сын яблыні”, “Ангел уличный” і “Защитник ботанического сада”.

Паэзія Міхася Шэлехава адлюстроўвае вялікую любоў аўтара да бацькоўскай зямлі. Лірычны герой многіх твораў паэта клапоціцца пра экалагічную і духоўную чысціню зямлі і чалавека:

*Тут згубай пахне ад канаў*
*Цывілізацыі басотнай;*
*Тут і лясун даўно сканаў*
*Ад інквізіцыі балотнай.*

Чалавек і прырода, лічыць паэт, павінны жыць у суладнай гармоніі, тады катастрофы чарнобыльскага кшталту не паўтарацца болей на зямлі, не будуць высечаны лясы і выпрамлены рэкі, чалавек падабрэе душою. Але рэаліі жыцця зусім іншыя: прырода і чалавек ужо разам звяртаюцца да Бога за паратункам:

*Божа наш, Божа, на нас не палюй!*
*Здзідай-маланкай замры.*
*Нібыта продкі, малітвай ратуй! –*
*Моляць расліны, звяры.*

*Моляць звяры і на небе грамы:*
*Божа, на нас не палюй!*
*Толькі маўчым і не молімся мы...*
*Божа, нямых пашкадуй!*

У вершах Міхаіла Шэлехава гучыць і тэма чысціні роднай мовы. Паэт называе мову крышталікам і ставіць перад чытачом праблему моўнай прыгнечанасці. Пасады, узнагароды, чорная павага, хлусня, пошасць, мітусня – вось нямногія праявы сацыяльнага жыцця, пры якіх ігнаруецца духоўнасць, забываецца мова, нішчыцца сам чалавек.

У творчасці Шэлехава асаблівай цеплынёю, чысцінёй і свежасцю ўражваюць вершы, прысвечаныя каханню. Паэт уяўляе каханую на роснай траве, у колеры ружовага вечара, у вобразе чароўнай зоркі:

*Сэрца, як зорка, жыве ў сіняве.*
*Пройдзе жанчына па роснай траве.*
*Вечар ружовы, журботныя словы...*
*Зорка мільгала і вось ужо – дзве.*

Мастацкія вобразы, сюжэтна-асацыятыўныя матывы, лексічныя залацінкі Міхась Шэлехаў запазычвае ў народнай творчасці, багатым фальклоры сваіх землякоў. Яго вершы часта нагадваюць народную песню ці баладу, паэтычную казку ці легенду. Менавіта таму паэт лічыць сябе абавязаным берагчы духоўную спадчыну народа, захаваць яе для сваіх нашчадкаў:

*Ёсць на свеце адзін абавязак –*
*Бараніць, як дзяцінства, падманні!*
*Мы – нашчадкі разбураных казак,*

*Дзе разгульваюць здані.*

Непаўторнасць мастацкага слова, нацыянальны каларыт, шырыня праблематыкі сталі тымі адметнасцямі, якія характарызуюць аўтарскі стыль М.Шэлехава.

Міхась Шэлехаў паспяхова выступае і як кінадраматург. Па яго кінасцэнарыях зняты дакументальныя і навукова-папулярныя фільмы, дзесяць мультфільмаў "Пра варону, пра Ягора" (1983, "Беларусьфільм"), "Ноч" (1985, Свярдлоўская кінастудыя), "Дрэва радзімы" і "Багатырская каша" (1986, 1987, "Саюзмульфільм", "Месяц" ("Беларусьфільм", 1993) і інш. Ён аўтар сцэнарыяў пяці мастацкіх фільмаў "Круглянскі мост" (1989, паводле аповесці В. Быкава, "Беларусьфільм"), савецка-польскай стужкі "Люк" (1989, кінастудыя імя М.Горкага), "Шакаладны бунт" (1990, Свярдлоўская кінастудыя), "Вогненны стралок" (1994, "Беларусьфільм") і інш. У 1987 дэбютаваў як аўтар песень і вершаў да фільмаў. Аўтар многіх п'ес, у тым ліку для дзяцей. Жыве ў Мінску.

## АНАТОЛЬ КУДЛАСЕВІЧ

### Некалькі слоў пра сябе

Нарадзіўся ў маляўнічым куточку Палесся: вёсцы Толмачава Столінскага раёна, 5 верасня 1961 года ў сялянскай сям'і. Маці – Кудласевіч (Флар'яновіч) Елізавета Пятроўна, бацька Кудласевіч Аляксей Мікалаевіч.

У першы клас Талмачаўскай пачатковай школы пайшоў у 1969 годзе, але адвучыўся ў роднай школе толькі першую чвэрць. Бацьку паслалі на працу ў вёску Люсіна Ганцавіцкага раёна, дзе сям'я пражыла тры гады. У Люсінскай сярэдняй школе, у якой некалі настаўнічаў Якуб Колас, вучыўся з першага па чацвёрты клас. Праз тры гады сям'я вярнулася на радзіму. У 1977 годзе скончыў дзевяць класаў Кароцічскай сярэдняй школы і паступіў у Пінскі сельскагаспадарчы тэхнікум, які скончыў па спецыяльнасці ветэрынарыя ў 1981 годзе. Яшчэ да арміі пачаў працоўную дзейнасць.

Служыў у Закаўказзі. Пасля войска вярнуўся ў родны калгас. Працаваў ветфельчарам калгаса "Дружба", ветаператарам МПК "Баравіца" Іванаўскага раёна, слесарам па рамонту сельскагаспадарчых машын; на Давыд-Гарадоцкім электрамеханічным заводзе: слесарам МСР, забеспячэнцам, планавіком, зборшчыкам радыёапаратуры.

У 1989 годзе паступіў на завочнае аддзяленне Літаратурнага інстытута імя А.М. Горкага ў Маскве (семінар паэзіі Валянціна Сарокіна), абараніўся ў 1994 годзе зборнікам вершаў "Плакун-трава" з прысваеннем кваліфікацыі "Літаратурны работнік".

У 1990 годзе прыехаў у Мінск і знайшоў сваю жонку Вераніку, якая нарадзіла двух сыноў, Міколу і Андрэя. Працаваў у будаўнічай арганізацыі "Маналіт", карэспандэнтам-арганізатарам Бюро прапаганды мастацкай літаратуры пры Саюзе пісьменнікаў Беларусі. Арганізаваў мноства літаратурных сустрэч бе-



ларускіх пісьменнікаў з чытачамі, быў ініцыятарам правядзення "Першага фестываля беларускай бардаўскай песні" (1993г.).

З 1993 па 1994 гады працаваў рэдактарам рэдакцыі нацыянальных меншасцяў беларускага тэлебачання. З'яўляўся аўтарам праграмы "Шматгалоссе".

1994–2000гг. рэдактар літаратурнай рэдакцыі Беларускага радыё, вёў аўтарскія праграмы "Дрэва жыцці", "Сувязь часоў", "Святыя імёны зямлі беларускай", "Напіцца з крыніцы" і іншыя; загадваў пастановачным аддзелам. Рэдактар шматлікіх спектакляў і радыёпраграм.

1999–2000 гг. загадваў аддзелам маркетынга выдавецтва "Юнацтва".

З 6 чэрвеня 2000г. па 20 кастрычніка 2006г. працаваў у ЗАТ "Атлант" слесарам, малярам, чысцільшчыкам.

З восені 2006 года займаюся творчай працай.

У 1993 годзе ў выдавецтве "Тэхналогія" выйшла першая кніга вершаў "Плакун-трава", у 1999 годзе кніга вершаў "Зорныя ноты" (Бібліятэчка часопіса "Маладосць").

З'яўляюся ўкладальнікам двух анталогій: "Анталогія беларускай эітафіі" (выдавецтва "Ураджай" 2000г.) і "Анталогіі беларускай пародыі" (выдавецтва "Ураджай" (2001 год).

Маю шэраг публікацый у рэспубліканскім друку, Расіі і на Украіне. Пішу прозу, спрабую сілы ў драматургіі. Многія вершы існуюць у выглядзе аўтарскіх песень, якія выконваю пад гітару.

Зборнік вершаў "Плакун-трава" мала чым нагадвае кнігу паэта-пачаткоўца, хіба што неакрэсленай катэгарычнасцю асобных меркаванняў. Але і гэтыя "хібы" можна апраўдаць юначым максімалізмам, нястрыманым палётам думак і пачуццяў, жаданнем аўтара як мага болей убачыць у жыцці, прапусціць убачанае цераз душу, асэнсаваць розумам.

Цэласнае ўспрыманне кнігі ў кантэксце суаднесенасці ў ёй рацыянальнага і эмацыянальнага ўсё ж дае падставы, хоць і невялікія, засведчыць, што Анатоль Кудласевіч валодае майстэрствам аналітыка, які заўважае жыццёвыя недахопы і часам дае абгрунтаваны, правераны не адзінкавым назіраннем, рэцэпт іх выпраўлення:

Як прышчэміш палец – не раві ад болю.
Тыды будзеш плакаць, як зашчэміш долю.

Інтэлектуальны струмень вершаў, здольнасць паэта акумуляваць свае думкі ў канцэнтраваныя высновы, сцісласць выкладу ўласных меркаванняў набліжаюць частку твораў Анатоля Кудласевіча да народных прыказак. Часам народная мудрасць дапаўняецца ўласна-аўтарскім жыццёвым вопытам, і тады нараджаюцца думкі, знітаваныя ў арыгінальны паэтычны твор:

Ад калыскі да труны,
Ад пачатку да канца –
Шлях не вельмі доўгі.
І ад торбы да турмы,

Ад жабрацтва ці вянца
Не ўратуюць ногі.
І гаркоту не зрачэш,
Не замоліш долі –
Бо жыццё заўжды цячэ
Супраць нашай волі.

У некаторых вершах Анатоль Кудласевіч выступае як паэт-філосаф, якога цікавіць найперш чалавек, чалавек у грамадстве, прасторы, часе. Чалавек – гэта суб'ект, залежны ад абставін аб'ектыўных. Захаваць індывідуальную адметнасць у часе складана, але магчыма пры ўмове, што застанешся годным прадаўжальнікам агульналюдскіх традыцый, маральных каштоўнасцяў, калі будзеш адданы свайму роднаму краю, сваім родным і блізкім. Па-сутнасці, Анатоль Кудласевіч у сваім зборніку вершаў асэнсоўвае вечныя пытанні людскога існавання ў грамадстве і сусвеце. Кожны павінен задумвацца над сэнсам уласнага жыццёвага прызначэння, не проста праіснаваць, а годна пражыць на зямлі.

І прыйдзе смерць як паратунак,
Калі здакучыцца жыццё,
І светлы шлях ад чорных думак
Адчыніць небыццё,
Разгорне зорныя прадонні
Глыбінь нябёс –
Жыццё тады не абароніць
Мора слёз.

На жыццё Анатоль Кудласевіч глядзіць вачыма творцы, ва ўсім спрабуе спасцігнуць не толькі ісціну, але і ўбачыць прыгажосць фарбаў, гукаў, правесці паралель паміж рэальным і ўяўным. Вершы такога кшталту маленькія – яны, як мазок фарбы, як нотка ў вялікай рапсодыі прыродных гукаў і фарбаў:

Упала божая раса
На жоўтае калоссе,
Забытае над пожняю:
Сляза,
Здалося
Кожнаму.

У знешне простым малюнку гэтых радкоў схавана трагедыя адзіноты, пакінутасці: божая расінка ўяўляецца паэту слязой, якая выступіла з забытага над пожняй калосся. У гэтым адным сказе, словы якога ўмела змайстраваны аўтарам у твор, праявіўся вялікі талент творцы, яго боскі дар персаніфікаваць звычайныя прыродныя малюнкі ў напоўненыя жыццём, духоўнасцю вобразы.

Анатоль Кудласевіч як паэт і бард з асаблівай сімпатыяй адносіцца да балады – жанра з ярка выражаным сюжэтам і трагічным зместам. У гэтых вершах ён працягвае традыцыі беларускай народна-песеннай балады з акрэсленай вобразнай і тэматычнай накіраванасцю: малады хлопец, дзяўчына, якую з маленькім сынам пакідае казак, што адпраўляецца ваяваць. Важную ролю ў баладах А.Кудласевіча адыгрывае вобраз каня, з якім гаспадар размаўляе,



дзеліцца ўласнымі думкамі. У асобных творах-баладах паэт звяртаецца да часоў калектывізацыі, калі абагульненню ў калектыўную гаспадарку пападаў не толькі разнастайны інвентар, але і жывёла. Конь, аддадзены ў калгас, у хуткім часе гіне без належнага дагляду.

Як сапраўдны майстар мастацкага слова Анатоль Кудласевіч шырока выкарыстоўвае ў сваіх творах шматлікія сродкі мастацкай выразнасці: эпітэты, параўнанні, метафары, алегорыю, сімвалы, перыфразы і інш.

У слове, тым больш мастацкім, паэт бачыць не толькі закадзіраваны ў літарах сэнс, але і чуе гукі. Цераз гучанне слова, таксама як і цераз чытанне, перадаецца яго змест. Паэт тым самым хоча, каб словы не проста месціліся на старонках кніг, а каб яны гучалі і гучаннем сваім вярэдзілі думкі і сэрцы слухачоў. Словы павінны быць актыўнымі, а не пасіўнымі, яны павінны "гучна" выконваць сваю функцыю:

…слова звініць, як струна,
…слова шчыміць, і смыліць, і баліць,
Як нервы ў падпаленым сэрцы…

Найбольш ёмістае ў сваім змястоўным і гукавым праяўленні слова ў паэтаў. У ім "Божая праўда грыміць ад гармоній сусветаў". Паэт, сцвярджае Анатоль Кудласевіч, – "сейбіт гармоніі, наколькі сам спасцігае яе. Паэт не адкрывае нічога новага, проста прамаўляе вечныя ісціны для свайго часу: знаходзіць новыя вобразы, каб і яго сучаснікі пачулі ў сэрцах голас забытай Праўды" (В.Гардзей).

У невялічкім зборніку вершаў "Зорныя ноты" Анатоль Кудласевіч шукае адказы на біблейскія пытанні: "хто я? чаго жыву на зямлі? Што чакае нас пасля смерці? Напэўна, у гэтым вечным пошуку і незаспакоенасці чалавечая наканаванасць. Што для мяне творчасць, – пытае А.Кудласевіч і сам адказвае: – Перш за ўсё інструмент самапазнання і самаўсведамлення, інструмент самарэалізацыі і разумення свету. Творчасць, як бінокль, рассоўвае межы рэчаіснасці, стварае прастору любові, бо тварыць можна толькі ў полі Любові і станавіцца саўдзельнікам Тварца. Калі мяне мучаць нейкія пытанні, я заглыбляюся ў сябе, і, нібы адказам на балючую тэму, нараджаю верш; у творчым прарыве адкрываюцца нязведаныя тайны быцця – прыходзіць радасць, а гэтым пачуццём, як вядома, патрэбна дзяліцца. Таму паэты і выносяць на суд чытачоў свае вершы – яны дзеляцца радасцю". Вершы, змешчаныя на старонках зборніка "Зорныя ноты", вартыя ўвагі чытачоў. У іх сапраўды праліта аўтарская душа, выкладзены думкі, раскрыта паэтычнае майстэрства творцы. Мастак слова агаляе ўласную душу перад чытачамі, робіць яе адкрытай і тым самым імкнецца выклікаць у іх давер: "Душа – не скаваная целам – Аголены боль, Вузельчык пачуццяў, жаданняў і думак".

Душа чалавечая – гэта вялікая таямніца, у якую не заўсёды ўдаецца цалкам паглыбіцца:

А маленькая друзачка срэбнага шкла
Адлюстроўвае ўраз неабдымнае сонца…
Вось бы так і душа сваю сутнасць знайшла

І зірнула святлом цераз слова-аконца.

Разважаючы аб прыналежнасці чалавека да макракосмасу (“Касмічная залежнасць”), паэт аддае перавагу караням уласнага роду. Памяць пра іх гарантуе захаванне народа, бо кожны з нас – часцінка вялікай людскай сям’і, якая завецца нацыяй:

Не цяжка ўбачыць роду карані,
Бо чалавек трымаецца асновай
За глебу продкаў. Божа, барані
Забыцца нам, адкуль мы родам…

“Зорныя ноты” – мікракосмас чалавечай душы на шляхах пошуку і эксперыменту, ад самай нізкай ноты да самай высокай, якую аўтар здолеў узяць у творчай неабсяжнасці часу” (В.Гардзей). Уласная нотная гама Анатоля Кудласевіча намнога шырэйшая за лічбу сем. У яго творах гучыць шматгалосая, поліфанічная сімфонія роднай зямлі, урачысты гімн жыццю ў межах мікра- і макракосмасу. Нездарма слоўнае выяўленне думак і пачуццяў А.Кудласевіч часта трансфармуе ў песні, якія з поспехам уласна выконвае перад рознай аўдыторыяй слухачоў. Яго слова сапраўды гучыць, перадае змест не толькі цераз гукі зместу, але і гукі душы.

## АНАТОЛЬ РАЗАНОВІЧ

Нарадзіўся будучы пісьменнік у вялікай палескай вёсцы Рубель у 1958 годзе. Жаданне пісаць прыйшло да хлапчука яшчэ ў школьныя гады – тут з’явіліся яго першыя вершы, якія неўзабаве былі надрукаваны ў раённай газеце “Навіны Палесся”. З цягам часу асноўнымі ў творчым лёсе Анатоля Разановіча сталі празаічныя жанры.

Пасля заканчэння Рубельскай сярэдняй школы Анатоля Іванавіча прызываюць у войска, дзе ён актыўна супрацоўнічае з дывізійнай газетай “Патрыёт Радзімы” і газетай Беларускай ваеннай акругі “На славу радзімы”, друкуе там заметкі, замалёўкі, нарысы, вершы, невялікія апавяданні.

Пасля службы ў войску Анатоль Разановіч паступае ў Беларускі дзяржаўны універсітэт на факультэт журналістыкі, які заканчвае па спецыяльнасці “журналістыка”. Затым была праца, вучоба ў Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь на факультэце Міжнародных эканамічных адносін.

Амаль усё працоўнае жыццё пісьменніка і журналіста праходзіла ў рэдакцыях газет і часопісаў: карэспандэнт Мінскай шматтыражнай газеты “Гарызонт”, супрацоўнік Пінскай аб’яднанай газеты “Палеская праўда”, рэдактар Івацэвіцкай раённай газеты “Кастрычнік”, загадчык аддзела Брэсцкай абласной газеты “Зара”, выконваючы дырэктар рэспубліканскай выдавецкай фірмы “Белая Русь”, галоўны рэдактар рэспубліканскага часопіса “СЭЗ”, шэф-рэдактар часопіса саюза Беларусі і Расіі “Единение”.

Творчы набытак Анатоля Разановіча шматгранны і цікавы. Гэта мастацкія, філасофскія і публіцыстычныя творы. Яны змешчаны ў кнігах “Я разговариваю с инопланетянами”, “Волчья жизнь”, “Постижение истины”, “Мир мгно-



вений”, “Ожидание женщины” і іншыя.

У мастацкіх часопісах апошніх гадоў Анатоль Разановіч надрукаваў некалькі цікавых аповесцяў і раман: “Люди и оборотни”, “Лавец мастацтва”, “Аб чым іграе піяніст”.

## ІРЫНА ЛЯШКЕВІЧ
З аўтабіяграфіі

Я нарадзілася ў 1969 годзе 7 сакавіка ў вёсцы Мачуль Столінскага раёна. Дзіцячыя гады прайшлі ў найпрыгажэйшых палескіх мясцінах.

Закончыўшы спачатку Мачульскую васьмігодку, а потым Рамельскую сярэднюю школу, я паступіла ў Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі. Бацькі лічылі, што я павінна атрымаць сур’ёзную спецыяльнасць. Атрымаць я яе атрымала, але працаваць пайшла настаўнікам музыкі ў Мачульскую школу, бо за плячамі была даволі добрая музычная адукацыя, атрыманая ў Альпенскай дзіцячай музычнай школе. Працую ў Мачульскай школе і цяпер, кірую дзіцячым аматарскім аб’яднаннем народнай песні “Згадка”. Нядаўна пры Мачульскім сельскім клубе створана таксама амтарскае аб’яднанне “Моўства”, куды з вялікай радасцю ўліліся былыя “згадкаўцы”, цяпер ужо дарослыя маладыя людзі, якія засталіся тут жыць і працаваць.

Першыя вершы надрукавала ў раённай газеце «Навіны Палесся». У 1998 годзе заняла трэцяе месца на рэспубліканскім конкурсе паэтаў і празаікаў “Дэбют”. У 2000 годзе ў бібліятэчцы часопіса “Маладосць” выйшаў мой першы паэтычны зборнік “Сувой”. Друкавалася ў часопісах “Маладосць”, “Крыніца”, “Роднае слова”, рэспубліканскіх газетах. З 2004 года з’яўляюся членам Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Паэзія Ірыны Ляшкевіч надзвычай лірычная, насычаная мелодыямі і гукамі роднай зямлі. Яна піша пра роднае ёй, дарагое сэрцу, блізкае. Малавядомая рэчка Моўства, якая нясе сваю ваду ў такую ж непрыкметную на карце Сцвігу, становіцца для паэтэсы лірычным сімвалам радзімы. Аўтарка не шукае для сваіх твораў нязвыклых вобразаў ці параўнанняў – паэзію яна стварае з будзённых малюнкаў, паэзію жыцця і душы. Як у народнай песні:

Моўства – рэчка каля вёскі
З небам грае цэлы дзень.
Гусі радасным усплёскам
Ловяць сонечны прамень.

Для кожнага з нас маленства – час незваротнай настальгіі, куды мы можам увайсці толькі ў сваіх летуценнях. Для Ірыны Ляшкевіч дзяцінства і юнацтва становяцца той прыступкай, з якой яна пазірае ў час сённяшні, і параўноўвае яго рэальнасць з былымі марамі аб будучым. “Шчасце ўчарашняга, - піша Алесь Марціновіч, - уваходзіць у вершы І.Ляшкевіч аб дні сённяшнім не толькі як туга па страчаным незваротна. Яно мае і жыццядзейную сілу, надае бадзёрасці, аптымізму”.

Пасля выхаду зборніка Ірына не спыніла сваёй творчасці: на старонках газет і часопісаў з'яўляюцца яе новыя вершы. У іх паэтэса ўжо больш сталым позіркам глядзіць на жыццё, разважае над яго праблемамі, спрабуе асэнсаваць чалавечую мудрасць. Паэзія І.Ляшкевіч становіцца больш глыбокай, разважлівай, авеянай інтэлектуальна:

Канец зімы. Лагодны ціхі вечар.
Раскоша зор і думак, мар сувой.
Баіцца прамінуць з вясной сустрэчу
Ля брамкі цень знямелы мой.

## ГАЛІНА БАБАРЫКА
### З аўтабіяграфіі

Я нарадзілася 19 чэрвеня 1960 года ў вёсцы Мачуль Столінскага раёна Брэсцкай вобласці. Бацькі мае – простыя сяляне. Вайна перашкодзіла ім вучыцца, пагэтаму закончылі толькі па 4 класы польскай школы. Але колькі памятаю, яны бралі ў мясцовай бібліятэцы кнігі і чыталі. Гэта любоў да кнігі перадалася і мне. Вучылася добра. Асабліва любіла ўрокі мовы і літаратуры. У дзесяцігадовым узросце пачала пісаць вершы. Некаторыя з іх былі надрукаваны ў часопісе "Бярозка", раённай газеце "Навіны Палесся". Адзін з вершаў дзяцінства "Ранак" увайшоў у мой зборнік "Давер". Ужо зараз не памятаю, чаго мяне паднялі гэтак рана. Можа пасвіць кароў, а можа ісці ў чарніцы. Памятаю сваё зачараванне і здзіўленне ранішняй прыгажосцю:

Ранак пахне росамі,
Туманамі, мятаю,
Белымі бярозамі
Па-над роднай хатаю,
Поўніцца чароўнаю
Музыкай птушынаю…
Хіба ёсць што роўнае
Ранку над Радзімаю?

Пасля была вучоба ў Магілёўскім педагагічным вучылішчы, затым закончыла Магілёўскі педінстытут. З 1979 па 1983 працавала настаўніцай у Клімавіцкім раёне, многа друкавалася ў мясцовай газеце. Пасля пераезду ў родную вёску пачала настаўнічаць у сваёй школе. Амаль не пісала. Цяжка перанесла заўчасную смерць адзінай сястры. Праз тры гады з-за нейкіх непаладак з электрычнасцю згарэў наш новы дом. З дапамогай людзей гэта бяда аказалася паправімай. Аб гэтым пазней быў напісаны верш "Землякам".

Ішоў час...Дачка стала студэнткай журфака пры БДУ. Падрастаў сын. Мне вельмі захацелася пісаць. Больш пісала вершы аб прыродзе, Радзіме. У 2000 годзе пачала друкавацца ў "Народнай газеце". Гэта былі вершы, кароткія апавяданні, якія асабліва прасіў дасылаць вядучы раздзела "Святло ў акне" А.А.Юдчыц. Друкавалася ў часопісах "Роднае слова", "Пачатковая школа", "Алеся", газетах "Літаратура і мастацтва", "Настаўніцкая газета", "Беларус-



кая ніва", абласных газетах "Зара" і "Народная трыбуна". Удзельнічала ў паэтычным конкурсе "Сярэбраныя радкі", які праводзіла газета "Беларуская ніва" ў 2004 годзе. Старшынёй конкурсу быў Уладзімір Карызна. Мне было прысуджана другое месца. У 2006 годзе даслала вершы на конкурс у часопіс "Алеся", аказалася ў ліку пераможцаў. Многа друкавалася і друкуюся ў раённай газеце. У 2004 годзе выйшла мая кніга вершаў "Давер". Кніга была выдадзена на сродкі СВК "Беларуская ніва". Амаль усе кнігі раздарыла, частку перадала бібліятэкам раёна. У 2007 годзе годзе па рэкамендацыі У.І.Карызны стала членам Саюза пісьменнікаў Беларусі. Апошні час у сваіх вершах больш разважаю аб сэнсе жыцця, падымаю маральныя праблемы. Асобны раздзел маёй паэзіі – творы для дзяцей. Іх выкарыстоўваю як у сваёй рабоце, так і дзялюся з іншымі на старонках перыядычных выданняў. Працую настаўніцай пачатковых класаў. Маю вышэйшую катэгорыю.

02.08.2007

У згаданай Галінай Бабарыкай яе невялічкай кніжачцы "Давер" раскрылася чулая лірычная душа паэткі, роздум над сэнсам пражытых гадоў, любоў да бацькоўскай зямлі, яе непаўторных краявідаў. Галіну Бабарыку можна шчыра назваць пясняркай палескай прыроды. Яна вельмі тонка перадае яе адметнасці, прычым, не толькі называе іх, а вобразна напаўняе, адухаўляе. Палессе, у выяўленні паэткі, – цэлы свет з настоенымі на сонцы пахамі жывіцы, травастою, зямлі, з сасновымі гмахамі, ізумруднымі фарбамі лугоў, густымі туманамі, лясамі і азёрамі, ласкавымі паўнаводнымі рэкамі. Кожны палескі вобраз праходзіць праз трапяткую душу аўтара і набывае незвычайную пяшчотнасць, чараўнічасць. У гэтым ідэальным кністве прыроднай утульнасці Галіна Бабарыка бачыць Боскую праяву:

Палесся лясы і азёры,
Ласкавыя хвалі ракі,
Лугі, дзе калышуцца зоры
Ад ветру ці Божай рукі.

Палессе – нязменная любоў паэткі: тут яе радзіма, тут яе вытокі, тут жа яна знаходзіць адвечныя і новыя вобразы для сваіх твораў.

Пазнанне роднай зямлі для Галіны Бабарыкі, як і для кожнага чалавека, пачынаецца з дзяцінства. У аднайменным вершы яна стварыла лірычны вобраз маленькай дзяўчынкі, з якім асацыіруе ўласнае дзяцінства. Вялікі нязнаны свет уяўляецца гераіні верша схаваным за дзвярыма роднай хаты, ў які яна выходзіць з хваляваннем і са слязамі на вачах. Дзверы расчынілі дзяўчынцы сцяжынку ў чарадзейную казку, якая называецца Радзімай. Яна пазначана словамі-песнямі маці, аздоблена рэчкамі роднай зямлі, старонкамі палескіх гаёў, сенажацяў.

Радзіма для Галіны Бабарыкі – гэта не толькі радасць адкрыццяў, гэта і сум, навеяны жыццёвымі рэаліямі: Чарнобыльская бяда, ад якой найбольш пастрадала Палессе, смерць роднай сястры, знішчэнне агнём хаты, здрада і падман, п'янства. Паэтка хоча адасобіцца ад гэтых негатыўных праяў чалавечага існавання і паглыбіцца ва ўласны свет фантазій і мрояў, зліцца душою з прыро-

дай, паэзіяй, родным словам. Аўтарская фантазія, здольнасць успрымаць акаляючы свет як жывую істоту, уменне чуць яе, суперажываць, заўважаць у ёй незвычайную прыгажосць колераў і гукаў – вось што характэрна для мастацкага слова паэткі са Століншчыны. Яна часта ў сваіх вершах дапаўняе ўласную пачуццёвую гаму інтэлектуальным роздумам, што надае пейзажным творам рацыянальную напоўненасць, філасофскую стрыманасць. Так, у вершы "Вечар" аўтар па-майстэрску суаднесла эмацыянальную шырыню пачуццяў і стрыманую разважлівасць думак, яна ўмела спалучыла традыцыйныя сродкі мастацкай выразнасці з уласна-аўтарскімі: рдзее рубінамі неба, месяц – лустачка жытняга хлеба, наміткі дыму са стрэх, дзень – разламаны арэх выплеснуў шчасце і гора.

У зборніку "Давер" змясціліся пейзажныя лірычныя мініяцюры пра ўсе поры года, розныя часы сутак. Творы Галіны Бабарыкі дыхаюць жыццём, у іх адчуваецца прысутнасць чалавека, які родніць сябе з самой прыродай. Так у вершы "Сакавік" першы месяц вясны малюецца аўтарам у вобразе хлапчука, які "брыдзе ў боціках старых пад блакітным парасонам". Прырода і людзі радуюцца хуткаму аднаўленню пасля зімы. Метафарызацыя вясновага месяца накіравана на дзіцячае радаснае ўспрыманне надыходзячага цяпла – нездарма ў заключнай страфе твора прамоклага хлапчука маці пагнала ў хату на цёплую печ:

Сакавіцкі гэты цуд
Быў закончаны слязамі,
Бо на печ, узяўшы прут,
Хлопчыка пагнала мама.

Верш "Начны раманс" напісаны ў стылі санета Паўлюка Труса "Над кубкам возера глыбокім і шкляным…" Ён таксама складаецца з дзвюх частак і багата аздоблены разнастайнымі мастацкімі тропамі. Ствараецца ўражанне, што паэтка не словам, а нейкімі дзівосна-чароўнымі форбамі і казачнымі гукамі нараджае раманс ночы. Лёгкая вечаровая сінь, празрыстая вуаль, бялюткі міткаль далікатна захінаюць зямлю ад дзённага святла, накідваюць на яе цёмнае покрыва ночы. Ноч, як маладая нявеста, упрыгожваецца разнастайнымі колерамі, акаляецца любоўю:

У карункі застылага чорнага голля
Маладзіца ўплятае каснік залаты,
Акружае прырода рабіну любоўю,
Аздабляе яе туманамі фаты.

У наступнай катрэннай страфе паяўляецца вобраз лірычнай гераіні, якую не цешыць прыгажуня-ноч – наадварот, яна ўзбуджае сумныя пачуцці, у якіх дамінуе матыў адзіноты, што выклікае настальгічныя згадкі пра светлае мінулае. Святло, як альтэрнатыва цемнаты, цешыць лірычную гераіню марамі пра лепшае: узыход сонца прынясе з сабою новыя фарбы, новыя мелодыі, новыя вобразы:

Настальгія ўспамінаў вядзе карагоды,
З адгарэўшаю радасцю сцішаны жаль.
Ды адступяць яны, калі сонца на ўсходзе,



Прыпадняўшы парц'еры, пачне пастараль.

Нараджэнне новага дня, як нараджэнне спадзявання – тэма даволі традыцыйная для беларускай літаратуры. Галіна Бабарыка раскрыла яе па-свойму: па-жаночы пяшчотна, заўважаючы ў фарбах наступнага дня адметны вобразны каларыт. Як і Якуб Колас у знакамітым вершы "Усход сонца", паэтка метафарызавала прыродныя малюнкі, паказала не проста надыход дня, а менавіта яго нараджэнне. У прыродзе, як і ў чалавечым грамадстве, адбываецца няспынны рух: адна з'ява змяняе другую, ноч саступае сваю ўладу дню, дзень ночы, адны фарбы мяняюцца іншымі – і так бясконца.

Верш "Нараджэнне дня" сведчыць аб майстэрскім валоданні Галінай Бабарыкай мастацкім словам. Яна ўмела карыстаецца рознымі відамі эпітэтаў, метафар, параўнанняў: крыштальнай ільдзінкай заранка ўпала ў зямныя далоні; апошнія ветах паклоны адлічвае рэчцы халоднай; таемнасцю ранак спавіты; здае рубяжы цішыня…

Біблейскія матывы – адна з адметнасцяў вершаў Галіны Бабарыкі. У іх аўтар, па словах Леаніда Дранько-Майсюка, "бачыць ратаванне душы праз беларускае слова". Менавіта такое тэматычнае напаўненне мае санет "Толькі яна", у якім дамінантным з'яўляецца вобраз Маці Божай. Паэтка славіць яе, выкарыстоўваючы ў якасці рэфрэннага лацінскае слова "Ave". У тэрцэтах аўтар верша прымяняе форму малітвы, звяртаючыся да Дзевы Марыі з просьбай затуліць Беларусь, збавіць людзей ад "пошасці, подласці, здрады і мукі". Варта адзначыць, што санетная форма двойчы выкарыстоўваецца паэткай ў зборніку. Зварот Галіны Бабарыкі да санета сведчыць аб пашырэнні яе творчых магчымасцяў, выпрабаваннях уласных здольнасцяўу кананічных паэтычных формах. Санет вымагае ад аўтара напружанай працы не толькі на эмацыянальным, але і інтэлектуальным узроўнях. Веданне тэорыі санетнай формы не павінна абмяжоўвацца толькі інтуітыўным узроўнем. Нездарма па санету напісана мноства навуковых даследаванняў. На жаль, Галіна Бабарыка абмежавалася захаваннем у сваіх творах толькі фармальнай прыкметы: 14 радкоў, два з якіх катрэны, астатнія два – тэрцэты. Класічны санет павінен складацца з дзвюх сэнсавых частак, звязаных паміж сабою накшталт Багдановічавага арэха-спарыша, у якім адна долька можа існаваць як самастойна, так і з іншай долькай. Першая частка санета служыць абразком, фонам, на якім раскрываецца ідэя твора, выкладзеная ў другой частцы. Санет, па словах Максіма Багдановіча, абавязкова павінен быць напісаны 4 ці 5-стопным ямбам, і не мець ніводнага слова, якое б паўтаралася двойчы.

Галіна Бабарыка жыве ў звычайнай беларускай вёсцы і, акрамя звычайных сельскагаспадарчых абавязкаў, стварае выдатныя вершы, у якіх раскрывае сваё незвычайнае бачанне свету, блізкага і далёкага, малюе словам шчымлівыя паэтычныя пейзажы, раскрывае ўласныя думкі пра ролю чалавека ў свеце.

ІЛЬЯ МІРОНАЎ
З аўтабіяграфіі

Ілья Міронавіч Міронаў нарадзіўся 3 ліпеня 1958 года ў п. Рэчыца, дзе прайшлі дзіцячыя і школьныя годы. Пасля заканчэння Рэчыцкай сярэдняй школы ў 1975 годзе паступіў на гідратэхнічны факультэт Украінскага інстытута інжынераў воднай гаспадаркі. У гады вучобы пашчасціла, дзякуючы вытворчым практыкам, убачыць выдатныя мясціны бязмежнай у той час краіны, у прыватнасці, Кіжы, Салавецкі манастыр, музеі Ленінграда. Пасля атрымання спецыяльнасці «будаўніцтва рачных збудаванняў і гідраэлектрастанцый», у 1980 годзе быў размеркаваны ў Краснадарскі край (г. Абінск), дзе адпрацаваў амаль два гады. У вольны час падарожнічаў у горы, пабываў у Дамбаі і Цібердзе, Асеціі, Мінграліі, Сванеціі, Абхазіі. Праехаў узбярэжжа Чорнага мора ад Зугдзіді да Наварасійска. Але прыгажосць Каўказа не сцішыла ўспамінаў пра берагі Гарыні і Прыпяці, таму ў 1982 годзе вярнуўся дахаты.

Па накіраванню РК ЛКСМБ апынуўся ў органах унутраных спраў, дзе адпрацаваў да 1999 года на розных пасадах. Звольніўся ў званні маёра. З 1999 года працую ў Столінскім райвыканкаме.

Вершы пачаў пісаць у час юнацкай закаханасці ў 1978 годзе ў Карэліі. Але заўсёды пісаў толькі для сябе, нікому нколі іх не паказваў. Першым чытачом маіх вершаў стаў Леанід Васільевіч Драньк-Мойсюк, які згадзіўся на сустрэчу з незнаёмым чалавекам у Мінску ў верасні 2006 года. Пасля гэтай сустрэчы в студзені 2007 года ў газете “Советская Белоруссия” з’явілася першая нізка вершаў, а потым – у другім нумары часопіса “Неман”. У канцы чэрвеня 2007 года ў Пінскай рэгіянальняй тыпаграфіі надрукаваны мой першы зборнік вершаў “Откровение”.

24.09.2007 Ілья Міронаў

Ілья Міронаў, як бачна з аўтабіяграфіі, выдаў свой першы зборнік ужо ў сталым узросце. Ці варта ўвогуле было брацца за гэтую справу? Скажу адназначна – варта. Вершы напісаны І.Міронавым у розны час і складаюць своеасаблівы паэтычны дзённік аўтара з указаннем дат і падзей: Чарнобыль – 1996; развал вялікай краіны – пачатак 90-х; небяспека страты чалавечай духоўнасці – сярэдзіна 90-х; вайна, смерць – 90 – пачатак 2000-х. Бяспрэчна, што ўспрыманне ўсіх гэтых падзей падаецца мастаком слова, які неабыякавы да таго, што адбываецца вакол, прычым не толькі ў грамадстве, але і ў прыродзе. Чалавек – аснова аўтарскага роздуму. Яго стаўленне да грамадства, прыроды, самога сябе, Бога – кола пытанняў, над якімі разважае Ілья Міронаў у сваім зборніку. Згадзіцеся, што пытанні не для паэта-пачаткоўца, і падаюцца яны рукой і сэрцам чалавека вопытнага, сталага, з уласным бачаннем свету, асабістым успрыманнем жыцця.

Чаму я стаў паэтам? І ці паэт я ўвогуле? – асноўны пафас, хоць і не выказаны адкрыта, першага верша зборніка. Паэт – гэта дзівак у добрым сэнсе слова. Ён сапраўды здзіўляецца таму, што звычайныя людзі пакідаюць па-за



ўвагай. Кожны малюнак яго цікавіць: балота, зямля, рака, лес і г.д. А што калі ў гэтыя звычайныя карціны прыроды ўдыхнуць жыццё, спалучыць іх у адзінай мелодыі гукаў і фарбаў – тады балота зашавеліцца, зямля стане соннай і цяжка ўздыхне, рака задумліва замыкае, лес застогне… Прырода абудзіцца, і ў яе жывым існаванні мы адчуем сваю прысутнасць:

И зазвенела снова песня!
У каждого свой ритм и слог.
Я ошалел: как мир чудесен!
И как я жить, не слыша, мог!

Вось менавіта гэтае здзіўленне робіць чалавека гуманістам, дае яму магчымасць паставіць сябе ў сацыяльны і нават касмічны кантэкст. З дробязяў складаецца свет, з асобных людзей складаецца грамадства. Кошт кожнага прысутнага ў гэтым свеце невызначальны. Часцінка, як звяно ланцужка – вырвеш, заб'еш, спаганіш яго і сувязь перапыніцца, адзінства зрушыцца:

Что отчаянья крик
для всего человечества?
Что во мраке, в грязи
белый снег очищения?
Что вообще – твоя жизнь?..
Лишь мгновенье, мгновение…
Но мгновений следы
образуют историю…

Слова, па перакананні І.Міронава, таксама нясе магічны змест. Варта толькі навучыцца слухаць яго. Сказаць слова – здзейсніць учынак. Паэт імкнецца несці сваім словам дабро людзям, раскрываць ім вочы на бездухоўныя ўчынкі, словам расчышчаць свет ад заганнасці, бесчалавечнасці, усяго таго, што аддаляе чалавека ад Бога.

## ІВАН ШТЭЙНЕР
### З аўтабіяграфіі

Я нарадзіўся 10 верасня 1953 у вёсцы Бережное (Бэрэжнэ, як кажуць у нас), Столінскага раёна Брэсцкай вобласці. Іван таму, што 11 верасня свята – Іван Галавасек, Иоанн Креститель, Иоанн Предтеча. Штэйнер (правільна Shteinert) невыпадкова, у нашай вёсцы жывуць Пульманы, Цывісы, Кунштэлі, Гурклюсы, Руцы, Цуры, Цывісы, Байзерты (мой швагер, муж малодшай сястры, Байзерт У.М. – віцэ-адмірал ВМФ Расіі, намеснік камандуючага аднаго з баявых расійскіх флатоў – таксама з гэтай вёскі). Хаця паходжу са старажытнага шляхецкага роду Прылуцкіх, звесткі пра які пададзены ў нацыянальным гербоўніку.

Вёска Бережное выключная, як і наш раён Столінскі ў цэлым (адзін, пакуль, на Беларусі, дзе дэмаграфічная сітуацыя станоўчая). У 2008 годзе спаўняецца 500 гадоў з дня яе першага згадавання афіцыйнага (дарэчы, у суседняй вёсцы Дубянец, якая ўваходзіць у склад нашага сельсавета, і дзе пахаваны мой

дзед, бабуля, дзядзькі і цёткі, мясцовая царква налічвае амаль 300 гадоў (заснавана ў 1712 – уявіце сабе, драўляная, і не струхлела, не згарэла, выжыла). Як сведчаць паперы, завераныя пінскім князем, менавіта ў 1508 годзе пацвердзіў свае прывілеі на гэтыя землі пан П.П. Олеша. Зразумела, што самая вёска існавала і раней, як і славуты род Алешаў (Олешаў, гук О градуецца як у польскім, так і мясцовым вымаўленні), герб якіх – Брохавіч (звернуты налева чырвоны алень з каронай на шыі на агульным белым полі) – існаваў чатыры з паловай стагоддзі. Цяпер ад 15 пакаленняў слыннай фаміліі (ужываем у французскім разуменні слова) засталіся сядзіба ў Нова-Беражным і дзве магілы – адна, напаўразбураная, у сасновым бары на трасе Столін – Давыд-Гарадок, другая – на самым высокім месцы паміж Беражным і Рублём (таксама унікальнай вёскай, дзе ёсць дзве царквы і насельніцтва каля 10 тысяч), куды не даходзіць імклівая вада Гарыні ні ў якія паводкі. Некалі там стаяла надзвычай прыгожая царква з унікальнымі абразамі і кнігамі.

З гэтага слыннага роду паходзіць вядомы рускі пісьменнік, тонкі стыліст, які так цудоўна адчуваў велізарныя вобразна-выяўленчыя патэнцыі великого русского языка (хаця і не лічыў яго родным) Юрый Карлавіч Олеша. Памяць пра сваё шляхецкае (дворянское) паходжанне заўсёды будзе падсвядома спадарожнічаць пісьменніку па жыцці. Вяртаючыся да вытокаў, ён згадвае:

“О моём отце знаю, что он был когда-то, до моего рождения, помещиком. Имение было порядочное, лесное, называлось «Юнище». Оно было продано моим отцом и его братом за крупную сумму денег, которая в течении нескольких лет была проиграна обоими в карты. Отголоски этой трагедии заполняют моё детство». Юнішча недалёка ад маёй вёскі, але бліжэй да Відзібора, дзе нарадзіўся адметны арыгінальны празаік А.Наварыч. А ў бліжэйшым Давыд-Гарадку нарадзіліся Г.Марчук, Л,Дранько-Майсюк, У.Глушакоў якіх, як і мяне, як У.Сенькаўца з суседняй, зусім блізкай Белавушы (Бологушы), цалавала, паводле слоў паэта-песенніка, любая Гарынь, самая няўрымслівая і хуткаплынная рака Беларусі.

За Гарынню пачынаюцца слынныя балоты, за якімі ідзе канец свету, а потым пачынаецца Украіна. Невыпадкова ў нас натуральна гучыць і ўкраінскае слова. Мова рэгіёна адметная, калі мы з Сенькаўцом яшчэ гаварылі на дыялекце (нейкае непрыгожае слова для нашай мілай гаворкі), то светлай памяці Васіль Дзмітрыевіч Ліцвінка, цудоўны фальклярыст і чалавек, у сваім Церабяжове (там якраз мытня) гаварыў амаль па-украінску.

Бацька мой спяваў па-беларуску, па-украінску, па-польску, любіў рускія песні. Ён служыў у войску польскім у цяжкай артылерыі, ваяваў пад Торунем і Варшавай, трапіў у палон, а потым вярнуўся на берагі Гарыні.

Усё гэта паўплывала на характар маёй будучай навуковай дзейнасці. Пасля школы паступіў на філалагічны факультэт БДУ (1970 – 1975 гады), дзе вучыўся ў А.Лойкі, Н.Гілевіча, І.Навуменкі, М.Ларчанкі, Р.Семашкевіча. Працаваў год дырэктарам Хатомельскай васьмігадовай школы, затым стала атабарыўся ў Гомелі, звязаўшы долю сваю з ГДУ імя Ф.Скарыны, дзе вучыўся ў аспірантуры ў арыгінальнага прафесара Міколы Грынчыка (светлая яму па-



мяць), а затым замяніў таго пасля ад’езду ў Мінск на пасадзе загадчыка кафедры беларускай літаратуры, якой ужо кірую 25 гадоў, займаючыся праблемамі краязнаўства (выдаў кнігі “Крыніцы”, “Універсітэт літаратурны”, “Мазыр літаратурны”, “Речицкая лирическая”, “А прекрасней Речицы места не найти”, “Гомельщина олимпийская”), у суаўтарстве з членамі кафедры выдаў каля 10 зборнікаў рэгіянальнага фальклору. Аднак галоўны напрамак дзейнасці – даследаванне беларускай літаратуры ў славянскім і агульначалавечым кантэксце, класічная літаратура ў эпоху глабалізацыі і яе перспектывы ў гэтым зменлівым сусвеце. Гэтай праблеме прысвечаны дысертацыі. Кандыдацкая – “Беларусская балада: вытокі жанру і паэтычная структура” (1982), доктарская: “Беларуская балада ХХ стагоддзя ў святле славянскіх традыцый (1994), а таксама мае асноўныя манаграфіі, якіх налічваецца з дзесятак. У плане перспектыў – разгледзець беларускую паэзію і прозу на шырокім сусветным фоне і паказаць выключныя эстэтычныя вартасці нацыянальнай літаратуры.

У манаграфіях “D?j? v?, або Успамін пра будучыню”, “D?j? v? bis”, “Споведзь перад Богам і людзьмі”, артыкулах “Стрыбогавы ўнукі”, “Малітва ў матчынай мове” Іван Штэйнер аргументавана і маляўніча паказаў, што беларуская літаратура надзвычай натуральна і арганічна далучана да векавой мудрасці чалавецтва, пачынаючы з кнігі кнігаў – Бібліі. Гэта падкрэсліваецца аналізам дасканалага ўвасаблення біблеізмаў і біблейскіх міфалагем не толькі Ф.Скарынам, што ўжо агульнавядома, але і С.Полацкім, А.Філіповічам, польска-беларускімі пісьменнікамі ХІХ ст., Янкам Купалам і паэтамі-святарамі.

Новы этап у засваенні адвечнай мудрасці быцця сродкамі беларускай мовы – кніга Р.Барадуліна “Ксты”, у якой па-майстэрску спалучаны класічныя і нацыянальныя традыцыі перастварэння боскай мудрасці беларускімі рэаліямі. Падобны шлях надзвычай перспектыўны, што і сцвярджае практыка многіх сучасных беларускіх пісьменнікаў. Іван Фёдаравіч упершыню ў беларускай навуцы паказаў працэс адаптацыі класічных сюжэтаў, вобразаў і жанраў сродкамі беларускай паэтычнай вобразнасці на розных гістарычных этапах развіцця нацыянальнай культуры.

У цыкле яго работ паказаны і не менш яскравыя сувязі беларускга прыгожага пісьменства з больш познімі класічнымі еўрапейскімі традыцыямі, у прыватнасці, лацінамоўнай літаратурай Еўропы. Прычым гэта тычыцца не толькі спадчыны пісьменнікаў Сярэднявечча (М.Гусоўскі, Я.Вісліцкі), але нават творчасці беларускіх празаікаў ХХ ст. (А.Мрый, Р.Семашкевіч, В.Дубінка), у гумарыстычна-сатырычных аповесцях, у якіх выразна-адчувальны ўплыў вялікага Эразма Ратэрдамскага, фарсавай культуры і народна-смехавой традыцыі.

У манаграфіях і артыкулах Івана Штэйнера сцваярджаецца, што толькі праз прызму традыцый і дасягненняў славянскіх літаратур можна дакладна і адэкватна спасцігнуць некаторыя “цьмяныя месцы” ў спадчыне нават нашых класікаў. Так, зразумець велічную задуму “Смаленскага цыклу” Янкі Купалы, як і яе вобразна-выяўленчую сістэму, можна толькі ў тыпалагічным супастаўленні са спадчынай паляка Б.Лесьмяна, харвата М.Крлежы, балгарына Т.Траянава, якія вырашалі падобныя праблемы, што стаялі перад іх народамі, прыкладна ў

адзін і той жа час. Упершыню Іван Штэйнер раскрывае філасофскую і паэтычную значнасць творчасці Я.Купалы перыяду рэвалюцый і 1918 года.

На новым метадалагічным і навуковым узроўні Іван Штэйнер аналізуе спадчыну Ул. Караткевіча, паэзія якога да гэтага часу не прачытана як след, а таму выразна недаацэнена, што не дазваляе дакладна вызначыць ягонае месца ў гісторыі айчыннай літаратуры. У раздзеле "І няхай давеку жыве": паэтычная спадчына У.Караткевіча" (аб'ём 86 старонак) Іванам Штэйнерам сцвярджаецца, што станаўленне арыгінальнейшага Ул. Караткевіча як паэта-рамантыка адбывалася пад выключна выразным уплывам спадчыны Дантэ, Дж.Байрана, А.Блока, В.Брусава, Т.Шаўчэнкі, Л.Украінкі, А.Міцкевіча, мастакоў-імпрэсіяністаў, як французскіх і галандскіх, так і рускіх і беларускіх. Літаратуразнаўца перакальна сцвярджае, што толькі арганічна спалучыўшы сусветны вопыт з нацыянальнай традыцыяй У.Караткевіч дасягнуў выключнага поспеху і змог перайсці да эпікі, дзе раскрыўся найбольш поўна і змястоўна. На фоне рускай паэзіі XX ст. (А.Ахматава, М.Цветаева) Іванам Штэйнерам поўна і глыбока раскрываецца творчая індывідуальнасць арыгінальнай паэткі Раісы Баравіковай, якая цяпер з'яўляецца лідэрам нацыянальнай жаночай паэзіі.

У манаграфіях "Шматмоўная літаратура Беларусі XIX стагоддзя", "D?j? v?, або Успамін пра будучыню" на аснове вялікага фактычнага матэрыялу вядомым сучасным літаратуразнаўцам паказана, як на хвалях ідэй еўрапейскага рамантызму адбылося зараджэнне новай беларускай літаратуры ў XIX стагоддзі. Польска-беларускія пісьменнікі, натхнёныя прыкладам і поспехам вялікага майстра Адама Міцкевіча, не толькі апявалі родны край (яшчэ, праўда, папольску), але і выкарыстоўвалі ў сваіх творах беларускія народныя звычаі, абрады, святы, песні, паданні, фантастыку.  Адсюль заставаўся адзін крок да напісання твораў ужо не толькі на беларускай аснове, але і на беларускай мове (Ян Чачот, Т.Зан, Ул.Сыракомля, Я.Баршчэўскі, В.Дунін-Марцінкевіч).

Найбольш яскрава працэс узаемадзеяння беларускай літаратуры з іншанацыянальнымі традыцыямі ўвасоблены Іванам Штэйнерам у вывучэнні ім гісторыі генезіса жанра балады. У шматлікіх працах і артыкулах (назавем асноўныя – "Варожаць балады вякоў: Беларуская балада і славянскія традыцыі", "Балада: генезіс, эвалюцыя, перспектывы жанру", "Славянская балада XX ст.: генезіс, эвалюцыя, песрпектывы", "Русалка-спакусніца: Анталогія ўсходнеславянскай балады", "Славянская баллада XX века: генезис, эволюция, перспективы", "Ваенная балада ў славянскай паэзіі: генезіс і эвалюцыя", "Балада і спасціжэнне свету") пераканаўча даказана, што зараджэнне жанру балады ў беларускай паэзіі цалкам абумоўлена агульнаеўрапейскімі эстэтычнымі законамі, якія, зразумела, мелі і рэгіянальнае праламленне, што тлумачыцца агульнымі палажэннямі класічнага еўрапейскага рамантызму (у цыкле прац гэта падкрэсліваецца параўнаннямі з блізкімі ці аналагічнымі творамі А.Пушкіна, М.Лермантава, В.Жукоўскага, В.Брусава, Т.Шаўчэнкі, Л.Украінкі, П.Тычыны, А.Міцкевіча, Т.Зана, Ю.Славацкага, балгарына Х.Боцева, чэха Я.Неруды, харвата М.Мажураніча, славенца Ф.Прэшэрна, англічан Г.Персі, В.Скота, Р.Сауці, немцаў Л.Бюргера, Ф.Шылера і многіх іншых). У выключна шырокім кантэксце



даследчыкам аналізуецца беларуская балада XX ст., якая супастаўляецца з аналагічнымі з'явамі ўрускай, украінскай, польскай, чэшскай, сербалужыцкай, харвацкай, сербскай, балгарскай, славацкай, славенскай паэзіі, а таксама з этапамі развіцця жанру ў нямецкай і англійскай традыцыі.

У шырокім еўрапейскім кантэксце Іван Штэйнер здолеў прааналізаваць перспектывы іншых паасобных жанраў (казка, гераічная паэма, класічныя формы), іх перспектыўнасць (напрыклад, дзённікаў – беларускія ўзоры пададзены праз прызму філасофскіх споведзей Л.Талстога) ці, наадварот, неадпаведнасць запатрабаванням сучаснасці (манаграфія "D?j? v? bis", артыкул "Перспектывы класічнай літаратуры як віду мастацтва ў новым тысячагоддзі: Міф і рэальнасць").

Усё гэта дало падставы паставіць пытанне аб перспектыўнасці самой літаратуры як віду мастацтва ў эпоху глабалізацыі, кампутарызацыі, калі сеціва выразна мяняе сутнасць класічнай літаратуры. Але ў цэлым прагнозы наконт далейшага развіцця літаратуры класічнага віду даволі аптымістычныя, як і лёс беларускай літаратуры, якая інтэнсіўна развіваецца і ў нашчас, плённа засвойваючы ўсё лепшае, што ўласціва блізкароднасным і не вельмі культурам, а таксама ўзбагачае сусветную традыцыю.

Асноўныя вывады і палажэнні, зробленыя Іванам Штэйнерам у сваіх даследаваннях, знайшлі ўкараненне ў вучэбным працэсе. Так, кніга "Польскамоўная літаратура Беларусі XIX стагоддзя" дапушчана Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь у якасці вучэбнага дапаможніка для студэнтаў філалагічных спецыяльнасцей вну, якія забяспечваюць атрыманне вышэйшай адукацыі. Пры вывучэнні гісторыі беларускай літаратуры XIX стагоддзя выкарыстоўваецца кніга "Шматмоўная літаратура Беларусі XIX стагоддзя", а таксама ўсе кнігі па гісторыі балады і паасобныя артыкулы з астатніх выданняў.

Даследаванні Івана Штэйнера маюць як тэарэтычную, так і практычную значнасць. Упершынюў Беларусі выпрацавана і творча інтэрпрэтавана да канкрэтнага значнага фактычнага матэрыялу методыка тыпалагічнага вывучэння блізкіх або аналагічных эстэтычных з'яў у літаратурах з розным узроўнем развіцця, папулярнасці і значнасці, што дазволіла стварыць новую канцэпцыю развіцця нацыянальных літаратур і ажыццявіць яе практычную рэалізацыю.

Творчыя біяграфіі супрацоўнікаў Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А. С. Пушкіна, якія прымалі непасрэдны ўдзел у падрыхтоўцы гэтага выдання:



## УЛАДЗІМІР СЕНЬКАВЕЦ
З аўтабіяграфіі

Маёй маленькай радзімай з’яўляецца вёска Белавуша, якая здзіўляе тых, хто ўпершыню прыязджае туды, сваёй працягласцю: аж сем аўтобусных прыпынкаў мае яна. Калі глядзець на Белавушу з боку Гарыні, то адразу кідаецца ў вочы ландшафтная прывязанасць вёскі да ракі. У цэнтры Белавушы прыгожымі блакітнымі купаламі велічна красуецца на ўзгорку драўляная Траецкая царква, пабудаваная ў 1905 годзе. На яе месцы да 22 чэрвеня 1829 года стаяла таксама драўляная царква ў імя Святой Троіцы. Той будынак царквы згарэў ад удару маланкі. Побач з храмам да пачатку 70-х гадоў мінулага стагоддзя месцілася двухпавярховая школа, у якой вучыўся яшчэ мой бацька, у якую да сёмага класа хадзіў і я. Гэтае суседства стварала ўзвышаную духоўную атмасферу, асабліва ў святы, калі мы сядзелі ў класе, а за вокнамі на царкоўным цвінтары збіралася мноства людзей.

Сваю прывязанасць да мастацкага слова я звязваю з дзедам Васілём – бацькавым бацькам. Ён быў чалавекам, які валодаў незвычайнымі здольнасцямі чараваць словам. У часе свайго старажавання на зернескладзе да яго, каб паслухаць казкі, збіралася ўся мясцовая дзятва. Вуснае слова дзеда Васіля не толькі распавядала пра незвычайныя гісторыі, забаўляла, вучыла і цешыла падлеткаў – яно яшчэ і лячыла людзей. Дзед валодаў магічнай сілай слова – да яго часта прыходзілі людзі з праблемамі ў здароўі.

У вёсцы дзеда Васіля лічылі чараўніком, які словам і чулымі рукамі дапамагаў людзям.

Прадчуваючы сваю смерць, дзед паклікаў мяне да свайго ложка і доўга пераказваў мне свае таямніцы. Потым прасіў паўтарыць усё слова ў слова. І толькі калі ўпэўніўся, што я ўсё запомніў, закрыў свае почы і спакойна заснуў – навечна…

Пасля заканчэння Белавушскай сярэдняй школы ў 1975 годзе я паступіў у Брэсцкі дзяржаўны педагагічны інстытут імя А.С.Пушкіна на спецыяльнасць “беларуская мова і літаратура”. Тут мне пашчасціла вучыцца ў выдатных педагогаў, навукоўцаў, улюбёных у сваю справу людзей: Уладзіміра Калесніка, Веры Зарэцкай, Аляксея Майсейчыка, Ядвігі Чарняўскай, Уладзіміра Лебедзева і інш.

У 1979 годзе я закончыў інстытут і паехаў працаваць на Століншчыну. Пасля дзвюх змен у піянерскім лагеры на пасадзе старшага важатага мяне накіравалі дырэктарам Копанскай васьмігадовай школы.

З 1979 па 1981 год была служба ў войску, дзе я ўдасканальваў свае невялікія педагагічныя навыкі – цэлы год служыў на пасадзе камандзіра аддзялення ў танкавым вучэбным палку.

Пасля дэмабілізацыі прыехаў у Пінскі раён, у якім у вёсцы Невель настаўніцай беларускай мовы і літаратуры працавала мая жонка, з якой я ажаніўся перад службай у войску. Мяне накіравалі на працу дырэктарам Востраўскай васьмігадовай школы. Гэта ўнікальны куточак Палесся. Вёска затулілася ў

міжрэччы Стыры і Гнілой Прыпяці. Некалі гэта быў вялікі населены пункт, у якім да гэтага часу стаіць старая драўляная царква, на цвінтары якой растуць векавыя дрэвы. Тут нарадзіліся Міхаіл Дубянецкі – былы дырэктар выдавецтва "Мастацкая літаратура", пісьменнік і літаратуразнаўца, Люба Дзікавіцкая – вядомая на Піншчыне паэтка.

Востраў настолькі ўразіў мяне, што я неяк незаўважна для самога сябе пачаў занатоўваць наваколныя краявіды ў мастацкім слове, здымаць іх на фота. Асаблівай унікальнасцю вылучаліся рэчкі. Чыставодная Стыр тулілася ў берагах, паросслых вербалозам, чаротам, асакой. Калі мы са школьным качагарам Пятром Іванавічам плылі памаленьку на маторнай лодцы на рыбалку і пападалі ў прыродны тунель, утвораны перапляценнем вербаў і высокаладкага чароту, то мне здавалася, што мы заплываем у чароўны свет казкі.

Позна ўвечары, калі ў вокнах востраўцаў патушылася святло, я напісаў ліст Уладзіміру Андрэевічу Калесніку з запрашэннем прыехаць у госці. Адказу доўга не было, і толькі праз паўгода, летам 1982 года я атрымаў ад яго пісьмо з кароткім тэкстам – ён клікаў мяне на працу ў інстытут. Жонкі маёй у Востраве не было – з маленькім сынам яна знаходзілася ў Моталі ў сваёй маці, таму я без узгаднення з ёю паехаў у Брэст і напісаў заяву аб прыёме на працу ў інстытут на кафедру беларускай літаратуры.

Так у жніўні 1982 года я зноў вярнуўся на родны філфак, на якім працую і па сённяшні дзень. Быў намеснікам дэкана, доўгі час працаваў дэканам, а зараз загадваю кафедрай методыкі выкладання беларускай літаратуры і краязнаўства.

Мае навуковыя зацікаўленні сканцэнтраваны ў трох накірунках: жанравая разнастайнасць беларускай паэзіі, выразнае чытанне і методыка яго выкладання ў школе і ВНУ, літаратурнае краязнаўства. З'яўляюся сааўтарам вучэбнаметадычнага комплекса па беларускай літаратуры для сярэдняй школы, у які ўвайшлі праграма, падручнікі, вучэбныя дапаможнікі; аўтарам многіх артыкулаў, манаграфіі "Беларускі санет. Ля вытокаў жанра". Кандыдат філалагічных навук, дацэнт.

***Трыялет***

*Гарынь яшчэ соладка спіць*
*Ля роднай маёй Белавушы,*
*Вада вербалоз не варушыць –*
*Гарынь яшчэ соладка спіць.*

*Дзень покуль месяц не тушыць,*
*Што над ракою вісіць.*
*Гарынь яшчэ соладка спіць*
*Ля роднай маёй Белавушы.*



## ВАЛЯНЦІН СМАЛЬ

Літаратуразнавец Смаль Валянцін Мікалаевіч нарадзіўся 22 ліпеня 1972 года ў вёсцы Сушытніца Маларыцкага раёна Брэсцкай вобласці ў сям'і вясковай інтэлігенцыі: маці працавала настаўніцай пачатковых класаў, а бацька – майстрам на будоўлі. З самага маленства ў сям'і выхоўвалася павага да кнігі, да мастацкага слова. Дзяцінства прайшло на беларуска-ўкраінскім памежжы, таму ў доме чыталіся кнігі на беларускай, украінскай і рускай мовах. Бацька Мікалай Пятровіч любіў паэзію і пісаў вершы, якія друкаваліся ў раённым і абласным друку – гэта абуджала цікавасць да літаратуры. Маці Марыя Пятроўна выпісвала шмат часопісаў для дзяцей і клапацілася пра чытанне дзецьмі высокамастацкіх твораў.

У 1979 годзе сям'я Смаляў пераязжае на сталае жыхарства ў горад Брэст. У тым жа годзе хлопец пайшоў вучыцца ў пачатковую школу № 10 г. Брэста. Працягваў вучобу ў СШ № 13 г. Брэста (1980–1989 гг.). У школьныя гады цікавасць да кнігі ўзмацнялася, асабліва любімымі ў старэйшых класах былі творы беларускіх пісьменнікаў. Моцнае ўражанне на юнака аказала паэзія Міхася Рудкоўскага, у прыватнасці зборнік "Трыгор'е". Натуральна выспела жаданне паступаць на філалагічны факультэт, але ў першы год гэтага зрабіць не ўдалося.

Пасля заканчэння дзесяцігодкі працаваў у Брэсцкім дзяржаўным педагагічным інстытуце імя А.С. Пушкіна лабарантам складанай тэхнікі (1989 г.), вучэбным майстрам (1990 г.) у лабараторыі ўкаранення тэхнічных сродкаў навучання. У 1990–1995 гадах вучыўся на адзяленні беларускай мовы і літаратуры з гісторыяй філалагічнага факультэта БрДПІ імя А.С. Пушкіна. У адной групе з ім вучылася паэтэса Ніяна Загарэўская – аўтарка зборніка паэзіі "Хваля" (1996). Вялікі ўплыў на станаўленне светапогляду будучага літаратуразнаўца аказалі інстытуцкія выкладчыкі У. Калеснік, В. Зарэцкая, А. Майсечык, У. Лебедзеў. Яшчэ больш узмацнялі цікавасць да літаратуры сусрэчы студэнтаў з Н. Гілевічам, Н. Загорскай, А. Разанавым, якія наладжваў У. Калеснік.

Валянцін Мікалаевіч аўтар 70 навуковых прац. Ён з'яўляецца сааўтарам метадычных дапаможнікаў для настаўнікаў і вучэбных дапаможнікаў для вучняў: "Літаратура ў 5 класе. Дапаможнік для настаўніка" (Мінск, 1997), "Родная літаратура ў 6 класе: Вучэб.-метад. дапам. для настаўнікаў" (Мінск, 2000), "Родная літаратура ў 9 класе: Вучэб.-метад. дапам. для настаўнікаў" (Мінск, 2000), "Беларуская літаратура. Тэсты. 10 кл.: Дапам. для навучэнцаў агульнадукац. шк., гімназій, ліцэяў" (Мінск, 2001), "Беларуская літаратура. Тэсты. 11 кл.: Дапам. для навучэнцаў агульнадукац. шк., гімназій, ліцэяў" (Мінск, 2001), "Беларуская літаратура ў 4 класе: Вучэб.-метад. дапам. для настаўнікаў агульнаадукац. шк." (Мінск, 2002), "Беларуская літаратура ў 5 класе: Вучэбна-метадычны дапаможнік для настаўнікаў" (Мінск, 2002), "Беларуская літаратура. Тэсты для падрыхтоўкі да ўступнага экзамену ў вышэйшыя навучальныя ўстановы" (Мінск, 2004), "Беларуская літаратура: інтэнсіўны курс падрыхтоўкі да тэсціравання і экзаменаў" (Мінск, 2007), падручніка для вышэйшых навучальных устаноў "Беларуская дзіцячая літаратура" (2007).

Смаль Валянцін займаецца даследаваннем праблем літаратуры для юнага чытача, методыкай выкладання літаратуры ў школе і літаратурным краязнаўствам.

У 2007 годзе падрыхтаваўда друку манаграфію “Беларуская юнацкая аповесць 20-х гадоў ХХ стагоддзя: стылёва-жанравая спецыфіка”, у якой аналізуецца творчасць Якуба Коласа, Максіма Гарэцкага, Лукаша Калюгі.

## ВЯЧАСЛАЎ СМАЛЬ

Вячаслаў Мікалаевіч Смаль нарадзіўся 10 сакавіка 1975 г. у с. Гута Ратнаўскага раёна Валынскай вобласці Украіны, куды на непрацяглы час выехала сям'я з вёскі Сушытніца. Маці звыш дваццаці гадоў адпрацавала ў дзіцячых садках г. Брэста выхавацелькай, а потым метадыстам. Яшчэ ў маладосці ён пачаў пісаць вершы, якіх назбіралася некалькі сшыткаў, уваходзіў у абласную арганізацыю літаратараў “Заранка” пад кіраўніцтвам У. Калесніка, друкаваў свае творы ў маларыцкай раённай газеце. Сярод іх былі і вершы, прысвечаныя роднаму рэгіёну, Палессю.

У 1979 г. з роднай вёскі сям'я пераехала на жыхарства ў г. Брэст. Праз тры гады пайшоў вучыцца ў СШ № 13. У першым класе настаўніца загадала зрабіць сваімі рукамі прыгожую паштоўку на свята 8 сакавіка, а віншаванне маме Вячаслаў напісаў у вершаванай форме. Гэтыя 16 радкоў і сталіся дэбютам у літаратуры, несур'ёзным, наіўным, але першым.

Вялікі ўплыў на жыццёвы светапогляд зрабілі універсітэцкія настаўнікі У. Калеснік, А. Майсейчык, М. Мішчанчук, Ю. Паталкоў, якія самі валодалі літаратурным талентам і ўмелі абудзіць яго ў іншых. У выніку на 4 курсе была напісана аповесць “Нашчадкі маларыцкіх казакаў”, героямі якой сталі сучаснікі-землякі, працаўнікі на зямлі са сваімі паўсядзённымі клопатамі і радасцю. Асобныя старонкі твора напісаны на рэгіянальным матэрыяле Маларытчыны:

“... Выбраўшыся з лесу, мінуўшы нечым засеянае поле ў нізіне, Сцяпан узышоў на даволі высокі прыгорак, з якога як на далоні было відаць Сушытніцу: дахі далёкіх людскіх хат і дзе-нідзе адзінокія купкі дрэў. Адразу падумалася, што від невялічкай вёскі можа і не ўразіць чалавека чужога, але ён прыгожы для вока тых, хто пражыў тут усё жыццё, або толькі некаторы час. Нават сама назва паселішча дае зразумець, чаму прырода ў гэтым месцы не такая раскошная, як навокал. Рэдка тут можна сустрэць у сухі год забалочаны кавалачак зямлі, асабліва з тых часоў, калі асушылі шматлікія навакольныя балотцы. Разумеў, што і ў гэтай сціпласці краявідаў можна ўбачыць хараство прыроды, адчуць вясковую дабразычлівасць.

Прайшоўшы па кароценькай вясковай дарозе, абапал якой растуць невядама кім пасаджаныя вішні, амаль да яе сярэдзіны, Сцяпан звярнуў налева. Раней тут, у зеляніне дрэў, віднелася старэнькая драўляная хата. Толькі бэз, які стаяў пад вокнамі, пазначае гэтае, паросшае вясенняй жаўтаватай травой, месца. Поруч расце некалькі груш-дзічак ды прыгожыя, рослыя, кроністыя, раскінуўшыя магутнае вецце, бярозы. Вецер калыша іх павіслыя зеленавата-шэрыя га-



ліны, ад чаго паветра напаўняецца пяшчотным шолахам, што будзіць журботныя ўспаміны. Па ранейшаму паміж дрэў стаіць яшчэ з дзесятак вулляў, у якіх ужо даўно няма пчол. Рэдка хто зараз займаецца гэтай справай – малы прыбытак. Яшчэ тры-чатыры хвіліны і сонца схаваецца за блякла-зеленаватай паласой лесу, а пакуль што яно асвяціла, апошні ўжо сёння раз, шэрыя дахі раскіданых па вёсцы хат. Сцяпан яшчэ раз акінуў вокам родны куток і хутка пайшоў па дарозе...”

У студэнцкія гады В. Смаль вёў перапіску з многімі літаратарамі Берасцейшчыны. На апошнім курсе вучобы было надрукавана некалькі навукова-метадычных артыкулаў для настаўнікаў беларускай літаратуры. Пісаць усур’ёз пачаў у студэнцкія гады, не выстаўляючы сваіх вершаў напаказ. Спачатку гэта былі творы-прысвячэнні блізкім, знаёмым людзям. Адзін з такіх вершаў быў прысвечаны развітанню з настаўнікам У.А. Калеснікам і трапіў у студэнцкую насценную газету. Пазней з’явілася патрыятычная, філасофская, пейзажная лірыка. Вялікі ўплыў у гэты час аказалі сябры, маладыя і таленавітыя берасцейскія паэты Уладзімір Глазаў, Алесь Курэц, Сяргей Сталярчук, якія ўжо на той час былі заўважаны расійскімі літаратурнымі выданнямі і атрымлівалі прапановы на працу ўіх.

Напрыканцы 1997 г. быў запрошаны на выкладчыцкую працу ў Брэсцкі дзяржаўны універсітэт на кафедру методыкі выкладання беларускай літаратуры і краязнаўства.

Першыя літаратуразнаўчыя працы ў выглядзе рэцэнзій на новыя творы В. Гардзея, З. Дудзюк, Н. Мацяш, М. Сянкевіча, М. Пракаповіча і іншых мастакоў слова былі надрукаваны ў часопісе “Першацвет”, газетах “Зара”, “Вячэрні Брэст”, “Народная трыбуна”, “Берасцейскі край”. Праца ў ВНУ паказала недахоп спецыяльнай літаратуры для настаўнікаў-беларусаведаў, у выніку чаго былі створаны арыгінальныя метадычныя распрацоўкі па творчасці Якуба Коласа, М. Танка, У. Караткевіча, І. Мележа, І. Чыгрынава, П. Місько і іншых пісьменнікаў. Вячаслаў Смаль упершыню распрацаваў цэласную методыку вывучэння ў сярэдняй школе жыцця і творчасці Ф. Багушэвіча, У. Жылкі, В. -Быкава, Р. Баравіковай, Л. Дайнекі і інш аўтараў. У выніку зацікаўленасці спадчынай краю быў створаны цыкл з 30-ці навуковых артыкулаў па гісторыі, этнаграфіі, тапаніміцы населеных пунктаў Брэстчыны (Плотніца, Заверша, Раздзялавічы, Скокі, Гарадзішча, Дамачава, Страдзечы і інш.), якія былі апублікаваны ў газеце “Народная трыбуна”. Шэраг навуковых твораў былі змешчаны ў выданнях Украіны і Польшчы. У 2002 годзе скончыў аспірантуру пры БрДУ імя А. С-. Пушкіна. Пад кіраўніцтвам доктара філалагічных навук Алеся Сямёнавіча Яскевіча была напісана кандыдацкая дысертацыя “Мастацкі свет паэзіі Ніны Мацяш як экзістэнцыйная сістэма”, якая была паспяхова абаронена ў Акадэміі навук Беларусії ў 2006 годзе. У ёй упершыню ў беларускім літаратуразнаўстве глыбока, дэталёва, манаграфічна была разгледжана творчасць вядомай паэтэсы, яе пераклады, рэгіянальны, аўтабіяграфічны, фальклорны, філасофскі аспекты яе паэзіі. Вячаслаў Смаль зрабіў важны ўнёсак у айчынную навуку, грунтоўна распрацаваўшы тэарэтычнае паняцце “мастацкі свет”. У творчым бага-

жы даследчыка каля дзевяці дзесяткаў навуковых артыкулаў, асобныя з якіх друкаваліся ў часопісах "Роднае слова", "Полымя", "Беларуская мова і літаратура", "Веснік БрДУ" і інш. В.М. Смаль з'яўляецца сааўтарам навукова-метадычных кніг "Літаратура ў 5 класе" (1997), "Родная літаратура ў 6 класе" (2000), "Родная літаратура ў 9 класе" (2000), "Беларуская літаратура. Тэсты. 10 клас" (2001), "Беларуская літаратура. Тэсты 11 клас" (2001), "Беларуская літаратура ў 4 класе" (2002), "Беларуская літаратура. Тэсты для падрыхтоўкі да ўступнага экзамену ў ВНУ" (2004), "Беларуская дзіцячая літаратура" (2007) і інш. Літаратуразнаўчыя працы В.М. Смаля вызначаюцца творчым, арыгінальным падыходам да літаратурных з'яў, што ў 2000 г. нават выклікала дыскусію ў газеце "Літаратура і мастацтва" наконт сутнасці творчасці Ф. Багушэвіча. Праца выкладчыкам кафедры гісторыі беларускай мовы і дыялекталогіі БрДУ (2005-2007) дала матэрыял для стварэння глыбокіх даследаванняў мовы твораў беларускіх пісьменнікаў (Н. Гілевіча, Н. Мацяш, Р. Баравіковай і інш.). Навукова-літаратурная дзейнасць Вячаслава Мікалаевіча знайшла асвятленне ў энцыклапедычным выданні "Беларуска-ўкраінскае братэрства". Сфера сённяшніх навуковых інтарэсаў – краязнаўства Брэстчыны, пытанні паэтычнага перакладу, сучасны літаратурны працэс, беларуска-ўкраінскія літаратурныя сувязі, фальклор у паэзіі, тэорыя літаратуразнаўства.

ВЕРА ЗАРЭЦКАЯ (ЛЯШУК)
З аўтабіяграфіі

Нарадзілася ў сялянскай сям'і ў вёсцы Марозавічы Брэсцкага раёна ў 1933 годзе. Як я сёння разумею, аднолькавы уплыў на мяне аказвалі бацька і мама. Першы у нашай сям'і быў носьбітам народнага ідэалу пра характво. Ён любіў спяваць народныя песні, ведаў іх мноства і прывучаў да песні мяне і сястру. Бацька ў вёсцы ладзіў ёлку. Каля хаты любіў, каб было шмат кветак, не цураўсясам іх даглядаць. Мама ў Самары ў час бежанства закончыла пачатковую школу, шмат ведала вершаў рускіх паэтаў: Нікіціна, Някрасава, Сурыкава, Кальцова і інш. Пазней служыла на Украіне, там захапілася украінскай культурай, палюбіла Т. Шаўчэнку. У нашай хаце творы класіка украінскай літаратуры вельмі шанаваліся. Таму яшчэ да школы я ведала шмат вершаў на памяць з "мамінага рэпертуару", у тым ліку і ўрыўкі з паэмы "Гайдамакі".

У школе была сталым дэкламатарам. З 1946 года ў мяне захоўваецца раман Э. Самуйлёнка "Будучыня" з дарагім для мяне і сёння надпісам: "Пераможцу ў раённым конкурсе чытальнікаў". Чытала я тады верш Нікіціна "Русь".

Закончыўшы на "выдатна" Малазводскую сямігодку, падалася "ў людзі". Мама выправіла мяне ў Брэсцкае медвучылішча, а я насуперак яе волі падала дакументы ў Брэсцкае педвучылішча.

У Брэсцкім педвучылішчы хутка праляцелі чатыры цудоўныя гады (з 1950 – па 1954), напоўненыя шчасцем вучыцца, займацца ў драматычным гуртку, з юначым запалам аддавацца грамадскай дзейнасці. Трапіўшы ў лік 5%, хто меў права пасля заканчэння педвучылішча паступаць у ВНУ, паехала ў Мінск, у



БДУ на філасофскі факультэт. Вучыцца, аднак, там не давялося: не далі інтэрната...

Сястра ўгаварыла паступаць у Брэсцкі педагагічны інстытут імя А.С.Пушкіна. Хлопцы-філфакаўцы, якія працавалі ў прыёмнай камісіі, пераканалі, што лепшага факультэта, як мовы і літаратуры, няма. Я ніколі не пашкадавала, што маёй альма-матар стаў Брэсцкі педагагічны інстытут імя А.С.Пушкіна. Ганаруся ім і заўсёды імкнуся быць годнай яго выпускніцай.

У час вучобы ў педінстытуце (1954–1959) пра навуковую дзейнасць не думала. Вучылася на "выдатна", а ўвесь вольны час аддавала грамадскай дзейнасці і мастацкай самадзейнасці. Марыла працаваць сельскай настаўніцай. Пры размеркаванні выпускнікоў 1959 года прапаноўвалі застацца ў ВНУ сакратаром камсамольскай арганізацыі з вучэбнай нагрузкай на кафедры рускай мовы. Не згадзілася.

Першыя гады настаўніцтва прайшлі ў Дамачаўскай дзесяцігодцы Брэсцкага раёна. Кіравала драматычным гуртком, сістэматычна ладзіла літаратурныя вечарыны, у час канікулаў арганізоўвала экскурсіі і паходы... З Дамачаўскай СШ бяруць пачатак першыя мае кніжкі: "Матэрыялы для пазакласнай работы па беларускай літаратуры" (у сааўтарстве з Смальянавай Л.П.), "Краязнаўчыя матэрыялы на ўроках літаратуры", тэма кандыдацкай дысертацыі "Літаратурнае краязнаўства як сродак павышэння вучэбна-выхаваўчай эфектыўнасці ўрокаў літаратуры".

У жніўні 1961 года была пераведзена загадчыкам навучальна-выхавальнай працы Тамашоўскага дзіцячага дома Брэсцкага раёна, вяла адзін-два класы мовы і літаратуры ў Камароўскай сярэдняй школе, на радзіме касманаўта Пятра Клімука. Аднакурснікі пачалі пастурпаць у аспірантуры. Пры сустрэчы мае настаўнікі настойліва раілі і мне падавацца ў навуку. Мяне ж цалкам задавальняла праца вясковага настаўніка.

Цяжкая хвароба бацькоў прымусіла ў лютым 1963 года вярнуцца ў Брэст. Працавала ў Брэсцкім сельскім райкоме партыі спачатку лектарам, потым – намеснікам сакратара па ідэалогіі. У кастрычніку таго самага года была выбрана па конкурсе ў Брэсцкі педагагічны інстытут імя А.С.Пушкіна. З таго часу, амаль 40 гадоў, працую ў роднай альма-матэр.

Мне пашанцавала трапіць на кафедру вядомага беларускага крытыка Калесніка Ул. А. Творчая атмасфера на кафедры заахвочвала да навуковай працы. Я пачынала з асэнсавання ўласнага вопыту пазакласнай і краязнаўчай дзейнасці ў школе. Многае для мяне значыла творчае супрацоўніцтва з Л.П.Смальянавай. Першыя поспехі акрылілі. Нарадзілася пачуццё абавязку перад настаўнікамі і студэнтамі, якіх вучыла.

На пачатку маёй выкладчыцкай дзейнасці ў педінстытуце выйшаў цудоўны раман Івана Мележа "Людзі на балоце". Ён адразу ж быў уключаны ў школьную праграму. Адчувалася вострая неабходнасць у яго метадычнай інтэрпрэтацыі. Хацелася знайсці такое метадычнае рашэнне вывучэння тэмы, прысвечанай Івану Мележу, каб вучнямі быў успрыняты аўтарскі ідэал. Выбар выпаў на шлях аналізу рамана "следам за аўтарам", які ў першай палове 60-х гадоў

фактычна ўсталёўваўся ў савецкай методыцы і якім яшчэ недастаткова валодалі настаўнікі-беларусаведы. Мяркуючы па шматлікіх рэцэнзіях, водгуках настаўнікаў на кнігу "Іван Мележ у школе", задума ўдалася.

Наступныя працы – "Урокі пазакласнага чытання", "Міжпрадметныя сувязі пры вывучэнні беларускай мовы і літаратуры", "Вывучэнне эпічных твораў" – нарадзіліся з вострай патрэбы настаўнікаў у такіх метадычных дапаможніках. Пісаліся яны ў сваёй большасці так: спачатку распрацоўваўся цыкл лекцый для настаўнікаў па тэме, некалькі разоў чытаўся ў Брэсцкім ІУН, а пазней дапрацоўваўся як метадычны дапаможнік.

У 1980 годзе была выбрана дэканам філалагічнага факультэта. 80-я гг. ХХ стагоддзя былі плённымі для мяне і ў творчым плане. М.І. Мішчанчук тады ўзначаліў Рэспубліканскае метадычнае аб'яднанне выкладчыкаў-філолагаў, распачалася планамерная праца па стварэнні праграмаў і навучальных дапаможнікаў для студэнтаў педінстытутаў. Мне было прапанавана напісаць праграму па методыцы выкладання беларускай літаратуры і ўзначаліць аўтарскі калектыў (разам з А.У.Рагулем) па напісанні першага дапаможніка па методыцы выкладання беларускай літаратуры. У 1986 годзе абедзве працы выйшлі з друку, быў створаны яшчэ навучальны дапаможнік "Лабараторныя працы па методыцы выкладання беларускай літаратуры".

З 1989 года па 2005 працавала загадчыкам кафедры. Спачатку ўзначальвала кафедру беларускага літаратуразнаўства, затым – методыкі выкладання беларускай літаратуры і краязнаўства. Усе гэтыя гады аўтарскі калектыў навукоўцаў дзвюх кафедраў пад маім кіраўніцтвам выконваў дзяржаўны заказ – напісанне праграмы і падручнікаў па беларускай літаратуры для сярэдняй школы.

Цяпер мне не сорамна глядзець настаўнікам у вочы, бо нешта паспела зрабіць: вернута наша метадычная спадчына даваеннага часу ("Методыка выкладання беларускай літаратуры: Гісторыка-метадычны нарыс"), напісаны працы "Іван Мележ у школе", "Вывучэнне трылогіі Якуба Коласа "На ростанях" у школе", "Літаратура Берасцейшчыны", "Вывучэнне аглядавых тэмаў па беларускай літаратуры" (дзве апошнія ў сааўтарстве) і інш. Аўтарскім калектывам пад маім кіраўніцтвам і пры непасрэдным удзеле створаны навучальна-метадычны комплекс па беларускай літаратуры для ўсіх класаў базавай школы: праграма, падручнікі, дапаможнікі для настаўнікаў і вучняў. Распрацоўваліся і іншыя праблемы методыкі выкладання беларускай літаратуры...

## МІХАІЛ ЯНІЦКІ

Міхаіл Іванавіч Яніцкі нарадзіўся 2 лістапада 1961 года у вёсцы Месяцічы Пінскага раёна. У 1969 годзе паступіў у першы клас Месяціцкай васьмігадовай школы, якую закончыў у 1977 годзе. Прадоўжыў вучобу ў Лемяшэвіцкай сярэдняй школе Пінскага раёна. Тут пачаў друкаваць свае першыя публіцыстычныя нататкі ў раённай газеце "Полесская правда".



У 1979 годзе М. Яніцкі паступіў на філалагічны факультэт Брэсцкага дзяржаўнага педінстытута імя А.С.Пушкіна. У 1983 годзе пасля заканчэння інстытута быў накіраваны на працу настаўнікам рускай мовы і літаратуры Жытнавіцкай васьмігадовай школы Пінскага раёна.

У 1985 годзе Міхаіл Іванавіч быў пераведзены ў Радваніцкую сярэднюю школу Брэсцкага раёна, дзе выкладаў беларускую мову і літаратуру. У рэспубліканскім друку ў гэты час з'яўляюцца яго артыкулы па выкладанні ўрокаў беларускай літаратуры ў школе, якія зацікавілі настаўнікаў акцэнтацыяй на праблемны аналіз твораў і выкарыстаннем пазнавальна-гульнявых формаў.

З 1989 па 1993 гг. М. Яніцкі працуе на розных пасадах у Камяніца-Журавецкай базавай школе Брэсцкага раёна: настаўнікам мовы і літаратуры (1989 – 1990), намеснікам дырэктара па вучэбна-выхаваўчай працы (1990 – 1991), дырэктарам школы (1991 – 1993). Тут жа атрымаў кваліфікацыю настаўніка вышэйшай катэгорыі.

У жніўні 1993 годзе пачынае працаваць ў Брэсцкім дзяржаўным педінстытуце імя А.С. Пушкіна на кафедры беларускага літаратуразнаўства. У 1995 годзе Міхаіл Іванавіч быў пераведзены на кафедру методыкі выкладання беларускай літаратуры і краязнаўства.

Закончыў завочную аспірантуру пры Брэсцкім дзяржаўным універсітэце імя А.С.Пушкіна. У 2000 годзе паспяхова абараніў дысертацыю на навуковую ступень кандыдата філалагічных навук па тэме “Праблема станаўлення і эвалюцыі сатырычных жанраў у новай беларускай літаратуры”.

З 2000 года працуе на пасадзе дацэнта кафедры методыкі выкладання літаратуры і краязнаўства Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А.С.Пушкіна.

Міхаіл Іванавіч – аўтар больш за 100 навуковых, навукова-метадычных і публіцыстычных артыкулаў у айчынным і замежным друку. Прыярытэтным накірункам навуковай дзейнасці з'яўляецца даследаванне сатырычных твораў айчыннай і замежных літаратур, рэгіянальнага слоўнага мастацтва.

У 2005 годзе М. Яніцкі выдаў манаграфію “Сатырычныя творы новай беларускай літаратуры ў сістэме жанраў, родаў і відаў”, у якой даследуецца генезіс і эвалюцыя сатырычнах жанраў нацыянальнага прыгожага пісьменства. У аснову тэарэтычнай канцэпцыі кнігі пакладзены тэзіс пра сатыру як аўтаномную эстэтычную катэгорыю і як частку камічнага.

У 2007 годзе ў выдавецтве БрДУ імя А.С. Пушкіна выйшла кніга “Гуманістычны пафас заходнебеларускай літаратуры” (у сааўтарстве з Зарэцкай В. Я.), адрасаваная студэнтам гуманітарных факультэтаў, навукоўцам-філолагам, выкладчыкам і настаўнікам беларускай літаратуры. У манаграфіі па-новаму прадстаўлены і інтэрпрэтаваны традыцыйныя літаратурныя факты і з'явы. Асаблівая ўвага ў працы скіравана на асвятленне эстэтычных вартасцяў мастацкіх твораў Н. Арсенневай, В. Таўлая, М. Машары, М. Васілька, М. Танка, Ф. Аляхновіча і інш..

М. Яніцкі прымаў удзел у напісанні асобных раздзелаў хрэстаматый, падручнікаў і дапаможнікаў па беларускай літаратуры для навучэнцаў гімназій і ліцэяў, вучняў і настаўнікаў школ РБ: “Беларуская літаратура. Падручнік для

10 класа" (1997), "Беларуская літаратура. 11 клас" (1999), "Беларуская літаратураў 8 класе. Вучэбна-метадычны дапаможнік для настаўнікаў" (1998), "Беларуская літаратура. Тэсты. 10 клас", "Беларуская літаратура. Тэсты. 11 клас" (2001), "Беларуская літаратура. Дапаможнік для абітурыентаў" (2005) і інш.

У 2007 годзе ў выдавецтве "Аверсэв" у Мінску асобным выданнем выйшла кніга М. Яніцкага ў сааўтарстве з В. Зарэцкай "Вывучэнне творчасці Кандрата Крапівы ў школе. Дапаможнік для настаўнікаў", у якім аўтары прапануюць настаўнікам цікавыя метадычныя рэкамендацыі па вывучэнні твораў класіка беларукай байкі і камедыяграфіі.

## ГАЛІНА СНІТКО

Нарадзілася я 11 мая 1971 года ў вёсцы Азяты Жабінкаўскага раёна Брэсцкай вобласці ўсялянскай сям'і. Ад бацькоў Валянціны Васільеўны і Мікалая Рыгоравіча, якія ўсё жыццё сумленна шчыравалі на працы і дома, мне перадаліся працавітасць, акуратнасць і арганізаванасць, вера ў справядлівую ацэнку зробленага.

Поруч са старэйшай сястрой Наталляй рана навучылася чытаць і пісаць. Таму з задавальненнем пайшла ў школу. Вучылася выдатна амаль па ўсіх прадметах, аднак у старшых класах аддала перавагу хіміі. Завочна закончыла Рэспубліканскую фізіка-матэматычную і хімічную школу (г. Мінск). Паралельна вабіла і літаратура. Жыццёвы выбар абумовіла "чацвёрка", атрыманая па сачыненні на выпускным экзамене па рускай мове і літаратуры. Захацелася даказаць і сабе, і настаўнікам, што ведаю мову і літаратуру на вышэйшую адзнаку.

Пасля заканчэння Азяцкай дзесяцігодкі (1988) паступіла на філалагічны факультэт Брэсцкага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А.С.Пушкіна. Мне пашчасціла вучыцца ў такіх прызнаных у краіне педагогаў, як У.А.Калеснік, Г.М.Малажай, В.Я.Зарэцкая (Ляшук) і інш. Асабліва ўдзячна Веры Якаўлеўне Зарэцкай, якая заўважыла мае здольнасці да навуковай дзейнасці і прапанавала застацца працаваць выкладчыкам.

З 1993 года мой лёс звязаны з родным філалагічным факультэтам. Працую на кафедры методыкі выкладання беларускай літаратуры і краязнаўства. Закончыла аспірантуру пры Брэсцкім дзяржаўным універсітэце імя А.С.Пушкіна (2000–2004), напісала кандыдацкую дысертацыю "Развіццё методыкі выкладання беларускай літаратуры ў другой палове 40-х–80-я гады XX стагоддзя". З верасня 2007 года – загадчык вучэбнай літаратурна-краязнаўчай лабараторыі.

Навуковыя зацікаўленні звязаны з методыкай выкладання беларускай літаратуры ў школе і літаратурным краязнаўствам. Па гэтых праблемах маю звыш 100 публікацый. Асноўныя з іх – кнігі "Літаратура Берасцейшчыны" (Брэст, 1999, у сааўтарстве з В.Я.Ляшук), "Вывучэнне аглядавых тэмаў па беларускай літаратуры" (Мн., 2001, у сааўтарстве з В.Я.Ляшук), падручнік "Родная літара-



тура" для 8 класа (1-е выд. Мн., 1995; 2-е выд. Мн., 2001, у сааўтарстве з В.Я.Ляшук і У.А.Сенькаўцом). З'яўляюся адным з аўтараў метадычных дапаможнікаў для настаўнікаў "Родная літаратура ў 6 класе" (Мн., 2000), "Родная літаратура ў 9 класе" (Мн., 2000) і "Беларуская літаратура ў 5 класе" (Мн., 2002); "Тэстаў па беларускай літаратуры" для 8 класа (Мн., 2002), 10 класа (Мн., 2001) і 11 класа (Мн., 2001); кніг для пазакласнага чытання "Нам свецяць вочы роднай Беларусі" для 7 класа (Мн., 1999) і "Прадвесне" для 8 класа (Мн., 2001); дапаможнікаў "Білеты па беларускай літаратуры (па праграме аўтарскага калектыву Брэсцкага універсітэта). 11 клас" (Мн., 2002), "Беларуская літаратура. Тэсты для падрыхтоўкі да ўступнага экзамену ў ВНУ" (Мн., 2004), "Беларуская літаратура: дапаможнік для абітурыентаў і выпускнікоў школ, гімназій, ліцэяў" (Мн., 2005), "Беларуская літаратура: інтэнсіўны курс падрыхтоўкі да тэсціравання і экзамену" (Мн., 2007). Прымала ўдзелу стварэнні кнігі "Памяць. Жабінкаўскі раён" (Мн., 1999).

*(З аўтабіяграфіі, 2007)*